# СОРАК ТРЭЦІ

## Частка першая

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Над жандармерыяй — яна па-ранейшаму займае двухпавярховы будынак школы,— над памяшканнямі, у якіх размешчаны немцы, тры дні трапечуць на зімнім ветры сцягі, акаймаваныя па краях чорным крэпам. Немцы спраўляюць траур па Сталінграду. Многія ў Бацькавічах ведаюць, што ў Сталінградзе склала зброю акружаная савецкімі войскамі шостая армія Паўлюса. Ды і нельга не ведаць — газетка, якая выдаецца на рускай мове, змясціла з гэтай нагоды прамову самога Гітлера. З прамовы зусім не вынікае, што там, на далёкай Волзе, немцы пацярпелі паражэнне. Паводзіны шостай арміі, якая, па словах Гітлера, загінула ўся — ад фельдмаршала Паўлюса да апошняга салдата — фюрар паказвае як найвялікшую перамогу і тлумачыць нямецкаму народу і ўсяму свету, што без гэтай ахвяры справы Германіі былі б кепскія. Акружаныя войскі Паўлюса нібыта скавалі дзясяткі чырвоных дывізій, і каб не здарылася гэтага, то невядома, да якіх рубяжоў маглі б прарвацца бальшавіцкія орды.

Першы раз за вайну Міця чытае нямецкае паведамленне з прыемнасцю.

На працягу першых месяцаў зімы сыпле сняжок, круцяць белай каламуццю мяцеліцы, але такіх вялікіх маразоў, як мінулай зімой, няма. Міця пражыў два гэтыя месяцы ў радасным узбуджэнні. Кожны новы дзень прыносіць нечаканыя навіны. Часцей радасныя. Немцаў выгналі з Каўказа, а галоўнае — гіганцкая перамога на Волзе.

Сёлетняя зіма ад мінулагодняй адрозніваецца яшчэ і тым, што існуе некалькі пуцявін, па якіх да Міці даходзяць дакладныя весткі, навіны пра падзеі на фронце. Час ад часу ён завітвае ў нізенькую хатку Васіля Шарамета. Яго новы дружбак, калі не на службе, абавязкова што-небудзь майструе: вострыць нажы, са срэбраных манет вырабляе пярсцёнкі, а з дзюралюмініевай бляхі — грабянцы і расчоскі.

Дачакаўшыся, калі прыфранчаныя сёстры рушаць на вячоркі, Васіль лезе ў падполле і выцягвае адтуль заматаную ў старую фуфайку чорную каробку радыёпрыёмніка. Пагасіўшы святло, прыладзіўшы прыёмнік на вузенькім, застаўленым рознымі бутэлечкамі і скрыначкамі століку, Міця з Васілём слухаюць паведамленні з Масквы.

Прыемныя гэта хвіліны. За акном церусіць снег, шастае цёмным голлем старая яблыня, у падпеччы, разагрэўшыся ад цеплыні і зусім не зважаючы на зіму, заводзіць песню цвыркун.

Дасталі дзве новыя сухія батарэі, але ўсё адно голас дыктара далёкі, ледзь чутны. Масква жыве сталінградскімі падзеямі: перадаюць артыкулы з газет, расказы ўдзельнікаў баёў, замежныя водгукі і ацэнкі. У зводках новыя назвы вызваленых гарадоў і паселішчаў. Баі ідуць пераважна на Поўдні — у вялікай лукавіне Дона. Праўда, і на Паўночным фронце ёсць поспех: прарвана мёртвая пятля блакады пад Ленінградам.

Выходзячы ад Васіля, Міця ловіць сябе на дзіўным адчуванні. Перад позіркам заснежаная чыгунка, вялізная цёмная таполя, у голлях якой пашумлівае вецер. Далей, у напрамку станцыі, чарнеюць розныя склады і базы. У вокнах местачковых хат рэдкія бляклыя аганькі. Мястэчка, здаецца, жыве, ахопленае плынню звычайнай будзёншчыны. Наўрад ці хто з жыхароў гэтай вось вуліцы, якія спяць ці кладуц-

ца спаць, ведае, што недзе там, на поўдні, узята паселішча Вялікаміхайлаўка, нічым асаблівым, як і Бацькавічы, не славутае. Там, у Вялікаміхайлаўцы, мабыць, не спяць, там перамога ўжо наступіла. Але яшчэ далёка ад Вялікаміхайлаўкі да гэтай вось таполі.

Раз у тыдзень з Грамоў, дзе працуе настаўнікам, прыходзіць Мікола. З дэсантнікамі ён пакуль што сустракаецца рэдка. Аддае ім паперкі, у якіх хлопцы паведамляюць пра рух эшалонаў праз станцыю і пра заўважаныя вайсковыя часці, а ўзамен атрымлівае перапісаныя ад рукі зводкі Саўінфармбюро. Ад Мазурэнкі, камандзіра дэсантнікаў, пакуль што адзін загад — settаваёўваць давер у немцаў. Нават міну, якую Мікола прынёс даўно, не дазваляе падкладваць. Мяркуючы па ўсім, дэсантнікі на сустрэчы ў Грамы прыходзяць здалёку.

Мікола кожны раз перадае, што Мазурэнка ім, сваім сувязным, забараняе хадзіць разам. Але хлопцы загад ігнаруюць. Было б дзіўна, каб раптам яны зрабілі выгляд, што не ведаюць адзін другога, перасталі адзін да другога хадзіць, паказвацца на вуліцы.

Навіны пра паспяховае наступленне Чырвонай Арміі, якія прыносіць Мікола, Міця часцей за ўсё ведае. Але ўсё адно прыемна чытаць скамечаныя лісткі, акуратна спісаныя чарнільным алоўкам. Адна справа пачуць па радыё, і зусім другое — тое самае прачытаць. Тут можна ўдумацца ў сэнс, пасмакаваць кожнае слова, зрабіць параўнанне з тым, што паведамляюць аб ходзе гэтых жа падзей самі немцы.

Той вечар, калі перадаюць пра вызваленне вялікага горада,— асаблівае свята. Вось і Курск ужо савецкі. Міця ўзрушаны. Ён кожнае хвіліны думае пра фронт, ужо хутка два гады жыве ваеннымі падзеямі, тым, вялікім, трагічным, чым запоўнены свет. Міця адчувае: узяцце Курска азначае, што паўднёвы ўчастак нямецкага фронту зломлены, скамечаны. Ці здолеюць фашысты затрымацца і на якім рубяжы? Рэкі цяпер, зімой, не перашкода, прарыў фронту відавочны. Чым Гітлер заткне дзірку?

Міця як бы чуе нават гарматныя выбухі, якія прыбліжаюцца адтуль, з Усходу. Курск — гэта не Краснадар, не далёкі Сальск...

Хоць пазнавата, каб вандраваць па мястэчку, ён, аднак, не вытрымлівае, выбраўшыся з нізенькай Шараметавай хаты, ідзе да хлопцаў. Рыпіць пад нагамі падмёрзлы, зашэрхлы снег, вецер сячэ ў разгарачаны твар снежнаю крупкай. Міця ідзе не вуліцай, а цёмным завулкам, які пралягае ўзбоч чыгункі, мінаючы базы, склады, чыгуначную вагавую будку. У цемені чарнеюць штабялі дроў, бярвенняў. Да завулка двары выходзяць не хатамі, а садамі і агародамі, і толькі два-тры дамкі звернуты на чыгунку вокнамі.

Чыгунка ноччу маўклівая. Цягнікі ходзяць толькі днём. Выключэнні здараюцца, але яны рэдкія. На станцыі цёмна. Ледзь прыкметна свеціцца чырвонае вока семафора, які стаіць амаль насупраць Шараметавай хаты, паблiскваюць жаўтавата-чырвоныя аганькі стрэлак.

Каб трапіць да Лобіка, трэба перабрацца праз чыгунку. І хоць хлопцы не вельмі слухаюць Мазурэнку, але асцярога ёсць. Лобік робіць на чыгунцы, складае зводкі руху цягнікоў, таму не варта да яго лішне назаляцца.

Міця, пераскочыўшы вуліцу, дзе можна нарвацца на патруль, падаецца да Прымака. Яшчэ на ганку Прымаковай хаты чуе ён трэньканне мандаліны. Хлопцы сапраўды амаль у поўным зборы сядзяць тут. Саша Плоткін, у вялікіх, змазаных дзёгцем ботах, заклаўшы нага за нагу, іграе, Лобік, унурыўшыся, лістае нейкую кнігу, а сам гаспадар, Аляксей Прымак, як чалавек практычны, падшывае вялікай лямцаванай латкай стары валёнак.

— Курск узялі! — з парога паведамляе Міця.

Саша іграе яшчэ гучней, Іван, паклаўшы кнігу на стол, задумваецца, і толькі на самога гаспадара навіна не робіць, здаецца, ніякага ўражання.

— І ў нас узялі,— азываецца нарэшце Аляксей.— Да вечара — шасцярых. Адваката Быліну, новага прымака Анэты Багуновай. Кажуць, ён нейкі інжынер. Лысака-саставіцеля арыштавалі трэці раз...

Хлопцы на хвіліну змаўкаюць. У лес уцяклі намеснік бургамістра Лубан, дарожны майстар Адамчук і іншыя. Помсцяць хутчэй за ўсё немцы.

Лобік устае, тупае па хаце.

— Курск — вялікая перамога! — узбуджана гаворыць ён.— Калі праўда, што яго ўзялі, то нашы могуць яшчэ да вясны дабрацца да Дняпра.

— Узялі. Я таму і прыйшоў.

— Вось што значыць заціснуць у клешчы адну армію. Паўлюса раскалашмацілі, і фронту — хана. Пад Сталінградам былі адборныя войскі.

— Гавораць, што італьянцаў праз Рэчыцу гналі пешшу,— перастаўшы іграць, паведамляе Плоткін.— Салдаты як быццам гандлявалі вінтоўкамі на базары. За вінтоўку прасілі дзесяць марак, за кулямёт — дваццаць.

Хлопцы рагочуць. Цяжка ўявіць, каб салдаты гандлявалі такімі рэчамі, але чуткі сапраўды блукаюць.

— Італіі крышка,— цвёрда заяўляе Лобік.— Стратэгічных мэт яна не дасягнула нідзе. У Афрыцы італьянцам і Ромелю хутка капут. Туніс не ўтрымаюць. Нездарма Гітлер акупіраваў Паўднёвую Францыю. Баяцца высадкі саюзнікаў з поўдня.

— Фронт наступае, а Кузьмянкі кабана закалолі. Двух новых прывезлі,— жартуе Аляксей.— Уцякаць не збіраюцца. Гвозд новае паліто пашыў. Позна. Давайце, хлопцы, па конях.

Аляксей не прытвараецца. Толькі так і глядзіць на свет. Але нічога не папішаш — яго суседзі Кузьмянкі сапраўды заядлыя паліцэйскія. Так што трэба асцерагацца. Ды і Гвозд — шпік вядомы.

Разыходзяцца па адным. Першым за дзверы шуснуў Лобік, за ім — Міця.

## II

Рашэнне, што не засталося ніякага іншага выйсця, апрача як падацца ў лес, прасіць у партызан літасці, а калі прымуць да сябе, то помсціць немцам, знішчаючы іх жорстка, без жалю, Лубан прыняў нечакана, нягледзячы на тое што ён і яго хаўруснікі думалі і гаварылі аб гэтым даўно. Падзеі на фронце былі толькі штуршком, які паскорыў прыняцце такога рашэння. У душы Лубана яно наспявала яшчэ з мінулага лета. Тады да яго прыходзілі пасланцы ад партызан, і не зусім нават ад партызан, а ад людзей, якіх закінулі праз лінію фронту

са спецыяльным заданнем. Тых людзей цалкам задавальняла, каб ён, Лубан, займаючы высокае становішча сярод нямецкай адміністрацыі, дапамагаў ім. Але ён на такое пайсці не мог, бо лічыў, што цана, якую заплаціць гэткім манерам, будзе недастатковай, каб выкупіць грахі.

Ён, намеснік бургамістра, прыняў тады ўсе захады, каб жанчына з Няхамавай Слабады, якая прыходзіла да яго з прапановай служыць партызанам, не трапіла ў нямецкія рукі. Сам прыход яе значыў для Лубана многае. Калі там, у лесе, дапускаюць думку, што ён, намеснік бургамістра, не зусім страчаны чалавек, што ён яшчэ можа вярнуцца да сваіх, прынесці карысць, то такая пра яго думка давала надзею, душэўную сілу. Усю мінулую восень ён толькі і думаў аб тым, як перакінуць мост паміж сабой і партызанамі.

У сорак першым годзе Лубан цвёрда рашыў, што таго жыцця, якое было, болей не будзе. Яму прыносілі задавальненне весткі, што Чырвоная Армія адступае, аддае немцам гарады, сёлы, пакідае важныя прамысловыя і сельскагаспадарчыя раёны. З прагным нецярпеннем чакаў ён, калі нарэшце немцы авалодаюць савецкай сталіцай.

Гэта магло выклікаць толькі здзіўленне, бо непрыемнасці, якія меў Лубан у жыцці, былі не большыя, чым у некаторых іншых людзей, якія таксама пацярпелі ў трыццаць сёмым ці ў трыццаць восьмым годзе, аднак на бок немцаў не перайшлі. Лубан да арышту быў начальнікам службы ў аддзяленні чыгункі, яго мецілі павысіць на службе, вылучыць на такую ж пасаду ва ўпраўленні, але нечаканы арышт перапыніў гэты натуральны службовы рост. Пасля таго як Лубана, не давёўшы справу да суда, апраўдалі па следству, нават пра такую пасаду, якую ён займаў раней, прыйшлося забыць. На ёй цвёрда сядзеў чалавек, які напісаў на яго — Лубан ведаў гэта дакладна — данос. Натуру Лубан меў гордую, зацятую, сваёй праваты даказваць не стаў. З горада перабраўся на невялікую станцыю, заняў сціплую пасаду касіра таварнай канторы.

Было многа ўсяго іншага, але асноўны напрамак думак, настрояў Лубана вызначала перакананне, што ў мінулым жыцці ўладу захапілі не людзі справы, а хітрыя прыстасаванцы, кар’ерысты, якія кіраваліся шкурным інтарэсам. Ход пер-

шых месяцаў вайны як бы пацвярджаў тое, аб чым Лубан думаў. Восенню сорак першага года, ужо стаўшы намеснікам бургамістра, ён застрэліў пераапранутага акружэнца. Забіў Лубан свайго савецкага чалавека ў пасёлку саўгаса «Росіца». Пра гэта добра ведаюць у мястэчку і ва ўсім наваколлі. Шляху назад, здавалася, не было.

Одум прыйшоў пазней, калі немцы сталі ўсталёўваць свой парадак, а ён, Лубан, ім актыўна ў гэтым памагаў. Многа сплыло вады за адзін толькі год жыцця пад немцамі. Гледзячы на тых, хто ішоў у паліцыю, рабіўся начальнікам, а таксама на тых, хто супрацоўляўся нямецкай службе, а паступіўшы на яе, працягваў шкодзіць немцам, Лубан з жахам зразумеў, якую вялікую, непапраўную памылку ён зрабіў. Ён непамерна раздуў асабістую крыўду. Забыў, што і тады, і цяпер былі розныя людзі і людзей добрых, сумленных, словы якіх не разыходзіліся са справай, было намнога больш, чым шкурнікаў і кар’ерыстаў. Ён прадаў Радзіму — толькі такімі словамі можна было назваць яго паводзіны.

Пачынаючы з мінулай восені, Лубан жыў у стане ўтрапення, зрушанай душэўнай раўнавагі, калі цяжка прыняць правільнае рашэнне. Ён ужо ведаў, што з немцамі не будзе, глядзеў на іх з лютай, бяссільнай злосцю. Але выйсця не бачыў. На яго руках была кроў, а яна так проста не змываецца.

У яго было многа планаў: забіць гебітскамісара, зрабіць так, каб у мястэчку загінула пабольш немцаў і нарэшце загінуць самому, але пасля доўгай развагі ён свае намеры адхіляў.

Патаемна, не зусім усвядомлена ён усё-такі хацеў, каб яго ўспаміналі добрым словам і пасля смерці. А так маглі падумаць, што ён штосьці не падзяліў з нядаўнімі гаспадарамі.

Чалавек не можа адзін. Пакрысе Лубан пачаў адкрывацца сябрам-таварышам, з якімі звязала яго горкая часіна акупацыйнага лёсу. Брыгадзір пуцейцаў Адамчук, начальнік мясцовай прамысловасці Тоўсцік, начальнік пажарнай каманды Альшэўскі гэтак жа, як ён, зразумелі, што селі не ў той воз. Лубан лічыў іх дробнымі сошкамі: прывыклі соладка есці, піць, таму з незвычайнай лёгкасцю памянялі гаспадароў. Ніякіх перакананняў у іх няма і не магло быць. Жылі, як жывецца, ратавалі ўласную шкуру. Становішча іх прасцейшае:

немцам служылі, былі начальнікамі, але крывёю сябе, як ён, Лубан, не заплямілі.

У іх, змоўшчыкаў, было многа п’яных зборышчаў, размоў. Вынікам сталася думка, што трэба шукаць агульную мову з партызанамі. Але так проста, з пустымі рукамі да партызан не прыйдзеш. Трэба было штосьці зрабіць, як-небудзь насаліць немцам, каб там, у лесе, зірнулі на іх, цяперашніх нямецкіх начальнікаў, больш прыязна, ласкавейшым вокам.

Уцягнулі ў кампанію Гадуна, намесніка начальніка паліцыі. Гэтаму хіжаму, вяртляваму чалавеку, які да вайны служыў начальнікам крымінальнага вышуку, не трэба было доўга тлумачыць, што ад яго патрабуецца. Партызанам не хапае зброі, таму Гадун за які-небудзь месяц зрабіў так, што ў патайным сховішчы змоўшчыкаў аказалася тры ручных кулямёты і болей за дзясятак вінтовак.

Яшчэ восенню ўзнік намер падвесці пад партызанскі ўдар якую-небудзь валасную ці нават частку раённай паліцыі. Але без трывалай сувязі з партызанамі ажыццявіць такую справу немагчыма. Гадун пачаў заводзіць пэўныя размовы з прудкоўскім старастам, які, на думку ўсіх, хто сыходзіцца ў Адамчука ці Тоўсціка, даўно з партызанамі нюхаецца. Але пакуль ішлі гэтыя асцярожныя двухбаковыя перагаворы, партызаны самі разагналі лужынецкі, літвінаўскі і піляціцкі гарнізоны. Адкладваць выхад у лес далей ужо нельга.

Здарылася так, што кола змоўшчыкаў, у якое напачатку ўваходзілі толькі местачковыя начальнікі, пакрысе пашырылася за лік людзей, якія ўвогуле адмаўляюцца ад нямецкай службы. Лубан тут ні пры чым. Іх уцягнулі хітры Тоўсцік ці той жа Гадун. Хочуць, відаць, стварыць бачнасць падпольнай работы тут, у мястэчку. Маўляў, не сядзелі склаўшы рукі. Лубан супраць маскараду. Можа, ад гэтага на душы лішняя трывога.

Намеснік бургамістра не спіць. Ляжыць на канапцы, падгарнуўшы пад галаву старую ватоўку, ад якой пахне мазутай, спаленым вугалем і яшчэ чымсьці адметным, што бывае толькі на чыгунцы. Ён любіць гэтыя пахі, бо змалку жыў ля чыгункі, у казённым чыгуначным доме, дзе, мабыць, і цяпер дажывае век стары, прыгорблены, даўно пакінуты дарослымі сынамі бацька. Маці памерла даўно.

У апошнія месяцы, калі выбухнуў няўтольны пажар у душы, ён усё збіраецца наведаць адзінокага бацьку. Пры яго цяперашнім становішчы праехаць сто з лішнім вёрст на якім-небудзь воінскім таварняку, каб трапіць у горад, дзе жыве бацька і дзе большую палову жыцця пражыў ён сам, пакуль што можна. Яму няцяжка вытрабаваць аўсвайс з усімі патрэбнымі пячацямі і дазволамі. Але штосьці як бы замінае. Што — ён не разбярэ пакуль сам. Бацька хутчэй за ўсё ведае, хто ён цяпер, бо знаёмыя людзі з таго горада былі тут, відаць, расказалі пра яго службу. Не азваўся стары ні словам.

За дашчанай перагародкай нячутна дыша жонка. Меншы хлопчык спіць з ёй, а старэйшы, якому мінула дванаццаць гадоў, падаслаўшы пад сябе ватоўку,— на падлозе ля грубкі. Вось так жыве пан намеснік бургамістра, другая ў раёне асоба. Немцы ніколі не пераступалі парог гэтай нявіднай, не лепшай, чым у якога-небудзь стрэлачніка, кватэры. Ён іх да сябе не запрашае. Ніколі ён не быў сквапны, не думаў пра багацце, раскошу, не імкнуўся да салодкага жыцця. Але ўсё адно дастукаўся. Трапіў у сіло, адкуль на гэты раз, бадай, не выберашся.

Калі Лубан думае пра сваё цяперашняе становішча, то ў памяці міжволі ўстае маладосць, гразкая, непрывабная вуліца прадмесця, на якой стаяла іх касабокая хаціна, не горшая і не лепшая за астатнія. Бацька, які выдае сябе цяпер за святога, такім на самай справе не быў. Заліваў стары за каўнер ніштавата. Так заліваў, што з машыніста кур'ерскіх цягнікоў перасадзілі на манеўровы, затым на гэтым жа ціхаходзе ездзіў качагарам, а кончыў так, што, дацягваючы да пенсіі, вартаваў чыгуначную лазню. Ды ці адзін бацька.

Іх Другая Шанхайская, як называлі вуліцу тубыльцы прадмесця, у дні палучак паказвала, бадай, найвышэйшы клас п'янага, шалёнага разгулу. Звычайна змардаваныя жанкі найбольш славутых п'яніц займалі з раніцы чаргу ля акенца касы, каб перахапіць заработак сваіх бяспутных гаспадароў, але тыя ўсё адно вырывалі чырвонец ці два, каб заліць горла, даць выйсце цёмнай, непадуладнай розуму сіле, што спакваля збіралася на дне душы. У тых чэргах не раз стаяла Лубанава нябожчыца маці.

З-за бацькі ці не з-за бацькі, але сам ён рана пайшоў па крывой дарожцы. Меў за плячамі васямнаццаць гадоў, але паспеў, ды і то з грахом папалам, скончыць толькі пачатковую школу. Зрэшты, нармальнай вучобе пашкодзіла ліхалецце акупацый, пераваротаў, якіх на яго маладосць хапіла. Першымі, калі рушыўся Заходні фронт, прыйшлі немцы. Ён добра памятае вастраверхія, з драпежнымі арламі каскі, шырокія зады, адкормленыя чырвоныя морды кайзераўскіх салдат. Тады, пры немцах, на іх Другой Шанхайскай як бы сама сабой узнікла шайка-лейка з юнакоў, падлеткаў, якую, мабыць, накіроўвала чыясьці вопытная, сталая рука. Кралі ў немцаў, што траплялася. Аднойчы асенняй ноччу загналі ў тупік вагон, а адкрыўшы запламбіраваныя дзверы, самі жахнуліся з таго, што ўбачылі. Вагон напалавіну быў запоўнены скрынкамі, даверху напакаванымі жалезнымі крыжамі, медалямі, рознымі рэгаліямі. Магла кепска кончыцца для Другой Шанхайскай начная прыгода, але там, у Германіі, пачалася рэвалюцыя, і немцы паспешліва навастрылі лыжы дадому.

Быў яшчэ чырвоны камандзір Стракапытаў — у мінулым царскі афіцэр, які раптам, схамянуўшыся, наважыў зноў перафарбавацца ў белы колер. Стракапытаўцы стралялі, вешалі мясцовых кіраўнікоў, з якімі нядаўна стаялі на трыбунах. Шарага Стракапытаву паспела нашкодзіць мала — мала ён патрымаўся. Але і яму падстроілі штуку, значэнне якой мела хутчэй палітычны, чым крымінальны характар. На Другой Шанхайскай заўсёды было многа галодных вандроўных сабак, і вось гэтыя сабакі раптам пачалі гойсаць па горадзе, носячы замест ашыйнікаў банты — пад колер былых царскіх сцягоў.

Мутная рэчка цякла, пятляла далей, калі сціхлі гарматныя выбухі і таропкі, адчайны пошчак кулямётаў. Быў нэп, на цэнтральных вуліцах горада адчынілася процьма рэстаранаў, рэстаранчыкаў і ўвогуле вясёлых устаноў, якія пачыналі сваю чыннасць пераважна вечарам. Ён, Лубан, тады толькі пачынаў убірацца ў маладую сілу. Няўрымслівыя смуглявыя хлопцы з Другой Шанхайскай фарсілі ў клёшных штанах, не любілі саўбураў і сваю непрыхільнасць да іх выказвалі ў брудных песеньках, што нязменна суправаджаліся гітарным перазвонам.

Вырваў іх трох з шайкі-лейкі Саша Грыгоніс, мясцовы латыш, разумнейшая на ўсё чыгуначнае прадмесце галава. Яму было на той час гадоў дваццаць пяць, а ўжо ўзначальваў паравозную брыгаду, у Кіеў, Макееўку, да самай заходняй граніцы вадзіў цяжкія, гружаныя лесам эшалоны. Школа памочнікаў машыністаў, куды сілком зацягнуў трох сяброў-прыяцеляў Саша Грыгоніс, была пачаткам яго, Лубанавага, узлёту. Ён добра вучыўся і, нібы азірнуўшыся на марна растрачаныя гады, усю душу аддаваў заняткам, паравозу, кнізе, якая нечакана адкрыла для яго новы прывабны свет. Ён любіў тэхніку, забыўшы на ўсё, мог днямі, начамі праседжваць над схемамі, разгадваць іх сэнс, да самага складанага даходзіць уласным розумам.

Ён ездзіў памочнікам машыніста, затым, як і бацька, машыністам, быў ужо жанаты, калі надарылася магчымасць вучыцца ў філіяле тэхнікума, і ён нават з нейкім захапленнем, адрываючы час ад сну, адпачынку, закончыў тэхнікум, адразу паступіўшы на завочнае аддзяленне чыгуначнага інстытута. То быў час, калі чыгунка адмаўлялася ад старасветчыны, мяняла твар, воблік, дамагаючыся тэхнічнага прагрэсу ва ўсіх галінах сваёй гаспадаркі. З паравоза ён злез тады, калі нават невялікія палявыя станцыі пераходзілі на аўтаблакіроўку, аўтаматычную сцэпку вагонаў, калі паявіліся першыя цеплавозы і электравозы. Новае ўсюды перамагала.

Ён і займаўся гэтым новым — укараняў аўтаблакіроўку,— па тыднях не бываў дома, адчуваючы, што жыве недарэмна, прыносіць карысць. Ён ведаў, любіў сваю работу. З кожным годам яго прасоўвалі і павышалі па службе.

Саша Грыгоніс да таго часу быў ужо намеснікам начальніка дэпо. Нягледзячы на высокае становішча, дружбы з падначаленымі, якіх выцягнуў з ямы, не губляў, чынамі не выхваляўся. Іншы раз у нядзельны дзень яны збіраліся ўсе разам, ехалі на дрызіне за горад і, пакінуўшы машыну на якой-небудзь станцыі, кіравалі ў лес, раскладвалі вогнішча, успаміналі мінулае.

Грыгоніса арыштавалі першага. Увогуле незразумелае стала тварыцца на станцыі. Чыгуначнікі на вайне патрэбны народ, без іх не можа абысціся ніякая ўлада. Падчас грамадзянскай вайны горад пераходзіў з рук у рукі, таму ўсе, хто

болей-меней быў звязаны са службай руху, працавалі пад прымусам ці за кавалак хлеба. Цяпер ім тое даўняе ўспомнілі.

Ён, Лубан, як заўсёды, быў гарачы, няўрымслівы, таму пасля арышту Грыгоніса страціў галаву. Настрою не таіў, язык за зубамі трымаць не ўмеў. Надрапалі пісулю і на яго. Напісаў яе ў кампаніі з другім прайдзісветам Мішка Сыч, інжынерык слабенькі, бездапаможны, якому б калі і даверыць якую справу, то толькі стаяць у дзвярах, правяраць перонныя білеты.

Лухты ў заяве Міша нагарадзіў несусветнай. Тым не меней следчы паставіўся да напісанага з поўным сур'ёзам. Выпытваючы наконт сувязей Лубана з немцамі, стракапытаўцамі, прыплятаючы Грыгоніса, адважыўся замахнуцца. Але ў адказ схапіў як мае быць. Бразнуўся на падлогу, і яго адлівалі вадой. Справу вёў другі следчы, вёў доўга, нудна, але прымяняць фізічныя меры не асмеліўся. Да суда не дайшло. Лубана выпусцілі.

Лубан не спіць. Гэта не першая ноч, калі ўладным чорным крылом яго ахінае бяссонніца. Перабіраючы па малюткай дробязі сваё жыццё, ён стараецца знайсці той паварот, перакос, з якога пачаў завязвацца цяперашні чортаў вузел. Вінаваціць аднаго сябе. Быў залішне ганарысты, гарачы, глядзець у корань не ўмеў.

Лубан цяпер апраўдвае мінулае. Колькі павылазіла з розных шчылін швалі, што згінаецца, дагаджае, прыслужвае фашыстам. Усіх гэтых паліцэйскіх, старастаў, нямецкіх памагатых у свой час проста не раскусілі, не прыдавілі, як гнід. А варта было б.

Пры той чыстцы, якая ішла, думае Лубан, траплялі пад колы і нявінныя людзі, такія, як Грыгоніс. Нічога не папішаш. Калі сякуць лес, ляцяць трэскі. Віна яго ў тым, што не разгадаў часу. Трэба было не зацінацца ў злосці, не думаць пра зняважаны гонар, а памагаць адпаведным органам расшукваць сапраўдных ворагаў. І не адзін ён мусіў гэта рабіць, а ўсе. Тады б трапілі куды трэба не сумленныя людзі, а такія, як Мішка Сыч, як уся збынь, што тады, у трыццаць сёмым, падняла галаву.

Сярэдзіны Лубан не ведае, чалавечую слабасць у разлік не бярэ. Так было заўсёды, так і цяпер. На сваіх сяброў па

няшчасці, з якімі звязаны адной вяровачкай, глядзіць, як на смецце, адкіды, як на мізэрных, нікчэмных людзей. Іншая справа, што без іх не выблытаешся. Ды калі рушыць у лес уся каманда, аўтарытэт нямецкай улады тут, у мястэчку, пляснецца. Хоць які там аўтарытэт!..

На тое, што сам расстраляў пераапранутага акружэнца, Лубан глядзіць без вялікіх дакораў сумлення. Чалавек у парванай ватоўцы, якога ён напаткаў у Росіцы, быў палахлівы слізняк. Лепятаў, што з раскулачаных, што сядзеў пры бальшавіках у турме, тыцкаў пад нос даведку.

Лубанава натура бунтуе, пратэстуе пры думцы, што ён прадаўся немцам. Нікому ён не прадаваўся. Ён збіўся з дарогі. Зрабіў памылку. Крывавую. На вайне ўсе памылкі крывавыя. Тыя, што пайшлі за немцамі, з першага дня дбаюць пра ўласнасць, дабрабыт, цягнуць, што трапляе пад руку. Як ляснічы Лагута, Князеў, загадчык млыноў Фядосік, як амаль усе нямецкія прыхвасні, якіх ён, Лубан, ведае як аблупленых. Ім да душы лад, парадак, заснаваны на ўласнасці, грашах, хабарах. Ён супраць такога парадку.

Асобна Лубан выдзяляе бургамістра Крамера. Гэта поп. Хоча, каб усім было добра. Прымірыць хоча ваўка і авечку. Але вайна ёсць вайна. Нават у мірным жыцці ішла бойка, і тыя, хто гэтага не разумеў, цяпер пакутуюць. Як ён сам...

## III

Лубан пачаў засынаць, калі ў калідорчыку пачуліся асцярожныя крокі. Рыпнулі дзверы. Прыйшла з вечарынкі старэйшая дачка Валя. Сон як рукой зняло. Шаснаццаць гадоў дзяўчыне, а вандруе ноч у ноч. Расце, як без бацькі. Можа, які-небудзь паліцай падбівае клінне? Меціць да намесніка бургамістра ў зяці? Дудкі, брат, не вельмі пагрэешся! Сям'я дзержыцца на жонцы. І на карове. Нават немцы-начальнікі ведаюць, што намеснік бургамістра п'е. Глядзяць скрозь пальцы. Ім абы сядзеў на пасадзе. Далей — хоць трава не расці. Можаш браць хабары, заводзіць каханак. Прафсаюз, як некалі, не ўмяшаецца. Немцы думаюць, што ён жыве як хоча.

А ён ніяк не жыве. І не гаспадар у сям'і. Не да парасят, калі смаляць свінню.

Дачка ціха распранулася, лягла. У куточку за грубкай ціха шкрабецца мыш. Шастае за вокнамі вецер, нудна бразгоча адарваным лістом бляхі. Лубан зноў дрэмле. На гэты раз будзіць яго пранізлівы тэлефонны званок. Ускаквае, хапае трубку. «Намеснік бургамістра Лубан слухае...» На тым канцы провада зацятае маўчанне. Чутна, як хтосьці дыхае, а слова прамовіць не адважваецца. Ці не хоча. Нарэшце паклаў трубку...

У душу закрадваецца трывога. Хто пазваніў і навошта? Званок хутчэй за ўсё для таго, каб дазнацца, ці дома гаспадар. Але каму ён патрэбен ноччу? Бліснула здагадка пра партызан, і нудна, холадна стала ў грудзях. Вось гэтак жа мінулай зімой уходалі намесніка начальніка паліцыі. Цяпер Гадун на яго месцы. Выклікалі па тэлефоне з кватэры і дзесьці за вуглом праламілі цаглінай чэрап. Труп толькі летам знайшлі, калі сталі чысціць калодзеж ля пажарнай. А то думалі — збег...

Лубан з апаскай пазірае ў акно. Відаць заснежаны двор, дашчаны хляўчук. Здаецца, ля сцяны хлеўчука мільгануў цёмны цень. Ён ужо чакаў, што гэты цень раптам адарвецца ад сцяны, падбяжыць да акна і шыбане ў пакой гранату. Але ўсё ціха. І няма ніякага ценю. Проста шастае галінамі на ветры груша, якая расце пад акном. Ад гэтага мільгаціць у вачах.

Лубан супакойваецца. Тэпаючы босымі нагамі па падлозе, падыходзіць да вешалкі, вымае з кішэні паддзёўкі наган-самаўзвод. Круціць барабан — усе сем патронаў на месцы. Апранаецца, нацягвае боты, як бы прадчуваючы, што начны тэлефонны званок будзе мець працяг. І не памыляецца. Праз некалькі хвілін на ганку хтосьці тупае, а затым чуецца адчайны грук у дзверы.

Лубан асцярожна, не бразнуўшы нават клямкай, прабіраецца ў халодныя сенечкі. Замірае ў кутку ля дзвярэй. Калі будуць страляць праз дзверы, то трасцы пацэляць. Наган ён трымае напагатове. Падаўляючы дрыжыкі, абыякава пытае:

— Хто там?

— Адчыні, Дзімітравіч, свае,— чуецца голас Адамчука, дарожнага майстра.

Адамчук стаіць у сенечках, у пакой не ідзе. Яго трасе як у ліхаманцы. Голас зрываецца, нават чуваць, як ляскаюць у небаракі зубы, як часта, перарывіста ён дыхае.

— Бяда, Дзімітравіч. Прапалі мы. Цераз дурноту прапалі. Лысака ўзялі, а ён сыпле ўсіх...

— Якога Лысака? Што ты пляцеш?

— Ды саставіцеля. Таго, што на работу не йшоў. Гадун з ім тары-бары разводзіў. Пра партызан і пра ўсё такое. А той ляпнуў некаму здуру. Цяпер сядзіць. Ноччу сцапалі.

Дзіўна, але Лубан, пачуўшы пра саставіцеля, з якім таксама сустракаўся, кепска гаварыў пра немцаў, не спалохаўся. Нават адчуў задавальненне: чортаў вузел нарэшце рассячэцца.

— Дык што будзем рабіць?

— Трэба ўцякаць. Да раніцы ўсіх пахапаць могуць. Мне не даруюць. Скажуць, у партызанах быў, а цяпер зноў за старое ўзяўся.

— Цябе і партызаны па шапцы не пагладзяць. Як-ніяк служыў немцам верай і праўдай.

— Дык што ж рабіць, Дзімітравіч?

— Заходзь у хату. Нешта прыдумаем.

Лубан адчувае сябе на ўзлёце. Час яго наступіў. Яму ўвогуле падабаюцца вострыя, крытычныя становішчы, калі жыццё вісіць на валаску, калі за нейкі міг трэба прыняць важнае, адказнае рашэнне.

Святла ён не запальвае. Падыходзіць да сцяны, круціць ручку тэлефона. Доўга ніхто не адказвае. Нарэшце ў трубцы чуецца сонны голас тэлефаністкі.

— Барышня, кватэру намесніка начальніка паліцыі Гадуна.

Гадун, відаць, не спіць, азываецца адразу.

— Гадун, запрагай коней. Два вазкі. Едзем на паляванне. У прудкоўскага старасты вяселле. Пагуляем. Вазьмі ўсё, што трэба. Заедзь за Альшэўскім, Тоўсцікам, і каб праз гадзіну быў у мяне.

Адамчук стаіць у парозе, цяжка дыхае.

— Дзімітравіч, мы ж не ведаем, як партызаны нас прымуць. Раптам да сценкі паставяць? Немцы тым часам сем'і схопяць.

Выйсця сапраўды няма. Гэта адчуваюць абодва. Паўгода гаварылі пра партызанства, плялі смелыя, хітрыя планы, а як надышла адказная часіна, аказаліся ў пастцы.

— Немцы не павінны чапаць сем'і,— прыцішыўшы голас, адказвае Лубан.— Не забывай, хто мы такія. Ім выгадна паверыць, што партызаны схапілі нас сілком. Калі партызаны нас расстраляюць, сем'і тым болей застануцца цэлыя.

Занятыя размовай, яны не заўважаюць, як з бакоўкі выходзіць Лубанава жонка. Стаіць, як белая здань, слухае размову.

— Вазьмі Валю,— жорстка гаворыць яна.— Можа, хоць дзеўка жывая застанецца.

Лубан груба лаецца, садзіцца на канапу.

— Нікуды не паедзем. Няхай бяруць.

— Едзь,— гаворыць жонка.— Дайграўся. Ты ўсё жыццё думаў толькі пра сябе.

Адамчук замітусіўся.

— Варвара Аляксандраўна гаворыць праўду. Вазьму старэйшую дачку і я. Можа, ацалее. Праз паўгадзіначкі буду тут.

## IV

Выбіраюцца з мястэчка праз пераезд паблізу казармы майстра Адамчука. Паліцэйскай аховы тут няма. Ды, зрэшты, гэта і не пераезд, а хутчэй пераход — насланая дошкамі на пуцях вузкая паласа для прагону скаціны. Ціхая, стоеная ляжыць ноч. На станцыі сям-там паблісквацюць жаўтаватымі аганькамі стрэлкі. На полі, за пераездам, за апошнімі станцыйнымі і местачковымі будынкамі мігціць у шэрані ночы чырвонае вока семафора.

Едуць моўчкі. У гэтым месцы паміж пуцямі і ўсходнім канцом Вакзальнай вуліцы даволі шырокі, голы працяг аснежанай лугавіны. Узбоч дарогі чарнеюць старыя, пакрыўленыя вербалозіны. У іх цёмных галінах, суках ледзь чутна пасвіствае вецер.

Гэтак жа маўкліва едуць па шляху, які, калі кіраваць прама, вядзе ў сяло Палыкавічы, а калі павярнуць налева — у саўгасны пасёлак Росіцу. Шлях зноў падступае тут да чыгункі, а на ёй патрулі-немцы і мадзьяры. Калі патрулі зацікавяцца начнымі падарожнікамі, могуць запыніць.

Уздыхаюць з палёгкай толькі тады, калі зварочваюць на росіцкую дарогу.

На першым вазку Лубан, яго дачка Валя, Адамчук з дачкой. Астатнія — намеснік начальніка паліцыі Гадун, Тоўсцік і Альшэўскі, едуць апошнімі.

Дарога з двух бакоў атулена цёмнымі лозамі. Заўважыўшы ў зарасніку прагал, куды вядзе санны след, Лубан торгае лейцамі, збочвае. Мінуўшы кустоўе, вазкі спыняюцца на балоце. Лубан, размінаючы анямелыя ногі, саскоквае на дол, дрыжачымі пальцамі горне цыгарку. Падыходзяць мужчыны.

— Куды пакіруем, Сяргей Дзімітравіч? — пытае Тоўсцік.— Як на мой розум, то цераз саўгас не варта. Хто-небудзь ды ўбачыць.

— А куды лепей?

— Балотцам на Падляшскі хутар. Вартаўнік Базылюк знаёмы. Прыхаваем коней, агледзімся. Пешаму лягчэй, чым коннаму. Не думаю, што Базылюк сядзіць на хутары проста так. Калі што-якое, можна ад варот паварот.

Да Лубана нарэшце даходзіць, што Тоўсцік віляе. Дапускае магчымасць звароту іх, уцекачоў, у мястэчка. Ён імгненна загараецца гневам, але стрымлівае сябе, насмешліва пытае:

— Доўга ты думаеш сядзець у Базылюка?

— Колькі прыйдзецца. Ён якраз той чалавек, які можа памагчы. Чуе мая душа — сувязь зляснымі хлопцамі мае. Можна вудачку закінуць, памацаць. Тым часам паглядзім, што закруцяць немцы.

— Калі не прыйдуць браць на цугундар, то можна назад?

— А што, галаву ў пятлю садзіць?

Адамчук, які моўчкі слухае гаворку, пачынае нервавацца:

— Хлопцы, болей аднаго дня нельга. Я кажу пра хаванне. Не жартачкі, пяць чалавек ноччу выехала. Немцы адразу ўведаюць. Падазрэнне ўсё адно будзе.

Запрэжаны ў задні вазок конь раптам храпе, самахоць ірве — да кустоў. Кінуўшыся да каня, Лубан хапае яго за вуздэчку.

Мужчыны мітусяцца. Калі супакойваюцца, то ў тым баку, дзе ляжыць Палыкавіцкі шлях, заўважаюць ледзь прыкметнае мігценне зеленаватых аганькоў. Як бы хто нябачны запальвае запалкі і адразу ж тушыць.

— Ваўкі! — Тоўсцік нервова рагатнуў.— У мястэчка рвуцца, хочуць заняць нашы месцы.

Лубан тым часам прыкмячае, што, апроч ахапка сена, на заднім вазку нічога няма.

— Вінтоўкі дзе? — ён ледзь не крычыць.

Гадун падыходзіць, вышморгвае з-пад палазоў лейцы.

— Якія там вінтоўкі, Дзімітравіч? Калі ты пазваніў, я ледзь з хаты выскачыў. Жонка валасы на сабе рве, дзеці плачуць. Ды ты не гаварыў пра вінтоўкі. Сказаў — у старасты вяселле.

— Ты дурны, зразумець не мог?

— Мабыць, дурны. Ты хоць дачку прыхапіў, а я сваіх усіх пакінуў.

Болей гаварыць няма пра што. Цяпер і Лубан разумее, што, акрамя як да Базылюка, другой дарогі няма. Таропка зацягваючыся цыгаркай, пытае:

— Вінтоўкі тыя хоць ёсць? Можа, проста казка пра белага бычка?

— Ёсць, Дзімітравіч, не сумнявайся. Тры ручных кулямёты, дванаццаць карабінаў. На цэлы ўзвод. Нездарма ішоў на рызыку.

— Дзе схаваны?

— У мылаварні.

— Там, дзе людзей расстрэльваюць?

— Там. Лепшага месца не прыдумаеш. Немцы там шукаць не будуць.

Падляшскі хутар вёрст за пяць ад саўгаснага пасёлка. Тры ці чатыры пачарнелыя на вятрах хаты, некалькі доўгіх хлявоў з праваленымі саламянымі стрэхамі. За хлявамі — разложыстыя скірды сена. У саракавым годзе, калі начыста сцягвалі хутары, далучаючы іх да вёсак, гэты ацалеў, бо тут размяшчаліся саўгасныя кашары.

Базылюк, пра якога гаварыў Тоўсцік як пра добрага знаёмага, сапраўды жыве на Падляшыне. Да вайны быў відным чалавекам, загадваў рознымі ўстановамі, а з прыходам немцаў перабраўся сюды, у лясную глуш. Відаць, не хоча пэцкаць рук нямецкай службай. Праўда, службу ён мае і на Падляшыне. Загадвае летнімі адгонамі-выпасамі, што належаць дзяржаўнаму маёнтку Росіца, як называюць саўгас немцы.

На досвітку ў шыбіну хаты, дзе адзін, без сям'і, пражывае Базылюк, моцна пастукалі. Ён спіць не распранаючыся, таму, уссунуўшы на ногі разлезлыя валёнкі, накінуўшы на плечы кажух, адразу выходзіць на двор. На вуліцы бачыць два запрэжаныя вазкі, у двары, каля ганка, постаці пяцярых нямецкіх начальнікаў. Страху Базылюк не адчувае, бо штосьці ў выглядзе местачковых знаёмых падказвае яму, што пахне тут не службай.

Тоўсцік — да вайны разам працавалі на прамкамбінаце — бярэ Базылюка пад руку, адводзіць убок.

— Прашу цябе, Пятро, імем нашай дружбы. Схавай нас куды-небудзь. Дзяўчат, калі можна, асобна. Няхай паспяць. Адна — дачка Лубана, другая — Адамчука.

Базылюк разумее мігам. Ублытвацца ў небяспечную справу не хоча, але выйсця няма. Дзяўчат, якія нясмела пераступаюць з нагі на нагу, адразу запрашае ў хату. З дапамогай Тоўсціка коней заводзяць на двор, распрагаюць, вазкі заганяюць пад паветку.

На ўсходзе ледзь-ледзь пачынае барвавець, калі мужчыны кіруюць у прыгорбленую хатку-каравулку, што стаіць за хлявамі. Вартаўніком, што мусіць жыць у хатцы, пільнаваць сена, якое належыць маёнтку Росіца, з'яўляецца сам Базылюк. Такую пасаду на зімовыя месяцы наканавалі яму нямецкія гаспадарнікі.

Базылюк прыводзіць гасцей у каравулку, запальвае святло, завешвае акенца посцілкай. Знутры хатка мае нават утульны выгляд. Засланы дзяружкай палок, печ, на якой можна пагрэцца. Звечара печ прапалілі, і ў хатцы цёпла. Базылюк кідаецца за дзверы і ў хуткім часе варочаецца, несучы пад пахай бохан хлеба, а ў руках загорнуты ў ручнік крышан сала, вялікую бутэльку самагонкі. Гліняная міска, кружкі, шклянкі, нож, нават відэльцы ў каравулцы ёсць. Відаць, Базылюк саграває сяды-тады адзінокія дні самагонкай.

Садзяцца за стол, з ходу выпіваюць па шклянцы.

— Вось што, Пятро,— пачынае Тоўсцік.— Тут усе свае, не бойся. З немцамі мы парвалі. Скажы, можаш звясці нас з партызанамі?

Базылюк глядзіць на Лубана. Тут, на Падляшскім хутары, ён, Базылюк, даўно, з таго дня, як у мястэчка прыйшлі

немцы. Ён добра памятае, што іменна ў Росіцы восенню сорак першага года Лубан, прызначаны намеснікам бургамістра, застрэліў пераапранутага чырвонаармейца. Цяпер хоча ў партызаны. У Росіцы забіў чалавека і ў гэтым самым месцы шукае паратунку. Вось як яно бывае.

— Не магу,— адказвае Базылюк.

— Баішся? — пытае Тоўсцік.

— Мяне і так па галоўцы не пагладзяць. Думаеце, не ўведаюць, што вы ў мяне гасцявалі?

Тоўсцік хмурыцца.

— Дык што — не маеш з хлопцамі хаўрусу? Не сышліся характарамі? З кім жа ты тады, Базылюк?

— Сам па сабе.

— Сам па сабе не пражывеш. Трэба прыбівацца да якоганебудзь берага.

Быў некалі Базылюк відны мужчына. З гонарам насіў сваё буйнае цела, смеючыся, разяўляў шырокі рот з цэлым пакладам залатых пярэдніх зубоў. Любіў жанчын, і яны яго любілі. А цяпер здаў. Шчокі на шырокім твары абвіслі, цела аб'ехала, вочы пабляклі.

— Мы ўсе нарабілі глупства,— гаворыць Базылюк, наліваючы па новай шклянцы.— Вы кінуліся да немцаў, я зашыўся ў дзірку. Але пра мяне гаворкі няма. Нядобра чуюся, хлопцы. Есць мяне нешта знутры. Не жылец, мабыць, я, таму не ваяка. Яшчэ перад вайной сяды-тады пракідалася слабасць, а цяпер саўсім занямог. Але, скажу вам, ваша палажэнне тожа не завіднае. Партызаны могуць не прыняць.

— Што ты ведаеш пра партызан? — выгуквае Тоўсцік.

— Мала. Яны, мабыць, далёка, за Пціччу. Асноўныя сілы. Тут аціраюцца групкі. Можа, у іх проста раскол. Сказаць не магу, даўно нікога не бачыў. Дабрацца сюды трудна. Ведаеце самі — у Мохаве гарнізон.

Лубан, які маўчаў, курыў, раптам устрапянуўся:

— Колькі паліцэйскіх у Мохаве?

— Чалавек пятнаццаць,— адказвае Гадун.

Лубан, ні з кім не чокаючыся, залпам выпівае сваю шклянку. Гаворыць хрыпла, ні на каго не гледзячы:

— Вось што, дарагія арлы, калі рашацца, то рашацца. Сядзець тут, выгадваць, вынюхваць, нечага. Кончыцца тым, што прыедуць жандары і павядуць, як бычкоў на шворцы. Хто-небудзь ды бачыў, куды мы навастрылі лыжы. Трэба зараз жа ехаць у Мохаў. У мяне наган, у Гадуна — аўтамат. На тое войска хопіць...

— Пастраляюць нас,— ляпеча пабялелымі губамі Адамчук.

Твар у Лубана імгненна наліваецца крывёю. Ён грукае сціснутым кулаком па стале так, што скачуць шклянкі і з іх на брудны, заплямлены настольнік выліваецца гарэлка.

— Дык бяжы назад, сволач! Ліжы немцам с...! Пакайся, можа, яшчэ раз даруюць. Можаце ўсе адпраўляцца к чортавай матары!.. Не трэба вы мне! Ваякі задрыпаныя!.. Пайду адзін. Хай партызаны страляюць, вешаюць, але немцам я болей не слуга!..

Пасля нядоўгага маўчання азываецца Тоўсцік:

— Не трэба так, Сяргей Дзімітравіч. Не зневажай нас, бо мы можам тожа раззлавацца. Камандзірам мы цябе пакуль не выбіралі, і рашаць, што нам рабіць, будзем разам. Адамчук праўду кажа — зброі малавата.

Лубан ускіпае зноў:

— Дык няхай яе зусім не будзе! Няўжо ты не можаш уцяміць? У Мохаве пра нас ніхто нічога не ведае. Зробім, што захочам, голымі рукамі. А вечарам будзе позна. Нават кулямёты не памогуць!..

— Трэба ехаць,— падхоплівае Гадун.— Зараз жа, Сяргей Дзімітравіч гаворыць праўду.

Выпіваюць астатнюю гарэлку, пахапкам закусваюць. Устаўшы з-за стала, Лубан кладзе Базылюку руку на плячо:

— Які сёння дзень?

— Нядзеля.

— У цябе ламачына якая-небудзь ёсць?

— Прыхаваў жалязяку.

— Аддай Адамчуку. Калі ты хворы, то табе ў такія дзялы совацца не трэба. Беражы дзяўчат. Галавой адказваеш. Пра нас пакуль нікому ні слова. Дні праз два падскочым. Зразумеў?

Базылюк падхопліваецца, згодна ківае галавою.

## V

Нізкія, прыземістыя хаткі вёскі Мохаў разбрыліся на аснежаным прасцягу, як статак авечак. Можа, раслі тут калі-небудзь дубы, сосны, але цяпер стаяць наўкруг толькі голыя, з налётам першай перадвясенняй сінечы алешыны ды ніцыя лозы. Сыплецца дробны сняжок, нізка навісае хмурае шэрае неба.

У тым месцы, дзе пяць ці шэсць хатак збегліся разам, дарогу ўцекачам перагараджаюць двое паліцэйскіх у чорных дублёных паўкажушках, з вінтоўкамі за плячамі. Вазкі імчаць з боку мястэчка, таму ніякіх мер перасцярогі ахоўнікі не прадпрымаюць.

— Вяселле ў нас, гаспадзін Лубан,— пазнаўшы намесніка бургамістра, радасна паведамляе чарнявы, са шчарбінай у верхнім радзе зубоў паліцайчык.— Вайцяхоўскі тожа на вяселлі.

З хаты па левы бок дарогі сапраўды нясуцца вясёлыя галасы. Вароты двара расчынены, у двары да нізкага шчыкетніка прывязаны асядланы конь.

Гасцей заўважаюць, бо гамана ў хаце прыціхае. На ганак, у накінутым наапашкі такім жа, як і ў паліцэйскага, кажушку, толькі лепей дагледжаным, абшытым па нізе, бартах белай аўчынай, выскаквае высокі франтаваты хлопец. На хвіліну агледзеўшыся, пераканаўшыся, што перад ім высокае начальства, подбегам кідаецца на вуліцу. З начальнікам мясцовай паліцыі размаўляе Гадун. Ссунуўшы бялесыя бровы, пазіраючы ў зямлю, пытае:

— Што ў вас робіцца, Вайцяхоўскі?

— Трохі непарадак, гаспадзін начальнік.— Прозвішча Гадуна Вайцяхоўскі забыў ці не ведае.— Якраз вяселле ў маёй сястры. Прашу дарагіх гасцей зайсці.

— Пасты выстаўлены?

— Чатыры. Двое вот етых,— Вайцяхоўскі паказвае на паліцаяў,— і яшчэ два ля школы. Астатнія са мной.

— Збяры ўсіх у казарму. Хутка, на адной назе.

Начальнікі селі ў вазкі, паехалі.

Паліцэйская казарма ў школе. Школьны будынак новы, з гладка ачэсаных сасновых бярвенняў. Стаіць трохі навод-

шыбе. За школай наўсцяж, аж да сіняватай грады далёкага лесу, шэрая шчэць балотных хмызоў. У бок гэтых хмызоў звернуты амбразуры драўлянага, напаўзасыпанага зямлёй бункера, у якім дзяжураць двое вартавых. Праўдзівей, дзяжурыць адзін, другі пахаджвае каля школы, ушчапіўшы на плячо вінтоўку.

Тут жа, побач з будынкам, горка вынесеных з памяшкання школьных партаў.

З паліцэйскімі раённыя начальнікі толькі павіталіся і адразу рушылі ў казарму. Сцены тут знутры нават не атынкаваныя, пабудавалі школу, відаць, перад самай вайной. Удоўж па калідоры — чатыры пакоі. У першым — каравулка, у ёй нікога няма. У козлах — некалькі вінтовак, лавы, стол, нары — узбоч сцяны. Наступны клас заняты пад кабінет начальніка, два астатнія — пустуюць. З апошняга нават не вынесены парты.

Уцекачы, якія дагэтуль няслі на тварах выраз маўклівай зацятасці, зайшоўшы ў школу, ацаніўшы становішча, імгненна між сабой дамаўляюцца. Сабраць паліцэйскіх у апошнім пакоі. Расставіць пасты.

Лубан заскаквае ў каравулку. Азірнуўшыся на вокны, адну за другой хапае вінтоўкі, клацаючы затворамі, выкідвае похапкам з магазінаў патроны, сыпле ў кішэню.

Хутка да казармы бязладным гуртам падыходзяць паліцэйскія. Вайцяхоўскі едзе на кані. Гадун астаецца ў каравулцы, Альшэўскі — на ганку, Лубан і астатнія ідуць у пакой, дзе стаяць школьныя парты. Яшчэ праз некалькі хвілін паліцэйскія заходзяць у клас, падгінаючы ногі, рассаджваюцца на нізенькіх партах. Вайцяхоўскі, начальнік, садзіцца на табурэтку ля акна.

Сярод чатырнаццаці паліцэйскіх, якія сабраліся ў пакоі, людзей сталых, пажылых меней палавіны. Пераважае зялёная моладзь. Хлопцы гадоў па дзевятнаццаць, па дваццаць.

Вайцяхоўскі таксама малады. Прадаўгаваты чарнявы твар, шчыльна сцятыя тонкія губы. Глядзіць на раённых начальнікаў як бы з выразам стоенай трывогі.

Лубан, які стаіць, прыхінуўшыся да сцяны, падыходзіць да стала. Абводзіць позіркам прыціхлых паліцэйскіх. Гаворыць глуха, апусціўшы вочы:

— Таварышы, трэба канчаць нямецкую службу. Выкупляць віну. Мы цяпер партызаны. З намі намеснік начальніка раённай паліцыі Гадун. Бярыце прымер з яго. Можаце падумаць, ніхто не няволіць. Але ў каго ёсць наган ці якая зброя, прашу палажыць на стол...

Мёртвая цішыня. Твары імгненна палатнеюць, мярцвеюць. Як бы хто прыкаваў паліцэйскіх да нізенькіх школьных партаў.

У гэтую хвіліну ў праёме дзвярэй узнікае постаць Гадуна з настаўленым аўтаматам. Ён дае чаргу паверх галоў, у столь. У класе — воблака дыму. Вайцяхоўскі падхопліваецца, ускочыўшы на падаконнік, усім целам б'е ў раму. Звініць шкло. Лубан, сігануўшы да акна, аберуч хапае начальніка паліцыі за ногі, сцягвае на падлогу. Хапіўшы за каўнер, прыстаўляе да сценкі. Затым — поўная для ўсіх нечаканасць — сячэ паліцая фінкай у шыю, у грудзі. Звар'яцеў Лубан. Пра такое не дамаўляліся...

Астатніх паліцэйскіх выпускаюць.

## VI

Пра тое, што Лявонці Гвозд — паліцэйскі шпік, многія здагадваюцца, пры сустрэчы — лішняга не гавораць, лісліваць, нутром адчуваючы, што нават благі чалавек да пахвалы ахвочы.

Лявонці Гвозд трапіў у мястэчка тады, калі ў ім адкрылася лясная школа. Гэта фактычна быў першы на ўсё лясное наваколле тэхнікум, і маладыя хлопцы, якія паканчалі школы першай ступені, рынуліся сюды на вучобу.

Гвозд прыехаў з асаблівымі паперамі, і яго прынялі без іспытаў. Ён прывёз накіраванне Мазырскага прыюта, у якім было напісана, што яго бацька і маці загінулі ад рук бандытаў. Тады, у трыццатым годзе, Лявонцію Гвазду было сямнаццаць гадоў.

Далей здарылася незразумелае. Малады, прыгожы прафтэхшколец, на якога заглядаліся дзяўчаты, да вучобы аказаўся зусім не здатны. Хімію, біялогію, фізіку, матэматыку ў тэхнікуме выкладалі ў пашыраным аб'ёме, а Гвозд з гэтых навук амаль нічога не ведаў. На першым годзе навучання з

яго няцямнасцю яшчэ сяк-так мірыліся. Нямала вясковых хлопцаў веды мелі ў адну столку, пасавалі перад хімічнымі, трыганаметрычнымі формуламі. Але ішоў час, яны пакрысе вырываліся наперад, а Гвозд як быў, так і заставаўся ў хвасце.

Пасля другога курса Гвазда са школы выключылі.

Але паўстала пытанне — куды яго дзець? Сям'і няма, у прыют не вернеш.

Яго пакінулі на пасадзе культурніка, нават каморку асобную выдзелілі — пад жытло. Цэлых пяць гадоў Гвозд выдаваў прафшкольцам сетку, валейбольны мяч, кнігі. І ніхто не ведаў пра тайную загану віднага, плячыстага хлопца: ён краў. Красці пачаў яшчэ ў прыюце — жаваў пад коўдрай, калі ўсе спалі, пайку хлеба, грыз тарана, ссаў цукар.

Па характары Гвозд ласкавы, ціхі. Можа, гэта ратавала яго ад праніклівага вока таварышаў па прыюце, якія ведаюць адзін пра другога ўсё. Ён быў, на іх думку, размазня. А што з размазні возьмеш?

Аднойчы ён усё-такі папаўся: украў на кухні кавалак масла, запіхнуў у кішэню. Дзяжурныя хлопцы хапіліся, прыціснулі да сценкі. Ён не прызнаваўся да таго часу, пакуль растопленае масла не пацякло па штанах. Тады ён заплакаў.

Тут, у мястэчку, Гвозд крадзе асцярожна. Маёмасці прафшколы нават пальцам не чапае. Два-тры разы на год сцягвае палотны, якія гаспадыні беляць па расе, бялізну, якую яны развешваюць на вяроўцы для прасушкі. Лявонці хавае набытак у надзейнае месца і, калі справа аціхае, перакладае яго ў вялікі абшарпаны куфар, вязе ў горад прадаваць. За грошы, якія заводзяцца ў кішэні, ён купляе шакаладныя цукеркі. Гвозд не п'е, курыць толькі для прыліку, а цукеркі — любіць. Дзіўна — малады, прыгожы хлопец — з дзяўчатамі не знаецца. Можа, баіцца, што яны — істоты хіжыя — дакапаюцца да патаемнай яго чарвяточынкі.

Лясную школу перавялі ў горад. Каб інтэрнаты, аўдыторыі не пуставалі, у студэнцкім гарадку ўсталявалі новую школу, якая па-ранейшаму падпарадкоўвалася лясному ведамству, але выпускала ўжо не лесатэхнікаў, а шафёраў. Гвозд з палёгкай уздыхнуў. Ранейшыя выкладчыкі раз'ехаліся, яго цяпер мала хто ведаў.

Калі ў Бацькавічах арганізаваўся раён, Гвазда прызначылі начальнікам пашпартнага стала.

Ён вельмі хутка адчуў выгоду новай пасады. Тут ён быў на кані — зняважаны, прыніжаны ў гады маладосці. Выдаючы дакументы, ён стаў нават болей, чым вымагалі службовыя абавязкі, цікавіцца некаторымі фактамі з жыцця пэўных асоб. Гэта як бы прыбаўляла ўласнай сілы, годнасці. Трымаеш у руках паперку, а чалавек — слабенькі, голенькі — умяшчаецца на далоні.

Ён тады ажаніўся. Жонка трапілася ціхая, пакорлівая і любіла яго да самазабыцця.

Амаль напярэдадні вайны здарыўся канфуз. На чужым вяселлі Гвозд падгуляў і не стрымаўся: украў паліто ў механіка МТС. Механік аказаўся выжлятнікам, нюхам пачуў, чыя работа, назіркам паехаў за Гваздом у горад, у барахолцы хапіў за руку. Шум атрымаўся вялікі. Да суда не дайшло, але з пашпартным сталом прыйшлося развітацца.

Калі пачалася вайна, начальнік міліцыі Мацвееў некалькі разоў выклікаў Гвазда да сябе. Пранізваў яго шэрымі, трохі пукатымі вачамі, гаварыў злосна:

— Біяграфію ты сабе падпсаваў, але ёсць магчымасць рэабілітавацца. Не разумею, як ты дайшоў да крадзяжу? Бацькі загінулі ад рук класавага ворага, а ты красці? Беспрытульшчына адрыгнулася, так, Гвозд? Але немцы, па маіх звестках, за такіх, як ты, хапаюцца. Ёсць думка пакінуць цябе тут. Будзеш назіраць, чым хто дыша. Ты беспартыйны, відных пасад не займаў.

Начальніка, відаць, тачыла сумненне, бо раз за разам ён перапытваў:

— Дзіўна, ты нават у камсамоле не быў. Чаму не ўступаў?

Што мог Гвозд адказаць? У прафтэхшколе ніхто яго ў камсамол не запрашаў, потым было позна.

Яму ўсё-такі верылі. Зарукай гэтай веры была смерць бацькоў, што жылі на прыгранiччы.

Калі Гвазду стала ясна, што ён астанецца ў мястэчку, будзе жыць з немцамі, ён здранцвеў душой. Днямі ляжаў на ложку бязвольны, расслаблены. Ён ведаў, што Мацвееў будзе ў лесе, а значыць, у нейкай бяспецы, а ён, Гвозд, навідавоку, адкрыты для ўсіх напасцяў, і ад гэтай думкі яго кідала ў адчай.

За тыдзень, перад тым як рушыць са знішчальным батальёнам у лес, Мацвееў даў Гвазду яўкі для сувязі з сабой. У ліку сувязнікоў — два леснікі, абходчык з чыгуначнай веткі на Хвойнае, у мястэчку — інжынер лесакультур Дзянісава.

Дадзеныя яму прозвішчы, інструкцыі Гвозд запамінаў абыякава. Ён ведаў, што ў мястэчку не астанецца. Пойдзе ў водступ, змяшаецца з людскім натоўпам і асядзе дзе-небудзь у чужой мясцовасці, дзе яго ніхто не ведае.

Ён так і зрабіў. Калі Мацвееў з мястэчка выскачыў, Гвозд пацалаваў прыціхлую, разгубленую жонку, якая ўжо хадзіла дзіцем, і рушыў да Дняпра.

У адыходзе ён пабыў больш месяца і зазнаў такога пекла, што думку — перасядзець ліхі час на старане — выдзьмула з галавы як ветрам. Вакол Кіева немцы самкнулі клешчы. Гвозд трапіў у кашу, вырабіўся з яе толькі таму, што меў цывільную вопратку і спраўныя дакументы.

Ён, можа, прыліп бы да якой-небудзь маладзіцы, але тады трэба было б гаспадарыць — араць, касіць,— а рабіць гэтага ён не любіў і не ўмеў.

У час блукання Гвазда ўсё часцей наведвала думка пра дзяцінства. Бацька яго ў грамадзянскую вайну быў у чырвоным войску, меў добрыя дакументы, але чамусьці асеў у чужой старане, прыстаўшы ў прымы да жанчыны, якая была намнога за яго старэй. Можа, яго прывабіў хутарок, уладальніцай якога з'яўлялася маці? Гвозд гэтага не ведае. Бацька з маці жыў кепска. Кожны дзень у хаце не спынялася сварка, лаянка.

Калі паблізу пралягла мяжа з панскай Польшчай, хутарок апынуўся ў паласе прыгранічча. Днём бацька шаптаўся з чырвонаармейцамі-пагранічнікамі, якія іншы раз завітвалі ў хату, ноччу з таго боку, з-за мяжы, прыходзілі іншыя людзі, і бацька з імі шаптаўся таксама. Пасля ён хаваў прынесеныя начнымі людзьмі скруткі шэрсці, сукна, скуранога тавару. Гвозд вынюхаў аднойчы патайную схованку — у пуні да наружнай сцяны бацька прыбудаваў унутраную.

Маці звалі Марыя-Тэрэза. Бацька іншы раз нават біў яе, успамінаючы нейкага фальваркоўца Нарбутовіча.

Бацьку і маці начныя прышэльцы зарэзалі нажамі. Пагранічнікі, можа б, адшукалі патайную схованку, але ў тую ж

ноч хутарок згарэў дашчэнту. Відаць, замяталі сляды бандыты.

Каму служыў бацька? Яшчэ невядома, ці бальшавікам. А калі наадварот?

Чым бліжэй падыходзіў Гвозд да мястэчка, тым болей спакайнеў душой. Хто, што пра яго ведае? Што ён украў паліто? Дык гэта ж добра. Немцы, мабыць, дабраліся да Урала, і трэба думаць, як жыць далей. Выбіраць не выпадае.

Ён толькі тыдзень пасядзеў дома, нікуды не вытыркаючыся. Як толькі дачуўся, што набіраюць паліцыю, пайшоў да немцаў, надзеў павязку. Самому Швальбе, першаму начальніку жандармерыі, расказаў пра Дзянісаву і астатніх.

Праз месяц Швальбе расшалопаў, што такога чалавека, як Гвозд, трымаць у паліцыі затанна. Прыклёп знайшоўся — позніцца на дзяжурства, служыць неахайна. Перад паліцэйскім строем у Гвазда адабралі вінтоўку, сарвалі з рукава павязку...

## VII

Паўночы Гвозд выстаяў каля кватэры колішняга загадчыка радыёвузла Палуяна. Немцы ім цікавяцца, думаюць, мабыць, што слухае радыё. Гвозд так не лічыць. Уласнага ценю баіцца Палуян. А дзясятай гадзіне — ужо ў ложку. За паўмесяца ні адзін чалавек не прыйшоў да яго ў хату.

Мястэчка спіць. Чарнеюць палахлівай пустатой завулкі. За тынамі, парканамі як бы хаваюцца рухомыя цені. За апошні год Гвозд да дробязей вывучаў вуліцы і завулкі. Колькі начэй прасядзеў ён па панадворках, хлявах, мерзнучы, асочваючы тых, што вярнуліся з лесу і зноў па-змоўніцку збіраюцца, шэпчуцца. Тых ужо няма. Але разам з імі як бы знік грунт, на якім ён цвёрда і надзейна стаяў. Былых начальнікаў, якія не хацелі ісці на нямецкую службу, ён выкрыў усіх. Жывучы болей як дзесяць гадоў у мястэчку, ён ведаў пра іх усё, мог даць самыя дакладныя характарыстыкі.

Ён адразу скеміў, што апрача яго і Дзянісавай ёсць яшчэ пакінутыя для патайной работы. Але хто?

Ён начамі не спаў, перабіраючы ў памяці ўсіх, хто бегаў да вайны з партфелямі, вылузваўся са скуры на бальшавіцкай

службе. Выпадак прывёў яго ў майстэрню Шэлега, які прытварыўся, што вельмі яму падабаецца быць бляхаром, латаць самавары, каструлі. Месяца не пашкадаваў, каб асачыць рамесніка, ухапіцца за нітачку. Яна прывяла да жанчыны, якая, як некалі ён сам, выдавала пашпарты.

Ён бы і Драгуна раскалоў, памятае гэтага актывіста яшчэ па лясной школе, ды хітрэц, схаваўшыся за немцаў, паспеў перабрацца ў Гарбылі, а ў лес ужо адтуль драпануў.

Пасля забойства Швальбе партызанамі круг як бы замкнуўся. Вялікіх удач няма. Каго цяпер асочваць? Бухгалтараў, якія і да вайны былі бухгалтарамі? Але за гэта немцы не расстрэльваюць, а звязаны хто з партызанамі ці не звязаны — на лбе не напісана. Раней прасцей было. Ладуцька хто? Пракурор, камуніст, быў у бандзе... Аўсянік хто? Тое самае...

Гвозд ганарыцца сабой, сваёй знешнасцю, роляй, якую выконвае. Шляхецкая кроў матулі ў ім, мужчыне, праявілася на поўную сілу. Знешнасць памагае, дзе трэба, прыкінуцца авечкай, у другім месцы — пусціць пыл у вочы. Ніхто лепей, чым ён, не здолее выкручвацца. Трэба хітрасць, асцярожнасць, галава. Галоўнае — цярпенне. Хіба лёгка выстаяць вечар у вечар у падваротні або выседзець летнюю ноч у кіяшніку? Немцы, сволачы, нават цыгарэт шкадуюць. Восем штук на суткі. Некалі ён не курыў, а цяпер без тытуню не можа.

Перад прысадзістым будынкам пошты Гвазда аклікае немец-вартавы. Свецячы кішэнным ліхтарыкам, доўга разглядае начны пропуск. Звычайная картонка, Гвозд нават не ведае, што на ёй напісана, але патрульныя заўсёды вяртаюць яе як бы са страхам. Гвазду па гэтай прычыне заўсёды падабаецца паказваць немцам пропуск.

Побач з поштай, у глыбіні двара,— маленькая хаціна, у якой жыве мнагадзетны саставіцель Лысак. Былы Гваздоў знаёмы нікуды не рушыў, сядзіць дома, есць бульбу. На першым часе Гвозд яго пабойваўся. Але тое даўно мінула. Калі і баіцца каго Гвозд, то толькі немцаў. Гэтыя тарбахваты сваю карысць разумеюць. У анкету не заглядваюць. Служыш ім — вось увесь пашпарт.

Гвозд чысты перад немцамі.

Навёў ён туману толькі ў адным. Пагалоска па мястэчку пушчана густая — Мацвееў забіты. У лесе сапраўды

знайшлі забітага, немцы вызвалі Гвазда апазнаваць труп. Ён пацвердзіў тое, што трэба было пацвердзіць. Для сваёй бяспекі, для спакою пана Швальбе.

Жывы Мацвееў ці мёртвы — Гвозд не ведае. Былое сплыло, не вернецца. Не Мацвееў страшны — адзінота. Ён, Гвозд, прапаў бы, каб не падмога родзічаў. Цесць — залаты чалавек. Штодня адвядзеш з ім душу. Двух сваіх сыноў, жончыных братоў, аддаў у паліцыю. На дзве сям'і — тры пайкі.

Вось толькі з жонкай кепска. Нарадзіла дачку і сохне. Зрабілася тоненькая, як цявіна, на худым, змізарнелым твары толькі вочы блішчаць. Нікуды на людзі не паказваецца.

У наступны вечар Гвазду шанцуе. Выбраўшыся сачыць за кватэрай Палуяна, ён спатыкае ў цёмным завулку высокую, як жардзіна, старую, акрытую старасвецкім дзіравым шарфам. Прозвішча яе, здаецца, Ядрыцкая.

— Пане Гвозд, супыніцеся. Маю да пана інтарэс.

— Што вам трэба?

— Магу даваць пану розныя звесткі. Пра небяспечных для нямецкай улады асоб. За пянёндзы, вядома. Жыву бедна, не маю хлеба.

Гвазду робіцца весела. Ды гэта ж тое, што трэба!.. На лаўца і звер бяжыць... Дарэмна ён пакутаваў, ламаў галаву: набраць такіх бабуль, і зноў ён на кані. Азірнуўшыся, ён выцягвае з кішэні кашалёк, дае старой у рукі некалькі крэдытак.

— Заўтра ў восем вечара на гэтым самым месцы. Зразумела?

Яшчэ праз дзень Гвозд кладзе на стол начальніка жандармерыі паперу пра зборы на кватэры адваката Быліны. Цікавы вузельчык завязваецца. Стары знаёмы Лысак таксама прыходзіў да адваката. Тыдзень, як выпусцілі з турмы — і зноў матэр'яльчык. На гэты раз ён з ім расквітаецца.

На развітанне Гвозд просіць:

— Гаспадзін начальнік, дайце мне грошай. Маю памочнікаў, ім трэба плаціць. Размовы, па майму заданню, падслухоўвае настаўніца Ядрыцкая.

Жандар усміхаецца, ляпае Гвазда па плячы, але грошай, скупярдзяй, адвальвае не густа — восемдзесят марак.

## VIII

Яшчэ холадна, але не-не дый дыхне ў твар ясным сонечным днём вясна. Капае са стрэх, трашчыць пад нагамі тонкі, падталы лядок на лужынах.

Надвячоркам, калі шараваты змрок павіс над мястэчкам, млынар Забела заварочвае ў двор да Крамера. Доўга грукае на ганку ботамі, хвастае па іх венікам-дзеркачом. Асабнячок у бургамістра ніштаваты. Робіць уражанне як звонку, так і знутры. Густ у старшыні райспажыўсаюза, які за казённыя грошы адгрукаў да вайны хароміну, быў някепскі.

Насустрач млынару яшчэ ў сенечках-верандзе выплывае Гертруда Паўлаўна, ласкава вітаецца, прапускае ў пакоі. Прымае ў рукі паўкажушок і шапку. Прыклаўшы палец да губ, шэпча:

— Вы яго, Панас Дзянісавіч, не нервуйце. Прашу вас. Не расказвайце нічога благога. З сэрцам у яго.

Баба трохі дурнаватая, магла б не гаварыць. Паганае панства. Забела ў апошні час забягае да Крамера часцяком і лепей за яе ведае, як жыве на свеце бургамістр. Здаў Аўгуст Эрнэставіч, моцна здаў. З таго дня, як у лес, да партызан, збег яго намеснік Лубан, а з ім некаторыя іншыя мясцовыя начальнікі, на вачах перамяніўся. Асунуўся з твару, паблажэў. Ледзь Богу не аддаў душу пасля ночы, калі жандармерыя расстраляла заложнікаў — жонак і дзяцей усіх тых, што паўцякалі ў лес.

Крамер ляжыць на канапцы, дрэмле. Пры ўваходзе млынара падымаецца, усоўвае ногі ў лямцавыя пантоплі.

— Сядайце, Панас Дзянісавіч. Дзякуй, што не забываеце. Для некаторых, сказаць па праўдзе, мяне і дома няма. Жонка на пасту.

Уваходзіць Гертруда Паўлаўна, прыносіць запаленую лямпу. Стаіць, запытальна глядзіць на мужа.

— Можа, чарачку, Панас Дзянісавіч? Сам-то я не магу.

— Дзякаваць, дзякаваць, Аўгуст Эрнэставіч. Нешта і мне нездаровіцца. Пячонка, ліха яе матары.

Гаспадыня выйшла, і, як заўсёды, яны асталіся ўдвух. Аўгуст Эрнэставіч падняўся, выняў з шуфлядкі стала бутэ-

лечку з зялёнымі пілюлямі. Дзве з іх праглынуў, запіў, не наліваючы ў шклянку, вадой з графіна.

— Яўрэйка гэтая вышмаргнула,— панізіўшы голас да шэпту, паведамляе Забела.— Ад Краснея дала лататы. Што ж, цяпер ёй нічога не страшна... Вясна на носе. І нам не страшна. Цяпер мы вольныя з вамі, Аўгуст Эрнэставіч. Душой я змучыўся. То ж, глядзі, болей як паўгода хавалі. Не дай Бог знайшлі б яе тут. Яе ж каб прыціснулі, то як на споведзі ўсё расказала б.

Пра тое, што яўрэйка з дзіцём рушыла хутчэй за ўсё ў вёскі, дзе цяпер валадараць партызаны, Забела дыпламатычна змаўчаў. Навошта вымаўляць непатрэбныя словы? Няхай ідзе хоць да чорта на рогі, абы тут было спакойна.

— Яе мы ўратавалі,— гаворыць бургамістр,— а другім наўрад ці паможам.

— Што такое, Аўгуст Эрнэставіч?

— А хіба не чулі?

— Нічога не чуў, яй-богу. Я сёння зранку да сястры ў Дубровіцу быў падскочыў. Мужык на вайне, дзеці, як мак, дробныя. Падкінуў ім мяшок мукі. Прыехаў, і да вас...

— Зноў былі арышты. Узялі шасцярых.

Забела хмурнее. На шырокім чырванаватым твары разгубленасць і запытанне.

— Дык яны такі вінаватыя?

— Цяпер сам чорт не разбярэ. Хачу папытацца ў вас, Панас Дзянісавіч. Ці ведаеце Ядрыцкую? Да вайны настаўніцай у школе рабіла. Хоць якая там настаўніца — па маляванню. Недзе там блізка ля вас жыве.

— Ведаю. Хто ж яе не ведае.

— Ну, і што вы скажаце?

— Сволач, Аўгуст Эрнэставіч, чыстая сволач. Боўтаецца, прабачце за слова, як г... у проламцы. Мне адзін чалавек яшчэ перад немцамі гаварыў,— млынар папярхнуўся, зірнуў на бургамістра. Але міжволі выраненае слова той прапусціў міма ўвагі.— Яна ж не адсюль, аднекуль з Украіны,— працягвае Забела.— То там, казаў, дзе раней жыла, сто вёдзер крыві выпіла. Нібыта тады,— млынар перайшоў на шэпт,— на людзей пісала. Ды вы ж самі ведаеце, як глядзелі на такую пісаніну...

Крамер усміхаецца.

— Ядрыцкая і на мяне пісала. Мінулай зімой. Нібыта пакрываю камуністаў. Тады яшчэ Швальбе быў. То я загадаў, каб ёй усыпалі.

— То што, зноў піша?

— Момант настаў. Усё гэтыя нарабілі, што паўцякалі. Яна, сцерва, нюхам чуе. Думае, цяпер у мяне сіла не тая. Але яшчэ паглядзім. Яшчэ на нагах стаю цвёрда. Да мяне не падкапаецца...

Болей пра арыштаваных бургамістр не лічыць патрэбным гаварыць, а Забела не дапытваецца. Рыпнулі весніцы, на двары пачуліся крокі. Праз нейкі час зноў нехта прайшоў міма занавешанага акна, і зноў ляснулі веснічкі. У пакой зазірнула Гертруда Паўлаўна. Не саромеючыся госця, паведаміла:

— Князеў быў. Начальнік паліцыі з Піляціч. Я сказала — цябе няма.

— Ладна, ідзі.

— Я, Панас Дзянісавіч, не каюся ў тым, што рабіў,— пачынае Крамер.— Іначай не мог. Сумленне маё чыстае. Гаварыў і гаварыць буду — сядзець трэба ціха. Вот зноў аб’явіліся партызаны, і вы думаеце, гэта давядзе да дабра? Не давядзе. Тры вёскі спалілі, у Вербічах жыхароў не пашкадавалі. А чаму? Вайна. А на вайне ваенныя законы.

— Яно-то так, Аўгуст Эрнэставіч. Але з другога боку... Войны і раней былі...

— Я разумею вас, Панас Дзянісавіч. Мірнаму насельніцтву цяжка. Я і немцаў не адабраю. Яўрэяў знішчаюць. Ці вот жонак і дзяцей пастралялі. Чым яны вінаватыя, што мужыкі ў лес пабеглі? Але што мы можам зрабіць? Хіба немцаў пераменім?

— Дык жа і партызан, Аўгуст Эрнэставіч, не пераменіш. Будуць у немцаў страляць.

— То будзе нядобра, пане Забела. Могуць і да мястэчка дабрацца. Я не пра партызан кажу, пра немцаў. Тады не паглядзяць ні на вас, ні на мяне...

Забела спалохаўся. Нават не хавае ўзрушанасці. Дыхае перарывіста, па твары ідуць чырвоныя пляміны.

— То як жа так?.. Тут жа вы і другое нямецкае начальства. Уласць. Што вы загадваеце, тое мы выпаўняем. То за што ж страляць?..

Крамер падымаецца, нячутна тэпаючы мяккімі пантоплямі, ходзіць па пакоі.

— Немцы, каторыя жывуць тут, не зачэпяць ні вас, ні мяне, Панас Дзянісавіч. Можаце спаць спакойна. Але, думаеце, чаго прыходзіў Князеў? Ён у Піляцічах начальнікам паліцыі быў. Жыў як цар. А тут, у мястэчку, яго бралі на службу звычайным паліцэйскім. Не захацеў, не пайшоў. Таксама гонар мае. Ходзіць да мяне і даказвае, што там, у Піляцічах, партызан мала. Нехта ж яму прыносіць звесткі. Самы час, даказвае, па партызанах стукнуць.

Забела маўчыць. У такія справы ён умешвацца не хоча.

— Князеў жа ходзіць не толькі да мяне, а і да жандараў,— працягвае бургамістр.— Расказвае пра партызан. І такіх, як ён, хапае. Тыя, што паўцякалі ў мястэчка, баючыся партызан, хочуць вярнуцца ў свае сёлы. У свае хаты. Бог ведае, што яны нагаворваюць немцам. А тыя ставяць кружочкі. На карце. Вы не ведаеце, Забела, нашто немцам карта з кружочкамі?

— Не ведаю,— аднымі губамі выдыхае Забела.

— А я ведаю. Я бачыў тую карту. Нашы мясцовыя немцы тых кружочкаў баяцца. Лічаць, што ў партызан — незлічоная сіла. У страха вочы вялікія. Таму з мястэчка нашы немцы нікуды не палезуць. Але могуць паявіцца другія.

— Якія другія, Аўгуст Эрнэставіч?

— Воінскія часці. Думаеце, немцы будуць спакойна глядзець, як партызаны кожнага дня ўзрываюць чыгунку? Чыгунка ж фронту служыць. Сабяруць кулак, ды так стукнуць, што юшка пацячэ. Тады не паглядзяць ні вока ні бока. Мястэчку тожа пападзе на арэхі. І я нічым не памагу.

Забелу як перахапіла дыханне. Некалькі хвілін маўчыць, выцірае скамечанай насоўкай лоб. Крамер садзіцца на канапку, зноў дастае з шуфлядкі бутэлечку і глытае дзве пілюлі. Запівае вадой, цяпер ужо наліваючы з графіна ў шклянку.

— Я вот вам што скажу, Аўгуст Эрнэставіч,— набіраецца духу Забела.— Вы з самага пачатку гаварылі правільна. І рабілі правільна.

— А хто мяне слухаў! — нечакана ўзрываецца бургамістр.— Чым я правініўся перад тымі, што ў лес збеглі? Я Адамчуку і Альшэўскаму жыццё выратаваў, а яны што? Слухалі, падтаквалі, а як прыйшлося, то ў шапку Крамеру налажылі. Цяпер ворагам лічаць — сем'і не ўратаваў. Ці ж можна далей так жыць? Я прывык верыць людзям, а яны на мяне камень за пазухай насілі.

— Не ўсе такія, Аўгуст Эрнэставіч. Народ, які жыць хоча, работаць, вас паддзержыць. На такі народ трэба апірацца.

— А ў тых сёлах, дзе цяпер партызан поўна, хіба не народ?

— Што ж ты зробіш. На тое вайна. На чыім возе едзеш, таму і песню спявай. Прыйдуць у хату з вінтоўкай, то не прагоніш. Трэба к жыццю прымярацца. Я яшчэ вам скажу, Аўгуст Эрнэставіч... Фронт у немцаў, чутно, не вельмі моцны. Усё яшчэ можа быць. А народ, ён ніколі не падвядзе...

Зноў выбухае гневам бургамістр. У яго голасе ашаломленаму млынару чуюцца раптам жалезныя ноткі:

— Дык што, Забела, і вы бальшавікоў чакаеце? Не думаў, не думаў. Хоць у чужую душу, як кажуць, не залезеш. Але ведайце — не вернуцца бальшавікі. Германія не такая слабая. Тое, што заваяваў нямецкі салдат, ён ужо не аддасць. Запомніце гэта цвёрда, Забела!..

— Мы людзі маленькія. У паліціку не мяшаемся. Хлеб мелюць пры ўсякай уладзе.

Крамер адразу адчуў, што перабраў лішку. Крыўдзіць млынара яму не хочацца. Усё-такі памагаў чалавек і шчыра спрыяў у самую цяжкую часіну. З бяды выручаў. А з гэтай яўрэйкай яны наогул адной нітачкай звязаны.

У сваю чаргу, сумеўся і Забела. Ён ужо дакарае сябе, што так неабдумана ляпнуў пра фронт. Крамер усё-такі немец, і яму непрыемна чуць, што на фронце іхнім накруцілі хвост. Прыйдуць ці не прыйдуць бальшавікі, відно будзе. Але пакуль улада нямецкая, трэба ўмець дзяржаць язык за зубамі.

Нібы ў тон млынаровым думкам бургамістр прымірэнча гаворыць:

— Не крыўдуйце, Забела, што накрычаў на вас. Служба такая — крычаць прыходзіцца. А балбатня пра фронт дарага

каштуе. Тых, шасцярых, думаеце, за што забралі? Збіраліся ў адваката Быліны, шапталіся, пра фронт тары-бары разводзілі. А Ядрыцкая падслухала.

— Ды няўжо ж, Аўгуст Эрнэставіч, такой сцерве верацъ?

— Думаеце, жандары дурні? У іх — па закону. Пазвалі Былінаву жонку, прыстрашылі, прыціснулі — пацвердзіла.

Прымірыўшыся, палагаднеўшы адзін да другога душой, прагаварылі яшчэ парадкам. Забела ўстае, памыкаецца ісці, але Крамер не пускае. Не памагае і тое, што раз-пораз не надта ветліва адчыняе дзверы раззлаваная Гертруда Паўлаўна. Выбраўся ад бургамістра млынар толькі пад поўнач.

Ноч — пакута для Аўгуста Эрнэставіча. Бадай, не спіць з таго часу, як заварылася каша з уцекачамі. Тады, калі толькі яго паставілі бургамістрам, ён не спаў, бо, навошта грэх таіць, баяўся партызан. Цяпер не баіцца. Не палезуць яны на мястэчка, дзе салдаты, кулямёты, вайсковая сіла. Ёсць штосьці другое.

Аўгуст Эрнэставіч доўга ляжыць з адкрытымі вачамі, перабірае ў памяці ўсе колькі-небудзь прыкметныя праявы ў паводзінах уцекачоў і прыходзіць да вываду, што сваё партызанства яны задумалі даўно. Бадай, яшчэ з лета. Па астатніх не надта відно было, а наконт Лубана, калі б глыбей глядзець, льга было прадбачыць. Хадзіў невясёлы, хмуры, пра ўласны дабрабыт не дбаў, вельмі часта пярэчыў яму, бургамістру. Тады ўжо тачыў яго чарвяк нездавальнення. Дый астатнія, калі ўдумацца, размоў пра палітыку пазбягалі, нямецкім перамогам не радаваліся...

Ва ўсёй гэтай гісторыі Аўгусту Эрнэставічу незразумела адно: чаму Лубан і астатнія пакінулі ў мястэчку сем'і? Хіба не ведалі, што іх тут чакае? Ведалі. На свае вочы бачылі, што робяць немцы з такімі сем'ямі. То на каго ж спадзяваўся Лубан і яго хаўруснікі? На яго, Крамера? Таксама смешна. Лубан — не дурань і разумеў, што ён, бургамістр, не ўсемагутны і што ёсць сілы, вышэйшыя за яго.

Прыняўшы да ўвагі акалічнасці справы, Аўгуст Эрнэставіч прыходзіць да думкі, што трывалай сувязі з партызанамі ўцекачы не мелі. Хутчэй за ўсё не ведалі, як іх прымуць партызаны. Яны ж, як і ён сам, фактычна засноўвалі нямецкую

ўладу ў мястэчку і ў раёне. Лубан дык нават чырвонаармейца застрэліў увосень сорак першага. І нягледзячы на гэта, адважыўся павініцца, прасіць у партызан літасці...

Менавіта ад гэтага Аўгусту Эрнэставічу робіцца страшна. Як жа трэба ненавідзець немцаў, каб пайсці на такі крок! Лубана ж і партызаны маглі расстраляць, а ён пайшоў да іх, схіліў галаву. Мабыць, звязана з гэтым і рашэнне аб сям'і. Лубан не ведаў, ці будзе жыць сам. Аб сям'і таму не думаў. Каб партызаны яго расстралялі, немцы тады не зачапілі б сям'ю.

Тое, што ўчыніў Лубан над начальнікам мохаўскай паліцыі, стала вядома ў мястэчку на другі дзень. Значыць, партызаны не расстралялі ўцекачоў, прынялі. Аўгуст Эрнэставіч ні аб чым не прасіў жандармерыю. Іначай зрабіць не мог.

Ход бургамістравых думак раптам ідзе ў другім напрамку, усю яго істоту захліствае нястрымная злосць. Не, ён проста міндальнічае, калі шукае апраўдання Лубану і астатнім. Звычайныя шкурнікі і прыстасаванцы. Калі б у немцаў справы на фронце ішлі лепей, яны нікуды не пабеглі б. Дагаджалі б яму, бургамістру, лавілі б кожнае слова. Лубан усё-такі прыхапіў з сабой старэйшую дачку. Ведаў, чым усё пахне.

Зноў Аўгусту Эрнэставічу робіцца страшна. Свет звар'яцеў. Усе ранейшыя ўяўленні перавярнуліся, звяліся на нішто. Змалку лічыў ён, што сям'я — аснова жыцця, болей за ўсё чалавек павінен шанаваць сям'ю. Немцы будуюць на гэтым палітыку, караючы за злачынства не каго-небудзь аднаго з сям'і, а яе ўсю. Таксама вар'яцтва. Малалетнія дзеці, нават жонка, могуць і не ведаць таго, што замысліў гаспадар. Чым тады яны вінаватыя? За што іх страляюць?

Раней людзі, апранутыя ў вайсковую форму, не расстрэльвалі жанчын, дзяцей. СС, СД там, у Германіі, мабыць, спецыяльна для гэтага і прыдуманы. Але паляць вёскі разам з жыхарамі не толькі эсэсаўцы, а і звычайныя салдаты, тыя, якія павінны ваяваць на фронце. З другога боку, хіба была калі-небудзь такая вайна? Хіба шкодзяць немцам адны толькі мужчыны?..

Ён, Аўгуст Эрнэставіч, каб ведаў, што немцы будуць вытвараць такое, ніколі б не згадзіўся стаць бургамістрам. Няхай бы каралі, расстрэльвалі. Мінула якіх-небудзь дваццаць з

лішнім гадоў, калі ён бачыў салдат кайзера Вільгельма, а як усё перамянілася. Другой стала Германія...

Аўгуст Эрнэставіч уздыхае, варочаецца з боку на бок, але заснуць не можа. Даўно бачыць сны жонка, і яе перарывістае храпенне даносіцца аж праз дзве сценкі. У гэтыя хвіліны Аўгуст Эрнэставіч яе проста ненавідзіць. Сытая кабыла. Лічыць сябе начальніцай, першай дамай у мястэчку і ні аб чым болей не дбае.

Цяжкім мядзведзем зноў навальваюцца чорныя думкі. Свет перавярнуўся, але штосьці сталае, цвёрдае ў ім засталося. Лубан і іншыя ўцяклі ў лес, бо яны помняць Радзіму. Яны ведалі, што яна можа спытаць, чым яны займаліся, чым памагалі ёй у цяжкую часіну? А дзе радзіма яго, Крамера?.. Раней ён лічыў, што тут, на гэтай зямлі, у якой пахаваны косці яго бацькі, дзеда. Цяпер сам не ведае. Ведае адно: калі немцы фронт не ўтрымаюць, ён тут не астанецца. Многа, вельмі многа стала такіх, хто лічыць яго, Крамера, ворагам...

Позна. Мабыць, даўно за поўнач. Дзесьці далёка пачуўся глухі стрэл. Аўгуст Эрнэставіч устае, босы тэпае па падлозе, вобмацкам адчыняе шуфлядку стала. Супакоіўшыся ў гаворцы з Забелам, думаў абысціся нанач без снатворных парашкоў. Ад іх назаўтра цэлы дзень цяжкая галава. Ды дзе там абыдзешся...

Аўгуст Эрнэставіч задзірае галаву, стукаючы пальцамі па паперцы, глытае саладкаваты парашок, запівае вадой з графіна. Кладзецца ў ложак і, паступова супакойваючыся, праваліваецца ў цёмную бездань.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

Сінее надвячорак. За акном цёмная падкова хвой. Між імі, як у вянку, стаіць партызанская вёска Сасновіца. Бярэцца на вясну — дні прыкметна падоўжалі, са стрэх павіслі празрыстыя суслы — яны час ад часу зрываюцца і звіняць,

разбіваючыся, як шкляныя. Днём пануе ў паветры чыстая, ясная празрыстасць. Прадвесне і пачынаецца з такой чысціні. У соснах — густы, аднастайны пошум. Каторы дзень веюць над Палессем цёплыя заходнія вятры, з'ядаюць пакрысе снег, прыкметнай чарнатой адзначаюць дарогі.

У адным месцы сцяна хвой разрываецца, і нават адсюль, з акна, відаць лапік цёмнага кустоўя, хмызоў, а за імі аж да наступнага лесу — аснежаны палявы прасцяг, ахутаны полагам перадвясенняй сінечы. Там, за полем, за лесам, другія вёскі, паселішчы, лясныя абшары.

Пачаў церусіць дробны сняжок.

Як толькі ў штабную хату, гучна затупаўшы на ганку, уваліліся Петравец і Лісавенка — камандзір і камісар Дамачоўскага атрада, абодва ў чорных дубленых паўкажушках, у добрых, хоць і самаробных, ботах — Вакуленка ўскочыў з ложка, на якім спаў ці прытвараўся, што спіць, і, нават не павітаўшыся, размашыста закрочыў па пакоі. Нагнятаў у сабе злосць. Рослы, шырокі, з адвіслай ніжняй сківіцай, шырокім, барвовым тварам, ён нагадваў у гэтую хвіліну раз'юшанага мядзведзя, якога не ў пару паднялі з бярлогі.

Бондар сядзіць пры стале, прыводзіць да ладу паперы. Дарошка, яго памочнік па штабе, укленчыўшы на падлозе, налівае з блішчастага бітончыка ў бляшаны магазын лямпы запраўлены соллю бензін.

— Ну што, начальнікі, даседзеліся? — раўнуў Вакуленка, на хвіліну спыніўшыся пасярод пакоя.— Цёпла спалі, смачна елі. А атрад дзе? Анархію разводзіце! Дакаціліся да грабяжу і самасудаў. Калі пацвердзіцца тое, аб чым вось тут напісана,— Вакуленка рвануў з нагруднай кішэні сіняй, вайсковага фасону суконнай гімнасцёркі шматок паперы,— абодвух да сценкі! Зразумелі?..

— Мы не вінаваты, Адам Рыгоравіч,— спакойна адбівае наскок Петравец, паказаўшы тым самым, што ведае, аб чым пойдзе гаворка.— Сігналы ёсць і ў нас. Але што мы можам зрабіць? Загад ісці за Пціч быў падпісаны вамі. Мы і ў Паўла Антонавіча пыталіся.

— Ты Бондара не мяшай. Ён тады начальнікам штаба не быў.

— Я не пра тое. Мы прыязджалі прасіць помачы. Пыталіся, што рабіць з тымі, хто не хоча ісці за Пціч. Павел Антонавіч сказаў — няхай астаюцца.

— Такая размова была,— пацвердзіў Бондар.— Вы прыязджалі ў Рагалі, пасля таго як мы разбілі гарнізон у Літвінавічах.

— Вы ўсе цяпер разумненькія! — крычыць Вакуленка.— Я не я і хата не мая. Адзін за другога хаваецеся. Вакуленка адзін вінаваты. Ён загадаў сюды збірацца, ён вінен і ў тым, што галда пабаялася ад жончыных спадніц адрывацца. Вы колькі тут адлежваецеся? Два месяцы. То не маглі за два месяцы прыбраць к рукам галду?

— Не маглі! — ужо са злосцю выгуквае Петравец.— Іх шэсцьдзясят і нас шэсцьдзясят. Што нам, грамадзянскую вайну з імі пачынаць? Дзесяць разоў да іх хадзілі. Яны проста смяюцца з нас. Дурнямі завуць. За тое, што пайшлі сюды, за Пціч...

— Можа, і ты так думаеш? — шырока расставіўшы тоўстыя ногі, Вакуленка спыняецца насупраць Петраўца.— Знайшлі, што называецца, камандзіра атрада. Ты забыў, Петравец, кім ты быў? Ты быў папіхачом у Дзяругі. Дзяруга цябе нават на ўзвод не паставіў. Я цябе замеціў і вылучыў. Атрад даў. Думаў, чалавек. А ты на свайго заступніка хвост падымаеш. Ты што, дысцыпліны не прызнаеш?

— Я прызнаю дысцыпліну, Адам Рыгоравіч. І камандзірствам мяне не папікайце. Я на атрад не прасіўся. Паставілі дык паставілі, камандую, як умею. Не горай, чым другія. Вы толькі мне скажыце, якога д'ябла мы тут, за Пціччу, тырчым? Чыя галава так зварыла, каб сагнаць у адно месца столькі людзей? Каго мы ахоўваем, з кім ваюем? Я ведаю, вы тут ні пры чым. Вы тожа загад выконвалі. Але бываюць жа дурныя загады.

Вакуленка глядзіць на Бондара, затым на Дарошку, як бы шукаючы іх падтрымкі. Але начальнік штаба з памочнікам маўчаць.

Камандзір ідзе да стала, стомлена прысядае, запусціўшы руку ва ўскудлачаныя, чорныя, з прыкметнай сівізной валасы.

— Не будзь пракурорам, Петравец. І божай авечкай не прыкідвайся. Загад зімаваць за Пціччу аддаў Мінскі абкам.

Гомельскае начальства тожа нічога лепшага не прыдумала. Бальшынство іх атрадаў, сам ведаеш, таксама тут было. Каўпак і той ля Князь-возера аціраецца. Дык што, мы ўсе такія дурныя, што ў адно месца стаўкліся? Я ўсім ета скажу, Петравец, не толькі табе аднаму. Ніхто нічога не прыдумліваў, а проста ўзялі прымер з нас, з Акцябрскага раёна. Другія па прымах сядзелі, па паграбах туляліся, а мы і прошлую зіму ваявалі. Блакаду пераламілі. На ўсім Палессі адны мы ўдзяржаліся. Ну, можа, яшчэ трохі ельскія. А ўсе тыя атрады, што нашы перад адступленнем пакінулі, сам ведаеш дзе. А чаму яны разбрыліся, ты не думаў? Таму што не разам былі, не ў адным кулаку.

— Ты трохі пераўвялічваеш, Адам Рыгоравіч,— пярэчыць Бондар.— Прычына тут не адна, а многа. Не забывай, што ў сорак першым была зусім другая абстаноўка. Я маю на ўвазе фронт. Ды і вопыту не было.

— Дык што, начальнік штаба, ты тожа лічыш, што мы дарма тут зімуем?

— Не лічу. Дзе было лепей зімаваць — тут ці па сваіх раёнах,— ніхто не ведаў. А людзей трэба было захаваць, таму рашэнне правільнае.

Вакуленкава злосць пачынае аціхаць, ён увачавідкі вясялее.

— Ну, дзякуй табе хоць за ета. А то да мяне слухі даходзяць, што Лаўрыновіч іначай думае. Тыдзень, як прыляцеў з Масквы, а да нас і носа не паказвае. Сядзіць у Мінскім штабе і атрады дзеліць. Пра нас быдта мысль цвёрдая: адседжваемся.

— Слухаў не слухай,— жартуе Бондар.— Ім не надта трэба верыць. А калі што, дакажам паперамі. Я, Адам Рыгоравіч, не дарма ў цябе два месяцы хлеб ем. У мяне ўсё як мае быць запісана.

Уваходзіць гаспадыня, кідае перад грубкай бярэмак дроў. Вузкатварая, чарнявая, даволі яшчэ маладая і прывабная, яна весела бліскае шэрымі вачамі, як бы з насмешкай зірнуўшы на камандзіраў, трое з якіх сядзяць за сталом, а двое, не расапрануўшыся, трымаючы шапкі ў руках, стаяць пасярод пакоя.

— То, дарагія госцейкі, можа, вячэраць будзеце? На ўсіх падаваць ці толькі сваім? Лепей усім разам, а то яшчэ пасварыцеся.

Вакуленка, са спрытам, трохі незвычайным для яго медзведзяватай фігуры, матлянуўся да гаспадыні, абняў за плечы, прыхінуў да сябе.

— Люблю цябе, Каця. Хоць бы адну ночку падаравала.

— Аге, любіш.— Каця не робіць ніякай спробы вырвацца з абдымкаў.

— Магу замуж узяць. Пойдзеш за мяне?

— Пайду. Чаму не пайсці? Такі дабрэнны кавалер.

— То давай цяпер. Нашто адкладваць? Начальнік штаба нас запіша. Ён у нас як да вайны загс.

— Няхай запісуе. Я згодная. Толькі я хацела папытацца, ці паспеў запісаць Нюрку з Барсукоў?

— Якую Нюрку? Што ты гаворыш, Каця?

— Тую, што на кані катаў. На саменькім сядле. Па ўсім сяле вазіў.

Вакуленка, выпусціўшы гаспадыню з абдымкаў, гучна рагоча.

— Нагаворы. А калі што і было, то толькі па п'янаму дзелу.

— А Вера з Бывалек? З ёю на асобнай кватэры жыў. Фіраначкі на вокнах, занавесачкі павесіла.

— Кінь, Каця. Нашто ўспамінаць леташні снег.

— Магу сёлетні. У маёй хаце штаб, а ты хоць адзін вечар пасядзеў са мной? Можа, я сама хацела, каб пасядзеў. Старэць стаў, камандзір. Да адных маладзенькіх горнешся.

Вакуленка не крыўдуе. Матляючы вялікай кудлатай галавой, сам сабе пасміхаецца, відаць, здзіўляючыся з праніклівай Кацінай бухгалтэрыі, якая занатавала кожны яго няправедны крок.

Вячэраюць напачатку сумнавата. Лянiва хрумстаюць агуркамі, падоўгу варочаюць у пальцах кожную бульбіну. Нарэшце Вакуленка не вытрымлівае:

— Вып'ем патроху, хлопцы. Чорт яго бяры! Усё адно наш штаб, мабыць, не ўдзержыцца. Лаўрыновічу нашэптваюць розныя. У Дзяругі быў, у Міхнаўца, у Гаркушы, а да нас усё не збярэцца. Новая мятла добра мяце. Хоць без нас, думаю, і Лаўрыновіч не абыдзецца. Прынясі, Каця.

Калі гаспадыня, прымарудзіўшы ў пярэдняй палавіне хаты, прынесла і паставіла на стол трохі задымлены графін з рудаватай вадкасцю і некалькі шклянак, пасадзілі і яе. Добры гумор, можна лічыць, наступіў пасля першай шклянкі. Гаспадыня доўга аднекваецца, але, насеўшы грамадой, прымусілі і яе трошкі выпіць.

— Ты не абіжайся, Петравец.— Вакуленка сядзіць, падпёршы рукой галаву, і амаль не закусвае.— Тут, бачыш, якая механіка. Калі палавіна твайго атрада тут, а палавіна — у раёне, то Лаўрыновічу вельмі проста наступіць нам на хвост. Скажа: вот паглядзіце, дзержацца людзі ў раёне і немцаў не баяцца. Не выпусцілі ім кішкі немцы, а вы збіліся, як авечкі ў спякоту, і толькі гнід адзін у аднаго шукаеце. Можна падысці да такога дзела з другога боку. Батура там вельмі бдзіцельнасць праяўляе. Па-мойму, кішка тонкая, дык бесіцца. Падумаеш, атрад — шэсцьдзясят пар лапцей. Але Лаўрыновічу будзе за што зачапіцца. Не хвалюйцеся.

— Трэба ехаць туды,— гаворыць Бондар.— Дазволь мне з Петраўцом, Адам Рыгоравіч. Возьмем з сабой чалавек трыццаць. Каб не падумаў Батура, што распраўляцца прыбылі. Адзін наш на двое іхніх.

— Ездзіце, ходзіце, а калі спакой настане? — гаспадыня ўздыхае.— Дзе беднаму чалавеку абарону знайсці? Вот сяджу я, удава, з дзецьмі, а да чаго дасяджуся? Хоць бы дзяцей уберагчы...

— Не сумуй, Каця.— Вакуленка, працягнуўшы руку цераз стол, гладзіць гаспадыню па валасах.— Мы настаяшчыя парцізаны і свой народ у крыўду не дадзім. Ну, падумай — вот тут, у Сасновіцы, мы дажа паліцэйскіх сем'яў не зачапілі. Яны нашы сем'і расстрэльвалі, здзекаваліся, а мы іх не чапаем. Сядзяць ціха — няхай сядзяць. Ну, а што я благога зрабіў свайму народу? Можа, якую маладзіцу ці дзеўку, выпіўшы, прытуліў, дык, ты думаеш, вельмі яны брыкаліся? На добрае ж, як кажуць. Нявіннай крыві я не ліў і ліць не буду. Можа, хіба дзе памылка выйшла. Усё ж такі тысячы людзей — чорненькіх, рабенькіх, паласаценькіх,— сярод іх, можа, дзе якому ангелу хвост прыціснуў.

— Пойдзеце вы, і прыйдуць немцы,— працягвае гаспадыня.— Пастраляюць нас усіх. Як у той Рудобелцы. Процiў танкаў у вас сілы няма. Немцы ж не шукаюць, хто праў, а хто вінен. Ім абы болей людзей пастраляць. Знішчаюць народ.

— Не вешай носа, Каця. Калі прыйдуць немцы, то і вы з намі будзеце. Як-небудзь у лес дарогу пакажам. Ну, спаляць хаты, хлявы папаляць. Чорт іх бяры. Новыя пастроім. Яшчэ лепшыя. Абы самі жывы былі. Ды і немцы, Каця, цяпер не тыя. У Сталінградзе ім мяшок завязалі. Глядзі, што Першы май будзем без немца святкаваць...

Выпілі яшчэ па шклянцы, трохі паспявалі. Вакуленка, які, здаецца, прапусціў міма вушэй тое, аб чым гаварыў Бондар, устаючы з-за стала, загадвае:

— Заўтра вазьміце людзей — і да Батуры. Каб самавольнікі былі тут. Без ніякіх гваздзёў.

## II

Плыве над Палессем ціхая светлая ноч. Неба засеяна бясконцым мноствам зорак — адны з іх яркія, буйныя, яны мігцяць, як далёкія агеньчыкі, другія ледзь-ледзь прабіваюцца серабрыстымі малапрыкметнымі іскрынкамі. На ўсю сярэдзіну неба пралёг як бы ахутаны павалокай туману, таямнічы Млечны Шлях. Колькі часу вісіць над цёмнай зямлёй неба і што думаюць людзі, гледзячы на далёкія, недасяжныя зоркі?..

Бондар выбраўся на вуліцу. Спіць Сасновіца, і толькі свецяцца кволыя агеньчыкі ў каравульным памяшканні і ў хаце, дзе размешчаны шпіталь. Дарога, прысыпаная лёгкім сняжком, падшэрхла. Далёка чуваць крокі — трашчыць пад нагамі хрупасткі лядок. Адразу за агародамі цёмная сцяна сосен — ад яе на снег падае сінявата паласа ценю. З лесу цягне вострым пахам смалы, зялёнай хвоі, прыхопленай марозцам зляжалай ігліцы, церпкім водарам багуна.

Пракрочылі два патрулі, але, пазнаўшы начальніка штаба, маўкліва прапусцілі, рушылі ў цёмны канец вуліцы.

Два месяцы табарам стаяць за Пціччу партызанскія атрады Палесся. Падлаталіся, абшыліся, трохі пазатыкалі дзіркі з узбраеннем і боепрыпасамі. Немцы за гэты час чапалі іх мала.

Былі дзве ўпартыя стычкі ля вёскі Грабаў, але, адчуўшы моц партызанскіх сіл, немцы болей не палезлі.

Спіць партызанская Сасновіца. У кожнай хаце, раскінуўшы на падлозе куль саломы, акрыўшыся шынялямі, світкамі, паддзёўкамі, адсыпаюцца па восем—дзесяць хлопцаў. А другія — у паходзе. Патаемнымі сцежкамі, нябачнымі дарогамі штоночы адпраўляюцца групы да гарнізонаў, да чыгункі. Іх, бадай, нават болей, чым тады, калі атрады не пакідалі стойбішчаў. Чыніць дыверсіі стала цяжэй — немцы паўсюдна высеклі ўзбоч палатна лес, а ў некаторых мясцінах панаставілі жалезных сетак, замініравалі падыходы. Бывае, што, каб дабрацца да рэек, поўзаюць хлопцы па снезе па тыдню. Але, нягледзячы на ўсе перашкоды, грыміць чыгунка.

Бондар падыходзіць да хаты, якая ў адрозненне ад астатніх стаіць удоўж вуліцы. У нерашучасці спыніўся, зірнуў на цёмныя вокны. Хутчэй за ўсё Гэля начуе тут, у санчасці. Днём прывезла параненага, як бы ненарокам забегла ў штаб.

Увесь месяц ён ловіць сябе на тым, што думкі пра Гэлю не прыносяць радасці. Няма да яе ні добрых, ні якіх-небудзь іншых пачуццяў. Разышліся назаўсёды, і ад гэтага, калі прызнавацца самому сабе, нават прыемна. Разарванага — трывала не звяжаш. Збліжэнне, якое наступіла мінулай зімой у Гарбылях, а затым працягвалася ў атрадзе, радасці не прынесла ні ёй, ні яму. Бондар ідзе далей, прыслухоўваючыся, як патрэсквае пад нагамі тонкая скарынка лёду, як тут, на паветры, прыемнай свежасцю поўніцца галава. Сувязь з Гэляй як бы нагадвала палон, і ў апошні месяц з палону ён вырваўся. Ад гэтага прыемна. Ён як бы п'е слодыч пачуцця свабоды. І ён, і яна пацягнуліся адно да другога ад душэўнай слабасці. Ад няпэўнасці становішча. У іх адносінах было ўзаемнае спачуванне, спагада, але, відаць, такія пачуцці крылаў не даюць.

У Гарбылях немцы расстралялі старога Салаўя, Гэлінага бацьку. Старую і дачку ўдалося вырваць. І менавіта тады, калі Гэлі было асабліва цяжка, між імі наступіў разрыў.

Бондар дабрыў да канца вуліцы, да таго месца, дзе сосны расступаюцца, адкрываючы позірку зарослае кустоўем гала. З-пад сцяны хаты вынырнула цёмная постаць, клацнула затворам, маладым ломкім голасам спытала пароль. «Маздок»,—

сказаў Бондар. «Магілёў»,— пачуў ён у адказ, і цёмная постаць зноў прыліпла да сцяны.

Снег наўкола парадкам прычарнеў. Ад снежных валкоў, якія прыкметна аселі, ад упадзін лагчынак, дзе стаілася начная цемень, на полі, здаецца, мільгацяць няроўныя сіняватыя палосы. Сосны заціхлі ва ўрачыстым маўчанні. Ні зыку, ні шолаху.

Бондар бачыць ля дарогі незнаёмы цёмны слуп, падыходзіць да яго. Гэта не слуп, а крыж. Пастаўлены нядаўна — ля падножжа прыкметна выдзяляецца чорны кружок зямлі. Бондара агортваюць невясёлыя думкі. Баяцца людзі нямецкай кары. Таму ставяць крыжы, нават ручнікамі абвешваюць.

## III

Ціха, але трывожна, з затоеным страхам пражыло першыя месяцы зімы сяло Піляцічы. Занесеныя шчыльным покрывам снегу дрэмлюць някідкія шматкі палёў, разложыстыя балотцы, задумна ціснуцца да паселішча з поўначы рэдкія сасоннікі і бярэзнікі. Раніцай, як звычайна, падымаюцца з комінаў хат шызыя дымы, пачынаецца людскі рух. Едуць людзі на балота па сена, возяць з лесу дровы. З вуліцы можна пачуць скрыгат і шоргат амаль у кожнай хаце. Мелюць на жорнах зерне. Рыкаюць каровы, брэшуць сабакі...

Да жонкі бургамістра Спаткая, які з Піляціч збег, хаваецца пад крыльцамі немцаў у мястэчку, вечарам заходзіць Батура. Доўга ābабівае снег на ганку, а ў сенечках, перш чым зайсці ў хату, стукае ў дзверы. З пакоя азываецца звонкі, малады голас.

Гаспадыня завіхаецца ля печы. Бліскае на Батуру залатым зубам, абмахвае ручніком табурэтку, ставіць ля стала.

— Сядайце, калі ў хату прыйшлі.

Батура расшпільвае шынель. Садзіцца, шапку-будзёнаўку з зоркай кладзе на стол. На хвіліну ўсталёўваецца няёмкае маўчанне.

— Я па дзелу,— гаворыць Батура.— Вы жонка бургамістра Спаткая?

— Хіба ты забыў, як мяне завуць, Саша? Якія вы пасталі сур'ёзныя, паначапляўшы на плечы ружжаў. Помніш, у саракавым годзе, як прыязджаў з арміі, праводзіў мяне дадому?

Батура чырванее. Спаткаіха яўна хоча збіць яго з афіцыйнага тону, на які ён, ідучы ў гэтую хату, настроіўся.

— Замужам за бургамістрам Спаткаём былі вы, а не хто другі.

Яна стаіць ля печы, расчырванелая, з чапялой у руках, насмешліва пазірае на Батуру.

— У загс я з ім не хадзіла, і поп нас не вянчаў.

Батура пачынае нерваваццa. Трохі павысіўшы голас, выпальвае з гневам:

— Чаго хвастом віляеш? Ведаюць усе, што з прошлага лета жыла са Спаткаём. Ну, няхай Спаткай жыў у гэтай хаце. Адзін чорт. Я па дзелу прыйшоў, а не зубы выскаляць.

На нейкае імгненне прыгожы твар жанчыны перасмыкаецца грымасай злосці.

— Дарагі Саша, калі ты такі спрос, то я табе нештачка скажу. З прошлага лета ў мяне, можа, дзесяць такіх мужоў, як Спаткай, было. Чаму пра другіх не пытаеш? Вынімай блакнот, запісувай. Пра ўсіх па парадку. Спаткай у мяне быў для харчу. Пайка мне не давалі. Каня і каровы не было.

Якраз у гэты момант з пярэдняга пакоя вынырае Міша Ключнік. Тоіць на губах усмешку, але пазірае нахабна, з выклікам. Батура нямее.

— Ты чаго тут?

— Таварыш Батура, я падчыняюся не вам, а камандзіру роты Ткачу. Камандзір узвода мае права выбіраць кватэру дзе хоча.

Батура бялее, устае, вымае з кішэні наган.

— Вот што, Ключнік. Спаткай з Князевым расстралялі маю маці і сястру, а не тваіх. Дазволь мне разабрацца, хто вінаваты. Загадваю табе: вынось хутчэй ногі! Не падчынішся — буду страляць. Наогул забараняю займаць кватэры паліцэйскіх, старастаў і прочай сволачы... Не трэба самаўпраўнічаць!..

Ключнік супраціўляцца не адважваецца. Шуснуў у чысты пакой, апрануўся і, ужо стоячы на парозе, прымірэнча сказаў:

— Ладна, пайду. Ты, Саша, на Зіну не даві. Ну, прыстаў да яе Спаткай, прыстрашыў. Сам ведаеш. Якая яна жонка яму?

Зіна, прыхінуўшыся да печы, плача.

— Я не помсціць прыйшоў, Зіна,— лагадней гаворыць Батура.— Думаеш, не ведаю, каб хацела ўцякаць са Спаткаём, то ўцякла б. Я таму і прыйшоў. Скажы лепей — Спаткай цябе не заве?

— Заве,— выціраючы слёзы рукавом, адказвае Зіна.

Яна ідзе ў чысты пакой і праз хвіліну вяртаецца, несучы ў руках два невялікія аркушыкі, спісаныя хімічным алоўкам.

Батура з прагнасцю накідваецца на Спаткаёвы пасланні. Па меры таго як ён прабягае вачамі паперку, гнеў усё болей авалодвае яго сухой, выпетранай на вятрах і халадах істотай. Вычытанае нібы б'е Батуру абухам па галаве. Бургамістр, якому там, у Бацькавічах, даводзіцца не соладка, пасля прывітанняў, пяшчотных слоў, адрасаваных маладой Зіне, пераходзіць да лютых пагроз партызанам. Як бы хоча паказаць нядаўняй жонцы, што мае яшчэ ўладу, таму пералічвае ўсіх, каго, вярнуўшыся ў Піляцічы, расстраляе або павесіць. Сярод другіх прозвішчаў ёсць Батурава.

Але найбольш уражвае Батуру Спаткаёва дасведчанасць. Піша, што партызан мала, што яны слаба ўзброены, абяцае ў хуткім часе іх разагнаць.

— Хто прынёс? — не пазіраючы на Зіну, хрыпла пытае Батура.

— Кінь, Аляксандр. Прыходзіла баба з мястэчка, прынесла. А другое — Вострыкавай Насці перадаў Спаткай. Сустрэў у мястэчку на вуліцы і перадаў. Цяпер ён, як цюцька, там. Насця хадзіла ў Бацькавічы па соль. Сноўдаецца па вуліцы.

— Вострыкава Насця! — як бы штосьці ўспомніўшы, мармыча Батура.— Яе ж брата, здаецца, уходалі летам. Тады, як гнаў маладых у Германію. Зразумела.

Зіна спалохалася. Адразу, як толькі Батура зайшоў у хату, яна адчула, што з гэтым чалавекам, які носіць на твары хмурую зацятасць, будзе цяжка гаварыць. Забрыдалі да яе ў дом другія партызаны, асабліва на першым часе, калі Спаткай толькі збег у мястэчка. Лаялі, зневажалі, нават забралі во-

пратку, што належала валасному бургамістру. Але ніколі не адчувала яна сябе так бездапаможна, як цяпер.

— Аляксандр, не хацела гаварыць, ды скажу. Каб на другіх людзей не думаў. Спаткай сам тут быў. На каленях поўзаў, прасіў, каб ішла з ім у мястэчка. Ды я яму доўга заседжвацца не дала. Узяў трохі бялізны, сала. Прыходзілі ўночы з Князевым. Толькі той у хаце не быў. Стаяў за вуглом, пільнаваў.

— Калі прыходзілі? — бялеючы з твару, дапытваецца Батура.

— Тыдняў два таму. Як была мяцель. Уночы прыйшлі, уночы пайшлі.

Батура падхопліваецца, нервова крочыць па хаце. Нарэшце, прыцішыўшы голас, гаворыць:

— Добра, што сказала. Мы гэтага не забудзем. А цяпер вот што, Зіна. Я пастаўлю да цябе двух чалавек. Пачала памагаць, то памагай. Напішы Спаткаю, каб прыйшоў. Табе ён паверыць.

Зіна зачырванелася, адмоўна заківала галавой...

— Не, Аляксандр, што б пра мяне ні гаварылі, але на такое не пайду. Мне не шкода Спаткая. Лавіце, карайце. Толькі сваімі рукамі ямы капаць яму не буду. Яшчэ не дайшла да гэтага...

І ў жыцці асобнага чалавека, стомленага згрызотамі, няўдачамі, прадчуваннем бяды, бываюць часіны, калі навакольны свет здаецца варожым, здрадлівым, калі халоднай вужакай запаўзае ў душу трывога. Губляе тады чалавек веру ва ўласныя сілы і, можа, па той прычыне, што глядзіць на жыццё праз цёмныя акуляры, перастае бачыць такім, як ёсць, навакольнае жыццё. Гэта хвароба душы, пошасць, і шчаслівы той, хто яе абміне. Колькі распалася згодных сем'яў з-за сляпой недарэчнай рэўнасці, колькі сяброў-таварышаў зрабіліся ворагамі, не здолеўшы разабрацца ў сваёй крыўдзе. Чалавек, у якога пахіснецца вера ў сябе, жорсткі. Нясе ён пакуты, боль і нават смерць другому чалавеку.

Але куды страшней, люцей спраўляе свой чорны баль хвароба недаверу, калі яна зачэпіць, аблытае многіх. Наступае як бы ўсеагульнае памутненне розуму. Тады няма ў паміне добрай рады-парады, якая, здаецца, толькі і павінна быць на людзях...

Зімовым вечарам, пасля таго як Батура пагаварыў з жонкай валаснога бургамістра і паклаў сабе ў кішэню Спаткаёў ліст да яе, тут жа ў Піляцічах, у халодным забруджаным памяшканні школы, вынікла сходка партызан той часткі Дамачоўскага атрада, якія за Пціч не рушылі, асталіся на Літвінаўшчыне, бліжэй да сем'яў. Вартавых выставілі чалавек дзесяць — на ўсіх вуліцах і завулках. Прэзідыума няма, пратакола ніхто не вядзе. У самым вялікім класе, які паліцыя пераабсталявала пад казарму, на нарах, сталах, проста ля сцен сядзіць з паўсотні партызан.

Пануе затоенае маўчанне.

На сцяне, на цвіку, цьмяна паблісквае ліхтар, і гэтае мігатлівае, няпэўнае святло яшчэ болей падкрэслівае трывожнасць і няўстойлівасць моманту.

На сярэдзіну вузкага круга выходзіць Батура. Ён у старым чырвонаармейскім шынялі, на галаве — вастраверхая шапка-будзёнаўка. Начальства ў атрадзе фактычна няма. Камандзір Петравец і камісар Лісавенка, прысланыя восенню з Акцябрскага раёна, пакіравалі за Пціч. Дый не ўкараніліся, не прыжыліся яны за той месяц ці два, што пабылі ў атрадзе. Старыя, заслужаныя партызаны, якія выстаялі тут, на месцы, мінулую зіму, не бачылі патрэбы ісці за Пціч, аддаляцца ад родных вёсак цяпер, калі паліцэйскія гарнізоны развеяны.

— Фашысты гатовяць нам пастку,— гаворыць Батура, стоячы пасярэдзіне пакоя.— Ведаюць пра нас усё. Колькі ў атрадах і хто ў атрадзе. Склалі спіскі, каго вешаць, а каго расстрэльваць. Магу пазнаёміць...

Тут ён вымае з кішэні лісты Спаткаёвых пасланняў да Зіны, зачытвае найбольш выразныя мясціны.

— Хто пісаў? — чуецца трывожны голас.

— Спаткай. Хто знае яго почырк, прашу пацвердзіць...

Лісткі ідуць па руках. Тое, што пісаў лісткі вораг, а трапілі яны да партызан, падымае Батуру ў вачах людзей. Усім здаецца, што Батура ведае больш, чым гаворыць, валодае асаблівымі сакрэтамі.

— Магу дабавіць,— працягвае Батура.— Два тыдні назад Спаткай і Князёў былі ў Піляцічах. Нашы пасты іх прапусцілі.

## IV

Ноччу ўзняўся вецер. У былым памешчыцкім парку глуха зашумелі старыя ліпы і клёны. Заскрыпеў сам дом — даўно не жылы, з выдранымі вокнамі, дзвярамі. Дом гэты віднеецца цёмным прывідам, выклікаючы ноччу нядобрае пачуццё ў падарожнікаў.

За паркам чарнеюць лозы. Вялікае, раскіданае сяло Піляцічы толькі з аднаго боку прымыкае да лесу. Увогуле яно навідавоку, бо размясцілася на пясчаным, адкрытым вятрам пагорку. Вакол — роўнядзь занесеных снегам тарфянікаў.

Два чалавекі, мінуўшы парк, выходзяць на дарогу, у нямую, начную цемень. Ідуць павольна, не спяшаюцца, трымаюцца за рамяні вінтовак, якія ў іх за плячамі.

— Паверыў бы ты, Панас,— гаворыць адзін з іх, Анкудовіч,— што ў сябе дома будзем вот так хадзіць? Туляцца, як зайцы.

Анкудовічаў субяседнік Яўтушык — вялікі, няўклюдны, моўчкі валюхае ззаду. На галаве ў яго сшытая з аўчыны кучомка, на нагах — пасталы. За тыя тры месяцы, што партызаны валадараць у вакольных вёсках, можна было разжыцца на боты ці чаравікі, але Яўтушык пра сябе не дбае.

Абодва ідуць да сем'яў — Анкудовіч у Азяркі, дзе жыве жонка з трыма дзяцьмі, а Яўтушык далей, у Лазавіцу. Яго сям'я большая: адных дзяцей пяцёра. Пасля таго што расказаў Батура, усе кінуліся да сем'яў. Цяперашняе партызанства наогул складаецца з таго, што ўсе ездзяць ці ходзяць ад сяла да сяла. Дзе днююць, там не начуюць. За гэтыя месяцы парадкам распусціліся. Каторы і за стол не сядзе, калі гаспадыня не паставіць яечні і бутэльку. Немцаў, вядома, патроху тармошаць. Яны цяпер пападціскалі хвасты — з гарнізонаў і будак носа не вытыркаюць. Чуюць, адкуль вецер дзьме...

— Дзіўна, як Спаткай з Князевым адважыліся паткнуць нос у Піляцічы? Можа, адчулі сілу?

— У Спаткая гнілая душа,— гаворыць Анкудовіч.— Родам ён з-за Прыпяці. У калектывізацыю ў нас выплыў. Загадваў хатай-чытальняй. Я адзін раз тады яшчэ заменіў. На ячэйцы ў Піляцічах пастанавілі закрыць цэркаў. Ну, адным словам,

вынеслі ўсё, каб багамольцам не было як маліцца. Я тожа пайшоў. Перагіб, канечне, але было, сам ведаеш. Зламалі ноччу замок, улезлі. Забіралі самае цэннае — залатыя, пазалочаныя крыжы, серабро. Узялі, помню, адну скрыначку. Цяжкая, мабыць, сярэбраная. А калі ўсё прынеслі ў сельсавет, сталі вопісь рабіць, скрыначкі няма. Тады ўжо на Спаткая ўпала падазрэнне.

— Не разгледзелі, што не тым духам дыша,— азываецца Яўтушык.

— Як ты разгледзіш. Думаеш, Спаткай што-небудзь паганае ў палітыцы рабіў? Ну, можа, толькі за каўнер заліваў. З Аўчаром ён даўно знюхаўся. Сам ведаеш, якое жыццё было. Кампанія за кампаніяй. Выспацца не было калі. А выступаў Спаткай правільна. Дзісцыпліну ўмеў дзяржаць. У раёне яго цанілі. Малако, мяса сельсавет выконваў.

Пасвістае вецер у рэдкім ракітніку. Наперадзе, троху ўзбоч ад таго месца, дзе чарнее вёсачка Пажыць, як бы бліснула некалькі мігатлівых аганькоў.

— Глядзі, Панас,— Анкудовіч спыніўся.— Ля Пажыці нехта як закурыў. Бачыш, бачыш, зноў бліснула.

Астанавіўся і Яўтушык. Стаў насцярожана ўглядацца туды, куды паказваў Анкудовіч. Сапраўды, у двух ці трох месцах як бы ўспыхнулі, адразу пагасшы, зеленаватыя аганькі.

— Ваўкі,— упэўнена сказаў Яўтушык.— Распладзілася погані. Гайсаюць гання за ганнёй. Я надоечы з Лазавіцы ішоў, дык бачыў. Тады яны яшчэ і вылі.

Мужчыны здымаюць з плячэй вінтоўкі. Ідуць, трымаючы іх у руках.

— Давай стрэльнем,— гаворыць Яўтушык.

— Не трэба, вэрхал падымецца.

— Вецер нам у бок. У Піляцічах не пачуюць.

— То ў Пажыці пачуюць.

— А хіба хто з нашых у Пажыці?

— Хто-небудзь начуе.

Яшчэ праз паўгадзіны яны дабіраюцца да Пажыці. Воўчая гання знікае з відавоку. Малая, у адну вуліцу, вёсачка спіць. Ні аганька ў вокнах, ні зыку. Чарнеюць прыземістыя хаткі,

акрытыя каптурамі снежных дахаў. Вецер паўднёвы, і сабакі, мабыць, не чуюць ваўкоў. Не брэша ніводны.

На балоце дарога была чыстая, роўная, а тут ля парканаў, платоў ляжаць вялікія снежныя гурбы. Некаторыя хаткі занесены да самых акон. Калі мужчыны дайшлі да сярэдзіны вёсачкі, загарланілі пеўні. Адзін, затым другі.

— Самая поўнач,— гаворыць Яўтушык.— Можа, зойдзем да каго? Нашто па ночы пёрціся? Яшчэ, праўда, нападзе якая гання. Перасядзім трохі.

Анкудовіч у нерашучасці спыняецца.

— Хіба да Маланні?

Яўтушык рагоча.

— Не бойся, Трахімавіч, жонцы не скажу. А мяне саромецца нечага. Мабыць жа, у кожным сяле маеш. Глядзі што і не па адной.

— Ат, хопіць язык часаць. Давай зойдзем.

Яны праходзяць яшчэ з гоні і зварочваюць у перадапошні двор. Варот, плятня ў гэтым двары няма, хатка з хлевушком, які шчыльна да яе прытуліўся, стаіць як бы сярод голага поля.

Анкудовіч падступае да нізенькага акенца, стукае ў шыбіну. Доўга не чуваць адказу. Нарэшце ў акне мільгае белая постаць.

— Хто там? — чуецца з хаты.

— Адчыні, Малання. Свае. Партызаны.

Ляскае засаўка, мужчыны ступаюць спачатку ў халодныя сенечкі, а затым і ў хату. Патыхае ў твар цёплым, кіславатым паветрам.

— Цябе, Трахімавіч, пазнала,— маладым, гуллівым голасам гаворыць гаспадыня.— А другі хто?

— І мяне ведаеш. У Лазавіцы на вячорках гулялі.

— Ці не Яўтушык Панас?

— Собсцвеннай персонай. Генерал ад інфанцерыі, ета значыць, ходзім пешкі. Дазволь абагрэцца. Ваўкі, каб на іх немач, гоцаюць па полі. У вас нічога не сцягнулі?

Чуваць, як Малання ўсплясквае рукамі.

— Ваўкі? Хведараў сабака прапаў. Якраз учора ўночы. Думалі, збег.

— Я гляджу, маўчаць вашы сабакі.— Яўтушык знаходзіць лаву, садзіцца.— Ні адзін не брахнуў. Думаў, не чуюць — вецер з другога боку. А яны хвасты пападцiскалі. Ваўкоў баяцца.

Малання ў накінутай на голыя плечы жакетцы тым часам шоргае ў печы качаргой, выграбае вугольчык. Доўга дзьмухае, прыклаўшы да яго трэсачку, і вось ужо мільгае ў хаце трапяткі язычок капцілкі, асвятляючы абшарпаную печ, цемнаватыя, з рудымі падцёкамі сцены, танканогі, нічым не засланы стол у куце. Ні табурэтак, ні крэслаў няма. Ля стала стаіць чурбачок, а ўвогуле месца для сядзення замяняюць дзве шырокія лавы, якія цягнуцца ўздоч сцен. Убогі пажытак, як, бадай, у кожнай сялянскай хаце.

— Вокны завешу.— Малання бярэ з ложка дзяружку.— А то заўтра будзе пагалоска. Будуць біць як у званы.

Анкудовіч, прыхінуўшыся да печы, грэе спіну.

— Няхай гавораць. Зона тут партызанская.

— Да адзінокай бабы ўсякая звяга прыстае. Мылам не адмыеш. Каб хоць вы днём зайшлі. А то ноччу, як палюбоўнікі.

Яўтушык падміргвае гаспадыні.

— А чым паганыя палюбоўнікі. Хлопцы як на падбор. Выбірай, Малання.

— Я ўжэ даўно выбрала. Вунь на печы грачанікі. Толькі дзе той бацька?

З печы звесіліся дзве чарнявыя, як і ў маткі, галоўкі. Дзеці прачнуліся, з прагнай цікавасцю пазіраюць на чужых мужчын.

— Нічога не чутно пра Андрэя? — пытае Анкудовіч.

— Нічога. Можа, галаву зложыў ці дзе ў палоне. Я ж табе, Трахімавіч, ужо гаварыла, здаецца. Летась вярнуўся Базылёў Аляксей з Буйкоў. Уцёк з Бабруйска, з лагера. Разам з маім хадзілі на прызыў. Бегала да яго. Нічога пра Андрэя не ведае. Кажа, іх разлучылі яшчэ ў Бранску, як на фронт адпраўлялі.

Яўтушык верціць цыгарку, прыпальвае ад капцілкі. Сядзіць, расставіўшы ногі, з прыемнасцю пыхае смярдзючым дымам.

— На фронце твой Андрэй. Ведаеш, Малання, як даюць цяпер немцам прыкурыць? Гоняць ва ўсе лапаткі. Аж гай шуміць. Калі будуць так гнаць, то глядзі, што да лета твой

Андрэй дома будзе. Яшчэ каго-небудзь з нас загрудкі возьме. Я, скажа, ваяваў, а вы, чэрці лазатыя, што рабілі? Чужым бабам панчохі падвязвалі.

— У Сталінградзе акружана нямецкая армія,— пацвярджае Анкудовіч.— Трыста тысяч чалавек.

Малання збіраецца частаваць гасцей. Стол заслала настольнікам, дастала з паліцы акрайчык хлеба. Матлянулася ў сенечкі, прынесла місу кіслай капусты. Нарэшце ўздымае маснічыну, дастае з прыгрэбніка бутэльку самагонкі.

Па вёсцы наперабой спяваюць другія пеўні.

— Садзіцеся, мужчыны,— запрашае гаспадыня.— Сталінград той далёка, Бог яго ведае, як будзе. А вам тожа нялёгка. Бадзяецеся без жонак. Мабыць, мохам пазарасталі,— яна раптам засмяялася.— За тыжджань не адмыеш. Вунь у нас жонкі адны без мужыкоў парацца. Лазня харошая, увесь ваш атрад памесціцца. Падышоў бы каторы.

Яўтушык, у чым сядзіць, падсоўваецца па лаве да стала.

— Як няма мужчын? Поўна лбоў. Ляжаць на печы, чухаюцца. Мы вот зараз мабілізацыю правядзём. Родзіну ўсе зашчышчаць павінны.

— Якія тут мужчыны? Цераз два двары на трэці. З акружэння трохі вярнулася. Дык то і ўсе.

Анкудовіч, перш чым сесці за стол, распранаецца. Паўкажушок, вушанку вешае на цвік, прыгладжвае рукой валасы. Увогуле ён сочыць за знешнасцю. Сінія галіфэ, гімнасцёрка, падпаясаная шырокім рамянём. Рэдка які камандзір цяпер так апрануты.

Мужчыны выпіваюць па шклянцы, а гаспадыня разам з імі — чарачку. Хрумстаюць капусту — у іх, бадзяг, апетыт заўсёды напагатове. Хлеб кончыўся, а гарэлка ў пляшцы астаецца. Гаспадыня, не бачачы выйсця, ставіць на стол місу зваранай у шалупінні бульбы.

— Солі няма,— гаворыць, як бы просячы прабачэння.— Мучацца людзі. Без солі ўсё, як трава. Не лезе ў рот. У мяне і кабанчык ёсць, ды няма як закалоць. Якое ж будзе сала і мяса без солі?

— Без солі нельга,— пацвярджае Яўтушык.

— На балоце ўгнаенне засталося. Некаторыя ходзяць, бяруць. Але горкае яно. Я раз бульбу пасаліла, дык дзяцей хапіла за жываты. Трэба сабраць якіх яец ды ў мястэчка. Можа, хоць хунт солі разжывуся.

— Нельга ў мястэчка,— перасцерагае Анкудовіч.

— Чаму нельга? Як жа без солі?

— Там цябе немцы зловяць. Заставяць расказваць пра партызан.

— А то яны самі не ведаюць, што вы тут. Калі прагналі паліцэйскіх, то цяпер вы валадары.

— Пытаць будуць, колькі нас, якое аружжа.

— Ат, не гавары дурнога, Трахімавіч. Колькі вас, я і сама не ведаю. Хто будзе на сваю галаву бяду наклікаць? Ходзяць жа бабы ў мястэчка. Рады б не хадзіць, ды што зробіш. Вы ж толькі ўласць захвацілі, а ні карасіну, ні сярнік даць не можаце. Самі без солі пухнеце.

— Разаб'ём гарнізон і дадзім усё,— абяцае Анкудовіч.— Пацярпі трохі, Малання. Вот хутка злучымся з галоўнымі сіламі.

— Калі ета будзе, Трахімавіч? На мястэчка ў вас усё адно рукі кароткія. Там жа салдаты, у іх кулямёты, цехніка. А ў вас адны ружжы. Думаеш, мы, дурныя бабы, не ведаем. Але люблю цябе за тое,— Малання, мабыць, трохі сп'янела,— што носа не вешаеш. Бадзёрыш народ. Давайце яшчэ вып'ем, мужчыны.

Анкудовіч згодна ківае галавой. Яўтушык даўно заўважыў у ім гэтую рысу — згаджаецца з тым, што гавораць другія, падтаквае. І ў баю ён не сказаць, каб смелы, а вот бабы яго любяць. Прошлую зіму, як валадарылі паліцэйскія, старасты, вось так, па бабах, і перахаваўся. Дый з паліцэйскімі задзіраўся не вельмі.

Выпілі рэшткі гарэлкі, з'елі капусту, бульбу. Твар у Маланні запунсавеў, яна, не зважаючы на Яўтушыка, то дакранецца да Анкудовічавай рукі, то да пляча. Як бы паказвае сваю да яго прыхільнасць.

Палеглі спаць па лавах. Яўтушык на даўжэйшай, што цягнецца ля бакавой сцяны, Анкудовіч на папярочнай, якая бліжэй да ложка. Малання абодвум дала па падушцы.

Яўтушык ляжыць, з паўгадзіны не спіць, прыслухоўваючыся да шорахаў цёмнай, соннай хаты. Ужо далёка за поўнач. Недзе нясмела брахнуў сабака, азваўся другі. Ваўкі, мабыць, адышліся, сабакі іх болей не баяцца. За сцяной шастае вецер, ледзь чутна пазвоньвае слаба закітаванай шыбінай.

Яўтушык ведае, што калі побач жанчына, то Анкудовіч так проста ляжаць не будзе. Сам ён з жанчынамі ніколі смелы не быў і, мабыць, трохі зайздросціць такім вось хватам, як Анкудовіч. Але, з другога боку, яго не надта цягне да паспешлівых, у чымсьці абразлівых выпадковых сустрэч. Каб хацеў, то меў бы і ён каханак...

Назаўтра раніцай мужчыны дабраліся да Азяркоў. Як і Пажыць, яна мае адну вуліцу, цягнецца ўздоўж занесенага снегам балота. Хат тут болей, можа, цэлая сотня, але яны маленькія, пахілыя, з падслепаватымі акенцамі і вока выглядам сваім не радуюць. Забудаваліся Азяркі, мабыць, яшчэ пры паншчыне, ды з таго часу вось так і стаяць.

Анкудовічава хата нават горшая, чым астатнія. Сенечак няма, паркан разабраны на дровы, на голым, як бубен, двары гойдаецца пад ветрам адзінокая груша-дзічка. Сям'ю мужчыны засталі за сталом. Замурзаныя дзеці дружна боўтаюць драўлянымі лыжкамі ў вялікім закапцелым чыгуне. Пры паяўленні мужа жонка — высокая, хударлявая кабеціна, з вузкім злосным тварам — не толькі не выказала радасці, а нават не павіталася.

Анкудовіча такі прыём, аднак, не засмуціў. Ён распрануўся сам, запрасіў распранацца Яўтушыка і як ні ў чым не бывала пачаў распытваць жонку пра навіны. Тая маўчыць, але нарэшце не вытрымлівае.

— Бацька называецца. Валочыцца чорт ведае дзе. Дзеці галодныя, халодныя, а яму ні ў галаве.

— На заданні быў, Ганна. Што ты гаворыш?..

— Ведаю тваё заданне. Максім Боўтрыкаў і Пятро там, дзе і ты. Па два разы дадому прыходзілі. У іх жонак і дровы, і сена. А ў мяне што?

— Будуць дровы. Усё будзе.

— Пачакай, дазнаюся, да каго ты ў Піляцічах ходзіш. Вокны дзеркачом паб'ю. Няхай тады твая краля анучамі затыкае.

Брыдкая баба, думае Яўтушык. Анкудовіч жа ніштаваты мужчына, а такую брыду ўзяў. Нездарма ён ад яе бегае.

— Не паб'еш, Ганна, акон,— гаворыць Яўтушык услых.

— Чаму не паб'ю?

— Бо няма ў яго нікога ў Піляцічах.

— Усе вы такія. Адзін другога пакрываеце.

— Ты едзь у дальнія дзярэўні,— Яўтушык рагоча.— Там, дзе паліцыя. Там у твайго Трахімавіча па дзве, па тры. Аж сохнуць па ім, аніяк не даждуцца.

Яўтушыкава ўмяшанне спрыяе ўсталяванню міру. Анкудовічава жонка лагаднее, сагнаўшы з-за стала дзяцей, дае мужчынам паснедаць. Прысеўшы на ўслончык, пераказвае навіны:

— У Буйках паліцаі былі. Дамачоўскія. Узялі карову, тры аўцы. Хваліліся, што рушаць на вас вялікімі сіламі і разгоняць.

— Не разгоняць.— Анкудовіч дастаў з паліцы брусок, вострыць сякеру.— Кішка тонкая. Вясна на носе, а вясной — сама знаеш.

— Забралі б вы нас, парцізаны. Хоць бы ў тыя Піляцічы. Разам было б весялей. Што за жытка тут — калоцішся, дрыжыш. Ні адной ночы спакойна не паспала. А выйдзеш на вуліцу — косяцца некаторыя бабы. З-за іх, кажуць, і нашы хаты папаляць. Я яшчэ і вінаватая.

— Перастань, Ганна. Хутка ўсё зменіцца. Мы ж з-за сямей і за Пціч не пайшлі. А забраць сем'і ў адно месца нельга. Мы самі на месце не стаім. У чужых людзях будзе яшчэ горай.

Анкудовіч апранаецца. Наважыў насекчы дроў. Яўтушык таксама збіраецца. Дзякуе гаспадыні, ускідвае на плечы вінтоўку. У гэту хвіліну ў хату ўлятае распатланая, у накінутай на плечы ватоўцы кабеціна, з парога крычыць:

— Чалавек з мястэчка соль на бульбу мяняе. З возам прыехаў. Конь Князева. Ей-богу, Князева!

Мужчыны ў адзін момант выскакваюць з хаты. На вуліцы сапраўды стаяць запрэжаныя сані. Конь буланы, буйны, падкаваны на ўсе чатыры нагі. Збруя спраўная: хамут, пастромкі, церассядзельнікі — як новыя. З двара, размешчанага насупраць Анкудовічавай хаты, дыбае стараваты, апрануты ў сялянскую світу чалавек, нясе на плячах паўмеха бульбы.

— Хто такі? — пытае Анкудовіч.

— А вы хто такія? — спакойна адказвае ён, уладкоўваючы мех з бульбай на сані, акрываючы яго сенам.

— Мы парцізаны. Чый конь?

Чалавек высмаркаўся, выняў з кішэні рукавіцу, выцер нос.

— А я з мястэчка. Работаў да вайны на чыгунцы. Цяпер нідзе не работаю. А каня ў суседа папрасіў.

— У якога суседа? — наліваючыся чырванню, крычыць Анкудовіч.

Чыгуначнік зіркае на яго зняважліва.

— А ты не крычы. Рад, што стрэльбу начапіў. Хапае каму крычаць без цябе. Чалавек, што даў мне каня, недзе адсюль. Здаецца, з Піляціч. У мястэчка прыбіўся. Я не пытаў, хто ён такі. За каня прасіў прывезці мех бульбы.

— Князеў твой сусед? Гавары! — зноў крычыць Анкудовіч.

— Здаецца, Князеў. А што?

Анкудовіч здымае з пляча вінтоўку, клацае затворам.

— Паехалі ў Піляцічы. Там разбяромся.

Настаўленая руля вінтоўкі, здаецца, нікольві не бянтэжыць старога.

— Нікуды я не паеду. Што я такое зрабіў?

Ля саней збіраюцца вяскоўцы. Найбольш жанок і дзяцей. Мужчыны стаяць воддаль — мабыць, не хочуць мяшацца ў прыкрую справу. Бабы ж даўно разнюхалі, на чыім кані прыехаў пакупнік бульбы, і позіркі, якія яны кідаюць на старога, не абяцаюць нічога добрага.

Яўтушыку робіцца шкада чыгуначніка.

— Вось што, дзед,— гаворыць ён.— Князеў, мабыць, у вас авечкай прыкідваецца. А ён тут начальнікам паліцыі быў. Народ страляў. У паганую кампанію ты трапіў. Так што кідай каня і матай на ўсе чатыры стораны.

— Каня не аддам,— гледзячы паверх галоў, заяўляе стары.— Не вы мне яго давалі.

Бабы ўзбуджана гудуць.

— Бач ты, паліцэйскага каня не хоча аддаваць!

— Ага, адпусці яго! Заўтра немцаў прывядзе. Ён за каня гатоў павесіцца.

— Хітра прыдумалі. Каня забяруць, а старога пусцяць.

Толькі цяпер чыгуначнік адчуў небяспеку. На імгненне яго спалоханы позірк запыняецца на Яўтушыку, і ён неяк паспешліва торгае лейцамі. Анкудовіч ідзе ўслед за санямі. Яўтушык даганяе мужчын пры выездзе з вёскі. Штурхае пад бок Анкудовіча, і яны трохі адстаюць ад саней.

— Я да жонкі заскочу, Трахімавіч. А ты як трэба раскажы. Кокнуць жа старога ні за панюх табакі.

— Ведаю,— чамусьці злосна азываецца Анкудовіч.— Разбяромся.

## V

Дзіўным жыццём жывуць вёскі, паселішчы той часткі Палесся, дзе ўжо летам сорак другога года разгулялася партызанская вольніца. Насаджаныя немцамі паліцэйскія гарнізоны і асяродкі мясцовай цывільнай улады — воласці развеяла нібы ветрам. Калі не раёны цалкам, то значныя іх часткі, па некалькі суседніх сельсаветаў разам, выпалі з-пад улады акупацыйнай адміністрацыі. У такіх мясцінах кантроль паліцыі, гебітскамісараў, бургамістраў распаўсюджваецца толькі на населеныя пункты, што ляжаць пры чыгунцы ды яшчэ ля шырокіх, з адзнакаю ваеннага значэння дарог.

Надышла зіма, большасць партызанскіх сіл рушыла за Пціч, але на пакінутай тэрыторыі гарнізоны, воласці так і не аднавіліся. У другі раз акупацыйная ўлада не магла гэтага зрабіць, бо сярод мясцовага насельніцтва зусім не знаходзілася ахвотнікаў ісці ў паліцыю ці выконваць якую-небудзь іншую нямецкую службу. Часам у безуладныя, прыціхшыя вёскі налятаюць нямецка-паліцэйскія атрады, твораць на скорую руку расправу, забіраюць хлеб і жывёлу. Але часцей завітваюць партызаны. Дыверсійныя групы, якія не спускаюць вока з чыгункі, нават у адчайныя марозы і мяцеліцы ў такіх вёсках адаграваюцца, папаўняюць запасы харчу, бяруць праваднікоў і фурманкі. Нярэдка то тут, то там між немцамі і партызанамі ўспыхваюць сутычкі. Рэжуць сухое зімовае паветра кулямётныя чэргі, пошчак вінтовачных стрэлаў. У залежнасці ад абстаноўкі які-небудзь бок адступае, часцей нямецкі.

Партызаны паяўляюцца вечарам, калі ў вокнах вясковых хат пачынаюць дрыжэць мігатлівыя аганькі смалякоў і лучыны. Яны звычайна прыязджаюць нечакана, у санях ці ў вазку, спакваля, каб паказаць сябе, праходзяць узбоч парканаў, плятнёў, выбіраюць для сваёй чыннасці найбольш прасторную хату. Там наладжваецца вечарынка, і туды, дзе верхаводзяць гэтыя апаясаныя крыж-накрыж патроннымі лентамі хлопцы, сцякаецца моладзь. Ды не толькі моладзь. Рыпае гармонік, бухае бубен, носяцца па хаце, уздымаючы клубы пылу, імклівыя пары. З захапленнем глядзяць на чубатых, задзірыстых лясных салдат дзяўчаты. Не адна з іх чакае сустрэчы, углядаючыся ў ашкелак люстэрка, падводзіць вугалем бровы, а звычайным бураком, звараным на абед, ледзь-ледзь падфарбоўвае пульхныя губы. Ва ўсе часы, стагоддзі цягнецца жанчына да воіна, свайго абаронцы, заступніка.

Партызанскія вечарынкі — не толькі пагулянкі, дзе шукаюць выйсце хмельныя сілы маладосці, развейваецца страх, трывога няпэўнага, няўстойлівага часу. Яны нібы зборныя пункты, яны выконваюць ролю таго народнага веча, якое здаўна на лясной, раскіданай Русі вербавала сілы інсургентаў для адпору чужынцам. Пасля двух-трох полек, «Лявоніх» гармонік раптам замаўкае, хлопец, які да гэтага часу зацята лупіў балбешкай па цялячай скуры бубна, зашываецца кудынебудзь у кут, а ў круг, на свабодны прамежак хаты, выходзіць найбольш красамоўны партызанскі агітатар у дубленым кажушку, апаясаны шырокім вайсковым рэменем, прыфранчоны і дзёрзкі. Добра, калі пры ім ёсць зводка з франтавымі весцямі, навінамі, а калі няма такой зводкі, то ён някепска абыходзіцца і без яе, бо язык мае спрытны, вынаходлівы, можа пра поспехі франтавыя, партызанскія дабавіць і прыбавіць і заўсёды пацэльвае сказаць аняметым слухачам якраз тое, што самі яны прагна жадаюць пачуць. Няхай жа не забудуцца неацэнныя заслугі іменна вось такіх самадзейных агітатараў, вастрасловаў і насмешнікаў, якіх партызанская маса нараджае ўсюды, бо без іх проста немагчыма жыць! Бо не толькі ўдалы бой, хітрая засада ці вылазка, перамога на фронце, а і слова, жывое чалавечае слова, памагала распальваць тое полымя

нязгоды, супраціўлення ворагу-прышэльцу ва ўсіх яго відах, формах.

Моладзі партызаншчына дае крылле. У жыцці заўсёды ёсць паласа, калі чалавек найменш думае пра ўласнае гняздо, пра справы практычна-будзённыя, спакойныя, звязаныя з паўсядзённым клопатам і дробнымі, непрыкметнымі справамі. Ад веку на гэтай заселенай сінявокімі, русавалосымі славянамі зямлі было непадзельным племя земляробаў і племя воінаў, бо калі вынікала патрэба, учарашні хлебароб садзіўся на махнатага коніка, браў у рукі касу альбо дзіду, бег у лес да цімакоў, паўстанцаў. Дрэмлюць па ўсёй Белай Русі сівыя, насыпаныя чалавечымі рукамі курганы, і хаваюць яны пад сваімі пакатымі схіламі яшчэ неапісаную народную славу. Гайсалі тут дзікія раз'езды касавокіх татара-манголаў, бясследна знікаючы сярод лясных і балотных імшарын, аб мужыцкія доўбні, рагачы ламаліся крывыя шабелькі ганарыстай польскай шляхты, ёсць могільнікі шведскія, французскія, нямецкія...

Яшчэ ў мірныя, бясхмарныя дні абудзіў горад жалезным клічам дзеравяную сельшчыну, завучы ў новыя прасторы, у нязведаныя далі. Дзедаўскі звычай ламаўся, забываўся, бо ўсе тыя трактарысты, лётчыкі, дактары, настаўнікі, якія выйшлі з-пад саламянай страхі, назад пад страху не хацелі, ніякою запрудай нельга было спыніць імклівы вясновы разліў жыцця. І калі новыя, нацэленыя на такі вырай пакаленні адчулі пагрозу свайму парыванню, яны мусілі за сваё жыццёвае права змагацца...

Ад Сасновіцы, у якой размешчаны партызанскі штаб, да Піляціч, Літвінавіцкіх лясоў, дзе зімуе частка Дамачоўскага атрада, напрамкі не болей як восемдзесят кіламетраў. Але справа ў тым, што прамой дарогі няма, бо частка Дамачоўскіх вёсак кантралюецца немцамі.

Групе Бондара, якая на досвітку выехала з Сасновіцы на пяці санях, прыходзіцца віляць і пятляць. За дзень адолелі кіламетраў шэсцьдзесят, але да Піляціч яшчэ далёка. Праязджаюць закіданыя снегам вёсачкі, робяць кароткія перапынкі, размаўляюць з сялянамі. Бондару кідаецца ў вочы такая праява: людзі не хаваюцца, не туляюцца па закутках.

Мужчыны, цёткі ахвотна падыходзяць да партызанскіх вазкоў, уступаюць у гаворку.

Апошнія месяцы Бондар амаль нікуды не вытыркаўся са штаба, і відавочная перамена ў настрої насельніцтва ўздымае яго настрой, узбадзёрвае. Пытаюцца ўсюды пра адно: ці праўда, што немцаў разбілі ў Сталінградзе і цяпер яны адступаюць на ўсіх франтах?

Як і ў мінулую зіму, весткі пераўвялічаны, праўда перамешана з выдумкай, але ўсё адно вяскоўцы ведаюць пра становішча на фронце лепей, чым летась.

Начуюць у лясной вёсачцы. У хату, дзе спыніліся Бондар з Петраўцом, набіваецца дзядоў, мужчын, воляй-няволяй прыходзіцца праводзіць сход. Выступаюць па чарзе то Бондар, то Петравец. Рассеўшыся на лаўках, на ложку, на падлозе ўзбоч сцен, дзядзькі дымяць самасадам, уважліва слухаюць. Пытанні пра фронт, саюзнікаў сыплюцца без канца.

Каля печы сядзіць дзед, які выдзяляецца вельмі ўжо неахайным выглядам. На кажушку безліч латак рознага колеру, памеру, з-пад расхлістанага каўняра цёмнай, як зямля, кашулі выбіваецца голая грудзіна. Затое дзедавы ногі, абутыя ў лазовыя лапці, тоўстыя, як бярвенні,— столькі на іх накручана ануч. Вось гэты замшэлы дзед раптам пажадаў выказацца:

— Баба мая памерла, а дачка не хоча браць да сябе,— ці то прыдурваючыся, ці то ўсур’ёз пачаў ён.— У яе сваіх дзяцей як бобу. То магу свабодна пайсці ў парцізаны. І яшчэ з нашага сяла могуць пайсці. Толькі ведаеце што, начальнікі, паліцэйскіх трэба паразганяць. Аканчацельна, каб дух іх не смярдзеў. Бо будуць здзекавацца з сем’яў. У немцаў цяпер нявыкрутка, то, я думаю, паліцэйскія за іх крэпка дзяржацца не будуць. Калі пан уцякае, то яго лёкай, чаго добрага, сам можа з пана садраць штаны... Нечага з ім цырымоніцца!..

Дзед змаўкае, зашываецца глыбей у качарэжнік. Мужчыны рагочуць, але небяспечную гаворку ніхто працягваць далей не хоча.

У суседняй хаце зборышча весялейшае. Туды памкнула моладзь, і пасля нядоўгіх прамоў з хаты пачуліся зыкі гармоніка, тупат ног.

Апоўначы Бондар з Петраўцом выходзяць праверыць пасты. Першы паставы, які стаіць пры ўездзе ў вёску, нясе варту належным чынам, затое другі, пастаўлены паблізу камандзірскай хаты, здаецца залішне тоўстым. Калі камандзіры падыходзяць бліжэй, ад партызана, ціха ўсклікнуўшы, аддзяляецца дзяўчына, імкліва бяжыць у цёмны панадворак. Вартавы таропка зашпільвае кажух. Несучы варту, ён і дзяўчыну адначасна грэў. Парушэнне дысцыпліны, вядома, але што папішаш...

Вярнуўшыся ў хату, не могучы адразу заснуць, Бондар штурхае пад бок Петраўца, які, не паспеўшы ўпасці на салому, ужо высвіствае носам.

— Слухай, Кірыла Пятровіч, гэты каравы дзед не дурны.

Петравец сонным голасам пытае:

— Што ён такое разумнае сказаў?

— Тое, што паліцэйскіх трэба разагнаць канчаткова. І не ваяваць з імі, а пашукаць што-небудзь другое.

— Як гэта не ваяваць?

— А так. Паспрабаваць на свой бок перацягнуць. Пра Сталінград яны ж таксама ведаюць.

## VI

Назад у Піляцічы Яўтушык вярнуўся прыцемкам. У Лазавіцы — у жонкі і дзяцей — пабыў не поўны дзень, паспеўшы, аднак, на суседавым кані прывезці з альшэўніку вазок дроў, перакінуць з блізкага балота ў двор недабірак стажка рудой накошанай ледзь не ў зазімак асакі.

Гаспадыня, у якой Яўтушык стаіць на пастоі, ведае, што дома ў яго не соладка. З дому звычайна нават хлеба не прыносіць, таму, калі пастаялец толькі пераступіў парог, яна стала завіхацца ля печы. Выцягнула чыгунок бульбы, наліла міску капусты, паднесла на сподачку два скрылікі старога ёлкага сала. Нават чаго ніколі не было — шклянку вішнёвай настойкі наліла.

Гарацъ, патрэскваючы, на камінку смалякі. Па сценах скачуць палахлівыя цені. У Яўтушыка гудуць тугой стомай ногі,

гарыць абсівераны на ветры твар. Аднак настрой яго ўздымаецца, бо пачастунак незвычайны.

— Якое сёння ў нас свята, Аксіння? — пытае Яўтушык.

— Ты падумай.

Сама Аксіння за стол не садзіцца, стаіць пры камінку, падкладвае ў агонь смольныя шчэпкі.

— Нічога не магу прыдумаць. Пазабываў рэлігійныя святы.

— Дзіва што. Усе пазабывалі. Самога Бога забылі. Таму на зямлі і творыцца такое. Людзі звярамі парабіліся. Брат пайшоў на брата.

Яўтушык выпівае настойку, закусвае салам, трохі здзіўлена паглядаючы на гаспадыню, якую прызвычаіўся бачыць маўклівай і самотнай.

— Дык якое ж сёння свята, Аксіння?

— Стрэчанне, Панас.

Штосьці гаспадыня ўсё-такі не дагаворвае. Яўтушык гэта адчувае, але рашае лішне на назаляцца. Ён ведае з практыкі, што ўсё, што чалавек тоіць у душы, рана ці позна вылезе напаверх.

— Маня дзе? — каб змяніць гаворку, пытае ён пра гаспадынiну дачку.

— На пагулянку пабегла. Вашы ж прыехалі з-за Пцічы. Харошыя, гладкія, у кажушках, ботах. Не тое што вы, абарванцы. Нават начальніка бачыла, які камандаваў, калі вы Піляцічы забіралі. Прысадзісты такі, чарнявы і трохі кірпаты.

— Мабыць, Бондар,— гаворыць Яўтушык.— Ён, чутно, начальнікам агульнага штаба. Добра, што прыехалі, а то нашы саўсім адзічэлі. Тады па зіме за Пціч не захацелі ісці, за сем’і баяліся, а цяпер ловяць самі на сабе блох...

— Праўда, Панаска,— неяк адразу згаджаецца гаспадыня.— Самі не ведаюць, што робяць. Сёння майго сваяка, што прыехаў з мястэчка, застрэлілі. Я сама і вінавата. Восенню шчэ, як была ў мястэчку, заходзіла да іх. Жонка яго, мая дзядзіна, адсюль, з Піляціч. Дык я сваім дурным языком на смерць чалавека пазвала. «Збярыце, кажу, трохі солі і прыязджайце. Чаго-чаго, а бульбы за соль разжыцца можна». А

ён — дзе толькі яго галава была — прыехаў на Князевым кані. З-за таго каня і паклалі...

— Сволачы! — Яўтушык, не помнячы сябе, выскаквае з-за стала, кідаецца да парога, у мыцельнік, дзе побач з рагачамі, качаргой стаіць вінтоўка.— Я старога разам з Анкудовічам у Лазавіцы задзяржаў. Хацеў адпусціць, каня толькі забраць, але ён каня не аддаваў. То я Анкудовічу наказаў, каб давёў Батуру ўсё як ёсць. Проста стары дурны і ўпарты. Просампрасіў Анкудовіча. Як жа ён дазволіў?

— Сядзь, Апанаска. Цяпер бядзе не паможаш. Ашалеў Батура, ды і другія ашалелі. Нічога твой Анкудовіч не мог памагчы. Такая каша тут заварылася.

Цяжка дыхаючы, Яўтушык садзіцца на ўслончык.

— Шкода старога. Я ж яго адпускаў. На чорта конь, калі самога могуць кокнуць. А конь, праўда, Князева. Як ён з тым Князевым знюхаўся?

— Не ведаю пра Князева, а дзядзька Есіп харошы чалавек. Думаеш, Апанаска, у тым мястэчку адны паліцэйскія жывуць? Іх няхай сто, астатнія — чэсныя. Такія ж людзі, як і мы. Дзядзька Есіп сваіх дзяцей пагадаваў, але малодшая дачка пры ім. Зямлі ў яго няма, на чыгунцы рабіў. Есці ж трэба. Вот і паехаў. Як прыпрэ, то не тое што на Князевым кані, самога чорта запражэш ды паедзеш.

— Вінаваты Батура. Пасеяў паніку, страху нагнаў. Я, каму трэба, Аксіння, далажу. Мне баяцца нечага. Я ў парцізанах яшчэ з Якубоўскім і Шэлегам быў. Шэлега забілі, Якубоўскага Батура адцясніў. А яго ніхто не выбіраў камандзірам. Матку і сястру яго немцы расстралялі, але ўсё адно не мае такога права.

— Я не пра тое гавару, Апанаска. Вінаваты хто ці не вінаваты, разбірайцеся самі. Чалавека трэба пахаваць па-хрысціянску. Не скаціна ўсё ж. Прашу цябе — схадзі заўтра да начальнікаў, папрасі, каб дазволілі адвезці цела ў мястэчка. Я сама завязу на кані.

— Завязеш, Аксіння. Ручаюся галавой, што дазволяць.

Яўтушык адчувае сябе страшэнна змораным. Ісці нікуды не хочацца. Ён кладзецца на лаўку, акрываецца світай, але доўга не можа заснуць.

## VII

Паліцэйскія разбегліся. Труп Вайцяхоўскага астаўся ў школе.

Лубан нібы звар'яцеў. Дрыжаць рукі, калоціцца цела. Ніяк не можа звярнуць цыгарку. Праз мітусню думак прабіваецца адно: ад сям'і адрэзаны канчаткова. Сёння вечарам ці самае позняе заўтра немцы аб усім даведаюцца, схопяць сем'і.

Альшэўскі з Адамчуком выносяць са школы, кладуць у вазкі вінтоўкі. Тоўсцік валэндаецца з канём Вайцяхоўскага. Конь закідвае галаву, храпе, не даецца ў рукі новаму гаспадару, які няўмела спрабуе ўскочыць у сядло.

— Перастань! — крычыць Лубан.— Прывяжы каня да саней.

Гадун моўчкі стаіць на ганку. Расхлістаўшы дублены паўкажушок, дастае з патайной кішэні нейкія паперы, ірве на дробныя шматкі. Выкідваючы руку, рассейвае вакол ганка. Шматкі паперы белымі матылькамі асядаюць на пачарнелы снег.

— Паехалі! — нарэшце адчайна выгуквае Гадун.— Зняўшы галаву, па валасах не плачуць. У Піляцічы, Шміляцічы ці к самому чорту на рогі. Цяпер усё адно.

— Пачакай.— Лубан, узяўшы лейцы, заварочвае каня на вуліцу.— Трэба знайсці старасту. Напішу ліст Крамеру. Цяпер можна напісаць.

Старасту шукаюць доўга. Вуліца абязлюднела. Нават у хаце, дзе гулялі вяселле, ціха. Вароты па-ранейшаму расчынены, а двор пусты.

Староста, касавокі, мізэрны, з'явіўся пасля таго, як амаль гадзіну ўгаворвалі яго сястру, бледнатварую і, мабыць, трохі прыдуркаватую дзеўку. Жонка, колькі яе ні прасілі, дзе мужык, не сказала.

Лубан прысаджваецца за стол. Слінячы чарнільны аловак, таропка спісвае размашыстым, але разборлівым почыркам лісток, вырваны з блакнота.

«Аўгуст Эрнэставіч!

Я і мае таварышы, якія знаходзяцца са мной, зрабілі вялікую памылку, пайшоўшы да немцаў на службу. Мы цяпер

апомніліся і ведаем, што трэба выкупляць грахі. Ты таксама зрабіў памылку. Але мы табе ўсё даруем, выратуй толькі нашы сем'і, якія асталіся ў мястэчку. Зрабі ўсё, што можаш, і мы табе гэтага ніколі не забудзем. Хіба вінаватыя сем'і, што мы ў сваім жыцці заблудзіліся і пайшлі не туды, куды трэба? Аўгуст Эрнэставіч, ты чалавек сумленны, крыві не хочаш, пашкадуй нашых жанок і дзяцей. Ваююць мужчыны, салдаты, а не жанкі і дзеці. Вер майму слову, Аўгуст Эрнэставіч, Гітлер вайну прайграе, да гэтага ідзе. Астаюся з павагай да цябе, твой былы намеснік Лубан».

Напісанае Лубан чытаць не стаў. Згарнуў лісток, аддаў старасту. Насупіўшы бровы, загадаў:

— Пойдзеш у мястэчка. Ідзі проста на кватэру да Крамера. Ведаеш, дзе жыве? Аддай пісьмо ва ўласныя рукі. Калі пікнеш каму другому, зробім тое, што з Вайцяхоўскім. Зразумеў? Крамеру на словах перадай — што знойдзем пад зямлёй, калі нас не паслухае...

Селі ў вазкі, паехалі...

Ля Піляціч з рэдзенькага бярэзніку выскакваюць на дарогу два маладыя з вінтоўкамі наперавес хлопцы.

— Стой! Ні з месца! Хто такія?

Убачыўшы ўзброеных людзей, якія едуць з местачковага боку, хлопцы бянтэжацца. Не ведаюць, што рабіць. Акрамя іх нехта яшчэ ёсць у сакрэце, бо адтуль, з бярэзніку, чуюцца тры частыя, раз-пораз, стрэлы.

— Едзем у партызаны,— за ўсіх адказвае Лубан.— Толькі што разагналі мохаўскую паліцыю. Завязіце нас да камандзіра.

Хлопцы пераглядваюцца. Яны, відаць, яшчэ не бачылі, каб вось так, на вазках, хто-небудзь прыязджаў у партызаны. Папераджальныя стрэлы між тым зрабілі сваю справу. З сяла бяжыць некалькі чалавек з вінтоўкамі.

Ключнік, як толькі падбег, убачыў Лубана, закрычаў:

— Здаць зброю! Папаліся, нямецкія халуі. Цяпер вам не выкруціцца!..

Партызанскі ланцуг уміг натапырыўся рулямі вінтовак, настаўленых на ўцекачоў.

— Вялікія птушкі заляцелі! — са зласцівым узбуджэннем выгуквае Ключнік.— Магу прадставіць па чарзе. Вось гэта

намеснік бургамістра, гаспадзін Лубан. Уласнаручна, каб выслужыцца, чырвонаармейца застрэліў. Той вунь, тоўсты, выдаў партызанскія склады, рамантуе немцам чыгунку. Ды ўсе яны паліцаі. Як так папаліся, гаспадзін Лубан? Нямецкі компас згубілі? Не па той дарозе паехалі?

Лубан і яго спадарожнікі, што мігам паўскаквалі з вазкоў, пакінуўшы вінтоўкі, стаяць са спалатнелымі тварамі.

— Мы самі ў партызаны пайшлі,— глуха пярэчыць Лубан.— Разграмілі гарнізон у Мохаве. Зброя вось тут. Можаце палічыць. Чатырнаццаць вінтовак.

Партызаны недаўменна пазіраюць на ўцекачоў. Некаторыя закідваюць вінтоўкі за плячо, двое ці трое трымаюць у руках.

Ключнік як бы звяў.

— Наконт Мохава праверым. Толькі нешта доўга збіраліся? Можа, з немцамі што не падзялілі?

Лубан маўчыць. Працэсія паволі кранаецца ў Піляцічы. Двое партызан, пасеўшы ў вазкі, гоняць коней паперадзе гурту ў сяло.

Дзіўную ўласцівасць маюць чуткі. Як снежны ком, які коціцца з гары, абрастае новымі пластамі, павялічваецца ў памерах, так кінутае чалавечае слова, перададзенае другому і трэцяму, змяняецца да непазнавальнасці. Яшчэ не паспелі ўцекачы пад канвоем партызан паказацца на піляціцкай вуліцы, як доўгая, раскіданая вёска нібы ў бубен біла, што мястэчковая паліцыя на чале з бургамістрам прыехала здавацца партызанам. Бабы, мужчыны, дзеці высыпалі на вуліцу.

Партызаны, якія паселі ў вазкі, прыгналі ўзмакрэлых коней да хаты, у якой жыве Батура, хвілін на пятнаццаць раней, чым туды падышлі абяззброеныя мястэчковыя начальнікі. Гэта мела вынік. Вестку Батура знешне ўспрыняў спакойна. Накінуў на плечы вайсковы шынель, надзеў шапку-будзёнаўку, стаў нетаропка выдыбаць па хаце. Але ў яго ўзбуджанай, недаверлівай галаве мільгнула думка аб правакацыі. Батура адразу звязаў начныя візіты бургамістра Спаткая з незразумелым пераходам на бок партызан пяцярых нямецкіх пасобнікаў. І ўжо было ясна Батуру, што прыбыццё намесніка бургамістра і астатніх у партызанскі лагер не што іншае, як хітрая вудачка, закінутая немцамі, каб прыглушыць партызанскую

пільнасць. Недзе ўслед за дэсантам рухаюцца нямецкія ланцугі.

Батура зараз жа аддаў загад асядлаць дарогу з мястэчка, заняўшы абарону. Сувязныя кінуліся з хаты.

А яшчэ праз некалькі хвілін у Піляцічах стала тварыцца незразумелае. Па вуліцы пад здзіўленымі позіркамі вяскоўцаў ішлі, панурыўшы галовы, людзі, якіх бачылі тут у іншай ролі. Лубан сваёй уладай прызначыў бургамістрам Спаткая. Да начальніка паліцыі Князева наязджаў вось гэты прысадзісты Гадун. Тоўсцік зброі не насіў, ён угаворваў шаўцоў і краўцоў, каб бралі ў нямецкай улады патэнты.

Па вуліцы, клацаючы на хаду затворамі, бягуць між тым партызаны. Нясуцца ў той бок, адкуль прыйшлі ўцекачы. Вяскоўцы занепакоіліся. Некаторыя кідаюцца ў двары, у хаты, каб ладаваць скарб, а ў выпадку каманды рушыць да лясных сховішчаў. Паасобныя, найбольш праніклівыя, у каго набытак даўно спакаваны ў мяшках, посцілках, не чакаючы, шыбуюць у сасоннік.

Перабежчыкаў прыводзяць у агароджаны шчыкетнікам двор. Ключнік узбягае на ганак. З хаты тым часам выходзіць Батура. З паўхвіліны маўкліва, звузіўшы вочы глядзіць на Лубана, на астатніх, затым, перавёўшы позірк на Ключніка, загадвае:

— Расстраляць. Як здраднікаў Радзімы і правакатараў. Выкананне загаду ўскладваю на цябе. Пратакол пазней афармім. Я пайшоў кіраваць абаронай. Калі не ўдзержымся, выведзеш у лес насельніцтва.

І пайшоў. Размеранай, упэўненай хадою, у доўгім шынялі, прамы і высокі як слуп.

Дзіўныя рэчы могуць адбывацца з людзьмі. Там, на дарозе, калі партызаны яго толькі затрымалі, Лубан, нягледзячы на наскок Ключніка, змог штосьці гаварыць, тлумачыць, а тут у яго нібы адняло язык. Не меў сілы прамовіць слова. Пабялелыя, у адзін момант зламаныя, пакорлівыя стаялі яго таварышы па бядзе.

Збянтэжыўся і Ключнік. Паспеў заўважыць незразумелую трывогу, мітусню ў сяле, баявыя падрыхтаванні партызан, пачуў пра абарону і ўмег рашыў, што Батура ведае нешта та-

кое, чаго ён, Ключнік, і ўсе тыя, хто дзяжурыў у каравулцы, не ведаюць і нават не здагадваюцца. У той жа час Ключнік адчувае бязглуздасць Батуравага загаду. Гэтыя, няхай сабе здраднікі, але самі прыйшлі здавацца. Трэба праверыць, а не з бухты-барахты.

— Завясці ў хату і вартаваць,— загадвае Ключнік.— Высветлю абстаноўку.

Камандзір узвода выходзіць на вуліцу. Па ёй едзе фурманка, на якой сядзіць Анкудовіч і незнаёмы Ключніку стары.

— Каго вязеш?

— Ды вось прыехаў адзін на Князевым кані. У Азярках задзяржалі. Кажа, мяняе соль на бульбу. Трэба праверыць.

— Я большых птушак злавіў,— хваліцца Ключнік.— Намеснік бургамістра з Бацькавіч і яшчэ чацвёра. Сядзяць у Батуры. Схадзі паздароўкайся.

Ключнік ідзе вуліцай далей. Бачыць мітусню ў дварах, на агародах. Баба валачэ на саначках клункі да сасонніку. Яшчэ дзве гоняць туды кароў. Мінуўшы некалькі хат, нікога не сустрэўшы, Ключнік азіраецца. Ля дома, які займае Батура, стаіць конь, але ні Анкудовіча, ні старога не відаць. Агледзеўшыся, Ключнік заўважае, як дзед, зладзеявата азіраючыся, выбіраецца з-за хлява і трухае да лесу. Ён ужо досыць далёка. Тут Ключнік не раздумвае ні хвіліны. Здымае з-за пляча вінтоўку, прыцэльваецца. З першага стрэлу стары капае носам сінявaты ў перадвячэрнім сутонні снег...

Бондар з групай прыязджае ў Піляцічы вечарам. Перш чым склікаць сход, сваёй уладай здымае з пасады Батуру.

## VIII

Ключнік не стаў чакаць, пакуль кончыцца сход. Ціха падняўся з падлогі, пераступаючы праз выцягнутыя ногі, падаўся да выхада. У напаўцёмным калідоры закурыў з вартавым, выйшаў на двор. Па абодва бакі вуліцы чарнеюць лавы хат, у некаторых вокнах блішчаць аганькі. Вясна патроху дыхае: неба засеяна зоркамі і не такое цёмнае, як зімой.

Па панадворках хіхікаюць дзяўчаты. Чакаюць, мабыць, сустрэчы з новымі партызанамі.

Настрой у Ключніка панылы. Цяпер усе бачаць, што старога з мястэчка ён грабануў дарэмна. Але хіба ён мог зрабіць іначай? Стары ўцякаў, а калі хто ўцякае, трэба страляць. Паніка вінавата, якую ўзняў па дурноце Батура.

Падоўгу аддавацца змрочным думкам Ключнік не ўмее. Пакуль на сходзе будуць разводзіць тары-бары, ён пасядзіць у Зіны. Ясна і так, што скажуць на сходзе — выбірацца за Пціч. Можа, гэта апошняя яго з Зінай ноч.

Жанчыны — найлепшы бальзам ад згрызот. Батуры ён цяпер не баіцца. Хоць і пазаўчора, пасля таго як самазваны камандзір выгнаў яго ад Спаткаіхі, ён, Ключнік, у шапку не спаў. На кватэры ў Зіны атабарыліся два вартавыя, чакалі, дурні, што Спаткай, засумаваўшы па маладым целе жонкі, цёпленькім дасца ў рукі. Ён Спаткая не чакаў. Падпільнаваў Зіну вечарам на яе панадворку, абнімаў, цалаваў.

Жанчына Спаткаіха адменная. За свае дваццаць тры гады, валочачыся па свеце, меў Міша ўсялякіх, але такой не было. Няма слоў, каб выказаць тое, што ён адчувае, калі трымае яе ў абдымках. Сядзіць у ёй штосьці няўлоўнае, д'ябальскае, і ніколі не адгадаеш, як яна сябе павядзе. Як імклівая рака, што змяняецца кожнай хвіліны. Мінулым летам, маючы заданне, хацеў Міша на кароткі час прыпісацца ў Піляцічах. Візы на жыхарства Спаткай не даў, але затое з яго жонкай ён паспеў пазнаёміцца. Смелая, як чорт, баба. Бургамістр сядзеў у воласці, падпісваў паперы, думаў, цецярук, што верхаводзіць, а яго маладая жонка, з якой бургамістр толькі тыдзень, як пабраўся, цалавала партызана. Сярод белага дня, у пуньцы, за хлявамі.

Ключнік падышоў да Зінінай хаты, агледзеўся, шуснуў у двор. Асцярожна, каб не рыпнуць, зачыніў веснічкі. Вокны цёмныя. На вуліцы, у розных месцах, чуюцца галасы. Яшчэ некалькі гадзін назад вёска панікавала, цягнула бэбахі ў лес, а з'явіліся гэтыя з-за Пцічы, і ўсё ўвайшло ў звычайную каляіну.

Ключнік ведае, што вартавых у Зінінай хаце няма. Прагналі Батуру, самі сабой скасаваліся яго парадкі. Патаемныя назіральнікі ўжо сядзяць у школе, разявіўшы раты слухаюць навіны з фронту.

Міша прыхінуўся да акна і, сашчаміўшы пальцы, асцярожна пастукаў. Пачуліся крокі босых ног, і Зіна, нават не

адхінуўшы фіранкі і не зірнуўшы ў акно, пайшла ў сенечкі адчыняць.

У пярэднім пакоі Ключнік зняў ватоўку, кубанку, павесіў на цвік. Гаспадыня, намацаўшы на брыжы печы карабок сярнічак, запаліла каганец. У хаце цёпла, утульна, пахне сушанымі зёлкамі, якія вісяць на печы, на шастку, пад самым дахам, дзе Спаткай зрабіў патайны лаз на гарышча.

Зінін настрой між тым не абяцае нічога прыемнага. Накінуўшы на голыя плечы кофтачку, яна даволі абыякава глядзіць на начнога госця. Перамену Зінінага настрою Міша адчуў адразу, і гэта не дазволіла яму, як звычайна, падысці да яе, прытуліць, пацалаваць у тугія губы, устанавіўшы тыя адносіны, якія бываюць толькі паміж самымі блізкімі людзьмі.

— Нездаровіцца? — пытае Ключнік.

— Галава баліць. Не думала, што ты прыйдзеш. Толькі выбраліся вашы, якіх мне тут паставілі. Думала, хоць высплюся.

— А што — спаць не давалі?

— Пляваць я на іх хацела. Сядзелі, як смаўжы, прыліпшы да акна. Недавяркі. Адзін, па-мойму, мехам з-за вугла цопнуты. Наварыла бульбы, паставіла на стол — ешце. Дык не сеў, усё носам круціў. Можа, думаў, атруты падсыпала.

Ключнік устае, падыходзіць да Зіны, памыкаецца яе абняць. Але яна, наставіўшы рукі, ад ласкі ўхіляецца. Зацятая, злосная...

— Батуру з начальнікаў скінулі. Нікога да цябе не паставяць. Хіба мяне. Але я і сам стану. Дазволу пытаць не буду.

— Усе вы роўныя. Смелыя толькі з бабамі. На добрае вас няма.

Ключнік адышоў, сеў на табурэтку.

— Ты пра што, Зіна?

— Пра тое самае.

— Можа, пра гэтых, з мястэчка? Дык мы ім нічога не зрабілі. Яны цяпер як у Бога за пазухай. Ведала б ты, што мне Батура загадаў...

— Ведаю. Нагі б твае не было тут, каб іх расстралялі.

Апошнія словы Зіна прамовіла як бы з нейкім выклікам.

— Ты што, Зіна? Шкадуеш паліцаяў? Не ведаеш, можа, што Лубан нашых страляў?

— Нікога ён не страляў. Летам разы два быў тут. Самы культурны з местачковых начальнікаў. Я тады яшчэ прыкмеціла. Сям'ю пакінуў на пагібель, а вы — расстрэл. Думаеш, лёгка кінуць сям'ю?

У Ключніка верціцца на языку сказаць, што сям'ю, нават не адну, а дзве, кінуў, калі прыпекла, Спаткай, але ён стрымліваецца. Не хоча псаваць адносіны з Зінай. У жанчын свая логіка. Нечым спадабаўся ёй намеснік раённага бургамістра, і, хоць кол на галаве чашы, будзе стаяць на сваім. Варухнулася нават злослівае пачуццё да Зіны: прывыкла да начальства, да бургамістраў, а іх, партызан, нават у разлік не бярэ. Услых Ключнік гаворыць:

— Са мной не прападзеш, Зіна. Можа быць так, што сюды вернецца Спаткай. Што будзеш рабіць? Ён жа ўведае, як ты ставілася да партызан...

Зіна ўстрапянулася, адышла ад печкі. Стаяла пасярод хаты і глядзела на Ключніка. Спытала з непадробленай трывогай:

— А вы адсюль хіба пойдзеце?

— Усё можа быць.

— Не, ты папраўдзе гавары. Ведаюць жа ўсе, што я з табой.

— Пойдзем за Пціч, Зіна. Атрад наш там. Потым вернемся. Галоўнае — зіму перажылі.

— То Спаткаю не бачыць мяне, Мішачка, як свайго носа. Не быць яму тут. Нават без вас пабаяцца сюды паткнуцца. Чуе маё сэрца. Нешта ў іх зламалася. Няма болей дурных, каб за імі пайшлі.

Мір быў адноўлены. Нават Ключнік не думаў, што Зіна так пагардліва ставіцца да былога мужа. Ён падышоў, прыхінуў жанчыну да сябе, і на гэты раз яна не працівілася.

## IX

На другі дзень, перш чым рушыць з піляціцкай групай за Пціч, Бондар меў гаворку з местачковымі перабежчыкамі. У пакоі прысутнічаюць новапрызначаны камандзір Якубоўскі,

ротны Ткач і Ключнік, які затрымаў уцекачоў, сам бываў у мястэчку і мог ведаць пра іх такое, чаго не ведаюць другія.

На панадворку ціснуцца цікаўныя кабеты. Некаторыя настроены ваяўніча, бо чуваць іх узбуджаныя галасы.

Першым прыводзяць Лубана. Ён у чорным паліто, скураную, фабрычнай маркі шапку трымае ў руках, круглы няголены твар суровы, зацяты. Увайшоўшы ў пакой намеснік бургамістра нерухома застывае на парозе.

— Сядайце,— запрашае Бондар, і калі Лубан наважвае прысесці на табурэтку, прыўзнімаецца, працягвае яму праз стол руку. Гэтак жа вітаюцца з Лубанам Якубоўскі, Ткач і Ключнік.

— З якой мэтай прыйшлі да нас? — пытае Бондар.

Намеснік бургамістра глуха выдыхае:

— Біць немцаў!

— Чаму так позна? Самі ведаеце, другія прынялі такое рашэнне раней.

— Былі прычыны, пра якія тут я не хацеў бы гаварыць.

Твар Бондара хмурнее.

— Дарагі таварыш, ці як там вас, прабачайце, называць. Да нас можна прыйсці толькі з адкрытай душой. Трэба гаварыць праўду, якая б горкая ні была. Разумееце, у нас фронт з усіх бакоў. Таму не ўсіх прымаем.

Лубан як бы каўтнуў паветра. У роце яго, відаць, перасохла. Загаварыў тым жа глухім голасам:

— Ну, што ж. Я не збіраюся таіцца. Памыліўся я. У савецкай уладзе памыліўся... Можа, мне нельга нават даравацъ. Да немцаў пайшоў сам. У трыццаць восьмым мяне арыштоўвалі. Лічу, што несправядліва. Выпусцілі, але дарогу закрылі. Не здолеў перабароць злосць. Многа чаго не разумеў. Нават аднаго акружэнца застрэліў. Мае рукі ў крыві. Вот усё...

Бондар глядзіць на Якубоўскага, на астатніх. Тыя сядзяць, апусціўшы вочы. Ім, як і яму самому, мабыць, яшчэ не прыходзілася мець справу з такімі, як гэты намеснік бургамістра.

— Значыць, разумееце сваю віну? — пытае Бондар.

— Разумею. Сволачы ўсюды ёсць. Пры ўсякай уладзе.

Лубан гаворыць перарывіста, цяжка дыхаючы, на яго лбе выступае пот. Нервова цярэбіць пальцамі шапку. Пальцы шурпатыя, амаль без пазногцяў.

— Акружэнца за што расстралялі?

— Здалося, з тых самых. Сказаў, што ідзе з турмы. Даведку тыцкаў. А сам дзве гімнасцёркі нацягнуў. Не пытайце пра акружэнца. За яго сто немцаў пакладу. Верце слову. Ненавіджу фашыстаў!..

— Даўно сталі ненавідзець?

— З мінулага лета. Зразумеў, што прыйшлі знішчыць наш народ. Калі сталі паліць вёскі разам з людзьмі, расстрэльваць сем'і... Не знаходзіў месца. Не ведаў, куды падацца. Для партызан быў вораг.

— Да вас ад партызан ніхто не прыходзіў?

Лубан устрапянуўся, зірнуў у вочы Бондару.

— Мінулым летам была жанчына з Нехамавай слабады. Нібыта ад дэсантнікаў. Спачатку думаў — правакацыя, потым ледзь ад паліцыі яе ўратаваў. З таго дня лягчэй стала. Думаць стаў пра партызанства.

— Чаму не ўстанавілі з партызанамі сувязь?

— Не прыйшлося. Вы не думайце,— Лубан раптам захваляваўся,— мы не ўпяцярых збіраліся ўцякаць. Мецілі ўсю паліцыю пад удар падставіць. Там, у мястэчку, зброя схавана — вінтоўкі, кулямёты,— можна праверыць. Сарвалася. Аднаго сцапалі. Таму кінуліся да вас.

Партызаны пераглядаюцца. На Лубана пазіраюць прыязней. Падабаецца ўсім, што гаворыць шчыра.

— Сям'я ў мястэчку? — пытае Бондар.

— У мястэчку.— Лубан апускае галаву.— Мая і Адамчука старэйшая дачка на Падляшыне. На хутары. Схавалі ў аднаго чалавека. Не ведалі, як нас прымеце.

Бондар устае.

— У партызаны вас прымаем, таварыш Лубан. Хоць амністыі не аб'яўляем. Зброю палучыце сёння. Астатняе залежыць ад вас.

Наступным выклікаюць Гадуна.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### І

Махнатыя конікі, якія ўсю ноч хрумсталі сена, шпарка бягуць па ўезджанай дарозе. Цуг саней расцягнуўся на паўвярсту.

Сіняватыя, блізкія чалавечаму сэрцу колеры пануюць у наваколлі. Яшчэ між дрэў ляжаць гурбы наздраватага снегу, які паспеў толькі ледзь-ледзь асесці, спіць яшчэ ў нары-сховішчы барсук, прытаілася ў дупле вавёрка, не падаюць голасу, акрамя варон, ніякія іншыя птушкі, а пахне ўжо вясной.

Пранікліваe вока тубыльца заўважае многа прыкмет прыбліжэння пары. На голлі вербалозу разбухлі покаўкі, з некаторых вытыркаюцца белыя коцікі. Прыпусцілі вецце старыя, разгалістыя бярозы.

Цяпер, напрадвесні, асабліва пакутуе ад недаядання заяц, таму, не зважаючы на небяспеку, бязлітасна абгрызае кару нават з прыдарожных асінак. Небяспека, праўда, невялікая: зайцоў ніхто не страляе, іх развялося шмат. Заячыя сляды напаткаеш на кожным лапіку снежнай роўнядзі.

Вярнуўшыся ў Сасновіцу, Бондар адразу адчуў перамены. Ля штабной хаты ў двары і на вуліцы — з дзясятак запрэжаных саней. Ля ганка малюнак зусім нязвычны — пахаджвае вартавы з перавешаным цераз шыю аўтаматам. Увогуле ў вялікай, з перакрыжаванымі вуліцамі вёсцы, кожная хата якой дала прытулак партызанам, відавочнае ажыўленне. У дварах заўзята пілуюць, сякуць дровы. З комінаў, хоць яшчэ светла, валяць у шэрае неба шызыя дымы. Часам вецер зрывае шапкі дымоў, сцеле па дахах, па зямлі. Крочыць па вуліцы па-вайсковаму, строем, аддзяленне, якое атрымала нарад.

У пярэдняй палавіне хаты, якая служыць штабам, на ложак навалена гара паліто, кажухоў, шынялёў. З другой палавіны даносіцца незнаёмы, добра пастаўлены голас.

Бондар увайшоў, стрымліваючы хваляванне, павітаўся.

За сталом чарнявы шыракаплечы чалавек, у камандзірскім абмундзіраванні, але без знакаў адрознення. Ён стаіць. Перад ім стосік папер. Па правы яго бок сядзяць Вакуленка, акуратна

паголены, падстрыжаны, па левы — сакратар міжрайкама Грынько. Дарошка прымасціўся на краі стала, штосьці піша. На табурэтках, крэслах, нават за занавескай на ложку сядзяць камандзіры і камісары атрадаў. З кутка падміргнуў Бондару Бальшакоў, усміхнуўшыся, кіўнуў галавой Хмяльніцкі.

Вакуленка падняўся.

— Наш начальнік штаба,— прадставіў Бондара.— Да Новага года быў камандзірам Гарбылёўскага атрада. Атрад болей другіх дзейнічаў на чыгунцы.

Вайсковец праз стол працягнуў Бондару руку.

— Сяргей Кандратавіч Лаўрыновіч. У Мінскім штабе чуў пра вас многа добрага. Прабачце, што пачалі нараду без вас. Але сядайце і бярыце лейцы ў рукі.

Камандзіры заўсміхаліся. Бондар кінуўся ў пярэдні пакой распранацца. Калі вярнуўся, Грынько кіўком галавы запрасіў садзіцца побач. Нехта падставіў стул.

— Цэнтральны камітэт ставіць задачу,— працягвае перапыненую гаворку Лаўрыновіч,— стварыць партызанскія атрады ва ўсіх раёнах вобласці. Туды, дзе пакуль няма базы, пашлём ініцыятыўныя групы. Для тых раёнаў, якія далі ўспышку партызанскай дзейнасці, але ўласных атрадаў не афармілі, іх арганізуем. Выдзелім мясцовых людзей з іншых атрадаў. Гэтак жа ставіцца пытанне адносна падпольных райкамаў, падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый. Яны павінны быць усюды. Пачнём выпускаць абласную і пяць раённых газет. Партатыўныя друкарскія станкі, шрыфты я прывёз, а кадры, думаю, знойдзем на месцы. Бальшавіцкі друк — наша магутнейшая зброя.

Сорак трэці год, таварышы, павінен стаць годам масавага, усенароднага партызанскага руху. Пра поспехі Чырвонай Арміі вы ведаеце. Зламаўшы германскаму фашызму хрыбет пад Сталінградам, нашы войскі вызвалілі ўсю тэрыторыю, якую немцы паспелі захапіць летам і восенню мінулага года. Не выключана, што ў хуткім часе мы з вамі таксама адсвяткуем вызваленне.

Таварыш Сталін назваў партызанскі рух другім фронтам. Апраўдаем жа, таварышы, высокую ацэнку!..

Урачыстыя, засяроджаныя твары. На іх як бы выраз святасці, вялікага ўзрушэння. Пры апошніх словах прамоўцы ўсе, хто сядзіць у пакоі, як па камандзе, уздымаюцца, дружна пляскаюць у далоні. Пляскае і сам Лаўрыновіч.

Бондар, як толькі заходзіць у пакой, садзіцца за стол, увесь падбіраецца, націнаецца, як струна. Дакарае сябе ў думках за тое, што ўваліўся на нараду, як мядзведзь, не здагадаўшыся распрануцца. А распранаючыся, перахапіў меру: зацягнуў рэмень на апошнюю дзірачку. Цяпер цяжка дыхаць.

Бондар слухае, поўніцца, як і ўсе астатнія, хто прысутнічае ў пакоі, узвышанымі пачуццямі. Момант сапраўды ўрачысты. Можа, такога моманту ён не ведаў за ўсё жыццё. Лаўрыновіч, бясспрэчна, разумны чалавек, кіраўнік вялікага маштабу. Пры ўсіх яго, Бондара, пахваліў. Запрасіўшы за стол, у прэзідыум, як бы паставіў на роўную з сабой нагу. Вядома, такія нарады праходзілі і раней, але ў менш урачыстай абстаноўцы. Вакуленку перабівалі, не вельмі баяліся, калі крычаў і пагражаў. Вакуленка свой, тутэйшы. Лаўрыновіч — прадстаўнік цэнтральнай улады, паўнамоцтвы ў яго вялікія. Як бы яднае сваёй асобай іх партызанскія справы з велізарнай вайной, якую вядзе народ, армія.

— Калі падсумаваць сказанае,— гаворыць далей Лаўрыновіч,— то ў нас дзве вялікія задачы. Па-першае, не даваць ворагу ні хвіліны спакою на камунікацыях. Падрываць эшалоны, масты, знішчаць жывую сілу, тэхніку гітлераўцаў. Гэта наша непасрэдная дапамога фронту. Другая задача ў тым, каб зрываць палітычныя, эканамічныя захады акупантаў. Пытанне стаіць так: ні пуда хлеба, ні кілаграма масла і мяса ворагу. Усе атрады павінны вярнуцца ў свае раёны. Узяць пад свой непасрэдны кантроль гаспадарчае жыццё, весці нястомную масава-растлумачальную і палітычную работу. Мы павінны стварыць для фашысцкіх акупантаў невыносныя ўмовы жыцця, каб гарэла пад імі зямля, каб не мелі яны спакою ні днём ні ноччу.

Лаўрыновічу зноў пляскаюць, але ён не садзіцца, як бы даючы знак, што воплескі не патрэбны. Усміхнуўшыся, пераходзіць на больш даверлівы тон:

— Што ж, давайце абмяняемся думкамі, таварышы. Прашу выказваць усё, што набалела. Не забывайце, што я ў вас толькі тыдзень, і мой партызанскі вопыт такі вось,— сашчаміўшы пальцы правай рукі, ён паказвае мізінец.— Папросім таварыша Вакуленку вясці нашу нараду. Бо я, прызнацца, магу і не справіцца.

Твары цвітуць усмешкамі. Вакуленка падымаецца, дае першае слова Кандрату Дзярузе, высокаму, з чорным, пахмурым тварам камандзіру аднаго са шматлікіх акцябрскіх атрадаў. Дзяруга ўстае, аднекуль з-за пазухі выцягвае тоўсты сшытак. Ён у светла-шэрым, з бляклымі паскамі пінжаку, зімніх ватніх штанах, якія выдавалі да вайны шафёрам, стрэлачнікам і кандуктарам, у падшытых тоўстым лямцам валёнках.

Шурпатымі пальцамі Дзяруга адгортвае вокладку, адліствае некалькі старонак, хрыплым, прастуджаным голасам зачынае гаварыць аб высокай палітыцы. Выкрывае Гітлера, яго пасобнікаў, прарочыць ім немінучую пагібель. Рускія словы вымаўляе на палескі лад, неміласэрна іх расцягваючы, блытаючы канчаткі. Усім ясна, што для даклада камандзір аж зашмат чарпануў з лістовак, газет, якія трапляюць у партызанскія рукі.

Дзяруга сваёй прамовай заняў паўгадзіны, але пра канкрэтную чыннасць атрада амаль нічога не сказаў. Відаць, проста пасаромеўся прызнацца, што ледзь не палавіна людзей не маюць вінтовак, а тыя, у каго яны ёсць, носяць у кішэні па пяць-шэсць патронаў.

Далей ідзе не лепей. Камандзіры Надпрыпяцкага атрада Міхнавец, Сасновіцкага — Гаркуша гэтак жа, як Дзяруга, прамаўляюць, гледзячы ў паперкі, урачыстыя гучныя словы.

Бондар нервова перакатвае ў пальцах аловак. Нараду Вакуленка не падрыхтаваў. Прамоўцы як бы навыперадкі адзін перад другім стараюцца засведчыць, што разбіраюцца ў палітыцы, вядуць правільную лінію, а пра канкрэтныя справы гавораць найменей, не прамінуўшы, аднак, зазначыць, з якога часу дзейнічаюць атрады.

Бондара ўзрадаваў толькі Хмялеўскі, камісар Гарбылёўскага атрада. Гаворыць не з месца, устае, падыходзіць да стала. Ахайны, у добра адпрасаванай гімнасцёрцы, з падшытым

падкаўнерыкам. Хоць настаўнік, а на вайскоўца болей падобны, чым некаторыя, што гадамі служылі ў арміі. У Хмялеўскага таксама сшытак, але ён у яго не заглядвае. Дае падрабязную карціну: хто, калі і адкуль у атрад прыйшоў, колькі ўчынена дыверсій на чыгунцы, разагнана ўпраў, гарнізонаў, сарвана гаспадарчых мерапрыемстваў немцаў. Пад канец камісар падпускае шпільку папярэднім прамоўцам, сказаўшы, што не стажам трэба пахваляцца, а баявымі рахункамі.

Хмялеўскі не паспеў сесці, як падхопліваецца з налітым чырванню тварам Гаркуша, уздымае шурпатую далонь Дзяруга. Узбуджана гамоняць камандзіры, камісары глыбінных раёнаў, у якіх з выхадамі на чыгунку, з буйнымі дыверсіямі не густа. Нарада можа скіравацца ў непажаданы бок. Лаўрыновіч гэта адчувае, устаўшы, нахмурвае бровы, папярэджвае наконт дысцыпліны.

## II

Вясна наступае павольна-стрымана, спакойна. Празрыстыя, чыстыя таны пануюць у паветры. Днём веюць цёплыя вятры, капае са стрэх, чарнеюць дарогі. Раскашуюць на нечувана багатым харчы, накіданым па дарогах, гракі. Надвячоркам лёгкі прымаразак зноў падсушвае ручаіны, акрываючы іх лёгкай, хрупасткай наледдзю. Чуючы блізкае цяпло, нават галубы прыляцелі: туркочуць на ўзлессі, на дубах.

Штаб ахоплен ліхаманкавай работай. Бондар з памочнікам Дарошкам спяць мала, носяць пад вачамі сінія кругі. Стварэнне брыгад на базе атрадаў азначае вылучэнне на высокія камандныя пасады множства людзей. Многія камандзіры рот прызначаюцца камандзірамі атрадаў, палітрукі ідуць на камісараў. На ўсіх трэба характарыстыкі, іншыя паперы, а работа ў штабе падзапушчана, і яшчэ болей — у атрадных штабах.

Ноч наўсцяж трашчыць у штабе на стале, раз-пораз успыхваючы зыркім агнём, запраўленая бензінам дванаццацілінейная лямпа. У магазын дзеля раўнамернага гарэння падсыпана соль. Але і падсолены бензін страляе.

На камандзіра Гарбылёўскай брыгады ідзе Бальшакоў. З яго кандыдатурай згодны новаст  вораны абкам і штаб. Хто

ўзначаліць дамачоўцаў, невядома. Наконт Петраўца — сумненні. Калі не пацягнуў атрад, то як стане на брыгаду?

Вакуленка блукае злосны, нахмураны. Піць нібыта перастаў, але ўсё адно як з пахмелля. Лаўрыновіч, асядлаўшы яго жарабца, узяў у ахову трох маладых партызан і носіцца па атрадах.

Лаўрыновіч прыляцеў не адзін. Разам з ім Бурбіс, ружовашчокі, шыракаплечы мацак, які кіраваў у вобласці спортам. Намеснік па камсамолу. Другі пажылы, з вострым пранізлівым позіркам, але ветлівы ў абыходжанні — упаўнаважаны НКВД. Прозвішча Хлябцэвіч. Ваяваў у Іспаніі, паездзіў нібыта па ўсім свеце. Набірае ў атрад спецыяльнага прызначэння людзей. Каторым намеснікам будзе ён, Вакуленка, які ў партызанах з першага месяца вайны, падняў болей як дзесяць атрадаў, заварыў такую густую кашу? Высокіх пасад не займаў, адукацыяй пахваліцца не можа — тры класы, чацвёрты калідор...

Бондар з Дарошкам, сабраўшы паперы і замкнуўшы іх у жалезную скрынку (у такіх скрынках даваенныя касіры хавалі грошы), клаліся спаць, калі ў пакой, з грукатам адчыніўшы дзверы, усоўваецца бокам Вакуленка. Моцна п'яны, у расхрыстаным кажушку, без шапкі. Мокрыя, потныя космы звісаюць на лоб. Вакуленка плюхаецца на табурэтку — яна трашчыць пад ім усімі ножкамі,— абшчаперыўшы рукамі галаву, недаўменным позіркам абводзіць пакой.

— Давайце пагаворым, хлопцы. Ці, можа, вы ўжо мяне за камандзіра не лічыце?

Бондар зачыняе дзверы, садзіцца на ложак.

— Пашкадуй нас, Адам Рыгоравіч. Каторыя суткі, як зайцы, спім.

Вакуленка выбухае гневам:

— А мяне хто шкадуе? Усіх вас з гразі павыцягваў, людзьмі зрабіў, а вы, свінні, задамі да мяне. Новаму начальніку боты ліжаце. Пагладзіў па шэрсці, дык вы лапкі ўверх. Хто вас застаўляе горбіцца над бумагамі? Хіба мы бумагамі ваявалі? Дванаццаць атрадаў хто на ногі паставіў?

— Гэта ты з п'янай галавы, Адам Рыгоравіч,— азываецца Бондар.— Дарэмна гэтак. Свой атрад я, між іншым, сам

арганізаваў. Ад цябе дапамогі было — дзве паперкі. Яшчэ сустрэўся з табой, калі не забыў, у канцы сорак першага.

Дарошка, апусціўшы вочы, сядзіць пры стале, вострыць сцізорыкам аловак.

— Добра, Бондар, няхай так. Няхай мы з табой роўныя. То чаму ты ад мяне адракаешся? Хто цябе ў штаб прыцягнуў? Хто пазатыкаў горлы, якія крычалі, што табе тут не месца?..

Бондару непрыемна, балюча. Ён цяпер як паміж двух агнёў. Лаўрыновіч залішне крута паступае, адціскаючы Вакуленку. У той жа час Бондару як ваеннаму бліжэй да сэрца парадак, дысцыпліна. Хіба не за гэта сам Вакуленка забраў яго ў штаб?

— Не бядуй, Адам Рыгоравіч. Баявых коней у запас не спісваюць. Знойдзецца месца. І не плявузгай на акружэнцаў. Фронт мы дзяржалі. З гразі вылезлі самі.

Вакуленка, пахістваючыся, устае, бярэ з падаконніка графін з вадой, п’е. Вада струменямі ліецца на кажух, на гімнасцёрку — не зважае.

Аддыхаўшыся, ён насядае яшчэ з большай злосцю.

— Вас, акружэнцаў, чаму не любяць? Таму што ваявалі пагана. Ведаеш сам, як народ для арміі стараўся. Нашы людзі апошнім дзяліліся. Я ж па нарыхтоўках працаваў, магу без канспекта раз’ясніць. І ты мне не талкуй пра акружэнцаў. У вас былі пушкі, кулямёты, вінтоўкі, а вы іх пакідалі. Мы пазбіралі тое, што вы пакідалі, і етым ваюем. Ведай ета, Бондар. Але я за другое абіжаюся. Лаўрыновіч няправільна паступае, а ты да яго прыліп. Перабежчык ты. А мая душа не церпіць перабежчыкаў.

— Да каго я перабег? Няўжо ты забыў, хто прыслаў Лаўрыновіча?

— Ты мяне не пужай. Я самому таварышу Сталіну магу напісаць. Няхай ведае, колькі нам, парцізанам сорак першага года, стоіць наша парцізанства. Дзе нашы жонкі, дзеці? За што нас адціраць на задні план?

Вакуленка ідзе да ложка, не распранаючыся, валіцца на яго і адразу пачынае храпці. Што тут думаць: ці сапраўды так балюча перажывае адстаўку, ці плёў непатрэбства з п’янай галавы?

## III

Падзеленыя ў штабных паперах атрады Дзяругі, Гаркушы, Міхнаўца, Паслядовіча, Батажкова, Бальшакова, Камарова, Млышэўскага зацвярджаюцца на пасяджэнні абкама як брыгады.

Колькасна меншыя атрады Лежнаўца, Плотнікава, Аўраменкі, Карафанава, Сасноўскага, Галышава застаюцца на ранейшым становішчы.

Пытанне праходзіць лёгка. Камандзірамі, камісарамі, начальнікамі штабоў прызначаюцца людзі, вядомыя ў сваім асяродку.

Калі заходзіць гаворка аб начальніку штаба злучэння, Бондар уздымае руку. Устае, коратка паведамляе пра паездку ў Піляцічы, размовы з жыхарамі. Нагадаўшы, што родам з Бацькавіч, ведае раён, просіць даручыць яму арганізацыю мясцовага атрада.

З хвіліну пануе маўчанне.

— Калі просіцца, хай ідзе,— не ўстаючы з лаўкі, гукае новаспечаны камбрыг Міхнавец.— Камандзір, нашто яго ў штабе дзяржаць? А ў штаб я свайго капітана адпушчу. Адарваў ад адной удавы, на вожках у атрад прывёў. Паставіў на ўзвод, але магу для пользы дзела аддаць.

Зал выбухае рогатам.

Лаўрыновіч разгневаны:

— Атрады нашай вобласці не мелі адзінага цэнтра. Абкам, штаб створаны, каб такі цэнтр быў. Тут таварыш Міхнавец кінуў жарт наконт штаба. Зарубіце на носе, таварыш Міхнавец, загад штаба — закон для вас. Ваша лінія, таварыш Бондар, таксама няправільная. Вам аказана высокае давер’е, ім трэба даражыць, вось што скажу я вам.

За Бондара галасуюць усе.

Наступнае пытанне — аб пасылцы ініцыятыўных груп у Паўднёва-Прыпяцкія раёны. Да апошняй хвіліны ніхто не ведае, на якой пасадзе застанецца Вакуленка. Калі ж Лаўрыновіч прапануе прызначыць яго камандзірам яшчэ не створанай Паўднёва-Прыпяцкай зоны, прысутныя насцярожана стойваюцца.

Бондар адразу адчуў, што сваёй прапановай Лаўрыновіч робіць памылку. Вакуленку не надта слухаюць, не заўсёды з ім лічацца, але ён як бы жывая гісторыя вакольнай партызаншчыны.

Першы ўстае Міхнавец. На галаве высокая, з аўчыны кучомка, з шырокай чырвонай паскай, з-пад расхрыстанага скуранога паліто відаць дыяганалевая камандзірская гімнасцёрка, перацягнутая крыж-накрыж рамянямі.

— Вакуленку за Прыпяццю не ведаюць, а ў нас ведаюць,— Міхнавец махае рукой за кожным словам.— Аднаго яго голасу баяцца. Я кажу пра ворагаў савецкай уласці, таварыш сакратар. Трэба яго тут паставіць на брыгаду. Можа, будзе паніжэнне, але нічога не зробіш. Мы з ім акадземій не канчалі...

Міхнавец — яго Вакуленка вылучыў, падняў — камандзір не надта. Але ён як бы ўгадаў агульны настрой.

У падтрымку Вакуленкі выступае райкамавец Грынько, акружэнцы Карафанаў, Плотнікаў.

Лаўрыновіч нарэшце разумее, што пралічыўся.

— Няхай будзе па-вашаму, таварышы. Я толькі думаў, што Вакуленка прынясе болей карысці ў Запрыпяцкай зоне. Атрадаў там няма, іх трэба арганізаваць. А ў яго вопыт і слава, як вы самі гаворыце. Калі вы супраць, то прапаную прызначыць Вакуленку на Дамачоўскую брыгаду. У раёне тры неразагнаныя гарнізоны. Работы хопіць. Насельніцтва сельскае, думаю, Вакуленка будзе ў сваёй стыхіі.

Калі пасяджэнне скончылася, Бондар затрымаў новапрызначаных камбрыгаў, камісараў, трох-чатырох атрадных камандзіраў. Адвёўшы ўбок Бальшакова, Хмялеўскага, загадаў:

— Ваша брыгада базавая. Штаб злучэння будзе пры ёй. Запрашайце гасцей. Каб усё было чын чынам.

Спускаецца сіняваты полаг сутоння. Заходні край неба ў барвовых разводах. Над дальнім лесам запальваецца першая зорка. З усіх куткоў, шчылін патыхае вясной: пахне прэлай зямлёй, гнілым, зляжалым бульбоўнікам.

Ажыўленне, рух на вуліцах. Кожны з камандзіраў прыехаў з аховай, вазкі, таратайкі, коні амаль у кожным двары. Яшчэ ніколі не бачыла лясная Сасновіца, паблізу якой не

пралягаюць ні чыгунка, ні шаша, такога вялікага людскога зборышча. Нібы па ўзмаху рукі нябачнага чараўніка з гарадскіх праспектаў, плошчаў, з людных мястэчак жыццё перамясцілася сюды, у лясную глухамань.

Гарбылёўцы тварам у гразь не ўдарылі: застолле адменнае. Калі Лаўрыновіч заходзіць у хату, куды яго запрасілі, усё гатова да банкету. Засланыя белымі абрусамі сталы наўсцяж застаўленыя пітвом, закускамі. Камандзіры прыехалі не з пустымі рукамі, магчымасць сабрацца, пагаманіць за сталом — прадбачылі.

Сала, мяса па вясковаму звычаю нарэзана таўставата, вялікімі кавалкамі. Талерак не хапае, таму шмат якія закускі — у глыбокіх гліняных місках. Стаяць цёмнага і светлага шкла бутэлькі з затычкамі з ільнянога пакулля.

Далікатнымі панямі сярод пляшак, гліняных місак, нажоў з драўлянымі тронкамі выглядаюць вузкія, з наклеенымі залатымі этыкеткамі бутэлькі французскага віна. Каля кожнай бутэлькі — каробачка з партугальскімі шпротамі. Выставіўшы замежны трунак, закуску, гарбылёўцы як бы пацвярджаюць сувязь з шырокім еўрапейскім светам і ў першую чаргу з чыгункай, па якой перавозіцца ўсё, што трэба.

Камандзіры стаяць каля сцен, перамаўляюцца, чакаюць. Вакуленка ўсё-такі малайчына. Здолеў заціснуць гонар у кулак. Вясёлы, падцягнуты — сустрэў Лаўрыновіча на парозе, узяў пад руку, пасадзіў у цэнтры застолля. Запрасіў садзіцца астатніх. Ён, калі трэба, умее быць гасцінным, абыходлівым, гэты Вакуленка, якога прывыклі бачыць на кані або ў таратайцы і найчасцей — пад хмяльком. Воляй абставін ён узнёсся над астатнімі камандзірамі, бо на чале атрадаў стаялі старшыні сельсаветаў, калгасаў, брыгадзіры, нават рахункаводы і кладаўшчыкі. А ён жа, Вакуленка, апошнія месяцы замяшчаў старшыню райвыканкама, і каму, як не яму, было браць лейцы ў рукі, кіраваць, аддаваць загады. Тады ж, калі Акцябршчына загарэлася агнём супраціўлення, каму, як не яму, было перакідваць полымя на суседнія раёны?..

З поўнай, налітай да краю шклянкай Вакуленка ўздымаецца над сталом. Пачынае прамову з несхаванай урачыстасцю:

— Дарагі Сяргей Кандратавіч, мы рады прыветствуваць вас на роднай палескай зямлі як нашага сакратара і камандзіра. Дакладуем вам, што як і ў гражданскую вайну, наша Рудобелка стаяла і стаіць у авангардзе барбы супраць ненавіснага ворага. Ад сябе лічна скажу, што ў Запрыпяцкую зону я ісці не хацеў, бо там мала лесу, болей поля, а да поля я не прывык. Брыгаду, на якую мяне назначылі, прымаю, даверые парціі і правіцельства апраўдаю. Перадаю вам сваю парцізанскую ўласць як законнаму ўпаўнаважанаму Цэнтральнага Каміцета, якому мы ўсе падчыняемся. Кіруйце намі да поўнага вызвалення вобласці ад праклятых фашысцкіх захватчыкаў і наступлення мірнай сазідацельнай жызні...

З гэтымі словамі Вакуленка абдымае Лаўрыновіча, цалуе ў губы, а затым імгненна, адным дыхам апаражняе сваю шклянку.

Воплескі... Абдымкі... Пацалункі... Некаторыя, не саромячыся, тыльным бокам далоні змахваюць слязіну.

Наступны тост Лаўрыновіча. Ён дзякуе за давер, гаворыць аб тым, што партызанскіх заслуг не мае, але пастараецца займець. Момант спрыяльны, і Лаўрыновіч паведамляе — найбольш відныя партызаны будуць прадстаўлены да ўзнагарод, нават да прысваення воінскіх званняў.

Афіцыйная нацягнутасць знікае, па застоллі з краю ў край перадаецца ўзбуджаны гоман:

— Сяргей Кандратавіч, аэрадром у Зарэччы на нашай церыторыі, а палучаем вельмі мала. Шэсць аўтаматаў на брыгаду...

— Чыгунку на Жлобін трэба раскідаць. Тады будзе суцэльная парцізанская зона...

— Як разумець пра пагоны, таварыш сакратар?..

— Фёдар Бумажкоў пайшоў у армію разам з вамі. Можа, што чутно пра яго?..

Лаўрыновіч адказвае, расказвае, на хвіліну наступае цішыня, затым — зноў пытанні.

Харошае застолле, і гаворка харошая. Упершыню за доўгія месяцы сышліся ў ёй самыя відныя людзі, якіх узняла на грэбень хваля ваеннага ліхалецця. Невядомыя, не славутыя раней, яны вынырнулі як бы з цемені і цяпер сядзяць за

адным сталом з чалавекам, які не толькі ўпаўнаважаны высокай партыйнай улады, але і генерал. Можа, нават трохі зайздросціць ім гэты свойскі, не фанабэрысты і, відаць, не дурны генерал, хоць невядома пакуль, якія выйграў ён бітвы. А яны выйгралі — і ведаюць гэта самі. Непрыкметныя службоўцы, сціплыя працаўнікі нізавога — раённага, сельсавецкага звяна, учарашнія брыгадзіры, калгаснікі, настаўнікі, камандзіры-акружэнцы, яны ў часіну небяспекі, якая навісла над іх краінай, знайшлі сілу без каманды і загаду павесці за сабой другіх. Імёны іх на вуснах тубыльцаў ляснога, балотнага краю. Яны яго героі.

Вакуленка з Міхнаўцом выбраліся на двор праветрыцца.

— Сакратар ніштаваты,— прыхінуўшыся спіной да паркана, кідае Вакуленка.— Я яго да вайны ведаў. Пясочыў мяне ў саракавым за зрыў ільновалакна. Вельмі туга было тагды з трастой. Аршанская фабрыка стала. А цяпер я яго калі-небудзь прапясочу. Мог жа тут астацца, як мінскія, гомельскія абкамаўцы. Дык ён яшчэ Бумажкова пацягнуў. Дзякуй, што брыгаду даў. Двум мядзведзям, брат, у адной бярлозе цеснавата. Спытаю калі-небудзь.

— Не спытаеш,— Міхнавец рагатнуў.— Мне расказвалі — наводзіць наконт цябе спраўкі: колькі п'еш, з якімі бабамі спіш. Прыцісне — будзеш як мыш пад венікам.

— Мышшу я не быў і не буду.

Дыхае ноч цёплым ветрам. Капае са стрэх, пахне мокрым дзеравам.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

Сваім пераводам у Мазыр Эрна Турбіна абавязана генералу Фрыдрыху. Дзён праз пяць пасля Новага года ён паявіўся ў суправаджэнні двух маёраў і капітана-ад'ютанта. Рашуча, без стуку адчыніўшы дзверы, імкліва ўварваўся ў агульную канцылярыю. Турбіна сядзела за сталом, размаўляла па тэлефоне.

Яшчэ тады, калі стройны, маладжавы, хоць ужо зусім сівы генерал толькі ўваходзіў у кабінет гебітскамісара, яна злавіла на сабе яго востры, як цвік, позірк, апусціла вочы.

Генерал у камісара затрымаўся нядоўга, не болей чым чвэрць гадзіны. Але Турбіна паспела за гэты час, як бы штосьці прадчуваючы, падвесці карандашыкам бровы, падпудрыцца, пафарбаваць губы.

Выйшаўшы з кабінета, генерал спыніўся насупраць яе.

— Фольксдойч? — рэзка, гартанна спытаў ён і зноў кальнуў яе стальным позіркам шэрых, трохі выцвілых вачэй.

— Немка,— на гэты раз Турбіна вытрымала генеральскі позірк.

— Як трапілі ў Расію?

— Мой бацька — інжынер. Працаваў па кантракту ў Данбасе.

— Працаваць у маёй канцылярыі згодны? Мне патрэбны немцы, якія ведаюць край, насельніцтва.

За спіной генерала навыцяжку стаіць гебітскамісар, прыплюшчыўшы левае вока, ледзь прыкметна падміргвае — згаджайся. Святло генеральскай ласкі ў залежнасці ад яе згоды ці нязгоды, відаць, можа праліцца на асобу самога камісара.

— Я згодна, пан генерал. Але ў мяне двое дзяцей, хлопчыкаў. Абавязак маці...

— Капітан,— генерал нават не павярнуў галавы.— Запішыце. Кватэру для фрау...

— Турбіна,— падказвае перакладчыца.

— Для фрау Цюрбін.— Як усе немцы, генерал перайначыў яе прозвішча.— Як можна лепшую. І ўсё астатняе. Вам тыдзень на зборы хопіць?

— Дзякую, пан генерал. Не знаходжу слоў.— Лёгкая чырвань залівае шчокі перакладчыцы.

Генерал у лёгкім паклоне схіляе галаву, казырае гебітскамісару, крута павярнуўшыся, чаканячы крок, ідзе да выхада. Уся світа, як бы паўтараючы кожны генеральскі жэст, выдыбае следам за ім.

У Мазыры Турбіной далі асобны дамок. Ён стаіць на гары, атулены яблыневым садам, проста з акон адкрываецца

прыгожы далягляд: аснежаныя запрыпяцкія лугі, далёкія цёмна-сінія сасоннікі.

У горадзе штабы тылавых служб, акруговыя цывільныя ўстановы. Паколькі ў ваенныя гарадкі Козенкі, Мышанкі, у казармы Гарбылёўскага пяхотнага вучылішча прыбываюць на папаўненне воінскія часці, у самім горадзе абсталявана штосьці накшталт вайсковага афіцэрскага санаторыя. Афіцэры катаюцца з гор — а ў Мазыры менавіта горы — на лыжах, вечарам забіваюць казіно і рэстаран.

Выбраўшыся з Гарбылёў, Турбіна ўздыхнула з палёгкай. Апошнія месяцы сядзела там як на вуголлі. Там знаёмыя — яны так ці інакш ведаюць яе па школе, чулі пра мужа; не маглі астацца не заўважанымі яе спатканні з Фрыцам Зонэмахерам. Тодтаўскі інжынер — бадай, тое галоўнае, што прымусіла Турбіну згадзіцца на паспешлівы пераезд у Мазыр.

Завязаўшы ніці сувязі з партызанамі ці з людзьмі, якія ім памагаюць, ён рашуча, неміласэрна адштурхнуў яе ад сябе. Вядома, пра сваю работу яна яму не сказала нічога, гэта яго не датычыць. Але яе жаночы гонар Фрыц зняважыў.

Эрна Іванаўна ніколі не пераступала мяжу паміж асабістым жыццём, тым, што датычыць яе душы, сэрца, і сямейнымі абавязкамі. Гаспадыняй у доме, маці сваім дзецям яна была заўсёды. Можа, у гэтым праяўляецца яе нямецкая душа, бо яна ведае нямала іншых жанчын, якія каго-небудзь пакахаўшы, зблізіўшыся з другім мужчынам, могуць дзеля яго забыць усё на свеце. Яна ж, наадварот, патрабуе такога толькі ад мужчыны, як бы пакідаючы за сабой права прымаць ці адхіляць ахвяру.

Фрыц прымусіў парушыць правіла. Быў у яе месяц, калі, зняважаная, абражаная ім, тым, што ён пазбягае нават патайных сустрэч, не знаходзячы сабе месца, яна пайшла ад роспачы на свядомае прыніжэнне. Падрыхтавала вячэру, апранула хлопчыкаў у святочныя вопраткі, запрасіла Фрыца на кватэру. Ёй хацелася, каб ён паглядзеў, як яна жыве. Ён адмовіўся.

То быў безразважлівы, адчайны крок, але менавіта з гэтага моманту яна стала глядзець на свайго абранніка крытычна. Штосьці яна ў ім разгадала.

Ён добры, мяккі, абыходлівы, але пры ўсіх сваіх адменных вартасцях больш, чым каго-небудзь другога, любіць усё-такі сябе. Таму так старанна ахоўвае сваю незалежнасць. За сорак год жыцця ніхто яго не крануў, не ўзрушыў. А хіба сапраўдны мужчына не зробіць немагчымае дзеля каханай жанчыны?..

Сумленны бухгалтар, думае яна пра нядаўняга каханка. Умее, як на костачках лічыльнікаў, аддзяліць добрыя ўчынкі ад благіх. Не адчувае, што дабро, калі зірнуць вачамі другога чалавека, можа быць для яго злом.

Яна, немка, асуджае немцаў. Нават лепшых з іх не можа прыняць, пагадзіцца з тым, як яны глядзяць на свет.

У Мазыры Турбіна ні ў якія авантуры не кінецца. Хопіць, пакаштавала ўдосталь. Ходзіць на службу, вечарамі сядзіць дома. Калі запрасіў на службу сам генерал, то якое-небудзь патайное вока за ёй сочыць.

Трохі непакоіць перакладчыцу тое, што пайшла ў генеральскую канцылярыю, не даўшы знака партызанам. Але калі яна ім трэба, то знойдуць. Яе новае становішча для іх жа карысці.

Усё часцей пачынала думаць Эрна Іванаўна пра мужа. Калі жывы, калі вернецца да яе, то сваё грамадзянскае сумленне яна перад ім апраўдае. Астатняе яе цікавіць мала. Навучылася жыць уласным одумам. Хлопчыкаў як-небудзь пракорміць.

Карту для партызан Турбіна робіць болей чым месяц. Такая карта, толькі значна большых памераў, вісіць на сцяне ў кабінеце маёра Швана, аднаго з тых, хто завітаў разам з генералам у Гарбылі.

Маёр дае перакладаць Эрне Іванаўне розныя цыркуляры, якія затым перадрукоўваюцца на машынцы, рассылаюцца паліцэйскім управам. Карта затулена занавескай, але бывае, што маёр штосьці дамалёўвае на ёй, і тады Эрна Іванаўна мае магчымасць крадком на яе зірнуць. Адзін раз, калі маёра не было ў кабінеце, перакладчыца сама адхінула занавеску, добра прыгледзелася.

Загадкавы Тапаркоў, сувязнік па Гарбылях, падпільнаваў Эрну Іванаўну проста на вуліцы. Яна ледзь не крыкнула ад страху, убачыўшы яго ў форме нямецкага лейтэнанта, у добра падагнаным шынялі, наглянцаваных ботах. Нямецкай мовы

не ведае, можа правaліцца кожнае хвіліны. Але Тапаркоў прызначыў ёй на вечар спатканне ў глухім правулку, непадалёк ад яе дома, і яна, дрыжучы, калоцячыся ад страху, прыйшла, прынесла карту.

Дзіўна, але яна міжволі ўспамінае ў апошні час Тапаркова. Твар прыемны, жывыя, неспакойныя вочы, у якіх Эрна Іванаўна даўно заўважае несхаванае захапленне сабой.

## II

Кожны новы дзень пачынаецца цяпер пад знакам музыкі, якая нячутна звініць у душы. Зноў да Міці прыйшоў настрой, які валодаў ім перад вайной. Дзве мелодыі змяняюць адна другую: вальса — «Над хвалямі» і даваеннай песні — «Любімы горад».

Растоў і Харкаў вызвалены ў адзін дзень. Харкаў — блізка, суткі язды, ён у ліку гарадоў, звязаных чыгункай з мястэчкам. Летась, у маі, нашы падыходзілі да Харкава, але спроба адчыніць вароты Украіны скончылася трагічна.

Вызваленне двух вялікіх гарадоў супала з днём Міцевага нараджэння. Не з простым днём — Міцю споўнілася васямнаццаць. Ва ўсім гэтым ён бачыць як бы таямнічы знак лёсу.

Свайго паўналецця Міця не адзначае. Між імі, хлопцамі, такое не прынята. Ён не ведае, у які дзень нарадзіліся Лобік, Мікола, яны таксама гэтым не цікавяцца. Такія дробязі для іх не існуюць...

Выйшаўшы ад Шарамета, усхваляваны навінамі, Міця блукае па правулку. Да хлопцаў не ідзе. Хочацца пабыць аднаму.

Насупраць цётчынага агарода, ля чыгуначнага насыпу, высіцца вялізная таполя. Ёй, мабыць, столькі, колькі чыгунцы — гадоў семдзесят. Міця любіць дрэва. Як сасна ля будкі, яно нібы нагадвае аб нязменным, вечным, што ніколі не згубіцца ў жыцці. Лісце на дрэве — гады, само яно — пакаленні. Многа людзей глядзела на таполю, поўнілася надзеямі, радасцю.

У чорным разлапістым голлі пашумлівае вецер. Блізіцца вясна. Дні пабольшалі, цяпер яны напоены незвычайнай празрыстасцю. Вечарам празрыстасць гусцее, сінее. Нават начны змрок як бы падсвечаны вячэрняй сінню.

Міця расхаджвае ўзад-уперад па цёмным завулку, не могучы ўтаймаваць радасць. Вайна — асобы стан душы. Хутка два гады жыве ён незвычайна абвостранымі, няўрымслівымі пачуццямі. Дзень за днём усё той жа агонь. Душа настроена на высокую, палымяную хвалю...

Пахрумствае пад нагамі тонкая наледзь. За чыгункай чарнеюць хаты Залінейнай вуліцы. Далей — аснежанае поле, цёмная падкова лесу.

Вецер, што абвявае твар,— не проста вецер. Ён, як у даваеннай песні пра любімы горад, зноў вяртаецца на ранейшыя кругі.

Назаўтра, вярнуўшыся са службы, Міця застае ў хаце Міколу. Учарашняя радасць сёння азмрочана. У лясгас прыходзіў Гвозд, круціўся ў калідоры, зазірнуў да сакратарак.

Міця расказвае пра шпіка.

— Трэба асцярожней,— гаворыць Мікола.

Ён заўсёды гаворыць лозунгамі. Найцяжэй, вядома, яму самому. Каб Мікола не служыў у паліцыі, не вымаў міну і яму не адцяла руку, то яны, змоўшчыкі, наогул не здолелі б дзейнічаць так, як цяпер. Паспрабуй хоць раз выбрацца з мястэчка.

У мястэчку за апошні тыдзень перамены. Яно цяпер на ваенным становішчы. Усталявалася фельдкамендатура, якая размяшчаецца ў новым будынку пошты. Акрамя мясцовай ёсць палявая жандармерыя. Яе салдаты носяць на шыі вялікія бляхі.

Цяпер ніводная машына, нават калі яна едзе па дровы, не можа пакінуць мястэчка без пропуска. Ляснічы Лагута кожны раз пасылае Міцю ў фельдкамендатуру за пропускамі.

На бліжэйшых чыгуначных станцыях атабарылася пяхотная дывізія. Штаб у мястэчку, у памяшканні міліцыі. Тылавыя службы папаўняюць запасы фуражу, робяць блокі для бункераў, дзотаў. Дзерава бяруць на месцы, ляснічым даюць даведкі. На аснове даведак лясгас выстаўляе воінскай часці рахункі, якія Міця носіць у яе бухгалтэрыю.

Спісаныя разборлівымі друкаванымі літарамі лісткі, у якіх звесткі пра варожыя вайсковыя часці, Міця аддае Міколу. Працуючы ў лясгасе, можна аб сім-тым даведацца.

Падвечар прыходзіць Лобік. Інструкцыі, якія прысылае Мазурэнка, хлопцы чытаюць разам. Найбольшую ўвагу капітан

надае чыгунцы, таму ўвесь час павучае Івана — клічка яго Бабок,— як складаць зводкі руху эшалонаў.

Іван нават спецыяльную форму выдумаў. Справа не простая: трэба паказаць эшалоны, якія ідуць на ўсход і захад, іх колькасць, што вязуць. Адзін і той жа састаў мае вагоны з салдатамі, платформы з разнастайнай ваеннай тэхнікай. У двайным, вырваным са сшытка лісце мноства граф, якія Іван, нібы бухгалтар, запаўняе дробнымі, акуратна выведзенымі лічбамі, квадратамі, трохвугольнікамі, прамавугольнікамі.

Паперкі Мікола носіць у кішэні, прышытай да калашыны знутры. Пакуль ён іх хавае, Міця стаіць на варце, каб не зазірнулі ў пакой меншыя браты.

Міця і яго таварышы, нябачнымі ніцямі прылучаныя да ляснога партызанскага свету, пра партызан думаюць з павагай. Там людзі смелыя, кемлівыя. Палахліўцаў або дурняў там не можа быць.

Але вось выпадак, які разумнымі прычынамі не вытлумачыш.

Есіп Кавенька, Міцеў сусед, які разам з бацькам рабіў абходчыкам, паехаў у дальнія сёлы мяняць соль на бульбу. У мястэчку з харчам цяжкавата, кірмаша няма, нідзе нічога не дакупішся. Шмат местачкоўцаў вандруе па вёсках, выменьваючы прадукты.

Каня ў Кавенькі няма, папрасіў у чалавека, які, кажуць, быў паліцэйскім.

Адтуль, з балотных сёл, Есіпа прывозяць мёртвага. Уся вуліца ідзе за труной на могілкі.

Дык што ж, сляпыя, там, у лесе? Не могуць разабрацца, хто свой, хто чужы?

Мінулай зімой партызаны таксама расстралялі местачкоўца. Але тады іх можна было зразумець. Той, мінулагодні, быў малады, нават актывіст. Наладжваў тэлефонную сувязь паміж валасцямі. Партызаны яго ўзялі да сябе. Атрада не было — малая групка. Сувязіст спалохаўся. Кінуўся наўцёкі.

Есіп Кавенька нічога не баяўся. Калі немцы ў сорак першым бамбілі мястэчка, спакойна касіў на выгане рамонкі.

Паміж хлопцамі з выпадку недарэчнага забойства спрэчка.

— Падрываецца ідэя партызанскага руху! — гарачыцца Міця.— Свае забіваюць свайго. Падурнелі…

Скептычны Лобік хмыкае.

— Ты думаеш, так проста разабрацца? Паехаў на паліцэйскім кані.

— Дык што, калі на паліцэйскім? А мы нашто? Не маглі ў нас спытаць?

Прымак падлівае масла ў агонь:

— Табе хочацца, каб было па кніжачках.

З Прымаком сапраўды смешна атрымалася. Паслалі, як і Міколу, працаваць настаўнікам, наладжваць сувязь з партызанамі. А ён сам ледзь ногі прынёс.

Пра выпадак з Есіпам Міця ўсё ж напісаў Мазурэнку.

У лясгас забрыдаюць пажылыя салдаты, кіруючы ў кабінет да Лагуты. Ён у такія хвіліны заўсёды выклікае Міцю. Друкаваны нямецкі тэкст Міця разбірае добра, дый размову стаў збольшага разумець. Вялікіх цяжкасцей у гаворцы з немцамі, якія наведваюцца да Лагуты, няма.

— Табак! — кожны раз патрабуюць яны.

Салдатам выдаюць па восем цыгарэт на дзень. Пранюхаўшы, што ў лясгасе ёсць прыпас махоркі (ён выдзелены для лесарубаў), яны ходзяць клянчыць курыва. Дзе-небудзь у Германіі салдаты, мабыць, не адважыліся б турбаваць такую асобу, як старшы ляснічы, але ў Расіі — не саромяцца.

На Лагуту, калі прыходзяць немцы, смешна глядзець. Яго шырокі, як засланка, твар расплываецца ва ўсмешцы, ляснічы мітусіцца, выдыбае па кабінеце. Махорку выпісвае безадказна.

У апошні час Лагута ўсё часцей заглядвае ў пакойчык касы, беручы грошы пад распіску. Бярэ адразу па дзвесце — трыста марак — сумы, якія намнога перавышаюць яго месячны заробак. Карбованцаў, акупацыйных марак не хоча, просіць рэйхсмаркі.

Праз тыдзень-два Лагута прыносіць акты на выдаткаваныя грошы. У іх засведчана, што куплены гумавыя скаты для аўтамашын-газагенератараў, розныя запчасткі, дэталі. Дзе, у каго куплена — невядома. Міця акты прымае. Нямецкіх грошай не шкада. Дый хто стане выкрываць галоўнага ляснічага ў махлярстве? Банка няма, фінансавымі справамі ніхто не цікавіцца.

Аднойчы Лагута заве Міцю да сябе ў кабінет, падсоўвае нямецкую газету.

— Прачытайце, што пішуць? Можа, для сябе адно, а для нас — другое?

Міця перакладае франтавую зводку. Саветы наступаюць. Баі ў Данбасе, заходней Харкава, пад Ленінградам. Усе бальшавіцкія атакі з крывавымі стратамі для праціўніка адбіты...

— Адбіты, адбіты,— нездаволена чмыхае Лагута.— А самі Курск і Харкаў здалі. Мянташаць языкамі. Брахуны.

Твар у ляснічага насуплены, панылы. Лагута зрываецца з месца, апранаецца, некуды бяжыць. Цяпер яго рэдка застанеш у кабінеце.

## III

Збліжэнне з ляснічым дае плён. Тое, што Міцю арыштоўвалі, а пасля ён ірваўся настаўнічаць у вёску, якая цяпер кантралюецца партызанамі, відаць, не забыта.

У мястэчку створана біржа працы. Ёй запраўляе Дзіна Ліпнякова. Тая самая, што працавала ў рэдакцыі, пісала вершы, а калі пачалася вайна — заклікала, не шкадуючы сіл, змагацца з фашызмам.

І адразу Міцю позва — з'явіцца на біржу. Ён не ідзе — якога д'ябла будзе кланяцца Ліпняковай, калі мае службу. Кабыла нямецкая. Зашмат аб сабе думае.

Міця паказвае позву Лагуце, і той абяцае памагчы. Але, відаць, забывае, бо дзён праз колькі па дашчанай падлозе лясгаса грукае падкаванымі ботамі унтэр-афіцэр, які загадвае будаўнічымі работамі. Узводзяцца новыя дзоты, капаюцца траншэі — работу вядуць пад наглядам немцаў местачкоўцы.

Унтэр-афіцэр знаёмы — часцей другіх забрыдае выпрошваць махорку. На гэты раз выгляд у яго строгі.

— Ляпатка, ляпатка,— тыцкаючы пальцам у паперку, лапоча ён з нейкай нават радасцю.— Шрайбен нікс гут, ман мус міт ляпатка арбайтэн...[1]

---

[1] Пісаць не добра, трэба з лапаткай папрацаваць... (Ламаная *ням.*)

Міця ідзе з немцам да Лагуты. Ляснічы ўеццa каля таго ўюном.

— Пан унтэр-афіцэр, біттэ... Прашу вас. Работнік мне патрэбны. Прашу выкрасліць са спіскаў, пан унтэр-афіцэр.

Міця ўдзячны Лагуце. Выручае фактычна двойчы: восенню — узяўшы на службу, а цяпер — не адпусціўшы. Толькі чаму? Няўжо Лагута аб чым-небудзь здагадваецца...

У лясгасаўскай бухгалтэрыі таксама перамена. Яшчэ месяц назад худая, выпетраная постаць Кашчэя ўзвышалася над сталом да сканчэння рабочага дня. Галоўбух зацята ляскаў на лічыльніках, злосна паблiскваючы з-пад шкелак акуляраў на бухгалтараў, картатэтчыкаў, як бы падаўляючы іх сваёй стараннасцю. Цяпер — часта спазняецца, іншы раз яго зусім няма.

У бухгалтэрыі ў такія часіны — раздолле. Службоўцы збіраюцца ў бакавушцы — такім, як і Міцева каса, пакойчыку,— падоўгу кураць, абмяркоўваюць навіны.

Лішне развязваць язык, вядома, нельга. Старшым бухгалтарам працуе Карасцель, родны брат загадчыка фінансавага аддзела Пілеўскага. Ён тоўсты, з выпуклымі валовымі вачамі. Калі заходзіць размова пра фронт, Карасцель проста млее ад страху. Адступленне немцаў баіцца.

Астатнія весткі з фронту абгаворваюць са смакам. Бухгалтар Асоцкі, стары, сівы, з далікатным інтэлігентным тварам, іншы раз спецыяльна спыняе Міцю:

— Што чуваць, малады чалавек?

Міця расказвае яму трошкі болей, чым астатнім.

Ён лічыць, што Асоцкі не падвядзе: быў на першай германскай вайне, ваяваў з Дзянікіным. Трохі шкада Асоцкага: сам стары, а жонка маладая, дзеці малыя. Ледзь зводзіць канцы з канцамі бухгалтар: абедаць не ходзіць і з сабой нічога не бярэ. Міця здагадваецца — бясхлебіца...

Снег сагнала зусім. Праз закратаванае акно касы відаць разгалістыя старыя яблыні, чорная труба чыгуначнай электрастанцыі.

У пакоі сакратарак прыбавілася новая супрацоўніца — Галя Скавародка, Міця з ёй вучыўся. За два гады дзяўчына яшчэ больш расцвіла, папаўнела, папрыгажэла. Але, як і

раней, яна вельмі смяшлівая. У першы ж дзень расказвае Міцю, як хадзіла ў кіно са Свішчам — жыве такі хлопец на Вакзальнай вуліцы.

— Прыйшоў у хату, халявы начышчаны, насы ботаў аж блішчаць. Я не хацела з ім ісці, але ж спецыяльна білет купіў. Ідзём па вуліцы, а насустрач — вол. То ён мяне проста на вала і ўзвёў.

І звонка, залівіста смяецца. Ніякай спагады да таго, што Свішч трохі падслепаваты.

Галя Міцю падабаецца. Між імі лёгка ўзнікае шчырая даверлівасць. Міцю нават здаецца, што каб ён быў смялейшы, правёў Галю, пасядзеў з ёй на лавачцы, то ў іх маглі б завязацца не такія, як цяпер, адносіны.

Але Міцева душа ў палоне. Тая, другая, ніколі не сказала такіх слоў, як Галя. Яна засяроджана на сабе самой, увесь час як бы нечага шукае і не можа знайсці.

З Сюзанай Міця не сустракаецца. Цяпер па той прычыне, што ў яе новы кавалер — Адам Вашчыла. Ён старэй іх усіх, працуе настаўнікам у Сівалобах, але зрэдку прыходзіць у мястэчка.

Што ж, няхай гуляе Сюзана з кім хоча, калі ёй падабаецца.

У глыбіні душы Міця на Сюзану крыўдзіцца. Але ў ім яшчэ жыве надзея, што яна калі-небудзь зразумее яго. Бачыць яе — свята. Тады Міця ўвесь напружваецца, націнаецца, гаворыць зусім не тое, што хацеў гаварыць.

## IV

У станцыйнай зале гурт немцаў. Сядзяць на лаўках, кураць, перасміхаюцца. Ля кожнага абшыты цялячай скурай — шэрсцю наверх — рэчавы мяшок, каска, аўтамат, круглая зялёная каробка, у якой боепрыпасы. Немчыкі маладыя, самае большае ім гадоў па дзевятнаццаць. Міця стаіць у кутку, слухае размову.

Але вось у аднаго з салдат, худога, мізэрнага, з вузкім тварам, з акулярамі на храшчаватым носе, апынуўся на каленях акардэон. Імкліва націскаючы доўгімі пальцамі клавішы, немец іграе. Салдаты, як па камандзе, ускакваюць, згруджаюцца

вакол музыканта, дружна падпяваюць. Мелодыя маршавая, як ва ўсіх ваенных нямецкіх песнях. Але ў гэтай ёсць штосьці другое — смутак, жальба, трывога.

Bei der Kaserne, vor dem grossen Tor
Stand eine Laterne und steht sie noch dafor,
Und alle Leute soll es sehn,
Wenn wir bei der Laterne stehn
Wie einst, Lili Marlen...[1]

Салдаты як электрычным токам працяты. Твары напружаныя, вочы гараць. Спяваюць з душой. Некаторыя нават такт нагой адбіваюць.

Што ж, у кожнага, апранутага ў шынель, немчыка там, у Германіі, ёсць, мабыць, дзяўчына, з якой ён сустракаўся. Ён смуткуе па ёй. Гэта можна зразумець.

Schon rief die Posten, sie bliesen Zapfenstreich,
Es kann drei Tage kosten, kamrad ich komm ja gleich...[2]

Гэта пра салдацкі абавязак. Нельга бясконца стаяць з дзяўчынай, трэба ваяваць. Немцы ж намецілі ўсталяваць тысячагадовы рэйх.

У залу заходзіць, застывае, разявіўшы ад здзіўлення рот, запэцканы змазчык. На ніжняй яго губе вісіць недакурак, у руках — маслёнка, малаток з доўгай ручкай. Не часта пачуеш, як спяваюць немцы.

Seine Schritte kennt sie, seine schöne Gang,
Alle Abend rennt sie, doch ihn vergass sie lang...[3]

---

[1] Перад казармай, перад вялікімі дзвярамі
Стаяў ліхтар і цяпер яшчэ стаіць,
І ўсе людзі бачаць,
Як мы стаім пад ліхтаром
З табой, Лілі Марлен...

[2] Крычаць паставыя, іграюць адбой,
За спазненне — трое сутак арышту, таварыш, я зараз прыбягу...

[3] Ведае, куды ісці, любуецца сваёй хадой,
Пад ліхтар прыбягае штовечар, але стаіць цяпер з другім... *(ням.)*

Дык вось чаму ў маршавай песні чуваць смутак: каханая здрадзіла франтавіку. Штосьці здарылася з нямецкімі крымхільдамі, якія перасталі чакаць пераможцаў зігфрыдаў.

Міця пайшоў з залы. Няхай спяваюць нямецкія хлопчыкі пра Лілі Марлен, пра яе здраду — на подзвігі такая песня іх не павядзе.

## V

На гэты раз Мікола прынёс заданне незвычайнае. На сустрэчу акрамя Тапаркова прыходзіў Драгун, папрасіў сабраць як мага больш савецкіх грошай. Партызаны хочуць пабудаваць на свой кошт танкавую калону.

Хлопцы задумаліся. Да апошняга часу яны існуюць як невялікая, замкнутая група. Але такой групай грошай не сабярэш. Кожны, у каго іх папросіш, пацікавіцца, каму дае і навошта? Вадзіць жа людзей за нос не выпадае.

Мазурэнка даўно раіць разбіцца на пяцёркі. Цяпер ідэя набывае рэальны сэнс. Работы сапраўды прыбаўляецца. Трэба памочнік Лобіку, тым болей што брыгаду, у якой ён працуе, перакідаюць іншы раз на ветку, і ў такія дні руху цягнікоў на асноўнай лініі ён фактычна не бачыць.

Дык вось так — будуць пяцёркі. Лобікава — на чыгунцы, яе трэба яшчэ стварыць. Міця мусіць кіраваць урачамі і астатнімі службоўцамі. Плоткіну і Прымаку даручаецца арганізаваць пяцёрку з моладзі, якая працуе ў розных установах.

Прынцып — глыбока канспіратыўны. Кожны з новых удзельнікаў групы павінен ведаць кіраўніка пяцёркі і нікога больш.

Ідучы на службу ў лясгас, Міця лёгка аддаецца плыні летуценнасці. Бачыць сябе ў розных незвычайных становішчах: то ён выступае з палкай прамовай, звернутай да мястэчкоўцаў, то нечаканым нападам арыштоўвае жандараў, то, пераапрануўшыся немцам, наводзіць паніку ў гарнізоне.

Дзіўна — Міцю ўяўляецца яго подзвіг толькі на людзях. Каб бачылі, здзіўляліся, захапляліся.

Можа, ідзе гэта ад патаемнасці, нябачнасці той работы, якую ён разам з сябрамі-таварышамі выконвае. Наогул яны, хлопцы, надта высока сябе не ставяць. Ёсць пачуццё задавальнення, патрэбнасці іх местачковага існавання. А хочацца большага — высі, узлёту, нейкага незвычайнага ўчынку.

Вакол — жыццё звычайнае. Міця крочыць у лясгас чыгункай, паварочвае да гарадка, дзе кватаруюць немцы, выбіраецца нарэшце на рог ускраіннай вуліцы, на якой размешчаны лясгас.

Местачкоўцы патроху возяць гной, едуць па сена, па дровы. У дварах звіняць пілы, сякеры, з хат нясецца шоргат жорнаў — малоць у млыне дарага. Мычаць каровы, п’е з лужыны ваду вогненна-рыжы певень. Кожны новы дзень вось так пачынаецца.

Людзям, якія служаць у лясгасе, няма чаго рабіць. У падпарадкаванні лясгаса абодная майстэрня, гараж. У абодні гады ў рады хоць колы для калёс вырабляюць. У гаражы — бачнасць занятку.

Яшчэ восенню лясгас меў чатыры газагенератарныя грузавікі. Дзве машыны забралі немцы, калі ездзілі на партызан у Альхоў. Партызаны іх там спалілі. Слесары, шафёры, механікі з таго часу бясконца рамантуюць два ўцалелыя газагенератары. Праўдзівей кажучы, сядзяць на гумавых скатах, кураць, перамаўляюцца. Але кожны трымае ў руках гаечны ключ.

Невядома, кім кіруе лясгас. З васьмі лясніцтваў на месцы тры — тыя, чые канторы на станцыях. Лясныя абсягі астатніх кантралююць партызаны. Лясніцтвы перабраліся ў мястэчка. Яны бяздзейнічаюць і падобны на эміграцкія ўрады, якія спрабуюць кіраваць народам з чужых сталіц.

Лясным спецам няма работы, аднак штат папоўніўся яшчэ адным ляснічым, які лічыцца намеснікам самога Лагуты. На Міцева здзіўленне, пасаду заняў сусед Мікалай Мікалаевіч.

Ён як з неба зваліўся. Не бачылі яго ў мястэчку даўно, мабыць, з часу калектывізацыі. Адкуль з’явіўся? Адпусцілі немцы з палону — такая пагалоска.

Мікалай Мікалаевіч — мужчына відны, вялізнага росту, з шырокім дабрадушным тварам. Пасля яго паступлення на службу сярод сакратарак, машыністак усчалася мітусня. Дзяўчаты раз-пораз выбягаюць у калідор, падфарбоўваюць губы, падводзяць, трымаючы перад тварам люстэрка, бровы. Асабліва стараецца Паліна Рабіна.

Мікалай Мікалаевіч ёй уважыў. Пасля работы правёў да хаты і ў кватэры на некаторы час астаўся. Увішная, вясёлая Паліна на вачах расцвіла.

Здараецца так, што іншы раз Міця з Мікалаем Мікалаевічам разам ідуць на службу. Дзіва няма: жывуць праз дзве хаты.

Мікалай Мікалаевіч, расказваючы пра сябе, на першы погляд не тоіцца. Ледзь не да сорак трэцяга года служыў у арміі. Пад Ржэвам трапіў у палон. Недалёка ад дому ўцёк з эшалона і цяпер пабойваецца, каб не забралі ў лагер.

Міця проста засыпае яго пытаннямі. Як там, за фронтам? Што думаюць байцы, камандзіры, тыя людзі, якія наогул не бачылі немцаў?

Але тут сусед памоўчвае. Расказаў толькі, што ў іх часць прыязджаў Аляксей Талстой, выступаў перад байцамі. Пра што гаварыў пісьменнік, які ён з выгляду? «З выгляду падобны на мяне»,— Мікалай Мікалаевіч смяецца.

Чурбак нейкі, думае пра суседа Міця.

Думку пра суседа хутка прыйшлося перамяніць. Аднойчы раніцай высвятляецца, што хата Рысакоў — так па-вулічнаму завуць радню Мікалая Мікалаевіча — пустая. Ён сам, бацька, маці, малодшая сястра зніклі невядома куды. Зрэшты, ламаць доўга галаву не трэба — сям'я пайшла ў партызаны.

Дзіўныя рэчы бываюць на свеце. Рысачыха — жанчына мажная, языкатая, мінулым летам паводзіла сябе інакш. Калі Міцева сям'я перабралася з будкі на дзедава котлішча, яна, паблісківаючы ўстаўленымі залатымі зубамі, плявузгала жанкам ля студні, што Птахі — суседзі небяспечныя, іх трэба старанііцца. Прыпякло — сама кінула жытло, набытак.

Паліцаі наляцелі на пакінуты двор, як груганнё. Вывелі з хлява карову, тут жа, на двары, закалолі, асмалілі свінню. Грузілі на фурманкі ложкі, шкафы, камоды, коўдры, падушкі. Нават фікусы вывалаклі і паставілі на вазы.

Хату, аднак, не спалілі.

Тыдні праз два ў гэту хату перабіраецца выгнаны з Піляціч бургамістр Спаткай. Суседзі жартуюць, што спадчыну займеў бургамістр небагатую — хіба што прусакоў трохі засталося.

## VI

У раённым клубе — канцэрт.

Прыехала самадзейная трупа Міры Сініцкага. Міра — рудаваты, шчуплаваты, надзвычай рухавы хлопец гадоў дваццаці пяці — славутасць навакольных гарадкоў і мястэчак акупацыйнага часу. У Бацькавічы за апошні год ён прыязджае трэці раз.

Сам Міра — артыст, бясспрэчна, таленавіты. Ён спявае, іграе на баяне, скрыпцы, кларнеце, гітары, губным гармоніку і нават на звычайнай піле. Але асабліва маляўніча, з нейкім натхнёным бляскам Міра танцуе. Іграе баян, і нельга без шчырага захаплення глядзець, як носіцца па дашчанай сцэне лёгкая, нібы пазбаўленая вагі постаць танцора, як дакладна адчуваюць такт ногі, усё паслушнае, гнуткае цела.

— Міра! Брава! Біс! — крычаць узбуджаныя дзяўчаты.

Як кожнага яркага артыста, Міру найбольш любіць жаночая частка гледачоў.

Міця заходзіць у клуб, калі зала набіта паўнютка і гудзе як вулей. Ён нерашуча спыняецца на праходзе, абводзіць позіркам залу.

На пярэдніх радах — немцы, паліцэйскія. Астатні прасцяг займаюць местачкоўцы.

Міця шукае вачамі Галю Скавародку. Яна жыве блізка ля клуба і абяцала заняць месца. Галя махае яму рукой. Пакуты нарэшце скончаны — Міця праціскаецца між радоў да Галі, садзіцца.

Занавес апушчаны. За ім ледзь чутна парыпвае гармонік — артысты на хаду рэпеціруюць. Халаднавата ў зале — ад дыхання ўздымаюцца белыя струменьчыкі пару. Ды і наогул закіданы, неахайны клуб: на сценах рудыя падцёкі, шыбы акон шэрыя ад пылу.

Сем гадзін, а яшчэ светла. Дзень прыкметна прыбавіўся.

Канцэрт, як і кінасеансы, мусіць пачынацца рана, каб да каменданцкага часу — да дзесяці гадзін — гледачы паспелі разысціся па хатах.

Міцю раптам як токам працінае. Ён бачыць Сюзану. Яна сядзіць амаль насупраць яго, на два рады бліжэй да сцэны. На ёй знаёмы, рудаваты палітончык, белая вязаная шапачка. Адама Вашчылы побач няма.

Міця стараецца не падаваць віду, што ўзрушаны. Размаўляе з Галяй, пазірае ў другі бок.

Пад столлю тухнуць электрычныя лямпачкі, і адразу ўздымаецца занавес. Зала тоне ў воплесках.

Першы ўжо выхад Міры прыкоўвае Міцеву ўвагу сваёй нязвычнасцю. Ён пачынае не з танцаў, як мінулы раз, а з песні. На сцэне бабулька са зморшчаным тварам. І хоць Міра ў штанах, у вастраносых туфлях, а паставу бабулькі імітуе толькі завязаная двума ражкамі на падбароддзі хустка, аднак ілюзія настолькі пераканаўчая, што як жывую бачыш старую, сагнутую недарэку.

На два галасы Міра спявае жартоўную народную песню: дзед памірае, даючы бабцы наказ, як жыць далей. Дзед — фігура не галоўная, голасам, імітацыяй спявак адсоўвае яго некуды ўбок, на першым плане гаротная бабка.

А як буду жыці без цябе, дзядочак,
А як пажываці, шызы галубочак?

Але вось і дзед аднекуль вынырнуў: голас спевака зрываецца на пісклявы фальцэт, у ім не спачуванне, не шкадаванне, а несхаваная насмешка:

А з торбаю, бабка, а з торбаю, любка,
А з торбаю, шызая галубка мая!..

Да Міці раптам даходзіць: не з бабкі насміхаецца спявак, песня — толькі прыклёп, зачэпка, каб выставіць у смешным святле некага іншага — фашыстаў! Яны адступаюць, уцякаюць, іх фанабэрыя дала трэшчыну. Малайчына Міра! І прыдрацца нельга: песня старая, яе ведаюць усе.

Зала зноў тоне ў гучных воплесках. Яны не спыняюцца да таго часу, пакуль артыст не выходзіць на сцэну яшчэ раз. Але цяпер ён спявае толькі два куплеты:

Бараніся, бабка, бараніся, любка,
Бараніся, шызая галубка мая!..

Ёсць, значыць, нешта такое, што як бы носіцца ў паветры, што больш-менш адчуваюць усе. Міра — артыст, ён здолеў ускалыхнуць пачуццё, якое валодае ўсімі, ён адчувае настрой часу. У мінулым годзе — вясною і летам — прыязджалі гэтыя самыя артысты, але вось такога настрою не было. Тое, што артысты паказвалі, было другім. Шмат чаго за год перамянілася на свеце...

Міцю здаецца, што ён, як і Міра, здолеў бы выказаць агромністае, радаснае, што нястрымна нарастае ў жыцці. Толькі вершаў ён цяпер не піша. Нават не ўзнікае жаданне іх пісаць. Ён усёй душой аддадзены падзеям, якія запоўнілі свет, і болей ні аб чым не думае. Можа, калі-небудзь ён пра гэта ўспомніць. «Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые...» Так сказаў паэт. Міця адчувае, што жыве ў вялікі час. Мястэчка да агромністых падзей, можа, і не прылучана, але яны ў ім неяк адбіваюцца, маюць свой настрой, колер. Ён непаўторны, гэты вялікі час, і Міця, калі застанецца жыць, пра яго не забудзе.

Дзіўна толькі, што жаданне пісаць прыходзіць у асаблівыя хвіліны, калі Міця чытае добрую кнігу ці, як цяпер, слухае песні.

Канцэрт тым часам скончыўся.

Першымі падаюцца да выйсця немцы, за імі паліцэйскія. Астатняя публіка тоўпіцца, чакаючы чаргі. Нарэшце адчыняюцца бакавыя дзверы на вуліцу і ў фае, і местачкоўцы талакой вывальваюць з клуба.

Міця выходзіць разам з Галяй. На дашчаным тратуары наледзь, і Міця асцярожна падтрымлівае дзяўчыну пад руку. Яны аднолькавага росту, ісці ім лёгка.

Галін дом — на ўскраі завулка. Стаіць да яго бакавой сцяной, вялікі, цёмны. Над парканам шастаюць голыя галіны бэзу. Веснічкі, лавачка. Трошкі з Галяй пастаялі, пагаварылі. У яе настрой прыўзняты, узбуджаны, і яна яго не тоіць. Падала на развітанне цёплую руку, подбегам, як каза, шуснула за веснічкі.

Міця вяртаецца Паштовай вуліцай. Каля бальніцы спатыкае Сюзану.

— Я чакаю цябе,— нібы вінавата гаворыць яна і адразу змаўкае.

Міця разгублены. Трымацца наводдаль ад Сюзаны памагала яму пачуццё супраціўлення. Але ж цяпер сама Сюзана робіць крок насустрач. Крыўда, абраза забыты імгненна. Хваля пяшчотнасці залівае Міцевы грудзі.

Позна ўжо. Але, звярнуўшы ў правулак, яны яшчэ могуць пахадзіць. Патрулі тут не бываюць.

Міця бярэ Сюзану пад руку. Яна даверліва да яго хінецца. Цёмныя купы хат, парканы, ахутаныя змрокам дрэвы, пад якімі калышуцца хісткія цені — усё гэта бачыцца нібы ўпершыню.

З правага боку сад, у якім яны наўсцяж прасядзелі летнюю ноч. Здаецца, з таго часу прамінула вечнасць. А яшчэ года няма.

— Галя вышэйшая за мяне,— раптам гаворыць Сюзана.

Міцю робіцца весела. І Сюзана раўнаваць умее. Можа, ахопленая рэўнасцю, яна таму яго і чакала?

— Ты ж таксама ходзіш з Вашчылам.

Сюзана маўчыць. Зябка пацепваючы плячамі, яшчэ бліжэй хінецца да Міці.

Яны даходзяць да дома, у якім жыве Плоткін. Вокны цёмныя, толькі праз шчылінку ў аканіцы прабіваецца вузенькая палоска святла. Саша, мабыць, чытае. У клубе сядзеў з Люсяй, правёў яе дадому. У іх адносінах усё хораша і ясна. Калі сустрэнуцца, нагаварыцца не могуць. Праўда, шчабеча найбольш Люся. Яна з другімі хлопцамі не ходзіць і, калі ў гурце не бачыць Сашы, вяртаецца дахаты.

Чаму ў Міці з Сюзанай не так? Яны цяпер разам, даўно не бачыліся, а гаворкі няма. Міцю, наогул, у прысутнасці дзяўчыны як бы зацінае дыханне. З другімі дзяўчатамі, нават з Галяй, ён можа смяяцца, жартаваць, быць дасціпным, з Сюзанай — не. Яму толькі радасна. Радасна і цяпер, ён надоўга запомніць гэты змрок, голыя сукі дрэў, зашэрхлую наледзь, што патрэсквае пад нагамі. Сюзана таксама спыняецца, паварочваецца тварам да Міці.

— Я іду на работу. У Сівалобы, настаўніцай. Мама гаворыць, што летам зноў будуць браць у Германію...

Сказала і прыхінулася тварам да Міцевых грудзей. Ён адчувае яе, гэты твар, мяккія грудзі, усю яе даверлівую, падатлівую. Ён перабірае пальцамі пасмачкі валасоў, якія выбіваюцца з-пад вязанай шапачкі, прыхінае, туліць Сюзану да сябе...

Шчымлівы смутак агортвае Міцю. Што гэта, развітанне? У Сівалобах загадчыкам школы Вашчыла. Сюзана ідзе пад яго крыло. Яна, калі так баіцца Германіі, магла б у мястэчку дзе-небудзь прыткнуцца.

— Не ідзі,— гаворыць Міця.— У мяне ёсць знаёмы ўрач. Возьме цябе ў бальніцу.

У гэтую хвіліну Міця думае пра Андрыюка. Уладкуе Сюзану хоць заўтра. Чаму ён не падумаў пра гэта раней?

— Нельга. Ужо дамовіліся. Мама хоча, каб было так.

Яны зноў ідуць правулкам, але цяпер ужо насупленыя, адчужаныя адно ад другога.

Узмацняецца вецер, ён шастае ў голым вецці дрэў, у шчыкецінах тыну. Кончыцца вайна, тады прыйдзе ўсё, думае Міця. Цяпер не час. З самага пачатку ў яго з Сюзанай было неяк дзіўна.

На момант Міцем авалодвае злосць — шалёная, нястрымная. Вашчыла такімі, як ён, справамі не займаецца. Толькі каля дзевак смелы. Яго ў турму не пасадзяць. Не павязуць, як Сяргея Амельчанку, расстрэльваць. Сяргея няма, а тая лялька, Маргарыта, гарцуе...

У наступную хвіліну Міця адганяе здрадлівыя думкі. Раўняць Сюзану з Маргарытай нельга. Ён і сам вінаваты. Мог не чакаць, раней папрасіць Андрыюка.

Абражаны гонар не дазваляе Міцю распытваць, калі Сюзана пойдзе ў Сівалобы і ці часта будзе наведваць маці. Нітачка між імі рвецца. Няхай!..

Развітваюцца стрымана. Сюзана адчувае, што Міця насцярожаны, жорсткі, але кроку для прымірэння не робіць.

Каб не натрапіць на патруль, Міця прабіраецца дамоў агародамі. У душы — разлад, смутак мяжуе з адчайнай

рашучасцю. Няхай! Кончыцца вайна, тады паглядзім. Ён яшчэ сябе пакажа!..

Зусім недарэчы ўсю дарогу звініць у Міцевых вушах матыў цыганскай песні:

На прощанье шаль с каймою
На груди моей стяни...

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### I

Выдзяленне асобнага Бацькавіцкага атрада праводзіцца ўрачыста. Партызан — іх роўна сорак — выстраілі ў шарэнгу па два на выгане за Сасновіцай. Пад нагамі хлюпота, распоўзлы снег, у твар дзьме золкі, пранізлівы вецер. З бліжняга сасонніку даносяцца глыбокія, цяжкія ўздыхі.

Бондар зачытвае загад аб стварэнні атрада, гаворыць кароткую прамову, затым кіруе ў бок да камандзіраў, якія прысутнічаюць на цырымоніі. З шарэнгі, робячы па-вайсковаму павароты, выходзіць новапрызначаны камандзір Якубоўскі. На ім дзеля ўрачыстасці хромавыя боты, доўгае, да пят, скураное паліто.

— Смірна! Раўненне направа!

Аддаўшы каманду, Якубоўскі чытае прысягу, словы якой партызаны паўтараюць услед. Нястройны, нязладжаны гул галасоў затухае аж у лесе.

Затым камандзіры суседніх брыгад Вакуленка і Бальшакоў па праву старэйшых падносяць камандзіру, камісару, начальніку штаба маладога атрада па аўтамату. Байцы зусім не па статуту пляскаюць адубянелымі на ветры далонямі.

Атрад малады, але залічаныя ў яго людзі ляснымі сцежкамі вандруюць даўно. Начальнік штаба Анкудовіч з першага ваеннага лета ў партызанах, камісар Лісавенка (той, што быў камісарам у дамачоўцаў) — з мінулай зімы. Дый астатнія —

народ цёрты, які сёе-тое пабачыў: шафёр Іван Гусоўскі, пажарнік Грыцук, Міша Ключнік, Рагазуб, Яўтушык, Таццяна Бурак, трактарыст Максімук, аграном Драгун, камандзір роты Ткач, былыя партызанскія старасты Іван Буян і Іван Гопчанка. Быў некалі Бацькавіцкі атрад развеяны, вынішчаны, і вось узнік новы. Не мог не ўзнікнуць.

Лубан таксама тут, яго сябры-таварышы ў суседніх атрадах. Высокае начальства палічыла за лепшае раздзяліць былых нямецкіх службоўцаў.

Узбраеннем новы атрад пахваліцца не можа. Пярэдні рад яшчэ з вінтоўкамі, а сёй-той з задняга — стаіць проста так, цішком засунуўшы пасіверанымя рукі ў рукавы. Гарбылёўцы з гарбачоўцамі людзей выдзелілі, а наконт зброі далі добры наказ — здабываць у баі. Тры аўтаматы начальству — і ўсё. Хоць бы адзін кулямёцік, для пачатку нават ручны, сістэмы Дзегцярова...

## II

Як толькі падсохнуць дарогі, сцягнутыя за Пціч атрады рушаць назад, у свае раёны. Чыняцца калёсы, вупраж, коням падкладваецца нанач паболей сена.

Вялікі попыт на майстроў, умельцаў, людзей з залатымі рукамі. У пяці ці шасці сасновіцкіх адрынах, свіронках, прыстасаваных пад кузні, сапуць кавальскія мяхі, звініць жалеза, грукаюць малаты. Многае ўмеюць палешукі. На добрую сотню кіламетраў навокал ніводнага буйнага горада з заводскімі трубамі, машынабудаўнічай вытворчасцю, майстэрнямі, але людзі, здольныя адрамантаваць любой маркі аўтамат, вінтоўку, нават кулямёт, ёсць у кожным атрадзе. Адкуль гэта ўмельства? Ад шафёраў, трактарыстаў, кавалёў, якіх па вёсках нямала.

Калгас без тэхнікі не жыў. Але яшчэ глыбей, у сівую даўніну сягае здатнасць палешукоў. Светлавалосыя, блакітнавокія дрыгавічы, што сяліліся на Прыпяці, па яе прытоках, з незапамятных часоў ведаюць жалеза. Сведчаннем таму неймаверна вялікая колькасць вёсак, якія называюцца Руднямі.

На балоце не толькі касілі сена, не толькі ставілі венцяры, а і здабывалі матэрыял для металу.

Дзіўная, непаўторная ідзе па палескай зямлі вясна. У вёскі, сёлы, пакінутыя партызанамі, немцы з паліцэйскімі патыкаюцца мала. Калі прыязджаюць, то ўзводам або ротай.

Межы нямецкай і партызанскай тэрыторыі вызначыліся яшчэ мінулай восенню. За зіму, хоць партызаны не надта абаранялі свае раёны, яны не змяніліся. Немцы ціснуцца да чыгунак, шасейных дарог, буйных паселішчаў, астатні прасцяг — партызанскі.

У штабах, колькасць якіх узрасла, засядаюць дзень і ноч. Намячаюцца маршруты руху, месцы будучых лагераў — асноўных, запасных, сямейных. Толькі пяць-шэсць пасведчаных ведаюць, што брыгады Гарбылёўская, Дамачоўская разам з новаўтвораным Бацькавіцкім атрадам не проста рушаць у Літвінаўскія, Лужынецкія лясы, а па дарозе мусяць знішчыць гарнізоны ў Чаплічах, Сямёнавічах, Будзе і Малой Рудні — усе яны ў межах Дамачоўскага раёна. Асіныя паліцэйскія гнёзды — як костка ў горле. Звязваюць па руках і нагах.

План штаба сягае далей. Дамачоўскі і Бацькавіцкі раёны падзяляе чыгунка з Оўруча на Жлобін. Калі знішчыць гарнізоны, як-небудзь блакіраваць чыгунку, адкрываецца неабсяжны прастор. Вольная партызанская зона на сотню з гакам кіламетраў ушыркі, ад Бацькавіч да Рудобелкі.

Выйшла першая партызанская газетка. Назва ранейшай, абласной. Нават загаловак формай, абрысамі літар — такі, як быў. Як бы нічога не змянілася на тутэйшай зямлі за дваццаць доўгіх крывавых месяцаў.

Газетка маленькая, на васьмушцы звычайнага газетнага ліста, але, як і даваенная, пахне друкарскай фарбай, прыемна шасціць у руках. На першай старонцы — зводкі Саўінфармбюро, паведамленні пра налёты саюзнікаў на Германію, на другой — заметкі пра партызанскія справы, пра фашысцкі здзек з насельніцтва. Стыль газеткі высокі, узнёслы, пяро, якое нарадзіла надрукаваныя словы, не ведае сярэдзіны паміж дабром і злом.

За акном як з вядра лье дождж, з’ядае апошні снег. Цемень, хоць выкалі вока. Плюскат вадзяных кропель зліваецца з аднастайным пошумам хвой.

Бондар сядзіць у штабе, праглядае паперы. Патрэсквае на стале лямпа. Час не ранні, гадзін дванаццаць ночы, але цяпер толькі і пасядзіш спакойна, бо дзень паглынае мітусня, мітрэнга.

Зрэшты, так ці іначай, а Бондару лягчэй. Ёсць другія шырокія плечы, на якія лёг цяжар. На яго абавязку штаб, дакументы, разведка. Як чалавек з нейкім ваенным вопытам Бондар разумее, што вайсковы перыяд у развіцці партызанскага руху канчаецца. Ён працягваўся тры зімовыя месяцы, калі сілы партызан тут, за Пціччу, былі сабраны ў кулак, маглі, каб прыйшлося, супрацьстаяць, магчыма, цэлай дывізіі. Але немцы, калі не лічыць бой за Грабаў, не нападалі. У іхніх штабах, разведцэнтрах ёсць, бясспрэчна, разумныя галовы, якія бачаць стан рэчаў. А можа, у немцаў рукі не даходзяць?..

Цяпер, калі брыгады, атрады вернуцца ў свае раёны, іх ваенная сіла зменшыцца ў адваротнай прапорцыі. Яе хопіць на тое, каб разагнаць паліцэйскі гарнізон, трымаць у напружанні чыгунку, сеяць паніку. Але захапіць, утрымліваць у руках раённы цэнтр, буйнае паселішча партызанам не пад сілу. Няма артылерыі, мінамётаў дый запас патронаў мізэрны. Па той жа прычыне не могуць партызаны абараніць насельніцтва, яго маёмасць у сваіх раёнах. Узброенага танкеткамі, бронетранспарцёрамі, мінамётамі батальёна дастаткова, каб авалодаць самым умацаваным пунктам партызанскага супраціўлення. Прыклад Рудобелкі гэта пацвярджае.

Бондар праглядвае разведданясенні, якія паступілі за дзень. Што-што, а разведку ён за гэтыя тры месяцы парадкам падняў, падвучыў ёй займацца штабы. Работа клопатная, паглынае шмат сілы, адцягвае людзей.

Наўсцяж па чыгунцы, на ўсіх значных станцыях новыя воінскія часці не выгрузіліся. Ахоўную службу нясуць нямецкія палкі, мадзьярская дывізія, якая ў пачатку зімы змяніла славацкую. Славакаў яны, партызаны, па сутнасці, разлажылі. Немцы іх перакінулі пад Мінск. Але пад Мінскам таксама партызаны.

Загадкавыя для Бондара невялікія падраздзяленні, створаныя з былых ваеннапалонных. Атабарыліся амаль на ўсіх станцыях. Форму салдаты носяць падобную на нямецкую, цёмна-зялёную, але гавораць па-руску. У данясеннях іх

называюць казакамі. Палоннага ці перабежчыка яшчэ не ўзялі, і Бондар не ведае, як глядзець на гэтых казакаў. Ад няведання неспакой. Казакамі трэба заняцца ў першую чаргу.

На двары ўзбуджаныя галасы, валтузня. Бондар выскаквае на ганак. Адчыняючы дзверы, ненарокам адпіхвае вартавога, які стаіць, да іх прыхінуўшыся. Цемень, сячэ касы, з ветрам дождж. Бондар пазнае Тапаркова, загадвае прапусціць.

Тапаркоў адсутнічаў два тыдні. Хадзіў у Мазыр, да Турбіной.

Разведчык мокры да ніткі. Пад скуранкай, якую вешае на цвік, цэлая лужына.

— Даў бы выпіць, ды няма,— гаворыць Бондар.— Не трымаем. Сухі закон. Расказвай...

Хітры, цыганаваты Тапаркоў шчэрыць зубы:

— У мяне ёсць, Павел Антонавіч. Адубянеў бы без падмацавання. На Прыпяці ў палонку праваліўся.

— Ты што, жартуеш? Прыпяць хіба пайшла?

— Стаіць. Трашчыць лёд. Страляе, як з пушак. Вось-вось пойдзе. Я проста ў палонку нырнуў.

— Быў у Мазыры?

— Быў.

— Немцы дадому не збіраюцца?

— Пакуль не.

Аднекуль з-пад крыса Тапаркоў дастае вайсковую фляжку ў шэрым варсістым футарале. Бондар ідзе ў пярэдні пакой, прыносіць дзве шклянкі, акрайчык хлеба, разрэзаную напалам цыбуліну.

— Што ж, я не супраць выпіць. Асабліва з табой. Успомнім Гарбылі.

Тапаркоў зноў выскаляецца.

— Не тое пітво, Павел Антонавіч. Не пад цыбулю. Каньяк. Можа, нават французскі. Я не вельмі разбіраюся. Але тонус падымае што трэба. Праўду кажу, прапаў бы без яго.

З гэтымі словамі Тапаркоў вымае з кішэні, кладзе на стол дзве пліткі шакаладу.

— Жук ты. Не можаш без фокусаў. Ці не таму затрымаўся?

— Не таму. Давайце вып’ем. Раскажу па парадку.

Выпіваюць па паўшклянкі бурай, церпкай на смак вадкасці.

— Каго-небудзь пачастуй яшчэ. Шакалад аддай дзяўчатам. У цябе ж, мабыць, ёсць паклонніцы. А я, брат, каньяк піў. На фінскай мы захапілі дот. Там быў цэлы склад.

Навіны, якія прынёс Тапаркоў, датычаць у першую чаргу Турбіной. Працуе ў канцылярыі генерала Фрыдрыха, які чыніць уладу над акругай. Становішча нібыта надзейнае.

— У Фрыдрыха? — Бондар прысвіствае.— Высока птушка ўзляцела. Ты не дапускаеш, што служыць нашым і вашым?

— А што яна можа вашым? Што яна пра нас ведае? Летась наконт аперацыі папярэдзіла,— Тапаркоў загінае палец,— з Казачэнкавай сумкай выручыла,— загінае другі,— звесткі перадае, правалаў няма...

Пальцаў не хапае.

— А ўсё-такі чаму яе ўзяў генерал? Трэба дакладна ведаць. Мы яе туды не пасылалі. Немцам жа вядома, што муж яе савецкі лётчык, сама вырасла тут, не ў Германіі.

— А чорт яго ведае, Павел Антонавіч. Яны перада мной не спавядаліся. Немец немцу верыць, гэта точна. Лічаць сябе вышэйшай нацыяй.

— Ты гэта кінь.— Бондар устае, ходзіць па пакоі.— Хітрасці ім не пазычаць. Успомні, як вайна пачалася. Ручкі цiскалі, фатаграфаваліся з нашымі, а самі нож за спіной тачылі.

— То высокая палітыка, Павел Антонавіч. Я гавару пра звычайных немцаў. Яны дундукі парадачныя. Нашыя іх вакол пальца абводзяць. Можа, таму такія немцы, што лічаць сябе лепшымі, разумнейшымі. Думаюць — перад імі ўсе схіляюцца.

— Ладна, дарагі Анатоль Сямёнавіч. Давай гэту філасофію забудзем. Мы з табой шышкі невялікія. Ясна адно: да Турбіной, акрамя цябе, нікога не падпускаць. Калі ўдасца падаіць генерала, лічы, шчасце само лезе ў рукі. Давай, што прынёс.

— Вот.— Тапаркоў здымае левы бот, шастае рукой ва ўнутраным разрэзе халявы, выцягваючы невялікі, са шчыльнай паперы канверт.— Як у палонку трапіў, то баяўся за яго. Спецыяльна высушыў на агні. Перадала на словах, каб толькі табе ў рукі.

— Ідзі,— Бондар усміхаецца.— Мазурэнку таксама прынёс?

— У гэтай халяве.— Тапаркоў пляскае сябе па правай назе.— Слуга двух гаспод. Ці знашу сваю кучаравую галаву? Забудзеце адразу, як толькі траплю да немцаў у лапкі. Скажаце — быў брандахлыст, прапаў пры нявысветленых абставінах. А ў мяне душа гарыць.

— І ў мяне гарыць.— Бондар пацiскае Тапаркову руку.— І спаць хочацца. І некаторыя наогул не хочуць бачыць на гэтым месцы. Жыццё, Толя, нічога не папішаш. Ідзі паспі.

— Наконт Турбіной не сумнявайся,— Тапаркоў сур'ёзнее.— Нутром чую — памагае чэсна. Хоць прычын не ведаю. А пралазіць, бо прыгожая як чорт. І разумная. Лётчык яе — даўно з рагамі. Звычайнай жонкай яна, брат, быць не можа.

## III

Бондар разрывае сцізорыкам канверт, вымае згорнуты ў некалькі столак кавалак ватманскай паперы. Распрамляе на стале і на першым часе нічога не можа зразумець. Перад ім няўмела зробленая карта, з трохкутнікамі, кружочкамі, пункцірнымі лініямі-стрэламі.

Толькі прачытаўшы напісаныя па-нямецку назвы, Бондар бачыць, што гэта карта вобласці ў межах акупацыйнага адміністрацыйнага падзелу. Робіцца ясным сэнс кружочкаў, трохкутнікаў.

Што ж, канцэнтрацыю партызанскіх сіл генерал Фрыдрых уяўляе, бадай, правільна. Трохі пераўвялічвае, трохі блытае з дыслакацыяй. Стрэлы, пункціры — магчымыя дарогі звароту партызан у пакінутыя раёны...

Бондар хавае карту ў кішэню, апранаецца, выскаквае на двор. Хата камандзіра злучэння праз вуліцу. Акно занавешана, але праз шчыліну прабіваецца палоска святла. Дождж сячэ не перастаючы.

У Лаўрыновіча радыстка Ася. Пакруглела, паправілася дзеўчанё. Памятае яе Бондар змізарнелай, з бледным тварыкам, запалымі вачамі. Цяпер шчокі наліліся ружовасцю, нават вайсковая гімнасцёрка не хавае павабнага дзявочага стану.

Пры ўваходзе Бондара камсамолачка падхопліваецца, бяжыць за дзверы.

— Сядай.— Лаўрыновіч працягвае Бондару спісаны круглымі дзявочымі літарамі аркушык.— Зводка за сакавік. Харкаў страцілі, затое з Масквы пагроза знята канчаткова. Гжацк, Вязьма — нашы.

— Да нас усё адно далекавата. Ісці ды ісці.

Лаўрыновіч ажыўляецца — любіць пагаварыць пра фронт.

— Ты заўважыў — большая палавіна вайны на паўднёвых франтах. Каб не адазвалі мяне сюды, браў бы Харкаў. Я і ў сорак другім быў там. Выбіраўся з акружэння. Страшна, брат, успамінаць. З кіеўскай кашы ў сорак першым вылазіў. Не хацеў гаварыць, а наш Фёдар Бумажкоў пад Палтавай склаў галаву. У акружэнні. Разам служылі ў кавалерыйскім корпусе. Я — дывізійным, ён — палкавым камісарам.

— Навошта было Бумажкова браць у армію? — пытае Бондар.— Першы партызан, герой...

Лаўрыновіч моршчыцца, як ад болю, ля куточкаў вачэй збягаюцца дробныя маршчынкі.

— Ты ж ваенны чалавек, павінен разумець. Калі ўжо спавядацца перад табой, то і я мусіў тут аставацца. Нават рашэнне было. Потым прыйшлося прымаць другое рашэнне. У Мазыры фарміравалася кавалерыйская часць, зверху загадалі забяспечыць палітсаставам. Вот і ўсё. Паварот на сто восемдзесят градусаў. Помніш жа — усё для фронту!.. Немцы Смаленск захапілі, ірвуцца к Маскве, а мы сядзім у балотах. Фактычна ў нямецкім тыле, хоць улада савецкая. Ну і кінулі партыйны актыў у дывізію. Адзін Ермаловіч астаўся. На той час Бумажкова для справаздачы выклікалі. Прыйшоў з-за лініі фронту. Думаеш, каб аставілі тут актыў, такія б былі камбрыгі, як Вакуленка? Выдатныя былі хлопцы. Жалезныя. Арлы. Кадры, брат, былі што трэба. Толькі незайздросная іх доля. Амаль усе паляглі на Украіне.

— І тут паляглі. Большасць зачынальнікаў партызанскага руху загінула.

— Да нас вызваленне прыйдзе праз Украіну,— працягвае Лаўрыновіч.— Папомніш маё слова. Украіна — гэта хлеб, вугаль, жалезная руда. Там нам, брат, спакою не давалі. Успомні мінулы год. Заходнія франты фактычна драмалі. Баі мясцовага значэння — адцягваючыя ўдары, не болей. А мы? Пабачыў

я данскія стэпы, Волгу, да Сталінградскага акружэння дажыў. Не далі толькі пабачыць, як немцы ў катле дуба даюць. Адазвалі, месяц у партызанскім штабе прасядзеў.

— І ў нас будзе горача, Сяргей Кандратавіч.— Бондар абедзвюма рукамі распрамляе на стале прысланую Турбіной карту.— Вось пацікаўцеся. Палучылі ад той самай немкі. Толькі яна не ў Гарбылях, а ў Мазыры, у самога генерала Фрыдрыха.

Лаўрыновіч нічога не пытае, злёгку варушачы губамі, водзячы па ватмане пальцам, чытае назвы, разглядае знакі.

— Наша дыслакацыя ім вядома,— узняўшы галаву, ён глядзіць Бондару ў вочы.— Думаеш, здрада?

— Ды не, на такую карту трэба сто шпіёнаў. Ды і дакладнасць невялікая. Проста ў генерала Фрыдрыха ёсць чалавек, які намі займаецца. Стараецца гэтак, як мы, думаць. Бачыце, ён нават трохі апярэдзіў нас. Ведае, што вясной вернемся ў свае раёны.

— Лічыш, Фрыдрых што-небудзь замышляе? Настаўіць пастак, як станем разыходзіцца?

— Фрыдрых не страшны. З ім можна ваяваць. Камандуе паліцэйскім палком, жандармерыяй, дапаможнай паліцыяй. Тут другое.

— Карная экспедыцыя? — Лаўрыновіч хмурнее.

— Думаю, што так. Адзначаны партызанскія раёны. Галоўны націск не на нас — на Лельчыцы, Князь-возера, дзе зімуюць Каўпак з Сабуравым. Заўважце, пра нас дакладна ведаюць — расцячэмся па раёнах. Наконт іх гадаюць. Ні пункціраў, ні стрэл. Невядома, куды пойдуць. Пытанне для немцаў адкрытае. Баяцца скулы пад носам.

— Логіка правільная.— Лаўрыновіч падхопліваецца, узбуджана ходзіць па пакоі.— Заўтра ж паеду ў штаб Сабурава. Якога д’ябла тут тырчаць? Гітлер на іх не пашкадуе адборнай дывізіі. Няхай хутчэй выбіраюцца. У іх жа інакшая, чым у нас, задача. Рэйдавае злучэнне...

Бондар згортвае ватман.

— Знімі дзве копіі. Сам зрабі, не даручай нікому. Да раніцы. Адну завязу Сабураву, другую пашлём у Маскву. З тлумачальнай запіскай. Садзіся, складай. Можа, удасца сотні тры

аўтаматаў вырваць. А то адным — на поўнае горла, другім — дулю з макам. Пра карту ніхто не ведае? — Лаўрыновіч спыняецца перад Бондарам, бярэ ў пальцы гузік гімнасцёркі, нервова пакручвае.

— Вы ды я.

— Хопіць. Нікому ні слова. Ад немкі лішнія сувязі адсекчы. Сабяры, якія ёсць, маркі, пашлі. Генералу, брат, трэба далікатная дама. Духі каштуюць дорага.

Дождж зацяты, як бы там, у небе, прорва. Густая, дзягцярная цемень. Ніводны аганёк не бліскае. Дарогі расквасіць, тыдзень ці нават болей з месца не рушыш.

## IV

У адносінах да паліцэйскіх, іншых пасобнікаў — новая палітыка. Галоўны прыцэл на разлажэнне паліцэйскіх гарнізонаў знутры, каб перасталі служыць ворагу, пераходзілі на партызанскі бок.

Бондар сядлае каня, кіруе з раніцы ў Замошкі, у Дамачоўскую брыгаду.

Дождж амаладзіў зямлю. Сасновыя пагоркі сухія, чыстыя, па бярэзніках — азярынкі вады, і толькі ў балоцістай гушчэчы сям-там мільгне абледзянелы гурбачок.

Дарога кепская, асабліва ў нізінах. Конь хлюпае па гразі, правальваецца па костачкі ў вязкую кашу, нездаволена фыркае.

Цяжар з душы спаў. Бондар едзе ў Дамачоўскую брыгаду з лёгкім сэрцам. Вакуленка нават здзіўляе. Здавалася — доўга будзе хмеліць у ім неразвеяная крыўда, абраза, якую сёй-той падаграває. Аднак вельмі хутка пераламіў сябе. Перамяніўся на вачах. Мудры прафесар сялянскіх навук...

Бондар выязджае на ўзгорак, акружаны бярозавым гаем. Выблісквае сонца, і краявід на вачах мяняецца. Бярозы лашчаць вока, удалечыні, як хвалі вялікага ляснога прыліву, цямнеюць хвойнікі. Псуе выгляд шэрае поле, якое зусім не пасуе да бляску сонечнага дня. Бондар ловіць сябе на думцы, што ніколі не любіў ранняй вясны з-за безжыццёвага покрыву зямлі, з-за непадобнасці паміж сонечным святлом і друзам,

брудам, што застаецца пасля зімы. Зямля нібы паказвае ў гэты час непрыкрытыя раны, яна кволая, слабая.

Па леташнім іржышчы вядзе ў бярэзнік свежы след. З калёсамі праехалі тут два ці тры дні назад, на полі, у вязкім гліназёме, засталася глыбокая каляіна. Бондар едзе каляінай, дабіраецца да лесу і, трохі паглыбіўшыся, задаволена ўсміхаецца. Пад тоўстай, з пачарнелым камлём бярэзінай стаіць дубовы шчань, замаскаваны веццем. Па латаку з ціхім меладычным звонам падаюць кроплі. Нават па гуку Бондар здагадваецца — шчань поўны напалавіну. Злазіць з каня, правярае сябе. Старая сялянская звычка не падводзіць: бочка сапраўды ў палавіне. Сок чысты, празрысты, паверсе плавае некалькі казюрак.

Ён яшчэ не пакаштаваў бярозавіку, а ўжо адчувае, як ад сцюдзёнай, ледзь салодкай на смак вільгаці сцінае зубы і пабольваюць скроні. Пад меншай бярэзінай дзежачка, поўная як вока. Сок пераліваецца цераз край, на клёпцы — мокрыя падцёкі.

Бондар, укленчыўшы на дол, доўга, пакуль сапраўды не зводзіць зубы, п’е.

Пасля гаспадара, парушыўшы латак, тыцкае морду ў дзежачку конь, але адразу адводзіць, смешна закапыліўшы верхнюю губу, нездаволена пырхае. Бярозавік яму не даспадобы.

Святочны настрой на душы. Яго не парушае нават паласата-плямісты (якраз мяняе поўсць) заяц, які вышмыгвае з-пад конскіх ног і на злом галавы выпісвае петлі па леташняй пожні. Вясна, вясна. З прасвечанага сонцам паднебнага блакіту звініць срэбраны званочак. Над шэрым голым полем жаваранак спявае.

У мокрым алешніку перад Замошкамі на дарогу выскакваюць двое дазорцаў, але, пазнаўшы начальніка штаба, прапускаюць.

Замошкі — вёсачка з адной вуліцы, хат на семдзесят. Гэтак жа, як Сасновіца, сярод лесу — палі на дзялянках, на пагорках. Сям-там з двароў тырчаць каромыслы калодзежных жураўлёў. Захаваўся нават некаторы калгасны набытак — доўгая пад саламянай страхой адрына, распачаты будоўляй, без крокваў, дзвярэй, але з прарэзанымі аконцамі хлеў — кароўнік ці цялятнік.

Партызан, жыхароў на вуліцы няшмат. Цётка ў ірваным кажушку вязе на маладым буланым коніку гной. Двое партызан прыпнулі ля плота, трымаючы пад вуздэчку вялізнага трафейнага біцюга, трэці, задраўшы каню заднюю нагу, зрывае абцугамі падкову.

З хат даносіцца то мерны грук, то аднастайны панылы шоргат. Музыка вядомая. Там, дзе грук,— жанкі кросны ткуць, у астатніх хатах мелюць на жорнах. Жорны — самадзельныя сялянскія млыны — цяпер амаль усюды.

Вакуленка ў добрым настроі, цвярозы, паголены, расхрыстаўшы камандзірскую гімнасцёрку, сядзіць за сталом, штосьці піша, макаючы ручкай у школьную невылівайку. Бондара сустрэў іранічна-ветліва:

— Начальства пажалавала. Рад бачыць начальства.

У пакоі акрамя камандзіра брыгады чарнявы начальнік штаба Валюжыч. Бондар дастае з-за пазухі пачак лістовак, кладзе на стол. Вакуленка бярэ лісток, варушачы губамі, чытае. Сам сабе ўсміхаецца.

— Здорава. Як спецыяльна для нас зрабілі. Добра, што пра бацькавіцкіх начальнікаў напісалі.

Валюжыч корпаецца ў сваіх паперках.

— Адам Рыгоравіч сам наскладаў пісем. Чапліцкага начальніка паліцыі таварышам называе. Таварыш Драбніца... А я супроць. Які ён таварыш? Мы два гады з фашыстамі ваюем, а ён што? Верай і праўдай ім служыць. Майго бацьку, брата хто загубіў? Такія, як Драбніца. А цяпер мы да іх — таварышы...

— Не дуры, Пятро,— вяла агрызаецца Вакуленка.— Палітыкі не панімаеш. А як я напішу? Гаспадзін Драбніца? Ведаю я етага гаспадзіна як аблупленага. Голым задам свяціў. Толькі што і сумеў плойму дзяцей напладзіць. Проста няўдалы чалавек. Далі немцы два пуды мукі — падкупілі.

— Няхай так. Але навошта яшчэ расшарквацца перад імі.

— Дык нашто агарод гарадзіць? — Вакуленка павышае голас.— Мы будзем страляць у іх, яны ў нас. Польза будзе? Я лічу паварот палітыкі ў атнашэнні паліцэйскіх правільным. Свалачэй пастраляем, а божых авечак, як Драбніца, заставім узяцца загрудкі з немцамі. Са шкуры будзе вылузвацца, каб хутчэй забылі пра яго паліцэйства.

Памаўчаўшы, Вакуленка працягвае:

— Добра, што прыехаў, Бондар. План, які вы там у штабе прыдумалі, добры. На Чаплічы, Сямёнавічы будзем наступаць маёй і Гарбылёўскай брыгадамі. Рана яшчэ Вакуленку ў запас спісваць. Вы толькі не мяшайце мне, а я зраблю, што гарнізоны цёпленькімі возьмем, без ніякай вайны. Толькі не мяшайце, прашу.

— Ты павінен разумець, Адам Рыгоравіч,— штаб не можа стаяць убаку. Аперацыю трэба распрацаваць, узгадніць, каб кожны ведаў сваё месца. Я для таго прыехаў.

— Узгадняць не трэба. Не хачу ніякіх папер. Усё, што скажу, можаш шапнуць на вуха Лаўрыновічу, і каб болей ніякі чорт не ведаў. Вот тут,— Вакуленка ляпае сябе па нагруднай кішэні,— у мяне спіскі паліцэйскіх. Пашлю да іх сваіх людзей. Каб з кожным, з кім можна, пагаварылі. Іспользуем для сувязі паліцэйскую радню: бацькоў, матак, братоў, сясцёр. Лозунг такі: хопіць займацца дурыкамі, хлопцы, ідзіце ў партызаны выкупляць грахі. З начальнікамі паліцыі сам пагавару. На тых, хто не захоча сустрэцца, падкінем немцам пісьмы. Як бытта яны нам, партызанам, памагаюць. Немцы іх, як коршак куранят, у кіпцюры. Не гарнізоны будуць, а гнілыя грыбы. Ткні пальцам — рассыплюцца. Вер мне, начальнік штаба. Голымі рукамі возьмем паліцэйскіх. Адно толькі прашу — маўчок.

— Дай Бог чутае бачыць. Скажу адно табе, Адам Рыгоравіч: малайчына, што прыняў брыгаду.

Вакуленка ўмомант хмурнее.

— А што, пагана я камандаваў? Хто кадзіла раздуў? Вы ўсе, разумненькія, з’явіліся на гатовае.

— Я не пра тое. Час другі. Злучэння, не крыўдуй, не пацягнеш. А ў намеснікі не з тваім характарам.

— Старую гвардыю на задні план? Ета правільна?

— Не на задні. Калі разгоніш гарнізоны ды яшчэ чыгунку да Оўруча на Жлобін па баку, сам ведаеш, што будзе. Партызанскае царства. Тысяч да двух брыгаду разбухаеш.

— Болей будзе! — Вакуленка не тоіць задавальнення.— Атрадаў шэсць, сама мала адгрукаю. Я чаму за Прыпяць не

пайшоў? Мяне тут народ ведае. Дам кліч — пойдуць. Усе пойдуць.

Толькі цяпер Бондар са здзіўленнем заўважае ў дамачоўскім камбрыгу штосьці новае, чаго не заўважаў раней. Жаданне пакрасавацца, пусціць пыл у вочы, намераная грубаватасць, просталінейнасць — не ўсё ў ім. Ёсць другое, глыбока схаванае, што адразу не выкажаш словамі. Надзейны чалавек, думае Бондар. Не здрадзіць, не падвядзе, не адвернецца ў цяжкую хвіліну...

## V

Прачнуўшыся, начальнік штаба чуе ціхае мармытанне, якое даносіцца з пярэдняга пакоя. Яшчэ рана, на двары трашчыць сарока, першыя промні ліжуць надзіва светлыя, працёртыя шыбіны. Увогуле ў хаце незвычайная ўтульнасць: вымыта падлога, падбелены рудыя падцёкі на сценах і нават самаробны палавічок, вытканы з markdownрознакаляровай старой крамніны, пасцелен ля ложка. Прыехаўшы позна ноччу, усёй гэтай прыгажосці Бондар не заўважыў.

Дзверы прычынены не шчыльна, і, трохі расхінуўшы іх, кватарант бачыць гаспадыню і яе дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку,— яны стаяць спіной да яго, павярнуўшыся тварамі да покуці, да ікон.

«Хлеб наш насушчны даждзь нам днесь. І аставі нам долгі нашы, яка жэ мы астаўляем далжнікам нашым...»

«Вялікдзень»,— здагадваецца Бондар, невядома чаму ўзрадаваўшыся. У дзяцінстве і ён гэтак жа стаяў перад іконамі побач з бацькам, маці, братамі. Старэйшыя браты, якія хадзілі ў школу, маліцца адмаўляліся, але заведзенага ў сям’і парадку не парушалі — усе тыя хвіліны, пакуль бацька з маці аддавалі належнае Богу, стаялі, не зварухнуўшыся...

Гаспадыніны дзеці таксама малітвы не ведаюць, паўтараючы ўслед за маці незразумелыя словы. Бондар на дыбачках адыходзіць ад дзвярэй, садзіцца на ложак, маўкліва чакае, пакуль скончыцца набажэнства.

Выйшаўшы ўмывацца, ён хрыстосуецца з гаспадыняй, захоўваючы на твары поўную сур’ёзнасць. Яна яму адказвае,

потым дае ў руку пафарбаванае ў цыбулевым шалупінні яечка.

— Свянцонае, Каця? — пытае Бондар, пазіраючы з цікаўнасцю на гэтую яшчэ маладую, дасціпную жанчыну, якая цяпер, у дні ліхалецця, няўхільна выконвае запаветы продкаў.

— А як жа. У царкве ўсяночная была. Толькі я не заспела. Падбегла, як пачалі свянціць.

— Нашто табе гэта, Каця? Не можаш абысціся?

Гаспадыня адказвае пытаннем на пытанне:

— А вы хіба што лепшае прыдумалі? Страляеце, носіцеся. Старыя людзі праўду гавораць.

Зажытак на стале небагаты. Велікодная булка аржаная, трохі пафарбаваных яечак, прыхаваны, мабыць, яшчэ з Каляд кумпячок. Але дзеці рады і такому сталу: можна наесціся колькі хочаш.

Умываючыся, Бондар думае пра тое, чаго гаспадыня не ведае. Яна і некаторыя іншыя пацягнуліся да царквы, якая для іх цяпер нібы апора ва ўзбаламучаным, неспакойным свеце. А сам поп, паміж іншым (царква ў нейтральнай зоне, вёрст за чатырнаццаць), нядрэнны сувязны, весткі прысылае вельмі карысныя.

Праз паўгадзіны ў штаб заходзіць Лаўрыновіч. За гэтыя дні ён паблажэў, асунуўся з твару. Паехаўшы да Каўпака, Сабурава, болей за тыдзень вандраваў па дальніх, раскіданых атрадах.

— Калі надвор'е не зменіцца, заўтра паедзем сустракаць самалёт. Ёсць радыёграма.

Бондар адчувае — галоўнага камандзір не дагаворвае. Аднак не дапытваецца. Лаўрыновіч, абапёршыся локцямі на стол, пачынае сам:

— Дрэнныя нашы справы, Бондар. Наездзіўся, наглядзеўся. Настрой ушчэнт сапсаваў. Старцы мы супроць Каўпака. Да іх на Князь-возера самалёты ўсю зіму прыляталі. У палавіны байцоў — аўтаматы. А ў нас — у камандзіраў няма. Таму некаторыя нашы цягнуцца да іх. Наспеў у мяне адзін план. Не ведаю, як паглядзіш, але трэба сумесна з камандзірамі абмазгаваць...

Дастаўшы з планшэта карту вобласці, Лаўрыновіч рассцілае яе на стале.

— Вось тут,— ён тыцкае пальцам у прамежак паміж станцыяй Пціч і Жыткавічамі,— нагледзеў я месца. Эшалончык хачу раскасіраваць. Падыходы харошыя, буйных гарнізонаў няма. Калі добра ўзяцца, выгарыць дзела.

Бондар разумее ўсё з ходу. Працяг той жа песні. Цяжка камандзіру. Сёй-той з камбрыгаў надзьмуўся, на дысцыпліну ідзе туга. Партызанская вольніца, нічога не папішаш. Тут, на Палессі, ніхто з камандзіраў вялікай улады над сабой не адчуваў, дзейнічалі як прыйдзецца. Вядома, касавурацца і на Лаўрыновіча.

— Я катэгарычна супроць, Сяргей Кандратавіч,— гаворыць Бондар.— Такі настрой, як у вас цяпер, быў у мяне летась. Гарнізон у Журавічах разагналі, а ён зноў ажыў. Ходзім толькі па начах, туляемся, як ваўкі. Узрыўчаткі няма, на вінтоўку па дзесяць патронаў, ды і вінтоўкі не ва ўсіх. Бальшакоў вярнуўся з Акцябра, расказаў пра іхнія справы. Злосць мяне ўзяла. Прыдумаў, як і вы, эшалон. Добра, што добра кончылася.

— Ты леташняе не раўняй. Вас колькі было? Сотня чалавек. А мы тысячай накінемся. Эшалон пусцім пад адхон, апамятацца не паспеюць, як насядзем.

Бондар пачынае гарачыцца.

— Глупства, Сяргей Кандратавіч. Вы ж ваенны чалавек, павінны разумець. Я няшчасны капітан, галава не зварыла, таму палез у авантуру. А вы — генерал, ведаеце сучасную вайну. Эшалон не скінеце — немцы навучыліся ездзіць ціха. Калі ў ім будзе хоць сотня салдат, ад вас мокрае месца застанецца. Ясна як божы дзень.

Лаўрыновіч нервова ходзіць па пакоі.

— Як генерал забараняю табе, Бондар, уступаць у дыскусію. Хоць ты даўно не капітан. Рэляцыю на цябе падалі, сам ведаеш. Будзеш палкоўнікам. Як ваенны ты, можа, і правы. Але ёсць палітыка яшчэ, Бондар. Палітычнае чуццё мне падказвае — трэба зрабіць буйную акцыю. Каб злучэнне стала злучэннем. Інакш я не камандзір, а злучэння — няма.

Атрады распаўзуцца па лясах, і будзе тое, што было. Адно я за два месяцы зразумеў цвёрда: партызанскім рухам нельга кіраваць так, як кіравалі да вайны асушкай балот. Што скажаш цяпер?

— Скажу, што злучэнне — не дывізія і не корпус. Брыгады разыдуцца па дваццаці раёнах, якая між імі можа быць узаемадапамога? Я пра гэта думаў. На Каўпака, Сабурава ўвагі не звяртайце. У іх другія задачы. А мы — мясцовыя партызаны. У нашых умовах болей патрэбен абкам, чым ваеннае камандаванне. З нашымі ваеннымі задачамі справяцца капітаны.

— Вось ты які.— Лаўрыновіч, спыніўшыся, барабаніць пальцамі па стале.— Аказваецца — філосаф. Тэарэтык. І ўсё ж правы я, Бондар. Ты не ўсё ведаеш. Наперадзе ў нас такія прыкладна справы, як ваш Пціцкі мост. Без генеральнай рэпетыцыі не абыдземся. Ды і заседзеліся. За зіму — адзін сур’ёзны бой пад Грабавам. Трэба людзей разварушыць, каб кроў закіпела.

— Баёў хопіць. Ледзь не ва ўсіх раёнах ёсць неразагнаныя гарнізоны.

— Дыскусій хопіць, Бондар. Падрыхтуй загад. Абмазгуй усё як трэба. Па эшалону ўдарым сіламі трох брыгад — Міхнаўца, Дзяругі і Гаркушы. У іх, па-мойму, найбольш укаранілася сялянская дэмакратыя. Трэба з такімі настроямі канчаць. Не бядуй. Ёсць дзве гарматкі, кулямётчыкаў мабілізуем з усіх атрадаў заходняй зоны.

Ужо збіраючыся адыходзіць, схаваўшы ў планшэт карту, Лаўрыновіч паварочваецца да акна, з хвіліну стаіць моўчкі. Дзень разгараецца сонечны, цёплы, на вуліцы дзіцячыя галасы. Пазіраючы некуды ў акно, Лаўрыновіч гаворыць:

— Зразумей мяне як чалавека. Кулям я не кланяўся. У пераплётах бываў. Думаю — пранясе. А інакш, брат, нельга.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### I

Халодныя паўночныя вятры замаруджваюць крок вясны. Зноў усё заледзянела, зашэрхла.

З'яднаныя сілы трох брыгад — Міхнаўца, Дзяругі, Гаркушы,— зняўшыся з баз, кіруюць у напрамку чыгункі Брэст — Гомель. Ідуць адной доўгай калонай, выслаўшы па вайсковаму звычаю баявую ахову і бакавыя дазоры.

Шура Гарнак крочыць у калоне побач з Багдановічам, якому пасадзейнічаў перайсці да Мазурэнкі. Іх абодвух капітан вылучыў для ўдзелу ў аперацыі, даўшы адметнае заданне — паспрабаваць захапіць каго-небудзь з немцаў жывым, а калі не ўдасца — узяць дакументы.

Наперадзе Шуры едзе на кані Міхнавец, камандзір брыгады. У Шуры вострая цікавасць да гэтага чалавека, які прыкметна выдзяляецца сярод партызанскіх камандзіраў.

Настрой у Шуры панылы. Адносіны з Асяй не ладзяцца. З таго асенняга дня, як ён ненарокам убачыў яе ў лазеньцы, яго ўладна да яе цягне. Цяпер ён тым і жыве, што чакае кароткіх імгненняў, калі можна на Асю зірнуць, павітацца. Толькі адзін раз увесь вечар ён прабыў з радысткай. Але галоўнага так і не сказаў.

Перад тым як калона рушыла з Сасновіцы, Шура два разы забягаў у хату, над якой узвышаюцца жэрдкі з нацягнутай антэнай. Асі дома не было.

Апошні час Шура мала бывае на месцы, ходзячы то пад Гарбылі, то пад Бацькавічы, забіраючы ў сувязных разведданясенні. Вандруе ў пары з Тапарковым, з Багдановічам, з другімі хлопцамі, і амаль кожная вандроўка не абыходзіцца без здарэнняў. Ён пакуль што выходзіць сухім з вады. Вельмі хацелася б расказаць Асі пра свае прыгоды. Тым болей што яны робяць адно дзела. Тыя звесткі, якія Шура прыносіць, Ася перадае ў Маскву. Але яму нялёгка падступіцца да радысткі. Яе ўвагі дамагаюцца разведчыкі, падрыўнікі. Нават аж зашмат гэтай увагі. Іншы раз Шуру ўдаецца настроіць сябе варожа да дзяўчыны. Ён стараецца яе не заўважаць, не

глядзець на нізенькую хацінку, дзе яна жыве. Але ненадоўга. Ася ўсё-такі абы-каму на шыю не вешаецца. Шура ні разу не бачыў, каб хто-небудзь з партызан, зайшоўшы, доўга бавіў у яе час.

У няўрымслівых пачуццях мінула зіма. Асабліва пакутлівы апошні месяц, калі сабранае ў кулак партызанства заварушылася, ладзячыся разыходзіцца па раёнах. Можа стацца, што Асю забяруць з групы, пакінуць пры штабе злучэння, тады Шура яе ніколі не пабачыць.

Ён ужо шукаў ратунку. Пазнаёміўся з адной дзяўчынай, хадзіў да яе начаваць. Думаў — забудзе Асю. Не памагае. Упершыню за васямнаццаць гадоў Шура пачынае адчуваць, што ўступае ў складаную паласу жыцця. Ён усё часцей успамінае бацьку, маці, іх гаротны, незвычайны лёс. Чаму маці не любіла бацьку? Чаму бацька, даведаўшыся, што маці сустракаецца з другім чалавекам, не мог проста пакінуць яе, а застрэліў?

Бацька паўстае ў памяці задуменным, заклапочаным, нейкім як бы нават прыбітым. Вазіў у пасажырскім вагоне пошту, дадому прыходзіў неахвотна. Колькі разоў заставаў Шура бацьку ў станцыйным буфеце, калі ён, вярнуўшыся з паездкі, гадзінамі сядзеў там, піў піва ці курыў. Каб у яго не было нагана, ён, можа б, і не застрэліў маці. Але зброя даецца ўсім паштовым ахоўнікам.

Шура маці не вінаваціць. Была вельмі прыгожая, ласкавая. Яго, малодшага сына, любіла да самазабыцця. Як бы прадчувала, што не прыйдзецца ўбачыць сына дарослым. Шура і цяпер памятае пяшчотныя мацярынскія рукі. І калі ўспамінае, як маці цалавала яго, песціла, гладзіла па валасах, на душы робіцца шчымліва-трывожна. З дзесяці гадоў не бачыць ён мацярынскай ласкі. Гадаваліся з сястрой у дзеда. Калі ён уцёк у партызаны, сястру цягалі па допытах.

Тое, што здарылася з бацькам, напаткала цяпер Шуру. Можа, гэта ў крыві? Няўжо на Асі клінам сышоўся свет? Не, ён усё-такі выкіне яе з душы. Нельга быць анучай. Яна да яго не хінецца. Няхай знойдзе лепшага. Ён будзе ваяваць.

А калона між тым крочыць наперад. Неба хмурае, зацягнутае хмарамі. Халодны вецер дзьме ў спіну і як бы

падганяе. Багдановіч, Шураў напарнік, маўкліва ідзе поруч. Нездаровіцца Алесю. Баліць жывот. Твар пасінеў, азыз. На несалёнае мяса Алесь нават глядзець не можа. Дзе ўзяць солі? Можа, разжывуцца ў эшалоне, які ідуць граміць.

Калона пазбягае паселішчаў, выбіраючы лясныя, прасёлкавыя дарогі. Лес яшчэ голы, няўтульны. На голлі вербалозу вісяць пушыстыя коцікі. Пачынаюць цвісці пралескі, жаўцее лотаць. Ужо і бусел прыляцеў. Расхаджвае даўганогі па балацянках. Наўрад ці знойдзе ён жаб — пахаваліся ад холаду.

— Давай закурым,— гаворыць Шура, звяртаючыся да Алеся.

Багдановіч курыць не хоча. Губы ў яго пабялелі, засмяглі. Шураў кісет заўважаюць другія, ён ідзе па руках. З тытунём, паперай туга. Шуру нават шкада, што неразумна выявіў свой прыпас. Суседзі, не ашчаджаючы чужой табакі, круцяць тоўстыя цыгаркі, дымяць, але робяцца ласкавейшымі да незнаёмых хлопцаў.

— З якога атрада? — пытае высокі, вузкатвары, з шэрымі насмешлівымі вачамі.

На ім доўгі нямецкі шынель, разбітыя ўшчэнт чаравікі з абмоткамі, ды і па гаворцы пазнаць можна — чалавек не мясцовы.

Не ўдакладняючы, Шура гаворыць, што служыць у разведцы.

Высокаму, аднак, хочацца ведаць пэўна, ён распытвае далей, але Шура адказвае неахвотна. Нарэшце той, што ідзе побач з высокім, штурхае яго ў плячо.

— Пры парашутыстах яны. У Маскоўскай групе. Там шчэ ходзіць здаравенны такі дубіна. Цягае на плячах рацыю.

Высокі роспыты спыняе, на Шуру глядзіць як бы нават з павагай.

— Што з ім? — паказвае на Багдановіча.

— Жывот баліць.

— Палечым. Як толькі будзе прывал.

Вецер узмацняецца, дзьме цяпер збоку. Халодны, калючы, ён пранізвае наскрозь. Нават снежная крупка сыплецца з непрыветлівага неба. Недарэчнае відовішча: з зямлі прабіваецца зялёная трава, нават кветкі расцвітаюць, а тут снег.

Калона ідзе. У высокага — ён з брыгады Міхнаўца — пасінеў нос, ён падняў куцы каўнярок шыняля, сагнуўся, ссутуліўся, але добрага гумору не губляе.

— Мне мой бацька шынель прыслаў. Усю дарогу дзякую яму. Харошы шынель, падбіты рыбіным пухам. У ім не змерзнеш.

— Які бацька? — жартоўны тон Шура адчувае, але ад спакусы працягнуць размову ўтрымацца не можа.

— Вядома які. Пра сыноў сваіх клапоціцца. Наступны раз прышле чаравікі. Ваяваць дык ваяваць. У мяне дванаццаць патронаў, дарма іх не выпушчу. Дванаццаць фашыстаў ляжа як лёду. А можа, удасца дваіх адной куляй. Тады пакладу дваццаць чатыры.

Да высокага прыслухоўваюцца,— справа, злева сіплы смех.

— Перастань, Лунёў,— умешваецца Міхнавец, які чуе гаворку.— Дагуляешся са сваім язычком.

— А што я шкоднае гавару, таварыш камандзір? Падымаю настрой байцоў.

Паўз калону праязджае нехта з чужых камандзіраў, і размова на момант прыціхае. Дарога ідзе кустоўем. У імгле, засланай нечаканай віхурай, відаць шэрыя зараснікі хмызоў, сухіх чаротаў, у якіх па-асабліваму шуміць вецер — нудна і працяжна.

Вёсак не відаць, калона вёскі абмінае наўмысна, каб не ўзбуджаць непатрэбнай цікаўнасці. Ідуць ужо гадзіны чатыры, а прывалу няма. Зрэшты, не варта спыняцца на сумных, мокрых балацянках. Трэба выбіцца ў лес, дзе можна схавацца ад пранізлівага ветру, а там думаць пра адпачынак.

У калоне ўсё ж лягчэй, цікавей ісці, чым аднаму. Час ляціць непрыкметна. Няма адказнасці за тое, што робіш, куды ідзеш. У калоне адказвае за ўсё камандзір.

Наперадзе штосьці шарэе. Вецер проста свішча, сячэ ў твар, збівае з ног. Рады раскідаліся, калона расцягнулася. Кожны ідзе як хоча. Тым болей што дарога кепская. Гэта нават не дарога, а зімнік, па якім сяляне возяць сена. Пад нагамі чвякае. Анучы ў чаравіках мокрыя, і калі не ісці, то ногі зусім змерзнуць.

Лес аказваецца звычайным алешнікам. Да сябе не вабіць.

Лунёў зябка пацепвае плячамі, як бы стараючыся глыбей захутацца ў свой выцвілы, пашыты як бы з тоненькай коўдры шынель. Нос яго зусім сіні. Але не проста ідзе, а яшчэ прытанцоўвае, выгінаецца, стараючыся сагрэцца.

— Ведаеш, отрак, што б я зараз зрабіў? Выпіў бы кацялок кіпятку. Не з цукрам — з соллю. Дзіўна, як жылі на гэтых слаўных балотах славяне тысячу гадоў назад? Дзе бралі соль?

Здубянелы Лунёў яшчэ можа жартаваць. Шура любіць такіх людзей. З імі не прападзеш. Увогуле, у гурце, у мнагалюддзі найлепш выяўляюцца здольнасці кожнага. Калі збярэцца хоць дзесяць чалавек, то сярод іх абавязкова знойдзецца адзін, у каго лёгка падвешаны язык, і такі, што ўсё ўмее, і які-небудзь спрытнюга, які на хаду падэшвы аддзярэ. А з соллю сапраўды кепска. Пакутуюць жыхары і партызаны. Даваенны запас з'елі даўно, а цяпер жывуць тым, што ўдаецца выкрасці з-пад носа ў немцаў.

Паўдня ідуць без перадыху. Хутка вечар. Хмары яшчэ ніжэй навісаюць над хмурай, няўтульнай зямлёй. Ногі зрабіліся як не свае, яны мяккія, як бы з ваты. Адчування болю няма, ногі забаляць тады, як паход кончыцца. Цяпер трэба забыць на ўсё, ісці і ісці. Сапраўдны партызан той, хто ўмее хадзіць.

Прывал будзе, мабыць, ноччу. Колькі яшчэ да чыгункі? У якім месцы да яе падыдуць? Мінулай восенню гэтымі ж мясцінамі партызаны прабіраліся да Пціцкага моста. Добра ўзарвалі мост. Толькі дарога была іншая. Вёсак не міналі. Цяпер даюць круку, каб абысці паселішча, таму дарога расцягнецца.

Прывал вынікае нечакана. Навокал чэзлыя балацянкі з ніцымі лазовымі кустамі, бярозамі. Наперадзе паласа лазнякоў шчыльнейшая — там рэчка. Дазоры шукаюць броду, таму калона стаіць. Вецер трохі сціх. Густой рудой травы, мабыць, ніхто не касіў з самага пачатку вайны.

Садзяцца, дзе хто можа, хоць дол макраваты. Лунёў і яшчэ трое з кампаніі адыходзяцца падалей ад дарогі, і ім шанцуе — знаходзяць даўнішні адзёнак, і вось ужо Лунёў махае рукой, клічучы Шуру і Багдановіча да сябе. Адзёнак — сухі астравок сярод макрэчы. Падцяўшы ногі, хлопцы садзяцца.

Партызаны між тым пачынаюць частавацца. Лунёў выцягвае з-пад крыса нямецкую фляжку ў шэрым варсістым футарале, адкручвае накрыўку, разы са тры лыкае сам і пускае фляжку па крузе. Другая такая ж фляжка ў белабрысага партызана. Ён першы не п’е, дае Багдановічу:

— Пацягні. Трунак што трэба. Найлепшае лякарства.

Багдановіч палыкнуў няўдала: папярхнуўся, пацякло па барадзе. Партызаны глядзяць на яго непрыхільна. Калі даходзіць чарга да Шуры, ён, перастаўшы дыхаць, робіць узапар тры глыткі. Вогненная вадкасць апальвае горла, грудзі, зацінае дыханне. З хвіліну Шура адчувае сябе, як рыба, выкінутая на бераг.

Партызаны рагочуць.

— Спірытус віні,— тлумачыць Лунёў.— Чысты, як дух, сто градусаў. Які ты разведчык, калі піць не ўмееш.

Закуска — лусты чорнага зачарсцвелага хлеба, парэзаная ў шалупінні цыбуля, вялікія кавалкі варанай несалёнай ялавічыны.

Праз хвіліну Шуру робіцца добра. Прыемная цеплыня разліваецца па целе, пашумлівае ў галаве, страшэнна хочацца есці. Шура цяпер піхае ў рот усё, што трапляе пад руку: халоднае з наліпшымі гарошынамі лою мяса, цыбулю, шорсткі, спечаны з грубой, змеленай на жорнах, мукі хлеб.

— Чаю ў рэчцы нап’ёмся,— гаворыць Лунёў.— Як толькі знойдуць брод. Калі няма стакана, можна шапкаю...

Невядома адкуль з’яўляецца Міхнавец. Ён зусім п’яны, ледзь стаіць на нагах. Не зважаючы, што перад ім падначаленыя і нават чужыя людзі, голасна кідае:

— Крыві нап’ешся. Начальнік хоча выславіцца, дык прыдумаў авантурку. Кавалерыйскую брыгаду не можа забыць. Так ударыць па лапцях — юшка пацячэ. Хіба мы такія дурні, што чыгункі не бачылі? З дзесяццю патронамі на штурм?..

Міхнавец нядаўна ўшчуваў Лунёва, цяпер яны як бы мяняюцца ролямі.

— Не вешай галавы, Серафім Паўлавіч. Можа, не дойдзем да жалезкі. Напорамся на паліцэйскае гняздзечка, рэбры палічым бобікам. Бобікаў у балота, а тым часам пераначуем у пухавіках.

— А я пра што гавару? — расчырванелы Міхнавец крычыць.— Неразагнаныя гарнізоны кругом, а мы на чыгунку. Чаго там не бачылі? Думаеш, немцам не данеслі, што паўзём па балоце? Гасцінчыкаў падгатовяць...

Здалёк чуецца каманда строіцца. Добры настрой, які прыйшоў да Шуры, як рукой здымае. Штосьці трывожнае, нядобрае варушыцца ў душы. Багдановіча — таго проста трасе. Няёмка на яго глядзець.

## II

Толькі апоўначы дабіраюцца да зарослага соснамі пагорка, які выдаецца цёмным востравам. Начуюць, не раскладваючы агнёў,— блізка чыгунка. Калі пераходзілі рэчку, пакупаліся — вышэйшыя ростам — да пояса, ніжэйшыя — па самыя грудзі. Мокрыя, адубянелыя, вёрст дзевяць ледзь не беглі, пакуль не высахла на целе адзежа.

На востраве дол сухі, пясчаны, і Шура нават ядлоўцу не наламаў пад бок — упаў ад знямогі. Побач прымасціўся Багдановіч. Зацішна пад соснамі, утульна. Цяжкія ўздыхі даносяцца зверху — там гуляюць вятры. Шура заснуў імгненна.

...Станцыя, на якую яны наступаюць, тая самая, што і летась — Пціч. Толькі не відаць моста і рэчкі. «Дзе ж мост? — думае Шура.— Партызаны яго ўзарвалі, але немцы адрамантавалі зноў. І рэчка не магла проста так знікнуць». Нарэшце ён радасна ўспамінае: «Мост, рэчка за станцыяй, таму іх не відна. Цяпер жа ў іх задача другая — захапіць эшалон...»

Эшалон стаіць перад імі — хоць рукамі бяры. Немцы нічога не бачаць, не страляюць. Шура бяжыць штосілы, але ззаду за яго нехта чапляецца. Ён азіраецца і бачыць Міхнаўца. «Не бяжы,— мармыча Міхнавец.— Немцы не страляюць таму, што кругом усё замініравана. Мы сядзем на каня і паедзем. Конь непадкаваны, на міну не наступіць...»

Міхнавец падводзіць чорнага каня, і яны абодва на яго садзяцца. Конь ідзе асцярожна, ён нават не ідзе, а нібы плыве ў паветры. Вось яны ўжо ў вагоне. У ім поўна мяшкоў з соллю. Міхнавец бярэ сабе маленькі мяшэчак, а на Шуру

ўзвальвае цэлы куль. Яму цяжка, ён злуецца на Міхнаўца і вось-вось упадзе ад знямогі...

Шура прачынаецца. Багдановіч, каб сагрэцца, узлёг грудзьмі на яго грудзі. Яшчэ цёмна, але між сосен рух і галасы. Партызаны разбіраюцца па ўзводах.

Першае, што бачыць Шура, выйшаўшы на гала, дык гэта снег. Учора сеялася з неба рэдкая крупка, цяпер снег валіць цяжкім, мокрым хлоп’ем. Шура дрыжыць. У сне прамёрз, ногі мокрыя, а тут яшчэ хлюпота. Наперадзе нічога не відаць. Партызаны — знаёмых побач няма — ідуць хмурыя, злосныя. Багдановіч зусім сагнуўся ў крук. Раз-пораз надрыўна кашляе.

Ісці стала лягчэй, калі выбіліся на дарогу. Паабапал маладыя сасновыя пасадкі. У лесе снегу няма, затое на прыгнутых галінах дрэўцаў вісяць белыя шапкі. Калона часта спыняецца. Доўгае, надаедлівае чаканне горш за ўсё.

Нарэшце партызаны дзеляцца па атрадах, і Шура здагадваецца, што блізка чыгунка. Брыгада Дзяругі падаецца ўлева, Міхнаўца — управа. Шура з Багдановічам застаюцца з тымі, каго пакідаюць на месцы.

Партызаны, паламаўшы строй, разбіўшыся на купкі, асцярожна прасоўваюцца наперад. Цяпер усе ідуць, трымаючы вінтоўкі напагатове. Адзін Багдановіч безуважлівы да баявых падрыхтаванняў — нават вінтоўку з-за пляча не здымае.

— Чыгунка блізка.— Шура торкае таварыша за рукаў.— Зараз пачнецца.

— Чорт яго бяры. На злом галавы не лезь.

Пачынае світаць. Нават праз снежную замяць відно, што лес кончыўся. Абрываецца ён неяк нечакана, стромай сцяной, і Шура здагадваецца, што наперадзе ахоўная паласа, на якой немцы лес спілавалі.

Партызаны залягаюць пад крайнімі дрэвамі. Снег сыпле і сыпле. Сасна, пад якой Шура з Багдановічам выбралі месца, стромая, з раскідзістай шапкай, мокрае халоднае хлоп’е сюды амаль не трапляе. На імшыстым грудку, перад Шуравым тварам, некалькі сцяблінак зялёнага барвенку, трохі наперадзе, у лагчынцы, дзе ахоўныя абсягі сасновай навісі канчаюцца, з-пад снежнага покрыва прабіваюцца тры белыя вочкі пра-

лесак. З-за снегу іх цяжка ўбачыць. Шура здолеў адрозніць кветкі па зялёных лісціках, якія іх атуляюць. Пралескі цвітуць на снезе...

Ужо зусім вывіднела. Насцярожаная цішыня, і толькі мітусяцца перад вачамі белыя снежныя пісягі. Колькі ад сасновага ўскрайку да рэек? Сто метраў, дзвесце? Немцы валілі лес нераўнамерна — дзе больш, дзе менш. Не самі пілавалі, прыгналі жыхароў.

Смутная здагадка не дае Шуру спакою. Ён прасоўваецца трохі наперад, кладзецца на спіну, глядзіць уверх. Так і ёсць, на ствале сасны, метры на тры над зямлёй, прыбіта вялікая фанерная літара. Яна нават пафарбавана ў чырвоны колер, каб тыя, што будуць страляць, маглі яе адрозніць. Але калі падрыхтавана дыспазіцыя, то, мабыць, блізка бункер.

Шура паўзе назад. Як і ўчора, на душы смутная трывога. Яшчэ ніколі так не было. Біліся з немцамі на шашы, наступалі на Гарохавічы, на Літвінавічы, на Пціцкі мост. Ні пра што ён тады не думаў.

Снег між тым як бы радзей сыпле. Калі прыгледзецца, то можна ўбачыць рад тэлеграфных слупоў, цёмную сцяну сасонніку на процілеглым баку чыгункі. Да насыпу метраў сто. Сям-там з-пад снегу вытыркаюцца пеньчукі, сукі, галіны паваленых, але неприбраных дрэў.

У гэтую хвіліну да Шуравага слыху даносіцца выразны перастук колаў. Нават абыякавы Багдановіч падымае галаву, насцярожваецца. Пад соснамі, дзе стаіліся партызаны, прыкметны рух. Нехта, трашчучы галінамі, бяжыць па лесе, кідаючы адну каманду: «Пасля ўзрыву — да эшалона! Страляць толькі па цэлі».

У грудзях у Шуры нудна ные. Рукі, ногі як амярцвелі. Трывога падступае, як прыкрая пачварная здань, яе халодны дотык Шура чуе ўсім целам. Кружыцца галава, і ў нейкі міг здаецца, што ён ляціць у бездань. Як з-пад зямлі чуе Шура Багдановічаў голас: «Ты ўвесь белы. Табе што, нядобра?»

Губы засмяглі, у роце суха, Шура нават слова вымавіць не можа і толькі махае рукой.

Эшалон, здаецца, на тым жа месцы. Доўгія, пакутлівыя цягнуцца хвіліны.

Нарэшце праз снежную замяць Шура бачыць цёмны сілуэт паравоза з кароткай трубой, шэрую чараду вагонаў. Эшалон сапраўды не ідзе, а паўзе. Можа, таму, што першы пасля ночы. Сляпому ясна-такі — трэба прапусціць. Няхай чухае к д’яблу!

Цікава, якую паставілі міну — націскную ці нацяжную? Калі націскную, то ўжо нічога не зробіш...

Выбух, як удар перуна. Асляпляльны слуп агню, воблака дыму, страшэнны жалезны скрыгат,ляскат. На галаву Шуры падае вялікі камяк снегу.

Снег гэты ён толькі і адчувае, калі разам з цёмнаю лаваю людзей, якая раптам вырвалася з лесу, бяжыць, абмінаючы пні, паваленыя дрэвы, да чыгункі. Вагоны як укопаныя стаяць на месцы, а паравоз нават з рэек не сышоў. Там, ля вагонаў, здаецца, ніякага руху. Тым не меней стракоча партызанскі кулямёт, раздаюцца паасобныя вінтовачныя стрэлы. Страляюць тыя, пярэднія, якія бліжэй да вагонаў. Шура бяжыць, бачыць перад сабой у мігатлівай снежнай замяці шэрыя спіны. Вось-вось вырвуцца партызаны на насып.

Раптам яны як бы натыкаюцца на нябачную сцяну, на хвіліну недаўменна спыняюцца, пачынаюць разбягацца ўлева або ўправа. Шура сам налятае на нябачную перашкоду — гэта драцяная сетка, нацягнутая ўздоўж чыгуначнага палатна. Шалёная злосць ахоплівае яго. Дзе ж былі мінёры, разведчыкі, няўжо не бачылі дроту?

У гэтую хвіліну з канца эшалона мерна і ўладна пачынае бумкаць буйнакаліберны нямецкі кулямёт. Партызаны падаюць на дол. Увесь аснежаны прасцяг засеяны нерухомымі цёмнымі постацямі. Усчынаецца частая, бязладная страляніна. Шура ледзь не плача ад бяссілля. Вагоны за некалькі крокаў, калі б скочыць на насып, пад колы, то немцы не ўтрымаюцца.

Купка партызан бяжыць да паравоза. Сярод іх Шура бачыць Лаўрыновіча. У яго ў выцягнутай руцэ аўтамат, ён махае ім, на імгненне паварочваючыся тварам да тых, што ляжаць у снезе, як бы заклікаючы падымацца, бегчы ўслед.

Шура падхопліваецца. Там, ля галоўнай часткі эшалона, у драцяной сетцы прароблены шырокі лаз, і вось ужо некалькі партызан ля самага насыпу. Лаўрыновіч зноў спыніўся, штосьці крычыць, у яго сударгава перакошаны рот...

Апошняе, што паспявае занатаваць узбуджаная Шурава свядомасць,— вогненныя бліскаўкі з-пад пярэдняга вагона і постаць Лаўрыновіча, якая павольна, нібы падсечанае дрэва, падае на снег, пад ногі партызанам. Ён яшчэ чуе моцны, як удар каменем, штуршок у грудзі, у жывот і таксама падае...

## III

Сінія, жоўтыя, чырвоныя кругі. Яны то звужаюцца, робяцца дробнымі, як мыльныя бурбалкі, то ўзрастаюць да велічыні грэцкіх арэхаў. Мігцяць, пераліваюцца, скрыжоўваюцца адзін з адным. Раптам знікаюць, як бы правальваючыся, раствараючыся ў цёмнай бездані. Пакрысе зноў пачынае святлець, папіскваючы, аднекуль зверху спускаюцца лятучыя мышы. Іх многа, яны вырастаюць ушыркі і, падобныя да парасонаў, засланяюць усё неба. Потым яшчэ кругі — сінія, жоўтыя, чырвоныя...

Шура раскрывае вочы. Над ім зялёная хвойная навісь, якая прагінаецца ад наліпшага снегу. З галін капае. Кроплі іншы раз падаюць на твар, і ад гэтага непрыемна. Ён пагойдваецца, як у калысцы, і здагадваецца, што яго нясуць. Куды нясуць, навошта? Так, быў бой, яго, значыць, параніла. Лаўрыновіч упаў...

— Жывы! — чуе Шура знаёмы голас, але ўгадаць, каму ён належыць, не можа.

Пагойдванне спыняецца, Шуру цёпла, ён засынае...

Дзіўныя відовішчы ўзнікаюць зноў і зноў, дзень мяжуе з ноччу, Шура нарэшце пазнае голас Багдановіча, Лунёва, які мёрз у нямецкім шынялі і частаваў іх на балоце гарэлкай. Але Шуру ўсё адно. Ён не думае ні пра смерць, ні пра тое, што яго вылечаць. Няма ніякіх акрэсленых думак, жаданняў, яго цяперашні стан вызначаецца тым, што адбываецца з яго кволым, бездапаможным целам. Ён жыве і не жыве, бо выракся ўсяго звычайнага, зямнога, можа дараваць усе крыўды, якія калі-небудзь хто-небудзь яму зрабіў. Яму нават не баліць, ён як бы зроблены з паветра, з празрыстасці, з зорнага святла.

За чорнай заслонай небыцця, у якую Шура зазірнуў, нічога страшнага няма — адна бязважкасць. Лёгка, вельмі лёгка памірае чалавек, таму, можа, і бываюць войны. Пакутуюць жывыя. За сябе і за мёртвых. Мёртвым не баліць...

На паўгадзінку ці нават болей Шура ачынаецца ў хаце, куды яго прыносяць і кладуць на падлогу. Ён бачыць пляміны на даўно не беленай столі, ката, які сядзіць на печы, пад звязкай цыбулі.

— Не выжыве,— чуе ён незнаёмы голас.— Скразная — у грудзі, дзве сляпыя — у жывот. Аперацыя трэба, а ў нас ёду няма. Гарэлкай раны абрабатваем.

Ён зусім не ўслухоўваецца ў размову, яна як бы не пра яго і яго не датычыць.

Малыя праблёскі святла змяняюцца суцэльнай чарнатой забыцця, і ў адзін з тых праблёскаў, калі да яго на хвіліну вяртаецца свядомасць, ён бачыць схілены над сабой, заплаканы твар Асі.

— Ты будзеш жыць,— гаворыць яна, выціраючы сашчэмленым кулаком слёзы.— Прылятае самалёт, цябе адправяць у Маскву. Я пісьмо напісала. Знойдзеш па адрасу маму і сястру...

Яму ўсё адно: паляціць ён у Маскву ці не паляціць.

## IV

Сакратара абкама Лаўрыновіча і яшчэ сорак двух партызан, забітых пры спробе авалодаць падарваным воінскім эшалонам, хаваюць у Сасновіцы, на пясчаным з трыма старымі хвоямі пагорку. Труны зроблены ўсім забітым. Прамоўцамі выступаюць камісар Грынько, камандзір атрада Дзяруга.

Грыміць нястройны ружэйны залп.

Настрой нярадасны. Атрады, брыгады, якія разыходзяцца па раёнах, называюцца злучэннем, але камандзіра, якому б гэтае раз’яднанае войска падпарадкоўвалася, няма, і невядома, калі будзе.

Адзіная ўцеха — прылятае самалёт. Ён мусіў прыляцець тыдзень назад, але там, у Маскве, адкладвалі. Можа, проста думалі, што зямля сырая, мокрая і самалёт не здолее сесці.

За Парэччам, на дзірваністым, гладкім, як талерка, выгане, прырода сама стварыла пасадачную пляцоўку. Грунт цвёрды, надзейны, паасобныя купіны партызаны пассякалі рыдлёўкамі, лагчынкі засыпалі, зямлю ўтапталі.

Ноччу ўдоўж і ўпоперак аэрадрома палаюць агні.

Самалёт доўга кружыць, прымерваецца, нарэшце торкаецца пярэднімі колцамі зямлі і лёгка, як шэры вялікі жук, бяжыць па выгане. Партызаны вялізным натоўпам кідаюцца ўслед.

Лётчыкі, аднак, блізка да машыны нікога не падпускаюць. Двое выносяць цюкі, мяшкі, скрынкі, трэці, маленькі, прысадзісты, з белымі, як часнок, зубамі, гаворыць з партызанамі.

На самаробных насілках у самалёт уносяць шасцярых цяжкапараненых. Лётчыкі грукаюць дзверкамі, «Дуглас» раве, тужыцца, бяжыць па выгане.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### I

Харкаў нашы пакінулі зноў.

Вечарам Міця з Лобікам блукаюць па правулку, абмяркоўваюць сумную навіну. Пад нагамі — снегавая каша. Наступае пара разводдзя.

Няўжо зноў пачнецца, як летась? Зімой наступленне, відавочны поспех, а з пачаткам цяпла — адыход, здадзеныя гарады? Немцы настойліва аб гэтым пішуць. Чытаць такое балюча і крыўдна.

— Зразумей,— тлумачыць Лобік.— Каб Гітлер не кінуў пад Харкаў новыя танкавыя злучэнні, Чырвоная Армія была б на Дняпры. Што ёй магло перашкодзіць? Кругом раўніна, прыродных рубяжоў для абароны няма. Цяпер немцы будуць стаяць насмерць. Бо іначай паляцяць, як у прорву.

Над свядомасцю Міці, Лобіка вісіць страх, вынесены з першага і другога ваенных гадоў. На Германію працуе Заходняя Еўропа, а найбольш развітыя прамысловыя раёны Савецкі Саюз страціў. І так цяжка ўявіць, адкуль Чырвоная

Армія бярэ сілу. Адкуль новыя танкі, самалёты, якія Гітлер даўно абвясціў знішчанымі?

— Бальшавікі — геніяльныя,— гаворыць Лобік, каб высветліць для сябе самога не зусім яснае пытанне.— Цяпер наша апора — Урал і Кузбас. Нехта, бачыш, дапускаў, што можам страціць еўрапейскую частку. Стварылі другі цэнтр — Урала-Кузнецкі. А што — вугалю, жалеза там колькі хочаш. Нафту дае Баку. А цяпер Грозны і Майкоп вярнулі.

— А хлеб? — пытае Міця.— Хлебам карміла Украіна і Кубань. Кубань адабралі, але там усё разбурана.

Наконт хлеба сапраўды цяжка зразумець. Большую палову насельніцтва, армію нехта корміць. Але ж не сакрэт, што лепшыя землі або пад фашыстамі, або па іх пракацілася вайна.

Даўно мінула рамантыка, калі хлопцы спадзяваліся на цуд, на імклівае, маланкавае наступленне Чырвонай Арміі. Ёсць строгія, жалезныя законы, якіх не пераскочыш. Тое, што страчана ў сорак першым, прыходзіцца вяртаць вялікай крывёю.

Двое новых з Лобікавай пяцёркі — Грыша Найдзёнік і яго сваяк Сяргей Сталяроў — падвешваюць пад цыстэрну магнітную міну.

— Вось чака,— прыйшоўшы да Міці, Лобік паказвае металічную скабачку ад хімічнага ўзрывальніка.

Хлопцы выдыбаюць па пакоі, паціраюць ад задавальнення рукі. Цяпер яны нібы камандзіры: рашаюць, каго прыняць у групу, якое даць заданне.

Грыша Найдзёнік — той самы чарнявы Іванаў сусед, які хвіліны не мог пражыць без смеху. Смяяўся, падпускаў кепікі, ды ўзяўся нарэшце за дзела. З другім — Сяргеем — група звязана даўно.

Сяргей жанаты на Грышавай сястры. Ён мастак — можа намаляваць ікону, партрэт. Маляваннем падрабляў на жыццё. Калі спатрэбіцца, здолее падрабіць любую нямецкую пячатку.

— Не адваліцца міна? — перапытвае Міця.

— Прабаваў на сякеру. Чак — і прыліпла. Толькі сілай можна адарваць.

Вялікая справа — магнітныя міны. На чыгунцы выбухі кожны дзень, але страты невялікія. Наперадзе эшалона немцы пускаюць гружаныя баластам платформы, цягнікі ідуць

на малой хуткасці. У лепшым выпадку выбухам скідае з рэек паравоз, на тры-чатыры гадзіны замаруджваецца рух. Вось каб такія міны падвешваць. Але іх, відаць, мала.

У Міцевай пяцёрцы — Андрыюк, Красней, Шкірман, Куніцкі. Апошнія трое запраўляюць канторай «Заготжывёла». І да вайны была гэтая кантора, мела базу — загарады, хлявы — паблізу могілак. Фармальна кіруюць «Заготжывёлай» нямецкія аграномы, якія носяць жоўтую напаўвайсковую форму. Але яны рэдка патыкаюць нос у брудныя хлявы. Поўны гаспадар там — Красней.

Піліп Красней — бывалы местачковы чалавек. Займаў пасады не столькі прыкметныя, колькі прыбытковыя. Да вайны стаяў за прылаўкам крамкі, з жарцікамі, вострымі слоўцамі прымаў ад дзядзькаў цялячыя шкуры, воўну, свіную шчаціну, плоцячы за гэта міткалём і кортам. Вёў сустрэчны гандаль.

Найчасцей Міця бывае ў Шкірмана. Савецкія грошы на танкавую калону збірае ветурач.

Шкірман — мяккі, абыходлівы. З выгляду трохі цюхцяваты, гаворыць павольна, расцягваючы словы, але валодае прыроджаным дарам смеху.

Кладучы перад Міцем загорнуты ў шэрую паперу пачак грошай, Шкірман расказвае:

— Красней, калі сказаў яму пра грошы, аж спалохаўся. Хоць на танкі, але — шкода. Усё ж перамог сябе. Прынёс назаўтра тысячу. А Куніцкі хвастом завіляў, Хрыстом-Богам моліцца — няма ні капейкі. Тады я трохі туману падпусціў. Кажу — прышлюць аблігацыі, прыйдуць нашы, сам ведаеш, як будуць глядзець на тых, у каго такія аблігацыі. Знайшоў у той жа дзень пяцьсот. Прысягае, што пазычыў. Абывацелі, ядры іх качалку!..

Шкірман сваіх грошай даў дзве тысячы, восемсот — Андрыюк. З хлопцаў Міця сабраў толькі сто дваццаць рублёў. Няма ў хлопцаў капіталаў. Такім чынам, наяўных — болей як чатыры тысячы. Танк за іх не пабудуеш, але, можа, хоць матор...

У адну з тых начэй савецкія самалёты бамбяць Гомель. Вялікі гэты горад, размешчаны далекавата, выбухаў не чуваць, затое відаць светлыя палосы-сполахі, якія раз-пораз раз-

бягаюцца па небе. Відаць яшчэ некалькі яркіх зорачак, якія паволі спускаюцца на лес. Асвятляльныя ракеты.

Хлопцы ўпершыню з павагаю думаюць пра сябе. Эшалоны яны лічаць усё-такі не дарэмна.

## II

Мястэчка сее.

Большасць жыхароў з першых дзён нашэсця занята бытавым клопатам. Хто на каровах, хто падгадаваўшы коніка, а хто на сабе — у модзе самаробныя двуколкі,— местачкоўцы возяць гной.

Некаторыя ўспомнілі напаўзабытыя рамёствы: вельмі вядомымі людзьмі зрабіліся шаўцы, краўцы, гарбары. Жанчыны, грукаючы бёрдамі, ткуць палотны. Грымяць жорны.

У пажылых ахоўнікаў можна за яйкі ці за сала купіць пакуначак фарбы, сахарыну, кацёлку нітак, іголку, пачак папяровых сярнічак. Нямала салдат-гандляроў вандруе па хатах.

Цісне мястэчка патроху самагонку. Бутэлькай можна задобрыць паліцэйскага, якога-небудзь начальніка, дый пажылому дзядзьку або хлопцу, які збіраецца на вечарынку, выпіць кроплю не шкодзіць.

Песень не чуваць. Іх нават не спяваюць паліцэйскія.

Міцева сям'я зіму пражыла. Бульбы накапалі парадкам — трымаліся на ёй. Маці і цётка ўвішныя — прадуць, ткуць, шыюць. Нават малодшыя Міцевы сёстры Таццянка і Люся сядзяць за прасніцай, мочачы ў конаўку з вадой пальцы, смычуць тоўстую, з вахлачкамі кудзелі нітку.

У цёткі — ручная швейная машына — лішні прыробак. Але галоўнае — ёсць у хаце ўласны шавец. Адам сваё вучнёўства кінуў, і хоць заказаў яму не нясуць, але старыя чаравікі, боты латае спраўна. Ён бы і новыя пашыў, ды няма добрага тавару.

Пятрусь з цётчыным Юркам разводзяць трусоў. Шэрыя пушыстыя істоты сядзяць у падпеччы, пабліскваючы адтуль чырванаватымі вачамі.

З Міцевай службы карысць толькі тая, што выпісаў два метры дроў. Хлебнай карткі яму не даюць.

Але ўсё адно Міцева становішча ў сям'і — незалежнае. Есці яму наліваюць у асобную талерку, спіць — на канапе ў чыстым пакоі, на якой малодшым дзецям нават сядзець не дазваляецца. Калі прыходзяць Міцевы таварышы, у пакой не зазіраюць нават маці з цёткай. Да братоў, сясцёр — родных і стрыечных — Міця адносіцца прыязна, і яны яму плацяць добрай дружбай.

Але душэўнай блізкасці з малодшымі братамі няма — не выйшлі яны яшчэ з хлапечага ўзросту. Толькі малодшая Таццянка, як толькі Міця прыходзіць у хату, лезе да яго на калені, выпытваючы навіны.

Міця ведае жартоўны верш, які падабаецца яму сваёй бязглуздасцю:

На буранцы едзе Янка,
Паўтараста рублёў санкі,
Пяцьдзясят рублёў дуга,
А кабыла — качарга...

Для Таццянкі, з улікам сучаснага моманту, Міця радкі трохі перарабіў:

На буранцы мчаць германцы,
Янка ў танку прэ паганцаў...

Прыемна глядзець, як у сукенцы, перашытай з пярэстай навалачкі, скачучы на адной назе, бялявая басаногая Таццянка сустракае Міцю яго ж вершам:

На буянцы мсяць гайманцы,
Янка ў танці п'е паганцяў...

Гранат, патронаў, як мінулым летам, Міця ў двор не прыносіць, і маці трохі супакоілася. Яна, вядома, адчувае, што сын небяспечных думак з галавы не выкінуў, шэпчацца з таварышамі, але цяпер стаў абачлівы, пасур'ёзнеў, паразумнеў, і яна рада гэтаму.

Міця на заўтрашні дзень папрасіў у лясгасе каня, каб узараць загон пад бульбу. Акрамя простага разліку — без каня не абыдзешся — ёсць у гэтай просьбе патайны сэнс.

Няхай бачаць, што ён жыве, як усе, і займаецца тым, чым усе местачкоўцы займаюцца — сее.

Загон — блізка ля будкі, сасны. Міця кладзецца спаць з радасным прадчуваннем сустрэчы з родным, блізкім сэрцу кутком. Даўно не быў ён у лесе, засумаваў па птушынаму шчэбету, па някідкай прыгажосці палявога абсягу. Але ў лес, на поле цяпер так проста не выберашся.

Абуджаецца ён ад страшэннага выбуху. Люстра, устаўленае ў сценку канапы, разбілася, і ашкелкі ляцяць на Міцю. Міця падхопліваецца, выскаквае на двор. Высока ў цёмным небе гудзе нябачная кропка самалёта. Гэта ж свой, савецкі, самалёт, ён скінуў бомбу. Кідай, браце, кідай, каб немцы ад страху ў норы пазашываліся. Але гул аддаляецца.

На світанні першымі да варонкі прыбягаюць немцы. Абмерваюць яе складным метрам, нешта вылічваюць.

Бомба разарвалася на дарозе, за некалькі крокаў ад нізенькай хаты Васіля Шарамета. Шкоды не нанесла, калі не лічыць, што вылецела некалькі шыбін ды яшчэ ў Васілёвай суседкі адсекла асколкам галаву курыцы. Лётчык, мабыць, кінуў у гэтым месцы бомбу таму, што заўважыў зверху вока семафора — ён стаіць насупроць, на чыгунцы.

Вось як бывае на вайне — Міця, Васіль, памагатыя невядомага лётчыка, маглі ад яго бомбы загінуць.

Праз дзень у сям'і новае ўзрушэнне.

Даваенны яшчэ паштальён, рухавы, трохі крываногі дзед Малінец, прыносіць паштоўку ад бацькі.

Палова невялічкай карткі з напісаным чужой рукой панямецку адрасам занята паклонамі, прывітаннямі, якія бацька перадае жонцы, дзецям, блізкім родзічам. Пра сябе паведамляе коратка — працуе ў шахце, жыве ў бараку і добра жыве — як брадкоўскі Ціт...

Брадок — частка мястэчка, дзе знайшла прытулак Міцева сям'я. Ціта добра ведаюць — адзінокі стары, перабіваецца з хлеба на квас у нізкай, скрыўленай хаціне. Але што хацеў сказаць бацька?

Маці плача. Яна лепей ведае мясцовых людзей і першая разгадала стоены сэнс бацькавых слоў.

Ціт, калі быў малады, яшчэ пры цару паехаў з жонкай — дзяцей не было — на новыя землі ў Сібір. Павязлі перасяленцаў з усім іх скарбам — коньмі, калёсамі, бочкамі, дзежкамі — на цягніку. У Сібіры Ціт занудзеў душой, стаў ірвацца дадому. Але бясплатнага білета назад не давалі. Пасадзіў дзед бабу на воз, патрухалі дамоў на коніку. За месяц дабраліся да Урала, збылі ўшчэнт схуднелага каня, купілі чыгуначны білет і ў чым стаяць прыехалі на бацькаўшчыну, у чужую хату, бо сваю перад перасяленнем прадалі.

Бацька хоча дадому. Але тых, каго пагналі ў Германію, дамоў не пускаюць. Значыць, надумаўся ўцякаць бацька. Такі сэнс напамінку пра Ціта.

Міця некалькі дзён ходзіць пад уражаннем бацькавага пісьма. Парадкі, якія заводзіць фашызм,— не што іншае, як рабства. У тых, каго пасадзілі ў эшалон, павезлі ў Нямеччыну, згоды не пыталі. Яны не палонныя, не звязаны з чужой краінай ніцямі грамадзянства, не існуе закона, паводле якога іх адарвалі ад сямей. Некалі, многа вякоў назад, так рабілі татара-манголы. Гітлер — нaваяўлены Чынгісхан...

Стаіць за пераездам недабудаваная бацькам хата. Міця пра яе не думае.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### I

Сустрэчу з начальнікам Чапліцкай паліцыі Драбніцай Вакуленка прызначыў на скрыжаванні дарогі, у сасонніку, вярсты за чатыры ад непрыкметнай вёсачкі Міхедавічы. З партызанскага боку — чалавек трыццаць аховы з двума ручнымі кулямётамі, пяццю аўтаматамі (іх атрымалі з першым самалётам).

Ахова залягла ў засаду. На развілцы засталіся Вакуленка, камандзір атрада Петравец, начальнік штаба Валюжыч. Паліцэйскіх чакаюць нядоўга. На пясчанай дарозе трухкоча рэсорная таратайка, запрэжаная парай гладкіх конікаў. Драбніца

ўдваіх з фурманам. Саскаквае з таратайкі і бадзёрым, нават занадта шырокім для яго шчуплай постаці крокам ідзе да партызан. Прыехаў без аховы ці яна стаілася дзе-небудзь непадалёк — невядома.

— Здароў, Драбніца.— Вакуленка выступае наперад, падаючы паліцэйскаму руку.— Ты мяне не пазнаеш?

— Пазнаю, чаму не.— Паліцэйскі намагаецца трымацца незалежна, упэўнена, але гэта яму кепска ўдаецца: шэрыя вочкі бегаюць насцярожана, рука, якую працягнуў Вакуленку, дрыжыць.— Ты ў Дамачове загадваў райзагам, а я ў сяльпе агентам па нарыхтоўках быў. Забыў хіба, як мне выгавары даваў? У трыццаць пятым годзе. Строгі ты быў начальнік!..

— Дарма я цябе тады не пасадзіў,— гаворыць Вакуленка.— Дзяцей тваіх пашкадаваў. На сваю галаву.

Гаворка на хвіліну прыпыняецца. Драбніца начальніцкага становішча не тоіць: прыехаў у скураным паліто, якое яму да пятаў, у запыленых хромавых ботах. Зброі няма, можа, хіба наган у кішэні. Гэтая акалічнасць Вакуленку падабаецца.

— Пойдзем у лес, затулімся. Стаім на дарозе, як слупы.

Як толькі трое партызан разам з начальнікам паліцыі хаваюцца між сосен, паліцэйскі фурман таксама скіроўвае ў лес таратайку.

Парламенцёры між тым прысаджваюцца на ўсланы іглічай дол.

— Давай вып'ем, Драбніца,— пачынае Вакуленка.— Паскудства ты нарабіў, але нічога не папішаш. Што было, то было. Калі здасі паліцыю, жывы будзеш. І бобікаў тваіх не зачэпім. Табе, калі вернуцца нашы, гадоў пяць, мабыць, прыпаяюць. А можа, так абыдзецца. Гледзячы, як праявіш сябе ў барбе супроць фашысцкіх акупантаў і якую дадзім табе характарысціку. Так што я к табе з адкрытай душой, глядзі, каб і ты не завіляў.

Маўклівы Валюжыч дастае з раменнай сумкі дзве бутэлькі мутнаватага самагону, парэзаны на драбнейшыя кавалкі крышан сала, паўбохан хлеба.

Вакуленка вымае з рыльца льняное заткала.

— Палыкні,— працягвае бутэльку паліцэйскаму.— Можа, смялей будзеш. А то нешта цябе дрыжыкі б'юць. Кажу табе, не бойся. Слова сваё спраўдзім.

Паліцэйскі п’е доўга, без аддыху, з яўным намерам ахмялець. На яго худой, парослай рэдкімі рудымі валасінкамі шыі перакатваецца дробны валлячок. Пасля Драбніцы выпівае Вакуленка. Рыльца бутэлькі, не саромячыся, выцірае далонню.

— Вінават я,— не дакранаючыся да закускі, хрыпла гаворыць Драбніца.— Перад родзінай і перад вамі, хлопцы, вінават. У сорак першым, пасля палону, паверыў, што савецкая ўласць не вернецца. Я ж пад Кіевам у акружэнні быў. Паглядзелі б вы, што там рабілася... Вырваўся дадому, а тут паліцыю набіраюць. Жыць трэба, дзяцей карміць, а здароўя няма. Я ж пры савецкай уласці толькі са службы жыў. Думаў, што паліцыя, як наша міліцыя. Не ведаў, што такое наступіць...

— Ладна, Драбніца. Спавядацца будзеш пасля. Цяпер трэба дзела рабіць. Дня, калі будзем наступаць на Чаплічы, я табе не скажу. Ваенная тайна. Але каб гатовы быў. Калі якая сволач стрэліць па нас хоць раз, да сценкі паставім. Зразумеў? І ваабшчэ зрабі так, каб вінтоўкі мы ў казарме захапілі. Казарма ў вас у школе?

— У школе.

— Пастаў надзейных людзей. Каб аддалі нам вінтоўкі. Свалачэй, што будуць уцякаць, многа?

Драбніца задумваецца.

— Чалавек пяць здавацца не захочуць.

— Трэба, каб самі з імі справіліся. Намець, каб каля кожнага такога быў свой. У случаі чаго — на мушку. Але язык лішне не развязвай. Дзела праваліш. Скажаш толькі самым надзейным. Зразумеў?

Ціха, стоена ў навакольным сасонніку. Анямелую цішыню лесу толькі зрэдку парушае піскам адзінокая птушка, ды ўпадзе на дол пераспелая леташняя шышка. Дзень невясёлы, хмуры — як восенню. Неба шчыльна аблажана воблакамі. Пасля цеплыні зноў насунуліся халады. Але вясной заўсёды так.

Красавік — месяц няўстойлівы.

Пускаюць па кругу яшчэ бутэльку. Драбніца прыкметна хмялее — ружовасць прабіваецца па худых шчоках, чырванее завостраны носік. Памыкаецца нешта сказаць, але не адважваецца. Нарэшце, сабраўшыся з духам, насцярожана пытае:

— Дык, калі мы дабравольна здадзімся, прымеце нас у парцізаны? Несазнацельнасць нашу даруеце? Я так панімаю.

— Я ж табе, Драбніца, сказаў. Біць немцаў дазволім. Такія грахі, як вашы, трэба крывёю выкупляць. Для цябе цяпер важна здаць нам паліцыю. Ета тваё першае баявое заданне.

Паліцай расцвіў як масленічны блін:

— Выпаўню, таварыш Вакуленка! Буду з усіх жыл помсціць праклятым фашысцкім захватчыкам, якія топчуць свяшчэнную савецкую зямлю...

Валюжыч з Петраўцом не вытрымліваюць — рагочуць. Вакуленка кідае на іх касы позірк, надзімаецца.

## II

Атрад з трыццаці коннікаў, сярод якіх Бондар, Грынько і яшчэ некалькі камандзіраў, вяртаецца з Аземлі, са штаба Міхнаўца. Разбіралася справа аб гібелі Лаўрыновіча. Коні бягуць лёгка. Людзі маўчаць. Чуваць толькі прыглушаны стук капытоў ды ёканне конскіх селязёнак. Ноч цёплая, бязветраная.

Аклікнутыя патрулямі, на хаду праскочылі суседнюю з Аземляй цёмную вёсачку, а далей дарога кіруе лесам. Тут яшчэ зябка і сыра. Мясцінамі з нізін выпаўзае на дарогу густы туман.

Бондар, пагойдваючыся ў самаробным сядле, едзе побач з Грыньком. Настрой у яго нядобры. Як пойдзе цяпер, пасля гібелі Лаўрыновіча? Калі прышлюць новага камандзіра?

Расстаноўку сіл Бондар добра бачыць. Камандзіры, якія выраслі з даваеннага партыйна-савецкага актыву, з ліку акружэнцаў, ваеннапалонных,— усе з надзеяй чакалі прыбыцця Лаўрыновіча. Сваім з'яўленнем ён як бы аформіў пачатае імі.

Але супярэчнасці асталіся. Узнікшыя ў лясной, балотнай глухамані атрады ўжо летась па ролі і значэнні мусілі саступіць месца атрадам новым, якія выраслі паблізу чыгунак, шасейных дарог, на чале якіх у шэрагу выпадкаў стаяць людзі ваенныя — былыя акружэнцы, палонныя. Партызаны сорак першага года недалюбліваюць гэтых камандзіраў, лічаць іх выскачкамі. Толькі Лаўрыновіч, які быў другім са-

кратаром абкама, кіраваў сельскай гаспадаркай, ведаў актыў, мог прымірыць супярэчнасці.

Наперадзе коннікі спыняюцца, збіваюцца ў гурт. Бондар з Грыньком пад'язджаюць, пачынаюць, як і астатнія, узірацца. Узбоч дарогі ў сасонніку ледзь прыкметна бліскае аганёк.

— Спешыцца! — загадвае Бондар.— Дзесяць чалавек за мной!

Перадаўшы камусьці з партызан повад, ён ідзе да хвойніку. Ногі блытаюцца ў няскошанай леташняй траве. Пад ботамі чвякае. Балацявіна цягнецца метраў на трыста, ледзь не ўшчыльную падступаючы да сасновага вострава.

Калі партызаны выбіраюцца на сухі груд, у лес, бачаць дзіўную карціну. Вакол вогнішча, скурчыўшыся, падагнуўшы ногі, ляжаць чалавек восем у нямецкіх шынялях, новых ботах, а ўперамешку з імі, апранутыя хто ў што, трое партызан. Ля агню, апусціўшы галаву на калені, дрэмле яшчэ адзін, прызначаны, мабыць, за вартавога.

Зачуўшы крокі, вартавы ўскаквае, выхоплівае з кішэні пісталет. Бондар пазнае ў ім Тапаркова.

— Устаць! Хто такія?

Незнаёмыя таропка падхопліваюцца, спалохана пазіраючы на партызан, якія наставілі на іх рулі вінтовак. Твары ў іх няголеныя, зарослыя. Пілоткі няўклюдна нацягнуты на самыя вушы.

Тапаркоў гучна дакладвае:

— Перабежчыкі, таварыш начальнік штаба. З уласаўскага атрада. Да партызан перайшлі самі.

Штосьці як бы замінае Тапаркову гаварыць, і Бондар махае рукой, даўшы разведчыку знак адысціся ад вогнішча. На ўзлеску, сам-насам з начальнікам штаба, Тапаркоў абмалёўвае становішча падрабязней. Уласаўцы ўцяклі са станцыі Пціч, з эшалона. Вандравалі некалькі дзён па лесе, але партызан не сустрэлі. Тапаркоў, наткнуўшыся на перабежчыкаў, прапанаваў дабірацца ў штаб злучэння. Тым болей што адзін з уласаўцаў называе сябе маёрам, нясе нібыта важныя весткі.

Тры дні ўзапар дапытваюць уласаўцаў.

Самая цікавая сярод іх фігура — маёр Саркісаў. Ён невысокі, чарнявы, шчуплаваты. Да вайны нібыта выкладаў

гісторыю ў Маскве, у інстытуце. У падкладцы шыняля, халявах ботаў, іншых патайных мясцінах амуніцыі маёр прыхаваў некалькі папер, якія нарадзіліся высока,— у самім штабе здрадніка Уласава.

Па словах маёра, да ўласаўцаў ён пайшоў свядома. Належаў да падпольнай арганізацыі ваеннапалонных, якая ўтварылася ў лагеры. Арганізацыя пастанавіла накіраваць некалькі камандзіраў ва ўласаўскую армію з разлікам, каб вялі там падрыўную работу, а пры першай магчымасці перайшлі на бок Чырвонай Арміі ці партызан.

Уласаўшчына — з’ява новая, нявысветленая. Здрадніцкая гэта армія будзе ваяваць хутчэй за ўсё з партызанамі, таму Саркісава слухаюць з увагай. Сярод партызанскіх камандзіраў, якіх паклікалі ў штаб, ёсць учарашнія акружэнцы, ваеннапалонныя, абвясці іх вакол пальца цяжка — самі былі ў пераплётах.

— Якая ідэя ў гэтага Уласава? — пытае Бальшакоў.— На чым грунтуецца яго армія? Забіваць сваіх жа рускіх людзей, памагаць ворагу?

Маёр стомлена ўсміхаецца.

— У здрадніка заўсёды знойдзецца ідэя. Як асоба Уласаў цікавасці не ўяўляе. Самазакаханы кар’ерыст, які паверыў у сваю выключнасць. На Волхаве кінуў армію, якая ў акружэнні змагалася каля вёскі Спаская Полісць, і ноччу збег да немцаў у суседнюю вёску Пятніца. З выгляду — высокая такая аглабіна ў акулярах. Лічыць сябе Аляксандрам Неўскім, Іванам Сусаніным, Напалеонам — кім хочаце. Чаму Аляксандрам Неўскім? Вельмі проста. Некалі Аляксандр Неўскі, які ўпарта змагаўся з тэўтонамі, каб мець вольныя рукі на Усходзе, ездзіў на паклон да татарскага хана. Уласаў таксама хоча бачыць сябе выратавальнікам Расіі. Разлічвае, што немцы падзеляцца з ім перамогай.

— Якой перамогай? Хіба не ведае пра Сталінград?

— Уласаў высунуў сваю ідэю да Сталінграда. Верыў, што Сталінград немцы захопяць. Яны з ім на першым часе не вельмі лічыліся. Падымаюць цяпер, калі адчулі, што кішка тонкая.

— А што ён думае цяпер, гэты Уласаў? — зноў пытае Бальшакоў.

— Ён, вядома, не круглы ідыёт. Хітрая бестыя. Разумее, што ідэя яго лопнула, не паспеўшы нарадзіцца. Але небяспеку ўяўляе і цяпер. Трэба пра гэта думаць. Уласаў навучае немцаў падыходзіць да савецкіх людзей не так, як падыходзілі дагэтуль. Навучае ўлічваць вынікі рэвалюцыі, савецкага жыцця, тое, што савецкі чалавек стаў пісьменны, культурны, што ў яго вырасла пачуццё асобы.

— То трэба, каб немцы перамяніліся! — выгуквае Гервась, начальнік разведкі Гарбылёўскай брыгады.— Каб перасталі быць фашыстамі.

— Мы многа чаго не ведаем пра самую Германію,— працягвае Саркісаў.— У Гітлера моцная сацыяльная дэмагогія. Замежных капіталістаў называе плутакратамі. Адурманеныя немцы лічаць, што змагаюцца за нацыянал-сацыялістычную ідэю. За пакрыўджаную і абыдзеную гістарычным лёсам Германію. Запраўляюць у краіне Круп, Тысен і другія магнаты капіталу, але на першы план не вытыркаюцца. У самой Германіі яны прадстаўлены як камандзіры вытворчасці. Афіцэрамі ў армію, асабліва ў ніжэйшае звяно, дапускаюцца дробнабуржуазныя элементы і нават людзі з працоўнага асяроддзя. Гітлераўская прапаганда казырае тым, што амаль уся фашысцкая вярхушка, як і партыйныя босы, шматлікія чыноўнікі, паходзяць з простых людзей. Маўляў, дваранін у нас толькі адзін — фон Рыбентроп. Галоўная фашысцкая газета называецца «Фёлькішэр беабахтэр», што азначае «народны назіральнік». Выходзіць пад лозунгам «Свабода і хлеб».

— Пралетарыят,— Гервась крыва ўсміхаецца.— Каб ён скапыціўся, такі пралетарыят.

З расказаў Саркісава, астатніх перабежчыкаў пастунова вымалёўваецца карціна стварэння ўласаўскай арміі. Сумная, невясёлая карціна, а для тых, хто пабываў у нямецкім палоне, трохі знаёмая. Ёсць, вядома, здраднікі, розныя маладушныя, нястойкія людзі, якія даволі лёгка апранаюць нямецкі мундзір. Але нямала такіх, хто здраджваць не збіраўся, хто не мае, здаецца, падстаў не любіць савецкую ўладу. Чым іх бяруць, як завабліваюць у

чорныя д’ябальскія сеці? Многа езуіцкіх змысла-хітрых і адкрыта-нахабных метадаў прымяняе вораг, карыстаючыся тым, што палонны — безабаронны, галодны і халодны, а самае галоўнае, адарваны ад радзімы, ад прывычнага асяроддзя. Сотні лагераў, у якіх пакутуюць нявольнікі ваеннага лёсу, раскіданы па Германіі, па другіх захопленых краінах. Уласаўскія эмісары вось ужо хутка год раз’язджаюць па лагерах, выступаюць з прамовамі, вядуць даверлівыя бяседы сам-насам, шукаючы ў душах спакутаваных людзей хоць якую-небудзь трэшчыну, куды можна закінуць зерне сумнення і нявер’я.

Самае страшнае, што ёсць выпадкі, калі адарваны ад роднай зямлі чалавек у пякельных умовах палону ўпадае ў адчай, становіцца абыякавым да свайго лёсу. Гэтым карыстаюцца.

Вярбуюць па-рознаму. Заганяюць сілай, расстрэльваючы тых, хто не згаджаецца на здраду. Бывае так, што лагер дзеляць на дзве часткі, прычым дзеляць умоўна, без якіх-небудзь перагародак, і тых, хто не надзеў мундзіра, а толькі згадзіўся надзець, пачынаюць на вачах галодных людзей добра карміць.

Фашысты разумеюць, што набранае такім манерам войска не вельмі надзейнае, таму стараюцца павярнуць справу так, каб хутчэй уцягнуць завербаваных у якую-небудзь крывавую справу. Супроць партызан, падпольшчыкаў, часта на чужой тэрыторыі. Ведаюць, запляміўшы крывёю рукі, чалавек да сваіх не пабяжыць.

Што ж, партызаны могуць зразумець гэту механіку. Таму чалавек, які апрануў варожы мундзір, але ўцёк ад фашыстаў, для іх яшчэ не вораг. Ён свой, ён мае поўную магчымасць гэта даказаць. І яшчэ адну навіну паведамляе Саркісаў. Ён ведае нямецкую мову, чытаў кнігу Гітлера «Майн Кампф» — у цяперашняй Германіі яна накшталт «Бібліі». Гітлер напісаў у сваёй кнізе, што рускую дзяржаву арганізавалі германцы-рурыкавічы. Ад Рурыка бярэ пачатак рускае дваранства, і, перабіўшы яго ў рэвалюцыю, бальшавікі, маўляў, знішчылі тым самым здольны да дзяржаўнага кіравання элемент. Вось так. Ні болей, ні меней.

Перабежчыкаў-уласаўцаў размяркоўваюць па брыгадах, маёра Саркісава пакідаюць пры штабе. Ствараецца спецыяльны аддзел разведкі, і такі чалавек там патрэбны.

## III

Дамачоўская, Гарбылёўская брыгады разам з Бацькавіцкім атрадам перапраўіліся цераз Пціч каля невялікай вёсачкі Востраў па драўляным мосце, які ахоўваецца партызанамі.

Жаўрукі вісяць над галавой не сціхаючы. Звонкія, срэбраныя ніці птушыных спеваў апаясваюць паднебны прастор, і калі ў адным месцы птушачка заціхне, то зараз жа падае голас другая. Свеціць сонца, поле дыхае парнасцю. Выбіўся на шэрай раллі пырнік, на лугавінах — зялёная трава. Астраўкамі жоўта-вогненнай квецені раскашуе на балацянках лотаць. Вострa, п’янка пахне чарнагалоў. Днём жабы кумкаюць ляніва, як бы прабуючы моц голасу, затое вечарам, калі ляжа на балота хісткая завеса туману, іх безупынны, несціханы рэкат аж глушыць.

Лес жыве. Вяртаецца з адлёту малое шэрае птаства, шукае спажывы, ладзіць гнёзды. Сізы голуб туркоча на голым дубе. У сасновай чашчобе канчаюць веснавое такаванне глушцы. У нізкіх мясцінах, дзе нядаўна стаяла вада, на камлях асін, бяроз вісне мярэжа высахлай ціны. Ненадзейны грунт у такіх мясцінах — ступіш і правалішся.

На трэці дзень партызаны падыходзяць да Чапліч.

Сяло ляжыць доўгай расцягнутай лавай. Акрамя скразной вуліцы ёсць два пасёлкі, размешчаныя наводшыбе. Пасёлка, які прылягае да сяла з усходняга боку, не відаць. Ён адгароджаны бярозавым гайком.

Бацькавіцкі атрад бярэ на прыцэл паўночную дарогу, частка дамачоўцаў — паўднёвую. Асноўны арыенцір — вятрак. Стаіць на самым узлобку пясчанага касагора, непадалёк ад школы — як шкілет абадраны, з застыглымі, нерухомымі крыламі. У школе размяшчаецца паліцыя. Музыка ўсюды аднолькавая.

На полі, нягледзячы на пагодлівы дзень, людзей мала. Ідзе ўзбоч воза, наваленага гноем, дзед у шэрай, з доўгім крыссём свіце. Бліжэй да лесу дзве бабы аруць на карове. У той, што вядзе карову, раз-пораз мільгацяць з-пад караткаватай спадніцы голыя белыя ногі.

Камандзіры — Бондар, Вакуленка, Бальшакоў,— пасеўшы на ўсланы леташнім лісцем узгорак, раяцца. Насцярога ў сяле відавочная.

Пачынаць прыступ найлепш ноччу. Калі і засада, то не страшна. Хутчэй за ўсё паліцаі хочуць бачнасці, што партызаны іх захапілі сілай.

Не надышоў яшчэ вечар, а звесткі пра гарнізон паступаюць. У лес прыблудзілі два пастушкі са статкам схуднелых за зіму кароў.

— Ведаеце, хто мы? — пытае Вакуленка.

— Партызаны.

— Немцы ў сяле ёсць?

— Няма.

— Што робяць паліцэйскія?

— Нічога.

— Баяцца партызан?

— Баяцца. Кажуць, прыйдзеце іх разганяць.

— Дзе яны начуюць?

— У школе. Але некаторыя пакідалі вінтоўкі, у сваякоў хаваюцца. Пяць чалавек у Дамачова ўцяклі.

— Калі ўцяклі?

— Яшчэ пазаўчора.

— Драбніца не ўцёк?

— Дома ён...

Чакаць ночы няма сэнсу. Сонца садзіцца за лесам. Косыя праменні адбіваюцца ў шыбінах акон злавеснымі аганькамі. У лесе чуюцца каманды. Наступленне на Чаплічы пачынаецца такім жа парадкам, як мінулай восенню на Гарохавічы.

Стрэлаў няма. Маўчаць паліцэйскія. Маўкліва набліжаюцца да сяла партызанскія ланцугі.

Ля школы малюнак нязвычны. Ужо цямнее, наступае шарая часіна, калі абрысы будынкаў, парканаў, дрэў расплываюцца, распаўзаюцца. Ужо чуваць партызанскія галасы на дварах, на вуліцы. Вакол школы ад ветрака да вуліцы заляглі партызаны, нацэліўшы ў вокны, дзверы рулі вінтовак. У вокнах цёмна. На школьным двары ніякага руху.

Нарэшце дзверы расчыняюцца, па нізкім ганку на двор як гарох сыплюцца цёмныя постаці. Яны не разбягаюцца — строяцца ў шарэнгу.

На двор заходзіць Вакуленка. Насустрач яму, аддзяліўшыся ад шарэнгі, бяжыць маленькая постаць, за два крокі нерухома застывае, задыханым голасам дакладвае:

— Таварыш Вакуленка, чапліцкая паліцыя пастроена. Пяць гадаў уцяклі. Але мы іх знойдзем.

Вакуленка маўкліва праходзіцца ўздоўж шарэнгі. Нарэшце яго зычны бас пакрывае ўвесь двор:

— Што, сукіны сыны, даваяваліся? П'яніцы праклятыя, зладзюгі, тарбахваты! Пацалавалі немцам у с...! Вось зараз пастаўлю кулямёт і ўсіх на капусту!..

Стоенае, панылае маўчанне.

Вакуленка бярэ нотай ніжэй.

— Чорт з вамі. Савецкая ўласць прыйдзе і разбярэцца, хто як напаскудзіў. Я не суддзя і не пракурор. Сваё слова споўню. Вы цяпер, гадаўё паўзучае, крывёй павінны выкупляць грахі.

У школьных вокнах паблісквае святло, былых паліцаяў па адным выклікаюць да камандзіраў. Размова не вельмі доўгая — да паўночы канчаецца. Ад паліцаяў нават вінтовак не адбіраюць. Тут — палітыка. У Сямёнавічах, Малой Рудні гарнізоны яшчэ трымаюцца, і ад таго, як абыдуцца партызаны з тутэйшымі паліцэйскімі, сёе-тое залежыць...

## IV

Бацькавіцкі атрад, пакінуты ў засадзе, увайшоў у Чаплічы пад раніцу.

Аграном Драгун, палітрук роты, адразу падаўся да сястры. Тут, у Чаплічах, ён нарадзіўся і вырас.

Сястра заняпала: у сям'і маладзейшая, а ў валасах — павуцінка сівізны, прыгожы твар змізарнеў, сінія вочы як бы выцвілі. Аднак не губляе Алена добрага гумору і, можа, дзякуючы гэтаму жыве на свеце. Жыць не соладка: мужык пагнаў на ўсход калгасны статак, і пра яго няма ніякіх звестак. З трох дзяцей старэйшаму хлопчыку дзясяты год, каня няма.

На паліцэйскіх, якія перакінуліся да партызан, Алена глядзіць зняважліва.

— Лахтуны. Не рабіўшы, хацелі соладка піць і есці. Яны і ў вас будуць тарбахваціць, папомніш мае слова. Падтулілі хвасты, бо няма інакшага ратунку.

Брата Рамана сястра ўспамінае мала. Ён у сям'і дзікун даўно. З таго часу як ажаніўся, выдзеліўся на далёкі лясны хутар. З-за хутара ды яшчэ з-за таго, што брат не хацеў паступаць у калгас, Драгуна ў трыццаць восьмым годзе выключылі з партыі. Гэта сплыло, можна было б не варушыць старое, каб не пякла Драгуна патайная, неадчэпная думка. Яна звязана са злачынствам Рамана, якое той нібыта зрабіў, калі немцы толькі наступалі. Пра гэта яшчэ ў першую зіму акупацыі расказаў знаёмы ляснічы з Гарохавіч.

Бабруйск немцы захапілі на пяты ці шосты дзень вайны і адтуль, з поўначы, спрабавалі весці наступленне на Палессе. У Гарохавічах стаяў бронецягнік, добра стаяў, больш за месяц абстрэльваючы пазіцыі немцаў, якія загрузлі ў балотах.

У немцаў узнік намер падарваць бронецягнік. Яны выслалі да чыгункі групу дыверсантаў. Іх выявіў знішчальны атрад, у якім нёс службу гарохавіцкі ляснічы, і амаль усіх перастраляў. Але адзін паранены дыверсант уцёк, і яго крывавы след прывёў да Раманавага агарода. Тут след абарваўся, бо ні немца, ні Рамана дома не знайшлі. Брат хаваўся да таго часу, пакуль сяло не захапілі немцы...

Драгун многа пра гэта думаў. Брат мог хавацца, баючыся мабілізацыі, хоць да вайсковай службы не прыгодны — на правым воку мае бяльмо. Па натуры ён, вядома, кулак, калгаса не любіў, не мог даравагь, што зруйнавалі хутар. Але каб памагаць немцам?..

Першы дзень Драгун тоіць непакой у душы, у сястры ні аб чым не пытае, але на другі — не вытрымлівае. Пазіраючы Алене ў вочы, расказвае, што чуў ад ляснічага. Сястра адводзіць позірк.

— Мабыць, брахня. Баяўся, каб не забралі, таму туляўся. Ён проста крот. Немцы хацелі старастам прызначыць — не пайшоў. Паліцэйскіх — проста не цярпеў.

Драгун паспакайнеў, хоць адчувае — сястра штосьці недагаворвае.

— Табе хоць пасабляе?

— Воз саломы паткнуў у першую восень. Як калгаснае дзялілі.

Да Рамана прыйшлося наведацца. Нельга на вачах вяскоўцаў, сярод якіх вырас, мінаць радню. Людзі на полі — стары і малы. Чырвонаармейскім сем’ям пасабляюць партызаны: возяць гной, упрагаюць у плуг атрадных коней.

Выбраўшы вячэрнюю часіну, Драгун ідзе на пасёлак. У глыбіні душы варушыцца нядобрае прадчуванне — наўрад ці згаворыцца з братам.

Раманава сядзіба — на самым канцы пасёлка. Новая, выбудаваная па касы вугал хата стаіць да правулка глухой сцяной, малады яблыневы сад застаўлены рамачнымі вуллямі, за агародам, на лужку — клетка азярода з пашарэлых ад ветру жардзін.

Раман тупае каля вуллёў. Драгун не бачыў яго з саракавога года, з таго часу, калі Раман па нейкай судовай справе прыязджаў у Бацькавічы. Ён пастарэў, выгляд мае неахайны: твар зарос рудой шчэццю, вузкія плечы сутуляцца, вопратка старая, латаная.

— І ты ў парцізанах? — Раман паспешліва выбягае з саду на двор, у левай руцэ трымае дымакур, правую, шурпатую, тыцкае брату.— А я чуў — ты на службе.

— Служба ў лес уцякла.

— Усе цяпер уцякаюць. Вунь нашы, бач, як хутка перакрасіліся. Учора кублы трэслі, а зараз банты на шапкі чапляюць.

Пачатак размовы непрыемны. Брат яўна намякае на Васілёва аграномства пры немцах.

— Мяне пакідалі спецыяльна. Каб памагаў такім хлопцам, якія вашу паліцыю на свой бок перацягнулі.

— Панімаю,— Раман адразу згаджаецца.— Каб цябе ды не пакінулі.

Бразгаюць дзверы сенечак, на двор выплывае мажная, белатварая Раманава жонка.

— Дабрыдзень, Васілька. А мы вочы прагледзелі, ждучы. Родны ж брат усё-такі. Можа, хоць якая помач будзе. Нам яшчэ надоечы сказалі, што ты тут.

У бяздзетнага Рамана хата вялікая. У чыстай палавіне нікеляваны ложак з гарой пуховых падушак, фабрычная канапа, крэслы з дубовымі спінкамі. Левы кут завешаны іконамі ў

срабрыстых фольгавых абкладках. Сцены выбелены, падлога, як яечка, блішчыць.

На дварэ цемнавата, гаспадар запальвае лямпу з патрэсканым, залепленым паперкаю шклом. Пакуль мужчыны перакідваюцца нязначнымі словамі, гаспадыня завіхаецца ля стала. Вячэраюць на кухні.

Вінтоўку Драгун ставіць у качарэжнік. То Раман, то яго кабета час ад часу кідаюць на яе насцярожаныя позіркі.

Стол не дужа багаты: яечня, сподачак нарэзанага скрылікамі сала, гліняная міска квашанай капусты. Хлеб чорны, спечаны з мукі грубога памолу.

— Давай да дна,— Драгун падымае шклянку.— Каб нічога між намі не засталося.

Ён зноў заўважае — жонка кідае на Рамана як бы перасцерагальны позірк. «Вось такое жыццё,— міжволі думае Драгун.— З крэўным братам гуляем у хованкі. Стаім на розных берагах рэчкі...»

Выпіваюць шклянкі адным духам. Вольга — так завуць Раманаву жонку — толькі губы памачыла.

Гарэлка моцная — пяршак. Драгун п’янее імгненна.

— Як думаеш далей жыць? Гавары, мяне не бойся.

Раман такі ж мітуслівы, як быў. Сп’янеў, душыцца капустай і адначасна гаворыць:

— Свет перавярнуўся. Ніякай пэўнасці, парадку. За што хлебаробу зачапіцца? Няма за што. Дзень пражыў, і дзякуй Богу. Прама табе скажу, Васіль, не ўважаю я ні паліцэйскіх, ні парцізанаў. Мітрэнга адна. Спакою не будзе. Свет звар’яцеў.

— Не слухай яго, Васілька! — выгуквае Вольга, калі яе мігі і позіркі не памагаюць.— Ён заўсягды не як людзі. Пляце немаведама што.

— Няхай слухае, ён мой брат. Хоць маладзейшы і з-за мяне, старэйшага, пацярпеў. Жыццё такое. Ні ён, ні я не вінаваты.

— Выпіце лепей, мужчыны.— Вольга налівае па паўшклянкі.— Ты б лепей, Васілька, пра сям’ю расказаў. Гаруюць бедныя.

— Сям’я па той бок чыгункі. Месяц не бачыў. Цяпер, можа, выберуся.

Раман зноў гаворыць. Як бы спавядаецца:

— Я табе прызнаюся. На немцаў спачатку не так глядзеў. Думаў — па-другому будзе. Ведаеш сам, у нашым калгасе вялікага парадку не было. Згомцілі людзей у кучу, запраглі лодыра з гаспадаром у адзін воз. Дык лодыр жа везці не будзе, як яго ні паганяй. Ён цяплейшага месца шукае.

— Дурань ты, хоць старэйшы брат,— гаворыць Драгун.— Сляпы крот. Далей носа не бачыш. Хіба без калгаса выцягнеш Чаплічы з беднасці? Ты залез на хутар, добра жыў, а другія? Галадоўкі хіба не было, не хадзілі гарцы пазычаць? Ты ўспомні, як мы ў бацькі жылі. Калгас проста не паспеў парадак навесці. Але ж балота асушыў, аблогу падняў.

— Чалавек жыць хоча. Сам па сабе. Няхай бедна, на адной зацірцы, але каб ніхто над галавой не вісеў, ніякі партфельшчык. Кім я стаў, як зямлю абагулілі? Нікім, папіхачом. Воз дроў трэба прывезці, то ідзі кланяйся брыгадзіру. Нашто ж мне такая ласка, калі ў мяне свой конь быў? Чаму я перад чортам лысым павінен галаву згінаць?..

Гаспадыня болей не мяшаецца — грукае ў сенцах чыгункамі.

— Кулак ты,— Драгун чамусьці весялее.— Быў кулаком і астаўся. Нічаму цябе савецкая ўлада не навучыла. Далей пупа не бачыш. Думаеш, твае «партфельшчыкі» шыкавалі? Свету Божага не бачылі за работай, за бегатнёй, за камандзіроўкамі. Стараліся, каб такім, як ты, лепей было. З калгаса бралі многа, гэта праўда, але для каго? Фабрыкі, заводы падымалі, дзяцей вучылі, каб лепей за бацькоў жылі. З каго ж было ўзяць? Капіталісты нам пазык не давалі. Яны на тое, што ёсць, зубы шчэрылі. Армія колькі забірала? Але ўсё адно людзі лепей сталі жыць. Лепей і лягчэй. Ты ўспомні, якія Чаплічы былі? Былі такія пасёлкі, як цяпер? Былі такія хаты, як у цябе? Што маўчыш?

«Відаць, збрахаў ляснічы,— думае Драгун.— Раман — куркуль, і ўсё...»

— Мне пара ісці, Раман,— гаворыць ён услых.— Начаваць у цябе не буду. Давай яшчэ вып'ем па чарцы. Жыві як хочаш. Толькі, калі твая праўда, скажы вот што. Чаму множацца партызаны і чаму немцаў гоняць? Павер майму слову,

да восені нашы будуць тут. Яны не так далёка. Пад Смаленскам, Арлом, Харкавам.

— Яшчэ віламі па вадзе пісана.

— Не віламі. Пасля Сталінграда немцам не паправіцца.

Раман раптам змаўкае. Яго запал гасне на вачах. Вяла налівае сабе, брату, як бы нехаця п’е.

Падазрэнне — брат у нечым замешаны — успыхвае з новай сілай.

## V

Дзён праз некалькі, вяртаючыся з Альхова, ад сям’і, Драгун яшчэ раз пабачыў брата.

Акружаная лесам паляна выклікае ў душы няпэўны смутны ўспамін. Пасярод яе купка здзічэлых яблынь, пад імі варушыцца постаць чалавека. Ды гэта ж братаў хутар! Вунь, на процілеглым краі, той самы стары дуб з вуллямі-калодамі.

Яшчэ болей здзіўляецца Драгун, пазнаўшы Рамана. Стаіць па пояс у яме, выцягвае наверх мяхі. Хлеб, значыць, хаваў.

Драгун падыходзіць бліжэй.

Раман нядобра бліснуў бяльматым вокам.

— Віжуеш за мной?

— З Альхова іду. Быў у жонкі.

— Вашых у сяле няма. Хіба не ведаеш?

— Пайду на Качаны. Трэба дарогу пераскочыць.

Раман выцягвае з кішэні капшук, браты садзяцца на мяхі, закурваюць. Рукі ў Рамана чорныя, парэпаныя.

— Не было жыцця і няма,— Раман уздыхае.— Прыдбаў мазалём, а хаваешся.

— Ад партызан хаваў хлеб?

— Я не наймаўся вас карміць.

— Дурань ты. Думаеш, у немцаў хутар заслужыш? Дулю з макам!

— Каму ён мяшаў? Але ж паразяўлялі раты, гатовы глынуць адзін другога. Пасеяў нехта сярод людзей нянавісць, цяпер, каб хацеў, не астановіш. Птушкі, звяры, калі блізкія між сабой, згодна жывуць, а людзі грызуцца.

— Усё мала табе. А як другія жывуць?

Раман зацягваецца, кідае недакурак, расцірае лапцем.

— Позна мяне вучыць, Васіль. Жыццё зжываю. Маю свае вочы і, што трэба, бачу. Нашто раўняць людзей? Адзін хоча хутара, другі не хоча. На хутары ж рабіць трэба, а не кніжкі чытаць. Дзела не ў нас, мужыках. Такія, як ты, граматныя, ваду замуцілі. Каб я валодаў хутарам, то хіба паеў бы тое, што нарабіў? Божа барані. Я б і машыну купіў — хіба не бачу, дзе выгада.

— Кулаком ты б стаў.

— Няхай кулаком. Але я сеяў бы, скаціну гадаваў. Польза была б мне і людзям. А вунь, чутно, пагналі лапатнікаў на нямецкі эшалон, як чорту ў зяпу, пашаткавалі на капусту. Чыя галава так зварыла? Ёсць, мабыць, і ў вас туз, што качаргой носа не дастанеш. У цябе ён пытаўся, як лепей зрабіць?

Драгуна ўзрывае:

— Ляжыш пузам на печы ды яшчэ плявузгаеш! Хлеб хаваеш. Каб не брат, паставіў бы цябе вунь пад тую бярозу. Вайна ідзе, людзі жыцця не шкадуюць. Будзеш рабіць так, нарвешся. Запомні маё слова...

— Не пужай. Мяне дзесяць гадоў пужаюць.

— Ты дурань. Бязмозглы пень. Мабыць, праўду людзі кажуць, што ратаваў немца...

Раман бялее з твару і ледзь не подбегам кідаецца ў лес. Драгун, не могучы ўтаймаваць дрыжыкаў, падымаецца. Пракляты кулак. Застрэліць мала, гада...

Спакайнеючы, ён пачынае думаць аб тым, што ў Раманавай зацятасці ёсць нешта спадчыннае. Такім жа ваўком быў і дзед. Не паладзіўшы з раднёй, выбраўся з сяла ў глухі лес. Зляпіў хацінку, жыў знахарствам. Ад яго паўцякалі жонка, дзеці, а ён так і сканаў у нетры.

Вясна вось-вось стане зялёнай. Ціха. Цёпла. Зрэдку перагукваюцца сойкі ды дзяўбе старадрэвіну дзяцел. На прагалінах лясны дол стракаціць ад белых, сініх пралесак. Лісцяў на дрэвах яшчэ няма, але ахінае галіны кволая жаўтаватая мярэжа.

Драгун падыходзіць ужо да дарогі, калі раптам даносіцца далёкі гул матораў. Як звер, які адчуў небяспеку, сігае ён у гушчар. Стаіўшыся ў ляшчынніку, трымаючы напагатове вінтоўку, цікуе за дарогай. Густы пошчак, набліжаючыся, разлягаецца па лесе.

Теравальваючыся на калдобінах, мільгаюць між дрэў тупарылыя грузавікі. У кузавах густа, шчыльна сядзяць салдаты ў сталёвых касках. Два грузавікі з паліцэйскімі. Колькі іх усіх? Шэсць, восем?..

Толькі адно імгненне стаіць Драгун у нерашучасці. Ён ведае, куды кіруюць немцы. Так было ў Альхове. Як толькі выбраліся партызаны, нахлынулі карнікі. У Чаплічах сястра з дзецьмі. Але ёй ён не паможа. Хоць бы дурня таго папярэдзіць!..

Абдзіраючы аб галіны твар, рукі, аграном бяжыць назад. Пот залівае вочы, не хапае паветра. Гоніць яго нібы містычны страх — будзе вінаваты, возьме грэх на душу, калі не паспее дабегчы...

Выбегшы на дзялянку, ён яшчэ здалёк заўважыў, што брата няма. Рынуў у бярэзнік шукаць дарогу. На лясной, выбітай каляіне свежы след ад калёс.

Адчуваючы, што Раман не мог далёка ад'ехацца, Драгун бяжыць па следзе на Чаплічы. Аддыху сабе не дае, пакуль не выбягае на ўзлессе, адкуль відаць сяло. Фурманкі на дарозе няма. Можа, Раман паехаў другой дарогай? Можа, яшчэ ў лесе?..

Зняможаны ўшчэнт, Драгун падае на зямлю.

Зараз ворагі будуць нішчыць родных, блізкіх яму людзей, паліць сяло. Не, ён не можа на гэта глядзець.

Драгун падымаецца, крочыць прэч...

Пра ўсё, што здарылася ў Чаплічах, ён дазнаецца назаўтра. Лес поўны дзіцячага плачу, жаночых літанняў. Сястра з дзецьмі — у наспех скіданым з голля буданчыку.

Жанок, дзяцей карнікі не кранулі. Толькі мужчын. Ад пятнаццаці да пяцідзесяці гадоў. Зганялі ў калгасны хлеў. Пад вечар хлявы, хаты падпалілі. Няма болей Чапліч.

Рамана забілі на вуліцы. Калі яго ссадзілі з воза, трос паперкай, парываўся да вышэйшага начальніка. Сястра пацвердзіла — хаваў Раман параненага немца, а той даў яму распіску.

## VI

Вакуленка на кані.

Пасля Чапліч, якія здаліся добраахвотна, гарнізоны ў Малой Рудні, Будзе і Сямёнавічах разбіты адзін за другім.

Як веснавая вада падточвае лёд, які вісіць над жывым раўчуком цёмнай скарынкай, так зварот партызанскіх брыгад у родныя мясціны зламаў дух супраціўлення ва ўцалелых гарнізонах.

Цяпер увесь паўднёва-заходні абсяг Дамачоўшчыны разам з большай часткай Бацькавіцкага раёна, з усходнімі сельсаветамі Гарбылёўскага — у партызанскіх руках.

Толькі чыгунка з Оўруча на Жлобін як костка ў горле. Дзеліць папалам партызанскую зону.

Вясна ў разгары.

Аздобіў май зямлю зялёнай травою, неба — блакітам, сонечнай яснасцю.

Як жывое полымя, шугае зяляніва на лясы, хмызнякі, аксамітнымі дыванамі ўсцілае лугавіны.

Гоніць маладую стрэлку сасна, беластволая бяроза ў вянку далікатнай лістоты. Толькі стары дуб не спяшае: пройдзе яшчэ цэлы тыдзень, пакуль павольна, неўпрыкмет для вока пачне апранаць ён свае разложыстыя шаты.

У чаромхавых зарасніках заходзяцца салаўі.

Вясна — як збаўленне. Не страшны карнікі — пад кожным кустом знойдзе чалавек прытулак, схову.

Ходзяць за плугам камандзіры ўзводаў, аддзяленняў, рот. Зямля чыноў не ведае. На ёй адзіны начальнік — земляроб.

Чыгунка з Оўруча на Жлобін пракладзена значна пазней за тую, якая ідзе з Брэста на Гомель. Правялі яе ў першую нямецкую вайну, і ў нейкай меры яна была ракаднай да лініі фронту, што пралягала ў шаснаццатым годзе па Стаходу і Стыры. Прайшоўшы праз Гарбылі, новая чыгунка зрабіла звычайную палявую станцыю вузлавой, абумовіўшы далейшы рост паселішча.

Бацькавіцкі раён перасякаюць абедзве чыгункі, утвараючы вялікі, укрыты лесам трохкутнік, у якім цяпер засяроджаны партызанскія сілы трох сумежных раёнаў.

З Оўруча на Жлобін нямецкія паязды ідуць не гэтак часта, як з Брэста на Гомель. Так што ў ваенных адносінах чыгунка мае значэнне другараднае. Аднак яна існуе, на станцыях у каменных з тоўстымі сценамі будках размешчана ахова, і, можа, дзякуючы такой акалічнасці немцы лічаць навакольны прасцяг сваёй тэрыторыяй. Каб не было чыгункі, можа б, яны і Чаплічы не спалілі?

Бондар з Вакуленкам выклікаюць у штаб Лубана, які ў Бацькавіцкім атрадзе ўзначальвае падрыўную групу.

Лубан у расхлістанай ватоўцы, круглы, чарнявы твар з навіслымі дугамі броваў насуплены. Вакуленка з цікаўнасцю прыглядваецца да нядаўняга намесніка бургамістра.

— Чыгуначную гаспадарку ведаеце? — пытае ў Лубана.

— Збольшага ведаю.

— Эшалон класна скінулі. Як удалося?

— Месца выбраў. Спуск на закругленні.

Вакуленка, унурыўшы галаву, з хвіліну прахаджваецца з кута ў кут. Нечакана спыняецца, бярэ Лубана за штрыфель ватоўкі.

— Вот што, друг, скажы такую штуку. Ці можна, узарваўшы эшалон, за адзін дзень расцягнуць вярсты дзве рэек? Сам разумееш, для чаго.

Лубан думае нядоўга.

— Можна. Трэба людзі, коні, вяроўкі. Гаечныя ключы, лапы.

— Многа.

— У кіламетры на адной нітцы сто рэек. На двух пры двух каляях — чатырыста. Можна сцягваць блокамі. Чалавек дзвесце трэба.

— Ну, а каб дваццаць кіламетраў расцягнуць?

Лубан усміхнуўся.

— У дзесяць разоў болей людзей і коней.

— Нацэлімся на дваццаць. Табе вот якое заданне. Выдзелім людзей, навучыш, як і што рабіць. Калі не знойдзем ключоў, будзем толам ірваць рэйкі. Зразумеў?

Эх, і ясная пагодка стаіць на Палессі! Надзьмутыя, круглыя шары лазнякоў, вясёлыя светлыя бярэзнікі, бясконцыя абшары разлеглых па жаўтаплёсах, па балотных выспах сасоннікаў

проста купаюцца ў моры сонечнага святла і цяпла. Якраз у пару, на ўраджай, лінулі шчодрыя дажджы, усё навокал цвіце, буяе, ірве зямлю.

На зямлі — май сорак трэцяга года. На фронце — зацішша. На Літвінаўшчыне, Дамачоўшчыне, у іншых мясцінах, якія кантралююцца партызанамі,— вялікі людскі рух.

У былыя часы тубыльцы лясных, балотных вёсак ездзілі на кірмашы ў Дамачова, Гарбылі, Бацькавічы. У нядзельныя дні, прастольныя святы валілі ў навакольныя сёлы — у царкву. Лік шматгалосых людных зборышчаў намнога павялічыўся пасля рэвалюцыі, асабліва ў калектывізацыю. Вялікія натоўпы запаўнялі ў дзень Першамая, на Кастрычнік сельсавецкія плошчы. Калгаснікі з песнямі, чырвонымі сцягамі рабілі першы выезд у поле, везлі ў раён нарыхтоўку.

У трыццаць восьмым годзе пачалася асушка Літвінаўскіх балот. Тысячы людзей па пояс у вадзе пракладалі магістральныя каналы, калектары. Начавалі на астравах, варылі ў вялікіх чорных катлах кашу — дома не бывалі па тыдню.

Перад самай вайной на Літвінавіцкіх тарфяніках сеялі жыта, ячмень, садзілі бульбу.

Дзіўныя, азораныя подыхам вялікіх перамен часы!..

Але, можа, нават у мірныя бясхмарныя гады не бачыў тутэйшы лясны край такога мнагалюддзя, чалавечай дружнасці, еднасці, як у гэты май. Тыдзень носіцца на ўзмыленым чорным жарабцы Вакуленка па вёсках, не злазячы з каня, хрыпата крычыць:

— Слухайце мяне, людзі! Трэба знішчыць чыгунку. Па ёй ездзяць фашысты, а цехніка для нас цяпер смерць. Успомніце, якія сёлы згарэлі ў агне першыя? Вербічы, Хамякі, Скавароднікі — летась, Чаплічы, Аляксеевічы, Качаны — сёлета. Тыя, што пры чыгунцы. Скідаем паязды мы, адказваеце — вы. Фашысты знішчаюць народ. Калі хочаце жыць — памагайце...

У Вакуленкі нібы крыллі выраслі. У дыяганалевай гімнасцёрцы, крыж-накрыж перапаясанай рамянямі, сініх кавалерыйскіх штанах, наглянцаваных да бляску хромавых ботах, з пасмамі чорных непакорных валасоў, якія выбіваюцца з-пад чырвонаармейскай шапкі з зоркай, ён нагадвае бачанага да

вайны ў кіно, чымсьці ўжо знаёмага камандзіра грамадзянскай вайны, што нясецца ў атаку паперадзе палка.

Вакуленку ведаюць — слухаюць уважна. Маладыя жанчыны пазіраюць прыхільна, ды і дзяўчаты пасміхваюцца.

Пачалі партызаны.

Ад Гарохавіч да наступнай станцыі Хлуды вялікага лесу няма — так, грыўкі гайкоў, кустоўе, маладыя, раскіданыя па сыпучых пясках пасадкі сасоннікаў. Гэта з правага боку. А з левага наогул толькі сям-там мільгае сярод поля адзінокая старадрэвіна ды разлягаюцца ў лагчынках-балацянках лазовыя зараслі.

Ахова чыгункі небяспеку адчула, падтуліла хвост. Днём яшчэ правандруе па насыпе стары, перахлябісты немец у пары з паліцаем, а ноччу сядзяць па будках, носа не высыркаюць. Праўда, і эшалоны па гэтай, пазбаўленай прамога ваеннага значэння чыгунцы ідуць не густа. За дзень трычатыры з Гарбылёў на Жлобін ды столькі назад. Заўважана, аднак, што амаль да кожнага таварнага саставу прычапляецца адзін, а то і два пасажырскія вагоны, у якіх едуць нямецкія салдаты і афіцэры. Хто яны, чаму тут раз'язджаюць? Можа — адпускнікі, можа — з тылавой службы...

Стокілаграмовую фугасную бомбу Лубан з памочнікамі заклалі пад рэйкі ўночы, шнур вывелі ў кусты. Тут, у кустах, зборная група з дзесяццю ручнымі кулямётамі, сабранымі ў кулак з трох атрадаў. Месца выгоднае — спуск на закругленні, насып высокі, круты.

Паражняк, які раніцай прагрукатаў з Гарохавіч на Хлуды, прапусцілі. Яшчэ два, гружаныя лесам, прайшлі па суседняй каляі са Жлобіна.

Пад поўдзень ужо. Горача, млосна. Ад доўгага ляжання ў людзей зацяклі рукі, ногі, кружыцца галава. Загадаюць раптам ускочыць, бегчы, а ногі нібы гумавыя. Як пабяжыш? Але ляжаць, чакаюць. Палавіна партызанскага жыцця — такое вось віжаванне, чаканне, нярэдка, як цяпер, на жываце. Пасля вайны добра будзе служыць у пажарнай. Вопыт вялікі.

Сярод падрыўнікоў — амаль усе чыгуначнікі. Ім нават глядзець не трэба, які цягнік — гружаны ці паражняк,— слухам чуюць. Тоненька зазвінелі рэйкі. Лубан усё ж прыўзнімае

з кустоў галаву. З боку Гарохавіч ледзь прыкметнае воблачка дыму. Дым гусцее, прыбліжаецца.

Што ж, прыбаўляй, прыбаўляй, немец! Каб толькі ўзрывальнік не адказаў. Ён ад звычайнай гранаты. Вырваць чаку, і ўсё. Шнур драцяны, суцэльны, павінен вытрымаць.

Вунь і ахоўнікі сунуцца. Іх тут не хапала. Сыходзяць на край насыпу, каб прапусціць цягнік. Пастойце, паглядзіце, дарагія! Ужо хутка...

Цягнік навідавоку. Трэба пад чэрава яму, пад самае чэрава!..

Лубан у гэтую хвіліну страшны. Твар ад бяссонніцы змізарнелы, чорны, вочы гараць. Выбраўшы момант, калі паравоз набег на закапаную бомбу, Лубан рыўком, з усяе сілы торгае за шнур і нават не кідаецца на зямлю — стаіць на каленях, глядзіць.

Выбух. Агонь. Відовішча царскае. Паравоз, як наравісты конь, падкідвае зад, куляючыся ляціць у адхон. Вагоны са скрыгатам, трэскам — услед. У апошніх трох хуткасць, аднак, пагашана, скасабочыўшыся, утрымліваюцца на насыпе. Па іх сякуць з кулямётаў.

Тоўсты немчык з паліцэйскім на злом галавы кідаюцца на Хлуды. Толькі падэшвы мільгаюць у паветры. Куды вы, дабрадзеі? Спыніцеся на хвілінку, прыслухайцеся! Можа, бегчы не варта...

Ля Хлудоў, ля Гарохавіч тым часам грыміць. Партызаны пайшлі ў наступ на чыгуначную ахову. Зладжана пачалі канцэрт.

З вагонаў, што ляжаць у адхоне, выбіраецца раптам немец. Стаіць на карачках, затым паволі ўстае, абтрасае мундзір. Нават седлаватую шапку не згубіў. У такога і страляць няёмка. Нехта выпускае, аднак, кароткую чаргу з кулямёта.

Гоман, мітусня, нібы на кірмашы, на абсягу чыгункі, выдзеленым Дамачоўскай брыгадзе. Натоўпы вяскоўцаў перамяшаліся з партызанамі. За рэйку, нібы мурашкі за хрушча, хапаецца дваццаць чалавек. Валакуць скопам пад адхон, скідаюць, бяруцца за другую.

Коней вяскоўцы прыгналі з пастромкамі. Нават крукоў накавалі. Чапляюць рэйку, як барану, цягнуць некалькі гоней, топяць у балоце. Каб сам чорт днём з агнём не знайшоў.

Тут, на чыгунцы, як некалі на лесанарыхтоўках: адны пілуюць, другія тралююць, трэція возяць на склад.

Дзядзькі нават шпалы з насыпу выдзіраюць. Навейшыя спіхваюць пад адхон, старыя складваюць у штабялі, тут жа падпальваюць. Вялізныя дымныя вогнішчы палаюць узбоч чыгункі.

— Іван! — крычыць валюхаваты, мабыць, год не голены дзядзька.— Кастылёў не раскідай, у кузню забяром. На зуб'е.

— Будзе табе зуб'е. Немцы і твае павыбіваюць.

— Голаму разбой не страшан.

— Каб насып разраўняў, тады б зусім капцы. Не пазнаў бы, што была жалезная дарога.

— Каб яшчэ забаранаваць ды грэчку пасеяць. А што ты думаеш, расла б на пяску.

— Без рэек і так не паедзе. Аман.

— Пачакай, немцы так не папусцяцца. Ці чутае дзела — чыгунку знішчыць.

— Пнём аб саву, савой аб пень — усё адно. Паляць вінаватага і не вінаватага.

У вялізным мітуслівым натоўпе ніхто асабліва не камандуе, не загадвае. Ёсць другая сіла, што злучыла, з'яднала ў адно пярэсты, рознагалосы натоўп. Па чыгунцы ездзяць немцы. Яны нясуць смерць.

Гарбылёўцы гайкі не развінчваюць, сякуць рэйкі толам. Так хутчэй. Грыміць выбухамі чыгунка. Гэта, можа, і добра. Немцы не палезуць. Зрэшты, палезці яны не могуць. Ля Хлудоў, Гарохавіч чыгункі ўжо няма. У першую чаргу рвалі там. Бронецягнік не падыдзе. Бронецягнікі па паветры не лятаюць.

Бацькавіцкі атрад на чыгунцы ўвесь разам з камандзірам Якубоўскім. Перакур. Яўтушык, лежачы жыватом на адхоне, цвіркаючы слюнай, расказвае:

— За маёй памяццю сыпалі пуць. У тую вайну. Украінцаў нагналі, бабруйчан. Жалезная дарога добра, але, з другога боку, шкодная. Уга, якія тут былі лясы! Дубы стаялі, як вежы.

Два чалавекі рукамі не абхвацяць. У літвінаўскага пана Горвата кішка стала тонкая ці мо што носам пачуў. Прыехаў з Варшавы, прадае лес. Купцоў зляцелася, як мух на падаль. Браты Равіковічы, добра помню, дубы пляжылі. Аднаго звалі Лейба, другога — Хаім. Заплацяць мужыку траячку, а таму што — цягае кражы на станцыю, у Хлуды. Кары — сані такія спецыяльныя — рабілі, па шэсцера коней запрагалі. За два гады лес як карова языком злізала.

Трактарыст Максімук, які ляжыць поруч з Яўтушыкам, дабаўляе:

— У свабоду многа лесу прапала. Пасля рэвалюцыі фактычаскі ніякай уласці не было. Гадоў тры валаклі з лесу, хто толькі не ляніўся. Тыны стаўлялі з дубовых колляў.

З-за грэбеня далёкіх сасоннікаў нечакана, як злодзей, вынырае нямецкі самалёт. Ляціць нізка, над самай чыгункай. Добра відаць крыжы з белымі разводамі на крылах і на корпусе. Крык, лямант, мітусня. Партызан, вяскоўцаў з насыпу як ветрам змятае. Умомант нібы вымерла ўсё наваколле. Толькі трое коней стаяць, палахліва стрыгуць вушамі. Але вось нехта сцебануў іх пугай, пабеглі, памчалі коні, цягнучы за сабой вяроўкі з пастромкамі.

Самалёт над другім краем лесу развярнуўся. Ляціць узбоч чыгункі, стракочучы з кулямёта. У адказ — лежачы грудзьмі на схіле насыпу, на спіне, партызаны бухаюць з вінтовак. Лётчык, відаць, небяспеку адчуў. Самалёт знікае за лесам і болей не паяўляецца.

Забітых няма, паранены даўгашыі хлопец з Хлудоў. Разарваўшы рукаў сарочкі, медсястра з Гарбылёўскага атрада Соня перавязвае яму плячо.

Болей за тыдзень ідзе руйнаванне. Была чыгунка, і няма чыгункі. Дзядзькі з навакольных вёсак возяць шпалы на дровы.

Аднаўляць чыгунку немцы нібыта не збіраюцца. Змірыліся. Штосьці гэта ды азначае...

# Частка другая

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Да пачатку лета сорак трэцяга года на Прыдняпроўска-Прыпяцкім Палессі і ў прылеглых да яго раёнах адбылося амаль поўнае тэрытарыяльнае размежаванне партызанскіх і акупацыйных сіл. Акупацыйная ўлада пры дапамозе ўзброеных гарнізонаў захоўвае адносную стабільнасць у гарадах, мястэчках, буйных паселішчах, якія прылягаюць да чыгункі і да значных у ваенных адносінах дарог. Уся астатняя, пераважна сельская мясцовасць кантралюецца партызанамі.

Ёсць пераходная, ці, калі можна так сказаць, нейтральная зона, дзе прызначаная немцамі ўлада фармальна выконвае сваю ролю. Ноччу ў вёсках гэтай паласы валадараць партызаны, днём іншы раз завітваюць немцы.

Размежаванне двух лагераў, як бы аформленае тэрытарыяльна, засведчыла факт, што акупацыйная адміністрацыя з яе жандармерыяй, паліцыяй гэтак жа, як і ахоўныя воінскія часці, размешчаныя на чыгунках, дарогах, не могуць болей справіцца з перахліснуўшай берагі ракой партызанскага руху. Становішча вымушае акупантаў перайсці да абароны.

Акупацыя з пункту гледжання немца-адміністратара робіцца прывідам, губляючы палітычнае і эканамічнае значэнне. Захопленая партызанамі мясцовасць не плаціць падаткаў, не дае Германскай імперыі хлеба, малака, мяса. Заваёўваючы гэтую зямлю, нямецкі салдат паліў яе сваёй крывёю ў сорак першым годзе. Цяпер ён мусіць зноў весці вайну, калі хоча атрымаць тону бульбы, рэквізаваць у вёсцы статак кароў ці свіней.

Акупацыя тут, на Беларусі, усё болей выліваецца ў адчайную спробу захаваць хоць які-небудзь парадак на чыгунках, дарогах, якія маюць ваеннае значэнне, звязваючы Германію з фронтам.

З пункту гледжання партызанскіх кіраўнікоў становішча таксама складанае. Яно вызначаецца, з аднаго боку, перамо-

гай над акупацыйным парадкам, з другога — драматычнасцю, нават трагічнасцю далейшых шляхоў барацьбы з ворагам, які не лічыцца ні з якімі міжнароднымі законамі ў адносінах да мірнага насельніцтва. Знішчаюць народ — толькі так можна назваць паводзіны фашыстаў.

Наступае новы этап партызанскага руху. Ён не толькі ў тым, што рух становіцца масавым, што да яго далучаюцца новыя тысячы вясковых, гарадскіх жыхароў, а і ў тым яшчэ, што ствараюцца своеасаблівыя, у палітычных, эканамічных адносінах аўтаномныя партызанскія раёны, якія, аднак, у выпадку ўмяшання воінскіх часцей ачышчаную ад акупантаў тэрыторыю ўтрымаць не ў сіле.

Мірна суіснаваць з акупацыйным парадкам партызаны не могуць. Партызанскі рух і ўзнік, як патрыятычны, сацыяльны пратэст народа, што знайшоў выйсце ва ўзброенай барацьбе з ворагам. Абсягі гэтай барацьбы яшчэ больш пашырацца, выльюцца ў самыя разнастайныя формы супраціўлення, аднак партызанская стратэгія застанецца нязменнай. Усяляк шкодзячы акупанту, зрываючы яго мерапрыемствы, памагаючы фронту нападамі на чыгункі, дарогі, знішчэннем варожай жывой сілы, тэхнікі, партызаны, аднак, не ў стане весці пазіцыйную вайну, абараніць ад ворага мірных жыхароў, іх набытак, занятыя імі вёскі, сельсаветы, калі стануць сам-насам з рэгулярным войскам. Тут пачынаецца супярэчнасць. Але вайна сама па сабе найвялікшая супярэчнасць.

## II

Штаб злучэння разам са штабам Гарбылёўскай брыгады перавандраваў з Літвінава ў вялікае лясное сяло Лужынец. Разлік у Бондара просты: паблізу дзейнічаюць атрады Гомельскага злучэння, а ім, палешукам, цяпер, як ніколі, трэба падмога суседзяў. Тым болей што суседзі — мацнейшыя. Шмат хто з іх кіраўнікоў, абласных і раённых, у лесе з першых дзён вайны. Дый за Пціччу гомельскія атрады фактычна былі толькі месяц, вярнуўшыся ў свае раёны яшчэ зімой.

Лужынец — сяло віднае. Прамая вуліца цягнецца вярсты на дзве. Мала засталося такога лесу, як у гэтым далёкім

ад чыгункі, ад ракі кутку. Сухадольныя бары чаргуюцца з цёмнымі грабнякамі, дубровамі.

Штаб у школе. Бондара не пакідае трывога. Работу штаб разгарнуў: з усіх атрадаў, брыгад пастыпаюць весці.

Рост гарнізонаў у гарадах, мястэчках, на чыгуначных станцыях ёсць, але малы. На мясцовую сілу стаўку немцы не робяць. Прыбыццё новых вайсковых часцей не адзначана. Можа, зацішша перад бурай?..

Да начальніка штаба заходзіць Мазурэнка. Шырокі яго рот з рэдка пасаджанымі зубамі цвіце ва ўсмешцы.

— Радыстку новую прысылаюць,— паведамляе ён.— Паеду ў Парэчча сустракаць.

Бондар адчувае, што Мазурэнка не за тым прыйшоў.

— Што яшчэ, пане капітане?

Мазурэнка ўскаквае, бярэ пад казырок.

— Таварыш Бондар, прынята тэлеграма з партызанскага штаба. Вам прысвоена воінскае званне палкоўніка. Віншую вас, таварыш палкоўнік!

Радасці ў першую хвіліну Бондар не адчувае. Пра тое, што Лаўрыновіч прадставіў яго да гэтага звання, ведаў. Наконт прысваення верыў і не верыў. Цяпер сумненні ідуць у другім кірунку.

— Больш нікому не прысвоілі?

— Толькі табе.

Дык вось так, цяпер ён шышка. З капітанаў-акружэнцаў скочыў у палкоўнікі. Каб і ў арміі быў, то наўрад ці атрымаў бы вышэйшы чын. Перад братам-генералам, калі той жывы, не сорамна. А вось тут, сярод партызан, становішча далікатнае. Як прымуць яго ўзвышэнне другія начальнікі? Свае, гарбылёўскія, узрадуюцца. Бальшакоў, Хмялеўскі, Гервась. А Вакуленка? Надзьмецца, як індык, але хутка адпусціцца. Горш з другімі. З Міхнаўцом, Дзяругай, Млышэўскім, Лежнаўцом. Начальнікам штаба не хацелі прызнаваць.

Бондар пераводзіць гаворку на другое. Як ён, Мазурэнка, галоўны разведчык, ацэньвае становішча?

— Немцы рыхтуюць удар на фронце.

— Я пра нашы дзялы.

Замест адказу Мазурэнка выцягвае з планшэта і кладзе перад Бондарам некалькі спісаных ад рукі, але друкаванымі літарамі лісткоў. Нямецкія франтавыя зводкі. Мясцовыя баі ў Данбасе, пад Новарасійскам, на Таманскім паўвостраве. Але найбольш пра вайну з партызанамі. Акружаны, знішчаны цэлыя арміі. Месца, аднак, дакладна не называецца. Тыл цэнтральнага фронту.

Бондар узнімае вочы ад папер.

— Дзе ўзяў?

— Твае пляменнікі прысылаюць. З Бацькавіч. Пакуль газета, дык немцы для сваіх салдат вывешваюць.

— Вот што, Мазурэнка. Богам прашу. Складзі рэляцыю свайму начальству, а я зраблю для партызанскага штаба. Грукнем у два адрасы. Няхай адкажуць, што фашысты замышляюць. Ім жа з іх вышкі відней. Мы таксама — тыл цэнтральнага фронту.

— Аднолькава думаем, пане палкоўнік.— Мазурэнка шчэрыць рэдкія зубы.

Валам валіць народ у партызаны. Штаб Гарбылёўскай брыгады тут жа, у школе, і кожнай раніцы перад ганкам купка людзей. Іх прыводзяць байцы, якія вяртаюцца з заданняў. Большасць навічкоў — мясцовыя, з занятых партызанамі вёсак. Па ўзросту — зялёная моладзь.

Добра, што ідуць хлопцы ў партызаны, блага, што з голымі рукамі. У атрадах трэць людзей не ўзброены.

Бальшакоў заве Бондара да сябе.

З Гарбылёў прыйшла сувязная Хількевіч, паўнацелая чарнявая жанчына. Працавала ў бальніцы, добра памагала, перадаючы ў лес бінты, медыкаменты. Не спытаўшы дазволу, з'явілася ў атрад, сям'ю прывалакла. На ганку, клюючы храшчавацым носам, дрэмле ад знямогі апрануты ў выцвілы картовы касцюм дзед, сядзіць пры клумках драпежнага выгляду старая. Цікаўна зыркаюць зеленаватымі вачамі два лабастыя хлопцы.

«Партызаны, ліха вашай матары! — мысленна лаецца Бондар.— Толькі жэрці. Чаго было перціся?»

Але спаткаўшыся з самотным, поўным нямой просьбы позіркам жанчыны, Бондар разгадвае мацярынскі страх за сыноў, лагоднее душой.

Ён ведае жанчыну па Гарбылях. Муж на вайне, у мірны час у мужавай біяграфіі нешта доўга, нудна высвятлялі. Паходзіў не то з кулацкай, не то з нэпманскай сям'і. Баіцца маці, каб з сынамі не паўтарылася гісторыя.

...Ціха, добра навакол. Блаславёная часіна, калі вясна ўвабралася ў сілу — яна ў самым вянку. Звініць лес ад птушынага шчэбету, востра, п'янка пахне разнатраўем, смалой-жывіцай.

Але і надаедлівы партызанскі вораг паявіўся — камар. Цяжка тым, што ляжаць у засадах.

Пажар у душы штодня.

Сэрца баліць вострым, адчувальным болем — нібы загналі туды жалезны цвік. У галаве засела адно: ён, Лубан, вінаваты ў смерці дзяцей і жонкі. Свет цёмны, змрочны. Адчай, які агортвае душу, мяжуе з вар'яцтвам. Неўтаймаваны боль Лубан носіць у сабе пастаянна, не могучы ад яго пазбавіцца ні днём, ні ноччу.

Адпачынак прыходзіць у сне. У сне Лубан бачыць дзяцей, жонку жывымі. У вачах жонкі — дакор. Старэйшы сын, якому споўнілася чатырнаццаць, апрануты ў выцвілую кашульку, нешта майструе...

Але сон нервовы, кароткі. Пажар падчас сну толькі прытухае, тлеючы чырвонымі іскрамі спадыспаду душы. Нешта торгае Лубана і ноччу. Як толькі ён расплюшчвае вочы, боль навальваецца з новай сілай. Дзе расстралялі дзяцей і жонку? У мылаварні, ля могілак? Там заўсёды расстрэльваюць. Старэйшы сын усё разумеў. Ён стаіць пад кулямі, а бацька ўцёк...

Ён бы ці звар'яцеў, ці пусціў сабе кулю ў лоб, каб тое, што рабілася ў яго на душы, не разгадалі другія. Першы паклікаў Лубана да сябе Вакуленка. Гэта было яшчэ за Пціччу.

— Вот што, бургамістр, бяры тол — і на чыгунку. Іначай загнешся. Ідзі да Федзі — ён у нас галоўны падрыўнік. Навучыць, як і што рабіць.

Калі Лубан ужо выходзіў з пакоя, Вакуленка затрымаў яго.

— Нас тут палавіна такіх... У каго забілі жонак, дзяцей. Але ж трэба жыць. Вот пабачыш — пакладзеш пару фашыстаў і стане лягчэй...

Федзя — танклявы, чарнявы хлопец гадоў васямнаццаці. Бацьку яго, старшыню сельсавета, закатавалі фашысты, як толькі прыйшлі ў сяло.

Жыццём Лубан не даражыць, смерці не баіцца. Федзеву навуку — як падыходзіць да чыгункі, закладваць, маскіраваць міну — пераняў з першага разу. Другі эшалон — цягнік і дванаццаць цяжкіх пульманаўскіх вагонаў — ён скінуў сам. Ці яму, чыгуначнаму інжынеру, доўга трэба вучыцца, дзе і як выбіраць месца дыверсіі, ладкаваць зарад, выбіраць патрэбны момант?

Потым было руйнаванне чыгункі ля Хлудоў, падрыў яшчэ некалькіх эшалонаў, якія Лубан — цяпер ужо камандзір падрыўнікоў Бацькавіцкага атрада — правёў з бляскам, з адчайнай рашучасцю. І пацяплелі, бачачы бясстрашша, хмельную адвагу былога намесніка бургамістра, партызанскія сэрцы, зніклі хмурыя, насцярожаныя позіркі. Толькі, мабыць, ніхто не ведае, што хвіліны, калі Лубан ляжыць у зарасніку, трымаючы ў руках працягнуты ад узрывальніка шнур, ці кулём ляціць у адхон, паставіўшы націскны ўзрывальнік на віду ў эшалона, з'яўляюцца якраз тым збаўленнем, калі яго часова пакідаюць пякучыя, адчайныя думкі.

Бальзам на незагойную Лубанаву рану кладзе жанчына. Яшчэ тады, калі ў Піляцічах вырашаўся лёс уцекачоў з мястэчка, Лубан выдзеліў з гурту жанчын Зіну, прыкмеціў прыхільнасць, спагаду да сябе ў яе вачах. Выпадак звёў іх праз два месяцы, калі ён ужо цвёрда хадзіў па зямлі, смела пазіраючы навокал.

Жанчына пазвала, і ён пайшоў да яе. Дзве адзінокія, з перабітым крыллем птушкі, яны імкліва, як толькі бывае на вайне, сышліся, зблізіліся. Вайна адбірае жыццё, жанчына яго вяртае.

## III

Адзінокім ценем вандруе па піляціцкай вуліцы Міша Ключнік. Ён у нарадзе: правярае пасты, каравулы. Тысячагалосым хорам рэгчуць на ўзбалотку жабы. На агароды з лазнякоў напаўзае лава туману. Неба яснае, зорнае. Між двух ясакараў на школьным двары вісіць паўбоханчык месяца. Ледзь чутна папіскваючы, носяцца над саламянымі стрэхамі хлявоў кажаны.

Міша здымае з пляча, прыстаўляе да шчыкетніка вінтоўку, садзіцца на лавачку. Якраз насупраць хата былога валаснога бургамістра Спаткая. Веснічкі нават у змроку бялеюць. Учора на ганку гэтай, добра знаёмай хаты Міша перажыў вялікую мужчынскую знявагу.

Болей за два месяцы, калі, выбраўшыся з Піляціч, партызаны стаялі за Пціччу, затым блукалі па чужых сёлах, чакаў Міша спаткання з Зінай.

Ён толькі ўчора вярнуўся з задання. Вечарам кінуўся на Зінін панадворак. Ён і падарунак ёй нясе — пярсцёнак, выточаны ім яшчэ за Пціччу са срэбнага, нэпманаўскіх часоў паўрубля.

Спаткала на ганку, нават у хату не пусціла. Прыгожая, цёплая. Гледзячы ў вочы, сказала:

— Не хадзі да мяне, Міша. Не саром. Цябе любіла і адлюбіла. Чалавек ёсць у мяне. Люблю яго.

— Я замуж цябе вазьму, Зіна.

— Позна, Мішачка. Трэба было браць раней. Цяпер я сама выбрала.

Як тапаром адсекла. Ён пайшоў. Дапытвацца не стаў. У такіх справах рашае жанчына.

Ужо выбраўшыся з двара, азіраючыся, каб пераканацца, што нікога паблізу няма, ніхто не бачыў яго ганьбы, Ключнік задрыжаў. Пякучая здагадка апаліла яго, зрабіўшы боль па Зіне невыносным. «Лубан, толькі ён! Яшчэ тады, напрадвесні, калі Ключнік адмовіўся выканаць загад Батуры і не расстраляў нямецкага прыхвасня, Зіна захаплялася Лубанам. Пры ім, Ключніку. На сваю галаву выратаваў нямецкага сабаку...»

Ён разумее, чаму Зіна асмялела. Пра Лубана загаварылі. Нямецкі начальнік у шапку не спіць, грахі выкупляе.

Ненавідзячы, пагарджаючы Лубанам, нейкай часткай душы Ключнік зайздросціць яму. Без года тыдзень у партызанах, а ўжо выславіўся. А ён паўтара года цягне лямку, і пра яго ні слова. Бегаў, туляўся, на карачках поўзаў, калі ад паліцэйскіх было не прадыхнуць. Хто гарнізоны насаджваў? Той самы Лубан. Пачуў нягоднік, што пахне смаленым, уміг перастроіўся. Шкуру ратуючы, сям'і не пашкадаваў. Батура правы быў: страляць трэба свалачэй. А цяпер ім павага.

Нічога, яшчэ будзе справядлівы суд. Няхай сто эшалонаў узарве Лубан, а тое, што чырвонаармейца застрэліў, прыпомніцца.

Зіна таксама — з гадзючага племя. За адным бургамістрам была, пабегла да другога. Толькі хвост гатова трапаць абы з кім, а ліпне да начальнікаў.

Ключнік адчувае, што трохі несправядлівы да Зіны. Цяпер Лубан не начальнік. Да скону дзён будзе выкупляць грахі, дый ці апраўдаецца?

Ключнік глядзіць на светлую ў шэрані ночы пляму Зініных веснічак, чакаючы, што вось-вось мільгне ля іх цёмная постаць. Ён ведае, што зробіць. Аклікне, і калі нядаўні намеснік бургамістра не спыніцца, не падыме ручкі ўгору, пашле да праайцоў. Тады квіты будуць. Няхай разбіраюцца, судзяць. Яму ўсё адно.

Ніколі да Зіны не ведаў Ключнік пакут рэўнасці. Сыходзіўся з жанчынамі, разыходзіўся. Кожная дарыла штосьці сваё, застаючыся ў душы ціхім, прыемным успамінам, а былі такія, што і ўспамінаць не хацелася. Яго не вельмі цікавіла, як паводзяць сябе жанчыны, з якімі ён быў блізкі, з іншымі мужчынамі. Ведаючы свае слабасці, ён даруе іх другім. Жанчыны яго заўсёды выручалі.

Мінулай зімой, калі, паранены, ён лячыўся ў Бацькавічах, выхадзілі яго медсёстры. Стараста, прыціснуты партызанамі, прывёз Ключніка ў бальніцу, здаў, і толькі яго бачылі. Рана на назе гнаілася, лекаў не было, carmілі так, што здаровы дух выпусціць. Клава і Вера прыносілі яду з дому, прамывалі рану марганцоўкай, адзелі, абулі.

Вылечыўшыся, ён сышоўся з Клавай. Жыла ў асобнай хатцы, з якой нямецкай бомбай сарвала дах. Мабыць, дзеля яго жыла, бо цераз вуліцу стаяў новы бацькаў дом. Клавін брат Сяргей Амельчанка, які, калі яшчэ немцы толькі занялі мястэчка, быў разам з Анкудовічам у партызанах, праз яго, Ключніка, зноў з імі звязаўся.

Клава памагала брату, разам з братам яе расстралялі. Схапіўшы, яе, мабыць, вінавацілі за тое, што Ключнік у яе жыў. Можа, гэты самы Лубан і арыштоўваў?

Клава — не Зіна. Яго на другога не змяняла б. Ён яе не забудзе.

Ключніку робіцца шкада сябе. Што ён добрае бачыў? Бацькі не памятае, маці выйшла замуж за другога. Як толькі стаў падрастаць, у бацькавым доме стала цесна. Нават школы не скончыўшы, паехаў у ФЗУ. Кім толькі не быў — тынкоўшчыкам, маляром, мулярам. Затым армія, вайна, акружэнне. За свае дваццаць тры гады ведае Ключнік інтэрнат ды казарму. Ды цяпер валацужнае жыццё. Хто яго абагрэе, прытуліць?

У Зініных вокнах цёмна. Ключнік ускідае на плячо вінтоўку, пераходзіць вуліцу. Нячутна рыпнуўшы веснічкамі, асцярожна ступаючы, прынікае тварам да халоднай шыбіны. Ніякага руху ў хаце. Дый нічога не ўбачыш, бо праём акна захінае фікус.

Ён да дробязей ведае, дзе што ў доме. З зальчыка аклееныя шпалерамі дзверы ў бакоўку, і, можа, там з Зінай Лубан? Мог прыйсці днём і астацца. Пры адной думцы, што Зіна абдымае другога, ненавіснага, Ключнік губляе над сабой уладу. Гасіць кулаком у раму. Дзынкае разбітае шкло. Ключнік адскаквае і, хапіўшы аберуч вінтоўку, чакае.

У акне на імгненне мільгае белая постаць, чуваць тупат босых ног на падлозе, адчыняюцца дзверы. На ганку Зіна.

— Вокны пачаў біць, Мішачка. Пабі яшчэ адно, бургамістраву жонку хто абароніць? Чужы элемент. Толькі ж калі хадзіў да мяне, мабыць, пра тое не думаў. Цяпер стаў сазнацельны. Які ж ты дробны, Мішачка...

Дзіўна, ён стаіць, як шкадлівы цюцька, і слова не можа прамовіць. Зіна збягае з ганка, падыходзіць да яго ўшчыльную. Лютая, раз'юшаная.

— Слухай, бабскі ўгоднік. Калі яшчэ раз сунеш нос, вочы кіпятком залью. Я цябе за чалавека мела, а ты паскуда. Нічога, хутка ўцешышся. Такіх, як ты, я бачыла. Спадніц хапае, вот і бяжы за імі. А я цябе ведаць не ведаю...

Павярнулася, мільганула на ганку, ляснула дзвярамі.

## IV

З раніцы ў суправаджэнні коннай аховы прыскакаў сакратар ЦК камсамола рэспублікі Марозаў. Яго Бондар ведае — бачыў мінулай восенню, калі ўзрывалі Пціцкі мост.

— Паляць нашу Беларусь,— з сумам паведамляе Марозаў.— Вынішчаюць цэлыя раёны. У Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай абласцях.

Марозаў — упаўнаважаны ЦК КПБ і партызанскага штаба. Уладу мае вялікую. Бондар расказвае аб справах, скардзіцца — пасля гібелі Лаўрыновіча сувязь між атрадамі рвецца, Цэнтральны штаб на новае злучэнне мала зважае. За тры месяцы — два самалёты. Аўтаматычнай зброі амаль няма.

У Марозава выгляд стомлены — пад вачамі цёмныя кругі, на твары нездаровая жаўцізна, бялкі вачэй у чырвоных атожылках ад бяссонніцы.

— Будзь пакуль за камандзіра. Бяры лейцы ў рукі. Чым можам, паможам. Дзве рэчы не забывай — беражы партызан і насельніцтва.

Пасля Бондара з Марозавым загаварыў Бурбіс, намеснік камандзіра злучэння па камсамолу.

— Думаем міжраённую камсамольскую канферэнцыю правесці, Мікалай Пятровіч. Можа, вы выступіце?

Марозаў насмешліва скасавурыў вочы.

— Доўга ты думаў аб сваёй канферэнцыі?

— А што? Тры раёны амаль вызвалены. Сабярэм актыў з вёсак, сельсаветаў, пагаворым, паставім задачы.

— Як гэта — пагаворым?

— Сабярэм людзей вось тут, у Лужынцы.

— Глупства, брат. Нават злачынства. Асабліва цяпер, калі карнікі актывізуюцца. Ты хіба рашэння ЦК не атрымліваў? Нават на вызваленай тэрыторыі ніякіх легальных сходаў, канферэнцый не можа быць. Канспірацыю ніякім чынам паслабляць нельга. Запомні гэта, Бурбіс.

Назаўтра, асядлаўшы каня, Бондар едзе ў Гомельскую брыгаду «Бальшавік». Пры ёй штаб злучэння.

Над галавой яснае, без хмурынкі неба. Балацянкі асмужаны, як бы ахутаны лёгкім туманам. Носяцца, пранізліва

кігікаючы, кнігаўкі. Паспелі ўжо вывесці птушанят. Лясны птушыны перагук зліваецца з рознагалосай музыкай зямлі — трашчаць у траве конікі, зумкаюць мушкі, гудуць, звіняць, пералятаючы з кветкі на кветку, чмялі. Хмельны, густы пах на лугавінах. Самая пара касіць. Але касцоў не відаць.

Трапляюцца па дарозе купкі партызан — конныя, пешыя. У некаторых цераз грудзі аўтаматы. Партызаны — дзеці аднаго бацькі, але не аднакія: гамяльчан лепей забяспечваюць.

Штаб брыгады — у лесе, каля зараслай па берагах крушыннікам рэчкі Свядзь. Цячэ Свядзь у Бярозу, Бяроза — у Днепр. Куток дзікі, глухі. Ад чыгункі не меней як паўсотні кіламетраў.

Жыхар — камандзір злучэння — нізкаваты, лысаваты, з вузкім разрэзам шэрых, праніклівых вачэй. Памоўчвае, гаворыць пра дробязі.

Бондар выкладае трывогі. Жыхар, сумна ківаючы галавой, згаджаецца.

— Паліць будуць. Нас — трэці раз. Трэба дарогі гусцей мініраваць, з чыгункі не злазіць. Тады хутчэй апомняцца.

Дарога да Сведзі ідзе праз Лужынец. Калі даваць бой, то толькі ля Лужынца. Сіламі з'яднаных брыгад. Гамяльчане мусяць памагчы.

Жыхар зноў згаджаецца.

Вяртаючыся ў штаб праз Казіміравічы, Бондар чуе, што яго аклікаюць. Азірнуўшыся, бачыць плячыстага, з шырокім, знаёмым тварам чалавека.

— Павел Антонавіч, не пазнаеш?

Голас густы, як гук іерыхонскай трубы.

— Мы з табой у лясной школе вучыліся. У Бацькавічах! Не пазнаеш?

Так і ёсць, Мікалай Мікалаевіч.

Бондар злазіць з каня, з паўгадзіны гутарыць з даўнім местачковым таварышам.

Ускочыўшы ў сядло, выехаўшы з Казіміравіч, Бондар успамінае старога Грыня, дзеда Мікалая Мікалаевіча. Фацэтны быў чалавек, славуты далёка за межамі мястэчка. У маладосці бясконца жаніўся. Прыедзе ў далёкае сяло, прыкінецца бяз-

родным, прыстане да ўдавы ці дзеўкі, а праз тыдзень — наўцёкі. Выробляў штукі Грынь увесь век. Абсмаліўшы аглоблі, пад выглядам пагарэльца ездзіў па чужых валасцях збіраць дапамогу.

Ён нават з камсамольцамі хаўрусаваў. Бондар — тады сакратар ячэйкі — у Велікодную ноч пасадзіў Грыня на трактар, а той ездзіў вакол царквы, гарланячы, што Бога няма.

Бацька Мікалая Мікалаевіча — таксама дзівак. Уступіўшы ў калгас, выслухаўшы казанне лектара, прыбег ноччу дадому, паскідаў з покута іконы і ў адзін мах пасек. Потым з калгаса ўцёк, вывеў з грамадскай канюшні каня, забраў калёсы. Яго нават судзіць хацелі.

Цяпер уся сям'я ў партызанах.

Ноччу Бондара будзіць Мазурэнка. Падсвечвае кішэнным ліхтарыкам шматок паперы, а рука дрыжыць. Масква папярэджвае. У тэлеграме гаворыцца, што ў Карачаве, на Браншчыне, грузіцца ў эшалоны дывізія СС «Варшава», якая, па агентурных дадзеных, накіроўваецца на Палессе.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

Май надзіва ціхі. Жандармерыя нікога не арыштоўвае, не дапытвае.

У лясгас цэлымі пачкамі прыходзяць газеты, якія выдаюцца на рускай мове. Яны бясплатныя — бяры, чытай.

Друкуецца матэрыял аб жахах бальшавіцкага гаспадарання ў Харкаве, які ўжо другі раз вызваліла нямецкае воінства. Усіх, хто дзе-небудзь працаваў, НКВД як быццам арыштоўвае, здзекуецца, высылае ў Сібір.

На сценах будынкаў, парканах — лістоўкі, плакаты пра стварэнне арміі генерала Уласава, які добраахвотна перайшоў на нямецкі бок і вядзе змаганне за новую, без камісараў і камуністаў, Расію.

Вораг вядзе наступленне агітацыяй. Трэба і ім, змоўшчыкам, нешта рабіць.

Мінулагодняй зімой, калі хлопцы толькі намацвалі сцежкі змагання, здолелі тым не меней надрукаваць лістоўку. Цяпер, калі ёсць сувязь з партызанамі, радыё, калі пабольшалі рады, лістоўку не надрукуеш. Рэдакцыі ў мястэчку няма, а сабраны шрыфт яны раскідалі, калі пачаліся арышты.

Цяпер партызанскую лістоўку, рэдкую савецкую газету чытаюць, як малітву. Усю — ад першага да апошняга радка.

За зіму ў Міці назбіралася матэрыялаў. Ён іх хавае ў хляве, у застрэшшы. Ёсць дзве кніжкі пра вынікі зімовага наступлення Чырвонай Арміі, брашура Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне», некалькі газет.

Газеты Міця нясе Прымаку, Плотніку — няхай пускаюць па крузе.

Ёсць вялікая радасць у прылучэнні другога чалавека да патайной справы, няхай сабе гэта толькі чытанне.

Адносіны, якія між людзьмі ў такі момант узнікаюць, асаблівыя, незабыўныя, яны грунтуюцца на той небяспецы, якая пагражае абодвум — хто даў лістоўку і хто ўзяў.

Міця выбірае хвіліну, калі ў пакойчыку, дзе шчоўкае на лічыльніках Асоцкі, нікога няма. Вымае з унутранай кішэні пінжака, кладзе на стол перад пасівелым бухгалтарам брашурку Сталіна. Той глядзіць на назву, чырванее, бялее, узнімае на Міцю спалоханы позірк. «Пачытайце,— ціха гаворыць Міця.— Мне таксама далі пачытаць». Асоцкі похапкам хавае кніжачку ў шуфлядзе стала пад стус старых папер.

Цэлы дзень ён раз-пораз выходзіць у калідор пакурыць. Тайна, якой валодае, нібы пячэ яго, не даючы спакою.

Назаўтра Асоцкі — вясёлы. Па-змоўніцку падміргвае Міцю. Пра брашуру маўчыць, хоць за вечар можна было прачытаць. Відаць, даў яшчэ некаму. Няхай дае.

Кніжачку пра вынікі баёў Міця дорыць Пятру Малінцу. З Пятром разам вучыліся, сябравалі, потым ён у вучобе адстаў. Дружбацкія ніці аслаблі, але не парваліся зусім. У мястэчку многа хлопцаў, звязаных школай, і шмат каго з іх можна прылучыць да патайной работы.

Пятро ў хаце брашурку не чытае, кідаецца ў садок.

Апошнюю кніжачку Міця аддае нечакана для самога сябе. Спатыкае на вуліцы Адама Вашчылу, загадчыка Сівалобаўскай

школы, дзе працуе Сюзана. Яны стаяць на дашчаным тратуары, аб сім-тым размаўляюць. Пра Сюзану Адам — ні слова. І хоць Вашчыла — чалавек малазнаёмы, з другога сяла, Міця, развітваючыся, кладзе яму ў далонь тоненькі сшытак. Вашчыла разумее ўсё мігам, цісне Міцю руку, подбегам шыбуе прэч.

На тупіковых пуцях — эшалон з вагонаў-цяплушак. Жыве ў ім пярэсты народ: мабілізаваныя для работы на чыгунцы палякі, чэхі, сербы, нават бельгійцы і французы ёсць. Шматгалосая гаворка не сціхае каля цяплушак з раніцы да вечара. Местачковыя хлапчукі вядуць з рабочымі гандаль і абмен.

У Міці нараджаецца ідэя, але ён не ведае, як яе ажыццявіць. Ёсць маскоўская газета «Известия» за першае мая, у якой надрукавана пастанова аб роспуску Інтэрнацыянала. Газету зачыталі да дзірак, было б добра, пакуль зусім не парвалася, перадаць палякам ці чэхам. Але няма сярод замежных рабочых знаёмага.

Летась, калі Міця жыў у будцы, да іх заходзіў паляк. Таму можна было б аддаць, немцаў ён ненавідзеў люта.

Выручае Прымак. Ён — увішны, блукае па ўсіх закутках мястэчка. У Ніны Грушэўскай паспеў завесці знаёмства з чэхам-чыгуначнікам. Па словах Аляксея, чэх аж кіпіць, калі пры ім успамінаюць немцаў. Што ж, такому чалавеку газету даверыць можна. Няхай сам Прымак і аддасць.

Назаўтра Аляксей прыносіць пачак цыгарэт «Privat». Іх чэх падараваў у знак удзячнасці. Ахвяра немалая — пачак цыгарэт каштуе пяць марак.

## II

Дзіўна, партызаны выклікаюць Міцю на сувязь. Да Прымака прыходзіць знаёмая дзяўчына, прыносіць запрашэнне. Яшчэ болей дзіўна, што жыве дзяўчына ў Малкавічах, дзе Мікола сустракаецца з Мазурэнкам. Мажа, правая рука не ведае, што робіць левая? Але калі клічуць — трэба ісці.

Каця Харошка — так завуць сувязную — Міцю падабаецца. Бялявенькая, вастраносенькая. Прынесла ў мястэчка кошык яек, купіла солі. Дамовіліся — у нядзелю Міця прыйдзе ў Кавенькі, а там, на грэблі за алешнікам, няхай яго чакаюць.

Ускінуўшы на плечы пусты мех, Міця ідзе ў Кавенькі. Паліцэйскія, якія стаяць на пераездзе, праводзяць яго скасавуранымі позіркамі, але куды ідзе, не пытаюць.

Міця думае, што яго выклікае Драгун. Можа, вынікла штосьці асаблівае?

Кавенькі блізка.

Мінулагоднім летам Міця папярэдзіў старасту Буяна, якога хацелі арыштаваць. Стары Буян з дому сышоў. Не чуваць пра яго. Летась ля Кавенек быў бой, у якім забіты начальнікі жандармерыі і паліцыі. Ніякіх другіх падзей там болей не адбылося.

Міця разлічвае зайсці да Грышы Лапаты — вучыўся разам з ім да восьмага класа. З Грышам яны нават спаборнічалі: то Міця атрымліваў пахвальную грамату, то Грыша. Пасля сямігодкі Лапата паехаў у Мінск, у харчовы тэхнікум, і калі, задумаўшы скончыць за год два класы, Міця напісаў яму аб гэтым, Грыша адразу прыслаў падручнік па хіміі.

План рушыцца адразу. Грыша — не адзін, на прызбе — ватага хлопцаў. Местачкоўцу рады — распытваюць пра навіны, пра немцаў. Міцеў аднакласнік — надзвычай малы ростам, чарнявы, рухавы — рагоча разам з усімі, як бы нават не здагадваючыся, што Міця прыйшоў да яго. Нарэшце Міця адклікае Грышу ў двор. Але хлопцы ўсё адно сядзяць на прызбе, на іх вачах на грэблю за алешнік не пойдзеш.

Міця разумее — зрабіў памылку. Не варта было прызначаць сустрэчу за Кавенькамі ды яшчэ ў нядзелю, калі людзі дома. Ён тлумачыць — прыйшоў да цёткі купляць парасё (цётка ў Кавеньках ёсць), цягне валынку, ведучы дробязную, непатрэбную размову. На Міцевым гадзінніку тым часам палова чацвёртай. Хлопцы нарэшце разыходзяцца.

На грэблі за алешнікам Міця чакае цэлую гадзіну — нікога няма.

Назаўтра Каця Харошка зноў у мястэчку.

Міця прызначае цяпер спатканне ў лесе, каля старой смалакурні. Месца добра ведае — колькі разоў вандраваў там, збіраючы грыбы.

Стоены, маўклівы сасоннік. Зрэдку перагукваюцца птушкі. Пахне смалой, багуном, які цяпер на лясных балацянках сама пачынае цвісці.

Міця мінуў абадраную — толькі рэбры тырчаць — смалакурню, не спадзеючыся каго-небудзь убачыць, як наперадзе, на дарозе, мільгае цёмная постаць. Ён азіраецца — нехта пераскаквае дарогу ззаду. Міця стаіць, чакае.

Ад расчаравання ён ледзь не ўскрыквае. З-за тоўстых, кашлатых хвой на дарогу выходзіць Адамчук, з ім незнаёмы рудаваты чалавек у акулярах. Дарожны майстар у брызентавым плашчы, ён пахудзеў, змізарнеў, пад вачамі — сінякі. Два хлопцы, ужо не маскіруючыся, кладуцца пад хвоі, накіраваўшы вінтоўкі на дарогу, якая вядзе ў мястэчка. Гэты несхаваны недавер — ці не прывёў каго з сабой — Міцю абражае.

Вітаецца ён стрымана, неахвотна адказвае на пытанні, якімі па чарзе закідваюць то Адамчук, то прысадзісты, які называе сябе Пітлярам.

Нарэшце партызаны і Міця садзяцца на дол, на рэдзенькую, жорсткую траву, гаворка ўсчынаецца болей спакойная.

Міця даўно заўважыў за сабой рысу, з якой не можа саўладаць. Пры самай нязначнай абразе ён зацінаецца, зняважаны гонар як бы не дазваляе яму прыхільна глядзець на чалавека, які нанёс крыўду.

Адамчук вядзе з Міцем размову ў павучальным тоне, як з недарослым. Бачыць сябе ў ролі мудрага настаўніка:

— Немцаў хутка прагоняць. Трэба, чым можна, памагаць Чырвонай Арміі, партызанам. Савецкая ўлада спытае ў кожнага, як сябе хто паводзіў...

Адамчук збег з партызанскага атрада, аддаў немцам патайныя базы, рамантаваў чыгунку, і тады яго Міця люта ненавідзеў. Але цяпер дарожны майстар — партызан, Міця мусіць яго слухаць. Сям’я Адамчука расстраляна, ён прынёс сваю ахвяру...

Пітляр робіць лепшае ўражанне. Як бы разгадаўшы прычыну Міцевай зацятасці, пытае:

— Вы не адзін? Ёсць яшчэ патрыятычна настроеныя хлопцы?

Затым Пітляр расказвае пра сябе. Ён дацэнт, выкладаў у інстытуце батаніку, добра ведае расліны, дрэвы. Гэтыя, што растуць навакол, таксама. Але цяпер раслінамі займацца не час — трэба ваяваць.

— Мы хочам мецьь сувязных,— працягвае ён.— Будзеце перадаваць розныя звесткі, медыкаменты. Выходзіць з мястэчка не абавязкова. Нашы людзі вас знойдуць.

Міця ўсміхаецца. Дацэнт таксама глядзіць на яго, як на хлопчыка. Але хіба скажаш яму, хто яны і чым займаюцца?

Пітляр вымае з камандзірскай сумкі пачак грошай. Дае на медыкаменты. Просіць, аднак, напісаць распіску. У пачку тысяча марак — на такую вось суму...

Грошы спатрэбяцца.

Міця піша распіску на кавалачку паперы, які дае Пітляр, падклаўшы вайсковую дацэнтаву сумку.

Астатняе — поўная нечаканасць. Адамчук паварочваецца да Міці тварам, аднак глядзіць некуды ўбок:

— Заданне такое — забіць Крамера. Даю дзве лімонкі. Возьмеш яшчэ каго з хлопцаў, і кінеце ў акно. Вечарам трэба, як сцямнее. Толькі чаку не забудзьце вырваць. А тады бульбаю, бульбаю — наўцёкі.

Адамчук такі добра ведае Крамераў двор.

— Мы б самі забілі нямецкага гада,— працягвае Адамчук.— Ды ноччу ў мястэчка не прабярэшся. Вось паглядзі, як гэтая штуковіна страляе...

У руках дарожнага майстра кавалерыйская СВТ, аднак на рулю яе надзета штосьці накшталт веласіпеднага насоса. Адамчук садзіцца, бярэ прыклад да пляча, націскае на спуск. З рулі вырываецца клубок дыму і ледзь чутны трэск. Нібы сухая галінка пад нагамі зламалася.

Адамчук дае Міцю тры згорнутыя трохкутнічкамі запіскі. Называе прозвішчы — каму перадаць. Але пра запіскі Міця ў гэты час не думае. Ён хавае іх за пазуху. Зняўшы туфлі, рассоўвае паверх сцелькі маркі. Гранаты хавае ў кішэні.

Развітаўшыся з партызанамі, дамоў Міця прабіраецца лесам, раз-пораз кідаючы насцярожаны позірк на дарогу.

Прыкра, нядобра на душы. Не варта было ісці на гэтую сустрэчу. Штосьці не зусім звычайнае ён адчуў з самага пачатку. Навошта Крамера забіваць? Чаму іменна Адамчук дае такі загад?

Па дарозе Міця супакойваецца. З пункту гледжання партызан Крамер, вядома, вораг. Каб трапіў да іх у рукі, то жывога не

выпусцілі б. Але Мазурэнка, якому група падпарадкоўваецца з восені, забойства Крамера не патрабуе. Так ці іначай, але Міця нічога рабіць не будзе. Мікола параіцца з Мазурэнкам.

На ўзлессі, выбраўшы густы арэхавы куст, Міця хавае ў леташнім лісці гранаты. Ідучы ў лес, надзеў старыя, з вузкімі калашынамі штаны, і гранаты гэтак з кішэняў вытыркаюцца, што першы паліцай схопіць. Ён прыйдзе сюды пазней і забярэ іх.

Міця наважыў выбрацца на дарогу, якая вядзе з Кавенек у мястэчка. З поля збочыў у кустоўе. Час не ранні, за поўдзень ужо, тым не меней, калі ён прыбавіць кроку, то хоць пад канец дня з'явіцца на работу. Паказацца ў лясгасе трэба.

Але калі не шанцуе, то не шанцуе. Не паспеў Міця, узмакрэлы, задыханы, выскачыць з кустоў на дарогу, як з-за павароту крочыць насустрач гурт немцаў. Хавацца назад у кусты нельга. Міця, нацяўшыся, ідзе.

Калона невялікая — чалавек сорак. Вядзе яе ў Кавенькі той самы нізкаваты унтэр-афіцэр, які, па просьбе Лагуты, вызваліў Міцю ад работы на чыгунцы.

Міця, павітаўшыся, размінаецца з немцамі. «Kärl aus der Oberförsterei»[1],— чуе за сабой голас.

Пазнаў яго не толькі унтэр-афіцэр, але і нехта з салдат. Дзіва няма, ледзь не ўсе местачковыя немцы выпісваюць у Лагуты махорку.

Міця падышоў ужо да пераезда, калі ззаду, у Кавеньках, пачуў частыя вінтовачныя стрэлы. Справа набывае кепскі выгляд, трэба нешта прыдумаць.

Дома пад насцярожанымі позіркамі маці, цёткі Міця пераапранаецца, ідзе ў хлеў. Ногі ў дзіравых násках потныя, некалькі грашовых паперак ён расцёр, расшкамутаў нашчэнт. Схаваўшы астатнія грошы ў падстрэшша, Міця бяжыць у лясгас.

На тратуары, насупраць жандармерыі, стаяць лужынецкі бургамістр Вейс, незнаёмы паліцай і жандар, які хадзіў да Мар'і Іванаўны вывучаць рускую мову.

Міця напускае збянтэжаны выгляд, падыходзіць.

[1] Хлопец з лясгаса *(ням.)*.

— Я ішоў у Кавенькі, хацеў купіць парасё,— дакладвае ён.— Але там пачалі страляць, і я ўцёк.

— Ведаем,— жандар не праяўляе да навіны ніякай цікаўнасці.

Байку пра парасё Міця расказвае і ў лясгасе.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

З раніцы на станцыю сталі прыбываць эшалоны, напалавіну з вагонаў, напалавіну з платформ, на якіх акрытыя брызентам бронеаўтамабілі, танкеткі, грузавікі, лёгкія палявыя гарматкі, а таксама звычайныя вайсковыя фуры. Коні, як і людзі,— у вагонах.

Раніца светлая, цёплая, і здаецца, нішто не прадвяшчае бяды. Толькі мінула Сёмуха, уваткнутыя ў перакладзіны варот, вуглы хат, падаконнікі, тырчаць прывялыя зялёныя галінкі. Двары, дарожкі пасыпаны жоўтым пяском — як бы спецыяльна чакала мястэчка нязваных гасцей, што сваім лямантам, трэскам матацыклаў аглушаюць вуліцы.

На станцыі ёсць спецыяльная пляцоўка для выгрузкі вайсковых эшалонаў. Сюды эшалоны падганяюць. Але іх многа, імі забіта ўся станцыя.

Мясцовыя немцы-чыгуначнікі перапалоханы. Носіцца, не чуючы пад сабой ног, таўставаты, прысадзісты начальнік станцыі, хрыпла аддае каманды. Манеўровыя паравозы стаяць пад парамі. Яны адцягваюць на запасныя пуці пустыя вагоны, платформы, падганяючы пад выгрузку новыя.

А машыны, танкеткі, фуры ўжо ўцягваюцца ў пыльныя местачковыя вуліцы. Несучыся па ўзбочыне, іх абганяюць матацыклісты, усе як адзін без пілотак, у расхлістаных мундзірах, з закасанымі па локаць рукавамі. У малюнку напорыстасці, рашучасці, з якой эсэсаўцы імчаць па вуліцах, ёсць шмат агульнага з тым, трохі прызабытым відовішчам, калі на схіле лета, амаль два гады назад, немцы толькі ўязджалі

ў мястэчка. Выгляд нястрымнай, гарластай армады такі, як быццам яна другі раз заваёўвае зялёнае драўлянае паселішча.

Падзяліўшы вуліцы, завулкі, заваёўнікі расцякаюцца па дварах, становяцца на кватэры. Распрануўшыся да пояса, а некаторыя да трусоў — абліваюцца ля калодзежаў вадой. Іх голыя, валасатыя і безвалосыя грудзі, у суцэльных татуіроўках: мільгаюць жаночыя твары, профілі, прабітыя стрэламі сэрцы, арлы, свастыкі. Эсэсаўцы — маладыя, сама болей ім — па дваццаць, дваццаць пяць гадоў. Нямецкая парода, пра якую столькі пішуць у газетах, праглядвае не надта: сярод светлавалосых, русявых, блакітнавокіх нямала цыганаватых, цёмных, з круглымі, як надзьмутыя шары, галовамі.

На пятліцах, рукавах салдат — эмблемы чарапоў са скрыжаванымі касцямі.

Тое, што мястэчка стала табарам эсэсаўцаў, яно адчувае ў першы ж дзень, праўдзівей, у першы ж вечар. Самі жыхары мястэчка экзекуцыі не падлягаюць. Радавыя, шарфюрары, унтэрфюрары, штурмфюрары не хочуць псаваць добрых адносін з гаспадарамі, у хатах якіх размясціліся. У гэтых дварах курэй, гусей, парасят яны не чапаюць. Ёсць вясковае наваколле, якое аб'яўлена бандыцкім, а там дзейнічае эсэсаўскі закон.

Вечарам у печах і пасярод двароў палаюць дровы, на патэльнях, бляхах, жароўнях вялікімі, груба нарэзанымі кавалкамі смажыцца свініна, парасяціна, бараніна. Шкуры, кішкі, вантробы, адрэзаныя галовы валяюцца тут жа пад парканамі. Заваёўнікі — шчодрыя, за драбязой не гоняцца. Яны не душацца пайком, як задрыпаныя салдаты вермахта, іголкі, фарбы на яйкі не мяняюць.

Першая радасць рыцараў фюрара — яда. Яны ядуць не часта, затое доўга і многа. Пераможцы насычаюцца тым, што адабралі ў ахвяр — на гэтым трымаецца высокі эсэсаўскі дух.

Ахопленыя страхам, местачкоўцы здзіўляюцца: нібы з галоднага краю маладыя фашысты. Ні адно самае вялікае застолле не можа з'есці столькі мяса, колькі яны. Шырокая патэльня ці бляха на кожнага. Грызуць, выкідваючы косці пад ногі, хлеба амаль не кратаюць, запіваюць з'едзеныя кавалкі віном.

## II

У Міцевым двары таксама чарада эсэсаўцаў. Іх машына з шырокім, абцягнутым брызентам кузавам стаіць насупраць двара, на выгане, і яны раз-пораз бегаюць туды, валакуць у двор каробкі, скрынкі з прыпасамі. Знакаў адрознення на мундзірах Міця не разбірае, яны не такія, як у вермахтаўцаў. Але адразу кідаецца ў вочы — асаблівай субардынацыі сярод эсэсаўцаў няма. Салдаты не цягнуцца ў струнку перад афіцэрамі, не камандуюць адзін другім, не аддаюць загадаў. Можна нават падумаць, што маладых вайскоўцаў яднае нейкая асаблівая дружба і таварыскасць. Абедаць садзяцца разам, смяюцца, падколваюць адзін другога, а калі п'юць віно, то бутэлька ідзе па кругу, і кожны, нават не выціраючы рыльца, прыкладваецца да яе.

Эсэсаўцы занялі большы чысты пакой. На кухні валадараць таксама, забраўшы ў маці і цёткі каструлі, скавародкі, бляхі. Вараць, смажаць цэлы дзень.

На службу Міця не ідзе. Ім валодае смутная трывога. Эсэсаўцы прыбылі не проста так. Як яны сябе павядуць, яшчэ невядома. Атрад СД, які наляцеў мінулым летам, таксама ў першы дзень нічога не рабіў. Арышты пачаліся, калі немцы агледзеліся. Калі Міця трапіць у турму зноў, то ўжо не вырвецца.

Нягледзячы на меры перасцярогі, памылку Міця робіць у першы ж дзень. З раніцы прыйшоў Мікола, затуліцца з ім, як раней, у хаце нельга, і Міця павёў таварыша ў хлеў.

Праз хвіліну туды прыбягае ўстрывожаная маці.

— Немцы шэпчуцца,— узрушана паведамляе яна.— Ім не падабаецца, што вы схаваліся. Ідзі хутчэй адсюль, Колька!..

Выйшаўшы з Міколам з хлява, Міця наважвае бараніцца. Нізкаросламу, цыганаватаму эсэсаўцу, які стаіць на парозе і пранікліва пазірае на хлопцаў, ён, як умее, тлумачыць панямецку, што яго таварыш служыў у паліцыі, страціў руку, а цяпер атрымлівае пенсію. Эсэсавец глядзіць трохі лагадней, загаварыўшы раптам на чыстай рускай мове. Ён, аказваецца, з ліку паволжскіх немцаў, трапіў у палон, а затым перайшоў да эсэсаўцаў.

Міця рашае з хаты сысці. З суседзямі — прыязныя адносіны, і ён ідзе да Стрыбуковай Мар'і — яна жыве насупраць, праз выган. У Мар'і двара няма, бульба падступае пад самую хату, і эсэсаўцы ў яе не спыніліся. Затое двое ці трое атабарыліся ў хаце яе брата Арцёма Драча, якую аддзяляе ад Мар'інай хаты прамежак агарода. Някідкая ў Арцёма хацінка — абымшэлая, крывабокая,— як і сам гаспадар, што вярнуўся інвалідам з першай германскай вайны.

— Ідзі да Арцёма,— гаворыць Мар'я.— Там толькі адзін немец. Круціць радыё і песні слухае. Я прыйшла, дык не прагнаў.

У Арцёмавай хаце пахаджвае ў нацельнай сарочцы малады, высокі, з інтэлігентным тварам эсэсавец. На тонкі прамы нос уздзеты шкельцы акуляраў. З прыёмніка чуецца нямецкая песня і якраз тая адзіная, якую Міця трохі ведае — «Лілі Марлен». Голас спявачкі мяккі, прыемны, і немец у такт мелодыі пстрыкае ад задавальнення пальцамі. Міця вітаецца, садзіцца на лаўку.

Выслухаўшы яшчэ некалькі песень, падобных адна да другой, эсэсавец раптам круціць за рычажок. І вось ужо з прыёмніка чуецца ясная руская мова. Далёка Шараметаву «Калгасніку» да гэтага бліскучага «Тэлефункена». Голас дыктара чоткі, выразны, нішто ў прыёмніку не трашчыць і не завывае.

Міця ўвесь націнаецца. Масква перадае апавяданне. Голас артыста ўсхваляваны, ён расказвае, як два старыя ўкраінцы перавозяць байцоў цераз раку, даючы наказ хутчэй вяртацца назад, выганяць фашыстаў.

Нечаканы перапынак, патрэскванне ў рэпрадуктары, і вось гучыць ужо савецкая песня, нязнаная, нячутая, яна нарадзілася, мабыць, за гэты час, што жыве Міця пад акупацыяй:

Ой, Днепро, Днепро, ты широк, могуч,
Над тобой, Днепро, журавли...

Дыханне перахоплівае, на вачах у Міці, нягледзячы на тое што па хаце выдыбае эсэсавец, слёзы. Той заўважае Міцеву ўзрушанасць, крыва ўсміхаецца, адразу выключыўшы радыёпрыёмнік.

— Im Zuge dieser Sommer mit Bolschewisten wird abgemacht werden[1],— заяўляе ён, пачынаючы апранацца.

З Мар'інай хаты Міця сочыць за сваім панадворкам. Там нібыта спакойна. Эсэсаўцы высыпаюць з двара, ідуць на выган, лезуць у кузаў. Грузавік раве маторам, выкіроўвае на шлях, знікаючы за пераездам. Ужо далёка за поўдзень. Выгрузка эшалонаў працягваецца. Па вуліцы грымяць гусеніцамі танкеткі, вуркочуць, падымаючы пыл, браневікі. Міцю раптам апальвае думка, што лічыць нямецкую тэхніку не мае сэнсу. Мікола зараз жа мусіць ісці на сустрэчу з дэсантнікамі.

Галоўнае — папярэдзіць: у немцаў моцны браніраваны кулак.

Да суседкі прыбягае маці. З лясгаса па Міцю прыслалі дзяўчыну. Ляснічы Лагута выклікае яго да сябе.

Пяць гадзін ужо, рабочы дзень фактычна скончаны. Міця не ведае, што рабіць. Можа, у Лагуты той самы эсэсавец, які ў Арцёмавай хаце дазволіў паслухаць радыё? І летась жа за радыё арыштоўвалі. Можа, гэта была правакацыя, а ён, як дурны карась, клюнуў на вудачку?

Не, без папярэдняй разведкі Міця ў лясгас не пойдзе. У Вакзальным завулку жыве галоўны бухгалтар Мацыеўскі, і напачатку Міця заскочыць да яго што-небудзь высветліць.

Бухгалтар сам не тоіць трывогі. На службу і ён не хадзіў. Але Міцю супакойвае. Лагута хоча выдаць пасведчанні ўсім, хто працуе ў лясгасе. Даведкі трэба напісаць на нямецкай мове.

Лагуту Міця застае ў кабінеце. Шырокі твар старшага ляснічага разгублены. Лагута падсоўвае Міцю стусік паперак. Гэта пасведчанні на ўсіх супрацоўнікаў лясгаса, напісаныя па-руску.

— Перапішыце па-нямецку і зараз жа вярніце мне,— загадвае Лагута.— Сёння ж пайду да бургамістра, няхай падпіша, паставіць пячатку. Да ночы трэба зрабіць.

Дык вось яно што. А што будзе ноччу?

Самастойна перакласці тэкст Міця не можа. З нямецкага здолеў бы, наадварот — не хопіць сіл. Наробіць памылак, немцы будуць выскаляцца з пасведчанняў.

---

[1] На працягу гэтага лета з бальшавікамі будзе скончана *(ням.)*.

Міця ідзе на кватэру да Мар'і Іванаўны. Местачковыя вуліцы забіты машынамі. Магчыма, ноччу гэтая армада некуды рушыць.

Мар'я Іванаўна маўкліва піша на паперцы патрэбны тэкст. Калі Міця развітваецца, шэпча:

— Вёскі будуць паліць. З Мазыра прыехаў генерал, сядзіць у жандармерыі. Нават Крамера немцы да сябе не пусцілі...

Усё становіцца ясным. Лагута з пасведчаннямі пачакае. Выскачыўшы ад Мар'і Іванаўны, прыскараючы крок, Міця імчыць да Міколы. У Грамы трэба ісці зараз жа, нанач, любой цаной перадаць звесткі дэсантнікам, бо заўтра будзе позна.

## III

У тую ноч, калі Мазурэнка прачытаў Бондару радыёграму з Цэнтра наконт прыбыцця эсэсаўскай дывізіі «Варшава», з Лужынца па ўсіх дарогах паскакалі коннікі. Не чакаючы, пакуль у штаб збяруцца камандзіры бліжэйшых брыгад, атрадаў, Бондар аддаў загад выводзіць з вёсак у лясы насельніцтва, жывёлу, сялянскі скарб закапваць у зямлю.

Як высветліцца пазней, гэтая мера будзе мець рашаючае значэнне для жыцця цэлага краю, усіх Прыдняпроўска-Прыпяцкіх і глыбінных палескіх раёнаў.

Камандзіры з'язджаюцца ў штаб на світанні. Іх няшмат — прысутнічаюць гарбылёўцы, дамачоўцы, трое з Бацькавіцкага атрада.

Бондар, не тоячы ўзрушанасці, выкладае план дзеяння. Сіламі Гарбылёўскай, Дамачоўскай і Гомельскай брыгады «Бальшавік» даць бой на шляху перад Лужынцом. Бацькавіцкі і адзін Дамачоўскі атрады размясціць у засадзе паміж Літвінавым і Піляцічамі з разлікам, каб, адыходзячы, яны на сваіх плячах прывялі карнікаў у той жа Лужыцкі лес.

Камандзіры, падаўленыя грознасцю навін, маўчаць. Толькі на Вакуленку навіна, здаецца, не робіць уражання.

— Бондар, не гарачыся. Насельніцтва трэба вывесці. Наконт бою — падумаць. Наша галоўная задача якая? Захаваць жывую партызанскую сілу. Будзе ета, будзе ўсё. Прыцісну́ць нас немцы цехнікай, юшка пацячэ. Пераб'юць партызан, дык

хто народ узначаліць? Вернецца Красная Армія — з чым будзем гаспадарку паднімаць? Дзе кадры знойдзем?

Бондар на сваім стаіць:

— Эсэсаўцаў, калі ў іх танкі, мінамёты, артылерыя, мы не пераможам. Кішка тонкая. Але ў лясах — наша царства. Праверана вопытам. Цяпер зірні на дзела шырэй. Для чаго прыслана эсэсаўская дывізія? Каб знішчыць вёскі, людзей, забраць жывёлу, пакінуць нас без хлеба, без мяса. Паліць фашысты будуць усе вёскі нашай зоны. Хочуць мець пасля сябе пустыню. Каб сабака не пракарміўся, не то што чалавек. Цяпер давай падыдзем з другога боку. Калі гэта воінская часць, то ёй дадзены аператыўныя тэрміны. Валэндацца з намі цэлае лета яна не будзе. Значыць, які выхад? Звязаць эсэсаўцаў па руках і нагах там, дзе нам выгадна. Уцягнем іх у баі тут, у лужынецкіх лясах. Яны рынуць на нас усёй масай, а ў другое месца не патрапяць. Не хопіць ні часу, ні сіл. Усе сёлы спаліць не паспеюць. Я гэта называю актыўнай абаронай. Ва ўсіх раёнах трэба зрабіць іменна так...

— Гаворыш правільна. Толькі чуе мая душа — не ўсе так зробяць. Пазашываюцца ў норы, як рудыя мышы. З драбавікамі на танкі не палезуць. То давай нацэльваць адсталыя брыгады хоць на тое, каб людзей вывелі. Пад лічную адказнасць. У Лельчыцы і пад Князь-возера, дзе Каўпак з Сабуравым стаялі, трэба спецыяльныя групы направіць. З брыгад Гаркушы і Міхнаўца. Ім бліжэй.

Хоць нарада вузкая, паспешлівая, але зрэшты прымаецца рашэнне. Складаюцца дыспазіцыі, заданні для брыгад, атрадаў. Пасылаюцца новыя ганцы.

## IV

Паміж радыёграмай з Цэнтра і першымі звесткамі сувязных, якія дакладваюць аб прыбыцці эсэсаўскіх эшалонаў на бліжэйшыя станцыі, праходзіць тры дні, і яшчэ мінае два дні, пакуль карнікі засяроджваюць сілы, намячаюць для сваіх рот, батальёнаў маршруты. Увесь гэты час у лясным, балотным наваколлі ідзе мітуслівая, але актыўная работа. Падрыўныя групы на вачах у жыхароў мініруюць шляхі, грунтавыя дарогі, падпілоўваюць з двух бакоў дрэвы, робяць завалы.

Вяскоўцы выбіраюцца ў лясы. Рыпяць вазы, мычаць каровы. Маткі, несучы на прыгорбленых спінах вялізныя клункі, вядуць за рукі малых дзяцей. Большыя дзеці самі нясуць тое, што можна панесці і без чаго нават дня не пражывеш, адарваўшыся ад хатняга побыту — гаршкі, гладышкі, скавародкі, міскі, посцілкі, дзяружкі.

Вечарамі па загуменнях, на агародах завіхаюцца цёмныя постаці. У сырыя, выкапаныя на скорую руку ямы кідаецца ўсё, чаго не забярэш похапкам, што нажывалася доўгія гады: скаты льнянога палатна, кажухі, світы, мяхі жыта, швейныя машыны, патэфоны, нават паспешліва сарваныя з покута іконы і фотакарткі родзічаў у чорных драўляных асадках. Але ўсё адно самы галоўны набытак прыхаваць нельга: застаюцца хаты, хлявы, адрыны, родныя печы, ложкі, сталы, табурэткі, крэслы — безліч хатніх прылад, пачынаючы ад качаргі, сякеры і канчаючы рэшатам, сітам, бёрдамі, набіліцамі, на якіх трымаецца круглагадовы сялянскі побыт.

Нават старыя дзяды не памятаюць такога вось нялюдскага рушэння з наседжаных котлішчаў. Можа, і было яно ў сівыя, прыхаваныя маўклівымі курганамі часы татарскіх набегаў, але памяць людская яго не захавала.

З надзеяй глядзяць выгнаннікі на зялёнае — яно толькі пачынае выходзіць у колас — жыта, на бульбу, што ледзьве паспела выпусціць лапушыстае лісце. Зялёнае жыта не гарыць, а бульба тым болей застанецца.

## V

Вілі Сташынскі жыве ў кампаніі з палкавым казначэем Хельмутам і старшым пісарам Вальдэмарам. Яго прыяцелі, перш чым рушыць у канцылярыю, паспешліва голяцца, абліваюцца ля студні вадой. Вілі няма куды спяшацца, і ён дазваляе сабе раскошу лішнюю гадзіну паваляцца ў ложку.

Хельмут ужо гатовы. Трымаючы ў руцэ люстэрка, наводзіць апошні лоск — абпырсквае паголены твар адэкалонам.

— Тырчаць нам у гэтай дзірцы да другога прышэсця. Вальдэмар паедзе складаць справаздачы Богу. А мы з табой што? Можа, скінемся?

— Абрыдла піць,— ляніва азываецца Вілі.

— То рашай сусветныя загадкі. Нам пара. Пайшлі, Вальдэмар.

Вілі лістае часопіс. Голыя салдаты палошчуць падштанікі ў Чорным моры, другія, такія ж голыя, капаюць траншэі непрыступнага Атлантычнага вала. Прыелася бессаромная ідылія. Пра Афрыку здымкаў няма. Як карова языком злізала. Храбры Ромель напусціў пад Эль-Алямейнам у порткі.

Вілі Сташынскі, які мае чын штурмфюрара, займаючы ў эсэсаўскім палку штабную пасаду культурніка-арганізатара, не цешыць сябе ілюзіямі адносна аперацыі, на якую кінулі дывізію «Варшава». Будзе тое, што зімой было пад Псковам, Смаленскам, вясной — пад Карачавам.

Зусім магчыма, што ў жылах Вілі Сташынскага цячэ трохі славянскай крыві, на што красамоўна ўказвае прозвішча. Асабіста ён не мае злосці на палякаў, сербаў, рускіх, якіх дывізія за паўтара года знішчыла незлічонае мноства. Проста яму і ім, гэтым далёкім сародзічам па крыві, выпала розная латарэя ва ўзбаламучаным, ахопленым крывавай разнёй свеце.

Вілі даўно не верыць у высокія словы, якія даводзіцца чуць і чытаць, не верыць у асаблівую гістарычную місію Германіі, якая заклікана перабудаваць свет на новых, нямецкіх, пачатках. Гэта ўсё міфы. Як стаіць свет, людзі іх прыдумваюць. Міфамі запоўнены тысячы тамоў кніг, імі суцяшаюць з царкоўных амвонаў, заклікаюць з трыбун палітычныя правадыры. На самай справе ўсё да прымітыву проста — людзі хочуць есці, піць, размнажацца, а каб мець звычайныя зямныя даброты, у звязку з асабістымі схільнасцямі, абставінамі жыцця, выбіраюць сабе адпаведны міф.

Але настаіі жорсткія, брутальныя часы, калі знікла апошняя магчымасць — выбраць па густу салодзенькую казку,— іх цяпер выдаюць зверху, аднолькавыя для ўсіх, і яны маюць сілу дзяржаўных законаў.

Бацька не хацеў, каб ён, Вілі, паступаў у эсэсаўцы. Але якая розніца? Так ці інакш, скончыць універсітэт яму не далі б, фюрару патрэбны не вучоныя шпакі, а салдаты, і скончылася б тым, што піхнулі б яго ў звычайную роту, паўгода муштравалі, прышылі яфрэйтарскія лычкі, і ляжаў бы ён ця-

пер дзе-небудзь у акопах пад Харкавам, страляючы ў рускіх бальшавікоў. А тут хоць не страляе. Можна ў самога сатаны служыць на бяскрыўднай пасадзе, напрыклад, цырульнікам. Няўжо гэта горш за тое, што робіць бацька? Старому болей як пяцьдзясят, аднак мабілізавалі, мусіў надзець прапахлы нафталінам мундзір, які вісеў у шафе без ужытку з першай сусветнай вайны. Выцягвае цяпер татуля ў армейскім шпіталі пад Адэсай асколкі з жыватоў і задніц слаўных ваяк фюрара, якімі нашпігавалі іх бальшавікі.

Вілі ўстае, уключае прыёмнік, махаючы рукамі, прысядаючы, робіць размінку. Ён заўсёды выбірае пад жытло такія вось закіданыя, непрывабныя з выгляду хаціны, куды начальства залішне часта нос не торкае.

Адзінота — лёс вольных духам. Кінакарціны Вілі паказвае акуратна, з бібліятэкі кніг ніхто не бярэ, газеты прыходзяць самі. У дадатак, звыш прамых абавязкаў, ён штотыдзень фатаграфуе герояў і піша гісторыю палка. Што болей трэба? Характар у Вілі памяркоўны, ён умее ладзіць з чорненькімі, з паласаценькімі, і яго не чапаюць. Ён знайшоў свой ціхі востраў у суцэльным акіяне крыві і шаленства.

Пагаліўшыся, памыўшыся, Вілі ідзе да гаспадара, які жыве ў хляве, у суседстве з каровай. Гаспадар — калека, у першую вайну быў у нямецкім палоне, сёе-тое разумее па-нямецку. Вілі пытае ў гаспадара пра здароўе, дае пачак цыгарэт, забіраючы па праву сумленнага абмену збанок з малаком.

Малако Вілі любіць. Яго таварышы па зброі непамерна аб’ядаюцца мясам, а ён пры ўсіх абставінах шукае малака. Можа, таму і не хварэе на расстройства страўніка, не ведае прыпадкаў вар’яцтва, якія ў палку — не рэдкасць. Малако — бальзам, яно робіць здаровым дух і цела.

Сваіх аднапалчан Вілі лішне не папракае. Германія — сціснутая, галодная краіна. Большасць хлопчыкаў, што апранулі эсэсаўскія мундзіры,— з бедных сем’яў. Вось яны і хочуць з’есці, выпіць тое, чаго, жывучы на жабрацкіх пайках, не мелі раней.

Паказаўшы пернік, Гітлер павёў за сабой немцаў. Да самага таго дня, пакуль ён не захапіў уладу, у Германіі быў суцэльны кавардак. Мітынгі, дэманстрацыі, Рот фронт,— краіна

ляцела ў прорву. Тое, што пасеялі камуністы, дэмакраты, няхай цяпер жнуць. У гэтай бальшавіцкай Расіі таксама. Яшчэ калі Вілі хадзіў у гімназію, у старэйшыя класы, ён на нейкі час паддаўся бацькавым пропаведзям. У Расіі ўлада ў руках рабочых, сялян, там будуюць новае, вольнае жыццё для працоўнага чалавека.

Якое тут жыццё, Вілі пабачыў. Драўляныя хаціны, бездараж, гразь. Другая справа, што міф, выдуманы Адольфам Гітлерам, таксама дае трэшчыну. Вайна з Расіяй цягнецца два гады, а канца не відно.

Нягледзячы на згрызотлівыя думкі, Вілі налівае ў тэрмас, дзе яшчэ застаецца ўчарашняе кофе, малака, дастае з вядра — яно замяняе халадзільнік — загорнуты ў непрамакаемую паперу кавалак масла, робіць бутэрброды, добра, апетытна снедае.

## VI

З задуменным тварам, на якім блукае разгубленая ўсмешка, ідзе Вілі па мястэчку, перакідваючыся на хаду словамі прывітання са знаёмымі, якія, як і ён, на аперацыю не паедуць, бо іх абавязкі патрабуюць пастаяннага знаходжання на месцы.

Разам са службамі тыла і штаба на месцы застаюцца айнзацткаманды, якія выконваюць ролю чысцільшчыкаў. Не ўсе вёскі, паселішчы будуць знішчаны. Частка ўцалее, асабліва тыя, што ўсутык прылягаюць да нямецкіх гарнізонаў. Нельга да канца сячы сук, на якім сядзіш. Слаўныя салдаты вермахта гэтак жа, як часці СС, кормяцца не толькі тым, што атрымліваюць з вайсковых складаў. Мусяць рабіць нарыхтоўкі на месцы.

Вілі, шчыра кажучы, невысока ставіць віслапузых ахоўнікаў, прызваных з рэзерва, якія складаюць асноўную сілу тутэйшых гарнізонаў — усіх гэтых бухгалтараў, паштовых чыноўнікаў, гасцінічных парцье, на якіх вермахтаўскія мундзіры вісяць як сядло на карове. Сядзяць, нібы клапы, зашыўшыся ў шчыліны, таму распладзілі лясных бандытаў. Яны, вядома, штодня пішуць доўгія, чуллівыя лісты сваім

таўстазадым фраў, прадаюць тубыльцам іголкі, фарбу, каб прыбавіць да рацыёнаў лішні дзясятак яек, і чакаюць, як збавення, дня, калі змогуць вярнуцца ў мілы сэрцу фатэрлянд.

Зрэшты, і віслапузыя ахоўнікі, і яны, эсэсаўцы,— аднаго поля ягады.

Калі Вілі вучыўся ва ўніверсітэце, то чытаў розныя разумныя кнігі — нават рускіх: Талстога, Дастаеўскага. Там было напісана пра сумленне, ад якога пакутуе чалавек, калі пазбаўляе жыцця падобнага сабе самому. Несусветнае глупства! Настаўнікі чалавецтва або сарамліва закрывалі вочы на праўду, або свядома хлусілі. Ніякіх дакораў сумлення ніхто на вайне не адчувае. Вілі гэта можа пацвердзіць пад прысягай. Людзей штодня знішчаюць сотнямі, і гэта для большасці знаёмых Вілі — звычайная работа. Многія, у каго звярыны пачатак выступае выразней, выконваюць яе нават з асалодай.

Вілі схіляецца да думкі, што заўсёды так было. Хіба англічане, іспанцы, партугальцы, рынуўшыся пасля Калумба ў Амерыку, цацкаліся з індзейцамі? Адчувалі сябе вышэйшай цывілізацыяй і знішчалі ўсё, што ніжэй іх. Так было ў Афрыцы, у Азіі, ды і ў самой Еўропе не лепей было. Крыжаносцы, прыкрываючыся імем Бога, не былі хіба звычайнымі заваёўнікамі?

Ва ўсе вякі, эпохі быў разбой, моцны гнуў слабага, а пісьменнікі, якіх лічаць класікамі, навявалі чалавеку ружовыя сны. Таму Вілі іх не любіць і болей не чытае, хоць у бібліятэцы, якой ён распараджаецца, ёсць Гётэ, Шылер і іншыя геніі. Яны — манюкі, яны выдавалі ўласныя трызненні за праўду. Хлопчыкі з гітлерюгенда, якіх у дывізіі аж зашмат, наогул чыталі класікаў толькі па падручніках. Там усё як трэба, класікі там толькі хваляць вялікую Германію.

На вуліцы рух, гул матораў, матацыклетная траскатня. Батальёны, роты, каманды выбіраюцца на аперацыю. За танкеткамі, браневікамі цягнуцца абозы. Хоць дывізія матарызаваная, але абознікаў — тупых сялян, парабкаў — многа. Роты паляць паселішчы, ландскнехты забіраюць маёмасць. Грэюць, сволачы, на дармавым багацці рукі.

Вілі прыходзіць у штаб. Ён адчувае сябе вальней, калі канчаецца мітусня. Павітаўшыся з пісарамі, садзіцца за

машынку. З гісторыяй палка ён безнадзейна адстаў. Валтузіцца з мінулагоднімі польскімі справамі. Але рукі не падымаюцца, калі думаеш адно, а пішаш другое.

У абед Вілі заскаквае ў пакой фельдпошты.

— Табе няма,— знаёмы шарфюрар збянтэжаны.— Толькі ведаеш што, Вілі. Тым почыркам, якім пісала твая дзеўка, прыйшоў ліст штурмбанфюрару. Ну, гэтаму нашаму папу...

Вілі дрыжачымі пальцамі выцягвае з нагруднай кішэні канверт.

— Гэты почырк?

— Гэты, Вілі. Клянуся ўсімі святымі. Толькі ліст я аддаў. Сам ведаеш...

Вілі халадзее. Ад Хільды можна ўсяго чакаць. Хоць ён, калі быў дома, язык лішне не развязваў. Свет ашалеў, і людзі шалеюць. Нават тыя, хто сваімі вачамі не бачыць паскудства. Чатыры гады назад, калі Вілі ішоў на вайну, Хільда была цыбатай гімназісткай. Цяпер — мнагавопытная, прагная баба. Ён, вядома, спаў з ёю. Але, вярнуўшыся з урляўбу, лістоў не пісаў. Шлюхам пра пачуцці не пішуць. Іх будучыню нарачоная перакрэсліла сама.

А яна як з ланцуга сарвалася — ліст за лістам. Відаць, спадабаўся ёй у ложку. На ўсе пасланні Вілі адказаў коратка: «Лісты твае атрымаў».

Паабедаўшы, Вілі ідзе на кватэру, каб на адзіноце абдумаць становішча. У таполевым парку, які ўяўляецца раскошай для раскіданага драўлянага паселішча ён спатыкае хлопца, які ўчора прыходзіў слухаць радыё. Хлопец хоча прашмыгнуць міма, але Вілі яго запыняе:

— Прыходзь вечарам. Не бойся. Я буду адзін, і мы паслухаем песні.

Навошта ён запрашае сарамяжага юнака, Вілі не ведае. Але яму заўсёды было цікава паразмаўляць з рускімі. Яны ўсё ж загадкавыя. Як бы з зусім іншага свету.

У гэты час па дарожцы бяжыць Хельмут.

— Новага друга сабе знайшоў? — голас з’едлівы, насмешлівы.

— Не выскаляйся. Трэба ж мне ўдасканальваць рускую мову. Хлопец трохі разумее па-нямецку.

Прыйшоўшы ў хату, Вілі кладзецца на ложак. Нядобрае прадчуванне яшчэ ўладней агортвае душу «Што магла тая сцерва напісаць?» — думае ён, не знаходзячы адказу. Штурмбанфюрара Ляйбеля, які займае ў палку пасаду палітычнага афіцэра, Вілі не любіць, ды і той не выказвае да Вілі лішняй прыхільнасці. Адзіны чалавек, з якім ён не можа знайсці агульнай мовы.

Вілі падхопліваецца, надзяе мундзір.

На лавачцы сядзіць гаспадар хаты, з ім некалькі жанчын. Селянін на махнатым коніку вязе паўз двор воз зялёнай травы. З процілеглага двара, дзе размяшчаюцца абознікі, выскакваюць двое з закасанымі рукавамі. Вырываюць у селяніна вожкі, а той нават прыгінаецца, чакаючы, што яго будуць біць.

— Адставіць! — крычыць Вілі.— Тут не ваенная зона. Тут цывільнае насельніцтва.

Абознікі, рагочучы, бягуць назад у двор.

Тоўсты, з тоўстымі мокрымі губамі штурмбанфюрар Ляйбель выклікае Вілі да сябе, як толькі ён паяўляецца ў штабе. Сядзіць за сталом у адной нацельнай сарочцы. У кароткіх, парослых рудымі варсінкамі пальцах трымае канверт.

— Здзіўляюся, штурмфюрар Сташынскі. Нямецкія жанчыны не шкадуюць для нас нічога, а вам часу няма пісьмо напісаць. Нявеста хвалюецца за ваша жыццё, лічыць вас героем. Што я ёй адкажу? Трэба апраўдаць давер'е нявесты. Пойдзеце ў строй, збірайцеся. Дагоніце другі батальён.

Вілі казырае, стукае абцасамі. Тады штурмбанфюрар лагаднее:

— Падцёр бы я паперкай задніцу, Сташынскі. У асабістыя справы не ўмешваюся. Не толькі вас пасылаю — усіх, без каго штаб абыдзецца. Загад камандзіра. Штаты ў ротах запоўнены на дзве трэці, папаўнення няма. Дый карысна вам будзе праветрыцца. Лягчэй будзе пісаць тое, што пішаце.

На апошніх словах штурмбанфюрар Ляйбель зноў збіваецца на з'едлівы тон.

## VII

Эсэсаўскі грузавік падкідвае на выбоінах пыльнай дарогі. Следам калыбаюцца яшчэ два. Матацыклетнага суправаджэння няма. Сонца хіліцца к захаду. Праехалі першую анямелую, бязлюдную вёску.

Тое, што падграбаюць тылавікоў, штабістаў, кідаючы іх у строй, не навіна для Вілі. Такое было. Праўда, ён у сілкі не трапляў. Праносіла. Хельмута і цяпер не зацапалі. Казначэй, выходзіць, болей патрэбны, чым Вілі, культурнік-арганізатар і звышштатны летапісец палка.

На трох машынах — паўсотня пісараў, сувязістаў, каптэнармусаў, салдат аховы штаба. Перавесіўшы цераз шыю аўтаматы, сядзяць прыціхлыя, пакорлівыя. Некаторыя, мабыць, першы раз.

У другім, больш прывабным на выгляд паселішчы расхаджваюць эсэсаўцы з айнзацткаманды. Палення тут не прадбачыцца.

Мясцовасць, якую праязджаюць, нагадвае Вілі ваколіцы сталіцы райха. Такія ж кусты, пералескі, роўнядзь, толькі няма азёраў. Балоты тут сухія, на іх пракапаны канавы. Нізкага ляснога краю Вілі не любіць. Ён вырас у другім свеце — у ціхім, распластаным на пагорках гарадку ля падножжа Судэтаў. Добра было ў гарадку канчаць гімназію. На плошчы стаяў бронзавы кароль на ўздыбленым кані. Узнятай рукой, якая трымала меч, кароль некуды клікаў. Куды? Відаць, на вайну. Вілі тады гэтага не разумеў. Нават факельныя шэсці ноччу, якімі адзначаліся нацысцкія святы, здаваліся прывабнай рамантыкай.

Ён любіў сядзець на абымшэлым каменні старой, гусіцкай крэпасці. Можа, яго продкі і ёсць гусіты? Але дзед, бацька былі немцы, глядзелі на свет па-нямецку. Столькі вады сплыло!..

З крэпасці адкрываўся вачам прыгожы краявід. Такія ж, як іхні, белыя гарадкі, дагледжаныя квадрацікі ніў, зрэдку дымілі фабрычныя трубы. На поўдні, укрытыя лясамі, віднеліся пакатыя схілы Судэцкіх гор. Нічога ў тых малюнках не прадвяшчала вайны.

Перад тым як паступіць ва ўніверсітэт, ён цэлае лета блукаў з гімназісткай Хільдай па начных вуліцах гарадка. Яны ўзбіраліся на каменны цокаль помніка каралю і цалаваліся. Пра што тады гаварылі? Мабыць, пра глупства. Цяпер Хільда на яго скардзіцца. Хоча пры ўсіх акалічнасцях мець яго за мужа.

Праязджаюць яшчэ дзве вёскі. Машыны ледзь не топяцца ў сыпучым пяску. Дзіўныя гэтыя рускія. Хаціны ў тутэйшых вёсках старыя, пахілыя, а школы новыя. Гаспадарчыя будынкі, якія належалі калгасам, таксама лепей дагледжаныя. Няўжо рускія дзяцей і кароў любілі болей, чым саміх сябе?

Мінуўшы бярозавы пералесак, машыны прыпыняюцца. Ого, тут пахне смаленым! Узбоч дарогі ляжыць, задраўшы колы, закураны бранявік, далей уткнуліся радыятарамі ў канаву два грузавікі. Машыны, відаць, падарваліся на партызанскіх мінах. Вілі глядзіць на спахмурнелыя твары каптэнармусаў, і яму робіцца весела. Бандыты ў лясным кутку ўсё-такі ёсць, дзянькі настануць гарачыя. Па праўдзе кажучы, сапраўдных партызан Вілі не сустракаў. Бачыў звычайных людзей, апранутых у сялянскія ці цывільныя вопраткі, якіх эсэсаўцы называлі бандытамі.

Сяло, у якое прыязджаюць, вялікае і раскіданае. Другі батальён тут. Прыпёртыя да парканаў, стаяць матацыклы, грузавікі, з двара ў двор, галёкаючы, бегаюць салдаты. Вілі ведае, што гледзячы на ноч паселішча не спаляць. Наадварот, усё будзе зроблена дзеля таго, каб паказаць мірныя намеры, пераманіць з лесу хоць частку жыхароў.

Вілі прыняў пад крыло знаёмы ротэнфюрар Бланк, якога звышштатны летапісец неаднаразова фатаграфаваў як героя. Бланк — дзяціна здаровы, рослы. Эсэсаўская зухаватасць у ім дзіўна спалучаецца з чуллівай сентыментальнасцю. Ротэнфюрар возіць з сабой аблезлую, лысаватую малпачку, даглядае, поіць малаком, як дзіцё. Калі Бланк за рулём, то Пітэр — так завуць малпачку — звычайна сядзіць на яго плячы, палохаючы сустрэчных…

Вілі напляваць на Бланка, на яго смярдзючага Пітэра, але ён рад, што прышвартаваўся ўдала. Магло быць горш.

Маглі даць у падначаленне дзясятак пісараў, каптэнармусаў, піхнуўшы паліць хаты і хлявы. А так ён вольная птушка. Бланк, мабыць, адчувае сябе мецэнатам: як-ніяк узяў пад абарону палкавога арганізатара культуры.

Павячэраўшы, Вілі ідзе спаць. Бланк заняў пад жыллё ахайную хату. Пухавікі, падушкі на месцы. На адным з пухавікоў Вілі ўлёгся, зняўшы толькі сурдут і боты. Начныя прыгоды яго не цікавяць.

Ноччу ён прачынаецца. Пакой залівае месячнае святло. З двара даносіцца гучны рогат. Рыпаюць адны, другія дзверы, чуецца грук каваных ботаў, і на парозе пакоя паўстаюць дзве голыя жаночыя постаці. Твараў разглядзець нельга, матавай белізной у святле месяца адлівае жаночае цела. Дзяўчаты ці жанчыны стаяць нерухома, ціснучыся адна да другой. З падаконніка гопае на падлогу Пітэр, і тады жанчыны, дзіка закрычаўшы, кідаюцца за дзверы. З суседняй бакоўкі выскаквае ў адных штанах Бланк, расчыняе акно, бэсціць каравульных.

Вілі, пакуль зноў засынае, качаецца з гадзіну. У тым, што зрабілі каравульныя, незвычайнага няма. Перш чым знішчыць затрыманых маладых жанчын, іх звычайна насільнічаюць. Эсэсаўцы прысылалі падарунак камандзіру і яму, Вілі.

## VIII

Вілі памыляўся, калі лічыў, што яму ўдалося заваяваць сярод эсэсаўцаў аўтаномнае становішча. Аб яго незвычайных паводзінах, сяды-тады кінутых слоўцах, якія ўказвалі на адмысловы, непадобны на той, якога трымаюцца астатнія, склад мыслення, відаць, дакладвалі куды трэба. Казначэй Хельмут нездарма не паехаў на аперацыю.

Вілі сам гэта разумее, як толькі прачынаецца. Тонам, які выключае ўсялякія пярэчанні, ротэнфюрар Бланк загадвае яму ўзначаліць каманду, вызначаную ахоўваць затрыманых жыхароў.

Паспешліва выпіўшы шклянку кофе, Вілі ідзе ў канец сяла да схаванага ў зялёніне старых ліп напаўразбуранага памешчыцкага дома. Акцыя фактычна пачалася. У цэнтры па-

селішча, дзе вуліцы, не даходзячы адна да другой, скрыжоўваюцца, ляжыць пясчаная плошча,— з левага боку яе — запушчаная царква, з правага — доўгі школьны будынак...

Абознікі зганяюць на плошчу кароў, свіней, авечак. Мяркуючы па колькасці двароў, жыўнасці захоплена няшмат.

«Піляцічы» — напісана на прыбітай да слупа фанерцы.

На адным з панадворкаў трое эсэсаўцаў катуюць старога. Прывязалі тэлефонным кабелем да шула. Дзед — вопратка даматканая, акрываўленая — проста вісіць на дроце. Але ўдары бізуноў, якія ліхаманкава на яго сыплюцца, зносіць маўкліва. Крычаць эсэсаўцы. Дапытваюцца наконт партызан.

«Як Ісуса Хрыста, распялі,— думае Вілі.— Рускія ідэалісты. З крывых хат захацелі ў рай. Таму і рэвалюцыю зрабілі. Думалі — калі знішчаць памешчыкаў, нябесная манна пасыплецца. Людзі Захаду на гэта ніколі не адважацца».

Вілі не раз бачыў такія катаванні. Многія рускія, нават маладыя, у каго наперадзе жыццё, з неверагоднай зацятасцю прымаюць пакуты. Ад гэтага страшна...

Калі Вілі падыходзіць да колішняга памешчыцкага дома, у якім новымі дошкамі забіты вокны і дзверы, эсэсаўцы сустракаюць яго рогатам.

— Як спалася, штурмфюрар? Ці не бачылі начных зданяў? Дарэмна не паверылі ў сон — здані прывабныя. Курт, пацвердзі.

— Заткніся, скаціна.

— Штурмфюрар, мабыць, не ведае, што начаваў у доме партызанскага атамана. А раней там жыў бургамістр. Яго жонка ўцякла з бандытамі.

— Тут усе бандыты. Асінае гняздо. Улады няма з восені.

Эсэсаўцы стаяць купкамі, перамаўляюцца, кураць. На дом, у які загнаны жыхары, не зважаюць.

Між тым да будынка падводзяць босых жанчын у старых брудных вопратках. Іх ловяць на агародах, якія мяжуюць з кустамі. Відаць, не церпіцца небаракам хоць адным вокам зірнуць на родныя гнёзды. Жанчыны заўсёды цікаўныя. Дорага яны сёння за сваю цікаўнасць заплацяць.

Цыганаваты эльзасец падносіць Вілі фляжку, і ён робіць некалькі глыткоў. Трунак моцны, аж дух зацінае. Мае, аднак, непрыемны пах.

— Мясцовы шнапс,— выскаляючыся, тлумачыць шарфюрар.— Знайшлі цэлы бачонак. Рускія, мабыць, рэцэпт пітва ў самога д'ябла пазычылі.

Вядуць новы гурт жанок, дзяцей, разам з імі акрываўленага старога, якога эсэсаўцы катавалі. Што ж, усё зразумела. Слядоў пасля сябе дывізія «Варшава» не пакідае. Ніякіх магіл, захаванняў! Трупы стануць попелам і дымам.

Дзень сонечны. Ад выпітага шнапсу кружыцца галава. Вілі, адышоўшыся, азірае ваколіцы сяла. Яны даволі прывабныя. Зялёная раўніна, акаймаваная з паўночнага боку падковай сіняватага лесу. Калі закрыць вочы, то такі краявід можна ўявіць у любой краіне, дзе Вілі за вайну пабываў, нават у самой Германіі. Розніца ў тым, што інакшыя паселішчы. Але ў славян яны, бадай, аднакія. Дрэва і дрэва. Каменных будынкаў мала.

З левага боку на даляглядзе падымаюцца шызыя дымы. Аперацыя разгортваецца. Яна працягнецца сама мала месяц, і дыму за гэты час Вілі наглытаецца ўдосталь. Праклятая вайна!..

Да будынка пад'язджае грузавік. З яго скідваюць каністры з бензінам. Запёртыя ў будынку нейкім чынам бачаць каністры, усчынаюць крык і лямант.

Енк ахвяр адмоўна дзейнічае на эсэсаўцаў, таму яны спяшаюцца. Вілі зусім не камандуе — сваю справу салдаты ведаюць лепей, чым ён. Подбегам, навыперадкі, яны абліваюць бензінам сцены, вуглы, стараючыся заняць як мага большую плошчу. Дом успыхвае, як агромністы касцёр. Полымя ахоплівае будынак адразу, перакідаецца на дах. Трашчаць, самі па сабе адрываючыся, носячыся ў паветры, палаючыя кавалкі струхлелага дрэва. Стаяць блізка ад пекла нават небяспечна.

Лямант у ахопленым агнём будынку проста невыносны, ён пераходзіць у суцэльнае, дзікае выццё. Слухаць яго немагчыма, гэта вышэй чалавечых сіл. Ад такой музыкі можна звар'яцець. Салдаты, каб заглушыць чалавечы крык, безупынна трашчаць з аўтаматаў. Вілі таксама страляе.

Праз гадзіну ўсё скончана. З двух бакоў займаецца агнём сяло. Сонца не відаць. Неба не відаць. Навакол толькі агонь і

дым. Вілі адчувае, як спадыспаду душы ўздымаецца штосьці дзікае, буйнае. Цяпер зусім не страшна калоць, рэзаць, біць, нішчыць жывое. Відаць, так адчувалі сябе старажытныя германцы...

## IX

Калі з прыдарожных кустоў зусім нечакана для ўзвода пачынаюць секчы кулямётныя чэргі, Вілі адчувае адчайны страх. Ён падае на зямлю, як падаюць усе, хто ідзе ў суседнюю вёску, што зелянее наперадзе прысадамі. «Засада!» — мільгае ва ўзбуджанай галаве Вілі.

Недарэчнае становішча, пастка. Паўгадзіны назад па прасёлку прамчалі матацыклісты, праехаў бронетранспарцёр. Бандыты іх не зачапілі.

Стрэлы між тым нарастаюць. На дарозе грымяць выбухі. Бандыты закідваюць узвод гранатамі.

Вілі, ціснучыся да зямлі, спаўзае ў канаву, у ліпкую балотную гразь. Яго абсыпае камякамі чорнай зямлі.

Бандыты галавы не даюць падняць. Вілі і страляць няма чым. Аўтамат разам з фотаапаратам згубіў. Але чаму другія маўчаць? Трыццаць чалавек было ва ўзводзе. Націск нечаканы, шалёны. Няўжо ўсе забіты?

За два крокі раздаецца чужая, узбуджаная гаворка. Нехта пераскаквае канаву. Рэжа слых адчайны крык і ўслед за ім стрэл. Яшчэ некалькі крыкаў і стрэлаў. «Божа,— моліцца Вілі.— Выратуй мяне. Ты бачыш: чужой смерці я не хацеў. Ніколі не страляў. За сённяшняе даруй — прымусілі. Будзь справядлівы, Божа!..»

Вілі ляжыць нічком. Прыкідваецца мёртвым. Як збавенне, чуе некалькі аўтаматных чэргаў. Страляюць з-за канавы, з балота. Але зноў бухаюць стрэлы, ірвуць зямлю гранаты, і праз некалькі імгненняў усё сціхае.

Вілі пераварочваецца, расплюшчвае вочы. Над ім ціхае сіняе неба. Плывуць лёгкія белыя аблачынкі. У тую ж хвіліну Вілі нямее ад жаху. Па канаве, падкідваючы зад, імчыць штосьці бруднае, агіднае. Вось яно дасягае Вілі, узбіраецца на грудзі, вішчыць, лашчыцца. «Мая смерць прыйшла»,— думае

Вілі, бачачы на сабе запэцканага ў гразь Пітэра, а над сабой, па абодва бакі канавы, хмурыя постаці. Партызаны ў лазовых лапцях, у звычайных сялянскіх вопратках. Трымаючы наперавес вінтоўкі, яны маўкліва глядзяць на Вілі.

— Вылазь, фашыст! — гаворыць адзін з іх, бялявы, без шапкі, бадай, адных з Вілі гадоў.

Вілі выбіраецца з канавы. Ён цяпер зусім спакойны і, разумеючы, што настала апошняя хвіліна яго жыцця, адчувае няёмкасць за тое, што брудны, запэцканы ў гразь, зусім не падобны на салдата.

— Быў там? — хлопец паказвае рукой на сяло, ад якога яшчэ падымаюцца слупы шызага дыму.

Вілі ківае галавой.

Грыміць стрэл, і ў апошні свой міг бачыць Вілі зялёную раўніну, акаймаваную падковай сіняватага лесу,— мясцовасць, якую яму часта прыходзілася бачыць і на радзіме.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

Дзень трывожны: дымы вакол мястэчка падымаюцца ў розных напрамках. Старшы ляснічы Лагута па размяшчэнні дымоў амаль зрокава бачыць вёскі, якія гараць. З паўночнага боку — Мохава, Піляцічы, Пажыць, Літвінава, з заходняга — суседні з мястэчкам лясны хутар Лубы і Нехамава Слабада, з поўдня — Кабылкавічы, Буднае.

Настрой у Лагуты адчайны. Стары дурань, жыццё пражыў, а розуму не набраўся. Заняць цяперашнюю пасаду прымусілі абставіны. Але навошта ён знюхаўся з немцамі, наладжваў выпіўкі, пагулянкі? Людзі бачылі яго хаўрус, вочы ім не завяжаш. Цяпер ён прапаў...

«Праклятае жыццё,— думае Лагута.— Круціць, верціць чалавекам, як у віры, і, куды яно ляціць, не разгадаеш».

Ён паставіў не на тую кабылку. Ніякія немцы не гаспадары, бо хто, калі мае хоць трохі розуму, будзе так бязлітасна

паліць, нішчыць дабро, якое нажывалася вякамі. Нават унукі, праўнукі тых, хто сёння гарыць у агні, не даруюць фашыстам. Яны тут не астануцца, бо паднялі руку не на партызан, якія ўзрываюць рэйкі, цягнікі, а на народ.

У Лагуты вынікае лютая сварка з жонкай. Навокал пажары, трывога, а яна развесіла ў садзе гамак, распранулася ледзь не дагала, гойдаецца, сцерва, і яшчэ цыгарэткай пыхкае.

— Аглабліна! — раве раз'юшаны Лагута.— Знайшла час паганяць панства! Каму свае маслы выставіла? Не бачыш, што робіцца?..

Збянтэжаная жонка мігам вывальваецца з гамака, паспешліва апранаецца.

— Чаго раскрычаўся? Цябе ж не чапаюць.

— Зачэпяць. Не гэтыя, дык другія. Твая заслуга тожа ёсць. Усё мала табе. Увесь свет гатова падгрэбці. Нашто было столькі сеяць? Бяседы табе трэба былі, пагулянкі. Пачакай, вылезе бокам!..

— Хіба цябе звальняюць?

— Дурніца! Дылда праклятая! Няўжо нічога не бачыш? Каб з заўтрашняга дня служанак у доме духу не было. Дзеці цябе абсыпалі, супу на дзве душы не зварыш?

Лагута разумее, што крычыць дарэмна — найболей вінаваты сам. Жонку, каб меў розум, можна было даўно прыструніць.

У Крамеравым доме сыходзяцца самыя блізкія людзі — старшы ляснічы Лагута, мясцовы ляснічы Багавік, млынар Забела. Зменшылася кола бургамістравых сяброў, павузела. З таго часу як драпануў у лес Лубан і астатнія, многія з мясцовых начальнікаў, якія раней набіваліся на дружбу, пазашываліся ў норы. Па службе ў кабінет прыходзяць, марочаць галаву гадзінамі, але шчырасці ў іх гаворцы бургамістр не чуе. Ён зусім не здзівіцца, калі ўслед за Лубанам пабягуць прасіць літасці ў партызан некаторыя іншыя.

Унутраная незадаволенасць сабой, акружаючым — такім жыццём жыве Аўгуст Эрнэставіч хутка два гады — дасягнула асаблівай вастрыні.

Аўгуст Эрнэставіч разумее, што чалавек у віры вайны сабе не гаспадар, яго кідае, носіць, як сухое лісце на ветры.

Нават у яго, бургамістра, няма фактычна ніякай улады. Ён хацеў, каб людзі жылі мірна, ціха, а льюцца рэкі крыві, стараўся, каб не было галодных, разутых, раздзетых, а раён паліцца, вынішчаецца нашчэнт. Яго сябры-прыяцелі па няшчасцю, што сабраліся цяпер у яго доме, усяго не ведаюць, ён ведае болей. У раёне было шэсцьдзясят вёсак, сёл. Добра, калі астанецца хоць некалькі. За леташні і сёлетні год спалена, расстрэлена сама мала пяць тысяч — чацвёртая частка ўсяго насельніцтва. У адных Кабылкавічах — сяле, за якое ён не баяўся, бо ляжыць пры шашы, немцы там штодня бываюць,— згарэла ўчора болей за тысячу... Хто, калі такое даруе? Пройдзе дваццаць, трыццаць гадоў, пакуль падымуць спаленыя сёлы, а мёртвых ніхто не падыме. Прозвішча яго, Крамера, будзе вісець над тутэйшым людам, нават над тымі, хто народзіцца пазней, як праклящце, ім будуць палохаць дзяцей. А хіба ён вінаваты? Хіба не крычаў, дзе можна, што ў такой страшнай вайне нельга гуляць з агнём. Немцы, мабыць, проста прыклёпу шукаюць. Хочуць знішчыць народ.

Немцы прайграюць вайну. Цяпер ён, Крамер, у іх перамогу не верыць. Дый які свет пабудуюць яны, калі нават удасца адолець рускіх? Яны хваляцца, што Расія адстала ад Германіі на сто гадоў, прыводзяць, як прыклад, тутэйшую бездараж, драўляныя хаты, неахайную вопратку. Ён асабіста лічыць, што Германія адстала ў чымсьці другім, больш важным, чым дарогі і хаты. Паліць дзяцей, жанчын, старых рускія ні пры якіх умовах — нават калі б ляцела ў прорву іх дзяржава — не будуць. Ён можа сказаць гэта пэўна. Каменная, разбудаваная заводамі, гарадамі Германія страціла павагу да чалавека. Але калі немцы будуць адступаць, ён паедзе з імі. Інакшага выбару ў яго няма. Ён — немец, над ім, як над усімі немцамі, вісіць праклящце...

Тыя, што сабраліся ў Крамеравым доме, ніколі не забудуць позірку, якім абводзіць іх у гэты страшны дзень гаспадар. Гэта вочы чалавека, які развітваецца з жыццём. Крамераў твар палагаднеў, на ім як бы ляжыць адзнака спакою, усёдаравання, разумення ўсяго, што дзеецца ў шалёным, ахопленым вайной свеце. Запалыя ад бяссонніцы вочы выпраменьваюць дабрату, спагаду, і ў той жа час свеціцца ў іх невымерны сум.

Бургамістр дастае з шафы графін з настойкай, прыносіць шклянкі, відэльцы, талерку з дробна нарэзанымі кавалачкамі сухой каўбасы.

— Вып'ем, панове. Можа, не так многа часу нам засталося, каб збірацца.— Крамер налівае кожнаму па палавіне шклянкі, п'е сам, абцірае тыльным бокам далоні губы.— Даруйце мне, калі што не так. Карабель, якім без маёй волі паставілі мяне кіраваць, пайшоў на дно. Цяпер ніякі я не капітан...

Узрушаныя незвычайнасцю моманту і самога тону бургамістравай гаворкі прысутныя стоена маўчаць.

— Раёна няма,— працягвае бургамістр.— Няма болей вёсак, лясніцтваў, млыноў, валасцей, школ. Няма кім кіраваць. Аднаўляць тут усё будзем не мы, а другія людзі. Нас яны абвінавацяць. Яны ўзрывалі паязды, шкодзілі немцам, а мы ім памагалі.

Усеагульнае панылае маўчанне парушае Забела:

— Як так можна, Аўгуст Эрнэставіч? Хіба народ не разумее дабра? Улада мяняецца, а людзі застаюцца. Хай таму язык адваліцца, хто скажа пра вас дрэннае слова.

— Пачакайце, Панас Дзянісавіч. Дайце скончыць мне. Калі пойдуць адсюль немцы, улада будзе слухаць не нас з вамі, а партызан. Яны, калі хочаце ведаць, заслужылі, каб іх слухалі. Раней я іх не разумеў, а цяпер разумею. Партызаны ненавідзяць немцаў і не могуць сваёй нянавісці стрымаць. Як раззлаваны да бяспамяцтва чалавек не можа не ўдарыць другога чалавека. Вот і ўся мудрасць. Раней я так думаў: тут мірнае насельніцтва, фронт далёка, калі партызаны такія смелыя, няхай прабіраюцца на фронт. Але так не можа быць. Нікуды партызаны ад вёсак сваіх, сем'яў не пойдуць. Цяпер раён спалілі, вынішчылі, але ўсё адно яны будуць дзейнічаць.

Ляснічыя Лагута, Багавік разгублены. Нібыта сам бургамістр іх у лес заклікае. Столькі крычаў, пагражаў партызанам карамі, а цяпер — задні ход. Трохі апомніўшыся, Лагута пытае:

— Што, Аўгуст Эрнэставіч, і нам зрабіць, як Лубан?

— Што вы, Пятро Пятровіч. Я не пра тое. Сам у партызана не перахрышчуся і вам не раю. Я пра вайну. Яна не можа быць на свеце заўсёды. У вайну людзі шалеюць. Перастаюць

быць людзьмі. Вы крывёй рукі не запэцкалі, вас бальшавікі, можа, не абвінавацяць. А мая песня спета. Мне палення, знішчэння не даруюць, бо бургамістр у адказе за ўсё. Я толькі аб адным прашу: калі будуць пра мяне пытаць, скажыце, што Крамер хацеў, каб і ў вайну людзі заставаліся людзьмі. Памыляўся, думаў, рабіў не так, як трэба, але сумленнем не крывіў. Людзі ап'янены вайной, сваімі крыўдамі, нягодамі і не хутка гэта зразумеюць. Але калі-небудзь дойдуць. Не можа быць, каб вінавацілі чалавека за тое, што сярод суцэльнага бруду, крыві, свінства хацеў заставацца чалавекам і чым мог памагаў другім.

Нясkладная, доўгая постаць Крамера, яго апушчаныя плечы, змізарнелы твар, тым не меней, дышуць нейкай унутранай сілай, гатоўнасцю перанесці горшае, і, адчуўшы гэта, прысутныя самі спакайнеюць душой.

Што павінна быць, тое будзе, ад яго не ўхілішся...

## II

Аўгуст Эрнэставіч цяпер не баіцца бяссонніцы. Ноч — якраз тая жаданая пара, калі ён застаецца сам-насам і як бы яшчэ раз, ацэньваючы кожную дробязь, вандруе па пройдзеных дарогах.

Заліты сонцам дзень. Ён з бацькам выбіраецца касіць. Хоць бацька механік (на заводзіку, дзе працуе, адліваюць тратуарныя пліты, печкі-самагрэйкі, скавародкі), але карову трымае. Іх дамок у прадмесці, сюды са станцыі даносяцца гудкі паравозаў, але найболей чуваць, як кудахчуць куры, рохкаюць свінні, як вечарам і раніцай мычаць каровы.

На самы гарачы летні месяц бацька бярэ водпуск. Лес — недалёка. Але дарога да яго — якія-небудзь тры вярсты — нялёгкая для Аўгуста Эрнэставіча. Яго, шаснаццацігадовага хлопца, калі толькі ідзе да лесу, ахоплівае незвычайная млявасць. Страшэнна прывабнымі здаюцца прыдарожныя кусты, мяккая зялёная трава, цянёк. Кінуцца б на дол, закрыць вочы, хоць хвілінку паляжаць.

Бацька разумее сына, але нават кароткага спачыну не дае.

— Ніколі не патурай першаму жаданню,— павучае ён.— Паляжыш хвіліну, а прападзе дзень. Сіла вернецца ў рабоце.

Бацька праўду гаворыць. Цяжкія толькі першыя пракосы. Потым цела наліваецца пругкай дужасцю, млявасць знікае, можна махаць і махаць касой да бясконцасці. У сто разоў прыемней адпачынак пасля напружанага дня, калі гудуць ад стомы рукі, ногі, але такая светлая і ясная галава.

У кірмашовыя дні на базарнай плошчы як грыбы вырастаюць балаганы. Фокуснікі ў высокіх каўпаках, пярэстых вопратках, з размаляванымі тварамі глытаюць агонь, ядуць шкло, выцягваючы пасля з рота доўгія markнакаляровыя стужкі. Марская свінка, падобная на вялікую белую мыш, раздае білецікі на шчасце — кінь толькі ў бляшанку, якую трымае гаспадар, пятак. Распатланая, босая цыганка па картах ці па руцэ ўгадае будучы лёс — не пашкадуй пятачка. За пятак можна тры разы стрэліць у размаляванага чырвона-чорнага турка, які ліхаманкава круціцца па кругу, і калі пападзеш, выйгрыш у дзесяць разоў большы, чым трата.

— Глупства,— гаворыць бацька.— Не вер шарлатанам. Калі яны такія разумныя, няхай угадаюць, дзе закапаны скарб, адкапаюць, купяць сабе новыя штаны...

У бацькі ёсць брат, ён хоча набыць новы дамок. І ў старым можна жыць, але гаспадар новага пераязджае ў іншае месца, таму вельмі затанна прадае. У бацькі на чорны дзень сёе-тое прыхавана. Брат просіць грошай...

— Пазычым? — нерашуча пытае маці.

Бацька пярэчыць:

— Не пасвары мяне з братам. Ён зарабляе на адно пражыццё. Пазыкі не верне. Давай проста дадзім яму...

Кожнага чалавека можна зразумець, паставіўшы сябе на яго месца. Чаму ён доўга не разумеў партызан і тых, хто нават у мястэчку шкодзіць немцам? Таму што сам немец. Нейкай шрубачкі ў душы не стае. У мясцовых людзях жыве пачуццё Радзімы. Яно магутнае, усеўладнае, калі здольна павесці на велізарныя ахвяры. Які высокі, нязломны дух у народа! Партызаны рвуць рэйкі, скідаюць пад адхон цягнікі, забіваюць немцаў, але ж яны кідаюць выклік самому д'яблу. Помсцячы, немцы наносяць раны ў сто разоў цяжэйшыя. Спустошаная зямля, тысячы загубленых жыццяў... Які другі народ здольны на такую ахвяру? Хто другі адважыцца заплаціць па такому высокаму рахунку?..

У развагах аб усім, што датычыць цяперашняга становішча, Аўгуст Эрнэставіч пераносіцца думкамі ў першы год вайны, калі яму зусім лёгка ўдалося развеяць пакінуты партызанскі атрад. Тых першых партызан падбіралі па спісках, па анкетах, пачуццё помсты і ў іх душы не наспела. Дый па анкеце ніколі нельга ведаць чалавека. Тут далі маху. З раёна забраны трактары, машыны. Коней, кароў калгасы пагналі на ўсход. Аднак хлеба сабе сяляне нарабілі. Рыдлёўкамі капаюць зямлю, а ніводны кавалак не пустуе.

З тутэйшым сялянствам немцы павялі сябе брыдка, і гэтым сабе нашкодзілі. Колькі ён, Крамер, даказваў тупагаловым немцам-аграномам, што пастаўкі трэба зменшыць, што вёска знясілена і лёгка можа ўспыхнуць нездавальненне! Калі селянін здаваў раней хлеб, дык хоць ведаў, што там, у другім месцы, будуюцца гарады, заводы, вучацца яго дзеці, якія пражывуць лягчэй і лепей, чым ён. А цяпер што? Нават пачатковыя школы баяліся разумнікі адчыняць. Піхалі дзяўчат, хлопцаў, якія паканчалі дзесяцігодкі, у Германію, да баўэраў. Адчынілі дзверы ў жыццё. Дурнота, суцэльная дурнота!..

Аўгуст Эрнэставіч нібы зрокава бачыць вёскі, сёлы, ад якіх не засталося нізвання. За час службы ў леспрамгасе аб'ездзіў іх, начаваў, частаваўся, меў з людзьмі шчырую гаворку. Харошы ў тых вёсках жыў народ. Машына па бездарожжы буксуе, па самы дыфер залазіць у гразь — хоць ноччу каму пастукай у акно — выйдзе, пасобіць. Як тыя людзі, калі хто астаўся жывы, успамінаюць яго, леспрамгасаўскага прыёмшчыка?..

Калі зусім няма сну, Аўгуст Эрнэставіч выбіраецца на двор, прымошчваецца на лавачцы. Падоўгу сядзіць, думае. Раз-пораз то ў мястэчку, то на чыгунцы страляюць, пускаюць у неба ракеты. На зямлі неспакойна, бруд, кроў, а неба ціхае, вечнае. Блішчаць на ім вялікія і малыя зоркі, і праз увесь цёмна-сіні купал пралягае срабрыстая дарога. Млечны Шлях... Аўгуст Эрнэставіч ведае, што кожная зорка — асобнае сонца, а вакол яго кружаць патухшыя, меншыя сонцы, падобныя на Зямлю. Такое вялікае, агромністае неба, і так цесна, няўтульна людзям на малой Зямлі...

III

Чатыры дні з мястэчка відаць, як над вакольнымі лясамі ўздымаюцца дымы. Неба чыстае, светлае, і дымы здалёк нагадваюць воблакі. Толькі стаяць гэтыя воблакі нерухома, узнікаючы ў новых і новых месцах.

У мястэчка, а найбольш у дзяржаўны маёнтак Росіца — так называюць цяпер саўгас — эсэсаўцы-абознікі прыганяюць гурты кароў, чароды свіней. Пра насельніцтва не чуваць. Дарогі закрыты, і нават паліцэйскія не вытыркаюць з мястэчка носа.

З адной толькі вёскі — яна называецца Лес і размешчана ў суседнім раёне, па правы бок ад чыгункі-аднапуткі на Хвойнае — прыгналі на станцыю запыленых, змардаваных вяскоўцаў. Тут яны сем'ямі — мужчыны, жанчыны, старыя, дзеці. Выгнаннікаў з чайнікамі, клункамі грузяць у эшалон.

У апусцелым доме Мікалая Мікалаевіча жыве піляціцкі бургамістр Спаткай. Відаць, ён нідзе не працуе, бо цэлы дзень сноўдаецца з кута ў кут па двары. Ёсць у бургамістра сын (служыць у паліцыі), такі ж высокі, трохі прыгорблены. Малады Спаткай нядаўна ажаніўся, прывёўшы ў дом чарнявую, даволі прыгожую дзяўчыну. Відаць, маладая жонка лічыць, што за мужам-паліцэйскім яна як за каменнай сцяной. Бо чым другім вытлумачыць, што яна просіць эсэсаўца пакатаць на матацыкле. Той згаджаецца, выскаляецца, падміргвае сябрам. Цуг матацыклістаў — іх больш дзесяці — з вуліцы імчыць за ваколіцу. Дамоў бургамістрава нявестка прыпаўзае на карачках...

Міца па-ранейшаму жыве ў суседкі. Маці прыносіць есці, пра кватарантаў кепскага не гаворыць. Яна як бы нават задаволена, што пастаяльцы паліць вёсак не паехалі.

Наступнай раніцай маці прыбягае са спалатнелым тварам. Расказвае, а сама дрыжыць:

— Яны баб пастралялі. Прывезлі ўчора вечарам з Кавенек. Поўны кузаў. Бабы ў шэрых світах, хустках-канаплянках. Яшчэ адзеліся, бедныя, думалі — іх проста забралі. Ноччу эсэсы ўсталі, пабралі ружжы... Уранні прыносяць бярэмя світ...

Міця ведае — тых, каго прывозяць з вёсак, расстрэльваюць ля мылаварні. Стаіць паблізу могілак хмурая, з забітымі вокнамі будыніна, якую ахоўваюць паліцэйскія. Для вяскоўцаў нават каталажкі шкадуюць — піхаюць туды. Расстрэльваюць эсэсаўцы ноччу, трупы кідаюць у катлаван.

На світанні Мар'я будзіць Міцю.

— Таго немца, што даваў радзіва слухаць, забітага прывезлі. На двары пераадзелі, у гроб паклалі. Мундзір новы дасталі з чамадана. Той, што на ім, увесь у гразі. Цяпер у Арцёмавай хаце нікога няма. Мабыць, хаваць паехалі, каб яны паехалі жыватамі.

Прабегчы бульбоўнік, якім аддзяляецца Мар'ін і братаў двор — адна хвіліна. У хаце сапраўды разруха — усё раскідана, разбэрсана. Пры ложку, на якім спаў немец, стаіць табурэтка, на ёй — стус газет, часопісаў, пад імі штосьці накшталт планшэткі, толькі без раменьчыка. Планшэтку Міця піхае за пазуху, бярэ два часопісы. Няўжо тыя, што засталіся жывымі, будуць падлічваць рэчы нябожчыка?..

## IV

Дамачоўцы спасавалі. Пасля нечакана ўдалай засады, якую правялі адзін іхні і Бацькавіцкі атрады, знішчыўшы эсэсаўскі ўзвод (у вусным рапарце аб гэтым дакладвалася як аб разгроме роты), можна было спадзявацца на лепшае. Была магчымасць, зачапіўшыся за рог лесу каля Разводаў, затрымаць эсэсаўцаў да ночы.

Але паўтарылася тое, што было пад Альховам. Не хапіла вытрымкі. Убачыўшы, што на Лужынецкім шляху танкеткі, бронетранспарцёры, ланцугі эсэсаўцаў, пачуўшы свіст, выбухі мін, войска Вакуленкі кінулася ў гушчар. Сёй-той па разу стрэліў, большасць нават стрэліць не паспела — ляцела на злом галавы, вырачыўшы ад страху вочы. Дарэмна насіўся на гнядым узмыленым кані Вакуленка, трымаючы ў выцягнутай руцэ наган, крычаў, пагражаў — ніхто яго не слухаў.

Але паспешлівы адыход дамачоўскіх атрадаў меў свой станоўчы бок для вынікаў бою, які вечарам таго ж дня разгарнуўся каля Лужынца. Эсэсаўскі полк, разгарнуўшы ў Раз-

водах баявыя парадкі і бачачы ўцёкі партызан, пільнасць, насцярожанасць страціў. Выслаўшы дазоры, ён у далейшым рухаўся па Лужынецкім шляху звычайнай калонай.

Гамяльчане і гарбылёўцы абарону пад Лужынцом пастроілі граматна.

Перад сялом лес як бы расступаецца, утвараючы разлеглы прасцяг. Сярэдзіну поля ўзбоч шляху партызаны пакінулі эсэсаўцам. Свае роты атрады размясцілі звілістым паўкругам па краях. На прыдатных узгорках Бондар насадзіў кулямётчыкаў, для знішчэння бронетранспарцёраў, танкетак выдзеліў рухомыя групы са звязкамі гранат, толавымі зарадамі.

Першымі прамчалі матацыклісты-дазорныя. Партызаны ні адзіным стрэлам не азваліся. Сонца хіліцца к захаду. Цішыня. Нібы вымерла поле, парослае высокім жытам.

Калі эсэсаўская калона дасягнула сярэдзіны поля, па ёй з трох бакоў ударылі кулямёты. Густымі, бязладнымі вінтовачнымі залпамі забухалі замаскаваныя ланцугі.

Панёсшы страты, эсэсаўцы сталі разбягацца па жыце. Праз некалькі хвілін яны абрынулі на партызан шквал агню. У адзін суцэльны гул злілася аўтаматная траскатня, лопанне мін, бумканне буйнакаліберных кулямётаў. Але эсэсаўскі агонь беспрыцэльны, шкоды партызанам не прыносіць.

Тым часам пачынае цямнець. Эсэсаўцы ляжаць. Адна з танкетак — яны, нібы краты, стаіліся ў жыце — раптам ахуталася чорным дымам. Лубан пастараўся — падсунуў фугас. Дзве другія даюць задні ход. Можа, эсэсаўцы думаюць, што ў партызан ёсць артылерыя. Няхай думаюць.

Кулямётнымі чэргамі падпалены дзве крайнія хаты ў Лужынцы. Відовішча злавеснае: цёмны лес, цёмнае поле і асветленая полымем пустая вуліца...

Эсэсаўцы адступілі. Апоўначы падышоў з атрадамі Вакуленка. Пад полагам цемені кіпіць ліхаманкавая работа. Падпіленыя, падсечаныя, кладуцца на шлях выносныя сосны. Міны ставяцца, дзе толькі можна. Мінёры закопваюць толавыя пакункі нават па жыце.

Новы бой пачынаецца а другой палавіне дня. Сабраўшы ў кулак усё, што ёсць у наваколлі, эсэсаўцы накідваюцца з большымі сіламі. Зноў да ночы грыміць бой...

План удаўся. Эсэсаўцы на прыманку клюнулі.

Ноччу, пабраўшы забітых, параненых, партызаны адыходзяць.

За Лужынцом да самай Бярэзіны — суцэльныя лясы. Паселішчаў мала. Цэлы тыдзень ідзе валтузня. Партызаны наскакваюць ноччу, абстрэльваюць дазоры, нападаюць на абозы. Уцягнуўшыся ў безвыніковую пагоню за партызанамі, эсэсаўскі полк траціць час. А палавіна Літвінаўшчыны — калыска мясцовай партызаншчыны — цэлая. Саўгасны пасёлак Літвінава, вёскі Пажыць, Зялёная Буда, як і шэраг іншых, эсэсаўцы паспелі спаліць...

## V

Нібы хаваюць прыдарожныя сосны пад задумлівымі шатамі ўспамін аб крывавых былях.

Вынішчаны край. Гаротная зямля. Хто яе не таптаў, не руйнаваў гарады, вёскі, пракладваючы па зялёнай раўніне заваёўніцкія шляхі...

Нерухомыя дымы перамяшчаюцца за Прыпяць. На Літвінаўшчыне — спакойна. У Мохаўскім, Разводаўскім, Лужынецкім, Зялёнабудаўскім сельсаветах — ніводнай цэлай хаты. Там, дзе былі Піляцічы,— журботна пазіраюць у летняе неба закураныя каміны, калодзежныя жураўлі. Лісце на дрэвах скурчанае, чорнае.

На папялішчах корпаюцца вяскоўцы. Хто знойдзе тапор, чыгун, пакарэжаны агнём чайнік, хто — цвік.

Лета харошае стаіць. Дні ясныя, поўныя цеплыні, ласкавасці. Ідуць кароткія дажджы — пасля іх цякуць раўчукі, у калдобінах збіраецца вада. Азіміна, ярына буяюць. Такое ўраджайнае лета было ў той год, калі пачалася вайна.

Ночы — зорныя, ціхія. У лесе спяваюць пеўні, брэшуць сабакі. Жыццё цяпер — у лесе.

З балацянак наплываюць на лес туманы. Густыя, шчыльныя — не ўбачыш цяпельца ля суседняга будана. Звіняць камары. У куранях надрыўна кашляюць дзеці. Цяжэй, чым каму ў клятыя гэтыя дні,— жанкам ды дзецям.

Няхай не забудзецца добрае чалавечае слова. Яно трымае пагарэльцаў на свеце. Не толькі палітрукі, камісары вядуць агітацыю, а ўсе, хто носіць за плячамі вінтоўку.

Вакуленка асіп — збірае мітынгі ў кожным лясным стойбішчы.

— Бабы, не бядуйце!.. Самае страшнае — ззаду. З голаду не памром. Сабраць ураджай паможам мы, парцізаны. Фронт надзейна стаіць. Савецкая ўласць вернецца, і будуць новыя хаты. Галоўнае — жывыя асталіся...

Некаторыя з жанок выціраюць ражкамі хустак здрадлівую слязіну.

## VI

Неба высокае, сіняе, рэдкія белыя аблачынкі на ім — нібы статак дзікіх гусей. Трава па пояс. Без канца-краю наўкруг калышацца травяное мора. Сям-там вылеціць з яго кнігаўка, блісне на сонцы рдзяным чорна-белым крылом, трывожна кігікне. Ахутаныя мроівам дрыжачай смугі, віднеюцца ўдалечыні надзьмутыя шары лазнякоў, прысадзістыя стажкі леташняга сена.

Ціха, глуха на Літвінаўскіх балотах. Толькі з правага боку, дзе ледзь прыкметна шарэюць на даляглядзе саламяныя стрэхі Лазавіцы, нехта як бы варушыцца. Мільгануць і адразу знікнуць дзве ці тры белыя хусткі.

Яўтушык косіць. Вінтоўку, торбачку з акрайцам хлеба, бутэлькай малака схаваў пад траву, верхнюю сарочку зняў. Трава густая, сеянка — касы не ўбіць. Але Яўтушык пачаў па расе, паспеў увайсці ў смак. Лёгкі вецер прыемна абдзімае твар. Жых-жах, жых-жах!.. Ногі шырока расстаўлены, калі азірнуцца назад, відаць дзве роўныя вытаптаныя паласы.

Яшчэ ўчора звечара адпрасіўся Яўтушык у Якубоўскага. Літоўку адкляпаў, мянташка з сабой. Хоць стачылася мянташка — каменнай прыварkі на мезенец. На ўсялякі выпадак ён узяў брусок, якім вострыць сякеру.

На другі год пайшло, як нудзіцца Яўтушык па дзеле. Пакасіць, пахадзіць за плугам, падзяржаць цэп выпадае пры-

хваткам. Работа, як зайцаў сон пад кустом — адно вока прыплюшчана, другое глядзіць.

У калгасе Яўтушык пасад не займаў, рабіў, што загадаюць. На мужчынскай сіле дзяржаўся калгас. Касіць выходзіла трыццаць мужыкоў. Ён любіць касавіцу за тлум, мнагалюддзе, вострыі, п'янкі пах прывялай травы, які ўсю кароткую ноч дурманіць галаву. Непагана зажыла вёска пры калгасе. Можа, не так сыта, як весела. Хлеба на працадні прыпадала мала, затое прывазілі ў двары вялізныя кашы бульбы. Пудоў па трыста. Грошыараблялі зімой, тралюючы лес. Плаціў леспрамгас. Выганіш, бывала, за месяц пяцьсот чыстых, калгасу толькі за коней адлічвалі.

Яўтушыку было па сэрцы калгаснае жыццё духам людской злучанасці, дружнасці. Страху за заўтрашні дзень не было. А як святкавала сяло! Тры дні Май, тры — Кастрычнік, пробны выезд у поле, першая баразна, зажынкі, Чырвоны абоз, выстаўка ў раёне. Дый старых свят не прапускалі. Багацця не гомцілі, жылі як людзі. Проста гудзела Лазавіца ад песень. Дый навошта багацце, калі сям'я не галодная, дзеці ходзяць у школу. Сам, калі ёсць ахвота,— можаш падавацца ў горад, можаш — на чыгунку. Ні ў горад, ні на чыгунку Яўтушык не хацеў. Наогул, у Лазавіцы было мала адыходнікаў. Які дурань прамяняе сяло на беганіну па часах. Вёска — шэсцьдзясят двароў, як хто робіць — сляпому відна, мужчыны — як дубы. Год ад года лепшала жыццё. Вось гэтае балота, дзе расла адна асака, а твань па грудзі была, асушылі. Дваццаць калгасаў выйшла на асушку. Шлях да Літвінава насыпалі, радыё ў хатах гаварыла. Яшчэ б і электрыку правялі, каб не вайна.

Яўтушык спыняецца, выцірае рукавом потны твар. Добры кавалак вымахаў. Зачаў ад калектара і хутка дагоніць да другога. Можна лічыць, паўклеткі палажыў. Калі адарвецца яшчэ на дзень, сена карове будзе. Якога ліха цяпер выседзіш у атрадзе? Але падабаецца некаторым цыганскае жыццё. Жаруць несалёнае мяса, аціраюцца каля чужых баб. Разбэсціцца за вайну народ.

Яўтушык мянташыць касу, вострыць яе бруском, уткнуўшы кассё ў падатлівы тарфяны дол, сігаючы цераз пракосы, ідзе затым да канавы. Вада ў калектары — на самым дне, напіцца

не проста. Раскарачыўшыся, трымаючыся за бераг рукамі, Яўтушык наском лапця выбівае ў схілах канавы лункі, затым ставіць у іх ногі. Упадзе на дно камяк торфу, і нап'ешся не вады, а чаю.

Калектар апаўзае, зарастае травой. Калі яшчэ год-два не чысціць каналы, зноў вернецца балота.

Нагнуўшыся, Яўтушык бачыць у цёмным люстры вады свой зарослы твар, ускудлачаную галаву. Трэба было б пагаліцца, пастрыгчыся, ды ўсё некалі. Чэрпаючы сашчэпленымі далонямі рук ваду, касар прагна п'е. Буйныя кроплі падаюць на дно, звіняць, як шкляныя. Вада адразу баламуціцца.

Не толькі напіўся, але і рукі памыў.

Добра, лёгка зажыў дзядзька Панас, мазалёў — анізвання. Былі далоні задубелыя, цвёрдыя, як конскія капыты,— цяпер далікатныя. Панскае жыццё. Ад вінтоўкі мазалёў не будзе. Калі паходзіць з ёю яшчэ год, можа, і ад работы адвыкне.

Яўтушык палуднуе, схаваўшыся ў траву, паклаўшы пры баку вінтоўку, трохі дрэмле.

Нават кароткі дзённы сон нядобры, бо размагнічвае, псуе настрой. Думкі Яўтушыка, калі зноў бярэцца за касу, кружацца вакол кепскага. Сёлы выпалены, вынішчаны, калі іх падымеш? Хату нялёгка паставіць, а то столькі сёл. Коней няма, кароў, свіней зводзяць. Дзе іх возьмеш, калі немцаў прагоняць?

Яго старана ацалела. У Рагалях, Лазавіцы, Буйках, Прудку, Азярках эсэсаўцаў не было. Кінуліся даганяць партызан у Лужынецкія лясы, а адтуль, па шляху, падаліся далей. У новых месцах паляць. Дзе стаялі Каўпак з Сабуравым.

Яўтушык думае аб тым, што трэба, пакуль нажнуць новага, дастаць хоць пуд мукі, аддаць крываму Амельку цялячую шкуру — няхай вырабіць, завесці карову к быку. Карова пярэдайка, вот-вот зноў падымецца. Заўтра ён яшчэ пакосіць...

Дамоў ён вяртаецца прыцемкам. Закіданы двор: страха ў хляве правалілася, вароты на агарод аселі, не зачыняюцца. Пляцень жонка патроху разбірае на дровы, бо на дрывотні — ні паленца.

З-пад ганка выкатваецца чорны жвавы камячок, вішчучы, кідаецца Яўтушыку пад ногі.

— Рад, што жывы,— прыгнуўшыся, Яўтушык гладзіць сабаку.— Нялёгка, брат, цяпер выжыць. Але калі пашэнціла, дзяржы хвост абаранкам. Мы з табой, брат, яшчэ на зайцоў сходзім.

Увесь час, пакуль гаспадар, прыставіўшы да сцяны вінтоўку, разуваецца, развешвае на тыне анучы, лапці, мые ў выдзеўбаным з бервяна карыце ногі, сабака вішчыць і лашчыцца.

У хаце, хоць расчынены вокны, пахне палыном — яго летам раскідаюць ад блох.

— Дзве нормы вырабіў,— хваліцца жонцы Яўтушык.— Яшчэ заўтра пакашу, а там скідаю стажок. Сена будзе, як чай.

Жонка садзіцца за сталом насупраць. Яўтушык падсоўвае да сябе міску і ледзь не крычыць ад здзіўлення.

— Дзе ты бульбы ўзяла?

— Маладая. Яшчэ шкода нішчыць. Сама завязваецца, то я гіч не вырывала. Намацала знізу рукой, дзе большая. Праз тыдзджань можна капаць.

У жончыным голасе — радасць. Бульба — гэта жыццё.

Яўтушыку хочацца чым-небудзь аддзячыць жонку, і ён гаворыць:

— Я табе, Мар’я, грабянец заказаў. З люмінію. Ёсць там у нас адзін штукар, майструе. На тым тыдні прынясу.

— Сам хоць жывы прыйдзі.

Начуе Яўтушык у хляве, на вышках. Хоць зона партызанская, але ўсё можа быць. Няма нічога страшнейшага, калі схопяць бацьку, павядуць на вачах у дзяцей. Ад такой думкі аж у грудзях халадзее...

Ён ужо засынае, скрозь сон ловіць ціхае парыпванне лесвіцы. Жонка лезе на вышкі, кладзецца побач. Яшчэ праз хвіліну чуе яе голас:

— Як прыйдуць нашы, Панас, то ці будзе табе аддзяка? Ты ж так мучышся.

— Будзе, Мар’я. Мы з табой сама тады зажывём.

Назаўтра на балоце касцоў куды болей. То ў адным, то ў другім месцы варушацца мужчынскія, жаночыя постаці, чуецца звонкіляскат мянташак.

Пагодка надзіва. З-за лазнякоў уздымаецца сонца, блішчыць раса. Над канавамі, калектарамі вісяць зыбкія палоскі туману, растаючы на вачах.

Да паўдня Яўтушык шчыруе, косіць, а калі да намечанай мяжы, за якую наважыў не пераходзіць, застаецца адзін прыхватак, хавае касу. Учарашняя трава парадкам прывяла, мясцінамі нават высахла. Ён пераварочвае рады, каб пасля полудня зграбці ў копы.

Сонца сама прыпякае. Цень ад постаці зусім знік. Яўтушык бярэ вінтоўку, сякеру, ідзе насекчы на адзёнак лазін.

У лазняку хоць невялікі, а цянёк. Скачуць, перагукваюцца дробныя пташкі. Яўтушык закурвае, адчуваючы, як прыемна кружыцца галава, дранцвеюць ногі. Па сцяблінцы паўзе казюрка. Ён знімае яе, кладзе на далонь, і тады чорны жучок прыкідваецца мёртвым. Не варушыць нават лапкамі. Але калі ён хоча ўзяць яго ў пальцы, жучок, напружыніўшыся цельцам, пстрыкае, знікае з далоні. Пасміхаецца Яўтушык: непрыкметнае стварэнне, а мае сакрэты, хоча жыць.

Нечакана да слыху даносіцца незразумелы гул. Яўтушык прыўзнімае галаву, нямеючы ад жаху: нізка, над самым балотам, якраз на лазнякі, ляціць самалёт.

Здранцвенне працягваецца адно імгненне. У наступны міг Яўтушык хапае вінтоўку, становіцца на калені. І калі чэрава самалёта, з крыжамі-разводамі на крылах, праносіцца крыху наўзбоч ад таго месца, дзе ён сядзіць, ён, цэлячы ў кружок прапелера, раз-пораз страляе.

Дзікая радасць ахоплівае Яўтушыка: на носе самалёта паказаўся дымок. Ён шырэе, распаўзаецца, а вось ужо полымя шуганула. Самалёт зніжаецца, збіраецца сесці. Ён, аднак, далекавата, за дарогай. Штосілы Яўтушык бяжыць услед.

Самалёт нарэшце кранаецца долу, падскаквае, торкаецца носам у торф. Ад яго аддзяляецца цёмная постаць, адразу знікаючы ў траве.

Яўтушык нарэшце дабег. Самалёт палае, як вялікае вогнішча. Нешта трашчыць у ім, свішча. Нават страшна падыходзіць.

Наставіўшы вінтоўку, Яўтушык асцярожна крадзецца па траве. Сам ён бачыў, як выскачыў лётчык. Ён недзе тут. Думкі

скачуць, мітусяцца. Калі ён прывядзе лётчыка, будзе смеху. Толькі чаму самалёт паляцеў над балотам? Звычайна ляцяць над чыгункай, хоць няма яе, расцягнулі, адзін насып астаўся.

На краі канавы Яўтушык выразна бачыць след. Вада ўзбаламучаная, чорная. Цяпер яму ясна, дзе мог схавацца лётчык. Пад насыпам дарогі вада цячэ праз цэментавую трубу. Фашыст хутчэй за ўсё там.

Стаўшы на дарозе, над месцам, дзе закапана труба, Яўтушык бабахае з вінтоўкі. Проста так, каб прыстрашыць. Праз хвіліну з трубы вылазіць лётчык. Ён немалады, без шапкі, мундзір запэцканы ў гразь. Але на шыі ў яго вісіць чорны з бліскучымі кантамі крыж і яшчэ два падобныя крыжы — на крысе мундзіра. Са здзіўленнем, страхам, нянавісцю глядзіць лётчык на неахайнага, валюхатага селяніна, які перамог яго, праслаўленага аса.

Праз тры дні звяно бамбардзіроўшчыкаў, знізіўшыся над Буйкамі, знішчае іх ушчэнт. Спачатку з паветра, кулямётнымі чэргамі самалёты падпальваюць хаты, хлявы, а затым, зрабіўшы другі і трэці заход, наўсцяж закідваюць вёсачку бомбамі.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### I

Франтавыя нямецкія зводкі надзвычай кароткія: Das Oberkomando der Wehrmacht gibt bekannt: im Ostfront wurde blos örtliche Kämpftätigkeit gemeldet...[1]

Пачалося лета. Зацішша на фронце дзіўнае, трывожнае.

Цягнікі ляцяць як у прорву. Нарастанне руху на чыгунцы Лобік і астатнія, хто займаецца падлікам эшалонаў, адзначылі яшчэ ў маі, але цяпер лік іх павялічыўся амаль удвая. У той жа час немцы штосьці хаваюць. Платформы, нагружаныя тэхнікай,

---

[1] Галоўнае камандаванне нямецкіх узброеных сіл паведамляе: на Усходнім фронце — баі мясцовага значэння...

акрыты брызентам, а калі эшалон спыняецца на станцыі, каля платформаў пахаджваюць вартавыя. Пад брызентам на вока можна вызначыць абрысы танкаў, іншых, падобных да іх, машын. З вагонаў нярэдка выскакваюць салдаты ў новых камбінезонах, на платформах стаяць гарматы — таксама новыя, блішчаць свежай фарбай.

Ясна — немцы перакідваюць на Усход з другіх месц вайсковыя часці і ў першую чаргу — новую тэхніку.

Мікола носіць звесткі Мазурэнку два разы на тыдзень. Прыйдзе ў мястэчка, завітае да Міці, Лобіка, забярэ паперкі, бінты, медыкаменты — і назад. Загад Адамчука забіць Крамера Мазурэнка назваў бязглуздым.

Міця выбіраецца чытаць нямецкія зводкі або ў каменны двухпавярховы будынак на станцыі, дзе размешчана канцылярыя ахоўнага палка, або ў бухгалтэрыю фельдкамендатуры, куды носіць рахункі з лясгаса. Але рахункаў няшмат, адзін-два на тыдзень, і каб не кідацца ў вочы, Міця візіты чаргуе.

У зводках па-ранейшаму цішыня. Баі мясцовага значэння пад Цемрукам, Наварасійскам, рэляцыі пра паспяховае знішчэнне партызанскіх сіл.

Збіраючыся ў Прымака, Плоткіна, хлопцы ломяць галовы над адным — дзе, калі пачнецца нямецкае наступленне? Яны жывуць тым жа клопатам, што на першым, на другім годзе вайны. Хутка пачнецца трэці і што прынясе ён у нечуваную агромністую бойку, якая ахапіла свет? Нават на мясцовую трагедыю, на вынішчэнне навакольных сёл, іх жыхароў хлопцы глядзяць як бы праз люстра франтавых падзей. Лёс вайны вырашаецца не тут, у навакольных лясах, балотах, а на фронце. Калі там — пад Смаленскам, Арлом, Харкавам — будзе поспех, то жахі, якія натварыла эсэсаўская дывізія, маюць усё-такі другараднае значэнне.

У свядомасці, аднак, цяжкім каменем — лета. У мінулым, пазамінулым годзе немцы дасягалі летам відавочных пераваг. Чырвоная Армія перамогі мела зімой і ўсё адно не вярнула ўсю страчаную тэрыторыю. Лета між тым наступіла...

Перад Лобікам на стале геаграфічная карта. Лінія фронту даволі прамая. Растоў, Курск, Арол, Рослаў, Вялікія Лукі... Дзе фашысты нанясуць удар?

— Хутчэй за ўсё на Маскву нацэляцца,— заяўляе Іван.— Сама логіка падказвае. На Паўднёвым фронце апякліся. За зіму аддалі ўсё, што захапілі летам.

Міця пярэчыць:

— Дык і ля Масквы апякліся. Думаеш, яе не ўмацавалі?

Цяпер хлопцы спрачаюцца меней. Яны пры дзеле, адчуваюць адказнасць, ранейшай няпэўнасці няма.

Мікола сустракаецца або з самім Мазурэнкам, або з Тапарковым. Іншы раз на сустрэчу прыходзіць Міша Дудзіч, былы местачковы школьнік, які ў Мазурэнкі ардынарцам і які, зрэшты, звёў Міколу з дэсантнікамі.

Грамы спалены напалавіну. У старой вёсцы, якая злучана з пристанцыйным пасёлкам насыпам-ляжнёўкай, агнём вынішчана ўсходняя частка. Станцыйны пасёлак цэлы.

Становішча Міколы ў Грамах нібыта надзейнае. Хоць лета, заняткаў у школе няма, але на яго прыходы, знікненні глядзяць, як на з'яву звычайную. Настаўнікам ён працаваў у Грамах яшчэ да вайны, таксама часта хадзіў у мястэчка. Пры немцах насіў павязку паліцэйскага. Усе ведаюць, што партызанскай мінай Міколе адцяла руку.

Характар у Міколы жорсткі, на твары — злосная зацятасць. Нікому ён нічога не спускае, і яго пабойваюцца.

У той жа час Міколава просталінейнасць дазваляе яму лёгка сыходзіцца з людзьмі. Кола яго знаёмых — шырокае. Добрыя, прыязныя адносіны ён наладзіў нават са старастам Гнядком, якога мінулай восенню прашылі куляй партызаны.

Хоць у Грамах воласць, але паліцыі няма. На станцыі — адна нямецкая ахова. Гэта спрыяе рабоце, якой займаецца Мікола. Яго паходы ў Малкавічы, дзе жыве цётка, успрымаюцца як належнае. У вялікай, ёмістай карзіне ён носіць цётцы соль, газу, брускі зеленаватага мыла. Ад яе — бульбу, збаны з кіслай капустай, яйкі, сала. Салдаты гэтак жа, як Мікола, ходзяць у Малкавічы мяняць іголкі і фарбу на харч, таму на яго паходы глядзяць скрозь пальцы.

Малкавічы таксама часткова спалены. Заходні край вёскі, што прылягае да лесу, пусты і голы. Там толькі ў апошнія дні ўзнік ланцужок зямлянак, здалёк яны нагадваюць наточаныя кратамі гурбачкі.

Мазурэнка з Мішам Дудзічам сустрэлі Міколу ў бярэзніку. Наводдаль, між дрэў, мільгнула яшчэ адна постаць, і ў чалавеку, апранутым у скураную тужурку, ён пазнае Тапаркова.

Міша астаецца за вартавога, Мікола з камандзірам дэсантнікаў адыходзяцца ад сцежкі, кладуцца на дол. Капітан похапкам прабягае вачамі прынесеныя паперкі, хмурнее. Пытае, аднак, пра другое:

— З бургамістрам не клеіцца?

Месяц назад капітан параіў Міколу займець якое-небудзь заданне ад Крамера.

— Два разы быў. Нічога не гаворыць. Ён, мабыць, у такія справы не ўмешваецца.

Мазурэнка задумваецца.

— Трэба б цябе як-небудзь умацаваць. Толькі не ведаю як. Можа, сам падкажаш?

— Нічога са мной не зробіцца. Буду хадзіць.

— Ладна. Вазьмі трохі грошай.— Капітан дае Міколу ў рукі загорнуты ў паперу пакунак.— Пі, гуляй, гандаль вядзі. Частуй усіх цыгарэтамі. А цяпер слухай уважліва. Немцы хутка пачнуць наступленне. Эшалоны, танкі не так сабе. Але агульных звестак цяпер мала. Трэба падрабязнасці. Якія танкі, куды вязуць? Кіньце на чыгунку ўсе сілы. Там жа ў вас хлопцы па-нямецку разумеюць. Можа, што вывудзіце. Толькі трэба асцярожна. Не заваліцеся. Правал цяпер — горш, чым смерць. У Малкавічы не хадзі. Я табе дупло пакажу. Тайнік. Можна нават два. Туды будзеш класці паперкі.

З гадзіну капітан водзіць Міколу па лесе, паказвае тайнікі. На развітанне загадвае:

— Сходзі ў Малкавічы. Апошні раз. Там зробяць маскарад. Не бойся, там нашы людзі.

Мікола пайшоў. Перад цётчыным дваром з агародаў выскаквае трое ўзброеных партызан. Хапаюць Міколу пад рукі.

— Ты чаго швэндаешся, паліцэйская сволач? — ва ўсё горла раве вялізны, з квадратнымі плячамі, асілак.— Што табе трэба? Для немцаў стараешся?

— Цётка тут жыве. Соль нясу.

— Мы пакажам табе зараз цётку. На тым свеце ўбачыш.

Партызаны валакуць Міколу ў двор, да хлява, становяць тварам да сценкі, самі адскакваюць.

Мікола не на жарт палохаецца. Агідныя дрыжыкі бягуць па целе.

Нечакана чуецца незнаёмы голас:

— Кіньце, хлопцы. На першы раз добра ўсыплем. Каб носа сюды не патыкаў.

Міколу вядуць у хату. Асілак на гэты раз шчэрыць зубы.

Лажыся на лаву і крычы. Як можна мацней.

Мікола кладзецца, на яго кідаюць падушку, штосілы гасяць па ёй шампаламі. Нібы боб малоцяць — такі гук. Ён крычыць, лямантуе — колькі хапае змогі. Пад вокнамі збіраюцца жанчыны.

## II

З Кавенек, Дубровіцы ў местачковую бальніцу прывезлі параненых. Селяніну, які наступіў на міну, адарвала нагу, другога — ехаў на калёсах — гэтак падкінула, што, жмякнуўшыся на зямлю, пашкодзіў хрыбетнік. Ёсць выпадкі, калі падрываюцца коні, каровы. Партызаны ставяць міны на шляхах, прасёлкавых дарогах.

У Крамера сядзіць Лагута, у агульным пакоі чакаюць прыёму яшчэ некалькі чалавек. Аўгуст Эрнэставіч раптам выбягае з кабінета. Здзіўлены Лагута высоўваецца следам.

Бургамістр узбуджаны — ні на кога не пазіраючы, сагнуўшыся, выдыбае з кута ў кут. Наведвальнікі сядзяць у крэслах, на падаконніках, некаторыя стаяць, прыхінуўшыся да сцяны.

— Варвары! — нечакана ўзрываецца Крамер.— Я кажу пра лясных бандытаў. Да чаго дайшлі — страшна падумаць... Тых, хто хоча мірна жыць, піхаюць на смерць. Вы разумееце, што значаць міны ў Кавеньках, у Дубровіцы? Бандыты помсцяць мірным вёскам, якія немцы не спалілі. Нам з вамі помсцяць. Мы — злачынцы. Нам можна адрываць рукі, ногі, знішчаць, забіваць...

Лагуце трохі не па сабе. Два тыдні назад, калі немцы палілі раён, бургамістр спяваў другую песню. Лагута тады нават спалохаўся. Данёс бы хто-небудзь, і крышка Крамеру, не

паглядзелі б, што бургамістр. А разам з ім паляцелі б у прорву астатнія. Як мяняецца чалавек. І дзе прычына?..

Крамер між тым проста шалее.

— Варвары, варвары! — захліпаючыся, сінеючы з твару, крычыць ён.— Ну, няхай партызаны скінулі дзесяць, дваццаць паяздоў. Няхай забілі сорак, пяцьдзясят немцаў. А колькі страціла насельніцтва? Сто гіне за аднаго. Увесь народ гатовы кінуць у агонь, каб толькі апраўдаць свой лозунг «Смерць нямецкім акупантам!». Не любяць яны людзей, не шануюць. Нехта там, наверсе, прыдумаў лозунг, а для іх — закон. Партызаны і да мястэчка дабяруцца, вот пабачыце. Яны ненавідзяць нас за тое, што спім у хатах, маем яду, вопратку. Усе павінны туляцца па лесе, як звяры.

Нечакана Крамер сціхае. Сагнуўшыся, па-старэчаму шоргаючы па падлозе падэшвамі, вяртаецца ў кабінет. Зачыняе за сабой дзверы.

Местачкоўцы пакрысе вышмыгваюць з пакоя. Застаюцца аграном Спыхальскі, загадчык млыноў Хвядосік і Лагута. Счакаўшы хвілін пятнаццаць, усе разам заходзяць да бургамістра. Крамер паныла схіліўся над сталом, перад ім — графін з вадой, налітая да палавіны шклянка. Пры ўваходзе наведвальнікаў бургамістр змахвае са стала паперкі ад парашкоў. Позірк патух, ад былога ўзбуджэння і следу няма.

— Падаў заяву аб звальненні,— слабым голасам паведамляе Крамер.— Які я цяпер начальнік, хто мяне слухае? Вартаўнік на могілках. Але адмовілі, нават прыгразілі. Сам гебітскамісар званіў.

Лагута не тоіць раздражнення:

— А як мы, Аўгуст Эрнэставіч? Пра нас вы падумалі? Калі не забылі, то я сваёй пасадай вам абавязаны. На чорта мне быў лясгас? Рабіў бы проста ляснічым. Думаю, другія тое самае скажуць.

— Не гарачыцеся, Лагута. Ваша ношка — не мая. Вы за жыццё людзей не адказваеце. Вы нават не ведаеце, што робіцца кругом.

— Што такое?

— Яшчэ адно сяло спалілі. Буйкі. Там, у лесе — пра людзей не думаюць. Мала ім паяздоў, самалёты збіваюць. Падстрэлілі адзін, а за гэта разбамбілі сяло.

Лагута з палёгкай уздыхае. Дзівак гэты Крамер. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць. Проста разгуляліся ў бургамістра нервы. Трэба яго як-небудзь падтрымаць, а то яшчэ наробіць бяды.

— На вайне заўсёды так,— гаворыць ён.— Не бярыце да галавы, Аўгуст Эрнэставіч. Ні вы, ні мы не вінаваты. Вы трымайцеся за нас, а мы вам паможам. Насельніцтва, я кажу пра мястэчка, за вас гарой. У каго хочаце спытайце. Няхай яна згарыць, палітыка. Не трэба ніякіх размоў. Што будзе, тое будзе. Вунь, чутно, савецкія самалёты Гомель бамбілі. Ракеты навесілі, шпурлялі цацкі на горад усю ноч. То, думаеце, там адных немцаў пабілі? Хапіла ўсім, нашым і вашым. Аднак жа лётчыка за бамбёжку не абвінавацяць.

Крамер на вачах весялее. Уздымаецца з крэсла, паціраючы рукі, ходзіць ля стала. Калісьці ён угаворваў мясцовых начальнікаў займаць пасады, цяпер — наадварот: угаворваюць яго.

## III

Андрыюк — мужчына ўвішны, дзейсны. Займеў у мястэчку добрую славу, і ўсе, каго хвароба прымусіла пераступіць бальнічны парог, стараюцца трапіць на прыём да яго. Па акупацыйным часе жыве доктар нават някепска. Кватэрай служыць асобны дом — стаіць у глыбіні бальнічнага двара пад навіссю старых, разгалістых бяроз. Пра хлеб думаць асабліва не трэба — кліенты з пустымі рукамі не прыходзяць.

Пранікліве вока магло б, аднак, заўважыць, што дабротамі жыцця Андрыюк захапляецца не надта. У вялізным доме жыве як на вакзале. Пакоі пуставатыя, мэблі мала, не хапае звычайных табурэтак.

Міцю Андрыюкова кватэра падабаецца. Няшмат знойдзеш у мястэчку дамоў, дзе б нават спякотнымі днямі панаваў у пакоях цень, пад нагамі парыпвалі пафарбаваныя маснічыны, а для патайной гаворкі можна было абраць зацішны куток.

З Андрыюком Міця трымае сувязь з зімы, збольшага яго ведае. Пры ўсёй сваёй рашучасці ў глыбіні душы доктар трохі трапяткі. Мае схільнасць рабіць паспешлівыя вывады. Меры

перасцярогі, якія прымае, мабыць, залішнія і нават смешныя: кожны дзень яго жонка наведвае жонку бургамістра.

Аднак бінты, медыкаменты Андрыюк здабывае з вялікай вынаходлівасцю, звестак, якія датычаць мясцовага жыцця, у яго мноства, і, не вытрымаўшы, ён сам іншы раз прыносіць іх Міцю ў лясгас.

У бальніцы дзве ізаляваныя палаты прызначаны для немцаў, немцамі абслугоўваюцца. Бывае так, што хворых салдат здымаюць з эшалона, накіроўваючы сюды, бо шпіталя ў мястэчку няма.

— Гітлер рыхтуе наступленне,— у адзін з тых дзён гаворыць Міця.— Эшалонаў болей. Толькі невядома, куды кіруюцца. Каб як-небудзь у салдат пранюхаць...

Андрыюк загарэўся. Дні праз тры завітаў да Міці.

— Салдаты не ведаюць. Але месяц назад адзін служыў у Францыі, другі — у Нарвегіі. Прозвішчы я запісаў.

— Што ж, добра і гэта.

Эшалоны нясуцца, як у бездань. Збоку на нямецкіх вагонах прымацаваны драцяныя сетачкі, куды закладваецца паперка з адрасам прызначэння. Але цяпер паперак няма. Дні трывожныя, напружаныя. Запаўняючы па вечарах графачкі чыгуначных зводак бясконцымі лічбінамі, Лобік асунуўся з твару, схуднеў.

Трэцяе лета грыміць вайна. Летам немцам спадарожнічае поспех, і перад мысленным позіркам хлопцаў міжволі лунае прывід страху. Няўжо германская армія зноў пойдзе наперад, у зводках замільгаюць назвы захопленых савецкіх гарадоў? Пасля Сталінграда, пасля ўрачыстай, напоўненай радасцю зімы было б гэта асабліва крыўдна...

Але ў самім паветры як бы носіцца нешта новае, што не дазваляе думаць пра савецкае адступленне. Адкуль узялося адчуванне сілы, дзе вытокі яго, карэнні? Можа, гэта і ёсць той дух вайны, пра які хлопцы гадалі яшчэ, калі варожая армія стаяла пад Масквой, а ход франтавых падзей не даваў ніякай прасветліны?

Так, дух вайны пераменіўся. У немцаў Харкаў, Арол, Смаленск, яны трымаюць у кальцы Ленінград, але салдаты, якіх бачаць хлопцы кожны дзень, не тыя, што былі. Не так ходзяць, размаўляюць, па-другому аддаюць адзін аднаму чэсць. Нешта ў іх зламалася.

Ветэрынар Шкірман жыве ў гарадку. Дзяцей няма — ён ды жонка. Кватэрка сціплая, камунальная. Па характару і нават знешняму абліччу Шкірман — поўная процілегласць Андрыюку. Ён прысадзісты, паўнацелы, павольны ў рухах, гаворцы. Словы прамаўляе як бы нараспеў, трохі расцягваючы. У той жа час ветэрынар вельмі смяшлівы, ён і на жыццё глядзіць, вышукваючы смешны, адмоўны бок з'яў і рэчаў.

Шкірман працуе ў «Заготжывёле», сёе-тое паведамляе пра гаспадарчыя захады фашыстаў. Дык вось яны амаль месяц жывёлу нікуды не адпраўлялі, а цяпер грузяць дзвесце галоў. Кароў, свіней. Адрас дакладны — Харкаў, мясакамбінат. Адтуль спецыяльна прыехаў інтэндант.

Для Міколавых вандровак у лес звестак назбірваецца нямала. Мястэчка не наносіцца на геаграфічныя карты, яно далёка ад фронту, але, паколькі праз яго пралягае чыгунка, нешта пра вайну можна выведаць.

Лобік прыкмеціў, што са станцыі Іванаўка, дзе дрэваапрацоўчы завод, немцы возяць не чыгуначныя шпалы, як звычайна, а зробленыя на месцы часткі бункераў. Сяргей Сталяроў на ўласныя вочы ўбачыў новы нямецкі танк. Вецер сарваў з платформы брызент, салдаты прамаргалі, таму Сяргей, затуліўшыся між штабялёў шпал, паспеў змаляваць акаванае бранявымі плітамі страшыдла з доўгай гарматай. Добра мець уласнага мастака!..

Тое, што вока ў Сяргея назіральнае, пацвердзіў другі выпадак. Сяргееў сваяк Грыша Найдзёнік, які разам з ім працуе, заўважыў, як салдаты шпурлянулі ў адхон папяровы жмак. Калі эшалон знік з вачэй, ён падняў яго, разгарнуў. У газетным лісце — шкарлупінне ад яек, каўбасныя шкуркі. Грыша, мабыць, кінуў бы забруджаную тлушчам паперыну, каб не здымак, падобны на Сяргееў малюнак.

Газетка маленькая, вайсковая, выдаецца спецыяльна для салдат. Танк на здымку выразна відаць. Каля яго кружком танкісты ў шлемах, унізе вершаваны подпіс:

Steil reckt das Rohr dem Feinde entgegen...[1]

[1] Крута ўздымае гармату на ворага... *(ням.)*.

Звесткі, якія змоўшчыкі збіраюць, пасылаючы ў лес, займаюць у іх думках невялікае месца. Па-ранейшаму яны сыходзяцца, абгаворваюць франтавыя навіны, спрачаюцца, і гэта ёсць тое галоўнае, чым жывуць. Ім нават у галаву не прыходзіць, што робяць штосьці асаблівае, аб чым пазней, калі пара юнацтва міне, будуць успамінаць з павагай. У жыцці, мабыць, заўсёды так: чалавек ірвецца наперад, жаданнямі сягае ў будучыню, а калі азірнецца, то самае цікавае — ззаду...

Поўная нечаканасць для хлопцаў — Мазурэнкава пахвала. Медалямі абяцае ўзнагародзіць. За звесткі пра адгрузку жывёлы і Найдзёнікаву газету. Тапаркоў шапнуў Міколу — газету паслалі самалётам у Маскву.

## IV

Пачалося!..

Пра наступленне нямецкія зводкі паведамляюць узнёсла. Танкавая бітва заклікана вырашыць лёс вайны, выратаваць Еўропу ад бальшавіцкага націску.

З другога боку, зводкі надзіва скупа асвятляюць канкрэтныя поспехі наступлення. Мінуў тыдзень, другі, назвы ранейшыя — Арол, Белгарад.

Міця схадзіў да Шарамета, паслухаў савецкае радыё. Паведамляюць пра сотні знішчаных «тыграў», «фердынандаў» — так называюцца новыя танкі і самаходкі. Пра адыход — ні слова. Штосьці новае творыцца там, пад Курскам і Белгарадам.

Нямецкія газеты стракацяць артыкуламі пра Еўропу, яе старажытную культуру. Сэнс — празрысты: Германія лье кроў, абараняючы не толькі сябе, а ўсе еўрапейскія народы.

Калі Міця ідзе на службу, абмінаючы нерухомую чараду цяплушак, загнаных у тупік, то якраз у гэтым месцы ўспамінае Еўропу. У абшарпаных вагончыках сапраўды еўрапейскі люд: палякі, чэхі, бельгійцы. Насільна мабілізаваныя рамонтнікі немцаў не любяць, абараняць сябе не просяць. Паколькі з харчам у іх туга, з раніцы пачынаюць заціяты гандаль з хлапчукамі, мяняючы мыла, сахарын на яйкі.

Дні стаяць такія, як тады, калі пачалася вайна. З раніцы з-за дальняга лесу выплывае сонца, блішчыць раса, перагукваюцца птушкі. У поўдзень сонца прыгравае ніштавата: край лесу, купчастыя сосны на могільніку — ахутаны хісткай смугою. Але ў меру — днём, ноччу — грымяць кароткія навальніцы, ідуць дажджы, усё буяе. На полі наліваецца зернем колас. Спеюць чырванабокія яблыкі, грушы.

Тым часам лопнула нямецкае наступленне.

Зводку Міця прачытаў у калідоры двухпавярховага чыгуначнага дома. З'явілася жаданне зараз жа пабегчы да хлопцаў, падзяліцца навіной. Тое, што толькі прадчувалася, выклікаючы надзею, трывогу, стала пэўнасцю. З душы нібы камень зваліўся. Стаіць цёплае лета, і Чырвоная Армія наступае. Самі немцы пішуць...

Доўга чакаў Міця гэтага дня. Пара яго юнацтва, калі думаецца пра жыццё высока, узнёсла, калі, распраміўшы крылы, хочацца ляцець у нязведаныя далі, супала з вайной, з прыходам фашыстаў, а яны, нібы тапаром, адсеклі высокія сяганні. Фашысты хацелі пасадзіць чалавека ў клетку. Свет, які намерыліся яны збудаваць,— змрочны, жудасны. Месца ў гэтым свеце для Міці не было.

Савецкае контрнаступленне пад Арлом, Белгарадам — не толькі ваенная перамога. Яно азначае нешта непараўнальна большае. Усё тое, у што Міця паверыў, ходзячы ў школу, чытаючы кнігі, раздумваючы над убачаным, аказалася праўдай, прынесенае фашыстамі — маной, хлуснёй...

Заварушыліся саюзнікі — захапілі Сіцылію. Ад яе рукой падаць да Італіі. Можа здарыцца, што горача стане немцам летам сорак трэцяга года.

Лобік на станцыі: брыгада згружае баласт. Навіна ўзрушыла яго не меней, чым Міцю.

— Калі немцаў спынілі, то ў нас болей танкаў, артылерыі,— гаворыць ён.— Гэта не жарты. Я сам бачыў, колькі пёрлі тэхнікі.

— Пішуць, што бальшавікі наступаюць.

— Перамалолі іх тэхніку, і самі пайшлі наперад,— Лобік паціраe ад задавальнення рукі.— Пералом у вайне, памянеш маё слова.

Каб не было вайны, акупацыі, Іван перайшоў бы на трэці курс інстытута, Міця — на другі. Ім не прыйшлося сядзець у інстытуцкіх аўдыторыях, слухаць прафесараў, таму ўвесь малады імпэт яны скіравалі на вайну. І яны сталі трохі стратэгамі, звычайныя местачковыя хлопцы, бо іх прагнозы нярэдка спраўджваюцца.

Прыбыў эшалон, Лобік абвёў яго ўважлівым позіркам, зараз жа рушыўшы пад станцыйныя таполі, у прыбіральню. Міця ўсміхаецца: калі Іван затуляецца вось гэтак пасля кожнага эшалона, то канспіратар ён невялікі.

## V

Падзеі нарастаюць.

Пад Арлом пачалося, у Рыме адгукнулася. Мусаліні спёкся. Новы італьянскі ўрад узначальвае нейкі маршал Бадольё.

Хлопцы збіраюцца ў Прымака.

— Вось Берлін — Рым трэснула,— Лобік узбуджана размахвае рукамі.— Фашызм у Італіі раней, чым у Германіі, пачаўся. Мусаліні не проста знялі — арыштавалі. Новы паварот дзяржаўнай палітыкі.

Дучэ Беніта Мусаліні — тое самае, што фюрар Адольф Гітлер. З якога часу пачалі арыштоўваць фюрараў? Якія сілы за гэтым стаяць? Ёсць над чым задумацца. Гісторыя як бы творыцца на вачах, робіць нечаканыя павароты, дыхае ім, хлопцам, у твар.

У пакой забягае пабялелы Мікола.

— Мяне Гвозд абшукваў,— паведамляе з парога.— Добра, што ў кішэнях нічога не было.

Змоўшчыкі нямеюць. Калі першае замяшанне мінае, Лобік пачынае допыт:

— Не сей паніку, раскажы толкам.

— Што расказваць? Ішоў ад Міці, каля старых могілак сустрэў Гвазда. Ён з ходу: «Рукі ўгору!» Я падняў. Ён абшарыў кішэні, пінжак, штаны абмацаў.

— Пытаў што-небудзь?

— Куды я хадзіў.

— А ты што?

— Сказаў, што быў у паліцыі, палучаў пенсію. Яшчэ сказаў, што буду на яго скардзіцца.

Хлопцы з палёгкай уздыхаюць.

Мікола сядзіць на канапе, унурыўшыся. Лобік, Міця пахаджваюць па хаце. Год назад, прыкладна ў гэты час, у мястэчку пачаліся арышты. Забралі спачатку Сяргея, затым Міцю. Але летась яны нарабілі глупства. Сяргей вярнуўся з лесу, з партызан, на работу не ішоў, дружбаваў з Аўсянікам.

На ім, калі глядзець вачамі паліцэйскіх, ляжала кляймо, а ён яшчэ артачыўся.

Прычына леташняга правалу ў тым, што яны не ўмелі маскіравацца. Блукалі па мястэчку з задзёртымі галовамі, паказваючы немцам дулю ў кішэні. Але цяпер — другое. Да іх мінулага не прыдзярэшся: маладыя, пасад не займалі. Усе на нямецкай рабоце...

Сеўшы на канапу побач з Міколам, Міця гаворыць:

— Нас пахапаюць толькі тады, калі знойдуць доказы. Цябе Гвозд чаму абшукваў? Шукае доказаў. Яму трэба нешта канкрэтнае. Але падазрэнне ёсць.

Мікола пярэчыць:

— Хіба летась не было падазрэнняў? Помніш, Гвозд, сустрэўшы нас з табой, прасіў прыкурыць? Але ж кішэні не выварачваў.

Нешта сапраўды ёсць. Але што? Хлопцы губляюцца ў здагадках, не могучы знайсці адказу.

— Цябе ў Малкавічах ніхто не бачыў? — пытае Міця.— Думаеш, немцы не маюць там сігнальшчыка? Сядзіць якоенебудзь ціхае стварэнне, патрошку капае.

Мікола падхопліваецца, з Лобікам выдыбае па хаце.

— Я ж расказваў. Партызаны спецыяльна спектакль наладзілі. Ставілі да сценкі, білі шампаламі. Людзі бачылі. Цяпер я туды наогул не хаджу. Кладу паперы ў дупло. Ёсць тайнікі...

Хлопцы думаюць-гадаюць дацямна. Мазурэнка гаворыць праўду, калі раіць уваходзіць у давер да немцаў. Але як такі давер займець? Да Крамера Мікола наведваўся два разы, вынікаў яго візіты не далі. Справа ж вымушае прыняць захады неадкладна. Нават адзін раз не проста выбрацца з мястэч-

ка. Мікола ж выбіраецца па два разы на тыдзень. Хутчэй за ўсё пастаяннае швэнданне кідаецца ў вочы. Нават у дурнога можа ўзнікнуць падазрэнне.

— Трэба схадзіць у паліцыю, паскардзіцца на Гвазда,— гаворыць Лобік.— Да немцаў дойдзе. Ты на паліцэйскай службе страціў руку, атрымліваеш пенсію. Жывеш у Грамах, сям'я ў мястэчку. Каб памагчы сям'і, займаешся гандлем. Ён жа не забаронены...

Мікола весялее. Хлопцы прымаюць рашэнне змяніць тактыку. Трэба паболей купляць запальнічак, цыгарэт, сахарыну. Каб заўсёды такія рэчы былі ў раменнай Міколавай торбе. Кішэняй, прышытай да споднікаў, карыстацца нельга. Паперы трэба хаваць пад вусцілку чаравікаў.

Яшчэ болей уздымаецца настрой, калі хлопцы прыходзяць да высновы, што паліцэйскі шпік не ад добрага жыцця абшукваў Міколу на вуліцы. Хіба тайны агент, які хоча мець поспех, будзе так рабіць?

Ведае кошка, чыё мяса з'ела. Нямецкія справы кепскія, а вушы ёсць і ў Гвазда...

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### I

Як хмара, навісаюць партызаны над мястэчкам. Дыверсіі ў ім самім — узарвана электрастанцыя, пакладзена міна ля ўсходняга пераезда пры пуцейскай казарме.

Хлопцы здагадваюцца — без мясцовых памочнікаў не абышлося. Значыць, акрамя іх, яшчэ ёсць людзі, звязаныя з партызанамі. Ад гэтага трывожна і радасна.

Знішчыўшы цэлыя сельсаветы, фашысты разлічвалі падсекчы корань партызанскага руху. Атрымліваецца наадварот. Партызанам трэба есці, апранацца, і яны сталі завітваць у вёскі, што ляжаць пры чыгунцы.

Знешне мястэчка жыве, як раней. З раніцы кіруюць на службу стрэлачнікі, пуцейцы, рабочыя розных майстэрняў,

складаў. Па-ранейшаму дзейнічаюць канторы, у якіх ляскаюць на лічыльніках бухгалтары і рахункаводы. Але гэта хутчэй прывід жыцця, шырма, якой прыкрываецца хісткі, няўстойлівы акупацыйны побыт.

На станцыі, дзе аціраецца процьма вайскоўцаў, можна купіць драбязу — пачак цыгарэт, запальнічку, буханку цвілога салдацкага хлеба. Людзі працуюць задарма, бо маркі, карбованцы нічога не варты. Пайкоў, акрамя паліцэйскіх, ніхто не палучае.

Немцы прыдумалі выйсце: калі звязаны з гаспадаркай, то дулю, а не хлеба. Зямлю засяваюць усе — хто служыць і не служыць.

У службоўцаў усё ж перавага: штомесяц маюць па кілаграму солі. Проста местачкоўцу за кілаграм трэба аддаць курыцу ці дваццаць яек.

Аляксей Прымак — рамонтнік на пошце. Сувязь партызаны ўкарацілі, пакінуўшы тэлеграфныя слупы ля чыгункі ды ў самім мястэчку. Па гэтай прычыне бываюць дні, калі ніякай работы Аляксею няма. Адзначыўшыся ў канторы, ён вандруе па мястэчку.

Прымаку трапляе на вочы высокі танклявы хлапчына гадоў дваццаці двух, ахайна, па-гарадскому, апрануты. З бесклапотным выглядам ён пахаджвае па вуліцах, завітвае ў сталовую, у цырульню, пад вечар Прымак бачыць яго на станцыі.

Незнаёмых людзей у Бацькавічах няшмат, і Прымак пачынае ім цікавіцца. Дазнаецца — завуць хлапчыну Барыс Аксаміт, кватаруе ў жонкі эмтээсаўскага механіка Франі Бейзік, у мястэчку арганізоўвае службу Чырвонага Крыжа.

Незвычайная Аксамітава служба насцярожвае. Немцы паляць вёскі, людзей, а тут раптам Чырвоны Крыж?

Потым так здараецца, што Прымак сядзіць на слупе, прыкручвае драты, а ў гэты час упаўнаважаны Чырвонага Крыжа ідзе ў двор да кабеціны. Зверху Прымаку ўсё відна. Перш чым падацца ў хату, Аксаміт вымае з кабуры — яна ў яго ззаду пад пінжаком — пісталет, перакладвае ў кішэню.

Прымак расказвае пра ўбачанае Міцю. Цяпер яго пастаяннае заданне — віжаваць за Аксамітам. Праз тыдзень можна

зрабіць вывады. Упаўнаважаны Чырвонага Крыжа не проста наведвае жанчын, а выбірае тых, у каго мужыкі ў арміі.

Прымаку ўдаецца пагаварыць з жанчынай, у якой быў Аксаміт. Яна спачатку тоіцца, бянтэжыцца. Упаўнаважаны Чырвонага Крыжа загадаў трымаць язык за зубамі. Але Аксаміт — прыблуда, Прымак — свой, местачковы, і яна расказвае ўсё.

Гэты высокі (жанчыне ён адразу не спадабаўся) сказаў, што яе гаспадар у палоне, у Бабруйскім лагеры, і хоча праз Чырвоны Крыж палучыць пісьмо з дому. Але чаму сам не напісаў? Як верыць на слова чужому чалавеку? Што-небудзь пісаць жанчына адмовілася. Зрабіла, вядома, правільна.

Пра Аксаміта ясна — шпік. Ясна, чаму прыкрываецца Чырвоным Крыжам. На пачуццях мужа да жонкі, дзяцей можна сыграць. Асабліва калі такі чалавек знаходзіцца за дротам.

Аксаміт блукае па мястэчку. Да салдатак болей не ходзіць. Прымаку ўдалося яшчэ з адной пагаварыць, як і першая, яна нічога мужыку не напісала. Хлопцы супакойваюцца.

Але Аксаміт задае новую загадку.

Ад Франі Бейзік перабіраецца на Вакзальную вуліцу, наймаючы пакой у медыцынскай сястры Стасі Машчынскай. Пакой мае асобны выхад. Сувязі, якія Аксаміт заводзіць, проста нечаканыя. Да яго прыходзіць рамонтнік з чыгункі Нічыпар Хадоська, бухгалтар Піляціцкага лясніцтва Віктар Цыбулька, настаўнік Тадэвуш Капуста.

Стася Машчынская працуе ў бальніцы, падпарадкоўваецца Андрыюку. Яна відная — высокая, стройная. Другой такой прыгожай жанчыны ў мястэчку, мабыць, не знойдзеш.

Цяпер Аксамітавы замыслы разгадвае Андрыюк. Стася расказвае, хто да шпіка прыходзіць. Размоў падслухаць нельга: пакой аддзелены сцяной.

Нешта дзіўнае адбываецца ў Аксаміта. Госці прыходзяць паасобку, напачатку ён вёў з імі ціхія размовы, цяпер — крычыць.

Што аб'ядноўвае Аксамітавых кліентаў? Мабыць, тое, што як бы наўмысна выстаўлялі сябе абыякавымі да палітыкі. Тырчалі ў кіно, пілі, гулялі ў карты. Дагуляліся.

Цыбулька нават ажаніўся. Павісла на шыі грудастая, з вялікімі вачамі дзявуля, старэйшая за яго гадоў на дзесяць. Цыбулькава жонка — прыезджая, гаспадаркі няма. На якія капіталы жыве маладая сям'я — невядома.

Адносна Тадэвуша Капусты — справа асобая. Ён — прыёмны сын станцыйнага пенсіянера — тэлеграфіста Папярочкі. Да вайны скончыў дзесяцігодку, трохі вучыўся ў інстытуце. На пачатку вайны Тадэвуш быў у арміі. Трапіўшы ў акружэнне, вярнуўся ў мястэчка. Нейкі час ён нават загадваў пачатковай школай, але раптам адмовіўся ад пасады, наняўшыся дрывасекам у лясгас. Цяпер коле дровы пад вокнамі пакоя сакратарак, стаміўшыся, ідзе да іх парагатаць. Жартаўнік Тадэвуш дасціпны, і дзяўчаты да яго хінуцца.

Калі Міця хадзіў на спатканне з партызанамі, Адамчук перадаў тры запіскі, адна з іх адрасавана старому Папярочку. Запіскі трохі смешныя. Адамчук лае немцаў, дакарае за бяздзейнасць тых, да каго звяртаецца.

Дзіўныя рэчы бываюць на свеце: з бацькам хочуць наладзіць сувязь партызаны, з сынам — немцы. Міця перадаў па адрасе толькі адну запіску, дзве яшчэ ляжаць у застрэшшы. Не мае сэнсу ўцягваць старога Папярочку ў небяспечныя справы. Ён глухі, хваравіты, яшчэ ў мірныя дні баяўся ўласнага ценю.

Дні ідуць, Аксаміт водзіць да сябе Цыбульку, астатніх, але хлопцы не вераць, што тыя стануць яму памагаць. Калі шпік іх нават забрытае, то нашкодзіць партызанам не здолеюць. Хто яны, у лесе будзе вядома.

Акрамя Гвазда, Аксаміта ёсць яшчэ адзін, які віжуе, вынюхвае. Але нізенькі лысаваты чалавек — ён пасяліўся побач з фельдкамендатурай — нават не робіць са сваёй прафесіі тайны. Бегае з кацялком на вайсковую кухню, запрашае да сябе паліцэйскіх, якіх партызаны выгналі з вёсак.

Немцы прасвісталі наступленне, то няўжо спадзяюцца выйграць вайну шпікамі?

Захопленыя высочваннем Аксаміта, змоўшчыкі зусім не заўважылі, як і калі знікла з мястэчка Франя Бейзік.

## II

Пачынаецца жніўная пара.

Мястэчка жыве з зямлі, з таго, што пасеяна на агародзе, полі. Калгасных коней, трактараў няма, іх пагналі на ўсход. Але за два гады падраслі лашачкі, хадзіць у возе, за плугам прынароўлены каровы — зямля не гуляе. Засеяна ўсё: лясныя дзялянкі, аблога, пясчаная няўдобіца.

Цікава адно: да лішняй зямлі местачкоўцы не цягнуцца. Калгас тут быў восем гадоў: вялікім ураджаем, парадкам не здзіўляў і ўсё ж прымусіў людзей па-другому зірнуць на жыццё. Ірваць на зямлі жылы адвучыў. Поле бралі, каб толькі пражыць. Па аднаму-два гектары на сям'ю. Па пяць — у Зуя, ды яшчэ ў двух-трох такіх, як ён, ненаежных.

Нямераную зямлю засяваюць службоўцы — ляснічыя, аграномы зямельнай управы, але ім тое мала каштуе, бо робіцца чужымі рукамі.

Вечарам вісяць над местачковымі вуліцамі шэрыя воблакі пылу. Рыпяць, хістаючыся на калдобінах, накладзеныя снапамі вазы, вяртаюцца з пашы, бадаючы адна адну рагамі, каровы. Па дварах, пасеўшы наўкруг разасланай посцілкі, старыя і малыя аббіваюць снапы. Найбольш увішныя паспелі намасціць па хлявах тачкі, гахаюць цапамі. Хлеб ёсць. Стары дзедаўскі звычай не падводзіць. Але збажыну варта прыхаваць. У вакольных, занятых партызанамі сёлах немцы гулу смаленую возьмуць, а тут пастаўку будуць драць. Нездарма паліцэйскіх — як нярэзаных сабак.

Нарасла маладая бульба, агуркі, падыходзяць памідоры. Не прападзе мястэчка...

У лясгасе — цішыня. Два дні Міця вазіў з поля снапы, на службу не хадзіў, але яго адсутнасці ніхто не заўважыў. Кашчэй — непасрэдны Міцеў начальнік — перамяніўся на вачах. Зіму крукам тырчаў за сталом і другіх прымушаў. Цяпер махнуў на ўсё рукой. Калі і з'явіцца на работу, то пасядзіць гадзіну-дзве і знікае. Відаць, дайшло да Кашчэя, што не на таго коніка паставіў.

Бухгалтары, картатэтчыкі рады старацца. Разводзяць тарыбары, кураць, абмяркоўваюць навіны. Пасля абеду, схаваўшы ў шафу паперы, паціхеньку змываюцца.

З Лагутай здарыўся непрыемны выпадак, і ён таксама на службе не паказваецца. З тыдзень назад ездзіў ляснічы ў Росіцу паглядзець накошаныя яму стажкі сена і на балоце, вярсты за тры ад саўгаса, напароўся на партызан. Машыну партызаны зрашэцілі, шафёра забілі, а ляснічы ўцалеў проста цудам. Да вечара поўз па калектары, па гразі, твані, пакуль дабраўся да пасёлка, цяпер хварэе.

Канчаецца месяц, Міця сядзіць у канторы, складае касавую справаздачу. У другой палове дня ў пакой заходзіць плячысты хлапчына ў нямецкім мундзіры. У яго чарнявы шыракаваты твар, шэрыя вочы. Міця адразу бачыць, што ён не немец. На мундзіры няма нашывак з арламі.

— Старшы лейтэнант Міхайлаў,— называе сябе хлапчына.— Камандзір рабочай чыгуначнай роты. Як мне аформіць нарад на лес?

Пра гэту роту Міця ведае. Яе салдаты жывуць разам з немцамі ў двухпавярховым станцыйным доме, але зброі не маюць. Іх кідаюць на рамонт чыгункі пасля партызанскіх дыверсій.

— Ідзіце ў лес, тады не трэба нарад,— гледзячы лейтэнанту ў вочы, гаворыць Міця.

Ён не ведае сам, чаму адважыўся сказаць двухсэнсоўнасць. Можа, таму, што твар у чалавека, які апрануў нямецкі мундзір, вельмі ўжо рускі, адкрыты, прыветлівы. Нельга паверыць, каб чалавек з такім тварам быў здраднікам.

Лейтэнант схамянуўся, але позірк вытрымлівае.

— Я б пайшоў, ды не ведаю дарогі.

— Дарогу можна паказаць.

Нават дзіўна трохі. Без праверак, пароляў, доўгіх роспытаў лейтэнант і Міця разумеюць адзін другога.

Лейтэнант садзіцца, збольшага расказвае пра сябе. Ён з Ленінграда, мінулым летам пад Варонежам трапіў у палон. У лагеры, у Чарнігаве, ледзь не памёр з голаду, таму згадзіўся паступіць у рабочую каманду. Зімой іх апранулі вось у гэтыя мундзіры. Можа, кончыцца тым, што дадуць вінтоўкі...

— Вырвацца не спрабавалі?

— Была адна дзяўчына. У Гомелі. Абяцала памагчы. Але немцы схапілі.

Міця з хвіліну думае.

— Без дзяўчыны не маглі?

— Хто мяне ў такой скуры прыме? — лейтэнант тыцкае рукой у мундзір.— Чым дакажу, што сваіх не страляў?

— Прымуць. Вы адзін ці яшчэ ёсць?

Губы ў лейтэнанта дрыжаць, на вачах — слёзы.

— Дарагі таварыш! Памажыце... Мы не здраднікі. Уся рота пойдзе. Восемдзесят чалавек. Нам бы толькі адно слова. Што нас возьмуць...

У Міці ёсць пачак лістовак, адрасаваных паліцэйскім. Але даваць іх лейтэнанту не хочацца.

За гадзіну аб усім дамаўляюцца. На зборы Міхайлаў просіць два тыдні. Міця раіць дзейнічаць асцярожна, салдат агітаваць паасобку, прозвішчаў не называць.

Яшчэ ўчора Міця нічога не ведаў пра лейтэнанта Міхайлава, а сёння яны адзінадумцы, звязаны тайнай, раскрыць якую — значыць загінуць аднаму і другому.

Ваенны, акупацыйны час з яго высокім, шчымліва-адчайным настроем самаахвярнасці нельга зразумець, калі падыходзіць са звычайнымі мірнымі меркамі. Без даведак, пасведчанняў знаходзіў тады чалавек дарогу да сэрца другога чалавека. Пагроза, што навісае над цэлым народам, выклікае магутныя сілы яднання, знішчае бар’еры падазронасці, недаверлівасці, і, мабыць, у гэтым сакрэт атмасферы таго непаўторнага часу.

Пра Аксаміта — дзіўныя чуткі. Нібыта выгнаў яго з кабінета Крамер, крычаў, тупацеў нагамі. Што трэба шпіку ад бургамістра? Якія новыя захады робіць?..

Вечарам хлопцы збіраюцца ў Веры. Сядзяць пад яблынямі ў садку, размаўляюць, смяюцца. Плоткін іграе на мандаліне, Прымак — на гітары. Мяккія плаўныя зыкі плывуць з двара, зліваючыся з галасамі і шорахамі вячэрняй вуліцы. На зборышчы Сюзана не прыходзіць, і Міцю сумна. Крыўда на яе паступова растала, ён зноў хоча пабачыцца, пагаварыць з дзяўчынай. Сюзаны ў мястэчку няма. Нібы прыкіпела да сваіх Сівалобаў, хоць заняткі ў школе даўно скончыліся.

З Верынага садка гурт кіруе ў кіно. Жарты, выбухі смеху не спыняюцца на вуліцы, і кожны, хто напаткае вясёлую

талаку, мае права падумаць пра бесклапотную маладосць, пра тое, што яна своечасова бярэ даніну радасці, уцехі са сваёй пары.

Нямецкія кінафільмы, якія раз ці два на тыдзень паказваюцца ў клубе, як і раней, малююць выдуманае, несапраўднае жыццё. Нейкія людзі катаюцца на лыжах з гор, начуюць у закінутай хібары, палююць за аленем. Сярод мужчын — адна жанчына, яна зламала нагу, мужчыны па чарзе нясуць яе на руках, і кожны гаворыць пра сваё да яе каханне...

З Грамоў Мікола прыносіць магнітную міну, шараваты, велічынёй з курынае яйка, тэрмітны шарык, і ў бутэльцы газы некалькі драбнейшых фосфарных шарыкаў. Першачарговае заданне — другое. Партызаны хочуць ведаць размяшчэнне хлявоў, кашар, умацаванняў у саўгасе Росіца.

Карту зробіць Шкірман. Бывае ў Росіцы па службе. З астатнім можна пачакаць.

## III

Апошнія дні Міцем валодае няпэўная трывога. Адкуль яна, дзе прычына? Год назад, такой парой, яго выпусцілі з турмы. Маглі не выпусціць. Колькі ўсяго пралегла за гэты год...

Начуе Міця ў хляве, на сене. Скрозь дзірку ў вільчыку бачыць адзінокую зорку, якая трымціць, пераліваецца далёкім, таямнічым святлом. Пад якою зоркай ён нарадзіўся?.. Відаць, ва ўсе часы людзі былі няпэўныя наконт свайго лёсу, таму гадалі па зорках...

Ноччу мястэчка спіць. Акрамя стрэлаў, якія вынікаюць то ў адным канцы, то ў другім, нічога не чуваць. Паліцэйскія нервуюцца і, мабыць, такім спосабам нагадваюць, што стаяць на варце. Цяжка дыхае карова, сонна перагукваюцца на шастку куры. Сена пахне прывялымі зёлкамі, і пах такі моцны, што дурманіць галаву.

Адвячоркам, вяртаючыся са службы, Міця быў у Андрыюка. Той паставіў на стол графін з самагонкай. Можа, таму, што на душы няясная трывога, Міця піў, колькі налівалі. Спіць цяпер непрабудным сном.

Пад раніцу нехта тармошыць яго за грудзі. Міця расплюшчвае вочы, чуе голас Шарамета.

— Бяда,— шэпча Васіль.— Грымака арыштавалі, знайшлі паперку. Там было напісана, каб устанавіў сувязь з табой. Мне Гвозд сказаў.

Хмель як рукой здымае. Ліхаманкава б'ецца думка. З Грымаком Міцю нішто не звязвае, небяспекі з яго боку няма. Разы два быў у фінаддзелаўскага бухгалтара, вялі агульныя размовы. Чаму Гвозд сказаў Шарамету?.. Можа, таму, што даводзіцца нейкай раднёй па жонцы. Якая запіска, хто напісаў? Мазурэнка карыстаецца клічкай. Мог сам Гвозд падкінуць. Правакацыя!.. Але арыштуюць усё адно...

— Што думаеш рабіць? — занепакоена пытае Васіль.

У хлеў тым часам заходзіць маці.

— Трэба ў партызаны, мама. Зараз жа, пакуль не развіднела.

Маці плача.

— Куды я з дзецьмі? Схопяць, пакуль дойдзем. Ідзі адзін. Няхай нас тут страляюць.

Не, уцякаць аднаму нельга. Могуць прычапіцца да Лобіка, Міколы. Толькі таго й чакаюць. З Міхайлавым дамоўленасць. Іскрай у свядомасці здагадка: калі не правакацыя, то адзін Адамчук мог прозвішча напісаць. Сволач! Разам з Грымаком быў у лесе, выдаваў склады, цяпер за шкуру дрыжыць.

— Не хвалюйцеся,— гаворыць Міця, выпраўляючы маці з хлява.— Ідзіце спаць.

З застрэшша, з тайніка дастае пачак лістовак, наканаваных паліцэйскім, дзеліць на дзве часткі. Большую аддае Шарамету.

— Раскідаеш у паліцыі. Натыкай, дзе толькі можна. Напішам яшчэ запіскі Гвазду і начальніку паліцыі спецыяльна. Я табе іх раніцай аддам.

План у Міці такі. Немцы хопяцца, хто-небудзь з паліцэйскіх ім лістоўку прынясе. Запіскі, адрасаваныя Гвазду і Зыскевічу-Будзілоўскаму, трэба проста падкінуць немцам. Почырк Адамчука падбярэ Сяргей. Узор ёсць — Адамчукова пасланне, якое Міця так і не перадаў старому Папярочку.

Разлік просты. Калі Адамчук пасылае запіску Гвазду, то шпік не такі чысты. Яго данос на Міцю можна ўспрыняць як паклёп. Можа, і Грымаку Міця пасобіць.

Міця бяжыць да Сяргея. Рана яшчэ, толькі пачынае світаць. Сяргей трэ сонныя вочы, напачатку нічога не разумее.

— Падбяры почырк, як у гэтай паперцы,— тлумачыць Міця.— Толькі дакладна, каб не падкапаліся. Напішы Гвазду і Зыскевічу па некалькі цёплых слоў. Маўляў, ведаем пра вас, дзякуем за дапамогу.

З Грымаком здарылася так.

У Гопалы, гарбара, які вырабляе шкуры, вяселле — выдае замуж дачку. Гопала — местачковец новы, жыве на ўскраіннай вуліцы, за якой аж да самага лесу ваколіца, поле. Акрамя радні, суседзяў Гопала запрасіў у хату патрэбных людзей — бухгалтара Грымака, які робіць у фінаддзеле, кантралюючы прыбыткі рамеснікаў, і Гвазда — ён, па сутнасці, кампаньён, забірае ў Гопалы тавар, з якога цесць шые боты. Паліцэйскі Базыль Круглы, па празванню Лататай, прывалокся сам. Не мінае ніводнай пагулянкі.

Застолле багатае: ад пітва, яды сталы ломяцца.

У Грымака ўзбуджаны настрой.

Тыдні два назад соцкі з Кавенек зайшоў ва ўправу, на вуха шапнуў Грымаку, што яго хоча бачыць патрэбны чалавек. Сеўшы на веласіпед — у Кавеньках парадкам нарасло нядоімкі,— фінаддзельскі бухгалтар з’ездзіў у вёскі і там, у хмызняку, за агародам соцкага, спаткаўся з Адамчуком.

Адамчук патрабаваў забіць Крамера. Грымак нічога не абяцаў. Ён разумеў, чаму дарожны майстар прагне крыві: баіцца сведкі. Крамер ведае, што іменна Адамчук паказаў партызанскія склады, назваў тых, хто ў атрадзе. У самога Грымака рукі чыстыя: тады, у сорак першым, з лесу прыйшоў апошнім.

Грымак наважыў ісці ў лес. Лепей самому ўзяць вінтоўку, чым весці хаўрус з Адамчуком. Дома Грымак прыхаваў найбольш каштоўныя рэчы, папярэдзіў жонку. Дзяцей няма, няма болей сэнсу сядзець у нары, а бэбахі нажывуць.

За стол у Гопалы Грымак садзіцца поруч з Гваздом. Бухгалтар сам п’е, не дае перадыху суседу.

Настрой у Грымака бадзёры, па натуры ён чалавек добры, трохі бесклапотны, а калі падпівае, то яшчэ болей ласкавее да людзей.

— Слухай, Лявон,— гаворыць ён, абняўшы расчырванелага Гвазда за плечы.— Ці не пара нам з табой падумаць пра выратаванне душы?

— Ты пра што гаворыш?

— Пра лес гавару. З нямецкага наступлення выйшаў пшык. Нашы прыйдуць, спытаюць, што рабіў.

Гвозд раптам бялее. Стукнуўшы кулаком па стале, крычыць на ўсю хату:

— Людзі, ён заве мяне ў бандыты! Ён сам партызан, людзі!

Такога павароту Грымак не чакаў. Нервы яго здалі. У адно імгненне ён куляе на падлогу стол, кідаецца за дзверы.

Грымак, напэўна б, уцёк, бо ўжо амаль дабег да палосак жыта за ваколіцай, каб не рынуў наўздагон дужы, як конь, паліцэйскі Лататай. Дагнаў, заламаў за спіну рукі.

Ужо калі Грымака вялі праз сутачкі — так называецца правулак між агародаў,— Гвозд пад выглядам абшуквання сыпнуў уцекачу ў кішэню жменю наганных патрончыкаў.

Вечарам жандарыператрэслі Грымаковы пажыткі, арыштавалі жонку.

## IV

Вызвалены Арол, Белгарад...

Вось і сталася тое, аб чым столькі было думак, непакою, пакут. Лета болей не служыць немцам, казка пра рускую зіму скончылася. Больш не пойдзе наперад, падымаючы па дарогах, бальшаках густыя воблакі пылу, пераможнае германскае воінства. Не будзе ў адзін мах захопленых чужых гарадоў, гучных слоў у зводках, народнага сораму, які найцяжэй, найвастрэй перажылі тыя, хто апынуўся пад немцам.

Масква гэта разумее, салютуе войскам сотнямі гармат. Першы за вайну салют! Свята на нашай вуліцы...

Вогненна-радаснага, урачыстага, ні з чым не параўнанага настрою Міцю хапае на тое, каб рабіць ранейшае, сустракацца з хлопцамі, забываць пра небяспеку, якая ходзіць па мястэчку ў вобразе жандараў, паліцэйскіх, шпіка Гвазда.

Пасля падкінутых лістовак, запісак у жандармерыі была паніка. Не зачапілі нікога. Разматваюць жандары клубочак. Наконт Міці Гвозд, відаць, закідваў вудачку. Ведае, што ён нюхаецца з Шараметам.

Грымак быў апошнім партызанам з ліку тых, якія некалі вярнуліся ў мястэчка. Такі і яго з'еў Гвозд.

Час настае. З мястэчкам трэба развітвацца. Хоць бы трохі яшчэ, каб паспець з Міхайлавым, угаварыць маці, цётку. Дый замену падабраць для Мазурэнкавай службы.

Лагута на службе лістом сцелецца. Запрашае Міцю ў кабінет, прапануе, як роўнаму:

— Можа, табак трэба? Магу выпісаць пачак пяць. Калі купляць на маркі, то не хопіць зарплаты.

Нешта адчуў Лагута. Хоць дзіва няма. Адамчукоў почырк хто-небудзь пазнаваў.

Міця табак бярэ. Старшы ляснічы даўно патрошку памагае.

Міця не ходзіць у казарму, Міхайлаў не паяўляецца ў лясгасе. Трэба дбаць пра асцярожнасць. Сустракаюцца ля станцыі, у штабялях дроў, калі пачынае навісаць прыцемак.

Міхайлаў згрупаваў ядро, за якое паручаецца. Дванаццаць чалавек. За кожным стаіць яшчэ па двое-трое. Гаварыць пра ўсю роту пакуль рана. Нават прылучаных да змовы людзей не проста вывесці з мястэчка. Зброі не маюць, ісці трэба — самае блізкае — за Дубровіцу. Немцы могуць пахапаць, як куранят.

— Прымуць нас? — дапытваецца Міхайлаў.— Няхай бы падаслалі лістовачку. Для мяне вельмі важна. Людзям пакажу.

Міця выцягвае з-за пазухі газету, аддае лейтэнанту. Газета раённая, бацькавіцкая — і такую сталі выпускаць партызаны. Памерам з чвэртку звычайнага ліста, выдаецца на беларускай мове. Міхайлаў радуецца як дзіця. У групе, якая вакол згуртавалася, ёсць рускія, украінцы, нават казах і грузін. Але нічога, зразумеюць і па-беларуску.

Міця просіць:

— Дастань мне нямецкі мундзір. Такі, як твой.

Лейтэнант здзіўлены, нават як бы крыху абражаны.

— Нашто табе?

— Дзівак. Няўжо думаеш, буду тут вечна сядзець. Сам у лес пайду. Я ж нямецкую мову трохі ведаю, можа, дзе трэба, сыду за немца...

Лейтэнант глядзіць на Міцю з павагай, ляпае па плячы.

— Дастану, браток, не турбуйся. Добра, каб разам трапілі. Мы б з табой яшчэ паваявалі. Дарвацца б толькі да вінтовачкі!..

Лейтэнанту Міця не хлусіць. Прадчуванне такое, што дажывае ў мястэчку апошнія дні. Маці, цётка патроху пераносяць рэчы на Залінейную вуліцу. Закопваюць у двары недабудаванай хаты. Адтуль рукой падаць да Росіцкага пасёлка, дзе жыве стрыечны матчын брат. Прытуліць дзе-небудзь сям’ю.

Кожны дзень Чырвоная Армія займае які-небудзь горад. Саюзнікі высадзіліся ў Паўднёвай Італіі. Ад падзей кружыцца галава.

Міця ўдзячны лёсу, што дажыў да светлага дня, калі на ўласныя вочы бачыць ганьбу ворага, разгубленасць, паніку ў яго стане. Як высока неслі немцы галовы ў сорак першым, калі займалі мястэчка. Пагардліва, звысака глядзелі на пыльныя вуліцы, драўляныя хаты, на сціпла апранутых, разгубленых тубыльцаў. Колькі пастралялі, вынішчылі, спалілі людзей! Цяпер ім адрыгнецца...

Трагедыя, якая канчаецца камедыяй. Мясцовая ўлада распаўзаецца, нібы гнілая ануча. Зноў, як напрадвесні, пасля Сталінграда, пабеглі ў лес ратаваць душы самыя актыўныя нямецкія памагатыя. Агранома Пахілку яшчэ можна зразумець: эсэсаўцы згвалцілі жонку, але начальнік зямельнай управы Спыхальскі таксама ў партызаны кінуўся. Хадзіў, як сыты вяпрук, засяваў па дзесяць гектараў, біў конюхаў па твары. Дзіўна, але апамяталіся якраз тыя, хто меў заграбушчыя рукі і такі добра грэўся ля нямецкага цяпельца. Апанас Бабок дэзерціраваў з арміі, загадваў пякарняй, хіжы, хітры Халімонік быў яго памочнікам. Хлеб елі на поўную губу, мянялі на залатыя, сярэбраныя рэчы. Уцяклі разам, на спажыву паліцэйскім нават лахманоў не пакінулі.

Немцам цяпер не да Міці, не да Міколы. Затое самы час дзейнічаць.

Тэрмітны шарык у Краснея. Ён мусіць спаліць аўчарню. Авечкі ў хляве, на пашу іх, як кароў, не выганяюць.

Міця не спіць, глядзіць у той бок, дзе размешчаны калгасныя хлявы. Адчувае сябе гэтак жа нацята, як летась, калі з Гарнаком падклалі пад рэйкі міну, а вярнуўшыся на будку, ён чакаў выбуху.

Мінула поўнач, а пажару не відаць.

Назаўтра ля дрывянога склада Міцю з нецярпеннем чакае Красней.

— Гадасць палучылася,— тлумачыць збянтэжана.— Зрабіў спецыяльную скрыначку, знутры фанеркай перагарадзіў. Знізу — спіртоўка, зверху на фанерцы шарык. Прыбег на світанні ў хлеў і аж спалохаўся. Спіртоўка гарыць, агонь шарык дастае, а ён хоць бы што. Разагрэўся — рукамі не дакрануцца. Трэба, мабыць, абалонку сашкрэбці.

Хітра прыдумаў Красней. Пакуль фанерка прагарыць, можна да паліцэйскага ў госці заваліцца, піць разам гарэлку.

## V

Сюзану Міця напаткаў у правулку паміж аптэкай і Базарнай плошчай. Трывожнай птушкай забілася сэрца. Стаяў, глядзеў на яе, поўніўся радасцю ад сустрэчы. Хацеў спытаць, чаму так доўга не была ў мястэчку, але змаўчаў. Усе словы дакору, якія сабраў за лета, адразу зніклі.

Яна пачала гаворку першая:

— Не крыўдуй, Міця. Тады, вясной, не хацела гаварыць. Сорамна было. Прыставаў адзін немец. Два разы быў у нас. Нап’ецца і лезе. Ну, мама мяне саслала. Я сюды прыходзіла, але баялася паказацца. Цяпер ён паехаў...

Лепш бы яна маўчала. Міцю непрыемна, няўтульна.

— Як ты там вучыла? — пытае ён, каб толькі аб чым-небудзь спытаць.

— Якая вучоба. Ні кніг, ні сшыткаў.

— Пойдзеш зноў?

— Мабыць, не.

Яны пастаялі некалькі хвілін, ведучы пустую, нікчэмную гаворку, потым Сюзана схамянулася.

— Прыйдзі да мяне вечарам. Абяцаеш?

— Прыйду.

Да вечара непрыемнае пачуццё развеялася. Яна такая, Сюзана. Летась, калі запісалі ў Германію, заразілася воспай, цяпер — уцякла ў Сівалобы. З другімі дзяўчатамі Міця размаўляе пра вайну, пра немцаў, жартуе, смяецца, з Сюзанай — не можа. Ён не раз спрабаваў выклікаць ва ўяўленні яе твар, паставу, але вобраз расплываецца, пакідаючы ў душы смутна-радасную трывогу.

Пра Сюзану Міця нават думаць не можа — марыць. Успамін пра яе нараджае ў душы нейкае трымценне, парыванне, хочацца зрабіць нешта незвычайнае, здзівіць яе, уразіць. Але паміж гэтым нябачным, глыбока схаваным у грудзях парываннем і тым, як Міця сябе паводзіць, застаўшыся сам-насам з дзяўчынай — неадольная мяжа. Ён з ёй нялоўкі, маўклівы, а калі гаворыць, то не тое, што хоча. Ён нават калі Сюзаніну маці сустракае, то стараецца прайсці незаўважаным.

Падсвядома Міця адчувае, што Сюзана не разумее яго. Ёй падабаюцца жвавыя, увішныя, такія, як Галемба, як гэты бухгалтар Цыбулька. Міця сам бы мог быць такім, калі б захацеў, ды толькі не з Сюзанай. Чаму так?..

Прыцемкам Міця падыходзіць да Сюзанінага двара. Яна ўжо чакае яго. Сядзіць на лавачцы пад яблыняй, апранула сінюю блузку, якая вельмі ёй да твару. Ён прысеў побач, закурыў цыгарэту.

— Ты курыш? — здзіўлена спытала яна і чамусьці ціха, радасна засмяялася.

— Вучуся.

— Я не разумею навошта кураць?

— Прывычка. Падымае настрой.

Вечар цёплы, ціхі, неба ў густым засеве зорак. Такія вечары бываюць на схіле лета, калі яно ўжо адбуяла, адкрасавала, але яшчэ не паддаецца восені. Шаснуўшы лісцем, зрываецца з галіны, стукаецца аб дол яблык, за ім — другі.

Мінулым летам на гэтым жа месцы Міця сядзеў з Сюзанай. Праходзячы паўз яе двор, сад, ён заўсёды ўспамінаў тую дзіўную ноч, у грудзях соладка, трывожна шчымела. Ён да дробязей памятае пахі, зыкі, шорахі праведзенай з Сюзанай ночы, цені дрэў, вось гэты парканчык, хату насупраць, словы, якія яна сказала, цеплыню яе цела, дотык яе валасоў да шчакі.

Незабыўных уражанняў адной ночы хапіла на ўвесь год. Але як за год перамяніўся свет, як стала ўсё другім, новым.

Змрокі згушчаюцца. Міця цалуе, абнімае Сюзану, туліць да сябе. Яна не працівіцца, хіліцца да яго, як трава пад ветрам. Ён адчувае яе неспакойнае цела, усю яе — мяккую, падатлівую. Яны проста задыхаюцца ад наплыву пачуццяў, і Міця ўжо не можа разабраць, ці то ўласнае, ці яе так гучна б'ецца сэрца. Калі яны ўжо зусім блізка ад таго, каб пераступіць апошнюю мяжу, якая іх раздзяляе, Міця раптам цверазее, лёгенька адштурхоўвае ад сябе Сюзану. Не цяпер, не тут!.. Ён не раз думаў аб самых блізкіх адносінах, якія бываюць паміж мужчынам і жанчынай, думаў, што гэта будзе ў яго з Сюзанай. Але не так, не крадучыся, не ў чымсьці абразлівай паспешлівасці.

— Мабыць, я хутка пайду адсюль,— гаворыць Міця.— Будзеш мяне чакаць?

— Куды пойдзеш? — Голас у Сюзаны спалоханы.

— Сама ведаеш. Мог быць там даўно. Так палучылася.

Яна задумваецца, маўчыць.

Раптам ускліквае:

— Ты ў мяне клятву вазьмі! Моцную-моцную. Каб я сама сябе баялася.

— Не трэба клятваў. У кожнага — свая дарога. Нас нішто не звязвае. Але я люблю цябе. Ты ведаеш.

Зноў Сюзана маўчыць. Потым гаворыць зусім пра другое:

— Усе можам загінуць. У Сівалобах немцы лагер строяць. Там, дзе шаша сыходзіцца з чыгункай. Абцягваюць калючым дротам голае поле. Аж страшна падумаць...

У гэты момант асляпляльна-бліскучы слуп агню вырываецца ў тым месцы, дзе калгасныя хлявы. Полымя разлягаецца ўшыркі, захоплівае новыя абсягі, і вось ужо выразна відаць чарада доўгіх хлявоў, цёмная лава хат на вуліцы злева, купчастыя хвоі на могілках.

— Я баюся, Міця. Дзе пажар?

— Не бойся. Нешта ў немцаў гарыць. Няхай гарыць!..

Міця шчаслівы, што іменна ў гэтую хвіліну сядзіць з Сюзанай. Голас яго ўзбуджаны, радасны. Сюзана магла б адчуць Міцеву радасць і ўзбуджанасць, але думае пра другое.

— Як ты пойдзеш? Начуй у нас. Я табе пасцялю на канапе.

Полымя ў самай сіле. Зоркі пабляклі, неба паласуюць барвовыя сполахі. Раздаецца доўгая кулямётная чарга, услед за ёй бязладная вінтовачная страляніна. Немцы з паліцэйскімі супакойваюць саміх сябе. Таму ўшчалі гэты вэрхал.

У двары насупраць нехта трывожна перамаўляецца. Выходзіць Сюзаніна маці, з хвіліну стаіць на ганку, углядаецца ў пажар. Нарэшце, нахіліўшыся над парканчыкам, суцішыўшы голас, дакарае:

— Маладыя людзі, хто так робіць? Не ведаеце, які час? Ідзіце зараз жа ў дом! Глядзіце, а то зараз патрулі па вуліцы пойдуць!..

Толькі адзін раз, яшчэ летась, быў Міця ў Сюзаны. Заносіў кнігу. У доме яе маленькія пакойчыкі, патэфон на нізкім століку, пафарбаваныя дзверы, падлога. Не, цяпер ён не пойдзе. Дзякуй, Маргарыта Станіславаўна (з Сюзанінай маці Міця размаўляе ўпершыню). Ён жыве недалёка, дойдзе дадому агародамі.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### I

Наўздзіў ласкава-лагоднае трэцяе ваеннае лета. Цёплыя дні перарываюцца імклівымі навальніцамі, пасля шчодрых ліўняў зноў лашчаць вока бясхмарная сінеча неба і вясёлая зялёная зямля. Сонца ўзыходзіць у пераліўна зіхатлівым бляску, хаваючыся вечарам за густа-барвовым небакраем.

Трава ў расе, у лагчынах — туманы. Лета паволі схіляецца на спад, і шчымліва-прывабны ў такую пару лес: хмельны росквіт канчаецца, саступаючы месца задуменнасці і спакою.

Даўно разумнымі людзьмі заўважана: па вайне выпадае адменны ўраджай. Прыкмета спраўджваецца: трэці год ліецца чалавечая кроў, і ўсе тры леты рвуць зямлю густыя, высокія — схаваецца конь з дугой — жыты, буяюць ячмяні,

белымі азярынамі разліваецца грэчка. Невядома, як вытрываў бы гэты край, каб да нечуванага, нябачанага бацькамі, дзядамі спусташэння прычынілася засуха ці макрэча. Але Бог літасцівы...

Надвор’е што трэба,— жні, касі, малаці. Свеціць сонца, далячынь заслана лёгкай наміткай смугі, на небе ні хмурынкі. Палавіна партызанскіх рот памагае пагарэльцам на полі. Апрача сялянскага звычаю — большасць партызан з вёсак — ёсць практычная прыкідка: зіма не за гарамі, а лясная армія разраслася непамерна, каб пракарміць яе, трэба прыпасы, нарыхтоўкі.

Штаб засядае ў Сасновіцы.

Спалена яна, як і Аземля, як і другія вёскі, якія давалі партызанам прытулак.

З часу экзекуцыі прайшоў месяц, і вёска патроху ажывае. Сям-там на папялішчах узняліся шэрыя гурбачкі зямлянак, некаторыя гаспадары нават дрэва навазілі, ладзяць хаты.

Край гэты яшчэ Бог пашкадаваў: на дзве спаленыя вёскі адна цэлая, большасці жыхароў удалося ад карнікаў схавацца. Далей, на захад і поўдзень, дзе стаялі зімой Каўпак, Сабураў, іншыя рэйдавыя злучэнні,— мёртвая зямля. Немцы помсцілі там насельніцтву з асаблівай лютасцю: на дзясяткі кіламетраў наўсцяж — суцэльныя пажарышчы, жыхароў замардавана большая палавіна — іх палілі, тапілі ў калодзежах, расстрэльвалі, прачэсваючы лясы.

Мінецца ліхалецце, а сляды смерці, спусташэння надоўга астануцца. Некаторыя вёскі не падымуцца ніколі — няма каму іх падымаць. Нават у тых, хто астаўся жывы, нешта ў душы зламалася назаўсёды. Як ні круці, а палілі, стралялі, знішчалі людзей такія ж людзі, няхай сабе апранутыя ў эсэсаўскія мундзіры. Да чаго дайшоў чалавек!..

Перш чым сабраць штаб, Бондар два тыдні ездзіў па атрадах і брыгадах заходняй зоны.

Сустракалі па-рознаму. Найчасцей афіцыйна-стрымана, з халоднай, змушанай ветлівасцю, як бы аддаючы даніну павагі палкоўніцкаму званню начальніка штаба, які часова камандуе злучэннем. Цёплы, шчыры прыём ён напаткаў толькі ў двух-трох маладых брыгадах, на чале якіх стаяць такія, як

ён, акружэнцы ці былыя ваеннапалонныя. З пачутага, пабачанага напрошваецца вывад невясёлы: шматтысячнае войска, якое кантралюе цэлы край, камандзірам яго не лічыць. Нібы захапіў ён чужое, не належачае па праву месца.

Камандзіры сабраліся ў Сасновіцы, у размяшчэнні брыгады Гаркушы. Сядзяць за доўгім самаробным сталом. Сонца, па-летняму гарачае, плыве ўверсе, над зялёнымі купамі хвой. Справа — травяная паляна, за ёй пачынаецца чарналессе.

Бондар нервуецца. Сярод другіх пытанняў ёсць асаблівае: аб паводзінах камбрыга Міхнаўца, які ў час эсэсаўскай блакады ўхіліўся ад бою. Але Міхнаўца няма.

— Калі ноччу чыгункі не перайшоў, не прыедзе,— кідае Гаркуша, насупіўшы чорны, пабіты воспаю твар.— Давайце пачынаць.

Словы гаспадара трохі развейваюць змрочны настрой.

— Ведае кошка, чыё мяса з’ела.

— Міхнавец аб’екціўную прычыну знойдзе. Скажа — адбіваў блакаду.

— Ён цяпер нікога не шманае: гебітскамісара ўзарваў. У собсцвенным кабінеце.

На сасне трэснуў сучок, рыжай маланкай шуганула ў зялёную навісь вавёрка.

— Свежына пабегла.

— Страляй. Будзе бабе каўнер. Пасля вайны паліто пашые. Толькі цаляй у вока, каб шкурку не пашкодзіць.

— Я ўчора бачыў двух коз,— паведамляе словаахвотлівы Гаркуша.— А на тым тыдні — дзікага кабана. Пёр з аеру, як танк. Шчаціна на хрыбце — старчаком.

— Дзіва што. Дзічыны распладзілася.

Гаркуша, здаецца, забыў нават, для чаго сабраліся. Пачынае цэлую гісторыю.

— Калі б’юцца людзі, плодзіцца звяр’ё. І ў тую вайну так было. Я пастушком быў, помню. У наш лес панадзіўся мядзведзь. Задраў двух кароў. Бацька мяне цэлы месяц лупцаваў...

Звычайная сялянская хітрасць. Калі што не ладзіцца — пляці кашалі.

У лесе тым часам стрэл. Гулкае рэха тоне ў сасонніку.

— Едуць!

— Міхнавец без музыкі не можа.

— Апавяшчае, каб сустракалі карэту...

Гаркуша ўстае з-за стала, прыпадаючы на левую нагу, ідзе на паляну. З просекі выныраюць трое коннікаў. Прывязваюць коней, ідуць да будынкаў. Міхнаўца сярод іх няма. Гледзячы сабе пад ногі, дакладвае камісар, зусім малады яшчэ, ружовашчокі хлопец:

— Міхнавец захварэў. Прыехаць не можа.

Камандзіры апускаюць вочы. Некалькі хвілін трывае няёмкае маўчанне. Як нож разанулі Бондара словы, кінутыя ва ўсеагульнай цішыні камандзірам асобнага атрада Лежнаўцом:

— Давайце пачынаць. Прыляціць з Масквы начальства, разбярэцца. Хто што зарабіў, палучыць.

Аб прызначэнні новага сакратара абкама Бондар здагадваецца, хоць дакладных вестак няма. Пра высокага начальніка можна меркаваць толькі па грузах, якія прыбываюць на партызанскі аэрадром. У большай, чым раней, колькасці прывозяць іх дзяўчаты-лётчыцы. Яны ж пусцілі чутку, што партызанскі камандзір сядзіць у штабе авіяцыйнага палка, прыспешваючы перакідку аўтаматаў, толу, прыпасаў.

Бондар пачынае пасяджэнне. Бягучыя пытанні развязваюцца лёгка. Нават размежаванне брыгад, атрадаў па сельсаветах, каб пасільна для жыхароў весці харчовыя нарыхтоўкі, праходзіць без крыку. Сыр-бор разгараецца з-за боепрыпасаў.

— Бондар, дурную практыку кідай. Сваім гарбылёўцам стараешся.

— Чаму ім толу трыста кілаграмаў, а нам толькі сто?

— За два месяцы брыгада палучыла чатыры аўтаматы. Другім далі па дзесяць.

— Пры Лаўрыновічу такой несправядлівасці не было.

Крычаць Дзяруга, Паслядовіч, Сасноўскі, Млышэўскі — усе без выключэння камандзіры брыгад і атрадаў, што пачалі дзейнасць з сорак першага года. Зноў вытыркаецца Лежнавец:

— Хопіць, накамандаваўся! Прыляціць камандзір і падзеліць.

Лежнавец садзіцца і здрадліва адводзіць ад начальніка штаба позірк.

Збялелы Бондар маўчыць. Штосьці большае, чым аўтаматы і тол, тоіцца за абураючымі выгукамі камандзіраў, якія забылі пра ўсялякую дысцыпліну. Над сталом уздымаецца мажная постаць Вакуленкі. Разгарачаныя галасы сціхаюць.

— Ты, Лежнавец, чаму лезеш наперад бацькі? — грыміць дамачоўскі камбрыг.— Перамены пачуў, стажам выхваляешся? Правільна, ты ў лесе два гады, але эшалона ніводнага не скінуў. Ты думаеш, савецкая ўласць так ужо будзе дзякаваць табе, што ты чэсна па кустах туляўся ды бобікаў пужаў? Трэба дзелам браць, а не горлам. Гарбылёўскай брыгадзе болей далі, бо з чыгункі не злазіць. Мне меней выдзелілі, але я не крычу.

Вакуленка — дыпламат. Адсцябаў самага нахабнага, астатнія самі язык прыкусілі.

Вечарам Бондар з Вакуленкам ідуць па сасновіцкай вуліцы. На панадворках сям-там мільгаюць цёмныя постаці, ля зямлянак блякла свецяцца цяпельцы. Вяскоўцы гатуюць вячэру. Фыркае прывязаны да дрэва конь, рыпіць калодзежны журавель — нехта дастае са студні ваду.

У тым месцы, дзе стаяла штабная хата, глуха, пуста. Дварышча бязлюднае. Толькі ў глыбі агарода, як і раней, купка маладых груш-дзічак.

Мужчыны моўчкі здымаюць шапкі. Ведаюць абодва: Каця, гаспадыня штабной хаты, загінула. Дзяцей адвяла ў лес, схавала, а сама кінулася назад. Нешта яшчэ хацела выхапіць з двара.

Маўчанне парушае Бондар:

— Помніш, што Каця гаварыла? Чалавек прадчувае смерць.

— Кінь, Павел Антонавіч. Смерць кругом лятае. Прадчувай не прадчувай. Калі заварылі кашу, нехта ў яе трапіць. Харошая была баба. Ды ці адна яна?.. Такая навала.

У сасоннік, дзе стаяць рассядланыя коні, вяртаюцца хмурыя, занятыя сваімі думкамі. І толькі калі едуць па начной дарозе дамоў, у Бацькавіцкі раён, Вакуленка, параўняўшыся з Бондарам, гаворыць:

— А ты ведаеш, я сапраўды збіраўся ажаніцца з Кацяй. Мужык у яе нягеглы быў, п’яніца і загінуў па-дурному. Надумаўся зімой у Пцічы рыбу лавіць. У проламку трапіў. Нацярпелася яна з ім...

Некалькі гоняў едуць моўчкі. Неба засеяна зоркамі, узышоў месяц, дарога праглядваецца добра. Ноч, аднак, зябкаватая, Бондар апрануты толькі ў вайсковы кіцель, раз-пораз пацепвае плячамі.

— У мяне, брат, грэх на душы,— працягвае Вакуленка.— Цяпер трохі зацягнула, забыўся, а першую зіму месца не знаходзіў. Маю сям'ю тожа спалілі. Жонку, сына. Я з імі не жыў, разышоўся яшчэ ў трыццаць шостым. Страгача з мяне за ета перад самай вайной знялі. Прыляпіўся да адной сцервы. Збіраўся да сям'і вярнуцца, а тут — вайна. Новая нарачоная ў тыл драпанула. Ты, Бондар, не абіжайся, што на цябе крычалі. Акцябрскія камандзіры не любяць вас, хто пазней у партызаны прыйшоў, за тое, што вашы сем'і цэлыя і што гора настаяшчага вы не бачылі. Эшалонамі тут не дакажаш. У таго, Лежнаўца, бацьку, матку, трох дзяцей і жонку расстралялі, у Дзяругі — жонку і дзяцей. Ведаеш, песня ёсць: «Нашы хаты спалілі, нашы сем'і пабілі...» Пра нас, вот такіх, песня. Складзеная яшчэ ў першую зіму, як Акцябрскі раён знішчалі. Немцаў прагоняць, а як нам жыць? Каб мне хоць гадоў трыццаць было, а то ж сорак пяць...

— Ёсць і другія прычыны,— пярэчыць Бондар.— Партызаншчына. Быў бы я ў арміі... Была б тады, брат, другая песня.

— А па-мойму, лепшае, што ў нас ёсць, дык вот ета партызаншчына. Народ сілу паказаў і тое, што ён любіць савецкую ўласць. Калі беларусы на такую вайну падымаліся? Прывыклі на іх глядзець, як на ціхіх, пакорлівых. Ведама, балотныя, лясныя людзі. А яны, бач, што ўтварылі. Па ўсёй Беларусі кіпіць, як у гаршку. Вот спалілі нашы сёлы, загубілі столькі людзей, большая палавіна вобласці, лічы, што знішчана, а людзі, пагарэльцы няшчасныя, слова паганага нам не сказалі. Кормяць, пояць нас, як бы нічога не случылася. Разумеюць, што іначай нельга. Калі пайшоў на ворага — пра хату на думай. Залаты ў нас, Бондар, народ. Толькі пажыць яму па-людску не прыйшлося.

— Але ж на вайне трэба дысцыпліна.

— Ды кінь ты пра дысцыпліну. Ну, трохі не любяць вас, лейценантаў, капітанаў за тое, што адступілі ў сорак першым,

дык што? Што ты хочаш ад мужыцкага войска? Ваякі, сам ведаеш, не вельмі. Але затое другім узялі — усюды яны, як тыя мурашкі, што поўзаюць па ўсім лесе, а валакуць у адну кучу. Вот едзем мы з табой і ніякага чорта не баімся. Паліцэйскіх разагналі, каменданты ў норы пазашываліся — наша зямля. Армія пад Курскам ад немца адбілася, а мы — тут. Тыя аўтаматы, што сёння не падзялілі,— глупства, дробязь. Не аўтаматамі партызаны сільныя...

— Што ты прапануеш, Адам Рыгоравіч?

— Я вот што скажу табе, Бондар. Пры настаяшчым палажэнні з новым камандзірам ты не зработаешся. Як я з Лаўрыновічам. Сам прывык камандаваць, а тут новая мятла. Хоць не вельмі нас з табой слухалі. Аднак жа гонар ёсць. Я вот пераламаўся, пайшоў на брыгаду і табе саветую ўзяць прымер.

Бондару раптам робіцца лёгка. Адчувае, душу гняце невядомасць, і сённяшні выбух на пасяджэнні штаба — прадвеснік гэтай невядомасці, якая няўхільна насоўваецца. Вакуленка яго разумее лепей, чым хто.

— Зраблю, як ты. Гарбылёўская брыгада разраслася, трэба дзяліць.

— За ета хвалю, Бондар. Маладзец. Мамент адчуваеш. Галоўнае разумець, хто мы такія. Усе — я, ты, камандзіры, якія сёння артачыліся і драли горла. Усе мы ўпаўнаважаныя. Нас на нейкае места паставілі і нас могуць зняць. Як пра таго калгаснага брыгадзіра да вайны гаварылі — спачатку выдзвінулі, а пасля задзвінулі. Як, да прымеру, я пражыў сваё жыццё? Ішоў туды, куды пасылалі. Кім, брат, я толькі не быў. Пачаў сакратаром сельсавета, потым год рабіў у воласці, загадваў хатай-чытальняй, у калекцівізацыю старшынёй калгаса два гады быў, пасля зноў перакінулі на сельсавет. Работаў у сельпо, у райспажыўсаюзе, а як праштрафіўся — паслалі загадваць млыном. Дырэктарам ільнозавода паўгода пабыў, апошнія чатыры гады — на нарыхтоўках. Як пачалася вайна, месяц пакіраваў РЫКам...

Пра бальшавікоў, брат, толькі нашы ворагі плятуць, што мы захапілі ўладу, сталі новымі панамі, дыктатарамі. Ніякія мы не паны і не дыктатары, а ўпаўнаважаныя. Ідзём туды, дзе

трэба, і наша задача — выконваць усё, што загадваюць. Я вот партызаншчыну зачынаў, узнёсся, аж галава закружылася, а пасля цыкнулі — і сеў на сваё месца. Старая закваска ў адзін момант праявілася. З усімі так будзе. Артачацца камбрыгі, насы пазадзіралі, вольніцу пачуўшы, а самі таго не ведаюць, што яшчэ рады будуць, калі іх пасля вайны паставяць на сельсавет ці калгас. Такое, брат Бондар, наша жыццё, і з яго не выскачыш. Можа, і добра, што яно такое.

Я яшчэ вот што хачу табе сказаць. Народ нас цэніць, паважае, і трэба пастарацца, каб такая памяць пра нас засталася. Немцы сёлы папалілі, жывёлу забралі, але ў Германію яе не паспелі вывезці. Палавіна яе ў Росіцы ды яшчэ ў Бацькавічах. Зразумеў, куды гну?

— Як летась у Літвінавічах?

— Трэба пастарацца лепей. Каб ні адна сучка не цяўкнула.

## II

Лагер гарбылёўцаў, як і ў мінулым годзе, калі атрад толькі пачынаў дзейнічаць, у лесе. Але пад дрэвамі не адзінокія палаткі, а цэлыя лавы зямлянак, буданоў, навесы для коней, пасыпаныя жоўтым пяском дарожкі. Сосны, пад якімі раскінуўся лагер, былі некалі пасаджаны пад шнур, па раллі, але з цягам часу парадак парушыўся і цяпер ледзь-ледзь праглядваецца.

Злучэнне зноў мае сталага кіраўніка. Волах, які прыляцеў разам з цэлым штабам памочнікаў, чалавек у рэспубліцы вядомы. Займаў высокія пасады ў Мінску, на Палессе не раз прыязджаў — наглядаў за меліярацыйнымі работамі.

Двухгадзінная размова з вока на вока, якая вынікла ў начальніка штаба з новым камандзірам злучэння, супакоіла Бондара. Волах — сярэдняга росту, шыракаплечы, з мужным, відным тварам — чалавек дасціпны. Хоць на справы, што склаліся ў брыгадах, глядзіць крытычна, поспехі недаацэньвае.

Зрэшты, гэта ў парадку рэчаў. Цвёрдая рука патрэбна. Яе якраз не хапала. Цяпер усё ўвойдзе ў каляіну.

З другога боку, сакратар абкама намечаныя аперацыі ўхваліў, Бондара як бы нават узвысіў, загадаўшы ўзяць пад аса-

бісты кантроль усходнюю і Паўднёва-Прыпяцкую зоны. Узначальваць разгром нямецкага гарнізона ў саўгасе Росіца прызначыў батальённага камісара Гулікоўскага, які мінулагодняй восенню камандаваў з'яднанымі атрадамі, калі ўзрывалі мост на Пцічы.

Бярэ лейцы ў рукі Волах. Пакуль што ў брыгадзе Гаркушы, хоча разабрацца са смерцю Лаўрыновіча, з Міхнаўцом. Штаб злучэння пакінуў пры Гарбылёўскай брыгадзе, але ці надоўга?..

Дзіўны ў Бондара настрой. Адчувае, што нейкі круг яго жыцця замыкаецца, роля, якую іграў тут, у родных лясах, набліжаецца да канца. І справа не толькі ў тым, што прыслалі новага камандзіра, які, па ўсім відаць, не збіраецца дзяліць сваю высокую ўладу, а ў чымсьці непараўнальна большым, у новым павароце агромністых падзей вайны. Нямецкая армія адступае, і Курск — гэта цяпер ясна як божы дзень — быў адчайнай спробай фашыстаў вярнуць страчаную яшчэ зімой ініцыятыву. Разбілася ўшчэнт гэтая спроба, і Бондар не верыць, што немцам удасца сур'ёзна затрымацца на Дняпры ці ў якім-небудзь другім месцы. Праз два-тры месяцы Чырвоная Армія прыйдзе сюды. Што ён, Бондар, будзе рабіць далей? Куды выкіруе яго жыццёвы лёс? Яму прыслалі палкоўніцкі мундзір, але для арміі ён чалавек страчаны. Далёка наперад рушыла армія ў ваенным майстэрстве. Мяркуючы па ўсім, там, пад Курскам, была агромністая танкавая бітва. Ні абсягаў яе, ні арганізацыі сучаснага бою Бондар не разумее. Ён нават не ведае, адкуль узяліся гэтыя тысячы танкаў, якіх не было ў сорак першым годзе, калі нармальна працавалі ваенныя заводы, а немцы не паспелі захапіць агромністых тэрыторый. Ні дывізіяй, ні нават палком камандаваць у сучасным баі ён не зможа, а на батальён палкоўнікаў не ставяць. Дый ці пацягне ён цяпер батальён?..

Бондар пойдзе на брыгаду. Яго месца — у партызанах. Другога не дадзена. Толькі б з Росіцай развітацца. Лясная армія, якой ён камандаваў, як бы нясе віну перад насельніцтвам. Яно паіла, карміла партызан, і трэба адбіць кароў, якіх забралі эсэсаўцы. Карова — карміліца для селяніна...

З выпадку перамогі пад Арлом і Белгарадам — невялікае баляванне. На парослай ядлоўцам паляне, трохі наводшыбе ад буданоў, зямлянак, сабраліся мясцовыя камандзіры.

Прамоўцаў хоць адбаўляй. Устае са шклянкай Вакуленка, за ім Бальшакоў, затым — па заслугах, па стажы — ніжэйшыя камандзіры. Добра ўсё-такі, што сабраліся. Колькі ўсе яны, хто сядзіць за сталом, чакалі прасветлай часіны, калі адтуль, з усходу, прыляцяць шчаслівыя весткі. Колькі перадумалі, адпакутавалі. Не сакрэт жа, што год назад, калі немцы рваліся да Волгі, некаторыя дапускалі, што вайна можа быць прайграна або зацягнецца на дзесяцігоддзі. Зброі перад ворагам, аднак, ніхто складаць не збіраўся. Калі нявыкрутка, цесна стане тут, то наважвалі на Урал пайсці, у сібірскую тайгу, і партызаніць хоць да скону дзён.

Бондар падпіў, расчырванелы, свойскі, з расхрыстаным каўняром злінялай гімнасцёркі дапытвае суседзяў:

— Бальшакоў, на Волгу паедзеш? Кінеш нас, бедных лапцей?

— Тут астануся, Павел Антонавіч. Чэснае слова. У МТС папрашуся. Калі возьмеце.

— Возьмем! — гудзе застолле.— Нам такія кадры патрэбны. Правераныя, паліцічаскі выдзержаныя...

— Ты, Хмялеўскі, што будзеш рабіць?

— У школу пайду. У Журавіцкую, каменную, з якой летась бобікаў не выкурылі. Цяпер выкурым.

— Верна, Хмялеўскі. Мы цябе дырэктарам паставім.

— Я і быў дырэктарам. Толькі цяпер хачу з сяла ў мястэчка. Бліжэй да культуры.

— Перавязём. Кварціру дадзім. Для сямейнага жыцця з жонкай Соняй.

— Таварыш Вакуленка,— тым часам гукае Бондар.— Звяртаюся да цябе як савецкай улады. Ты будзеш старшынёй РЫКа. Ведаеш, якая ў мяне спецыяльнасць? Ляснічы. Я школу ў Бацькавічахканчаў. Пабажыся пры ўсіх, што паставіш ляснічым...

Да месца, да часу — песня. Новая, якая нарадзілася там, на вольнай зямлі, а ў партызанскім лесе вывучана нядаўна.

Идет война народная,
Священная война...

Гулка разлягаецца рэха ў навакольных соснах. Асцерагацца не варта — лес пад Рагалямі свой, партызанскі, не проста дабрацца да Рагалёў.

Не будут крылья черные
Над Родиной летать,
Поля ее просторные
Не будет враг топтать.

Да вечара хіліцца дзень. На паляну кладуцца доўгія цені, мітусяцца дзяўчаты, носячы ў гліняных місках закуску з кухні. Дзве ўжо за сталом, адна — побач з Бондарам. Чарнявая, шустрая, з залатым пярэднім зубам. Штосьці яму гаворыць, смяецца, а начальнік штаба ёй шклянку з гарэлкай падсоўвае.

Якубоўскі сядзіць насупраць, хмурыць густыя бровы. Раптам бляднее з твару, ускаквае:

— Грамадзянка, вы ў атрад адкуль прыйшлі?

— З Брэста. Мой муж быў ваенны.

— Недзе я вас бачыў. Вы акопы пад Вербічамі не капалі? У сорак першым, калі пачалася вайна...

— З Брэста я прыйшла...

Чарнявы твар у дамачкі між тым палатнее, ні крывінкі на ім. Рукі трасуцца.

— Не з Брэста, з Бацькавіч вы,— цвёрда гаворыць Якубоўскі.— Не разумею толькі, навошта маскарад?

Дамачка кідаецца галавой на рукі, на стол, плечы яе ўздрыгваюць ад гучных літанняў:

— Даруйце, парцізаны! Я нічога не рабіла... Не хацела рабіць. Мяне сілай паслалі. Жыла з адным. Не ведала, што ён такая сволач...

Допыт шпіёнкі праводзяць у той жа вечар. Ва ўсім прызнаецца, аддае бутэлечку са стрыхнінам. Яна сапраўды з Бацькавіч, прозвішча — Франя Бейзік, да вайны была замужам за эмтээсаўскім механікам. Заблытаў у павуціну Юрый Басняк, а потым яшчэ адзін па прозвішчы Аксаміт. Аддаў немцам, а тыя гразілі як жонку камуніста вывезці ў лагер.

Дзіўна адно: чаму верціхвостка прыйшла з такой недарэчнай легендай? Бацькавічы — пад бокам, мясцовага чалавека ў лесе лёгка пазнаць.

Вывад такі напрошваецца: спяшаюцца фашысты. Гарыць пад нагамі зямля. Некалі ім думаць.

## III

Рэха падзей пад Арлом, Белгарадам, у далёкай Італіі адгукаецца, перш за ўсё, у Паўднёва-Прыпяцкай зоне.

З Бацькавіч на Хвойнае пралягае ветка-аднапутка, яе ахоўваюць мадзьяры. Прыехалі на змену славацкай дывізіі, пераведзенай пад Мінск. Са славакамі ў партызан быў хаўрус, больш за сотню іх перайшло ў лес. З мадзьярамі сувязі няма. Чужыя, далёкія людзі, і мова іх яшчэ больш незразумелая, чым нямецкая.

Але цяпер становішча мяняецца. У штаб паступілі звесткі, што мадзьяры хочуць наладзіць зносіны з партызанамі. Ды гэта не ўсё. На станцыі Іванаўка, якая размяшчаецца прыкладна пасярэдзіне веткі-аднапуткі, наспела справа болей пільная. Немцы аднавілі там дрэваапрацоўчы завод, спалены мінулагодняй восенню Каўпаком, калі ён займаў Іванаўку. На работу прывезлі палонных сербаў — больш чым паўтараста чалавек. Зацея яўна бязглуздая: у партызанскі край прывезці людзей з другога партызанскага краю. Як трэба было чакаць, палонныя ўстанавілі сувязь з мясцовымі партызанамі. Скулу, здаецца, прарвала, хоць Сікора, камандзір атрада, чамусьці дыпламатнічае.

Тры дні ў штабе ліхаманкавая работа. Зварот да мадзьяр напісалі, трэба перакласці на венгерскую мову, а чалавека, які б ведаў гэтую мову, дзе знойдзеш? У атрады кінуліся пасланцы і такі даставілі ў штаб старога чэха, які служыць фельчарам у Дамачоўскай брыгадзе.

— Як жывеш, бацька? — пазнаўшы фельчара, пытае Бондар.

— Маю раматус,— чэх безнадзейна махае рукой.— Сам хворы, і жонка хворая. Мой сын прыйшоў да вас, а я хачу да-

дому. Да жонкі. Мая медыцына ест глупства. Ёду няма, бінтоў няма. Лячу травамі...

Бондар усміхаецца: не заўсёды пачуеш такую шчырасць.

— Восенню адпусцім. Чуў, бацька, немцаў гоняць, аж пыл курыць. Восенню нашы будуць тут.

— То праўда. Але я дадому цяпер хачу. Не маю сілы чакаць.

Фельчару далі лістоўку, папрасілі перакласці. Венгерскую мову ведае, відаць, някепска, бо заціснуты ў шурпатых пальцах аловак даволі лёгка выводзіць на паперы незразумелыя словы.

— Жыў там,— вяртаючы спісаныя аркушыкі, тлумачыць фельчар.— Тая халера называлася Аўстра-Венгрыя. Гімназію іхнюю скончыў. Магу яшчэ па-нямецку...

— Па-нямецку не трэба, бацька. Маем спецыялістаў. Патрывай трохі. Пусцім дадому і хату паставім.

Фельчара аддзячылі. Ён, відаць, сам не думаў, што ў высокім штабе палучыць пакунак, у якім сала, сушаная каўбаса. Чэх разгублена ўсміхаецца:

— Маю такі лёс. Буду служыць. Думаю атрымаць за свае пакуты пенсію.

За ноч лістоўку надрукавалі, а назаўтра Бондар з невялікім конным атрадам едзе пад Іванаўку. Чыгунку перамахнулі днём. Галопам праскочылі праз закіданы лясны пераезд паміж Жарнавіцамі і Грамамі, так што немцы нават стрэліць не паспелі. Коннікі ўзяты з Гарбылёўскай брыгады і навакольны лес ведаюць добра. Калі летась стаялі пад Альховам, вывучылі кожную сцежку. Каля шашы-брусчаткі прыйшлося, аднак, затрымацца: па ёй цягнулася на грузавіках доўгая нямецкая калона.

Перамаўляючыся з Гервасём, Бондар едзе паперадзе атрада. Дзеля сустрэчы з іншаземцамі надзеў палкоўніцкі мундзір.

Бондар загадзя ведае, што ў надпрыпяцкім кутку яго сустрэнуць не так, як два тыдні назад у заходняй зоне. Тут усе свае. Яшчэ летась куток разварушылі гарбылёўцы, а працягваюць справу атрады, якія выраслі з ініцыятыўных груп, пасланых вясной.

За шашой у ледзь прыкметным у траве зімніку дарогу перабягае чародка курапатак. Шэрыя далікатныя птушачкі зусім не баяцца людзей. Прашмыгваюць, не ўзлятаючы, пад самымі конскімі нагамі. Някошаная асака на балоце пачынае рудзець. З яе раз-пораз, лапочучы крыллем, уздымаюцца сытыя качкі, праляцеўшы пару гоняў, апускаюцца зноў.

Палуднаваць спыняюцца, заехаўшы ў мінулагодні лагер. Ён выглядае непрывабна. Узарваныя немцамі зямлянкі аселі, зверху, па засыпаных зямлёй накатах, параслі травой. Злезшы з каня, Бондар кіруе на край зарослага соснамі кургана. У выкапаным партызанамі калодзежы рудая, застойная вада. Нехта накідаў у яе трэсак, ламачча. А рачулка-ручай у тым месцы, дзе сасняк пераходзіць у чарналессе, журчыць па-ранейшаму, і дно чыстае, усланае пяском, дробнымі каменьчыкамі. Над ручаём пахіліліся лозы, вольхі, на звівах выступаюць скручаныя, аголеныя карані. Бондар здымае шапку, нагінаецца, набірае вады. Зубы зводзіць ад сцюдзёнасці. Ручай, хутчэй за ўсё, выцякае з якой-небудзь блізкай крынічкі, але дзе яна, ён не ведае. Не хапала часу пацікавіцца. Пражыўшы ў лесе, на прыродзе болей за год, ён зусім не зважаў на тое, што навакол.

Недзе на другім краі сасонніку азываецца зязюля. Толькі дзіўна яна кукуе: пачне і адразу спыніцца, як бы не хапае ёй дыхання. Бондар міжволі прыслухоўваецца: зязюля нібы не хоча налічаць яму гады.

Гервась тым часам рассцілае ў лажку, на схіле пагорка, папону, кліча Бондара. Партызаны ўжо сілкуюцца.

У душы нарастае хваля чуллівасці. Не могучы ўтрымаць яе ў сабе, Бондар гаворыць:

— Толькі год мінуў, як тут стаялі, а ніякага знаку. Зарастуць, хлопцы, нашы сцежкі. Разыдземся па работах, службах. Забудзем адзін аднаго...

— Не забудзем,— Гервась неяк бездапаможна ўсміхаецца.— Тое, што набалела,— ён тыцкае сябе пальцам у грудзі,— век буду помніць. І ты будзеш. Я ведаю, пра што думаеш. Усе думаем. Мы не тыя, што былі да вайны, і другімі не зробімся. Цану чалавеку ведаем. Мяне цяпер калаціць пачынае, калі чалавек думае адно, а гаворыць другое. Гнілы ён, не наш...

Байцы, якія разлегліся наўкруг папоны, з цікавасцю прыслухоўваюцца да гаворкі. Рабаваты Антосік — ён служыць у штабным узводзе,— матлянуўшы галавой, пытае:

— Няўжо зноў пачнуць дакапвацца, хто брат і хто сват? Мой цесць у старасты пайшоў, дык я яго так прыціснуў, што свайго ценю баяўся. Нам служыў.

Партызаны рагочуць.

— Цяпер паперы мала, на анкеты не хапае. Але прыйдзецца, брат, паспавядацца.

— Лепей з жонкай загадзя развядзіся...

— Ходу табе, Антосік, не будзе. Не разлічвай, што дадуць пасаду. Дарма, што да медалі прадставілі.

Нечакана з сасонніку вынырае бабулька з каробкай-лубянкай за плячамі. Убачыўшы незнаёмых людзей, памкнулася назад у гушчар. Партызаны завуць да сябе.

— Думала да куранёў прыбілася, а тут вы,— не ведаючы, з кім стрэлася, тлумачыць бабуля.

Бондарава мундзіра з бліскучымі пагонамі яна палохаецца.

— Мы парцізаны, бабка. Не бойся.

Пэўнасці ў старой няма. Яна раз-пораз кідае насцярожаныя позіркі на Бондара.

— А етага ахвіцэра ў плен узялі, ці як?

Яшчэ раз у лесе раскацісты рогат.

— Савецкія камандзіры цяпер такую форму носяць. Каб немцы баяліся. Наша армія наступае, хутка тут будзе. Нам вот аднаго свайго камандзіра прыслала...

— А няхай вас,— старая махае рукой,— напужалі дурную бабу. Хаты папалены, а яны цацкі на плечы панадзявалі. Думала, генерал нямецкі...

Вечарам пад'ехалі да Прыпяці. Спакойна, шырока разлеглася яна ў нізкіх, балотных берагах. Сонца вісіць нізка, і люстраная роўнядзь ракі, адбіваючы касыя праменні, як бы ўсміхаецца навакольнаму прастору. Цёпла, добра, ціха. Можна падумаць, што няма вайны, калатнечы, а толькі гэтая ласкавая рака, разлеглыя абсягі лугоў.

Бондару прыгадваецца выпадак, які здарыўся яшчэ на пачатку зімы. З-за Прыпяці ў Мінскі штаб прывезлі дзеда Талаша, славутага партызана грамадзянскай вайны. Дзеду амаль

сто гадоў, але ўвішны, разумны — такі, якім апісаў яго пісьменнік Якуб Колас.

Дзеда збіраліся накіраваць у Маскву, але самалёта не было. Тым часам у штаб прывялі высокага змізарнелага чалавека. Ён называў сябе французам, музыкантам. Але як праверыць?

— Вы яму скрыпку знайдзіце,— параіў Талаш.— Тады і ўбачыце, які ён музыка.

Скрыпку знайшлі, і салдат аж задрыжаў, убачыўшы яе. Імкліва водзячы смычком па струнах, зайграў «Кацюшу»...

Прыпяць як бы падзяляе тутэйшыя мясціны на балотна-лясную і стэпава-палявую часткі. Палявая роўнядзь з вялікімі буйнымі сёламі — жытніца краю. Раўнінныя калгасы збіралі адменныя ўраджаі, тутэйшыя кірмашы разлягаліся ад каровінага мычання, свінячага, парасячага віску.

Але партызаншчына на сытай стэпавай раўніне зарадзілася пазней, чым на паўночных пясках ды балотах. Мясцовыя атрады і цяпер трымаюцца ў лясах, а за Прыпяць робяць толькі імклівыя начныя вылазкі.

Коннікі рашылі заначаваць у Будным. Да Іванаўкі не так далёка, але ноччу, паблізу гарнізонаў, можна напароцца на засаду.

Буднае — свая вёска. Летась гарбылёўцы наведваліся сюды кожнага тыдня, мелі сувязных, старасту, які ім служыў. Некалькі мясцовых хлопцаў прыйшло ў атрад.

Але няма Буднага. Спалена. У вячэрнім паўзмроку шарэюць гурбачкі зямлянак, паблісковаюць на панадворках прытушаныя цяпельцы.

Не паспелі коннікі даехаць да сярэдзіны вёскі, як ад зямлянкі кідаецца наперарэз постаць кабеціны з распатланымі валасамі.

— Парцізаны! Пастойце!..

Калі коннікі спыняюцца, жанчына, перайшоўшы на шэпт, паведамляе навіну незвычайную. У зямлянцы сядзіць немец.

Дапытваюць салдата, ад'ехаўшы на ўзлессе, нацягаўшы, каб было на чым спаць, саломы, расклаўшы вогнішча. Салдат — вялізнага росту, буйны целам, але вельмі змізарнелы. Твар густа зарос, вочы запалі, рукі чорныя, брудныя. Мундзір

вісіць шкамутамі — відаць, доўга бадзяўся салдат па лесе. Але ў яго вінтоўка, патроны, нават дзве гранаты.

Пытанні перакладае Косця з Гарбылёў, смуглявы, з прыемным тварам хлопец гадоў дваццаці, якога Бондар за веданне нямецкай мовы прыстроіў пры штабе.

— Ён гаворыць,— паспешліва тлумачыць Косця,— што ўцёк з-пад расстрэлу. Шукаў партызан, бо інакшага выйсця не было.

Бондар касавурыцца на салдата.

— За што хацелі расстраляць?

— Ён кажа — за паражэнцкія настроі: сказаў другому салдату, што Германія вайну не выйграе.

— Адкуль у прыгаворанага да расстрэлу вінтоўка, гранаты?

— Гаворыць, ноччу вылез са склепа і напаў на вартавога. У лесе без вінтоўкі нельга.

— Дзе служыў?

— У Рэчыцы, у ахоўным палку. Кажа, ёсць другія салдаты, якія не вераць Гітлеру.

Партызаны глядзяць на немца ласкавей. Нехта дае запаленую цыгарку, і ён прагна раз-пораз зацягваецца...

— Лёгка ўсе праверыць,— дыпламатнічае Бондар.— Рэчыца — недалёка. Нашы людзі там ёсць. Высветлім усё, што трэба...

Калі Косця перакладае словы салдату, той усміхаецца, згодна ківае галавой.

Яшчэ праз гадзіну пра салдата ведаюць усё. Завуць яго — Бруно Габнер, родам з Гамбурга, мае жонку, двое дзяцей. Да вайны працаваў на металургічным заводзе, на страявую службу не ўзялі, бо хварэе на страўнік.

Пераход нямецкіх салдат на партызанскі бок — не такая рэдкасць. Пачынаючы з вясны, выпадкаў, падобных на гэты, было некалькі. У брыгаду Плотнікава перайшоў нядаўна цэлы ўзвод на чале з фельдфебелем. Немцы са станцыі Гарбылі таксама прыйшлі. Але тыя памагалі з мінулага лета.

## IV

Лес — як мора. На ўсю неаглядную даль разлегліся сасоннікі, дубнякі, бярэзнікі. Адсюль, з пяцідзесяціметровай вышкі, на якую дзеля цікавасці залез Бондар, добра бачны палянкі, просекі, насып чыгункі-аднапуткі, хаты і станцыйныя будынкі ў Іванаўцы. Немцы, мабыць, спецыяльна змайстравалі такую агромністую вышку, каб сачыць за партызанамі. Аднак не ўсачылі. Тыдзень назад, не чакаючы падмацавання, мясцовы атрад напаў на Іванаўку. З лагернай аховай справіліся сербы.

Дрэваапрацоўчы завод, дзе выраблялія шпалы, часткі для бункераў, дзотаў, зруйнаваны дашчэнту. Тырчаць абпаленыя слупы, ляжаць кучы цэглы, друзу.

Па партызанскім лагеры расхаджваюць чорнавалосыя, у абшарпаных вопратках людзі, узбуджана-радасныя, трапяткія. Усе яны страшэнна схуднелыя, выпетраныя — скура ды косці,— але вочы агнём гараць.

— Здраво, другар! Беясмо тресли немца![1]

Вязні жывуць перамогай. Іх гаворка збольшага зразумелая. Як і пачуцці, якіх яны не тояць. Браты-славяне з-пад далёкага сіняга Дунаю...

Камандзір атрада Сцяпан Сікора, велікан, з пустым правым рукавом камандзірскай гімнасцёркі, сядзіць перад буданом. Выгляд мае заклапочаны. Бондар ведае прычыну. У ахове лагера было каля трыццаці фашыстаў. Частка ўцякла, частку паўстанцы перабілі, васьмярых узялі жывымі. Патрабавалі над імі суда, і Сікора дазволіў.

— Я так падумаў,— тлумачыць ён,— фашысты здзекаваліся з іх, то няхай судзяць, іхняе права. Аднак жа, брат, лютыя яны. Горш, чым мы. Усіх васьмярых — у распыл. Як разбойнікаў з вялікай дарогі. Мы нават апамятацца не паспелі.— Сікора памаўчаў, пачухаў патыліцу.— Аднак жа непарадак. Тэрыторыя наша, таму і законы нашымі павінны быць. Волах, мабыць, намыліць мне шыю.

— Намыліць,— пацвярджае Бондар.— Калі выклікаў мяне да сябе, то якраз даваў разнос Гаркушу, падрыўнікі скінулі не той эшалон, а рэдактар у газеце напісаў.

[1] Дзень добры, таварыш! Пакалашмацілі немцаў! *(сербск.)*

Сікора рагоча.

— Але ж недавяркі. Хлопцаў, дапусцім, вінаваціць нельга. У зубы эшалону не глядзелі. Падклалі міну, і дай Бог ногі. А рэдактар — дубіна. Хоць, брат, я яго разумею. Злосны на фашыстаў. На сто гадоў хопіць злосці. Такога натварылі людаедства.

У поўдзень — навіны. Узят Харкаў, некалькі драбнейшых гарадоў, у зводцы — Сумскі, Палтаўскі напрамкі.

Навіну прыносіць Мядзведзеў. Ён у Сікоры начальнікам штаба. Акрыяў хлопец, нават начальніцкі выгляд мае. А летась такой парой ці трохі раней прыбыў у атрад. Здаецца, у акружэнне трапіў якраз там, пад Харкавам.

— Што можа быць за год, а, Сяргей? — радасна пытае Бондар.— Што далей будзе?

— Чырвоная Армія выйшла на аператыўны прастор. Праз месяц прыцісне фашыста да Дняпра.

Вечарам яшчэ адзін гарбылёвец паяўляецца — Камар. Служыць у атрадзе начальнікам разведкі і контрразведкі.

— Сустрэча з мадзьярамі ў суботу,— дакладвае ён не то Бондару, не то Сікору.— Лістоўкі сувязной перадаў.

Чакаць, значыць, яшчэ тры дні.

Астаўшыся ўдвух з Сікорам, Бондар пытае:

— Як мае кадры?

— Мядзведзеў талковы хлопец. Прыжаніўся тут з адной. Ты ж, можа, ведаеш — вясной яго цюкнула. Ну, а медсястра не толькі бінты перавязвала... А ў Камара характар як аршын. Можа дроў наламаць. З гэтым судом я яму даверыўся — і вось бачыш... Але за мадзьяр не бойся. Там, на станцыі, талковая баба. Зробіць што трэба. Я яе ў сорак першым спецыяльна пакінуў.

— Нешта ты хітруеш, Сцяпан Тарасавіч. Скажы чэсна, навошта мяне пазваў?

— Дзівак ты. Трэба твае пагоны паказаць. Гэты іхні камандзір роты ніякі нам не таварыш. Чысцейшы служака. Але нос па ветры трымае. Адчуў — ісці далей з немцамі не з рукі. Хоча гарантыю палучыць. Твае пагоны нам добрую музыку зробяць!..

Па руках пайшоў чарговы нумар раённай газеты. Пярэднюю частку займае тыднёвая зводка аб выніках баёў за

Харкаў. На другой старонцы некалькі заметак пра бой за вызваленне сербаў. Нават верш змешчаны, пад якім стаіць нязвыклае прозвішча — Багуміл Іваніч.

На бой, славяне,
Судьба сурова!
Неволи, рабства
Порвем оковы!

В крови, в пожарах
Белград и Прага,
В сердцах сыновьих
Растет отвага!..

Верш напісаў югаслаўскі лётчык, капітан па званні. Дасканала валодае рускай мовай. Бондар бачыў яго: чорны, шчуплаваты, з разумнымі сінімі вачамі. Толькі вельмі хворы лётчык-паэт. Нават ходзіць з вялікай цяжкасцю.

Усё цела на скулах. Трэба ў Маскву адпраўляць, бо тут не вылечыш.

Начуе Бондар з Сікорам у хлеўчуку на свежым сене. За перагародкай уздыхае, пражоўваючы жвачку, карова, раз-пораз азываюцца на шастку сонныя куры. Звычайнае, сялянскае хвалюе і радуе, як бы вяртаючы Бондара ў далёкі, напаўзабыты свет.

Да Сікоры ў яго — вострая цікавасць. Нечым шырокім, размашыстым ён нагадвае Вакуленку, хоць палітык, бясспрэчна, большы. Вакуленка толькі ў пачатку вайны стаў старшынёй райвыканкама, а Сікора быў першым сакратаром райкама доўгі час, імя яго вядомае. Яго пакінулі для падпольнай работы, але мясцовы атрад, як і некаторыя іншыя, у першую зіму не ўтрымаўся, і ён з невялікай групай прыбіўся да дамачоўцаў. Мінулагодняй восенню Сікору раструшчыла разрыўной куляй правую руку, і адцяў яе звычайнай, навостранай пілой, здаецца, той самы чэх-фельчар.

Увогуле ў надпрыпяцкім кутку Бондар адпачывае душой. Калі спавядацца перад сабой, то апошні час, асабліва пасля сутычкі ў штабе, прылёту Волаха, ён адчувае сябе няўтульна.

— Як у цябе з Волахам? — нібы ўгадваючы Бондаравы думкі, пытае Сікора.

— Ніяк. Баюся — не спяёмся. Пайду, як Вакуленка, на брыгаду.

Сікора доўга маўчыць.

— Я ўсё разумею. Але трэба сябе пераламаць. Волаха не ведаю. Але, думаецца, Панамарэнка дурнога не прышле. Ды справа нават не ў Волаху. На яго месцы мог быць другі. Новы этап наступае, вот у чым дзела. Партыйная работа падзапушчана, а трэба думаць пра заўтрашні дзень. Таму новага кіраўніка прыслалі. Ён ужо сёння пачне прыкідваць, каго на калгас паставіць, каго на сельсавет. А ты проста ваенны. Хоць, мабыць, і табе армія не засвеціць. Паставяць на раён, і будзеш цягнуць.

— Вайна не скончылася.

— Дык скончыцца. Не забывай, што мы партызаны. Прывыклі рашаць, як на наўгародскім вечы. А разбураныя гарады, заводы, спаленыя вёскі самі не падымуцца. Прыйдзецца зноў, брат, закасваць рукавы.

Бондара апошнія Сікоравы словы неяк непрыемна ўражваюць.

— Ты што хочаш сказаць?

— Тое, што чуеш. Ад гэтага мы ў вайну пацярпелі, але інакшага выйсця не бачу. Думаеш, чаму не ўтрымаўся мой і другія атрады ў сорак першым годзе? Таму, што армія адступала, а арміі, краіне насельніцтва аддавала ўсё. Ведаеш, як мы работалі? На знос. Дзень і ноч з каня не злазіш, носішся па раёне — давай, давай, давай!.. Хлеб, бульбу, малако, мяса, яйкі, шэрсць, лесанарыхтоўкі. Засекі падчыстую падмяталі. Днепрагэсы, заводы, гарады не святым духам раслі. А тут вайна — і ўсё як у прорву. Армія адступае, і выходзіць, няма апраўдання ахвярам. Як ударылі немца пад Масквой, інакшы настрой пачаўся...

— Разумею,— гаворыць Бондар.— Але ж горам навучаны. Ці нельга як-небудзь лягчэй?

— Цяжэй будзе. Да вайны хоць народу хапала. Прыедзеш у сяло — мужчыны, як дубы. Вайна, сам ведаеш, колькі тых дубоў навалiла. Яшчэ навалiць. Так што, браце, рыхтуйся. Будзе не да амбіцыі, вось пабачыш…

— Я неяк не так думаў. Лічыў — абы савецкая ўлада вярнулася. Тады наступіць свята.

— Што ж, наступіць. Перамагчы ў такой вайне — яшчэ якое свята. Дажыць бы толькі.

У хляве — вострыя, хмельныя пахі. За сцяной чуюцца асцярожныя крокі вартавога, кукарэкае певень. Поўнач ужо, пара спаць, але гамонка не спыняецца.

## V

Марыя Шастапал — якраз тая жанчына, на якую Сікора ўскладае надзеі ў перамовах з мадзьярамі. З выгляду яна някідкая: смуглявая да чарнаты, прысадзістая, з шырокім ротам і тоўстым, прыплюснутым носам. Аднак вызначаецца кабеціна незвычайнай увішнасцю.

У станцыйным пасёлку паўсотні хат, нямецкая казарма, вайсковы склад, і няма дня, каб Шастапаліха не аббегала хоць палавіны двароў, не вымяняла ў салдат кавалак мыла на яйкі, не паляскала языком з суседкамі.

Некалі ведала жанчына лепшыя часы: калі была маладая, тут, у Іванаўцы, навучала дзяцей грамаце, насіла туфлі-лодачкі, расквечаныя паркалёвыя сукенкі. Але выйшла замуж за ціхмянага Івана Няходу, які служыў вартаўніком пры краме, як боб пасыпаліся свае дзеці, і прыйшлося школу кінуць. Нават са станцыяй давялося развітацца, перабрацца ў вёску: там было лягчэй пражыць.

Калі прыйшлі немцы, Марыя з усёй сям'ёй вярнулася ў Іванаўку, заняўшы пустую хату начальніка лесаўчастка.

Але апусцілася Шастапаліха. Бryндае па вуліцы босая, з парэпанымі нагамі, у дзіравых, захлюндраных спадніцах. Сямейка немалая, пяцёра дзяцей, а яны есці просяць штодня, і тут не да форсу.

Сям'я жыве, як многія на станцыі: мае лапік агароду, засаджвае бульбай чыгуначны пралёт. Няхода соваецца па рэйках, раўняе броўку, падкручвае ключом шурупы, але на яго заработак не разгонішся. Выкручваецца Шастапаліха, гадуе дзяцей бабскай галавой. Штодня шастае па вёсках: там вымяняе за нямецкае мыла і сахарын курыцу, там — ражок сыру, а калі пашэнціць — то нават паўпуда мукі. Агонь баба...

Жаночае асяроддзе паважае Шастапаліху за добрае сэрца. Колькі было выпадкаў, калі немцы забяруць то аднаго мужчыну, то другога. Партызаны варушацца кругом, ну, а ў іх падазрэнне, што нехта мясцовы, блізкі памагае лясным бандытам. Хадатаем да каменданта заўсёды ідзе Шастапаліха. Ускудлаціць валасы, пусціць слязу, ляманту наробіць. Крые партызан, бальшавікоў на чым свет стаіць...

Многім памагла. Прыкідваецца дурной бабай, а самой пальца ў рот не кладзі. Калі палілі вёскі, а людзей гналі па вуліцы ў эшалон, то мігам выхапіла з гурту знаёмую дзяўчыну. Пакуль немцы ачомаліся, то тая дзяўчына ўжо ў яе ложку ляжыць, нібыта хворая на тыф...

Станцыйныя нават думкі не дапускаюць, што Шастапаліха знаецца з партызанамі. Квокча, як курыца-наседка, над сваімі дзецьмі. Калі захварэла старэйшая дзяўчынка, усю станцыю аббегала, а ўрача знайшла. Выпарала сярод палонных сербаў, якія рэзалі немцам шпалы. Тых сербаў цяпер звання няма. Як хвастом накрыліся, паказаўшы немцам дулю. Але то зрабілі партызаны, усю ноч трымалі станцыю пад абстрэлам, ніхто носа з хаты не вытыркнуў.

Станцыю ахоўваюць немцы, а чыгуначную ветку — мадзьяры. Іх бункеры размешчаны па ўсім прасцягу ад Хвойнага да Бацькавіч. На станцыі, аднак, знаходзіцца вайсковы склад, і мадзьярскія салдаты ў светла-зялёных мундзірах, з караткаватымі, як бы абрэзанымі вінтоўкамі часта сюды забрыдаюць. Некаторыя з іх не мінаюць Шастапалішынай хаты. Але тая з самім д’яблам завядзе гешэфты. Калі ў яе доме немцы ці гэтыя мадзьяры, то на злом галавы носіцца па вуліцы, выменьваючы ці пазычаючы ў суседак самагонку.

Так думаюць пра Шастапаліху пасялкоўцы.

Справядліва тут адно: жанчына сапраўды дрыжыць за дзяцей. Калі ідзе ў вёску, прымае ў доме немцаў, мадзьяр, дзяцей адпраўляе да стрыечнай сястры. Усё-такі родная кроў: калі што з маткай здарыцца, прапасці малым не дасць. Вечны клопат, страх зрабілі Марыю неспакойнай, непаседлівай, нейкай вогненна-няўрымслівай. Сваіх пачуццяў яна не тоіць. Тоіць работу, якой займаецца.

Сербаў яна звязвала з партызанамі праз урача. Два месяцы вяліся перамовы. Мадзьяры самі напрасіліся на дружбу.

Аднойчы ў хату завіталі трое. Маленькі, чорненькі, з дзвюма зорачкамі на пагонах трохі размаўляе па-руску. Яму трэба людзі, каб згрэбці сена, якое салдаты накасілі для коней, як можа, тлумачыць ён. Ні слова не кажучы, Марыя расшпільвае кофту, паказвае афіцэрыку перабінтаваныя грудзі. Тыдні два назад, вяртаючыся ад партызан, яна наткнулася на засаду, паўдня прасядзела ў балоце. Ад страху цела пабіла на скулы. Убачыўшы гэта, афіцэрык заплакаў, выбег з хаты.

Марыя ўзяла яго на заметку. Сустрэўшыся з Сікорам, расказала пра незвычайны выпадак. Камандзір загадаў зблізіцца з афіцэрыкам.

Дальнейшую работу павёў муж. Мадзьярскі бункер — кіламетраў за пяць ад станцыі, і якраз там пачынаецца Іванаў абход. Кошкаючыся ля насыпу, Няхода ўбачыў афіцэрыка, усчаў размову, запрасіў да сябе.

Прозвішча чорненькага — Муха, завуць Міхал, і ніякі ён не мадзьяр, а славак. Жыве ў Венгрыі, мае хлопчыка, і жонка вось-вось мусіць нарадзіць новае дзіця. Салдатам у такіх выпадках даюць двухтыднёвы водпуск. Водпуску Муха прагна чакае. Фашыстаў ён проста ненавідзіць. Прызнаецца Марыі — бярэ на заметку тых салдат роты, якія жорстка абыходзяцца з насельніцтвам. Што ж, такому чалавеку можна даверыцца...

Яшчэ да таго як уцяклі ў лес сербы, Марыя наладжвае сустрэчу Мухі з Сікорам. Той дорыць славаку партсігар. Кожнага дня, сустрэўшы Няходу, Муха дастае падарунак з кішэні, шчоўкае крышкай, па-змоўніцку падміргвае абходчыку.

Няхода цяпер нават у мадзьярскі бункер заходзіць. Муха, які служыць намеснікам камандзіра, яго туды пускае. Сядзіць з ім за сталом, гуляе ў шашкі. Але камандзір бункера, высокі, бялявы, з падціснутымі тонкімі губамі капітан Кіш, як толькі ўбачыць, выганяе Няходу з памяшкання. Не памагаюць ніякія Міхалавы просьбы і ўгаворы.

Мадзьяры — не сербы, перавесці іх у лес не проста. Тых, хто спачувае намесніку камандзіра,— чалавек пятнаццаць, а ўсяго ў бункеры — трыццаць пяць чалавек. Кровапраліцця

Муха не хоча. Тым болей што ён збіраецца ў водпуск. Паціху дамаўляецца з Кішам, каб і той пабачыўся з партызанамі. Кіш нібыта паставіў умову: будзе гаварыць толькі з партызанскім генералам.

Здараецца так, што надрукаваную па-венгерску лістоўку Марыя аддае не Міхалу, які ў той дзень не прыйшоў, а другому салдату, якога завуць Яначка і які з Мухай сябруе. Партызаны прыспешваюць, і яна адважваецца на такі крок.

Яначка проста скача ад радасці.

— Ай харашо! Ай да красны партызан!

Ён кідаецца да Марыі цалавацца і ўсё дапытваецца, дзе яна бачыла партызан.

Яна бароніцца як можа:

— У лесе знайшла, Яначка. Дзе я тых партызан убачу? Хадзіла па грыбы і знайшла.

Назаўтра — наогул неверагоднае. У хату прывальвае дзесяць салдат на чале з Мухам. Усе трохі п'янаватыя, узбуджаныя. Муха крычыць:

— У водпуск не еду! Пасля вайны ўбачу другі сын. Кіш згодны бачыць партызан. Давай хутчэй, партызанскі камандзір!

Няхода бялее. Бярэ дзяцей і шусь з хаты.

Толькі праз гадзіну, калі Няхода так і не вярнуўся, да Міхала даходзіць, што ён лішне развязаў язык. Вывеўшы салдат, зноў забягае да Марыі. Дамаўляюцца — сустрэча з партызанамі адбудзецца заўтра на ранейшым месцы.

Ноччу Марыя бяжыць у вёску, да дзяўчыны, якую вызваліла з нямецкага эшалона.

Ці то, можа, дзяўчына наблытала, ці яшчэ хто-небудзь, але на ўмоўным месцы салдаты нікога не дачакаліся. Калі вярталіся назад, у бункер, партызаны іх абстралялі. Яначку куляй прабіла крысо шыняля. Салдаты ходзяць панылыя, змрочныя, на Няходу нават глядзець не хочуць.

Ноччу Марыя зноў бяжыць у лес.

## VI

У адхоне, недалёка ад мадзьярскага бункера, ляжыць скінуты з рэек нямецкі вагон. Ён тут яшчэ з вясны, ніжнія колы закрыла трава, на верхніх скачуць, папіскваюць нейкія птушачкі — мабыць, дзе-небудзь у шчыліне вывеліся.

Няхода з нецярпеннем глядзіць у бок бункера. Да вагона апаўдня падыдуць партызаны, з мадзьярамі пакуль ніякай дамоўленасці. Справа вісіць на валаску. Калі сустрэча сарвецца зноў — прапалі ўсе клопаты. Марыя з дзецьмі ў лесе. Дома аставацца нельга.

Нарэшце з бункера выходзіць сямёра салдат. З імі Муха.

— Учора вас абстралялі чужыя партызаны,— напаўголаса паведамляе Міхалу абходчык.— Яны нічога не ведалі. Нашы прыйдуць сюды, да вагона.— Ён называе час.

Муха прыкметна весялее, глядзіць на гадзіннік.

— Мы ідзём на станцыю, за прадуктамі. Праз дзве гадзіны вернемся.

Пакутліва цягнуцца хвіліны. Пасля ўцёку сербаў станцыйныя немцы злосныя, недаверлівыя. Калі раптам аб чым-небудзь дазналіся?..

Разам з Няходам адзінаццацігадовы сын Віця.

— Лезь, сынок, на слуп і пільнуй. Скажаш, хто будзе ісці.

Між тым умоўлены час настаў, а мадзьяр няма. З-за вагона нехта махае Няходзе рукой. Ён ідзе туды. У кустах стаіць невысокі чарнявы партызан, трымаючы напагатове пісталет.

— Перадаў?

— Перадаў. Сказалі — прыйдуць.

Няхода зноў завіхаецца ля броўкі. Нарэшце сын крычыць:

— Ідуць!

— Колькі іх, сынок?

— Сем.

— Ну, то злазь.

Сем салдат пайшло на станцыю, столькі вяртаецца. Усё ў парадку. Яго, Няходава, справа зроблена. Узяўшы сына за руку, ён ідзе ў лес. Глядзець, як дамаўляюцца чужаземныя салдаты з партызанамі, дзіцяці не варта...

У лесе — новая прыгода. Падняўшы некалькі баравічкоў, Няхода з сынам толькі паспелі выйсці на дарогу, як убачылі

на ёй дзве фурманкі з мадзьярамі. Салдаты з бункера, але тыя якраз, хто ў тайну не пасвечаны. Твары злосныя, нахмураныя. Хадзіць па лесе забаронена, дабра не чакай.

Як на шчасце, на дарогу выпаўзае вуж. Няхода хапае яго, абвівае вакол шыі. Потым аддае вужа сыну. Салдаты смяюцца і, нават не запыніўшы Няходу, едуць да бункера. Абходчык з сынам ідуць услед.

Капітана Кіша прыводзяць у лес да Бондара і Сікоры салдаты. Іх дзясятка паўтара. Пакінуўшы камандзіра і яго памочніка Муху з партызанамі, самі адыходзяцца, залягаюць пад дрэвамі.

— З кім маю чэсць гаварыць? — халаднавата, афіцыйным тонам пытае Кіш.

Бондар выступае наперад.

— Палкоўнік Чырвонай Арміі. Камандую навакольнымі партызанскімі сіламі.

— Што вы закончылі?

— Маскоўскую ваенную акадэмію.

— Вы маеце сувязь з Масквой?

— Пастаянную. Пры дапамозе самалётаў.

Капітан з павагай глядзіць на залатыя палкоўніцкія пагоны партызана.

Даволі нацягнутую афіцыйную частку перагавораў з большым поспехам завяршае частка неафіцыйная. Партызаны не з пустымі рукамі з’явіліся. Ачышчаную вугалем, светлую, як сляза, самагонку не адрозніш ад пітва, якое прадавалася да вайны ў магазінах. Высушанай на сонцы шынкі, каўбасы — іх робяць у Запрыпяцкіх палявых вёсках — і ў магазінах не было.

Капітан не тоіць здзіўлення:

— Адкуль у вас такая раскоша?

— Пярэйдзеце да нас — убачыце. Галадаць не будзеце. Даём гарантыю.

У адзін круг сыходзіцца партызанская і мадзьярская ахова. Людзі цалуюцца, абнімаюцца. Кіш пасылае двух салдат у бункер за ромам.

— Дайце два дні падумаць,— просіць ён.

— Сёння ноччу,— стаіць на сваім Бондар.— Не забывайце, што Чырвоная Армія падыходзіць да Дняпра.

Салдаты, якія сядзяць і ляжаць вакол разасланага на зямлі настольніка, наперабой угаворваюць Кіша, і ён нарэшце здаецца.

— Сягоння ноччу. Няхай будзе так...

Надвячоркам, калі мадзьяры вяртаюцца ў бункер, ім зноў трапляюцца на вочы Няхода з сынам. Іх кошыкі поўныя грыбоў.

— Я даўно ведаў, што тут усе партызаны! — выгуквае ахмялелы Кіш.— І гэты абходчык, і гэтае дзіця...

Ціхая, зорная плыве жнівеньская ноч. У нямым стоеным маўчанні як бы застыў лес. Рэдкі крык начной птушкі ды нейкія ледзь улоўныя шорахі парушаюць яго цішыню і спакой. З лесу раптам выныраюць цёмныя постаці. Іх многа — цэлы ланцуг. Не прыгінаючыся, яны бягуць да акружанай дзотамі доўгай драўлянай будыніны. На пастах салдаты, якія аб усім ведаюць. Пачуўшы пароль, прапускаюць партызан у памяшканне. Хвілін праз дзесяць адтуль вынесены вінтоўкі, кулямёты. Тады чуваць зычная каманда:

— Выходзь строіцца!

Яшчэ праз колькі хвілін у шарэнзе па два — гарнізон бункера. Стаяць побач тыя, што ведалі пра змову з партызанамі, і тыя, што не ведалі. Толькі адзін салдат, высадзіўшы акно, у адным споднім кідаецца да лесу. Па ім не страляюць...

Аблітая з каністраў бензінам драўляная будыніна ўспыхвае як свечка. Далёка, на ўсё наваколле, відаць зарава. Партызаны страляюць у зорнае жнівеньскае неба, для адводу вачэй.

Строячы шарэнгу ў калону, Міхал Муха выгуквае:

— Мадзьяр ганвэд, элёре![1]

Была ў Надпрыпяцкім атрадзе адна інтэрнацыянальная рота, а цяпер будзе дзве.

---

[1] Мадзьярскі салдат, уперад! *(венг.).*

## VII

Вайна на чыгунцы носіць зменлівыя, нават драматычныя формы. Баючыся партызанскіх мін, немцы ездзяць вельмі асцярожна. Гружаныя баластам платформы, якія прычэпліваюцца паперадзе эшалона, паявіліся яшчэ летась. У адказ партызаны пачалі ставіць міны нацяжныя, з адведзеным ад узрывальніка шнурам. Шнур дае магчымасць узарваць міну якраз пад паравозам.

Ахоўнікі ўзмацнілі пільнасць. Цяпер ніводны састаў не пройдзе, перш чым вартавыя не агледзяць участка. Шнур тым часам замаскаваць нялёгка. І колькі разоў было, калі злосныя, даведзеныя да адчаю мінёры, бачачы, што міна выяўлена, узрываюць яе пад носам у вартавых. Эфект не апраўдвае затрачаных сіл. У лепшым выпадку забіты, паранены ахоўнік, на дзве-тры гадзіны перапынен рух цягнікоў.

Але на кожнае дзеянне ёсць супроцьдзеянне. Імкліва, акрылена працуе вынаходніцкая партызанская думка. Выйсце нарэшце знойдзена. Міны ставяцца націскныя, але іх узрывальнік разлічаны на прагіб рэйкі пад мнагатонным цяжарам паравоза. Грыміць чыгунка. На саракакіламетровым абсягу ад Гарбылёў да Бацькавіч за ноч ставіцца некалькі такіх мін.

Салдаты брындаюць па рэйках з мінашукальнікамі, са спецыяльна натрэніраванымі аўчаркамі. Але калі нават знойдуць адну-дзве міны, столькі ж застаецца.

Чыгуначная адміністрацыя ідзе на крайнюю меру. Хуткасць цягнікоў на небяспечных, прылеглых да лесу ўчастках змяншаецца да мінімуму. Дваццаць кіламетраў у гадзіну. Пры такой хуткасці, наскочыўшы на міну, эшалон пад адхон не ляціць. Сыходзяць з рэек паравоз, два-тры пярэднія вагоны.

Кола, здаецца, замкнулася. Мінёры вядуць лік не на скінутыя эшалоны, а на гадзіны, у якія чыгунка не працуе.

Тым часам на свеце — лета сорак трэцяга года. Самалёты, якія садзяцца на партызанскія аэрадромы, прывозяць не толькі тоны толавых шашак, а навінку, цуд для ляснога войска — супрацьтанкавыя ружжы. Біць па катлах паравозаў! Выводзіць са строю рухомы састаў!..

Лубанава група палучае два супрацьтанкавыя ружжы. Вокам чыгуначніка, інжынера Лубан адразу ацэньвае перавагу новай зброі. Цяпер можна проста дэзарганізаваць чыгунку.

Лубан не расстаецца з біноклем. Днямі выседжвае на ўзлессі, на вышках хлявоў, проста на полі, сочыць за чыгункай. Часу не шкадуе. За паўгода ён да дробязей вывучыў звычкі ахоўнікаў з розных будак. Ведае іх у твар, адрознівае па паходцы.

Па паравозах б'е Хомчанка — такое прозвішча матроса, які мінулай восенню прыстаў ля Зялёнай Буды да партызан. У яго класна палучаецца. Прабівае кацёл з першага стрэлу. Ахутаны воблакам пару паравоз па інерцыі імчыць сотню-другую метраў, затым, абяздыханы, спыняецца.

У фашыстаў — паніка. У тых, што ахоўваюць чыгунку, і ў тых, што едуць.

Настае Лубанаў час. Яны з Федзем звычайна выбіраюць месца за два-тры кіламетры ад Хомчанкі. Часцей на полі ці ў прагалах між лесу. Болей шансаў на поспех. Пачуўшы страляніну, выскакваюць на чыгунку. Мініруюць адразу дзве каляі.

Зіна жыве ў лесе ў будане. Яна — як жонка. Нават болей чым жонка. Усё, што Лубан страціў, знайшоў у ёй.

Дачцэ — гора мала. Пашыла кубанку, носіць штаны. Гойсае на конях з разведчыкамі.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### I

Як заўсёды, ранішні апель у чатыры гадзіны. На пуцях перад узбагачальнай фабрыкай чухкаюць парам манеўровыя паравозы. Да слыху даносіцца знаёмы грукат — з бункераў сыплецца ў адкрытыя паўвагоны вугаль.

Горад — наверсе, за масіўнымі металічнымі варотамі шахты. Адсюль, са змрочнай, застаўленай аднастайнымі баракамі нізіны, ён бачыцца вастраверхімі вежамі кірхаў, шэрымі

гмахамі будынкаў, аднапавярховымі дамкамі прадмесця, што чарапічнымі чырвонымі дахамі выглядаюць з раскіданых па касагору садоў.

Яшчэ вышэй — зялёныя шапкі Судэцкіх гор, яловыя, сасновыя лясы, яны цягнуцца па пакатых схілах да самых седлавін, як бы губляючыся ў хісткім тумане. На гэтым далёкім зваблівым краяглядзе часцей за ўсё запыняе свой позірк Сцяпан Птах — хутка год, як ён на чужыне, у шахце, насільна адарваны ад сям'і і роднай зямлі.

Лагер, у якім многа соцень людзей, аплецены калючым дротам, з чатырох канцоў над ім уздымаюцца вартаўнічыя вышкі, дзе ў сваіх будках сядзяць узброеныя кулямётамі вертушуцы. У лагеры ёсць палякі, французы, італьянцы, розны іншы люд, але толькі савецкіх зусім не пускаюць на волю — за ўвесь час Птах быў у горадзе тры ці чатыры разы, калі вязняў пад наглядам веркшуцаў ганялі адпампоўваць ваду са старых затопленых шахтаў.

За год няволі, спакутаваўшыся душой па дзецях, жонцы, доме, Сцяпан Птах перабраў па крупінцы сваё жыццё, але памылкі, якую б цяпер асуджаў, не знайшоў. У яго былі звязаны рукі, і зрабіць іначай, чым зрабіў, ён не мог. Калі памятным мінулым летам пасабіў партызанам раскруціць рэйку, то лічыў — кару панясе адзін ён, а сям'я ацалее. Пайсці з партызанамі ён таксама не мог, бо тады б нямецкая кара абрушылася на сям'ю. Птах свядома, дзеля жыцця сям'і ахвяраваў сабой, і яго кароткая, выпадковая сувязь з партызанамі яшчэ добра скончылася, бо немцы мелі падставы яго расстраляць.

Трапіўшы ў шахту, у пекла, Сцяпан з першага дня скіроўвае сілы і думкі на тое, каб як-небудзь ацалець самому. Вайна не вечная. Дзеці, не лічачы старэйшага Міці, малыя, ім расці і расці, а без бацькі дзеці — сіроты.

Апель між тым скончыўся. Сцяпан Птах становіцца ў чаргу да крана. За год работы ў шахце скура на руках, на твары, на ўсім целе адубела, у яе глыбока паўядаўся вугальны пыл — будзеш мыць яшчэ год і не адмыеш.

З другога канца ўмывальні, пятляючы між чэргамі вялых, паўсонных вязняў, да Птаха кіруе каржакаваты, досыць малады з выгляду паляк Тамаш Гушча. Ён вальнейшы, чым

Сцяпан, жыве ў горадзе, падрабляе на старане, збываючы адначасна розную драбязу, якую майструюць у вольны час вязні. Гора навучыць, Птах таксама зрабіўся адмысловым майстрам. З букавых аскабалкаў вырэзвае лыжкі, і яго тавар нямецкія гаспадыні купляюць.

— Пожондэк,— шэпча на вуха Птаху Тамаш, апускаючы ў кішэню яго картовага пільчака невялікі пакунак.— Пана выкліча пасля змены інжынер Хазэ. Вшыстке дамовленэ. Віншую пана.

У Птаха радасна трымціць у грудзях. Ад узрушэння не паспеў нават падзякаваць Тамашу, які гэтак жа нечакана знік, як і паявіўся. Навіна, якую той прынёс,— не простая, не звычайная. Яна — цэлае свята, круты паварот нявольніцкага Птахавага жыцця. Больш чым паўгода дамагаецца Сцяпан, каб як-небудзь вырвацца з шахты, з падзямелля, і нарэшце — прасветліна. На першым часе, не разумеючы нямецкіх парадкаў, ён замахваўся на немагчымае: хацеў уладкавацца стрэлачнікам ці сцэпшчыкам. Але то былі марныя спадзяванні. Такіх, як ён, на чыгунку не бяруць. Тамаш параіў прасіцца сартыроўшчыкам да бункера. Работа нялёгкая, але затое наверсе, на вольным паветры і таксама дае надзею для той справы, якую яшчэ з вясны задумаў Птах.

Сцяпан толькі злёгку спаласнуў пад струменем халоднай вады твар, не адчуваючы смаку, праглынуў тоненькі памазаны маргарынам бутэрброд, запіў паўлітровай бляшанай кружкай ячменнай кавы.

Немцы — злыдні. Рабочага чалавека кормяць, каб толькі ногі цягаў. Без тых пакункаў, якія прыносіць Тамаш, даўно б Птах аддаў Богу душу. Паляк — дарагі таварыш. Калі Сцяпану ўдасца выбрацца з пекла, усё жыццё будзе помніць Тамаша.

Пасля снедання — подбегам у раздзявалку. У немцаў разлічана ўсё да хвіліны, спознішся — схопіш ад веркшуца гумай па лабаціне, а то і ў карцар запруць. Птах палучае свой рабочы нумар, брызентавую робу, каску, карбідную лямпу, кайло, драўляныя ступакі — немцы іх называюць гольцшугі. Набытку — пуд. Каб не быў Птах змалку прывычны да цяжкай работы, прапаў бы за месяц. Праўда, падвільнуць у

змрочным сырым скляпенні ён таксама ўмее. Усе так робяць. Сілу трэба ашчаджаць. Працуеш не на сябе — на чорта лысага, то не рваць жылы сам Бог загадаў.

Таўставаты, стары штэйгер па прозвішчы Біркнер вядзе брыгаду да клеці. З гэтым штэйгерам Птаху таксама пашанцавала. Ёсць сволачы адпетыя, душу дастаюць, а з Біркнерам яшчэ можна жыць. Норму патрабуе і ён, але хоць не няволіць, дае чалавеку перадыхнуць. У мінулую вайну сам быў у рускім палоне, недзе аж у Сібіры, і добра Расію ўспамінае.

Біркнер ведае аб Птахавых захадах. Памагаць не ўзяўся — штэйгеру такое не з рукі, але парады даваў шчыра:

— Мі ест стары людзі. Нада работа лёгкі. Інжынеру Хазэ — маленькі гешэнк. Damals — alles im Ordnung[1].

Звініць званок, і цесная, закураная ад вугальнага пылу скрынка клеці імкліва ляціць уніз. Шахцёраў у ёй як селядцоў у бочцы. Бледныя, зняможаныя твары, пераважна маладыя. Немцы тасуюць рабочых, як спрытны ігрок калоду карт, доўга заседжвацца ў адной брыгадзе не даюць. Птаха, можа, таму, што немалады, не чапаюць.

Праз роўныя прамежкі часу мільгаюць асляпляльныя пляміны электрычнага святла. Гэта гарызонты шахты. Іх чатыры. На пятым клець спыняецца.

Птах прывычна ступае на чыгунныя пліты гарызонту. Пасля паўцёмнай клеці электрычнасць аж слепіць вочы. Душна, млосна, як у пекле. Грукат страшэнны: па рэйках бясконцых штольняў коцяцца ваганеткі з вугалем, вагончыкі з крапежным лесам. У глыбіню дзірак-калідораў імчаць чароды пустых ваганетак.

Птах, стараючыся не адставаць ад Біркнера, дыбае ў глыбіню штольні. Ступакі зняў, нясе ў руках — у непрыдатным абутку можна спатыкнуцца і разбіць лоб. Сцяпану хочацца расказаць, што пасля змены яго выклікае інжынер, але ў той жа час валодае ім нейкі страх. Штэйгер усё-такі немец і раптам перамяніў думку? Работа на волі, пад чыстым небам уяўляецца такім вялікім шчасцем, што Сцяпан баіцца яго сурочыць.

---

[1] Падарунак. Тады ўсё ў парадку *(ням.)*.

Нарэшце ён асмельваецца. Так ці іначай, Біркнер аб усім будзе ведаць, і лепей расказаць самому.

— Пан,— Сцяпан кранае штэйгера за плячо,— пайду сёння да інжынера. Я ўсё зрабіў, як пан раіў.

Твар у немца хмуры, непрыветлівы. Птах не рад, што зачаў гаворку.

— Добжэ,— азываецца штэйгер.— Рад за пана. Glück auf![1]

У забоі штрэка мігатлівымі светлячкамі паблісквауць карбідныя лямпы. Тым часам тоўсты падрыўнік закладвае ў цёмную сцяну пароды выбуховыя патроны, замазваючы адтуліны глінай. Немец таксама даўно знаёмы. Як памятае Сцяпан, спускаецца ён у шахту, валочачы на адным плячы скрынку з дынамамашынаю, а на другім — драўляную каробку з патронамі. Яны, вязні, трохі нават падлізваюцца да падрыўніка — памагаюць несці прычындалы, частуюць цыгарэтамі, а іншы раз і патаемна раздабытым шнапсам. Дзіва няма — ад таўсцяля шмат залежыць. Чым болей ён зробіць выбухаў, тым лягчэй вязням. Меней прыйдзецца дзяўбці кайлом, не так сцягнецца надакучлівая дзесяцігадзінная змена.

Падрыўнік нарэшце вышморгвае з забою. За ім, не чакаючы каманды, шахцёры бягуць у бакавы штрэк.

— Ахтунг!

Па прывычцы Птах закладвае пальцы ў вушы. Немец круціць ручку дынамамашыны, і адзін за другім грымяць выбухі. Па касцы, адвальваючыся ад столі, б’юць дробныя каваланчкі пароды. У штрэку непрыемны саладкаваты пах. Ён мяшаецца з вугальным пылам і аж зацінае дыханне.

У Сцяпана — напарнік, маўклівы, высокі ўкраінец гадоў трыццаці. Ён таксама рвецца наверх. За доўгія месяцы сумеснага бытавання ў падзямеллі мужчыны адспавядаліся адзін аднаму, і Птах ведае пра таварыша ўсё.

Змітро Карніец — так завуць украінца — займаў да вайны высокае становішча. Быў механікам, затым нават дырэктарам МТС. Так здарылася, што перад прыходам немцаў ён адправіў на ўсход трактары, камбайны, а сам эвакуіравацца не здолеў. Спрабаваў шкодзіць немцам і трапіў у іхнія лапы.

---

[1] На шчасце! *(ням.)*.

Кожная змена пачынаецца з таго, што шахцёры, разбіўшыся на пары, валакуць у забой крапежныя стойкі. Сцяпан іх цягае са Змітром. Карніец вышэй ростам, яму лягчэй. Птах зважае напарніку — не з мазаля жыў, добра і так, што стаіць на нагах.

Яшчэ напрадвесні Птах наважыў уцякаць. Шахта выматвае дашчэнту, і чалавека хопіць ненадоўга. Як чыгуначнік, ён разумее — уцячы можна толькі ў вугальным паўвагоне.

— Загнуся я тут,— пасля трэцяга бервяна гаворыць Змітро.— Ты вот хоць сонца ўбачыш.

— Не распускай нюні. Калі я выберуся наверх, то і ты там будзеш.

— Далёкая песня...

Тут, на чужыне, Сцяпан адчувае сябе дужэйшым за таварыша. Такіх, як Карніец, нават маладзейшых, у лагеры — палавіна. Прывезеныя з Беларусі, Украіны, Расіі, захопленыя ў палон у першыя месяцы вайны, на немцаў глядзяць коса, сілы не ашчаджаюць. Многія звялі на вачах. Былі і такія, што ўцякаць кідаліся. Але нямецкая пастка прыдумана хітра: пералавілі амаль усіх. Збітых, акрываўленых, парваных сабакамі, прыводзілі назад у лагер, каб застрашыць астатніх. Некаторых затым перапраўлялі ў канцэнтрацыйны лагер, дзе людзей паляць у печах.

Перанасіўшы стойкі, Птах са Змітром прысаджваюцца ў цёмным кутку. Сцяпан здымае ступакі, вытрасае з іх вугальныя крошкі.

— Калі возьмуць наверх, што-небудзь прыдумаю. Не вешай носа. Сухароў я прыпас.

— Два кілаграмы?

— Ты хацеў пуд? Калі ўваб'ёмся ў вугаль, то язда нядоўгая.

— Яшчэ невядома, куды завязуць.

— То сядзі тут.

Напарнік, хоць быў дырэктарам, з панылай пароды. Рамяства ў руках няма, наверх наўрад ці выберацца. На свеце трымае яго Птах.

Заседжвацца нельга, куча вугалю вялікая. Жалезная лента транспарцёра ўвесь час яго прыбаўляе. Нацяўшыся, Птах порстка кідае вугаль у ваганетку. Трапляюцца кавалкі — не

падняць. Такія ён адкідвае ўбок, разбівае кайлом. Млосць цяжкая толькі напачатку. Калі размахаешся, стома праходзіць. Схуднеў Сцяпан, выветраў, як быліна. Не так ад работы, як ад нуды. Усё б на свеце аддаў, каб вярнуцца дадому. Туга другі раз бывае настолькі вострай, што ён плача. Усе плачуць. Ноччу, распластаўшыся на нарах, ахопленыя трывожным сном, проста выюць. Скрыгочуць зубамі. Самае дарагое ў чалавека — радзіма. Адняць яе, бадай, тое самае, што адняць жыццё.

Тут, на чужыне, Птах да болю ў сэрцы сумуе па лапіку зямлі, што ляжала вакол будкі, пахла квеценню грэчкі, скошанай травой, мокрай карой кустоў. Шчасце было разліта ў кожнай драбніцы, з якой пачынаўся і канчаўся дзень. Свяціла сонца, перагукваліся птушкі, на сухім грудку стаяла сасна. Праходзіў статак, рыкалі каровы, над шляхам падымалася плёнка пылу — ён паціху спадаў на прыдарожную траву. Праносіліся па рэйках цягнікі, агалошвалі будку гудкамі, тады зноў наступала цішыня. Ён, мабыць, і да абходчыцкай службы прывязаўся, бо любіў непрыкметныя радасці, якіх не заўважаеш да таго часу, пакуль яны ёсць, як не заўважае чалавек паветра, якім дыхае.

У прыгожай, прыдатнай мясціне ён жыў. Зіма, лета, восень мелі там свае адметныя колеры. Вятры гулялі вольна, то працяжна-аднастайна, то пагрозліва-гнеўна шумелі яны ў шатах сасны. Лілі, церусіліся дажджы, снягі пакрывалі зямлю белым дываном, навальваючыся гурбамі пад кустамі і дрэвамі. Ноччу неба засявалі зоркі, была прывабнасць і ў тым, калі небакрай зацягвалі воблакі, цемень вісела хоць вока выкалі, а па правы, левы бок чыгункі мільгалі аганькі местачковых хат. Птах аж зубы сціскае, калі ўспамінае ўсё гэта.

Рытм работы зладжаны, вывераны. За выкананне нормы, нялёгкай нават для вольных шахцёраў, якія жывуць у горадзе,— пайковая надбаўка. Трохі болей хлеба, маргарыну, штучнага мёду ці бураковага павідла. Надбаўкай Птах даражыць, норму стараецца даваць. Інакш ад недаядання выпрастаеш ногі.

Несціхана гудзе транспарцёр, грукаюць вугальныя кавалкі аб жалезную ленту, даносіцца глухі посвіст вентылятара, і як адзіная прасветліна ў падзямельнай аднастайнасці — подых

свежага паветра, якое накачваюць у шахту па гумавых трубах. У канаўцы, прабітай збоку, у доле штрэка нячутна цурчыць вада. Цяжкія кроплі раз-пораз падаюць зверху, непрыемна казычуць твар.

Калі нічога не сарвецца, то гэта апошні Сцяпанаў дзень у забоі. Няхай будзе праклята чорная дзірка! Наверсе, ля такога ж канвеера, не лягчэй, але там неба над галавой, а ўнізе, пад бункерамі ўзбагачальнай фабрыкі, жаданыя чатырохвосныя паўвагоны. Адсюль, з Сілезіі, яны разбягаюцца па ўсёй Германіі, але многа вугалю вывозяць у Польшчу і нават далей, у Расію, бо нямецкія цягнікі ходзяць аж за Смаленск і Харкаў.

У сваіх думках Птах нават дапускае магчымасць, калі, зашыўшыся ў вугаль, ён праедзе па знаёмай чыгунцы міма роднай будкі, сасны, а, трапіўшы на станцыю, прыцемкам выберацца на волю. Цяпер не мае значэння, што ў мястэчку немцы. У роднай хаце памагаюць вуглы. Месца сабе ён знойдзе. Калі трэба, адшукае таго ж Івана Гусоўскага, якому памагаў падрываць цягнік. Абы жыць блізка ля дому, хадзіць па бацькоўскай зямлі, бачыць сваіх дзяцей.

У лёгкае шчасце Птах не верыць. Зваблівыя надзеі адкідае. Трапіць у вагон, выбрацца за калючы дрот — і то шчасце. Сілезія побач з Польшчай, а там ён на волі.

На хвіліну ў забой заглядвае Біркнер. Стаіць, маўкліва назірае за работай, затым гэтак жа маўкліва адыходзіць. Сёння ён не ў гуморы. А ўвогуле гаваркі чалавек.

Норма не малая — дзевяць ваганетак. Птах іх выкачвае са штрэка, крэйдай надпісвае на бартах свой нумар, на галоўнай магістралі чапляе да чародкі другіх. Каля кожнай ваганеткі невялікі перадых.

Палавіна нормы ёсць, і, узлёгшы на кучу вугалю, Сцяпан з напарнікам перакусваюць. У пакунку, які перадаў паляк,— лустачкі хлеба, намазаныя шмальцам, два скрылікі каўбасы, палавіна цыбуліны.

У Германіі — карткі на ўсё. Прыватнікі маюць уласныя крамы — хлебныя, мясныя, малочныя,— але тавар адпускаюць па картках. Нормы мізэрныя, самі немцы палучаюць хлеба толькі па дзвесце грамаў.

Прасветліна, вядома, ёсць. Гаспадарчыкі сёе-тое прыхоўваюць. Хоць чорны рынак забаронены, абмен, гандаль вядзецца. Нават у вязняў немцы купляюць іх вырабы. Лагер збывае ў горад драўляныя лыжкі, кошыкі, якія вязні плятуць з рознакаляровага дроту, самаробныя цацкі і самае галоўнае — вугаль. Ахвотнікаў на вугаль — хоць адбаўляй.

Пасля абеду марудна, пакутліва цягнецца час. Нарэшце чатыры гадзіны дня. Канец змены. Ва ўсіх адгаліненнях штрэка чуваць грукат ступакоў. Жалезная клець імкліва ляціць наверх.

Наверсе вязняў чакаюць узброеныя веркшуцы. Вядуць у душ, у гардэробную, дзе кожны бярэ свае лахманы, і нарэшце — у баракі.

Перад лагерам, па той бок дроту — сінія буданчыкі на гумавых колах. Там жывуць спецы, якія працуюць на шахце. Інжынер Хазэ таксама там. Перад дзвярамі барака Птаха запыняе блокавы стараста.

— Заўтра — на бункер. Хазэ загадаў.

Сцяпан ледзь не задыхаецца. Першы яго шчаслівы дзень на чужыне. Зусім другімі здаюцца горы шэрай, вываленай пароды — яны сям-там дымяць, курэюць,— прамавугольнікі баракаў, змрочная будыніна шахтнага кіраўніцтва.

У глыбіні душы — хваля зласліва-помслівага пачуцця. Немцы толькі на выгляд — непрыступна-строгія, непадкупныя. Але хабар любяць. Калі Птаха садзілі ў эшалон, заплаканая жонка дала ў рукі завязаную ў насоўку залатую дзясятку. Адзіны ў доме скарб яны ашчаджалі, з таго дня, як пажаніліся.

Птах даверыў дзясятку паляку, той паклаў у лапу інжынеру.

## II

Хутка месяц, як Птах ля бункера. Змітро занямог, не дачакаўшыся, пакуль Сцяпан яго выбавіць з шахты.

А навіны, якія прыходзяць з роднай зямлі,— лепей не трэба. Газет у лагеры няма, з рэпрадуктараў, прыбітых да слупоў, грымяць загады, распараджэнні, а ў часы апелю — нямецкія маршы. Тым не меней пра падзеі на фронце, пра астатняе,

што робіцца на свеце, вязні ведаюць. Навіны прыносяць рабочыя, якія вольна жывуць у горадзе. Сёе-тое паўшэптам расказваюць самі немцы.

Вязні ўзнялі галаву яшчэ зімой, калі даляцела вестка пра Сталінград. Цяпер, летам, воля яшчэ бліжэй.

Новы Птахаў сусед таксама ўкраінец. Перад пачаткам работы ён трогае Сцяпана за рукаў:

— Слухай, таварышу. Вістка така, што скакаць хочацца. Нашы ўзялы Харкаў. Від майго сэла цэ міста за шэсцьдзясят кілометраў. Хоць душой не страдаціму: жонка, дзеці, мабуць, на волі.

Птах расказвае пра Карнійца. Занямог таварыш, звязвае рукі. Сусед разумее з паўслова.

— Ты не Бог, а людына і думай пра сэбе. Маіх двух друзів тут замардувалы. Яй-богу, кінуўся б цікаты, та не мае здароўя. Схоплюць.

Мала каму ўдалося вырвацца на волю. Змітро тае на вачах. Высах, як націна, ліхаманкава блішчаць запалыя вочы. Ужо на ногі не ўстае. Хвароба есць яго знутры.

Птаха мучыць сумленне. Сам выбраўся наверх, а таварыша ў бядзе пакінуў. Хоць другой дзясяткі не было. Цяпер ясна, што Змітро трываў у шахце дзякуючы таму, што палавіну яго работы браў на сябе Птах. Слабы чалавек, не ў шахце яму...

Дзе яго ратунак? Няма пакуль. Уцячы, убіўшыся ў вугаль, як думаў раней Птах, не проста. Паўвагоны — пад бункерамі, у адзін з іх скінуцца можна. Але вугалем так заваліць — не прадыхнеш. Кавалкамі, якія адбірае Птах, наогул можна забіць. Стукне двухкілаграмовая цацка па галаве — і канцы. Без дамоўленасці з другімі людзьмі, якія робяць на ўзбагачальнай фабрыцы, нават думаць пра ўцёкі нельга.

З вышыні надшахтнай галерэі блізкім, прывабным здаецца лес. Зялёнымі лавамі атулены пакатыя схілы Судэцкіх гор. Горы адразу не канчаюцца. Вялізныя, падобныя на выпечаны пірог пагоркі, адзін за другім выныраюць на раўніне, хаваючыся за небакраем. Між імі раскіданы пасёлкі, гайкі, ланцужкі прысадаў. Тугá сціскае Птахава сэрца. Няспынна паўзе лента транспарцёра. Буйныя кавалкі вугалю сартыроўшчыкі выхопліваюць адразу, кідаюць у бункеры, меншыя ідуць на грохаты,

а самая дробязь разам з вугальным пылам, пародай — у ванну. Грыміць скіп — вялізная жалезная скрынка,— ім вугаль падымаюць з шахты. Скрыгочуць туга нацягнутыя стальныя тросы. Пад бункерамі ўзбагачальнай фабрыкі ляскаюць буферамі пададзеныя пад пагрузку паўвагоны.

Тут, наверсе, усё-такі лягчэй. Хоць неба над галавой, і гэтыя зваблівыя паўвагоны ўнізе.

Змітро тым часам у санітарным бараку. Там — дахадзягі. Страшна глядзець, як з імі абыходзяцца. Кормяць адной бруквеннай бурдой.

Вечарам у лагеры нешта нязвычнае. Каля барака — купкі ўзбуджаных вязняў. Размаўляюць, смяюцца, размахваюць рукамі. Немцы — змрочныя, як асеннія хмары.

Птах дазнаецца аб прычыне: выйшла з вайны Італія. Італьянскіх рабочых, якія вольна жылі ў горадзе, загналі за дрот. Чарнявыя, шустрыя людзі, чымсьці падобныя да цыганоў, цяпер у цэнтры ўвагі. Іх акружаюць, паціскаюць ім рукі, нібы яны нейкія героі.

Пра Італію Птах не думае. У галаве — другі клопат. Вечарам ён сядзіць каля Змітра. Вялікія вільготныя вочы таварыш уталопіў у столь, цяжка, перарывіста дыхае. У бараку смурод, бруд, неахайнасць.

— Пра мяне не думай, Сцяпан,— чуе Птах слабы голас.— Не ўстану. Даўно ў мяне пачалося. Мая песня спета. Калі вырвешся, напішы жонцы.

Сухая, гарачая рука знаходзіць Птахаву руку, да болю сціскае. У Сцяпана міжволі цякуць слёзы. Ён нахіляецца над тварам хворага.

— Буду з табой. Ты паправішся.

У бараку між тым кашляюць, хрыпяць, стогнуць. Жывыя могілкі. Пабыўшы тут хоць дзень, захварэе здаровы.

Птах вымае з кішэні загорнуты ў масляную паперу пакуначак. Кладзе ў тумбачку.

— Памру я. У мяне сухоты. Уцякай, Сцяпан. Хлеб еш сам. Іначай прападзеш. Я ўжо тры дні нічога не ем.

Змітро зноў хапае Сцяпанаву руку і, паднёсшы яе да вуснаў, прагна, ліхаманкава цалуе. Болей Птах трываць не можа. Нахіляецца да Змітровых грудзей, прыпадае тварам, затым, нічога ад слёз не бачачы, выскаквае з барака.

## III

Уцякаць, толькі ўцякаць!..

На ранішнім апелі веркшуцы паспешлівей, чым звычайна, пералічваюць рабочых.

Тамаш знаходзіць Птаха ў прыбіральні. Прыняўшы ад паляка пакунак, Сцяпан затрымлівае яго руку ў сваёй.

— Пагаварыць трэба. Ведаеш пра што.

Твар у Гушчы сур'ёзнее.

— Знайду пана пасля змены.

Увесь дзень Птаха трасе. Пра яго намер Тамаш ведае. Збіраліся ўцякаць разам са Змітром у вугальным паўвагоне. Але цяпер трэба шукаць другі ратунак. Адзін, без дапамогі, у вугаль не ўваб'ешся. Закідае вугалем так, што не прадыхнеш.

Ва ўмоўлены час Тамаша няма. Ноччу Птах не спіць. Не ведае, што думаць. Можа, спалохаўся паляк? Прадаваць лыжкі — не тое што спрыяць уцёкам.

На ранішнім апелі Птаха не выклікаюць. Што гэта значыць? Другая змена, у якую трэба заступаць, канчаецца ноччу.

Птах распіхвае па кішэнях сухары, за пазуху кладзе фляжку з вадой.

Час на рабоце цягнецца пакутліва. Грыміць транспарцёр, з грукатам сыплецца ў вагоны вугаль, з цэментавых ваннаў-ям, дзе дробную крошку аддзяляюць ад пароды, патыхае едкім, задушлівым пахам. Птах як сам не свой. Адчуваючы, што загіне ад адчаю, роспачы, ён нарэшце прымае рашэнне. Калі не прыйдзе паляк, ён кінецца ў бункер. Адкладваць далей нельга. Трэба толькі разлічыць, каб вагон быў засыпан болей чым напалавіну. Калі вагоны пацягнуць, ён выберацца бліжэй да паверхні.

Пачынае цямнець. Птаха калоціць. Як затраўлены воўк, ён сочыць за майстрам. Той нарэшце знікае з пляцоўкі. Самы час рынуць у чорную прорву бункера. Адно імгненне аддзяляе Птаха ад безразважнага, адчайнага кроку. Ён не робіць яго. Нешта стрымлівае. За кароткі міг перад яго ўнутраным позіркам з шалёнай хуткасцю пралятаюць пражытыя гады. Ён ніколі не пароў гарачкі. Гарачка — смерць. У маладосці

п’яны суседскі хлопец ударыў яго калом па плячы. Перабіў ключыцу. Боль быў страшэнны. У Птаха ў руках быў жалезны шворан. Але ён стрымаўся. Потым дзякаваў лёсу, што не падняў рукі на дурня. Забіў бы напавал...

Задыханы Гушча вынырае з цемені.

— Пайшлі!..

Мужчыны па прыступках спускаюцца з памоста галерэі ўзбагачальнай фабрыкі ў двор шахты. Веркшуцаў няма. Яны паяўляюцца перад канцом змены.

Пасярод двара — цагляны будынак. Там раздзявальні, душавыя. Тамаш піхае Птаха ў аддзяленне польскіх рабочых. Яно займае левы кут закуранай залы, перагароджанай ад столі да падлогі драцяной сеткай. Цьмяна блішчыць на доўгім шнуры электрычная лямпачка.

Тамаш адчыняе шафу, паказвае рукой на цывільны касцюм.

— Па баках не азірайся. Вопратка — на твой рост. Аўсвайс — у верхняй кішэні.

Дзіўна — Птах не хвалюецца. Здымае робу, ступакі, хавае ў ніжняе аддзяленне шафы. Тамаш дае яму ў рукі мачалку, мыла, змоўшчыкі ідуць у душавую. Паляк бярэ дзверы на зашчапку, шэпча:

— Пачакаем, пакуль прыйдуць нашы. Тады памыемся.

Мужчыны, не пускаючы ваду, стаяць голыя, маўчаць, і ад гэтага трохі няёмка. У Тамаша на правай палавіне грудзей вялікі сіні рубец.

— Валька,— тлумачыць Тамаш.— Па-расійску — вайна. Падарунак ад германа.

Мінае яшчэ некалькі пакутлівых хвілін. Нарэшце ў памяшканне валам валяць шахцёры. Пускаюць ваду, пар шыбуе пад самую столь. Рогат, узбуджаныя выгукі запаўняюць душавую.

Тамаш са Сцяпанам памыліся, але з кабіны не вылазяць. Выныраюць пасля таго, як з умывальні знікае апошні шахцёр.

У раздзявальню Тамаш вядзе Птаха, абняўшы за плечы, штосьці насвістваючы. Апранаецца не спяшаючыся. У Птаха дрыжаць рукі. Адзенне чужое, нязвыклае. Сяк-так нацягнуў кашулю, улез у чужыя штаны, пінжак надзеў лягчэй. Тамаш кіўком галавы паказвае на гальштук і шляпу, што вісяць

асобна на цвічку. Ніколі не насіў такіх убораў Птах, таму гальштук ледзьве прыладзіў. Чаравікі трохі цеснаватыя. Ад Птахавага позірку не хаваецца, як, павярнуўшыся спіной да сеткі, прысеўшы, Тамаш працягвае руку да рабочай вопраткі, хуценька перакладае ў кішэню пінжака невялічкі пісталет. Вось, значыцца, як...

Пяць ці шэсць палякаў затрымліваюцца на двары, Тамаш з Птахам да іх далучаюцца, ідуць да прахадной. Усе трымаюць напагатове аўсвайсы. Сцяпан свой таксама выцягвае.

Вось і ўсё. Яны за дротам. Палякі ідуць сваёй дарогай, Тамаш з Птахам адстаюць, заварочваюць у вузкую пячору-пераход між адвалаў пароды. Над галавой вісіць паўбоханчык месяца. Толькі цяпер Птах па-сапраўднаму хвалюецца. Яму здаецца, што веркшуцы вось-вось зразумеюць памылку, кінуцца наўздагон.

Сарочка на Птаху намокла, пот залівае вочы. Тамаш крочыць порстка. Сцяпан за ім ледзь паспявае. Нарэшце паказаліся купы дрэў. Пад імі невысокія, каменныя дамкі.

Тамаш заводзіць Птаха ў вузкі дворык. Побач з прысадзістай будынінай пакатая гара пароды. На ёй нават дрэвы выраслі, дворык, дамок — унізе.

Дастаўшы ключ, Тамаш адмыкае дзверы. У твар патыхае затхлай вільгаццю.

— Пасядзіш тутай. Не боісь. Я мешкаю блізка. Два-тшы дні, а затым — на поценг. Лагер блізка, нікт не бэндзе шукаць цябе тутай...

## IV

Эшалон стаіць. Зверху Птаху відаць высокае зорнае неба, цёмныя будыніны, рэдкія аганькі стрэлак. Логвішча прыдатнае. Паўвагон загружаны гатовымі, збітымі на фабрыцы часткамі дзотаў. Немцы, хутчэй за ўсё, вязуць іх на фронт.

Птах умасціўся ў драўляным жолабе, які нагадвае карыта. Ён спіць і не спіць. Акрыцца нечым, а ноччу зябкавата. Дый, мабыць, адаспаўся ён за тры дні хованкі. У напаўцёмнай лазеньцы, куды яго прывёў Тамаш, стаяў вярстак, на падлозе валяліся стружкі. Зашыўшыся ў іх, ён спаў як забіты. Дзіўнае

бывае з чалавекам. Немцы яго шукалі, ён быў ад іх блізка і тым не меней спаў без просыпу. Калі б хто другі сказаў Птаху, што так можа быць, ён бы нізашто не паверыў.

Смольны пах стружак і цяпер казыча ў носе. Можа, гэта дошкі пахнуць?

На трэці дзень Тамаш прынёс Птаху старую чыгуначную вопратку, брытву. Калі Сцяпан пераапрануўся, сяк-так пагаліўся, яны рушылі з лазенькі. Нават на трамваі ехалі. Шахцёрскі горад раскіданы, доўгі. Ён, нібы змяя, абвівае падножжа зарослай лесам гары, на якую Птах заўсёды глядзеў з лагера. Вайна, а ў немцаў нават няма маскіроўкі. Усюды свецяцца вокны. На другія гарады налятаюць англійскія самалёты, бамбяць, а гэты жыве як у Бога за пазухай. Вязні чакалі налётаў. Толькі не дачакаліся.

Запоўнач Тамаш з Птахам дабраліся да другой удаленай ад шахты станцыі, якая належыць гораду. На развітанне пацалаваліся, і далей Сцяпан дзейнічаў адзін. Паказваючы сябе чыгуначнікам, не зважаючы на патрулёў, ён доўга вандраваў між эшалонаў. Вугальныя абмінаў. Невядома, куды немцы іх пагоняць. Нарэшце ўзбіўся на гэты састаў.

Эшалон крануўся раніцай, і аж да вечара Птах дрыжаў, баючыся, што едзе не туды, куды трэба. Але на станцыі, дзе мяняліся паравозы, ён пачуў польскую гаворку. За Польшчай — Расія.

Дзве ночы эшалон стаіць, два дні — у руху. Вольным Птах сябе не адчувае. Цяжар з душы не спаў. Вольным ён будзе тады, калі ступіць на родную зямлю. Там ён не баіцца. Другі раз немцам у рукі не дасца.

Пачынае світаць, і на станцыі ўсчынаецца большы рух. Гергечучы, звінючы вёдрамі, бягуць немцы. Недзе блізка воданапорная калонка — чуваць плёскат вады і рогат салдатні. Птаха мучыць смага. Не могучы яе адолець, ён дастае з-за пазухі фляжку, адвінчвае накрыўку, адпівае трохі цеплаватай вільгаці. Ваду трэба ашчаджаць — дарога далёкая. Птах чуйна ловіць зыкі, якімі апанавана невядомая станцыя. Вайна ўсюды дае аб сабе знаць. Салдаты запаланілі свет.

Суседні эшалон кранаецца. Птах асцярожна насоўвае на сябе такі ж, у якім ляжыць, жолаб, пакідаючы невялікую

шчыліну, каб вальней дыхаць. Пераварочваецца на другі бок. Цела ад доўгага ляжання знямела. Каб прыйшлося ўцякаць, то ён, мабыць, і кроку не зрабіў бы. Ногі нібы гумавыя.

Між тым аднекуль збоку даносіцца металічны ляскат, пранізліва звініць цыркулярка. Пыхкаючы парам, праязджае манеўровы паравоз. Ловячы зыкі чыгуначнага жыцця, Птах з нецярпеннем чакае, калі ўзбоч эшалона пойдуць аглядчыкі вагонаў. Пасля іх праходкі эшалон доўга не затрымліваецца.

Нарэшце выразна чуцён стук малаткоў па колах і восях. Птах нават разбірае паасобныя словы, якімі перамаўляюцца палякі-аглядчыкі.

Яшчэ праз паўгадзіны далёкі, у галаве эшалона, гудок, рывок паравоза, скрыпенне тармазоў, грукат колаў, які пераходзіць у раўнамернае тахканне.

Птах ссоўвае з сябе накрыўку. Твар прыемна абдзімае лёгкай прахалодай. Плынь ветру нясе ў сабе дробныя парушынкі спаленага вугалю, што вылятаюць разам з дымам з паравознай трубы. Нямецкія паравозы ўсе такія. Капцяць страшэнна.

Птаха ахоплівае ўзбуджэнне. Не бясконцая Польшча. Можа, нават сёння ён пачуе родную гаворку. Ён тады на радзіме і ведае, што рабіць. Яго не палохае, што эшалон пераедзе граніцу дзе-небудзь на Украіне, адкуль да роднага паселішча — доўгая дарога. На сваёй зямлі ён на карачках дадому дапаўзе. Абы хутчэй, абы хутчэй.

Птах правальваецца ў сон. Ён цяжкі, трывожны. Адно лагернае відовішча змяняецца другім. Птах бачыць сябе ў цёмным скляпенні шахты, штэйгер Біркнер шэпча на вуха, што ў ягоным матрацы знойдзены сухары. Трэба ўцякаць, а бегчы не можа — няма Змітра. Птах стараецца крыкнуць, пазваць Змітра, але голас прапаў. З рота вырываецца бяссільнае сіпенне.

На кароткі міг Сцяпан прачынаецца, праганяе надакучлівае трызненне, але яно вяртаецца зноў то малюнкам шэрага пляца, дзе праводзіцца апель, то адчуваннем бездапаможнасці, якое да болю сціскае грудзі, бо ён раптам апынуўся ў цеснай клеці, што завісла паміж ярусамі шахты...

Так працягваецца ўвесь дзень. Гойданне паўвагона закалыхвае зняможанае цела, устрывожаная свядомасць шукае

ратунку ў сне, але поўнага забыцця сон не прыносіць. Штохвілінны напамінак аб лагеры, шахце, няволі, які ўзнікае сам сабой, трымае Птаха нібы ў абцугах. Адчуванні пакутлівыя — выматваюць сілы. Птах ніколі не думаў, што такімі цяжкімі будуць уцёкі. Першы і другі дзень язды ў абрыдлым карыце, якое нагадвае труну, ён яшчэ трываў, але болей не можа.

У лагеры побач быў Змітро, Тамаш, другія людзі, тут ён адзін. Цэлы тыдзень адзін, калі дабавіць ляжанне ў затхлай лазеньцы, пад носам у немцаў...

Надвячоркам пачынае церусіць дождж. Эшалон, прыцішаючы ходу, доўга грукае па крыжавінах стрэлак. Цягнік яшчэ не паспеў спыніцца, як Птах устрапянуўся ад смутнага, невыразнага, але радаснага прадчування. Яшчэ праз колькі хвілін да яго слыху даносіцца сказанае на роднай мове слова, і ён, не могучы стрымацца, абхапіўшы чорнымі ад вугальнага пылу рукамі зарослы шчацінай твар, плача...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

### I

У штабе — навіны.

За сталом адзін панылы Дарошка.

— Следчая камісія работае,— паведамляе ён Бондару як бы нават са страхам.— Па дзелу Лаўрыновіча. Шукаюць забойцаў. Аднаго расстралялі. Нібыта спецыяльна падасланы паліцыяй...

Кроў ударыла Бондару ў скроні, але ён стрымліваецца. Пачутая навіна, стоены яе сэнс азначаюць штосьці зусім супрацьлеглае духу бадзёрасці, упэўненасці, з якім ён прыехаў з Надпрыпяцкага атрада. Там многія людзі, чужаземцы, пра якіх раней ніхто не чуў і не ведаў, прылучыліся да партызан, і іх прынялі з адкрытай душой. Тут як бы хтосьці свядома заблытвае вядомую, ясную для ўсіх справу.

Каб супакоіцца, Бондар адыходзіцца ад штабной зямлянкі, брыдзе па сцежцы. Наконт гібелі Лаўрыновіча следства вёў

штаб, у цэнтр былі пасланы адпаведныя матэрыялы. Калі справа зноў усплыла, гэта можа азначаць адно — штабу партызанскага кіраўніцтва выказваецца недавер’е.

Бондару крыўдна. Але чым далей ён разважае, перабірае ў памяці акалічнасці вясновага нападу на чыгунку, які закончыўся трагічна, тым болей цвярдзее думкай. Лаўрыновіч быў пранiклівы чалавек, адчуваў, што ў асобе камандзіра злучэння партызанская маса хоча бачыць героя. Ён пайшоў насустрач гэтаму, няхай сабе нявыказанаму, неўсвядомленаму жаданню. Разумеў — у выпадку захопу эшалона аўтарытэт яго ўздымецца. Быў гарачы, нецярплівы. Прагнуў адным махам рассекчы вузлы і супярэчнасці.

Вінаватых у яго смерці няма. Ускосна вінаваты Міхнавец. Пальцам не паварушыў, каб выйграць бой. Нават разведкі не правёў.

А Волах? Няўжо, сеючы недавер’е, хоча ўмацаваць сваё становішча? Вопыт вайны навучыў Бондара — падазронасць нясе адну шкоду. Многа пісалі, гаварылі пра шпіёнаў да вайны, а калі яна пачалася, гэта на першым часе толькі ўзмацніла паніку. З-за пераўвялічаных чутак пра нямецкіх ракетчыкаў, дыверсантаў, парашутыстаў збіваліся з тропу цэлыя часці.

Камандзір павінен верыць падначаленым. А яны яму. Інакш бою не выйграеш. У партызанскай вайне тым болей. Народ, які прыйшоў у лес,варыўся ў сямі водах, пабачыў такое, што другому кабінетнаму начальніку нават не снілася. Ён, Бондар, скажа пра гэта Волаху. Прама ў вочы. Гэта яго абавязак...

Прынятае рашэнне як бы вяртае Бондару раўнавагу, і ён крочыць назад, да штабной зямлянкі. Тым часам за дашчаным сталом ужо не адзін Дарошка. Ускудлаціўшы пасівелую чупрыну, сядзіць нахмураны Вакуленка, схіліўся над картай Бальшакоў, побач з ім Якубоўскі. Высокі, па-вайсковаму стройны Гулікоўскі пахаджвае ля стала.

«Абмазгоўваюць разгром Росіцы»,— здагадваецца Бондар, і здагадка зноў непрыемна яго ўражвае. Пасля камандзіра злучэння старшы па званні ён, аднак Волах даручыў камандаваць аперацыяй батальённаму камісару Гулікоўскаму. Ідэя Вакуленкава, Бондарава, камандаваць будзе чужы. Выходзіць, з самага пачатку не давярае яму Волах.

Бондар падыходзіць да стала, стрымана вітаецца, Гулікоўскі сустракае яго, не тоячы радасці.

— Ты прабач, што пачалі без цябе. З учарашняга дня пацеем. У яго сядзелі,— ён паказвае на Бальшакова.— Дачуліся, што ты прыехаў — і сюды. Выступаем паслязаўтра.

— Чаму паслязаўтра? Яшчэ цэлы тыдзень.

— Ты ў сваёй Прыпяцкай зоне проста адстаў, мохам аброс. Нічога не ведаеш. Праз тыдзень будзе другое. Усё партызанства выходзіць на чыгунку. Ірваць рэйкі. У адну ноч па ўсёй Беларусі. Загад Панамарэнкі. Пачынаецца, брат, «рэйкавая вайна».

Дык вось якія пайшлі рахункі!

Умомант забыўшы аб згрызотах, Бондар прыкідвае варункі аперацыі. Задумана з размахам. І ў ваенным, і ў палітычным сэнсе. Армія наступае, самы час спляжыць немцаў па заду.

— Толу хопіць,— як бы разгадаўшы Бондаравы думкі, працягвае Гулікоўскі.— За ноч прылятае па два самалёты. Настала свята на нашай вуліцы!

Задуманы разгром Росіцы ўяўляецца Бондару дробным, мізэрным у параўнанні з тым, што пачнецца праз тыдзень. Ён прысаджваецца да стала, падсоўвае да сябе карту. Напад на саўгас прадугледжаны з поўначы, з боку асушанага балота, якое пачынаецца ад Дубровіцы. З поўдня, у абход саўгаснага пасёлка, дарогу на Бацькавічы перакрывае атрад Якубоўскага. Жывёлу пагоняць па балоце на Дубровіцу. Каб немцы не пераймалі гуртоў, яшчэ адзін заслон ля Кавенек, пад самым мястэчкам. Што ж, аперацыя прадумана граматна. Ён сам бачыў яе іменна так.

Прыбягае ўзбуджаны радыст, кладзе перад Бондарам шматок паперы. На лістку, паверх закрэсленых алоўкам лічбін шыфру, таропкія радкі: «Палкоўніку Бондару, камбрыгу Вакуленку. З атрыманнем гэтага загадваю неадкладна вылецець у Маскву, у распараджэнне ЦК КП(б)Б. Сакратар ЦК КП(б)Б і начальнік Беларускага штаба партызанскага руху П. З. Калінін».

Бондар чытае радыёграму маўкліва, працягвае Вакуленку. Тахкае сэрца: трывога была не дарэмная. Яго партызанская песня спета. «А можа, так лепей,— варушыцца думка.— Не трэба ламаць сябе».

Да Вакуленкі сэнс напісанага даходзіць не адразу. Разабраўшыся, што да чаго, ён чухае патыліцу:

— Але прыдумаюць, чэрці лазатыя. Самая інцярэсная пара, а тут — ляці. Немцаў, мабыць, будуць выганяць без нас. Шкода, хлопцы, не пабачу сваімі вачамі. Два гады думаў...

Лісток ідзе па руках. Чытаюць яго маўкліва, засяроджана. Адзін Вакуленка не можа ўтаймавацца:

— Ну няхай табе, палкоўніку, цяжка ў адну дудку дуць з новым начальнікам. А я радавы. Званняў не маю. Мяне ў другую вобласць не перакінеш. Нашто я там? Трэба было адзываць, як Лаўрыновіч прыехаў.

Гулікоўскі, варушачы чарнявымі стрэлкамі броваў, загадкава ўсміхаецца:

— Тут другое, хлопцы. Вы яшчэ не выйшлі з вайны. Не разумееце? Тут жа ясна напісана: у распараджэнне ЦК. На курсы вас забіраюць. Падвучаць, выветраць з галавы партызаншчыну. На вобласць, можа, яшчэ не паставяць, а раёнамі кіраваць будзеце.

Кіраваць раёнам? Сікора гаварыў тое ж. Але сябе на такой пасадзе Бондар нават у думках не бачыць.

Ноччу атрады выходзяць у Дубровіцкія лясы, бліжэй да Росіцы. Праз Мазурэнкавых сувязных Бондар ведае: бацька жывы, здаровы, хоць ёсць падазрэнне — немцы сталі за ім сачыць. У суседнім з бацькавым двары пасяліўся выгнаны з Піляціч начальнік паліцыі. У местачковай паліцыі не служыць, заняўся земляробствам, і гэта якраз насцярожвае.

Адшукаўшы ў людным тлуме Мазурэнку, Бондар просіць:

— Знайдзі ў Дубровіцы надзейную жанчыну. Няхай папярэдзіць бацьку. Хачу з ім пабачыцца.

Мазурэнка згодна ківае галавой, просіць у сваю чаргу:

— Возьмеш у мяне пісьмо. Да жонкі. Кінеш у Маскве. Я, брат, нават сына свайго не бачыў.

Чутка пра тое, што начальнік штаба адлятае ў тыл, распаўсюдзілася імгненна. Лісты пішуць многія — Бальшакоў, камандзір роты Пятроў, нават Гервась, у якога ў Архангельску брат.

Дзіўны ў Бондара настрой.

Прадчуванне, што замыкаецца адзін круг жыцця і зачынаецца новы, зрэшты, не падвяло. Толькі ён не думаў, што новая

жыццёвая паласа пачнецца на такой высокай хвалі. Але ён прыляціць у Маскву не з пустымі рукамі.

Нядаўнія згрызоты, турботы, якія яшчэ ўчора вярэдзілі душу, некуды сплываюць, саступіўшы месца журботна-тужліваму спакою развітання. На падзеі асабістага і навакольнага жыцця ён глядзіць цяпер з новай вышкі, з таго, што бачыць, адмятаецца дробязнае, мізэрнае, не вартае ўвагі. Народ змагаецца — вось галоўнае, што адбываецца ў навакольных лясах, балотах, ва ўсіх без выключэння раёнах, і пра гэта ён раскажа ў Маскве.

Яшчэ ў пару Бондаравай маладосці пра звычайную ў сялянскай штодзённасці работу, як ворыва, сяўба, уборка ўраджаю, сталі гаварыць высокімі, узнёслымі словамі. Але яшчэ болей стасуюцца такія словы з цяперашнімі справамі, калі на вайну падняўся стары і малы, калі вясковая кабеціна, якая накарміла партызан, рызыкуе жыццём.

Волаху Бондар зычыць дабра. Учора Дарошка, паддаўшыся чуткам, наплёў глупства — следчай камісіі няма. Было пасяджэнне абкама. Волах патрабаваў Міхнаўца судзіць. Расстралялі ж намесніка начальніка паліцыі з Бацькавіч, які напрадвесні прыбег у партызаны.

Міхнаўцу шанцуе: камандзіры заступіліся. Пакаралі тым, што знялі з брыгады. Ясна па ўсім: Волах шукае апоры, мітусіцца. Прывык, як і Лаўрыновіч, да арміі, а тут другія законы. Няхай пажыве ў зямлянках, паесць несалёнай бульбы, пап’е ржавай вады — вопыт набудзе.

## II

Штабы — на Дубровіцкіх выселках. Пасёлачак старадаўні, падобны на сядзібы стараавераў-хутаранцаў: пад адным плехам хаты і хлявы, двары агароджаны дубовымі частаколамі, на агародах — азяроды.

Нягледзячы на мітусню, якая папярэднічае кожнаму бою, гарбылёўцы выбралі час, каб развітацца з Бондарам. За сталом усе, хто паклаў пачатак атраду. Паспешліва гавораць тосты, чокаюцца шклянкамі, стараюцца здавацца бадзёрымі. Бондар расчуліўся да слёз. Адчувае: ірвецца надзвычай дара-

гое, незабыўнае, што, можа, ніколі не паўторыцца ў жыцці. З Хмялеўскім, Гервасём, Васількевічам, Бальшаковым, Надзяй Амельчанка, Соняй, Тапарковым і другімі зросся душой. Да малейшых дробязей ведае іх, а яны — яго.

На развітанне песню зацягнулі — «Сіні платочак...».

У гэты момант Мазурэнка прыводзіць у хату жанчыну, якую Бондар спачатку не пазнае. Высокая, буйнацелая, з круглым, мілавідным тварам, яна глядзіць на яго і ўсміхаецца. Ёсць у яе вачах, усмешцы штосьці да болю знаёмае, даўняе, і Бондар раптам здрыгануўся. Перад ім — Надзя, тая самая местачковая Надзя, з якой у маладосці ён праседжваў вечары.

— Як ты сюды трапіла? — узрушана пытае Бондар, ужо здагадваючыся, навошта Мазурэнка прывёў яго местачковую знаёмую.

— Замужам тут. Хутка сем гадоў.

Застолле між тым шуміць. Бондар з Надзяй выходзяць на панадворак.

Жанчына паказвае на новую пяцісценку.

— Вунь мая хата. Ты тут трэці раз, а ніколі не зайшоў.

Яму робіцца весела. Адчуванне такое, нібы з Надзяй развітаўся нядаўна, і не было Гарбылёў, вайсковай службы, вайны — усяго таго, што пралягло між імі за доўгія неспакойныя гады. Сваім з'яўленнем яна ўсё гэта як бы выкрэслівае, пакідаючы пачуццё прыхільнасці да яе і яго мужчынскай улады над ёю.

Дзіўна — Надзя нібы зноў стаіць перад пачаткам яго новага жыццёвага круга. Дзесяць гадоў назад, калі, скончыўшы лясную школу, ён ішоў у ваеннае вучылішча, яна плакала, прадчуваючы, што да яе ён не вернецца. Цяпер усміхаецца, плакаць па ім у яе няма падставы, чужая жонка.

— Я б зайшоў,— пераходзячы на жартаўлівы тон, гаворыць Бондар.— Мужыка твайго баюся.

Яна глядзіць яму ў вочы, і твар яе асвятляецца імгненным, ледзь улоўным выразам радасці.

— Не выдумляй. Ты нават не ведаў, што я тут. А я ўсё пра цябе ведаю. Мне Максімук расказвае. Той, што на курсах з табой вучыўся.

Падаўляючы ў сабе жаданне дакрануцца да жанчыны рукой, прыхінуць да сябе, Бондар пытае:

— У мястэчку бываеш?

— Хаджу інагды. Да тваіх заскакваю. Пасля таго, як сёлы папалілі, не была. Дзед Язэп яшчэ летась памёр.

Сядзіба старога Язэпа стаяла непадалёк ад іхняга двара, бліжэй да балота. Летнім ранкам яна танула ў тумане. Хоць стары валодаў граматай, за царом сядзеў у валасці пісарам, але фабрычнай вопраткі не прызнаваў. Нязменна апранаўся ў даматканыя штаны, кашулі. Быў белы, як лебедзь. Меў добрае сэрца дзед Язэп. Да рэвалюцыі хаваў дэмакратаў-забастоўшчыкаў, якія часам наязджалі з Гомеля, Рэчыцы. Пасля калектывізацыі ў Язэпавым гумне складвалі снапы тыя з мястэчкоўцаў, хто патаемна ад сельсавецкага вока засяваў лясныя палянкі.

— Хачу бацьку пабачыць,— гаворыць Бондар.— Забіраюць мяне адсюль.

На твары жанчыны мільгае цень трывогі.

— Куды забіраюць?

— Туды.— Бондар паказвае рукой на ўсход.— Нашы наступаюць, хутка будуць тут. Паеду на курсы.

— Няўжо не хапіла табе курсаў? Сівець стаў, а ўсё вучышся. Жыць калі?

— Кончыцца вайна, прыеду сюды.— Бондар глядзіць Надзі ў вочы.— Я, Надзя, жанаты. Толькі не ведаю, дзе жонка.

Яе твар пунсавее, і яна апускае позірк.

— То я пайду. Што сказаць бацьку?

— Няхай падыдзе ў альховы круг. Заўтра апоўначы. Толькі асцярожна. Баюся за цябе. За бацькавай хатай паліцай віжуе.

— Не бойся. Твой памочнік не першы раз мяне пасылае.

Яна пайшла. Ён глядзеў ёй услед, пакуль мажная, зграбная расцвіўшай жаноцкасцю постаць не схавалася за частаколам двара.

Вечарам Надзя вяртаецца.

— Перадала ўсё,— гаворыць яна.— Бацька быў на полі, прыйшлося ждаць.

Пачырванеўшы, патупіўшы позірк, запрашае:

— Прыходзь, як сцямнее. Не хачу, каб языкамі плялі.

Пяцісценка ў Надзі новая. Дагледжаны дворык, пакрыты саломай хляўчук. Вечар зорны, ціхі — такія вечары здараюцца на схіле цёплага лета. Вуліца ў шэрых паўзмроках.

Гаспадыня завешвае вокны, запальвае каганец. Па выбеленых сценах скачуць цені. Набытак у хаце небагаты. У правым куце — драўляны ложак, у левым — стол, дзве табурэткі.

— Сталі толькі абжывацца, тут вайна,— гаспадыня расказвае, нібы просячы прабачэння.— Хведзя лесніком быў.

— Ён у арміі?

— Не ведаю. Тых, што з ім былі, захапілі пад Бранскам. Папрыходзілі некаторыя. Ад майго ні слыху ні дыху. Можа, галаву склаў ці прапаў з голаду, мой бедненькі…

З Надзяй — відавочная перамена. Сустрэўшы Бондара, яна да яго рванулася, старалася прывабіць, спадабацца. Цяпер — нібы саромеецца яго. Адчувае сябе няёмка.

— Вось так і жыву. Ні ўдава, ні салдатка. Сама ару, сама кашу. Свякруха памагае. Хлопчык ёсць — шэсць гадоў. Нам з ім многа не трэба.

Гаворачы, гаспадыня расстаўляе на стале талеркі, міскі, прыносячы з першага пакоя.

Гаспадыня запрашае за стол. Бондару налівае поўную шклянку, сабе — у донца.

— Давай вып’ем, Павел. Каб хутчэй канчалася вайна.

— Самае страшнае ззаду,— гаворыць Бондар.— Нашы немцаў хутка выганяць.

Гаспадыня ўздыхае.

— Пакуль узыдзе тое сонца.

— Узыдзе. Галоўнае, каб фронт тут не спыніўся.

— Хопіць без фронту. Ты начальнік, таму ўсяго не ведаеш.

— Што я павінен ведаць?

— Параспускаліся трохі вашы. Прыйдзе каторы ноччу, стукае. Пусціш у хату, збан прастаквашы паставіш на стол, дык нос верне. Сала давай, самагонкі. Яшчэ пагражаюць некаторыя. Ты, маўляў, дома сядзіш, зад грэеш, а ён пакутуе.

Бондар хмурнее.

— Заяўляць трэба. Ты ж ведаеш, каму заяўляць.

Гаспадыня смяецца.

— Не назаяўляешся. Цяпер і ў партызанах поўна шантрапы. Паліцэйскіх панабіралі, усякай навалачы. Хоць ты начальнік, а нічым не паможаш.

Вось дык Надзя. Мабыць, адна яна і магла яму такое расказаць.

— Хутка вам стане лягчэй. Адбяром у немцаў кароў, хлеб, раздадзім пагарэльцам. А яны на вас меней будуць ціснуць.

— Ужо ж так,— наліваючы шклянку, гаспадыня весела бліскае вачамі.— Забралі кароў у Літвінаве, збераце і ў Росіцы. Толькі баяцца некаторыя, што немцы сяло спаляць. Клункі павязалі.

— Не спаляць. Кішка тонкая. Эсэсаўцаў няма, а немцы, якія ў мястэчку, нос баяцца выткнуць.

— То добра. Давай вып'ем за цябе, Павел Антонавіч. Можа, і лепей, што ад'язджаеш. Галава будзе цалейшая, і бацьку спакайней. Яго такі, праўда, аблягаюць. Немцы нават дапытвалі. Сам мне казаў. Дачуліся пра цябе. Але тое прайшло.

З Надзінай хаты Бондар выходзіць апоўначы. Зорнае, яснае вісіць неба. Вёска спіць. У шэрані чарнеюць клеткі азяродаў, копы. Ля варот варушыцца цёмная постаць і зараз жа знікае. Бальшакоў, відаць, ставіў вартавога.

## III

З альховага круга Бондар глядзіць на мястэчка. Разраслося яно, пашырылася, бо цёмнай палявой вуліцы, якая дайшла да бацькавага двара, пры Бондару не было. Яна ўтварылася з сядзіб хутаранцаў, якіх перасялілі з розных мясцін.

Аграмадзіна мястэчка за чыгункай. Агнёў не відаць. Блякла свеціцца вока семафора, мігатліва блішчаць у паўзмроку стрэлкі.

Бондара суправаджаюць Тапаркоў і яшчэ двое. Яны заляглі за пнямі. Бацька позніцца. Трэці раз за вайну прыходзіць Бондар да бацькі, але мястэчка не бачыў. Ён ведае, што нічога асабліва выдатнага ў ім няма. Няма сяброў-таварышаў, з якімі разам вучыўся. Скончыўшы школу, яны паразляталіся па свеце. Мястэчка заводаў не набудавала, але інжынераў, тэхнікаў, такіх як Бондар, капітанаў дало аж у збытку.

Наперадзе маячыць няўклюдны цень, чуецца шоргат, тупат. Бондар націнаецца. Яму здаецца, ідзе некалькі чалавек. Нарэшце бачыць — бацька вядзе на повадзе каня. Путае яго на ўзлеску, сам, азіраючыся, ідзе ў алешнік.

Бондар абнімае бацьку. За апошні год ён яшчэ больш схуднеў, выпетраў. На прадаўгаватым твары тырчыць вузкая,

клінам, барада, на галаве — знаёмая, мікалаеўскіх часоў шапка са зламаным казырком. Але стары яшчэ шустры.

— Жывеш, значыцца? — пытае бацька, як толькі мінае мітуслівая няёмкасць сустрэчы.

— Трэба жыць. Можа ж, ведаеш, немцаў гоняць ва ўсе лапаткі.

Стары задаволена хмыкае.

— Ведаю. Чаму не. Толькі чаму цябе адсюль забіраюць? Надзя гаварыла. Яшчэ намякала, што маеш вялікі чын. Як быдта палкоўнік. Хіба і ў вас даюць палкоўнікаў?

— Даюць.— Бондар усміхаецца.— Пагоны ёсць. Камандзіраў з арміі, як і раней, афіцэрамі называюць. Але я, мабыць, адваяваўся. На курсы еду. Як выганяць немцаў, буду работаць дзе-небудзь тут.

— І то добра,— голас у бацькі вясёлы.— Да вас, чутно, самалёты прылятаюць. Як будзеш у Маскве ці дзе-небудзь там, пашукай братоў. Пятро, калі жывы, мабыць, генерал. Да вайны корпусам камандаваў. Сцяпан, мабыць, тожа ў арміі. Настаўнікаў па вайне бяруць. Вот хіба аднаго Андрэя не ўзялі. Найдзі хоць каго і напішы, што мы жывы і здаровы. Можа, яны між сабой перапісваюцца, будуць пра нас ведаць...

У Бондара застрае ў горле салёны камяк. Непакоіцца бацька пра сыноў.

— Ты сябе беражы, бацька. Я за цябе баяўся. Немцы, сам ведаеш, што робяць з партызанскімі сем’ямі.

— Нічога яны мне не зробяць. Жандары адзін раз пыталі, то я прама адрэзаў, што мае сыны ў арміі. Картачкі паказаў. Цябе ў мястэчку ніхто не бачыў, і я ад іх адаб’юся. Сябе глядзі. Паліцаі вас сілай узяць не могуць, то ідуць на хітрасць. Засады робяць. Іншую ноч недзе тут блізка садзяцца. Толькі я не асачыў дзе. Мабыць, у хвойніку пад Кавенькамі.

З левага боку ад Росіцы раптам ляцяць у неба асвятляльныя ракеты, грымяць выбухі, густа трашчаць стрэлы. Стары ўстрапянуўся.

— Што ета?

— Не бойся, тата. Партызаны на саўгас наступаюць. Хочам забраць кароў, раздаць пагарэльцам.

— Ну, то мне не гожа тут стаяць.— Стары тарапліва абхоплівае сына за шыю, цалуе ў вусны.— Я даўно табе

хацеў сказаць. Жонку найдзі. Баб усякіх можа быць многа, а жонка адна. Прыязджай да нас з жонкай. Мы яе яшчэ не бачылі. Бывай, сын...

Стары подбегам кідаецца да каня, распутвае, вядзе да сядзібы. Каля Росіцы грыміць і трашчыць. На станцыі таропка гасне некалькі агнёў.

Бондар, каб лепей бачыць, выбіраецца на гала. Падыходзіць Тапаркоў з ахоўнікамі.

— Даюць прыкурыць, Павел Антонавіч,— гаворыць Тапаркоў.— Немцы ў мястэчку хвост падціснулі. Ані зыку. Баяцца, гады.

Па прыкметах, бой разгараецца ўдала. Страляніна меншая, затое ў тым месцы, дзе саўгас, уздымаюцца над лесам барвовыя водблескі. Партызаны, мабыць, паляць хлявы. Упершыню за лясное жыццё Бондар назірае бой збоку, як старонні чалавек, і ад гэтага на душы смутная трывога.

— Пайшлі, хлопцы. Пакуль дойдзем да Дубровіцы, прыгоняць кароў.

Па пнёўі, нацянькі група крочыць да Кавенек. Перад вёскай партызанскі заслон. Калі немцы не кінуцца наперарэз, заслон адыдзе да Дубровіцы. Часу мала, хутка світаць пачне.

Чубок хвойніку ўзбоч шляху варта абысці. Але Бондар спяшаецца.

Кулямётная чарга разанула, калі група падбіраецца пад самы лясок. Партызан, які ідзе паперадзе, падае як падсечанае дрэва. Бондар адчувае моцны, нібы жалезным молатам, удар у грудзі, падаючы, трацячы прытомнасць, паспявае падумаць: «Той самы хвойнік. Бацька папярэджваў...»

Па хвойніку сякуць стрэламі з двух бакоў — Кавенькаўскі заслон і Тапаркоў з уцалелым партызанам. Ручны кулямёт хутка сціхае — відаць, паліцаі ўцяклі. Дрыжучы ад узбуджэння, Тапаркоў схіляецца над Бондарам.

— Жывы. Паедзе не вучыцца, а лячыцца. Насілкі трэба.

З Кавенек да сасонніку набліжаюцца цёмныя постаці — бягуць партызаны.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

### I

Праз тры дні пасля спаленай аўчарні — новы пажар. Партызаны наляцелі на Росіцу, разагналі гарнізон, забралі жывёлу. Карту Шкірман рабіў недарма.

Вечарам да Міці прыбягае ўстрывожаны Андрыюк.

— У саўгасе захапілі партызана. Параненага. Прозвішча Ключнік. Медсёстры яго пазналі. Ужо лячыўся ў бальніцы.

Не паспеў развязацца адзін вузел, завязваецца другі. Зрэшты, усё адно. Мястэчка пакідаць трэба. Паспець бы толькі з Міхайлавым.

— Немцы ведаюць, што Ключнік раней тут лячыўся?

— Цяжка сказаць. Паклалі ў асобую палату. Вартавы сядзіць. Не паліцэйскі, немец. Але рана ў партызана цяжкая — у жывот.

— Вылечаць?

Андрыюк кідае на Міцю дапытлівы позірк.

— Хто ведае? Трэба аперацыя.

Назаўтра Мікола ідзе ў Грамы. Мусіць, неадкладна прынеслі адказ наконт Ключніка. Хоць вядома загадзя, што скажуць. Партызан у палон не бяруць, жыццё ім так проста не даруюць. Гэта толькі ў кнігах, якія некалі Міця чытаў, пісалася пра адважныя налёты паўстанцаў на засценкі і турмы. На мястэчка нават Каўпак не адважыўся напасці.

Міколы тым часам няма. Становішча параненага цяжкае. Ён толькі двойчы расплюшчыў вочы: папрасіў піць, сказаў, што жыць хоча...

Мікола прыходзіць на трэці дзень. Адводзіць позірк, хмурыцца...

— Сказалі — дзейнічаць у залежнасці ад абставін.

Абставіны вядомыя. З аперацыяй запазніліся, у Ключніка пачалося заражэнне крыві...

Салдат чыгуначнай роты выводзяць з мястэчка прыцемкам. Па двое, па трое яны забягаюць у Лобікаву хату. Хлопцы нарыхтавалі ім трохі харчу: даюць па бохану хлеба, шматку сала. За Лобікавым агародам — асушанае балота. Там

уцекачоў чакаюць праваднікі — Сяргей і Грыша Найдзёнік. Павядуць іх за Дубровіцу, на ўмоўленае месца.

З Міхайлавым Міця цалуецца, дае ў рукі паперку, адрасаваную партызанам.

Планавалася перавесці ў лес усю роту, ідзе — дваццаць сем. Але чакаць далей нельга.

З фронту эшалонаў — не меней, чым на фронт. На адкрытых платформах пашкамутаная тэхніка — гарматкі, цягачы, вайсковыя фуры. Немцы адводзяць войскі назад. Але не толькі войскі. На паасобных платформах убогі сялянскі скарб — вазы, бароны, плугі. З напаўадчыненых вагонаў вытыркаюць морды каровы, нізкарослыя конікі. Там жа сядзяць, заматаўшы хусткамі галовы, бабы, замурзаныя дзеці. Эвакуіруюцца паліцэйскія сем'і з арлоўскіх, бранскіх мясцін.

На станцыі разгружаецца эшалон уласаўцаў. Дзябёлыя, рухавыя салдаты ў нямецкіх мундзірах адразу пачынаюць гандаль: прадаюць касцюмы, сарочкі, чаравікі, гадзіннікі. Лішняй платы не патрабуюць, спускаюць рэчы за дзве-тры бутэлькі самагонкі. Дзе яны гэта бяруць?

Хутка становіцца вядома дзе. Уласаўскі полк ідзе той жа дарогай, што эсэсаўцы. І адразу ў паўночна-заходнім напрамку ўздымаюцца над лесам два нерухомыя воблакі дымоў. Не дапалілі эсэсаўцы вёсак, канчаюць уласаўцы. Але як могуць людзі, якіх лічылі сваімі, з якімі разам жылі, працавалі, рабіць такія злачынствы? Могуць, аказваецца. Як паліцэйскія. Але тыя падтулілі хвасты — з фронту весткі не салодкія. Ведаюць, мабыць, пра Арол, Харкаў і ўласаўцы. На што спадзяюцца?..

Дзве астатнія дыверсіі — няўдалыя. Васіль Шарамет падклаў магнітную міну пад слуп, на які ля ваеннай пошты вылазіць з зямлі тоўсты тэлеграфны кабель, але яна не ўзарвалася. Ён усё правільна зрабіў: уставіў адзін карандашык хімічнага ўзрывальніка ў другі, выняў чаку.

Загарнуўшы фосфарныя шарыкі ў прамочаную газай анучку, Плоткін меўся спаліць гандлёвую кантору. Чакаў сканчэння рабочага дня. Калі фосфар загарэўся ў кішэні, ён не крыкнуў, не пабег. Выйшаў на двор, затаптаў вогненнае рэчыва ў пясок.

Дзяўчаты, з якімі Плоткін працуе, вядома, не паверылі, што, забыўшыся, ён паклаў у кішэню запаленую цыгарэту. Але малайцы дзяўчаты. Маўчаць. Абы да немцаў не дайшло.

На Плоткінаву нагу страшна глядзець.

## II

«Заготжывёла» тым часам не дрэмле.

Амаль тры сотні кароў аддадзена ў партызанскія рукі. Статкі выгналі за чыгунку. Там іх пераняў Драгун. Прыйшоў з Бацькавіцкім атрадам.

Калі дабавіць узятае партызанамі ў Росіцы — вынік бліскучы. Захопленая эсэсаўцамі жывёла вярнулася назад у вёскі.

Гешэфты з Драгуном вёў Шкірман. Каб адцягнуць увагу ад астатніх, ноччу збег у лес. Разам з жонкай.

Андрыюк таксама збіраецца. Адкладваць нельга — пад вокнамі бальніцы пачаў сноўдацца падазроны тып.

Што ж, усё правільна. Што маглі, яны, змоўшчыкі, зрабілі. Час падумаць пра сябе, пра сем'і.

Нервовыя, трывожныя дні. Міця начуе ў суседкі. На службу толькі забягае. Мікола не прыходзіць. Можа, што здарылася з ім? Трэба ехаць у Грамы.

У Грамах — лясніцтва, пропуск Міцю Лагута выпісаў. На станцыі — таварны састаў. Такі, як звычайна цяпер: на платформах — з прабітымі кузавамі грузавікі, пакрэмзаныя гарматы, розны вайсковы рыштунак.

Салдату, які пахаджвае ля эшалона, Міця дае некалькі марак, лезе на тармазную пляцоўку. Нязвычны гэты салдат. Яшчэ малады, рудаваты, з густым засевам вяснушак на твары. На Міцю глядзіць прыхільна.

Як толькі эшалон выбіраецца за станцыю, салдат зрывае з галавы пілотку, размахвае ёй, крычыць жанчынам, якія кошкаюцца на пралётках:

— Да свідання, матка! Болей не ўвідзімся!..

Гэтак усю дарогу да Грамоў. Столькі чыстай радасці ў голасе немца, столькі захаплення, мабыць, таму, што жывы пакідае чужую краіну. Міця бачыў, якія ўпэўненыя, ганарыстыя былі немцы, калі ішлі сюды, і яму аж плакаць хочацца...

У Грамах — цішыня. Па чыгуначным палатне спакваля пахаджваюць пажылыя салдаты-ахоўнікі, ля дамкоў станцыйнага пасёлка — яны стаяць пад самымі соснамі — сушыцца на вяроўках бялізна.

Завітаўшы на кароткі час у лясніцтва, Міця затым ідзе ў вёску — яна таксама пры чыгунцы, бліжэй да мястэчка.

Вось і хата, дзе Мікола кватаруе. У агародчыку поркаецца гаспадыня, збірае ў падол гуркі. Гаспадар, пажылы ўжо чалавек, сядзіць на хляве, зацягвае кулявой саломай дзірку ў страсе. Знаку, што з Міколам здарылася нядобрае, няма. Міця з палёгкай уздыхае.

У чыстым пакоіку кватаранту адгароджана бакоўка. Мікола ляжыць на ложку, твар зарослы, няголены, але вочы вясёлыя.

— Я думаў, што ты прыйдзеш,— гаворыць ён.— Паспрабуй хоць раз. Я год хаджу.

— Бяры вышэй. Я прыехаў. На цягніку. Нічога страшнага.

— Страшнае ёсць. Я таму хворым прыкінуўся. Аксаміт цяпер тут. Ходзіць, вынюхвае. Хачу ведаць — што ён задумаў. Гэта цяпер галоўнае.

Міця махае рукой.

— Чорт з ім. Галоўнае — мяняць пласцінку. Табе, мне, усім. На старым кані болей не паедзеш.

Міця выкладае свой план. Хоць немцы разгубленыя, дзейнічаць па-ранейшаму нельга. Шкірман, Андрыюк у лесе. Трэба знікаць з мястэчка астатнім, хто найбольш прымільгаўся. Міцю, Лобіку, магчыма, Сяргею Сталярову. Паліцэйскіх з Росіцы выкурылі, сем'і перабяруцца туды.

Міколу таксама трэба стаіцца. Па зводкі будуць прыходзіць Міця з Лобікам да Лобікавага дзеда. На чыгунцы астанецца Грыша Найдзёнік, для другой работы ёсць Вера, Плоткін, Прымак, Васіль Шарамет. З цягам часу можна яшчэ каго-небудзь прылучыць. Няхай Мікола папярэдзіць Мазурэнку, каб сустрэў местачкоўцаў.

Дамаўляюцца, што хлопцы пойдуць у лес праз пяць дзён. Мікола весялее.

— Ідзіце пад хутар Скарашылаў. Ён за тры кіламетры ад Малкавіч. Месца вельмі прыкметнае. Там злева бярэзнік, нехта сустрэне.

## III

Ісці трэба хутчэй, чым дамовіліся.

На другі дзень вечарам Міця прыходзіць да Плоткіна. Ляжыць Саша ў сваёй бакавушцы, маці лечыць яго дамашнім спосабам. Прыкладвае да абпаленай нагі прамочаныя алеем анучкі. На сцяне — знаёмая геаграфічная карта. Два гады вызначалі па ёй хлопцы лінію фронту. Цяпер фронт не гэтак і далёка.

Калі Міця выходзіць ад Плоткіна, да яго ад свайго ганка цёмным ценем матлянулася Мар'я Іванаўна.

— Птах, зараз жа выбірайцеся з мястэчка!.. Мне Красоўскі намякнуў. Прама не сказаў, прама ён ніколі не гаворыць. Ясна і так. У Сівалобах — лагер, складаюць спіскі, каго забраць.

— Дзякуй, Мар'я Іванаўна! Вы не толькі вучылі, але і ратуеце ад небяспекі. Па-свойму, па-жаночы, але хіба ад гэтага што мяняецца? Летась папярэдзілі, што запісаны ў Германію, цяпер — наконт лагера. Дзякуй...

Міця кідаецца да Лобіка. Пойдуць заўтра ноччу, няхай збіраецца Іван. Хлопцы раяцца, разважаюць. Час непрыдатны: учора разгрузіўся новы эшалон. Уласаўцаў поўна ў мястэчку, у Кавеньках. Але выбіраць не прыходзіцца.

Начуе Міця на Залінейнай вуліцы. Там, у далёкіх сваякоў, пусціўшы пагалоску, што пасварылася з цёткай, маці жыве ўжо некалькі дзён паблізу ўласнай недабудаванай хаты. Нават карову перабрала. Ноччу, лежачы на вышках, на сене, Міця чуе непрыемную размову.

— Пастраляюць нас з-за Птахавых. Самога саслалі, і сын носіцца.

Размаўляе матчына кума з залвіцай. Можа, не варта іх дакараць. Радня да паўдня, трэба самім думаць пра ратунак.

Ноччу чыгунка гудзе ад незразумелых выбухаў.

На світанні, нагрузіўшыся клункамі, сям'я выбіраецца ў Росіцу. Маці смутная, невясёлы Адам — разумее, што азначаюць пярэбары. Таццянцы і Гэлі — мора па калена. Падскакваюць, смяюцца. Апошні год жывуць Птахі па-цыганску, туляюцца па чужых кутках, але малодшым дзецям — гора мала.

Ужо сонца паднялося, пакуль дайшлі да панадворка стрыечнага матчынага брата. Хата яго — першая ад дарогі, стаіць

пры лесе. Бліжэй да мястэчка, на пясчаным пагорку, яшчэ адна хата, праўдзівей, хутарэц — старасвецкая, абымшэлая сядзіба, агароджаная шчыльным дубовым тынам. Ад гэтай сядзібы, мабыць, і пачаўся саўгасны пасёлак, новы, збудаваны гадоў за дзесяць да вайны.

Аўрам — так завуць матчынага стрыечнага брата — чорны, шыракатвары, прысадзісты. У саўгасе рабіў кавалём. І радня невялікая — забягаў разы са два, калі жылі Птахі на будцы, і частавалі яго не надта, але прыняў сям'ю лепей не трэба.

— Пражывём, сястра, не бядуй. Месца хопіць. Ёсць шалашык у лесе, можна там перахавацца. Да зімы трасяніна скончыцца, вот пабачыце.

Адвёўшы Міцю ўбок, падміргнуўшы, Аўрам паведамляе:

— Я, брат, парцізанам, калі ноччу наляцелі, трохі падсабіў. Выйшаў з двара, бачу, бяжыць адзін, то запыніў, шапнуў яму, дзе немцы масла хаваюць. Абчысцілі той паграбок.

Дзякуй, дзядзька Аўрам!.. У Міці нібы гара з плеч звальваецца. Цяпер ён свабодны, а свабоднаму нічога не страшна. Да паўдня Міця сядзіць у дзядзькі, нават чарку з ім выпівае. На развітанне цалуе маці, братоў, сясцёр. Маці, перахрысціўшы Міцю на дарогу, плача:

— Бацькі няма, і ты сыходзіш. Хоць наведвайся калінебудзь.

— Прыйду, мама. Не бойся.

Міця ідзе ў мястэчка. Там яшчэ справы ёсць. Ён забягае да цёткі, папярэджвае і, пераскочыўшы вуліцу, просіцца ў суседкі Мар'і перабыць у яе хаце да вечара. Тая ўсё разумее, хоць выгляду не падае:

— Жыві хоць месяц. Хіба месца мала?

Міця раз-пораз глядзіць у акно. На цётчыным двары ціха. Ніхто па яго не прыходзіць.

Вечарам Міця ў лясгасе. Дзе ключ, ведае, адмыкае дзверы, заходзіць у пакойчык касы. Нечакана сышла ў лес Ніна Грушэўская — яна разам з Плоткіным працавала ў гандлёвай канторы. Была, як Міця, касіркай, забрала грошы, у сейфе пакінула ліст паперы з намаляванай на ім дуляй. Дулю Міця маляваць не будзе, а марак возьме. Спатрэбяцца і ў лесе. Як

касір, ён даўно не ведае, колькі ў касе грошай — браў маркі, не лічачы. За іх Мікола купляў мыла, сахарын. На выпадак рэвізіі Міця распісваўся ў ведамасцях за людзей, якія зімой валілі ля чыгункі лес, а за грашамі не прыйшлі.

Напакаваўшы кішэні маркамі, пакінуўшы карбованцы, ключ Міця з сейфа не вымае. Няхай робяць рэвізію. Будзе Кашчэю хоць якая-небудзь работа...

Зборы — у Лобікавага дзеда. Мундзір, раздабыты Міхайлавым, вялікаваты. Але калі, апрануўшы яго, Міця падпяразваецца шырокім вайсковым рэменем, які ўзычыў пры развітанні Васіль Шарамет, надзявае пілотку, падораную Прымаком, выгляд не такі ўжо кепскі. Толькі з чаравікамі блага. Распоўзлыя, з задранымі насамі, з падэшвай, якая ўжо цяпер адстае, яны доўга ў лесе не паслужаць.

Баба, хоць не родная, нясе Лобіку кажушок. Цяпер-то цёпла, а як прыйдзе восень, зіма? Бяры, Іванька, дрэнным словам бабу не памянеш. Кажушок без каўняра, жаночага крою, Лобік падобен у ім на вясковага пастуха, але выбіраць не выпадае.

Вінтоўкі, абрэз, якія хлопцы выцягнулі са сховішча, захаплення таксама не выклікаюць. Ад ляжання на вільготнай зямлі прыклады пакрыліся цвіллю, ствалы заржавелі. Міця з Лобікам тым і займаюцца, што чысцяць, змазваюць затворы, праціраюць, наматаўшы кудзелі на шомпал, ствалы. Вінтоўку, здабытую Міколам, возьме Міця, абрэз — Сяргей, доўгую французскую жалязяку, да якой так і не знайшлося патронаў,— Лобік.

Сяргей тым часам позніцца. Поўнач ужо, а яго няма. Нарэшце паяўляецца, і не адзін. Жонка, Грышава сястра Маня, трымае на руках загорнутае ў коўдру дзіця, на парозе, шморгаючы носам, стаіць яшчэ адзін кандыдат у партызаны — Рудзік, бяздомны хлопец гадоў чатырнаццаці, які самапасам жыве на Вакзальнай вуліцы. Дзе Сяргей яго залучыў, навошта, цяпер не спытаеш. Дый не прагоніш Рудзіка, бо ўсё бачыў, ведае.

Дзед становіцца на варту, каб уцекачы паспалі. Хлопцы ідуць у хлеў, на сена, Маню з дзіцем пакідаюць у хаце. Добры ў Лобіка дзед. Нечаканае партызанства ўнука і яго таварышаў

прыняў як належнае. А нядаўна, дапытваючыся пра сына, самога немцы трэслі.

Дзве ці тры гадзіны сну пралятаюць імгненна. Хлопцы падхопліваюцца, ускідваюць на плечы вінтоўкі, па чарзе цалуюцца з дзедам, з бабкай. Яна напакавала Івану ладную торбу.

— Мы будзем прыходзіць,— гаворыць Лобік.— Ноччу...

Дзед згоднаківае галавой.

Цёмная, надзіва цёплая ноч. Да світання яшчэ не хутка. Тры дубы на дзедавым агародзе ўзвышаюцца ў змроку, як вялізныя вежы.

Уцекачы пераскакваюць дарогу на Кавенькі, дзе цяпер уласаўцы, пнёўем кіруюць у бок Малкавіч. Бывай, мястэчка! Пра партызанскі лес Міця з Лобікам думалі даўно, былі гатовы сягнуць туды яшчэ мінулагоднім летам, але так усё склалася, што надоўга затрымаліся. Славы ў партызанах яны ўжо не здабудуць. Калі што зроблена, то тут, у мястэчку...

Непадуладная свядомасці сіла хіліць Міцю да сну. Як толькі дабраліся да кустоўя, ён просіць спыніцца перадыхнуць. Кладзецца пад куст і адразу правальваецца ў сон. Трава здаецца мяккай, лагоднай, зямля — цёплай. Лобік раскатурхвае Міцю, калі ўжо святлець пачынае. Далёка яны не адышліся, збіліся з кірунку нават тут, у ваколіцах мястэчка. За якую-небудзь паўвярсту ад кустоў дубняку, дзе зрабілі прыпынак,— Птахаў пераезд.

У хісткай шэрані світання сасна, будка здаюцца нязвычнымі. На душы ў Міці ціхі смутак. Бывай, сасна! Ты была як жывая, як друг, столькі з табой усяго звязана. Стой, як стаяла, чакай майго вяртання. Ужо блізка тое, аб чым шумелі вятры ў тваіх задуменных шатах...

Трэба хутчэй адрывацца ад мястэчка, і ўцекачы прыбаўляюць кроку. Зноў ідуць пнёўем, затым убіваюцца ў лес. Дубы стаяць уперамешку з бярозамі, вольхамі, густы папаратнік сягае вышэй каленяў. Лес толькі прачынаецца, сям-там у нізкаватых лагчынах, між дрэў вісяць касмылі туману. Пахне грыбамі. Пачынаюць азывацца першыя птушкі.

Нарэшце канчаюцца апошнія палянкі, на якіх местачкоўцы што-небудзь сеюць. Градой сасоннікаў уцекачы кіруюць на

захад, трымаючыся назіркам дарогі, якая вядзе на Азяркі. Прайшоўшы кіламетры чатыры, Міця зноў патрабуе прыпынку. Ніяк не можа адолець усеўладнай цягі да сну. Хлопцы недаўменна пацепваюць плячамі, але згаджаюцца. Садзяцца на дол, вымаюць з торбаў харчовы прыпас. Міця есці не хоча, кладзе пад галаву мяшок, скрозь прыемную паўдрымоту некалькі хвілін чуе галасы хлопцаў, іх смех, але хутка ўсё гэта прападае, расплываецца, ён у поўнай уладзе беспрабуднага сну. Спіць доўга, гадзіны тры ці чатыры, а калі прачынаецца, сонца ўжо вісіць над вяршалінамі соснаў.

Маня, адвярнуўшыся, расшпіліўшы кофтачку, корміць грудзямі дзіцё. Хлопцы, лежачы на жыватах, гуляюць у карты. Мабыць, Сяргей іх прыхапіў.

Міця не хоча прызнавацца, але ўдосталь ён яшчэ не выспаўся. Адкуль гэтае неадольнае жаданне адпачынку, забыцця, якое вісіць над Міцем як насланнё? Можа, у паспешлівым сне, у забыцці, якога просяць душа і цела, выходзяць трывогі, згрызоты, якімі было запоўнена Міцева існаванне ў мястэчку? Хутчэй за ўсё іменна так, бо ніколі ён лішняга не перасыпаў, адчуваў сябе бадзёра нават тады, калі ўсю ноч чытаў кнігу.

Зноў уцекачы паволі дыбаюць на захад. Спяшацца не трэба, сустрэча з Мазурэнкам прызначана на паслязаўтра, у запасе ўвесь заўтрашні дзень.

Хутар Скарашылаў паміж Азяркамі і Малкавічамі. Дзе ён, хлопцы добра не ведаюць. Дарога на Малкавічы — у завалах. Яе перагароджваюць з абодвух бакоў падпіленыя, паваленыя на шлях сосны. Гэта, вядома, партызанская работа. Такім манерам партызаны хацелі ўберагчы Азяркі і астатнія вёскі ад знішчэння.

Але Азяркі нядаўна спалілі ўласаўцы. Як яны туды дабраліся? Карціна хутка становіцца яснай. За паўвярсты ад сыпанага шляху пятляе па лесе старая, закінутая дарога. Маладыя дрэўцы, якія паспелі на ёй вырасці, коламі фурманак памяты, прыгнуты да зямлі. Ад мноства ног, якія прайшлі па дарозе, а галоўнае ад таго, што па ёй цягнулі нешта волакам, высокая трава збэрсана ўшчэнт, парудзела, высахла.

Такую дарогу мог ведаць толькі вопытны чалавек. У мястэчку хадзілі чуткі пра соцкага з Кавенек, якога ўласаўцы, забрытаўшы, нібы вала, прымусілі паказваць гэтую дарогу.

Лес стаіць у ціхім, перадасеннім задуменні. На бярозе зрэдку прабіваецца жоўты ліст, сям-там кідкая чырвань абпаліла макушы стромкіх асін, а ў астатнім лес па-летняму зялёны, багаты. Прыгнуўшыся, можна назбіраць жменю перапелых, салодкіх чарніц, на ўзбалотках густы, пакручаны ягаднік, абсыпаны белавата-сінімі буякамі, гронкамі ажыны. Аж да ламоты ў скронях пахне багун. Грыбы на кожным кроку — цвёрдыя, як капыты, зялёныя і барвова-цёмныя сыраежкі, падасінавікі, нават зрэдку баравікі трапляюцца.

Птушкі сваё адспявалі. Папіскваюць, скачучы па голлі, паўзункі, берасцянікі, няўрымсліва дзюбае па ствале старадрэвіны дзяцел, але найчасцей падаюць голас сініцы. Яны — прадвеснікі восені.

Міцю маркотна. За два гады толькі ў тую восень, калі праз мястэчка праехалі немцы, хадзіў у лес, збіраў грыбы. У першую вясну, жывучы на будцы, разам з Лобікам блукаў па сасняках, вышукваючы прыхаваныя з восені гранаты і патроны. А так лясной прыгажосці, шчэбету птушак, травы, кветак ён не заўважаў, нават не думаў пра гэта. Істоту ўладна запаўняла другое — вайна.

На папаску вандроўнікі спыняюцца каля крынічкі. Струменіць яна з пясчанага пагорка, выбіваючыся з глыбіні, збягаючы тоненькім, жвавым ручайком да балацянкі.

Жарало крынічкі нехта абгарадзіў, паставіўшы зрубік. Дошкі ад часу сатлелі, пакрыліся зялёным мохам. Але людзі тут былі. На сучку сасны вісіць берасцяная конаўка з доўгай ручкай.

Уцекачы ўсмак п’юць сцюдзёную — аж зубы зводзіць — ваду, перакусваюць. Хлопчык, якога Маня трымае на руках, проста золата. За ўвесь дзень ні разу не азваўся, не заплакаў. Спіць, раз-пораз варушачы пульхнымі губкамі. Відаць, даспадобы яму лес і чыстае ляснное паветра.

Тым часам трэба думаць пра начлег. Сонечныя бляскі гуляюць ужо ў самых вяршалінах, на зямлю ад дрэў кладуцца цені. Тужлівы і нават трывожны ў вячэрнюю часіну лес. Ён зацінаецца і як бы ахутваецца вэлюмам загадкавасці. Дыхае ў твар лёгкім ветрам, лапоча лісце асіны.

Хлопцы нацянькі прадзіраюцца ў гушчэчу. Знаходзяць атуленую соснамі палянку, цягаюць ламачча, сухастой. Калі на небе выбліскваюць першыя зоркі, запальваюць касцёр. Вялізнае вогнішча шугае ў лесе.

Спаць кладуцца трохі наводдаль ад яго, кружком. Спяць моцна, ніколькі не трывожачыся пра бяспеку. Хто ў такі гушчар палезе?

Прачынаюцца ўцекачы позна і ад таго, што бачаць, нямеюць. Метраў за пяцьдзясят ад палянкі — наезджаная дарога, на ёй свежыя конскія сляды, памёт. Слядоў многа, раніцай праскакала па дарозе не меней узвода. Хто былі лясныя госці? Хутчэй за ўсё ўласаўцы, бо дарога вядзе з Кавенек на Малкавічы...

Далей хлопцы ідуць з большай асцярогай. Дарогу з віду не ўпускаюць, але трымаюцца наводдаль. Апаўдня прыкмячаюць жанчыну. Тулячыся па кустоўі, яна штосьці нясе ў каробцы-лубянцы. Хлопцы стойваюцца, і кабеціна выходзіць проста на іх. Убачыўшы ўзброеных людзей, яна мітусіцца, як бы памыкаючыся зноў схавацца ў кусты.

— Пастой, цётка! — гукае Міця.— Не бойся, мы свае.

Хлопцы пытаюцца, дзе Азяркі, Малкавічы, як выйсці на хутар Скарашылаў, але жанчына маўчыць. Толькі раз-пораз кідае спалоханы позірк на Міцеў мундзір.

— Ды не немцы мы,— як можна лагодней тлумачыць Міця.— І не ўласаўцы. Ідзём у партызаны...

— Ніякіх партызан не ведаю.

— Мы пра іх не пытаем. Раскажыце, як выйсці на Азяркі.

Жанчына махае рукой, паказваючы ў той бок, адкуль толькі што выйшла сама. У каробцы яе — накапаная бульба.

— Ведаем, дзе Афрыка, Аўстралія, дзе Азяркі — пытаемся,— невядома з каго жартуе Лобік.— Добра, што агонь патух. А то б прывялі ў мястэчка на вяроўцы.

— Каго прывялі? — перапытвае Міця.

— Нас. Партызаны, называецца.

У Лобіка брыдкая прывычка, калі што-небудзь не клеіцца, шукаць вінаватага. Сяргей крывіць губы ва ўсмешцы, стомлены Рудзік нездаволена чмыхае. Міцю гэта выводзіць з сябе.

— Дык вы ж у арміі былі! — крычыць ён на Сяргея і Лобіка.— Чаму не дадумаліся варту паставіць? Ваякі...

Раззлаваны, ён вырываецца наперад, ідзе адзін. Праз некалькі хвілін хлопцы яго даганяюць.

— Вот што,— голас у Лобіка сур'ёзны.— Нас большасць, і мы патрабуем, каб ты зняў мундзір. Хіба не бачыш — ад нас людзі ўцякаюць?

Гэта ўжо здзек. Не для форсу нацягнуў Міця нямецкую вопратку. Абражаны ў сваіх пачуццях, ён крычыць на ўвесь лес:

— Якая большасць? Рудзіка на вуліцы падабралі. На чорта ён? Няма каго партызанам карміць?

Лобік першы рагоча з уласнай прапановы. На кароткі час згода паміж хлопцамі адноўлена.

Выбраўшыся на гала, яны бачаць Азяркі. Ніводная хата не ўцалела. Тырчаць закураныя каміны, калодзежныя жураўлі, сям-там на агародах купкі груш-дзічак. Пуста, глуха на пажарышчы. Ні чалавека, ні каня, ні сабакі.

Краем паляны хлопцы абходзяць вёску. Від руйнавання, пустэчы асаблівых пачуццяў у іх не выклікае. Можа, таму, што з поля ўсё сабрана, бульбу вяскоўцы, мабыць, капаюць на дасвецці, а на паасобных загончыках нават выбіваецца зялёная шчэць маладой руні.

Пад вечар, калі вандроўнікі робяць прыпынак, вынікае яшчэ адна прыгода. З густога лазняку, які расце на ўзбалотку, вынырае апрануты ў зімовае ватняе паліто чалавек, убачыўшы незнаёмых, хоча зноў схавацца ў кустах.

Міця з Лобікам, аднак, ускакваюць, клацаюць затворамі, падзываюць чалавека да сябе. Ён неахвотна падыходзіць, і Міця пазнае загадчыка Малкавіцкай школы Весялоўскага. Ён у мястэчку часта бываў, і Міця яго трохі ведае.

Весялоўскі — чарнявы, прысадзісты. Нясе за плячамі мяшок. Трымаецца насцярожана. Міця ведае прычыну — настаўнік у партызанах. Пайшоў яшчэ мінулагодняй восенню, пабіўшы ноччу ў школе вокны, разваліўшы печ. Пра гэта расказваў Мікола.

— Чаму вы без вінтоўкі? — пытае Міця.— Каб на нашым месцы былі немцы, то што тады?

Весялоўскі бездапаможна лыпае вачамі.

Міця запрашае настаўніка перакусіць, частуе цыгарэтай, і той нарэшце супакойваецца. Расказвае, як дайсці да Скарашылава, раіць пераначаваць у малкавіцкіх куранях, якія адсюль, з узбалотка, зусім недалёка. Палавіна Малкавіч спаленая, і тыя, у каго няма хат, назад у вёску варочацца баяцца.

Курані — у густым ляшчэўніку. Іх шмат. Дымяць цяпельцы, у гаршках, чыгунках варыцца бульба, па вытаптаных дарожках бегаюць замурзаныя дзеці. Недзе паблізу мычаць каровы, нават свінні рохкаюць. Нібы цыганскі табар.

Местачкоўцаў пагарэльцы прымаюць за партызан. Ніхто нічога не пытае — нават на Міцеў мундзір ніхто не звяртае ўвагі. Відаць, нямецкую вопратку партызаны носяць.

Начуюць местачкоўцы на ўбітай саломе, у шалашы. Гаспадыня, маўклівая кабеціна, ставіць на вячэру чыгунок бульбы. Мані і Рудзіку налівае па бляшаным кубку малака. Хлопцы дзівяцца, бульба зусім несалёная.

Калі назаўтра, развітваючыся, Міця адсыпае гаспадыні дзве жмені солі, яна глядзіць на яго, як збавіцеля, і нават выцірае ражком хусткі слязіну.

Цэлы дзень пакутлівае чаканне ў бярэзніку, адкуль добра відаць саламяныя стрэхі Скарашылаўскага хутара. Ваколіцы засценка абшастаны, арыенціры правераны. Месца тое самае, аб якім Міця дамовіўся з Міколам. Аднак ні Мазурэнкі, ні яго пасланцаў няма.

Хлопчык, якога Маня гушкае на руках, мабыць, захварэў. Два дні не падаваў голасу, а цяпер канозіцца. Настрой ва ўцекачоў панылы. Амаль год служылі яны дэсантнікам, з Анкудовічам, Бондарам, Драгуном устанавілі сувязь тады яшчэ, калі тыя самі не былі партызанамі. А як прыйшлася нявыкрутка, няма каму памагчы.

— Мазурэнка заўсёды віляў хвастом,— гарачыцца Лобік.— Помніш, абяцаў прыслаць пісталет. Прыслаў? Дулю з макам. Паперкі пісаў, даваў указанні. За кожную такую паперку маглі павесіць...

Міця не пярэчыць. Апраўдаць Мазурэнку нельга. З другога боку, нельга паверыць, каб ён не захацеў памагчы сваім сувязным. Можа, Міколу не ўдалося з ім сустрэцца?

Начуюць уцекачы ў бярэзніку, вогнішча не распальваюць. Назаўтра чакаюць да паўдня. Нікога няма...

## IV

Выйсце цяпер адно — прыбіцца да любога атрада. Зрэшты, у лесе многа людзей, з якімі так альбо інакш местачкоўцы былі звязаны. Шура Гарнак, Андрыюк, Шкірман, Міхайлаў са сваім узводам. Не можа быць, каб нікога яны не сустрэлі!..

Разлік спраўдзіўся, нібы ў казцы. Вярнуўшыся на месца, дзе пазаўчора напаткалі Весялоўскага, хлопцы вачам не верацъ. Бягуць па балоце, трымаючы ў руках туфелькі, дзве дзяўчыны ў белых хусцінках, і адна з іх Ніна Грушэўская, якая, забраўшы грошы з касы гандлёвай канторы, тыдні два назад рушыла з мястэчка ў лес, а другая — Каця Харошка, тая самая, што прыходзіла ад партызан на сувязь. Дзяўчаты, нібы збавенне, нібы пасланцы лёсу.

— Чаго вы тут блудзіце?

— Сваіх шукаем. Можа, ведаеце, дзе разведгрупа Мазурэнкі?

— Нашто вам разведгрупа? Пойдзем у наш атрад. Вашы ўсе ў нас. Два доктары, пленныя са станцыі.

Міця з Лобікам узбуджаны, дзяўчаты — таксама. Яны ж равеснікі, і акрамя вайны, немцаў, уласаўцаў ёсць нешта другое — пара маладосці, белыя як снег хусцінкі, вось гэтыя даваеннага фасону туфлі, якія дзяўчаты так смешна ашчаджаюць. Па балоце вядзе ўтаптаная сцежка. Навокал — парудзелая трава, пушыста-белыя коцікі нейкіх раслін, задуменнапразрыстыя, як бы ахутаныя хісткай павалокай смугі, шары лазнякоў.

Вось яна, доўгачаканая свабода, якая прыйшла ў вобразе дзвюх дзяўчат. Цяпер не трэба баяцца, хітрыць, выкручвацца. Цяпер у Міці за плячамі вінтоўка, ён будзе з яе страляць, хадзіць разам з усімі ў паходы. Як добра быць разам з усімі!..

У глыбіні душы нарастае музыка. Матыў, які ледзь чутна пачынае звінець, нечым адрозніваецца ад узвышаных Міцевых думак і пачуццяў.

Пейте, пойте в юности!
Бейте в жизнь без промаха!
Все равно, любимая,
Отцветет черемуха...

Чаму цяпер, у ахмеленую радасцю часіну, выплывае ў памяці трохі журботная песня, якая заве да насалоды і бесклапотнасці? Што яе нарадзіла, выклікала? Навокал — асенні краявід, першае жоўтае лісце на бярэзніках. Паперадзе, на сцежцы,— зграбныя постаці дзяўчат.

Міця ведае — ідуць у Рагалі. Там — Бацькавіцкі атрад. Ідуць з гадзіну, але і дарога не такая блізкая — ад Малкавіцкага ўзбалотка да вёскі — шэсць кіламетраў.

Балота скончылася, пачынаецца лес. Які ён прыгожы, урачысты! У ваколіцах мястэчка нідзе няма такіх магутных, разлапістых дубоў, града якіх, здаецца, цягнецца бясконца. Дубы як вартавыя вечнага спакою, мудрасці зямлі. Сонца ідзе на спад, і ў лесе дзіўна спалучаюцца доўгія, празрыстыя пасмы святла з ценямі, якія падаюць ад дрэў.

Вось ужо і Рагалі. Вёска пры самым лесе. З усходняга боку лесу няма, там адкрываецца вачам зарослы кустамі прастор сенажацяў. У Рагалях — адна вуліца, хаты даволі ахайныя. У тым месцы, дзе местачкоўцы вынырнулі з дубняку, правая лава хат крута пераломваецца, робячы калена і як бы ўтвараючы невялікую пясчаную плошчу. На ёй гурт узброеных вінтоўкамі людзей.

— Хто такія? — пытае адзін нізенькі, у чырвонаармейскіх штанах, запраўленых у лазовыя лапці.

— З мястэчка. У наш атрад ідуць! — гаворыць Каця.

— Доўга збіраліся!..

— Потым скажуць — ваявалі...

— Шкуры прыйшлі ратаваць...

— Станавіцеся пад плот, зараз пагаворым...

Міцю разбірае злосць. Ён гатоў ужо спыніцца, сказаць што-небудзь едкае, абразлівае, але Каця торгае за рукаў — не

звязвайся. Спыняюцца перад вялікай хатай — яна бакавымі сценамі, дашчаным ганкам выходзіць на вуліцу.

Каця ідзе ў хату, хлопцы стаяць, чакаюць. Хвілін праз колькі яна выскаквае — усё ў парадку.

Першым ідзе ў штаб Міця.

За сталом двое: чарнявы, у трохі выцвілай скураной тужурцы і другі, старэйшы, з адутлаватым, нахмураным тварам. Чарнявы, які ўздымае на Міцю стомленыя вочы, здаецца знаёмым. Недзе Міця яго бачыў.

— Выкладвай, што ў кішэнях,— патрабуе ён.

Цікава, голас чалавека таксама знаёмы.

Міця кладзе на стол лясгасаўскае пасведчанне, пачкі нямецкіх марак, кніжку вершаў Пушкіна і «Атлас мира».

Лясгасаўскую паперку чарнявы рве на дробныя кавалачкі.

— Дзе ўзяў мундзір?

— Міхайлаў даў. Ён цяпер у вас.

— З кім дзяржалі сувязь?

— З разведгрупай капітана Мазурэнкі. Мы ішлі да іх.

У гэты момант у хату ўрываецца Андрыюк.

— Наш гэта! — крычыць з парога.— Бінты, медыкаменты я яму передаваў.

— Будзем знаёмы,— чарнявы, устаўшы, працягвае руку.— Камандзір атрада Якубоўскі.

Маланкавая ўспышка ў памяці: летні дзень, мястэчкоўцы капаюць каля Вербіч акопы, камандуе работай малады падцягнуты лейтэнант.

— Я вас ведаю,— гаворыць Міця.— З сорак першага года. Помніце, акопы каля Вербіч...

Лейтэнант задуменна ўсміхаецца. Андрыюк тым часам знікае.

— Калі мы з табой знаёмыя, падары мне атлас. Я ўсё ж камандзір, а такіх картаў не маю.

Пра грошы Якубоўскі не пытае — кладзе сабе ў сумку.

Лобіка, Сяргея апытваюць яшчэ меней. Пасля таго як хлопцы паяўляюцца адзін за другім на ганку, Міцю зноў клічуць. Якубоўскі на гэты раз расхаджвае па хаце.

— Запіску, якую ты перадаў Міхайлавым, мы чыталі. Толькі ты вельмі добранькі. Хваліш людзей, якія пайшлі служыць немцам.

— Я ведаю іх.

— Адкуль ведаеш?

— Сустракаўся з Міхайлавым часта. Думаеце, было проста адправіць дваццаць сем чалавек у лес? Мы ім лістоўкі давалі, газеты. Яны б не пайшлі да вас, каб не верылі, што іх прымеце.

— Міхайлава няма,— задуменна гаворыць Якубоўскі.— Загінуў у баі з уласаўцамі.

Міця збянтэжаны. Яшчэ і месяца не прайшло, як ён развітаўся з лейтэнантам.

— Немцы свайго сярод дваццаці сямі нам не падсунулі? — пытае Якубоўскі.— Не дапускаеш?

— Не. Які ў гэтых палонных аўтарытэт? Каб хоць раней у партызаны пайшлі.

— Ну, добра.— Якубоўскі ўсміхаецца.— Наконт вашай групы вот што. Служылі дэсантнікам, паслужыце нам. Атрад мясцовы, бацькавіцкі. Ты з таварышам,— Якубоўскі гаворыць пра Лобіка,— застанешся пры штабе. Для асобых даручэнняў. Старшым прызначаю цябе.

## V

Каля паркана штабной хаты Міцю з Лобікам запыняе прысадзісты, апрануты ў цёмна-сінюю гімнасцёрку і галіфэ чалавек.

— Не пазнаяце?

Круглы бялявы твар, ціхі голас. Ды гэта ж Анкудовіч — ён прыходзіў у мястэчка яшчэ ў першую ваенную зіму, склікаў змоўшчыкаў на сходку. Пазней прыслаў на лячэнне Ключніка.

Колькі ўсяго перамянілася за паўтары гады. Нібы вечнасць прайшла. Хлопцы расказваюць пра расстрэл Сяргея, яго сястры, пра сваю службу ў дэсантнікаў, пра Ключніка, якому собіла другі раз трапіць у местачковую бальніцу.

— Ведаю,— гаворыць Анкудовіч.— Я начальнік разведкі і контрразведкі. З Мазурэнкам бачыўся часта. Ён мне звесткі дае, я — яму.

— Дзе цяпер Мазурэнка?

— Іхнюю групу перакідваюць далей. Частка асталася, частка пайшла.

Дык вось яно што! Ясна, чаму ніхто не прыйшоў на сустрэчу. Можа, нават добра, што так здарылася. Ні ў Міці, ні ў Лобіка няма ніякага жадання ісці з Мазурэнкам у нямецкі тыл. Дрыжаць, калаціцца? Ніколі ў жыцці яны не стануць болей падпольшчыкамі!..

Анкудовіч між тым расказвае пра Ключніка. Тады, калі арыштавалі Сяргея, ён прыбег у атрад, маючы ў кішэні нямецкі пропуск у Оўруч — там Ключнік нарадзіўся. Анкудовіч адлупцаваў яго, паперку парваў. Калі партызаны наступалі на Росіцу, Ключнік ад узвода адбіўся. Ніхто яго ў баі не бачыў, таму і не падабралі параненага.

Міця слухае, поўнячыся супярэчлівымі пачуццямі. Некалі яны, змоўшчыкі, глядзелі на Ключніка, як на Бога. Ён здаваўся надзвычай вынаходлівым, смелым. Які там, у мястэчку, быў страшны час! З усіх бакоў падсцерагала небяспека. Нават адтуль, адкуль яны чакалі дапамогі!..

Залічваюць местачкоўцаў у першую роту. Камандзірам там Сямён Гайчук, мужчына буйны, рослы, палітруком — Пятро Лісавенка. Паколькі Міця з Лобікам пакінуты пры штабе, то мусяць размяшчацца ў другой палавіне штабной хаты, сталымі жыхарамі якой з’яўляюцца камандзір і палітрук.

Нізенькі партызан, які зачапіў хлопцаў, калі яны толькі выйшлі з дубняку, прынёс бярэмак саломы, кінуў на падлогу — пасцель гатова. Найбольш размаўляе з хлопцамі палітрук. Ён надзвычай словаахотлівы, за тое, што навічкоў падсялілі ў камандзірскую хату, не крыўдуе, наадварот, як бы нават радуецца, што ёсць магчымасць пагаварыць з людзьмі, якія блізка бачылі немцаў.

— Як Гітлер асмеліўся на нас напасці, не магу паняць,— усчынае ён размову.— Бандзіт, і болей нічога. Бандзіты не вельмі думаюць, калі збіраюцца на якое-небудзь дзела.

Размаўляе Лісавенка трохі нараспеў, па-сялянску расцягваючы словы, і яго перасыпаная мясцовымі словамі гаворка выяўляе чалавека не надта высокай адукацыі.

Для камандзіра і палітрука — асобныя ложкі, астатнія — іх у пакоі сямёра ці васьмёра — покатам, не распранаючыся, валяцца на падлогу і адразу заводзяць насамі рулады.

Палітрук не спіць.

— Я ў вашым мястэчку быў,— працягвае ён.— Там мой брат жыве. Я, калі ўцёк з плену, да яго заходзіў. Можа, чулі пра Нічыпара Лісавенку? Ён заацехнік, інсцітут кончыў.

Міця трохі памятае чырванатварага, хмурага чалавека, які робіць у «Заготжывёле». Але ў патайных справах ён не ўдзельнічаў, і Міця не ведае, што пра яго сказаць.

Лісавенка нібы адгадвае Міцевы думкі.

— Дурань ён, хоць граматны. Да немцаў пайшоў на службу. Нашы, калі прыйдуць, па галоўцы не пагладзяць. Я вот не пайшоў, хоць сваталі. Хаваўся, туляўся, покі дажыў да лета.

— У мястэчку многія служаць,— пярэчыць Міця.— Але ж не ворагі яны. Хто быў у калгасе, мог жыць з зямлі. А як астатнім?

— Ты — малады, нічога не разумееш.

— Што тут разумець? Прыйшлі немцы, у іх зброя, улада. Сілай прымусілі вярнуцца на службу. Маладзейшых гналі ў Германію. Што было рабіць? На неба лезці?

— Яно-то так, ды не ўсе аднолькава думаюць.

— То яны сляпыя! — гарачыцца Міця.— Ёсць людзі, для якіх служба — маскіроўка. Вот партызаны забралі з мястэчка трыста кароў. Дулю з макам мелі б яны, каб ім не памаглі. Дый на Росіцу напалі не з завязанымі вачамі.

Лобік штурхае Міцю пад бок — не развязвай язык. Храп сціхае, некаторыя з тых, што ляжаць на падлозе, прыслухоўваюцца да гаворкі.

Начная размова дае вынік. Камандзір роты пазірае на хлопцаў з большай, чым учора, прыхільнасцю, а нізенькі — завуць яго Вася Дашук — круціцца ля іх нібы ўюн. Прынёс два кацялкі супу, ад вялізнага, нібы калёсны вобад, хлебнага каравая адрэзаў некалькі лустаў.

Суп густы, мяса ў ім, бадай, столькі, колькі бульбы, але ён зусім несалёны.

Міця ўстае, поркаецца ў рэчавым мяшку, дастае вузельчык з соллю. Партызаны, што сядзяць за сталом, глядзяць на яго запытальна. Што ж, солі Міця прыхопіць яшчэ, калі пойдзе ў мястэчка, а гэтую трэба падзяліць.

Перад дзядзькамі, хлопцамі Міця насыпае на стале па кучцы, і яму нават дзіўна бачыць, з якой асалодай накідваюцца

людзі на соль. Соляць суп, лусты хлеба, рэшту загортваюць у насоўкі, якія дастаюць з кішэняў.

З цыгарэтамі тое самае. Не паспеў Міця дастаць з кішэні апошні, распачаты яшчэ ўчора пачак, як да яго цягнецца некалькі рук. Цыгарэты партызаны тут жа ганяць, але кураць іх ахвотна, раз-пораз глыбока зацягваючыся. Міця шкадуе, што легкадумна аддаў учора Якубоўскаму маркі. Без марак цыгарэт не купіш, а так бы ён прынёс кожнаму з новых знаёмых па некалькі пачак.

З усіх, хто атабарыўся ў другой палавіне штабной хаты, найбольш цікавы немалады партызан па прозвішчы Яўтушык. На галаве ў яго вялізная капа ўскудлачаных валасоў, лапсярдак неахайны, парваны, разлезлыя ступакі носіць на босую нагу, але форсу не губляе і вельмі дасціпны ў гаворцы.

— Трэба нам залезці ў мястэчка,— заяўляе ён, скурыўшы Міцеву цыгарэту.— Пачэшам паліцэйскім бабам пяткі, тытуню разжывёмся. Вот етыя хлопцы завядуць.

— На Залінейную вуліцу можна прайсці,— Міця ўступае ў размову ахвотна.— Аховы там няма.

— Паліцэйскіх многа?

— Двое ці трое. Дома не начуюць.

Яўтушык дастае з-за пазухі капшук. Ад вырванага з нейкай кнігі, згорнутага ў квадрацікі ліста асцярожна адрывае паску паперы. Насыпае шчопаць ядавіта-зялёнага самасаду, верціць няўклюдную цыгарку. Высякае жалезнай дужкай крэсала з крэменя агонь.

— Ладна, хлопцы. Прыйдзе час. Вы мне пакуль якую-небудзь газеціну дастаньце. Можна з партрэтам Гітлера. Я яго, сабаку, на дым пушчу.

З прагнасцю ўглядаецца Міця ў партызанскае жыццё. Рагалі — вёска даволі ахайная. Хаты, нават хлявы пакрыты дранкай, сядзібы прасторныя. Узброеныя вінтоўкамі людзі расхаджваюць па дварах, па вуліцы, дзве невялікія групы ідуць за вёску. У адным двары стаіць звычайная вайсковая кухня, каля яе дзяўчаты абіраюць бульбу.

Апрануты, абуты партызаны хто ў што. На нагах у некаторых лазовыя ці вераўчаныя лапці. Ёсць такія, што носяць

нямецкія мундзіры. Але ва ўсіх на шапках, пілотках — нашыты чырвоныя стужкі.

Сяргей з жонкай — у процілеглым канцы вёскі. Там уладкаваліся сямейныя — Андрыюк, Шкірман, бацька, маці і малодшы брат Сяргея Амельчанкі, іншыя местачкоўцы.

Андрыюка дома няма. Забег учора ў штаб, мільгнуў перад хлопцамі на некалькі хвілін і знік. Жонка яго палошча ў карыце перад студняй дзіцячыя полкі.

— У шпіталь пайшоў,— гаворыць пра мужа.— Шпіталь у лесе. Дзе, я сама не ведаю.

Калі Міця выходзіць з двара, жанчына яго аклікае. Таропка выціраючы мокрыя рукі аб фартух, падбягае да варот, просіць:

— Можа, пойдзеце ў мястэчка, то не забудзьце пра нас. Прынясіце брусок мыла. Мы як з пажару выскачылі, у чым стаім...

Шкірманава жонка весялейшая. Але і ад яе Міця дазнаецца няшмат. Мужык на заданні. Большасць партызан на заданнях. Тут, у вёсцы, толькі тыя, хто на пастах ці адкуль-небудзь вярнуўся.

Міця ідзе назад, у штаб. На прызбе сядзіць Лобік, трымае між каленяў амаль што новую, з бліскучым ложам трохлінейку.

— Дзе ты вінтоўку ўзяў? — Міця не можа зразумець, адкуль у таварыша такая раскошная зброя. На доўгую французскую жалязяку, да якой не было ніводнага патрона, наўрад хто-небудзь пакваліўся.

— Памяняў,— Лобік смяецца.

Міця не тоіць зайздрасці — яго вінтоўка мае выгляд убогі. Ад доўгага ляжання пад карчом фарба з ложы злезла, руля, іншыя жалезныя часткі паточаны ржой, нібы воспай.

— Французскіх вінтовак тут многа,— тлумачыць Лобік.— І патроны ёсць. Аказваецца, валасныя ўправы, гарнізоны мелі якраз такія. Цяпер перайшло да партызан.

Дык вось чаму ўкрадзеная Міцем жалязяка стаяла ў Грамах, у валасці. Немцы, мабыць, спецыяльна завезлі. Але ад таго, што наступіла разгадка, Міцю не лягчэй.

— Так проста памяняў? — пытае ён у Лобіка.

— У прыдачу соль аддаў. Тую, што баба паклала.

Апаўдні высокі танклявы хлапчына, у наваксаваных да глянцу хромавых ботах дакументальна афармляе прыход местачкоўцаў у атрад. Запісвае Міцю, Лобіка, Сяргея ў тоўстую, з графамі крэдыту і дэбету, бухгалтарскую кнігу. Прозвішчы хлопцаў у спісе асабовага складу атрада стаяць пад лічбамі, што перавалілі за трэцюю сотню.

Другая ноч у той жа хаце, на той жа саломе. Але ложкі пустуюць, камандзіра роты з палітруком няма, дый на падлозе прасторна — разам з Міцем і Лобікам кладзецца толькі Вася Дашук, які служыць пры штабе веставым.

Па хаце тупае высокая, хмурая кабеціна, апранутая ў парваны капот і саматканы андарак. За ўвесь дзень яна слова хлопцам не сказала. Паміж печчу і задняй сценкай хаты — невялічкі прамежак, і там жанчына спіць. Цяпер, хоць на двары цёмна, яна некуды сышла.

— Вы пры бабе языкоў не развязвайце,— напаўголасу гаворыць Вася.— Лютая змяя.

— Чаму? — пытае Міця.

— Сын яе ў паліцыі. Яшчэ летась, калі грамілі Піляцічы, збег у мястэчка і служыць там. За год, сволач, мог бы адумацца.

Міця ў замяшанні. Штаб у доме паліцэйскага? Хіба не маглі партызаны выбраць другой хаты?

Ён гаворыць пра гэта Васілю, але той у адказ толькі хмыкае.

— Мы цяпер нічога не баімся. Ведаеце, колькі разоў за лета нас ганялі? Эсэсаўцы, уласаўцы. Дзве вялікія блакады было. Сёлы папалілі, але і мы, і людзі навучаныя. У лесе хаваемся. Сюды немцы не дойдуць — няма прамой дарогі. Каб трапіць сюды, трэба прайсці Піляцічы, Пажыць, Лазавіцу. А там усюды партызаны... Таму на паліцэйскую матку напляваць. Хата вялікая, вот і ўзялі пад штаб...

— Дзе Якубоўскі? — пытае Міця, хоць пра гэта пытаць нельга.— Абяцаў нас на заданне пасланць.

— Пашле. Не лезце паперад бацькі. Атрад загатоўку робіць. Хлеб ноччу ў ямы закопваем. Фронт наступае, але як да зімы немцаў не прагоняць, што будзем есці?

— Прагоняць,— гаворыць Міця.— Нашы падыходзяць да Бранска.

Назаўтра з раніцы Якубоўскі заве да сябе Міцю і Лобіка. Сядзіць за сталом адзін, двух партызан, якія аб нечым з ім размаўлялі, адсылае.

— Пойдзеце ў мястэчка,— гаворыць ён.— Трэба соль. Як можна болей. Вы яўку сваім таварышам прызначылі?

Пра сустрэчы з местачкоўцамі ў лесе хлопцы не думалі. Ішлі да Мазурэнкі. Але ёсць дзед Бондар, ён зробіць усё, што трэба.

Пачуўшы прозвішча дзеда, Якубоўскі з хвіліну як бы вывучае твары хлопцаў.

— Каму даводзіцца родзічам дзед?

— Мне,— адказвае Лобік.

— Ты сына яго ведаеш?

— Ён жа мне дзядзька. Але не бачыў даўно. Прыязджаў перад вайной...

Голас Якубоўскага лагаднее.

— Вось што, рабяты. Трэба асцярожна. Бондара паранілі, калі ішоў ад бацькі. Нарваўся на засаду. Можа, нават сачылі за бацькам. Старому скажыце, што ўсё ў парадку. Сына яго завезлі самалётам у Маскву. Яму цяпер лепей...

Пра дзедавага сына хлопцы ведаюць даўно, яшчэ з мінулагодняй вясны, калі ён жыў у Гарбылях. На сувязь да яго хадзіў Сяргей Амельчанка. Гэтым летам Мікола прынёс вестку, што Бондару далі званне палкоўніка, ён кіруе партызанскім штабам. Перадаваў Мікола і цьмяныя чуткі, што добрага ладу ў штабе няма, часта там сварацца, спрачаюцца.

Дык вось якое заданне. Міця з Лобікам ідуць на кухню, палучаюць па вялікім кавалку варанай ялавічыны, бохан хлеба. Маладыя дзяўчаты, якія там працуюць, глядзяць на іх з цікавасцю.

У гэтую раніцу Міцю наогул шанцуе. У Васі Дашука, які сядзіць на ганку штабной хаты, ахайная з бліскучым ложам вінтоўка, і Міця, як учора Лобік, прапануе абмен. Солі няма, але пад нямецкі мундзір Міця паддзеў амаль новы пінжачок, які бацька купіў перад самай вайной. Акрамя пінжачка Міця дае дзесяць патронаў — іх у партызан не густа.

Вася прымервае пінжачок. Ён яму трохі велікаваты, але затое Вася падобны ў ім на чалавека. Насіў да гэтага дзіравы рызман.

А ў Міці вінтоўка. З такой і перад дзяўчатамі не сорамна паказацца.

Перад выхадам з Рагалёў Міцю з Лобікам якраз дзяўчына і запыняе. Валасы светлыя, як пшанічная салома, пастава зграбная і надзвычай прыгожы, чысты твар.

— Я вас ведаю. Бачыла ў мястэчку. Да вайны я там працавала, а вы ў школе вучыліся.

Дзяўчыну завуць Жэня. Пасля сямігодкі была наборшчыцай у друкарні. Цяпер набірае партызанскую газету. Запрашае прыносіць заметкі.

Дзіўнае партызанскае жыццё. Нечым падобна яно на мірнае, даваеннае. Але чым, адразу не скажаш. Можа, сваёй адкрытасцю, радасным адчуваннем будучыні.

Надвор'е адменнае. За Рагалямі, з паўднёвага боку адкрываецца шырокі прастор. Сям-там на гладкай роўнядзі высяцца купчастыя постаці дубоў, стромкія, абвешаныя караламі чырвоных гронак рабіны. Быў на гэтым месцы калісьці лес, пра гэта гаворыць мноства пеньчукоў. Трава шорсткая, парудзелая. Па-летняму гарачае сонца плыве ў блакітнай, з рэдкімі аблачынкамі высі, спавівае дрыжачым мроівам разлеглыя далі.

Па ўкраінскіх стэпах пад такім жа сонцам коціцца лава савецкага наступлення. Чырвоныя дывізіі, арміі рвуцца да сіняга Дняпра. Ад Бацькавіч Днепр недалёка, усяго за сорак кіламетраў. Ён тут пагранічча паміж Украінай і Беларуссю. Выйдуць чырвоныя палкі на Днепр і на правым нізкім беразе ўбачаць лясны палескі край...

Міця нібы шкадуе, што вырас наводдаль ад ракі. У міжрэччы, створаным Дняпром, Прыпяццю, Пціччу, цякуць толькі ручаіны, накшталт вузенькай Мядзвёдкі, якая ўліваецца ў перасохлую Росіцу, а тая — у Днепр.

Мядзвёдка — побач. Экскаватар спраміў яе рэчышча, па выкінутым на бераг ілістым грунце густа падняўся дзядоўнік, драсён і другое балотнае зелле. Рачулка вядзе да Кавенек. Якія-небудзь тры гадзіны хады. Але ў Кавеньках — уласаўцы. Яны нібы прыкрываюць мястэчка ад партызанскага лесу.

Хлопцы наважваюць даць круку, праз Уюнкі, Прудок выйсці на Дубровіцу, а там, калі сцямнее, праскочыць да дзедавай сядзібы.

На балотным прасцягу сям-там раскінуты пабурэлыя стажкі. Яшчэ больш травы някошанай, нечапанай. З дарогі ўздымаюцца стайкі чорных драздоў. Людзі, відаць, рэдка ходзяць па дарогах, бо птушкі ўзлятаюць ледзь не з-пад самых ног. У паветры плавае празрыстая павуцінка.

Гадзіны праз дзве хлопцы бачаць пясчаны пагорак, на якім туліцца чарада шэрых, з абымшэлымі стрэхамі хатак. Лава будынінак адна, уздоўж яе старыя разгалістыя вербы. Гэта — Уюнкі. Такой апісваў вёсачку Прымак, якога мінулай восенню пасылалі сюды наладжваць сувязь з партызанамі.

Жанчыны па агародах капаюць бульбу. Чарнявы падлетак вядзе на вераўчаным повадзе гнядога коніка. На ніжняй перакладзіне азярода, звесіўшы босыя ногі, сядзяць белагаловыя хлапчукі і дзяўчаткі. На двух партызан з вінтоўкамі, якія дыбаюць пясчанай вуліцай, ніхто не зварачае ўвагі. Лобік пацвельваецца:

— Прымак ледзь ногі прынёс. Труслівы ён. Ніхто б яго не зачапіў...

Школа, дзе Прымак месяц працаваў настаўнікам, у канцы вёсачкі. Прыземістая, на дзве палавіны хата, з трохі большымі вокнамі. Вось тут, пад парканам, Прымак, мабыць, ляжаў, калі ноччу прыйшлі партызаны і сталі біць у школе вокны.

— Шампалоў Прымаку маглі даць,— гаворыць Міця.— Яму трэба было самому знайсці партызан.

Кіламетры праз тры Прудок. Хаты такія ж шэрыя, старасвецкія. Вёска большая за Уюнкі, з доўгай, зламанай вуліцай. На ёй цуг фурманак. На вазах мяшкі з жытам, узбоч іх паважна крочаць незнаёмыя ўзброеныя людзі з прышытымі да шапак чырвонымі паскамі.

За Прудком пасля гадзіны хады відаць Дубровіца. Сонца вісне за дальнім лесам, залоцячы шыбіны акон. Неяк асабліва выдзяляецца бярозавы гаёк, насаджаны на пясчаным пагорку, пасярэдзіне раскіданай вёскі. Тонкія гонкія бярэзнікі нібы апранулі вымытыя кашулі.

Вёску хлопцы абыходзяць. Супыняюцца ў кустах, непадалёк ад таго месца, дзе мінулагодняй восенню сустрэліся

з Мазурэнкам. У тым вунь ляску Драгун звёў хлопцаў з дэсантнікамі, але іх далейшым лёсам цікавіўся не надта. Тое ж можна сказаць пра Анкудовіча, Ключніка, Сяргееву сястру. У партызан — свае клопаты, падпольшчыкаў, сувязных яны, відаць, ставяць не вельмі высока.

Хлопцы дастаюць з торбы прыпас, вяла жуюць мяса з хлебам. Мяса несалёнае, есці яго не хочацца.

Не, Міця, Лобік сваіх таварышаў, мястэчка не забудуць. Там яны перажылі гора, радасць, там у іх выраслі крыллі. Толькі тыдзень пабылі ў лесе, у чужой вёсцы, а як цягне да родных аселіц. Добра, што ім далі гэтае заданне. Ёсць магчымасць даказаць партызанам, што нездарма сядзелі ў мястэчку. Солі дастануць, зробяць усё як трэба. Дзеда пашлюць да Прымака, бо Міколы дома не застанеш.

На ўзлессе спускаецца шараваты змрок. Хлопцы падымаюцца, сухім тарфянікам крочаць да мястэчка.

Усё атрымліваецца так, як намецілі.

Вінтоўкі Міця з Лобікам хаваюць у дзедавым бульбоўніку, ледзь чутна рыпнуўшы ковáратам, заходзяць у двор. Нацянькі, праз поплаў відаць станцыя. Бляклым ланцужкам мігцяць там аганькі стрэлак. Вуліца Залінейная спіць. Выплывае месяц, у яго хісткім святле чарнеюць хлявы, панадворкі.

Лобік стукае ў шыбіну, і зараз жа ў сенечках нехта шастае.

— Прыйшлі,— стоячы ў адной бялізне, дзед адмыкае дзверы.

Вокны занавешаны, гарыць каганец. Па хаце, вохкаючы, тупае бабка.

— Ах, мае вы дзеткі! У такія гады бадзяцца па чужыне..

Міця любіць дзедаву хату. У першай яе палавіне, дзе цяпер хлопцы сядзяць, усё на сялянскі манер — вялікая, пабурэлая ад копаці печ, драўляны палок, перавяслы цыбулі на шастку пад бэлькамі. Затое ў другім, чыстым, пакоі стаіць нікеляваны ложак, крэслы з выгнутымі спінкамі. Стол там засланы белым абрусам, пярэдняя сцяна ўсцяж завешана фотакарткамі ў старамодных асадках.

Бабка тым часам ставіць перад хлопцамі па глінянай місе стравы. Улучыўшы момант, калі яна выходзіць у кладоўку, Лобік напаўголасу паведамляе:

— Паўла паранілі. У тую ноч, як быў у цябе. Самалётам павезлі ў Маскву.

На дзедавым твары нават ніводная маршчынка не дрогнула.

— Чула маё сэрца. Дый сволач етая, Князеў, дзён тры з хаты не вылазіў. Віжаваў, вынюхваў.

— Мы кокнем Князева! — раптам загараецца Лобік.

— Сядзі ўжо лепей. Ты кокнеш. Знойдзе сваё без цябе.

Пра тое, што яго трэслі немцы, дапытвалі наконт сына, дзед нават словам не абмовіўся. Ні тады, калі хлопцы выходзілі ў лес, ні цяпер.

Начуюць Міця з Лобікам у хляве на вышках. Сена дзед набіў пад самы вільчык. Густыя пахі выпетранай, зляжалай травы прыемна дурманяць галаву. Засынаюць хлопцы імгненна. Прачынаюцца ад рыпу дзвярэй. Паўзмрок хлява з усіх дзірак точаць пранізлівыя паскі сонечнага святла.

Унізе стаіць Прымак. Прыняў меры перасцярогі. Праз плячо вісіць пара старых, ушчэнт зношаных ботаў. Падэшвы ў іх адсталі, целяпаюцца, як языкі, і ўражанне такое, нібы боты смяюцца над сваёй доляй.

Аляксей лезе на вышкі, расказвае навіны.

Міколы ў мястэчку няма. Замест яго прыходзіць па зводкі настаўніца з Грамоў. На чыгунцы Грышу памагаюць два хлопцы, ад якіх Прымак узяў падпіскі. Міцеву цётку немцы не зачапілі, ім цяпер не да гэтага — вызвалены Бранск, станцыя забіта эшалонамі. Некаторыя паліцэйскія сталі звальняцца са службы...

Наступны вялікі горад за Бранскам — Гомель. Праз лічаныя дні возьмуць і яго. Міця ад задавальнення паціраае далоні.

Прымак трымаецца другой думкі:

— Не скачы. Яшчэ ўсяго хопіць. Ад Арла да Бранска тожа блізка, а ішлі паўтара месяца. Вы добра зрабілі, што ўцяклі. І што Мікола прыціх. Гвозд і да мяне прыставаў. Уласаўцы ловяць людзей са спаленых сёл, возяць у сівалобаўскі лагер.

Заданне Прымаку тэрміновае: звязацца з Краснеем, Куніцкім. Соль будуць даставаць яны, а Прымак — толькі насіць да дзеда.

Аляксей шчэрыць роўныя, як часнок, зубы. Смяецца ён заўсёды сімпатычна.

— Я думаў — вадакачку загадаеце ўзарваць.

— Вадакачка няхай пастаіць. Як Плоткін?

— Пачынае кулдыбаць. Яго Люся лечыць. Прыбягае па тры разы на дзень.

— На соль падключыш Плоткіна. Раз сам прыйдзеш, раз — ён. Каб не кідалася ў вочы.

Пра Сюзанну Міця не пытае. Ёсць рэчы, пра якія не спытаеш нават у блізкага чалавека.

Прыцемкам задыханы Прымак прыносіць у вялікім крапіўным мяшку соль, похапкам дае Міцю ў рукі жмак паперак і адразу, нават як след не развітаўшыся, знікае.

Наконт асцярожнасці Аляксея папярэджваць не трэба.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

### I

З кожным днём Міця з Лобікам усё глыбей уваходзяць у партызанскае жыццё, робячыся сваімі ў тлумным вірлівым мнагалюддзі. Па соль звандравалі яшчэ раз, суп, мяса на кухні цяпер соляць, а гэта прыкметна ўздымае вагу местачковых хлопцаў у вачах партызан.

Па дарозе Міця і да дзядзькі Аўрама зазірнуў. Маці з малымі жыве ў куране. Шалаш — у ляску, паблізу дзядзькавага агарода. Гатуе маці страву ў печы, начуе ў хаце і толькі на дзень сыходзіць у лес.

Вялікай работы Бацькавіцкаму атраду няма. Гарнізоны разагнаны, нямецкія абозы паблізу не праязджаюць. Мітуслівы рух, які Міця заўважыў з першага дня, тлумачыцца проста: сем'і большасці партызан туляцца па лясах, буданах, і байцы, адпрасіўшыся ў камандзіраў, ходзяць іх праведваць.

Ноччу ў Рагалях выстаўляюцца пасты, днём сядзяць у патайных мясцінах дазоры.

Ёсць у атрадзе людзі, якія выклікаюць у Міці вострую цікавасць. Гэта разведчыкі. Яны як на падбор: маладыя, у вайсковых гімнасцёрках, штанах-галіфэ. Разведчыкі заўсёды выязджаюць і прыязджаюць на конях.

Ідучы ў лес, Міця разлічваў стаць разведчыкам. І ён, і Лобік, назіраючы ў мястэчку за немцамі, сяму-таму навучыліся. Але атрадныя разведчыкі да сябе іх нават блізка не падпускаюць. Адзін раз Міця зрабіў спробу, асмеліўся завязаць знаёмства з хлопцам, твар якога падаўся найбольш лагодным. Але той, буркнуўшы два словы, дэманстратыўна адвярнуўся.

Разведчыкі — нібы багі ў атрадзе. Тыя, хто да іх трапіў, маюць па году і болей партызанскага стажу. Міця з Лобікам у партызанах лічаныя дні, і задача іхняя — насіць соль.

Заслонай таямнічасці акружаны таксама падрыўнікі. Толькі аднойчы Міця бачыў, як выходзяць яны на заданне. Маўклівыя, зацятыя, абвешаныя скрынкамі і дратамі. Двое ў плямістых нямецкіх маскхалатах нясуць на плячах супрацьтанкавае ружжо. Наперадзе Лубан, былы намеснік бургамістра. Яго круглы твар густа зарос, змізарнеў.

Пра Лубана ў атрадзе казкі расказваюць. Нібыта, помсцячы немцам, не ведае спакою ні днём ні ноччу. Паколькі сам чыгуначнік, то ведае ўсе хады, выхады, з чыгункі не злазіць, прыходзіць у атрад толькі па тол. Падарваў болей за дваццаць эшалонаў, з супрацьтанкавага ружжа прабіў процьму паравозных катлоў.

Новыя партызаны прымаюць прысягу. За апошні месяц многа народу прываліла ў атрад. Побач з Міцем і Лобікам стаяць у шарэнзе цыбаты, чорны як грак Кузьма Гіль і яшчэ двое местачкоўцаў. Цяпер ясна, хто ўзарваў электрастанцыю.

У мястэчку дзейнічала яшчэ адна група, якая была звязана з гомельскім атрадам. Кіраваў ёй, аказваецца, Гіль. З Кузьмой Міця вучыўся ў восьмым класе. Калі мінулагодняй восенню ён звольніўся з фінансавага аддзела, яго пасаду заняў Кузьма. Маскіраваўся гэтак жа, як Міця.

Тэкст прысягі чытае Якубоўскі. Рознагалосы хор гучна паўтарае высокія, урачыстыя словы.

— Я чуў, ты ў мястэчка ходзіш? — пытае Кузьма ў Міці, калі пасвячэнне ў партызаны скончылася.— Кажуць, па соль.

— Хаджу,— Кузьма свой хлопец, і таіцца ад яго не варта.

— Усёй солі на кухню не аддавай. Прыхавай трохі. Ва ўсіх радня, сем'і, а мы ходзім як выклятыя. Хоць бы сабрацца, чарку выпіць. Я аднаго дзеда ведаю — дастане за соль што хочаш.

Гіль праўду гаворыць. Трапіўшы ў атрад, яны, местачкоўцы, адразу раз'ядналіся. Міця не бывае цяпер ні ў Андрыюка, ні ў Шкірмана, нават з Драгуном як след пагаварыць не прыйшлося.

Кузьма, мабыць, далёкая радня Нупрэю Гілю, які загінуў яшчэ ў сорак першым годзе. А можа, і не. Такіх прозвішчаў у мястэчку шмат, ёсць яны ў Кавеньках, у Дубровіцы.

Гілеў таварыш — Міцеў аднафамілец. Таўставаты, старэйшы за астатніх Андрэй Птах да вайны вучыўся ў інстытуце, хадзіў пад ручку з дзяўчатамі, на такую драбязу, як Міця, пазіраў звысака. Цяжка было падумаць, што ён падпольшчык. Але, як цяпер Міця прыгадвае, Андрэй знаўся з Ключнікам, вёў з ім гешэфты яшчэ мінулагодняй вясной.

— Сабяромся,— абяцае Міця.— Солі прынясу.

Назаўтра навіна: бацькавіцкіх партызан дзеляць на тры атрады. Цяпер гэта ўжо брыгада. Называецца — імя Панамарэнкі. У гонар начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху.

Камандзір Міцевага атрада — Гайчук, камісар — Лісавенка. За сталом, калі няма Якубоўскага, цяпер сядзяць яны, выклікаюць да сябе ротных, узводных камандзіраў, вырашаюць справы.

Пасыльны Вася заве Міцю ў штаб.

— Што ведаеш пра Сталярова? — пытае Гайчук.

Пытання трэба было чакаць. На Сяргея ў атрадзе пазіраюць коса. Не пасылаюць на заданні, ён нават прысягу не прымаў.

— Заданні нашай групы Сталяроў выконваў чэсна,— гаворыць Міця.— У групе ён з вясны, але яшчэ летась памагаў. Хадзіў на сувязь у Гарбылі да сястры Сяргея Амельчанкі...

Гайчук і Лісавенка пераглядваюцца.

— Таго, другога Сяргея, немцы расстралялі?

— Расстралялі.

— Чаму етага выпусцілі?

Вось яно што!.. У атрадзе бацька, малодшы брат Сяргея Амельчанкі. Ясна — яны накляпалі.

Сядзелі склаўшы рукі, пальцам баяліся паварушыць, а тут патрыётамі сябе паказваюць. Міцю разбірае злосць.

— Сяргей быў на прыкмеце з самага пачатку. Вярнуўся са знішчальнага батальёна, здаў немцам зброю. Так прыйшлося. Потым звязаўся з Басняком. Басняк цяпер у СД служыць.

— Што скажаш пра бацьку Амельчанкі?

— Тарбахват. Да вайны ў краме таргаваў. Нажываў дабро. Хацеў, каб і Сяргей стаў такім, як ён. Каб не сын, не дочкі, ён бы і не падумаў пра партызан. У лес паняволі прыйшоў.

Ноччу Міця стаіць на пасту. Камандзір першай роты Ткач даў паролі. На падлозе каравульнага памяшкання ўпокат ляжаць прызначаныя на начное дзяжурства. Праз кожныя дзве гадзіны паставых разводзіць перахлябісты, панылы хлапчына. Ён з ліку тых, каму Міця памог выбрацца з чыгуначнай роты. Аднак не ведае пра гэта. Пакрыквае на Міцю, як на ўсіх астатніх. Не паспееш закрыць вочы, а ўжо зноў чуваць яго прарэзлівы голас.

Ноч доўгая, цёмная. Міцеў пост каля дубняку, якім Каця прывяла местачкоўцаў у атрад. Дарогі тут няма, за дубняком — Мядзвёдка і балота. Пост усё ж ставяць.

Углядаючыся ў чорную, як дзёгаць, цемень, прыслухоўваючыся да шорахаў лесу, Міця думае, што жыццё складаней, заблытаней, чым уяўлялася. Жывучы ў мястэчку, ён нават думкі дапусціць не мог, што сярод партызан знойдуцца людзі, гатовыя выкапаць ямку другому. Іменна такім здаецца цяпер стары Амельчанка. Завошта абылгаў Сталярова?..

Сустракаючы Сяргееву маці, Міця заўсёды адчуваў сябе нібы вінаватым. Яе сын, дачка загінулі, а ён жыве. Ад бяссоннай пакуты ў жанчыны глыбока запалі вочы, зрабіліся нерухомымі, як бы ашклянелі. Глядзіць гэтымі страшнымі вачамі маці і як бы чакае адказу. Толькі што ёй скажаш? Якія знойдзеш словы?

У цемені чуваць асцярожныя крокі. Міця клацае затворам, гучна пытае:

— Хто ідзе? Пароль?

— Курск.

— Калуга,— выгуквае Міця адказ, пазнаючы па голасу Ткача.

Ткач падыходзіць, закурвае.

— Не замёрз?

— Не. Спаць трохі хочацца.

— Паспі днём. Добра выспіся. Ноччу пойдзем на «канцэрт».

— На які канцэрт?

— Заўтра пабачыш.

Выспацца не ўдалося. Назаўтра з раніцы, пастроіўшыся ў калону, атрад выходзіць з Рагалёў. Наперадзе разам з Якубоўскім і Анкудовічам камандзір падрыўнікоў Лубан.

Міця ідзе побач з Лобікам і Сталяровым. У Сяргея паранейшаму кароценькі абрэз, які ён нясе пад пахай.

У дубняку калона расцягваецца ў ланцуг. Ідуць у напрамку на Малкавічы тымі ж мясцінамі, якімі местачкоўцы дабіраліся ў Рагалі. Восень адчуваецца выразней. На дрэвах прыбавілася жаўталісця, у паветры пануюць лёгкія, празрыстыя колеры.

— Ідзём на цацерукоў,— гаворыць Яўтушык.

Ногі ў Міці нібы гумавыя, цела стомленае, і ён ні аб чым не хоча думаць. Галасы, гаворка даносяцца, як скрозь сон.

Гадзіны праз тры атрад выходзіць на шырокае, амаль голае балота, і толькі тут Міця ўстрапянуўся. Балота на ўсім працягу паласуюць доўгія калоны. З невялікімі прамежкамі яны выныраюць з лесу, цягнуцца да процілеглых, ахінутых павалокай сінечы кустоў, запаўняючы сабой увесь бачны прастор. Якое мноства людзей! Упершыню бачыць Міця таямнічую, раскіданую па розных урочышчах, закутках лясную армію, якая цяпер як бы паказалася на свет. Можа, дзесяць ці болей брыгад...

Міця поўніцца ўрачыстасцю моманту. Тысячы людзей нездарма сабралі. Наперадзе штосьці важнае, нязвычнае, чаго ён яшчэ не зведаў.

Бацькавіцкі атрад запыняецца ў лазняку. Большасць калон шнуруе далей, адхіляючыся направа, у кірунку Гарбылёў. Партызаны нясуць на плячах ручныя кулямёты, у некаторых целяпаюцца перавешаныя праз шыю аўтаматы, некаторыя крыж-накрыж перапаясаны патроннымі лентамі. Чырвоныя

партызанскія стужкі на шапках славакаў, палякаў-тодтаўцаў, нават мадзьярскіх салдат...

У лазняку чакае фурманка, нагружаная мяшкамі. Спярша Міця падумаў, што ў мяшках бульба. Але вось партызаны, узяўшыся за рагі, прывалаклі адзін такі куль, распаролі па шве нажом, і ў ім аказалася зусім іншае дабро. Тол. Сотні жаўтаватых, акуратна вытачаных брускоў з дзюрачкамі для запалаў.

Міця, як і ўсе, атрымлівае толавую шашку, кавалак бікфордава шнура з алюмініевым патрончыкам узрывальніка. У дадатак — пяць сярнічак і чырку, абмазаную серкай. Каб было чым падпаліць шнур.

Інструктаж перад строем дае Якубоўскі.

— На палатно выходзіць строга па камандзе. Не спазніцца ні на секунду. Шашку — пад рэйку, шнур падпаліць. І зараз жа адыходзіць. Усё, як прошлы раз. Навічкам пакажуць камандзіры рот. Пад іх адказнасць...

У тую ноч, калі Міця начаваў на Залінейнай вуліцы, збіраючыся уцякаць з мястэчка, чыгунка аж стагнала ад суцэльных выбухаў.

Цяпер будзе тое самае.

Бацькавіцкая брыгада кіруе пад мястэчка. Малкавіцкія курані застаюцца ўбаку. Маўклівыя, задуменныя цягнуцца сасняікі. Цвіце верас, разліваючыся ружовымі азяркамі па выжарынах і рэдкалессю. Пад бярозамі — жоўтая замець апалага лісця. У сасняках, насаджаных па пустых, бясплодных жаўтапёсах, трапляюцца зусім голыя палянкі, парослыя па доле наздраватым мохам-сіўцом.

Міця раптам пачынае пазнаваць навакольныя мясціны, поўнячыся трапяткой узрушанасцю. За тым вунь хвойнікам пойдуць маладыя бярэзнікі, вузенькіх, святочна-прыгожых гайкоў тры ці чатыры, за імі — шырокая паляна, на якой шафёры лясной школы вучыліся на газагенератарах рабіць кругі. Паляна ўсутыч прылягае да пясчанага раз'езджанага шляху, які вядзе з мястэчка ў Грамы. За ім — чубкі хвойнікаў, чыгунка.

Тут, у знаёмых да болю мясцінах, прайшло Міцева дзяцінства. Не толькі дзяцінства. Падросшы, пасталеўшы, ён

яшчэ ахвотней блукаў па лесе. Ягады збіралі меншыя, а ён з сярэдзіны лета выбіраўся па грыбы, вандруючы па верасах да позняй голай восені.

Міцю цяпер васямнаццаць. Значыць, ужо гадоў дзесяць ведае ён навакольны лес. Жыў на будцы, на адзіноце, таварышаў у вандроўках не было, таму лес як бы навучыў думаць і марыць. Куды не сягалі яго думкі пад пошум купчастых соснаў на гэтых вось ружовых верасовых абсягах! Пра вайну, пра тое, што прыйдзецца хадзіць па родным лесе з вінтоўкай, ён у тыя далёкія бясхмарныя дні не думаў. У жыцці, мабыць, так і бывае — робіш тое, аб чым не думаеш.

Маладыя бярэзнікі калона пакідае справа. Брыгадзе, відаць, выдзелены ўчастак паміж Птахавай і Драздовай будкамі. Фактычна пад самым мястэчкам. Хутка будзе пясчаны пагорак, дзе ў першую восень немцы расстрэльвалі яўрэяў, за пагоркам — зарослае асакой балотца з чэзлымі хвойкамі. Далей як пойдзеш. Калі возьмуць управа, бліжэй да чыгункі, вынікне града змешанага, найбольш лісцвянага лесу, калі лявей, у абход балотца, аж да самага поля будуць сасоннікі і верасы.

Між тым прывал. Міця кладзецца на верас. Лобік падае побач. Зусім знямогся Іван. У бабчыным кажушку ўзмакрэў, узапрэў, як птушка ў гарачыню дзюбай, хаўкае ротам. Дзіва няма — адмахалі вёрст дваццаць.

Сонца на самым захадзе. Тут, у лесе, святло яго чырванаватае, нязвыклае, як бы нават злавеснае.

— Ведаеш, куды прыйшлі? — пытае Міця ў Івана.

— Ведаю.— Лобік абыякавы.— Могуць усыпаць па дзясятае чысло.

— Не ўсыплюць. Бачыў, колькі народу?

— Што той народ? Дзесяць патронаў на вінтоўку. Не вельмі наваюеш.

Сяргей лёг наводдаль. Трохі нават пахрапвае. Зліпаюцца вочы ў Івана. Міцю спаць не хочацца. Летам, калі толькі пачалася вайна, нямецкія лётчыкі гасілі па вакольных сасонніках бомбамі. Думалі, што тут стаяць войскі. Яшчэ цяпер трапляюцца зарослыя травой варонкі, дрэвы-вываратні. Па пясчаным шляху, што адсюль не больш чым за вярсту, немцы прыйшлі ў мястэчка. Пазней, восенню, Міця збіраў наўзбоч

шляху абрыўкі газет, якія пакінулі пасля сябе салдаты. Страшныя то былі газеты. Немцы захапілі паўсвету, хваліліся, што захопяць увесь. «Heute gehört uns Deutschland, morgen — die ganze Welt...»[1] Міця яшчэ тады пераклаў гэтыя словы і тады ж прыхаваў у ямках, старых акопах знойдзеныя патроны і гранаты. Зброя павінна калі-небудзь страляць, і вось ён, Міця, у партызанах. Відаць, кожны з двух ці трох тысяч, якіх Міця сёння бачыў, прыйшоў у лес такім жа шляхам. Не мог змірыцца з тым, што неслі фашысты. Не важна, што ў партызан мала патронаў. Галоўнае — чалавек не стаў на калені...

Не захапілі немцы свет. Цяпер уцякаюць. Нашы вызвалілі Бранск, Чарнігаў. Мабыць, падыходзяць да Дняпра. Што ж значылі страшныя словы ў нямецкіх газетах сорак першага года? Пусты гук, пахвальбу...

Захоплены развагай, Міця са спазненнем пачуў працяглае, журботнае курлыканне, якое лілося аднекуль з вышыні. Павярнуўшыся на спіну, пільна ўзіраючыся, ён на адзін толькі міг злавіў позіркам ледзь прыкметны ў вячэрнім, ужо цемнаватым небе трохкутнічак жураўлёў. Нягледзячы на блізкую ноч, ляцяць журавы ў вырай сваім спрадвечным шляхам...

Знямога бярэ сваё, Міця прымгнуў, і, можа, дзякуючы кароткаму сну на захадзе сонца, падзеі ночы адбіваюцца ў яго свядомасці дзіўным, фантастычным відовішчам. Ідуць лесам, перабіраюцца цераз шлях на Грамы, потым залягаюць у пнёўі. Да пнёўя Міця як бы меў дачыненне, бо паступіў на службу ў лясгас якраз тады, калі пачалі высякаць лес паміж чыгункай і шляхам. Немцы зганялі валіць дрэвы жыхароў мястэчка, навакольных вёсак, ляснічыя пазней склалі ведамасці на выплату грошай прымусовым лесарубам, але амаль ніхто з іх не прыходзіў па гэтыя грошы. Ведамасці ляжалі ў жалезным сейфе жмутам рознакаляровых паперак, і калі пазней спатрэбіліся маркі на медыкаменты, цыгарэты, сахарын, Міця браў іх з касы, распісваючыся за невядомых лесарубаў...

Ткач падае каманду, рота падымаецца з пнёўя, мінае кусты, выбраўшыся бліжэй да мястэчка, на поле. Адсюль цьмяна відаць насып чыгункі, будка, у якой Міця жыў, сасна на грудку

---

[1] «Сёння ў нас Германія, заўтра будзе ўвесь свет...» *(ням.)*.

пры дарозе. Па Птахавай будцы, як і там, за пнёўем — па Драздовай — сякуць кулямёты, паднятая стрэламі партызанская шарэнга бяжыць да чыгункі.

Міця, грабнуўшы з-пад рэйкі баласт, закладвае шашку, азіраецца. Справа, злева над рэйкамі варушацца цёмныя постаці. Гучыць зычная каманда, Міця чыркае запалкай, падпальвае шнур. Сыпануўшы іскрамі, ён шыпіць як змяя. Двое ці трое дзядзькоў, бліжэйшых Міцевых суседзяў, наблізіцца да рэек не адважваюцца, кладуцца пад насыпам. Шпурлянуўшы на рэйкі толавыя шашкі, нібы гранаты,— яны з усіх ног кідаюцца прэч...

Міця адбягае метраў на сто, на зямлю не падае. Упершыню за сваё жыццё ён адчувае: бой — гэта кіпенне крыві, шалёная, дзікая радасць. Чыгунка ўзрываецца доўгай вогненнай лавай, выбухі, асляпляльныя слупы агню адзін за другім вынікаюць на ўсім бачным прасцягу, разлягаючыся па лесе шматгалосым рэхам. Хутка ўсё сціхае. У нязвыклай стоенай цішыні, якая на момант наступае, Міцю раптам згадалася, што ён чуе вячэрняе курлыканне жураўлёў...

## II

Назаўтра праз Рагалі ўвесь дзень валам валяць партызаны. Варочаюцца з чыгункі Дамачоўскія, Гарбылёўскія, Акцябрскія, нават дальнія — Стрэшынскія, Парыцкія — брыгады і атрады. Ноч «рэйкавай вайны» ўдачу прынесла. Два ці тры дні будуць немцы латаць пашкамутаную чыгунку. Лясное войска тым часам адляжыцца, адаспіцца, каб зноў налятаць на яе, чыніць дыверсіі.

Маладыя, падабраныя ў постаці хлопцы, дзядзькі, размашыста выдыбаюць па рагалёўскай вуліцы, крытычна пазіраючы на босага Яўтушыка, які сядзіць на ганку штабной хаты.

— Таварыш! Ці не ты лапці згубіў? Вісяць на бярозе...

— Бяжы, браце, хутчэй, бо нехта падбярэ...

— Але ж і ляцеў з чыгункі на злом галавы. Бачыш, хоць лапці згубіў, але паспеў выспацца...

— На акупіраванай церыторыі ён не быў. Жыў у лесе, немцаў не бачыў...

Яўтушык адгырквaецца:

— Куды размахаўся? Хадзі пасядзім. Мясам накормім. Вы ж вясной паследнюю кабылу ў Бабруйску прадалі.

На ганак нетаропкай хадою падымаецца каржакаваты, у скураным паліто, запыленых ботах чалавек. Праз яго плячо целяпаецца туга набітая камандзірская сумка.

За сталом штосьці піша, насліньваючы хімічны аловак, Анкудовіч. Пасля стварэння брыгады ён прызначаны начальнікам штаба. Узняўшы вочы на наведвальніка, Анкудовіч як бы ўздрыгвае, густа чырванее, унурваючыся зноў у паперы. Чалавек нерашуча перамінаецца з нагі на нагу.

— Не пазнаў, Анкудовіч?

— Пазнаў, таварыш Мацвееў.

— Не вельмі ласкава сустракаеш былога камандзіра.

— Няма прычыны цалавацца. Не абіжайся...

Анкудовіч у гэтую хвіліну разгублены. Як далёкі, хісткі прывід, узнікае ў памяці сорак першы год, знішчальны батальён, які, похапкам перабраўшыся ў лес, стаў называцца партызанскім атрадам. У атрадзе, якім камандаваў начальнік міліцыі Мацвееў, панавала стоенасць, зацятасць. Днём сядзелі ў зямлянках, елі сухары, кансервы, ноччу, як ваўкі, выпаўзалі ў разведку. Нібы лес наўсцяж быў заселены немцамі.

— Быў цяжкі час, Анкудовіч,— Мацвееў садзіцца на стул.— Мне, думаеш, лёгка прыйшлося?

— Распускаць атрад ты не меў права.

— Было не ў маёй уладзе. Не забывай, нада мной стаяў Філімонаў, старшыня райвыканкама. Ён аддаў загад.

— Не віляй хвастом. Ты быў камандзірам.

— Ты сам пайшоў у Літвінаў і не вярнуўся.

— Вярнуўся, Мацвееў. Тым часам ты даў драла...

Што Мацвееў не забіты, падаўся з Філімонавым на ўсход, за фронт, яны, няўдалыя партызаны, ведалі, але маўчалі. Паліцэйскія пусцілі чутку, і з-за тых, хто сядзеў у мястэчку, не варта было яе абвяргаць...

— Не ў адных нас так палучылася,— працягвае Мацвееў.— Некаторыя атрады не ўдзяржаліся. Ведаеш жа, як было...

— На другіх не ківай. У нас склады разграбілі, актыў перабілі. Наша брыгада шчэ й цяпер слабейшая за другія.

Мацвееў раптам узрываецца. З трэскам — адлятаюць два гузікі — расхінае скуранку, размашыста выдыбваючы, носіцца па пакоі.

— Ты што — беляны аб'еўся? Думаеш, без цябе пракурораў не было? Хапіла на маю галаву. Паглядзі — валасы павылазілі. Ну пагібла дваццаць, трыццаць чалавек — што, я іх немцам у пашчу піхаў? Мільёны гібнуць. Калі хочаш ведаць, я збіраўся астацца. Тактыка якая была — перабіцца, прыхавацца зімой, каб сабрацца вясной зноў. Ты ж сам у сяле жыў. Вот і я так хацеў. З Філімонавым не згаджаўся. Паткнуўся да аднаго, да другога. Вазьмі, прыхавай. Ад варот паварот. Хто збіраўся лезці ў пятлю з-за начальніка міліцыі? Сам ведаеш, які тады быў настрой. Немцы трубілі, што ўзялі Маскву. Ну, я і пайшоў у гэту ўзятую Маскву. Не да немцаў пайшоў — на фронт. Каб з імі ваяваць. Ты, седзячы ў жонкі на печы, еў блінцы са шкваркамі. Разводзіў тары-бары са Спаткаём, з Аўчаром, каб цябе не зачапілі. А я семсот вёрст на жываце — галодны, халодны...

Анкудовіч мякчэе.

— Са Спаткаём і другімі мы спачатку вялі работу. Не верылі, што яны саўсім прадаліся.

— Дык вот, Анкудовіч, я таксама вяду работу. Усю вайну. Каб меней было такіх свалачэй, як Спаткай. Таму прашу перадаць мне местачковых сувязных. Мабыць, ведаеш, чым займаюся...

Начальнік штаба глядзіць на Мацвеева здзіўлена:

— Ты што, Мацвееў, не ведаеш парадку? Ёсць штаб злучэння, абкам. Абрашчайся туды. Я начальнік невялікі. Магу па сакрэту сказаць: летась у раён прыляцела спецгрупа з Масквы, сувязныя з Бацькавіч работаюць на яе...

## III

Тым часам фронт на Дняпры. Пасля двух гадоў ліхалецця, няпэўнасці, неверагодных чутак, якія невядома з якіх крыніц столькі разоў выплывалі раней, у гэта цяжка паверыць. Але цяпер гэта не чуткі. У партызанскай рэдакцыі ёсць прыёмнік, ля яго ў тры рукі запісваюць зводкі Інфармбюро. Раённая га-

зета паспела надрукаваць: Чырвоная Армія выйшла на Днепр ад Краменчуга да Лоева.

Дні трывожна-ўзнёслыя, поўныя хмельнай радасці. Паранейшаму стаіць пагодлівая восень, дубы ў гаі ля Мядзвёдкі, клёны, рабіны палаюць, нібы вялізныя вогнішчы. Вечары зорныя, ціхія. Недзе пад поўнач чуваць у небе гудзенне матораў. Эскадрыллі савецкіх бамбардзіроўшчыкаў ляцяць на захад.

Адкуль яно — рывок на Днепр, танкі, самалёты?

Звініць у Міцевай душы матыў, які ўзнік у той дзень, калі ён толькі ішоў у атрад.

Пейте, пойте в юности!
Бейте в жизнь без промаха!
Все равно, любимая,
Отцветет черемуха...

Два гады Міця толькі і думаў, што пра фронт, пра вайну, дакладна памятаў усе даты савецкага наступлення. Нават каб яго разбудзілі ноччу, ён бы без запінкі адказаў, у які дзень выбіты фашысты з кожнага, няхай сабе самага маленькага горада Савецкага Саюза. Сюзанну ён успамінаў мала, сустрэч з ёю не шукаў. Скончыцца вайна, тады прыйдзе ўсё, думаў ён. Вялікае жыццё з каханнем, асабістымі турботамі, згрызотамі ляжала для яго за той заслонай, якую магло зняць толькі выгнанне немцаў.

Немцаў яшчэ не выгналі, але ён ужо ўцягваецца ў іншы свет. Адчувае сябе нацята-ўзбуджана, калі сустракаецца з Нінай Грушэўскай, з Жэняй, з другімі дзяўчатамі. Тут, у партызанах, ёсць жанчыны, дзяўчаты, якія, не тоячыся, чакаюць кавалераў з заданняў, ходзяць з імі начаваць на сенавалы, высцірваюць ім сарочкі. Маладзейшыя хлопцы пахваляюцца перамогамі над вясковымі красунямі.

Спадыспаду душы ў Міці іншы раз уздымаецца крыўда на Сюзанну. Ніці, якія іх звязваюць, нетрывалыя, ценькія, нацягні тужэй — парвуцца. Ён ужо адчувае, што ў каханні ёсць самаахвярнасць, пакута, боль за блізкага чалавека, ловіць сябе на думцы, што нічога гэтага ў іх з Сюзаннай не было. З яго боку, можа, і было, асабліва тады, калі ён толькі ўбачыў

дзяўчыну і калі яшчэ не было вайны. А яна ўвесь час як бы прыслухоўваецца да самой сябе, разгадвае нейкую загадку. Наўрад ці думае яна пра Міцю, пра тое, што яму пагражае небяспека...

Ходзячы ў мястэчка па соль, Міця ўжо два разы паглядаў смерці ў вочы. Ля Кавенькаўскага моста хлопцы (цяпер з імі Сяргей) напароліся на ўласаўскую засаду. Выратавала ноч. Міця памятае разлютаваны крык, вогненныя пісягі трасіруючых куль, якія жыхалі каля самых вушэй.

Другі раз, у Дубровіцы, было яшчэ горш. Яны ўтрох нос у нос сутыкнуліся з немцамі, якія, ходзячы ад хаты да хаты, збіралі яйкі. Сяргей не разгубіўся, бабахнуў з абрэза, прымусіўшы салдат залегчы. Далей, як і ў першым выпадку, ратавалі маладыя ногі...

Выпаў і адразу растаў першы снег. Зноў цёпла, добра. Бясконца цягнецца залатая восень. Міця не думае пра страхі, якія прыйшлося перажыць,— жыццё ў вайну трымціць на тоненькім валаску.

Праз тыдзень пасля сутычкі з немцамі хлопцы начуюць у Дубровіцкім пасёлку. У вялікай, на дзве палавіны хаце жывуць маці з дачкой. Дачка — ладная, статная. Маці лезе на печ, Сяргея дзяўчына кладзе на ложку ў пярэднім пакоі, Міцю і Лобіку сцеле на лавах у чыстай палавіне.

Узыходзіць месяц, пакой тоне ў светлым паўзмроку. Міцева падушка ледзь не сутыкаецца з узгалоўем ложка, на якім ляжыць дзяўчына. Па чыстым, прытоеным дыханні Міця чуе, што яна не спіць. Ён таксама не спіць. Пакутлівая бессань цягнецца доўга. Гарланяць пеўні, месяц пераплывае за хату, робіцца цямней. Раніцай Міця абавязкова пагаворыць з дзяўчынай. Скажа ёй што-небудзь адзін на адзін.

Прачнуўшыся, гаспадынінай дачкі ён не бачыць. Пайшла на поле...

Солі Міця прыхаваў. Трэба ж ім, местачкоўцам, сабрацца, адзначыць партызанства.

Знайшоўшы Кузьму, Міця аддае яму мяшэчак з соллю.

— Бяры. Тут пляшак на шэсць.

Кузьма загарэўся. Дзед, які купляе соль, жыве блізка, на азяркоўскіх хутарах. Вёрст шэсць ад Рагалёў. Важнецкі дзед, у яго не толькі самагонкі, вяндліны, мёду можна дастаць.

Ужо адвячорак. Вярнуўшыся з мястэчка, за дзень Міця адаспаўся, але ісці не хочацца. Нават сумна ад думкі, што ён зараз рыне да незнаёмага дзеда.

— Давай заўтра, Кузьма. Ці паслязаўтра.

— Целяпень ты. Ладна, адскочым з Андрэем...

Назаўтра ў штабную хату, накульгваючы, прыходзіць Андрэй. Галава, шыя перабінтаваныя, з-пад марлевай павязкі сумна пазіраюць стомленыя, спакутаваныя вочы.

Кузьмы няма. Яго нават нельга пахаваць. Перад эсэсаўскай блакадай міны ставілі дзе папала, хто папала. Тыя міны не пазніманы і цяпер. На адну з іх наступіў Кузьма. Андрэй ішоў крокаў на дзесяць ззаду...

Другі блізкі чалавек гіне ў партызанах. У канцы лета — Міхайлаў, цяпер — Кузьма. Але як кроў на ране зараз жа згортваецца, так і Міцевы думкі на трагічных выпадках не запыняюцца. І ў мястэчку так было. Як бы закрываецца нейкі ўнутраны клапан, засцерагаючы душу ад адчаю. Няўжо раны, нанесеныя душы, будуць балець пазней, калі вайна скончыцца? Страшна падумаць...

У Рагалі прыходзіць Драгун. Адвёўшы Міцю з Лобікам убок, дае заданне. Лобікаў дзед мусіць схадзіць да млынара Забелы, папрасіць, каб той з’явіўся ў Дубровіцу.

## IV

Млынар Забела сабраўся ў Дубровіцу з вялікай асцярогай. На чыгуначным пераездзе таўкуцца паліцэйскія, у Кавеньках — уласаўцы, то каб ніякі чорт не прычапіўся, ён ускінуў на воз мяшок мукі, барану, нават унука пасадзіў — бялявенькага, з аблузаным носам хлопчыка малодшай бязмужняй дачкі, якая жыве ў мястэчку.

У Дубровіцы — старэйшая дачка, таксама салдатка, абсыпаная як бобам дзецьмі. Да яе Забела падскакваў часцяком, падкідаючы то мяшок жыта, то асьміну бульбы, каб не прапалі з голаду жаўтаротыя седуны. Усё-такі родная кроў. Праўда, з зімы ў Дубровіцы ён не быў, страшыўся трохі партызан, якія калі не стаяць там пастоем, то забрыдаюць часта.

Цяпер Забела якраз і едзе на перагаворы з партызанамі, бо хто такі Драгун, ён ведае. Да немцаў Забела не прыліп,

яны яму радня невялікая, а з ляснымі хлопцамі прыйдзецца жыць, бо, як толькі немцаў прагоняць, яны вернуцца ў мястэчка і пасядуць начальнікамі. Кінеш назад, знойдзеш наперадзе. Яўрэйку ратаваў, з партызанамі знаўся. Ніхто яго не папракне.

Забела задаволены, што патайное заданне яму перадаў Антон Бондар. Сведка надзейны, яго сын, былі чуткі, у лесе вялікі начальнік, хоць у мястэчку таго камандзіра ніхто за вайну не бачыў. Можа, таму выжыў стары, што меў асцярожнага сына.

Ні на пераездзе, ні ў Кавеньках Забелу не зачапілі. Спыніўшыся ў Дубровіцы ля панадворка дачкі, ён трохі з ёй пагаманіў, аддаў звязаныя ў хустачку тры крышаны сала, высадзіў унука, а затым, адмовіўшыся ад дапамогі, паехаў на даччыно бульбянішча. Яно якраз у прыдатным месцы — пры лесе. Калі пільна трэба, Драгун яго знойдзе.

Так і палучылася. Асенні дзень нядоўгі, але Забела паспеў сцягнуць бараной гіч, пасеяць жыта і ўжо нават баранаваць узяўся, калі з лесу пачуўся свіст.

Аграном стаіць у кустах у нейкім рудаватым палітончыку, за плячамі — вінтоўка. Схуднеў, змізарнеў супроць таго, як помніў яго Забела па мястэчку, і аблічча абсіверанае. Паздароўкаліся за руку.

— Думаеце, узыдзе? — спытаў Драгун, паказваючы на засеяныя гоні.

— Узыдзе, нідзе не дзенецца. Жыта можна пад самую зіму сеяць. Абы трохі праклюнулася.

Забела не з голымі рукамі прыехаў. Матлянуўшыся да воза, прынёс у кусты літровую, цёмнага шкла пляшку, трохі закускі. Выпілі па шклянцы хлебнай гарэлкі, паружавелі, павесялелі.

— Што ў мястэчку чутно, Панас Дзянісавіч?

— Тое, мабыць, што ў вас. Чырвоныя на Дняпры. Ды ўсё яшчэ можа быць.

— Што, напрыклад?

— Паганае. Калі фронт тут стане. Я жыццё зжываю, ведаю. Пры паляках снарады цераз мясцечка пулялі, і калі

Стракапытаў у Гомелі ўзбунтаваўся, было тое самае. Старую палавіну сяла як карова языком злізала. Нагаруецца народ.

Драгун на гэта нічога не адказвае.

— Што Крамер робіць? — нарэшце пытае ён.

Забела насцярожана зіркае на аграънома.

— Крамер — чалавек харошы! Вы ж ведаеце. Сам цяпер не рад, што звязаўся з немцамі. Мабыць, выедзе з імі. Другой дарогі няма.

— Усюды знойдуць. Нашы ў мястэчку не астановяцца. Караць, я думаю, на ўсю катушку яго не будуць.

— Я тожа так думаю, таварыш аграном! — Забела выгуквае апошнія словы як бы нават з радасцю.— Не можа быць, каб не ўспомнілі чалавеку дабра. Каб які ірад сядзеў бургамістрам, у дзесяць разоў болей пралілося б крыві...

Далей гавораць аб дзеле. Драгун успамінае Шэлега (Забела нават схамянуўся, пачуўшы яго прозвішча), нагадвае, што загадчык камунгаса меў з ім, млынаром, зносіны, выручаў. Цяпер трэба аддзячыць і ўвогуле памагчы партызанам. Цану заломвае аграном немалую — сто пудоў мукі. Забела чэша патыліцу. Вырваць сто пудоў з-пад носа ў немцаў нялёгка, але ён пастараецца. Зробіць усё, што можа. Яму нават даведкі ад партызан не трэба. Свае людзі.

Дамоў Забела варочаецца прыцемкам. План у яго гатовы. Самае цяжкае — пераправіць муку за пераезд. Прыйдзецца для адводу вачэй навазіць гною на дзялянку пры лесе. Мяшкі пад гноем хаваць. Лішне сеяць ён не думаў, бо бальшавікі поле абагуляць. Зерне, гной прападзе. Але ў другіх большае прападае.

Няхай прыходзяць бальшавікі. Яму, Забеле, баяцца нечага. У палітыку носа не соваў, на людзей не брахаў. Не тое што дурні — паліцэйскія. Хоць цяперашняму народу язык не завяжаш. Будуць і на яго плявузгаць. Маўляў, два веласіпеды купіў, швейную машыну, адзеўся, абуўся. Даўно пайшла пошасць між людзей: за лішні каровін хвост гатовы ў астрог пасадзіць. Але і ў яго, Забелы, будуць козыры. Уратаваў яўрэйку, памог лясным хлопцам. Ён нават Драгуну пра мястачковую госцю слова не сказаў. Нашто лішне выхваляцца? Тая яўрэйка, калі жывая, сама скажа каму трэба...

## V

Бацькавіцкіх атрадаў тры, але яны пранумараваны як пяты, сёмы і дзявяты. Мабыць, зроблена гэта дзеля таго, каб паболей пусціць немцам пылу ў вочы.

У дзявятым атрадзе ветурач Шкірман робіць тое, што Міця з Лобікам у пятым — носіць соль. У памочнікі да яго прыстаўлены нізкаваслы, нягеглы паліцайчык Мікітка Зыль, які нядаўна збег з мястэчка.

Справа ў Шкірмана пастаўлена лепей, чым у хлопцаў. У Бацькавічы ён не заходзіць, соль з мястэчка яго памагатыя прыносяць самі, хаваючы ў капе зляжалага сена ля Росіцы.

Гэта, мабыць, і падвяло.

Была раніца. Абмінуўшы стоеныя ў густым ляшчынніку курані, Шкірман з Мікітам выбраліся на ўзболатак, прыслухаліся, агледзеліся. Ціха, глуха. Па тарфяніку густа паўзе туман. Мікіта — вінтоўкі ў яго няма — ускінуў за плечы мяшок з соллю. Шкірман не спяшаючыся рассоваў па кішэнях пакуначкі з бінтамі, медыкаментамі.

Назад мужчыны рушылі другой дарогай, каб абысці саўгасны пасёлак з правага боку. Шкірман меціць завярнуць на Падляшскі хутар, забраць у бяздзейнага цяпер наглядчыка кашар Базылюка камсастаўскую форму, якую той хавае з пачатку вайны.

З альховага кустоўя, як стрэл, каманда:

— Рукі ўгору! Ні з месца!

Кідацца некуды — рулі вінтовак, як пікі, тырчаць. Паліцэйскія выскаляюцца:

— Папаліся, галубчыкі. Цяпер вас на шампалах паджарым.

— Гаспадзін ветурач з'явіўся. Сколькі, інцярэсна, табе парцізаны плацяць?

— Табе, Мікіта, шомпал цераз рот і с... прасунем, ты — лёгкі, выдзержыш...

З туману выплывае руды, няголены твар валаснога бургамістра Вайса. Абруселы немец ведае Шкірмана нават лепей, чым паліцэйскія. Год назад, калі партызаны грамілі воласць, у чым стаіць драпануў з Лужынца, у мястэчку латаўся каля «Заготжывёлы».

Цяпер Вайс — як незнаёмы. Груба рве з-за Шкірманавага пляча вінтоўку, шарыць па кішэнях.

— Бандытаў лечыш?.. Як перад Госпадам Богам раскажаш, хто табе лякарствы цягае. Усё раскажаш!..

Пад настаўленымі рулямі вінтовак Шкірман з Мікіткам валакуцца ў саўгас. Ззаду, рагочучы, валяць паліцэйскія. Засада недарэмная, нямецкія сабакі радуюцца. Шкірман ідзе як не сваімі нагамі. Душа агорнута халодным сумам. Смерці ён не страшыцца, няхай бы тут, на месцы, расстралялі. Але ж будуць біць, здзекавацца, дапытваць. Правядуць напаказ па мястэчку...

Шкірман, аднак, ідзе.

У саўгас тым часам прыязджаюць немцы. Звычайная гаспадарчая каманда, якіх многа цягаецца па ваколіцах мястэчка. Паліцэйскія, забраўшы соль, некуды рынулі — шукаць, мабыць, самагонкі. Шкірман з Мікітам сядзяць на ганку саўгаснай канторы. Трымаючы вінтоўку наперавес, іх пільнуе Вайс. Да ганка раз-пораз падыходзяць распоўзлыя салдаты-абознікі — падзівіцца на жывых партызан. Стаяць, палахліва ўзіраюцца ў твары.

За канторай, на ахутаным туманам тарфяніку, салдаты сякуць капусту. Голасна гергечуць, носяць качаны на фуры. Немцаў адсюль бадай што не відно. Пакутліва цягнуцца хвіліны. Паліцэйскія як скрозь зямлю праваліліся. Шкірману як бы робіцца весялей. Успыхвае іскарка надзеі.

Ён нават усчынае гаворку з Вайсам:

— Генрых, не напінайся. Будзь чалавекам. Мы не ўцячэм. Ну расстраляюць нас. Што, табе будзе лягчэй?

Вайс маўчыць, адводзіць позірк.

Як вымерла ўсё ў пасёлку. На шырокай пясчанай вуліцы ні чалавека. Тут, ля канторы, дамы падобны на баракі. Гэта і ёсць баракі. Цесныя, з дашчанымі сценамі. Калі асушалі балота, нагналі людзей. Жыць не было дзе, на скорую руку набудавалі вось гэтых скрынак. Так яно і асталося. Пад адным дахам тулілася па некалькі сем'яў. Росіца збірала добры ўраджай, хвалілася надоямі, а людзі жылі, як прусакі. На тым канцы, праўда, звычайныя хаты. Жыхары, мабыць, у куранях. Там, у арэшніку. Баяцца, што, пасля таго як партызаны

забралі кароў, немцы пасёлак спаляць. Мабыць, паліцэйскія туды рынулі. Калаціць баб...

З балота выязджае першая фура, нагружаная капустай. Ззаду валюхае трое салдат. Немцы ўсё-такі ўвішна працуюць. Вайс трывожна азіраецца. Паліцэйскіх няма, аставацца ў пасёлку без немцаў ён не хоча.

— Пайшлі!

Вінтоўку Вайс закінуў за плечы, у руцэ трымае наган. Так, мабыць, яму лягчэй. Ад пасёлка адыходзяць не больш чым на паўвярсту. Туман трохі радзее. Лес хутка скончыцца, затым да самага мястэчка дарога пойдзе голым тарфянікам.

Нямецкая фура, між тым, адстала. Спынілася, каб дачакацца астатніх.

— Вайс,— зусім спакойна просіць Шкірман,— дай закурыць. У мястэчку, сам ведаеш, мне не дадуць.

Вайс спыняецца. Пераклаўшы ў левую руку наган, правай лезе ў кішэню. Звярыным, схаваным спадыспаду душы інстынктам Шкірман раптам адчувае, што канвойнік разгублены. Баіцца адзіноты. У адно імгненне Шкірман кідаецца на немца, хапіўшы аберуч за горла, душыць, валіць на зямлю. Мікіта тым часам як аслупянеў. Стаіць, не ведаючы, што рабіць.

— Вырывай наган! — сіпіць Шкірман.

Мікіта наган вырваў, але страляць з яго не ўмее. Наставіўшы рулю ў пасінелы твар ахоўніка, які ўжо храпе, задыхаецца пад Шкірманам, водзіць сюды-туды зашчоўкай, прымацаванай да барабана.

— Бі, проста бі,— ледзь не крычыць Шкірман.

Мікіта лупіць немца наганам па твары, па галаве. Пырскае кроў...

Шкірман не вытрымлівае. Выхоплівае ў няўдалага памочніка наган, тройчы страляе...

## VI

Днепр асядланы! Чырвоныя войскі ў Лоеве і за Лоеў кіламетраў на дваццаць прасунуліся. Ясна — цэляць на Гомель.

У цёплы кастрычніцкі вечар да Рагалёў далятае гул далёкай кананады. Усе, хто не на заданнях, выскакваюць з хат,

панадворкаў на вуліцу, прагна, як музыку, ловяць гукі гарматных выбухаў.

З невялікімі перапынкамі пачынае грымець, бадай, кожны дзень. Днём грымоты далёкія, прыглушаныя, а вечарам зямля гудзе безупынна, нібы агромністы велікан б'е па ёй магутным молатам.

З надыходам вечара ў штабной хаце працяглыя дыскусіі. Што зменіцца, калі прыйдуць нашы, што застанецца такім, як было. Міця ў дыскусіях не ўдзельнічае. Галоўнае — абы прагналі немцаў. Нават не верыцца, што праз тыдзень ці два ён убачыць чырвонаармейцаў, вернецца ў мястэчка, будзе хадзіць па зямлі вольным чалавекам.

Камандзір атрада Гайчук, як можна вышэй укруціўшы ў лямпачцы кнот, голасна чытае кніжачку «Ноч перад боем», якую напісаў Аляксандр Даўжэнка. Маленькую, з далонь, брашурку ён урачыста дастае з камандзірскай сумкі, закарэлымі пальцамі асцярожна перагортвае тоненькія старонкі.

Брашурка дастаўлена самалётам. Па адной такой давалі на брыгаду. Праўдзівая кніжачка, можна сказаць, прарочая... Таму няма ёй цаны...

У чужыя рукі кніжачку Гайчук не дае. Чытае сам каторы раз, знаходзячы новы сэнс, падымаючы ў найбольш моцных мясцінах палец угору.

Міцю асабліва падабаецца момант, дзе расказваецца, як двое старых украінцаў — Платон і Саўка — перавозяць чырвонаармейцаў на левы бераг Дзясны.

Гайчук у гэтым месцы заўсёды павышае голас:

«Сколько мы их учили, а они убегают. Чем дальше вы тикаете, тем больше крови прольется. Да не только вашей, солдатской, а и материнской, и дитячей крови...»

Так яно і атрымалася. Але армія вяртаецца. Цяпер гэта самае галоўнае.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

### I

На сустрэчу ў дзедаў хлеў прыйшоў Васіль Шарамет. Навіны — як горны абвал. Паліцыя, жандармерыя, бургамістр з мястэчка выбіраюцца. У Бацькавічах будзе ўлада ваенных.

Выгляд у Васіля невясёлы. Атрымаў ад людзей Мазурэнкі загад — выязджаць з паліцыяй. І на новым месцы будзе рабіць тое, што рабіў у мястэчку. Вызваленне для яго наступіць не хутка.

Канчаецца кастрычнік, а дні цёплыя, пагодлівыя. Нібы сам Бог спрыяе пагарэльцам, бяздомнікам, што жывуць па лясных буданах. Вясковыя прысады — у асенняй пазалоце. Месяц жаўталісця.

Міця з Драгуном выбіраюцца на лугавіну. Прылёгшы, слухаюць гул далёкай кананады, які вечарам узрастае, размаўляюць. На процілеглым ускраі вёскі, трохі наводшыбе, палаюць вогнішчы. Партызаны цяпер часта распальваюць агонь. Пякуць у прысаку бульбу, вядуць узбуджаную гаману.

— Што будзеш рабіць, як прыйдуць нашы? — пытае Драгун.

Міця не ведае. Не думаў пра гэта. Ён баіцца аднаго — каб наступленне не супынілася.

— Пойдзеш у армію. Мяне, мабыць, тут пакінуць. Аграном усё-такі. А ты пойдзеш. Вайна яшчэ не скончыцца. Яшчэ ляжа народу...

Тое, што гаворыць Драгун,— нязвычнае, і Міця здзіўлена на яго пазірае.

— Перамога блізка. Гітлера гоняць на ўсіх франтах.

— Блізка і далёка. Думаеш, лёгка будзе пасля вайны? Ты малады, не разумееш. Ураджаі і раней не надта былі. Што будзе цяпер — не ведаю. Людзей, коней, трактараў — нічога няма.

Так, Міця зусім не думае, што будзе рабіць, калі прыйдуць нашы. Пра многія рэчы ён яшчэ не думае, не надта задумваецца над складаным, заблытаным, што даволі-такі часта здараецца ў жыцці і з чым ён сам раз-пораз сутыкаецца.

— Дзеўка ў цябе ёсць? — пытае Драгун.— Ну, якая па табе сохне?..

Другі раз пытае аграном у Міці пра гэта. Першы раз усчаў размову болей года назад, калі заблытваў сляды, стараючыся вырвацца з мястэчка, рушыць у лес.

Як многа за год усяго адбылося! Мінулай восенню немцы фактычна былі ў Сталінградзе, ірваліся да Волгі, цяпер сутаргава чапляюцца за Днепр, каб хоць як-небудзь прыпыніць савецкае наступленне. Тады Міця нічога Драгуну не сказаў. Не мог сказаць. Штосьці як бы замінала. Цяпер ён даволі падрабязна расказвае пра адносіны з Сюзаннай. Хоць расказваць асабліва няма пра што — два-тры разы сустрэліся, сядзелі на лавачцы.

— Дзівак ты,— выслухаўшы Міцю, гаворыць Драгун.— Я даўно заўважыў: ты па думках, разважаннях — сталы чалавек, па ўчынках — не выйшаў з дзіцячага ўзросту. Хоць, можа, не трэба выходзіць. Усяму свой час. Бруду на твой век хопіць. І дзеўку на тваім месцы я б прасцейшую выбраў. Якая б гарнулася да цябе!..

— Хіба можна выбраць па заказе?

— Кніг ты начытаўся, вось што. Каб твая дзяўчына была са звычайнай сям'і, можа б, не зірнуў на яе. А то бацька доктар, маці фельчар, брат лётчык. Суцэльная інтэлігенцыя. Сам вырас у нястачы, вось і цягнешся да высокага...

Дзіўна, Міця сам так думае. Пра дзяўчат, з якімі рос на адной вуліцы, вучыўся ў школе, ведае ўсё да дробязей, і яны не вабяць да сябе. Сюзанна як бы з зусім іншага свету.

— Дзеўкі — дзела дзясятае,— працягвае Драгун.— Любі каго хочаш. Час пакажа, хто табе патрэбен. Тут на парадак дня паўстае зусім іншае пытанне. Вострае і неадкладнае. Цябе ў атрад з якога месяца запісалі?

— Калі прыйшоў.

— А местачковая работа? Я з табой паўтара года знаёмы, а вы ж, здаецца, і да мяне варушыліся. Хто пра гэта ведае?

Як хто? Для Міці нават дзіўным здаецца такі паварот размовы. Калі яны, местачковыя змоўшчыкі, сталі наладжваць радыё, збіраць зброю, патроху шкодзіць немцам, а пазней арганізаваліся ў групу, то зусім не думалі, што ўсё гэта

трэба пісьмова засведчыць. Яны проста не маглі быць другімі, не маглі рабіць інакш, чым рабілі, і, зрэшты, нямала людзей ведае пра іхнюю работу. Анкудовіч яшчэ ў першую зіму праводзіў з імі, хлопцамі, сходку, прыслаў на лячэнне Ключніка, праз якога падтрымліваў далейшую сувязь. Нават Бондара хлопцы ведаюць, праз сястру Сяргея Амельчанкі мелі з ім зносіны, калі сам ён жыў нелегальна ў Гарбылях.

Вядома, найбольш яркая старонка чыннасці пачалася з таго часу, як іх узялі пад крыльца дэсантнікі. З групай Мазурэнкі яны вельмі добра, актыўна ўзаемадзейнічалі.

Усё гэта Міця выкладвае Драгуну.

— Дык вось так — ваявалі два гады, даведкі атрымаеце за тры месяцы,— як бы нават пасміхаючыся, гаворыць аграном.— Ключнік забіты, параненага Бондара самалётам накіравалі ў Маскву — невядома, ці жывы ён, Мазурэнка пайшоў на Захад, вы яго не хутка пабачыце, калі пабачыце наогул. Надзя Амельчанка на вашу групу глядзіць не вельмі прыхільна, бо брат яе і сястра загінулі, а вы жывыя. Што будзеце рабіць?

Міця паціскае плячамі. Навошта выхваляцца заслугамі? Абы хутчэй вярнулася армія. Сумленне ў іх, хлопцаў, чыстае, і гэта самае галоўнае. Не патрэбны наогул ніякія даведкі!

Аграном весела глядзіць на Міцю.

— Са сказанага табой заключаю — абсалютна не ведаеш жыцця. Абсалютна. Можа, нават добра гэта. У вайну было добра. Такія, як ты, люталі пад воблакамі і нават вышэй. Ахвотна садзілі галаву ў пятлю. Але, мой хлопчык, у мірным жыцці дзейнічаюць другія законы. Той, хто не лез у пятлю, хаваўся, туляўся, можа аказацца ў больш выгодным становішчы, чым вы, гарачыя галовы. Ён сядзеў ціха, займаўся сельскаю гаспадаркаю, крывымі сцежкамі не хадзіў. Вы ж, здаецца, аднаго свайго нават у паліцыю пасылалі?

— Пасылалі. Міколу Цябута. Яму руку адцяла, як міну падкладваў. Зводкі Мазурэнку насіў ён. Мы і цяпер з ім сувязь падтрымліваем.

— Вось бачыш. Пакуль я жывы, вас у крыўду не дам. Мяне ж спецыяльна райкам партыі пакідаў. Хоць ёсць такія,

што і на мяне коса пазіраюць. Маўляў, залішне доўга сядзеў у мястэчку.

— Ёсць,— пацвярджае Міця.— Швалі хапае.

— Каб не здарылася толькі, што шваль голаву падыме.

— Як яна можа падняць?

Аграном выняў капшук з тытунём, асцярожна адарваў ад складзенай прамавугольнічкам нямецкай газеты паску паперы, звярцеў цыгарку. Міця таксама пацягнуўся да капшука.

— Ты даўно курыш?

— Па-сапраўднаму з лета.

— Што значыць «па-сапраўднаму»?

— Ну, кожны дзень.

— Дык вот слухай, малады курэц. Я табе адну быль раскажу.

Чалавек, якога мы лічылі забітым ці прапаўшым без весці, аказаўся жывы. У свой час яго пакідалі камандзірам партызанскага атрада, а ён распусціў атрад...

— Вы пра Мацвеева гаворыце? — пытае Міця.

Драгун здзіўлены:

— Ты хіба яго ведаеш?

— Не ведаю. Сяргей Амельчанка быў у тым атрадзе. Можа, праз гэта загінуў. Над тымі, хто вярнуўся з атрада, вісела падазрэнне, і немцы за імі сачылі.

— Правільна, загінулі людзі. Але ж Мацвееў сябе ў гэтым вінаваціць не будзе. Прыйдзецца з ім сутыкнуцца, сёе-тое даказаць.

Міцю аж сумна стала. Нашы на Дняпры, калі фронт не запыніцца, не застыне на месцы, вельмі хутка чырвонае войска будзе тут, і гэта цяпер самае галоўнае. Навошта капацца ў мінулым?

Драгун нібы ўгадаў яго думкі.

— Ладна, не вешай носа. Нагаварыў я табе тут непатрэбшчыны. Сяму-таму ў гэтай вайне мы навучыліся. Такімі, як былі, не будзем. Скажы мне лепей вот што. Мінулагодняй восенню каля Дубровіцы я звязаў вас з дэсантнікамі. Ты з таварышам на сустрэчу прыходзіў. Яшчэ соль у торбачцы прынеслі. Не памятаеш, калі была сустрэча?

— У канцы лістапада.

— Чысла не помніш?

— Не помню.

— Ладна. Справа ў тым, што партызанам будуць выдадзены даведкі. Ужо бланкі друкуюцца. Але атрад створан сёлета ў сакавіку, сюды, у свой раён вярнуўся ў маі. З мая месяца табе, як сувязному, будзе выдадзена даведка. Аб астатнім самі падумайце. Сабярыце ўсё, што датычыць дзейнасці ў мястэчку,— лістоўкі, газеты, адным словам, усе, якія ёсць, дакументы. Сувязь з дэсантнікамі трэба будзе абавязкова пацвердзіць. Перадай вашым падпольшчыкам у мястэчку мой загад.

Драгун пайшоў, а Міця задумаўся. Як ён жыў? Ці правільна тое, што рабіў? Ён можа прызнацца як на споведзі: рабіць інакш, чым рабіў, не мог. Тут супярэчнасці няма. Сумленне яго спакойнае. Вядома, ён хітраваў, выкручваўся, маскіраваўся. Але іначай нельга. Хацеў бы ён паглядзець на таго адважнага, хто прыдумаў бы што-небудзь іншае, чым яны, местачковыя змоўшчыкі...

У вячэрнім небе праклёўваюцца першыя зоркі. З наступленнем цемені зверху чуваць гул матораў. Савецкія эскадрыллі ляцяць на захад.

Новапрызначаны камандзір Бацькавіцкай брыгады Якубоўскі разам з камісарам Груцай і начальнікам штаба Анкудовічам (іх суправаджае ахова з узброеных аўтаматамі коннікаў) па тэрміновым выкліку выбраліся ў абкам, у межы Акцябрскага раёна.

Выклік трохі нязвычны, нечаканы. Як камандзіраў Якубоўскага і астатніх зацвердзілі яшчэ тыдні два назад, наконт якой-небудзь справаздачы не папярэджвалі. Пагойдваючыся ў сядле, Якубоўскі на ўсякі выпадак прыкідвае, што зроблена за апошні месяц. Хутчэй за ўсё, будуць цікавіцца нарыхтоўкамі, гатоўнасцю да зімы. Што ж, склаўшы рукі новая брыгада не сядзела. Сорак тон прыхаванага ў ямах збожжа, калі ўлічыць, што раён на тры чвэрці вынішчан, не так ужо мала.

Ля Лазавіцы да коннага гурту далучаюцца гарбылёўцы і ля Літвінава — дамачоўцы. Дзіўна, гарбылёўскіх брыгад стала дзве, у Дамачоўскай — пяць атрадаў, а выклікалі таксама толькі па тры чалавекі, пераважна камісараў, сярод якіх

прызначаныя яшчэ вясной і летам сакратары падпольных райкамаў.

— На павышэнне едзем, хлопцы,— шчэрыць зубы Гервась, камісар другой Гарбылёўскай брыгады.— Дадуць па трыццаць пар лапцей, і наперад, на Захад!.. Пад Беласток ці пад Брэст. Думаў, са сваімі вот-вот пабачуся. Ды, відаць, не скора тое сонца ўзыдзе...

Што ж, можа і так быць. З часу прылёту Волаха ўжо некалькі ініцыятыўных груп на чале з бывалымі, якія прайшлі агонь, ваду і медныя трубы, партызанамі рушылі ў заходнія вобласці. Раздзьмухваць полымя партызаншчыны там, дзе яно яшчэ недастаткова разгарэлася.

Наогул пры Волаху парадкі сталі цвярдзейшыя. Штаб злучэння і абкам цяпер не пры Гарбылёўскай брыгадзе. Штаб Волах зрабіў незалежным — яго ахоўвае спецыяльна набраны атрад.

Хмялеўскі — ён астаўся камісарам у ранейшай брыгадзе, едзе побач з Валюжычам, які замяніў Вакуленку.

— Не на захад нас пашлюць,— гаворыць Хмялеўскі.— Каго трэба — паслалі. Тут нешта другое.

— Што ты хочаш сказаць?

— Тое, што чуеш. Не забывайце — армія на Дняпры. Нашы, калі пачнуць наступленне, будуць тут праз тры дні. Калі фронт спыніцца, а можа і такое быць, ваяваць прыйдзецца ў прыфрантавой паласе. А гэта табе не за бобікамі ганяцца...

Камандзіры прыціхлі. Прывід фронту, які насупроць зімы можа пралегчы па тутэйшых балотах і лясах, патаемна непакоіць кожнага. Цяжка ўявіць сабе, што будзе, калі ўзброеныя да зубоў немцы-франтавікі зоймуць уцалелыя вёскі, а партызан выціснуць у лес і на балота. Наперадзе марозы, снягі, завеі...

Чыгунку з Оўруча на Жлобін, праўдзівей, насып, які ад яе застаўся, перамахнулі з вялікай асцярогай. Тое, што робіцца цяпер на гэтай чыгунцы, нібы пацвярджае сказанае Хмялеўскім. Вясной партызаны чыгунку вывелі са строю, рэйкі расцягнулі, патапілі ў балоце, шпалы папалілі. Але іменна цяпер, насупроць зімы, спецыяльныя чыгуначныя каманды

ўзяліся за яе аднаўленне. Кожны, бадай, дзень у партызан сутычкі з вайсковымі сапёрнымі камандамі. Гэта можа азначаць толькі адно: фашысты рыхтуюцца да абароны, балотнае Палессе, якое прыкрывае з поўдня Беларусь, так проста саступаць не збіраюцца.

У вёсачку, дзе размяшчаецца абкам і штаб злучэння, камандзіры прыехалі прыцемкам. Але і дарога няблізкая — вёрст шэсцьдзясят адмахалі. Паспакайнелі душой, убачыўшы, што Волах, сакратар абкама, камандзір злучэння, які мае генеральскае званне, партызанскай звычцы, тым не меней, не здраджвае: накінуўшы на плечы ватоўку, сядзіць пры вогнішчы, пячэ разам з хлопцамі ахоўнага атрада бульбу, смяецца з дасціпных жартаў і сам вясёлыя гісторыі расказвае...

Ноч светлая, месячная. За акном, за Прыпяццю, у хісткім срабрыстым святле відаць зарэчныя сенажаці, якія цягнуцца аж да сіняватай грады лесу.

Дамок, у якім знайшоў сабе кватэру Тапаркоў, з’явіўшыся ў Мазыр у мундзіры ўласаўскага паручніка і маючы на руках спраўныя дакументы, стаіць на самым беразе ракі. Тут Тапаркову прыдатней, асабліва калі мець на ўвазе, што яго асобай могуць зацікавіцца. Але, здаецца, гэтым не пахне. Цывільная нямецкая ўлада з горада драпанула. Генерал Фрыдрых таксама адбыў, пакінуўшы замест сябе другараднага афіцэра. У Тапаркова заданне — угаварыць Турбіну ехаць разам з немцамі, калі ёй прапануюць эвакуацыю. Там, дзе яна спыніцца, яе так ці інакш знойдуць.

Эрна Іванаўна нервова пахаджвае па пакоі.

— Не хачу нікуды ехаць. Вы, Анатоль, не разумееце. Генерал Фрыдрых у Германіі такой, як тут, пасады займаць не будзе. Ён звычайны паліцэйскі служака. У штаб мяне там не возьмуць. Я ж для іх не болей чым фольксдойч...

— Не трэба ў Германію, Эрна Іванаўна. Спыніцеся ў Пінску, Брэсце, на горшы выпадак дзе-небудзь у Польшчы. Магу вам па сакрэце сказаць, мой начальнік ужо, мабыць, пад Брэстам. І я там буду. Для нас вайна яшчэ не скончана.

Жанчына, аднак, пратэстуе яшчэ з большым імпэтам.

— Навошта я ў Польшчы? Мовы не ведаю, перакладчыцай быць не змагу. Піхнуць куды-небудзь на фабрыку. Якая будзе з мяне карысць? Не забывайце, што дзеці ў мяне...

Тапаркоў сам пачынае вагацца:

— Добра, Эрна Іванаўна. Дамовіліся: паедзеце толькі тады, калі прыстануць з нажом к горлу. А так будзьце тут. Горад прыфрантавы, звесткі адсюль да зарэзу патрэбны...

Штосьці задрыжала, затрымцела ў душы сувязніка, калі жанчына нейкім незвычайна ломкім голасам раптам сказала:

— А вы не можаце астацца тут, Анатоль? Прывыкла я да вас... І не толькі прывыкла... Болей за год разам. Ды ў такім страху. Баюся за вас. Вы сябе зусім не ўмееце берагчы...

За трыццаць гадоў вандроўнага цыганскага жыцця ніводная жанчына не сказала Тапаркову такіх слоў, як гэтая, якой ён даўно ўпотай любуецца. Тое, чаго ён так доўга чакаў, у што не верыў, раўняючы яе і сябе, здаецца, прыйшло...

Тапаркоў падышоў, неяк нясмела прыхінуў жанчыну да сябе. Яна яго не адштурхнула...

— Ты ўсё даўно ведаеш,— таропкім пошапкам гаварыў ён ёй праз хвіліну.— Чакай мяне. Чуеш, чакай... Не бойся, я вярнуся. Прыйду да цябе. Знайду цябе хоць на краі свету...

Была незабыўная, хмельная ноч, авеяная хісткім мроівам месячнага святла, радасць самазабыцця, абладання каханай жанчынай. Толькі на адно імгненне халодная вужака рэўнасці кальнула шчырае, адкрытае сэрца Тапаркова — гэта калі Эрна спытала пра немца Фрыца Зонемахера, які яшчэ летам перайшоў да партызан. Але на адно толькі імгненне. Яна з ім, належыць яму, і якая яму справа да таго, што магло ў яе быць ці было. І ў яго было. Аднак яго прыстань тут, ён знайшоў нарэшце тую, якую так доўга шукаў...

Пра тое, што Зонемахера паслалі туды, куды нядаўна ён сам угаварваў ехаць Эрну, Тапаркоў не сказаў. Навошта гаварыць словы, якія для чужога вуха, няхай сабе нават для гэтага мяккага, далікатнага, якое яму так падабаецца, не прызначаны?..

Хмялеўскі як у ваду глядзеў: на пасяджэнні абкама ўсіх, хто прыехаў з усходняй зоны, зацвердзілі сакратарамі падпольных райкамаў. Цяпер райкамы ў поўным складзе. Уладу ім далі вялікую: падабраць кандыдатаў і прызначыць раённае звяно, каб з прыходам Чырвонай Арміі на месцы поўнасцю

дзейнічала савецкая ўлада. І яшчэ адна нязвычная дырэктыва: кароў, якія знаходзяцца ў асабістым карыстанні насельніцтва, сабраць і хаваць у лясных партызанскіх кашарах. Прычына ў тым, што фашысты, адступаючы, абдзіраюць народ дашчэнту, пакідаючы пасля сябе мёртвую зямлю...

Назад, у Рагалі, Якубоўскі вяртаецца, ахоплены супярэчлівымі пачуццямі. Сталася так, што ён цяпер не толькі камандзір над трыма з лішкам сотнямі партызан, а і першы сакратар райкама, кіраўнік раёна, які павінен думаць, як аднавіць спаленае, знішчанае ворагам, паклапаціцца, чым людзі будуць займацца, дзе жыць, што есці. На два гады прывязала яго хваля ваеннага ліхалецця да гэтых мясцін, і цяпер ён за іх у адказе. Яго бацька, за царом яшчэ выгнаны бясхлебіцай з пясчанай магілёўскай вёсачкі, дапяў да Алтая, там Якубоўскі вырас, палюбіў той край. Але і гэты ён любіць не меней. Будзе старацца, каб раён хутчэй акрыяў, стаў на ногі. На розныя пагрозы вельмі зважаць не будзе. Дні тры назад нехта падкінуў у штаб запісачку, у якой абяцае парахавацца з імі, старэйшымі партызанамі. Якубоўскі здагадваецца, чыя рука магла напісаць такую запіску. За два гады яны, зачынальнікі партызанскага руху ў раёне, сяму-таму на хвост наступілі, асабліва мінулагоднім летам, калі ўжо надта актыўна пачалі вытыркацца некаторыя бургамістры і паліцаі. Нічога, вецер дзьме цяпер у твар ворагам, свята не за гарамі. Можа, яны таму і лютуюць. Але пільнасць трэба...

Яўтушыка прымаюць у партыю. Не аднаго яго — камандзіра роты Ткача, разведчыцу Тацяну Бурак, яшчэ двух-трох найбольш заслужаных, старэйшых партызан. У штабной хаце камандзіры і астатнія члены райкама сядзяць з засяроджанымі тварамі.

Калі Якубоўскі прапанаваў яму, Яўтушыку, паступаць у партыю, то ён адразу згадзіўся. Чаму было не згадзіцца? Хіба ён з самага пачатку не памагаў, не пасабляў савецкай уладзе, не падпіраў яе сваімі плячамі? У калгас паступіў, лічы, што першым, рабіў, што загадаюць, яшчэ да вайны за добрую работу яго паслалі на выстаўку ў Маскву. І раённая грамата ў Яўтушыка ёсць: яму выдалі яе за брыгадзірства на лесанарыхтоўках. Добра яны тады павазілі лесу: і авёс

коням быў, і людзі падабраліся што трэба. Аж гай шумеў, як тралявалі кражы...

Рэкамендацыі Яўтушыку далі сам Якубоўскі, камісар Груца і Анкудовіч. Можна сказаць, найвышэйшае начальства, якое цяпер, хоць немцаў яшчэ не выгналі, пастаўлена на раён. Здымецца на картачку і атрымае білет ён тады, калі ў раёне ўсталюецца мірная ўлада.

За Яўтушыка гавораць тыя, што паручыліся за яго.

— Добры камандзір аддзялення. Сумленны, дысцыплінаваны. За паўтара года — ніводнага наракання. Яго можна і на ўзвод паставіць,— так сказаў Якубоўскі.

— Самалёт збіў. Прывёў у лагер фашысцкага аса з двума гітлераўскімі крыжамі. Той ас даў цэнныя сведзенні нашаму камандаванню,— гэта словы Анкудовіча.— Я згодны з прапановай Якубовіча.

— Я табе дам кніжачку. Статут партыі. Прачытаеш уважліва. Калі што не зразумееш, прыйдзеш да мяне,— гэта сказаў камісар Груца.

За тое, каб прыняць Яўтушыка кандыдатам у члены партыі, падымаюць рукі ўсе прысутныя.

На ганку, куды ўзмакрэлы Яўтушык выскачыў са штабной хаты, іншая гамонка.

— Ты, Панас, станавіся пракурорам. Можа, выцісну калі самагонкі, дык будзе ў раёне свая рука. З бяды выручыш.

— У міліцыю лепей ідзі. Начальнікам, можа, не паставяць, а ўчастковым, то — напэўна. Характар у цябе спакойны, калі паб’ецца мужык з бабаю — разбярэш...

— У пажарную кіруй, Яўтушык. І мяне бяры. Экзамены мы, лічы, паздавалі. Колькі паляжалі на жыватах у засадах?..

— Ідзіце вы! — адгыркваецца Яўтушык.

Размова, паміж іншым, не так сабе. Ведаюць партызаны, што вось-вось будуць прызначаць іх на мірныя пасады. Каго сапраўды ў міліцыю, каго на чыгунку, каго старшынямі, брыгадзірамі ў калгасы...

Разложыстыя станцыйныя таполі густа сыплюць пажаўцелае лісце. Ім услані навакольны дол, пуці, заасфальтаваны перон. Лісце шасціць пад нагамі, разносіцца ветрам.

Паніку паднялі з раніцы. Конюх Якаў похапкам пагрузіў на фурманку звязаны ў клункі бургамістраў скарб, паспешліва пакіраваў на станцыю. Узялі самае неабходнае: пасцель, вопратку, мяшок мукі, усё, якое было, сала.

Таварныя вагоны падалі апаўдня. Два займае паліцыя, трэці вызначаны бургамістру і мясцовай адміністрацыі. З мясцовых начальнікаў ніхто, акрамя бургамістра, эвакуіравацца не захацеў. Сем'і Рыгмана, забітага партызанамі Вайса, а таксама фольксдойчы-перакладчыкі едуць з паліцыяй.

Аўгуст Эрнэставіч ні з кім не размаўляе. Яму не таму крыўдна, што найбліжэйшыя людзі, якія дзялілі з ім уладу, у водступ не едуць. Няхай астаюцца, іхняе дзела. Але хоць бы адзін прыйшоў на станцыю, сказаў добрае слова, паціснуў руку. Нікога няма...

З тугой глядзіць Аўгуст Эрнэставіч на пажаўцелыя дрэвы, якія густа разрасліся на Вакзальнай вуліцы. Там яго дамок, сядзіба, там ён быў шчаслівы. Куды едзе цяпер, чаго?..

Жонка, дзве яе сястры ходзяць па пероне надзьмутыя. Не паспелі забраць усіх бэбахаў. Жонка намагалася нават яшчэ раз паслаць Якава на кватэру, прыхапіць посуд, крэслы, люстры, але Аўгуст Эрнэставіч гэтак на яе гаркнуў, што прыкусіла язык. Не, ганьбіцца перад местачкоўцамі ён не будзе.

Манеўровы паравозік прычапляе нарэшце вагоны да вайсковага эшалона. На пероне стаіць Якаў, махае на развітанне шапкай...

Пяць дзён грукае па рэйках вагон, парыпвае расхлістанымі драўлянымі сценкамі, пазвоньвае бляхай. На немцаў Аўгуст Эрнэставіч крыўдаваць не можа. Абыходзяцца як з чалавекам. Ён ніякі не вайсковец, але на буйных станцыях палучае па пасведчанню бургамістра-выгнанніка салдацкае варыва — прыносіць у вагон адразу па два кацялкі.

Нечаканасць падсцерагае на шосты дзень. Аўгуст Эрнэставіч ужо зміры́ўся з думкай, што едзе ў Германію, у краіну сваіх далёкіх продкаў. Што ж, мужчыны на вайне, лес расце і ў Германіі, сякі-такі занятак ён сабе знойдзе.

Але вагоны з выгнаннікамі (па дарозе прычапілі яшчэ некалькі) разгружаюць у Польшчы. З жахам чытае Крамер

незвычайную для слыху назву станцыі — Бяла-Падляска. Гарадок сапраўды белы, аднапавярховы, але людзі хмурыя, злосныя, на такіх, як Крамер, глядзяць з нянавісцю.

Паліцыю — у казарму, паліцэйскія, іншыя сем'і — у баракі, Крамеру дастаецца асобны дамок.

Толькі перавёзшы рэчы на новую кватэру, Аўгуст Эрнэставіч выяўляе непапраўную страту — у спешцы забыў аздобленую марскімі ракавінкамі скрыначку. У ёй фотаздымкі бацькі, родзічаў, розныя падзякі, граматы, якімі ён, леспрамгасаўскі работнік, узнагароджваўся за бездакорную службу.

Аж халадзее Аўгуст Эрнэставіч. Халодны боль сціскае сэрца. Некалькі дзён жыве пад уражаннем, што сам, сваімі рукамі абсек карэнне, якім трымаўся за зямлю. У яго на руках цяпер адны нямецкія дакументы.

Немцы акуратныя — прапаноўваюць Крамеру службу на трэці дзень. Камендантам лагера бежанцаў. З гневам ён адмаўляецца.

У чужым, варожым горадзе Аўгуст Эрнэставіч вытрымлівае толькі тыдзень. Гомель, Мазыр у нямецкіх руках, бальшавікі наперад не прасунуліся. Дарма ён паспяшыў з эвакуацыяй. Параіўшыся з жонкай (яна цяпер паттаквае кожнаму слову), садзіцца ў цягнік. Намер у Аўгуста Эрнэставіча такі: з'ездзіць у Бацькавічы, забярэ шкатулку, параіцца з блізкімі людзьмі. Можа, што-небудзь лепшае прыдумае.

Цягнікі на фронт імчаць хутчэй, чым з фронту. Праз два дні, надвячоркам, Аўгуст Эрнэставіч злазіць на местачковай станцыі. Таполі асыпаліся зусім, дрэвы ўсюды голыя, але выгляд мястэчка ранейшы. На пуцях пахаджваюць салдатыахоўнікі, з пашы вяртаецца статак. З комінаў хат падымаюцца шызыя дымы.

Горка, балюча Аўгусту Эрнэставічу. Чаго, куды ён паехаў? Хіба на чужыне шчасце?

Крамер аднак цверазее, як толькі пераступае парог роднага дома. Пакоі пустыя, сцены абадраныя, абшарпаныя. Усё, што можна вынесці — ложкі, крэслы, сталы,— знікла. Нават зашчапкі дзвярэй, акон павыдзіраны. Скрыначку з паперамі, граматамі цяпер днём з агнём не знойдзеш...

Начаваць Аўгуст Эрнэставіч ідзе да млынара Забелы. Два гады назад, у трывожныя, няпэўныя дні, яго хата дала яму прытулак. Дасць і цяпер. Забела — чалавек надзейны.

Млынара, нягледзячы на позні час, дома няма. Жонка дык проста спалохалася, убачыўшы Крамера.

Аўгуст Эрнэставіч ляжыць на ложку, пакутліва думае. Дарма ён вярнуўся ў мястэчка. Нікому тут не патрэбны. Мабыць, і Забела шукае новых гаспадароў, калі валэндаецца па ночы.

Млынар прыязджае апоўначы. Распрагае на двары каня, доўга шэпчацца ў пярэднім пакоі з жонкай. Вітаючыся з Аўгустам Эрнэставічам, адводзіць позірк. Гаворка трапяткая, хлуслівая: забавіўся на полі, сеяў жыта. Сеяў, але каму?..

Назаўтра Крамер, хмура развітаўшыся з млынаром, ідзе на станцыю.

## II

Станцыя Гарбылі наўсцяж забіта эшалонамі. З ранку да ночы не можа ўтаймавацца чалавечы мурашнік. Чакальная зала, рэстаран, каса абсталяваны пад вайсковы прадпункт. Круглыя суткі дымяць умураваныя ў сцены катлы. Звінючы кацялкамі, натоўпы салдат бягуць і бягуць за варывам.

Лета, восень Адам Васільевіч Глушко жыве, як на вулкане. Сягае з агню ды ў полымя. Ён па-ранейшаму дарожны майстар, хоць палавіна памочнікаў даўно ў партызанах. Цяпер камандуюць ім з лесу.

Не паспела скончыцца справа з немцамі, як нахлынула новая. Пятрэнка, той самы чэкіст, які ўгаварыў Адама Васільевіча заняць цяперашнюю пасаду, прыслаў да яго на кватэру пераапранутага ва ўласаўскую форму партызана. Прозвішча Саркісаў.

Самазваны ўласаўскі маёр ужо два тыдні расхаджвае па станцыі, заводзіць гешэфты з такімі, як сам, п’е з імі гарэлку.

Гэта найбольш трывожыць Адама Васільевіча.

Калі партызана схопяць, дарожнаму майстру не выкруціцца.

Залішне многа накіпела на яго рахунку.

У канцы лета Глушко адправіў у лес немцаў. Яго жыццё вісела на валаску. Фрыц Зонэмахер, Паўль Лінке, астатнія

тодтаўцы працавалі добра, партызанам, разведчыкам памагалі моцна. Але апетытаў стрымаць не змаглі. Захацелася залучыць новых таварышаў. Капітан Лінке папаўся. Яго суайчыннік, такі ж, як ён, афіцэр, з ходу аддаў яго ў лапы гестапаўцам.

Немцаў павёў у партызаны абходчык Жарнавік. Назад не вярнуўся.

А ён, Глушко, хадзіў па станцыі, аддаваў загады ўвесь той час, калі гестапаўцы ламалі капітану косці. Цвёрды аказаўся немец. Як крэмень.

Глушко хоча ў лес. Сям'ю адправіў у вёску. Цяпер многія чыгуначнікі адпраўляюць, бо ёсць прычына. Два разы налятаталі на станцыю савецкія самалёты. Лому, пажару нарабілі вялікага, але некалькі бомбаў трапіла на дамкі пуцейцаў, стрэлачнікаў.

Бяда ў тым, што ў Глушко некалькі гаспадароў. Прысылае заданні Пятрэнка, Гервась з Гарбылёўскай брыгады, прыходзяць сувязныя з другіх атрадаў. У свой час не адбіўся, а цяпер нявыкрутка.

Адно заданне Адам Васільевіч хоча выканаць абавязкова. За станцыяй, на спецыяльна ачышчанай, абнесенай дротам пляцоўцы, цэлая гара бочак з бензінам. Гервась падаслаў дзве міны з бікфордавымі шнурамі. Тыя міны даўно ў Віктара, роднага брата Косці Станкевіча, якога летась расстралялі немцы.

Віктар, яго памагатыя — хлопцы што трэба. Гарадскія хлопцы. Трохі жулікаватыя, авантурныя. Ходзяць з фінкамі, з пісталетамі ў кішэнях. Але за год навучыліся мастацтву, зробяць як трэба.

Глушко дакарае сябе, што не піхнуў Віктара на бензінавы склад у бамбёжку. Было б чыста, гладка. Спісалі б бензін на рахунак савецкіх лётчыкаў. А цяпер звязвае рукі Саркісаў. Трэба яго апекаваць.

Адам Васільевіч прагне ўзарваць склад, бо гэта жывы козыр. Будзе чым выхваліцца ў лесе. Патайная работа вядома нямногім. Пажар убачаць усе. Пажарам дарожны майстар дакажа, што нездарма еў нямецкі хлеб.

Пойдзе ў партызаны з музыкай.

Саркісаў начаваць не прыходзіць. Назаўтра Глушко рашаецца. Ідзе ў кантору да рахункавода Грыба. Грыб цяпер вялікі

начальнік — сакратар падпольнага гаркама. Нават у лесе яго зацвердзілі.

— Выручай, Сяргей Сяргеевіч,— просіць Глушко.— Хоць я беспартыйны. У лес пайсці не магу, бо на шыі маёр. Пятрэнка мяне за яго з'есць. А час мой настаў. Сам разумееш. І са складам цягнуць нельга.

Грыб думае нядоўга.

— Прысылай да мяне. Што-небудзь прыдумаю. Ідзі, Адам Васільевіч. Калі што якое, скажаш — я загадаў,— гаворыць ён.

Абдымаюцца, цалуюцца...

Вечарам Глушко ў напружаным чаканні. Пайшоў на ўвесь банк — узяў на хлопцаў імянныя начныя пропускі, завёў на месца.

У другой палавіне ночы Гарбылі прачынаюцца ад частых глухіх выбухаў. Пажар на станцыі залівае паўнеба чырванню.

## III

Будка на месцы. Сасна на месцы. Вяртаюцца вятры на ранейшыя кругі. Толькі аддзяленне, у якім служыць Петэрле, парадзела напалавіну. Унтэр-афіцэра Лібке паслалі на фронт, Венігер, з якім Петэрле найбліжэй сышоўся і якога яму асабліва цяпер не хапае, атрымаў пачастунак ад партызан. Добра, што ў мяккае месца. Пакуль вылечыцца, можа, скончыцца вайна.

Аўчаркі Касо таксама няма — здохла.

Петэрле задаволены, што з ранейшага, ляснога штуцпункта перавялі на гэты, знаёмы. Хоць радавацца нечага. Асабліва пасля той ночы, калі сотні лясных бандытаў выпаўзлі на чыгунку, а затым наладзілі свой «канцэрт». Страшная штука.

Хоць позняя, але цёплая восень. Ваколіцы мястэчка — у блакітнай смузе. Сінія, жоўтыя, чырвоныя колеры зліваюцца ў адно, нараджаючы надзвычай прыемную для вока гаму. У прыродзе — прыгажосць. Тут як у родным Цыролі, куды Петэрле нядаўна з'ездзіў на урляўб. А людзі дурнеюць. Даўно падурнелі.

Петэрле ляжыць пад сасной ля Птахавага пераезда, іграе на губным гармоніку.

O Strasburg, o Strasburg,
Du wunderschöne Stadt,
Darinen liegt begraben,
So männlicher Soldat.

So mancher und schöner,
Als tapferer Soldat,
Lieb Vater und lieb Mutter
Böslich verlassen hat.

Verlassen verlassen,
Es kann nicht anders sein,
Begraben, begraben
Soldaten müssen sein...[1]

Праклятыя прусакі, думае Петэрле, скончыўшы іграць. Палавіна іх песень пра вайну і смерць. Вечна не хапала ім зямлі: ірваліся на чужую. І другіх у невад зацягвалі. Завошта ён, Петэрле, пакутуе? Якому д’яблу ахвяруе маладое жыццё?

Падоўгу аддавацца панылым думкам Петэрле не ўмее. Жыццё кароткае, трэба ўмець лавіць хоць часовыя радасці. У час урляўбу ён маху не даў. Лізхен і Грэтхен з малочнага заводзіка наўрад ці будуць на яго крыўдаваць. Але тое было даўно. А вось цяпер на будку прыходзіць чысціць бульбу, варыць суп апетытная паненачка. Тоўсценькая, блакітнавокая, як большасць славянак. Сякія-такія захады Петэрле зрабіў. Але вечарам дзеўчанё ўцякае. Трэба быць больш настойлівым.

---

[1] О Страсбург, о Страсбург,
Ты цудоўны горад,
Каля цябе пахаваны
Мужны салдат.

Мужна і далікатна,
Як храбры салдат,
Ён пакінуў любімага бацьку
І любімую маці.

Пакінуў, пакінуў,
Інакш нельга было,
Бо салдаты на тое салдаты,
Каб гінуць... *(ням.)*

Нешта трывожнае, аднак, у душы варушыцца. Адкуль яно, Петэрле не ведае. Можа, таму трывога, што рускія блізка, перайшлі Днепр. На мінулым тыдні выразна была чуваць артылерыйская кананада. Праўда, апошнім часам грымоты сціхлі. Калі рускія прарвуцца, то прыйдзецца ваяваць і ім, ахоўнікам.

Зноў думкі Петэрле варочаюцца да страшнай ночы, калі суцэльным агнём, выбухамі грымела чыгунка. Якраз у той вечар ляцелі ў вырай жураўліныя ключы. Вольныя птахі і ноччу ляцяць і што на сваім шляху бачаць? Пад вечнымі зорамі на знаёмых пуцінах бушуюць пажары, круцяць агнявыя віры. Птушкам, мабыць, здаецца, што яны збіліся з тропу. Але то людзі збіліся, не птушкі. Чалавек — найвышэйшае тварэнне Пана Бога ці прыроды — лічыце, як хочаце, панове палітыкі,— але ён грызе адзін другога. Народ ідзе на народ. Дзеля чаго, навошта?..

Петэрле зноў іграе. На гэты раз мелодыю на верш Гейнэ. У сучаснай Германіі Гейнэ забаронены, але Петэрле на гэта напляваць. У сасны, якая навісае над ім зялёным ценем, вушэй няма, яна не выдасць.

Ein Fichtenbaum steht einsam
Im Norden auf kahler Höh...
...Sie träumt von einer Palme,
Die fern im Morgenland
Einsam und schweigend trauert
Auf brennenden Felsenwand[1].

У песні штосьці ёсць. Сасна марыць пра пальму. Яны — як сёстры. Вось так павінны жыць людзі...

З будкі чуецца каманда.

Петэрле хавае гармонік у кішэню, хапае кіцель, нацягвае на плечы, на хаду зашпільвае гузікі, бяжыць у строй.

---

[1] На севере диком стоит одиноко
На голой вершине сосна…
…И снится ей все, что в пустыне далекой,
В том крае, где солнца восход,
Одна и грустна на утесе горючем
Прекрасная пальма растет *(ням.)*.

## IV

Грымоты па гэты бок Дняпра заціхлі на цэлы месяц. Але фронт блізка, ён побач, і гэта надае Міцю, Лобіку, усім знаёмым партызанам сілы, бадзёрасці, нейкага агніста-радаснага адчування жыцця.

Хлопцы па-ранейшаму ходзяць да Лобікавага дзеда ў мястэчка. Аднойчы трапляюць у прыкрую гісторыю. Ноччу ляжаць у хляве, на сене, чуюць, як нейкія людзі прыходзяць у двор, выклікаюць з хаты дзеда, тузаюць яго, патрабуючы, каб запрагаў каня. Дзед хітры — адно кола ад калёс звычайна хавае. Хто там на двары? Паліцэйскія выехалі, але, можа, уласаўцы? Дрэнна, няма вінтовак, прыхавалі, калі ішлі ў хату, на агародзе. Для дзедавай бяспекі.

Калі фурманка грукае коламі за дубамі, хлопцы выскакваюць са схованшча.

— Хто тут быў? Уласаўцы?

— Вашы,— дзед безнадзейна махае рукой.

Лобік, Міця, Сяргей хапаюць вінтоўкі, штосілы бягуць услед за возам, які тарахціць па пнёўі. Даганяюць фурманку перад Росіцай. Клацаюць затворамі, гэтак напорыста насядаюць на трох мужчын, што тыя падымаюць рукі.

Але так і ёсць — партызаны. Чацвёрты Дамачоўскі атрад, які складаецца напалавіну з былых паліцэйскіх. Самы недысцыплінаваны ў брыгадзе.

Дамачоўцы віну прызнаюць. Гатовы аддаць каня, мяшок мукі, забраныя ў дзеда.

Але тым часам світае. З канём, з вінтоўкамі ў мястэчка не сунешся.

Хлопцы — велікадушныя. Муку дораць дамачоўцам, дазваляюць давезці да Падляшскага хутара. Затым, завярнуўшы фурманку, знаходзяць у саўгасе падлетка, загадваюць адагнаць каня ў мястэчка. Ідуць да Аўрама. Міцевай маці ў хаце няма. Пайшла з дзецьмі ў шалаш.

Пасеўшы за стол, частуючыся, гаспадар і госці зусім не заўважаюць, як на Росіцкую вуліцу ўцягваецца доўгі цуг нямецкіх фур.

Двое салдат устанаўліваюць на агародзе кулямёт, трое ідуць у хату.

Ратуе сям'ю гаспадыня. Выбягае на двор, нешта немцам гаворыць, ловіць курэй. Аўрам, падняўшы маснічку, спускае гасцей у падполле. Разам з вінтоўкамі. Нават калыску на месца прыгрэбніка падцягвае, раскатурхвае дзіця, каб плакала...

Смерць хадзіла побач, але не зачапіла.

Ноч перад кастрычніцкім святам аб'яўлена ноччу помсты. Ва ўсіх кірунках разыходзяцца партызанскія групы, групкі паляваць на фашыстаў. Хлопцы ідуць у мястэчка. Асушаным балотам падбіраюцца да Лобікавага двара. Выразна чуваць, як праз вуліцу, на станцыі, чухкае паравоз, даносіцца гоман салдатні. Але да станцыі не падбярэшся — ноч надзіва месячная. Хлопцы, аднак, сядзяць, чакаюць.

Нарэшце на вуліцы маячыць постаць, якая ўся блішчыць. У скураных паліто ходзяць толькі афіцэры. Тры гулкія стрэлы грымяць амаль адначасова, і ўслед за імі нечалавечы, дзікі крык. Гэты крык стаіць у Міцевых вушах увесь час, пакуль ён бяжыць праз балота да лесу.

Назаўтра пасланыя з Дубровіцы ў мястэчка жанчыны пацвярджаюць — забіты мадзьярскі афіцэр.

Затым — блакада. Уцалелыя вёскі, вёсачкі — і Рагалі таксама — захоплены ўласаўцамі. Адну ноч Міця з атрадам ляжыць пад Лазавіцай. У вёсцы зыркія агні, здраднікі п'юць гарэлку, спяваюць. Пра што яны думаюць — фронт зусім блізка. Чырвоная Армія наступае.

Атрад блукае па лясах, па балотах. Затое колькі новых мясцін Міця пабачыў, колькі людзей!

Самае памятнае, радаснае ў гэтыя дні — сустрэча з бацькам. Апранутага ў чыгуначную нямецкую вопратку, высокага, васпаватага чалавека, з кароткім карабінам за плячамі Міця ў першую хвіліну не пазнаў. Але паходка — бацькава, яго гаворка. Бацькава калона ідзе ў адзін бок, Міцева — у другі. Пагаварылі на хаду, прыхваткам, задыхаючыся ад наплыву пачуццяў. Ты таксама ў партызанах, бацька, у Гомельскім злу-

чэнні. Уцёк з Германіі — гэта самае галоўнае. Нялёгка адтуль уцячы. Сям'я цэлая, не хвалюйся, і недабудаваная хата таксама цэлая. Сустрэнемся дома. Ужо хутка...

Засядае падпольны райкам. Партызан прызначаюць на розныя раённыя пасады. Міцю таксама вызначаюць пасаду — старшага падатковага інспектара райфа. Дзіўна, што Міця ў падатках разумее?

Нарэшце зноў грыміць. Якубоўскі пасылае Міцю і Лобіка ў Росіцу — там павінны быць чырвоныя войскі. Хлопцы ідуць усю доўгую асеннюю ноч, а назаўтра раніцай, непадалёк ад Аўрамавай хаты бачаць трох вайсковых разведчыкаў. Байцы трохі старэйшыя за іх, у ватоўках, з перавешанымі цераз шыю аўтаматамі.

Пагаварыўшы з партызанамі, разведчыкі просяць іх пачакаць, самі ідуць за пасёлак. Праз гадзіну ў саўгас уступае савецкае войска. Шынялі ў салдат у зямлі і гліне, твары стомленыя. Дывізія ідзе ад самага Сталінграда. У адну фурманку ўпрэжаны вярблюд, які, здаецца, звысака пазірае на прыземістыя мясцовыя хаты. Аднак дабрыў жыхар спякотнага поўдня да Палесся...

Салдаты, ні на што не зважаючы, капаюць акопы. Вось якая яна, вайна!..

Хлопцы і савецкага афіцэра пабачылі. Высокі, падцягнуты, пагоны на шынялі, нібы крыллі, адтапыраны.

Афіцэр пасылае знаёмых разведчыкаў у партызанскі лагер — дамаўляцца наконт сумесных дзеянняў.

У Дубровіцы ўжо гарцуюць на конях камандзіры. Не хочуць ударыць тварам у гразь перад войскам.

Вечарам, не даўшы паспаць, Якубоўскі зноў выклікае Міцю з Лобікам.

— Пойдзеце праваднікамі.

Хлопцы — паколькі яны местачкоўцы — мусяць весці адзін з дамачоўскіх атрадаў у абход мястэчка да чыгункі. Ужо з Кавенек відаць — мястэчка гарыць. Пажар блізка ля станцыі.

Атрад, расцягнуўшыся ў доўгі ланцуг, падыходзіць да чыгункі недалёка ад Птахавага пераезда. Відаць будка, сасна.

Вось такая для Міці вайна — ваюе там, дзе нарадзіўся, вырас. Партызаны пачынаюць акопвацца. Капаюць хто чым: нажамі, кінжаламі, грабуць зямлю рукамі — лапатак няма.

Міця і Лобік не акопваюцца. Кладуцца пад куст, цясней прыхінаюцца адзін да другога. Страшэнна холадна ўночы. Іван свой кажушок пакінуў у дзеда, цяпер ляскае ад холаду зубамі.

Немцы на будцы вядуць сябе далікатна. Партызан, вядома, бачаць — яны кураць, гучна размаўляюць, нехта нават стрэліў,— але не азываюцца.

Маўчаць і тады, калі шэрым золкам дамачоўцы падрываюць рэйкі, а затым бязладным натоўпам валяць праз чыгунку, хаваючыся ў лесе.

Хітрасць разгадваецца раніцай. З усходу і з паўночнага боку — з саўгаса — па мястэчку б’е савецкая артылерыя. Яшчэ праз гадзіну адтуль чуваць кулямётны пошчак. Але ў немцаў, якія сядзяць у Птахавай будцы, відаць, няма ахвоты абараняць мястэчка. Прыгнуўшыся, ціснучыся бліжэй да чыгуначнага насыпу, бягуць на Грамы. З лесу па іх страляюць партызаны.

Двое ці трое салдат падае.

Бой яшчэ не скончаны. З захаду па пясчаным шляху паўзуць дзве танкеткі. Убачыўшы партызанскія акопчыкі, заварочваюць на поле, давяць гусеніцамі партызан, затым самі падрываюцца на мінах. Танкістаў, якія збіраюцца сігануць у кусты, партызаны зрашэчваюць кулямі.

Да паўдня — мястэчка вызвалена. Немцы з захаду, з боку Грамоў, зрэдку абстрэльваюць яго з гармат.

## V

Добры дзень, будка, сасна, роднае мястэчка! Вось я і прыйшоў да вас, вольны, незалежны. Веру, што чужая навала не кране вас болей ніколі. Не павінна крануць. Столькі людзей за гэта загінула.

Першы дзень свабоды...

Позняя восень, асыпаліся дрэвы, кусты, на межах, на насыпе чыгункі ляжыць парудзелая, прывялая трава. Але па-летняму

свеціць і грэе невысокае сонца, на разлеглай шэрай раўніне паміж лесам і мястэчкам, як летам, дрыжыць-пераліваецца намітка сіняватай смугі. Сіняе, без хмурынкі неба. Чыстае, пасенняму празрыстае паветра. Прастор. Шырыня...

За свае васямнаццаць гадоў Міця не памятае, каб позняй восенню быў такі цёплы, ясны, такі прыгожы дзень. Нібы спецыяльна прырода прыстасавала яго да свята душы, радасці, якую адчуваюць сёння многа людзей.

Тое неба, тая самая зямля, чыгунка, абсягі шэрага поля, лесу, але зусім другое адчуванне жыцця. Свабода...

Там па родных вуліцах ходзяць савецкія салдаты, рыпяць абозы, што дабраліся з саўгаснага пасёлка, з Бабінавіч, з шашы-брусчаткі — з усіх дарог, што вядуць у мястэчка. Абозы дапялі з самога Сталінграда. Яшчэ года не прайшло, як адгрымела самая вялікая з бітваў, што былі калі-небудзь на зямлі, а салдаты-пераможцы тут, у мястэчку.

Два гады думаў пра гэты светлы дзень Міця. Пакутаваў, сумняваўся, падаў у бездань адчаю, уздымаючыся зноў да веры і надзеі. Сёе-тое рабіў, не думаючы, не баючыся, што лёгка можа загінуць. Быць інакшым, чым быў, як жыў, не мог.

Дык што такое свабода? Гэта найперш адчуванне, што вольна ходзіш па роднай зямлі. Няма над табой ніякай чужой навалы...

Міця зайшоў у будку. Тут у два ярусы салдацкія нары, на падлозе паперы, друз. Трое салдат, якія спалі на гэтых нарах, там далей, ля насыпу, заснулі навечна. Адзін знаёмы — доўгі, касенькі,— ён любіў іграць на губным гармоніку.

Міця, выбраўшыся на грудок, стаіць пад сасной. На яе ствале прыбіта лацінская літара, кустоўе паблізу высечана — ахоўнікі і тут зрабілі сектар абстрэлу. З-пад цвікоў па шурпатай кары прабегла пасачка застыглай жывіцы. Нібы плакала сасна. Прыгожае адсюль, з грудка, мястэчка. Яно віднеецца шэрымі дахамі, бясконцай лавай хат, сярод якіх выразна выдзяляецца белакаменны гмах школы. Нават пазбаўленае зялёных шатаў, што атулялі яго жывым вянком, мястэчка ўсё адно прыгожае. Толькі два гады таптаў родную зямлю вораг, а здаецца, прамінула вечнасць.

*Ліпень 1970 — май 1973*

# СМУТАК БЕЛЫХ НАЧЭЙ

У Ленінградзе, у гасцініцы — яна на Выбаргскай старане,— мне выдзелілі люкс. Тры пакоі ў нумары: зала, спальня, пакоік невядомага прызначэння, у якім размешчана вузкая канапка і халадзільнік. Такі самы нумар, размешчаны насупраць, заняў акадэмік Аляксандраў. Бачачы маю збянтэжанасць, Марыя Іванаўна, кіраўнік экскурсійнай групы, супакойвае:

— Пажыві. Блакаду перанёс...

— Марыя Іванаўна, я не быў у блакадзе... Паверце маім словам.

Яна здзіўлена акругляе вочы:

— Ты не быў на Ленінградскім фронце?

— Быў. У сорак чацвёртым здымалі блакаду з боку Карэльскага перашыйка.

Кіраўнік групы з палёгкай уздыхае:

— Усё адно заслужыў. Не хвалюйся. За нумар заплочана.

У гасцініцы шмат турыстаў-фінаў. Іх я пазнаю па своеасаблівай напеўнай гаворцы.

У той жа дзень я завіс з групай фінаў у ліфце паміж пятым і шостым паверхамі. Колькі мы ні націскалі на розныя кнопкі, ліфт вісеў не кратаючыся. З часу баёў на Карэльскім перашыйку я памятаю некалькі фінскіх слоў. Адчуваючы сябе гаспадаром, хачу суцешыць гасцей. Але па-фінску магу няшмат сказаць: «Рукі ўверх!», «Кідай зброю!», «Лажыся!», «З якой ты роты, батальёна, палка?». Другіх слоў не ведаю.

— Мір,— прамаўляю я.

Госці згодна ківаюць галовамі. Трое мужчын, дзве жанчыны. Хутчэй за ўсё рабочыя людзі. У іх агрубелыя далоні рук, не надта кідкая вопратка. Хачу ім сказаць, што я, як і яны, турыст, што нашу паездку ў Ленінград арганізавала камісія садзеяння Фонду міру, у якой з'яўляюся актывістам.

— Хельсінкі — Еўропа...

Госці ўсміхаюцца. Я хачу зрабіць ім прыемнае, хачу сказаць, што ў сталіцы іх дзяржавы нарадзіўся дагавор, паводле якога войнаў між народамі нашага старога, абвеянага вятрамі гісторыі кантынента болей не павінна быць...

Ліфт нарэшце крануўся.

На наступны дзень з дазволу Марыі Іванаўны еду на Карэльскі перашыек. Сыходжу з цягніка на незнаёмым паўстанку. Іменна тут захацелася сысці.

Да пасёлка падступае лес. Іду сцяжынкай між елак, соснаў. Неўзабаве вачам адкрываецца паляна, густа ўсеяная камянямі-валунамі. На адным з камянёў сядзіць сівы, у сінім парусінавым пінжачку чалавек. Перад ім мальберт.

Я ўздрыгнуў. Лета, буяе зеляніна. Сонца ідзе на схіл, паляна заліта мяккім вячэрнім святлом. На карціне, якую дапісвае сівы чалавек, другое: ноч, цёмнае неба, сіні снег, вогненныя сполахі выбухаў, цёмныя варонкі на снезе...

Я разумею: чалавек быў тут на той, першай вайне. Ён не можа забыць яе, як не магу забыць сваёй вайны я…

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Пасля Сычоўкі стала ясна: эшалон кіруецца не на Украіну. Каб на Украіну, то павярнулі б на Бранск ці хоць на Смаленск. Сакавік, але вясна запозненая, цяпла не дорыць. У чэзлых бярэзніках, якія праносяцца міма эшалона, па калена чарнаватага снегу. Толькі на насыпе чыгункі снегу няма. На ўзбочыне шастае пад ветрам выпетранае бадылле. Хоць бы дзе зялёная травінка вытыркнулася.

Краявіды panылыя: бярэзнік, куп’істыя, з рудой асакой балоты, нізкарослыя сасмякі. Трапляюцца добрыя сухадольныя бары, але яны ў гэтым краі рэдкія. Найчасцей чарналессе — голае і самотнае. Салдаты-навабранцы не пра такое марылі. У запасным палку — станцыя Фаянсава, палявая пошта 30103,— які апошнія месяцы найбольш прыкметнае папаўненне прымае з вызваленых куткоў Беларусі, маладыя воіны песцілі надзею трапіць на які-небудзь Украінскі фронт. Украінскія франты ўсю зіму актыўнічалі, вялі наступленні, наладжвалі немцам «катлы». Наогул, яны стаяць фактычна ля былой дзяржаўнай граніцы.

Маладыя воіны рваліся на Украіну з-за жыццёвых даброт: там пшанічныя караваі, галушкі, колькі хочаш кукурузнай кашы. Пасля сціплага, прадугледжанага трэцяй катэгорыяй харчавання ў запасным палку, гэта здавалася казкай.

У эшалоне, які рухаецца даволі марудна, пераважае разнастайны люд. Большасць салдат маладога, прызыўнога ўзросту — падраслі за два з лішнім гады вайны, акупацыі. Але ў маршавай роце нямала і цёртых дзядзькоў, якія ўжо прызываліся, у сорак першым, траплялі ў акружэнні, палон, уцяклі з нямецкіх лагераў. Тыя, хто адслужыў кадравую, ідуць у армію фактычна трэці раз.

Мабыць, толькі ў вайну можа здарыцца такое: у сёмым вагоне і ў некаторых іншых едуць на фронт школьныя, добра знаёмыя адзін другому хлопцы. Мястэчка вызвалілі позняй восенню, у абозе воінскіх часцей прыбыў ваенкамат, які адразу вывесіў мабілізацыйны загад.

Вайна параўняла ўзросты: прызываліся адначасна мужчыны, якія нарадзіліся пачынаючы з тысяча восемсот дзевяноста пятага года і канчаючы тысяча дзевяцьсот дваццаць пятым.

Некаторыя, хто нарадзіўся ў дваццаць пятым і нават дваццаць чацвёртым годзе, напісалі, што яны з дваццаць шостага: паспрабуй адшукай пасля двух год акупацыі сельсавецкія кнігі, дзе дакладна ўсё пазначана. Дзівакі!.. Праз месяц наступіў новы, сорак чацвёрты год, а з ім і паўналецце для тых, хто хацеў прыхавацца ад прызыву.

Сяргей Каліноўскі перабірае ў памяці нядаўнія падзеі. Ён старшы па вагоне, таму сядзіць ля бляшанай печачкі з выведзенай у акно трубой і сочыць, каб у ёй не патух агонь. Два разы так здараецца, што Сяргея без усялякай бачнай прычыны прызначаюць старшым. Першы раз ён атрымаў начальніцкую пасаду, калі мястэчковая каманда прыбыла ў запасны полк. Выгружанае з вагонаў воінства адразу ў лагер палка не павялі, накіравалі ў ізалятар.

Ваенкаматаўскі лейтэнант, які суправаджаў каманду мабілізаваных, на станцыі Фаянсава, між Бранскам і Рослаўлем, перадаў яе прадстаўніку запаснога палка, хмурнаму, падлобістаму старшыне і, памахаўшы на развітанне рукой нядаўнім падначаленым, подбегам кінуўся шукаць эшалон, каб хутчэй дапяць у свой ваенкамат.

Выстраенае перад эшалонам воінства пераміналася з нагі на нагу, хукала ў рукі, думаючы найбольш пра тое, каб хутчэй трапіць пад які-небудзь дах. У гэты час падлобісты старшына, крывячы губы, абходзіў строй. Зусім нечакана для Сяргея запыніўся насупраць яго, сіплым, прастуджаным голасам загадаў:

— Будзеш старшым!

Сярод дзвюх соцень мабілізаваных, прывезеных у запасны полк з мястэчка і навакольных вёсак, шмат старэйшых за Сяргея, вопытнейшых, былі нават такія, што адслужылі ў свой час кадравую,— і чаму выбар старшыны выпаў на яго, невядома. І апрануты быў Сяргей не лепей за другіх. Старшына грэбліва крывіў губы, мабыць, таму, што строй мабілізаваных меў выгляд вельмі непрывабны. Добрых чаравікаў ці ботаў на дзвесце чалавек не было ніводнай пары. Людзі абутыя хто ў што: у бахілы, чуні, лапці, стаптаныя апоркі. Вопратка не лепшая. Фасоны і афарбоўка шынелкаў, палітончыкаў, фуфаек, лапсердакоў, а таксама шапак, сярод якіх траплялiся не толькі самаробныя сялянскія кучомкі, старамодныя будзёнаўкі, але і нязвычныя польскія магеркі, вайсковыя, з языкамі-навушнікамі нямецкія брылі, мадзьярскія пілоткі, пашытыя з тоўстага цёмна-жоўтага сукна, былі самыя разнастайныя.

Размаітасць, мізэрнасць убораў мабілізаваных наглядна сведчыла, што яны сёе-тое за вайну пакаштавалі. Але падлобісты старшына не браў гэта пад увагу. Ён бачыў толькі непарадак. Па камандзе старшыны бязладны натоўп ператварыўся ў калону. Праз хвіліну яна рушыла ў напрамку аснежанага бору, які падступаў да самай станцыі.

Захутаныя ў ірваныя хусткі бабы, якія на станцыі гандлявалі бульбянымі піражкамі, малаком, цёртым самасадам, не хацелі прызнаваць мабілізаваных за салдат. Пры выглядзе доўгай, неахайна апранутай калоны яны пранізліва, наперабой залямантавалі:

— Пудзілы гарохавыя! Сядзелі ў жонак пад спадніцамі...

— Нашы даўно галовы палажылі, а яны толькі ідуць...

— Кулачугі, дэзерціры!..

— Прыслужнікі нямецкія, паліцаі праклятыя!..

— Будуць выхваляцца, што ваявалі...

Сяргей ішоў старшым у калоне, якую так бязлітасна бэсцілі бабы. Памятаў: да вайны навабранцаў праводзілі з гармонікамі, песнямі. А табе, браце, вось якая музыка!..

У ізалятары, дзе Сяргей працягваў быць старшым, прабылі два ці тры дні. Час той няма чым успомніць. Халодныя, без асвятлення зямлянкі, у якіх спалі на абмёрзлых, засланых яловымі лапкамі земляных нарах. Праз кашлатую навісь хвой праглядвала цёмнае зімовае неба...

Дзень, светла, а вагон спіць. Няпісаны закон салдацкага жыцця добра засвоены. Салдат заўсёды павінен спаць, калі няма другога занятку.

Да Сяргея, залезшы з ніжніх нараў, падсаджваецца Васіль Лебедзь. Новенькая гімнасцёрка шчыльна аблягае яго шырокія плечы. Штаны Васілю таксама цеснаватыя: тоўстыя ляжкі проста выпіраюць з іх.

— Да Масквы бліжэй Гжацк ці Вязьма? — пытае Сяргей.

— Гжацк.

— Едзем па гістарычных мясцінах. Фронт колькі стаяў пад Гжацкам...

Васіль Лебедзь добры Сяргееў таварыш. У партызанах ён не быў, але ў падпольных справах удзельнічаў. З Васілём Сяргей зблізіўся ў дзявятым класе. Яны тады моцна здружыліся: ён, Васіль і Мікалай Пракопчык, які таксама ў вагоне. Абодва Сяргеевы таварышы не карэнныя местачкоўцы. Васілёва сям’я прыехала ў мястэчка даўно, нават сад каля хаты паспеў вырасці. Дом Мікалая Пракопчыка, выбудаваны на ўскрайку кар’ера, насупраць чыгуначнай станцыі, вырас перад самай вайной.

У Сяргеевым настроі няпэўнасць. Куды вязуць? На які фронт? Каб са станцыі Фаянсава павярнулі на Бранск, можна было б думаць, што трапяць на Украінскі фронт ці хоць на Першы Беларускі.

Сяргей марыў праехаць на фронт праз родную станцыю. Ён настолькі зжыўся з гэтай думкай, што іншага ходу падзей не дапускаў. Бачыў разгалістыя, купчастыя таполі, знаёмыя станцыйныя будынкі, пакгаўзы, сябе ў новенькім шынялі, гімнасцёрцы. Ён прайшоўся б разы два па пероне і перадаў

бы маці праз знаёмых дзяўчат (яны абавязкова павінны былі паявіцца ў тую хвіліну на станцыі) пакунак з матэрыялам. Цікаўныя дзяўчаты маглі пакунак нават разгарнуць. У ім два метры бялюткай байкавай матэрыі — якраз маці на кофту. Столькі не пашкадавалі армейскія забеспячэнцы Сяргею на анучы. Проста шкада было мяккай беласнежнай прыгажосцю абгортваць не надта чыстыя ногі, і матэрыял Сяргей прыхаваў.

Мікалай Пракопчык ляжыць на падлозе па правы бок ад печачкі. На нарах не захацеў. Ён даўно прачнуўся, але робіць выгляд, што спіць.

— Можа, перакусім? — пытае Сяргей.

— Давай,— згаджаецца Васіль.

Мікалай пераварочваецца на другі бок.

Маршавай роце выдалі сухі паёк на тры дні і НЗ — яшчэ на два. У Сяргеевым рэчавым мяшку на першым часе былі буханка хлеба, больш за кілаграм сухароў, пачатая бліскучая бляшанка кансерваў і ладны шкуматок сала, які называюць шпігам. Малады жывот, аднак, увесь час прагне харчу, і, ускочыўшы ў вагон, Сяргей адразу накінуўся на прыпасы. Так і другія робяць. Выключаючы старэйшых — тыя больш ашчадныя.

На вока Сяргей вызначае, што прыпасу ў Васілёвым мяшку больш, чым у ягоным. Васіль, відаць, не такі падкі да яды, як ён сам. Умее цярпець. Сяргей нічога з сабой не можа зрабіць. Прагнае жаданне есці валодае ім увесь час. Пра яду думае ўдзень і ўночы, яму мрояцца розныя стравы, якія ён калі-небудзь еў. Сама расце Сяргей, яму дзевятнаццаць гадоў, і, можа, таму пастаянна хоча есці.

Васіль не падобны на Сяргея. Усё робіць спакойна, паважна. Дастаў рэчавы мяшок, не спяшаючыся, развязаў матузкі. Сухары ў яго ў асобным мяшэчку, цукар, які выдалі на паёк,— таксама. Відаць, маці пашыла мяшэчкі. Яна — швачка. Колькі Сяргей памятае, Васілёва маці заўсёды стракатала машынкай. Зімой, вясной, летам, восенню. Перашывала старызну, якую прыносілі заказчыкі, на новыя ўборы.

Махорка ў кісеце, расшытым васількамі. Васіль не курыць, таму кісет хавае ў рэчавым мяшку. Кісет Васілю хутчэй за ўсё падаравала Люся. Ён з ёй пачаў сябраваць у вайну. У іх

адносінах першы крок, мабыць, зрабіла Люся, дзяўчына шустрая, напорыстая. Уявіць, што на такое адважыўся павольны, ураўнаважаны Васіль, проста немагчыма.

Васіль кансерваў нават не распачынаў, намазвае шмальцам лусту хлеба. Сяргеева бляшанка тым часам у палавіне. Хоць і кансервы не надта. Фасоля з таматам. Але ўсё адно, каб можна было, Сяргей бы ў адно імгненне апаражніў бляшанку. З жахам глядзіць ён, як на вачах растаюць прыпасы. Пайшоў толькі другі дзень, як рушылі з запаснога палка, а наяўнага хлеба менш як паўбуханкі асталося і шпігу вузенькі шкуматок, і амаль усе сухары Сяргей пахрумстаў. Фактычна ён пасягнуў нават на недатыкальны запас, а наперадзе яшчэ тры дні.

Эшалон спыніўся на нейкім паўстанку. Навідавоку толькі збітая з аполкаў і гарбылёў будка, з якой праз самаварную трубу, прыладжаную зверху, віецца дым. Відаць, у гэтай будцы і дзяжурны, і стрэлачнік, бо другіх будынін на паўстанку няма.

Вагон спіць. Сяргей зрабіў памылку, што не лёг на нары. Калі спіш ці проста так ляжыш, менш хочацца есці.

— Пад'ём! — гукае Сяргей.— Пяць чалавек па дровы!..

Падхопліваецца толькі Мікалай Пракопчык. Яшчэ некалькі байцоў уздымаюць галовы, але зараз жа зноў акрываюць іх шынялямі. Не надта маюць Сяргея за начальніка. Шчуплы, з прыемным чарнявым тварам Мікалай таропка нацягвае шынель. Ён па ўласнай ахвоце выскоквае на кожным прыпынку, заўсёды прыносіць нейкія навіны.

— Чаго крычыш? — накідваецца Мікалай на Сяргея.— Чаму адзін ля печачкі? Назнач днявальных, чаргу ўстанаві. Знайшлі каго паставіць старшым!..

— Цябе трэба было паставіць!

— А што! Трохі б лепей камандаваў...

Мікалай порстка выскоквае з цяплушкі. На папярэднім прыпынку вылазіў Сяргей. Ведаючы, што праз родную станцыю не праедзе, і спакусіўшыся бульбянымі піражкамі, якімі бабы гандлявалі на ўзбочыне паўстанка, збыў байкавы матэрыял, які бярог маці на кофту. На душы ад гэтага прыкра, і Сяргей усчыняе гаворку з Васілём:

— Ты спаў, а мяне бабы надулі.

— Якія бабы?

— Станцыйныя. Спекулянткі.

— Байкавы матэрыял прадаў? — адразу здагадваецца Васіль.

— Прадаў.

— За што?

— За піражкі.

— З мясам?

— З шалупіннем...

Васіль пасміхаецца.

— Я сёння раніцай анучы перамяніў. Цёпла ў байкавых...

Васіль, значыць, хацеў зрабіць тое самае, што і Сяргей. Таксама спадзяваўся, што праедуць праз родную станцыю.

Эшалон, відаць, надоўга стаў. На поўдзень, на фронт, з укрытымі брызентам платформамі праляцела ўжо два саставы, а іхні стаіць. Вагон пакрысе прачынаецца.

Сяргею знаёмы вагонны побыт. Цяпер у цяплушцы печачка, дрывамі можна разжыцца, а калі ехалі ў запасны полк, у вагоне не палілі. Усе сядзелі ля сценак, стараліся дыхаць сабе пад вопратку. Але ўсё адно мерзлі калені. Крысся паліто не хапала, каб іх прыкрыць.

— Сяргей! — чуецца голас знадворку.

Сяргей выглядвае ў праём дзвярэй. Перад вагонам пераміналюцца з нагі на нагу стрыечны брат Адам і Пятро Герасімовіч. Сяргей саскоквае да хлопцаў.

— Вазьмі кедравых арэшкаў,— гаворыць Адам, запускаючы руку ў кішэнь шыняля.

Сяргей падстаўляе прыгаршчы. Да Адамавай жмені Пятро сваю далучае. Арэшкі маленькія, цёмненькія, падобныя на павялічаныя зярняткі, вынятыя з паспелых яблык ці груш.

— Дзе ўзялі?

— Вагон стаіць. Дзяўчаты раздаюць.

— Якія дзяўчаты?

— Як бытта дэлегацыя. На фронт падаркі вязуць.

Пра незвычайную дэлегацыю ў цяплушках, відаць, прачулі, бо з многіх саскокваюць салдаты, на хаду нацягваюць шынелкі, бягуць у хвост эшалона. Сяргей з Адамам і Пятром таксама кінуліся туды.

На абледзянелым бакавым пуці сапраўды стаіць вагон, дыміць печачкай, але лавачка, дзе бясплатна раздаюць арэшкі, па ўсім відаць, прыкрыта.

— Пераблыталі франтавікоў,— пасміхаецца Васіль.— Не тым, каму трэба, падаркі раздалі.

У шчыльным акружэнні салдат стаяць дзве дзяўчыны, апранутыя ў цывільныя паліто з футравымі каўнярамі, у бурках з галёшамі, перасміхаюцца з байцамі.

Ад гурту, які пацвельваецца з дзяўчатамі, аддзяляецца Косця Ціток — ён таксама местачковец, дзесяцікласнік,— падыходзіць да таварышаў.

— Звесткі дакладныя — едзем на Іртыш рыбу лавіць. Асобы рыбны батальён. У пярэднім вагоне сеткі складзены.

У Пятра Герасімовіча аж шчокі зардзеліся. Прагна ловіць кожнае Ціткова слова.

— Чаму тады новае абмундзіраванне выдалі? — нарэшце пытае ён.— Рыбу можна было лавіць у старым.

Хлопцы аж прысядаюць з неспадзеўкі. Дык вось пра што думае Пятро! Ён якраз з ліку тых, хто запісаўся дваццаць шостым годам нараджэння, хоць нарадзіўся ў дваццаць пятым. Яго нават з запаснога палка адпускалі дадому, але пасля Новага года мабілізавалі зноў, і зноў трапіў ён на станцыю Фаянсава.

— За Палярны круг едзем,— працягвае Косця.— Белых мядзведзяў пабачым. Вывучым геаграфію...

Косця Ціток не можа без кепікаў. Заўсёды быў такі. Сяргей між тым адчувае сябе ніякавата. Ён больш, чым хто-небудзь другі, стараўся, каб школьныя сябры-таварышы трапілі ў адну маршавую роту. Цяпер вярэдзяць душу сумненні: ці трэба было?..

У запасным палку спайка памагала, выбаўляла з нягод. Сяргей адчуў гэта, трапіўшы ў першы нарад на кухню. Кармілі ў запасным палку не надта. Апынуўшыся каля катлоў з супам, кашай, Сяргей адразу скеміў, што рабіць. Стрыечнаму брату Адаму, Пятру Герасімовічу, другім хлопцам шапнуў, каб падбеглі з кацялкамі. У іх чамусьці па твары светлы пух пайшоў: як у куранят, якія толькі што вылузнуліся з яйка. З таго часу стала завядзёнкай: калі хто з местачковых трапляў у

нарад на кухню, астатнія ў гэты дзень былі сытыя. Так было. Як будзе далей?..

Наступае вечар, паравоз нават парай не пыхкае. Можа здарыцца, што на бязлюдным паўстанку прыйдзецца прастаяць ноч.

Змрок згушчаецца, на белай снежнай раўніне, якая аблягае чыгунку, добра відаць цёмныя кропкі. Яны набліжаюцца, ужо можна разгледзець байцоў, якія коцяць па снезе бочкі. Коцяць лёгка, ледзь дакранаючыся наскамі чаравікаў да іх.

— Дзе знайшлі? — пытае Ціток.

— Там,— пажылы салдат няпэўна махае рукой.

У тым баку, адкуль коцяць бочкі, цямнеюць хмызы, здаецца, нават нейкая будыніна стаіць.

Спакуса вялікая. Паўстанак голы, як бубен. Дроў тут не знойдзеш. Але і рызыка ёсць. Дакументаў у байцоў маршавай роты ніякіх, іх толькі выгукваюць па спісу. Што, як эшалон адправіцца? Аднак хлопцы, раз-пораз азіраючыся, ідуць у напрамку хмызоў.

Зляжалы снег цвёрды, ногі не правальваюцца. Марозікам яго прыціснула. Пад вечар узяўся марозік. Якраз той час, калі хрупасткая наледзь прыемна трашчыць пад нагамі. Сяргей любіць гэты час. Але цяпер другое. Цяпер тое, што было дома, у мястэчку, здаецца далёкім, недасягальным, што назаўсёды сышло і ніколі не вернецца.

У вячэрнім змроку можна разгледзець нейкія нізенькія будынкі. Магчыма, зямлянкі. Сям-там паблісквае агеньчыкі. Справа хмызы, за імі доўгае, падобнае на адрыну памяшканне. Адтуль выкочваюць бочкі.

На гэтым месцы быў, відаць, заводзік. Тырчыць чорная труба, стаяць рэшткі абгарэлых, закопчаных сцен, валяюцца кучы цэглы, друзу.

Кожны з хлопцаў коціць па бочцы. На пуцях бочкі разбіваюцца, клёпкі кідаюць у цяплушкі.

Эшалон як укопаны стаіць. Мікалая ў вагоне няма. Дзядзькі топяць у кацялках снег. Верх пячуркі застаўлены кацялкамі. Дзядзькі нап'юцца чаю, зноў палягуць спаць. Ашчаджаюць сілу. Нават у размовы лішне не ўступаюць.

У цяплушцы, у якой едуць Сяргей, Васіль і Мікалай, некалькі дзядзькоў, з іхняга раёна, з дальніх вёсак. Ёсць

партызаны, з двума Сяргей быў у адным атрадзе. Рагамеда, паўнатварага плячыстага дзецюка гадоў дваццаці пяці, ён нават вельмі добра ведае — былі ў адным узводзе.

Маладзейшым сядзець у цяплушцы не хочацца. Сяргей з Васілём пахаджваюць узбоч эшалона. Дзіўны вечар, чымсьці ён як бы нават трывожыць душу. Узышоў месяц, вісіць круглым боханчыкам над сіняватай аснежанай роўняддзю. Няма нічога падобнага на местачковы краявід. Аднак пачуццё такое, нібы Сяргей усё гэта аднойчы бачыў, перажыў.

— Шкада — карты няма,— гаворыць Сяргей.— Паглядзелі б, як Сычоўка, Вязьма, Гжацк размешчаны. Немцы адсюль пёрлі на Маскву.

Вязьму вызвалілі ў сакавіку сорак трэцяга. Год назад. Але кругом — як пустыня. Такое вялікае разбурэнне...

Лёс так выкіраваў пуцявіны хлопцаў, што мясціны, пра якія яны столькі думалі, гаварылі, прыходзіцца бачыць на ўласныя вочы. Восенню сорак першага пад Бранскам і Вязьмай былі вялікія баі. З акружэння выбраліся два ці тры местачкоўцы, яны расказвалі страшныя рэчы. Паўзлі чуткі: Масква захоплена. Месяц ці два такія чуткі блукалі па мястэчку. І ўвесь той змрочны асенні час хлопцы штодня збіраліся ў вузкім пакойчыку-бакоўцы Васіля Лебедзя. Тады іх, блізкіх дружбакоў, як і цяпер у вагоне, было трое: Сяргей, Васіль, Мікалай Пракопчык.

Увогуле дзіўныя выпадкі бываюць у жыцці. У гэтым самым складзе хлопцы, Сяргей, Васіль, Мікалай Пракопчык, летам сорак першага, калі стала ясна, што мястэчка захопяць немцы, хадзілі ў адступленне. Яны дапялі да прыдняпроўскай вёсачкі, уладкаваліся на начлег у нейкім хляве, але ноччу з таго хлява, не папярэдзіўшы сяброў, Мікалай Пракопчык збег. Сяргей з Васілём наступны дзень блукалі ля Дняпра, шукаючы пераправу, наступную ноч начавалі ўдвух; на світанні, калі ля прырэчнай вёскі ўсчалася нечаканая страляніна, неяк залішне паспешліва прынялі рашэнне вяртацца ў мястэчка. Учынак Мікалая, вядома, паўплываў на тое рашэнне. Каб Мікалай быў з імі, яны, магчыма, знайшлі б пераправу, не былі б два гады пад немцамі, і ўвогуле мог зусім па-іншаму скласціся іх ваенны лёс.

Дзе Пракопчык? Па бочкі не хадзіў, і ў вагоне няма. Дзіўны ён: смелым, адважным не назавеш, і няма справы, у якую б ён ні ўваткнуў свой трохі сіняваты нос.

Нарэшце сустрэлі Пракопчыка: на другім баку эшалона пахаджвае з дзяўчатамі, з тымі, што суправаджаюць падарункі на фронт. Кавалераў выдыбае можа дзесяць, дзяўчыны дзве, але гаворка самая ажыўленая, нібы знаёмства завязалася даўно.

Сяргей з Васілём ходзяць назіркам за вясёлай кампаніяй, прыслухоўваюцца да гаворкі. Сапраўды дзіўны вечар. У запасным палку не было такога і не магло быць. Там дысцыпліна, сядзіш як прывязаны. Нейкія асаблівыя, прыўзнятыя пачуцці валодаюць Сяргеем. З таго часу, як надзеў шынель, так сябе не адчуваў. Хочацца штосьці зрабіць, нечым выхваліцца, звярнуць на сябе ўвагу.

— Люся табе піша? — пытае Сяргей у Васіля.

— Піша.

— Колькі пісем палучыў?

— Чатыры.

Сяргей ад Галі не палучыў ніводнага. Перад яго адпраўкай у запасны полк яна прыходзіла ў мястэчка, у хаце знаёмай дзяўчыны яны прасядзелі ноч. Але яшчэ праз дзень Сяргей напаткаў Галю на вуліцы, яна нават не спынілася, каб развітацца, і толькі памахала рукой. Дый проста не магла Галя спыніцца, бо суправаджалі яе два маладыя лейтэнанты ў новых шынялях і рамянях, з бліскучымі пагонамі.

Пра жыццё Сяргей думае высока, узнёсла, таму не знаходзіць нічога нязвычнага ў паводзінах дзяўчыны. Галя прыгожая, кавалераў хоць адбаўляй, а ён не зрабіў нічога такога, каб яна кінулася яму на шыю. Няма ў яго камандзірскага шыняля, бліскучых пагонаў. Няхай пройдзе праз агонь вайны, здабудзе ўсё гэта, тады думае пра каханне такой дзяўчыны, як Галя.

Але недзе ў глыбіні душы жыве і крыўда на Галю. Іх сяброўства пачалося ў школе, цягнецца болей як тры гады. Галя (яна жыве ў суседняй з мястэчкам вёсцы) першая напісала яму запіску, прапанаваўшы дружыць. Сама, між іншым, дзіўна дружбу разумее. Ад другіх дзяўчат Сяргей атрымлівае лісты, ад Галі — ніводнага.

Эшалоны праносяцца праз станцыю не спыняючыся. Можа, дзе-небудзь намячаецца наступленне, падкідваюць падмацаванне. Куды толькі трапяць яны, хлопцы? На які фронт? І чаму іх вязуць на поўнач, а не на захад?

Невядомасць, няпэўнасць найбольш вярэдзяць душу, прыгнятаюць.

Пракопчык шкандыбае насустрач. Кампанію пакінуў. Аднекуль паяўляецца Косця Ціток.

— Мы за дрывамі хадзілі,— гаворыць Сяргей да Мікалая.— Маглі ад эшалона адстаць. Ты ля печкі зад грэеш, а пра дровы забыў...

— Я ля дзяўчат пагрэўся. Цёпленькія сібірачкі. Харошанькія. Толькі галда вялікая. Нельга прытуліцца.

— Жывёліна ты, Мікалай. Пра сябе аднаго думаеш.

— Пра каго мне яшчэ думаць? Калі вы такія правільныя, думайце пра другіх.

Косця Ціток умешваецца ў гаворку:

— Пракопчык і прахвост — сінонімы. Прыслухайцеся: «пра» ў тым і другім слове. «Копчык» азначае астатак хваста. Што пракопчык, што прахвост — сэнс аднолькавы...

Мікалай не крыўдуе. Перад тым як залезці ў вагон, выкладвае навіны. Дзяўчаты з-за Урала, хоць горад не называюць. Працуюць на ваенным заводзе. Дык вось, у апошні час нават з арміі сталі вяртаць некаторых, бо рабочых не хапае. Жанчыны, дзеці стаяць за станкамі. Прызыўнікам, якія працуюць на заводзе, даюць бронь. Нягледзячы на ўзрост...

Цяпер справа так выглядае, што дзеля таго, каб вывудзіць гэтыя цікавыя навіны, Мікалай і каля дзяўчат аціраўся.

— Нас гэта не датычыць,— гаворыць Сяргей.— Прынялі прысягу.

— Чаму вязуць на поўнач?

— Далёка цябе завезлі? Яшчэ Масквы не паспелі праехаць.

Позна. Трэба спаць. Заўтра ўсё праясніцца. За салдат ёсць каму думаць.

## II

Назаўтра працягваецца тое самае: гадзіну едуць, дзве стаяць. Пайковы тэрмін скончыўся. Цяпер як бы само сабой вынікае права пасягаць на недатыкальны запас. Але ніякага запасу ў Сяргея фактычна няма. Два сухары, маленькі шкуматок сала — усё, што асталося. Праклінаючы сябе за слабавольнасць, Сяргей патрошку адламвае ад сухара. Есці хочацца страшэнна. Ён круціць тоўстыя цыгаркі, курыць, стараючыся адагнаць голад, але гэта паратунак слабы. Хлопцы лепш умеюць трымацца. У Васіля бляшанка кансерваў не скончана і сухароў, мабыць, пяць ці шэсць штук. Мікалай наогул не паказвае, што ў яго ёсць.

На прыпынку ў цяплушку порстка залазіць Багдан Мялешка, кулямётчык. Для сваіх дзевятнаццаці гадоў Багдан таўставаты, яго шырокі, дабрадушны твар густа засеяны вяснушкамі.

— Хто старэй сарака гадоў — да мяне! — гукае Багдан.

Ён нават нейкую скамечаную паперку з кішэні штаноў дастае.

— Што такое? — з верхніх нараў звешваецца абстрыжаная, круглая, нібы гарбуз, галава дзядзькі.

— У саўгас запісваю. Будзеце, дзядзькі, рэпу сеяць і бульбу. Ад пуза будзеце есці рэпы і бульбы!..

Дзядзька, трохі падумаўшы, лаецца і зноў хавае галаву пад шынель.

Рагамед сарамаціць Мялешку:

— Звернеш галаву, Багдан. Нарвешся.

— Што я такое раблю?

— Не блазнуй. Людзей бунтуеш.

— Хіба нельга пажартаваць? Я народ развясельваю. Мяне можна палітруком прызначыць. У вас які настрой?.. Лежыцё дзень і ноч, ад сну папухлі. Пра фронт трэба думаць. Як праклятых фашыстаў выганяць з роднай савецкай зямлі...

Па партызанах Сяргей Мялешку не ведае: ён з брыгады суседняга раёна. Хлопец адчайны. Пахваляецца: падарваў шэсць эшалонаў. Падобна на праўду.

У запасным палку, у курылцы — пад яе адвялі нізенькую цёмную баковачку, адгарадзіўшы дошкамі ад вялізнага, нібы

кіназала, памяшкання роты,— Мялешка, не вельмі спрытна скручваючы каструбаватымі пальцамі цыгарку, звяртаўся да кожнага, хто на той час прысутнічаў:

— У партызанах — глуш. Правіцельства далёка. Зробіш подзвіг — і далей атрада ніхто не ведае. На фронце — другая справа. Я вот дзірачку гатоўлю.— Мялешка торкае сябе пальцам у левую частку грудзей.

— Нашто гатовіць. Куля сама знойдзе месца...

— Я не пра тое. Міхаіл Іванавіч прывінціць мне сюды залатую зорачку...

— Які Міхаіл Іванавіч?

— Ён адзін, Міхаіл Іванавіч. Усесаюзны стараста. Нашаткую кулямётам сотні дзве фрыцаў — прыкруціць.

У курылцы — ціхім, святым для тубыльцаў запаснога палка месцы,— седзячы на кукішках вакол печкі, зробленай з жалезнай бочкі, успаміналі дамоўку, стравы, якія калі-небудзь хто еў, абмяркоўвалі норавы непасрэдных начальнікаў, і ніхто ніколі не вёў размоў пра ўзнагароды. Мялешка вёў. З душы яго нібы выпраменьвалася нястрымная сіла. Мялешка, першы нумар, не адыходзіў ад вучэбнага «максіма» нават у скупыя хвіліны, якія адпускаліся салдатам на асабістыя справы. Мог за лічаныя імгненні, хоць сярод ночы разбудзі, разабраць і сабраць кулямёт, ведаў у ім самую непрыкметную шрубку, дэталь. Мялешка, як жывое срэбра, імклівы, непаседлівы, заўсёды вясёлы.

Увогуле ў запасны полк партызан трапіла няшмат. Прыдняпроўскія раёны поўдня і ўсходу Беларусі вызвалілі ў ліку першых восенню сорак трэцяга. Наступленне было на зыходзе, выдыхалася. Партызан з Сяргеевага раёна, нават не пераапрануўшы ў чырвонаармейскую форму, уключылі ў мясцовыя, малапаспяховыя баі.

Вось і Вязьма. Удалечыні відаць раскіданыя па шэрых вуліцах драўляныя дамкі, голыя дрэвы, якія шастаюць цёмнымі галінамі. Абсяг чыгуначных пуцей шырокі, разлеглы. На самой станцыі відавочныя сляды разбурэння. Стаіць некалькі задымленых каробак — памяшканняў без акон, на іх сценах яшчэ відаць малюнкі-разводы маскіроўкі. Валяюцца вялізныя

цэментовыя кубы, кучы цэглы, скручанага, пагнутага жалезнага лому.

Колькі думаў пра Вязьму Сяргей!.. Яе назва часта мільгала ў нямецкіх ваенных зводках. Калі ў першую ваенную зіму немцаў адагналі ад Масквы, іхні фронт замацаваўся на ўсход ад Вязьмы. Доўга яны тут тырчалі — зіму, лета і яшчэ зіму. Не маглі ніяк паверыць, што з Масквой, якую бачылі ў біноклі, збіраліся схапіць, як паспелы яблычак, прыйдзецца развітацца, ды так ганебна.

У цяплушку залазяць васьмікласнікі Андрэй Шпет і Павел Арабейка. Сяргей іх добра ведае: разам выпускалі школьную насценгазету. Абодва мастакі, рабілі малюнкі, сябруюць. Яны нават да падпольных спраў у апошнія месяцы акупацыі далучыліся. Звязаны былі з Мікалаем Пракопчыкам — Сяргей тады быў у лесе, у партызанах.

— У Андрэя ў Вязьме дзядзька,— звяртаецца да Сяргея маўклівы, насмешлівы Арабейка.— Хочам схадзіць да яго. Можа, пачастуе...

— Ідзіце,— дазваляе Сяргей.

— Дай увальніцельную.

— Зараз Васіль напіша. Ты ж ведаеш — ён начальнік штаба.

— Пячатка ёсць?

— З яго подпісам паверацъ без пячаткі...

У суседняй цяплушцы яшчэ двое васьмікласнікаў. Абодва па-свойму прыкметныя. Маленькі, шустры Дубавец — ён родам не з мястэчка, з суседняй вёскі — выславіўся ў школе як незвычайна абыходлівы кавалер. Вучыўся не надта, да восьмага класа дабраўся, маючы за плячамі гадоў васямнаццаць, але затое вельмі спрытна пакручваўся ля дзяўчат.

Пісаў ім запіскі, купляў білеты ў кіно, меў поспех — прыходзілі дзяўчаты на прызначаныя спатканні.

Косця Русаковіч, у процілегласць Дубаўцу, хлапчына сур’ёзны. Ён рана пасталеў, раздаўся ў плячах — у шаснаццаць гадоў мужчына. Хадзіў разам з бацькам на малярныя работы. Ішлі па мястэчку, аднолькава перастаўляючы ногі, калываючыся, з аднолькавымі доўгімі тварамі, выпацканыя пабелкай, вапнай, і цяжка іншы раз было адрозніць, хто сын, а хто бацька.

Мала хто ведаў, што ў Косці Русаковіча добрае сэрца. У сорак першым годзе пры налёце на станцыю нямецкіх самалётаў забіла асколкам бомбы грузчыка Ляпеху. Асталася жонка з траіма дзецьмі. Русаковічы жылі побач з Ляпехамі. Гледзячы, як марнуецца маладая Ляпехава жонка, Косця пачаў ёй патрошку памагаць. Праз месяц-два ў хату да яе перайшоў. Ажаніўся ў васямнаццаць гадоў з трыццацігадовай жанчынай, чужым дзецям бацькам стаў.

Сяргей адчувае: усіх прыгнятае няпэўнасць. Згаворваліся, збіраліся на Украіну, дзе вясна, цяплынь, а едуць невядома куды. І ў запасным палку, і тут школьныя хлопцы цягнуцца да гурту, арганізацыі. Дзякуючы гэтаму ў адну маршавую роту трапілі. Сяргей найгарачэй агітаваў не разлучацца, трымацца разам, цяпер яму не надта прыемна, калі да яго звяртаюцца як да старшага. Што ён можа? Армія — не мястэчка і нават не запасны полк...

Эшалон кранаецца. Павел з Андрэем ужо на хаду выскокваюць з цяплушкі.

Нягледзячы на згрызоты, якія вярэдзяць душу, Сяргей рады, што трапіў у армію. Ён ужо бачыў, ведае: вайна — цяжкая крывавая справа. Рамантыкі ў ёй мала. Калі з атрада Сяргея з таварышамі паслалі ўстанаўліваць сувязь з часцямі Чырвонай Арміі, якія пасля двухмесячнай затрымкі каля Дняпра зноў рушылі ў наступленне, ён, убачыўшы першых савецкіх салдат, трохі здзівіўся. Уяўляў іх волатамі, казачнымі асілкамі, а яны былі вельмі ж ужо звычайныя.

У сорак першым Сяргей з халадком у душы думаў пра нямецкую магутнасць: столькі самалётаў, танкаў, гармат, машын. Нашы адступалі з аднымі вінтоўкамі, некаторыя нават без вінтовак, без кубікаў, нашывак і іншых знакаў вайсковага адрознення, і цяжка было паверыць, што гэтае войска справіцца з нямецкай магутнасцю. Аднак справілася.

За два гады акупацыі, не ўяўляючы фронту, баёў, Сяргей пачаў ідэалізаваць армію. Немцаў спынілі пад Масквой, разграмілі пад Сталінградам, Курскам. Салдаты пачалі ўяўляцца Сяргею людзьмі з нязломным духам, казачнымі волатамі.

У балотным саўгасе, размешчаным за чатыры вярсты ад мястэчка, Сяргей упершыню ўбачыў чырвонаармейцаў, якія

наступалі, выганялі немцаў, прыйшлі на Палессе ад самага Сталінграда. Некаторыя мелі на шынялях, гімнасцёрках адтапыраныя, скамечаныя пагоны, большасць нават пагонаў не прышыла. Вось такія людзі і былі, выходзіць, волатамі.

Радасць ад сустрэчы была агромністая, шчырая, непадробная. Першымі ў саўгас уступілі разведчыкі, маладыя, прыкладна Сяргеевага веку, хлопцы, у новых фуфайках, рамянях, з аўтаматамі. Абнімаліся, цалаваліся, потым шасталі па хатах саўгаснага пасёлка, шукаючы самагонкі, каб адзначыць сустрэчу. У той жа дзень Сяргей з таварышамі прывёў разведчыкаў у партызанскі лагер.

Разведчыкі — кропля ў моры. Інтэлігенцыя вайны. Пажылых пехацінцаў, якія паявіліся ў саўгасе ўслед за разведчыкамі, здаецца, мала цікавіў факт, што яны вызвалілі яшчэ адзін населены пункт. Відаць, многа такіх пасёлкаў, як саўгас, было на іх шляху.

Пехацінцы, у абшарпаных, вымазаных у гліну шынелках, як толькі прыйшлі ў саўгас, нават не пытаючы дазволу ў камандзіраў, пачалі акопвацца. Пазіцыі выбралі ўскрай лесу. Панура, не спяшаючыся, выкідвалі лапаткамі шараваты падзол, пясок на бруствер, закурвалі, маўкліва разглядалі наваколле і зноў капалі.

Такія ж салдаты былі ў мястэчку. Калі Сяргей пераступіў парог роднага дома, там ужо гаспадарылі яны. Ні маці, ні братоў у хаце не было — не вярнуліся, яшчэ хаваліся ў лесе. Салдаты ж самахоць раскрылі капец з бульбай і варылі яе ў кацялках, чыгунках. Потым натаўклі бульбяной кашы і елі яе з хлебам. З харчоў у іх быў толькі хлеб.

Убачыўшы хлопца з вінтоўкай, з чырвонай паскай на пілотцы, салдаты ніколькі не здзівіліся. Відаць, ім прыходзілася бачыць партызан. Запрасілі паабедаць. Сяргей сеў за стол, еў кашу з хлебам, а салдаты тым часам расказвалі, што яны прыйшлі ў палескае мястэчка з самага Сталінграда. Сталінград у сваіх гаворках яны паміналі часта.

Потым Сяргей хадзіў па надворках таварышаў, трапіў у другі, процілеглы канец мястэчка. Малюнак усюды быў аднакі — салдаты елі хлеб, бульбу, зусім не наракаючы на лёс.

Сяргей выменяў сваю вінтоўку на аўтамат — хацелася падурэць перад местачковымі дзяўчатамі. Нейкі шчупленькі

ездавы аддаў яму аўтамат і ўзяў вінтоўку з вялікай ахвотай, але далей ледзь не здарылася бяда. Карыстацца як след аўтаматам Сяргей не ўмеў і ў адной хаце, пераводзячы пераключальнік з чаргі на адзіночныя стрэлы, нечакана стрэльнуў. Куля адбіла кавалачак тынку над галавой салдата, які сядзеў за сталом. Той пабялеў.

— Ты страляў калі-небудзь? — выгукнуў ён.

— Страляў,— стрымліваючы хваляванне, сказаў Сяргей.— Прабачце. Ненарокам выйшла.

Сяргей хацеў трапіць у армію, каб самому прайсці праз вайну, перанесці тое, што і салдаты, якія вызвалілі мястэчка і навакольныя вёскі. Многа іх той восенню і на пачатку зімы ён пабачыў. Мяняючыся праз дзень-два, яны жылі ў іхнім доме — артылерысты, пехацінцы. Некаторыя нават адрас запісвалі, каб перапісвацца. Была такая патрэба ў тых салдат — пісаць і атрымліваць лісты ад людзей, якіх яны сустрэлі на сваім шляху.

Фронт пралягаў кіламетраў за дваццаць — трыццаць ад мястэчка, у тых якраз мясцінах, дзе Сяргей партызаніў. Зіма стаяла гнілая — разводдзе, лужы, гразь. Салдаты, якіх адводзілі на адпачынак, былі амаль усе прастуджаныя, ірвучы ад натугі лёгкія, кашлялі, хрыпелі, стагналі ў сне.

Так, Сяргей мусіў прайсці праз тое, што і салдаты, у адваротным выпадку ён бы сам сябе не паважаў, нешта ў яго душы зламалася б. Толькі надзеўшы шынель, ідучы па салдацкіх дарогах, ён меў права спяваць ваенныя песні, якіх столькі за вайну нарадзілася і якіх ён не ведаў, пакуль жыў пад акупацыяй. Ён любіў гэтыя песні — «Сінюю хусцінку», «Зямлянку» і некаторыя іншыя.

Пракопчык прышывае падкаўнерык. Увогуле ён вельмі ахайны, акуратны, уважліва сочыць за сваёй знешнасцю. Нават кругленькае люстэрка носіць у кішэні, раз-пораз у яго ўзіраючыся. Прыгажуном Мікалая не назавеш: чарнявы твар, цёмныя вочы, вялікі нос, які на холадзе робіцца сіняватым. Штосьці сімпатычнае ў Мікалаевым твары, аднак, ёсць, як і ў яго шчуплаватай постаці. З усіх местачковых хлопцаў, якія едуць у эшалоне, найбольшы поспех у дзяўчат меў Мікалай. Калі астатнія стаялі з дзяўчынай дзе-небудзь у зацішку,

трымаючы яе за руку, ці, у лепшым выпадку, сядзелі на лавачцы і разоў колькі пацалаваліся, то пра Мікалая вядома дакладна, што ён да дзяўчат начаваць хадзіў.

Вытлумачыць разумнымі прычынамі Мікалаевы перамогі над прыгожым полам немагчыма. У школе Пракопчык вучыўся пасрэдна, не вызначаецца ён таксама дасціпнасцю ці іншымі выдатнымі якасцямі. І ўсё ж дзяўчаты да яго хінуцца. Чаму? Застаецца загадкай. Мікалай, у адрозненне ад другіх хлопцаў, ніколі не гаворыць з дзяўчатамі пра сур'ёзнае, а калі гаворыць, то стараецца вывернуць на смешнае. Ён увогуле заўсёды выстаўляе адваротны, смешны бок рэчаў і з'яў. І не прытвараецца, а іменна так глядзіць на свет.

Аднойчы Сяргею пашэнціла натрапіць на дзённік, у які Мікалай запісваў важныя, на яго погляд, падзеі — ён прымаў у іх чынны ўдзел ці быў сведкам. Было не па-таварыску зазіраць без дазволу чалавека ў яго дзённік. Але Мікалай з хаты выскачыў, і, чакаючы яго, Сяргей не ўтрымаўся перад спакусай, прачытаў некалькі старонак. Там былі такія запісы: «Маці шаткавала капусту. Хадзіў купляць соль. Вечарам хадзілі з бацькам красці дошкі з будаўніцтва. Вартаўніка не было, і мы прынеслі дошак: чатыры бацька, тры я...»

— Трэба кіпню дастаць,— гаворыць Сяргей.— У Вязьме прахлопалі, не схадзілі...

— Чаму я адзін павінен для ўсіх бегаць?

— Па што ты асабліва бегаў?

Мікалай пачынае пералічваць, што зрабіў для вагона: два разы прыносіў кіпень, сухадрэвіну на распал укінуў, калена для трубы знайшоў, і дым цяпер не забівае ветрам у вагон.

— Бухгалтар ты,— гаворыць Сяргей.

— Няхай бухгалтар. Але навёў бы парадак. Ты нават днявальных не прызначыў...

Мікалай гаворыць праўду. Разам з тым чагосьці не ўлічвае. Тэрмін, на які выдалі прадукты, канчаецца. Значыць, хутка прыедуць. Большая палавіна людзей незнаёмыя між сабою. Пажылыя дзядзькі, якіх большасць у вагоне, на знаёмства не набіваюцца, ашчаджаюць сілы, спяць, ведаючы, што едуць не ў госці. Ведаюць і тое, што іх разам пасадзілі на некалькі дзён, затым пашлюць у розныя ўзводы, роты. Гэтак, як маладыя местачкоўцы, не трымаюцца адзін другога.

Сяргей адчувае: дзядзькі іначай глядзяць на свет, на жыццё, чым ён, яго таварышы. Зрэшты, дзядзькі болей пабачылі. Большасць у арміі другі раз, некаторыя, хто служыў кадравую,— трэці. Бачылі дзядзькі акружэнне, палон сорак першага года, шчасліва вырабіліся адтуль, прыбрылі дадому. Але і дома пад нагамі зямля гарэла: партызаны грамілі паліцэйскія гарнізоны, немцы наладжвалі карныя экспедыцыі. Нарэшце фашысты папалілі, вынішчылі вёскі, некаторыя — разам з жыхарамі. Дзядзькі едуць на фронт, а ў іх жонак, дзяцей нават прытулку няма: сядзяць у зямлянках — галодныя, халодныя...

Невялікі прыпынак. Днявальныя, якіх Сяргей такі прызначыў, прыняслі адразу два вядры кіпню.

Услед за днявальнымі ў вагон ускокваюць Багдан Мялешка і Косця Ціток. Відаць, хлопцы пастаянна шастаюць з цяплушкі ў цяплушку.

Пачынаюць варушыцца дзядзькі. Злазяць з верхніх, ніжніх нар, развязваюць сідары, чэрпаюць кружкамі, бляшанкамі ад кансерваў кіпень. Дзядзькі, лежачы на нарах, ашчаджаючы сілы, харч прыхавалі. Ёсць яшчэ ў іх хлеб, шмальц, шпіг. З прагнасцю пазіраюць на гэтае багацце Багдан Мялешка і Косця Ціток. Відаць, таксама дарэшты прыкончылі прыпасы.

— Я дурань! — гучна заяўляе Мялешка.— Два нашы атрады пайшлі на захад. Мог я быць з хлопцамі. Беларусь ляжыць пад акупацыяй, і наша задача — рэзаць гансаў на роднай зямлі. Выпіў бы цяпер самагоначкі, каўбаскай закусіў...

— Каўбасы захацеў,— кідае нехта з дзядзькоў.— Хоць бы шрапнелі далі. Я два кацялкі навярнуў бы...

— Не ўмелі цаніць жыцця. Баба наварыць чыгун бульбы, паставіць гладыш прастаквашы, дык яшчэ нос вернеш...

— Сюды б той чыгун...

Ацаніўшы сітуацыю, у гаворку ўступае Косця Ціток.

— Можа, выдадуць паёк грэцкай мукой, то тады трэба наварыць кулагі,— звяртаецца да дзядзькоў.— Кулагу вараць так: учыняюць, дабаўляюць соладу, ставяць на печ. Яна пачынае балбатаць, як самагонка, і тады яе вараць...

Дзядзькі пасміхаюцца:

— Пачакай, будзе табе кулага...

— Там забалбочаш...

Гаворкі пра яду частыя. Нават залішне частыя. Засумавалі па дамашнім харчы дзядзькі і хлопцы ў запасным палку. Там трэцяя катэгорыя, хлеба ніштавата давалі, а прыварак мізэрны. Ды і не сядзелі склаўшы рукі. Цягалі з лесу на плячах велічэзнае бярвенне, будавалі новыя баракі. Пра першую катэгорыю, якую дадуць на фронце, проста марылі. Першая катэгорыя, як неба ад зямлі, адрозніваецца ад трэцяй.

Малюнкі, якія відаць з вагона, робяцца весялейшыя. Менш чэзлых балацянак, больш беразнякоў, сасоннікаў. Але сляды разбурэння вялікія. Ніводнай уцалелай станцыі на ўсім шляху. Іншы раз відаць вёсачкі — іх забудова інакшая, чым у Беларусі. Там двухпавярховых драўляных домікаў не ўбачыш; няма аканіц, ліштваў з такой узорыстай разьбой.

Фронт далёка — за сотні кіламетраў, але на кожнай станцыі салдаты. Нібы ўся Расія апранулася ў шынялі. Па чыгунцы нясуцца толькі воінскія эшалоны. На фронт вязуць салдат, танкі, артылерыю. З фронту часцей за ўсё ідуць санітарныя паязды — напалавіну з пасажырскіх вагонаў, напалавіну з цяплушак.

І зіма не здаецца. Пачалася адлігамі, расхлябіцай, дажджамі, цяпер, хоць на дварэ сакавік, нібы наганяе ўпушчанае. Свішча вятрамі, сыпле снегам.

З раніцы Сяргей нічога не еў, але адчувае сябе ніштавата. Можна без яды жыць, толькі не трэба пра гэта думаць. Васіль даваў сухар, нават шкуматок сала, але Сяргей наадрэз адмовіўся. Паёк усім аднолькавы быў. Нельга аб'ядаць таварышаў.

Поспехі на фронце відавочныя: немцам зрабілі новы «кацёл» — на Украіне, пад Звенігародкай і Шполай,— але Сяргей менш за ўсё цяпер думае пра франтавыя падзеі. У акупацыі дня не было, можа, нават гадзіны, каб ён не думаў пра тое, што робіцца на фронце. Думка сядзела ў галаве востра і неадчэпна, як загнаны цвік. Але як толькі Сяргей разам з партызанамі, байцамі ступіў у мястэчка, якое зноў стала савецкім, трывога пра справы на фронце знікла. Савецкія войскі вызвалілі Житомір, тыдні праз два здалі, але гэта востра не закранула Сяргея. Калі вясной такое здарылася з Харкавам, ён месца сабе не знаходзіў.

Цяпер Сяргей найбольш думае пра сябе. І пра Галю. За два акупацыйныя гады Сяргей бачыў Галю два разы. І не надта часта ўспамінаў. Між імі было няшмат чаго: запіскі, якімі абменьваліся ў школе, выпускны вечар, на якім Сяргей сядзеў побач з Галяй, паўночы, праведзенай на лавачцы.

Пасля вызвалення прыбавілася найбольш важная сустрэча. Перад тым як пайсці ў армію, Сяргей праседзеў цэлую ноч з Галяй у хаце іх аднакласніцы Параскі Бастун. Дык вось, тады, у акупацыю, Сяргей не надта часта ўспамінаў Галю, не рваўся з ёй сустракацца. Хацеў займацца сардэчнымі справамі пасля вайны. Хоць, навошта маніць, успамін пра Галю і тады захлістваў грудзі хваляй пяшчотнасці. Галя здавалася асаблівай, незвычайнай — як ніякая другая дзяўчына. З ёй Сяргей як след ні разу не пагаварыў. Калі сустракаўся, дрыжаў, хваляваўся, узбуджваўся і гаварыў зусім не тое, што хацеў сказаць і што думаў.

Можа, таму, што Галя жыла наводдаль і Сяргей яе амаль не бачыў, ён пачаў пахаджваць з другой дзяўчынай — Алімпіядай. Галю таксама кавалеры ўвагай не абміналі: чуткі да Сяргея даходзілі. Але ён лічыў усё глупствам. Галя нічым не абавязана яму, ён — ёй. Няхай гуляе — з кім хоча.

І ўсё ж Сяргею крыўдна, што вышыты кісет падаравала яму Алімпіяда, а не Галя. З Алімпіядай ён проста так хадзіў. Можа, не зусім так, трохі яна падабалася. Тады, калі вучыўся ў школе, была тоненькая, пушысценькая, беленькая. З ёй пад руку ён хадзіў намнога больш, чым з Галяй, і на лавачках, плятнях яны больш сядзелі. Хоць пра каханне не гаварылі і ні разу нават не пацалаваліся.

Тут, удалечыні ад роднага дома, мястэчка, Сяргей выразна адчуў, што яму не трэба Алімпіяда, другія дзяўчаты, трэба толькі Галя. Вобраз яе неадступна стаіць перад вачамі, і толькі пра яе ён думае з радасцю. Успамін аб дзяўчыне нязменна нараджае салодка-шчымлівае пачуццё. Яна — нібы тайна, загадка, як зіхатлівая вяршыня, якой імкнешся дасягнуць.

Сяргей цяпер перабірае ў памяці ўсе словы, якія калі-небудзь пачуў ад Галі, усе яе жэсты, рухі, усмешкі, бачачы ў іх нейкі патайны сэнс. Яму няма ніякай справы да таго, што

Галя не надта добра вучылася, выходзячы да дошкі, гублялася. На твары яе ў такія хвіліны выступалі чырвоныя плямы, яна змаўкала, не могучы прамовіць слова. Гэтыя рэчы не маюць цяпер для яго ніякага значэння. Ёсць штосьці істотнейшае: Галіна пастава, яе крамянае, моцнае цела, і асабліва выраз яе твару, нейкая таямнічая ўсмешка, загадкава-прызыўны бляск як бы трохі зеленаватых вачэй.

Прыемнае, шчымліва-салодкае пачуццё вынікае няўхільна, як толькі Сяргей выклікае ва ўяўленні вобраз Галі. У параўнанні з ёй блякнуць усе астатнія дзяўчаты. Яму трэба толькі Галя, яна адна.

Астатнім дзяўчатам Сяргей можа прапанаваць толькі дружбу. Алімпіядзе таксама. Ён нікольні не прыніжае знаёмых дзяўчат, яны добрыя, спагадлівыя, прыгожыя. Але такога пачуцця, як Галя, у душы не выклікаюць.

Сяргей напісаў лісты Алімпіядзе і яшчэ дзвюм-тром знаёмым дзяўчатам, з якімі разам вучыўся. Ад іх атрымаў адказы. Алімпіяда нават два лісты прыслала. Толькі Галя маўчыць. Ад гэтага Сяргею няўтульна і самотна.

На прыпынку зноў прыносяць два вядры кіпню. У вагоне на нейкі час робіцца мітуслiва і весела. Сядзяць хто дзе: на нарах, на кукішках вакол пячуркі, ля сцен. П’юць чай. На гэты раз развязаў сідар нават Мікалай Пракопчык. Прапануе Сяргею сухар. З увагі на бязрадасную будучыню Сяргей здаўся — узяў сухар, а ад Васіля — лыжку цукру. Прадчуванне такое, што яздзе канец. Прабег узбоч эшалона камандзір маршавай роты, пажылы, прысадзісты малодшы лейтэнант з партупеяй на шынялі і туга напакаванай палявой сумкай. Загадаў зрабіць пераклічку.

Сяргей ведае малодшага лейтэнанта. Ён іншы раз заглядваў у ротную курылку, маўкліва сядзеў на чурбачку каля печкі і, калі яго частавалі тытунём на самакрутку ці печанай бульбінай, далікатна дзякаваў. У лейтэнанта, відаць, сям’я, на фронце не быў, як можа, трымаецца за запасны полк, хоць не салодка там і лейтэнантам. Кормяць іх ненамнога лепш, чым байцоў.

Эшалон стаіць. Байцы высыпаюць з вагонаў. Дзень канчаецца. За дальнім лесам заходзіць сонца. Ад малюнка

незнаёмай мясцовасці як бы патыхае злавеснасцю. Местачковыя хлопцы сабраліся асобнай купкай. Выгляд ва ўсіх як бы прыгнечаны. У запасным палку прымалі актыўныя меры, каб апынуцца разам, у адной маршавай роце. Ротны пісар, што складаў спіс, перасыпаўшы ў сваю кішэню тры ці чатыры шклянкі самасаду, купленыя па высокай цане ў станцыйных баб, стаў згаворлівы, падатлівы, зрэшты, зрабіў тое, аб чым яго прасілі. Але навошта стараліся? Ад таго, што хлопцы цяпер разам, ім не лягчэй. Можа, нават горш. Прыходзіцца як бы цягнуцца аднаму перад другім. І нічым адзін другому яны не дапамогуць.

У запасным палку былі і другія местачковыя хлопцы, дзядзькі. Аднак на ражон не палезлі. Асталіся чакаць законнай адпраўкі.

— Будзе вам Украіна,— кідае Косця Ціток.— Загоняць — куды Макар цялят не ганяў. У якія-небудзь балоты.

Гэта як бы каменьчык у Сяргееў агарод. Іменна Сяргей даказваў, што, паколькі актыўна дзейнічаюць украінскія франты, верагоднасць трапіць туды найбольшая.

Нечакана Сяргея падтрымлівае васьмікласнік Павел Арабейка.

— Арцеллю нават бацьку біць лепей,— спрабуе жартаваць.— Ніхто нічога не ведаў. Што мы страцілі? Параніць каго ці заб'е, дык яго таварыш хоць матцы напіша. І то лепей, чым казённая папера...

Хлопцы весялеюць. Разам усё-такі лепей.

— Нас вязуць на фарміроўку,— узрадаваўшыся падтрымцы, гаворыць Сяргей.— Фарміруецца ці папаўняецца воінская часць. Нас туды ўвальюць. Куды адправяць воінскую часць — невядома...

У Сяргеевым голасе нават крыўда. Калі па шчырасці, то не адзін ён падбіваў хлопцаў не разлучацца. Той жа Косця Ціток за гэта агітаваў. Быць разам, узаемавыручка і гэтак далей. Цяпер у кусты...

Малодшы лейтэнант выклікае старшых па вагону. Правярае спісы, распытвае аб здарэннях. Здарэнняў няшмат: двое адстала, аднаго хворага пакінулі на медпункце ў Сычоўцы...

## III

Ноччу прыехалі ў Ржэў. Сяргея як бы ў сэрца кальнула. Шматпакутны горад. Пад Ржэвам, як і пад Вязьмай, доўга стаяў фронт. Гісторыя нібы ўвачавідкі разгортвае перад Сяргеем свае скрыжалі.

Выгрузіліся. Холадна пасля цяплушкі. Байцы стаяць, пацепваюць плячамі. Агнёў на станцыі няма. Чарнеюць нейкія будыніны, вісіць паўбоханчык месяца.

У хуткім часе калона рушыла ад вакзала. Хрупасціць пад нагамі зашэрхлы лядок. Ідуць спачатку пустыром ці полем, далей абрысы вуліцы вызначаюцца. Але своеасаблівая вуліца. Па абодва бакі невысокія муры з цёмнымі праёмамі акон і дзвярэй. Зірнеш у акно — неба ўбачыш. Ля мuроў калона спынілася.

Каманда: разысціся па памяшканнях. Можна паліць кастры. Унутры гэтых самых памяшканняў.

Сяргей, Васіль Лебедзь і Мікалай Пракопчык трымаюцца разам. Заглядваюць у адну каробку, у другую. Раскоша ўсюды аднолькавая. Замест падлогі абледзянелыя кучы тынку, цэглы. Калі і зазіраў хто ў памяшканні, то толькі па пільнай патрэбе. Хлопцы нарэшце натыкаюцца на болей-меней прыстойны закутак. Тут ужо гаспадараць тры ці чатыры дзядзькі, нават дзверы ў пакойчык плашч-палаткай завесілі.

— Можна да вас? — пытае Сяргей.

— Можна. Са сваімі дрывамі.

Рушылі шукаць дроў. Узабраліся на пагорак. У месячным святле ляжыць перад хлопцамі Ржэў. Цэнтр — абгарэлыя каробкі, руіны. Доўга, адчайна, без прыкметнага поспеху штурмавалі савецкія войскі горад. І першай ваеннай зімой, стараючыся адагнаць ворага падалей ад Масквы, і крывавым летам, калі немцы напіралі на Сталінград. Сяргей у думках дакараў некалі воінаў: топчуцца на месцы, марудна прасоўваюцца наперад. Што ж, браце, цяпер сам ты салдат, ёсць поўная магчымасць імклівей разгортваць наступленне. Цябе таксама хто-небудзь чакае. Яшчэ многа зямлі пад немцам. Нават тваёй Беларусі вызвалена пакуль невялікая частка. Так што паказвай, даказвай, чаго ты варты. Пакуль што

знайдзі хоць палена дроў. Тых, што так доўга штурмавалі Ржэў, дрывамі таксама ніхто не забяспечваў.

Хлопцы, спусціўшыся з пагорка ў драўлянае прадмесце, брындаюць па дварах, агародах. Плятнёў, парканаў няма, калі і былі, то іх даўно расцягнулі, ахвотнікаў пагрэцца прайшло тут дай божа.

У прадмесці нехта жыве: закукарэкаў певень, яму адказаў другі. Недзе брэша сабака. Хлопцам робіцца весялей. Калі блізка жытло, то якіх-небудзь дроў знойдуць.

З гадзіну яны шастаюць, вяртаюцца, каб не заблудзіцца, да пагорка, спатыкаюцца з такімі, як самі, шукальнікамі дроў. Нарэшце, асмялеўшы, кіруюць вузкай грэбелькай да цёмнай купкі будынін, у адной з якіх нават агеньчык мільгае. Падышоўшы, бачаць некалькі драўляных дамкоў. Ля некаторых нават штыкетнік не парушаны. Мікалай першы рушыў да дамкоў. Раптам заве да сябе. З грэбелькі збочыў, завіхаецца ля цёмнай кучкі. Падышоўшы, хлопцы вачам не вераць. З-пад снегу вытыркаюцца касмылі сена. Відаць, тут стог стаяў, астаўся адзёнак. Тое, што трэба. Падаслаўшы сена, можна без агню перабіцца да раніцы.

Калі вярнуліся назад, за плашч-палаткай ужо весела патрэскваў агеньчык. Дроў дзядзькі не знайшлі шмат. Затое наламалі сухога бадылля, якога шмат па закінутых дворыках. А хлопцы прайшлі міма, не заўважылі.

Сенам зацікавіліся ўсе. Яно сапраўды важней за дровы.

— Дзе знайшлі?

— У гаспадыні папрасілі,— адказвае Пракопчык.— Больш няма.

Па жмаку сена, падаслаць пад бок, далі ўсім, хто ў закутку. Пасля гэтага як бы адчулі сябе гаспадарамі становішча.

— Трэба каго з хлопцаў пазваць,— гаворыць Сяргей.— Няхай пагрэюцца.

У Сяргея ўжо няма крыўды на Косцю Цітка. Разумее: плявузгае ад няпэўнасці. Праўду сказаў Арабейка: загадзя ніхто нічога не можа ведаць. Можа, яны яшчэ на Украіну трапяць...

Сяргей ідзе шукаць таварышаў. Зазірнуў у адну каробку, у другую, аклікаючы Косцю Цітка. Косці ў бліжніх каробках няма. Затое зусім нечакана Сяргей натыкаецца на стрыеч-

нага брата Адама. Адам з Пятром Герасімовічам касцёр не распалілі. Сядзяць, уткнуўшы насы ў шынялі, пад сцяной каробкі, паціхеньку дрыжаць.

З Адамам, Пятром прайшло дзяцінства. Раслі на адной вуліцы. Дня адзін без другога не маглі пражыць. Адам на год старэйшы за Сяргея. У дзіцячыя гады быў дужэйшы, спрытнейшы. Далей кідаў выразаным з бярозавай губы мячыкам, лаўчэй карабкаўся на тэлеграфны слуп.

Вучыўся Адам не вельмі добра. Сяргей не толькі яго дагнаў, але і перагнаў: Адам паспеў толькі сямігодку закончыць. Пятро таксама дружбак. Быў напорысты, злосны, нікому не даваў праходу. Калі яшчэ былі дзецьмі, дазволіў Сяргею пагуляць з калёсікам ад дзвярэй чыгуначнага вагона. Назаўтра Сяргей забыў прынесці калёсіка, і Пятро, напаткаўшы яго на вуліцы, ударыў жалезным прэнтам па руцэ. Пры гэтым дзіка выў, на губах нават пена выступіла. У Сяргея цэлы месяц балела рука.

Усе кірначы такія. Да трох не лічаць. У Пятра, яго бацькі, старэйшага брата вушы маленькія, па форме нагадваюць вясновыя грыбы смаржкі. Старэйшы Пятроў брат перад вайной забіў чалавека. Бяздумна, у адчайнай злосці гахнуў па галаве фактычна незнаёмага чалавека калом, праламаў чэрап. Засудзілі на дзесяць гадоў.

Тут, у арміі, Пятро ніжэй травы, цішэй вады. Сяргей заўважыў падобнае і на другіх хлопцах, якія да вайны здаваліся адчайнымі. Косця Цiток быў спартсменам, рабіў на турніку самыя складаныя практыкаванні, нават «сонца». У акупацыю, аднак, сядзеў як мыш пад венікам. Яго проста нельга было далучыць да небяспечнай справы — не дарос да яе.

Увогуле Адама, Пятра Герасімовіча, як і некаторых іншых Сяргеевых таварышаў, школьная навука глыбока не закранула. Ні адзін з прадметаў, якія выкладаліся, іх не захапіў, кніг хлопцы таксама не чыталі. Па гэтай ці па якой другой прычыне іх пасталенне як бы зацягнулася.

Зайшоўшы ў ціхі закутак, дзе і агеньчык гарыць, хлопцы падбадзёрыліся. Упершыню за тры дні дарогі добра пагаварылі. Разаслаўшы сена, шчыльна прыхінуўшыся адзін да другога, заснулі пад раніцу як забітыя. Аказваецца, і ў доме, дзе

няма акон, дзвярэй, падлогі, а зверху відаць зоркі, можна спаць.

Раніцай маршавую роту вядуць назад на станцыю. Пра снеданне новыя начальнікі нават не ўспомнілі: дзень пакрываецца выдадзеным у запасным палку НЗ. Яшчэ і заўтра трэба харчавацца гэтым НЗ.

— Эшалоны будзем разгружаць,— перадаецца па ланцужку.— Ці памяшканні чысціць.

Воінскія начальнікі сапраўды наспех ствараюць рабочыя каманды. Сяргей заўважыў: вялізны, хмурны старшына адбірае з шарэнгі найбольш рослых, дужых. Сяргей таркануў пад бок Васіля Лебедзя, запрашаючы далучыцца да каманды старшыны. Той адмоўна паківаў галавой. Сяргей адзін сігануў да старшыны. Спадзяваўся: будзе разгружаць эшалон.

Не памыліўся Сяргей. Дваццаць ці трыццаць чалавек, сабраных у каманду, старшына доўга вядзе па запасных пуцях, пятляючы між вагонаў, эшалонаў. Нарэшце прыводзіць на тупіковы пуць, дзе стаіць доўгі ланцуг пульманаўскіх вагонаў.

— Сена будзем разгружаць,— заяўляе старшына.— Цюкі трэба складваць у штабелі.

Вагонаў процьма. Старшына размяркоўвае па два чалавекі на вагон. Цюкі цяжкія, іх трэба ўскладаць на плечы, зносіць па хісткіх памостках, складваць у штабель.

Гадзіны праз дзве ў Сяргея ад натугі ные спіна, дрыжаць ногі. Фактычна ён другі дзень галодны. Учора з'еў толькі сухар, падараваны Пракопчыкам. Вось што значыць неашчадна аднесціся да пайка.

Са знаёмых у камандзе Мялешка.

Ён і тут некуды збегаў, прынёс весткі для Сяргея нярадасныя. З маршавай роты сфарміравана некалькі каманд. Адна нібыта выгружае прадукты, другая — цяжка паверыць — возіць муку на воінскую пякарню. Ніколі не трэба лезці наперад бацькі. Мог і Сяргей трапіць у адну з тых каманд.

— Там ахова,— гаворыць Мялешка.— Але хлопцы не ўпусцяць. Прыхопяць што-небудзь.

— Прыхопяць,— згаджаецца Сяргей.— А мы што будзем есці? Сена?

Пасля паўдня Сяргей зусім выбіваецца з сіл. Дзядзькі на хаду хрумстаюць сухары — прыхавалі НЗ. Спачатку гэта не-

рвуе Сяргея, абуджае незразумелую злосць. Потым ён супакойваецца. Ходзіць як заведзены — ускладвае на плечы цюк, нясе па сходнях, ускідвае на штабель.

Начаваць у разбітыя каробкі не вядуць. Размяшчаюць у драўляных дамах прадмесця. Сяргей не стаў ні ўмывацца, ні распранацца. Як стаяў, упаў на струхлелую салому, раскіданую па падлозе, і заснуў як забіты.

У адным дамку з Сяргеем Лявоненка — высокі, з трохі адутлаватым, засмучаным тварам немалады партызан. Сяргей яго ведае, хоць дружбы між імі не было. Лявоненка сам прыходзіць на дапамогу.

— Еў што-небудзь? — пытае са спагадай.

— Не,— прызнаецца Сяргей.

— Давай снедаць. Мне трохі пашэнціла.

Ён ціхенька піхае Сяргею ў кішэнь шыняля прадаўгаватую бліскучую бляшаначку. Другую такую адчыняе нажом-складанчыкам і аж ускліквае ад здзіўлення:

— Каша! Каб ты згарэла! Там жа і мясныя кансервы былі. Дарма хваліўся... Ну, усё адно — выцягвай лыжку...

Пшонная каша ледзь-ледзь запраўлена мясам. Перш чым есці, яе трэба разагрэць. Але на такую дробязь Сяргей не зважае. Смачнейшай кашы, здаецца, ён у жыцці не еў.

Узнікае вострае жаданне зараз жа адчыніць бляшаначку, якая ў кішэні шыняля, наталіць прагнае, неўтаймаванае жаданне есці. Але не, Сяргей не адчыніць яе. Трэба навучыцца сябе стрымліваць. Калі астанецца Сяргей жывы, не забудзе ўчарашняга дня.

Лявоненка добры чалавек. Зноў падзывае Сяргея. Запусціўшы руку ў рэчавы мяшок, дастае жменю мукі.

— Учора мех прарваўся, дык я трохі ўхапіў. Дзе ў цябе кацялок?

Сяргей зусім акрыяў. Выходзіць з дамка, кіруе да ракі. І рака тут, у Ржэве, не абы-якая — Волга! Ён яшчэ ўчора заўважыў, што жыхары носяць ваду з ракі. Тоўсты, надзейны лёд яшчэ ляжыць на Волзе. І вузенькая яна тут, як звычайная рачулка.

Сяргей асцярожна апускае кацялок у палонку. Можна так боўтнуць, што ў кацялку мукі не астанецца... Кацялок у

Сяргея някідкі, закураны, але прыдатны. Галоўнае, маленькі — нібы абрэзаная палавінка звычайнага, Сяргей яго спецыяльна выменяў.

Несучы ў гэтым кацялку ваду, у якой разбоўтаная жменя мукі, Сяргей нібы глядзіць на сябе збоку. Будзе што ўспомніць, калі астанецца жывы.

Наламаўшы сухога бадылля, зрабіўшы рагулькі, каб льга было падвесіць кацялок над агнём, Сяргей разводзіць цяпельца. Праз колькі часу вада ў кацялку весела забулькала. Сяргей і солі ў варыва ўсыпаў.

Зацірка гатова. На смак — выдатная рэч. Апякаючыся, Сяргей з насалодай яе сёрбае. Нібы ўвачавідкі вяртаюцца да яго добры гумар, бадзёрасць. Бляшаначку пшоннай кашы ён надалей захавае. Не, болей так не здарыцца, галоднымі вачамі ён не будзе глядзець на чужыя сухары. Папрашайнічаць таксама не стане.

Паснедаўшы, Сяргей кіруе шукаць таварышаў. Што выгружалі Васіль Лебедзь і Мікалай Пракопчык, Сяргей не ведае. Магчыма, кансервы, муку. Але яго гэта больш не хвалюе. Што б ні здарылася, клянчыць харч не будзе. Абыдзецца ўласнымі рэсурсамі. Час ад часу Сяргей засоўвае руку ў кішэню і абмацвае бляшаначку з кашай. Яна як бы грэе ягоную істоту.

Васіль і Мікалай начавалі ў непрыкметным ускраінным дамку. Выгляд іхні панылы. Выгружалі дровы, запэцкалі шынялі. Цяпер чысцяць, адціраюць гразь.

У дамку ніштаватая каманда, але Сяргей кідае ў кут свой рэчавы мяшок. З таварышамі не трэба расставацца.

Мікалай Пракопчык торкае Сяргея пад бок, паказвае на сцяну:

— Паглядзі.

Сяргей вачам не верыць. Дзве сцяны, дашчаная перагародка ад падлогі да столі абклеены нямецкімі газетамі. Відаць, немалы туз займаў кватэру. Звычайны салдат не мог атрымліваць «Фолькішэр беабахтэр», «Дас райх», «Берлінэр цайтунг» і іншыя фашысцкія газеты.

Сяргей умее чытаць па-нямецку. І слоўнікам амаль не карыстаецца. Былі да вайны тры хлопцы ў мястэчку, якія, не

пакладаючыся на школьныя веды, самастойна вывучалі нямецкую мову. Збіраліся пастулаць у інстытуты. Да іх належаў і Сяргей.

Двое тых хлопцаў, старэйшых за Сяргея, яшчэ ў сорак першым пайшлі на вайну. Ніякіх вестак ад іх няма. Відаць, загінулі.

— Культурны немец тут стаяў,— выскаляецца Мікалай.— Другія ваявалі, а ён газеты чытаў.

Сяргей нібы пераносіцца ў іншы час. Газеты за сорак другі год — і аж у вачах пярэсціць ад загалоўкаў, набраных вялікімі чырвонымі літарамі. «Гіганцкая перамога на Волзе», «Дні волжскай цвярдыні злічаны», «Агонія бальшавіцкай цытадэлі» — гэтак фашысты пра Сталінград пісалі.

Цяжка было ў сорак другім у мястэчку. Фашысты лютавалі. Тады расстралялі Сяргеевага таварыша па падпольнай групе, сам Сяргей у турме сядзеў. Але нават не гэта галоўнае. Невыносна было ад думкі, што фашысты ідуць наперад, перамагаюць...

Двух год не прайшло з таго часу, а становішча ў свеце карэнным чынам змянілася...

Магчыма, вось такімі газетамі абклеены сцены дома дзенебудзь у Германіі. Што думае нямецкі абывацель сёння, чытаючы такія загалоўкі?..

У пакой заскоквае Косця Ціток. З ходу гукае:

— Вы што седзіцё? Царства Божае так можна праваронiць. Хто паёк пойдзе палучаць?

— Па сённяшні дзень НЗ...

— Спісаны НЗ. Даюць з сённяшняга дня. На два дні.

У суседнім дворыку, на разасланых палатках, высіцца горка хлебных буханак, ляжыць некалькі шкуматоў шпігу з сінімі пячаткамі на скуры. І чарга стаіць — паёк выдаецца на дзесяць чалавек адразу. Дзеліць яго незнаёмы, немалады ўжо, старшына. Мікалай кідаецца падбіраць каманду — местачкоўцаў нават болей чым дзесяць, але некаторыя паспелі сваю долю атрымаць...

Можна жыць. У Сяргеевым рэчавым мяшку зноў больш як паўбуханкі хлеба, ладны шкуматок сала, у асобнай паперцы цукар, соль. І папярос далі па дваццаць штук. У запасным

палку тытунёвага забеспячэння не было. Трэцяй катэгорыяй яно не прадугледжана.

У абед зямляцкім гуртам маладыя салдаты ідуць на Волгу, набіраюць у кацялкі вады, гатуюць чай.

Няшмат чалавеку трэба для бадзёрага настрою. У Сяргея паўбуханкі хлеба, і зусім па-іншаму ён глядзіць на свет. Трохі нязвычна бачыць знаёмых местачковых хлопцаў у ваеннай форме. Тым болей што не ўсім яна пасуе. У Сяргея шынель харошы, цёплы, а штаны малаватыя трапіліся. Ногі імі залішне шчыльна абцягнуты. Чаравікаў Сяргей наогул не ўзяў. Ходзіць, у якіх прыехаў у запасны полк. Яму трэба сорак чацвёрты нумар, а такіх няма.

У нізкарослага, шчуплаватага Адама шынель да пят, крыссе па зямлі целяпаецца. Пятро Герасімовіч так нацягнуў на галаву пілотку, што нават свае кірнатыя вушы пад ёй схаваў. Ён і на салдата не падобен: тырчыць з шынелка пасінелы, змізарнелы, вузкі, нібы ў тхара, тварык. Высокі, даўганогі Косця Русаковіч выдыбае ў сваім надзіва кароткім шынялі, нібы бусел.

— Каманда караля Гароха,— пацвельваецца Косця Ціток.— Герасімовіча і Русаковіча трэба ў ганаровую варту паставіць.

Вясёлы, сонечны дзень. Ніхто не выклікае, не пасылае на работу салдат. Нібы не ў арміі яны, а ў доме адпачынку.

Назаўтра — непрыемнасць. З раніцы ў пакой заходзіць старшына, які дзяліў паёк. Пераминаючыся з нагі на нагу, заяўляе:

— Вот што, браты славяне. Нядобра робіце. Размясцілі вас як людзей. Насустрач пайшлі. А ў вас такія дзялы.

— Якія дзялы? — пытае Мялешка.

— Гаспадыня начальніку паскардзілася. Хромавыя боты ў яе ўкралі. Нібыта зусім новыя былі. Лепш аддайце. Могуць раздуць дзела. Штрафбатам пахне...

Байцы — усе без выключэння маладыя, з чыстымі, адкрытымі тварамі — здзіўлена пераглядваюцца.

— Шукайце! — крычыць Мялешка.— Калі хто ўзяў, няхай аддасць.

Штосьці нядобрае робіцца: байцы выцягваюць з закуткаў рэчавыя мяшкі, кідаюць на сярэдзіну пакоя: шукайце!

Сідары ва ўсіх амаль пустыя — у іх па паўбуханкі хлеба, анучы, якая-небудзь іншая драбяза. Нават не развязваючы мяшка, можна сказаць, што ботаў у такіх мяшках не схаваеш.

Старшына адчувае сябе ніякавата:

— Схадзіце да нампаліта. Яму баба наскардзілася.

Калі старшына выходзіць, у пакоі ўсталёўваецца цішыня.

— Мы адзін другога ведаем,— гаворыць Мялешка.— З аднаго палка. Усялякае бывае. Калі хто ўзяў, лепей, хлопцы, аддаць.

У хаце начавалі Сяргей, Васіль Лебедзь, Мікалай Пракопчык, Багдан Мялешка, Косця Ціток, Косця Русаковіч, Адам Каліноўскі, Пятро Герасімовіч, хлопец з суседняй з мястэчкам вёскі Кавенькі, яго завуць Кора-Мікарай (рэдкая з'ява: замест «л» ён вымаўляе «р»), таджык Рахім — яго таксама ўсе ведаюць — і кульгавы, гарбаносы настаўнік — прозвішча яго Дземяшкевіч.

Байцы ўсхвалявана выдыбаюць па пакоі.

— Тут ашыбка,— гаворыць Рахім.— Зачэм мне хромавы сапог, каторы блесціт? Надзет такой сапог не магу, продат не магу. Базар здесь не відэл.

— А і праўда, хлопцы, каб і ўзяў хто, то дзе з ботамі дзенецца?

— Гаспадыня яшчэ тая. Прыйшлі галодныя з разгрузкі, то вады шклянкі не дала.

— Паглядзіце, усе сцены абклеены нямецкімі газетамі. З фрыцамі, мабыць, нюхалася...

Мялешка раптам бялее з твару.

— Курва нямецкая! Я шэсць эшалонаў скінуў, а яна паклёпы... Я яе, суку, навучу свабоду любіць. Мы такіх бачылі. Пусціце мяне, хлопцы!..

Мялешка, мабыць, чокнуты трохі: твар зрабіўся сінезялёны. На губах пена. Ірвецца шукаць гаспадыню, і двое байцоў трымаюць яго за рукі.

Сяргею гаспадыня не падабаецца: востраносая, вочы неспакойныя, мітуслівыя — як у сабакі. Такая магла нахлусіць, напаклёпнічаць. Адно незразумела — навошта ёй? Чаго дасягне?..

— Пойдзем да нампаліта,— гаворыць Сяргей.— Хто пойдзе са мной?

Пасля кароткай нарады ў склад дэлегацыі да нампаліта вылучаюцца Сяргей Каліноўскі, Багдан Мялешка і настаўнік Дземяшкевіч.

Нампаліт перасыльнага пункта, павольны ў рухах, таўставаты, шыракатвары маёр, займае асобны домік. Дэлегацыю прымае адразу.

— Мы — камсамольцы,— хвалюючыся, тлумачыць Сяргей.— Ніхто з нас ботаў узяць не мог. Воінскую прысягу прымалі...

Да Сяргеевай заявы маёр ставіцца ўважна. Некалькі хвілін размаўляе з хлопцамі.

— Ладна. Веру вам. Добра, што да мяне прыйшлі.

Праз гадзіну гучыць каманда строіцца. Дзень, як і ўчора, сонечны, цёплы. У твар дыхае сапраўдная вясна. На вачах чарнее, асядае снег, весела бягуць раўчукі. Калона, не асабліва захоўваючы строй, ідзе вуліцамі прадмесця, нарэшце пакідае Ржэў. Наперадзе абсяг палёў. Яшчэ снег на іх ляжыць, але ўжо шмат пралысін.

У Сяргея сціскаецца сэрца: палі зусім не такія, як там, на радзіме, лесу няма, толькі сям-там купкі дрэў, прысады каля вёсачак. Яроў шмат, яны мяжуюцца з пагоркамі.

Выгляд аднае вёсачкі асабліва ўзрушвае Сяргея. Нават не вёска наўзбоч дарогі — маленькі, надзвычай ахайны пасёлачак. Дамы двухпавярховыя, з мезанінчыкамі, дахі бляшаныя, на вокнах, аканіцах — прыгожыя ўзоры разьбы. І цэркаўка да пасёлка туліцца — белая, каменная, з трыма зялёнымі макаўкамі.

Ідуць гадзіны тры. Першы прывал. Сяргей з’ядае невялічкую скібачку хлеба з танюсенькім скрылікам сала. Яду ашчаджае. Галадоўкі болей не здарыцца. Закурвае. У курэнне ён уцягнуўся па-сапраўднаму, яно шмат цяпер для яго значыць. Закурыш, некалькі разоў зацягнешся — і свет весялейшы робіцца. Кружыцца галава, прыемнае здранцвенне разліваецца па целе.

Васіль, Мікалай не кураць. Пачыналі разам з Сяргеем, але так на вучнёўстве і спыніліся. Ім усё адно: курыць не курыць. Балуючыся, іншы раз верцяць цыгарку, пыхкаюць дымам, але не зацягваюцца.

— Цікава, ёсць у палках аркестры? — пытае Мікалай.

— Навошта табе?

— Як навошта? Запісаўся б.

— Струннага няма, будзе пазней. У духавым што ты можаш? Лупіць балбешкай у барабан, ляскаць талеркай. Пасада, мабыць, занята.

Васіль з Мікалаем сёе-тое ўмеюць. На мандаліне, гітары трэнькаюць някепска. Сяргей спрабаваў, ды не пайшло. На ўсё трэба здатнасць.

— У нас, мабыць, вясна,— уздыхае Сяргей.— Вятры з Прыбалтыкі раней цеплыню прыносяць...

Употай хлопцы журацца па доме, па мястэчку. Першы, па сутнасці, іх вылет у шырокі свет. Сяргей хоць у Маскву, Мінск ездзіў, а Васіль, Мікалай далей Гомеля нідзе не былі. Пісем даўно няма. Можа, і прыходзяць у запасны полк пісьмы, але атрымліваць іх некаму.

— Пад’-ё-о-о-м!

Зноў расцягнутая, як змяя, калона пятляе па прасёлку. То на пагорак уздымецца, то апусціцца ў нізіну. Паўстане наўзбоч дарогі адна вёсачка, другая. Бязлюдныя паселішчы. Не відаць на вуліцах ніякага руху. Свеціць сонца, жаўрукі над полем спяваюць. Але не ўбачыш на полі ні чалавека, ні каровы, ні каня.

Ніхто не засявае поля. І летась не засяваў. Лапікі цёмнай, перастаялай пад снегам пожні мяжуюць з шэрымі пляшынамі, дзе даўно расце бур’ян, іншае зелле. Дарогу расквасіла — зямля чорная, густая.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

У вялікае сяло з франтаватымі драўлянымі дамамі калона дабіраецца а другой палавіне дня. Дамы стаяць у дзве лініі паабапал шырокай, але страшэнна гразкай вуліцы. Гразь па калена — нагі не выцягнеш.

Калону адводзяць за агароды, на лужок, каб адпачылі салдаты пасля трыццацікіламетровага маршу.

І адразу байцоў наперабой заклікаюць у свае роты лейтэнанты і нават капітаны.

— Рабята, давайце ў мінамётную роту,— заклікае шустры, прысадзісты старшы лейтэнант.— Артылерыя — бог вайны. Мінамёты — таксама артылерыя...

Іван Чыгрэйка, з якім Сяргей быў у партызанах, раіў ісці ў мінамётчыкі.

Успомніўшы яго хвалу мінамётам, Сяргей заве ў мінамётчыкі таварышаў.

Мікалай Пракопчык шчэрыць белыя, як часнок, зубы:

— Знайшоў шчасце! Бачыў, якія жалязякі мінамётчыкі на гарбах тарабаняць. Нібы ішакі...

Васіль ведае, куды хоча Мікалай — у сувязісты. Трохі працаваў на пошце, лазіў па тэлеграфных слупах. Лічыць — стаў спецыялістам...

Якраз белабрысы капітан сувязістаў набірае. Ні слова не сказаўшы Сяргею, Мікалай з Васілём Лебедзем подбегам шыбуюць да яго. Аддзяліцца, значыць, хочуць. Няхай аддзяляюцца. У сувязісты Сяргея на ланцугу не зацягнеш.

Запісваюць у аўтаматчыкі. Сяргей рынуў да купкі, дзе збіраецца ў асноўным моладзь. І камандзір у аўтаматчыкаў сімпатычны — малады, з мужным тварам лейтэнант.

Аднак пэўнасці няма. Робіцца нешта не тое. Лейтэнант кудысьці знік. Будучыя аўтаматчыкі пераходзяць да санітараў, пэтээраўцаў, артылерыстаў. Сяргей рашае нікуды больш не запісвацца.

Сватанне ў роты, узводы канчаецца гэтак жа нечакана, як пачалося. Пад'язджае «віліс», з яго вылазяць высокі палкоўнік, два падпалкоўнікі і маёр. Маршавую роту строяць у шарэнгу. Палкоўнік не спяшаючыся, як бы ўглядваючыся ў твары, праходзіць уздоўж строю.

— Беларусы ёсць? — спыніўшыся, зычна пытае.

— Ёсць! — дружна выдыхае шарэнга.

— Адкуль?

— Гомельскія!..

— Рэчыцкія!..

— Прапойскія!..

— Крычаўскія!..

Палкоўнік пасміхаецца ад задавальнення.

— Маё прозвішча Васілеўскі,— гучна гаворыць.— Я сам беларус, нарадзіўся на Магілёўшчыне, камандую дывізіяй, у якую вы прыбылі. Наша зямля яшчэ пад ворагам, невялікую частку яе вызвалілі, але мы вызвалім усю. Будзем біць праклятага ворага, на які б фронт нас ні паслалі.

У Сяргея іскрай у памяці: у сорак другім годзе, летам, якраз у той дзень, калі яго арыштавалі, ён перахоўваў надрукаваную на чырвонай паперы, скінутую з самалёта лістоўку, якая называлася «Пісьмо воінаў-беларусаў беларускаму народу». Сярод іншых подпісаў было прозвішча Васілеўскага. Ён быў падпісаны як камандзір палка...

Сяргей уважліва прыглядаецца да палкоўніка. Твар прыемны, прадаўгаваты, нос з гарбінкай. Гаворыць палкоўнік трохі нараспеў, з даверлівасцю ў голасе, і па вымаўленню, калі прыслухацца, можна пазнаць у ім беларуса. Па ўсім відаць: бывалы чалавек, з салдатамі з гумарам размаўляе.

Шарэнгу дзеляць на тры часткі. У кожнай чалавек па дзвесце. Людзі трапляюць у распараджэнне двух падпалкоўнікаў і маёра, што прыехалі з Васілеўскім.

— Левае плячо, круго-о-ом!

З шарэнгі ўтворана цяпер тры калоны. Дзве ідуць прэч, тая, у якой Сяргей, астаецца.

У Сяргея халадок прабягае па спіне. Калона, у якой Васіль Лебедзь, Мікалай Пракопчык, Косця Ціток, Косця Русаковіч, стрыечны брат Адам, кіруе невядома куды.

Калона, якая асталася, зноў робіцца шарэнгай.

— У каго сярэдняя адукацыя — тры крокі наперад!..

Сяргей перайшоў у дзясяты. Можна лічыць: у яго сярэдняя ці амаль сярэдняя адукацыя.

З шарэнгі выступае кульгавы настаўнік Дземяшкевіч. Ехалі ў адным вагоне, і Сяргей ведае: ён скончыў два курсы педтэхнікума. Услед за Дземяшкевічам смялей выходзіць з шарэнгі Сяргей.

На дзве сотні людзей іх толькі двое такіх знайшлося. Астатнія — у калонах, накіраваных у іншыя палкі.

Дзямяшкевіча, Сяргея адразу прызначаюць часовымі пісарамі. Выдаюць чарніліцы, ручкі, разграфленыя кнігі для ўліку радавога і сяржанцкага саставу. У графачкі трэба запісаць год нараджэння, адукацыю, ваенную спецыяльнасць і іншыя звесткі пра людзей, якія ўліваюцца ў дзеючую армію.

Калі Сяргей, прымасціўшыся на пенчуку, ужо канчаў перапісваць байцоў, за яго спіною раптам спыніўся перацягнуты партупеяй, ахайны з выгляду старшы лейтэнант. Лейтэнант увогуле камандуе: размяркоўвае байцоў па батальёнах, ротах.

— У цябе прыгожы почырк,— гаворыць Сяргею.— Ты дзе вучыўся?

— У школе.

— Пойдзеш у першую роту. Пры выпадку забяру ў страявую часць. З камандзірам дамоўлюся.

Вось што можа значыць почырк! Да пятага ці шостага класа Сяргей крамзоліў нязграбныя каракулі, якія іншы раз сам не мог разабраць. Пачалося з канторы «Плодагародніна». Палавіну хаты бацькі саступілі гэтай канторы. У ёй працаваў малады бухгалтар, які надзіва прыгожа пісаў. Як на грашах. Сяргей зайздросціў бухгалтараваму почырку. Свядома ці несвядома стараўся пераймаць яго і ў дзявятым класе заўважыў, што свой почырк рашуча змяніў.

Сяло, у якое прыйшлі, называецца Вароніна. У ім размяшчаецца першая рота, як і ўвесь батальён. Сяргей трапляе ў вялікую хату — на пастоі ў ёй дваццаць чалавек, амаль увесь узвод. Камандзір аддзялення — маладжавы сяржант-сібірак з безвалосым бабскім тварам. Тры разы быў паранены — два разы лёгка і раз цяжка. Пра гэта гавораць нашытыя на выліналую гімнасцёрку дзве чырвоныя і жоўтая паскі.

Сяржант — добры, бяскрыўдны чалавек. Да Сяргея, як і да другіх навічкоў, ставіцца добразычліва. Ён нават трохі дзівакаваты: часта задумваецца, у самыя нечаканыя моманты выбухае рогатам.

Сяргей атрымлівае ППШ, два запасныя дыскі — круглы і ражок, процівагаз, сапёрную лапатку.

З першага дня — палявыя заняткі. Вучаць лепей, грунтоўней, чым у запасным палку. Тэма заняткаў: рота ў наступленні. Байцы бягуць па гразкім бульбянішчы, падаюць, па-

дымаюцца, зноў падаюць, паўзуць па-пластунску. Шынель, штаны, чаравікі — у гразі.

Увесь вечар Сяргей чысціць абмундзіраванне. Пасля адбою кідаецца на падлогу, на салому, спіць як забіты.

Заняткі — кожны дзень. Нават паўгадзіны не вырвеш, каб паблукаць па ваколіцы сяла, пашукаць таварышаў, якія, відаць, у суседніх вёсках.

Разам з Сяргеем трохі дзівакаваты, з вырачанымі вачамі, сямікласнік Кора-Мікарай і Сямёненка — невысокі, шчуплаваты, з нездаровым, нібы вымачаным, тварам хлапчук з Галінай вёскі.

Незвычайнае вымаўленне Коры-Мікарая прыкмечана. Пасля поўзання па гразі, у перакур, хто-небудзь просіць:

— Коля, скажы «люблю».

— Рубру...

— Скажы «мілая».

— Мірая...

— Ты, мабыць, у пісьме сваёй дзеўцы так пішаш. Во радуецца...

Толькі аднойчы Сяргей спатыкае Косцю Русаковіча: услед за незнаёмым малодшым лейтэнантам месіць па вуліцы гразь. Не болей чым хвіліну пастаялі, пагаварылі. Местачкоўцы, аказваецца, у суседнім палку, большая палавіна маладзейшых нават у адным узводзе.

Можа, і добра, што сябры-таварышы наводдаль. Армія, служба — не пагулянкі на вуліцы. У прысутнасці хлопцаў Сяргей адчувае сябе ніякавата. Усё-такі жыве ў душы пачуццё далучанасці да вялікай вайны, якая ідзе на свеце. Тым часам знаёмыя хлопцы кожнай хвіліны напамінаюць, што ты жаўтадзюбы местачковец і, акрамя школы, нічога не бачыў. З чужымі людзьмі прасцей.

У вольныя хвіліны Сяргей з прыемнасцю размаўляе з Сямёненкам. Ён цікавы для Сяргея тым, што два гады, калі Сяргей быў разлучаны з Галяй, той мог бачыць яе штодня. Толькі мала Сямёненка пра Галю ведае. Сяргею нават дзіўна, што ён так мала ёю цікавіўся.

— На вечарынкі Галя хадзіла? — пытае Сяргей.

— Здаецца, хадзіла.

— У вас часта былі вечарынкі?

— Не ведаю. Зімой у мяне нага балела. Я нікуды не хадзіў.

— Ты хоць раз з Галяй гаварыў?

— Можа, і гаварыў...

Сямёненка — не надта кампанейскі. Можа, таму, што хваравіты. Яго, відаць, пакладуць у медсанбат.

Найбольш прыемныя для Сяргея часіны, калі кладуцца спаць. У доме, дзе ўзвод на пастоі, раскоша для аднаго старшыны. Ён спіць на нікеляваным ложку з бліскучымі балбешкамі.

Старшына — пануры, маўклівы, ваўкаваты, нядобры. Кіпіць ад унутранай злосці. Але, ведаючы, што наперадзе адпраўка на фронт, рабіць каму-небудзь вялікія прыкрасці пабойваецца.

Ва ўзводзе паспелі выдзеліцца верхаводы. Ёсць і такія, на кім верхаводы катаюцца.

Паклаўшыся на падлогу, байцы з хвіліну толькі шасцяць саломай: прымерваюцца, як лепей легчы, акрыцца. У пакой ліецца месячнае святло, сіняватай палоскай цягнецца ад акна да сцяны, ля якой стаіць ложак старшыны. У пісягах святла раз-пораз успыхваюць бліскучыя балбешкі на білах ложка.

Пачынае спектакль, як заўсёды, Зюзін, круглатвары, падлобісты старшы сяржант. Зюзіну гадоў трыццаць, за нейкую правіннасць яго перавялі з артылерыі ў пяхоту. Свае выпады былы артылерыст накіроўвае на байца Фількіна, якога нядаўна прызвалі ў армію. Фількін меў бронь, працаваў бухгалтарам на абаронным заводзе. Усе ведаюць — сам Фількін расказвае, паказвае фотакартку — дома ў яго асталася прыгожая жонка, а дзяцей няма.

— Твайго памочніка як прозвішча? — пачынае допыт Зюзін.

— Я гаварыў. Манахаў...

— Ты быў старшым бухгалтарам, а ён проста бухгалтарам.

— Так...

— З цябе бронь знялі, а Манахаву пакінулі.

— У яго слабыя вочы.

— Не хвалюйся, што трэба, Манахаў убачыць. Кажаш, ён нежанаты.

— Нежанаты.

— Займае пакой у вашым доме.

— Праз сценку жыве. Дом барачнага тыпу.

— Спіць з тваёй жонкай Манахаў. Будзь пэвен. Магу Госпадам Богам паклясціся — спіць. Такія ты ўмовы яму стварыў: пасаду цёпленькую пакінуў, жонку прыгожую. Яна маладая?

— Дваццаць восем гадоў.

— Самы цымус. Спіць, брат, яна з Манахавым.

Байцы душацца смехам. Камедыя, якую штовечар разыгрывае Зюзін, падабаецца.

— Не пойдзе яна на такое,— разважліва пярэчыць Фількін.

— Чаму не пойдзе?

— Муж на фронце. Суседзі могуць замеціць. Совеслівая яна.

— Чаму пісем не піша твая совеслівая?

— Усё можа быць. Можа, пісьмы не даходзяць...

— Дурань ты. Хоць старшы бухгалтар. Даўно жонка твая з Манахавым спіць. Ніколі прыгожая баба цярпець не будзе. Павер майму слову. У мяне баб перабыло — пальцаў не хопіць пералічыць. Баба як кошка. Хто пагладзіць, таму спінку выгінае...

У буднях вайсковай падрыхтоўкі самыя жаданыя моманты — абед, вячэра, хвіліны, калі прыносяць пошту. Кормяць лепей, чым у запасным палку. Хоць па другой катэгорыі — па ёй цяпер байцы атрымліваюць харчаванне — таксама лішне не разгонішся. Але Сяргей навучыўся ашчаджаць хлеб, цукар і галодным не бывае.

У роце ён блізка сышоўся толькі з адным чалавекам — сяржантам Рашэтнікавым. Рашэтнікаў — невысокі, шчуплы, з густым засевам вяснушак на худым, непрыгожым твары. Родам ён з Казахстана, прызваны ў армію параўнальна нядаўна.

Дзіўна яны пазнаёміліся. Спачатку пасварыліся.

Сяргей дзяжурыў па ўзводу. Разам з другім байцом прынеслі ў плашч-палатцы хлеб, цукар, тытунь і два тэрмасы — з супам і чаем. Рашэтнікаву, які быў у нарадзе, супу пакінулі, пра чай — забыліся.

— Толькі немцам прывык с... лізаць! — накінуўся сяржант на Сяргея.— Пра сваіх не думаеш...

Вось, значыць, якія настроі жывуць. Адносіны Рашэтнікава да тых, хто быў пад акупацыяй, не лепшыя, чым у баб — гандлярак са станцыі Фаянсава.

Сяргей стрымаўся. Знявагай на зняваку не адказаў.

— У нашым раёне было шэсцьдзясят вёсак,— сказаў Рашэтнікаву.— Сорак восем немцы спалілі. Тры вёскі разам з людзьмі. За што — ты не думаў...

Пасля гэтага выпадку Рашэтнікаў стаў набівацца на дружбу. Сэрца ў яго добрае, спагадлівае.

Спаць яны цяпер кладуцца побач. Рашэтнікаў падоўгу расказвае пра сваё жыццё. Дома пакінуў жонку, двое дзяцей. Дзеці малыя, жонка часта хварэе.

Яшчэ папаўненне прыбывае. Узвод, рота даводзяцца да поўнага камплекту. Гэта азначае: хутка на фронт. Куды? Бліжэйшыя франты — прыбалтыйскія...

Сяргея выклікае да сябе камандзір роты, старшы лейтэнант. Ён, відаць, да вайны быў студэнтам ці настаўнікам: лішняй шагістыкай байцоў не даймае.

— Цябе бяруць у страявую часць,— гаворыць старшы лейтэнант Сяргею.— Звыш камплекту, вядома. Лічыцца будзеш у спісах роты. Так што памятай пра гэта днём і ноччу...

Апошнія словы непрыемна ўражваюць Сяргея.

— Нікуды не пайду! — адказвае з выклікам.

У сваю чаргу насупліваецца старшы лейтэнант:

— У арміі такога няма: хачу не хачу. Бяры рэчавы мяшок, аўтамат і марш да Фамянкова! Страявая часць — штаб палка. Пісар павінен быць граматным чалавекам...

Праз хвіліну старшы лейтэнант лагоднее, прыхільна ўсміхаецца:

— Не забывай пра сваю роту. Цяпер ты ёй можаш памагчы. Назад цябе заўсёды прымем.

— Чым магу памагчы роце?

— Штабны пісар сёе-тое можа. Пабачыш...

Старшы лейтэнант Фамянкоў, начальнік страявой часці, Сяргееў почырк, значыць, не забыў. Слова спраўдзіў.

## II

Страявая часць у вялікай хаце з трохсхільным, пакрытым гонтай дахам. Для справаводства адведзены два пакоі. Радавым і сяржанцкім саставам займаюцца два штатныя пісары — сыты, з безвалосым бабскім тварам Масленікаў і чарнявы, падцягнуты, засяроджаны Ганчароў. У Масленікава жоўтая нашыўка за цяжкае раненне, у Ганчарова — чырвоная, за лёгкае.

У страявую часць, як загадана, Сяргей з'яўляецца з усёй амуніцыяй: аўтаматам, процівагазам, каскай, рэчавым мяшком. У пісараў тут жа, у пакоі, два тапчанчыкі, складзеныя з пустых скрынак. Ёсць месца для трэцяга, але яго Сяргею не прапаноўваюць.

Ледзь не палавіну пакоя займае печ.

— Будзеш спаць там,— Масленікаў паказвае на месца, куды, перад тым як укінуць у печ, кладуць дровы.

Почыркі ў пісараў выдатныя. Такімі почыркамі толькі на грашах лічбы выводзіць.

Апоўдні Сяргей ідзе на кухню па абед, вечарам — па вячэру.

Занятак пісара не складаны: Сяргей перапісвае наяўны састаў рот, батальёнаў. За акном чуецца песня: роты ідуць на палявыя заняткі, вяртаюцца на абед, на вячэру. Замест таго каб капаць акопы, поўзаць па-пластунску, у дзясяты раз разбіраць і складваць аўтамат, набіваць дыскі патронамі, Сяргей рыпіць пяром, перапісваючы ў розныя ведамасці наяўны састаў рот, батальёнаў. Пісар страявой часці сапраўды сёе-тое можа. Штодня складаюцца ведамасці БКС — баявога колькаснага саставу,— па якіх узводам, ротам адпускаюцца прадукты, іншыя віды забеспячэння. Рух людзей у ротах, узводах няспынны: адзін захварэў, ляжыць у санчасці, другога наогул перавялі ў іншае падраздзяленне. Ад таго, як афармлена папера, залежыць шмат.

Са штатнымі пісарамі, асабліва з тоўстым Масленікавым, у Сяргея сутычкі, нелады з першага дня. Яны любяць свае пасады, хочуць утрымацца на іх, таму сядзяць за сталамі, шасцяць паперамі далёка за поўнач. Сяргею, аднак, такі рэжым

не па душы. З першага дня ў адзінаццаць вечара Сяргей сцеле каля печы шынель, кладзецца спаць. Па адбою, як і ў роце.

Страявую часць наведваюць усе камандзіры. Некаторым прыходзіцца мецъ справу з Сяргеем.

Адзін з іх, чорны, суровы з выгляду маёр, начальнік ОВС — абозна-рэчавага забеспячэння,— зірнуўшы на распоўзлыя Сяргеевы чаравікі, гаворыць з дакорам:

— Пісару штаба нельга хадзіць у такім абутку. Прыйдзі да мяне на склад...

Назаўтра Сяргей ідзе да маёра, атрымлівае шырокія, як лапці, пашытыя з жоўтай скуры англійскія чаравікі. Яны, аднак, не такія выдатныя. Прыгожая скура размакае, прапускае ваду, але, калі па сухім хадзіць, нагам у чаравіках — як у бога за пазухай.

Штатныя пісары харчуюцца ў афіцэрскай сталовай.

Нягледзячы на сутычкі з Масленікавым, выпрабавальны тэрмін Сяргей вытрымлівае. Дакументы афармляе правільна, нараканняў ад Фамянкова няма. Нарэшце Масленікаў дазваляе Сяргею паставіць тапчан. Ён прыладжвае яго ў закутку за печчу.

Сяргея прымацоўваюць да камандзірскай сталовай. Хлеб у гэтай сталовай не пайкамі выдаюць — ён ляжыць нарэзаны тонкімі скібачкамі на талерцы. Бяры і еш...

Сяргей свайго не ўпускае. Пакуль афіцыянтка прынясе талерку з супам ці кашай, ён паспявае дзве, а то і тры пайкі з’есці. Толькі цяпер удосталь стаў наядацца.

Афіцыянткі, аднак, вялікі Сяргееў апетыт заўважаюць. Справа схіляецца ў горшы бок. Як толькі ён заходзіць у сталовую, садзіцца на сваё месца, ставяць перад ім асобны сподачак з дзвюма лустачкамі — пайку. Але не ўсе і не кожны дзень так робяць.

Сяргей надзвычай ганарыцца тым, што прыпісаны да афіцэрскай сталовай. Як бы ордэн атрымаў. У кожным лісце дадому пахваляецца сваім новым становішчам, асабліва тым, што харчуецца разам з камандзірамі.

Афіцэрская сталовая — першая Сяргеева заваёва. Але яму хадзіць сюды трохі сорамна. Хто ён такі? Няштатны пісар страявой часці з пагонамі радавога. Побач лейтэнанты, капітаны, нават маёры.

Сяргей не супраць таго, каб прыйсці ў сталовую хоць малодшым лейтэнантам, пазбавіцца пачуцця прыніжанасці. Бачыў ён некаторых лейтэнантаў. Адукацыйны ўзровень іх не надта высокі — скончылі па пяць-шэсць класаў.

Сяргей ахвотна пайшоў бы на якія-небудзь камандзірскія курсы. Большасць афіцэраў, з дакументамі якіх ён азнаёміўся, учарашнія настаўнікі, прарабы, тэхнікі, аграномы, служачыя, студэнты і вучні старэйшых класаў.

Добра было б паслаць Галі фотакартку, дзе ён, Сяргей, зняты ў афіцэрскай форме. Можа б, ён у такой форме выглядаў не горш за тых двух лейтэнантаў, з якімі Галя ішла напярэдадні яго адпраўкі ў армію і толькі памахала яму на развітанне рукой.

Сяргею часам здаецца, што Галя наогул спісала яго са свайго рахунку. Яна, відаць, проста не верыць, што ён вернецца з фронту. Колькі гіне такіх, як ён, маладых, жаўтадзюбых радавых... Адначасова Сяргей не можа абвінаваціць Галю. Яна прыйшла ў мястэчка дзеля яго, праседзела з ім ноч у хаце аднакласніцы Парaскі. З ёй, як з дзяўчынай, Сяргей мог рабіць што хацеў. Параска нават пасцель ім паслала — адну на дваіх.

Не, Сяргей не дакарае сябе, што правёў ноч з Галяй проста так. Каб прыйшлося, зрабіў бы па-ранейшаму. Ён яшчэ нічога не дамогся ў жыцці, нічога не ажыццявіў са сваіх планаў і проста не мае права валодаць такой дзяўчынай, як Галя.

Пра радавых, сяржантаў мала што даведаешся з тых папер, якія ёсць у страявой часці. Іншая справа — афіцэры. У спецыяльна заведзеных кнігах паслужны спіс кожнага.

Камандзірскімі кадрамі займаецца малодшы лейтэнант Барысаў, немалады, лысы, са смешнымі арыстакратычнымі замашкамі. Але запарыўся Барысаў, у памочнікі яму далі Сяргея. Перапісваючы паслужныя афіцэрскія анкеты, Сяргей пераконваецца: не толькі некаторыя лейтэнанты, а нават капітаны і маёры — докі невялікія. За плячамі ў лепшым выпадку сямігодка.

Вайсковыя вучылішчы не ўсе паканчалі, найбольш — розныя курсы. У мірным жыцці сённяшнія капітаны, маёры таксама не займалі высокіх пасад, некаторыя былі звычайнымі рабочымі, калгаснікамі.

Але іх паслужны спіс робіць уражанне. На фронце — з першага дня, пабывалі ў розных пераплётах, некаторыя па некалькі разоў з акружэння выбіраліся.

Многія камандзіры ўваходзілі ў склад Першай і Другой ударных армій, якія, калі Сяргей, жывучы ў мястэчку, толькі стараўся што-небудзь выведаць пра фронт, зацята біліся з фашыстамі ля возера Ільмень, пад Старой Русай, на рацэ Волхаў.

З роты перадаюць: з Сяргеем хацеў пабачыцца зямляк. Прыязджаў на фурманцы, заходзіў у хату, дзе размяшчаецца Сяргееў узвод. Хто мог быць? Васіль Лебедзь, Мікола Пракопчык?.. Як прывязаны, сядзіць Сяргей у страявой часці. Нічога пра сяброў-таварышаў не ведае.

Нарэшце Масленікаў пасылае Сяргея ў трэці батальён. Зверыць спісачны састаў. Трэці батальён у вёсачцы, ад якой блізка да сяла, дзе стаіць суседні полк.

Вясна хмурная. Туман, калматыя воблакі на небе і гразь, гразь на дарогах, на вуліцы. Калі ісці сярэдзінай дарогі, ног з гразі не выцягнеш. Яна густая, чорная, ліпкая, як гліна. Забудова вёскі не такая, як у Беларусі. Хаты больш прасторныя, з большай аздобай на ліштвах вокан, франтонах, дахах. Затое дрэў вельмі мала на вуліцы.

Перакінуўшы праз плячо брызентавую палявую сумку (яе Сяргею выдалі як пісару), трымаючы пад пахай тоўстую канцылярскую кнігу, Сяргей брыдзе ў размяшчэнне трэцяга батальёна. Выгляд голага шэрага поля яго зусім не радуе. Ні дрэўца навокал, ні хоць бы якога-небудзь кусціка. Неба не такое, як на радзіме,— ніжэйшае, хмурнейшае.

Да вёсачкі Сяргей дадыбаў хутка, менш чым за гадзіну. Стаіць яна на пясчаным пагорку, хаты, хлявы, панадворкі запушчаныя, закінутыя. Некаторыя хаты пакрыты саломай — па ёй зялёнымі пляшынамі парос мох. Але не гэта ўражвае, а бязлюддзе, стоеная, мёртвая цішыня. Батальён займаецца дзесьці ў полі; на вуліцы, на панадворках — ні чалавека.

У другой палавіне дня прабілася з-за воблакаў сонца, цёпла, добра. У той жа час страшнавата вандраваць па паселішчы, у якім не чуваць дзіцячых галасоў, не кукарэкне певень, не забрэша сабака.

Сяргей знаходзіць батальённага пісара, і справа высвятляецца. Насельніцтва — старых, малых — немцы, адступаючы, пагналі перад сабой. Далёка, відаць, загналі, бо яшчэ ніводзін жыхар не вярнуўся.

Надвячоркам Сяргей у суседнім сяле. Роту, у якой найбольш блізкія местачковыя хлопцы, знаходзіць хутка. Дзіва: Васіль Лебедзь, Косця Ціток, Косця Русаковіч, стрыечны брат Адам, Пеця Герасімовіч нават у адным узводзе. Вось як бывае. У запасным палку наважылі хлопцы не разлучацца, і тут разам.

Да апошняга часу ва ўзводзе быў і Мікалай Пракопчык. Цяпер пад яго камандай ротны конь, фурманка. Значыць, Мікалай да Сяргея прыязджаў.

Вольная гадзіна перад вячэрай. Васіль паважны, спакойны. Новая гімнасцёрка шчыльна аблягае шырокія плечы. З-пад каўняра выглядае белы, чысты падкаўнерык. Сядзіць Васіль на тапчане, прышывае новыя пагоны да шыняля. Толькі цяпер Сяргей заўважыў: Лебедзь не радавы баец — яфрэйтар. Вузенькая чырвоная пасачка на пагонах. Да гімнасцёркі новыя пагоны Васіль паспеў прышыць, да шыняля — цяпер прымацоўвае.

— Віншую з павышэннем, таварыш яфрэйтар. Хутка расцеш.

Месяц не бачыліся, але Васіль паводзіць сябе так, нібы толькі ўчора развіталіся.

— Ты большы начальнік. Штабны пісар.

— Што чуваць?

— Газеты сам чытаеш. Адэсу ўзялі...

У акупацыю такую навіну, як вызваленне буйнога горада, Сяргей з Васілём абмяркоўвалі б цэлы дзень. Цяпер сказаў Васіль — і ўсё. Другія насталі часы. Прывыклі да добрых навін.

Косця Ціток сустракае Сяргея кепікамі:

— Дык ты, значыць, пісар. Акопаў не капаеш і папластунску не поўзаеш. За што палучыў такую прывілею?

— За почырк,— у тон яму адказвае Сяргей.— У пісары бяруць з прыгожым почыркам. Толькі пісар я звышштатны. У любую хвіліну могуць паслаць назад, у роту.

Чарнявы Косцеў твар робіцца лагоднейшым.

— Старыя салдаты гавораць — не трэба ісці ў такія пісары. У час наступлення, калі не хапае людзей, імі затыкаюць дзіркі...

Са стрыечным братам Адамам Сяргей таксама пабачыўся. Не, не ўрос яшчэ Адам у мітуслівы армейскі побыт. Як бы прыбіты, спалоханы. У дзяцінстве быў мацнейшы, спрытнейшы за Сяргея, а цяпер здае. З другога боку, падкарміўся Адам. Белага, кволага пуху, які выступаў на ягоных шчоках у запасным палку, няма.

Пятро Герасімовіч горш за Адама выглядае. Тварык вузенькі, змізарнелы. Шынелак на Пятру як на калку вісіць.

На франтах — зацішша. Самая буйная падзея апошняга часу — узяцце Адэсы. Адшумелі пераможнымі баямі паўднёвыя, украінскія франты, змоўклі паўночныя. Украіна ледзь не ўся вызвалена. У асобных мясцінах войскі ўкраінскіх франтоў падышлі да былой дзяржаўнай граніцы. Затое большая частка Беларусі ляжыць пад акупацыяй.

Зацішша перад навальніцай. Дзе будзе нанесены чарговы ўдар?..

Ходзяць розныя чуткі, аднак куды, на які фронт кінуць полк, дывізію, ніхто дакладна не ведае.

Старшы лейтэнант Фамянкоў, начальнік страявой часці, час ад часу наладжвае пагулянкі. Збірае некаторых афіцэраў, дзвюх-трох маладых доктарак, якія ёсць у палку. П'юць разведзены спірт, закусваюць кансервамі, спяваюць песні.

Пачнуцца баі — не паспяваеш. Так разважаюць тыя, хто збіраецца ў Фамянкова.

Увогуле, начальнік страявой часці — чалавек неблагі. Да пісараў лішне не прыдзіраецца, нават калі памылку ў паперах заўважыць. Любіць фарсануць: заўсёды апрануты ў новенькую гімнасцёрку, брыджы, крыж-накрыж спавіты бліскучымі рамянямі. Ходзіць, парыпваючы хромавымі ботамі.

Пачастункі наладжваюцца ў другой палавіне дома, якую займае страявая часць. Вечарам пісарам прыбаўляецца абавязкаў: накалоць дроў, нашчапаць лучыны, каб можна было разагрэць кансервы, а то і яечню сашкварыць. Масленікаў робіць такую работу з задавальненнем, Ганчароў — не выяўля-

ючы пачуцця, Сяргей ад яе наогул адмаўляецца. Толькі адзін раз нашчапаў лучыны, тут жа заявіўшы Масленікаву, што ў халуі не наймаўся. Старшы пісар спалохана акругліў жоўтыя вочы, замахаў рукамі.

У той вечар, калі наладжваецца пагулянка, Сяргей кладзецца на свой тапчан у запеччы, накрываецца шынялём, робячы выгляд, што спіць.

Брыдка паводзіць сябе на пагулянках справавод Барысаў, які займаецца афіцэрскімі кадрамі і якому нядаўна прысвоілі званне малодшага лейтэнанта. З гэтай прычыны Барысаў аж захліпаецца ад радасці, хоць немалады — за плячыма гадоў сорак ці нават сорак пяць. «Мы, афіцэры»,— часта можна пачуць ад яго. Ён картавы, «р» не вымаўляе, атрымліваецца: «Мы, афіцэі...»

У Барысава мокрыя губы, на галаве — рэдкія сівыя валасінкі, але, напіўшыся, ён заляцаецца да жанчын, не саромеецца спяваць брыдкія прыпеўкі.

Месяц сядзіць Сяргей у страявой часці. Маючы справу з улікам радавога, сяржанцкага саставу, сёе-тое зразумеў. У час наступлення ненадоўга затрымліваюцца салдаты ў шэрагах стралковых рот, батальёнаў... Пасля тыдня-двух зацятых баёў роты фактычна абнаўляюцца.

У страявую часць завітвае малады, з тонкім далікатным тварам лейтэнант. Гэта палкавы перакладчык Віктар Мілаванаў. Сяргей спачатку толькі вітаўся з ім, але аднойчы завёў гаворку, і яны сталі сустракацца амаль кожны дзень.

Мілаванаў — масквіч, на два гады старэйшы за Сяргея. Перад вайной скончыў дзесяцігодку. Ваенкамат накіраваў яго на курсы ваенных перакладчыкаў. Ужо восенню сорак першага года Мілаванаў скончыў курсы, атрымаў званне лейтэнанта. Ён тры гады на вайне, але так і астаўся лейтэнантам. Такі штатны распарадак: палкавы перакладчык не можа падняцца вышэй за гэтае званне.

У акупацыі, дарываючыся да патайнога радыёпрыёмніка, рэдкіх газет, лістовак, Сяргей з хваляваннем чытаў пра баі на Волхаве, ля Вялікіх Лук, пад Старой Русай. Мілаванаў удзельнічаў у гэтых баях. Гэтым ён найбольш вабіць да сябе Сяргея. Сяргею хочацца дазнацца, як адчувалі сябе людзі

ў сорак першым, сорак другім гадах, асабліва тыя, якія не бачылі блізка немцаў, не жылі пад акупацыяй.

Мілаванаў даволі бесклапотна адказвае на такія пытанні. Што адчуваў, калі немцы падыходзілі да Масквы? Нічога асаблівага. Лічыў: Масквы не здадуць. Зрэшты, вайна не магла скончыцца, каб Маскву нават захапілі. Напалеон захопліваў, ну і што?..

Сяргей не раз ловіць сябе на адчуванні, што людзі, якія не бачылі немцаў, іначай ставяцца да падзей сорак першага, сорак другога гадоў, чым тыя, хто быў пад акупацыяй. У іх, відаць, другая вышка, яны не ведалі адчаю, безвыходнасці.

Мілаванаў хутка выявіў, што Сяргей прыстойна ведае нямецкую мову.

— Дзе вывучыў? — трохі насцярожана дапытваецца.

— Вучыў з таварышамі самастойна. Яшчэ да вайны. У інстытут збіраліся паступаць. Акупацыя памагла. Хацелася ведаць, што робіцца на фронце. Нямецкія газеты чытаў, нашых не было...

Размаўляць па-нямецку Сяргей не ўмее, не меў практыкі, а газету, кнігу чытае ненамнога горш, чым сам Мілаванаў.

— Я таксама да вайны мову вывучыў,— гаворыць перакладчык.— На курсах вучаць з пятага на дзясятае.

Дзён праз некалькі Мілаванаў паведамляе:

— Я пра цябе гаварыў у дывізійным разведаддзеле. Думаеш, многа знойдзеш людзей, хто ведае нямецкую мову? Інстытуты паканчалі, а ні «бэ» ні «мэ». Каб чытаць газету, як ты, трэба, сама мала, два гады вучыцца. Вучоба на курсах — не больш года...

— Што сказалі ў разведаддзеле?

— Табе трэба перайсці ва ўзвод пешай разведкі. У суседні полк.

Яшчэ праз дзень ці два ў страявой часці паяўляецца лысаваты, паўнацелы капітан, у акуратнай дыяганалевай гімнасцёрцы, крыж-накрыж перацягнутай рамянямі. Вывеўшы Сяргея на двор, распытвае пра бацьку, маці, пра тое, чым ён займаўся ў час акупацыі. Зірнуўшы на партызанскую даведку, весялее:

— Маё прозвішча Фрэнкель. Дывізійны перакладчык. Мне пра цябе Мілаванаў расказваў. Хачу перавесці цябе ў другі

полк. Ва ўзвод разведкі. Там ёсць адзін, як я, яўрэй. Толькі маладзейшы, гарачэйшы. Чытаць па-нямецку не ўмее. Цяпер і гаварыць з немцамі не хоча. Брата яго павесілі ў Вінніцы. Я баюся, каб бяды не нарабіў. Заб'е «языка». Хоць «языкоў», здаецца, будзем браць не нямецкіх...

Даведаўшыся, што Сяргей па самавучыцелю і французскай мовай спрабаваў займацца, Фрэнкель нешта на гэтай мове ў яго пытае. Сяргей не разумее ні слова. Фрэнкель усміхаецца:

— Ладна. Не святыя гаршкі лепяць. Паспрабую табою заняцца. Перакладчыка ў палку няма. Паходзіш у разведцы. Далей відаць будзе...

Вясна марудная, мокрая, халодная. Але дні прыкметна падоўжалі. Дацямна Сяргей у страявой часці не заседжваецца. На полі падсохла, і, павячэраўшы ў сталовай, ён шыбуе на ўзгорак за сяло. Мілаванаў таксама прыходзіць. За апошнія дні яны нават уласную сцяжынку пратапталі на леташнім іржышчы.

Размовы бясконцыя: за лічаныя дні сябры-таварышы ўзаемна адспавядаліся і цяпер ведаюць адзін пра другога ўсё. Сяргей і пра Галю Мілаванаву расказаў, паказаў фотакартку, якую яна падаравала на развітанне. На гэтай, велічынёй з паштоўку, даваеннай картачцы Галя прыгожая: вялікія вочы, вытанчаны, далікатны твар, загадкавая ўсмешка на вуснах.

Мілаванаў пытае:

— Думаеш — яна будзе цябе чакаць?

— Не ведаю. Пісем не піша.

— Жанчыны здрадлівыя...

Сказаў гэта перакладчык як ісціну, у якой не сумняваецца, а ў Сяргея зашчымела ў грудзях. У самога Мілаванава дзяўчыны, пра якую б пастаянна думаў, няма, хоць лісты ад знаёмых дзяўчат, з якімі разам вучыўся ў школе, зрэдку атрымлівае.

У наступны вечар Мілаванаў цікавіцца:

— У цябе хоць з адной было?

— Не было.

— Ну а я пасвечаны ў рыцары. Мінулым летам, як стаялі ў вёсцы пад Вялікімі Лукамі. Разведчыкі ў хаце спалі, а я на сенавале. Яна сама прыйшла да мяне. Гаспадыніна дач-

ка. У хлеў, на сенавал. Спадабаўся ёй. За ёй усе разведчыкі ўхлёствалі, а яна да мяне прыйшла. Ведаеш, вострае такое пачуццё.

Зрэшты, гаворыць і думае пра дзяўчат Мілаванаў мала. Цікавяць яго другія матэрыі: сэнс жыцця, бясконцасць Сусвету. Носіць у брызентавай камандзірскай сумцы томік Канта і заўзята тлумачыць Сяргею, што такое філасофская катэгорыя трансцэндэнтальнасці.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

Полк на калёсах, і напрамак вядомы. У іншы горад не прыедзеш, калі колы вагонаў грукаюць па рэйках прамой, як страла, чыгункі, якая вядзе з Масквы на Ленінград.

Грузяцца на непрыкметнай, бязлюднай станцыі, дапяўшы да яе пасля маршу па расхлябаных прасёлкавых дарогах.

Упершыню чуе Сяргей пра Карэльскі перашыек як пра магчымы ўчастак фронту, куды можа трапіць полк. Сапраўды, пятля блакады з Ленінграда знята і трымаецца толькі з заходняга і паўночнага, фінскага боку. Хіба доўга будуць цярпець? Пра Карэльскі перашыек вядуцца ціхія, асцярожныя перамовы між байцамі, афіцэрамі.

Цяжкі ўспамін пра Карэльскі перашыек звязаны з ходам фінскай вайны ў трыццаць дзявятым — саракавым годзе. Сяргей памятае збянтэжанасць, якая валодала імі, местачковымі хлопцамі-школьнікамі, у месяцы, калі ішла гэтая вайна. Пасля перамог на Халхін-Голе, возеры Буір-Нур, дзе парадкам наклалі японцам, удалых вызваленчых паходаў у Заходнюю Беларусь і Украіну было незразумела — чаму таўкуцца на месцы савецкія дывізіі на гэтым самым Карэльскім перашыйку?

Калі скончылася фінская вайна і паказалі кінафільм «Лінія Манергейма», стала ясна, чаму савецкія войскі так марудна прасоўваліся, няслі такія вялікія страты. Манергейм сядзеў у

жалезабетонных дотах, якія фактычна былі непрыступнымі. Ніякая іншая армія іх бы не адолела.

Местачкоўцы, якія вярнуліся з фінскай вайны, расказвалі пра яе па-другому. Сэнс іх прытоеных, асцярожных паведамленняў быў такі: пекла там было, шмат крыві пралілося.

Гітлер, мабыць, як сыч з-за плота, цікаваў за падзеямі на Карэльскім перашыйку. Можа, назіраючы за тымі баямі, нагогул прыйшоў да вываду, што савецкія дывізіі, іх камандзіры нічога не варты, і прыняў рашэнне напасці на Савецкі Саюз. Хто ведае, можа, іменна тады ў яго шалёнай галаве ўзнік план «бліцкрыга»...

Праехалі Балагое.

На душы ў Сяргея цяжка. Ён больш, чым хто-небудзь другі, разлічваючы, што трапяць на Украіну, у багаты хлебны край, агітаваў сяброў-таварышаў ехаць на фронт разам. Іменна ён купіў і перасыпаў у кішэню хітрага ротнага пісара некалькі шклянак самасаду: плату за тое, што сябры-таварышы рушаць на фронт у адной маршавай роце.

Калі яны, местачкоўцы, яшчэ цягалі бярвенне ў запасным палку, у Маскву прыязджаў прадстаўнік Фінляндыі, вёў перагаворы аб заключэнні перамір'я. Сарваліся перагаворы. Невядома чаму. Задзіраюць нос манергеймаўцы. Няўжо не бачаць, што для Гітлера, яго міражнага тысячагадовага райха, наступае ліхая часіна. Сяргей чытаў, што шуцкораўцы разам з Гітлерам рынулі ў гэтую вайну, бо таксама разлічвалі пабудаваць вялізную дзяржаву, межы якой даходзілі б аж да Урала. Дурнота. Суцэльная дурнота. Дзе, калі існавала такая агромністая Фінляндыя?

Эшалон спыняецца на прыгараднай станцыі пад Ленінградам. Загад найстражэйшы: мясцовасць нядаўна вызвалена ад немцаў; да апошняга тыдня зямля ляжала пад снегам, прылеглая да станцыі тэрыторыя нават напалавіну не размініравана. Таму ні кроку з насыпу. Але смяльчак знайшоўся. Спускаючы на хаду штаны, сігануў пад адхон. Не паспеў прысесці ў густым бадыллі, як грымнуў выбух.

Хвілін праз некалькі смельчака — маладога яшчэ салдата — нясуць на насілках у вагон санчасці. З левай нагі свішча кроў: абцас чаравіка разам з пятой як брытвай зрэзала.

Зрэшты, жыць можна без пяты. Будзе хлопец трохі пакульгваць — бяда невялікая...

Выгружаюцца на наступнай станцыі. Кораб, у якім архіўныя паперы страявой часці і за якія ў дарозе адказваў Сяргей, Масленікаў бярэ пад сваю ўладу. Перад Сяргеем ставіцца новае заданне. У гарадку — ён называецца Краснае Сяло — трэба адшукаць памяшканне, дзе размесціцца страявая часць.

Сяргею, каб хутчэй выканаў заданне, нават каня даюць — вялізнага чорнага біцюга, які кульгае на пярэднюю правую нагу. Некалькі кватар'ераў на конях і пешшу шыбуюць па вышчарбленай шашы ў напрамку да паселішча, што цямнее наперадзе няпэўнымі абрысамі.

Згушчаецца змрок, і цяжка што-небудзь разабраць. Трасучыся на вострай хрыбціне каня (сядла няма), ускочыўшы разам з іншымі коннікамі ў Краснае Сяло, Сяргей бачыць, што размяшчацца ў гарадку нельга. Тут нават горш, чым у Ржэве. Нават уцалелых каробак не знойдзеш — суцэльныя руіны.

Ля эшалона мітусня, гамонка. Кульгавага каня Сяргей вяртае ў гаспадарчы ўзвод з вялікай ахвотай.

Заданне — адшукаць памяшканне для страявой часці ў прыгараднай ленінградскай вёсцы — цяпер ускладаецца на незнаёмага старшага лейтэнанта. Сяргей прызначаецца яму ў памочнікі.

Блукаюць да паўночы. У старшага лейтэнанта карты, компаса няма. Можа, таму, што ён не займае ў палку ніякай пасады: знаходзіцца ў рэзерве. І спытаць дарогі няма ў каго. Трапляюцца калоны, групы байцоў, грузавікі, павозкі, што грукацяць па вышчарбленай шашы. Але гэтае войска выгрузілася з эшалона і само шукае прыстанішча.

Толькі ў другой палове ночы стомленыя, мокрыя кватар'еры — безупынна ідзе дождж — знаходзяць вызначаную вёску. Шум, гамонка, лаянка на вуліцы. Некаторыя службы паспелі дапяць у вёску: большасць будынін занята. Плюхаючы па гразі, старшы лейтэнант з Сяргеем спыняюцца перад ніштаватым з выгляду дамком, які яшчэ ніхто не паспеў захапіць. Дзверы, вокны ў ім расчыненыя, шыбы выбітыя. Але ў другіх дамках не лепей. Жыхара ў вёсцы ніводнага: усіх пагналі перад сабой немцы.

У самім дамку кватар'еры знаходзяць адносна зацішны пакой. Старшы лейтэнант чыркае запалкай. На падлозе кавалкі тынку, друз, смецце, але шыбы ў акне цэлыя і грубка ёсць.

Старшы лейтэнант весялее.

— Будзем начаваць. Ідзі пашукай дроў...

У суседнім дамку вокны засвяціліся, чуюцца мужчынскія, нават жаночыя галасы. Сяргей падыходзіць бліжэй, прыслухоўваецца. У хаце — жанчыны, мужчыны стаяць на двары. Прыгледзеўшыся, Сяргей бачыць некалькі постацей у камандзірскіх шынялях, плашч-накідках з капюшонамі. Афіцэры час ад часу паблiскваюць кішэннымі ліхтарыкамі.

З прачыненага акна чуецца гуллівы голас:

— Заходзьце. Толькі не ўсе. Яшчэ ёсць другія дамы. Мы з Ленінграда. Капаем зямлю пад агароды...

Ля наступных дамкоў падобныя размовы.

Сяргей нааддзіраў ад штыкетніка дошак, паламаў іх на дровы. Нашчапаўшы лучыны, запаліў у грубцы.

Старшы лейтэнант — прозвішча яго Цяцернікаў,— пачуўшы ад Сяргея пра жанчын, прыхапіўшы рэчавы мяшок, борздзенька выслізгвае з пакоя.

Весела патрэскваюць у грубцы дошкі, мігатлівыя водбліскі агню кладуцца на брудныя, з абабітым тынкам, абдзёртымі шпалерамі сцены. Пакрысе цяплей робіцца ў пакоі. Прыхінуўшыся да грубкі, чуючы, як на целе высыхаюць мокры шынель, гімнасцёрка, Сяргей дрэмле.

Вось толькі так, мабыць, і бывае на вайне. Некалькі гадзін назад Сяргей нічога не ведаў пра вёску, хату, у якой цяпер знайшоў прытулак. Зрэшты, і ў партызанах так было. Не кожны дзень партызаны ведалі, дзе будуць начаваць, і не клапаціліся пра гэта.

Пад раніцу вяртаецца старшы лейтэнант. Ён злосны. Ніхто не ўзяў у кампанію.

Увогуле, дзіўны старшы лейтэнант. У яго прыемны, прыгожы твар, зграбная пастава. Выгляд атлетычны, нават спартсменскі. Але ў арміі Цяцернікаў — поўны няўдачнік. Сам прызнаўся. Скончыў сярэднюю школу, паступіў у ваеннае вучылішча. Яшчэ перад вайной за добрую вучобу адразу з вучылішча выпусцілі старшым лейтэнантам. Але за тры гады

вайны ў чынах не падняўся ні на адну ступеньку. Ставілі на ўзвод — раніла ці кантузіла, трапляў у шпіталь, адтуль у афіцэрскі рэзерв. Так было ўжо тры разы.

Да жыцця Цяцернікаў ставіцца скептычна, ні ў якія высокія матэрыі не верыць. Абыякавы ён і да свайго ваеннага лёсу.

— Менш узвода не дадуць, далей Кушкі не пашлюць,— гаворыць ён Сяргею.

Назаўтра з раніцы валіць густы, мокры снег. Калі Сяргей будзе жывы, то запомніць гэты дзень. Першага мая сорак чацвёртага года пад Ленінградам ішоў снег...

Некаторыя службы ў вёску прыбываюць, страявая часць не спяшаецца. І кухні няма. Пра сняданак, абед марыць не прыходзіцца. Цяцернікаў звяртаецца да Сяргея:

— У мяне ёсць мука, трохі сала. Здолееш з такіх матэрыялаў зрабіць што-небудзь прыдатнае для яды?

Сяргей узрадаваўся. Паспрабуе зрабіць. Перш-наперш трэба знайсці патэльню.

Ён ідзе да суседзяў. У жанчын, якія прыехалі з Ленінграда, патэльня павінна быць.

У дамку — вясёлы вэрхал. Жанчыны завіхаюцца ля стала, наразаюць хлеб, адчыняюць кансервы. Лейтэнанты, капітаны, у адных споднях сарочках, пасеўшы хто дзе, голяцца. На падлозе ў пакоіках змятая, збітая салома.

Размова настолькі ажыўленая, што можна падумаць — дамы, іх кавалеры з даўніх часоў знаёмыя. Кавалеры зграбней за дам выглядаюць. Жанчыны, без выключэння, у ватоўках, ватніх штанах. У іх змізарнелыя твары, запалыя вочы. Блакадныя ўдовы і дзяўчаты...

Ленінградскія жанчыны ахвотна пазычылі Сяргею патэльню. Ён натапіў у кацялку снегу, у цеплаватай вадзе разбоўтаў муку. Астатняе ад яго спрыту залежыць.

Аладак Сяргей напёк. Можа, толькі не надта выдатных. Часам яны падгаралі, іншы раз ірваліся папалам, калі ён здымаў іх з патэльні. Але на першамайскае свята ні старшы лейтэнант, ні Сяргей без снедання не асталіся.

## II

У поўдзень з абжытага дамка, у якім мусіць размясціцца страявая часць, старшага лейтэнанта і Сяргея выкурваюць новыя кватар’еры. Палку, аказваецца, вызначана цяпер другая, суседняя вёска. Трэці раз за суткі мяняецца загад.

Суседняя вёска, дзе нарэшце асталёўваецца страявая часць, не горшая за папярэднюю. Дамкі прасторныя, некаторыя на два паверхі, з балкончыкамі, мезанінчыкамі, прыгожымі франтонамі, аканіцы, ліштвы ўпрыгожаны ўзорнай разьбой. Але і тут ніводнага жыхара. Увогуле ў прыгарадных мясцінах, па якіх пралягала пятля блакады, насельніцтва няма.

Вясна нарэшце ўступае ў свае правы. Пахмурныя дні змяняюцца сонечнымі. За вёскай на пакатым пагорку растуць бярозкі. Гаёк напалавіну вынішчаны, ад большых дрэў асталіся адны пні. На маладых дрэўцах праклёўваюцца лісточкі. Першыя кветкі кураслепу прабіваюцца, трава пачынае зелянець. Зумкаюць мушкі, пчолы, матыль мітусіцца ў паветры.

Матыль жоўты: значыць, лета будзе гарачае.

У ясныя дні ўдалечыні праглядваюць абрысы Ленінграда. Яны паўстаюць нібы з туману, хісткія, няпэўныя, але ўсё адно позірк выдзяляе высокія заводскія трубы, гмахі карпусоў, ланцуг даўгіх шэрых будынін.

Вядома дакладна: наступаць будуць на Карэльскім перашыйку. З паўночна-заходняга боку пад Ленінградам яшчэ трывае блакада. Мірыцца з гэтым болей нельга. Дывізійная газета піша цяпер пра асаблівасці бою ў гарыста-камяністай мясцовасці.

Пра таварышаў Сяргей нічога не ведае. Сямёненка захварэў, яго накіравалі ў медсанбат. Пра перавод Сяргея ва ўзвод пешай разведкі суседняга палка нічога не чуваць. Можа, наогул Сяргея туды не перавядуць. На Карэльскім перашыйку такія, як ён, не патрэбны.

Кора-Мікарай, якога Сяргей іншы раз сустракае, ад’еўся, распаўнеў. Каўнер гімнасцёркі ледзь сыходзіцца на тоўстай чырвонай шыі.

Два дні назад Кора-Мікарай сам прыбег у страявую часць. Асцярожна ўсунуўшыся ў пакой, нікому не аддаўшы чэсці, выклікаў Сяргея на двор.

— Праўда, што будуць пускаць дваццаць шосты год дадому? — спытаў.

— Дурань ты! — Сяргей раззлаваўся.— Табе цяпер васямнаццаць гадоў. Хто такіх адпускае?..

Не першы раз Сяргей сустракаецца з дзіцячай наіўнасцю. На вайне вераць самым неверагодным чуткам.

Сяргей шкадуе, што Сямёненкі няма. Няма з кім пагаварыць пра Галю. Пяты, дзясяты раз Сяргей дапытваўся, як Галя жыла, дзе, калі, пры якіх абставінах Сямёненка яе бачыў. І хоць Сяргееў таварыш нічога новага пра Галю расказаць не мог, Сяргею была прыемная такая гаворка.

Роднае мястэчка, маці, бацька, браты, сястра, знаёмыя дзяўчаты — усё гэта часта паўстае ў Сяргеевым уяўленні, памяці, але як бы належыць да іншага жыцця. Звароту ў гэтае жыццё звычайным шляхам няма. Дарога да роднай хаты здаецца бясконцай і недасяжнай.

У страявую часць у асобым, з сургучнай пячаткай, пакеце нарэшце прыходзіць папера, у якой прадпісваецца адкамандзіраваць радавога Каліноўскага ў распараджэнне чацвёртага аддзела штадыва. Масленікаў здзіўлена акругляе жаўтлявыя вочы.

— На курсы пасылаюць? Малодшым лейтэнантам хочаш быць?

— Не на курсы. Ва ўзвод разведкі. У суседні полк. Сам папрасіўся.

— Навошта табе ўзвод?

— Таварышы ў тым палку служаць. Землякі...

Масленікаў, хоць не вельмі прыхільна ставіўся да Сяргея, глядзіць на яго з дакорам. Абурана выгаворвае Сяргею. На вайне не скачуць, не шукаюць лепшага месца. Ты не сам прыйшоў у страявую часць — прыслалі. Служы...

Цяпер Сяргею самому шкада развітвацца са страявой часцю, з пісарамі, якія ўяўляюцца зусім неблагімі, спагадлівымі людзьмі, з начальнікам страявой часці Фамянковым. Тут было някепска. А што будзе ва ўзводзе разведкі, дзе Сяргея ніхто не ведае?

Роты Сяргею таксама шкада, хоць мала ў ёй пабыў. Але нічога не папішаш. Звароту назад няма.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

Ва ўзводзе пешай разведкі дваццаць два чалавекі. Пажылых няма, усе маладыя. Старшы сяржант Смірноў (ён памкамузвода і цяпер фактычна камандуе ўзводам), старшына Кіслякоў не толькі па званню, а і па гадах трохі старэйшыя за астатніх.

Смірноў каржакаваты, дужы, сярэдняга росту, з шырокім, смуглявым, дабрадушным тварам, знаёмячыся з Сяргеем, пытае:

— Гарэлку п’еш?

— Калі ёсць, то п’ю,— падладжваючыся пад тон пытання, адказвае Сяргей.

— Табаку курыш?

— Куру.

— Малайчына. Разумна гаворыш...

Смірноў, відаць, і наконт дзяўчат спытаў бы, але паклікалі. Па яго спецыяльна прыбег пасыльны са штаба палка.

Старшына Кісляковў, з хмурным, ледзь не прамавугольным тварам, з чорнымі пасмамі жорсткіх валасоў, якія амаль закрываюць нізкі лоб, сустрэў Сяргея менш прыхільна. Запісваючы яго ў кнігу асабовага ўліку ўзвода, незадаволена бурчыць:

— Дэвят класаў. Шыбка граматны. Будэш старацца вучыт астальных.

Старшына робіць на Сяргея непрыемнае ўражанне. Перш за ўсё сваім выглядам. Ён не толькі тварам не ўдаўся — усёй постаццю: няўклюдна прысадзісты, з выгнутымі, нібы абады, нагамі.

Над разведчыкамі ў палку ёсць непасрэдны начальнік, афіцэр разведкі, ці ПНШ-2, як яго называюць. Яму непасрэдна падпарадкаваны камандзір узвода пешай разведкі і перакладчык, якога цяпер у палку няма.

Афіцэр разведкі — прозвішча яго Канатнікаў — не апускаецца да таго, каб выклікаць да сябе і пагаварыць з Сяргеем. Як бы дае гэтым зразумець, што дэкларацыі Фрэнкеля

наконт магчымага ў будучым прызначэння Сяргея на пасаду перакладчыка не маюць для яго ніякай вагі.

Разведчыкі не любяць Канатнікава, хоць пра гэта не гавораць. Ён ніколі не заходзіць да іх у зямлянку. На выпешчаным твары гэтага высокага, шыракаплечага капітана як бы гуляе прытоеная кашачая ўсмешка. І вочы ў Канатнікава — як у ката: трохі прыплюшчаныя, зрэнкі зеленаватыя, з жоўтымі абадкамі.

Парадкі ва ўзводзе ў вышэйшай ступені дэмакратычныя. Ніхто не выцягваецца ў струнку перад памкамузвода ці старшыной, не гаворачы пра камандзіраў аддзяленняў, якія наогул ніякімі начальнікамі не лічацца. Са Смірновым, Кісляковым разведчыкі размаўляюць, як з роўнымі, нават іншы раз пацвельваюцца з імі, падпускаюць кепікі. У той жа час любы, самы нязначны загад памкамузвода або старшыны выконваецца безагаворачна, з усёй стараннасцю.

З першага дня Сяргей адчуў: ва ўзводзе ёсць традыцыі, якія ўсімі шануюцца.

Разведчыкі — нібы арыстакраты, выбраннікі ў палку. Яны прыкметна адрозніваюцца ад астатніх салдат. Сяржанты і нават радавыя, тыя, што даўно асталяваліся ва ўзводзе, фарсяць чубамі, заломленымі набакір пілоткамі, амаль усе ў кірзавых ці нават хромавых ботах.

Памкамузвода, старшына, яшчэ двое-трое сяржантаў носяць афіцэрскія гімнасцёркі і брыджы. Сам дух, які пануе ва ўзводзе разведкі, не такі, як у стралковай роце. Там як бы адчуваецца пакорлівасць перад лёсам, некаторыя байцы пахмурныя, маўклівыя, паглыбленыя ў сябе.

Заліхвацкі выгляд, якім вызначаюцца разведчыкі, трохі напускны. Вечарам, калі кладуцца спаць, пачынаюць напаўголасу размаўляць, давяраючы адзін другому самыя глыбокія сакрэты, тайны, робяцца звычайнымі хлопцамі. Ад байцоў стралковай роты, якіх ведае Сяргей, нічым не адрозніваюцца.

У паўсядзённым побыце ўзвода пануюць жарт і насмешлівасць. Тут як бы дамовіліся ні аб чым сур'ёзным не гаварыць. Ва ўсім, пра што расказваюць, разведчыкі як бы вышукваюць смешны, адваротны бок з'яў і рэчаў. Можа, гэта ад таго ідзе, што разведчыкі — зялёная моладзь. Яны проста ў тым узросце, калі хочацца рагатаць і выбрыкваць.

Кормяць разведчыкаў лепей, чым каго-небудзь у палку. Існуе спецыяльны разведчыцкі паёк: звыш супу, кашы, чаю, хлеба ці сухароў выдаецца штодзень па шкуматку сала, па дзве-тры лішнія лыжкі цукру, іншы раз галеты, пячэнне.

Увогуле, цяпер дзейнічае першая, франтавая катэгорыя, і яды ўдосталь. Тут, ва ўзводзе, у Сяргея не ўзнікае, як раней, жадання пасля снедання ці абеду выцягнуць з рэчавага мяшка сухар як дабаўку да яды.

Хлеб, шпіг, цукар, тытунь, папяросы прыносіць старшына, загарнуўшы ўсё гэта ў плашч-палатку. Прадукты, як і тытунь, дзеляцца на вока, ніхто не пратэстуе, нават не прысутнічае пры гэтым.

Буханкі хлеба Кіслякоў кроіць кінжалам, які ў яго заўсёды вісіць за поясам, засунуты ў раменны футаралчык. Сухары раскладвае кучкамі на плашч-палатцы. Суп, чай з кухні прыносяць днявальныя ў дваццацілітровых тэрмасах, кашу — у алюмініевым бачку. Ва ўзводзе тры тэрмасы. Калі хто спазніўся на снеданне, на абед, гарачая страва яго ўсё адно чакае.

Заняткі ў разведчыкаў адмысловыя. Гадзіну ці дзве яны, як байцы звычайнай роты, разбіраюць, складваюць аўтамат, запраўляюць дыскі патронамі, вучаць статуты. Заняткі праводзяць памкамузвода Смірноў ці старшына Кіслякоў.

Аднак найбольш разведчыкі займаюцца другім, пра што байцы стралковай роты нават уяўлення не маюць. Выйшаўшы на лугавіну, за вёску, яны куляюцца на траве, робяць адзін другому падножку, валяць на зямлю. Галоўнае — адолець суперніка. Дзеля гэтага ўсе спосабы добрыя: можна хапаць яго за нагу, уссесці на карак, сціснуць аберуч горла. На саміх сабе вучацца разведчыкі выварочваць, звязваць вяроўкамі рукі, затыкаць у рот кляп, валачы «языка».

Не ўмеючы адбіцца, не валодаючы прыёмамі барацьбы, першыя дні Сяргей быў толькі «языком». Нават ніжэйшыя ростам, слабейшыя фізічна клалі Сяргея на зямлю, заламвалі рукі, затыкалі рот скамечанай, бруднай насоўкай.

Самалюбства бярэ верх, Сяргей пачынае бараніцца. Нават па начах абдумвае прыёмы. Фізічна ён мацнейшы за нізкарослых, шустрых хлапчакоў — такіх ва ўзводзе палавіна.

Праз тыдзень пачынае ад іх адбівацца, некаторых куляе на зямлю. Аднак не ляжыць душа да такой барацьбы. Дасягнуўшы некаторых поспехаў, Сяргей супакойваецца.

## II

Цёплыя, пагодлівыя дні. За вёскай разлеглая зялёная лугавіна. З раніцы роты, батальёны на занятках. Капаюцца доўгія траншэі са звілістымі хадамі, насыпаюцца брустверы. Трашчаць кулямёты, нават гарматныя выбухі разлягаюцца. Па лугавіне цягнуцца дымы выбухаў. Нібы на сапраўднай вайне. Стралковыя роты, якія атрымалі папаўненне, займаюцца страявой падрыхтоўкай. Утрамбоўваюць салдацкія чаравікі незасеянае поле, ператворанае ў вучэбны пляц. З раніцы да вечара каманды: «На пле-е-чо! К но-о-ге! Шагом марш! Кру-го-ом!..»

Калі прышлюць з Ленінграда новых жанчын ускопваць поле, цяжка ім прыйдзецца. Зямля цвёрдая, убітая, нібы ток.

У другім месцы байцы з жардзінамі, дошкамі кідаюцца на драцяныя загароды. Калючы дрот у некалькі радоў, між іх трэба зрабіць лазы, праходы.

Сяргей раз за разам вырываецца да таварышаў.

Васіль Лебедзь у сваёй стыхіі. Дысцыплінаваны, паслухмяны. Угору ідзе — ужо камандуе аддзяленнем. Шыракаплечы, нетаропкі ў рухах, словах, ён на кожнага, з кім ні сутыкнецца, робіць добрае ўражанне. Добра адпрасаваная гімнасцёрка шчыльна аблягае яго стан, пакатыя плечы; белы падкаўнерык акуратна падшыты, пагоны не адтапырваюцца.

Косця Ціток у ранейшай ролі: крытыкуе існуючае становішча. Сяргей — болей не пісар, прычапіцца няма да чаго, але Косця прычыну знаходзіць.

— Чаму цябе ў наш полк перавялі?

— Сам папрасіўся.

— Можа, камандзір палка твой родны дзядзька? Папрасі — хай мне водпуск дасць. Дадому хочацца.

Хвілінамі Сяргею непрыемна, што побач таварышы, з якімі рос, вучыўся і якія да дробязей усё пра яго ведаюць. Ён нібы адкрывае для сябе шырокі, няхай сабе абпалены вайной, свет, і тое, што раней было толькі агульным уяўленнем, ця-

пер нібы далучаецца да Сяргеевага жыцця. Бранск, Сычоўка, Вязьма, Ржэў, а цяпер Ленінград — не проста гарады. Яны нібы робяцца часцінкай душы, усяго таго, што ў яе ў гэты велічны час западае.

Вялікае зацішша на франтах. У красавіку вызвалена Адэса, у пачатку мая — ачышчаны ад немцаў Крым, штурмам узяты шматпакутны Севастопаль. І запанавала цішыня. Яна, мабыць, як заўсёды, перад навальніцай. Куды будзе нацэлены чарговы ўдар магутнай, як сціснутая стальная спружына, арміі, якая ўжо ў шэрагу мясцін дасягнула былой дзяржаўнай мяжы?..

Вайна схілілася ў пераможны бок, і Сяргей цяпер па-іншаму, зусім не так, як у акупацыі, успрымае весткі пра вызваленне гарадоў. Калі шчыра прызнацца, пра сябе самога, пра Галю думае цяпер больш, чым пра самыя буйныя падзеі вайны...

Падножка, абхват за плечы, удар у сківіцу — ёсць дзясяткі прыёмаў, спосабаў паваліць варожага салдата на зямлю, адолець яго, узвысіцца фізічна. Страявой, баявой, агнявой падрыхтоўкай разведчыкі цяпер не займаюцца, а толькі такой вось барацьбой. Жыхароў у вёсцы няма, няма нават дзяўчат, прысланых з Ленінграда ўскопваць пад агароды зямлю. Затое войскамі перапоўнена наваколле. Дзень за днём бясконца маршыруюць, спяваючы «Свяшчэнную вайну», роты, батальёны, агалошваючы ў час вучэбных наступленняў пераможнымі крыкамі «ўра» нікім і нічым не засеяныя палі. На гэтых палях капаюцца траншэі, будуюцца дзоты, іншыя ўмацаванні, а потым артылерысты іх разбураюць, страляючы баявымі, а не вучэбнымі снарадамі.

Разведчыкі, назіраючы за гэтымі заняткамі, валтузяцца адзін з другім, знянацку нападаюць, наскокваюць, заломваючы назад рукі, сціскаючы, нібы жалезнымі абручамі, шыю. Аўтаматы, дыскі, ражкі адкладзены ўбок, ляжаць асобнай кучай. У руках маладых, спрытных хлопцаў — нажы, вяроўкі. Вучацца, хаваючыся ў траве, маскіруючыся, непрыкметна падпаўзаць да спецыяльна выстаўленых дазораў, хапаць іх, затыкаць кляпам рот, звязваць рукі, валачыць на ўласнай спіне.

У старшыны Кіслякова, памкамузвода Смірнова і ў іншых старажылаў узвода не толькі аўтаматы, а, як і ў афіцэраў, наганы ці трафейныя браўнінгі.

Сяргей нагана не атрымаў, але вялікі бліскучы нож, які носіць у спецыяльным футарале, прывешаным на рамяні, мае. Шмат чаму паспеў навучыцца ва ўзводзе разведкі Сяргей. Можа нечаканай падножкай, ударам кулака ў сківіцу любога зваліць на зямлю, добра замаскіравацца, хадзіць ноччу па компасе.

Побач займаюцца дывізійныя разведчыкі. Яны яшчэ больш зухі, чым палкавыя. Усе без выключэння носяць здабытыя ў немцаў плямістыя плашч-накідкі, у многіх трафейныя «шмайсеры», розных марак пісталеты, наручныя гадзіннікі.

Дывізійная разведка — асобная разведрота. Падпарадкоўваецца камандзіру дывізіі і начальніку разведаддзела.

Авантурны дух, які валадарыць сярод разведчыкаў, ідзе ад характару іх занятку. Дывізійная разведрота, нават палкавы ўзвод разведкі выконваюць пастаўленыя задачы самастойна. Усё залежыць ад смеласці, спрыту, вынаходлівасці саміх разведчыкаў. Таму разведчыкі як бы паказваюць сваю непадобнасць на другіх і ў звычайнай абстаноўцы, калі на заданні не ходзяць.

Штосьці падобнае было ў партызанах. Можа, таму Сяргей лёгка прасякнуўся духам, які пануе ва ўзводзе.

Адзін з дывізійных разведчыкаў — зграбны, з прыемным адкрытым тварам хлапчына — па сваёй ахвоце знаёміцца з Сяргеем. Дазнаўшыся, што Сяргей быў у акупацыі, як бы бярэ над ім апеку. Ахвотна адказвае на прагныя Сяргеевы пытанні — як адчуваў сябе ў сорак першым, сорак другім годзе,— расказвае пра баі ля возера Ільмень, на Волхаве, у якіх прымаў удзел...

Днём пры ясным сонечным надвор'і відаць размытыя, няпэўныя абрысы Ленінграда. Вечарам яны нібы губляюцца, раствараюцца ў сiняватай смузе. Святла вялікі, знявечаны горад не запальвае. Але вечары робяцца святлейшыя, працяжнейшыя. Калі паказваюць кіно, то сеансы пачынаюцца гадзін у дзесяць. Ленінград — усё-такі поўнач, і ўжо ў маі прыбліжаецца пара белых начэй.

Кожную вольную гадзіну Сяргей шастае ў роту, да сяброў-местачкоўцаў. Памкамузвода Смірноў, даючы дазвол на адлучку, дзівіцца:

— Адкуль у цябе столькі землякоў? Я вайну прайшоў і ніводнага не сустрэў. Як такое можа быць?

Сяргей расказвае, як пасля вызвалення эшалон мабілізаваных з раённага цэнтра, навакольных вёсак уліўся ў запасны полк, як хлопцы-школьнікі згаварыліся не разлучацца, што дзеля гэтага рабілі.

Смірноў пасмейваецца:

— Франты выбіралі. Які каму па густу...

У Васіля Лебедзя часу менш, чым у Сяргея. Камандзір аддзялення мае шмат дадатковых абавязкаў. Аднак, то прахаджваючыся па вуліцы перад домам, які займае Васілёў узвод, то прысеўшы на бервяне за лазенкай, дзе па чарзе парацца байцы, сябры-таварышы знаходзяць хвіліну хоць для кароткай гаворкі.

— Не думалі, што трапім пад Ленінград,— гаворыць Сяргей.

— Якая розніца?

— Хлопцы, што асталіся ў запасным палку, могуць трапіць на беларускія франты. Грыша Буляк, Пятро Гокель...

— Грыша ліст прыслаў,— ажыўляецца Васіль.— Адаму, твайму брату. Іхняя каманда, па намёках, пад Оршай. Пройдуць па Беларусі...

— На Беларусі вайна не скончыцца. Думаеш, спынімся перад Румыніяй ці Польшчай?.. З Еўропы фашыстаў трэба выгнаць. Ленінград, бачыш, не здалі...

— Пры чым тут Ленінград?

— Пры тым, што карлікавая дзяржава такі горад, як Ленінград, не ўтрымала б. Пры такіх ахвярах. Нам трэба было трымацца...

Найчасцей сябры-таварышы размаўляюць пра мястэчка, знаёмых дзяўчат, абмяркоўваюць навіны, прынесеныя запозненымі лістамі — яны толькі цяпер знайшлі адрасатаў.

Навін асаблівых няма: мястэчка блізка ад фронту, яго бамбяць немцы, знаёмыя хлопцы амаль усе на фронце.

Насуперак усім довадам розуму жыве ў маладых душах стоеная надзея: а раптам сапраўды Германія здасца? Якая ў

яе перспектыва? Тады яшчэ гэтай восенню сядуць хлопцы за парты ў сваім дзясятым класе...

Калі паказваюць кіно, Сяргей стараецца знайсці Васіля, сесці побач. Кінафільмы самыя разнастайныя, ёсць нават амерыканскія, але яны таксама прысвечаны вайне. Сеансы пад адкрытым небам: за лазенкай, на лугавіне, байцы сядзяць на зямлі, белае прасцірадла экрана распята на дзвюх убітых у зямлю жардзінах.

Узвод разведкі ходзіць на начны пошук. Дабіраюцца да вызначанага на карце-двухвёрстцы пункта па азімуту. Сяргей любіць начныя вылазкі. Так было ў партызанах. Колькі павандраваў ён з лесу, з занятых партызанамі вёсак у мястэчка... На сустрэчы з'яўляўся Мікалай Пракопчык, які цяпер ротны ездавы. Прыносіў соль, напісаныя на паперках звесткі пра рух воінскіх эшалонаў праз местачковую станцыю.

Сяргеева ўменне арыентавацца на мясцовасці па зорках, іншых прыкметах заўважана. Яно многа значыць. Сцішана-прыглушаная насцярога, з якой сустрэлі Сяргея старажылы ўзвода, паступова развейваецца.

Старажылаў, акрамя Смірнова і Кіслякова, некалькі. Цяжка сказаць, хто з іх найбольш адметны. Сяржанты Філімонаў і Грыбін — першы атлетычнага складу, ружовашчокі, хітраваты ад прыроды, другі — нізкага росту, чарнявы, з шырокім ротам, прыплюснутым носам — пры ўсёй знешняй сваёй поўнай непадобнасці аб'ядноўваюцца калюча-насмешлівымі характарамі. Філімонаў, вёрткі, як уюн, у дадатак і хвалько, надзвычай любіць пусціць пыл у вочы.

Вялізны, няўклюдны, як мядзведзь, Мерзлякоў таксама любіць жарт. Ён наогул дзівак. З выгляду пануры, засяроджаны, з засеяным чырвонымі балячкамі тварам, на якім найбольш выдзяляецца вялікі кірпаты нос, ён вельмі ўважліва сочыць за сваёй знешнасцю, штодзень падшывае новыя падкаўнерыкі, глянцуе да бляску боты. Ён ды Філімонаў такія франты ва ўзводзе.

Калі параўнаць Філімонава з маўкліва-зацятым Мерзляковым, то пры першым знаёмстве выйграе ён; пры больш праніклівым падыходзе Мерзлякоў паўстае глыбейшай натурай.

Праз дзень ці два пасля паяўлення Сяргея ва ўзводзе да яго падыходзіць Мерзлякоў. Задраўшы галаву, застыўшы, нібы манумент, суровым голасам загадвае:

— Ліжы мае боты!

У першую хвіліну Сяргей бянтэжыцца. Але хутка знаходзіць адказ — прымае тыя самыя правілы гульні.

— Што вы, ваша вялікасць!.. Сваім брудным языком я магу нанесці шкоду вашаму цудоўнаму абутку.

У вачах Мерзлякова скачуць вясёлыя агеньчыкі. Відаць, Мерзлякоў, як і Сяргей, захапляўся ў дзяцінстве раманамі Аляксандра Дзюма і ведае, як павінны паводзіць сябе радавітыя асобы.

Ёсць ва ўзводзе малодшы сяржант Папоў, стройны, як таполя, чарнявы прыгажун. Ён па спецыяльнасці сапёр і ўзяты ва ўзвод дзеля таго, каб разведчыкі не разгубіліся, напароўшыся на калючы дрот ці міннае поле.

Малапрыкметны, спагадліва-ціхі, падобны да хлапчука Ладураў — таксама старажыл. На яго гімнасцёрцы дзве нашыўкі — за цяжкае і лёгкае раненні.

Асобнае месца ва ўзводзе займае Фінкельштэйн, пра якога гаварыў Сяргею Фрэнкель і які вёў, калі ўзнікала патрэба, перамовы з захопленымі ў палон немцамі. Ад гэтай ролі Фінкельштэйн наадрэз адмовіўся, калі з вызваленай Вінніцы атрымаў вестку пра смерць брата. Ён наважыў размаўляць з немцамі толькі мовай зброі. Фінкельштэйн цыбаты, рухавамаўклівы, як бы нясе на твары адзнаку ганарлівай зацятасці.

Астатнія — навічкі, ва ўзводзе па тры-чатыры месяцы, некаторыя, як Сяргей, прыбылі з апошнім папаўненнем.

Старажылы ў сваіх размовах называюць Вялікія Лукі, Старую Русу, возера Ільмень, шэраг іншых мясцін, якія ў свой час падоўгу мільгалі ў ваенных зводках. Навічкі памоўчваюць. Баявога хрышчэння яшчэ не прынялі.

Узвод займае асобны дамок. Пасля адбою, калі няма начных заняткаў, разведчыкі кладуцца спаць. Філімонаў і Мерзлякоў знікаюць. Памкамузвода, старшына і брывом не вядуць. Як бы іх гэта не датычыць. Каравульныя на месцы, ні адзін начальнік знянацку ўзвод не застане.

Мерзлякоў, Філімонаў вяртаюцца апоўначы.

Разведчыкі, падаслаўшы плашч-палаткі, паклаўшы пад галаву рэчавыя мяшкі, акрыўшыся шынялямі, ляжаць упокат на падлозе.

— Ну як? — высунуўшы галаву з-пад шыняля, пытае Смірноў.

— Парадак,— Філімонаў суправаджае свой адказ рагатком.

Мерзлякоў, калі яго пытаюць пра поспех у дзяўчат, адмоўчваецца.

Філімонаў, Мерзлякоў, некаторыя іншыя разведчыкі ходзяць да дзяўчат гаспадарчага ўзвода.

Другіх жанчын, апрача гэтых і яшчэ некалькіх санінструктараў, у палку няма. Іх кахання беспаспяхова дамагаюцца многія, у тым ліку афіцэры.

Ва ўзводзе дзяўчат — не толькі тых, што служаць у палку, усіх наогул,— называюць «дзяшоўкамі». Размовы пра другую палавіну чалавечага роду вядуцца пераважна ў адмоўным плане. Вывад, які вынікае з гэтых размоў, несуцяшальны: кахання, вернасці з дзявочага боку чакаць не прыходзіцца — жанчыны здольныя толькі на здраду.

На свае ўласныя паводзіны байцы ўзвода глядзяць з меншай цнатлівасцю. Ім не грэх і пагуляць, бо яны на вайне, кожнай хвіліны могуць загінуць. Дзяўчаты ж мусяць чакаць іх, воінаў, сваіх абаронцаў.

Смірноў у размовах пра дзяўчат не ўдзельнічае. Лішне іх не ганіць, але гэтаксама трымаецца думкі, што сама жаночая прырода не здольная на самаахвярнасць, доўгае чаканне. А калі не здольная, то навошта патрабаваць немагчымае?

Рухавы, як жывое срэбра, Грыбін учыняе Мерзлякову допыт.

— Ты хоць за руку ў Зіны падзяржаўся?

Мерзлякоў не адказвае.

— Зіна пыталася пра цябе. Дзівілася, як такога, як ты, у разведцы трымаюць. Маўляў, месца яму — у абозе. Кабылай кіраваць. Ды і то калі кабыла будзе ціхая...

Мерзлякоў слухае з нязменным спакоем. Выходзячы за дзверы, кідае:

— Сціхні, вош!..

Ідзе па зямлі сорак чацвёрты пераможны год. Пачынаючы са Сталінграда, з Курскай дугі вал савецкага наступлення нястрымны. Да лічбавых назваў палкоў, дывізій прыбаўляюцца імянныя — Харкаўскія, Кіеўскія, Палтаўскія, Адэскія, Арлоўскія, Смаленскія, Гомельскія... Наступаючая армія падбірае ўчарашніх акружэнцаў, палонных, якім з акружэння, палону ўдалося вырвацца, партызан, ціхіх «прымакоў» — на год ці два ім давялося прыгрэцца каля чужых хат і жонак. Бачылі многія з гэтых людзей шмат ліхога — адступленне, акружэнне ў сорак першым, сорак другім гадах, жахі лагераў ваеннапалонных, фашысцкія карныя экспедыцыі на захопленай ворагам зямлі.

У дывізіях, палках, батальёнах, папоўненых былымі акружэнцамі, палоннымі, увогуле тымі, хто быў пад акупацыяй, пра акружэнні, адступленні ўспамінаць не любяць. Як бы іх не было. На тых, хто быў у палоне, акружэнні, нават проста ў акупацыі, глядзяць з халадком недаверу ці нават прытоенай зняважы. Магутная армія, якая наступае, перамагае, падтрымлівае ў сваіх шэрагах адпаведны пераможны дух.

Аднак крыві ў сорак чацвёртым пераможным льецца не менш, чым у сорак першым, сорак другім. Хто ведае — лягчэй ці цяжэй салдату паміраць цяпер, калі праглядвае ўжо пробліск перамогі і заўтрашні мірны дзень?..

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### I

Перадыслакацыя палка з прыгараднай ленінградскай вёскі на перадавую адбываецца за адну ноч. Вечарам роты, батальёны кіруюцца на бліжэйшую станцыю, грузяцца ў вагоны і, абмінуўшы Ленінград, туманнай раніцай высаджваюцца ў лесе. Чуткі спраўдзіліся. Карэльскі перашыек...

Перадавая, на якую ў першы дзень сягае ўзвод пешай разведкі, уражвае цішынёй. Ні выбухаў мін, ні аўтаматнага, кулямётнага трэску. З траншэі, аплеценай па сценках лазовымі

фашынамі, відаць звычайная балацянка. Між парослага маладой травой куп’я раскіданы рэдкія чэзлыя хвойкі. На нічыйнай паласе — яна тут метраў дзвесце шырынёй — тырчаць голыя, відаць, абцярэбленыя асколкамі хлысты. Яшчэ далей — суцэльнае пнёўе. Пракідваюцца па балацянцы пясчаныя выспачкі. На іх хвоі высокія, з раскідзістымі кронамі. Як дома, у Беларусі.

Па балацянцы, звіваючыся, нібы змейка, працякае ручэй ці рачулка. Называецца Чорная рэчка. Можа, тая самая, ля якой Дантэс Пушкіна забіў на дуэлі?

Абарона тут з восені сорак першага. Можа, таму мае абжыты, ледзь не дамашні выгляд. Дзе яшчэ арміі ў час агромністай, з наступленнямі, адступленнямі, вайны стаялі на месцы ледзь не тры гады?

Абараняе Ленінград з боку Карэльскага перашыйка дваццаць трэцяя армія. Пра яе ходзіць жарт: «Не ваююць тры арміі — шведская, турэцкая і дваццаць трэцяя савецкая». Жарты жартамі, а дваццаць трэцюю вораг з месца спіхнуць не здолеў. Не захапілі белыя фіны Ленінград і Урал, каб стварыць вялікую, яшчэ нячутую, нябачаную Суомі, не дацягнулі.

Зямлянка, у якой размяшчаецца ўзвод пешай разведкі палка, які трымае абарону, уражвае як памерамі, так і ўтульнасцю. Нары — драўляныя, сцены абклеены газетамі, над галавой надзейнае, чатырохнакатнае перакрыцце. Нават электрычнасць у бліндаж праведзена. Акопы, траншэі, хады злучэння выкапаны ў поўны профіль, іх сценкі аплецены лазовымі дубцамі.

Відаць, зайздросцячы абжытасці, грунтоўнасці абароны, вострыя языкі, якія ніколі не завяжаш, цяпер плятуць другое. Маўляў, ад сытасці і жадання прыгод тутэйшыя воіны паціху гандлявалі з праціўнікам. Перапаўзуць на нейтралку, пакладуць на пянчук боханчык хлеба. Назаўтра на тым месцы забіраюць пачак табакі. Праўда ці няпраўда? Хутчэй няпраўда.

Падобныя жарты, размовы, мабыць, сапраўды вынікаюць з таго, што ў віхурнай, зменлівай вайне, якая палыхае хутка тры гады, арміі адступалі, траплялі ў акружэнне, «катлы», зноў наступалі, адмерваючы ва ўсходнім, заходнім напрамках многія сотні кіламетраў. Дваццаць трэцяя стаяла на месцы і ведала адну вайну — пазіцыйную. Каб даць занятак рукам,

майстравалі байцы адмысловыя, з дзюралюмінію, грабяні, расчоскі, тронкі для нажоў, выразалі з каранёў дрэва цацкі. У мірныя дні гандляваць можна было б прыгожымі дзівоснымі цацкамі — пайшлі б нарасхват.

Але згаладаламу, напалавіну вымерламу Ленінграду было не да цацак. Так і асталася незаўважанай, неацэненай адна з дзіўных старонак творчай салдацкай самадзейнасці.

Сяргей мала ведае пра фінаў, пра Фінляндыю. Толькі тое, што напісана ў падручніках геаграфіі і гісторыі. На Карэльскім перашыйку яшчэ ў далёкія, сівыя часы валадарыў Вялікі Ноўгарад. Перашыек захоплівалі шведы, трымаючы яго як фарпост для нападу на Русь, пакуль іх канчаткова не разбілі пад Палтавай. Фіны — невялікі народ, колькасцю каля чатырох мільёнаў, да вайны іх было трошкі больш, чым жыхароў у Ленінградзе. Фінская дзяржава ўзнікла дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі. І вось на Ленінград, калыску гэтай рэвалюцыі, фіны замахнуліся.

У акупацыю хадзілі чуткі пра лютаванне карных фінскіх атрадаў. Адзін паліў вёскі ў суседнім з Сяргеевым Дамачоўскім раёне. Сяргей, калі быў у партызанах, бачыў тыя вёскі. Нават абгарэлых каміноў і калодзежаў не асталося. Здзекаваліся фіны з мірных людзей страшэнна, гэтак жа, як немцы.

Пачынаюцца белыя ночы. На гадзінніку дзесяць вечара, а светла. Змрок надыходзіць павольна, пастуова. Нават ноччу выразна відаць крыжы елачных вершалін на абсягу светлага паўночнага неба.

Нанач разведчыкі размяшчаюцца ў чужым бліндажы. Месца хапае. Палавіна людзей з двух узводаў на перадавой: вядуць назіранне за варожым бокам.

Сяргей доўга не спіць. Варочаецца на мулкіх нарах. Са стоенай трывогай, страхам чакае ён сустрэчы з перадавой. Хоць фактычна яе бачыў. Пасля таго як мястэчка вызвалілі, немцы марудна адступалі з тэрыторыі раёна. Чапляліся за кожную вёску. Уцалелых вёсак мала было. Руіны, папялішчы. Перадавая пралягала па лясах, балацянках, дзе летам размяшчаліся партызанскія буданы. Не было суцэльнай перадавой. Партызаны яе пераходзілі, як хацелі. Пад зіму немцы набудавалі дзотаў, накапалі траншэй, акопаў.

На самую перадавую Сяргей трапіў назаўтра. Увесь дзень быў ва ўладзе дрыжыкаў. Ціўкне куля — і ён прысядае. Але стараўся не паказаць, што баіцца. Быў жа ён пад бомбамі, пад кулямі. Пабачыў трохі вайны.

Траншэі глыбокія, хоць месцамі абсыпаліся, абваліліся. Фінскія траншэі метраў за дзвесце ці нават больш — па той бок лагчыны, па якой пятляе малая, ледзь прыкметная рачулка. Можа быць, тая самая, якая па гэты бок называецца Чорнай рэчкай.

Лагчына-балацянка парасла дробным, чэзлым сасоннікам, ушчэнт пасечаным снарадамі, мінамі. Некаторыя дрэвы голыя, нібы пікі.

Сям-там па рэдкалессі невялікімі купкамі пракідваюцца выносныя сосны. Яны нібы дазорныя грады сасонніку, які ўступамі падымаецца адразу за лагчынай, за пнёўем. За лагчынай — пагорак, ён увесь зарос лесам.

Другі дзень Сяргей на перадавой. Ні на хвіліну не забывае, дзе знаходзіцца. Нервы нацятыя. Усімі пачуццямі, самой скурай адчувае небяспеку. Тым часам страх трэба стрымліваць. Усе баяцца. Толькі навучыліся сабой валодаць.

Разведка ў такой, як тут, усталяванай абароне — назіранне. Раніца цёплая, туманная. Бачнасць — ніжэй нормы. Прыпаўшы вокам да акуляра стэрэатрубы, Сяргей стараецца што-небудзь разгледзець на варожым баку. Сядзіць на кукішках, паклаўшы на дол траншэі спярэшчаную сінімі значкамі карту. На карце нанесены кулямётныя гнёзды, мінамётныя, артылерыйскія батарэі, дзоты. Нічога гэтага, гледзячы ў акуляр стэрэатрубы, Сяргей не бачыць. У прагале, дзе хвойнік расступаецца, відаць насып дарогі. На ёй ніякага руху.

Па разасланай карце бегае жучок. Формай, афарбоўкай падобен на значок, якім адзначаецца артылерыйская батарэя. З карты жучок збягаць не хоча, дабегшы да яе краю, паварочвае назад. Пераходзіць то на наш, то на фінскі бок.

Каля Сяргея спыняецца сівы, з худым, далікатным тварам старшына. З учарашняга дня, прыгнуўшыся, прытрымліваючы рукамі туга напакаваную палявую сумку, шастае ён па траншэі.

— Фамілія? — прымошчваючыся каля Сяргея, пытае старшына.

— Навошта вам?

— Я пісар страявой часці. Выдам табе знак.

— Які знак?

— Такі, па якім цябе пазнаюць нават без дакументаў. Ты ж не ў цешчы ў гасцях — на вайне...

Старшына дастае з палявой сумкі алюмініевы кружочак. На ім шасцізначная ці, можа, нават сямізначная лічбіна.

— Надзень на шнурок і насі на грудзях,— гаворыць старшына. Паклаўшы сабе на калені тоўсты журнал асабовага ўліку радавога і сяржанцкага саставу, робіць супраць Сяргеевага прозвішча адзнаку.— Іначай згубіш. Знаеш сам, што будзе ў адваротным выпадку. Магіла невядомага салдата...

Сяргей кладзе кружочак у нагрудную кішэньку. Ён абыякавы да таго, пазнаюць ці не пазнаюць яго пасля смерці.

— Вы ў страявой часці даўно? — пытае ў старшыны.

— Хочаш заняць маю пасаду?

— Быў на такой пасадзе.

Позірк старшыны лагаднее.

— Я дабравольцам пайшоў на вайну,— паведамляе ён Сяргею.— Мабілізацыі не падлягаў — стукнула пяцьдзясят. У першую германскую і ў грамадзянскую служыў у кавалерыі. Калі Бог будзе літасцівы, тры вайны адолею. Пры чатырох раненнях і дзвюх кантузіях...

Старшына падхапіўся, прыгнуўшыся, сігануў далей...

На назіральным пункце разведчыкі змяняюць адзін другога праз кожныя дзве гадзіны. Мінаючы безліч пераходаў, паваротаў, вяртаюцца ў зямлянку. Сяргей дрыжыць на ўсім шляху. Баіцца не толькі куль, асколкаў, а і таго, што другія заўважаць яго страх...

У зямлянку да разведчыкаў час ад часу заскоквае франтаваты капітан з двума ордэнамі Чырвонай Зоркі на кіцелі. Гэта афіцэр разведкі палка, які трымае абарону.

У час артналёту здараецца смешны выпадак. Некалькі снарадаў, адзін за адным, з аглушальным трэскам разрываюцца паблізу зямлянкі разведчыкаў. Хадуном ходзяць сцены, бярвенне чатырохнакатнага перакрыцця, са столі густымі космамі сыплецца пясок.

Электрычная лямпачка па-ранейшаму вісіць пад столлю, злёгку пагойдваючыся. У час асабліва блізкага да зямлянкі выбуху афіцэр разведкі ўскоквае на чурбачок, які замяняе стул, і пачынае зацята дзьмуць на лямпачку. Праз хвіліну апомніўшыся, засаромеўшыся, выскоквае з зямлянкі.

Ноччу на нашым баку ажыўлены рух. Прыбываюць новыя батальёны, палкі. Асабліва многа тэхнікі засяроджваецца. Гарматы ледзь не на кожным метры. Гарматамі густа, шчыльна застаўлены прылеглы да перадавой абсяг.

У лагчынцы, па якой цячэ ручэй, стаяць прываленыя бярозкамі танкі, самаходкі. Новая тэхніка ўзмоцнена маскіруецца. Цэлы гай маладых бярозак танкісты высеклі, каб прыкрыць машыны.

Але хавайся не хавайся — ляскат гусеніц ноччу чуваць. Варожы бок нервуецца — пускае ракеты, робіць кароткія артналёты.

Як узнагарода за трывожныя, нацятыя дні — першыя на новым месцы лісты з дому. Сяргею іх аж два — ад бацькі і Алімпіяды. Ад бацькі асаблівых навін няма: працуе на чыгунцы, туды пайшоў і малодшы брат, якому толькі споўнілася шаснаццаць гадоў. Станцыю, як і ў пачатку вайны, бамбяць немцы.

Адно паведамленне Алімпіяды Сяргея ўражвае. Дзевяцікласнікі, аказваецца, ходзяць у школу, у ранейшы дзявяты клас. Каб успомніць, паўтарыць матэрыял. З восені пойдуць у дзясяты. Вось, значыць, як! Дзясяты клас будзе з адных дзяўчат, бо хлопцы на фронце. Палавіна іх тут, на Карэльскім перашыйку. Праўда, Міша Цукар у мястэчку. Адзін на ўсіх дзяўчат.

Ад Галі ліста няма. Паўгода ў арміі Сяргей і яшчэ не атрымаў ад яе ніякай весткі. Захапілася лейтэнантамі Галя, ёй не да Сяргея. Дый акрамя лейтэнантаў ёсць ахвотнікі.

Сяргей з пачуццём уласнай перавагі думае пра тых, хто астаўся ў мястэчку. З партызанскай брыгады такіх пакінулі чалавек сорак: у міліцыю, на чыгунку, у іншыя месцы. Аднаўляць народную гаспадарку асталіся некаторыя маладыя, здаровыя людзі...

## II

Белыя ночы...

Лес у першай, незвычайна яркай, багатай зяляніне. Пасля доўгай, зацяжной зімы, халоднай вясны нібы вырваліся на волю стоеныя, жыватворныя сокі зямлі. Не толькі сасна і елка растуць на Карэльскім перашыйку, а ўсе дрэвы, як на родным Палессі: бяроза, асіна, альха, дуб. Трава, кветкі такія самыя, птушкі шчабечуць гэтак жа. На палянах буяе разнатраўе. Але ўсё менш астаецца вольных палян. Белыя, жоўтыя, сінія кветкі бязлітасна вытоптваюцца гусеніцамі танкаў і самаходак. Тэхнікай прылеглая да перадавой прастора аж кішыць. Палкавая артылерыя наогул выводзіцца на адкрытыя пазіцыі.

Разведчыкам, у тым ліку Сяргею, выдаюць невялікія прамавугольныя (каб льга было запіхнуць у кішэнь) кніжачкі — руска-фінскія размоўнікі. Дзіўная фінская мова. Не мае нічога агульнага ні з рускай, ні з нямецкай. Расія па-фінску Венеяла. Ці не таму, што славяне ў далёкім мінулым называліся венедамі?..

А дванаццатай гадзіне ночы Сяргей з Грыбіным прабіраюцца на назіральны пункт, каб змяніць Мерзлякова і Ладурава. Ледзь-ледзь пацямнела. Нават зоркі блішчаць між хвойных вершалін. На варожым баку ціха. На нашым, наадварот, шоргат, скрып, шастанне цёмных ценяў. Ёсць строгі загад: падрыхтоўку да наступлення маскіраваць. Але хіба ўхаваешся? Абсталёўваюцца новыя кулямётныя, мінамётныя ячэйкі, артылерыйскія пазіцыі.

Нечакана жорсткі артналёт. Снарады прылятаюць амаль нячутна, кладуцца густа, ірвуцца з аглушальным трэскам.

У адным месцы прамое пападанне ў траншэю. Чуецца дзікі крык. Ён такі пранізлівы, што, калі сціхаюць выбухі, рэжа слых.

Адказвае наша артылерыя. Сяргей сядзіць, прыхінуўшыся да сценкі траншэі, увабраўшы галаву ў плечы. Звычайная выпадковасць, што ў тую траншэю трапіў снарад. Мог трапіць у гэтую. Нашы і варожыя снарады пралятаюць над галавой. Дуэль, аднак, хутка сціхае.

Вярнуўшыся з назіральнага пункта, Сяргей паспеў пагаліцца, памыцца. За зямлянкай між кусцікаў цяпельца развёў,

каб падагрэць суп, які прыняслі ноччу. Раніца цёплая, сонца ўзыходзіць.

Разанулі паветра кулямётныя чэргі. Нібы хтосьці нябачны жалезны боб на жалезныя дахі высыпае. Кулямётны трэск нарэшце зліваецца ў адну пранізлівую ноту.

Праз некалькі хвілін залп аглушальнай сілы проста кідае Сяргея на зямлю. Ад гэтай хвалі раскідваецца і тухне цяпельца. Грымяць адначасова некалькі дзясяткаў гармат.

Гул з кожным імгненнем нарастае. У дзеянне ўступаюць новыя гарматы, і не толькі тут, паблізу перадавой, а і далей, адкуль страляе корпусная і дальнабойная артылерыя. Нібы канец свету наступае: выразна ўздрыгвае, хістаецца пад нагамі зямля.

Вушы баляць. Трэба трымаць рот адкрытым, іначай не вытрымаюць, лопнуць барабанныя перапонкі. Здаецца, канца не будзе вар'яцкай малацьбе. Круглы шар сонца — яно паднялося досыць высока — праглядвае як праз цёмныя воблакі, што наплываюць на неба з зямлі.

Бачны прасцяг пярэдняга краю ўвесь у дыме. Чым далей, тым кананада ўсё больш нарастае. Гул суцэльны, асобных выбухаў ужо не чуваць. Усё злілося ў магутную, нястрымную, грымотную хвалю.

Кананада працягваецца. Выбухі як бы аддаляюцца, пераносяцца ў глыбіню варожай абароны. Дзікая радасць апаноўвае Сяргея. Прыйшло і на нашу вуліцу свята!.. Шуцкараўцы разам з немцамі хацелі задушыць, знішчыць Ленінград. Не зважалі на многія тысячы, нават мільёны людзей, якія мерлі ад голаду, холаду. Вось вам за гэта!.. Такі агонь, мабыць, быў пад Сталінградам, Курскам. Цяпер тут, на Карэльскім перашыйку.

Сяргей памятае, як пачалася першая вайна з белафінамі. Ён хадзіў у сёмы клас, патроху пачынаў цікавіцца палітыкай. Крыўда брала тады, што нашы так доўга топчуцца на Карэльскім перашыйку. Можа, тады, у трыццаць дзявятым годзе, нашы ўступалі ў вайну з белафінамі з уяўленнямі грамадзянскай вайны?

У абед старшына Кіслякоў прыносіць паўкацялка спірту. Сам ён трохі «на ўзводзе».

— У васямнаццаць ноль-ноль — разведка боем,— паведамляе Кісякоў.— Вядзе першы батальён. Таварыш Смірноў,— старшына пераходзіць на афіцыйны тон,— праверыць наяўнасць аўтаматных дыскаў, гранат.

— Будзе зроблена, таварыш старшына.

Разведчыкі завіхаюцца ля стала. Доўгі, дашчаны, на ножках-козлах, стол парудзеў ад дажджоў, вятроў, ёсць на ім шурпатыя шрамы — адмеціны ад асколкаў, але ён яшчэ надзейна служыць прамому прызначэнню — трымаць кацялкі з не надта разнастайнай салдацкай стравай. У большасці разведчыкаў кацялкі трафейныя, нямецкія, з накрыўкамі: з кацялка ядуць суп, у накрыўкі кашу набіраюць.

Спірт — наркамаўскія сто грам — дзеліць Смірноў. Меркай служыць алюмініевая конаўка, у якой разводзяць мыла для галення. Разведчыкі бяруць спірт хто ў што: у прыстасаваныя для чаявання бляшанкі ад кансерваў, накрыўкі ад кацялкоў, некаторыя, трымаючы напагатове сухар для закускі, выпіваюць сваю долю з конаўкі.

Сяргей таксама выпівае з конаўкі. Праз лічаныя хвіліны пачынае прыемна кружыцца галава. Сяргей цяпер нават з павагай думае пра сябе. На перадавой трохі абвыкся. Калі свішчуць кулі, ірвуцца снарады, не надта палохаецца. Не больш за другіх. У першым батальёне местачковыя хлопцы. У бой Сяргей пойдзе разам з імі.

— На ўсіх складах спірт жанілі,— пацвельваецца Смірноў.— Вядро вады на вядро спірту...

Пасля грымот зноў ціха на перадавой. У надвячорак ад сосен кладуцца доўгія цені. Сонца вісіць над лесам. Святло, якое падае на зямлю, здаецца жорсткім, злавесным.

Па траншэі, прыгінаючыся, бясконцым ланцугом брыдуць незнаёмыя байцы. Сяргей раптам бачыць Васіля Лебедзя, кідаецца да яго. Васіль рады, разгублена трасе Сяргея за рукі. Скатка шыняля цераз плечы, на галаве каска. Траншэя цесная, стаяць доўга нельга. З Косцем Цітком паспявае павітацца Сяргей, са стрыечным братам Адамам, з Багданам Мялешкам.

Сяргею падалося, што ў ланцугу байцоў мільгнуў вузкі, хваравіты твар Сямёненкі. Але як Сямёненка мог трапіць у гэты полк? Служыў у суседнім, тым, дзе раней Сяргей служыў, адтуль яго накіравалі ў медсанбат.

Сяргея паціху б’юць дрыжыкі. Разведка боем — фактычна атака. У акуляры стэрэатрубы відаць купы адзінокіх сосен, пнёўе, абымшэлыя камні-валуны. Дальнія сасоннікі, якія ад перадавой кіламетры за тры-чатыры, нібы ўступамі падымаюцца на пагорак.

Мірна, ціха на варожым баку. Але гэта толькі здаецца, што па той бок лагчыны звычайнае пнёўе, валуны, насып дарогі, па якой ніхто не ездзіць. Там кулямётныя гнёзды, мінамётныя, артылерыйскія батарэі — яны так густа пазначаны на карце, што аж уваччу мільгаціць.

У Смірнова наручны гадзіннік, і ён раз-пораз паглядвае на яго. Круглы твар памкамузвода засяроджаны, спакойны, на ім нельга заўважыць ніякай трывогі. Харошы хлопец. Жыццё прымае якое ёсць. Тры разы паранены, адзін раз цяжка — і хоць бы слова наракання на няўдзячны лёс. У сорак першым, сорак другім, калі Сяргей, жывучы ў мястэчку, вёў з сябрамі-змоўшчыкамі толькі размовы пра фронт, Смірноў ваяваў. Пад Старой Русай, Вялікімі Лукамі, ля возера Ільмень. Мёрз зімой, лежачы ў маскхалаце на снезе, мок восенню...

Нечакана Сяргей бачыць снег. Ён валіць густымі камякамі, засцілаючы пнёўе, пляшыны жаўтаватай супесі, нібы ахутваючы белым вэлюмам дальнія сасоннікі. «Чаму ў чэрвені снег?» — працівіцца свядомасць, шукаючы адказу на нязвычную праяву. Аднекуль, з патайных закарвашкаў памяці, гэты адказ паяўляецца: таму, што тут Поўнач, халодны край. На Першае мая пад Ленінградам таксама ішоў снег.

Адразу з-пад Ленінграда Сяргей трапляе дамоў, у свой раён. Ён у партызанах. Тры брыгады ідуць на падрыў эшалона. Цвітуць лотаць, кураслеп, белыя, сінія пралескі, і раптам на ўсю гэтую квецень таксама валіць снег. Наперадзе пнёўе: лес каля чыгункі немцы высеклі. На ўцалелых соснах папрыбіваны выразаныя з фанеры літары лацінскага алфавіта. Гэта азначае, што подступы да чыгункі прыстрэленыя. Яны, партызаны, пойдуць на штурм...

Сяргей ачнуўся, калі разанулі паветра кулямётныя чэргі. З варожага боку стракочуць два ці тры кулямёты. Мабыць, рух у траншэях заўважылі.

Некалькі імгненняў Сяргей у палоне нядаўняга кароткага сну. Чаму цяпер, летам, сніўся снег? І чаму ў хвіліны небяспекі

ён засынае? Тройчы так было. Летам сорак другога года, калі немцы яго арыштавалі, ён заснуў, як толькі трапіў у камеру. Ідучы ў партызаны, выбіраючыся з мястэчка, спаў пад кожным кустом, калі яго таварышы на хвіліну прыпыняліся, каб агледзецца. Нарэшце, перад самым вызваленнем, калі іх, трох партызан, ледзь не засталі ў вясковай хаце немцы і яны ў пошуку ратунку рынулі ў падполле для бульбы, ён там таксама заснуў.

Магутны выбух, як раніцай, страсянуў зямлю. Страляюць гарматы, размешчаныя блізка, за спіной. Гул страляніны, якая ўсё болей узрастае, аглушае. Траншэі, акопы засцілае дымам.

Наша артылерыя б'е па варожым пярэднім краі. Рэдкалессе, пнёўе за лагчынай ва ўспышках-бліскаўках, у дыме. Нарэшце, невядома адкуль паявіўшыся, правальваючыся ў варонках, ямах, да лагчыны кіруюць тры «трыццацьчацвёркі». Наваколле агалошваецца крыкам «ура», які забіваецца гулам страляніны. Пяхота бяжыць, ціснучыся да танкаў.

Першым з траншэі вывальваецца Смірноў, за ім Кісляkoў. У касках здаюцца незнаёмымі, бягуць трохі прыгнуўшыся, набычыўшы галовы. Сяргей, трымаючы ў руках аўтамат, стараецца ад іх не адставаць. Зямля пад нагамі нібы пульсуе — уздрыгвае ад бясконцых выбухаў.

Сяргей адчувае, як у целе пачынае бунтаваць кроў. Сэрца тахкае моцна, часта, твар гарыць, уся істота нібы працята электрычным токам. Пачуццё, якое нараджаецца ў душы, падобнае на захапленне, апантанасць, найвышэйшую радасць: ён гатовы бегчы да лагчыны, за лагчыну, нічога не страшна. Сяргеем валодае найвышэйшая ўзбуджанасць, нібы злітая ў адно імкненне духу і цела. Наперад, наперад!.. Ён не чуе страляніны, выбухаў, а толькі тахканне сэрца і бунт крыві...

Яны дабеглі да сярэдзіны лагчыны, як ажыў пярэдні варожы край. З пранізлівым трэскам, лопаннем ірвуцца міны. Ненасытнай злосцю захліпаюцца кулямёты. Двое байцоў у шынялях, спіны якіх мільгалі перад Сяргеем, зніклі. Дзе яны? Забітыя, параненыя ці проста так пападалі? Горка ў роце. Ногі падломваюцца. Але яшчэ бяжыць Сяргей. Хтосьці налятае ззаду, валіць на зямлю. Наперадзе, збоку ўздымаюцца чорныя фантаны зямлі. Цяпер і Сяргей бачыць: вораг абараняецца адчайна. Садзіць па нейтральнай паласе так, што галавы

не падымеш. Раніцай у час артналёту здавалася — жывога месца на тым баку не асталося. Асталося, аказваецца.

Побач, цяжка дыхаючы, ляжыць Мерзлякоў. Гэта ён паваліў Сяргея. Твар чырвоны, увесь у поце. Празрыстая кропля вісіць на дзюбцы носа.

— Наперад, давай! — выдыхае Мерзлякоў скрыўленым, засмяглым ротам.— Ад мін трэба наперад...

Яны паўзуць на жыватах, ціснучыся да зямлі. Міны лопаюцца з аглушальным трэскам. Адзін танк гарыць. З-пад вежы вырываюцца чорныя пасмы дыму. Нібы салому паляць.

Агніста-радаснае ўзбуджэнне, якое хвіліну назад валодала Сяргеем, пераходзіць у страх. Ён адчувае сябе слабым, бездапаможным, і страх ад гэтага яшчэ больш узрастае.

Над галавой скрыжоўваюцца кулямётныя трасы. Міны, якія ляцяць з нясцерпным пранізлівым выццём, узрываюць зямлю наперадзе, збоку, ззаду. Пры кожным выбуху Сяргей сціскаецца ў камяк.

Нарэшце яны выбіраюцца з-пад міннага абстрэлу. Натыкаюцца на салдата, які нерухома ляжыць, выцягнуўшы рукі наперад. Як упаў на бягу, так і ляжыць. На спіне, на новай яшчэ гімнасцёрцы,— крывавая пляма. Наогул ён увесь падплыў крывёю. Забіты. Усюды варонкі, варонкі. Свежыя, якія яшчэ пахнуць саладкаватым толавым дымам, і мінулагоднія, пазамінулагоднія, што пазарасталі жорсткай балотнай травой. І маленькія сосенкі паднялі свае іголкі.

Перад імі валун. Вялізны, абымшэлы, ён як збавенне. Да каменя ўжо цiснуцца трое байцоў. Валун як бы на ўзгорку, і адсюль добра відаць дымкі выбухаў. Нагадваюць бурбалкі на вадзе ў час рэдкага, з буйнымі, важкімі кроплямі дажджу. Відаць, як спрытна паўзе дзяўчына — без каскі, у пілотцы, з санітарнай сумкай, якая ляжыць у яе на спіне. Запынілася ля нерухома распластанай постаці салдата з выцягнутымі наперад рукамі, стаўшы на калені, перавярнула забітага тварам уверх. Прыпала вухам да грудзей, папаўзла далей. Мёртвых будуць забіраць ноччу.

Пачынае накрапваць дождж. Стала цямней. Па гадзінніку вечар наступіў даўно, але змрок цяпер спускаецца на зямлю ў палавіне ночы.

Асколкі свішчуць у паветры, стукаюцца аб камень, высякаючы іскры, адскокваюць. Сяргей галавы падняць не можа. Удзельнічаў у атацы, тым часам ніводнага патрона не выпусціў. Куды страляць? Бой такі, што чалавека рве на кавалкі, а хто забівае, невядома. Той, хто страляе, таксама не ведае пра ахвяры. Горача, млосна, страшна.

Марудна, пакутліва цягнуцца хвіліны. Верх бярэ наша артылерыя, і паступова варожы агонь слабее. Сяргей становіцца на калені, аглядваецца. Над галавой з шасценнем праносяцца снарады. Іх пасылае дальнабойная артылерыя. Нават у безупынным гуле можна адрозніць разложыстыя, як глыбокія ўздыхі, стрэлы цяжкіх гармат.

У нізкім, яшчэ светлым небе ўзвіваецца некалькі ракет. Каманда на адыход. Сяргей з Мерзляковым паўзуць назад, да траншэй. У лагчыне зямля чорная, балотная, у варонках — вывернутае карэнне. Двое байцоў цягнуць на плашч-палатцы параненага. Адна нага ў чаравіку, другая босая, акрываўленая, з разрэзанай калашынай.

Прыцемак. Нібы хісткая шэрая сетачка вісіць. Прабіраючыся назад, да траншэі, Сяргей ад Мерзлякова непрыкметна для сябе адбіўся. Доўга блукае між незнаёмых байцоў, пераходзячы з аднаго калена траншэі ў другое.

Нарэшце Сяргей знаходзіць узвод. Разведчыкі сядзяць у маскхалатах, нацягнуўшы капюшоны на галовы. Маўчаць. Двое навічкоў не вярнуліся — параненыя ці, можа, нават забітыя. Наступлення яшчэ не было, а ёсць страты. Наступленне заўтра.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### I

Васіль Лебедзь за скаткай шыняля цераз плечы, з сапёрнай лапаткай, парай лімонак на брызентавай дзязе сядзіць у траншэі на кукішках. Траншэя абжытая. Нехта ў сценцы нарабіў пячурак — каб абоймы патронаў былі пад рукой. Па

траншэі таропка прабіраецца нізенькі, бледнатвары лейтэнант Зотаў. Ён так нізка прыгінае галаву, што крыссё расхлістанага, запэцканага шыняля цягнецца па доле.

— Прыгатовіцца,— чамусьці напаўшэптам камандуе Зотаў.

Васіль не думае пра атаку. Учора атрымаў ліст з дому. Сястра пад дыктоўку маці круглымі, вялікімі літарамі паведамляе: агарод пасеялі, работы хапае.

Што робіць маці — вядома. Надзеўшы акуляры, распорвае, вымервае, перашывае старызну. Як памятае сябе Васіль, яна заўсёды стракоча швейнай машынкай.

І яшчэ адна трывожная навіна: ні ад Кліма, ні ад Багуновых хлопцаў вестак няма.

Клім — старэйшы Васілёў брат. Ён бліскуча вучыўся. Са сваімі рэдзенькімі светлымі валасамі, акулярамі на дзюбатым носе, засяроджаным, задуменным тварам яшчэ ў школе быў падобен на настаўніка. Адзін з усіх местачкоўцаў Клім пасля дзесяцігодкі паступіў у ІФЛІ — інстытут філасофіі, літаратуры, гісторыі. Але правучыўся ў Маскве толькі год. Калі пачалася вайна, запісаўся ў студэнцкі батальён. З таго часу не прыслаў дамоў ніводнага ліста.

У адным двары з Васілём, у казённым, з жоўтымі аканіцамі доме, жыў сельсавецкі сакратар Багун — магутны мужчына з вялікім, нібы начоўкі, жыватом. Багун быў добры, памяркоўны чалавек. Адзіны ягоны недахоп — любіў выпіць. Жонка Багуна, маленькая, рухавая, нібы мышка, выкладала ў школе нямецкую мову. У сям'і было два хлопцы — Сяргей і Барыс, з якіх старэйшы паступіў у маскоўскі хіміка-тэхналагічны інстытут, маладзейшы — у лётнае вучылішча.

Барыс заўсёды любіў дужацца, ад раніцы да вечара круціўся на турніку. Мабыць, гэтак жа, як і Клім, прапалі Багуновы хлопцы, бо, як піша сястра, вестак пра сябе не падаюць.

Васіль нібы зрокава бачыць свой двор, прысадзісты дамок, стромкія таполі ў правулку. Агарод у Лебедзяў невялікі — дзве-тры грады. Яны ў мястэчку людзі наезджыя, на нармальны надзел разлічваць не маглі. Пасяліліся ля базарнай плошчы, на вольным лапіку. Тут ужо стаяла хароміна высланага нэпмана, якую заняў сельсавецкі сакратар Багун.

Васіль любіць месца, дзе жыў, бегаў басанож, вырас. Яно самае ціхае ў мястэчку. Толькі ў нядзельныя дні пад

вокнамі дома гамоніць базар. Ганчары — іх у мястэчку завуць гаршчанікі — прывозяць, застаўляюць гаршкамі, міскамі, макітрамі, гладышыкамі ледзь не палавіну базарнай плошчы.

На шырокіх дубовых калодках адны і тыя ж мяснікі, Бэмкала і Мэндаль, рассякаюць каравячыя ці свіныя тушы. Яны нават падобныя адзін на другога, Бэмкала і Мэндаль,— абодва прысадзістыя, з тоўстымі шыямі, чырвонымі тварамі.

Калі Васіль толькі пачынаў хадзіць у школу, іхнюю карову, вялікую, бурую і надзвычай малочную, прыйшлося прырэзаць. Ёй у статку другія каровы прабілі бок, і яна ледзь цягала вялікі, вывалены ў адзін бок жывот. Апошнім летам карову ў статак не пускалі. Васіль пасвіў яе адну, і яна добра паіла сям'ю малаком.

Маці плакала, калі Мэндаль, прыйшоўшы ў хату, стаў тачыць на бруску доўгі бліскучы нож.

Мала выручылі грошай за карову. Мяса ў той дзень было аж занадта. Маці, каб вызваліць рукі, прадавала за паўцаны.

Маці адна падымала дзяцей — Кліма, Васіля, Анюту. Бацьку Васіль мала памятае. Яму было гадоў шэсць, калі бацька памёр. Працаваў механікам на млыне. Калі ішоў на работу, прысядаў на ўсіх лавачках: меў хворае сэрца.

...Лейтэнант Зотаў у тым жа расхлістаным шынялі бяжыць па траншэі назад.

— Правер кулямёты! — кідае Лебедзю на хаду.

У аддзяленні адзін ручны кулямёт Дзегцярова.

Кулямётчык — партызан Мялешка. Другі нумар — хлопец з Васілёвага раёна, Сяміненка. Быў у суседнім палку, але захварэў, з медсанбата трапіў у аддзяленне, якое напалавіну складаецца з землякоў. Большасць землякоў — местачкоўцы. Праўдамі і няпраўдамі дамагаліся, каб ехаць на фронт у адной маршавай роце. Трымаюцца гуртам, і начальства асабліва не пярэчыць.

Сяміненку не варта было залічаць у аддзяленне. Слабы і хворы. Куды-небудзь у абоз яго. Але Мялешка пашкадаваў. Згадзіўся ўзяць у памочнікі.

Мялешка сядзіць, прыхінуўшыся спіной да сценкі траншэі, трымаючы між калень ручны кулямёт. Другі нумар прымасціўся побач — яго бледны, востры, нібы стручок, тварык спалохана выглядвае з-пад паднятага каўняра шыняля.

— Чуў каманду? — Васіль глядзіць на Мялешку. Пра кулямёт не пытае. У Мялешкі можа быць адарваны гузік, не падшыты падкаўнерык, але «дзегцяроў» блішчыць кожнай шрубкай.

— Чуў,— вяла адказвае Мялешка.— Дай закурыць.

— Хіба не ведаеш? Не куру...

— На цукеркі табак мяняеш?

У аддзяленні Лебедзя акрамя Мялешкі яшчэ два партызаны, Лявоненка і Рагамед, і местачкоўцаў чацвёра — Пятро Герасімовіч, Адам Каліноўскі, два Косці — Русаковіч іЦіток. Местачкоўцам у пэўным сэнсе можна лічыць і таджыка Рахіма. У мястэчку ён адбіўся ад сваёй часці, і ваенкамат, не ведаючы, куды яго дзець, накіраваў разам з прызыўнікамі ў запасны полк.

Васілю не надта прыемна, што пад яго камандай знаёмыя, блізкія людзі. Не вельмі з імі разгорнешся. Асабліва дапякае Косця Ціток. З пятага класа разам вучыліся, і наогул Косця задзірысты, напорысты, заўсёды з Васіля насміхаўся.

Два пажылыя салдаты, выняўшы расшытыя ўзорамі кісеты з кішэняў ватных штаноў (мабыць, седзячы ў траншэі, свядома іх не здымаюць), круцяць самакруткі. Шапкі на салдатах таксама зімовыя. Мялешка ўжо ля байцоў. Не пытаючыся, лезе ў чужы кісет. Пазіраючы на Мялешку, Васіль весялее. Дзіўны чалавек. Ніколі не вешае носа. Яго б варта было прызначыць камандзірам аддзялення. Тым болей што ён партызан, падрыўнік. Але начальства Мялешку недалюблівае. Можа, таму, што ён ва ўсё совае нос, трымаецца незалежна і любіць даваць парады.

Сам Васіль у партызанах не быў. Памагаў ім. Загады яму прыносіў Сяргей Каліноўскі, які цяпер ва ўзводзе разведкі. На другім годзе вайны, калі пачалі забіраць моладзь у Германію, Васіль уладкаваўся на працу ў гандлёвую кантору. Другога выйсця не было — інакш фашысты загналі б яго куды-небудзь на шахту. У сорак трэцім годзе, месяцаў за пяць да прыходу нашых, Сяргей прынёс Васілю заданне: спаліць гандлёвую кантору. Дзеля гэтага перадаў фосфарныя шарыкі, загорнутыя ў прамочаную газай анучку.

Васіль не падумаў, што газа хутка выпарваецца. Шарыкі загарэліся ў кішэні, калі ён сядзеў у канторы за пісьмовым сталом. Боль быў страшэнны, але Васіль выцерпеў, не крыкнуў, нават віду не падаў, што гарыць яго цела. Выйшаў на двор, затаптаў фосфар у пясок. Дзяўчатам-сакратаркам сказаў, што ў кішэні загарэлася цыгарэта. Добра, што немца-шэфа не было. Той бы здагадаўся, якая цыгарэта. Дзяўчаты Васіля не выдалі.

Маці потым тры месяцы лячыла яго.

Званне яфрэйтара Васілю прысвоілі залішне хутка — праз месяц пасля таго, як прыбыў у полк. Ён спадабаўся камандзіру роты Чубукову, і Чубукоў захацеў паставіць яго на аддзяленне. У арміі свае парадкі. Мялешка быў падрыўніком, куляў нямецкія эшалоны, у кадравай арміі служылі Рагамед і Лявоненка, яны, відаць, лепей за Васіля ведаюць ваенную справу, а званне яфрэйтара прысвоілі яму.

Рагамед другі раз на Карэльскім перашыйку. Служыў пад Ленінградам кадравую, калі ўспыхнула фінская вайна. Прайшоў яе ўсю. Павінен быў дэмабілізавацца, ды гэтая вайна пачалася.

Абстрэл варожай перадавой нарастае. Нарэшце па ланцужку каманда: атака! Нацяты, напружаны Васіль імгненна выскоквае з траншэі. Мялешка з Сямёненкам апярэджваюць яго. З ручным кулямётам Дзегцярова на плячы падрыўнік сігае, як алень, пераскокваючы ямы, варонкі. Сямёненка, трымаючы ў абедзвюх руках каробкі з дыскамі, блытаючыся ў крыссі доўгага, да пят, шыняля, з усёй сілы стараецца не адстаць.

Вось ужо сячэ з кулямёта Мялешка. Доўгай, залівістай чаргой. Васіль радуецца. Кулямёт іх аддзялення дзейнічае. Страляюць усе, хто бяжыць наперадзе. Рагамед, насунуўшы каску, што вачэй не відаць, бяжыць спакойна, нетаропка, валюхаючыся, як мядзведзь, і раз-пораз падымаючы аўтамат. Толькі Пятро Герасімовіч Васілю не падабаецца. Бяжыць без каскі, без шыняля. Твар белы, вочы вырачаны. Нібы шалёны.

Абганяючы пехацінцаў, вынырвае танк. Рагамед вопытны. Праз хвіліну пад сховаю танка валюхае. Сярод байцоў, якія ціснуцца да танка, старшы лейтэнант Чубукоў, перахлябісты, чорны з твару. Чубукова, як камандзіра роты, ніколі не

застанеш на месцы, ён заўсёды носіцца, але не робіць заўваг ні байцам, ні ўзводным камандзірам.

Палкавая артылерыя б’е прамой наводкай. Варожы бок, счакаўшы, калі ланцуг наступаючых дабяжыць да сярэдзіны нейтральнай паласы, адкрывае шалёны агонь. Страляюць з кулямётаў, мінамётаў, гармат. Наперадзе, ззаду, збоку бачны выбухі. У Васіля перапонкі ледзь не лопаюцца, зусім аглух. Ад дыму, гару дыхаць цяжка.

Ланцугі залягаюць. Байцы падаюць на зямлю, дзе застаў іх агонь. Васіль першы раз у такім пераплёце. З бліжняй варонкі пачынае тахкаць кулямёт. Мялешка страляе. Талкова, засяроджана, кароткімі чэргамі.

Танк спыніўся, але стральбу працягвае. Відаць, як уздрыгвае яго вежа. Другі, які ішоў правей — толькі цяпер Васіль яго ўбачыў,— гарыць. Ад яго похапкам адпаўзаюць байцы. Баяцца, што ўзарвецца.

Раптам Васіль з жахам заўважае Пятра Герасімовіча. Ён без аўтамата, без пілоткі. Ускочыць, прабяжыць, зноў лажыцца. Носіцца між варонак, нібы спуджаны заяц. Яшчэ два-тры імгненні Лебедзь бачыць, як мітусіцца Пятро, затым губляе яго з поля зроку.

Па ланцужку каманда: прабірацца да танка, да камандзіра роты. Выкідваючы правую руку, у якой аўтамат, Васіль паўзе. Ля танка Рагамед і Косця Русаковіч.

З варожага боку агонь прыціхае. Насядаюць нашы. Наш бок увесь у дыме і агні: б’юць дзясяткі гармат, мінамётаў. Мігцяць вогненныя бліскаўкі стрэлаў. У дыме і пазіцыі праціўніка — ад выбухаў нашых снарадаў і мін. Нават цяжкая артылерыя ўступіла ў работу: пасылае снарады, якія адчувальна шасцяць на ляту.

— За мной! — камандуе Чубукоў.— Ад танка не адставаць. Сапёры зрабілі праход...

Значыць, міннае поле наперадзе. У Чубукова засмяглыя губы, запалыя вочы. Страляючы на хаду, танк пасоўваецца наперад. Прыгінаючыся, за ім цярэбяцца байцы. У каго скатка за плячамі, хто ў шынялі. Некаторыя байцы нават на танк узабраліся. Сядзяць, вісяць, трымаючыся за скабы, крукі.

Справа яшчэ адзін танк прасоўваецца. Цяпер большая палавіна агню артылерыі засяроджана на вузкім участку ва-

рожых пазіцый, да якіх марудна, раз-пораз спыняючыся, уздрыгваючы ад стрэлаў, прабіраюцца танкі. Па танках адчайна б'юць гарматы непрыяцеля, якія здолелі ўцалець у такім пекле. Два-тры разы снарады рыкашэцяць ад брані, выпісваючы пакручастыя вогненныя дугі.

Міны гахаюць з боку ад танка. Трое байцоў, нібы снапы, звальваюцца з брані. Нехта пранізліва, страшна крычыць. Васіля абдае выбуховай хваляй, ротам ён адчувае саладкаваты смак толавага гару, камякі зямлі, узнятай мінай, падаючы, б'юць па яго спіне.

Яшчэ адзін рывок — і яны ў лагчыне. Добра відаць парослы травой насып варожай траншэі. Перад ёй, за ёй — дымны ланцуг выбухаў. Снарады, міны з метадычнай паслядоўнасцю, нібы нябачныя цапы, малоцяць па невялікім абсягу пярэдніх траншэй.

Праз дзве-тры хвіліны агонь пераносіцца ў глыбіню варожай абароны. Пярэдні шэраг наступаючых дасягае траншэі. Танкі — яны дарываюцца першымі,— коўзаючыся ўперадназад, прасуюць насып траншэі. Выскокваюць шэрыя постаці варожых салдат, спрабуюць уцякаць. Іх тут жа скошваюць аўтаматнымі, кулямётнымі чэргамі. Адзін нават рукі падымае. Але падае таксама.

Васіль адну за другой шпурляе дзве лімонкі ў левы згіб траншэі. Яна поўная дыму. Калі дым развейваецца, Васіль ускоквае ў траншэю. Дзе хто з байцоў аддзялення, не ведае.

Нечакана ў траншэі паяўляецца Мялешка. Твар узбуджаны, нават вясёлы, на плячы «дзегцяроў». Нібы цацку, нясе на сабе Мялешка ручны кулямёт.

— За мной! — гукае Мялешка, нібы ён, а не Лебедзь камандзір аддзялення. Васіль ахвотна яму падпарадкоўваецца. Мялешка нясецца па звілістых ходах траншэі, як малады алень. Вось ён на імгненне прыпыняецца, кінуўшы «дзегцярова» на бруствер, торкае кулямётнай чаргой. Яшчэ і гранату паспявае шпурнуць у згіб траншэі.

Кулямёт, відаць, усё ж замінае Мялешку. Ён яго дзесьці прытыкае (дзе, Васіль не паспявае заўважыць). На жываце ў Мялешкі целяпаецца нямецкі «шмайсер». Наперадзе мільгаюць дзве фігуркі. Мялешка тут жа прашывае іх кароткімі аўтаматнымі чэргамі.

Упершыню зблізку бачыць Васіль забітых фінаў. Абодва салдаты маладыя, светлавалосыя. Ляжаць на спіне. На тварах, якія яшчэ здаюцца жывымі, нібы напісана недаўменне. У аднаго пасма валасоў прыкрывае высокі юнацкі лоб. Мундзіры ў фінаў пад колер падзолістай лясной зямлі. У такі колер сяляне фарбуюць даматканае сукно, шыюць з яго світкі.

Узбуджэнне, якое ахапіла Васіля, пакрысе спадае. У яго няма ніякага варожага пачуцця да забітых. Наадварот, думае пра тое, што фіны маладыя, на год-два старэйшыя за яго, і самая пара ім жыць.

У траншэю было некалькі прамых пападанняў. Абшытыя пляцёнкамі фашыны, сценкі ў многіх месцах абваліліся, абсыпаліся. Праз лазовыя ячэйкі тоненькімі струменьчыкамі сыплецца бура-жоўты пясок.

Трапляецца яшчэ некалькі забітых — у траншэі і паблізу яе. Мёртвыя часцей ляжаць нічком, тварам у зямлю, выцягнуўшы наперад рукі. Некаторыя сядзяць скурчыўшыся, утуліўшы галаву ў плечы: імкнуліся глыбей зашыцца, зліцца з зямлёй, і смерць застала ў такім становішчы.

Бой заціхае. Вынік выдатны: у час разведкі боем захоплена частка траншэі. Мялешка дзесьці знік. Затое Лебедзь спатыкае Рагамеда. На плячы ў таго два аўтаматы — свой і нямецкі.

— Герасімовіча забіла,— паведамляе Рагамед.

Значыць, смерці шукаў Пятро, думае Лебедзь. Мітусіўся, насіўся сярод выбухаў. Хоць загінулі не толькі тыя, што бегалі. Смелых таксама многа палягло. Цяжка ўцалець пры такім агні.

Васіль толькі цяпер успамінае, што ён камандзір аддзялення.

— Трэба дакументы Герасімовіча забраць,— кідае Рагамеду.

Разведка боем скончылася, але цяжкія снарады шасцяць над галавой. Дальнабойная артылерыя працягвае абстрэл глыбіні варожай абароны.

Аднекуль вынырвае Мялешка. Зноў нясе «дзегцярова» на плячы.

— На, жуй,— працягвае Васілю шараваты квадрацік.

— Што гэта?

— Іхнія галеты. Бліндаж абшарыў. Нічога болей няма. Галота. А яшчэ ў вайну палезлі...

— Колькі часу? — пытае Лебедзь, ведаючы, што ў Мялешкі ёсць трафейны гадзіннік.

— Сем.

Артпадрыхтоўка пачалася ў шэсць вечара. Значыць, усё, што адбылося, цягнулася толькі гадзіну. Неверагодна. Васілю вечнасцю здаўся першы бой.

Аддзяленне амаль усё ў зборы. Косця Русаковіч, Адам Каліноўскі, Лявоненка, Рагамед, таджык Рахім і астатнія. Няма Косці Цітка.

Дождж мацней прыпускае, Васіль нават не заўважыў, калі ён пачаўся. З лагчыны напаўзае туман. Выбраўшыся з траншэі, Рагамед, Лебедзь і Адам Каліноўскі паўзуць да месца, дзе забіла Герасімовіча. Гімнасцёркі мокрыя. Сцякаючы з пілотак, вада трапляе за каўнер. Ад гэтага непрыемна. Разпораз трэба абмінаць варонкі. Імі пасечана ўся зямля.

Туман робіцца шчыльнейшы, і ўсе трое падымаюцца. Іначай нікуды не дапаўзеш. Санінструктары блукаюць між варонак, байцы музычнага ўзвода. Узвод гэты на час бою ператвараецца ў трафейна-пахавальную каманду.

— Вось тут,— падае голас Рагамед.

У гэтым месцы растуць два кусцікі ядлоўцу. На чалавека, які ляжыць пад імі і які гадзіну назад быў Пятром Герасімовічам, нельга глядзець без дрыжыкаў. Твар бяскроўны — белы аркуш паперы. Чэрап знесены. Верхавінка чэрапа, адсечаная асколкам, ляжыць крокі за тры. У яе, нібы ў пасудзіну, наліло дажджавой вады.

Лебедзь, стойваючы дрыжыкі, шукае Пятровы дакументы. У гімнасцёрках, якія ім выдалі, кішэнек няма. Нарэшце намацвае і выцягвае пакуначак з кішэні штаноў. Салдацкую кніжку і лісты-трохкутнікі з дому Пятро загарнуў у насоўку. Нават ніткай перавязаў.

У Рагамеда плашч-палатка. Труп Пятра кладуць на яе. Узяўшы за рагі плашч-палаткі, стараючыся не паглядаць на ношу, валакуць да месца, дзе трафейна-пахавальная каманда капае брацкую магілу. Сюды ўжо многа трупаў насцягвалі.

Заступы скрыгочуць. Зямля жорсткая, камяністая. Ёсць мясціны, дзе і заступ не ўваб’еш.

## II

Светлая шэрань залягла між хвой, камянёў-валуноў, на дне спавітай туманам лагчыны, дзе акопы і траншэі. Над дальнімі сасоннікамі, якія ўступамі падымаюцца вышэй і вышэй, бялее палоска зары. Гадзін адзінаццаць, а тут, у паўночным краі, толькі-толькі зайшло сонца.

Цішыня. Ніводным стрэлам не азываецца ні наша, ні варожая перадавая. Тысячы жэрлаў гармат усіх калібраў з адкрытых, закрытых пазіцый накіраваны ў бок Карэльскага перашыйка. Заўтра наступленне, заўтра яны бязлітасна рыгнуць агнём, металам, смерцю.

Да траншэй падцягваюцца новыя роты. Пазвоньваючы кацялкамі, пабразгваючы аўтаматнымі дыскамі, складзенымі ў рэчавыя мяшкі, шоргаючы па камяністым доле новымі чаравікамі, бясконцым шнурам ідуць у шэрань ночы байцы новых рот, батальёнаў.

У Сяргея прыўзняты настрой. Усё, што адбываецца навакол, ён успрымае як таямнічы знак лёсу, які мае прамую сувязь з яго асобай. Нібы абвявае ягоны твар само дыханне гісторыі і ён прысутнічае пры значных кроках яе чыннасці. Наступленне на Карэльскім перашыйку — гэта канчатковае знішчэнне блакады Ленінграда, якая, абвіўшыся, нібы змяя, вакол вялікага горада, больш за два гады душыла яго. Жарты сказаць, насельніцтва да вайны ў Ленінградзе было амаль столькі, колькі ва ўсёй Фінляндыі.

Колькі гаварылі, пісалі пра другі фронт, а адкрыўся ён толькі цяпер, два дні назад. Зноў нібы на вачах у Сяргея. На паўночным узбярэжжы Францыі высадзіліся саюзнікі і ўжо занялі горад Шэрбур. Атлантычны вал, значыць, не такі непрыступны, як трубіў у сваіх газетах Гебельс.

Цішыня, лагоднасць цягнуцца скрозь кароткую, цёплую ноч. Нарэшце з процілеглага боку, з-за мора, выкатваецца агністы шар сонца. Проста дзіва бярэ, як за такі кароткі час сонца змагло апынуцца на процілеглым краі зямлі. Зямля дыхае свежасцю — умыта ўчарашнім дажджом.

Сонца паднялося досыць высока. Цішыня нібы звініць ад нацятасці. Нарэшце ўзрываецца зямля. Сотні, тысячы ствалоў,

засяроджаных на бліжніх, дальніх подступах да перадавой, у адначассе адкрываюць агонь. Б'юць караблі Балтыйскага флоту.

Тысячагалосы гул зліваецца ў штосьці суцэльнае, грандыёзнае, чаму няма назвы, бо ніякай, хоць блізка падобнай з'явы ў прыродзе няма. Можа, каб кожнае імгненне білі перуны, над кожнай цаляй зямлі разлягаліся грымоты, можна было б уявіць нешта падобнае. Неба адразу цямнее, захінаецца дымам, і скрозь цёмную густую заслону ледзь прыкметна выблісквае сонца. Як у час сонечнага зацьмення бачны вялікі кружок, на які можна глядзець, не баючыся папсаваць вочы.

Такога тут, на Карэльскім перашыйку, яшчэ ніхто не чуў і не бачыў. Ні старажылы, ні навічкі.

Больш як два гады Сяргей жыў пад акупацыяй, бачыў, як у сорак першым годзе ў мястэчка ўступалі немцы. Ганарыстыя, нязломныя, закаваныя ў браню. У іх была яўная перавага ў танках, мінамётах, самалётах. Нашы адыходзілі з аднымі вінтоўкамі, у пацямнелых ад поту гімнасцёрках. Калі гімнасцёркі пад вечар высыхалі, на іх выступала соль.

Два гады Сяргей думаў пра тое, без чаго, каб яно не здзейснілася, не варта было жыць: пра выгнанне фашыстаў. Пакутаваў, не могучы ўявіць, як тыя самыя чырвонаармейцы наступаюць пад прыкрыццём танкаў, перамагаюць сілай тэхнікі. Ён прывык мысліць канкрэтна, перад вачамі, калі думаў пра наступленне савецкіх войск, паўставалі даўнія, бачаныя ў пачатку вайны малюнкі адступлення.

Пры вызваленні мястэчка Сяргей таксама не ўбачыў багацця савецкай тэхнікі. Наступленне, распачатае пасля паспяховага фарсіравання Дняпра, затухала. Войскі былі стомленыя, тэхнікі мелі няшмат.

Тут, на Карэльскім перашыйку, карціна зусім інакшая. На вачах творыцца цуд. Пасля ганьбы адступленняў, паражэнняў, пакут заціснутага ў смяротэльнай пятлі блакады Ленінграда найвышэйшае дасягненне, гонар — наладзіць ворагу такую пачостку. Поўны трыумф тэхнікі! Збіраліся, панове, сцерці Ленінград з твару зямлі, церабілі ў смелых планах дарогу аж на Урал... Няпрошаных гасцей вось такімі падарункамі частуем. Не саромцеся, панове. Чым багаты, тым і рады. Падарункаў вам назапасілі...

Ленінград, які ажыццяўляе такі ўдар, нагадвае сціснутую да адказу стальную спружыну, якая імкліва распрамляецца.

Другі, трэці раз ля самай траншэі, у якой сядзяць разведчыкі, разрываюцца снарады.

Асколкі свішчуць над галавой, але настрой у Сяргея святочны. Ён удзячны лёсу, што дажыў да гэтага дня і нібы бачыць зарніцу перамогі.

Варожы бок адказвае слаба. Так здаецца, можа, таму, што агонь праціўніка проста немагчыма параўнаць з вогненнай лавінай, якая абрынулася на яго пазіцыі. Увогуле выбухі варожых снарадаў, мін часта чуюцца то тут, то там, і прыходзіцца здзіўляцца, што тэхніка не ўсёмагутная. Учора наша артылерыя так малаціла бліжнія, дальнія варожыя пазіцыі, што проста нельга ўявіць, як маглі ўцалець гарматы, мінамёты, якія цяпер страляюць.

## III

Зямля задрыжала ад артпадрыхтоўкі. Мялешка між тым толькі пачынае чысціць бульбу. Першае снеданне ён ужо з’еў. Бачкі з супам, кашай прынеслі ў траншэю яшчэ ў той час, калі імглістая шэрань толькі пачынала змяняцца матавай белізной світання.

Мялешка добра выспаўся, разаслаўшы шынель на доле акуратнай, адваяванай у час учарашняй разведкі боем варожай траншэі. Шынель злёгку волглы — ноччу над траншэяй вісеў туман, які напаўзаў знізу, з лагчыны.

Мялешка палыкнуў наркамаўскія сто грамаў, закусіў кашай з вечка нямецкага кацялка, пасёрбаў супу. Калі наважыў піць чай, выявіў, што ў атрыманым учора на два дні цукру поўна мурашак. Нядбайны ён гаспадар. Рэчавы мяшок не завязаў, і, мабыць, мурашкі з усёй траншэі рынуліся на яго цукар. Спачатку ён узяўся выкідваць мурашак, ловячы іх агрубелымі, перапэцканымі ружэйным маслам пальцамі, але мурашак было многа, і ён пакінуў няўдзячны занятак. Ды і цукар зрабіўся цёмны, руды, бо наліпаў на брудныя пальцы. Піць чай з такім цукрам не хацелася.

Вось тады Мялешка і ўспомніў, што ў яго ёсць салёная рыбіна і некалькі бульбін. Сцібрыў учора на кухні. Хутка пачнецца атака, яго могуць забіць, і харч прападзе марна.

Мялешка аж прысвіснуў ад задавальнення. Яму нібы адказала тоненькім свістам маленькая шэрая птаха, што скакала на вецці ядлоўцавага куста за тры-чатыры метры ад траншэі. Шчэбет малапрыкметнай птахі яшчэ вышэй узняў Мялешкаў настрой, і ён падумаў, што ўсё будзе добра.

Бульбу ён спаласнуў чаем, парэзаў рыбіну, цяпельца развёў у нішы траншэі. Дым не страшны — уся зямля ў дыме. Хвілін праз некалькі вада ў кацялку забулькала. Але Мялешка не спяшаўся. Чакаў, каб і бульба, і рыба зварыліся.

— Выцягвай вялікую лыжку,— паклікаў нарэшце Сямёненку.— Будзем боб малаціць.

Мялешка — гуртавы хлопец. Прывык жыць на людзях. Іншага жыцця не ўяўляе. Ён бы яшчэ каго пазваў пакаштаваць юшкі, ды нямецкі кацялок малы.

Выбухі грымяць. Калоціцца, уздрыгвае зямля. Юшка тым часам выдатная атрымалася. На смак — такая, як у партызанах. Пахне дымам, смалою.

Студзячы юшку, едучы, стараючыся перакрычаць гул кананады, Мялешка павучае Сямёненку:

— Дзяржыся за мяне. Не прагадаеш. Я ўсе хады-выхады знаю. Думаеш, хлушу, што шэсць эшалонаў кульнуў?..

Мялешка не хлусіць. Пачынаючы з басаногага дзяцінства яго найбольш вабілі, уражвалі розныя вострыя моманты. Напрыклад, спосабы залезці ў чужы сад. Не адны толькі яблыкі цікавілі Мялешку, а і хітрыкі, падыходы, віжаванне за гаспадаром, пранізлівае пачуццё небяспекі, калі, нырнуўшы ў дзірку ці праскочыўшы цераз плот, крадзешся па чужым садзе, ірвеш, хапаеш яблыкі, хаваеш за пазуху. Ён любіў радаснае пачуццё пераможцы, калі на ўвесь дух ляціш з саду, ведаючы, што небяспека мінула, а наперадзе асалода — пазуха яблык, якія рыпяць, тручыся адзін аб адзін.

Тое ж было ў партызанах. У сэнсе пачуццяў. З невялікай розніцай, вядома. Чыгунку немцы моцна ахоўвалі, і кожную хвіліну можна было злавіць кулю. Але Мялешка не верыў у такі вынік. Яму заўсёды шанцавала. Часта, вельмі часта

трапляў ён у цяжкія, здавалася б, безвыходныя пераплёты, але выкручваўся. Ён ведае гэтую сваю якасць — уменне выкручвацца, ганарыцца ёю. Пры небяспецы ён не губляе, як другія, галаву. Наадварот, у такія хвіліны ён дзейнічае хутка, дакладна, прымае правільныя рашэнні.

Мялешка ні ад каго не хавае тайнаў. Пахваляецца сваім геройствам. Ён кампанейскі, спагадлівы, цягнецца да людзей. Можа, таму, што жыў сіратой.

Выскрабшы кацялок, Мялешка выцягвае з пячуркі, выкапанай у сценцы траншэі, прыхаваны недакурак, прыпальвае. Абодва куламётчыкі сядзяць у нішы траншэі, трохі наводдаль ад другіх байцоў. На зямлі, у небе — раве, скавыча. Артпадрыхтоўка ў самым разгары. Аглухнуць можна.

— Пасля каманды — за мной! — крычыць Мялешка ў самае вуха Сямёненку.— Галоўнае — не адставаць. Я ўпаду, ты падай...

— Галава баліць. У вушах аж жыгае. Як бы хто па галаве стукае...

— Кроў стукае. Ты — галоўнае — не палохайся. Не думай нічога такога...

— Я не думаю. Вушы яшчэ дома балелі.

Зусім блізка разрываюцца снарады. Чуваць, як над галавой са злосным вурчаннем пралятаюць асколкі. Аслабленыя лётам, ірваныя кавалкі металу іншы раз падаюць у траншэю. Рукой кранаць іх нельга — гарачыя...

— У цябе дома хто? — пытае Мялешка.

— Маці.

— Бацька дзе?

— Маці адна жыве.

— У мяне сястра ёсць,— як бы пахваляецца Мялешка.— Перад вайной педагагічны тэхнікум канчала. Не ведаю толькі, дзе яна.

Цікавасці да Мялешкавай сястры Сямёненка не выказвае. Уцягнуўшы вузкую, нібы клін, галаву ў каўнер шыняля, дрэмле.

Па траншэі, прыгнуўшыся, таропка праходзіць палкоўнік, камандзір дывізіі. За ім цэлая світа. Услед ледзь паспяваюць нізкаваты, у сіняй парусінавай гімнасцёрцы падпалкоўнік, які камандуе палком, чатыры ці пяць маёраў, капітанаў.

Палкоўнік Мялешку знаёмы, выступаў з прамовай, прымаючы папаўненне. Прозвішча Васілеўскі. Родам ён з Магілёўшчыны.

— Вот каб знайсці сястру,— звяртаецца Мялешка да Сямёненкі.— Можа, яна на фронце? Дзе-небудзь тут, блізка?..

Сямёненка не адказвае.

Мялешка ні ад каго не атрымлівае лістоў. Сам лісты піша. У зялёны гарадок на Палессі, паблізу якога жыў падлеткам у чыгуначнай будцы, калі была яшчэ жывая маці, і ў які вярнуўся, калі пачалася вайна. Ён і ў партызаны пайшоў адтуль.

Харошы той гарадок. Мялешка нібы бачыць яго наяве. Сосны ледзь не ўшчыльную падступаюць да разлеглай чыгуначнай станцыі, да доўгіх баракаў чыгуначнікаў на ўсходняй Падольскай старане. Сасновым борам атулены гарадок таксама з заходняга, паўночнага і паўднёвага бакоў. Як у вянку стаіць.

Там, дзе канчаецца застаўленая звычайнымі хацінамі, нават не забрукаваная вуліца, пачынаюцца ўладанні вайскоўцаў. Сярод разложыстых соснаў бялеюць карпусы пяхотнага вучылішча. Далей — акружаная маладымі сасновымі пасадкамі вялізная паляна, на якой вайсковы аэрадром.

Тое, што ў гарадку было ваеннае вучылішча, пазней мела значэнне для партызан. Узводамі, ротамі камандавалі лейтэнанты. Трапляючы ў першы няўдалы год вайны ў акружэнне, палон, вырываючыся адтуль, некаторыя кіравалі ў гарадок, дзе ў іх былі нявесты, нават жонкі. Паспелі набыць, калі курсантамі бегалі па ўвальніцельных у гарадок.

Першы год акупацыі, вярнуўшыся з дзетдома, Мялешка жыў у старых Клімкоў — даводзіліся далёкай раднёй. Два іхнія сыны служылі ў арміі камандзірамі. Можа, таму ў Клімкоў і збіраліся лейтэнанты, якія вырваліся з палону, акружэння. Зімой яны наладжвалі патайныя сходкі, згаворваліся, летам пайшлі ў лес, у партызаны.

Клімкі рушылі ў лес разам з усімі. Мялешкава бабуля гатавала партызанам страву.

Цяпер Мялешка піша Клімкам лісты. Але маўчаць яны, хоць гарадок вызвалены яшчэ ў пачатку зімы. Можа, хата іхняя згарэла?

Абставіны склаліся так, што вызваленага гарадка Мялешка не бачыў. Іхняя брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй, калі гарадок яшчэ быў у немцаў. Не прыйшлося пахадзіць па знаёмых вуліцах з аўтаматам цераз плячо, у афіцэрскім нямецкім мундзіры, які Мялешка прыпас спецыяльна для такога выпадку. Мундзір ён прадаў за літр самагонкі перад адпраўкай у запасны полк.

Бацьку Мялешка раней успамінаць не любіў: ён піў, кідаўся з месца на месца, ні на якой рабоце доўга не затрымліваўся. Завербаваўся на лесанарыхтоўкі якраз сюды, у Карэлію. Тут прапаў. У казённай паперцы маці напісалі, што бацька ўтапіўся ў возеры. Маці служыла старажыхай чыгуначнага пераезда. Праз год пасля смерці бацькі сама трапіла пад цягнік...

Карэлія паўставала ў Мялешкавым уяўленні хмурнай, змрочнай зямлёй. Яму ўяўлялася: пад кашлатымі елкамі плешчуцца бяздонныя азёры, у якіх вірue халодная вада. Трапіш і не выплывеш.

Ён быў шчыра здзіўлены, убачыўшы, што тутэйшыя краявіды чымсьці нагадваюць родныя. Праўда, неба нізкаватае, над самай галавой вісіць. Настрой зямлі, лесу трохі інакшы, чым у родных мясцінах. Але шмат агульнага, такога самага: балацянкі з пахучым багуном, бярозы, асіны ўперамешку, рачулкі і ручаі.

Месца, дзе бацька загінуў, не тут. Яно далей, на поўнач.

Упершыню Мялешка з павагай падумаў пра бацьку. Ён, відаць, таму быў неспакойны чалавек, што хацеў пабачыць свет. Палахлівыя людзі не кідаюцца з месца на месца. Сядзяць у шчыліне, як прусакі.

Камандзір узвода лейтэнант Зотаў глядзіць на гадзіннік. Артылерыя б’е ўзапар дзве гадзіны пятнаццаць мінут. Агонь не спыняецца. Мяркуючы па тым, што гарматы, мінамёты азываюцца ўсё радзей, дальнабойшчыкі нармальна дзейнічаюць. Раптам ля траншэі адзін за другім разрываецца некалькі снарадаў. Страляюць нашы самаходчыкі. Яны прыдадзены палку сёння і ці ведаюць, што першую варожую траншэю батальён захапіў учора вечарам, у час разведкі боем?

Прыгнуўшыся, Зотаў сігае па траншэі на камандны пункт роты, каб папярэдзіць самаходчыкаў. У гэты момант над

перадавой узвіваюцца тры зялёныя ракеты. Сігнал для наступлення.

Васіль Лебедзь у чаканні атакі сядзіць, прыхінуўшыся спіной да сценкі траншэі. Сэрца б'ецца часта, моцна. Траншэя, каб не асыпалася, аплецена лазовымі дубцамі. Зямля ходырам ходзіць. Праз шчыліны ў пляцёнках тонкімі струменьчыкамі сыплецца пясок. Мяккі, далікатны — нібы мука. Пясок трапляе за каўнер, і ад гэтага непрыемна. Усё цела ў пяску. Ён на губах, на зубах. Ад дыму, гару цяжка дыхаць.

У апошнія хвіліны паасобныя снарады кладуцца ля самай траншэі. Страляюць гарматы, пастаўленыя на прамую наводку. Саракапяткі і сямідзесяцішасціміліметровыя.

Убачыўшы ракеты — сігнал да атакі,— Васіль лёгка і спрытна перакідвае сваё доўгае, прыкметна за апошнія дні схуднелае цела цераз свежанасыпаны бруствер. Яго за ноч насыпалі ў захопленыя траншэі з заходняга боку, дапускаючы магчымасць варожай контратакі. Зямлю выкідвалі, паглыбляючы дно траншэі. Цяпер на ўсім бачным прасцягу яна апаясана прыкметнай палоскай чырвона-бурага гліназёму.

Стракочуць кулямёты, гарматы страляюць, перанёсшы агонь у глыбіню варожай абароны. Сам малюнак атакі зусім не падобны да ўчарашняй разведкі боем. Байцы вывальваюцца з траншэі, акопаў і не бягуць, не мітусяцца, як учора, а спакойна, абмінаючы бясконцыя варонкі, ямы, трохі прыгнуўшыся, набычыўшы галовы, ідуць наперад. Ідуць у шынялях і без шынялёў, у адных гімнасцёрках, у касках і без касак, хоць загад быў строгі: на передавой каскі не здымаць.

Пасля такой малацьбы на тым баку не павінна быць нічога жывога. Бачная наперадзе прастора — нібы перааранае поле. Варонка на варонцы. Жаўтапёс перамяшаўся з чорнай балотнай зямлёй. У варонках зямля з налётам чорнага гару.

То ў адным, то ў другім месцы выбухі снарадаў уздымаюць фантаны зямлі, чорнай гразі, засцілаюць далягляд дымам. Па наступаючых страляе варожая артылерыя з глыбіні. Пярэдні край маўчыць.

Як і ўчора, трымаючы на плячы кулямёт Дзегцярова, міма Лебедзя бяжыць успатнелы Мялешка, без каскі і нават без пілоткі. Адзін пагон на яго гімнасцёрцы адарваны.

Дробненька дрыпае ўслед Сямёненка, заплятаючыся крывымі нагамі ў крыссі доўгага шыняля.

Паважна, нібы касцы на лузе, выдыбаюць партызаны Рагамед і Лявоненка. Мільганула танклявая постаць Косці Русаковіча.

Васіль лёгка праскоквае другую траншэю з вілаватымі, шматлікімі адгаліненнямі. Траншэі няма: у многіх месцах яна завалена, развернута. Валяюцца дошкі, кавалкі дрэва, шкуматы бляхі, скручаныя жалезныя пруты, парваныя, абгарэлыя рызманы.

Нікога ў траншэі няма. Трупаў, як учора, не відаць. Васіль як бы расчараваны: можа, фіны схітрылі і нашы малацілі па пустым месцы.

Наперадзе — лагчына, рачулка. Ад чэзлага сасонніку на другім беразе рачулкі, які ўчора праглядваўся, тырчаць пасобныя пікі дрэўцаў.

Усё-такі агрызаюцца фіны. Моцны артналёт прымушае залегчы. Зноў пачынаюць дзяўбці процілеглы бераг нашы гарматы. Лебедзю з яго месца добра відаць, як у лагчыне, у сасняках, якія падымаюцца ўступамі вышэй і вышэй, паўстаюць частыя дымныя выбухі.

Відаць Васілю, як, імкліва падхапіўшыся, бягуць да рачулкі Мялешка з Сямёненкам. Смелы Мялешка. Заўсёды наперадзе. Зноў татахкае яго «дзегцяроў».

Раптам па месцы, адкуль ледзь чуваць чэргі «дзегцярова», б'е наша самаходка. Адзін снарад, другі, трэці. У вілку тыя дурні бяруць кулямёт, ці што? Высока ўздымаюцца стаўбуры чорнай балотняй зямлі. Лебедзь закрывае вочы. Пятро Герасімовіч учора бегаў ад страху — як шалёны. Загінуў па-дурному. Мялешка нічога не баіцца. Заўсёды рвецца наперад. Няўжо ён загінуў?..

Калі хвілін праз некалькі абстрэл заканчваецца, Васіль бяжыць да рачулкі. Нізенькая, чарнявая, з успатнелым тварам дзяўчынка-санінструктар цягне на плашч-палатцы Мялешку. Галава, твар у Мялешкі забінтаваныя, толькі цёмная ямка рота відаць. Праз бінты густа, чырвонымі плямамі выступае кроў.

— Другога нумара насмерць,— гаворыць успатнелая чарнявенькая дзяўчына-санінструктар.

Сямёненка ляжыць скурчыўшыся, падабраўшы пад сябе ногі. Асколкі трапілі яму ў грудзі і жывот. Твар белы, ні крывінкі. Лебедзь шукае дакументы ў нагруднай кішэньцы гімнасцёркі. Але ў гімнасцёрцы няма кішэнькаў. Зноў забыў ён пра гэта. Учора забіраў дакументы Пятра Герасімовіча і таксама шукаў у гімнасцёрцы. Васілёва рука ў крыві. Нарэшце ён знаходзіць салдацкую кніжку Сямёненкі ў кішэні шыняля. Тры рублі грошай ляжаць у кніжачцы, трохкутнічак неадпраўленага пісьма.

Лебедзь хавае дакументы Сямёненкі ў сумку. З учарашняга дня ў сумцы салдацкая кніжка Пятра Герасімовіча. Цяпер будзе дзве кніжкі.

Вада ў рачулцы светлая, празрыстая. Цурчыць між вялікіх і малых камянёў, якія скрозь засцілаюць яе логвішча. Васіль адмывае ў рачулцы рукі ад крыві. Байцы, скачучы з каменя на камень, перабіраюцца на другі бераг.

Ёсць і масткі цераз рачулку — два ці тры ў бачным абсягу. Масткі звычайныя, драўляныя, як і ў Васілёвай мясцовасці.

Варожая абарона збіта. Супраціўлення ніякага. Байцы ідуць па дарозе, якая, пятляючы, звіваючыся, падымаецца вышэй і вышэй. Зямля шэрая, прыбітая дажджом. Па абодва бакі дарогі сосны. Такія самыя, як дома. Яны прыкметна пашчапаны абстрэлам, у лесе шмат варонак. Але чым далей, тым менш прыкметныя сляды абстрэлу.

Васіль назіраў у апошнія дні за варожай паласой здаля. Уступамі падымаюцца сосны па гары. Па зямлі, засеянай вялікім і малым каменнем, зарослай соснамі, некалькі гадзін назад хадзілі варожыя салдаты. Цяпер ідзе Васіль. Дзесьці ў глыбіні Васілёвай істоты тоіцца радасць: астаўся жывы. Магло забіць, як Пятра Герасімовіча, Сямёненку.

Узбоч дарогі ў кюветах процівагазы. Без сумак. Маска, гафрыраваная трубка, бляшаная каробка. Чым далей, тым больш процівагазаў. Новенькіх, ненадзяваных. Зрэдку трапляюцца сапёрныя лапаткі. Кідаюць салдаты тое, што цяжка несці.

Лебедзя даганяе Косця Ціток.

— Суркі і тушканчыкі зашыліся ў норы,— паведамляе.— Мы наступаем. Па горнай, маладаступнай мясцовасці. Маем трафеі...

Услед за Цітком выдыбаюць Адам Каліноўскі, Косця Русаковіч, таджык Рахім, яшчэ двое байцоў. Не хапае Рагамеда і Лявоненкі, а так было б аддзяленне ў поўным сённяшнім складзе. Усе ўзбуджаны. Адчуваюць сябе пераможцамі.

— Суркі і тушканчыкі пасля вайны будуць шукаць сябе ў спісах узнагароджаных,— выскаляецца Косця.

Сёння мішэнь нападак — Косцеў прыяцель Міша Цукар, празваны ім Сурком. Міша, цыганаваты, высокі хлапчына, ад прызыву ў армію выкруціўся, уладкаваўшыся на працу ў ваенізаваную арганізацыю, якая ахоўвае вайсковы кабель. У той жа арганізацыі і Мікалай Цукар. Ягоны брат.

Гэта хутчэй за ўсё справа рук бацькоў Мішы і Мікалая Цукраў. Яны хітрыя і сквапныя. Здолелі ўсунуць некаму хабар.

— Дынастыя Суркоў запісалася ў баптысты,— працягвае Косця.— Не прымае вайны.

Процівагазныя сумкі ў байцоў нечым шчыльна напакаваны.

— Што ў вас? — пытае Лебедзь.

Косця Ціток працягвае шырокую, як ліст паперы, галету.

— На пакаштуй. На склад нарваліся.

Учора такой галетай частаваў Васіля Багдан Мялешка, якога параніла.

Сумкі ў салдат аж тапыраццa ад галет. Ясна цяпер, чаму выкінуты процівагазы.

## IV

Роты ідуць ледзь не паходным парадкам. Ярка свеціць сонца — нібы блаславуляе гэты паход. Нават горача робіцца. Дарога віецца на высокі пагорак, пятляючы ля яго падэшвы, як змяя. Скрозь рэдкі сасоннік на звіве дарогі Васіль бачыць галаву калоны. Нават фурманка прыбілася да байцоў. Некаторыя пакідалі на яе свае рэчавыя мяшкі.

Раптам аглушальны трэск. На дарогу, узбочыны з нябачнай вышыні падаюць міны. Іх многа, фантаны бурай супесі ўздымаюцца справа, злева, наперадзе. Дарогу, сасоннік у імгненне зацягвае едкім дымам.

Васіль кідаецца наперад. Ад мін толькі так можна ўратавацца. Палоска лесу ў гэтым месцы вузкая, наперадзе,

аднак, бязлесы прасцяг, густа закіданы вялікім і малым каменнем.

— За мной! — перакошваючы рот, крычыць Васіль.— Наперад!.. За мной!..

У гэтую хвіліну ён баіцца, што дрэнна дзейнічае як камандзір аддзялення.

Валуны белыя, шэрыя, цёмныя. Уражанне такое, што пасецца вялікі статак свіней. Байцы бягуць хто куды. Ніхто нікога не слухае.

Прылёгшы за каменем, Васіль супакойваецца. Міны рвуцца і тут, лопаюцца з аглушальным трэскам. Але хоць прыхавацца ёсць дзе.

Да слыху раптам даносіцца лаянка.

— Вылазь... тваю маць! Пасячэ, як бараноў!

Высунуўшы галаву з-за каменя, Васіль бачыць камандзіра роты Чубукова. Твар яго цёмны, нават чорны, рот скрыўлены ад крыку. Трымаючы ў выцягнутай руцэ аўтамат, ён махае ім, як бы прызываючы бегчы за сабой.

Васіль выбіраецца з-за валуна. Прабегшы некалькі метраў, кідаецца пад такі самы. Пранізліва, страшна крычыць паранены конь. Відаць, той, што быў запрэжаны ў фурманку.

Яшчэ адна перабежка. Асколкі мін б'юць па валунах, здзіраючы, падпальваючы чэзлы жаўтаваты мох, высякаючы вогненныя дугі іскраў і пякучых каменных пырскаў. Струменьчык такіх пырскаў жыгануў Васіля па шчацэ, і ён адразу выцер з яе кроў. Добра, што не ў вока.

Агонь, камень, жалеза. Вось так тут прыходзіцца ваяваць. Зарана радаваліся, што прарвалі абарону.

Праходзіць некалькі хвілін. Па седлавіне пагорка, дзе заселі варожыя мінамётчыкі, пачынае біць артылерыя. Снарады з чутным шапаценнем пралятаюць над пяхотай, якая сваімі ланцугамі нібы апаясала пагорак. Да седлавіны яшчэ два-тры звівы дарогі, якая ахутана цяпер дымам.

Седлавіна — моцны арэх. Так проста не раскусіш. Наступае вечар, затым ноч. Яны нязвыклыя для хлопцаў з Беларусі, большасць якіх, акрамя Рэчыцы, Гомеля, Мазыра (ездзілі туды раз ці два за жыццё), ніякіх другіх мясцін не бачылі. Трохі цямнее, шарэе неба, між хвой кладзецца лёгкі

змрок. Цяжка адрозніць вечар ад такой жа светлай ночы. У параўнанні з суровым краем, дзе яны апынуліся, родная Беларусь здаецца бласлаўлёным Поўднем.

Час белых начэй. Нейкі незразумелы смутак ад іх, неспакой. Святло няпэўнае, хісткае, і, можа, ад гэтага ў душы няясная трывога.

Яны вучыліся ў школе, ведаюць, што на Поўначы ёсць палярная ноч, якая цягнецца месяцаў восем, калі не болей, і палярны дзень, калі сонца амаль не заходзіць. Ім якраз патрапіла ваяваць у бясконцы паўночны дзень. Лепш бы была ноч. Бо вось гудзе ў шараватым небе адзін самалёт, другі, трэці. Яны ведаюць настырны, перарывісты гук. Так гудуць нямецкія самалёты. Немцы бамбілі станцыю, мястэчка ў сорак першым годзе, пакуль не захапілі, у сорак трэцім, здаўшы, зноў бамбілі.

Свішчуць бомбы. Візгат пранізлівы, дзікі. Лебедзь, седзячы пад каменем-валуном, уцягвае галаву ў плечы. Нельга прывыкнуць да візгату бомбаў. Як ні трэніруй волю. Чуюцца выбухі. Яны ззаду. Баяцца немцы бамбіць перадавую. Каб не трапіць у сваіх саюзнікаў фінаў.

Бамбёжка без канца. Два, тры самалёты гудуць, круцяцца, кідаюць бомбы. За імі прылятае новае звяно. Нервы хочуць выматаць, ці што?..

Адна радасная навіна сярод трэску і грому: кухня на месцы. Рагамед з Лявоненкам прыносяць тэрмас мяса, тры буханкі хлеба. На сем чалавек — раскоша. Еш хоць распеража́ся.

Абед, вячэра — узнагарода за цяжкі дзень. Кухня ды яшчэ лісты з дому — галоўная радасць на вайне.

— Адкуль так многа мяса? — чуецца голас.— Норму павялічылі?

— І-го-го! Не бачыў, колькі іх валяецца? Да адвалу будзем есці каніну...

Косця Ціток раптам зелянее з твару. Прыкрыўшы далонямі рот, кідаецца за ядлоўцавы куст. Доўга з-за куста не выходзіць: яго ванітуе.

Пачынае накрапваць дождж. Васіль радуецца. Наўрад ці паявяцца ў дождж самалёты.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### I

Ва ўзвод разведкі на зыходзе дня прыходзіць новы камандзір, высокі, з маленькім цёмным тварам малодшы лейтэнант. Пасля прарыву першай лініі абароны полк прайшоў не больш як пяць-шэсць кіламетраў. Штаб палка ў невялікім, дамкоў на пяць-шэсць, пасёлку. Яго шалёна абстрэльвае варожая артылерыя.

У пасёлку выбудавана прыгожая каменная брама. Можа, гэта які-небудзь помнік. Пад мармуровымі антычнымі калонамі брамы разведчыкі знаходзяць схоў. Але прыходзіцца хутка выбірацца: ад асколкаў брама ратуе слаба.

Новае прыстанішча — цэментовы, з тоўстымі сценамі склеп. У ім збіліся ўсе, хто апынуўся паблізу,— пехацінцы, артылерысты, сувязісты. Лейтэнанты, капітаны лаюцца. Мабыць, ад усведамлення бездапаможнасці. Байцы паціхеньку кураць у кулак.

Нарэшце — на рэчцы, відаць, навялі мост, пераправілі гарматы — уступіла ў дзела артылерыя. Варожая пад вечар пачала аціхаць. У гэты момант у склепе паявіўся камандзір узвода разведкі.

Узвод зноў перабіраецца пад браму.

Прозвішча новага камандзіра — Мамедаў. Малодшы лейтэнант — казах, па-руску гаворыць з прыкметным акцэнтам. Старшына Кісляков, памкамузвода Смірноў, прыхінуўшы да пасечаных асколкамі мармуровых калон, сядзяць надзьмутыя. Не ведаюць, як паставіцца да новага камандзіра.

Малодшы лейтэнант за лічаныя хвіліны ўлагоджвае іх. Ён вельмі таварыскі і, здаецца, зусім не дбае пра тое, што прысланы камандаваць узводам.

З радавымі, сяржантамі з першай хвіліны запанібрата. Спадабаўся ўсім.

Смірноў просіць у малодшага лейтэнанта закурыць, Кісляков, павесялеўшы, ідзе расшукваць кухню. Мамедаў не выказвае ніякай прагі ўзвысіцца над старшынай і памкамузвода, і яны прымаюць яго ўладу.

Пра Мамедава вядома: ваюе з сорак трэцяга года, скончыў трохмесячнае ваеннае вучылішча. Ужо двойчы паранены. Апошні раз цюкнула пад Нарвай, лячыўся ў Ленінградзе. Шчаслівае супадзенне: у тым самым шпіталі, дзе і Смірноў.

— Маргарыту ведаеш? — дапытвае Смірноў.— Чорненькая, маўклівая. Кніжкі чытае. Дзеўка — што трэба. Блакаду перажыла...

Малодшы лейтэнант імгненна святлее тварам:

— Маргарыт знаю. Харошы дэвушка. Ранены хацят круціт раман, яна — ні в какой. Сур'ёзны дэвушка. Строгі...

Не паспеў Мамедаў з узводам пазнаёміцца — пасыльны ад начальніка штаба тут як тут. Са штаба малодшы лейтэнант вяртаецца мінут праз дваццаць.

Задача ясная: ідуць у начны пошук. Разведчыкі пераабуваюцца, старанна абкручваючы анучамі ногі, набіваюць аўтаматныя ражкі, дыскі патронамі, нацягваюць маскхалаты.

Мамедаў тлумачыць абстаноўку. Наступленне развіваецца паспяхова. Варожая абарона прарвана на дваццацікіламетровым участку. Войскі прасунуліся на захад, у глыбіню Карэльскага перашыйка, на дванаццаць — пятнаццаць кіламетраў. Але гэта ў суседзяў. Дывізія, у якой служаць самі разведчыкі і якая наступае не ў заходнім, а ў паўночным напрамку, мае значна меншы поспех. З заўтрашняга дня дывізія паступае ў распараджэнне арміі, якая стаяла тут у абароне і таксама пачынае наступленне.

Не ўсе ідуць у пошук. Астаецца Ладураў з навічкамі. Тыя, хто ідзе на заданне, пакідаюць ім дакументы. Сяргей абгортвае хусцінкай-насоўкай камсамольскі білет, салдацкую кніжку, тры лісты ад Алімпіяды і перадае Ладураву.

Узвод вядзе Кіслякоў. Малодшы лейтэнант лёгка крочыць за ім. Трэці — Смірноў.

На сваіх трохі крывавper нагах, сагнуты, з квадратнымі плячамі, Кіслякоў бясшумна, як кошка, сігае з каменя на камень. Мінулі высунутую наперад баявую ахову. Ляжаць пад вялікім валуном трое дзядзькоў, акрыўшыся шынялямі, ціхенька кураць у кулак. Ледзь чутна пабразгваюць у рэчавых мяшках разведчыкаў запасныя аўтаматныя дыскі. Іх анучкамі перакладваюць, каб не было вялікага гуку.

Разведчыкі ідуць расцягнутым ланцужком. Дыстанцыя — тры-чатыры метры. На выпадак, калі хто ненарокам наступіць на міну, каб выбухам не зачапіла другіх.

У светлай шэрані відаць хвоі, елкі, завалы валуноў. Свае ззаду. Метраў на пяцьсот ззаду. Наперадзе ўзвышаецца пагорак. Мабыць, з яго седлавіны артылерыя абстрэльвае пасёлак.

Кіслякоў кладзецца за камень. Астатнія таксама кладуцца. Прыглядаюцца, прыслухоўваюцца. Патрошку прасоўваюцца наперад. У Сяргея нацятыя пачуцці. Хоць такія вось вандроўкі для яго не ў навіну. У партызанах ён увесь час вось так хадзіў. Востра пахне багуном. Багун расце па дзікіх мясцінах, балацянках. Тут жа пагорак. Зямля жорсткая, напалам з каменнем. Рыдлёўкі не ўваб'еш. Маўкліва стаяць сосны. Як цёмныя стагі сена. Уражанне: усё спіць. Але яно зманлівае. Салдаты спяць, як зайцы: адно вока прыплюшчанае, другое — глядзіць. Ёсць такія, што зусім не спяць. Напрыклад, баявая ахова. І разведчыкі. У фінаў таксама ёсць разведчыкі. Можа, паўзуць насустрач. Фіны лес, камяні лепей ведаюць. Жывуць сярод іх. Гэтыя камяні ім ваяваць памагаюць. Паспрабуй угрызні...

На зямлі светлая шэрань. Неба цемнаватае. Зоркі на небе размешчаны не так, як дома. Незвычайным здаецца чарпак Вялікай Мядзведзіцы. Бліскучая кропка Палярнай зоркі ледзь не над самай галавой.

У акупацыю Сяргей чытаў кнігі Кнута Гамсуна. Нібы далучаўся да мяккай, някідкай паэзіі паўночнага краю. Не думаў, што трапіць у такі край на вайну. Не ведаў, што Гамсун жыве ў зняволенай Нарвегіі, нібыта нават ладзіць з фашыстамі.

У небе — самалёты. Гук нудны, натужлівы: так гудуць маторы нямецкіх самалётаў. Нарэшце свішчуць, ірвуцца бомбы. Начную бамбёжку Сяргей бачыць упершыню.

Самалётаў пяць ці шэсць. Робяць заход за заходам. Адбамбіцца адзін, за ім другі, трэці. Бомбы падаюць прыкладна на пасёлак, дзе брама-помнік, штаб, бліжнія тылы. Ніводная зенітка не азываецца.

Начная бамбёжка разведчыкам памагае. Калі пачынае свістаць бомба, робяць кідок наперад. Абдзіраючы рукі аб каменне, карабкаюцца наверх, на гару. Прыціхаюць, калі самалёт аддаляецца.

Нехта ненарокам наступіў на камень, сарваў з месца. У адно імгненне цэлая каменная лавіна рынула ўніз. Разведчыкі прыціснуліся да зямлі, прытаілі дыханне. Аднак позна. Зверху разанула кулямётная чарга. За першым кулямётам застракатаў другі, праз некалькі хвілін — трэці. Вогненныя бляскі, здаецца, вырываюцца з сярэдзіны цёмнай гары, якая навісае над разведчыкамі, кулі сякуць па валунах, рыкашэцячы, выбіваючы з іх іскры. Каменныя пырскі сыплюцца на спіны разведчыкам.

Побач з Сяргеем цяжка дыхае Мерзлякоў.

— Пагуляе «язычок». На засаду напароліся...

Па ланцужку каманда — адыходзіць...

Самалёты не гудуць. Кулямёты змоўклі. Ціха, цёпла, нават парна між сосен. Звіняць камары. Да твару прыліпае нацягнутая між дрэў павуціна. Ноч схіляецца на другую палавіну, але робіцца як бы цямней. Зорак не відаць, неба зацягнута воблакамі. Пачынае накрапваць дождж.

Акрыўшыся плашч-палаткамі, нячутна ступаючы, брыдуць па чужым, варожым лесе разведчыкі. Нарэшце выбіваюцца на дарогу, якая выводзіць да нашай перадавой. Адразу натыкаюцца на баявую ахову. Пад валуном двое байцоў — старэйшы і маладзейшы. Маладзейшы, відаць, спаў: спахапіўшыся, залішне гучна аклікае разведчыкаў.

— Па вас стралялі? — пытае старэйшы, з прыкметнай пожняй шчаціны на вузкім, худым твары.

— Па нас.

— Мабыць, дот у яго там. Галавы не дае падняць.

За дарогай, за сасоннікам, вялікая паляна, густа закіданая каменнем. Дарога віецца наверх, цямнеюць мыскі саснякоў, што падымаюцца ўступамі. На самай седлавіне гары таксама астраўкі лесу.

Разведчыкі зноў на нічыйнай тэрыторыі. Зноў дзяруцца на гару, толькі з другога боку. Малодшы лейтэнант не адстае ад Кіслякова, Смірнова. Ёсць штосьці прыгожае ў тым, як сваёй танклявай, гнуткай фігурай ён, нібы яшчарка, прынікае да зямлі, нячутна па ёй слізгаючы.

Разведчыкі ўзбіраюцца на ўступ, які нібы апаясвае гару. Далей не ідуць. Лепшае месца для назірання цяжка знайсці.

Малодшы лейтэнант, Кіслякоў, Смірноў падоўгу глядзяць у бінокль, перадаючы яго адзін другому. Відаць, разглядваюць дот. Напружваючы зрок, Сяргей таксама ўглядваецца ў вершаліну гары, але нічога не бачыць.

Пачынае святлець. Па-ранейшаму ціха церусіць дождж. Ахінуўшыся плашч-палаткай, пад аднастайнае шасценне вадзяных кропель, Сяргей непрыкметна для сябе пераносіцца ў іншае месца — на мястачковую станцыю, атуленую разложыстымі таполямі. Дажджу на станцыі няма, наадварот, дзень цёплы, сонечны. Пад лёгкімі павевамі ветру шасцяць срабрыстым лісцем высозныя таполі.

Калі Сяргей ад’язджаў з мястэчка, толькі бацьку дазволіў праводзіць сябе. Пры пасадцы ў вагон рэчавы мяшок развязаўся, выпала некалькі кніг. У іх ліку нямецка-рускі слоўнік, які Сяргей палічыў патрэбным узяць з сабой. Кнігі падаў у вагон бацька.

Але цяпер Сяргей бачыць на пероне не бацьку, а Галю. Яна апранута ў свой рудаваты палітончык, на галаве вязаная белая хустка. Падаючы Сяргею слоўнік, Галя здзіўлена пытае: «Навошта ён табе? З нямецкімі дзяўчатамі хочаш размаўляць? Калі так, то я табе пісаць не буду. Ні разу не напішу».

«Не трэба мне нямецкія дзяўчаты,— апраўдваецца Сяргей.— Я толькі пра цябе думаю...»

«Усё адно не напішу».

Паблізу разлягаецца выбух, Сяргей прачынаецца, але яму так прыемна быць з Галяй, што ён закрывае вочы, хочучы зноў заснуць. Гэта, можа, ужо не сон, а так, напаўява, напаўтрызненне. Галя не прымушае сябе доўга чакаць, прыходзіць сюды, на закіданы каменнем, парослы ядлоўцам уступ гары. Яна ў вайсковай форме, пад новай гімнасцёркай прыкметна выдзяляюцца поўныя грудзі, з-пад пілоткі выбіваецца русявая пасмачка валасоў. На Галіных нагах не кірзавыя, а хромавыя, наглянцаваныя да бляску боты.

«Я пайшла ў армію пасля цябе,— гаворыць Галя.— Таму табе не пісала. Шукала цябе. Цяпер вот — знайшла...

Сяргею радасна, што Галя побач. Ён ведае: яна ў санітарнай роце. Але і трывожна яму: ірвуцца снарады, міны, Галю можа забіць. Што тады будзе, як Галю заб’юць?..

«Цябе могуць адпусціць з арміі?» — пытае Сяргей.

Галя хітравата пасміхаецца:

«Могуць. Толькі я не паеду. Тут многа дзяўчат, якая-небудзь цябе прывабіць...»

Выбухі разлягаюцца так часта, што сон прападае канчаткова. Разведчыкі адыходзяць. Раніца шэрая, пахмурная. Дождж церусіць па-ранейшаму.

Хвіліну назад Сяргей бачыў Галю, чуў яе голас. Дзіўна: прывід так адчувальна можа нагадваць жывога чалавека. Хоць дзіўнага няма. Галя пастаянна прысутнічае ў Сяргеевых адчуваннях і думках. Праводзячы цяпер дні пад снарадамі, мінамі, кулямі, сутыкаючыся з пагрозай смерці, Сяргей вастрэй адчувае цану жыцця, асноўная вартасць якога — Галя.

Ён бачыць кроў, гразь, бруд, але, калі ўспамінае Галю, усё гэта адступае на задні план, расплываецца, губляецца. Ён адольвае стомленасць, страх, блукае побач са смерцю, як бы заслужваючы Галіну прыхільнасць.

Вайна ідзе да пераможнага канца. Гэта таксама ёсць у Сяргеевых пачуццях. Можа, гэта і нараджае высокую, рамантычную плынь думак і сяганняў. Мір блізка. У тым свеце, які наступіць пасля міру, Сяргей знойдзе Галю, і тады пачнецца шчасце.

## II

Пачынаецца атака. Дым ад снарадаў нізка сцелецца па зямлі. Абстрэл варожых пазіцый узрастае. На дарозе, якая віецца ля падножжа гары, наўзбоч яе, між камення, ядлоўцавых кустоў, вырастаюць фігуркі пехацінцаў. Байцы бягуць, падаюць, зноў устаюць.

Ажывае нябачны дот. Нібы з сярэдзіны гары сячэ агнём кулямётаў, скарастрэльных гармат. Фігурак байцоў не відаць. Залягла пяхота.

Пад суседнім валуном ляжыць Мялешка. Заявіўся з раніцы. Галава забінтаваная, на марлі крывавыя плямы.

— Уцёк з медсанбата,— сказаў Лебедзю.— Ты памоўчвай. Без мяне вы гэтага дота не возьмеце.

Кулямёта ў аддзяленні няма. Мялешка з аўтаматам. Абвешаны лімонкамі. Нават вялізную супрацьтанкавую мінуталерку трымае пры баку.

Зноў атака. Грукат гармат, чорны, дзягцярны дым. Фігуркі байцоў на дарозе. Кінжальны агонь з гары.

Васіль Лебедзь губляе лік атакам. Нібы вечнасць прайшла і ўсё жыццё ён быў салдатам, бег, поўз, прынікаў да каменнай, няласкавай зямлі, сціскаўся ў камяк, калі побач ірваліся снарады, міны, расслабляўся, поўніўся імгненнай радасцю, калі небяспека мінала. Васілю здаецца — ён усё ведае пра вайну. Што трэба ведаць? Даецца каманда, яе выгуквае камандзір роты Чубукоў: ён першы, крывячы чорны рот, трымаючы ў руцэ наган, набычыўшы галаву, выскоквае з-пад каменя, бяжыць наперад. Ускокваюць, бягуць байцы. Некаторых цяжка падняць з зямлі. Ёсць такія, што проста махлююць. Падымаюцца для выгляду, калі тыя, хто раней падхапіўся, кладуцца пад агнём на зямлю. Уставай, бяжы, падай, прыціскайся да зямлі. Вось і ўся навука вайны!..

Калі лічыць з пазаўчарашняй разведкі боем, толькі тры дні прайшло. А так многа Васіль ведае.

Дот наперадзе. Рыгае агнём. Напароліся на яго ўчора. Ні днём, ні ноччу нельга паспаць. Вачэй не звядзеш. Хоць некаторыя спяць. Мялешка спіць, дзе ўпадзе. Дзіўны хлопец. Сам ірвецца ў бой. Не баіцца смерці.

Васіль таксама не думае пра смерць. Заб'юць дык заб'юць. Каб толькі адразу, каб не пакутаваць. Учора вечарам салдату адарвала абедзве нагі. Ён, крывавы камяк, яшчэ поўз, заглядваў сустрэчным байцам у вочы, як бы прасіў паратунку, літасці.

Дачуўся Васіль: параніла Мікалая Пракопчыка. Цяжка параніла — у жывот. Вось табе і ездавы. І да ездавых міны далятаюць. Па-рознаму забівае людзей. Найчасцей проста. Бегчы трэба насустрач кулям, асколкам мін, снарадаў. Даўно вядома — свішчуць кулі. Яны не толькі свішчуць, яны скавычуць, шалеюць ад лютага завывання, ненажэрнасці.

Атака... Яшчэ атака...

Васіль паўзе. Ён цяпер нікім не камандуе. Не ведае — хто дзе. Рота збілася на невялікім гаку між каменне. Якая там рота... Можа, і палавіны няма. Увесь час цягаюць дзяўчатысанінструктары на плашч-палатках параненых. Уніз з гары лягчэй цягнуць. Цяжка выжыць, калі на кожнага чалавека

прыпадае па тоне снарадаў, мін. Ды яшчэ тут, пад гарой, сярод суцэльнага камення.

Наперадзе, падкурчыўшы ногі, укрыўшыся з галавой шынялём, хтосьці ляжыць. Аўтамат паклаў побач. На забітага чалавека не падобен. Васіль падпаўзае бліжэй. З-пад шыняля высоўвае твар Косця Ціток.

— Мяне заб'юць,— паведамляе.

— Чаму цябе? — Васіль не прыдае словам Косці асаблівага значэння.

— Рахіма толькі што забіла. Па алфавіту забівае. Хіба не бачыш? Пазаўчора Герасімовіча, учора — Мялешку, Пракопчыка. Цяпер Рахіма...

Значыць, і Рахіма забіла. Васіль не хоча паказаць Косцю збянтэжанасць.

— Пракопчыка параніла,— пярэчыць.— Мялешка тут. З медсанбата ўцёк.

Косця з недаўменнем пазірае на Васіля. Відаць, не можа зразумець, як можна з медсанбата ўцякаць у такое, як тут, пекла.

— Смерць на адну літару памылілася,— гаворыць Косця.— Далей пойдзе як па маслу. Рагамед, Русаковіч, Сакалоўскі, Ціток Канстанцін. Вас смерць пашкадавала. Цябе і Лявоненку. Да другога тура. Усё-такі ты — камандзір аддзялення...

— Перастань! — крычыць Васіль.— Ты вар'яцееш ад страху.

— Магу перастаць. Толькі так і будзе. Тэорыя верагоднасцей. Матэматыка — навука дакладная...

Васіль думае пра Рахіма. У мястэчку адбіўся ён ад воінскай часці, разам з местачковымі навабранцамі паехаў у запасны полк. Можа, спецыяльна так зрабіў Рахім? Прыкінуўся малапісьменным, недалёкім. Ведаў, што такое фронт, і хацеў працягнуць жыццё.

Гул страляніны нарастае. Артылерыя б'е па гары безупынна. Рота падымаецца, дзесяць — пятнаццаць метраў бяжыць, падае зноў. У Васілёвай душы расце абыякавасць. Нават здрадлівая думка мільгае: добра, каб параніла ў руку ці нагу. Адляжаўся б у шпіталі, адаспаўся...

Няшчасці нахлынулі на Косцю адно за другім. Учора ён наеўся мяса, не ведаючы, што яно конскае. Да ўзыходу сонца яго ванітавала, выварочвала нутро. Адна жоўць цяпер у страўніку. Есці нічога не хочацца.

Раніцай Косцю перадалі ліст ад маці. Скамечаны трохкутнічак, пасланы яшчэ ў красавіку на адрас запаснога палка. Нехта зверху праставіў лічбіны палявой пошты. Відаць, у запасным палку цяпер ведаюць новы адрас.

У лісце маці піша: прыслалі пахаронкі на бацьку і брата Максіма. Косця здагадваўся, што бацька і брат Максім загінулі. Іначай — даўно азваліся б. Мястэчка вызвалена восенню мінулага года. Не маглі так доўга брат і бацька не азвацца. Але здагадвацца адно, ведаць — зусім другое. Цяпер Косця ведае, што бацька загінуў пад Сталінградам, у студзені сорак трэцяга, Максім — праз паўгода — на Курскай дузе.

«Бацька ляжыць пад Сталінградам, мяне заб'юць пад Ленінградам»,— мільгае ў Косці думка. Калі не заб'юць нават, ранейшага жыцця не будзе. Ніколі не будзе. Нават падобнае да таго, што было, не выблісне ніколі.

Косця добра пражыў сямнаццаць гадоў. Бацька рабіў грузчыкам; скончыўшы шэсць класаў, на станцыю, у пагрузкантору, пайшоў працаваць старэйшы брат Максім. Старэйшы брат, бацька былі дужыя, рослыя, як дубы. Маці таксама рослая і мажная. Косця ўдаўся невысокага, нават малога росту і ад гэтага пакутаваў. Яму хацелася быць падобным на бацьку, старэйшага брата. Здавалася, што ўсе бачаць ягоны недахоп, і ўнутрана ён быў заўсёды нацяты, гатовы да адпору. Раз ці два хлапчакі, з якімі Косця сябраваў, назвалі яго зноскам, ён кінуўся на іх з кулакамі, але перавага была не на яго баку. Яго лёгка палажылі і адлупцавалі.

Пайшоўшы ў школу, уведаўшы, што на свеце ёсць турнік, гантэлі і іншыя спартыўныя прылады, Косця наважыў зрабіцца моцным. Да знямогі круціўся на турніку, абліваўся халоднай вадой і к чатырнаццаці-пятнаццаці гадам шмат чаго дасягнуў. На зайздрасць і захапленне школьнай талакі, ён ды яшчэ два-тры старшакласнікі рабілі на турніку «сонца», іншыя складаныя практыкаванні, былі першыя ў валейбольных паядынках.

Косця як бы наўмысна сябраваў з высокімі, фізічна дужымі аднакласнікамі. Адзін з іх, Сцяпан Лобач, якога звалі ў школе Вол, вялізны шыракаплечы хлапчына з лупатымі вачамі, па вазе быў удвая цяжэйшы за Косцю, але паваліць яго не мог: Косця выкручваўся. Вышэйшага на галаву за сябе Мішу Цукра, празванага ім Сурком, ён лёгка, без асаблівых намаганняў клаў на лапаткі.

У Косцевай сям'і ўсе — бацька, маці, старэйшы брат — былі памяркоўныя, не любілі сварак, а Косця рос зласлівы. Яму падабалася высмейваць старэйшых за сябе, маладзейшых, ён лёгка выдумваў смешныя, недарэчныя мянушкі, і, можа, дзякуючы гэтаму яны прыжываліся.

У школе яго цанілі за матэматычныя здольнасці. Ён даражыў такой пра яго думкай, рашаў дадатковыя задачы са старых задачнікаў. Найлепшай для яго ўзнагародай было выйсці да дошкі і рашыць задачу, калі ніхто другі яе ў класе не рашыў. Гэта былі асабліва дарагія для яго хвіліны. Настаўніца-матэматычка, жонка дырэктара школы, жанчына вострая на язык, хітрая, Косцю паважала. Ён быў яе апорай у класе. Яе муж, які вёў батаніку, заалогію, анатомію чалавека, а ў дзявятым класе тлумачыў школьнікам тэорыю Дарвіна, наадварот, ставіў Косцю невысока. Сапраўды, астатнія школьныя прадметы, выключаючы хіба яшчэ геаграфію, Косцю мала цікавілі.

Лежачы пад каменем, трызнячы, Косця бачыць свой двор, агарод, сад. Нічога асаблівага там няма. У садзе толькі дзве яблыні, вішня, сліва, астатнія дрэвы — грушы-дзічкі. У маразы, калі ішла фінская вайна, палавіна яблынь, сліў памерзла, дзічкі, аднак, асталіся цэлыя ўсе. Грушы іх робяцца смачнымі толькі позняй восенню. Косця збіраў дзічкі. Атрасаў, ссыпаў у дзежку, перакладваючы сенам. Пасля Пакроў, калі ўсялякая садавіна канчалася, а яблыкі на базары прадавалі па дарагой цане, ён ласаваўся дзічкамі.

Атака. Перабежка. Вялікага каменя ў блізкім абсягу няма, Косця кладзецца пад вываранцень. Яліну, мабыць, вывернула ветрам. Карані звісаюць, як вужы. Варожы дот садзіць без перадышкі. Галавы не дае падняць. «Заб'е,— думае Косця з халодным сумам.— Тона жалеза, каменю на кожны квадратны

метр. Выгадна ў краі суцэльнага камення абараняцца. Хто б там ні быў. Схаваўся ў які-небудзь каменны мяшок і адтуль страляй. Сам будзеш цэлы, а трупаў тых, што наступаюць, горы наварочаеш...»

Бліскае сіняе полымя. Разам з выбухам Косця чуе ўдар па руцэ. Як бы хто палкай моцна стукнуў. На запясці паказваецца кроў. «Паранены,— мільгае ў Косці думка.— Можа, уцалею. Асколак двойчы ў адну кропку не трапляе».

Выцягнуўшы здаровай левай рукой індывідуальны пакет, які наўмысна паклаў у кішэню штаноў, Косця раздзірае яго зубамі. Прыўзняўшыся, абапіраючыся на дрыготкі локаць, левай рукой перабінтоўвае правую. Адчувае: рана невялікая. Крыві тым часам многа. Па локці кроў цячэ ў рукаў, і ад гэтага прыкра.

Снарады рвуцца радзей і радзей. Косця пакрысе весялее. Настройваецца на разважлівы лад. У руку асколак болей не трапіць. Ёсць другія мясціны — левая рука, галава, жывот, ногі. Калі яго яшчэ раз зачэпіць, ён пойдзе ў тыл, у медсанбат.

Забыўшыся у кароткім трызненні, зноў бачыць Косця родную хату. Яна стаіць на рагу дзвюх вуліц — Савецкай і Вакзальнай. Доўгая адрына з двума комінамі. У другой палавіне хаты жыў кватарант — старшы пажарнік Іван Пашкевіч, вялізны, няўклюдны мужчына, які ні зімой, ні летам не скідаў сіняга, з доўгім крыссём шыняля. Пажарнік быў бяскрыўдны чалавек, але Косця любіў з яго пацяшацца. Выдумаў, што начамі Пашкевіч не спіць, а вынаходзіць незвычайны вогнетушыцель. Ноччу разоў дзесяць запальвае ў печы, а затым тушыць агонь.

Пад рогат хлопцаў ён плёў пра пажарніка шмат іншых небыліц. Нібыта вынайдзеную ім сумесь, ад якой адразу гасне полымя, кватарант змяшчае ў жалезныя скрынкі, запайвае іх і пасылае ў другія пажарныя каманды з такім надпісам: «Вынайшаў і прыдумаў сваёй галавой ва ўласным кабінеце алхімік Пашкевіч Іван».

Дзе цяпер Пашкевіч? Мабілізавалі ў першы дзень вайны. Яго ціхмяная жонка некуды з’ехала.

На паляне паяўляецца Чубукоў. Перакошваючы чорны рот, крычыць. З наганам у руцэ бегае між камення і вываратняў.

Падымае людзей, паказваючы на дарогу. На ёй тры танкі. Стаяць адзін за другім, вуркочуць маторамі. На гару падзяруцца танкі.

Убачыўшы, што рука перабінтаваная, Чубукоў загадвае Цітку ісці ў тыл. Але Косця не ідзе. Прыгінаючыся, прыпадаючы да зямлі, кіруе да танкаў. Некаторыя байцы, трымаючыся за скабы, лезуць на браню. Косцю нельга лезці: правая рука параненая, у левай — аўтамат. З аддзялення на пярэднім танку Лебедзь і партызан Рагамед. Рагамедаў твар спакойны.

Зноў Косця ва ўладзе трызнення. Здаецца: не на танку сядзіць шыракатвары Рагамед, а ў кузаве палутаркі, вязе на базу «Плодагародніна» калгасную картоплю. Калі не хапала месца ў кабіне, калгаснікі заўсёды сядзелі ў кузавах на бульбе. На рагу вуліцы перад Косцевай хатай палутаркі часта спыняліся. Вяскоўцы, размінаючы ногі, ішлі ў двор, выцягвалі са студні вядро з вадой. Прыпадаючы да жалезнай дужкі, прагна пілі.

Першы танк, скрыгочучы тракамі па дробным камені, якім усыпана дарога, кратаецца. Агонь з варожага боку зноў мацнее. Байцы шчыльней ціснуцца да брані.

Метраў пяцьдзясят, страляючы на хаду, прасунуўся танк па дарозе. На павароце ў яго трапляе снарад. У вежу, дзе самая моцная браня. Высякаючы іскры, асколкі шкрабаюць па брані. З енкам звальваюцца на дол двое байцоў. Лебедзь з Рагамедам сядзяць.

Выбухі снарадаў, мін усё часцейшыя. Відаць, танкі заўважаны з варожага боку. Усё наваколле вые, скавыча, скуголіць.

У Косці мільгае думка, што калі яны з Лебедзем уцалеюць, вернуцца жывымі дадому, то будзе што расказаць пра баі на зарослай каменнай градзе. Але ён зараз жа адганяе гэтую думку. Раней паэты ўслаўлялі вайну, ваенныя подзвігі, але пра вайну, якая ідзе тут, найлепш змогуць расказаць матэматыкі. Яны могуць дакладна вылічыць, колькі снарадаў, мін, асколкаў, куль прашываюць кожны квадратны метр зямлі ў кожную дадзеную адзінку часу і ці многа людзей можа пры такім агні ўцалець. Ніякай рамантыкі, адна статыстыка. Смелы ты ці палахлівец — вынік адзін. Жалезны цэп, які

няспынна малоціць па зямлі, дойдзе і ўдарыць. Усеўладдзе тэхнікі, перад якой чалавек бездапаможны...

Магутны выбух скаланае танк. З-пад вежы валіць чорны, дзягцярны дым. Як гарох, з танка сыплюцца байцы.

Косця, які ішоў услед за танкам, падае на зямлю. Ведаючы, што танк можа ўзарвацца, паўзе з дарогі, памагаючы сабе балючай параненай рукой. Праз хвіліну адчувае моцны — нібы жалезным малатком — удар у галаву. У вачах пачынаюць мітусіцца зялёныя, жоўтыя, чырвоныя кругі.

Косця разумее: надыходзіць смерць. Ніякага страху не адчувае. Зараз ён перастане дыхаць — і ўсё. Ёсць нават задавальненне, што пакідае жыццё. Ён ведаў, што так будзе. Дзесяць тон металу на адзін перахлябісты салдацкі жывот. Дзіўна, ён памірае ў той дзень, калі даведаўся пра смерць бацькі і Максіма. Можа, гэта нейкі таямнічы знак лёсу? Можа, ёсць іншае жыццё? Тады ён знойдзе бацьку і Максіма. Яго душа паляціць у бясконцую далячынь, знойдзе іх. Душа лёгкая, можа паляцець куды захоча: пад Сталінград, пад Курск — туды, дзе загінулі бацька і брат. Закрываючы вочы, Косця бачыць высокую белую царкву з зялёнымі макаўкамі. Дзе ён яе бачыў? Косця стараецца ўспомніць, але нішто не прыходзіць на памяць. За свае дзевятнаццаць гадоў нідзе ён асабліва не быў — разы два бацька, яшчэ малога, вазіў у Гомель: у Косці балеў жывот, і мясцовыя дактары ніяк не маглі даўмецца прычыны. Калі вучыўся ў дзявятым класе, ездзіў на спаборніцтвы ў Мазыр. Страляў там з лука. Чаму з лука? Прыхільнасці да такой стральбы Косця не меў ніякай. Фізрук папрасіў: трэба было паказаць, што ў школе існуе такі від спорту. Косця добра трапляў у цэль, школа тады заняла першае месца...

Вымаючы дакументы з кішэні Косці Цітка, Васіль не можа ўтрымацца ад слёз. Косця як жывы. Нібы заснуў. Толькі галава ў крыві. Асколак трапіў трохі вышэй патыліцы.

Васіль не думае, што не любіў Косцю і нават не хацеў, каб ён быў у аддзяленні. Цяпер яму здаецца, што Косця быў самым блізкім таварышам. Прадчуваў смерць і перад ім, Васілём, адспавядаўся. На яго вачах загінуў. Як сапраўдны

герой аддаў жыццё. Быў паранены ў руку. Чубукоў загадаў ісці ў тыл... Не пайшоў, аднак...

Васіль як бы знаходзіцца ў стане ўтрапення. Смерць Косці Цітка яго асабліва ўразіла. Забівае знаёмых, блізкіх таварышаў. Відаць, дарэмна яны дамагаліся разам ехаць на фронт. Сярод чужых людзей было б лягчэй. Трапілі ў праклятае месца. Кожны метр зямлі прастрэльваецца, успорваецца мінамі, снарадамі, асколкамі жалеза і каменя.

Кульнуўшыся з танка, Васіль бачыў, як з параненай, няўмела перабінтаванай рукой Косця поўз пад ядлоўцавы куст і ў сваю апошнюю хвіліну здрыгануўся, застыў пад ім. Яго, відаць, ударыла асколкам ці каменем.

Абыякавы да ўсяго ў гэтыя хвіліны Васіль. Нават да ўласнага лёсу. Яго не пакідае пачуццё, што ўсё сваё жыццё ён толькі тое і робіць, што вось гэтак, як цяпер, падымаецца, некалькі крокаў бяжыць, затым падае, уціскаецца ў зямлю, стараючыся з ёю зліцца, нашкрабвае сапёрнай лапаткай невялікі брустверчык, каб льга было за ім схаваць ад асколкаў, куль галаву, цягнецца да абымшэлых валуноў, якія найлепш ратуюць.

Па валунах, высякаючы агонь, струмені каменных пырскаў, б'юць снарады, на іх лопаюцца міны. Васіль аглух, грымоцце бою аддае толькі болем у вушах — відаць, пашкоджаны перапонкі. Вось у такім пекле пазабівала амаль палавіну байцоў, двух местачковых хлопцаў, з якімі Васіль ехаў у маршавай роце.

З трох танкаў падбіты два. Яны гараць, дымяць, нібы ўнутры іх смала. Трэці танк, спыняючыся, шоргаючы тракамі па каменні, бухаючы сваёй гарматай, дзярэцца па звілістай дарозе да седлавіны пагорка.

З другой палавіны дня робіцца лягчэй. Артылерыя, у тым ліку дальнабойная, безупынна крышыць гару. На дарозе новыя танкі. Яны пасоўваюцца наперад асцярожна і ўвесь час б'юць па доту. На небе круцяцца белыя, чыстыя аблачынкі. Час ад часу пырскаюць кароткім дажджом. Нібы хочуць астудзіць гарачыню бою.

## III

Танкі прасунуліся наперад, пяхота галавы не можа падняць. Фактычна адрэзана ад танкаў. Між танкамі і пяхотай асталіся нязнішчаныя кулямётныя гнёзды, бронекаўпакі.

Настаў час Мялешкі. Чубукоў прызначыў яго падрыўніком, выдзеліў двух памочнікаў. Адзін з іх, бялявы, падобны да хлапчука, яфрэйтар Гаўрылаў, карэл па нацыянальнасці, таксама быў у партызанах. Іхні атрад размяшчаўся на савецкай тэрыторыі, але некалькі разоў пераходзіў лінію фронту, шкодзячы ворагу ў тыле, на чыгунках, шасейных дарогах.

Кулямётнае гняздо — у развале між валунамі. Падрыўнікі, колькі можна было, падпаўзлі. Закідваюць варожы кулямёт гранатамі. Але цяжка дакладна патрапіць. Недалёт, пералёт. З гадзіну цярэбяцца байцы каля крушні. Выніку ніякага. Кулямёт раз-пораз ажывае, сее знішчальнымі чэргамі.

Падпаўзці ўшчыльную да крушні нельга. Вакол голы гак. Нарэшце ўспатнелы Мялешка знаходзіць доўгую жардзіну. Пры дапамозе яе толавы пакунак з падпаленым бікфордавым шнурам падцягваюць пад амбразуру. Выбух. Падрыўнікоў закідвае зямлёй, дробным каменнем, але кулямёт нарэшце змаўкае.

Танкі ўзабраліся на седлавіну пагорка. Прамой наводкай б’юць па амбразурах дота. Ва ўпор страляе па тоўстых жалезабетонных сценках палкавая артылерыя. Снарады рыкашэцяць, адскокваюць вогненнымі мячыкамі-бліскаўкамі. Глуха садзяць дальнабойныя гарматы. Кожнае трапнае пападанне цяжкага снарада ахутвае ўмураваную ў гару хмурную чатырохсценную будыніну дымам, адвальвае ад яе каменную камлыгу.

Нарэшце дот адолены. З-пад разваленых цэментовых глыб тырчаць рэбры стальной арматуры. Нібы жалезныя зубы каменнага страшыдлы.

За гарой спуск на раўніну. Да вечара роты, батальёны ідуць наперад. Якое мноства людзей, танкаў, самаходак, аўтамашын, іншай тэхнікі! Бясконцым патокам усё гэта спускаецца з гары, забівае шашу, узбочыны, бачнае наваколле. Васілю, калі ляжаў пад снарадамі, мінамі, здавалася — нічога жывога не асталося. Асталося, аднак.

Наперад, наперад! — ніхто не думае аб стратах. Некалі думаць. Яшчэ не выканана галоўная задача. Нельга думаць. Калі пачаць смуткаваць аб тых, хто ішоў з табой побач і цяпер ляжыць у зямлі, не хопіць сіл, духу, каб выканаць галоўную задачу.

Пасля спуску на раўніну Васіль адчувае, што ягоны настрой рашуча мяняецца. Грудзі перапаўняе радасць, што варожая абарона прарвана і ён астаўся жывы. Ён ловіць сябе на тым, што мала думае пра смерць таварышаў. Як бы Пятро Герасімовіч, Косця Ціток, Сяменёнка, таджык Рахім толькі дробныя пясчынкі ў агромністым людскім моры і ад таго, што іх няма, нічога не змянілася. Між тым Косця Ціток загінуў раніцай гэтага дня, і Васіль плакаў, гледзячы на яго чарнявы, знерухомелы твар.

Выбілася з воблакаў, ярка свеціць вячэрняе сонца. У лесе, між хвой,— доўгія цені. Каб нечакана прачнуўся ў гэтым лесе, ніколі б не падумаў, што ён чужы і далёкі. Дол засланы шышкамі, цвіце сунічнік, бруснічнік, перагукваюцца птушкі, звіняць камары — усё, як было дома. Нібы пасля пекла наступіў рай. Цяжка нават паверыць, што такое можа быць.

Нанач батальён спыняецца ў пасёлачку, застаўленым акуратнымі, дачнага тыпу, драўлянымі дамкамі. Які там батальён, не болей за роту асталося.

Зноў кладзецца на жорсткую паўночную зямлю кароткая белая ноч. Між елак, хвой, каменя, драўляных дамкоў затойваецца шэры паўзмрок. Зорак не відаць. Вісіць над галавой суровае, журбліваe неба. Ад хісткай шэрані ночы вее незразумелым смуткам.

Васіль, прыпаўшы да падлогі, засынае як забіты. Прачынаецца, калі сонца, падняўшыся высока, глядзіць у вокны дамка. Побач ляжыць, раскінуўшы рукі, Лявоненка, у другім кутку пасапвае, нават не абкрыўшыся шынялём, Косця Русаковіч. Ніхто нікога не будзіць, не прыспешвае.

Васіль выходзіць на двор. Цёпла, прыгожа. Вакол дамка разбіты клумбы. На іх флёксы, півоні, сінія кветачкі, назвы якіх Васіль не ведае. Цвітуць яблыні, вішні. Вясна была позняя, і яны толькі цяпер цвітуць. Усё — як дома. Васіля раптам агортвае трывога. Калі скончыцца вайна і будзе, як

вось цяпер, мірна, ціха і ён раптам у такі дзень сустрэне маці Пятра Герасімовіча, Косці Цітка. Што ён ім скажа?..

Ідзе Рагамед, зубамі прытрымлівае задзёртае крысо шыняля. У ягоных руках два кацялкі. Рагамед ставіць кацялкі на зямлю, з крыса шыняля вымае тры буханкі хлеба, кавалак шпігу, нешта загорнутае ў паперу.

У адным кацялку, напоўненым да палавіны, гарэлка.

— Наркамаўскія на дзевяць чалавек. За два дні,— пахваляецца Рагамед.

У аддзяленні цяпер пяць чалавек. Але забітыя, параненыя ў дакументах яшчэ не паказаны.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### I

Рагамед з Лявоненкам трымаюцца разам. Разам у партызанах былі, адзін пры другім тут, ва ўзводзе.

Зрэшты, яны з адной мясцовасці, хоць адзін жыве ў балотнай старане, другі — у лясной. Рагамедава вёска Кашалі ад Лявоненкавай Глушаўкі вёрст за пятнаццаць. Каб дабрацца з Кашалёў да Глушаўкі, трэба кіравацца на ўсход — на Пасады, Дуброву, затым збочыць на поўдзень — на Малыя Бацяны.

Да Пасадаў — балота. Вёсачкі туляцца на пясчаных пагорках, выспах, раскіданых па балотнай нетры. Пясчаная, падзоліста-кіслая зямля дае ўраджай мізэрны. Чаго ў збытку хапала ў Кашалях, дык гэта сена. Хіба што лянівы не накошваў. Праўда, трава неважнецкая, асака, круглец, ціпец, сівец, розныя балотныя дудкі, але калі няма лепшай, то карова і гэтую за мілую душу з’есць.

Туды далей пад Лявоненкаву старану балота, саснякі на пясчанай няўдобіцы саступаюць месца лісцвяным лясам і землям, трохі ўрадлівейшым.

Старэйшыя расказваюць, што ад Пасадаў да Дубровы і далей, да самых Малых Бацяноў, цягнуліся дубовыя гаі. Як вежы, стаялі дубы. Але даўно няма ні гаёў, ні дубоў.

Панскі маёнтак у Пасадах пачаў занепадаць яшчэ да рэвалюцыі. Яго ўзялі ў арэнду купцы, браты Равіковічы, пусцілі гаі пад пілу.

Лявоненка той час трохі помніць. Гэта было тады, калі збітую ў кучу вёску царскі міністр Сталыпін хацеў расшнураваць на хутары. Па дубовым пнёўі новы дуб не пайшоў, паднялося чарналессе — асіна, альха, бяроза.

Людзі ў лясной старане жылі трохі лепей, чым у балотнай. Лішняга хлеба не мелі, але бульба добра радзіла. У лесе хапала ягад, грыбоў; сёй-той займаўся пчалярствам, рамёствамі.

Перад вайной сталася, аднак, так, што Рагамедаў кут першы падаў заяўку на лепшае жыццё. Пачалася асушка балот. Надта разбагацець, разгавецца не паспелі, але два апошнія мірныя гады сякі-такі зажытак у Кашалі прыйшоў. Бульбы сталі есці ўдосталь, а на асушаным тарфяніку аж буяла сеяная трава.

Можа, недарод, галадуха зрабілі тое, што людзі з Кашалёў ва ўсе часы былі вельмі дабітныя. Куды яны толькі не траплялі!.. Шмат сем'яў падалося ў Сібір, некаторыя, найбольш адважныя, сягнулі аж у Амерыку.

Бацькаў брат, Рагамедаў дзядзька, таксама падаўся ў Амерыку. Хадзіла погаласка, што там разбагацеў. Родзіч сам, аднак, не азваўся ніводным лістом. Можа, баяўся, што хлыне на ягонае багацце ўся шматлікая галодная радня і праглыне разам з ім самім.

У савецкую пару сцежкі з Кашалёў у астатні свет сталі шырэйшыя. Найбольш, чым з якой-небудзь іншай вёскі, выйшла адсюль настаўнікаў, аграномаў, вайсковых камандзіраў і іншых паважаных людзей, што занялі ў жыцці прыкметнае становішча.

Сам Сямён Рагамед нікуды не рваўся. Яму падабалася спакойнае вясковае жыццё. Два ягоныя браты асталіся ў арміі на звыштэрміновай службе. Яны, мабыць, спісаўшыся, разам прыехалі ў госці. Быў пачатак лета, Сёмуха. Каржакаватыя, шыракаплечыя, у шавіётавых камандзірскіх гімнасцёрках з трохкутнічкамі ў пятліцах, парыпваючы хромавымі ботамі, расхаджвалі браты па вуліцы. Суседзі дзівіліся і зайздросцілі. Дзеўкі з усяе вёскі бегалі па ваду ў іхні канец. Хацелі з братамі пабачыцца ці хоць вокам непрыкметна кінуць.

Сямён тады перамяніў рашэнне, падахвоціўшыся пайсці па слядах братоў. Тым болей што восенню мусіў прызывацца.

Хораша яго і ягоных таварышаў адпраўлялі ў армію. У калгасе быў сход, прамовы, наказы. Праўленне спецыяльна выдзеліла фурманкі, каб завезці навабранцаў у раённае мястэчка. За фурманкамі ішлі радня, дзяўчаты, усю дарогу наярваў на гармоніку Рагамедаў сусед Міцька Грынь. Насіліся над дарогай сытыя, адкормленыя шпакі, плавала ў празрыстым паветры павуцінка. Стаяла пара, калі сеюць азіміну.

Віншавалі прызыўнікоў і ў сельсавеце, у вялікім пясчаным сяле Пасады, размешчаным на шляху на мястэчка. Быў мітынг, на якім выступалі старшыня сельсавета Грыгор Пільнуй, высокі, няскладны мужчына, іншыя актывісты. Сямён расчуліўся: Пасады таксама роднае сяло. Тут ён вучыўся, два гады жыў, скончыў пяты і шосты класы.

Пакуль гаварылі прамоўцы, затуманеным позіркам абводзіў Сямён знаёмую вуліцу, будынак школы, атулены старымі ліпамі,— у ім да рэвалюцыі размяшчаўся памешчыцкі маёнтак. Нібы прадчуваў: такога жыцця, якое ведаў, болей не будзе.

У калгасе Сямён рабіў на розных работах. Ладзіў з брыгадзірам, старшынёй.

У арміі яго памяркоўны характар, паслухмянасць, жаданне выканаць любы загад заўважылі. Яшчэ на першым годзе службы паслалі ў палкавую школу. Такім чынам, ён мог, як браты, навучыцца на малодшага камандзіра, астацца на звыштэрміновую службу.

Але сама служба ў арміі прыняла іншы характар. Званне малодшага камандзіра Рагамеду прысвоілі датэрмінова; іх часць рушыла вызваляць заходніх беларусаў. Ён тады ўпершыню пабачыў чужы свет: уласніцкія крамкі, ксяндзоў у чорных сутанах, панкоў, рамізнікаў з фаэтонамі. У адным мястэчку быў нават вясёлы дом: заплаці колькі злотых і выбірай на гадзіну ці дзве сяброўку. Яго ўразіла, што народ шчыра, як родную, сустракаў Чырвоную Армію. Было дзіўна бачыць людзей зразумелых, простых, якія размаўлялі амаль гэтак жа, як гавораць у Рагамедавай мясцовасці, аднак жылі ў другой дзяржаве.

Пасля таго як Рагамед стаў насіць на пятліцах два трохкутнічкі, жаданне астацца на звыштэрміновай службе пачало пакрысе гаснуць. Ён, відаць, па натуры не быў вайсковым чалавекам, вайсковае цыганскае жыццё было яму не даспадобы. Ён марыў пра той час, калі дэмабілізуецца, прыедзе ў сваю вёску, паступіць на курсы трактарыстаў.

Праз год з лішкам службы (з-за трохкутнікаў, як малодшы камандзір, Рагамед мусіў служыць тры гады) дывізію з-пад Беластока перакінулі пад Ленінград. Пачалася вайна з белафінамі.

Рагамед і цяпер без панылага суму ў грудзях не можа ўспамінаць цёмны, халодны варожа-непрыступны лес і чорначырвоны снег тут, на Карэльскім перашыйку. Снег быў чорны ад бясконцых выбухаў, парахавой сажы, варонак. Пасля таго як наступленне захліпнулася, яны больш чым месяц пражылі ў халодных зямлянках, выкапаных сярод рэдкалесся, на махавым балотцы. Снег на балотцы сотні ног утрамбавалі шчыльна, на ім выступілі чырвоныя плямы. Рагамед думаў, што гэта кроў, што яны ходзяць па крыві. Пазней толькі здагадаўся, што чырвань утвараецца ад расціснутых пад снегам журавін.

Ён нагледзеўся ў тую зімовую фінскую вайну на рагаткі калючага дроту ў шэсць — восем калоў, равы, лясныя завалы, гранітныя і жалезабетонныя надаўбні вышынёй у рост чалавека, бранiраваныя каўпакі для кулямётных гнёздаў, на траншэі поўнага профілю — глыбінёй да двух метраў, з нішамі-схованкамі, у кожнай з якіх магло перачакаць артналёт ці бамбёжку цэлае аддзяленне.

Але галоўнае — дзоты і доты. Здаецца, нават самі гэтыя словы пайшлі ва ўжытак з фінскай вайны. Жалезабетонных, таўшчынёй да паўтара метра, сценак дотаў не маглі прабіць ні 76-міліметровыя гарматы, ні нават 152-міліметровыя гаўбіцы, выведзеныя на прамую наводку.

Яго паранiла ў жывот. У шпіталі ён дачакаўся заключэння з фінамі міру.

Летам дывізія, у якой Рагамед служыў, уступіла на тэрыторыю Эстоніі.

Яны ішлі па краіне, на першы погляд, вельмі небагатай. Мела яна штосьці агульнае з кутком, дзе нарадзіўся і

вырас ён: пяскі, сасnякі, балацянкі. Праўда, тут пясчаная, неўрадлівая зямля абмывалася морам і на ўзбярэжжы жыў народ рыбацкі.

Адзін выпадак у тыя ўвогуле радасныя дні Рагамеда збянтэжыў. Ён выхаваўся пры савецкай уладзе, шчыра лічыў яе справядлівай, створанай у інтарэсах працоўнага люду. Як ні бедна жылі вёскі на Рагамедавай радзіме, але ўлада пра іх клапацілася: памагала сялянам асушаць балоты, прысылала настаўнікаў, дактароў, адкрывала школы, бальніцы, клубы, выдзяляла калгасам машыны, тэхніку. Парадак, пры якім адны пануюць, другія — гнуць на іх спіну, Рагамед лічыў асуджаным на пагібель і ганарыўся, што сам памагаў яго знішчэнню ў Заходняй Беларусі і тут, у Эстоніі.

У гарадку, дзе размясціўся полк, побач з казармай была папяровая фабрыка. На ёй працавала шмат жанчын, дзяўчат. Рагамеду кінулася ў вочы адна стройная, з белымі кудзеркамі валасоў дзяўчына, якая працавала на фабрыцы. Колькі вечароў прастаяў ён на вуліцы, чакаючы, пакуль кончыцца змена і пакажацца яна, апранутая ў просценькую сукенку, з павязанай сіняй хусцінкай светлавалосай галавой. Але, сустракаючыся з ім, ахайна апранутым малодшым камандзірам, дзяўчына да хрусту адварочвала галаву. Уласным мазалём зарабляла хлеб і не хацела знаёміцца з савецкім хлопцам, апранутым у вайсковую форму.

Восенню сорак першага Рагамед мусіў дэмабілізавацца, а сталася так, што ў пачатку зімы яго, зноў параненага, па лёдзе Ладажскага возера вывозілі з акружанага блакадай Ленінграда. Рагамеду яшчэ раз прыйшлося ваяваць на Карэльскім перашыйку, цяпер ужо адступаць. Нават уцякаць прыйшлося, бо тры дывізіі трапілі ў акружэнне, выбіраліся з «катла» дробнымі групкамі. Фіны спрэгліся з немцамі, і спраўдзілася тое, з-за чаго пачалася фінская вайна. Яны душылі Ленінград з захаду і поўначы, хіба што абстрэльвалі горад менш, чым фашысты.

З таго часу пачалася для Рагамеда пакутлівая паласа блуканняў. Усю зіму ён праляжаў у шпіталі ў Варонежы. Летам вораг падышоў і да гэтага горада. Рагамед трапіў у палон. Жывы, здаровы, падлечаны ад ран. Так здарылася. Ён уведаў

у палоне такога ліха, што нават ворагу не пажадае. Хадзіў худы, як шкілет, хістаўся ад ветру і быў зусім абыякавы да свайго лёсу. Мабыць, загінуў бы, каб частку палонных, і яго ў тым ліку, не прывезлі ў Гомель.

Гомель — амаль што радзіма. Тут для Рагамеда выбліснуў прамень надзеі. Палонныя працавалі на станцыі, грузілі ў вялікія чатырохвосныя вагоны, на платформы тое, што немцы паспелі нарабаваць: дубовыя круглякі, сасновае бярвенне, рудстойку, а найбольш хлеб, вырашчаны на ўзмежжы з багатай Украінай.

Пры хлебе, аднак, не прападзеш. Рагамед збольшага адкарміўся, весялей стаў глядзець на свет.

Усе людзі, выключаючы хіба паліцаяў, з якімі ў Гомелі сутыкаў Рагамеда лёс палоннага, ненавідзелі немцаў. Ішоў шырокі розгалас пра справы партызан. Было трывожна і радасна: хоць немцы стаялі на Волзе, ля Сталінграда, сягнулі аж на Каўказ, тут, у мясцовых лясах, смялей і смялей дзейнічалі рашучыя, адчайныя хлопцы, сярод якіх у сваіх патаемных надзеях бачыў сябе Рагамед.

Ён быў асцярожным чалавекам і пасвячаць у свае планы нікога не хацеў. Здарылася так, што прызнаўся ў жаданні ўцячы з лагера станцыйнаму счэпшчыку, які паходзіў амаль з той жа мясцовасці, што і ён сам. Счэпшчык памог: у тармазной будцы вывез Рагамеда з зоны, якая ахоўвалася паліцаямі, на два-тры дні прытуліў у пограбе, вывеў за горад.

Далей Рагамед дзейнічаў сам. Вялікае слова — Радзіма! Восемдзесят кіламетраў, якія аддзялялі Гомель ад родных балот, было нялёгка адолець.

Стаяла позняя восень сорак другога года. Імжылі дажджы, у сасонніках вісеў густы туман. У прыдарожных сёлах яшчэ сядзелі паліцэйскія гарнізоны. Такія сёлы Рагамед абмінаў. Ішоў лясамі, балотамі. Хацеў спярша пабыць дома, агледзецца, паляжаць на роднай печы. Так, на печы. За вайну Сямён намёрзся, нагаладаўся, столькі лютасці, нянавісці пабачыў між людзей, што хацелася адагрэцца, раздумацца, пабыць аднаму.

Пагрэцца, паляжаць на печы, аднак, не прыйшлося. Дома была маці, пры ёй малодшая сястра, якая выйшла замуж, калі

Сямён служыў у арміі. Стары бацька пагнаў на ўсход калгасны статак, мужыка сястры прызвалі ў войска. Ад братоў ніякіх вестак.

З пункту гледжання новай улады Рагамедава сям'я даверу да сябе не выклікала.

Выбар у Сямёна быў невялікі: або ў паліцыю, або назад у лагер, за калючы дрот. Маці, сястра (у яе малое дзіцё) хацелі, каб пабыў з імі. Ён згадзіўся стаць паліцэйскім. Так параіў адзін хлопец, які знаўся з партызанамі.

У паліцыі паслужыў толькі месяц. Зіма ў той год доўга не наступала. Снежань пакрыў дарогі галалёдам, імжыў дажджамі, туманамі. Выкарыстаўшы такія ўмовы (падкінуць мясцовым гарнізонам дапамогу з-за бездаражы немцы не маглі), партызанскія атрады суседніх двух раёнаў пачалі пляжыць паліцэйшчыну.

Сямён перайшоў да партызан яшчэ да таго, як яны напалі на Пасады. Гарнізон фактычна не супраціўляўся. Рыгор Пільнуй, начальнік паліцыі, а з ім некалькі найбольш заядлых прыспешнікаў уцяклі ў раённае мястэчка, пад крыльцы немцаў.

У партызанах Рагамед прабыў амаль год — аж да наступнай восені. Харошы то быў час. Можа, найлепшы ў ягоным жыцці. Немцы абкладвалі вёскі блакадамі, большасць іх папалілі, у цыганскім партызанскім жыцці хапала ўсялякага. Але ў атрадзе жылі добрая таварыскасць, узаемавыручка, ён і цяпер памятае начныя кастры, вакол якіх сядзелі знаёмыя вясковыя людзі, пяклі бульбу, спявалі.

У час свайго партызанства Рагамед зведаў жаночае каханне і ласку. Сасватала яму часовую сяброўку яго хросная маці. Удава, якая да яго прыхінулася, была непрыгожая, з шырокім чырвоным тварам, старэйшая гадоў на дваццаць, але кахала горача, шчыра, самаахвярна. Ён нават з атрада прыбягаў да яе ў напаленую лазеньку (у хаце былі дзеці). Удавіца ніколі з пустымі рукамі не прыходзіла: прыносіла бутэлечку самаробнай гарэлкі, скрылік сала.

У лазеньцы прыемна пахла высахлай кастрыцай, мурожным сенам. У прыпадку хмельнай шчырасці ўдавіца прызналася: да яго як бы мужчыны не ведала, не здагадвалася, што

можа быць у каханні так добра. Сямён часта ўспамінае сваю немаладую сяброўку, яе буйное, гарачае цела.

На дваццаць пятым годзе жыцця ён другі раз прызваўся ў армію. Удавіца гарачэй, чым хто-небудзь, на развітанне абнімала і цалавала: вельмі баялася за яго.

## II

— Сямён Іванавіч, пачакай!

Рагамед азіраецца. Подбегам шыбуе да яго каржакаваты, шыракатвары старшына. На ім ахайная камандзірская гімнасцёрка, хромавыя боты, цераз плячо целяпаецца скураная сумка-планшэт.

— Сто гадоў цябе не бачыў. Не пазнаеш, Сямён Іванавіч?

Твар, постаць, голас здаюцца Рагамеду знаёмымі, а пазнаць, хто перад ім, не можа.

Яны абодва стаяць на вуліцы пасёлка, у якім Рагамед начаваў. Батальён пасля трохдзённага бою атрымаў адпачынак, вайна пайшла наперад, адкуль чуюцца глухія выбухі.

— Не дзіва забыць. Тры гады не бачыліся. Здаецца, як вывезлі з Койвіста...

Цяпер Рагамед пазнае: перад ім Мікіта Піліповіч. Разам вучыліся ў палкавой школе, вызвалялі заходніх беларусаў, ламалі «лінію Манергейма». Галоўнае: у бядзе разам былі. Калі фіны, спрэгшыся з немцамі, напалі ў сорак першым, полк перакінулі зноў на Карэльскі перашыек. У Выбаргу яны доўга трымаліся, але трапілі ў акружэнне. З Койвіста, з пясчанага гака, на якім збілася войска, частку байцоў удалося вывезці пад Ленінград.

— Ты чаму радавы? — не тоячы здзіўлення, пытае Піліповіч.— У якой часці служыш?

Рагамед называе полк, дывізію.

— Дык ты на другіх франтах ваяваў. А я ўсю вайну тут. Ленінград абаранялі...

— У палон трапіў,— прызнаецца Рагамед.— Не тут, пад Варонежам. Мяне ў сорак першым у Неўскай Дуброўцы на пачатку зімы параніла. Параненага вывезлі па Ладазе, па лёдзе. Аж у Варонеж. Там ваяваў. З палону ўцёк, быў у партызанах. У сваёй мясцовасці.

На шырокім твары старшыны несхаваная радасць.

— Дык ты ў Беларусі быў! — усклікае.— А я, братачка, з трыццаць восьмага года яе не бачыў. Як яна там? У мяне там бацька, маці, дзве сястры. Пад Слуцкам. Наша мясцовасць пад немцам яшчэ. Можа, жывых нікога няма. Дрэнна мне, братачка, было. Усе пісьмы палучаюць, а я за вайну хоць бы адно.

Піліповіч служыць у ПСД — пункце збору данясенняў. Носіць ад палкавога дывізійнаму начальству пакеты. Таму мае камандзірскую гімнасцёрку, хромавыя боты і за ўсю вайну ні разу не паранены.

— Галоўны ўдар пераносіцца з Выбаргскай на Прыморскую шашу,— азірнуўшыся, напаўголасу паведамляе Піліповіч.— У штабе чуў. Таму вам перадышку далі. Каля заліва абарону глыбока прарвалі, дывізію туды перакінуць. Мы з табой у саракавым годзе па Прыморскай шашы наступалі...

Рагамед глядзіць на Піліповіча трохі з зайздрасцю. Нібы начальнік гаворыць старшына. Навучыўся ўсялякім словам, аціраючыся каля штаба.

— Па шашы, можа, танкі наступалі. Мы па каменні. Тады і цяпер.

— Цяпер не тое, што тады. Хіба не бачыш?

— Тэхнікі больш,— згаджаецца Рагамед.— Намнога больш. Ваяваць лепей з тэхнікай.

— Ну, я пайшоў,— гаворыць Піліповіч,— трэба замачыць гэтае дзела. Я цябе знайду, Сямён Іванавіч.

Вяртаючыся туманнай раніцай з задання, разведчыкі нарываюцца на пакінуты дот. Царыца палёў, пяхота, у ім яшчэ не пагаспадарыла. Ды і не дот гэта, а, мабыць, афіцэрскі клуб, казіно.

З цікавасцю выдыбаюць апранутыя ў маскхалаты, з кінжаламі, гранатамі на поясе разведчыкі па засланай дыванамі зале, пакоях падземнага збудавання. Тут нават электрычнасць ёсць. Сценкі зроблены пад дуб, мяккія крэслы. Сапраўдны палац. У адным пакоі замест крэслаў драўляныя калодкі, груба збітыя з таўшчэразных, негабляваных дошак сталы. Якраз у пакоі разведчыкі знаходзяць тое, што шукалі,— шафу з markrознымі трункамі. Похапкам бяруць, кідаюць у рэчавыя мяшкі

бутэлькі з бліскучымі этыкеткамі. Зазірнуў у пакой малодшы лейтэнант, звёўшы над арліным носам цёмныя бровы, загадаў:

— Тут не піць!

Харчу, колькі ні шукалі, не знайшлі. Затое ў зале, у цёмным кутку, убачылі на сцяне карту. Краіна Суомі, паказаная на ёй, ахоплівае не толькі Фінляндыю, а ўсю Карэлію, уключае Ленінград, Волагду, шырокай паласой цягнецца аж да Урала. Але хто калі чуў пра такую вялікую краіну Суомі?..

Узводу ў гэты дзень шанцуе. Калі разведчыкі вяртаюцца ў пасёлак, у дамок, адкуль выходзілі на заданне, іх чакае яшчэ адна навіна. Ладураў, які аставаўся на месцы, здабыў для ўзвода карову. Яна, бяздомная, нядоеная, блукала па сасонніку, жаласна мычэла.

Ён ёй накасіў травы, прывязаў да сасны, падаіў. Двойчы паспеў падаіць — учора вечарам і сёння раніцай. Два вядры малака мае ўзвод.

Глядзець карову ў сасоннік ходзяць па чарзе ўсе. Яна, цёмна-белая, вялікая, пародзістая, пережоўвае жвачку і глядзіць на салдат вялікімі сумнымі вачамі.

У пасёлачку, на разгалістым дубе, на дзвюх ці трох соснах, віднеюцца буслянкі. У добрай згодзе з бусламі жывуць вераб'і. Звілі сабе гнёзды між хварасцін буслянак.

У гняздзе, што на дубе, нават бусляняты вывеліся. Цікавая вынікае музыка, калі буслы, прынёсшы сваім гадаванцам спажыву — жабу ў дзюбе ці нават доўгага, як пуга, вужа,— пачынаюць клекатаць.

У іншую хвіліну некалькі буслоў клякочуць адразу, і тады ўражанне непрыемнае: здаецца, чуецца далёкі пошчак кулямётаў.

Сяргей у гэты дзень для сябе нібы адкрыццё зрабіў. Акрамя вайны, ёсць яшчэ шырокі, мнагалучны свет, якому няма да вайны ніякай справы. Чалавек проста не заўважае, што жыве ў добрай згодзе з ніжэйшымі за сябе жывымі істотамі: каровамі, авечкамі, сабакамі, катамі, курамі, розным іншым дробным і буйным птаствам. Калі гэтага няма, чалавек пачынае сумаваць.

З пяшчотай успамінае Сяргей зарослы муравой панадворак, частакол з абчэсаных альховых калкоў. На ім вісяць мат-

чыны збанкі, гладышыкі. На частаколінах Сяргей развешваў сушыць лапці, анучы, калі вяртаўся з лесу, з грыбоў.

Набірае гарачую сілу паўночнае лета. На палянах — трава па калена. Самая пара касіць. Байцы паскідалі шынялі. Ходзяць у адных гімнасцёрках.

На адпачынку полк. Яго мусяць папоўніць людзьмі, тэхнікай. Сухамятка скончылася, цяпер рэгулярна, тры разы на дзень, гарачая страва. Меню вядомае: суп з сушанай бульбы, каша з ячменнай сечкі. За супам, кашай байцы цяпер не ганяюцца. Першую варожую лінію абароны прарвалі, сёе-тое трапляе ў рэчавыя мяшкі з прыпасаў ворага.

Аднак нядоўгі адпачынак. Праз суткі — каманда на марш.

З сярэдзіны Карэльскага перашыйка, з-пад Ківенапы, Выбаргскай шашы, на шашу Прыморскую, куды перамясціўся галоўны ўдар, перакідваюцца танкі, артылерыйскія, мінамётныя палкі, дывізіёны самаходных установак, гвардзейскіх мінамётаў.

На прасёлкавых дарогах грукочуць танкі, натужна равуць маторамі «студэбекеры», цягнуцца конныя абозы. На дарогах пробкі, заторы. Цяжкія танкі збочваюць у лес, падмінаюць сосны, бярозы, утвараючы прасекі, па якіх рухаецца тое, што застапарылася на дарозе.

Дзень і ноч, без пярэдыху, пешым парадкам перадыслакоўваюцца з поўначы на поўдзень парадзелыя роты, батальёны пяхотнага палка. Узвод пешай разведкі ў галаве калоны. Полк, як і дывізія ў цэлым, у другім эшалоне, на хаду папаўняецца людзьмі, амуніцыяй, тэхнікай. Разведчыкі, у адрозненне ад стралковых рот, як і ў час бою, вядуць назіранне, пошук. Тэрыторыя вызвалена, але дзе гарантыя, што вораг не пакінуў у лясах баявыя групы, «зязюль»?

У небе — нямецкія эскадрыллі. У «Красной Звезде» прамільгнула заметка: у Хельсінкі прыехаў Рыбентроп, ад імя фюрара абяцае Фінляндыі ўсялякую дапамогу. Авіяцыяй, значыць, памагае Гітлер паўночнаму саюзніку.

Самалёты з цёмна-белымі разводамі крыжоў носяцца над калонамі. Зрэдку бамбяць. Паміж нямецкімі і нашымі самалётамі раз-пораз завязваюцца паветраныя баі. То ў адным, то ў другім месцы выбухі снарадаў: калоны спрабуе абстрэльваць варожая дальнабойная артылерыя.

Лета ўбіраецца ў сілу. Сонца дыхае цеплынёй, нібы агромністая вогненная печ.

Добра пачалося лета сорак чацвёртага года. Не горш, чым мінулагодняе, калі на Курскай дузе спынілі нямецкае наступленне і пагналі фашыстаў на захад.

## III

Піліповіч знаходзіць Рагамеда ў час кароткага прывалу. Падміргвае хітрым вокам — яны адыходзяць з узбочыны дарогі далей у кусты, кладуцца на зямлю.

— Думаў, людскае што знайду,— нібы апраўдваецца Піліповіч.— Маю картачку ў ваенторг на розныя прадметы. Толькі дзе там з нашым спрытам! Усё добрае расхапалі. Вось толькі гэта купіў,— ён выцягвае з кішэні брыджаў бутэлечку з ружовай этыкеткай.— Духі...

— Навошта духі? — ніякавата пытае Рагамед.

— Хацеў адэкалону купіць. Няма. Адэкалон на спірытусе. То я падумаў, што духі гэтак жа робяцца. Трэба ж нам сустрэчу замачыць.

Піліповіч дастае з палявой сумкі біклажку з вадой, алюмініевую конаўку, кавалак хлеба, невялікі шкуматок шпігу. Рэжа хлеб, дзеліць шпіг на невялікія долькі ножыкам-складанчыкам.

Калі ў духі, вылітыя ў конаўку, дабаўляюць вады, пітво робіцца белым, як малако.

— Пі ты першы,— гаворыць Рагамед.

Піліповіч выпівае з конаўкі палавіну, непрыемна моршчыцца.

— Паскудства, братачка. Але выпі. Пагаварыць хочацца. Можа, хоць трохі закружыцца ў галаве.

Рагамед праглынае, нават не пакаштаваўшы, рэшткі пітва, закусвае. Галава, аднак, не кружыцца. Проста пачынае балець.

— Праўда, што немцы паляць нашы сёлы?

— Паляць.

— За што?

— Нізашто.

— Чуткі даходзілі — белафінскія карныя атрады дзейнічалі супраць партызан. Няўжо праўда?

— Праўда,— пацвярджае Рагамед.— Дамачоўскі раён белафіны пачалі паліць яшчэ першай зімой. Лютавалі страшна.

— То я маю шчасце, братачка,— нечакана паведамляе Піліповіч.— Ледзь у палон да іх не трапіў. Да фінаў. У тую першую зіму. У завіруху збіліся мы з таварышам. У іхняе размяшчэнне забрылі. Я кажу: «Направа трэба ісці», ён налева паказвае. Спрачаліся, спрачаліся, і кожны ў свой бок пайшоў. Я вот тут, з табой, а яго і цяпер няма. Пашанцавала...

«Табе шанцуе,— з непрыхільнасцю думае Рагамед.— У тую вайну ва ўзводзе ўпраўлення быў, цяпер пакеты носіш. Не тое што пяхота. Добрую вопратку маеш, да начальства даступны. Так можна хоць дзесяць гадоў ваяваць...»

Праз хвіліну Рагамедавы думкі ідуць у другім напрамку. Піліповіч добры таварыш. Лішне нос не задзірае. У блакадзе быў. Нагаладаўся за тры гады, гора нагледзеўся. Пакуль няма каманды, яны яшчэ ледзь не паўгадзіны гавораць пра тое, што пражылі, пабачылі за сваю доўгую вайсковую службу...

Пакуль палкі, дывізіі з сярэдзіны Карэльскага перашыйка перакідваюцца да Прыморскай шашы, прагрызена другая паласа ўмацаванняў. Наперадзе трэцяя, галоўная, якую ў мінулую чатырохмесячную вайну называлі «лініяй Манергейма».

Папоўнены жывой сілай, тэхнікай, полк зноў у наступленні. Гарматы б’юць з-за дрэў, кустоў, невялікіх пагоркаў. У адным месцы артылерысты ўсцягнулі гармату на каменны ўцёс — ён, нібы піка, узвышаецца над мясцовасцю,— страляюць адтуль.

Грукочуць гарматы, па варожых умацаваннях б’юць караблі з мора. Нават у суцэльным грымоцці можна адрозніць цяжкія, нібы ўздыхі, выбухі дальнабойных снарадаў. На зямлі валадарыць савецкая тэхніка наступаючых палкоў, дывізій. У паветры гудуць нямецкія самалёты.

Эскадрыллі з зоркамі на крылах уздымаюцца ў паветра, знішчальнікі мітусяцца вакол «месершмітаў», юркіх «фокевульфаў», але адолець іх не могуць. На вачах Сяргея ўжо чатыры ці пяць савецкіх самалётаў, цягнучы за сабой шлейфы дыму, рухнулі на зямлю. З немцаў — ніводны. Нібы малюнак сорак першага года. Відаць, сапраўдных асаў прыслаў Гітлер на Карэльскі перашыек. Каб адцягнуць паражэнне паўночнага саюзніка.

Вось зноў завязваецца паветраны бой. Нават артылерысты перасталі скакаць вакол гармат — сочаць за паветраным паядынкам. У небе два «месершміты». Тры імклівыя знішчальнікі то ў хвост ім заходзяць, то накідваюцца збоку. Немцы спакойныя, ідуць сваім курсам. Ду-ду-ду! — бубняць іхнія куляметы. Адзін наш самалёт загарэўся, другі. З самалётаў выкідваюцца дзве цёмныя кропкі, якія праз хвіліну робяцца светлымі: раскрываюцца парашуты. Сцярвятнікі нават лётчыкаў на парашутах не хочуць жывымі выпусціць. Знізіліся, абстрэльваюць.

## IV

Пошук ледзь не кожную ноч. Сяргей нацягвае плямісты маскіровачны халат, завязваючы шнуркі ў многіх месцах: на нагах, на жываце, на спіне, на шыі. Маскхалат — нібы другая скура. Паўзверх халата трэба туга зацяснуць шырокі рэмень — на ім вісяць дзве лімонкі, пляскаты нож.

Аўтамат на плячы, дулам уніз. Так носяць зброю разведчыкі. На шыі, на кароценькай раменнай дзязе бінокль. За плячамі рэчавы мяшок. У ім абкручаныя байкавай анучай, каб не стукаліся адзін аб другі, аўтаматныя дыскі.

Дакументаў — салдацкіх кніжак, камсамольскіх білетаў, лістоў з дому, фатаграфій,— ідучы на пошук, разведчыкі не бяруць. Ныраюць у шэрань ночы безыменныя.

Гарачы салёны камяк падступае Сяргею да горла, калі ён каму-небудзь з таварышаў аддае дакументы.

Бразь, бразь, бразь — дыскі, нават абкручаныя анучай, ціхенька пастукваюць адзін аб другі. Ланцужком, бясшумным крокам выбіраецца на пошук група. Дзесяць — дванаццаць чалавек. Болей не трэба.

У шэрані кароткай ночы ўспыхваюць ракеты. Іх мярцвянае святло робіць навакольныя прадметы — ствалы, макушы сосен, абымшэлыя валуны — нерэальнымі, прывіднымі.

Пры ўспышцы ракеты ланцужок разведчыкаў, як па камандзе, кідаецца на зямлю. Адчуванне ў Сяргея прыкрае: здаецца, яго бачаць усе, хто затаіўся ў чужым, варожым лесе.

Залішне светла ноччу. Нават без ракет. Таму разведчыкі больш ляжаць, чым ходзяць. Ужо другую ноч поўзаюць ля вузкакалейкі.

Чыгунка пракладзена проста па лесе. Вядзе, відаць, да дота ці склада. Прыпадаючы да зямлі, раз-пораз азіраючыся, бясшумна прасоўваецца група ўзбоч насыпу. У галаве ланцужка Мамедаў, Кіслякоў, Смірноў. За імі Філімонаў, Мерзлякоў, Грыбін. Трэба паслухаць, паглядзець, хто валадарыць вузкакалейкай.

Галасы чуваць. Тым часам растае на вачах праклятая белая ноч. Светла — як днём. Добра, што туман між кустоў сцелецца. Кіслякоў махае рукой. Усе зноў кладуцца на зямлю, паўзуць. Відаць платформы. Іх цэлы цуг. Нават паравозік пыхкае.

Салдаты завіхаюцца ля платформ. Некаторыя ў адных нацельных сарочках. Згружаюць драўляныя скрынкі. Цяжкія, відаць, скрынкі. Двое, стоячы на платформе, аддаюць скрынку тым, што на зямлі. Яны адносяць яе ў штабель.

Калі быў у партызанах, Сяргей вось гэтак цікаваў за немцамі. Тое самае пачуццё.

На гэтым месцы быў ваенны склад. Згарэў. Спаліла, відаць, наша авіяцыя. Быў выбух, навакол пагнутыя жалезныя бочкі, скруткі дроту, дрэвы навакол абпаленыя. Фіны выкарыстоўваюць, аднак, вузкакалейку і пляцоўку. Мабыць, склад аднавілі.

Што ў скрынках? Хутчэй за ўсё міны. Ваенны склад згарэў, і ён ёсць. Мамедаў, схіліўшыся над картай, робіць адзнаку. Кіслякоў махае рукой — адпаўзаць.

Раптам сабачы брэх. На схаваных у кустах разведчыкаў ляцяць дзве раз'ятраныя аўчаркі. Пашчы ашчэраныя, на бягу сабакі высока ўздымаюць тоўстыя, з прыціснутымі хвастамі зады. Доўгая аўтаматная чарга — страляе Філімонаў — абедзве аўчаркі з выццём качаюцца па траве.

— Бі па штабелях! — загадна крычыць Кіслякоў.

Ад трэску дзесяці аўтаматаў закладвае вушы. Ад складзеных у штабель скрынак адскокваюць трэскі. Разлік у Кіслякова просты — мусіць узарвацца штабель.

Аднак не ўзрываецца. З насыпу, платформы салдат як ветрам здувае. Праз хвіліну пачынаюць страляць яны.

— Закідаць гранатамі! — каманда.

Ля штабеля адна за другой разрываюцца гранаты. Штабель, аднак, цэлы. Ніякай дэтанацыі.

— Адыходзім! — загадвае Кіслякоў.— Філімонаў, Каліноўскі прыкрываюць...

— Ады-ы-ходзім!..

На спіны разведчыкам падаюць лісце, кара, галіны ссечаных дрэў. Як восы, зумкаюць кулі.

Седзячы, з калена строчыць з аўтамата Ладураў. Хапіўшыся за жывот, ён раптам войкае.

— Грыбін, Фінкельштэйн, параненага на палатку! Хутка.

Забітых, параненых разведчыкі не пакідаюць. Такі закон.

На паўкіламетра адышлася ад склада група. Фіны не адстаюць. Спадзяюцца, відаць, такім манерам прыгнаць разведчыкаў да сваёй перадавой, заціснуць, нібы ў клешчах.

— Прыгатовіцца да бою! — каманда ціхая, перадаецца ад аднаго да другога напаўголасу. На твары Смірнова, побач з якім цяпер ляжыць Сяргей, бісерынкі поту.

Каменная града высокім валам цягнецца між соснаў. Тут трэба даваць бой.

Затаіўшыся за каменным грэбнем, разведчыкі чакаюць. Сяргей бачыць салдата. Кароткімі перабежкамі ён кідаецца ад сасны да сасны. Пілотку згубіў. Развяваюцца светлыя валасы. Сяргей сабе гэтага выбера. Толькі пяць ці шэсць салдат. Адважыліся, аднак, даганяць разведчыкаў.

Аўтаматная чарга — і на варожым баку адчайны крык. Сяргей сочыць за сасной, за якой прытаіўся яго вораг. Той куляй кідаецца да наступнай сасны. Сяргей націскае на спускавы кручок. Спазніўся.

Кароткімі перабежкамі ад сасны да сасны, паўзучы ад валуна да валуна, усё бліжэй падступаюць да каменнай грады варожыя салдаты. Аўтаматныя чэргі разведчыкаў трашчаць дарэмна.

Год назад такім жа летам паліцаі загналі двух партызан і Сяргея ў хлеў. У іх тады было толькі па сем-восем патронаў. Выбраліся, аднак! Яны самі падпалілі хлеў, хаваючыся за заслонай дыму, сягнулі ў агарод, у грады, адтуль у жыта.

— Запаліць дымавыя шашкі! — чуецца каманда Кіслякова.

Праз хвіліну з-за каменя падымаюцца густыя клубы дыму.

Клююць на прыманку «праследвальнікі», лічаць — разведчыкі ўцякаюць. Не хаваючыся, выскокваюць са сховішчаў. Сяргей з усёй сілы цісне на кручок, і аўтаматная чарга ледзь не напалам перарэзвае белагаловага салдата.

Подбегам разведчыкі адыходзяць.

— Ладураў памёр. Ад раны ў жывот,— чуваць голас.

Разведчыкі працягваюць несці цела на палатцы. Востра пахне ў балоце багуном. Нават галава ад гэтага троху кружыцца.

Перад самай перадавой група натыкаецца на супрацьтанкавы роў. Умацаванне сур'ёзнае: каменныя слупы-надаўбні — нібы высокія надмагільныя пліты. Густа настаўлены, у некалькі радоў. Шаша побач. Умацаванне на карту не нанесена.

Ужо светла як днём. Гэта і падводзіць. Варожы дазорца, відаць, не адставаў, сачыў за разведчыкамі. Торкае з-пад каменя аўтаматнай чаргой, і, ціха войкнуўшы, падае на лясны падатлівы мох Мерзлякоў, хапаецца за ніз жывата Фінкельштэйн.

Трашчаць у адказ аўтаматы разведчыкаў, бухае некалькі гранат. Але дазорца схаваны, голасу не падае. Справа ясная — трэба адыходзіць.

Фінкельштэйн сам ідзе, Мерзлякова — ён паранены ў грудзі, перавязаны — нясуць. Двух нясуць. Мёртвага Ладурава таксама. Пабраўшыся за рагі плашч-палаткі, трымаючы на грудзях перавешаныя цераз шыю аўтаматы, павольна брыдуць па лесе Мамедаў, Кіслякоў, Смірноў, Грыбін, Філімонаў, Папоў, Сяргей і астатнія.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

### I

Пазіцыі палка — ускрай шашы. З левага боку мора, з правага — зарослая чэзлымі соснамі, куп'ём балацявіна. Звечара, працуючы маторамі на малых абаротах, у парадках палка засяроджваюцца самаходкі.

У дванаццаць ночы Чубукова выклікае камандзір палка. Чубукоў здзіўлены: толькі што атрымаў задачу ад камандзіра батальёна.

Палком камандуе падпалкоўнік Мухін. Нізкарослы, чорны, з пабітым рабаціннем тварам. Камандзір увогуле талковы.

Выкшталцаванасць, знешні лоск Мухін ігнаруе. Колькі памятае Чубукоў, ходзіць падпалкоўнік у пашытай з парусіны сіняй, выцвілай гімнасцёрцы. Нахмураны, непадступны, з падцятымі губамі.

Ёсць у падпалкоўніка яшчэ адна добрая рыса: у дробязі не ўмешваецца. Дае праяўляць ініцыятыву падначаленым.

— Прымаеш батальён, старшы лейтэнант,— загадвае камандзір палка, як толькі Чубукоў паяўляецца ў зямлянцы.— Роту здасі Зотаву. Батальёну прыдаецца дывізіён самаходных установак. Спецыяльна для цябе — ты ж у тэхніцы кумекаеш. Твой батальён пойдзе галаўным. Задача ясная?

Батальёнам камандаваў маёр Сернікаў. Жывы, здаровы. Куды яго? Задачы, аднак, не абмяркоўваюць.

Чубукоў разумее: будзе цяжка. Але дывізіён самаходак — рэч. З тэхнікай надзейней. Калі прарывалі першую паласу, ён з трыма танкамі ўзяў вышыню, на якой размяшчаўся дот.

Штурм пачынаецца раніцай. Па шчыльнасці агонь такой жа сілы, як пры прарыве першай лініі. Наваколле гудзе, трашчыць, раве — д'ябальскі гул вырастае ў пранізлівую, невыносную для кожнай жывой істоты ноту. Паўтары гадзіны цягнецца артпадрыхтоўка. Акрамя гармат розных калібраў, пастаўленых на прамую наводку, і дальнабойных — іх агонь карэкціруюць спецыяльныя назіральнікі,— на пярэднім краі ворага хваля за хваляй — звёны штурмавікоў, бамбардзіроўшчыкаў. Штурмавікі ляцяць імкліва, пры самай зямлі. Іх гарматы нібы паліваюць зямлю агнём — такое ўражанне. Бамбардзіроўшчыкі апрацоўваюць пярэдні край з вышыні. Некалькі бомб падае перад самаходкамі. Вадзіцелі адводзяць іх назад.

Чубукоў на пярэдняй самаходцы. Рота Зотава, частка сапёраў — яны мусяць рабіць праходы ў мінных палях — пасаджаны на самаходкі. Яшчэ не скончылася артпадрыхтоўка, навакол грыміць, скавыча, але па загаду Чубукова самаходкі, пераваlivаючыся цераз варонкі, ідуць у наступ.

Артпадрыхтоўка абрываецца гэтак жа нечакана, як пачалася. Некалькі хвілін пануе незвычайная цішыня. Можа, байцы, што сядзяць на самаходках, проста паглухлі. Бліжэй за ўсіх былі да жахлівага вогненнага валу, які абрынуўся на варожыя ўмацаванні. Пакрысе з цішыні выдзяляецца гул матораў, лязганне тракаў.

У першую хвіліну Чубукоў губляецца. На карце пазначаны роў, надаўбні. Але адно на карце, другое — пабачыць на свае вочы. Стаяць, нібы д'яблы, каменныя слупы. Суцэльнай сцяной. Толькі асобныя павалены агнём артылерыі. Два, тры, пяць, шэсць радоў. Між імі конь з калёсамі не праедзе, не тое што самаходка.

Саскочыўшы з самаходкі разам з мінёрамі, Чубукоў бегае, мітусіцца. Рашэнне, аднак, прыходзіць хутка. Нездарма ён вучыўся ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Каменныя д'яблы пастаўлены пад шнур. Нібы грушы ці яблыні ў садзе. Таму рабіць праходы, выбіваць каменнае зуб'е трэба не ўсюды.

Доты, дзоты не ўсе знішчаны. З агідным выццём гахаюць міны. Кулямётныя чэргі рэжуць паветра. Кулі носяцца, нібы спуджаныя восы.

Чубукоў праз расчынены люк ускоквае ў самаходку. Прыцэльны агонь па каменным зуб'і цягнецца толькі некалькі хвілін. Нарэшце камандзірская машына ідзе на надаўбні. Віляе, пятляе між імі. Варожая артылерыя б'е цяпер па надаўбнях. Аднак Чубукова ў прыцэл не зловіць. Пераваливаючыся цераз варонкі, ныраючы ў вузкія, аднаму яму бачныя праходы, ён выводзіць самаходку на процілеглы край каменнай шчоткі. Праход ёсць!..

Імпэт, баявы парыў нарастаюць. З нябачных, няўлоўных рухаў ствараецца пераможны дух зладжанасці, мэтазгоднасці дзеяння сотень людзей. Чубукоў ведае: сам сабой нараджаецца гэты дух, ніякай камандай яго не выклічаш.

Байцы роты Зотава, якія бягуць за самаходкамі, мінуўшы поле надаўбняў, разбягаюцца ў бакі, залягаюць, пашыраючы прарыў. Агнём гармат самаходкі руйнуюць новыя надаўбні.

За рвом — калючы дрот. У некалькі калоў. Байцы кідаюць на дрот бярвенне, дошкі, вырваныя аднекуль дзверы, уласныя шынялі.

Імпэт наступлення разгараецца. Няма ніякай магчымасці камандаваць мноствам пехацінцаў, артылерыстаў, танкістаў, пэтээраўцаў, экіпажаў самаходных установак. І тым не меней усё, што робіцца, нібы падпарадкавана нябачнаму дырыжору, які суладна, мэтазгодна арганізоўвае ігру гэтага шалёнага, пякельнага аркестра. Нібы па камандзе, адно за другім змаўкаюць варожыя кулямётныя гнёзды, мінамёты, гарматы.

Штурм нарастае. Васіль Лебедзь першы ўскоквае ў траншэю. Ахоплены парывам бою, вогненнай, нязведанай раней радасцю, бяжыць, кідае гранаты ў згібы траншэі, пырскае раз-пораз кароткімі аўтаматнымі чэргамі. Варожыя салдаты не вытрымліваюць. Некаторыя падымаюць рукі, другія выскокваюць з траншэі, але тут жа, зрашэчаныя дзясяткамі куль, сутаргава пацягнуўшыся, падаюць, правальваюцца ў бясконцыя варонкі. Пяць ці шэсць сядзяць на дне траншэі з паднятымі рукамі, калоцяцца. Іх абмінаюць, як штосьці не вартае ўвагі, некаторыя байцы, бегучы, цераз іх пераскокваюць.

Байцы нечакана залягаюць. Наперадзе ажывае не знішчаны, абыдзены танкамі, самаходкамі браніраваны каўпак. Сее смерць. Вакол голы, як бубен, пляц — не падабрацца да каўпака.

Рагамед, выскачыўшы з траншэі, залягае на роўнай, гладкай зямлі. Адчувае: было ўжо з ім такое. Нібы за межамі свядомай памяці, мігцяць тыя ж вогненна-сінія палосы кінжальнага кулямётнага агню. Апанаваны крыважэрнасцю воўк сядзіць пад каўпаком. Маўчаў, пакуль байцы не высыпалі з траншэі. Вось баец іхняга аддзялення Адам Каліноўскі, які залёг трохі наўзбоч ад вогненных трас, кідае, прыўзняўшыся, гранату. Тут жа падае і болей не варушыцца. Прыкмеціў яго воўк, падсек.

Рагамед ні страху, ні адчаю не адчувае. Настала яго чарга. Трэці раз на Карэльскім перашыйку. Такі, як пад каўпаком, воўк, зацяўшыся ў адчаі, выкасіць дашчэнту роту.

Шчыльна прыціскаючыся да зямлі, Рагамед паўзе. Выбірае моманты, калі кулямёт на імгненне змаўкае. Прыкідваецца забітым, затым зноў і зноў паціхеньку дзярэцца да каўпака.

Цяпер ён успамінае, дзе такое было. Восенню першага года вялікай вайны. Пад Неўскай Дуброўкай. У памяці, як

намаляваны, усплывае той момант. Біліся супраць дэсанта, выкінутага на пясчаную касу. Біў з-за каменя вогненна-сіні сноп кулямётнага агню. Рагамед поўз да каменя. Іншага выйсця не было. Як цяпер. На вайне часта бываюць моманты, калі, каб выратаваць другіх, астаецца самому памерці.

Рагамед не дацягваецца да каўпака. Чуе толькі, як наскрозь яго нібы пераразае вогненны нож. Ад грудзей да нізу жывата. Ні вялікага болю, ні жалю да сябе Рагамед не адчувае. Настаў яго час памерці.

Тое, што спрабаваў зрабіць Рагамед, працягвалася адну ці дзве мінуты. Косця Русаковіч з самага пачатку разгадаў яго намер. Калі Рагамеда забіла, наважыўся ён. Каму яшчэ? Ён бліжэй за астатніх падабраўся да каўпака. Думка працуе ясна, выразна. Галоўнае, трэба вылезці з-пад абстрэлу.

Кулямёт па-ранейшаму захліпаецца вогненнымі пырскамі. На імгненне Косця бачыць заплаканы твар Насці. Такім, якім ён яго запомніў, калі ішоў у армію. «Сцеражыся на вайне,— просіць Насця.— Вярніся да мяне. Увесь век буду любіць. Даражэйшага чалавека, чым ты, у мяне не было і не будзе». Насці дадуць пенсію, думае Косця. На ўсіх траіх дзяцей. Ён жа з ёй запісаўся ў загсе.

Кулямёт змаўкае. У гэтае імгненне Косця з усім спрытам, на які здольны, матляецца ўбок. Кулямёт стракоча яшчэ з большым адчаем, але Косці яму не дастаць. Ён фактычна побач з каўпаком. Рукой можа яго дастаць. На руцэ чамусьці кроў. Мабыць, абдзёр. Можа — куляй зачапіла.

Вырваўшы чаку з лімонкі, вычакаўшы хвіліну, Косця шпурляе гранату пад самы вогненны струмень. Выбуху не чуе — адчувае толькі, як штосьці гарачае, пранізлівае ўпіваецца яму ў ногі, грудзі, руку.

Ён яшчэ добра валодае сабой, усё бачыць і чуе. Кулямёт змоўк. Але як толькі ад зямлі падымаюцца шынялі, гімнасцёркі, пачынае сячы яшчэ з большай сілай.

Напружыўшы апошнія сілы, Косця ўстае. Трымаючыся рукамі за шорсткае, з умяцінамі жалеза каўпака, робіць два-тры крокі, затым падае сваім доўгім целам на вогненны струмень.

Байцы падымаюцца, бягуць. Але шмат пасек кулямётчык. Смерць застае чалавека ў паставе, у якой ён быў апошнія

імгненні. Ляжаць забітыя, выцягнуўшы наперад рукі, распрастаўшыся на пяску — бокам, на жываце, нават на спіне. Нянавісць тых, хто астаўся жывы, скіравана на каўпак. Па ім малоцяць прыкладамі, абцасамі. Двое сапёраў, угінаючыся, валакуць скрынку з фугасам. Ставяць пад бранiраваны купал, падпальваюць бікфордаў шнур...

Атака пасля замінкі, якая працягвалася некалькі хвілін, зноў нарастае.

Самаходкі выбіліся на шашу. На пярэдняй, на вежы, надпіс белай фарбай: «Наперад, на Выбарг!». За самаходкамі — некалькі грузавікоў, у якія пасаджана пяхота.

Аддзяленне, якім камандуе Васіль Лебедзь, на самаходках. Старажылаў трое ў аддзяленні — Мялешка, Лявоненка і ён сам. Мялешка на пярэдняй машыне. Лявоненка з Васілём на гэтай.

Варожая абарона прарвана. Бясконцым ланцугом дыбаюць у тыл з перадавой параненыя. Хто ідзе, абапіраючыся на палку, хто на плячо суседа, некаторых пад рукі вядуць. У многіх акрываўленыя гімнасцёркі, забінтаваныя рукі, грудзі, шыі, галовы, бледныя, нібы вылепленыя з воску, абыякавыя твары.

Тэхнікай, войскам запруджана шаша. Танкі, самаходкі, калоны грузавікоў, цягачы, якія валакуць гарматы самых розных калібраў. Нават матросы ёсць — у бесказырках, паласатых цяльняшках. Адзін чарнявы, з вусікамі, які сядзіць у кузаве грузавіка, сыпле жартамі, увесь час падміргвае Васілю, выскаляецца, пра небяспеку не дбае — шкура гарыць на матросіку.

Мабыць, заседзеліся марачкі ў сваім Кранштаце і рады, што на прастор вырваліся. Дзіва няма: тры гады запёртыя сядзелі, галадалі разам з Ленінградам.

Купку палонных вядуць. У шарэнзе пераважна маладога веку мужчыны, хмурныя, са спалоханымі шэрымі тварамі.

Дзяўчына-санінструктар вязе на двухколцы двух немцаў. У аднаго забінтаваная галава, у другога перабітыя ногі. Немцы ў мундзірах, якія носяць лётчыкі.

Самаходкі выбіваюцца за пасёлак. Батальёнам, пасаджаным на самаходкі і ў грузавікі, камандуе Чубукоў. Ён на пярэдняй машыне.

З левага боку — Фінскі заліў. Сіняя люстраная гладзь. Мільгануў стромкі бераг. Сосны растуць проста на скалах, глядзяць у мора.

Лёгкая язда нядоўгая. Наперадзе, за паваротам шашы, зялёная гара, парослая соснамі. Вяршыня гары раптам выблісквае агнём. Наўзбоч шашы — выбухі. Самаходкі імкліва збочваюць у лес. З іх, як гарох, сыплюцца байцы, расцякаюцца ў ланцуг.

Мялешка з двума памочнікамі валачэ скрынку з фугасам. У сваёй стыхіі Мялешка. На галаве забруджаная, акрываўленая павязка, але вочы гараць, твар узбуджаны. Самаходкі б’юць па дзоту. Пад прыкрыццём агню падрыўнікі падбіраюцца да бункера. Думка ў Мялешкі працуе імкліва, ён не губляецца перад небяспекай, нечаканасцю. Наадварот, у такія імгненні дзейнічае з халодным, дакладным разлікам.

Самаходкі на момант перасталі страляць. Трое байцоў кошкамі кідаюцца да бункера. Прыладжваюць да яго сценак невялікую скрынку, запальваюць бікфордаў шнур, кідаюцца прэч.

Выбух. На месцы бункера цэментовыя пліты, рэшткі бярвення, дошак і вялікая яма. На дне яе — шкуматы ад мундзіраў.

Самаходкі зноў выныраюць на шашу. Па некаторых прыкметах, у стане праціўніка — паніка. На ўзбочыне шашы вялізныя колы-барабаны з намотаным на іх калючым дротам. Гэта — каб перагарадзіць шашу. Але, пачуўшы гул самаходак, салдаты аховы забыліся пра дрот. Кінуліся наўцёкі ў лес.

На наступным павароце дот. Самаходкі спыняюцца, рассяроджваюцца, пачынаюць страляць. Але нацэленыя на шашу амбразуры дота маўчаць. Два грузавікі стаяць заведзеныя, вурчаць маторамі. Нават іх кінулі абаронцы каменнай магілы.

Байцы кідаюцца ў дот. Па чутках, ёсць доты, якія нагадваюць падземныя казармы. Але Васілю такія не трапляліся. Толькі такія, як вось гэты цэментовы куб з байніцамі-амбразурамі. Унутры куба цесна, душна. Адзін пакой з цэментовай падлогай, дзве гарматы, два кулямёты.

Ахоўнікі дота збіраліся снедаць. Тэрмас з цёплым супам прыняслі, бляшанкі кансерваў адчынілі.

Шаша бяжыць каля самага мора. Сосны, скалы, валуны. Краявід прыгожы. Удалечыні, там, дзе роўнядзь заліва зліваецца з небам, відаць сілуэты караблёў. Можна заўважыць успышкі стрэлаў карабельных гармат. Балтыйскі флот наступае таксама.

Страшна падумаць — дальнабойныя гарматы Кранштата б'юць па ўмацаваннях трэцяй паласы. Васіль выразна чуе: над галавой з шасценнем праносіцца цяжкі снарад, затым справа, там, дзе пяхота яшчэ прагрызае ўмацаванні, чуецца моцны выбух.

Самаходкі ўрываюцца ў драўляны пасёлак, які ціснецца да бухты. На прычалах — горы дошак, бярвення. Высока ўздымаецца комін дрэваапрацоўчага заводзіка.

Белая ноч настае. На хвалях заліва яшчэ іграюць срабрыстыя бляскі, на зямлі, аднак,— хісткая шэрань. Ледзь прыкметныя іскрынкі зорак выбліснулі на небе. Над самым пасёлкам павіс сярпок месяца.

Аддзяленне Васіля Лебедзя займае асобны дамок. Гаспадароў няма ў дамку. Ложкі, аднак, засланыя. На вокнах фіранкі вісяць.

Байцы кладуцца на падлозе. Адвыклі ад ложкаў. Нават пра вячэру не думаюць. Падаслаўшы шынялі, паклаўшы побач аўтаматы, праз хвіліну засынаюць як забітыя.

## II

Разведчыкі капаюць адразу дзве зямлянкі. Для ўзвода і капітану Канатнікаву. Так заўсёды. Абы на дзень спыніліся — капаюць зямлянкі. Скінуўшы гімнасцёркі, дзяўбуць рыдлёўкамі цвёрдую, непадатлівую зямлю Філімонаў, Грыбін. Нават памкамузвода Смірноў і старшына Кіслякоў капаюць. Выключэнне зроблена толькі для малодшага лейтэнанта Мамедава. Паменшаў узвод. Няма Ладурава, Мерзлякова, Фінкельштэйна, некалькіх навічкоў. З Ладуравым, Мерзляковым Сяргей асабліва зблізіўся. Ладураў быў мяккі, далікатны, з уражлівай душой, з тонкімі прывабнымі, як у дзіцяці, рысамі твару. У Мерзлякова таксама чулая душа. Хаваў чуласць да людзей за рознымі дзівацтвамі.

Новае папаўненне ва ўзводзе.

Сярод навічкоў выдзяляецца добрай укормленасцю, чырвоным тварам, хітраватай ухмылкай, якая блукае на тоўстых губах, баец па прозвішчу Растоўскі. Пра Растоўскага вядома: за кражу быў асуджаны на дзесяць гадоў турэмнага зняволення.

Старшына Кіслякоў, разгарнуўшы журнал баявога саставу ўзвода, дапытвае навічка:

— Растоўскі — сапраўдны фамілій ілі клічка?

— Фамілія. У дзетдоме далі.

— Ты жулік был?

— Даўно завязаў. На заводзе работаў.

— Пачаму тагда дэсят лет?

— Цюк бязі з вагона свіснулі. На выпіўку.

— У нас кражы нэт. Выпіўкі нэт. Кроўю будэш змываць пятно. Запомніл?

Растоўскага выклікае капітан Канатнікаў. Ардынарац афіцэру разведкі не паложаны. Але Растоўскі згадзіўся пайсці на гэтую звышштатную пасаду.

Узвод мыецца, чысціцца. Мамедава няма. Сяргей просіць Смірнова, каб дазволіў на гадзіну адлучыцца. Хоча пабачыць таварышаў.

Але няма на месцы стралковых рот. Яны наперадзе. Штурмуюць трэцюю паласу ўмацаванняў. Упершыню так сталася, што стралковыя роты апярэдзілі ўзвод разведкі. Можа, таму, што ён папаўняецца.

Шукаючы таварышаў, Сяргей забыў пра ўсё. За той час, пакуль адсутнічаў, у штаб палка прывозілі захопленых у палон двух немцаў-лётчыкаў. Начальнік штаба хацеў дапытаць іх. Але Фінкельштэйн выбыў з-за ранення, Сяргея таксама не знайшлі. Начальнік штаба ўчыніў Канатнікаву жорсткі разнос.

Канатнікаў нават ужо і размаўляць з Сяргеем не хоча.

— Пойдзеш пад суд! — толькі і сказаў.

Сытая морда Растоўскага ўхмыляецца.

Вечарам Сяргей упершыню ў жыцці бачыць мора. Вада Фінскага заліва светлая, празрыстая, адлівае сінявой, як чыстае, з лёгкімі хмурынкамі, неба. Сонца яшчэ даволі высока. Залатыя бляскі іграюць на хвалях. Процілеглага берага не відаць. Вакол адна вада.

Малюнак прыгожы. Іншым разам Сяргей радаваўся б. Але цяпер настрой панылы, прыбіты.

Разведчыкі распранаюцца, кідаюцца ў ваду. Б'ючы нагамі, уздымаючы горы празрыстых пырскаў, дурэюць у вадзе. Хмурны Кісякоў сядзіць на беразе не распрануўшыся — плаваць не ўмее.

Сяргей жа, распрануўшыся, з ходу ўскоквае ў ваду. Заграбаючы рукамі, трохі з разгону праплывае, раптам адчувае з жахам, што ногі не дастаюць дна і ён тоне. Ніколі ён не задумваўся, умее ці не ўмее плаваць. Рэчкі ў мястэчку не было, дзятва боўталася ў тарфяных кар'ерах. Там ён плаваў.

Сяргей сігае пад ваду раз, другі. Выныраючы з глыбіні, паказвае руку. Расплюшчанымі вачамі бачыць зеленаватую ваду, у якую апускаецца, цёмныя водарасці, срабрыстую рыбку, якая мільганула ў вадзе перад самым носам.

Вынырнуўшы трэці раз, ён адчувае, як чыясьці моцная рука хапае яго за валасы.

— Бей нагамі па вадзе! — крычыць аглушанаму Сяргею камандзір узвода Мамедаў.

Выцягнуўшы Сяргея на мелкаводдзе, Мамедаў крычыць яшчэ з большай сілай:

— Ад пулі не пагіб, ад вады пагібнеш. Не лезь у бальшой вада, калі не ўмееш плаваць...

У Мамедава — добрае сэрца. Зразумеў: пасміхацца будуць з Сяргея. Імгненна перамяніў пласцінку.

— Ты, можа, сам хатэл тануць? Ілі халодны вада сутаргай сцянул нага? Нічога плахога нэ думай. Штрафной роты нэ будэт. Я тэбя атпускал в стралковы рота встрецітся з землякамі. Ты просіл разрэшэній, я атпускал...

Разам з вячэрай прыносяць пошту. Дзень з суцэльных непрыемнасцей. Сяргею — ліст ад Алімпіяды. Злосны, са шматлікімі клічнікамі. Пранюхала Алімпіяда, што не толькі ёй адной піша Сяргей лісты. Асабліва ўз'елася за Галю. Нібы Сяргей прысягу даваў пісаць толькі ёй, Алімпіядзе.

## III

Паспалі толькі дзве гадзіны. Калі зноў селі на машыны, вадзіцель пярэдняй самаходкі падбег да Чубукова. Абціраючы чорнай, запэцканай рукой нос-бульбіну, паспешліва паведаміў:

— Загадваюць спыніцца: баяцца, каб у мяшок не ўлезлі.

— Хто загадвае?

— Маё начальства.

— Ты мне прыдадзен.

— У паласе наступлення палка. Ад палка мы наколькі адарваліся?

— Перадай,— у голасе Чубукова гучаць уладныя ноткі,— ідзём далей...

— Без загаду не пайду.

— Дурань! — усклікае Чубукоў.— Трус...

— Не лайся, старшы лейтэнант,— артылерыст пераходзіць на міралюбівы тон.— Я, паміж іншым, старшы па званню. Капітан.

— Ты мне прыдадзен.

— Прыдадзен не прададзен.

Яшчэ двое артылерыстаў, у камбінезонах, нашлемніках, выскачыўшы з машын, слухаюць спрэчку.

— Вот мы дзе,— выхапіўшы з планшэта карту, тыцкае чорным указальным пальцам, на якім няма пазногця, Чубукоў.— «Лінія Манергейма» ззаду. Яны там блох ловяць, а мы тут.

— Гаручага на тры гадзіны хопіць. Перарэжуць шашу, што тады?

— Бачыў пустыя доты? Каб мы спазніліся, яны б пустыя не былі.

Ззаду, на шашы, чуецца гул матораў.

— «Кацюшы»! — узрадавана ўскліквае артылерыст.— За намі ішлі.

— Па машынах! — глухім, сіплым голасам загадвае Чубукоў.

На брані самаходкі Васіль побач з Лявоненкам. Сядзець не вельмі спадручна. Добра, што ёсць скобы, ёсць за што трымацца.

Шаша то аддаляецца ад берага, то прыбліжаецца. Іншы раз бераг вельмі стромы. Унізе, перад вадой, толькі вузенькая палоска пяску.

Насустрач па шашы штосьці рухаецца. Падобнае на калону. Гэта і ёсць калона. Доўгі цуг аўтамашын. У кузаве пяхота. Відаць, дзірку затыкаць спяшаюцца.

З ходу пярэднія самаходкі ва ўпор расстрэльваюць грузавікі. Агонь, дым, густая мешаніна стрэлаў, выбухаў, раз'ятранае завыванне матораў, трэск, бразгат, скрыгат. Жудасны, перадсмяротны крык людзей, якіх душаць гусеніцамі.

Машын ішло дзесяць ці дванаццаць. Усе кабіны раструшчаны, скінуты на ўзбочыну, скамечаныя, нібы гармонікі. Сінім агнём гараць разбітыя маторы, густа дымяць гумавыя колы.

Чалавечым вокам нельга глядзець на бязлітаснае, д'ябальскае знішчэнне. Байцы з самаходак саскокваюць, залягаюць на ўзбочыне. Яны амаль не страляюць. Можна трапіць у сваіх. Толькі калі варожыя салдаты, якім удалося выскачыць з-пад гусеніц, бязладным ланцугом бягуць да лесу, дружна б'юць па іх дзясяткі аўтаматных, кулямётных чэргаў.

Мялешка «дзегцярова» прыладзіў на цэментовым слупку на ўзбочыне шашы. Седзячы наўколенцах, прынікшы шчакой да кулямёта, расстрэльвае ўцекачоў ледзь не ва ўпор.

Настаў яго час. Ён толькі і жыве ў такія вось моманты. Твар азораны натхненнем, вочы ззяюць.

— Давай! — гукае Мялешка, штурхаючы кулаком у спіну памочніка, патрабуючы новы дыск.

Сярод варожых салдат паніка поўная. Нават адстрэльвацца не спрабуюць. Бягуць і падаюць, падсечаныя бязлітаснымі вогненнымі чэргамі.

Толькі невялікая купка салдат, што збіліся на ўзбочыне шашы, здагадваецца падняць рукі. Яны дрыжаць, ціснуцца адзін да другога. Палонных не чапаюць. Ім падаюць знак, і яны похапкам перабягаюць шашу, ківаючы паднятымі рукамі, нібы веццем галін.

Самаходкі, стальныя коні, як раз'юшаныя страшыдлы. Строма ўздзіраюць жалезныя хобаты, падмінаючы радыятары, кузавы грузавікоў, скідваючы жалезны лом пад адхон. Палатно шашы ў масляных, бензінавых плямах. Агонь з узбочыны, з абломкаў машын перакідваецца сюды, прагна ліжа асфальт.

Ужо зусім светла, хоць сонца яшчэ не паднялося. Яшчэ не хутка яно падымецца. Белая ноч ад звычайнага дня адрозніваецца шэранню, якая трывае дзве-тры гадзіны.

Лявоненку з аддзялення Васіля Лебедзя Чубукоў забірае.

— Павядзеш палонных! — загадвае.— Будзеш старшым. Знайду яшчэ каго.

Чубукоў акідвае хуткім позіркам Васіля, але зараз жа позірк адводзіць. Маладому ваяваць трэба, канваірам пойдзе яшчэ які-небудзь саракагадовы дзядзька.

Самаходкі вурчаць. Працягваюць скідваць пагнуты металічны друз пад адхон.

Праз паўгадзіны зноў імклівы марш. На шашы яшчэ і яшчэ трапляюцца вялізныя драўляныя барабаны з намотаным калючым дротам. Але загарадзіць ім дарогу ахова не паспявае. Разбягаецца.

Унізе, па ўзбярэжжы, таксама дрот. Між калючак шчодра буяе разнатраўе. Кветкі цвітуць.

Сто разоў быў правы Чубукоў. Яшчэ раз праязджаюць паласу пустых, незанятых дотаў, дзотаў. Колькі б тут крыві пралілося, каб не гэты імклівы кідок самаходак!

Наперадзе паселішча. Са стромага берага, па якім бяжыць шаша, здаецца, што яно на вадзе.

На шашы, на ўзбочыне — выбухі мін. Страляюць з пасёлка. Відаць дымкі, якія там уздымаюцца.

Падмінаючы прыдарожныя сосны, самаходкі спаўзаюць у лес. Пачынаюць бязладна біць па пасёлку.

Вось і «кацюшы» на шашы. Іх сем ці восем. З ходу ўключаюцца ў бой. Ву-ву-ву — чуваць размеранае тугое завыванне, і нават няўзброеным вокам відаць, як па небе цягнуцца вогненныя палосы.

Пасёлак у агні, дыме. Снарады, міны прылятаюць адтуль радзей і радзей.

Калі ў Васіля і былі прыемныя хвіліны на вайне, то найбольш тут, у час імклівага маршу па шашы, што віецца паўз мора. Ён як бы адчувае асабістае задавальненне ад усяго, што робіцца на вачах. Быў сорак першы год, і вось гэтак жа імкліва, па ўсіх дарогах ірваліся на ўсход немцы. Цяпер ім бокам вылазіць. Ім і іхнім саюзнікам...

З боку мора раптам паяўляецца невялікі самалёцік. Гучна лапоча маторам, ляціць над самай зямлёй. Ніхто нават стрэліць не паспявае. Яшчэ імгненне, і ад самалёціка адрываецца доўгі шлейф белых паперак. Нібы матылькі, паперкі доўга пырхаюць, пераварочваюцца ў паветры. Самалёцік даўно знік за лесам, а яны ўсё яшчэ круцяцца.

Байцы Васілю пераважна незнаёмыя. З новага папаўнення. Нават у яго аддзяленні шасцёра навічкоў. У новых гімнасцёрках, абмотках, чаравіках. Сярод іх два бывалыя салдаты. З нашыўкамі за раненні.

Праз некалькі хвілін загад: «Па машынах!» Апошнія дамкі пасёлка дагараюць. Між соснамі стралковыя ячэйкі, наспех выкапаныя траншэі, адбудаваныя дзоты, пакінутыя абслугай гарматы.

У перадках гармат — снарады. Артылерысты не выкарысталі іх, уцяклі. Нават кухню пакінулі з яшчэ цёплым супам.

У пасёлку чыгуначная станцыя. На рэйках некалькі вагончыкаў, платформ. З мора ці, можа, з яшчэ не ачышчанага ад праціўніка астраўка ў Фінскім заліве б'е па пасёлку артылерыя.

Шашы больш няма. Зварочваюць на грунтавую дарогу. Неміласэрна трасе, падкідвае байцоў на самаходках. Калдобіны, выбоіны. Праносяцца наўзбоч парослыя соснамі пагоркі, валуны.

Наперадзе новы пасёлак. Малюнак бою дакладна паўтараецца. Зноў трафеі: гарматы, кулямёты, катушкі кабелю.

Байцы ўзбуджаны боем, імклівым маршам наперад. Халадок трывогі, аднак, адчуваецца. У позірках, ненарокам кінутых словах. Ззаду, мабыць, шмат варожай сілы, тэхнікі засталося. Што будзе, калі дарогу перарэжуць, батальён заціснуць у клешчы?

Трывога развейваецца ўшчэнт, калі ў пасёлак з паўночнага напрамку ўрываецца даўжэзны цуг танкаў, самаходак, машын з пяхотай. Нават мінамётчыкі са сваімі лафетамі — вялізнымі круглымі жалезінамі — сядзяць на танках, самаходках. Не, цяпер батальён ніхто не здолее акружыць, заціснуць у клешчы.

Схіліўшыся над каробкай рацыі, камандзір батальёна Чубукоў дакладвае абстаноўку. У трубцы зацятае маўчанне. Нарэшце няўпэўнены голас камандзіра палка Мухіна:

— Ты ваньку не валяеш?

— Не валяю,— адказвае Чубукоў.— З учарашняга вечара прайшоў дваццаць тры кіламетры. За дзесяць гадзін. Дазвольце ўдзельнічаць у штурме чацвёртай паласы. Захопім Рокала, далей не пайду...

Заўсёды рашучы, самаўпэўнены, Мухін вагаецца.

— Далёка адарваўся. Палку могуць паставіць другую задачу.

— Людзі не хочуць выходзіць з бою,— стаіць на сваім Чубукоў.— З ходу захопім Рокала.

Мухін нарэшце здаецца:

— На тваю адказнасць. Буду дакладваць: пад Рокала вядзеш разведку боем.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

### I

Чубукоў рана радаваўся: стралковая дывізія, мінамётны полк, самаходныя ўстаноўкі, якія прарваліся праз трэцюю лінію ўмацаванняў, ушчыльную падышоўшы да прамежкавага абарончага рубяжа, які непасрэдна прыкрывае Выбарг, з пасёлка павярнулі назад, у тыл, для штурму «лініі Манергейма» з поўдня.

Тым часам на прамежкавы рубеж выходзяць новыя палкі, артдывізіёны, танкавыя падраздзяленні наступаючай дваццаць першай арміі. З іх створаны ўдарны кулак. Батальён Чубукова цяпер толькі часцінка яго.

Апошні абарончы пояс пачынаецца ракой. Яна досыць шырокая. На процілеглым беразе — густая сетка калючага дроту, дзоты, доты, супрацьтанкавы роў.

На небе адна толькі зорка. Яркая, бліскучая — у прагале між воблакамі, якімі зацягнута неба. На яе напаўзаюць

хмары, закрываюць, але праз хвіліну яна вынырае зноў. Зорка нават у цёмнай вадзе рэчкі адбіваецца. Якраз пасярэдзіне.

Гарматы, мінамёты б'юць з процілеглага берага. Выбухі, кулямётны, аўтаматны пошчакі зліваюцца ў адну суцэльную грымотную хвалю. З-за куль галавы нельга падняць. Байцы акапацца не паспелі. Дый лапаткі мала ў каго ёсць. Таму страты вялікія.

Сусед Васіля Лебедзя ўвесь час корпаецца, разрыхляючы зямлю цесаком. Нашкрэбвае перад сабой бруствэрчык.

Салдаты, з якімі Васіль ляжыць на беразе, пажылыя. Твары зараслі шчацінай. Не галіліся з таго дня, як пайшлі ў бой. Нават днём не скідаюць шынялёў.

Трэск, лопанне, завыванне мін нарастае. Васіль дрыжыць. Яшчэ ні разу не адчуваў сябе такім бездапаможным. Салдату трэба акоп, траншэя. Тады адчувае сябе ў большай бяспецы.

Процілеглы бераг страляе трасіркамі. Шмат бліскучых ліній перасякаецца ў паветры. Пад прамым, касым вуглом. Ёсць нават паралельныя.

Васіль раптам чуе гук: нібы хто ўдарыў малатком па жалезе. Яго левы сусед ускрыквае і адразу змаўкае. Васіль падпаўзае, нахіляецца над ім. Баец ляжыць бокам, на твары струменьчыкам кроў. Цячэ з-пад каскі. Цяпер толькі Васіль заўважае на касцы невялікую дзірачку.

— Ляжы,— гаворыць баец, які спрабуе акапацца.— Яму не паможаш.

Агонь самаходак узмацняецца. «Кацюшы» завурчалі — ім прыйшлося адступіць ад ракі назад у лес. Вогненныя маланкі ўрываюцца ў зямлю метраў за сто — дзвесце, і выразна відаць, як успыхваюць агнём кусты, дрэвы, цёмныя збудаванні на процілеглым беразе.

Васіль прыўзнімае галаву, углядаецца. Раптам па ягонай касцы нібы хто палкай стукае. Аж у вушах шуміць. «Смерць лятала, ды міма праляцела»,— думае зусім спакойна. Каска ратуе. Не трэба яе здымаць. Васіль шнырыць рукамі вакол сябе, знаходзіць яшчэ гарачы кавалачак металу. Асколак. Відаць, аслаблены быў.

Гарматы, самаходкі, «кацюшы» проста душаць процілеглы бераг. Але ён агрызаецца. Снайперы прystраляліся — б'юць прыцэльна. Чуваць ускрыкі параненых.

Вуркочучы, падыходзяць дзве самаходкі. На беразе вырастае Чубукоў. «Па машынах!» — сіплым голасам аддае нягучную каманду.

Каманда датычыць штурмавога атрада. Байцы, прызначаныя ў яго, ляжаць пры самай вадзе. Васіль, перш чым узняцца, глядзіць на зорку. На месцы пакуль. Свеціць.

Байцы лезуць на самаходкі. Палавіна астаецца на беразе. «Чаму самаходкі называюць «гроб з музыкай»? — думае Васіль.— Яны, мабыць, слабей за танкі. Браня не такая моцная. Чатыры самаходкі на «лініі Манергейма» спалілі. Астатнія восем добра ішлі. Не горш, чым танкі».

Самаходкі рухаюцца ўздоўж ракі, па мелкаводдзі. Наперадзе з шастом у руках Чубукоў і яшчэ дзве цёмныя постаці. Шукаюць брод.

Раптам паблізу, крокаў за некалькі, тры выбухі. Уся рака нібы асвятляецца сінім агнём. Людзей, якія сядзяць на самаходках, накрывае асколкамі, пырскамі. Двое падаюць у ваду. З шастом Чубукоў і яшчэ адзін.

Васіль глядзіць на зорку. Яна паблісквае і нібы нават ярчэйшая стала. Струменіць святлом. Але ў рацэ зоркі не відаць. У рацэ адбіваюцца водбліскі выбухаў, вогненных пісягоў — паласуюць неба снарады «кацюшы». Агонь, грукат, скрыгат, выццё. Як у пекле. Тыя, што на процілеглым беразе, супраціўляюцца адчайна.

Побач зноў разрываюцца міны. Васіля — як палкай па касцы: дук, дук. Два асколкі адразу. Цяжка выжыць пры такім агні. На адну салдацкую душу, перахлябісты жывот так многа жалеза.

Чубукоў на сярэдзіне ракі. Адшукаў брод. Вада яму там па пояс. Самаходкі, уздымаючы вогненныя буруны, равучы маторамі, павялічваюць хуткасць і нарэшце выскокваюць на процілеглы бераг.

Зноў нібы палкай стукае Васіля па касцы. Тут жа абпякае плячо. Васіль мацае яго: пагон адарвала, парвала гімнасцёрку. Рана невялікая, але кроў ідзе. Васіль, не сцягваючы гімнасцёркі, нацельнай сарочкі, левай рукой, як умее, перавязвае бінтам з разарванага зубамі індывідуальнага пакета плячо. Правая рука як анямела.

Міны рвуцца то тут, то там. Ужо на гэтым беразе ёсць забітыя. Вораг нібы здагадваецца, што дэсант, высаджаны на плацдарм, невялікі, і хоча яго нашчэнт вынішчыць. Шэрань знікае. Кароткая ноч кончылася. Зорка, аднак, усё яшчэ паблісквае.

Чубукоў носіцца па беразе. Крывячы яміну чорнага рота, загадвае акопвацца. Хоць няма чым акопвацца. Лапаткі многія пакідалі. Васіль сваю не кінуў. Дзярэ перад сабой зямлю. Анямела правая рука, кепска дзейнічае. Зямля жорсткая. Раз за разам лапатка натыкаецца на камень. Камяні найбольш гладкія, адпаліраваныя. Невялікія памерам. Галька.

Рупна варушацца пажылыя пехацінцы. Дзяруць, шкрабуць перад сабой цесакамі, жалязякамі. Каб хоць невялікі гурбачок нагрэбці і галаву схаваць.

Яшчэ тры самаходкі перапраўляюцца цераз раку. З іх саскокваюць новыя байцы, разлягаюцца ўздоўж берага. Дыхаць лягчэй.

Толькі цяпер Васіль трохі разглядваецца. Рака цячэ ў заліў. Ён там, дзе пасёлак. Пасёлак з левага боку. Частка яго за ракой. Дамкі з белай і чырвонай цэглы. Стаяць між сосен. Нават доўгая, як адрына, будыніна віднеецца. Таксама каменная.

Жалезны мост вісіць цераз раку. Калі захапілі пасёлак, бегчы па мосце на процілеглы бераг не адважыліся. Маглі б лёгка праскочыць, каб пабеглі.

Плячо ные. Рука здаецца то халоднай, то гарачай. Трэба, каб санінструктар зрабіў супрацьслупняковы ўкол. Ёдам трэба змазаць рану. Але дзе возьмеш ёду? Васіль, схаваўшы галаву за брустверам неглыбокага акопчыка, дрэмле. Бачыць мястэчка, белакаменную двухпавярховую школу, у якой усе, хто пайшоў на фронт, вярнуліся заканчваць дзявяты, восьмы класы. Нікога не забіла, не параніла. Косця Ціток, Адам Каліноўскі, Косця Русаковіч, Мікалай Пракопчык, Сяргей Каліноўскі, Пятро Герасімовіч — усе як адзін вярнуліся з фронту. Стаяць на заасфальтаванай пляцоўцы, пры ўваходзе ў будынак, дзе на сваіх п’едэсталах па адзін бок пляцоўкі каменная піянерка аддае салют, па другі — такі ж каменны піянер б’е ў барабан.

Васіль нават чуе пошчак барабаннага бою, здзіўляючыся, што каменны піянер стаў раптам жывым.

Багдан Мялешка ляжыць за «дзегцяровым». Курыць адну за другой цыгарэты. Слабы тытунь. Ніяк нельга накурыцца. Учора, калі толькі захапілі пасёлак, Багдан трохі пашастаў па дамках. Спіртам, каўбасой, салам не разжыўся. Нічога гэтага ў пакінутых дамках няма. Наогул харчовыя прыпасы беднаватыя. У кухні, акрамя розных парашкоў, нічога не знойдзеш.

Затое цыгарэтамі Багдан забяспечыўся на цэлы тыдзень. У пакінутым бункеры знайшоў пачкаў дваццаць. Цэлы блок. Цыгарэты нямецкія. З вярблюдам на пачках. Такія цыгарэты Багдан бачыць не ўпершыню: у разагнаных нямецкіх гарнізонах знаходзілі такія самыя.

Камандзір батальёна заўважыў і выдзеліў Мялешку. Сваёй уладай прызначыў камандзірам падрыўной групы. Даў у падпарадкаванне спачатку двух, а затым пецярых байцоў. Цяпер трое асталося. Адзін забіты, другі паранены.

Праз бязладныя выбухі Мялешка раптам чуе штосьці раўнамернае, рытмічнае. Нібы бой барабанаў. Гэта сапраўды барабаны. Цяпер Мялешка выразна бачыць: ад доўгай цаглянай будыніны, схаванай між соснамі, аддзяляецца строй, рухаецца да берага. Што гэта можа быць?

Строй бліжэй. Выразней, гучней б'юць барабаны. Псіхічная атака! — выблісквае ў збянтэжанай Мялешкавай свядомасці.

Наперадзе тры постаці са сцяжкамі. За імі ў струнку — рад барабаншчыкаў.

Штосьці ў салдатах, апранутых у зялёнага колеру фрэнчы, незвычайнае. Чымсьці не падобныя яны на фінскіх пехацінцаў, якіх не раз прыходзілася бачыць Мялешку.

Мялешка ў замяшанні. Прыгожы, зладжаны строй, які крочыць ад лесу, не палохае. Нават страляць не хочацца. Разбураць дзіўны, нібы святочны, гэты парад.

Праходзіць некалькі хвілін. Зноў шалёна б'юць па пятачку мінамёты, гарматы. Выбухі шчыльныя: наперадзе, ззаду, у самой рацэ. Васілю галавы нельга падняць. Раптам магутны, нібы раскаты грому, гул перакрывае выбухі. Мост цераз раку ўздыбліваецца, на вачах пераломваецца на некалькі частак, павольна асядае ў ваду. Падарвалі ці, можа, сам ад дэтанацыі ўзарваўся. Фугасы загадзя былі закладзены.

На пятачку — пекла. Вые, ірве, паліць зямлю. Некалькі батарэй нацэлена на нешырокі, голы плацдарм. Штохвілінна

забівае, раніць салдат у іх неглыбокіх, часовых акопчыках. Тут нават горш, чым было перад бронекаўпакамі.

У Васіля адчуванне поўнай сваёй бездапаможнасці. Заб’е, думае ён. Добра, каб параніла. Як Мікалая Пракопчыка. Пракопчыку пашанцавала. Але рана ў Васіля ёсць. Колькі разоў можа параніць? Тры разы асколкі ўдарылі па касцы, трэці ці чацвёрты — скубянуў плячо. Добра, што асколкі. Куля магла б прабіць каску. Цяжкая вайна. Тэхнікі многа. Як ад смерці ўхаваешся, калі на кожны метр зямлі па некалькі разоў падаюць міны, снарад. Кулям, асколкам — ліку няма. Калі тэхніка будзе далей так развівацца, людзі наогул павінны адмовіцца ад вайны. Вайна робіцца проста суцэльным забойствам. Сячэ, ірве на кавалкі ўсіх, хто похапкам прыхаваўся на пятачку жорсткай, няласкавай зямлі,— смелых, палахлівых, шматвопытных з медалямі, ордэнамі, сяржантаў і апранутых у новыя гімнасцёркі жаўтаротых малакасосаў. Цуд — уцалець у такім баі. Шкада маці, думае Васіль. Кліма забіла, цяпер заб’е і яго. Жаночымі рукамі, без бацькі, паднімала маці сыноў. Астанецца і цяпер без мужчынскай падтрымкі.

З-за доўгай цаглянай будыніны выпаўзае танк. За ім — другі. Калываючыся, равучы маторамі, ужо тры, чатыры танкі кіруюць да берага.

Танкі — нямецкія. На бартах цёмна-белыя разводы крыжоў. За танкамі ланцужок сагнутых салдацкіх фігурак.

Убачыўшы танкі, Мялешка напружваецца. «Дзегцярова» пакідае напарніку, спрытна, нібы яшчарка, выслізнуўшы з акопчыка, паўзе насустрач танкам. Прасоўвае наперадзе сябе дзве вялікія талеркі супрацьтанкавых мін. Спачатку міны выкідае, потым падцягваецца сам.

Самаходкі, якія на беразе, і астатнія — з-за ракі — ва ўпор б’юць па танках. Сатрасаючыся ўсім жалезным целам, рыгаюць танкі агнём. З воблакаў дыму раз-пораз выбліскваюць снапы агню. Не разабраць, чые асколкі фыркаюць над галавой — свае, чужыя.

Мялешка паўзе. Амаль не хаваецца. Як заўсёды ў хвіліну напружанасці ім валодае цвярозы разлік. У лютасці паядынку паміж стальнымі каробкамі танкаў і самаходак няма нікому справы да мізэрнай чалавечай фігуркі, што, затойваючыся ў

варонках, прынікаючы да зямлі, падбіраецца бліжэй і бліжэй да вогненнага пекла. Гарыць зямля, трэскаецца камень, скручваецца ў вузлы, плавіцца жалеза, а мізэрнага ў хаосе жудаснага грукату, дыму, агню чалавечка не сагнуць.

Мялешка ўжо за колькі крокаў ад жалезнага страшыдла. Танк вялізны, нібы стог. Такіх Багдан яшчэ не бачыў. Мабыць, «тыгр». Калі танк уздрыгвае ад стрэлу, ад яго хобата-ствала нібы адлятаюць бліскучыя матылькі.

Па танку, які высунуўся далей за астатніх, прыцэльна б'юць самаходкі і гарматы. Вогненныя снапы рыкашэтаў паласуюць вежу, лабавую браню. Успыхвае адна самаходка, другая. Нібы бочкі з карасінам. Дым густы, чорны. Можа, расстраляў іх гэты самы «тыгр».

Мялешка набіраецца злосці. Падсвядома вострым інстынктам адчувае: танк наперад не пойдзе. Іначай падставіць бок гарматам, якія ўсё больш люта б'юць з-за ракі. Разварочвацца будзе «тыгр».

Мялешка падпаўзае да танка ззаду. Падсоўвае жалезную талерку пад самы трак. Другую трохі далей ставіць. Прыгнуўшыся, паспешліва сігае ў варонку. Выбух амаль у тое ж імгненне. Танк ахутваецца дымам; калі дым развейваецца, відаць: гусеніца расцягнулася, страшыдла знерухомела...

Праз паўгадзіны танкавая атака паўтараецца. Тры ўцалелыя танкі выпаўзаюць на левым флангу, бліжэй да ўзарванага моста.

Пятачок ажывае. Азываецца бязладнай аўтаматнай, кулямётнай траскатнёй. Уцякаць некуды — ззаду рака. Васіль пстрыкае кароткімі аўтаматнымі чэргамі. Добра бачыць, як падаюць, нібы падкошаныя, фігуркі салдат. Некаторыя не падымаюцца.

Пачынаюць завываць «кацюшы». Тады, калі танкі наступалі правей, яны маўчалі. Можа, баяліся трапіць у сваіх. За соснамі, за дамкамі, за доўгай будынінай рухомымі, вялізнымі, нібы стагі, клубкамі агонь, дым, цяжкія, нібы ўдары магутнага молата, выбухі.

Пасля залпу «кацюш» дамкоў, доўгай будыніны як не было. На іх месцы бязладныя дымныя кучы. Адзін танк гарыць.

Васіль страціў адчуванне часу. Пасёлак захапілі ўчора. Раку пераходзілі ноччу. Цяпер сонца зноў узышло, але разпораз хаваецца за воблакамі чорнага, густога дыму.

Васіль абвыкся. Ні на што не спадзяецца. Так лепей. Ляжыць у акопчыку, страляе, калі ўсе страляюць. У такім, як тут, баі можна толькі самім сабой камандаваць.

Калі агонь слабне, Васіль дрэмле. Бачыць сны. Нават калі прамежкі паміж агнём і цішынёй нязначныя: па дзве-тры хвіліны.

Цішыня, якая нечакана наступае на гэтым і тым беразе, палохае Васіля. Ён доўга не можа зразумець, што здарылася.

## II

Лявоненка і ягоны напарнік, пажылы, нізкарослы баец у доўгім, да пят, старым шынялі, вядуць па ўзбочыне шашы палонных. Палонных няшмат — васямнаццаць. Па дарозе да фінскіх салдат далучылі немца — нібыта лётчыка ці радыста. Яго захапілі ў лесе. Немец у цёмным камбінезоне, шлеме, з акулярамі на доўгім храшчаватым носе.

Напачатку, калі канваіры, зняўшы з пляча аўтаматы, вывелі палонных за пасёлак, да першых купчастых сосен, што з двух бакоў падступаюць да шашы, у вачах палонных застыў несхаваны жах. Некаторыя, увабраўшы галаву ў плечы, нават неўпрыкмет жагнацца пачалі: лічылі, мабыць, што канваіры вось-вось зрашэцяць іх аўтаматнымі чэргамі.

Насустрач без канца нясецца тэхніка: самаходкі, «студэбекеры» з накрытымі брызентам рэйкамі «кацюш», самаходныя ўстаноўкі, грузавікі, цягачы — яны валакуць дальнабойныя, з даўжэзнымі хобатамі ствалоў гарматы. Байцы, што сядзяць на машынах, і тыя, што трапляюцца ў пешым страі, сувязісты, якія, несучы катушкі на плячах, цягнуць кабель, сапёры з доўгімі палкамі мінашукальнікаў ніякіх варварскіх намераў у адносінах да палонных не выказваюць, і тыя пакрысе супакойваюцца.

Дзень гарачы. Сонца паднялося высока, паліць нясцерпна. Чорны гудрон, якім пакрыта шаша, прыкметна ўгінаецца пад нагамі і нясцерпна смярдзіць.

Па дарозе сляды паспешлівых уцёкаў: куча цёмна-шэрых фінскіх шынялёў, мундзіраў ляжыць у кювеце. Там жа нейкі вайсковы рыштунак у металічных скрынках. Валяюцца пакінутыя вінтоўкі, аўтаматы. Нават нейкую вайсковую канцылярыю распатрашылі: на ўзбочыне шашы — раз-пораз папкі, кіпы папер.

Прызвычаеным вокам Лявоненка сярод раздаўленай танкамі, скінутай у кювет тэхнікі заўважае іншы раз гарматы, кулямёты. Найбольш тэхнікі нямецкай: цягачы, аўтамабілі з тупымі радыятарамі, дый гарматы, кулямёты таксама.

Над самай шашой разбітая, разваленая глыба жалезабетоннага дота. Цямнее заваленая друзам яма-прорва, якая вядзе ў падзямелле.

Шаша ўзбіраецца на стромы бераг. Унізе — вада, Фінскі заліў, дамкі раскіданага па ўзбярэжжы пасёлка. У гэтым месцы на мора пазіраюць некалькі неразбураных дотаў з цёмнымі адтулінамі амбразур. На гладкай бетаніраванай пляцоўцы гармата з даўжэзным ствалом, якая таксама накіравана на мора.

Па спуску шашы прывандравалі ў пасёлак. Ён ціхі, утульны, не крануты вайной. Каля дачных з выгляду дамкоў белы кіпень бэзавага цвету, клумбы з кветкамі. Узвышаецца складзеная з чырвонай цэглы вастраверхая кірха. Амаль побач з ёй комін дрэваапрацоўчага заводзіка, да якога вядзе вузкакалейка. На рэйках нагружаныя дошкамі, брусамі ваганеткі.

Каля кірхі — могілкі. Сотні аднолькавых, свежых крыжоў, пастаўленых пад шнур на акуратна распланававым квадраце поля. Крыжы, мабыць, рабілі на дрэваапрацоўчым заводзіку — настолькі яны падобныя адзін на другі. На некаторых салдацкія каскі вісяць: могілкі, значыць, ваенныя. Зірнуўшы на крыжы, на каскі, палонныя прыкметна весялеюць.

У пасёлку таксама відаць сляды паспешлівых уцёкаў. Двухколкі, павозкі, ярусы драўляных скрынак. Мабыць, тут асталіся ваенныя склады. З некаторых будынін байцы трафейнай каманды валакуць цюкі бялізны, мундзіраў, шынялёў.

Вайскоўцы на кожным кроку. Палонных цікава паглядзець многім. Лявоненка залішне цікаўных адганяе. Усвядоміўшы адказнасць сваёй пасады, нават з лейтэнантамі і капітанамі не цырымоніцца.

Вялізная гармата наверсе, на гары, накіравана на мора. Каб не падышлі да бухты караблі. Падышлі, аднак. З мота-бота якраз высаджваюцца матросы ў бесказырках, абвешаныя аўтаматамі, кінжаламі, біноклямі. На некаторых шкура гарыць. Выскаляюцца, ва ўсё соваюць нос. Лявоненка ледзь адагнаў аднаго з такіх вострых ад палонных.

Некалькі цагляных дамкоў стаяць асобна, адзін насупраць другога. Прасторны двор-пляц агароджаны жалезнымі рашоткамі. На вуліцы перад дамкамі цуг «вілісаў». Мабыць, штаб тут. З варот якраз выходзіць мажны, насуплены, з навіслымі чорнымі брывамі палкоўнік. На ім, нягледзячы на гарачыню, доўгае, да пят, скуранoе паліто. Палкоўнік збіраецца сесці ў «віліс», але, убачыўшы палонных, захлопвае дзверцы. Уладным узмахам рукі запыняе канваіраў і палонных.

Аднекуль вынырае белабрысы хлапчак у новай гімнасцёрцы, з яфрэйтарскімі пагонамі. Становіцца побач з палкоўнікам. Палкоўнік пытае, тыцкаючы пальцам то ў аднаго, то ў другога палоннага, з якой ён часці. Хлапчак паспешліва перакладае. Палонныя ахвотна адказваюць.

Відаць, не знайшоўшы нічога цікавага ў гэтых адказах, палкоўнік з хлапчаком-яфрэйтарам садзіцца ў машыну. Тым часам з двара-пляца выходзіць другі палкоўнік, вышэйшы ростам, дабрэйшы з твару. Лявоненка адразу пазнае яго. Гэта камандзір іхняй дывізіі. Ён выступаў перад байцамі папаўнення ў пачатку вясны.

— З якой часці? — пытае палкоўнік.

Лявоненка называе полк, батальён.

— Па вымаўленні чую — беларус,— палкоўнік усміхаецца.

— Так точна, таварыш палкоўнік. З-пад Гомеля.

— Я магілёўскі. Чэрыкаўскі раён. Ты ў першую германскую ваяваў?

— Быў прызваны. Чыгунку будавалі. З Калінкавіч на Оўруч. Фронт тады пад Пінскам стаяў. У грамадзянскую прыйшлося ваяваць, таварыш палкоўнік.

— Дзе?

— У Шчорса. Чарнігаў, Кіеў, Карасцень вызвалялі.

— Вот так, брат,— палкоўнік падае Лявоненку руку.— Жывём у эпоху войн і рэвалюцый. Нічога не папішаш, такая

эпоха. Трэцюю вялікую вайну з табой канчаем. Не лічачы малых. Можа, дацягнем?

— Дацягнем, таварыш палкоўнік.

Палкоўнік падзывае капітана, які нецярпліва пахаджвае каля варот, загадвае накарміць палонных.

У поўдзень да камандзіра дывізіі палкоўніка Васілеўскага прыводзяць ускудлачанага, схуднелага ўшчэнт чалавека, які сядзеў у кацельнай дрэваапрацоўчага завода. Цяжка сказаць, колькі яму год. Валасы сівыя, шчокі запалі, светла-сінія вочы глядзяць пранізліва, насцярожана.

Пасёлак бязлюдны. Спецыяльныя часці пагналі перад сабой насельніцтва. Таму кожны чалавек, які астаўся, выклікае цікавасць.

— Меня зовут Лах'я, Анці Лах'я. Я рабочы,— гаворыць чалавек амаль правільнай рускай мовай, але з прыкметным акцэнтам.— Качагар. У мяне толька брацья па класу осталісь, большэ нікого нэт...

Палкоўнік Васілеўскі трохі збянтэжаны. Не часта з такімі наведвальнікамі прыходзіцца сутыкацца.

— Ты відэл Леніна? — нечакана пытае затрыманы ў палкоўніка.

— Не,— палкоўнік яшчэ больш губляецца.

— Я відэл. Два раза. Здаровался с нім за руку. Ленін здэсь был, когда ві делалі рэвалюцію. В Выборге і в этом посёлке. Здэсь санаторій был. Он здэсь отдыхал, когда рэволюція совэршілась. Я і тогда был кочегар. Работал в санаторіі...

Палкоўнік нарэшце пачынае разумець, з кім размаўляе.

— Фінскія камуністы, дэмакраты,— гаворыць ён,— памагалі нашай рэвалюцыі. Рады з вамі пазнаёміцца, таварыш Лах'я. Калі маеце ў чым патрэбу...

Качагар пакідае яго словы без увагі.

— Я был в Красной гвардзіі. Два мої сына погіблі в этой войне. Воевалі проців вас. Кому это нужно?

— Сусветнаму капіталу, таварыш Лах'я. Буржуі падманам, сілай прымушаюць рабочых людзей абараняць свае інтарэсы.

Цікавы субяседнік трапіўся. Сустрэнеш такога — і не забудзеш. Максіміліст.

## III

Узвод разведкі ў бакавым дазоры. Справа шаша: па ёй ірвецца наперад тэхніка — танкі, самаходкі, артылерыя.

Уважліва аглядаюць разведчыкі лясныя, пакінутыя насельніцтвам пасёлкі. Дамкі збіты з драўляных шчытоў, на выгляд — летнія, падобныя на дачы. Але людзі ў іх і зімой жывуць. Ад холаду засцерагаюць картонныя лісты, набітыя на сценкі. У тры слаі картон.

У пасёлках бязлюдна, ціха. Ніводнай жывой душы не сустрэнеш. Насельніцтва воінскія часці пагналі перад сабой. Аб гэтым сведчаць бэбахі, раскіданыя па дарозе. Падушкі, матрацы ляжаць уперамешку з вайсковым рыштункам — зламанымі двухколкамі, скрынкамі патронаў, вінтоўкамі, гарматамі.

Не знойдзеш у пакінутых дамках хлеба, мяса, кавы, якіх-небудзь іншых прадуктаў. У чысценькіх, ахайных кухнях натрапіш хіба на парашкі. Яны ў пакеціках або перасыпаны ў пластмасавыя з накрыўкамі конаўкі. Стаяць у рад на пабеленых палічках.

Разведчыкі ідуць ланцужком, адзін за адным, захоўваючы дыстанцыю. Мамедаў, Смірноў, Кісякоў, Філімонаў, Грыбін, Сяргей, некалькі навічкоў. З узводам сувязіст. Бялявы нізкарослы сяржант клыпае апошні. На ім, як на ўсіх, плямістая зялёная накідка, з-пад якой гарбом выступае рацыя.

Белая ноч. Шэрань. Паўзмрок. Бой наперадзе, ззаду. У прарыў каля заліва нырнула тэхніка, паласа дотаў, якая цягнецца на поўнач, супраціўляецца. Светлую шэрань паласуюць сполахі, мігатлівыя светлякі трасераў.

Чым далей у лес, тым глушэй гукі бою. Разлягаюцца прыцішаным водгуллем.

Так толькі лічыцца, што разведчыкі здзяйсняюць нешта незвычайнае. Нічога незвычайнага няма. Будзёншчына. Не заўсёды ўдаецца выявіць які-небудзь новы агнявы пункт. «Языка» за ўвесь час узвод так і не захапіў.

Ноч фактычна кончылася. Сонца яшчэ не ўзышло, але светла, відна. На траве раса. Абмытыя ў ёй боты блішчаць, як новыя.

Далёкае вуркатанне матораў ловіць чуйны Грыбін. Усе спыняюцца, прыслухоўваюцца. Можа, танкі? Гукі тым часам

як бы глухнуць. Слабое, ледзь чутнае водгулле даносіцца з лагчыны, як бы заціснутай двума пагоркамі.

Мамедаў рассцілае на доле карту. Становяцца са Смірновым на калені, разглядаюць яе.

Узвод дзеліцца на дзве групы. Адну паўночным бокам лагчыны павядзе Смірноў. На чале другой, якая пойдзе ў абход лагчыны з поўдня,— Мамедаў.

У Мамедава, па-юначаму стройнага, гнуткага,— маленькая прыгожая галава. Рашучы смуглы твар з арліным носам. За тыдзень наступлення прыжыўся Мамедаў ва ўзводзе. Разведчыкі яму ахвотна падначальваюцца, бо рашучасць, смеласць, нават самаахвярнасць паказвае Мамедаў пастаянна.

— Мы сыходзімся здэсь,— Мамедаў тыцкае тонкім бруднаватым пальцам у карту.— У сем ноль-ноль.

Радыст астаецца з Мамедавым. Бой зноў узрастае. Найбольш выразна гул выбухаў чуецца з шашы.

З Мамедавым старшына Кіслякоў, Грыбін, Сяргей. Нячутна ступаючы, прадзіраюцца праз зараслі густога ляшчынніку. Збоку балацянка з густою шчэццю асакі, розных дудак, якія растуць на нізкіх месцах.

Раптам разведчыкі натыкаюцца на дарогу-гравійку. Мамедаў таропка разгортвае карту, водзіць па ёй пальцам. Грэйдар на карту не нанесены.

З кіламетр разведчыкі кіруюць па гравійцы. Насыпана яна летась ці нават пазалетась, бо паспела травой парасці.

Гулу матораў зусім не чуваць. Разведчыкі збочваюць і зноў ідуць берагам балацянкі. Грыбін, які ў балота залез, раптам крычыць:

— Малодшы лейтэнант, сюды!

Чвякаючы па балоце, пераскокваючы з купіны на купіну, разведчыкі дасягаюць пясчанага грудка, на якім стаіць Грыбін. Сумны малюнак перад іх вачамі. Ляжыць шкілет, скрозь рэбры, вачніцы ў чэрапе прарасла трава. Тут жа ўшчэнт саржавелы, напалавіну засыпаны зямлёй кулямёт Дзегцярова, кучка пазелянелых гільз. Кружок сатлелай папружкі ляжыць, шкуматы шыняля, чаравікі з разяўленымі перадамі, на гумавай падэшве.

Ясна: стаяў салдат насмерць. Відаць, загінуў той, ужо далёкай, страшнай зімой.

— Магіла неізвесны салдат,— гаворыць Мамедаў.

Разведчыкі крочаць далей. Тым часам з поля зроку знікла гравійка. Як скрозь зямлю правалілася.

Цяпер яны шукаюць грэйдар. Гул матораў хутчэй за ўсё звязаны з ім.

Гул матораў чуецца справа. Разведчыкі ідуць на гул і праз некалькі хвілін сапраўды трапляюць на гравійку. Але цяпер ясна другое: грэйдар выводзіць на шашу, па якой цягнецца да Выбарга артылерыя, грузавікі. Можа, яны прынялі гул на шашы за танкі?

Адну толькі хвіліну разважае малодшы лейтэнант. Рашае: трэба назад, назіраць за грэйдарам.

Разведчыкі бягуць. Салёны пот залівае вочы. За каўнярамі гімнасцёрак сасновыя іголкі, пацяруха. Дзесьці блізка скрыгоча «ванюша» — нямецкі шасціствольны мінамёт.

Нарэшце выразна чуваць дрыготкі нізкі гул. Задыханыя разведчыкі стойваюцца. На грэйдар з сасняку выпаўзаюць два танкі, затым яшчэ два. Між імі бронетранспарцёры. Машыны чужыя, падобныя на нямецкія. Па гулу матораў, знешніх абрысах.

Мамедаў адно імгненне вагаецца. На другім беразе балацянкі група Смірнова. Але інакшага выйсця няма.

Выцягнуўшы металічны шпынь антэны з шэрай скрынкі рацыі, радыст раз-пораз выгуквае:

— «Бяроза», «Бяроза», я «Рабіна». Як чуеш? Прыём...

«Бяроза» нарэшце адзываецца. Малодшы лейтэнант, нахіліўшыся над рацыяй, дакладвае:

— Квадрат сорак восем, «Б» два. Чатыры танкі, тры бронетранспарцёры.

Штаб рэагуе хутка:

— Адыходзьце з квадрата.

Разведчыкі штосілы бягуць у напрамку шашы. Хвілін дзесяць. Нарэшце, задыханыя, падаюць на лясны дол. Яшчэ праз некалькі хвілін чуюць гул самалётаў. Штурмавікі ляцяць нізка, над самым лесам. Выныраюць хваля за хваляй. Чуваць размераныя, нібы нехта чачотку танцуе, выбухі. Пластуюць штурмавікі танкі.

Яшчэ больш высокая музыка пачынаецца. На шашы пачынаюць завываць «кацюшы». Торгаецца, калоціцца, дрыжыць зямля. Гул выбухаў суцэльны, над месцам, адкуль разведчыкі прыбеглі, стаўбуры дыму. Шалёная віхура выбухаў нарастае. Нібы скручваецца ў тугія клубы само паветра.

Група Смірнова на ўмоўленае месца прыйшла на гадзіну пазней. Смірноў пасмейваецца:

— Вызываем агонь на сябе. Мы зразумелі. Але глядзець, як страляюць «кацюшы», не тое, што ляжаць пад іх балванкамі. Пекла...

Вечарам начальнік штаба маёр Круташынскі, выклікаўшы да сябе капітана Канатнікава і малодшага лейтэнанта Мамедава, паведамляе пра фашысцкую танкавую дывізію «Лагус», якая дзейнічае на Карэльскім перашыйку. Не проста так паведамляе. Магчыма, знішчаныя танкі і бронетранспарцёры, выяўленыя разведчыкамі, належалі гэтай дывізіі.

## IV

Па ўсіх дарогах ірвецца да Выбарга магутны вайсковы паток.

Першымі па няўезджаным прасёлку прадэфіліравалі дывізійныя разведчыкі, у плямістых маскіровачных куртках, такіх жа штанах, зацягнутых каля костачак гумкамі. Хлопцы, як на падбор, зухаватыя, прысадзістыя, фацэтныя. На чале са сваім ганарыстым старшым лейтэнантам, на новенькім мундзіры якога блішчаць чатыры ордэны і пяць медалёў.

За разведчыкамі павольна праклыпалі мінёры з доўгімі палкамі мінашукальнікаў. Мінёры заўсёды задумлівыя, за вопраткай асабліва не сочаць. Некаторыя нават летам не скідаюць шынялёў.

Паходным парадкам ідуць батальёны, роты. Рыпяць фурманкі абозаў. Кухні на хаду дымяць.

Расцягнутую на лясной, спаласаванай выбоінамі, каранямі дрэў дарозе калону даганяе цуг легкавых штабных машын — два блішчастыя, пакрытыя чорным лакам «ЗІСы», чатыры «вілісы»-ўсюдыходы. У пярэднім «ЗІСе» палкоўнік

Васілеўскі, камандзір дывізіі. Той самы, які ў трох вялікіх войнах удзельнічаў, не лічачы малых.

У астатніх машынах — дывізійны штаб. Начальнікі ўсіх асноўных службаў тут: аператыўнай, разведвальнай, сувязі, забеспячэння, нават сакрэтна-шыфравальнай.

Прасёлкавая дарога выводзіць на шашу. На яе выйшлі разведчыкі, мінёры, выбілася галава расцягнутай калоны.

Раптам ззаду некалькі глухіх выбухаў.

Калі разведчыкі, ірвануўшыся з шашы назад у лес, дабягаюць да павароту прасёлкавай дарогі, бачаць пагнутыя, перавернутыя коламі ўверх ці скінутыя ў кювет машыны. Некаторыя гараць. На дарозе варонкі ад супрацьтанкавых гранат.

Колькі відных камандзіраў загінула! На чале з палкоўнікам Васілеўскім, тым самым, які ўдзельнічаў у трох вялікіх войнах, не лічачы малых.

«Зязюлі» вынішчылі штаб. Відаць, на соснах, замаскіраваўшыся, сядзелі. Разведчыкаў, мінёраў, некалькі стралковых рот прапусцілі, машыны закідалі гранатамі. Зладзейская вайна...

Праз некалькі хвілін з лесу валакуць дзвюх «зязюль». На іх такія ж, як на дывізійных разведчыках, нямецкія маскіровачныя курткі, штаны. Як ліхаманка трасе «зязюль». Калоцяцца ад страху. Няўжо разлічвалі, што іх проста так у палон возьмуць? Відаць, разлічвалі, бо пасля ўчыненага разгрому падня лі рукі.

«Зязюль» нават да дарогі не даводзяць. Дзве кароткія аўтаматныя чэргі падводзяць рысу пад гэтай даволі звычайнай на вайне гісторыяй.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

### I

Выбарг яшчэ не ўзяты. Некалькі хвілін назад пераламаўся напалам доўгі жалезны мост, працягнуты над затокай. Беспынна вісяць у паветры нямецкія самалёты, выкідваючы на пяхоту касеты асколачных бомб.

Полк наступае на пясчанай касе, якая, нібы высунуты язык, цягнецца між залівам і горадам. Разведчыкі — у ланцугу наступлення.

У гарлавіне мыса вышыня. За яе ідзе бой.

Сяргей строчыць з аўтамата. Прыпадзе да зямлі, дасць чаргу, кідаецца наперад. Па вышыні б'юць мінамёты. Высока ўздымаюцца цёмныя стаўбуры зямлі і дыму.

Шквал атакі няспынны. Некаторыя нават на зямлю не кладуцца — ідуць па схіле на ўвесь рост. Разведчыкі расхлісталі гімнасцёркі, завязалі на шыі жаночыя хусцінкі. Найвышэйшы шык. Паказваюць пяхоце, што нічога не баяцца.

Вышыня ўзята нарэшце. Валяюцца трупы ў напаўзасыпаных акопах. На клумбах з кветкамі — варонкі ад мін. Стаяць разбітыя драўляныя будкі. Тут, відаць, пляж быў. У драўляных будках распраналіся.

Горад з грудка на марской касе як на далоні відаць. Увесь у дыме ад пажараў, выбухаў. Пясчаную касу ад дамкоў прадмесця аддзяляе толькі вузкая палоска вады. Цераз яе перакінуты мост на тоўстых каменных быках.

Паміж мостам і прадмесцем — шчыльная заслона выбухаў. Артылерысты, мінамётчыкі нібы загароджваюць подступы да моста з боку горада. Баяцца, каб вораг не ўзарваў яго, як папярэдні.

Лавіна штурму насоўваецца на Выбарг з паўднёва-ўсходняга боку. Там няма водных перашкод, сыходзяцца дарогі, чыгункі, якія вядуць да горада. Добра відаць з вышыні, як на вуліцы лава за лавай выскокваюць танкі з аўтаматчыкамі на брані. Тоячыся за дамамі, у дварах, у вузкіх, засаджаных дрэвамі правулках, іх падпільноўваюць варожыя салдаты.

Мінамётчыкі, захапіўшы вышыню на касе, знішчаюць варожыя заслоны ў горадзе. Страляць навучыліся. Дакладна б'юць па перавулках, дварах, дзе засяроджваюцца салдаты ў цёмна-шэрых мундзірах. Апісваючы вялізныя дугі, з пранізлівым свістам ляцяць у двары, завулкі цяжкія міны батальённых і палкавых мінамётаў.

Горад гарыць. Здаецца, не ўцалеюць у ім ніводная вуліца, дом, будыніна. Языкі полымя ліжуць каменныя сцены, пакрытыя чарапіцай стромыя дахі. Вісіць над горадам вялізная

чорная хмара дыму, падсвечаная праменнямі сонца, якое ідзе на схіл. Малюнак злавесны. З хмары пікіруюць на вуліцы, перакрыжаванні, на дахі будынкаў нашы штурмавікі. Коратка бліскаюць выбухі іх гарматак. Танкі, самаходкі запрудзілі вуліцы. Супраціўленне варожых салдат слабне на вачах.

Пехацінцы сядзяць на касе. Пасля таго як авалодалі вышынёй, фактычна толькі назіраюць за боем. Па вадзе ў горад не пабяжыш.

Да Сяргея падыходзіць Грыбін. Трымае ў руках алюмініевую конаўку.

— Выпі малака,— прапаноўвае.— Яшчэ адну карову знайшлі. Падаілі...

Сяргей прыхільна глядзіць на Грыбіна. Бярэ з яго рук конаўку, адпівае глыток белай, як малако, вадкасці і зараз жа з агідай выплёўвае. Малако ад шалёнай кароўкі. У роце балюча пячэ, губы імгненна пухнуць. Відаць, у конаўцы быў ядавіты шчолак.

Разведчыкі задаволена рагочуць. Сяргей не першы трапіў на вудачку падману.

## II

У Выбарг прыйшлі, калі гадзіннік паказваў поўнач. Сярод белых начэй гэтая найсвятлейшая: можа, ад водбліскаў пажараў, можа, ад таго, што ў такую пару святлеюць, карацеюць ночы ўсюды. Малюнак незвычайны: неба блакітнае, як днём, ружавее палоска зары; над горадам, звіваючыся ў клубы, плывуць цёмныя воблакі дыму.

Там-сям выбухі: ірвуцца фугасы, міны замаруджанага дзеяння, пакінутыя варожымі камандамі. Адчуванне своеасаблівае. Звычайна ад выбухаў засцерагаюць, хаваюць сцены, мур, падвалы. Тут ад сцен, будынкаў хочацца падалей уцячы. Яны якраз нясуць смерць.

Роты, батальёны нанач размяшчаюцца ў парку. На яго ўскраіне дагараюць два верхнія паверхі разлеглай круглаватай будыніны. Вокны, падлога, усё драўлянае ў будынку, мабыць, згарэла. Але час ад часу там з'яўляюцца зыркія ўсплёскі полымя. Нібы нехта нябачны падкідвае новую спажыву агню.

Робячы віражы, петлі, над горадам носяцца знішчальнікі з зоркамі на крылах. Ахоўваюць заняты войскамі Выбарг.

Узвод разведкі размясціўся побач з санчасцю. Дзяўчаты знаёмыя. Мерзлякоў, Філімонаў, Грыбін перад наступленнем дамагаліся кахання дзяўчат-санітарак. Мерзлякоў у шпіталі. Цікава, з якой дзяўчынай ён дружыў? Што яна цяпер адчувае?

Сяргею таксама падабаецца адна маленькая, чарнявенькая дзяўчына-санінструктар. Але пра яго пачуцці яна нічога не ведае. Дый кавалераў у санінструктара хоць адбаўляй.

Разведчыкі пацвельваюцца з санітаркамі, і пад гэтыя ціхія смяшкі Сяргей засынае.

Прачынаецца ад блізкіх, пранізлівых выбухаў — у твар сыпле зямлёй, пяском, дыхае гарачынёй — і, не разабраўшы са сну, што адбываецца, не саўладаўшы з сабой, з усіх ног кідаецца прэч.

Праз некалькі хвілін цверазее. Праз заслон знішчальнікаў прарваўся нямецкі самалёт, кінуў некалькі бомб. Вось і ўсё.

Сяргею страшэнна сорамна. Толькі ён адзін пабег. На вачах у дзяўчат. Ніколі не бегаў, а тут пабег. Цяпер ён ніколі не пазнаёміцца з чарнявенькай санітаркай.

З раніцы пачынаецца абстрэл горада. Страляюць з процілеглага берага, з астравоў, якія перарывістым ланцужком цягнуцца па заліве. Снарады рвуцца ў розных частках горада, аднак не часта. Выбухі праз пяць-дзесяць хвілін.

Сапёры расчышчаюць руіны на галоўнай вуліцы. Пахаджваюць з мінашукальнікамі ля будынкаў.

Палку адводзяць паласу будынкаў ля ўзбярэжжа. Учора, калі Выбарг займалі, здаваўся ён зруйнаваным, вынішчаным. Цэлы збольшага, аднак, хоць сляды руйнавання немалыя. Некаторыя вуліцы, завулкі, двары завалены глыбамі муроў, кучамі цэглы, друзу. Шэраг будынкаў дыміць. Але яшчэ больш будынкаў пажарам, руйнаваннем не кранута. У іх нават вокны не выбіты. Горад, мабыць, уцалеў больш чым напалавіну. Пашанцавала старажытнаму Выбаргу. Асабліва калі ўлічыць, што за апошнія чатыры гады ён трэці раз пераходзіць з рук у рукі.

Разведчыкі, не спяшаючыся, снедаюць. Валкай паходкай у пакой заходзіць Смірноў. Пасмейваючыся, загадвае:

— Мы ў курортным месцы, але вайна не скончылася. Узяць стэрэатрубу і за мной.

На беразе ўзвышаецца прыгожы белы дом. Каробачка ніштаватая — паверхаў на дзесяць. Дом, бадай, самы адметны сярод будынкаў узбярэжжа. Адмысловы забудовай: вокны, сцены, паверхі вызначаюцца правільнымі геаметрычнымі формамі, што як бы надае будынку бязважкасць, ажурнасць, парыў у вышыню.

Калі наблізіліся да будынка, Сяргею падалося, што ў акне на трэцім паверсе мільгнуў нечы твар. Засланіўшыся далоняй ад сонца, Сяргей прыгледзеўся. Сапраўды, прыхінуўшыся да суцэльнага шклянога ліста, стаіць і назірае за разведчыкамі фінскі салдат у шэрым, пад колер зямлі, мундзіры. Відовішча імгненнае, але Сяргей паспявае заўважыць, што салдат без шапкі, у яго светлыя валасы, спалатнелы, спалоханы твар.

— У доме «зязюля»! — крычыць Сяргей.

Разведчыкі, як па камандзе, падаюць на зямлю, стракочуць з аўтаматаў па вокнах, праз якія відаць прыступкі лесвіцы. Звон разбітага шкла зліваецца з посвістам куль — яны рыкашэцяць ад жалезабетонных сцен.

Зверху, з вышыні трэцяга паверха, чуваць адчайны голас, і страляніна імгненна сціхае. Разведчыкі чакаюць. Праз хвіліну з праёма ўваходных дзвярэй паказваецца высокая постаць маладога фінскага салдата з паднятымі рукамі. На ягонай шчацэ кроў — куляй ці ашкелкам зачапіла. Салдат ліхаманкава дрыжыць і як бы нешта жуе.

Разведчыкі запытальна разглядваюць фіна. Хто ён? Чаму астаўся ў доме над морам? Можа, назіральнік, падаваў сігналы сваім артылерыстам, якія абстрэльваюць горад?

Пад насцярожанымі, якія не зычаць нічога добрага, позіркамі салдат дрыготкай рукой выцягвае з нагруднай кішэні паперыну, падае Смірнову. Нейкая схема на паперы — рысачкі, лініі.

— Міны! — выгуквае Смірноў, запытальна пазіраючы на палоннага.

Той, не могучы ўтаймаваць дрыжыкаў, згодна ківае галавой.

Палоннага вядуць у штаб. Праз яфрэйтара-інгермаландца афіцэр разведкі Канатнікаў яго дапытвае. Фін не хлусіць: дом над морам сапраўды замініраваны.

Салдату, які добраахвотна здаўся ў палон, было загадана прывесці ў дзеянне выбуховае прыстасаванне, каб узарваць дом, калі памяшканне запоўняць савецкія салдаты.

Праз паўгадзіны палонны ў акружэнні сапёраў ідзе размініраваць дом над морам. Па сутнасці, ён першы «язык», якога ўзялі разведчыкі. Дарагі «язык»: для іх уласнага лёсу многа значыць.

## III

Тры гады назад пачалася вайна. Ірвучыся на ўсход, да Масквы, браніраваныя нямецкія дывізіі за першыя крывавыя тыдні падмялі пад жалезныя гусеніцы беларускія сёлы, мястэчкі, гарады. Яшчэ цяпер пад акупацыяй беларуская зямля. Вызвалена пакуль невялікая ўсходняя і паўднёва-ўсходняя яе частка.

Фашысты сутаргава трымаюцца за Беларусь. Яна прыкрывае напрамак, які вядзе да Берліна, да іншых важных цэнтраў нямецкага райха.

Нібы адзначаючы крывавы юбілей вайны, загаварылі тры беларускія франты. Нямецкая абарона прарвана. Чырвоная Армія імкліва прасоўваецца наперад. Дзясяткі нямецкіх дывізій трапляюць у клешчы, «катлы». Ёсць, значыць, праўда на свеце. Адрыгаецца фашыстам бліцкрыг, сорак першы год.

Салодкім, радасным пачуццём перамогі перапоўнена салдацкая душа. Будзь баслаўлёны, слаўны, баявы сорак чацвёрты!.. Сяргей на ўздыме надзей. Тут, у Выбаргу, самыя лепшыя яго дні з таго часу, як трапіў у армію.

Рота, у якой служыць Васіль Лебедзь, у крэпасці. Сяргей штодня наведвае сябра. Ён адзін астаўся. Ні Міколы Пракопчыка, ні Косці Цітка, ні другіх хлопцаў няма.

Дамовіліся: Васіль адпросіцца ў начальства паблукаць па Выбаргу. Горад абстрэльваецца, але ў апошнія дні выбухаў менш. Два-тры снарады за гадзіну.

Да крэпасці ў Сяргея нядобрае пачуццё. Не падабаюцца яму абымшэлыя сцены, вежы, складзеныя з дзікага каменю, цесны двор крэпасці, вузкія, пакручастыя сходні, якія вядуць да шчылін-байніц.

Васіль таксама радуецца перамозе. З аддзялення ўцалелі Мялешка, Лявоненка і ён. Але падзеі грандыёзныя. Нездарма пралілася кроў.

Выгляд у Васіля бадзёры — не такі, як некалькі дзён назад. Сяргей таксама забыў пра выпадак, калі ледзь не трапіў у штрафную роту. Увайшоў у сваю звычайную ролю стратэга.

— Удары Першага і Трэцяга франтоў нацэлены на Мінск,— паведамляе самую апошнюю навіну Сяргей.— Маглі там быць...

— Табе ж у запасным палку не сядзелася. Ірваўся на Украіну.

— Усё адно невядома, куды трапілі б.

Васіль згаджаецца:

— Невядома. Грыша Буляк пад Оршай. Па намёках можна здагадацца. Піша: раскідалі навабранцаў каго куды па вялікай рацэ. Па Дняпры, значыць...

Грыша Буляк — школьны таварыш. У маршавую роту не рваўся, астаўся ў запасным палку.

Сяргей знайшоў у горадзе ціхую вулічку: яна размешчана недалёка ад крэпасці і цягнецца ўздоўж узбярэжжа. Вельмі падобна вулічка на мястэчковую, на тую якраз, на якой жыў Васіль. Гэтак жа навісаюць над ёй таполі; будынкі невялікія, пераважна драўляныя. Сяргей вядзе Васіля на прыкмечаную вулічку. Прывёўшы, пытае:

— Што табе здаецца?

— Вулічка — як у мястэчку.

Значыць, адчуваюць аднолькава.

— Памятаеш сорак першы год?

— Памятаю...

У Васілёвым доме, размешчаным пад раскідзістай таполяй, яны, школьныя дружбакі, збіраліся. Васіль меў у доме асобную бакоўку. На яе дашчанай сценцы-перагародцы вісела вялікая геаграфічная карта. Колькі размоў было каля гэтай карты! Хлопцы-змоўшчыкі ведалі кожны, няхай сабе самы невялікі, горад у паласе ваенных дзеянняў: калі здадзены, калі ўзяты назад. Разгадвалі хітрыя ваенныя замыслы з аднаго і другога боку, лаялі генералаў за здачу гарадоў, за тое, што марудна іх вызваляюць. Цяпер самі ў арміі, удзельнічаюць у наступленні.

— З восені будзе дзясяты клас,— паведамляе Сяргей.— Алімпіяда напісала. Толькі вайна да восені не скончыцца.

— Не скончыцца.

— Хто пойдзе ў дзясяты?

Дружбакі змаўкаюць. Ім па дзевятнаццаць гадоў, усе іх аднагодкі на вайне. Выключаючы дзяўчат. Яшчэ Міша Цукар у мястэчку аціраецца — ахоўвае ваенны кабель. Колькі ж вучняў будзе ў дзясятым класе?..

Коціцца па беларускай зямлі пераможны вал наступлення. Сяргей з Васілём спатыкаюцца ледзь не кожны дзень. Магчымасць ёсць: полк папаўняецца, роты, батальёны прыводзяць сябе ў парадак, латаюць дзіркі. Камандзіры цяпер не вельмі прыдзірлівыя.

Горад Выбарг па-свойму прыгожы. Нізкаватае паўночнае неба глядзіцца ў блакітнае люстра заліва. Свеціць сонца, буяе зеляніна. Таполямі, каштанамі, ліпамі засаджаны бульвары, скверы. Здаляка нават вежа крэпасці з размешчанымі ў тры ці чатыры ярусы проразямі-байніцамі здаецца прывабнай.

У забудове горада праглядвае нешта, аднак, чужое. Вастраверхія дахі, прамавугольнікі вокан. З гісторыі вядома: заснавалі Выбарг ноўгарадцы, пазней яго шведы захапілі. Пётр І у час Паўночнай вайны вярнуў горад Расіі.

Не першыя тут Сяргей з Васілём. Стагоддзяў шэсць-сем топчуць жорсткую камяністую зямлю, паліваючы крывёй, браты-славяне. Вялікая дзяржава мусіць ахоўваць свае паўночныя рубяжы, выйсце да мора.

Разлеглая будыніна, якая гарэла, калі полк толькі ўвайшоў у горад і размясціўся ў парку, аказваецца, бібліятэка. Гэта кнігі так гарэлі: з успышкамі, выбухамі, выкідваючыся вогненнымі шарамі праз вокны. Не ўсе, аднак, згарэлі: падвальнае кнігасховішча захавалася.

Сяргей з Васілём штодня шастаюць у кнігасховішча. Ёсць тут кнігі, якіх яны ніколі не бачылі ў местачковых бібліятэках, не чыталі. Кнут Гамсун, Іван Бунін, Сяргей Ясенін. Ясеніна яны якраз і чытаюць, знайшоўшы трохі абпалены томік.

Ты жива еще, моя старушка?
Жив и я. Привет тебе, привет!..

Плакаць хочацца ад гэтых радкоў. Прывабным, нязвыкла прыгожым здаецца хлопцам іх мястэчка. Там, як і ў Ясеніна, клёны, тапалі, поўня месяца глядзіцца ў неглыбокія сажалкі, восенню шасціць пад нагамі апалае лісце, летам дрыжыць над жытнёвым полем сіняватая смуга.

Няма ў жыцці нічога лепшага, чым час, асветлены еднасцю маладых сэрцаў і парыванняў. Па акупацыйным часе ў мястэчку, калі дружбакі-змоўшчыкі збіраліся ў Васілёвай хаце, сядзелі ля карты ці выдыбвалі па прыцемненых вуліцах, яны нават здагадвацца не маглі, як выкіруецца іх далейшы лёс. Ці маглі думаць, што трапяць у далёкі паўночны горад, а іх сябры, таварышы будуць вызваляць блізкія, родныя беларускія гарады!

Нечакана батальёны, палкі выходзяць з Выбарга. Загад катэгарычны: выбрацца ў межы прадмесця, засяродзіцца ў пунктах, дзе часці знаходзіліся перад штурмам.

Вуліцы, завулкі запоўненыя калонамі, грукаюць па бруку колы гармат, равуць маторамі цягачы, самаходкі.

Роты абчысціліся, падлаталіся дый прыкметна папоўніліся.

Нарэшце робіцца вядомым, навошта палкі выводзяць за горад. Кінааператары будуць здымаць панараму штурму Выбарга, каб потым уставіць у кінафільм.

Перад вайной паказвалі кінафільм «Лінія Манергейма». Ён як бы пацвердзіў: армія памылак не рабіла, дзейнічала правільна. Вайна зацягнулася, бо магутнымі, амаль неадольнымі былі варожыя ўмацаванні.

У тую вайну больш за чатыры месяцы таўкліся войскі на Карэльскім перашыйку. Цяпер яго прайшлі за адзінаццаць дзён. Але навошта што-небудзь здымаць пасля таго, як горад узялі? Аператары і ў час бою рабілі здымкі. Што з таго, што агульнай панарамы не хапае? Салдаты хіба артысты?

Сяргей узабраўся на горку, на якой стаяў вечарам, белай ноччу, калі штурмавалі горад. Цяпер ясны сонечны дзень. Горад зноў штурмуюць. Грымяць гарматы, віюцца дымы, дружнымі радамі, не хаваючыся за камяні-валуны, не падаючы ў варонкі, бягуць наперад салдаты. Баяцца нечага: страляюць халастымі — ні куляй, ні асколкам не зачэпіць...

Не, цяпер лепш відаць: дамы ў горадзе белакаменныя, тонуць у зеляніне, утвараючы замкнутае, у выглядзе падковы, паселішча. Высокія, чатырохпавярховыя будынкі мяжуюць з ніжэйшымі, двухпавярховымі, доўгія кварталы аграмадзін з паасобнымі дамкамі. У адных дахі вастраверхія, у другіх — аднасхільныя. Бачная бязладнасць тоіць у сабе ўнутраную зладжанасць. Такім павінен быць старадаўні, напалавіну рускі, напалавіну чужаземны горад пад хмурым паўночным небам.

## IV

У доме над морам быў санаторый. У пакоях ложкі, канапкі, мяккія крэслы, шэзлонгі. Ліфты падымалі курортнікаў на дзесяты паверх.

У горадзе парашкоў яшчэ больш, чым было ў драўляных дамках пасёлкаў. Дзякуючы парашкам Сяргея лічаць знаўцам замежных моў.

Фінскіх слоў Сяргей ведае не шмат. Запомніў дзясятак фраз з кніжачкі, якую выдалі разведчыкам перад наступленнем. Але на пакетах з парашкамі надпісы на дзвюх мовах — фінскай і шведскай. Шведская мова трохі падобная на нямецкую, на якой Сяргей збольшага чытае і разумее напісанае.

На пакетах тлумачыцца спосаб прыгатавання той ці іншай стравы. Шведскія дзеясловы моцна адрозніваюцца ад нямецкіх, назоўнікаў шмат блізкіх.

Сяргей знаходзіць у шведскім тэксце некалькі зразумелых назоўнікаў, з чаго робіць вывад аб прыгоднасці парашка для ежы. Яшчэ ні разу не памыліўся. Байцы з другіх узводаў, рот да яго цяпер звяртаюцца. Повар амаль кожны дзень на кухню запрашае.

Харчовых прыпасаў у гарадскіх кватэрах няма. Затое паперы — колькі хочаш, якой хочаш. Сяргей носіць у сумцы пачак добрай глянцавай паперы, шмат канвертаў, картак з відамі тутэйшых азёр, рэк, лясоў, марскіх пляжаў. Пасылаючы дамоў і знаёмым дзяўчатам лісты, ён укладвае ў канверты карткі. Здагадаюцца ў мястэчку, на якім фронце ваюе.

Самыя светлыя ў цяперашнім Сяргеевым жыцці хвіліны, калі старшына Кіслякоў, несучы з кухні тэрмас з супам, заварочвае на пошту і прыхоплівае лісты. Сяргей спачатку чытае пісьмы, а ўжо потым абедае. Пры кожным зручным выпадку піша адказы.

У лістах, якія пасылае дадому, Сяргей пахваляецца поспехамі. Прычын для пахвальбы шмат: узялі ў разведку, ходзіць на заданні, удзельнічае ў жорсткіх баях. Моцнае ў маладой душы жаданне выдзеліцца. Нават тут, на вайне, дзе пакуты, кроў, смерць таварышаў.

Пра смерць Косці Цітка, Косці Русаковіча, стрыечнага брата Адама ў мястэчку, вядома, ведаюць. Пахаронкі прыйшлі. Сяргей пра смерць таварышаў паведаміў коратка: загінулі як героі. Калі яго самога напаткае такі лёс, пастараецца быць вартым сяброў.

Капітан Канатнікаў выклікае Сяргея да сябе. Афіцэр разведкі займае невялікі дамок з некалькіх пакояў. На падлозе дарожкі, дываны. З кухні даносіцца пах смажанага сала: там завіхаецца звышштатны ардынарац Растоўскі.

— Ты дзе фінскую мову вывучыў? — не прапанаваўшы сесці, пытае капітан.

У Сяргея здзіўленыя вочы.

— Не ведаю фінскай мовы.

— Галаву, значыць, марочыш людзям. З парашкамі да цябе ходзяць. Калі раптам хто атруціцца?

Сяргей тлумачыць пра шведскую мову, якая ўжываецца ў Фінляндыі, пра падабенства яе да нямецкай.

— Нямецкую мову дзе вывучыў? У палоне быў?..

Сяргея разбірае злосць:

— Дзевяць класаў скончыў. Пасля дзясятага збіраўся паступаць у інстытут. Да вайны яшчэ вывучыў мову. З-за гэтага ва ўзвод разведкі ўзялі. У палоне не быў. Вы павінны ведаць...

— Не вучы, што мне ведаць.

Выпешчаны твар Канатнікава трохі разгублены. Ён нібы збіраўся застрашыць Сяргея, ды сарвалася.

— Вот што,— капітан поркаецца ў скуранай, якая адлівае глянцам, палявой сумцы.— Калі ты такі граматны, будзеш складаць разведзводкі. Я табе дам адну як узор. Будзеш прыносіць мне на подпіс.

Узвод на пошук не ходзіць. З вышыні восьмага паверха дома над морам, які фіны збіраліся ўзарваць, разведчыкі вядуць назіранне за процілеглым берагам. Астравы Б'ёрскага архіпелага яшчэ ў варожых руках, і на нябачным паўднёвым беразе заліва, у Эстоніі, немцы.

Два разы снарады трапляюць у фактычна пусты дом, дзе асталяваліся толькі разведчыкі. Але снарады такі вялікі дом не разбураць.

Калі абстрэл асабліва моцны, разведчыкі пераходзяць у пакоі, размешчаныя на процілеглым баку, з вокнамі на ўсход. У вялізнай будыніне, відаць, размяшчаліся не толькі пакоі для курортнікаў, а і кантора, бухгалтэрыя курорта. У закутках, дзе хаваюцца разведчыкі ад абстрэлу, уздоўж сценак — зашклёныя шафы з папкамі, скорасшывальнікамі.

Ля стэрэатрубы ў час абстрэлу толькі дзяжурныя. Кожныя дзесяць хвілін вынікі назірання яны заносяць у журнал.

Палку прысвоілі званне Выбаргскага, дывізіі — Ленінградскай. З гэтай нагоды разведчыкі рашылі наладзіць банкет. Спірту трохі назапасілі.

Раніцай прыходзіць сумная вестка пра Мамедава. Ніхто не ведаў, што ён напрасіўся ў штурмавую групу. Такія групы добраахвотнікаў ноччу захопліваюць астраўкі Б'ёрскага архіпелага. Мамедаву не пашанцавала: прамое пападанне варожага снарада ў катар. Няма больш прыгожага малодшага лейтэнанта-казаха, які за два тыдні здолеў усім спадабацца. Зноў часовым камандзірам узвода разведкі прызначаны старшы сяржант Смірноў.

Вось так. Мамедаў выратаваў Сяргея, калі ён тануў. Сам, аднак, не здолеў выплыць.

Банкет не адмяняецца. На мора спускаецца белая ноч. Шэрані цяпер трохі больш, чым тыдзень назад. Але ўсё адно добра відаць зіхатлівая, празрыстая роўнядзь заліва, зарослыя кустамі астраўкі, ля аднаго з якіх загінуў малодшы лейтэнант Мамедаў, цемнаваты процілеглы бераг.

У пакой разведчыкі прывалаклі танканогія кафейныя столікі і мяккія спружыністыя крэслы. Да выпіўкі і закуска ёсць: адчынены тры бляшанкі свіной тушонкі, тонкімі скрылікамі нарэзан шпіг.

Спірт дзеліць Кіслякоў. Налівае кожнаму на дно алюмініевай конаўкі. Хто хоча, можа вадой спірт разводзіць.

Белая ноч кладзецца на заліў. Ружавее далёкі край неба. Месяц, які вісіць над вадой, вырывае з люстраной роўнядзі доўгую светлую паласу. Здаецца, што ў тым месцы цячэ рака.

Урачыстую абстаноўку, якая пануе ў пакоі, псуюць задымленыя кацялкі з гарохавай кашай, пастаўленыя на столікі, абшарпаныя плашч-палаткі, зялёныя, з цёмнымі крапінкамі, маскхалаты, як папала кінутыя на спінкі крэслаў.

— Піць! — загадвае Кіслякоў.— На первы раз за малодшы лейтэнант Мамедаў. Наш баявы таварыш нет сярод нас.

Выпіваюць і, не спяшаючыся, закусваюць. Сяргей цяпер не падкі да яды — ад'еўся.

Праз некалькі хвілін, калі хмель ударыў у галаву, старшына Кіслякоў пачынае плакаць:

— Нет сярод нас наш друг Мамедаў. Ляжыць у сырой вада. Дажа хараніць баявы друг не можам...

Смірноў абдымае Кіслякова за плечы:

— Не трэба, старшына. Заўтра нас з табой можа забіць. На вайне не плачуць.

З процілеглага берага не страляюць. Вечарам і ўночы амаль поўная цішыня.

Выпіваюць яшчэ раз. Далей налівае сабе хто хоча. Гарэлка з разведзенага спірту не надта ўдалая: пахне меддзю, жалезам. Аднак галаву кружыць.

У руках Філімонава акардэон. Яго знайшлі пад Выбаргам, у размаляванай будзе на колах. Можа, якія-небудзь вайсковыя артысты раз'язджалі ў той будзе. Філімонаў, які пахваляецца, што ўмее іграць на баяне, рыпаў на акардэоне ўсе дні. Пераходзіў на новы інструмент.

Старшына Кіслякоў зачынае песню. Але і спявае — нібы плача. Матыў працяжны, надрыўны. Спявае старшына пра лётчыка, які, падаючы на зямлю, успамінае каханую дзяўчыну:

Так, значыт, крышка, так, значыт, амба —
Лу-у-у-бві настал паслэдні час.
Тэбя лу-у-біл я ісчо малчышкай
І ісчо большэ лублю тэбя сейчас...

Павесіўшы галаву на грудзі, старшына нарэшце засынае ў крэсле. Смірноў з Грыбіным выносяць Кіслякова ў суседні пакой. Разам з крэслам, каб не разбудзіць. Няхай спіць старшына. Ён усё-такі змрочны, п’яны, цвярозы — аднолькава. Без яго весялей.

Разведчыкі з выгляду зухаватыя, рашучыя. Любяць пусціць пыл у вочы. У той жа час — звычайныя таварыскія хлопцы. Найлепшым чынам раскрываюцца ў час такіх вось зборышч. Сабраліся не выпадкова. Нягледзячы на смерць Мамедава, настрой ва ўсіх прыўзняты. Народжаны поспехамі на франтах.

Імкліва наступаюць беларускія, прыбалтыйскія франты, узнікаюць новыя «катлы», акружэнні — кружыцца галава. Няўжо ім, звычайным хлопцам, якім прыйшлося браць удзел у самай вялікай, жорсткай, бязлітаснай вайне, суджана ўбачыць перамогу?

Толькі вельмі многа гіне хлопцаў. Вынішчаецца цэлае пакаленне. Колькі астанецца хлопцаў дваццаць трэцяга, дваццаць чацвёртага, дваццаць пятага года нараджэння і хто пабярэ замуж іхніх дзяўчат?

Грыбін улавіў настрой. Заспяваў самадзейную песню, якую невядома хто склаў:

Ты сидишь у камина и смотришь с тоской,
Как печально огонь догорает,
И надежда на то, что кто замуж возьмет,
Постепенно в груди угасает.

Еще годик войны, и не станет мужчин,
Хоть и так их осталося мало,
И не встретит тебя за всю жизнь ни один,
Сколь ни плакала б ты, ни рыдала...

Палку паказваюць кіно. У падвальнай, разлеглай, нібы гумно, зале спаленай бібліятэкі Васіль Лебедзь знаходзіць Сяргея. Сябры прымошчваюцца на наспех збітай з няструганых дошак лаўцы. Карціна амерыканская, прысвечаная вайне на савецка-нямецкім фронце.

Сеанс толькі пачынаецца. Хвілін праз дзесяць на драўляныя падмосткі перад экранам выскоквае загадчык клуба — ёсць

такая пасада ў палку,— высокі, танклявы старшы лейтэнант. Махае рукой, дынамік перастае трашчаць. У зале ўспыхвае святло.

— Таварышы! Войскі Першага Прыбалтыйскага фронту, паспяхова развіваючы наступленне, авалодалі горадам Глыбокае...

У зале воплескі. Глыбокае ў Беларусі недзе блізка ля былой польскай граніцы. Далёка сягнулі прыбалтыйскія франты.

Хвілін праз некалькі той жа старшы лейтэнант зноў на падмостках.

— Атрымана паведамленне — нашымі войскамі вызвалены беларускі горад Докшыцы.

Зала радасна-ўзбуджаная. Наступленне ідзе не на жарты. У пачатку лета яго пачалі тыя, хто сядзіць у зале. Ленінградскі фронт. За адзінаццаць дзён прагрызлі ўмацаванні Карэльскага перашыйка і як бы перадалі свой імпэт, парыванне другім франтам. Можа, гэтае лета апошняе?

Карціна падыходзіць да палавіны, калі старшы лейтэнант трэці раз узнікае перад экранам. Па яго ўзбуджаным твары, стоеным дыханні, наўмыснай паўзе, якую робіць, каб прыцягнуць да сябе ўвагу, гледачы наперад адчуваюць, што навіна асабліва важная.

— У выніку імклівага наступлення, удалага абходнага манеўру, які ажыццявілі войскі Трэцяга Беларускага фронту пры садзеянні войск Першага Беларускага фронту, вызвалена сталіца Савецкай Беларусі — горад Мінск. Завершана акружэнне вялікай, мнагатысячнай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск чацвёртай і дзясятай армій, якія ў сорак першым годзе рваліся на Маскву...

Старшы лейтэнант — чалавек красамоўны. Нездарма загадчык клуба. Але навіна сама па сабе выдатная. Апладысменты працягваюцца некалькі хвілін, і нават асобныя выгукі чуюцца. Тут, у зале, нямала беларусаў, але астатнія радуюцца. Беларусь любяць усе.

Сяргеевы грудзі захліствае шчымліва-радасная хваля. Васіль таксама ўзбуджаны. Адзін аднаму, знайшоўшы ў цемені, яны паціскаюць рукі. Яны ўдзячны лёсу, што надарыў іх гэтай шчаслівай хвілінай. Рэспубліка, можна лічыць, вызвалена.

Можа, да зімы вайна скончыцца — і яны паспеюць да канца навучальнага года прыйсці ў дзясяты клас, у якім не вучыліся ніводнага дня.

У амерыканскай карціне праўды малавата. Але глядзець можна. Галоўнае: ёсць спачуванне да нягод, якія вынесла і выносіць агромністая, з сотнямі, тысячамі разбураных гарадоў, вынішчаных вёсак краіна.

## V

У газетах — урачысты тон. Перамогі выдатныя. Амаль у кожным нумары «Красной Звезды» — два экзэмпляры яе прыходзяць ва ўзвод пешай разведкі — артыкулы Ільі Эрэнбурга. Сяргей пачынае чытаць газету з гэтых артыкулаў. Яму падабаецца манера Эрэнбурга, тое, як пераходзіць думка пісьменніка ад адной тэмы да другой, як ён свабодна, размашыста карыстаецца фактамі: нібы крочыць па стагоддзях, эпохах, краінах, кантынентах. У артыкулах Эрэнбурга таксама пануе настрой недалёкага канца вайны, расплаты з фашызмам.

У журнале, які вядзецца на назіральным пункце, за дзень, ноч паяўляецца нямала розных запісаў. Усё, што разведчыкі бачаць, заносіцца ў журнал. Вывад адзін можна зрабіць: праціўнік умацоўвае процілеглы бераг. То фурманка з бярвеннем мільгне ў акуляры стэрэатрубы, то цуг людзей, якія ўзмахваюць ламамі, рыдлёўкамі.

Назіранні абагульняюцца ў разведзводках. Іх складае па даручэнні Канатнікава Сяргей.

Па радыё перадалі аб прысваенні Чубукову звання Героя Савецкага Саюза. З гэтай нагоды ў палку праводзіцца мітынг. Ён адбываецца каля спаленага будынка бібліятэкі. Утварыўшы карэ, стаяць роты, батальёны.

Прамаўляюць па чарзе падпалкоўнік Мухін, агітатар палка, чорны, насмешлівы капітан Левін і камсорг, капітан Налівайка — стройны, падцягнуты, ахайны, са светлымі, як у анёла, кудзеркамі, якія выбіваюцца з-пад фуражкі.

З трыбуны, наспех збітай з сасновых аполкаў, капітан Левін кідае высокія, якімі запоўнены газеты, словы. Звычайна, калі размаўляе з салдатамі, гаворыць іншай мовай. Распытвае пра

харч, лісты з дому, даволі паблажліва, памяркоўна ставіцца да тых, хто правініўся.

Гаворачы з Сяргеем, Левін пацікавіўся, як разведчык жыў у акупацыі, калі пайшоў у партызаны, прапанаваў нават уступаць у партыю.

Капітан Налівайка чытае прамову па паперцы. Камсорга палка ўсе хваляць. Чалавек ён сапраўды някепскі: на байца не накрычыць, не пакрыўдзіць. Налівайка носіць у палявой сумцы брашуру Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне», якую ўвесь час чытае, падкрэсліваючы насліненым хімічным алоўкам паасобныя выразы і сказы.

Невысокую, зграбную фігуру Налівайкі добра аблягае мундзір, на грудзях прыгожа скрыжоўваюцца рамяні новай скрыпучай партупеі. На плячах blішчаць пагоны. Каб бляск не бляknуў, пагоны Налівайка часта мяняе. Увогуле, Налівайку вельмі падабаецца, што ён капітан.

Сам Чубукоў маўкліва стаіць з боку ад прамоўцаў. Пазірае ў зямлю, час ад часу папраўляе дзягу на ўпалым жываце, кабуру пісталета, перавешаную цераз плячо палявую сумку. Чорны, хмуры, твар Чубукова то чырванее, то бляднее.

Вядома: па Залатую Зорку Чубукоў паедзе ў Маскву. Потым у яго будзе месячны адпачынак. Гэта — як казка: Чубукоў паедзе ў тыл, убачыць родныя мясціны, блізкіх людзей. Але, каб апынуцца ў такой казцы, трэба героем стаць. Проста так адпачынкаў у час вайны не даюць.

Нялёгкае было жыццё Чубукова. З трох гадоў рос без бацькі, з дванаццаці — без маці. Ён добра памятае: у ціхую, лясную вёску, размешчаную ў бранскіх лясах, яны прыехалі з іншага месца, з раскіданага, мнагалюднага сяла, размешчанага ля Дняпра, у беларуска-ўкраінскім пагранiччы.

Сямён і яго старэйшы мнагадзетны брат проста ўцяклі з прыдняпроўскага сяла. Не, яны не былі кулакамі, лішэнцамі, нічым не нашкодзілі Савецкай уладзе. Ім не пашэнціла з біяграфіяй іх бацькі.

Яшчэ за царом, калі Сямёна Чубукова на свеце не было, ягоны бацька стаў дэпутатам Думы. Маці хваліла бацьку: розумам, шчырым сэрцам дамогся, што яго разам з панамі, багацеямі, паслалі ў Думу. Бацька праславіўся на пасадзе валаснога старшыні: пабудаваў па школе і млыну ў сваім і ва-

ласным сяле. За гэта за небагатага, але пісьменнага селяніна, які хораша ўмеў прамаўляць на сходах, меў прыгожую паставу, твар, прагаласавала большасць сялян выбарчай курыі.

Гадоў шэсць бацька жыў у Петраградзе, засядаў у Думе. У Петраградзе і Сямён нарадзіўся. Калі выбухнула рэвалюцыя, бацька з сям'ёй вярнуўся ў роднае сяло.

Пры белапольскай акупацыі, калі жаўнеры пачалі рабаваць сялян, вывалакваючы з кожнага двара авечак, свіней, кароў, бацька паехаў у горад да высокага вайсковага чына са скаргай. Чын ветліва гаварыў, абяцаў прыняць неабходныя меры. Але, як толькі бацька вярнуўся дамоў, жаўнеры схапілі яго. Білі на канюшні шампаламі.

Бацька захварэў і памёр. Як цяпер разумее Сямён, не ад хваробы памёр — ад знявагі.

Перад вайной, ужо працуючы механікам МТС, Чубукоў расказаў пра бацьку заезджаму маскоўскаму лектару, кандыдату навук. Той уважліва выслухаў, абяцаў пакапацца ў архівах і слова спраўдзіў. У кароценькім лісце, які Чубукоў згубіў пры другім раненні, кандыдат навук паведамляў: такім бацькам, як яго, трэба ганарыцца. У думскай фракцыі падзяляў праграму трудавікоў, выступаў у абарону бяднейшых сялян. У лісце нават цытата з Леніна прыводзілася, дзе правадыр рэвалюцыі спагадліва гаворыць пра трудавікоў.

Вось так. Тым часам да самага таго ліста словы «Дума», «дэпутат», «воласць» кідалі Чубукова ў жах. Ужо ў вайну, вучачыся на камандзірскіх курсах, Чубукоў вычытаў, што ў Думе і бальшавіцкія дэпутаты засядалі.

Астаўшыся адзін, без бацькі і маці, Сямён спадзяваўся толькі на сябе. У пятнаццаць гадоў сеў на трактар. Ён прывык жыць самастойна, любіў тэхніку. Здолеў вырасці з трактарыста да механіка, скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум. Яшчэ да вайны раён паслаў Чубукова на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. Там яго ўзнагародзілі малым сярэбраным медалём.

Вайна найлепшым чынам паказала, хто чым дыхае. Сям'я старэйшага брата таксама праславілася на лясной Браншчыне. Уся была ў партызанах і загінула амаль уся. Астаўся адзін Мікалай, пляменнік Чубукова,— ён цяпер на партыйнай рабоце. Да яго, калі дадуць водпуск, з'ездзіць Сямён Чубукоў.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

### I

Ад паведамленняў радыё, газет дух зацінае.

Імкліва наступаюць беларускія франты. Услед за Мінскам вызвалена яшчэ шмат беларускіх гарадоў.

Полк перавялі на ўсходнюю ўскраіну Выбарга. Абстрэл горада працягваецца. Узвод пасяліўся ў невялікім драўляным дамку. Ціха, добра. Буяе трава. Зумкаюць мушкі, пчолы. На яблынях, якімі атулены дамок, прыкметная завязь.

Назіранне за варожым берагам разведчыкі працягваюць. Па чарзе дзяжураць на восьмым паверсе дома над морам.

Сяргей, які цяпер складае разведзводкі, амаль увесь час праводзіць на назіральным пункце, нават начуе тут.

— Табе пісьмо,— паведамляе Філімонаў, з'явіўшыся на дзяжурства.

— Чаму не прынёс?

Філімонаў адчувае сябе вінавата.

— Учора на стале валялася. Хацеў прынесці. Забыў.

— Почырк які? — дапытвае Сяргей.

— Круглы, дзявочы. Літары як намаляваныя.

Па ўсіх прыкметах — пісьмо ад Галі. Аддзяжурыўшы, Сяргей кідаецца на ўскраіну горада, у размяшчэнне ўзвода. Аглядае стол, падаконнікі, закуткі кватэры. Ліста няма. Як у вадзе растаў. Услед за Філімонавым Грыбін пацвярджае — пісьмо было, почырк дзявочы, круглы. Сяргею плакаць хочацца — першы ліст ад Галі — і той прапаў.

Смірноў прыходзіць на дапамогу.

— Я табе гаварыў. Запішы адрас. Маргарыта — дзяўчына што трэба. Як ты — дзень і ноч чытае.

— Яна пісала табе?

— Адно пісьмо прыслала.

— Вот і пішы ёй.

— Дзівак чалавек. У мяне шэсць класаў. Яна ў інстытуце вучылася. Харошая дзяўчына. З выгляду і наогул. На шыю нікому не вешалася.

Сяргей запісвае адрас. У той жа вечар піша ліст незнаёмай Маргарыце. Пра сябе паведамляе: служыць ва ўзводзе

разведкі, адрас атрымаў ад баявога таварыша Смірнова. (Тут Сяргей падпусціў хвалы Маргарыце: Смірноў лячыўся ў шпіталі, дзе Вы працуеце, добра ведае Вас, і гэтак далей.) Найбольш месца ў лісце адводзіць Сяргей разважанням пра Ясеніна, Буніна, кнігі якіх толькі цяпер прачытаў. Разважанні не без задняй думкі: ён хоча ведаць, як ставіцца Маргарыта да гэтых для яго невядомых пісьменнікаў.

Ліст напісаны Маргарыце, а шчыміць у грудзях па Галі. Каб узвысіцца ў вачах Галі, ён гатоў паслаць ёй фотакартку, на якой зняты ў афіцэрскай форме.

Мог бы пазычыць у якога-небудзь лейтэнанта мундзір, у ім сфатаграфавацца. Мілаванаў, калі папрасіць, дасць гімнасцёрку з лейтэнанцкімі пагонамі. Толькі яна цесная Сяргею. Дый фатографа дзе знойдзеш...

Сяргей раней нават думкі не дапускаў, што будзе думаць аб такіх рэчах. Раней здавалася: вернуцца нашы — і наступіць шчасце, не будзе ніякіх супярэчнасцей, згрызот.

Узвод папаўняецца. Яшчэ аднаго дзівака прысылаюць — старшыну Мігайлу. З выгляду Мігайла суровы: жорсткія цёмныя вочы пад навіслымі брывамі, шырокія, з раздзьмутымі крыллямі ноздры. Старшына ў новым афіцэрскім абмундзіраванні, у наглянцаваных хромавых ботах.

У першы ж дзень Мігайла расказвае пра сябе рэчы незвычайныя. Ён, аказваецца, лётчык, лейтэнант, да звання Героя быў прадстаўлены, але пабіўся ў рэстаране з ваенным камендантам і быў паніжаны ў чыне да старшыны. Нібыта разбамбіў Мігайла мост у тыле немцаў, атрымаў дваццаць тысяч (паводле яго сцвярджэння, лётчыкі атрымліваюць палавіну вартасці знішчаных аб'ектаў). Атрыманыя, сумленна запрацаваныя грошы лётчык прапіваў у рэстаране, а тут раптам ваенны камендант захацеў вывесці з залы захмялелага героя. Вось і ўзнікла бойка...

Відаць, Мігайла — хвалько і манюка. Але чалавек неблагі. На дружбу імгненна адзываецца. У такія хвіліны жорсткія вочы пад навіслымі брывамі свецяцца прыязнасцю і цеплынёй.

Новага камандзіра ўзвода прыслалі. Малодшы лейтэнант Дзяніскін толькі што скончыў месячныя франтавыя курсы «Выстрал». Знешнасцю падобен да хлапчука-падлетка: белабрысы, нізенькі, шустры.

Дзяніскін хвіліну не можа пасядзець спакойна: бегае да афіцэра разведкі, у штаб, кожнай раніцы выстройвае ўзвод для праверкі наяўнага саставу. Яго брызентавая сумка шчыльна напакавана вайсковымі статутамі.

З першага дня ясна: Дзяніскін — службіст. Але гэта бяда невялікая. Галоўнае: характар у малодшага лейтэнанта памяркоўны. Нос Дзяніскін не задзірае, лішне не прыціскае. Што болей трэба?..

## II

Наступае Карэльскі фронт. Вызвалены Петразаводск. Поспехі на ўсіх франтах. Але вайна не закончана. Нават тут, на Карэльскім перашыйку. На поўнач ад Выбарга, на рацэ Вуокса, не спыняючыся, ідуць зацятыя баі.

Цяжка пасля двухтыднёвага, адносна спакойнага сонца зноў ісці ў бой, у пекла. Але роты, батальёны папоўніліся асабовым саставам, узбраеннем. Чуткі настойлівыя: з дня на дзень полк перакінуць на Вуоксу.

У палку ЧП: «самастрэл». Малады салдацік, які толькі што прыбыў з папаўненнем, прастрэліў сабе левую руку. «Самастрэлаў» лёгка выяўляюць: яны прыстаўляюць руку да ствала вінтоўкі ці аўтамата, і вакол раны ў скуру ўядаюцца крошкі парахавога гару.

«Самастрэлаў», як і дэзерціраў, жорстка караюць. Часта: трыбунал, расстрэл.

На гэты раз расстрэл паказальны — на гарадской плошчы. Ярка свеціць сонца. Паўкругам выстраены роты, батальёны. Злачынца — чарнявы, разгублены малады баец без пагонаў, рэменя — прыстаўлен да закуранай сцяны напаўразбуранага будынка. Грыміць залп — расстрэльвае цэлае аддзяленне. Баец падае. Да яго падыходзіць доктар з санчасці, перахлябісты, з доўгай шыяй старшы лейтэнант.

Полк з Выбарга выступае. Бывайце, горад, падвал, бібліятэка, белы дом над морам!

Гадзін праз шэсць калона спыняецца проста ў лесе. Значыць, яшчэ не на фронт. Выбухі чуюцца глуха.

Раздзяліўшыся, узвод будуе бліндажы: для сябе і афіцэра разведкі. Малюнак звычайны: зняўшы гімнасцёркі, Мігайла, Сяргей, Грыбін капаюць катлаван. Смірноў з Філімонавым пілуюць сосны.

Работы і на заўтра хопіць. Бярвенне на столь трэба ў два накаты пакласці. Канатнікаў для сябе патрабуе нават тры накаты.

Замест нараў — земляны выступ. Яго засцілаюць яловымі лапкамі. Наверх шынель — і спаць можна. Нават акенечка, дзверы майструюць разведчыкі. Для акенечка Мігайла раздабывае кавалак шкла.

Пад вечар Філімонаў прыносіць навіну. На суседняй паляне — больш шырокай, разлеглай — ваенны аэрадром. Фінскі ці нямецкі, цяпер наш. Абнесены калючым дротам, ахоўваецца. На аэрадроме базіруюцца дзяўчаты-лётчыцы. Тыя, што ноччу лятаюць на «кукурузніках». Філімонаў устанавіў кантакт, атрымаў запрашэнне.

Вядома, гэта падзея. Разведчыкі мітусяцца каля зямлянкі. Чысцяць боты, прышываюць падкаўнерыкі, бархоткай націраюць медалі, гвардзейскія значкі. Мігайла чамусьці да лётчыц не збіраецца. Спаслаўшыся на галаўны боль, рана кладзецца спаць.

Аэрадром на вузкай, роўнай паляне, да якой з двух бакоў падступаюць сосны. На ім чатыры ці пяць самалётаў. Фанерныя «У-2» здаляка нагадваюць вялікіх стракоз.

Дзіўна, як сярод скал, пагоркаў, камення магла ўтварыцца такая паляна. Мабыць, спецыяльна расчысцілі. Між соснаў відаць два прысадзістыя, барачнага тыпу, дамкі. На процілеглай ускраіне аэрадрома некалькі машын, у якіх замест кузавоў цыстэрны. Адразу ад лесу цягнецца драцяная, вышэй чалавечага росту, агароджа. За ёй — кучамі камяні. Відаць, іх сцягвалі ў крушні, каб расчысціць пляцоўку.

Сонца зайшло. У сасонніку хісткі, шэры прыцемак. Пара белых начэй на зыходзе. Разведчыкі прахаджваюцца ўперад-назад па ўбітай, наезджанай дарозе, якая вядзе да аэрадрома. У драцяной агароджы прароблена дзірка, і праз яе павінны вышмыгнуць на дарогу лётчыцы.

Іх няма, хоць маглі з’явіцца. Дамоўленасць была на пасляадбойны час. На адзінаццаць вечара.

Раптам гулка лапоча матор. На фоне яшчэ светлага неба ў праёмах між хваін мільгае, нібы цёмны цень, абрыс «кукурузніка».

Філімонаў прыглушана хахакае:

— Паляцелі птушкі. Пяхоце крыльцамі махнулі. Не прыйдуць.

— Прыйдуць,— спакойна пярэчыць Смірноў.— Я лётчыц ведаю...

Сяргей чамусьці таксама хоча, каб лётчыцы прыйшлі.

На дарозе шоргат ног, прыцішаныя смяшкі. Прыйшлі-такі лётчыцы. Іх пяць, і разведчыкаў пяць.

Нават у шэрані белай ночы можна разгледзець: на плячах дзвюх лётчыц лейтэнанцкія пагоны, адна, маленькая, нізенькая,— малодшы лейтэнант, яшчэ дзве лётчыцы — сяржанты. Добра, што сяржанты ёсць. Сярод разведчыкаў самы высокі тытул у Смірнова — старшы сяржант.

— Баяліся, што не прыйдзеце,— пачынае размову Смірноў з уласцівымі яму лагодна-насмешлівымі ноткамі ў галасе.— Думалі — на бамбёжку паляцелі.

Адказвае адна з лётчыц з лейтэнанцкімі пагонамі, вышэйшая ростам, мажнейшая паставай.

— Лятаем праз ноч. Вам, хлопчыкі, у другі эшалон не хочацца? На адпачынак...

У яе галасе як бы выклік.

Смірноў не любіць залішне сур’ёзных размоў:

— Заслужаных жанчын не шмат. Вас, лётчыц, пасля вайны на руках будуць насіць.

Размова пакрысе ажыўляецца. З-пад ценю дрэў лётчыцы і разведчыкі выходзяць на светлую прасеку.

— Тут блізка ёсць валуны,— гаворыць Смірноў.— Пойдзем туды. Тут нас убачаць.

Ён першы сігае ў цень, у лес. Лётчыцы ланцужком ідуць за ім. Шэсце замыкаюць разведчыкі.

Праз некалькі хвілін вачам адкрываецца прагал у лесе, густа завалены камянямі. Іх тут сотні. Яны ляжаць па адным і кучамі, нагрувашчаныя адзін на адзін. У няпэўным святле

белай ночы паляна здаецца населенай незнаёмымі страшыдламі.

Яны знайшлі некалькі блізка размешчаных адзін ад другога камянёў і паселі на іх кружком. Цяпер можна лётчыц лепей разгледзець. Усе яны ў пілотках, з-пад якіх выбіваюцца пасмачкі валасоў, у камандзірскіх гімнасцёрках. Ва ўсіх ордэны — па адным, па два,— нават у сяржантаў.

З разведчыкаў ордэн Чырвонай Зоркі толькі ў Смірнова. У астатніх — медалі «За адвагу» і гвардзейскія значкі. У Сяргея ніякай узнагароды няма.

— Вы разведчыкі? — пытае лётчыца, якая пачынала размову.

— Разведчыкі,— вясёлым голасам пацвярджае Філімонаў.

— Разведчыкі мне жыццё выратавалі. Мінулай вясной. Села ў фрыцаў, дзесяць кіламетраў да фронту не дацягнула. Думала, каюк. Якраз наша разведка на мяне натрапіла.

Смірноў весялее:

— Узаемавыручку наземных і паветраных войск трэба адзначыць. Выпіць хочаце?

У руках Смірнова фляжка ў варсістым футарале. Ён адкручвае накрыўку.

— Чысты спірт. На закуску маем галеты. З прадуктовых складаў праціўніка.

— Давайце знаёміцца,— гаворыць вышэйшая лётчыца.— Мяне завуць Маша. Прозвішча маё Кукушкіна.

— Смірноў Міхаіл.

— Філімонаў Васілій.

— Грыбін Аляксей.

— Каліноўскі Сяргей...

Маленькую лётчыцу, якая сядзіць насупраць Сяргея, завуць Галя. Галя Ігошына. Ён уздрыгнуў нават, пачуўшы яе імя.

Палыкнуўшы з фляжкі, Смірноў хоча аддаць яе Машы Кукушкінай. Але тая адмаўляецца:

— Піце першыя. Нам — што астанецца.

Дзіўнае відовішча. У шараватым святле белай ночы хісткімі, няпэўнымі здаюцца кучы валуноў, якія грувасцяцца на ўсім бачным прасцягу, купчастыя вяршаліны сосен, вастраверхія крыжы елак.

Паспелі выпіць Філімонаў, Грыбін. Смірноў зноў угаворвае Машу. Нарэшце яна згаджаецца. Затаіўшы дыханне, робіць невялікі глыток і зараз жа перадае фляжку Сяргею.

Спірту меней чым палавіна фляжкі. Не разлічыўшы дыхання, Сяргей падымае донца пасудзіны залішне высока. Вогненная вадкасць імгненна запаўняе рот, горла. На працягу хвіліны Сяргей — як выкінутая на бераг рыбіна. Зіпае ротам, не могучы прадыхнуць.

— Яшчэ разведчык,— зняважліва кідае Маша.— Спірту не ўмее піць.

Выручае Смірноў.

— Ён у нас герой. Замежныя мовы ведае. Нават фінскую.

Галя Ігошына, якая сядзіць насупраць Сяргея, сама бярэ фляжку з яго рук. У Галі паўнаваты стан, пад гімнасцёркай выразна вызначаюцца высокія грудзі, з-пад караткаватай спаднічкі раз-пораз паказваюцца белыя круглыя калені. Лётчыца ўвесь час абцягвае спаднічку, але калені ўсё адно высоўваюцца.

Сяргей заўважае: Галя, якая п’е пасля яго, не выцірае рыльца фляжкі рукой, як зрабіла Маша. Гэта імгненна напаўняе Сяргея радасцю: Галя не грэбуе ім. Галава кружыцца, лётчыцы, разведчыкі здаюцца Сяргею найлепшымі, найшчырэйшымі таварышамі, сябрамі, яму хочацца сказаць ім што-небудзь асаблівае, здзівіць іх, уразіць, але ён не знаходзіць патрэбных слоў.

— Можа, ёсць хто з Калініна? — пытае Галя.— Усю вайну шукаю земляка.

— Мы былі на фарміроўцы ў Калінінскай вобласці,— адказвае Сяргей.— Адтуль прыехалі пад Ленінград.

Лётчыцы адмаўляюцца, разведчыкі другі раз прыкладваюцца да рыльца фляжкі. Размовы робяцца залішне гучнымі.

Маша паказвае рукой у бок аэрадрома.

— Не шуміце. А то прачнуцца нашы дзяды. Якія нас і самалёты ахоўваюць. Нас болей, чым самалёты. Дзядам па сто гадоў, але за намі сочаць.

Лётчыцы, засланяючы рот далонямі, ціхенька хіхікаюць. Лапоча маторам самалёт. Усе змаўкаюць, прыслухоўваюцца. «Кукурузнік» шчасліва вяртаецца з задання.

Самі сабой ствараюцца парачкі, якія перабіраюцца на больш аддаленыя камяні. Першымі аддзяляюцца Смірноў і Маша Кукушкіна. Астатнія пары падымаюцца, крочаць у бок лесу, разбрыдаюцца па дарозе.

Сяргей астаецца з маленькай лётчыцай. Ногі ад няёмкага сядзення на камені зрабіліся нібы гумавыя, непаслухмяныя, і Сяргей ледзь перастаўляе іх. Ён збянтэжаны, узрушаны: ідзе з лётчыцай, яна мае афіцэрскае званне, ордэн, а ў яго ні лычкі на пагоне, ні медаля на гімнасцёрцы.

— Ты дзесяць класаў скончыў? — пытае лётчыца.

— Дзевяць.

— І я дзевяць,— Галя нібы ўзрадавалася.— З дзясятага пайшла ў аэраклуб. Колькі табе гадоў?

— Дзевятнаццаць.

Яна ціхенька захіхікала.

— Пацан. Я табе бабуляй магу быць. Мне дваццаць адзін. Дзе ты замежныя мовы вывучыў?

— Не ведаю я замежных моў. Толькі трохі нямецкую.

Галя глядзіць на Сяргея з прыхільнасцю. Як для бабулі, то вочы ў яе блішчаць залішне весела.

— У цябе ёсць дзяўчына? — пытае Галя.— Якая чакае цябе, пісьмы піша?..

— Тая, якая падабалася, не піша...

— Ну і чорт з ёй! — неяк залішне паспешліва заяўляе Галя.— Не трэба думаць пра вярціхвостак...

Чуюцца прыглушаныя галасы. Адна з парачак кіруе да каменя, ля якога стаяць Сяргей і Галя. Галя раптам абхоплівае Сяргееў твар рукамі, ушчыльную прыбліжае да свайго. Ён бачыць вялікія шэрыя вочы, шыракаваты, прыемны, засеяны вяснушкамі твар, чуе дотык пасмачкі валасоў, што выбілася з-пад пілоткі, гарачыню Галінай шчакі.

— У разведцы небяспечна? — у яе вачах як бы мільгае спалох.— Цябе могуць забіць?

— Могуць.

— Я не хачу, каб цябе забівалі! Чуеш, не хачу...

Яна ўсё мацней сціскае Сяргееў твар далонямі.

— У мяне быў друг. Вельмі, вельмі падобны на цябе. Мы разам у школе вучыліся. Я дурная была. Любіла яго і ні разу

не пацалавала. Ужо год, як ён загінуў. На Волхаўскім фронце. Хочаш, будзем перапісвацца...

Галасы побач. Галя абпаліла Сяргеевы вусны пацалункам і адразу адхінулася. Стаіць, папраўляе пілотку, вясёлымі вачамі глядзіць на Сяргея.

Парачкі сыходзяцца. Напаўголасу дамаўляюцца аб наступнай сустрэчы. На гэтым жа месцы. Заўтра лётчыцы занятыя, сустрэча прызначана на паслязаўтра.

Асцярожна ступаючы, кавалеры праводзяць сваіх сябровак толькі да дарогі. Стоячы пад соснамі, назіраюць, як яны адна за адной асцярожна пралазяць праз дзірку, зробленую ў драцяной агароджы.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

### I

Не паспелі снеданне прынесці, як каманда на марш. Прыціхаюць, хмурнеюць разведчыкі. Похапкам ладкуюць рэчавыя мяшкі, набіваюць дыскі патронамі, туга перапаясваюцца дзягамі, нацягваюць маскхалаты, плашч-палаткі з капюшонамі. Дзень няласкавы, хмурны, халодны вецер дыхнуў.

Калона расцягваецца, як змяя. Дарога вузкая, крывая, то па пагорках пятляе, то ў лагчыну-балацянку спускаецца. Водгулле далёкіх гарматных выбухаў чуваць.

Пад гарой байцы падпіхаюць плячамі палявыя кухні, якія дымяць на хаду — яны прычэплены да фурманак, нагружаныя снарадамі двухколкі, гарматкі — усё, што рухаецца на коннай цязе. Коні, падгінаючы жылістыя, з вузлаватымі шышкамі ногі, выбіваюцца з сіл.

З ціхім смуткам думае Сяргей пра поўненькую лётчыцу, якая мінулай ноччу прыхінулася, першая яго пацалавала. Такога ў сваім жыцці ён не ведаў. Увесь учарашні дзень хадзіў пад уражаннем незвычайнай сустрэчы. Спадзеючыся на новую сустрэчу, не спытаў у Галі, не запомніў нумар яе палявой пошты.

Праз усю вайну звініць у Сяргеевай душы мелодыя песні, якая запала ў душу апошняй мірнай восенню і з таго часу не забываецца. Песня яго юнацтва «Любімы горад» упершыню прагучала ў кінафільме «Знішчальнікі». Але запомніў ён яе не тады, калі глядзеў кіно. Быў другі выпадак: станцыя, закураны, задымлены буфет і маршчыністы, у чырвонаармейскім шынялі стары, які на гармоніку наігрываў ужо трохі знаёмую мелодыю.

Песня, мабыць, таму запомнілася, што нібы адбівала тое, пра што Сяргей думаў і марыў. Толькі не так у жыцці атрымалася, як у песні. Любімаму гораду спакойна спаць не прыйшлося, і каханая дзяўчына хутчэй за ўсё Сяргея не чакае. Затое другая нібы спусцілася да Сяргея з неба. Яна з таго, што ён, пакалення: вучылася ў школе, чытала кніжкі. Толькі ці сустрэне ён яе?

Разведчыкі ідуць у галаве калоны. Аб'яўлены прывал. Стаўшы на ўзбочыну дарогі, Сяргей прапускае паўз сябе ўзводы, роты. Шукае вачамі Васіля Лебедзя. Абнавіўся полк, папоўніўся новымі людзьмі. Рэдка ўбачыш знаёмы твар. Нарэшце Сяргей бачыць высокую Васілёву постаць. Васіль дыбае спакойна, паважна, у поўнай пяхотнай выкладцы. Цераз плячо акуратная скатка шыняля, за плячамі рэчавы мяшок, аўтамат, у брызентавым чахольчыку на дзязе сапёрная лапатка.

Некалькі хвілін яны ідуць поруч, перакідваюцца звычайнымі словамі. Нібы толькі ўчора развіталіся і заўтра зноў пабачацца. Адыходзячы, Сяргей падае Васілю руку. Сам не ведае, чаму так робіць.

Прывал закончаны. Добра, што дзень хмурны. На сонцы спякліся б. Тэмп хады не шпаркі, а гімнасцёрка на спіне мокрая. Ва ўсіх так. У каго гімнасцёрка падсохла, на ёй выразнымі белаватымі разводамі выступае соль. Ад поту, бо пот салёны. Многа солі ў арганізме чалавека.

Калона змяшалася. Наперадзе, ззаду, збоку крочаць незнаёмыя салдаты. Пераважна пажылога ўзросту. Некаторыя з вусамі, з сівой шчэццю на нявголеных скронях, з нягегла нацягнутымі на галаву пілоткамі. Мяркуючы па новеньких гімнасцёрках, на якіх ні адзнак за раненні, ні медалёў, гэта

новае, яшчэ не абстралянае папаўненне. Абстралянымі некаторыя з дзядзькоў хутчэй за ўсё былі ў сорак першым, пакаштавалі адступленняў, акружэнняў, можа, нават палону, з якога выбавіліся, дабрылі да сем'яў, перажылі акупацыю,— і цяпер зноў трапілі на вайну. Сорак чацвёрты год папаўняе шэрагі пяхоты дый другіх родаў войск часта такімі вот салдатамі.

Цвіце сунічнік, чарнічнік. Між хвой трапляюцца лапінкі верасу — такога, як дома. З балацянкі нясе церпкім водарам багуну. Можа, ён таксама цвіце? Сасонкі на балацянках тонкія, чэзлыя, з голымі, як штыкі, вершалінкамі. Амаль на кожнай з такіх вершалінак сядзіць нейкая шэрая птушачка.

Баі ідуць між азёр, каналаў, рэчак Вуоксінскай воднай сістэмы. Полк рухаецца туды. Сяргей ужо чуў гэтую назву — Вуокса. Але дзе, калі? Нарэшце ў памяці выплывае: «Вуоксаю рэчка завецца ў фінаў, Іматрай завуць вадаспад. Клакочуць, рагочуць Іматрыны хвалі...» Гэта радкі з верша Янкі Купалы «Над Іматрай». Вучылі яго ў трэцім ці чацвёртым класе.

Многа вайсковага дабра на дарозе і каля яе: працівагазы, зламаныя, перакінутыя коламі ўверх двухколкі, фурманкі, скруткі дроту, катушкі з кабелем, скрынкі ад снарадаў, мін. Нават міны, снарады, наваленыя кучамі на ўзбочыне дарогі, трапляюцца.

Начлег у лесе, пад соснамі. Хто хвойныя лапкі падсцілае, хто так, на зямлю, кладзецца. Грымоты паступова заціхаюць. Захінуўшыся ў шынель, кладучыся побач са Смірновым, Сяргей чуе прыглушаны голас старшыны Кіслякова, які размаўляе з Мігайлам:

— Секі-башка... Кругом озера, вада, между нім узкі рукаў. Па этат рукаў нада наступат...

## II

Траншэя старая, аплеценая па баках фашынамі. Асталася з нейкай мінулай вайны. Можа, нават з грамадзянскай, калі фінскія чырвонагвардзейцы зацята біліся з шуцкорам. У фінскую вайну, калі зямля была скавана маразамі, наўрад ці маглі выкапаць доўгую, з каленамі, згібамі траншэю.

Роты, батальёны палка займаюць перамычку між двума суседнімі азёрамі. Вораг садзіць па вузкай палосцы зямлі цяжкімі снарадамі.

Разведчыкі вядуць назіранне праз стэрэатрубу. На варожым баку бачны дымы, стаўбуры ўзнятай выбухамі бурай і жоўтай зямлі. Адны дрэвы вывернуты з карэннем, другія стаяць голыя, абцярэбленыя, з вострымі пікамі ствалоў. Трапляюць зялёныя стромкія хвоі, не зачэпленыя выбухамі. Гэта нават дзіўна, бо фронт тут стаіць на месцы больш як два тыдні.

Праз стэрэатрубу відаць прагал, ушчэнт ускапаны, пабіты на варонкі жаўтапёс. Між варонкамі шэрыя гурбачкі. Не адразу Сяргей зразумеў, што гэта трупы. Дыхнуў паўночны вецер, ад густога, саладкаватага смуроду стала цяжка дыхаць. Трупы на нейтральнай паласе.

Б'е артылерыя. Перад варожымі траншэямі снарады кладуцца густа, часта. Пачатак атакі. З траншэі, з левай стараны, няўклюдна вывальваецца сотня ці болей байцоў, спатыкаючыся, яны бягуць па зрытай варонкамі пляцоўцы. Іх адразу накрывае хваля выбухаў. Зацята татахкаюць, бумкаюць кулямёты. Прагал зацягвае дымам.

Дым развейваецца, відаць, як купка салдат, прыціскаючыся да зямлі, паўзе назад.

Калі шэрань белай ночы ахутвае лес, зямлю, старшына Кіслякоў прыносіць у траншэю тэрмас з супам. Сінія брыджы, гімнасцёрка старшыны ў жоўтым пяску. Поўз на жываце старшына. Цяпер так і будзе — яда раз у дзень. Пошты няма.

Малюнак назаўтра той самы: б'е артылерыя, роты падымаюцца ў атаку і тут жа адкатваюцца назад. Ніякага параўнання з пачаткам наступлення, калі ў ворага пад нагамі гарэла зямля, крышыліся камень, жалеза яго ўмацаванняў.

На трэцюю ноч Сяргей прабіраецца па траншэі з разведданясеннем для капітана Канатнікава.

Вельмі хочацца ўбачыць Васіля Лебедзя. Увесь дзень пра яго думаў.

Салдаты сядзяць хто на кукішках, хто прыхінуўшыся спіной да сценкі траншэі, а хто, падкурчыўшы ногі, схаваўшы нос у расшпілены каўнер шыняля, спіць.

Старшы лейтэнант, казах ці ўзбек, у перапэцканым глінай шынялі, насунутай да самых вачэй пілотцы — у ёй ён падобен на чорны зморшчаны грыб,— на згібе траншэі торгае Сяргея за рукаў.

— Я новы камандыр рота. Відэл тэбя ў нас. Твой таварыш пагіб. Лебедзь фамілій. Очэн іспалнытэлны, чэсны. Другой, каторы партызан, ранен. Сёняшні дзень.

У першую хвіліну Сяргей нічога не адчувае. Не сказаўшы ні слова старшаму лейтэнанту, ідзе далей. Потым вяртаецца. Запытальна глядзіць на камандзіра роты.

— Як загінуў Лебедзь?

— Как все. В атаке...

— Партызана старэйшага ці маладзейшага параніла?

— Маладой. Каторый очэн смелы.

Старшаму лейтэнанту няма чаго гаварыць. Прыгнуўшыся, ідзе ад Сяргея.

З тых, што ехалі ў маршавай роце на фронт, адзін Лявоненка астаўся. З мястачкоўцаў — нікога. Можа, ёсць хто ў другіх палках. Кора-Мікарай, Павел Арабейка, Андрэй Шпет... Даўно нікога з іх не бачыў Сяргей.

Думка прарэзалася назаўтра: ён не хоча жыць. Навошта жыць? Агітаваў таварышаў ехаць на фронт у адной маршавай роце. Паслухалі яго. Цяпер яны мёртвыя, ён жывы. Не мае права жыць.

Ён не можа ўявіць, як прыедзе ў мястэчка, што скажа, калі сустрэне маці Васіля Лебедзя, Косці Цітка ці іншых таварышаў. Таварышы ляжаць у зямлі, ён прыедзе. Дзеля чаго?..

Думка аб тым, што сёння ці заўтра ён загіне, прыносіць задавальненне. Дзіўна ён сябе адчувае: няма жаданняў, крыўд, страху, чаго-небудзь другога, што б звязвала яго з пясчанай, камяністай зямлёй, на якой ліецца кроў, людзі бязлітасна забіваюць адзін другога.

Ён блукае па траншэі, не прыгінаючыся. Чакае міны. Твар абдае подыхам смуроду, пяском. Жыхаюць каля вушэй асколкі. Ён нават не прысядае. Магутны інстынкт самазахавання, які да апошняга часу прымушаў падаць, хавацца ў кожную шчыліну, прыціскацца да зямлі, каб толькі выжыць, цяпер не мае ўлады над Сяргеем.

Ціўкаюць, свішчуць кулі. Высунуўшыся з траншэі, ён чакае. Няважна, куды ўдарыць куля — у галаву, грудзі. Абы — насмерць. Але яго куля, відаць, яшчэ не адліта.

Наўзбоч ад назіральнага пункта артылерысты ўстанавілі на прамую наводку саракапятку. Усцягнулі яе на гранітны гак, які прыкметна ўзвышаецца над мясцовасцю.

Ля артылерыстаў яму няма чаго рабіць, але ён вылазіць з траншэі, ідзе да іх. Стаіць, не хаваючыся, на каменным грудку нават тады, калі пасля некалькіх залпаў артылерысты сігаюць у траншэю.

Ён нібы кідае выклік пажылым байцам, у выгаралых гімнасцёрках, нязграбна нацягнутых на галаву пілотках, якія абслугоўваюць гарматку. Але ён не гуляе ў гульню, ён ва ўладзе ўтрапення. Стаіць і нецярпліва чакае, калі гарачы асколак нарэшце ўвап’ецца ў грудзі, прынясе збавенне ад халоднага, невыноснага суму.

Высокі, няголены старшы лейтэнант, камандзір батарэі, відаць, разгадвае хваробу, на якую Сяргей захварэў. Пасля варожага артналёту вылазіць з траншэі, падыходзіць, кладзе Сяргею руку на плячо.

— Не стой тут, баец. Гэта ў цябе ад нерваў. Перацярпі дзень-два — і пройдзе. Яшчэ дзякуй мне скажаш.

Так мінае дзень.

Сяргей не дакранаецца да яды, не бярэ тытуню. Прынёсшы ў тэрмасе суп, на яго люта накідваецца старшына Кісլякоў:

— Апустылся, как паследні баба. Вайна табе надаел. А мне не надаел? Твой баявой таварыш не надаел? Аўтамат недэлю не чысціл. Ствол каростам зарос. Бяры шомпал, масла — чысці!..

Яшчэ адзін дзень праходзіць у невыноснай халоднай самоце.

З раніцы пачынаецца шалёны варожы абстрэл. Нібы ў наступленне праціўнік збіраецца: густа, шчыльна садзіць з гармат, мінамётаў.

У траншэі, насупраць Сяргея, прымасціўся старшы лейтэнант, камандзір батарэі, які ўчора яго ратаваў. Трохі далей сядзяць незнаёмы маёр з адутлаватым, хмурным тварам, малады баец-тэлефаніст, у шынялі, з насунутай на галаву пілоткай, з

каробкай тэлефоннага апарата між каленяў. Усе нібы разгубленыя: даўно не бачылі такога агню.

Маланка бліскае на брустверы, у Сяргея над галавой. У нейкае імгненне ён яшчэ бачыць, як крывавыя плямы вырастаюць на грубашэрсным новым шынялі тэлеграфіста. Як валіцца на бок старшы лейтэнант, як, нібы нябачнай шабляй, перасякае твар маёра...

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

### I

Як сонца з-за хмар, на кароткія хвіліны вяртаецца свядомасць, і тады ён бачыць вялікага чорнага каня, на якім яго некуды вязуць, зялёную навісь хвой над галавой, разбірае паасобныя галасы. Калі фурманку кідае ўлева ці ўправа, на яго навальваецца невыносны боль, і, не маючы сілы вытрымаць яго, ён правальваецца ў прыемную бязважкасць, за якой канчаюцца пакуты цела. Галава лёгкая, нібы з ваты. У вачах сінія, зялёныя, чырвоныя кругі. Яны мігцяць, расшыраюцца, нарэшце чырвоных робіцца ўсё больш і больш, пакуль яны не пераходзяць у суцэльнае полымя.

Ад страшэннага болю ён расплюшчвае вочы. На нечым ён ляжыць. Жанчына ў белым халаце, з сінімі, нібы васількі, вачамі стаіць над ім і выцірае марляй з яго лба пот. Побач з жанчынай доктар — ягоны халат у крывавых плямах.

Ён нешта робіць з рукой. Боль ідзе ад рукі.

Як праз сон, ён чуе:

— Рана не страшная. Пералом касці на правай руцэ. Непрытомнасць ад кантузіі.

Колеры знікаюць. На змену ім прыходзяць гукі. Шматлікія, разнастайныя. Ён нібы чуе, як шумяць сосны над галавой, як б’ецца хвалямі аб гранітныя скалы мора, як шасцяць асколкі, папіскваюць, ціўкаюць, нібы перагукваюцца, кулі між сабой. Бясконцы шум, звон у вушах пераходзіць у пранізлівы свіст.

Гукі закалыхваюць, ні на хвіліну не выпускаючы з-пад сваёй аблады.

Ён ачнуўся на дванаццаты дзень. За гэты час, толькі зрэдку прыходзячы ў прытомнасць, пабываў у медсанбаце, дзе апрацавалі рану, узялі руку ў гіпс, і ў перасыльным шпіталі. У санітарны цягнік са шпіталя яго не паслалі. Ленінградскі фронт на Карэльскім перашыйку наступальныя дзеянні спыніў, новых параненых паступае мала. Няма каго змяшчаць у санітарныя цягнікі.

Дні аднастайныя, панылыя. З кутка пакоя глядзіць на Сяргея чорным, вострым, як свярдзёлак, вокам танкіст з нашчэнт перабінтаваным тварам. Другі паранены ці кантужаны, у шэрым, як у арыштанта, халаце, абхапіўшы рукамі сагнутыя ў каленях ногі, сядзіць на ложку, ціха пагойдваючыся.

У Сяргея халата няма. Ён у адной бялізне. Цяпер ведае: яго кантузіла выбуховай хваляй міны, якая разарвалася на брустверы, над галавой, пераламала руку. Рука ў гіпсе — тоўстая, як булава, непадатлівая, вісіць на марлевай перавязцы. Гіпс, марля пачарнелі ад бруду, на іх непрыемна глядзець. У вушах пішчыць, ціліўкае. Носам ён не ўспрымае ніякіх пахаў.

Сяргеем валодае паныла-абыякавы настрой. Нячутна з'яўляецца палатная сястра, прыходзіць доктар, таксама жанчына. Спыняюцца ля ложка, гартаюць сшытачак гісторыі хваробы, мераюць тэмпературу.

— Я цябе з лыжкі карміла,— гаворыць сястра, немаладая, з задуменным, круглым тварам жанчына.— Ты быў як нежывы...

Яе словы не робяць на Сяргея ніякага ўражання.

— Дзе табе баліць?

— Нідзе.

— У галаве шуміць?

— Шуміць.

— Кантузія,— тэпаючы ў разлезлых пантофлях каля ложка, гаворыць сястра.— Па паўгода такія ляжаць, па году. Балезня нервенная.

Нібы апомніўшыся, перапытвае:

— Гіпс не знімаюць?

— Не знімаюць.

Сястра цяжка ўздыхае:

— Значыць, косць не зрастаецца.

З ложка, на якім ляжыць танкіст з забінтаваным тварам (Сяргей ведае — ён стралок-наводчык), чуецца злосны голас:

— Не каркайце, мамаша.

Сястра не крыўдзіцца:

— Ляжы, касацік, ляжы. Табе нельга хвалявацца. Зусім нельга.

Чалавек, які сядзіць на ложку, дробненька — нібы боб перасыпае — смяецца.

Дні наўсцяж Сяргей ляжыць. Фізічна ён акрыяў дастаткова, можа хадзіць, размаўляць, як робяць усе, у каго больш-менш зажылі раны.

Іншая хвароба апанавала яго істоту — абыякавасць. У яго няма жаданняў, нават родны дом, мястэчка, знаёмых дзяўчат не хоча ўспамінаць. У ранейшым жыцці кожную вольную хвіліну ён выкарыстоўваў для чытання. Цяпер на тумбачцы ляжаць дзве кнігі — «Запіскі Піквікскага клуба» Чарльза Дзікенса і яшчэ адна, без вокладкі, якую прынесла сястра. Ён нават не пацікавіўся, як называецца кніга, у якой адарваны вокладкі.

## II

Шпіталь у трохпавярховым цагляным будынку. Калі падысці да акна, можна ўбачыць шырокі, нібы пляц, двор, замошчаны каменем, агароджаны масіўнай жалезнай рашоткай. На двары вялікімі ярусамі стаяць школьныя парты, вынесеныя з пакояў,— у будынку шпіталя раней размяшчалася школа. Яна збудавана на пагорку, таму з акна відаць не толькі дамкі прылеглай вуліцы, а і наступнай, размешчанай унізе, ля падножжа пагорка. Вокны ў дамах расчыненыя, у некаторых выбітыя шыбы, вецер шастае занавескамі, нібы сцягамі. Але на некалькіх падаконніках стаяць кветкі, вокны адчыняюцца, зачыняюцца. Значыць, у кватэрах з’явіліся жыльцы.

Дні сонечныя, нават гарачыя. Лета ў разгары.

У танкіста знялі з твару бінты: твар абпалены, увесь у чырвона-белых пісягах. Ноччу Сяргей не спіць і чуе, як стралок-наводчык, прыдушваючы ўсхліпы, плача і плача.

У Сяргея таксама знялі гіпс, але зараз жа налажылі новы: косць дрэнна зрастаецца.

Сястра глядзіць на Сяргея з жалем. Месяц мінуў, як ён у палаце. Людзі з цяжэйшымі ранамі павыпісваліся, а ён ляжыць. Кантузія...

— Ты пісем не палучаеш? — пытае сястра.

— Не палучаю.

— Я тваёй маці напішу.

— Пішыце.

— Скажы адрас...

— У журнале рэгістрацыі ёсць.

— Скажы сам...

Сяргей называе дамашні адрас. Але дыктаваць пісьмо ў палаце не хоча. Яны з сястрой ідуць доўгім калідорам, заходзяць у пакойчык, які служыць ізалятарам. Тут толькі ложак і тумбачка. Сястра прымошчваецца ля тумбачкі, Сяргей стаіць.

— Гавары, што пісаць...

— Жывы, папраўляюся пасля кантузіі ў шпіталі. Рана лёгкая.

— Я напішу «дарагая мама»...

— Пішыце.

Яна піша хімічным алоўкам, пакрываючы бялюткі лісток глянцавай фінскай паперы вялікімі круглымі літарамі.

— Напішу, што перадаеш прыветы родзічам, знаёмым...

— Пішыце...

Ліст невялікі — адна староначка. Сястра складвае яго трохкутнічкам, надпісвае адрас.

— Танкіста пераселім. Палата псіхаў. Адзін плача, другі смяецца.

Ноччу думкі — як узбуджаныя восы. Ад іх трэба бараніцца, нават ратавацца. Кожнай ночы шукаць пункт апоры.

Сястра прыносіць газеты. Навіны добрыя. Далёка рушылі савецкія войскі. Перайшлі румынскую, польскую граніцы.

Танкіста з палаты забралі. Суседа завуць Цімафей. Цімафей Васільевіч Ільін. Сяржант. Разам з кадравай служыць у арміі

ўжо шэсць гадоў. У шпіталі чацвёрты раз. Два раненні былі цяжкія — праляжаў амаль па году.

— Калі ты ваяваў? — пытае Сяргей.

— У перапынках між раненнямі,— сяржант хіхікае.

У Ільіна таксама няма жаданняў. Нібы плыве па цячэнні. Ні на каго не крыўдзіцца, нічога не просіць для сябе.

Сяргею выдалі шэры халат. Цяпер ён выходзіць на двор. Тут зусім іншы свет. Параненыя, якія могуць хадзіць, ва ўсіх кутках гуляюць у самаробныя карты. Нават на грошы. Жартуюць, рагочуць, набіваюцца на дружбу з сёстрамі. Нібы не было фронту, жахаў, крыві, смерці.

— У цябе быў таварыш? — пытае Сяргей у Ільіна.— Тут, на фронце.

Сяржант кідае на Сяргея спалоханы позірк. Аб сур'ёзным гаварыць не хоча. Саўладаўшы з сабой, пераходзіць на насмешлівы тон:

— На фронце ўсе таварышы...

Параненыя на мыліцах чыкільгаюць па замошчаным каменем двары. Калі не віжуе сястра, сігаюць у дзірку, спецыяльна прарабленую ў жалезнай агароджы. Прыносяць выпіўку, паціхеньку частуюцца. Смяюцца.

У газетах пераможны тон. На Гітлера яшчэ ў ліпені быў зроблены замах, саюзнікі ўступілі ў Парыж. Год назад такой парой былі вызвалены Арол і Белгарад. Колькі за год усяго перамянілася!..

Гіпс нарэшце знялі. Два месяцы была рука ў палоне. Яна белая, кволая, увесь час свярбіць. Але ёю можна варушыць, падымаць не вельмі цяжкія прадметы. У вушах не так моцна шуміць, а нюх не аднаўляецца. Сяргей не ўспрымае ніякіх пахаў. Нават самых вострых.

На школьным двары растуць дубы. Высокія, купчастыя. Сяргей цяпер выбіраецца і за межы двара. Хоць у бальнічным халаце далёка ад шпіталя не адыдзешся.

Гарадок з ліку вызваленых на Карэльскім перашыйку. Ён невялікі, але раскіданы.

Сяргей атрымлівае адразу два лісты — з дому і ад Алімпіяды.

Алімпіяда паведамляе: набраўся дзясяты клас. З кастрычніка пачнуцца заняткі. У дзясяты клас пойдуць дзяўчаты, якіх Сяргей добра ведае. Адзін хлопец таксама будзе займацца ў дзясятым — Мікалай Пракопчык. Тут, на Карэльскім перашыйку, у пачатку наступлення, яго параніла, пасля шпіталя Пракопчыка камісавалі.

Ланцугі халоднай абыякавасці да жыцця, якія трымалі ў сваёй абладзе Сяргееву душу, нарэшце спалі. Сяргей піша ліст за лістом знаёмым дзяўчатам, хоча дазнацца пра лёс астатніх хлопцаў, з якімі разам паехаў на фронт і якія трапілі ў іншыя палкі. З прагнасцю ўслухоўваецца ў размовы тых, што пакідаюць шпіталь. Са шпіталя накіроўваюць на перасыльны пункт, там фарміруюць маршавыя роты. Праз тыдзень ці нават хутчэй Сяргея са шпіталя выпішуць. Вайна ў шэрагу мясцін перакрочыла рубяжы роднай зямлі, але яшчэ не скончылася. На які фронт ён трапіць?..

*1970—1978*

## ГЛЫБІНЯ РАМАННАГА МЫСЛЕННЯ

Структура выдання не дазволіла паяднаць пад адной вокладкай усе раманы, «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967) і «Сорак трэці» (1973), што складаюць ваенную трылогію І. Навуменкі. Але пры гэтым склалася новае, досыць сімвалічнае адзінства — у пятым і шостым тамах Збору твораў сабраны чатыры раманы пісьменніка пра вайну.

Ідэйна-эстэтычная сунабліжанасць гэтых тэкстаў сумненняў не выклікае. І, дарэчы, у першых рэцэнзіях, што з'явіліся пасля выхаду ў свет рамана «Смутак белых начэй» (1979), пытанне пра магчымасць далучэння новага твора да трылогіі, якая ў такім выпадку набывала б статус тэтралогіі, заканамерна ўзнікла.

Так, А. Марціновіч у водгуку «…А ў памяці гэтай — сэрца боль», змешчаным у газеце «Знамя юности» (1980, 10 жніўня), адзначае: «…неістотна, што прозвішчы, імёны ў герояў розныя, лёсы — падобныя, ці, больш дакладна, тыповыя для свайго пакалення, для свайго часу…» І ў працяг думкі дадае: з персанажамі новага рамана «мы добра знаёмыя па іншых творах пісьменніка. Сёння ж — новыя ваенныя абставіны, не менш, а нават больш суровыя».

У газеце «Гомельская праўда» за 12 снежня 1979 года можна прачытаць матэрыял «Балючая памяць белых начэй». Л. Краўчанка выказваецца тут яшчэ больш катэгарычна: «Новы твор з'яўляецца арганічным прадаўжэннем вядомай ваеннай трылогіі» І. Я. Навуменкі. У рэцэнзіі адзначаецца, што ў аналізуемым рамане дамінуе тая самая тэма ваеннага юнацтва, якая ўсебакова даследавалася пісьменнікам і ў раманах «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці».

У 1981 годзе пра тое, што «Смутак белых начэй» з'яўляецца «лагічным працягам вядомай трылогіі», гаворыць Л. Піскун (матэрыял «Смутак трывожных начэй», газета «Звязда» за 17 чэрвеня), па-

добнае меркаванне («Храналагічна, сюжэтна і ідэйна твор працягвае трылогію…») сустракаецца таксама ў рэцэнзіі З. Прыгодзіча «Вернасць сваёй тэме», змешчанай у часопісе «Полымя» (№ 4) — аднак словы такія ўжо гучаць тут як запозненае рэха папярэдніх, у многім заснаваных на эмоцыях і адчуваннях, ацэнак.

Да гэтага часу пытанне пра суадносіны раманаў «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» і «Смутак белых начэй» у беларускім літаратуразнаўстве было фактычна вырашана. У газеце «Літаратура і мастацтва» (1980, 5 снежня) В. Каваленка надрукаваў вялікі артыкул «Смутныя колеры вайны», у якім доказна і пераканаўча засведчыў: даследчыкам варта прыслухацца да волі самога пісьменніка і прызнаць, што паколькі І. Навуменка настойвае на размежаванні раманнай трылогіі пра вайну і новага свайго твора пра падзеі на Поўначы, на Ленінградскім фронце (у сувязі з гэтым варта адзначыць найперш надрукаванае ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1979, 28 верасня), інтэрв'ю пісьменніка, у якім ён выказаў наступную думку: «Тры раманы — «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці»,— я думаю, можна аб'яднаць адной назвай — «Акупацыя». Ва ўсіх трох раманах праходзіць партызанская тэма, тэма змагання супраць нашэсця фашыстаў ва ўмовах акупацыі. І трэба было расказаць пра акупацыю, прытым трэба было расказаць з усімі перыпетыямі. Спадзяюся, мне ў гэтых трох раманах нешта ўдалося ў дадзеным сэнсе»), паколькі ў такой пісьменніцкай пазіцыі праглядаюцца сур'ёзныя аб'ектыўныя перадумовы і прычыны — для размоў пра фармальнае паяднанне чатырох раманаў у адзіны цыкл падстаў ніякіх не існуе.

Ёсць сэнс узгадаць, на якія ж аргументы спасылаўся, каб падмацаваць сваю думку, В. Каваленка, многія выказаныя ім у 1980 годзе меркаванні, як падаецца, уяўляюць цікавасць і ў нашы дні.

Аўтар матэрыялу «Смутак трывожных начэй» падкрэслівае, што сапраўды, пры першым знаёмстве з творамі можа ўзнікаць уражанне непарыўнай блізкасці новага рамана і ўжо вядомай чытачу ваеннай трылогіі І. Навуменкі. Усё так, «Смутак белых начэй» зноў жа твор у многім аўтабіяграфічны, «больш таго, храналагічна ён з'яўляецца непасрэдным працягам папярэдніх раманаў. Таму натуральна ўзнікае пытанне, чаму аўтар не пашырыў цыкл сваіх раманаў, а стварыў асобны раман з героямі, якія па агульным абліччы вельмі нагадваюць герояў з папярэдніх раманаў і маюць толькі іншыя прозвішчы?»[1]

---

[1] Каваленка, В. Смутныя колеры вайны / В. Каваленка // ЛіМ.— 1980.— 5 снеж.— С. 5.

Спрабуючы адказаць на пастаўленае пытанне, даследчык найперш звяртае ўвагу на тое, што: «Абставіны вайны вырывалі рэальнага прататыпа, гэта значыць самога аўтара, з таго асяроддзя, якое было дзеючым фонам у раманах «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці». Застаючыся нязменна верным аўтабіяграфічнаму прынцыпу, І. Навуменка ніяк не мог ні пакінуць героя ў звыклым асяроддзі, ні перанесці гэтае асяроддзе ўслед за героем. Гэта, так сказаць, фармальная прычына»[1], згодна з якой тэксты папярэдніх і новага раманаў неабходна размяжоўваць, не спрабуючы штучна злучыць іх у межы адзінага раманнага цыкла.

Нагадвае В. Каваленка і яшчэ пра адзін, надзвычай істотны аспект: «Як памятае чытач, галоўны герой трох папярэдніх раманаў Міця Птах меў фізічны недахоп, накульгваў. З-за аднаго гэтага Міця ўжо не мог перайсці ў новы раман… Міцю як інваліда не маглі ўзяць у армію»[2].

Відавочна, што І. Навуменка, задумваючы твор пра падзеі на Ленінградскім фронце і вырашаючы пытанне, якія ж вобразы стануць стрыжнявымі ў новым рамане, вымушаны быў улічваць калецтва Міці Птаха, разважаць пра магчымасць альбо немагчымасць выкарыстання гэтага персанажа ў плануемых на будучае раманах і аповесцях.

І калі перачытваеш «Сорак трэці», заўважаеш адразу: згадка пра накульгванне маладога падпольшчыка, потым партызана Птаха ў тэксце завяршальнага рамана трылогіі гучыць толькі аднойчы. На гэты недахоп мясцовага хлопца звяртае ўвагу эсэсавец, які з’едліва цікавіцца ў напарніка, пра што ж можна было так захоплена гаварыць у прыстанцыйным скверы з кульгавым мясцовым юнаком, ці не пошукі тут новага сяброўства?

У адказ гучыць трывіяльнае, маўляў, праз падобныя гутаркі толькі і можна ўдасканаліць веданне мясцовай мовы, на гэтым згадка фактычна перапыняецца, болей, паўторым яшчэ раз, пра калецтва Міці ў «Сорак трэцім» гаворка не ўзнікне — і гэта момант, на нашу думку, істотны.

Па-першае, тут варта гаварыць пра цікавы прыём, які выкарыстоўваецца І. Навуменкам для стварэння фонавай псіхалагічнай атмасферы ў творы, пра адзін са сродкаў адлюстравання ўнутранага псіхалагічнага стану персанажаў. Бо пакуль маладыя падпольшчыкі шукалі сваё месца ў шэрагах барацьбітоў, пакуль у іх душах панавалі

[1] Каваленка, В. Смутныя колеры вайны.— С. 5.

[2] Тамсама.

няпэўнасць і сумненні — калецтва Міці, востра адчуваемае ім самім, адразу кідалася ў вочы і тым, хто побач, сябрам і староннім людзям; цяпер юнакі адчулі сваю далучанасць да сапраўднай справы, яны бачаць, адчуваюць сябе патрэбнымі — і гэтая маналітнасць унутранага стану, гэтае гарэнне адзінай задачай, адзінай мэтай прымушае іх узднімацца над уласнымі фізічнымі недахопамі, забывацца, не думаць пра іх. Прыгадаем, нават калі размова ўзнікае пра калецтва Міколы Лобіка, пра яго страчаную пры падрыве міны руку — у хлапечых развагах пераважае найперш чыста практычны, «як для справы лепей», аспект: трагедыя, якая адбылася з таварышам, аб'ектыўна спрыяе падпольшчыкам («Нават адзін раз не проста выбрацца з мястэчка. Мікола ж выбіраецца па два разы на тыдзень»), шмат у чым спрашчае ім задачу забеспячэння сувязі з партызанскім лесам. І пра фізічны стан Лобіка хлопцы ўзгадваюць выключна ў сувязі з гэтым, у нечым утылітарным, аспектам.

З іншага боку, чаму не палічыць, што аўтар, задумляючыся пра перспектывы далейшых твораў, не пачынае ў завяршальнай кнізе партызанскай трылогіі рыхтаваць глебу пад пераўтварэнне Міці Птаха ў чырвонаармейца, пры такім раскладзе размовы пра калецтва таксама павінны былі б перапыніцца. І, дарэчы, як тут не прыгадаць адзін з момантаў рамана, той дыялог Міці Птаха і агранома Драгуна, які адбыўся ўжо ў кастрычніку 1943 года, перад самым вызваленнем Бацькавіч, на лугавіне каля партызанскай вёскі:

«— Што будзеш рабіць, як прыйдуць нашы? — пытае Драгун.

Міця не ведае. Не думаў пра гэта. Ён баіцца аднаго — каб наступленне не супынілася.

— Пойдзеш у армію. Мяне, мабыць, тут пакінуць. Аграном усё-такі. А ты пойдзеш. Вайна яшчэ не скончыцца. Яшчэ ляжа народу...»

Як бачым, верагоднасць прызыву Міці ў армію разглядаецца ўсур'ёз, яна не адпрэчана. Прыгадаем інтэрв'ю І. Навуменкі, апублікаванае ў 1984 годзе. У той размове, адказваючы на пытанні, якія падрыхтаваў Г. Сіненка, пісьменнік зазначыў: «Калі хопіць сілы і часу, я і чацвёрты раман з гэтага цыкла напішу. Тады ўсё ўсталюецца, лепш будзе бачна, што дадаць альбо прыбраць у кожным з раманаў»[1].

Вось так: 1984 год, «Смутак белых начэй» ужо напісаны і выдадзены — а перспектыву напісання рамана, які стане працягам і лагічным завяршэннем сваёй ваеннай, «бацькавіцкай» трылогіі,

---

[1] Синенко, Г. Из реки по имени факт / Г. Синенко // Неман.— 1984.— № 9.— С. 162.

пісьменнік яшчэ не закрэсліў, твор пад умоўнай назвай «Фронт» па-ранейшаму прысутнічае ў яго творчых планах. Міця Птах, як лічыць І. Навуменка, усё яшчэ можа, павінен прайсці выпрабаванне фронтам.

І гэта зноў жа сведчыць: В. Каваленка, безумоўна, меў рацыю, калі засцерагаў у 1981 годзе калег ад паспешлівых спроб штучна паяднаць чатыры вонкава нібы сунабліжаныя раманы І. Навуменкі пра вайну. Даследчык адзначаў: «Прыроджанае фізічнае калецтва Міці навочна, так сказаць, фарміравала думку, якая наскрозь пранізвае змест усіх трох раманаў, што героі пісьменніка ўключыліся ў змаганне з ворагам не таму, што да гэтага іх абавязваў існуючы афіцыйны распарадак ці загад… Зразумела, што давядзенне падзей у канцы рамана «Сорак трэці» да моманту вызвалення поўнасцю вычэрпвала ідэйную праблематыку ўсіх трох звязаных паміж сабой сюжэтна раманаў»[1], для рамана «Смутак белых начэй» характэрны ўжо іншы вектар ідэйна-эстэтычных пошукаў.

Адпаведна і ў наш час адзіна карэктнай бачыцца наступная паслядоўнасць асэнсавання ўключаных у шосты том Збору твораў І. Навуменкі: найперш разглядаецца раман «Сорак трэці», які завяршае трылогію — і ўжо потым вядзецца размова пра «Смутак белых начэй».

Паколькі ж першыя два раманы ваеннай трылогіі, «Вецер у соснах» і «Сасна пры дарозе», увайшлі ў пяты том Збору твораў І. Навуменкі, лагічна будзе і ў літаратуразнаўчым каментарыі зрабіць разгорнутае адступленне, вярнуцца да пасляслоўя, змешчанага ў папярэдняй кнізе выдання, і нагадаць чытачу асноўныя тэзісы, якія ўжо прагучалі ў артыкуле І. Шаладонава «Сасна, яе сімвалічны код і станаўленне раманнага мыслення І. Навуменкі».

Дарэчы, раман «Сорак трэці» пісьменнік таксама пачынае з рэтраспектыўнага ўзнаўлення эпізодаў, якімі завяршаецца раман «Вецер у соснах». Думаецца, гэтым І. Навуменка імкнуўся падкрэсліць і непарыўнасць ідэйных і сюжэтных ліній, што яднаюць раманы ў трылогіі, і той факт, што ў пэўнай ступені «Сорак трэці» варта разглядаць як твор самастойны, які не патрабуе ад чытача абавязковага азнаямлення з папярэднімі двума раманамі трылогіі.

Праўда, У. Юрэвіч у свой час настойваў на правамоцнасці трохі іншага вытлумачэння разглядаемай з'явы: «На самым пачатку ра-

[1] Каваленка, В. Смутныя колеры вайны.— С. 5.

мана «Сорак трэці» перад намі ўзнікае «масток», перакінуты ў ранейшае, каб акрэсліць няспыннасць змагання…»[1] Але гэта хутчэй публіцыстычная, эмацыянальная ацэнка — малаверагодна, каб моманты структурныя, каркасныя для рамана, прадвызначаліся толькі імкненнем «акрэсліць няспыннасць змагання», для пісьменніцкай манеры І. Навуменкі гэта звычайна неўласціва.

Заўважым: і надалей у «Сорак трэцім» будуць сустракацца, найперш у дыялогах, прыпаміны пра мінулае, закліканыя праясніць моманты, якія б маглі выклікаць недаўменне ў тых, хто чытае твор і не ўяўляе, пра што ж ішла размова ў раманах «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах». Тэмпарытм аповеду пры гэтым непазбежна запавольваецца, але пісьменнік, звычайна вельмі чуйны да пытанняў дынамічнасці сюжэтнага разгортвання, свядома нечым ахвяруе і паслядоўна вытрымлівае сваю лінію, імкнецца забяспечыць аўтанамізаванасць тэксту, яго самакаштоўнасць, пазбаўленую ад неабходнасці аглядацца на першыя два раманы трылогіі.

Дадзеную аўтанамізаванасць (не толькі «Сорак трэцяга», усіх раманаў трылогіі) заўважыў і П. Дзюбайла, ён у манаграфіі «Беларускі раман» засведчыў: «Відаць, неправамерна падыходзіць з аднымі і тымі ж мастацкімі крытэрыямі да раманаў «Сасна пры дарозе» і «Сорак трэці». Розныя былі творчыя задумы, самі падыходы да жыццёвага матэрыялу — у выніку натуральна з'явіліся розныя творы па сваёй маштабнасці, танальнасці, па месцы і значэнні ў іх галоўных герояў»[2].

Кожны твор нешта дадаваў, нешта праясняў у сумарнай панараме, якая павінна была скласціся пасля завяршэння ўсёй трылогіі — і невыпадкова І. Шаладонаў, услед за ацэнкай А. Лойкі, пачынае развагі пра раманы «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах» з вызначэння звышмэты, закліканай абумовіць асноўную танальнасць выдання, і звышмэта дадзеная, як лічаць даследчыкі — «далучэнне да жыцця народнага»[3].

---

[1] Юрэвіч, У. Маральная актыўнасць чалавека / У. Юрэвіч // ЛіМ.— 1974.— 24 мая.— С. 4.

[2] Дзюбайла, П. Беларускі раман / П. Дзюбайла.— Мінск, 1982.— С. 67.

[3] Шаладонаў, І. Сасна, яе сімвалічны код і станаўленне раманнага мыслення І. Навуменкі / І. Шаладонаў // І. Навуменка. Збор твораў: у 10 т.— Мінск, 2015.— Т. 5.— С. 687.

Прыслухаемся да думкі Л. Піскун: «Структура трылогіі дакладная і лагічная: тры кнігі храналагічна адлюстроўваюць тры этапы вайны. Першы звязаны з перыядам нараджэння і дзейнасці партызанскага падполля, тут увага канцэнтруецца на перыядзе ўсенароднага руху супраціўлення («Сасна пры дарозе»), другі этап — пераход да стварэння баявых адзінак, партызанскіх атрадаў і злучэння («Вецер у соснах»), трэці — паказ масавага ўсенароднага супраціўлення, якое прывяло да пералому ў вайне («Сорак трэці»)»[1].

Блізкую да гэтай ацэнку сустракаем і ў артыкуле «Тваё пакаленне» І. Шамякіна: «Геаграфічная лакалізацыя сюжэта не перашкодзіла пісьменніку стварыць абагульняючыя карціны беларускага падполля, партызанскага руху. Без спрашчэння і прыхарошвання гісторыі Навуменка раскрывае складаныя калізіі розных этапаў народнага супраціўлення»[2].

І яшчэ тры цытаты: «У другой і трэцяй частцы трылогіі пісьменнік прасочвае нарастанне руху супраціўлення, зліццё падпольнай і партызанскай барацьбы»[3]; «Вайна супраць фашызму няўхільна і непазбежна станавілася ўсенароднай. Такую думку сцвярджае пафасам сваіх раманаў І. Навуменка, хоць непасрэднае дзеянне ў іх разгортваецца толькі ў двух палескіх раёнах»[4]; «Аналізуючы такія вядомыя раманы І. Навуменкі, як «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», наша крытыка аддала належнае высокапрафесійнаму і праўдзіваму мастацкаму слову пра партызанскую вайну. Але, як нам уяўляецца, сказана пра іх яшчэ далёка не ўсё. Мы, відаць, не да канца заглыбіліся тут у сам працэс пакутлівага, ачышчальнага збліжэння чалавека з агульналюдскім маральным досведам у цяжкіх экстрэмальных жыццёвых умовах. І. Навуменка дапамагае нам зразумець, што сапраўдны катарсіс асобнай чалавечай душы, яе ўзлёт і ўзвышэнне адбываецца менавіта тады, калі ёй удаецца стаць арганічнай часцінкай трывог і болю іншых людзей. Толькі ў такім выпадку, як можна заўважыць, гэта душа становіцца па-сапраўднаму чулай, успрымлівай, мужнай і свабоднай, самаахвярна бясстрашнай нават

---

[1] Піскун, Л. Іван Навуменка / Л. Піскун.— Мазыр, 1997.— С. 121.

[2] Шамякин, И. Твое поколение / И. Шамякин // Литературная газета.— 1977.— 13 июля.— С. 5.

[3] Васючэнка, П. Іван Навуменка / П. Васючэнка // Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.: у 4 т.— Мінск, 2001.— Т. 3.— С. 699.

[4] Бугаёў, Д. Іван Навуменка / Д. Бугаёў // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: у 2 ч.— Мінск, 1982.— Ч. 2.— С. 389.

перад немінучай сустрэчай з нейкай грубай, жорсткай і злой воляй-прымусам»[1].

Як бачым, размова сапраўды вядзецца пра фундаментальны, структураўтваральны для трылогіі паказчык, «далучэнне да жыцця народнага» засталося звышмэтай для пісьменніка, у тым ліку ў завяршальным творы трылогіі, у рамане «Сорак трэці».

Кампазіцыйным цэнтрам расповеду застаўся ў трэцім рамане і вобраз-сімвал сасны, надзвычай важны (гэта адбілася нават у назве змешчанага ў пятым томе Збору твораў пасляслоўя) для першых раманаў трылогіі. І менавіта з улікам выказаных у пасляслоўі да пятага тома Збору твораў літаратуразнаўчых ацэнак і меркаванняў хацелася б аспрэчыць думку, якую агучыў А. Аўчарэнка ў сваім артыкуле «Трылогія». Вядомы даследчык палічыў, што «кампазіцыйнае фінальнае кальцо», якое вяртае нас у канцы рамана туды, адкуль распачынаўся расповед, наўрад ці сталася вялікай удачай аўтара. Ці не лепш было б, каб твор застаўся разамкнутым, пазначаным гатоўнасцю разгарнуцца ўдалеч і ўшыркі?»[2]

Думаецца, не было б лепш. «Кожны чалавек заўсёды знаходзіцца ў стане адзіноты пры абавязковай задачы выбару сваёй дарогі ў жыцці»[3],— такая, убачаная І. Шаладонавым, сэнсавая напоўненасць сімвалу магутнага дрэва, знакавага для трылогіі І. Навуменкі, дазваляе не проста зразумець, чаму эпізод з вяртаннем Міці Птаха да сасны ля будкі завяршае раман «Сорак трэці». Варта прызнаць: сутнасць сітуацыі, калі перад героямі выразна паўстае неабходнасць зрабіць новы — і зноў-такі лёсавызначальны! — выбар (а менавіта такой выяўляецца сітуацыя для юнакоў з Бацькавіч, і найперш для Міці прыканцы рамана), найлепш здольны падкрэсліць, праясніць менавіта скразны для трылогіі вобраз-канцэпт, вобраз-архетып сасны. Таму «фінальнае кальцо», якое пісьменнік выкарыстаў у рамане «Сорак трэці», варта палічыць лагічным, сэнсава напоўненым і мэтазгодным.

Важнымі пры аналізе завяршальнага рамана трылогіі ўяўляюцца і прыведзеныя ў пасляслоўі да пятага тома Збору твораў (фармальна — да

---

[1] Жураўлёў, В. З павагай да праўды / В. Жураўлёў // ЛіМ.— 1995.— 17 лют.— С. 7.

[2] Овчаренко, А. Трилогия / А. Овчаренко // Дружба народов.— 1975.— № 4.— С. 186.

[3] Шаладонаў, І. Сасна, яе сімвалічны код і станаўленне раманнага мыслення І. Навуменкі.— С. 689.

раманаў «Вецер у соснах» і «Сасна пры дарозе», якімі трылогія пачынаецца) разважанні пра аўтабіяграфічнасць раманаў «бацькавіцкага» цыкла і пра сунабліжанае з гэтай праблемай пытанне суаднесенасці біяграфій герояў твораў і фактаў з жыцця іх рэальных прататыпаў.

Не будзем паўтарацца, пераказваць пазначаныя ў рабоце І. Шаладонава «Сасна, яе сімвалічны код і станаўленне раманнага мыслення І. Навуменкі» асновы разумення сучасным літаратуразнаўствам сутнасці, фундаментальных прынцыпаў апрацоўкі жыццёвага, у тым ліку аўтабіяграфічнага матэрыялу, у прааналізаваных раманах. Пры жаданні кожны можа (ці нават не так — павінен, бо інакш выявяцца прапушчанымі важныя і, галоўнае, цікавыя, змястоўныя факты і меркаванні) узяць у рукі пяты том Збору твораў І. Навуменкі і прачытаць у літаратуразнаўчым каментарыі і пра выразнасць аўтабіяграфічных, амаль дакументальных вытокаў задумы раманаў «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», і пра дыскусію, што ўзнікла ў 1964 годзе на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» наконт праблемы факта і жыццёвых прататыпаў у стварэнні па-мастацку яскравых і пераканаўчых літаратурных вобразаў (адным з актыўных удзельнікаў той дыскусіі быў І. Навуменка), і пра машынапісныя лісты, адшуканыя ў архіве, на якіх можна пабачыць пачатак аповесці, якая так і не была завершана І. Навуменкам, але якая стала ў выніку перапрацовак асновай для напісання рамана «Сасна пры дарозе»…

Пазначаны ў прадмове да пятага тома Збору твораў і пералік многіх пар «літаратурны вобраз — і рэальны прататып, рысамі якога надзелены той ці іншы персанаж трылогіі», матэрыял гэты, яшчэ раз паўторым, не проста заслугоўвае ўвагі — ён павінен быць прачытаным тым, хто хоча глыбей адчуць і зразумець першавытокі, саму логіку разгортвання сюжэтных ліній у трылогіі пад умоўнай аўтарскай саманазвай «Акупацыя». Без падобнага рэтраспектыўнага азнаямлення з заканамернасцямі, што азначыліся пры напісанні раманаў «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», няпоўным выявіцца і разуменне чытачом рамана І. Навуменкі «Сорак трэці», гэта відавочна.

Але ж неадменнай уяўляецца і логіка адваротная: заканамернасці, якія асабліва яскрава і выразна праявіліся ўжо ў завяршальным рамане трылогіі, таксама здольныя многае праясніць у рабоце аўтара над першымі двума раманамі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах».

Найперш хацелася б прывесці радкі з цікавага дакумента (напісанага на рускай мове), які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва: «Я, Навуменка Іван Якаўлевіч**,** член КПСС, пісьмова пацвярджаю, што Белы Мікалай Сямёнавіч

быў сапраўды часова накіраваны камітэтам падпольнай арганізацыі «За Радзіму!» 12 мая 1942 года ў паліцыю м. Васілевічы, дзе ён праслужыў да 18 жніўня 1942 г. Тав. Белы М. С., выконваючы баявое заданне, падкладае міну на чыгунцы каля в. Ліскі Рэчыцкага раёна і праз неасцярожнасць капсуль апошняй узрываецца ў правай руцэ, адарваўшы кісць. Мы, члены падпольнага камітэта, адпраўляючы тав. Белага М. С. у паліцыю, яшчэ тады далі слова…»[1]

Дакумент, як падаецца, многае здольны патлумачыць не толькі ў пытанні суаднясення літаратурнага вобраза Міколы Цябута і рэальнага падпольшчыка Мікалая Белага, не толькі ў справе ўдакладнення храналогіі падзей, адлюстраваных у трылогіі — звяртаюць на сябе ўвагу і словы «яшчэ тады далі слова…».

Пакляліся быць разам у бядзе ў віхурныя ваенныя гады — і стрымалі дадзенае адзін аднаму слова, выступілі ў абарону сябра ў таксама ж няпросты час пасляваеннай падазронасці, паклёпаў і абвінавачванняў. Дадзены ліст, напісаны ў падтрымку сябра, выдатна, як здаецца, характарызуе пісьменніка І. Навуменку як асобу, як грамадзяніна.

Таксама ёсць сэнс пашырыць пералік пар «літаратурны вобраз — рэальны прататып», прыведзены ў пасляслоўі да пятага тома Збору твораў. У рамане «Сорак трэці» нямала ўвагі аддадзена вобразу былога намесніка бургамістра Лубана — так, Лубан дзейнічаў і ў папярэдніх раманах, але там ён з'яўляўся фігурай хутчэй эпізадычнай, магчыма, таму, пра рэальнага чалавека, рысамі якога І. Навуменка надзяліў свайго персанажа, узгадка не прагучала.

Між тым пэўны і, на нашу думку, надзвычай цікавы матэрыял для разваг пра ступень аўтабіяграфізму твораў І. Навуменкі, пра тое, як пераплаўляліся ў свядомасці мастака рэальныя жыццёвыя факты і калізіі, можа акрэсліцца і пры супастаўленні вобраза Лубана — і чалавека (прозвішча яго Губанаў), які пры немцах доўгі час выконваў у Васілевічах абавязкі намесніка бургамістра Іонаса.

Рэч у тым, што ў рамане А. Пінчука «Белы бусел ляціць» таксама падрабязна апісваюцца падзеі, якія адбываліся ў Васілевічах у гады нямецка-фашысцкай акупацыі.

А. Пінчук нарадзіўся ў 1930 годзе, у 1943-м яму было ўсяго трынаццаць гадоў, адпаведна сітуацыю, якая склалася ў той час, мы бачым вачыма падлетка, якога да падпольных спраў не далу-

[1] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 12. Спр. 2.

чаюць, ад якога многае прыхоўваюць і многае не тлумачаць. Але вось да Губанава ў хлапчука ўвага асаблівая, ён назірае за гэтым чалавекам надзвычай пільна — у адным класе з Пінчуком вучылася дзяўчына, Насця, у якую падлетак быў закаханы, між тым прозвішча Насці Губанава, гэта яе бацька становіцца намеснікам нямецкага бургамістра…

Прыпамінаў пра Губанава ў кнізе «Белы бусел ляціць» некалькі. Вось пісьменнік узгадвае, як яго, тады яшчэ падлетка, затрымалі паліцэйскія, і хлапчуку пры гэтым падалося, што недзе паблізу ад тых, хто яго затрымліваў, мільганула постаць намесніка бургамістра.

Дома ён пачуе ад маці: «Губанавы,— з сумам гаварыла маці,— цяпер паны, начальства. Губанаў — намеснік бургамістра, паліцай ля варот стаіць, на двор нікога не пускае. Дзякуй, дапамог цябе вызваліць…»[1]

Яшчэ адзін эпізод, падлетак назірае за старэйшымі сябрамі — тымі самымі сямнаццацігадовымі, сярод якіх і І. Навуменка: «Шаснаццаці-сямнаццацігадовыя, такія, як наш Іван (старэйшы брат А. Пінчука.— *А. Л-З.*), ірваліся ў бой. Ім хацелася ваяваць і здзяйсняць подзвігі, мець зброю, быць самастойнымі. Аднойчы, прыстаўшы да брата і яго сяброў, я тры дні шастаў па лясах у пошуках партызан»[2].

Далей у рамане «Белы бусел ляціць» мы бачым, як Губанаў угаворвае дзеда Пінчука заняцца ўзнаўленнем млына ўвосень сорак першага года: «Па справе я да цябе, Раман Ігнатавіч,— прамовіў ён, закурыўшы нямецкую цыгарэту.— Трэба, каб млын запрацаваў. Бо зернем больш-менш народ разжыўся, калгасныя палі ўжо стаяць пустыя, прыбралі да каласка. Так што млын зараз да пары прыйдзецца, у самы раз. Але галоўнае — работа для нямецкай арміі!

— Я што, калі загадаюць…

— Вось іменна,— павесялеў Губанаў.— Калі раптам што, так і адкажаш: «Я падначаліўся, мяне прымусілі…»[3]

Ля млына, які неўзабаве запрацаваў, па начах, як сведчыць А. Пінчук, пачалі гучаць галасы, і адзін з галасоў вельмі нагадваў голас Губанава — але калі хлапчук агучыў такую здагадку, ён адразу атрымаў прачуханку ад старэйшых, яму прапанавалі забыцца пра ўсё, што ён нібыта чуў.

---

[1] Пинчук, А. Белый аист летит / А. Пинчук.— Санкт-Петербург, 2004.— С. 156.

[2] Тамсама.— С. 152.

[3] Тамсама.— С. 184.

А потым прыйшоў час, і Губанаў, а разам з ім яшчэ некаторыя з тых, хто служыў немцам, пакінулі мястэчка і падаліся да партызан: «Ужо зранку па мястэчку пачалі блукаць самыя неверагодныя чуткі. Нехта казаў, быццам Губанаў удзень звёў у партызаны палову местачковай паліцыі, і немцы ўсю ноч арыштоўвалі сем'і паліцаяў-перабежчыкаў…»

Наконт Насці стала вядома пэўна — яна не вырвалася, а вось пра сястру, старэйшую за Насцю на два гады, гаварылі рознае…

Як бачым, супадзенні ў пары Лубан — Губанаў ёсць, і супадзенні выразныя. Але ў кнізе А. Пінчука адстойваецца наступная версія: Губанаў ад самага пачатку звязаны з народнымі мсціўцамі, галасы каля млына гучалі невыпадкова, менавіта адсюль ужо ў сорак першым годзе ішла да партызан мука, без якой у лесе проста не выжыць. І калі так — самыя выразныя, найбольш уражлівыя рысы ў літаратурным партрэце Лубана дадуманы, змадэляваны пісьменнікам І. Навуменкам, той пераломам у думках, настроях намесніка бургамістра, які нагэтулькі пераканаўча пададзены ў раманах трылогіі — цалкам заслуга творчай фантазіі аўтара.

Яшчэ адна пара «літаратурны вобраз — рэальны прататып», у якой таксама праглядаецца цікавы матэрыял для параўнання. Размова пра камандзіра партызанскага злучэння Лаўрыновіча, які з'яўляецца на старонках рамана «Сорак трэці» (у папярэдніх творах трылогіі ён не ўзгадваўся) і неўзабаве гіне пры няўдалай спробе захапіць варожы эшалон.

У час Вялікай Айчыннай вайны камандзірам Палескага партызанскага злучэння быў Ф. М. Языковіч, ён прыляцеў з Масквы ў лютым 1943 года, да вайны ж быў сакратаром Палескага абкама, потым ваяваў на фронце, узначальваў палітаддзел кавалерыйскай дывізіі…

Як бачым, супадзенні выразныя, ды і загінуў Языковіч сапраўды пры спробе захапіць варожы эшалон, бой гэты адбыўся на тэрыторыі Жыткавіцкага раёна.

Вось урывак з артыкула «Выпрабаванне трываласці». Перад намі — літаратурны запіс І. Карповічам успамінаў Аляксандра Паўлавіча Карнейчыка, начальніка штаба 125-й партызанскай брыгады, той самай, пры якой знаходзіўся ў пачатку 1943 года штаб Палескага партызанскага злучэння: «7 красавіка 1943 года партызаны рыхтавалі чарговую аперацыю на чыгунцы… На світанні выйшлі да чыгуначнага палатна ў намечаным месцы. Па плане два невялікія атрады павінны былі знішчыць нямецкія дзоты злева і справа, а два атрады, большыя па колькасці байцоў, атакаваць і захапіць варожы эшалон. У тыле, у трохстах метрах ад чыгункі, размясціўся камандны пункт...

Развіднела. Ідзе першы эшалон. Прапускаем, і тут жа чуем з захаду стук калёс наступнага цягніка. Нешта не заладзілася ў падрыўнікоў. Вымушаны былі прапусціць і яго… Урэшце падклалі міны пад рэйкі, але пакуль корпаліся на чыгуначным палатне, машыніст і ахова заўважылі партызан, цягнік спыніўся метраў за дзвесце ад месца аперацыі, немцы, выскокваючы з вагонаў, пачалі займаць абарону за насыпам. Нечакана збоку ўдарыў кулямёт з дзота, якога пры выбары месца засады ніхто не заўважыў…

Каб лепш разабрацца ў сітуацыі, я выпаўз на высечаную паласу лесу, і раптам заўважыў, што ззаду мяне паўзе Языковіч.

— Фёдар Міхайлавіч, тут небяспечна.

— Я ўпершыню ў сапраўдным баі,— адказаў камандзір злучэння.— Хачу ўсё бачыць сам…»[1]

Канкрэтны момант, калі камандзір злучэння загінуў, начальнік штаба партызанскай брыгады ўжо не бачыў, для яго, як і для многіх іншых, многае ў сітуацыі са смерцю Языковіча заставалася незразумелым — але ў кастрычніку 1943 года Карнейчыка нечакана выклікалі ў штаб партызанскага злучэння. Там яго чакалі людзі з асобага аддзела, начштаба быў арыштаваны, яго абвінавацілі ў забойстве Языковіча, хутка, без суда, аб’явілі прыгавор — дзесяць гадоў пазбаўлення волі…

Як бачым, рэальная аснова для апісаных у рамане «Сорак трэці» падзей сапраўды прысутнічае: і няўдалы бой пры спробе захапіць варожы эшалон, і смерць камандзіра злучэння, і арышты ў сувязі з гэтай трагедыяй, якія адбыліся ўжо тады, калі сітуацыя лічылася напаўзабытай, вычарпанай — усё гэта дакументальна засведчаныя факты з жыцця палескіх партызан. Аднак пісьменнік не імкнецца да дробязей паўтарыць нюансы, ён спрабуе данесці да чытача сам дух, саму сутнасць падзеі — і дзеля гэтага ў нечым відазмяняе дэталі, робіць акцэнты на важных для раскрыцця аўтарскай, пісьменніцкай ідэі момантах.

У сістэме сродкаў мастацкай выразнасці, выкарыстоўваемых І. Навуменкам, немалая роля адведзена здзіўленню, недаўменню, якія выказвае альбо выяўляе пэўны персанаж. Найчасцей гэта эмоцыя-маркер, яна павінна насцярожыць, падказаць чытачу, што паблізу прыхавана ці то важная для аўтара думка, ці то інфармацыя, замоўчваемая з ідэалагічных, цэнзурных меркаванняў.

[1] Карповіч, І. Выпрабаванне трываласці / І. Карповіч // Памяць. Жыткавіцкі раён.— Мінск, 1994.— С. 376.

Паказальны ў гэтым сэнсе той момант у рамане «Сорак трэці», дзе маладыя падпольшчыкі разважаюць, спрабуючы патлумачыць для сябе бясспрэчную тэхнічную аснашчанасць, без якой поспехі савецкіх войск у супрацьстаянні з узброенымі да зубоў фашысцкімі захопнікамі былі б немагчымыя. Хлопцы прыходзяць да высновы: урэшце запрацавалі заводы на Урале, Кузбасе, адтуль у вялікай колькасці пайшлі на фронт танкі, гарматы, іншае ўзбраенне — а хлеб, адкуль узяўся ён? Міця, як і астатнія, адказ знайсці не можа: «Хлебам карміла Украіна і Кубань. Кубань адабралі, але там усё разбурана. Наконт хлеба сапраўды цяжка зразумець...»

Дадзенае «цяжка зразумець» заклікана, як падаецца, насцярожыць чуйнага чытача, прымусіць яго задумацца. Падобны маркер — максімум, які, бадай, мог дазволіць пісьменнік у гады, калі пісаўся раман «Сорак трэці», у той час пра вялізныя аб’ёмы дапамогі, у тым ліку харчовай, якая дастаўлялася ў СССР з-за мяжы, проста не было прынята казаць.

Будзе здзіўлены і Шура Гарнак, удзельнік бою на чыгунцы, у якім загінуў Лаўрыновіч — менавіта вачыма Шуры чытач назірае ў рамане ўсю сітуацыю, усе калізіі няўдалай партызанскай аперацыі. У паходзе на чыгунку Шуру раздражняе многае, але асабліва яго ўражвае, нават раз’юшвае драцяная сетка, якая стала перашкодай для атакі — як можна было не заўважыць, не выявіць металічную агароджу своечасова?

Калі палічыць, што дадзеная эмоцыя, дадзенае здзіўленне падкрэслены аўтарам зноў жа не выпадкова, што гэта маркер, які павінен прыцягнуць увагу чытача і прымусіць задумацца — адкрываецца вялікая прастора для інтэрпрэтацый. І адна з версій, на нашу думку, многае ў задуме І. Навуменкі здольная патлумачыць.

Пісьменнік, які, безумоўна, мусіў ведаць, паводле якога сцэнару рэальна разгортваўся бой на чыгунцы, у літаратурную версію падзеі не палічыў патрэбным перанесці фактары суб’ектывізаванай, выпадковай, «магло адбыцца так, а магло інакш» прадвырашанасці зыходу сутыкнення. Таму ў рамане няма эпізоду з машыністам, які заўважыў падрыўнікоў (бо мог жа і не заўважыць!), няма цягнікоў, якія мінулі засаду праз тое, што міна была падкладзена са спазненнем (а калі б паспелі?) — а вось сетка ўзнікла, яе наяўнасць аўтар палічыў акалічнасцю надзвычай важнай.

Прыгадаем, звышмэтай стварэння трылогіі пісьменнікам перадусім усведамлялася адлюстраванне далучанасці, паяднанасці партызанскага руху з народным светаадчуваннем, з жыццём народа.

«Навуменка сваю трылогію пачаў пісаць тады, калі ваенная проза ад паказу дзеяння чалавека на вайне рашуча перайшла да раскрыцця яго духоўнага стану»[1] — і вось менавіта ад таго, ці сугучныя пастаўленыя на тую ці іншую аперацыю задачы чаканням агульнанародным, уласцівым усяму насельніцтву, залежыць, як гэта імкнецца паслядоўна дэманстраваць аўтар, як настрой партызан, так і, у канчатковым выніку, зыход кожнага бою.

Міжволі прыгадваецца эпізод з рамана «Шчыт і меч» (1965) расійскага пісьменніка В. Кажэўнікава: удзельнікі баявой групы, якія атрымалі рызыкоўнае заданне і ўспрынялі той загад надзвычай стрымана, ажывіліся і задаволена заўсміхаліся пазней, калі даведаліся, што задача відазмянілася і стала нават яшчэ больш небяспечнай. Камандзір групы патлумачыў такую перамену ў настроях падначаленых, адзначыўшы, што байцы адчулі: цяпер ёсць за што рызыкаваць, цяпер (новы варыянт задання прадугледжваў вызваленне нямецкіх антыфашыстаў, якіх чакала смяротнае пакаранне) ступень рызыкі адпавядае звышмэтам барацьбы з фашызмам…

Стыль І. Навуменкі пазбаўлены настолькі пафасных выказванняў, ён аргументацыю аналагічнай паводле гучання думкі прыўносіць ў сюжэтную лінію, у псіхалагічную атмасферу твора, у падтэкст. Прыгадаем, наколькі паслядоўна ў раманах трылогіі адлюстравана выразная залежнасць: калі аперацыя задумваецца толькі дзеля дасягнення мэт лакальных, абумоўленых ці то жаданнем выславіцца, ці то імкненнем узбагаціць партызанскія запасы — поспеху няма; але калі задача ўзбуйняецца, калі, да прыкладу, маецца на ўвазе не проста адбіць кароў, а мэта азначана шырэй, вярнуць жыхарам нарабаваную карнікамі жывёлу, калі бой (другі аспект) узгараецца дзеля выратавання жыхароў асуджаных на вынішчэнне вёсак — тады немцам, нават пры ўмове, што перавага ў сілах на іх баку, дасягнуць поспеху найчасцей не ўдаецца.

Так і ў дадзеным выпадку: не адна, а ўжо дзве спробы захапіць нямецкі эшалон завяршаліся няўдала, прынцыповая немагчымасць такой задачы як быццам акрэслілася; аднак жа будзе эпізод пазнейшы, дзе партызанства ўзнялося на ліквідацыю цэлай чыгуначнай лініі, аперацыя набыла маштабы справы агульнанароднай, разам з народнымі мсціўцамі (гэта падкрэсліваецца ў творы) да чыгункі выйшлі жыхары навакольных вёсак — і тут эшалонам авалодаць уда-

---

[1] Юрэвіч, У. Маральная актыўнасць чалавека.— С. 5.

лося на дзіва лёгка, фактычна без страт, толькі паранены быў, ды і то чаргой з нямецкага самалёта, малады хлопец, які завіхаўся ля коней…

Так што агароджа, якая ўзнікла на шляху і перашкодзіла дасягнуць поспеху — сапраўды сімвалічны, напоўнены глыбокім сэнсам вобраз. Для аўтара ён настолькі важны, што меркаванні пераканаўчасці, праўдападобнасці адлюстравання рэалій у дадзеным выпадку недзе нават ігнаруюцца: ну як можна не заўважыць шчыльную металічную сетку, калі не разведчыкамі, дык падрыўнікамі, якія ставілі міну, яна проста непазбежна была б выяўлена!

Варта задумацца: для жыхароў навакольных вёсак нават удалы захоп партызанамі нямецкага вайсковага эшалона абярнуўся б трагедыяй, у адказ акупанты абавязкова спалілі б вёскі, расстралялі людзей. І рэпрэсіі насельніцтвам былі б успрыняты надзвычай балюча, не так, як хоць бы ў выпадку з падрывам Пціцкага моста: сутнасць той аперацыі не трэба было тлумачыць нікому, кожны разумеў, што ворагу ніяк нельга дазволіць падкідаць і падкідаць падмацаванні на фронт, дзе становішча пагражала стацца катастрафічным. А «раскасіраваць» эшалон…

Панылы настрой пануе ў калоне, якая доўга, абмінаючы паселішчы (аўтарам гэта падкрэслена), ідзе да чыгункі. Няма спакою ў простых партызан, нервуюцца камбрыгі, агульную атмасферу азмрочвае і робіць яшчэ больш няўтульнай надвор’е (даследчыкамі такая, суаднесеная з узбагачэннем псіхалагічнай палітры, роля пейзажных замалёвак у трылогіі адзначана даўно). Аўтар настойліва даносіць да чытача думку: у падобных па-гусарску безаглядных нападах на ворага (і нават словы падобныя прагучаць у асуджэнне Лаўрыновіча, маўляў, тут яму не ў кавалерыйскай брыгадзе) няма «далучанасці да жыцця народа», тут вайна дыверсійных атрадаў, а не барацьба народных мсціўцаў.

І пры гэтым варта ўсведамляць: няпростая сітуацыя выбару, у якую трапляў партызан, чалавек з вінтоўкай пры падрыхтоўцы любой аперацыі — толькі адзін з аспектаў куды больш маштабнай, усёабдымнай праблемы, вырашаемай І. Навуменкам у трылогіі. «Ставіцца пытанне, не закрытае ў «ваеннай» беларускай прозе і да сённяшняга часу: адметнасць паводзінаў беларусаў у Вялікай Айчыннай вайне, калі вясковец, тутэйшы жыхар, павінен быў рабіць выбар, шукаць свой варыянт паводзінаў у вайне, калі, апроч неабходнасці змагання, была яшчэ адна неабходнасць сеяць і здымаць ураджай, захоўваць жыццё сабе і зямлі»[1]; пісьменнік, ствараючы многія

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 699.

вобразы, і найперш — Сцяпана Птаха, пераканаўча дэманструе, наколькі складанымі, наколькі балючымі могуць быць пошукі адказу на падобнае пытанне.

Яшчэ колькі адметных праблем, вырашэнне якіх, як зазначылі даследчыкі, што аналізавалі раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці», для пісьменніка застаецца ў трылогіі неадменнай задачай, дадзеныя напрамкі творчага пошуку нельга аддзяляць ад тых, пра якія ўжо гаварылася вышэй: І. Навуменка «ўвесь час турбуецца пра тое, каб паказаць сацыяльныя сувязі чалавека»[1]; аўтар у раманах пра вайну, ды і ў іншых творах, «як рэдка хто з пісьменнікаў, настойліва падкрэслівае, якую вялікую ролю ў фарміраванні свядомасці і псіхалогіі яго пакалення адыгралі настаўнікі, кнігі, школа»[2]; «Ствараючы вобразы партызан, Навуменка нібы ўступае ў палеміку са сваімі папярэднікамі, і яго асноўны аргумент у гэтай палеміцы наступны: "У жыцці такія людзі былі куды больш звычайнымі, і менавіта таму яны такія незвычайныя"»[3].

Прыгадаем таксама, што выразны сімвалічны код І. Навуменка імкнуўся закласці ва ўтвараемую чарадой згадак пра ваенныя падзеі ўнутраную, пазначаемую датамі наступленняў і адступленняў войск на франтах, храналогію: «Мне ж хацелася перш за ўсё перадаць менавіта ўласныя адчуванні ваенных падзей. Калі пачынаў пісаць, здавалася, што вайну адчуваю не толькі па гадах, месяцах, але і па днях. Былі месяцы Смаленска, Кіева, Мінска, Сталінграда. У маім успрыманні ўсе векапомныя даты, звязаныя з вызваленнем гэтых гарадоў, маюць свае фарбы, пахі, свой непаўторны вобраз»[4].

Нават просты пералік задач, якія спрабуе вырашаць І. Навуменка ў творах, падказвае: «Сорак трэці», завяршальны раман трылогіі, заканамерна павінен быў выявіцца шматмерным, насычаным сімволікай, структурна ўскладнёным творам. Падобныя тэксты звычайна пакідаюць вялікую прастору для інтэрпрэтацый і з гэтай прычыны абарочваюцца для даследчыкаў не толькі ўдзячным полем, на якім навукоўцаў чакаюць новыя і новыя адкрыцці, але адначасова і лак-

---

[1] Юрэвіч, У. Маральная актыўнасць чалавека.— С. 4.

[2] Гусак, С. Пафас праўды / С. Гусак.— Мінск, 1973.— С. 72.

[3] Цыт. паводле: Овчаренко, А. Об Иване Науменко и его трилогии. / А. Овчаренко // И. Науменко. Сорок третий.— М., 1977.— С. 394.

[4] Цыт. паводле: Науменко, И. Как земля поет / И. Науменко, Г. Грабовская // Литературная газета.— 1981.— 16 дек.— С. 6.

мусавай паперай, тым матэрыялам, глыбіня спасцігнутасці якога выразна сігналізуе пра ўзровень спеласці літаратуразнаўчай думкі.

Беларускае літаратуразнаўства падобную праверку, як падаецца, вытрымала годна. Фактычна адразу, ужо з першых рэцэнзій на «Сорак трэці», намаганні даследчыкаў былі скіраваны на спасціжэнне глыбінных пластоў рамана, на выяўленне сутнасных яго характарыстык.

Першая па часе апублікавання рэцэнзія з'явілася 17 сакавіка 1974 года, аўтар яе У. Шыцік: «Многае з таго, пра што ён (І. Навуменка.— *А. Л.-З.*) піша, перажыта, адпакутавана ім асабіста. І гэта надало яго творам асаблівыя рысы, у іх спалучаюцца высокае майстэрства мастацкага вымыслу з дакументальнай дакладнасцю»[1].

Трохі пазней, 24 мая 1974 года, з'яўляецца водгук У. Юрэвіча, некаторыя з пазіцый, выказаных у гэтай рэцэнзіі, ужо агучваліся вышэй. Затрымаемся на яшчэ адной слушнай, якая стане пазней агульнапрынятай, ацэнцы рамана даследчыкам: «У мастацкім летапісе Вялікай Айчыннай вайны з'явіўся адметны твор. Адметны перш за ўсё арыгінальнасцю задумы — прасачыць вытокі і станаўленне той мужнасці, падчас і гераізму, калі савецкія людзі змагаліся з ворагам»[2].

Выказваюцца рэцэнзентам і папрокі аўтару, на думку У. Юрэвіча, яшчэ ў рамане «Вецер у соснах» «І. Навуменка не ўстояў перад модным у літаратуры «дакументалізмам» і цяпер у «Сорак трэцім» даводзіцца расчышчаць будаўнічую пляцоўку ад рыштаванняў, сляды якіх не-не ды і вытыркаюцца ў выглядзе звыклай інфармацыі пра час і агульныя абставіны ваеннай пары»[3]. У выніку ж, як лічыць даследчык, у завяршальных раздзелах «паўстае абавязковая, але не такая ўжо і плённая задача — паразвязваць «вузлы», якіх у трох кнігах назбіралася-такі шмат. Працягваецца тая спешка, якая так відавочна прысутнічала ў рамане «Вецер у соснах». І менавіта яна, гэтая паспешлівасць, абарочваецца кампазіцыйнай рыхласцю»[4].

У «Литературном обозрении» за ліпень 1974 года выходзіць артыкул Н. Пашкевіча «Встречный огонь». У гэтай рэцэнзіі пазначана наступнае: «Тры раманы — гэта тры этапы рэальнай гісторыі, ад прыходу гітлераўцаў у Прыдняпроўскае Палессе да яго вызвалення

---

[1] Цыт. паводле: Шитик, В. Встреча со старым знакомым / В. Шитик // Сельская газета.— 1974.— 17 марта.— С. 4.

[2] Юрэвіч, У. Маральная актыўнасць чалавека.— С. 4.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама.— С. 5.

(нашы войскі вярнуліся сюды ўвосень сорак трэцяга года). Навуменка імкнуўся паслядоўна адлюстраваць дынаміку гістарычных абставін, перамены ў псіхалогіі людзей, у агульных суадносінах сіл. Ад рамана да рамана змяняюцца маштаб і характар падзей, напал асноўнага канфлікту, змест духоўных пошукаў персанажаў — трылогія чуйна рэагуе на рух самога жыцця. А, больш дакладна, менавіта рух жыцця ад трагедыі сорак першага года да ўсеагульнай партызанскай вайны задае тон і вызначае рытм трылогіі»[1].

Даследчыкам таксама заўважана: «Мы нязменна бачым, як нашы франтавыя перамогі (а сорак трэці год — гэта перамогаsuccessful выхад Сталінградскай бітвы і вялікая бітва за Днепр) уздымаюць новыя хвалі партызанскага руху, дадаюць людзям веры і цярплівасці, дапамагаюць здзейсніць выбар тым, хто затрымаўся на раздарожжы, разгойдваюць і дэмаралізуюць сістэму гітлераўскага акупацыйнага рэжыму — словам, уплываюць рашуча на ўсе бакі рэчаіснасці»[2]. Таму Н. Пашкевіч асаблівай аўтарскай удачай прызнае «вобраз сорак трэцяга года, вобраз выразны і дакладны»[3] і дзесьці палемізуе з ацэнкай У. Юрэвіча, з яго заўвагай пра «кампазіцыйную рыхласць» рамана «Сорак трэці». Справа, на думку Н. Пашкевіча, «у абумоўленай задумай твора неабходнасці выслухаць «усіх», каб выявіць усю карнявую сістэму народнай барацьбы, шырэй ухапіць прыклады з бясконцай шматаблічнасці яе форм, чалавечых лёсаў і ўзаемаадносін»[4]. «Шматлюддзе ў трылогіі ў значнай меры ўзнікае і таму, што Навуменка — бадай, як ніхто з тых, хто пісаў на гэтую тэму да яго,— уважліва і аб'ектыўна разглядае, што ж гэта за «грамадства» ўзнікла пад шыльдай «новы парадак». Ён бярэ (у тэрытарыяльных абсягах кнігі) раённыя і сельскія звенні акупацыйнага рэжыму… і заходзіць (у гэтыя ўстановы.— *А. Л-З.)* як бы ад імя тых, на каго зваліўся гэты «новы парадак»… з прыхаванай хітрынкай, цікавіцца: ну, хто тут сядзіць-кіруе і што вы такое сабраліся прапанаваць нам, каб атрымаць у замен нашу пакорлівасць?»[5]

І разам з тым будзённасць, пазбаўленую належнай, больш высокай, чым ёсць у творы, долі «высокіх» парыванняў, Н. Пашкевіч чамусьці палічыў недахопам рамана…

---

[1] Цыт. паводле: Пашкевич, Н. Встречный огонь. / Н. Пашкевич // Литературное обозрение.— 1974.— № 8.— С. 22.

[2] Тамсама.— С. 23.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама.

[5] Тамсама.— С. 24.

У змешчанай у «Вячэрнім Мінску» рэцэнзіі А. Шыцік удакладняе наступныя пазіцыі: «Пісьменнік адшукаў псіхалагічна дакладны ракурс падачы матэрыялу. Яго цікавяць вытокі, што падпітвалі і падмацоўвалі рост народнага партызанскага руху ў Беларусі»; «Звыклыя жыццёвыя перыпетыі пісьменніка займаюць мала. Гэта ўжо другі ці нават трэці план аповеду. Затое куды больш цікавасці праяўляе І. Навуменка да гістарычных патрабаванняў часу»[1].

Ю. Пшыркоў заўважыў істотную адметнасць рамана «Сорак трэці» і ўсёй трылогіі: «Моладзь нашага веку іншы раз уяўляе ветэранаў мінулай вайны казачнымі асілкамі ці былiннымі волатамі, якія здзяйснялі неверагодныя подзвігі. А ваявалі з акупантамі і перамаглі іх самыя звычайныя людзі. Іх веліч у тым, што яны не зламіліся пад цяжарам выпрабаванняў і самааддана выканалі свой грамадзянскі абавязак»[2].

А. Марціновіч зазначыў, што важнае месца ў рамане «Сорак трэці» займаюць эпізоды, суаднесеныя з пераходам да партызан байцоў чыгуначнай роты, даследчык выказаў меркаванне, што «менавіта тут Міця Птах раскрываецца як чалавек»[3]. І такую ацэнку цяжка не прызнаць апраўданай, улічыўшы, наколькі агучанае даследчыкам меркаванне сугучна думцы, што неаднойчы прагучала з вуснаў самога І. Навуменкі, які ці не ў кожным сваім інтэрв’ю падкрэсліваў рамантычнасць, узнёсласць парыванняў, гатоўнасць рызыкаваць сабой дзеля іншых, уласцівыя пакаленню маладых падпольшчыкаў Вялікай Айчыннай, прадстаўнікі якога і сталі героямі ў трылогіі.

Слушна заўважыў С. Лаўшук: «Аўтар, як бы парушаючы творчую логіку, не толькі не абмежаваў прыток новых герояў, а свядома ўвёў яшчэ больш персанажаў. Гэта павінна было наглядна пацвярджаць нарастанне барацьбы: ад асобных выступленняў да ўсенароднага супраціўлення»[4].

Заўважыў даследчык і такую адметнасць: «Пісьменнік мог (здараецца і такое, асабліва з аўтарамі мемуарных твораў) міжвольна

---

[1] Цыт. паводле: Шитик, Е. Никогда не уйдет в прошлое / Е. Шитик // Вечерний Минск.— 1974.— 15 нояб.— С. 3.

[2] Пшыркоў, Ю. Завяршэнне эпапеі / Ю. Пшыркоў // Звязда.— 1975.— 4 студз.— С. 4.

[3] Марціновіч, А. Адказнасць перад часам / А. Марціновіч // Беларусь.— 1975.— № 1.— С. 26.

[4] Лаўшук, С. Год змагання і славы / С. Лаўшук // Полымя.—1975.— № 6.— С. 239.

мадэрнізаваць тагачасныя разважанні герояў. Ды не, гэтага ў рамане няма. Пісьменнік лічыць важным не толькі тое, што было, але і як яно адбывалася»[1]. Істотнымі, трапнымі ўяўляюцца і наступныя назіранні, пазначаныя ў рэцэнзіі: «Вуснамі персанажаў пісьменнік гаворыць пра вельмі многае. Разам з тым іх выказванні з'яўляюцца апасродкаваным сродкам самахарактарыстыкі»[2]; «ён (І. Навуменка.— *А. Л-З.*) не проста занатоўвае ўбачанае і пачутае. Канкрэтыка служыць яму зыходным пунктам на шляху да мастацкага абагульнення»[3]; звернем увагу, што ў якасці сэнсаўтваральных С. Лаўшук вылучыў тыя моманты ў рамане «Сорак трэці», дзе размова вядзецца пра смерць Есіпа Кавенькі, паколькі тое, наколькі ўзрушана ўспрыняў вестку пра гэтую трагедыю Міця Птах, многае, на думку даследчыка, можа апавесці пра ўнутраны свет героя.

Адзначым таксама, што ў завочнай спрэчцы, якая разгарэлася было паміж тымі, хто лічыў кампазіцыйную будову твора мэтазгоднай і ўнутрана лагічнай, і тымі, хто гатовы быў абвясціць яе «рыхлай» і няўцямнай, С. Лаўшук рашуча выступіў на баку першых: «Пісьменнік выбудаваў у творы цэласны, стройны сюжэт. Падзейная «раскіданасць» рамана «Сорак трэці» ўяўная: уся шматгалосіца эпізодаў арганічна ўплятаецца ў мастацкую тканіну твора»[4].

Фундаментальная, глыбокая (пра што выразна сведчыць хоць бы тая колькасць арыгінальных, нікім да С. Лаўшука не агучаных характарыстык, якую мы здолелі дадаць да сумарнай, агульнымі намаганнямі літаратуразнаўцаў ствараемай, ацэнкі рамана «Сорак трэці») работа нібы падводзіла сімвалічную рысу пад этапам першаснага, пераважна на ўзроўні рэцэнзій, асэнсавання новага літаратурнага матэрыялу. Далей «Сорак трэці» аналізаваўся даследчыкамі пераважна як частка трылогіі, як твор, які яе завяршае, падрабязны пералік навукоўцаў, што прычыніліся да гэтай галіны навуменказнаўства, і літаратуразнаўчых прац, у якіх аналізаваліся ваенныя раманы пісьменніка, прыведзены ў каментарыях да пятага тома Збору твораў.

Мы свядома аўтанамізавалі, умоўна адасобіўшы, сённяшнія — і тыя, якія прагучалі неўзабаве пасля публікацыі рамана, яшчэ ў 1974—1975 гг., меркаванні даследчыкаў. Пры падобнай падачы

---

[1] Лаўшук, С. Год змагання і славы.— С. 240.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама.— С. 241.

матэрыялу выразна, як падаецца, акрэсліваецца наступная высно-ва: сутнасныя, каркасныя характарыстыкі твора І. Навуменкі наша літаратуразнаўства адчула, вызначыла ці не адразу, ацэнкі, якія былі дадзены першапраходцамі, потым, пазней не давялося аспрэчваць, усе напрацоўкі рэцэнзентаў арганічна, у якасці фундаменту, пакладаліся пад канструкцыі новых, вышынных дасягненняў навуменказнаўства.

Абрысна праявіліся пры падобнай кампаноўцы дадзеных і яшчэ два вектары для параўнанняў, па адным з іх напрошваецца канстата-цыя такога вось факта: у рэцэнзіях, на этапе першаснага, калі можна так гаварыць, «набліжэння» да тэксту беларускія спецыялісты — і гэта адразу становіцца бачна пры супастаўленні публікацый — выявілі куды глыбейшае, больш прафесійнае разуменне рамана «Со-рак трэці», чым, да прыкладу, рэцэнзенты з маскоўскай прапіскай. Ніхто ў нас не збіваўся на трывіяльны пераказ сюжэта, ніхто не агучваў заўваг, якія сведчылі б пра неўсвядомленасць глыбінных, сутнасных задач, што паставіў перад сабой І. Навуменка пры напісанні трылогіі.

У той жа час А. Аўчарэнка (адну з выказаных ім прэтэнзій, пра нібыта нематываванасць фінальнага «закальцоўвання» твора, мы ўжо разглядалі) усур'ёз прапаноўваў: «Аднак, ацэньваючы раман «Сорак трэці», я не магу не адзначыць, што асабіста я чакаў ад аўтара большага. Як падаецца, Навуменка дарма не пайшоў на істотнае ўзбуйненне двух вядучых вобразаў у трылогіі — Міці Птаха і капітана Бондара… У апошнім рамане непрапарцыянальна многа месца заняў матыў недаверу камбрыга да начальніка штаба. Па сутнасці, тое, што робяць Лаўрыновіч і Волах, павінен быў пачаць і давесці да завяршэння (пры падтрымцы штаба Панамарэнкі) Бондар. Тады б і «рэйкавая вайна» атрымала больш эпічны размах у рамане»[1]. І яшчэ: «Не знайшоў, мне здаецца, аўтар і для Міці Птаха яркай, выбуховай сітуацыі, якая б узняла яго ў нашых вачах. Баюся, што тут Навуменку звязалі дакументальнасць, аўтабіяграфічнасць вобраза»[2].

Падобныя парады, шчыра кажучы, выклікаюць здзіўленне. Для пачатку: у рамане ідзе размова пра недавер камандзіра партызанскага злучэння (не камбрыга!) да начальніка штаба, аднак гэта, урэшце, момант прыватны.

А вось калі б у І. Навуменкі ў завяршальным рамане з цыкла Бондарператвары ўся ў імпульсіўнага партызанскага атамана, а Міця Птах

[1] Цыт. паводле: Овчаренко, А. Трилогия.— С. 186.

[2] Тамсама.

стаў адчайным разведчыкам ці лепш нават падрыўніком — гэта ўжо зламала б унутраную логіку ўсёй трылогіі, авантурна-прыгодніцкім «Сорак трэці» абарочвацца не мог, не павінен быў.

Дарэчы, прыгадваецца і ліст, які быў дасланы І. Навуменку з Масквы яшчэ ў 1960-я гады, калі вырашаліся пытанні, звязаныя з перакладам рамана «Сасна пры дарозе» на рускую мову. Падпісалі паштоўку Таццяна і Міхаіл Гарбачовы, да пісьменніка даносіўся наступны, у нечым сугучны з выказаным А. Аўчарэнкам, клопат: «Спадабаўся раман — і ўсё ж я рэкамендую перагледзець (ці, хутчэй, прагледзець яшчэ раз!) месцы, суаднесеныя з правалам першага падполля, і не так скарагаворкай завяршыць раман»[1].

Прапановы палепшыць, відазмяніць, мадыфікаваць творы, што ўвайшлі ў ваенную трылогію, паступалі, як бачым, з розных бакоў. І з Масквы таксама. Гэта парадаксальна сведчыла: І. Навуменка піша не так, як гэта было на той час прынята ў беларускай літаратуры, не так, як звыклі пісаць пра вайну большасць яго маскоўскіх калег. У размове з У. Маруком І. Навуменка прыгадваў: «Некаму не падабаліся мае героі — надта ж звычайныя людзі. Некаму не падабалася, што я пішу звычайны подзвіг, нічога асабліва гераічнага не паказваючы. Уяўленне пра гераізм у гэтых людзей было іншае — каб толькі «ўра» было чутно. Актыўнымі ўдзельнікамі вайны былі не толькі салдаты на фронце, у акопах, партызаны, падпольшчыкі, але і звычайныя, мірныя жыхары. Хіба нельга назваць гераічнымі паводзіны якой-небудзь вясковай жанчыны, якая хавала параненых чырвонаармейцаў, карміла партызан, а потым разам са сваімі дзецьмі гарэла ў агні, калі фашысты палілі нашу Беларусь?»[2]

Гэта — прынцыповая пазіцыя, крэда пісьменніка. Паслядоўнае адстойванне сваіх поглядаў нярэдка ўскладняла выдавецкі лёс яго кніг (І. Навуменка гаварыў: «Той жа раман «Сасна пры дарозе» не адразу быў прыняты на «ўра». Але я гаварыў пра такія рэчы, пра якія тады не пісалі: пра акупацыю, пра партызанскія атрады, якія знікалі і ствараліся наноў, пра нешчаслівае каханне…»[3]) — і, разам з тым, таленавіта ўвасобленыя ў творах арыгінальнасць думак, адметнасць пачуццяў абарочваліся важкімі перадумовамі чытацкага поспеху,

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 14. Спр. 3.

[2] Марук, У. Знайсці свайго героя / У. Марук // Звязда.— 1985.— 16 лют.— С. 4.

[3] Цыт. паводле: Мамчиц, О. Цените каждое мгновение жизни / О. Мамчиц // 7 дней.— 1995.— 18 февр.— С. 5.

прызнання з боку спецыялістаў. Варта пагадзіцца: «Мабыць, сакрэт хуткага прызнання твораў І. Навуменкі не толькі ў своеасаблівай, афарбаванай паэтычнасцю, мяккім лірызмам і дасціпным, цёплым гумарам манеры пісьма, але і ў тым, што аўтар прынёс сваю тэматыку, свой свет, узняўшы новыя, бадай некранутыя дагэтуль пласты ў тагачаснай беларускай прозе»[1].

Менавіта ў кірунку выкрышталізацыі адметных характарыстык арыгінальнай індывідуалізаванасці творчай постаці пісьменніка І. Навуменкі (нярэдка праз пошук выразных адпаведнасцей паміж беларускім аўтарам і літаратарамі замежнымі: «Паводле асобных момантаў тыпалагічнага падабенства можна параўноўваць трылогію І. Навуменкі з прысвечанымі моладзі творамі савецкай літаратуры — «На прасторах жыцця» і «Дрыгвой» Я. Коласа, «Маладой гвардыяй» А. Фадзеева… У творах І. Навуменкі, прысвечаных франтавым падзеям, адбываецца пераакцэнтацыя аўтарскай увагі, ацэнкі, настрою. Пачынае дамінаваць падыход, генетычна звязаны з той жа традыцыяй, якую заклалі ў сусветнай літаратуры Стэндаль, Л. Талстой, Э. М. Рэмарк, А. Барбюс, М. Гарэцкі, Э. Хэменгуэй, Ю. Бондараў, В. Быкаў. Асаблівасці такога падыходу — гэтак званая «акопная праўда», жорсткі рэалізм, агульначалавечыя нормы ў маральнай ацэнцы вайны»[2]) вяліся пошукі ў беларускім літаратуразнаўстве, але ў 1990-я гады азначылася была не ва ўсім прымальная тэндэнцыя, асобныя даследчыкі, спрабуючы перакрэсліць здабыткі літаратуры савецкай, пачыналі перагляд «састарэлых» ацэнак многіх і многіх аўтараў і твораў.

Адбіваліся праявы той тэндэнцыі і ў навуменказнаўстве, і вось тут да месца будзе другі з праанансаваных раней вектар для параўнанняў: паспрабуем сунакласці прэтэнзіі, якія агучваліся ў той час да пісьменніка, і матэрыял першых, напісаных яшчэ ў 1974—1975 гг. рэцэнзій на раман «Сорак трэці». Да прыкладу, В. Локун у манаграфіі «Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы» адзначае: «Трылогія І. Навуменкі будуецца па прынцыпе «канцэнтрычнай кампазіцыі» (тэрмін А. Бачарова), калі дзея канцэнтруецца вакол аднаго або некалькіх галоўных асоб. Гэта, дарэчы, было досыць характэрным для панарамна-эпапейных твораў Ф. Панфёрава… В. Лацiса. Праўда, па меры работы над апошнімі раманамі трылогіі І. Навуменка адыходзіць ад гэтага прынцыпу, ён уводзіць шэ-

[1] Кухараў, С. Сцішанае поле / С. Кухараў.— Мінск, 1986.— С. 255.

[2] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 701.

раг новых персанажаў «у ранг» галоўных, ствараючы, такім чынам, шматстайную кампазіцыйную структуру. Але пры гэтым ён паслабіў увагу да цэльнасці структурнай формы і псіхалагічнай напоўненасці героя, што ў сваю чаргу не магло не адбіцца на мастацкіх вартасцях твораў»[1].

Ці не праўда, падобная прэтэнзія надзвычай нагадвае тэзіс пра «кампазіцыйную рыхласць», які ўжо агучваўся, які даўно быў матывавана адпрэчаны беларускім літаратуразнаўствам, у большасці выпадкаў пад выглядам «перагляду канцэпцый» гучалі на пераломе XX і XXI стст. менавіта падобныя, «з мінулага», крытычныя заўвагі і папрокі.

У апошні час сітуацыя змянілася, даследчыцкая ўвага да постаці і да твораў мастака ўзрасла, рэгулярна пачалі праводзіцца тэматычныя «навуменкаўскія» канферэнцыі. Гучаць на іх і даклады, у якіх аналізуюцца раманы з ваеннай трылогіі пісьменніка. І, трэба спадзявацца, выхад Збору твораў, у якім тэксты пісьменніка суправаджаюцца падрабязным літаратуразнаўчым каментарыем, яшчэ больш актывізуе творчы пошук, надасць намаганням даследчыкаў новы імпульс.

Рэч у тым (як тут не прыгадаць пазначаны яшчэ ў 1975 годзе С. Лаўшуком тэзіс пра мову персанажаў як пра апасродкаваны сродак іх самахарактарыстыкі!), што сэнсаўтваральнымі ў І. Навуменкі выяўляюцца ўсе кампаненты тэксту, аж да мікраўзроўняў, да тых альбо іншых суфіксаў у слове. Пісьменнік надзвычай дбайна працаваў над творамі, бясконца правіў, перакрэсліваў, відазмяняў гучанне сказаў і словазлучэнняў (гэта бачна з рукапісаў, якія захоўваюцца ў архівах) — і менавіта з гэтай прычыны ён звычайна абвострана ўспрымаў рэдактарскае ўмяшальніцтва ў свае тэксты.

Варта прызнаць: рэдактары, асабліва ў выпадках, калі яны, дбаючы пра ўпарадкаванне мовы пісьменніка, спрабавалі ачысціць раманы ад дыялектызмаў, сапраўды часам, калі можна так казаць, перавышалі ўзровень паўнамоцтваў і адкідалі важныя для пісьменніцкай задумы «парушэнні» агульнапрынятых маўленчых норм.

Але ў нечым дзякуючы падобнай рэдактарскай «чыстцы» і можна рэканструяваць аўтарскую задуму, зразумець тыя арыгінальныя, напрацаваныя шляхам спроб і памылак прыёмы псіхалагічнай «самавыяўленасці» персанажаў, якіх у І. Навуменкі нямала.

---

[1] Локун, В. Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы / В. Локун.— Мінск, 1995.— С. 13.

«І. Навуменка нешматслоўны, пазбягае ўскладнёнай вобразнай насычанасці, але пры гэтым паспявае сказаць вельмі шмат»[1]. З гэтай ацэнкай, дадзенай пісьменніцкай манеры І. Навуменкі А. Марціновічам, сунабліжаны і погляд А. Аўчарэнкі, які, трэба аддаць належнае, з цягам часу істотна паглыбіў разуменне твораў беларускага аўтара і ў сваім пасляслоўі да выдання рамана «Сорак трэці» пазначаў: «Ён (І. Навуменка.— *А. Л-З.*) не любіць гучных фраз, аповед у яго творах разгортваецца няспешліва, пры нязменнай эмацыянальнай стрыманасці аўтара характары даследуюцца ўсебакова, з непрыхаваным імкненнем спасцігнуць філасофію і псіхалогію факта»[2].

Падобная насычанасць сапраўды нешматслоўнага аповеду ўзнікае не сама па сабе. Г. Сіненка ў кнізе «Іван Навуменка» падрабязна прааналізаваў, як пісьменнік камбінуе пры перадачы псіхалагічнай атмасферы эпізодаў ракурсы «ўнутранага» і «знешняга» псіхалагізму, майстэрства І. Навуменкі разгледжана на прыкладзе тых сцэн, дзе размова ідзе пра сустрэчы Бондара з неабыякавымі да яго жанчынамі.

Даследчык пераканаўча засведчыў: пісьменнік бліскуча валодае такім навыкам перадачы псіхалагічных нюансаў — але ж арсенал І. Навуменкі нашмат багацейшы, ёсць у ім і іншыя, нярэдка надзвычай арыгінальныя і самабытныя прыёмы!

Выяўленню падобных прыёмаў акурат і паспрыяе тэксталагічна-літаратуразнаўчы каментарый да твораў пісьменніка. Рэч у тым, што І. Навуменка нават рэдактарскае ўмяшальніцтва ў свае творы імкнуўся пераплаўляць у новыя творчыя знаходкі.

Многае ў дадзеным сэнсе дазваляе пабачыць і зразумець машынапіс рамана «Сорак трэці», на якім захаваліся праўкі, што прыўносіліся ў тэкст пры падрыхтоўцы яго да выдання ў часопісе «Маладосць». Дык вось, пры перавыданні твора І. Навуменка, відавочна, вывучаў, што і з якой прычыны не задаволіла рэдактараў часопіса — і калі «Сорак трэці» выйшаў асобнай кнігай, вынікі такой аналітычнай работы ўжо былі заўважныя.

Частку правак пісьменнік палічыў абгрунтаванымі і вяртацца да свайго варыянта не стаў, у многіх мясцінах аўтар узнавіў уласны, першасны варыянт напісання слоў, недзе сказы перапрацоўваліся

---

[1] Марціновіч, А. Над верасамі памяці / А. Марціновіч. // ЛіМ.— 2003.— 13 чэрв.— С. 8.

[2] Цыт. паводле: Овчаренко, А. Об Иване Науменко и его трилогии.— С. 389.

больш кардынальна: І. Навуменку прапанаваны рэдактарамі варыянт не задаволіў, але прычыну, па якой адбылося ўмяшальніцтва, аўтар прызнаў слушнай і вырашыў відазмяніць тэкст.

У выніку рэльефна азначыліся тыя эфекты псіхалагічнай «самахарактарыстыкі», дзеля дасягнення якіх пісьменнік і парушаў часам нарматыўнасць маўлення — падобныя «парушэнні» аўтар дбайна пераносіць з выдання ў выданне, адвяргаючы натуральныя памкненні рэдактараў умяшацца і «выправіць».

Возьмем, да прыкладу, дыялектызмы, якія ў машынапісе былі паслядоўна заменены на нейтральныя ў стылістычным плане адпаведнікі — пры перавыданні твора І. Навуменка вяртаўся да першаснага варыянта выключна ў фразах, якія агучваюцца тым або іншым персанажам, і пры гэтым дыялектызмы заставаліся толькі ў мясцінах, дзе іх выкарыстанне несла выразную сэнсавую напоўненасць.

Так, Вакуленка збіваецца на мясцовую гаворку найперш там, дзе ён пачынае хітраваць, дзе партызанскі камандзір лічыць патрэбным выявіць сябе чалавекам не надта далёкім — з'яўленне дыялектызмаў абарочваецца маркерам, які сігналізуе пра дадзеную маску, якая выкарыстоўваецца персанажам. У выпадку з Бондарам наадварот: калі начальнік штаба забываецца пра свой статус, пра абумоўленую пасадай неабходнасць бачыць жыццё вачыма стратэга і аналітыка — у ім прачынаецца звычайны мясцовы хлопец, і словы-дыялектызмы ненавязліва сігналізуюць пра падобны стан душы героя.

Яшчэ момант: І. Навуменка надзвычай уважліва ставіцца да пытання ўпарадкавання граматычных форм дзеяслова. Яшчэ пры падрыхтоўцы другога тома Збору твораў, у якім змешчаны апавяданні пісьменніка, руплівасць аўтара ў дадзеным кампаненце была заўважнай, але кампактнасць апавяданняў не дазваляла адчуць заканамернасці, згодна з якімі адбываюцца змяненні.

У выпадку з раманамі ўсё куды больш відавочна: аўтар праз суладдзе альбо парушанасць дзеяслоўных форм таксама перадае ўнутраны стан персанажаў. Гэта даволі арыгінальны і дзейсны, трэба аддаць належнае, прыём: разладжанасць у дзеяслоўным рытме, якая ў пісьменніка перадае неўраўнаважанасць псіхалагічнага стану героя, яго неспакой, адразу кідаецца ў вочы і, адпаведна, абарочваецца выразным маркерам, сродкам стварэння псіхалагічнай атмасферы ў творы.

У эпізодзе, у якім Шкірман і яго напарнік, нядаўні паліцай Мікітка, трапляюць, вяртаючыся ў атрад са здабытай соллю, у засаду, звяртае на сябе ўвагу наступная акалічнасць: у хвіліны смяротнай небяспекі

Мікітка для Шкірмана становіцца Мікітам, агульная бяда зраўняла напарнікаў, прымусіла забыцца пра дробязнае, неістотнае — але вось небяспека мінае, у сутычцы з канваірам малы ростам партызан выявіў яшчэ і сваю неразваротлівасць, нягегласць, і таму зноў вяртаецца ранейшае, «Мікітка». Вось так, адкідаючы ці дадаючы адну толькі літару, І. Навуменка прыўносіць патрэбныя акцэнты ў перадачу псіхалагічных нюансаў паводзін і светаадчування героя…

Яшчэ колькі прыкладаў той пісьменніцкай работы, пры якой ўмяшальніцтва рэдактара, палічанае пісьменнікам небеспадстаўным, абарочвалася стымулам для аўтарскай перапрацоўкі першаснага тэксту: у сказе (гэта самы пачатак рамана «Сорак трэці») «…трапечуць на зімнім ветры чырвоныя сцягі, акаймаваныя па краях чорным крэпам…» рэдактар у часопісе прадказальна адкінуў вызначэнне «чырвоныя». Узважыўшы ўсе аспекты, з праўкай пісьменнік вымушаны быў пагадзіцца: імкненне данесці да чытача той факт, што ў перыяд Вялікай Айчыннай чырвоным быў колер і ў нямецкіх сцягоў, не было дастатковым абгрунтаваннем, каб прыўносіць у твор непажаданую асацыяцыю чырвонага колеру — і савецкіх, чырвонаармейскіх сцягоў…

Другі прыклад: у эпізодзе, калі Яўтушык і Анкудовіч, вырашыўшы перачакаць начную цемру, завітваюць да Маланні, у размове гучыць: «Сядзяць на печы, чухаюцца». Словы дадзеныя прамаўляе Яўтушык, гэта ўжо перапрацаваны аўтарам варыянт, у машынапісе фраза гучала інакш, «сядзяць на печы, чухаюць я…цы». Натуральна, што рэдактар паспрабаваў змяніць тэкст, і наагул атрымалася няблага, «сядзяць на печы, грэюць плечы»,— але эмоцыя, якую хацеў перадаць пісьменнік, выявілася згладжанай, гэта не адпавядала псіхалагічнаму стану персанажа, і ад вонкавай прыгажосці фразы пісьменнік рашуча адмовіўся.

А вось як відазмянялася фраза, якая ў выніку загучала наступным чынам: «— Магу сёлетні. У маёй хаце штаб, а ты хоць адзін вечар пасядзеў са мной? Можа, я сама хацела, каб пасядзеў. Старэць стаў, камандзір». У тым варыянце, які зафіксаваны ў машынапісе, Вакуленка атрымліваў куды больш жорсткую прачуханку: «— Магу сёлетні. Здаецца, толькі ў нас налічуецца тры твае жонкі. Маня Бэрэмская, другая Вера, што ў Капаткевічах у аптэцы робіць, Хунтава Стася. Старэць стаў, камандзір».

Прапанаваны рэдактарам варыянт: «— Бач, не падабаецца… Няйначай старэць стаў, камандзір»,— гучаў няўцямна, яго пісьменнік адкінуў — але і ранейшы пералік каханак Вакуленкі прыбраў, відазмяніўшы псіхалагічную афарбоўку вобраза…

Так што матэрыялу для літаратуразнаўчага аналізу хапае, глыбіня рамана «Сорак трэці» і ўсёй ваеннай трылогіі І. Навуменкі будзе асэнсоўвацца і спасцігацца надалей. Тое самае можна сказаць і ў дачыненні да рамана «Смутак белых начэй»: многае ў гэтым творы даследчыкі ўжо спазналі, аднак прастора для заглыблення пошуку праглядаецца і тут.

Найперш адзначым: тэму Ленінграда, баёў на Карэльскім перашыйку сам І. Навуменка не лічыў вычарпанай, цалкам раскрытай. У БДАМЛМ, у асабістым фондзе пісьменніка, захоўваюцца незавершаныя накіды двух твораў, тэматычна суаднесеных з раманам «Смутак белых начэй». Стварaліся гэтыя тэксты ўжо ў апошнія гады жыцця пісьменніка, яны, відавочна, павінны былі нешта праясніць, нешта ўдакладніць ў рамане, дадаць да думак, якія ўжо прагучалі, новыя фарбы і адценні.

Першы з твораў мае назву «Як па нашай зямлі ішлі немцы», і пры гэтым выразна бачна: да тэксту пісьменнік вяртаўся некалькі разоў, адкідаючы адзін варыянт і адразу пачынаючы наступны…

Найбольш цэласны фрагмент выглядае наступным чынам: «Па-рознаму. Найбольш напорна ў сорак першым годзе. Ад таго, што мы ўбачылі ў сорак першым, узнік страх за лёс краіны. Немцы ўяўляліся цёмнай непераможнай сілай, «проклятою ордой». Мы прайгралі ўсе прыгранічныя бітвы, і малюнак вайны на нашай тэрыторыі быў у нейкай меры падобен на той, які разгортваўся на палях Францыі, Польшчы і другіх краін. О, немцы вельмі хацелі б, каб вобраз «проклятой орды» захаваўся на працягу ўсёй вайны. Іменна так была задумана вайна. Толькі так не атрымалася.

Немцы даволі хутка прыблізіліся да нашых важнейшых жыццёвых цэнтраў. На поўначы — да Ленінграда. Цяжка ўявіць, што было б, каб не выстаяла наша рэвалюцыйная сталіца. Гэта вынікае з таго, што яна (наша краіна.— *А. Л-З.*) народжана рэвалюцыяй і, можа, таму вялізнае значэнне, большае, чым у другіх краінах, мае маральны фактар. Немцы, здаецца, таксама разумелі гэта. Бо з ваеннага, стратэгічнага пункту гледжання Ленінград не адыгрываў выключнага стратэгічнага значэння. Немцы пры ўсіх зваротах да Усявышняй Волі ў аснове сваёй былі добрымі матэрыялістамі. Яны захапілі Нарвегію, бо прадбачылі, што Амерыка, Англія будуць дапамагаць Савецкаму Саюзу. Увогуле, яны ведалі, пры існаванні Савецкага Саюза ніякай нямецкай перамогі не будзе. Можа, па гэтай прычыне не перастаюць узнікаць домыслы аб прэвентыўнай вайне, якую нібыта вёў Гітлер.

Многа разоў узнікала ў фашысцкім друку тэма «Еўропа і яе культурныя каштоўнасці», якія, маўляў, абараняе Германія. Гэты тэзіс нібы падмацоўваў, ствараў глебу, ідэалогію гітлераўскага нашэсця, у якім прымалі ўдзел шэраг еўрапейскіх краін.

Планы гітлераўскіх заваёўнікаў ішлі вельмі далёка.

Heit gehört uns Deutsland?

Morend die ganze Welt…

Ці быў яшчэ дзе-небудзь другі нацыяналізм, які б ставіў перад сабой такія агромністыя задачы…»[1]

Другі твор мае аўтарскае жанравае самавызначэнне, пад назвай твора рукою І. Навуменкі дададзена: «Апавяданне». Тэкст не пакідае сумненняў: тэматычна, у нечым нават сюжэтна твор выразна суаднесены з раманам «Смутак белых начэй».

«Маскоўскія хлопцы (апавяданне)»: «Так здарылася: я служыў у двух стралковых палках, асобным палку сувязі і, вядома, у запасным палку.

Я пайшоў у школу, добра ўмеючы чытаць, пахваляўся сябрукам, што лічу да сексільёна, канкрэтна не ўяўляючы, колькі ў гэтай лічбе нулёў.

З пісьмом, аднак, не пашанцавала. У першым класе я навучыўся пісаць. Але што гэта было за пісьмо! Літары крывыя, касабокія, на другі дзень я сам не здолеў прачытаць тое, што напісаў.

Я нарэшце зміры́ўся з думкай, што ўсё жыццё буду гэтак крамзоліць, фактычна псаваць паперу. Палавіну нашага дома мы здавалі пад бухгалтэрыю канторы «Плодаагародніна». Там быў бухгалтар, які сам быў прыгожы. Але пісаў яшчэ прыгажэй. Як на грошах. Мне яго почырк запомніўся. Калі выпадала магчымасць мець у руках паперу і аловак, я што-небудзь пісаў. Але, як мне здавалася, мае крамзолі нават блізка не нагадвалі почырк знаёмага бухгалтара.

І вось выпадак.

З запаснога палка нас прывезлі ў полк, які размяшчаўся паблізу Ржэва. Проста паляна сярод высечанага лесу.

— Хто мае сярэднюю адукацыю — выйсці са строю!

Выйшлі тры ці чатыры чалавекі.

Тут камандзір страявой часці, старшы лейтэнант Фралянкоў прапанаваў тым, хто выйшаў са строю, запісваць ва ўліковую кнігу салдат, якія прыбылі разам з намі. Кожны з самадзейных пісараў знайшоў пянёк, прыладзіў кнігу, якую выдалі, і пачаў запісваць у яе новае папаўненне.

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 1. Спр. 24.

Каля мяне спыніўся старшы лейтэнант Фралянкоў.

— У цябе прыгожы почырк,— пастаяўшы хвіліну, сказаў ён.— У нас ёсць месца пісара. Пойдзеш да нас?

Я згадзіўся. Лепшай пасады ніхто не дакляраваў. Брала толькі сумненне. Ці добра разглядзеў мой почырк Фралянкоў? А то шугануць з канцылярыі і ўправы не знойдзеш. Той самы Фралянкоў шугане…»[1]

Пры гэтым у рукапісе выразна бачна: прозвішча камандзіра страявой часці адразу пісалася «Фамянкоў», толькі потым першае напісанне перапраўлена аўтарам на «Фралянкоў». Адпаведна пра выпадковасць сунакладанняў асобных момантаў у тэкстах «Маскоўскіх хлопцаў» і «Смутка белых начэй» гаварыць не даводзіцца, тут выразныя супадзенні.

Пра што далей пайшла б гаворка ў так і не дапісаных аўтарам тэкстах, застаецца толькі здагадвацца. Але, як думаецца, ідэйна творы былі б суаднесены з тым перакананнем І. Навуменкі, якое ў многім абумовіла і задумку рамана «Смутак белых начэй», пісьменнік да апошніх дзён не стамляўся паўтараць (пра гэта сведчыць адно з апошніх яго выступленняў, на сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі БДУ 1 верасня 2003 года): «…старшыня Саюза рускіх пісьменнікаў задаў Жукаву прыблізна такое пытанне: «Мы перамаглі немцаў на Курскай дузе, тады яны былі яшчэ даволі моцныя. Калі супаставіць Савецкую Армію і нямецкую, што, на ваш погляд, было мацней у немцаў і што было мацней у нас». І Жукаў адказаў, што генштаб быў мацней за генералітэт, і генштаб мацнейшы быў у немцаў. Першым часам немцы мелі перавагу і ў тэхніцы, і ў афіцэрскім складзе. А ў нас, на думку Жукава, мацнейшы быў радавы баец, асабліва моладзь, якая дзесяцігодкі паканчала. Я з думкай Жукава цалкам згодзен»[2].

Калектыўным партрэтам радавых байцоў, іх лёсу на жорсткай і бязлітаснай вайне і стаў раман «Смутак белых начэй». Пісаўся твор, як прыгадвае І. Навуменка, няпроста: «Раман «Смутак белых начэй» — першы мой твор пра вайну, так сказаць, «армейскую». Пісаў я яго цяжка. Можа быць, па той прычыне, што наша «франтавая» проза — і руская і беларуская — дасягнула вельмі высокага ўзроўню»[3].

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 1. Спр. 24.

[2] Навуменка, І. Мае героі былі рамантыкамі / І. Навуменка, Л. Сінькова // Беларускае літаратуразнаўства: навукова-метадычны зборнік.— Мінск, 2008.— Вып. 6.— С. 118.

[3] Навуменка, І. У задуме — новы раман / І. Навуменка // Гомельская праўда.— 1979.— 30 лют.— С. 4.

Пакутлівая праца над тэкстам працягвалася доўга. Але нарэшце раман быў цалкам, як палічыў на той момант аўтар, завершаны, на апошняй старонцы І. Навуменка вывеў «1970 — Нью-Ёрк — 1977 — Ракаў. 3. XI. 77 г.», варыянт фактычна быў цалкам падрыхтаваны да друку. Аднак потым тэкст быў перапісаны зноў, і побач з першай датай завяршэння твора з'явілася другая, «9. XII. 78».

Але і гэтая дата не стала ў выніку апошняй. Той рукапісны варыянт, які сам аўтар гатовы быў прызнаваць завершаным, пачынаўся са слоў: «Пасля Сычоўкі стала ясна: эшалон кіруецца не на Украіну». Уступнага падраздзела, пра вяртанне героя ў Ленінград праз многія гады пасля завяршэння Вялікай Айчыннай, у рукапісе яшчэ не было.

Падраздзел дапісваўся пазней, у многім для І. Навуменкі ён аўтабіяграфічны — пісьменнік, які доўгія гады выконваў абавязкі старшыні Мінскай абласной камісіі садзейнічання Савецкаму Фонду міру, патрапіў, як пра гэта ён апавёў у адным з інтэрв'ю, у круіз па прыбалтыйскіх краінах. Прадстаўнічая дэлегацыя савецкіх літаратараў і майстроў культуры размясцілася на караблі, той выйшаў у мора — і пацягнуліся доўгія дні падарожжа, наведванні розных прыбярэжных гарадоў, у кожным з якіх адбываўся мітынг, праходзілі канферэнцыі і творчыя сустрэчы. «Пасля сустрэчы з заходнегерманскімі прыхільнікамі міру наладзілі канцэрт. З нашага боку выступалі вядомыя артысты, а з іхняга — сціплая мастацкая самадзейнасць — антываенныя песні, вершы. Гэта кранала: у тых умовах яны значылі вельмі многа»[1].

Карабель адплываў з Ленінграда, фатаграфіі з таго круізу, адна з якіх, да прыкладу, змешчана ў кнізе Л. Піскун «Іван Навуменка» (1997) пазначаны 1979 годам…

Часам у літаратуры надараецца вось такое супадзенне: уражанні ад выпадковай сустрэчы, ад нейкага здарэння накладаюцца на матэрыял, над якім настойліва працуе пісьменнік, і абарочваюцца штуршком, якога выразна не ставала для ўдалага завяршэння твора. Падставай для такой аўтарскай знаходкі, якая ў нечым перавярнула, відазмяніла папярэднюю задумку рамана «Смутак белых начэй», прымусіла пісаць твор не так, як планавалася раней, стала ў дадзеным выпадку паездка па лініі Фонду міру.

Пабыўшы ў Ленінградзе, І. Навуменка ясна пабачыў той вектар перапрацоўкі твора, які неўзабаве будзе матэрыялізаваны ў рамане.

---

[1] Уліцёнак, Г. З думкай пра дзень заўтрашні / Г. Уліцёнак // Голас Радзімы.— 1985.— 21 лют.— С. 6.

Аўтар дадае да рукапіснага варыянту новы, уступны падраздзел — і адначасова відазмяняе канцоўку твора, перапісвае яе. У першай рэдакцыі «Смутак белых начэй» завяршаўся наступнымі словамі: «Дзяўчаты, якія будуць канчаць дзесяцігодку, знаёмыя — вучыліся разам з Сяргеем у восьмым — дзявятым. Ёсць нават знаёмы хлопец — Мікалай Пракопчык. Тут, на Карэльскім перашыйку, у наступленні яго параніла ў жывот, ляжаў у шпіталі. Там яго камісавалі, і ўжо гэтай восенню Пракопчык будзе вучыцца»[1].

У перапрацаваным варыянце гэты абзац не проста адрэдагаваны — ён стаў перадапошнім, пасля яго ідуць дададзеныя аўтарам словы пра Сяргея Каліноўскага, пра тое, што вайна не скончылася і абавязкова будуць яшчэ франты, новыя наступленні і адступленні…

Прыўнесеныя фрагменты сталі важкім дадаткам, які шмат у чым перамяніў танальнасць твора, акрэсліў філасафічнасць яго гучання. У адной з рэцэнзій невыпадкова пазначана: «І. Навуменка па-новаму падышоў да выкарыстання яшчэ не да канца выяўленых празаічных магчымасцей жанру ваеннага рамана, які ў дачыненні да «Смутку белых начэй» можа быць вызначаны як сацыяльна-псіхалагічны, філасофскі раман пра пакаленне ваенных гадоў»[2].

Патлумачым выказаную думку: калі б нехта распрацоўваў методыку правядзення эксперымента, закліканага вызначыць, ці дасягальная поўная адаптацыя чалавека, яго псіхікі да жорсткіх рэалій сучасных баявых дзеянняў, то ў якасці аднаго з магчымых сцэнарыяў падобнага выпрабавання прадказальна выявіўся б разгледжаным такі варыянт: на фронт, на перадавую, накіроўваецца баец, пра псіхіку, пра характар і светаадчуванне якога дакладна вядома, што змяніцца кардынальна пад уплывам знешніх фактараў яны ніяк не могуць, іх аснова занадта трывалая, стабільная, практычна нязменная.

Ва ўступным падраздзеле перад чытачом паўстае прыкладна падобнага гучання вобраз. Гэты чалавек пасталеў, ён дасягнуў досыць паважнага ўзросту — і пры гэтым выразна захаваў, не страціў ні кроплі той непасрэднасці, наіўнай чысціні пачуццяў, якія ўласцівы маладосці.

Сапраўды, далёка не кожны з нас, атрымаўшы «люкс» у гасцініцы, усур'ёз занепакоіцца і пачне адразу высвятляць, ці не па памылцы яму адведзены настолькі шыкоўны нумар. Падобныя паводзіны многае ў персанажы высвечваюць.

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 1. Спр. 11.

[2] Краўчанка, Л. Балючая памяць белых начэй /Л. Краўчанка // Настаўніцкая газета.— 1979.— 12 снеж.— С. 4.

Вось і атрымліваецца: паколькі катэгарычна сцвярджаць, што Сяргей Каліноўскі і ветэран Вялікай Айчыннай, які праз дзесяцігоддзі зноў пабачыў Ленінград, не з'яўляюцца адной і той жа асобай, падстаў у чытача няма — нельга выключаць магчымасць, што ў творы І. Навуменкі акурат і вядзецца размова ў тым ліку пра тое, наколькі здольныя адаптавацца да франтавых умоў асобы, надзеленыя цэласным, устойлівым, непадлеглым адаптацыйным пераменам унутраным стрыжнем.

Адпаведна тэкст, які ў выпадку, калі б уступнага падраздзела не існавала, успрымаўся б найперш як фіксацыя, як адлюстраванне адсочваемых аўтарам падзей, у новай сітуацыі, пры дададзенасці падобнага ўрыўка, набывае выразна іншы статус і пачынае нагадваць твор-роздум, твор-асэнсаванне, скіраванае на спазнанне механізмаў і заканамернасцей адаптацыі чалавека да франтавых, памежна экстрэмальных умоў.

У падобным пераламленні той нервовы зрыў, які спасцігае героя прыканцы твора, пачынае выглядаць адмоўным адказам на пытанне, ці дасягальная наагул такая прыстасаванасць чалавека да франтавых умоў, пры якой нічога не дэфармуецца, не відазмяняецца ў псіхіцы. Вынікае, што пабачанае і перажытае на перадавой для звычайнага чалавека было і застанецца цяжарам празмерным, і перыядычныя нервовыя зрывы — той ахоўны механізм, які засцерагае чалавека ад дэградацыі, ад звыкання з нормамі дэфармаванага, звышжорсткага паводле сваіх праяваў свету.

За некалькі дзён баёў Сяргей перастае заўважаць многае з таго, што непрыемна ўразіла б яго ў іншай, «цывільнай» абстаноўцы. Той жа, да прыкладу, расстрэл варожых салдат, якія ўзнялі ўгару рукі і гатовыя здацца ў палон — калі ад пачатку гэтую «дробязь» персанажы проста нібы не заўважаюць, дык пазней «ачышчальныя» стрэлы тыя ж людзі гатовыя ледзь не ўхваліць, лічачы гэта заслужаным пакараннем ворагу, які столькі, абараняючыся, знішчыў чырвонаармейцаў і камандзіраў…

Напрошваецца выснова: чалавек, для якога камфортнымі, прымальнымі пачынаюць здавацца ўмовы жыцця на фронце, на перадавой, звыкаецца незаўважна для сябе з паступовымі пераменамі, якія адбываюцца ў ягонай псіхіцы, і толькі стрэсавае ўзрушэнне здольнае дапамагчы вырвацца з гэтага палону паступовых змен, не страціць тое, што можа быць страчана незваротна.

Падобны пафас заставаўся б вельмі глыбока ў падтэксце ў выпадку, калі б да рамана «Смутак белых начэй» не дадаўся ўступны

падраздзел, у канчатковым варыянце твора для ўспрымальніка такія высновы становяцца больш заўважнымі, больш üдавочнымі.

Пазначым яшчэ і такі момант: адным з найбольш дзейсных па антываеннай скіраванасці, безумоўна, здольны выяўляцца твор, у якім аўтар дбайна, з прыязнасцю вымалёўвае вобразы шэрагу персанажаў, пераканаўча даносіць да чытача іх мары, спадзяванні, успаміны — а потым літаральна ў адзін дотык знішчае ўвесь гэты шматаблічны свет, не пакідаючы сярод жывых нікога з тых, з кім паспеў адчуць сябе сунабліжаным чытач рамана ці аповесці.

Безумоўна, ёсць і чыста функцыянальная прычыны, згодна з якімі ў творы аформілася поліфанія галасоў апавядальнікаў: «Мабыць, І. Навуменка на нейкім этапе адчуў, што строгі аўтабіяграфізм звужае ахоп падзей. Яму трэба было паказаць размах і напружанасць наступлення, а Сяргей — разведчык і непасрэдна не заўсёды ўдзельнічае ў наступальных баях»[1], у многім таму і з’явіліся ў творы старонкі, у якіх аповед ідзе ад імя іншых персанажаў. І, адпаведна, тое, што па чарзе гінуць многія з тых, чый унутраны свет стаў добра знаёмы чытачу — гэта сітуацыйны вынік, выпадковасць.

Як бы там ні было, але ў «Смутку белых начэй» І. Навуменка рэалізуе менавіта адзін з самых драматычных сцэнарыяў, у выніку ж антываенны пафас твора набывае пранізлівае, абвостранае гучанне.

Той, хто добра ведаў, разумеў літаратуру, падобнага настрою не адчуць не мог — можа, таму, як прыгадвае І. Навуменка, і азначылася затрымка з выданнем твора: «Ну, а «Смутак белых начэй» увогуле не прапускалі; Шамякін чытаў-чытаў, усё затрымліваўся на апошніх старонках, але, зрэшты, надрукавалі, хаця я там асабліва нічога і не здымаў»[2].

Пры падрыхтоўцы да друку — так, сапраўды не здымаў, гэта лёгка заўважыць пры параўнанні рукапісаў, якія захоўваюцца ў БДАМЛМ, і часопіснага варыянта твора. Таксама і пры перавыданнях пісьменнік на гэты раз абмяжоўваўся пераважна невялікімі, найчасцей стылёвамі праўкамі — і гэта сведчанне каласальнасці той работы, што была праведзена на падрыхтоўчым этапе, на шляху да канчатковых варыянтаў рукапісу.

Дастаткова сказаць, што толькі назва твора была зменена пісьменнікам мінімум чатыры разы, у чарнавіках пазначаны і «Рэквіем», і «Карэльскі перашыек», і «Белыя ночы»…

---

[1] Каваленка, В. Смутныя колеры вайны / В. Каваленка // ЛіМ.— 1980.— 5 снеж.— С. 6.

[2] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 12. Спр. 7.

Лаканічнасць, стрыманасць аповеду ў рамане «Смутак белых начэй», заўважаемыя ці не кожным («Зазначым, аднак, што І. Навуменка не абцяжарвае твор лішнімі, мала патрэбнымі дэталямі. Ён імкнецца да таго, каб кожны эпізод, кожная дэталь у поўную сілу працавалі на ідэю, на змест твора, дапамагалі глыбей раскрываць не толькі праўду характару, але і праўду абставін, праўду часу»[1]), таксама з'яўляюцца вынікам напружанай работы, шмат у чым скіраванай на адсейванне палічаных непатрэбнымі ліній, вобразаў і эпізодаў.

Так, у канчатковы варыянт твора не ўвайшоў наступны фрагмент з чарнавых рукапісаў: «У палку ёсць малодшы сяржант Пурпураў. Скончыў чатыры курсы Ленінградскага ўніверсітэта. Росту малодшы сяржант вялізнага. Гімнасцёрка, штаны, нацягнутыя на магутнае цела, аж трашчаць. Пурпураў пры штабе. Але толькі пасыльны. Носіць пакеты ў дывізію.

У чатырохпавярховым доме, дзе размяшчаецца штаб, пакояў многа. Знайшлося б месца для Пурпурава. Але ён жыве асобна. Склаў з разбітай цэглы, бляхі хібару на задворках штабнога дома і ў ёй сядзіць. Нібы пёс у будцы. Рэдка голіцца Пурпураў. На шырокім, зарослым рудаватай шчацінай твары, носіць пастаянны выраз незадаволенасці.

Сяргей разумее малодшага сяржанта. Ён як бы дэманструе нязгоду са сваім становішчам»[2].

Прычыну знікнення дадзенага апісання, у якім, бадай, адлюстраваны персанаж, у якога быў рэальны прататып — занадта ўжо дэталізаваны атрымаўся партрэт,— зразумець даволі лёгка: на раскрыццё важнай для пісьменніка ідэі пра «сямнаццацігадовых», якім на сваіх плячах давялося вынесці цяжар страшэннай вайны, вобраз дзівакаватага малодшага сяржанта працаваў слаба.

Без асаблівых ваганняў адкінуў аўтар і наступны фрагмент: «Ліст Валянціны з Ленінграда кароценькі, на кавалачку разграфлёнай паперы, вырваным з нейкай службовай кнігі. Почырк выразны, нібы мужчынскі. Піша, што таксама любіць Ясеніна. Пра Буніна маўчыць. Відаць, не чытала. З ліста відаць — Маргарыта згодна перапісвацца»[3].

Варта пагадзіцца: адсутнасць дадзеных радкоў у канчатковым варыянце, тое, што словы, звернутыя да дзяўчыны, пра якую Сяргей чуў ад баявых таварышаў, засталіся без адказу, дапамагае ўзмацніць

---

[1] Прыгодзіч, З. Вернасць сваёй тэме / З. Прыгодзіч // Полымя.— 1981.— № 9.— С. 250.

[2] БДАМЛМ. Ф. 495. Воп. 1. Спр. 10.

[3] Тамсама.

шчымлівы настрой смутку, які спакваля выяўляецца дамінуючым у творы…

І яшчэ колькі слоў пра аўтабіяграфічнасць, дакументальнасць рамана «Смутак белых начэй». Выпіска з ваеннага білета І. Навуменкі (дакумент захоўваецца ў БДАМЛМ) сведчыць: з 10.3.1944 па 16.4.1944 будучы пісьменнік праходзіў службу ў 36-м стралковым запасным палку (г. Кіраў); з 16.4.1944 па 25.5.1944 ён радавы 1191-га стралковага палка 358-й стралковай дывізіі 21-й арміі; з 25.6.1944 па 16.11.1944 — старшы сяржант 1187-га стралковага палка 358-й стралковай дывізіі.

Прыведзеныя даты дапамагаюць удакладніць не толькі ўнутраную храналогію рамана, зададзеную ў тым ліку згадкамі пра прыбыццё эшалона з прызыўнікамі ў запасны полк і пра эпізод з залічэннем маладых салдат у склад дывізіі, у якой ім давядзецца ваяваць.

У дакуменце прастаўлены нумар дывізіі, у якой ваяваў І. Навуменка, і гэта дазваляе прасачыць, як дадзенае баявое злучэнне было задзейнічана ў наступленні на Карэльскім перашыйку. У выніку становіцца відавочна: той, што пададзены ў рамане і той, што рэальна пройдзены 358-й маршруты наступлення на Выбарг у цэлым супадаюць: асобнымі падраздзяленнямі дывізія ўдзельнічала ў разведцы боем, дасягнуўшы тактычных поспехаў, потым, у першы дзень баёў, пасунулася на 5 — 7 км і на нейкі час затрымалася на рубяжы фінскай абароны, які праходзіў па берагах невялікай рачулкі…

На два дні 358-ю адводзяць у рэзерв, у дывізію замест тых, хто загінуў, з маршавымі ротамі ідуць і ідуць новыя байцы — а потым палкі скіроўваюцца на новы напрамак галоўнага ўдару, пачынаецца імклівы кідок па Прыморскай шашы на Выбарг…

Камандзірам 358-й стралковай быў палкоўнік Сямён Аляксандравіч Урублеўскі (дарэчы, у чарнавых варыянтах твора так і стаяла, «Урублеўскі»), ён беларус, нарадзіўся на Уздзеншчыне і загінуў, прычым разам з ардынарцам, начальнікам штаба дывізіі і яшчэ групай афіцэраў 17 чэрвеня 1944 года, пад Выбаргам.

Нават лётчык, прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза, але пакараны за недысцыплінаванасць, як можна меркаваць паводле крыніцаў з сеціва, праходзіў службу ў дадзенай дывізіі — як бачым, спіс супадзенняў даволі вялікі.

Аднак імклівы рэйд, узначалены адным з афіцэраў дывізіі — гэта па-майстэрску адаптаванае пісьменнікам апісанне славутай, але праведзенай зусім іншымі вайсковымі злучэннямі аперацыі. У кнізе Ф. Шаблія «От Пскова до Праги» (Шаблій быў адным з тых, хто

ўдзельнічаў у рэйдзе) падрабязна адлюстраваны этапы, пададзены ўспаміны пра баі і пройдзеныя дарогі — большасць з тых рэальных баявых эпізодаў адлюстравана пісьменнікам і на старонках рамана «Смутак белых начэй».

Падобнае выкарыстанне матэрыялу выглядае лагічным: рэйд, пра які ўжо ў 1944-м з захапленнем пісалі карэспандэнты цэнтральных газет, сапраўды нібы ўвасабляў у сабе нястрымнасць, імклівасць пасоўвання наперад, характэрную для першай фазы наступлення на Карэльскім перашыйку.

Тое ж, што адбывалася потым і што ў многім прадвызначыла назву рамана І. Навуменкі, «Смутак белых начэй», акурат і прымушае зноў і зноў узгадваць не надта ўхвальную ацэнку генералітэта Чырвонай Арміі, дадзеную маршалам Жукавым: пачаліся крывавыя, малапаспяховыя баі на рубяжы Вуоксы.

Стратэгічны сэнс тыя атакі, безумоўна, адыгрывалі, савецкія войскі не давалі магчымасці фінам перакідаць рэзервы на Петразаводскі напрамак, дзе імкліва разгортвалася новае наступленне Чырвонай Арміі. Але ж і атакаваць можна па-рознаму…

«Функцыя жорсткага рэалізму ў творах пра вайну — не напалохаць і не эстэтызаваць пачварнае, але давесці трагізм, антылюдскасць ваенных рэалій. І. Навуменка спраўляецца з гэтай задачай без эмацыйнага націску або надрыву — трагізм прабіваецца праз спакойную інтанацыю»[1], праз сюжэт.

Праз гады І. Навуменка пранёс горыч, якую зведаў у тыя дні. Салдаты, якія даказалі, што здольныя на многае, адзін за адным гінулі ў атаках няўцямных, непадрыхтаваных, малапатрэбных. Прыкладна ў такіх жа абставінах раней, адразу пасля вызвалення паўднёвых раёнаў Беларусі, склалі галовы многія партызаны, паспешліва кінутыя ў лабавое наступленне на ўмацаваныя пазіцыі немцаў. Несла непапраўныя страты дарагое для І. Навуменкі пакаленне «сямнаццацігадовых».

*Аляксандр Лапата-Загорскі*

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 705.

## КАМЕНТАРЫІ

Шосты том Збору твораў Івана Навуменкі складаюць два раманы пісьменніка «Сорак трэці» і «Смутак белых начэй».

Творы падаюцца згодна з жанрава-храналагічным прынцыпам. Аснова іх датавання — дата ў аўтографах, машынапісах, прыжыццёвых выданнях і іншых дакументальных крыніцах.

Абодва творы былі апублікаваны пры жыцці пісьменніка: раманы друкаваліся як у літаратурных часопісах, так і выпускаліся асобнымі выданнямі, уваходзілі ў зборнікі.

Тэксты, змешчаныя ў томе Збору твораў, пры перавыданнях не заставаліся нязменнымі. Таму для абодвух раманаў за асноўны прымаецца тэкст апошняй прыжыццёвай публікацыі. З улікам таго, наколькі дбайна ставіўся пісьменнік да падрыхтоўкі кожнага з выданняў, падобны падыход уяўляецца адзіна мэтазгодным.

Для ўзнаўлення дакладнага аўтарскага тэксту твораў, удакладнення іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) фрагменты аўтографаў з праўкамі аўтара (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 8—14);

б) машынапісы раманаў са значнымі праўкамі і ўстаўкамі (ф. 12, воп. 1, адз. зах. 1654; ф. 37, воп. 1, адз. зах. 487);

в) лісты І. Я. Навуменкі да беларускіх пісьменнікаў (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 389, 648);

г) лісты чытачоў з водгукамі на раманы (ф. 415, воп. 1, адз. зах. 202);

д) успаміны пра І. Я. Навуменку (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 751; ф. 237, воп. 1, адз. зах. 89; ф. 405, воп. 1, адз. зах. 101).

**2. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) Зб. тв., 1983, т. 4; 1983, т. 5; Выбр. тв., 1997, т. 2;

б) выданні асобнай кнігай: «Сорак трэці», 1974, 1976, 1996;

в) зб.: «Смутак белых начэй», 1980; «Летуценнік. Смутак белых начэй», 1985.

**3. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Маладосць», 1973, № 10—12; «Полымя», 1979, № 5, 6;

б) газеты: «Звязда», 1973, 16, 18, 20—23, 25—28 верас.; 1979, 2, 5 чэрв; «ЛіМ», 1973, 2 сак; 1979, 4 мая.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі выданнямі выпраўлены памылкі друку і фактычныя недакладнасці. Творы публікуюцца паводле правілаў сучаснай арфаграфіі з захаваннем характэрных асаблівасцей мовы пісьменніка.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі па гісторыі напісання раманаў, называюцца крыніцы тэкстаў з апісаннем, пры наяўнасці, аўтографаў і машынапісаў.

Выяўленыя ў працэсе зверкі крыніц тэксту разначытанні носяць пераважна моўна-стылёвы характар. Яны адлюстроўваюць працэс авалодвання пісьменнікам прыёмамі і метадамі прыгожага пісьменства. Найбольш значныя ў мастацкіх адносінах разначытанні і варыянты падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і разначытанні».

Прыведзены звесткі пра пераклады твораў на іншыя мовы.

## 1973

### Сорак трэці (с. 3)

Друкуецца паводле выдання асобнай кнігай «Сорак трэці», 1996.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1973, № 10—12.

Выходзіў асобным выданнем у 1974, 1976 гг.; друкаваўся ў Зб. тв., 1983, т. 5.

Раман пераклаў на рускую мову М. Гарбачоў (1975, 1976, 1977).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 8, 9), захоўваюцца фрагменты чарнавых варыянтаў рукапісу-аўтографа.

У БДАМЛМ, у папцы часопіса «Маладосць», захоўваецца фрагмент машынапісу рамана з аўтарскімі і рэдактарскімі праўкамі (ф. 37, воп. 1, адз. зах. 487).

С. 3:

*Жандармерыя* (*фр.* gendarmerie) — узброеныя людзі; палітычная паліцыя. Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі 1941—1944 гг. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 10 жандармерскіх акруг.

*...траур па Сталінграду.*— Сталінград — у 1925—1961 гг. назва горада Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі. Да 1925 г. меў назву Царыцын. Трохдзённая жалоба з нагоды паражэння акружанай пад Сталінградам групоўкі нямецкіх войск была абвешчана ў Германіі 3 лют. 1943 г.

*Бацькавічы* — пад такой назвай вывеў у раманнай трылогіі Іван Навуменка сваё роднае мястэчка Васілевічы.

*...акружаная савецкімі войскамі шостая армія...* — Акружэнне 6-й арміі вермахта пад камандаваннем Ф. Паўлюса было завершана савецкімі войскамі 23 лістап. 1942 г., у «кацёл» патрапіла каля 330 тыс. чалавек.

*Паўлюс Фрыдрых* (1890—1957) — нямецкі военачальнік, генерал-фельдмаршал (1943).

*Гітлер* (сапр. Шыкльгрубер) Адольф (1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Германскай Нацыянал-сацыялісцкай партыі з 1921 г. Рэйхсканцлер Германіі з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам. Паводле афіцыйнай версіі скончыў жыццё самагубствам.

*Волга* — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з найвялікшых рэк на зямным шары, найбуйнейшая ў Еўропе.

*...загінула ўся — ад фельдмаршала Паўлюса да апошняга салдата...* — Вайсковае званне фельдмаршалу Ф. Паўлюсу было прысвоена 30 студз. 1943 г., а ўжо 31 студз. 1943 г. нямецкі военачальнік здаўся ў палон; пад Сталінградам у палон патрапіла каля 110 тыс. нямецкіх вайскоўцаў.

*...чырвоных дывізій...*— Чырвоная Армія (Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія (РСЧА)) — афіцыйная назва Савецкай Арміі ў 1918—1946 гг. З’яўлялася асноўнай часткай Узброеных Сіл Савецкай дзяржавы, у склад якіх таксама ўваходзілі Ваенна-марскі флот, пагранічныя і ўнутраныя войскі.

С. 4:

*Немцаў выгналі з Каўказа...* — Каўказ — тэрыторыя паміж Чорным, Азоўскім і Каспійскім морамі ад Кума-Маныцкай упадзіны да паўднёвай часткі Армянскага нагор’я. У межах Каўказа —

Азербайджан, Арменія, Грузія, частка Расіі, Турцыі і Ірана. Увосень 1942 г. нямецка-фашысцкія войскі занялі большую частку Кубані і Паўночнага Каўказа, але пасля паражэння пад Сталінградам узнікла пагроза акружэння і групоўкі на Каўказе, гітлераўцы вымушаны былі імкліва адступаць.

*...з дзюралімініевай бляхі...* — Дзюралюміній — назва групы сплаваў на аснове алюмінію. Слова ўзнікла як вытворнае ад назвы нямецкага горада Дзюрэн (Düren), дзе была распачата прамысловая вытворчасць падобных матэрыялаў.

*...сухія батарэі...* — маюцца на ўвазе акумулятары, якія можна вельмі доўга захоўваць у неактываваным стане; такія батарэйкі пачынаюць працаваць пасля таго, як у іх залівaецца звычайная вада, і могуць сапсавацца ў вільготным памяшканні.

*Дон* — рака на поўдні еўрапейскай часткі Расіі, упадае ў Таганрогскі заліў Азоўскага мора.

*Паўночны фронт* — як аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне савецкіх войск быў створаны 24 чэрв. 1941 г. на базе Ленінградскай ваеннай акругі. Ужо 26 жн. 1941 г. ён быў падзелены на Ленінградскі і Карэльскі франты.

*...прарвана мёртвая пятля блакады пад Ленінградам.*— маецца на ўвазе ваенная блакада нямецкімі, фінскімі і іспанскімі войскамі ў час Вялікай Айчыннай вайны Ленінграда. Доўжылася з 8 верас. 1941 да 27 студз. 1944 г. Блакаднае кальцо было прарвана савецкімі войскамі 18 студз. 1943 г.

С. 5:

*...узята паселішча Вялікаміхайлаўка...* — Вялікаміхайлаўка — паселішча ў Новааскольскім р-не Белгародскай вобл. У перыяд грамадзянскай вайны было цэнтрам, вакол якога фарміравалася Першая конная армія. Вялікаміхайлаўка вызвалена савецкімі войскамі 5 лют. 1943 г.

*Саўінфармбюро* (скар.: Савецкае інфармацыйнае бюро) — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце Народных Камісараў 24 чэрв. 1941 г. Асноўнай задачай бюро было складанне зводак для радыё, газет і часопісаў пра становішча на франтах, працу ў тыле, пра партызанскі рух у час Вялікай Айчыннай вайны. Ліквідавана пастановай ЦК КПСС ад 5 студз. 1961 г.

*Вось і Курск ужо савецкі.*— Курск — цэнтр Курскай вобл. Расіі. Быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 8 лют. 1943 г.

*Краснадар* (да 1920 г. Екацярынадар) — цэнтр Краснадарскага краю Расіі. Вызвалены Чырвонай Арміяй 12 лют. 1943 г.

*Сальск* — горад у Растоўскай вобл. Расіі. Вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 22 студз. 1943 г.

С. 7:

*Днепр* (Дняпро) — рака ў Расіі, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях Беларусі і ва Украіне; трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, упадае ў Чорнае мора.

*...італьянцаў праз Рэчыцу гналі...* — Італьянскія войскі ўдзельнічалі ў баях пад Сталінградам, але ўзброены і падрыхтаваны яны былі горш за нямецкія часці, таму італьянцы панеслі асабліва адчувальныя страты, іх дывізіі фактычна страцілі сваю баяздольнасць і былі адведзены ў тыл.

*У Афрыцы італьянцам і Ромелю хутка капут.*— Ромель Эрвін (1891—1943) — германскі ваенны дзеяч, генерал-фельдмаршал (1942). У 1941—1943 гг. узначальваў фашысцка-германскія войскі ў Афрыцы, у склад якіх уваходзілі і італьянскія вайсковыя злучэнні.

*Туніс не ўтрымаюць.*— У сярэдзіне лістап. 1942 г., пасля Эль-Аламейнскай аперацыі, войскі антыфашысцкай кааліцыі занялі тэрыторыю Марока і Алжыра, уступілі ў Туніс. Нямецка-італьянскія войскі ўвесь час атрымлівалі падмацаванні і ўпарта абараняліся, баі зацягваліся, але ў выніку спроба фашыстаў утрымаць Туніс завяршылася катастрофай: у маі 1943 г. італьянскія і нямецкія войскі тут капітулявалі, у палон патрапіла каля 230 тыс. чалавек.

*...акупіраваў Паўднёвую Францыю.*— Вайна паміж Германіяй і Францыяй 1939—1940 гг. скончылася падпісаннем Камп’енскага перамір’я, згодна з якім Францыя была падзелена на акупацыйную зону нямецкіх войск і зону Паўднёвай Францыі, дзе ўлада была перададзена калабарацыянісцкаму ўраду маршала Петэна. Аднак ужо ў лістап. 1942 г. у Паўднёвую Францыю са згоды французскай адміністрацыі ўводзяцца нямецкія войскі, а 13 мая 1943 г. Францыя была цалкам акупавана немцамі.

С. 8:

*Бургамістр* — начальнік гарадской управы ў некаторых краінах Еўропы і ў XVIII—XIX стст. у Расіі, а таксама на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*...немцы авалодаюць савецкай сталіцай.*— маецца на ўвазе Масква — сталіца Савецкага Саюза.

*...пацярпелі ў трыццаць сёмым ці ў трыццаць восьмым годзе...* — маюцца на ўвазе палітычныя рэпрэсіі ў СССР у сярэдзіне 1930-х гг., звязаныя з культам асобы Сталіна.

С. 9:

*Гебітскамісар* (*ням*. Gebietskommissar) — афіцыйны тытул службовай асобы, якая ажыццяўляла адміністрацыйныя функцыі на акупаваных нацысцкай Германіяй тэрыторыях. Паводле іерархічнага статусу прыраўноўваўся да кіраўнікоў раённых адміністрацый у самой Германіі.

С. 10:

*...валасную ці нават частку раённай паліцыі.—* Воласць — ніжняя адзінка адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў сельскай мясцовасці на акупаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі савецкіх землях.

С*тараста* — пасада, якую ўвялі акупацыйныя нямецкія ўлады на тэрыторыі Беларусі для адміністрацыйнага кіравання вясковым насельніцтвам.

С. 11:

*Аўсвайс* (*ням*. Ausweis) — дакумент.

*...кур'ерскіх цягнікоў...* — Кур'ерскім у першай палове XX ст. лічыўся пасажырскі цягнік, які ішоў без прыпынкаў на невялікіх станцыях; пры гэтым усталёўвалася мяжа, ніжэй за якую сярэдняя хуткасць кур'ерскага быць не магла. Па сучаснай класіфікацыі «кур'ерскі» адпавядае градацыі «хуткасны экспрэс».

*Іх Другая Шанхайская...* — Шанхай — найвялікшы паводле колькасці насельніцтва горад у Кітаі; у XIX ст. стаў асноўным кітайскім портам, пачаў імкліва расці, і недахоп зямельных плошчаў прадвызначыў узнікненне ў горадзе кварталаў надзвычай шчыльнай, сцесненай забудовы. У першай палове XX ст. у многіх краінах свету «шанхаямі» называлі тыя гарадскія раёны, у якіх сцеснена жыла бедната і ў якіх хаатычнасць, непрыгляднасць вулічнай забудовы падкрэслівала нізкі сацыяльны статус насельнікаў.

*...чаргу ля акенца касы...* — Да з'яўлення пластыкавых банкаўскіх картак заработную плату і аванс кожны супрацоўнік павінен быў асабіста атрымаць у бухгалтэрыі прадпрыемства, у дзень, калі супрацоўнікам выдаваліся грошы, ля кас звычайна выстройваліся чэргі.

*Чырвонец* — грашовы крэдытны білет вартасцю ў дзесяць рублёў, які быў ва ўжытку ў СССР у 1922—1947 гг. Даволі значная на той час сума.

С. 12:

*...рушыўся Заходні фронт, прыйшлі немцы.—* маецца на увазе ўся лінія супрацьстаяння расійскіх і нямецкіх войск у Першую

сусветную вайну. Уласна Заходні фронт як аператыўна-стратэгічная групоўка расійскіх войск займаў толькі частку гэтай лініі.

*...кайзераўскіх салдат.*— маецца на ўвазе салдат нямецкай імператарскай арміі; кайзер — афіцыйная назва імператараў Германскай імперыі (*ням.* Kaiser ад *лац.* caesar — цар, цэзар).

*...там, у Германіі, пачалася рэвалюцыя...* — Рэвалюцыйныя выступленні ў Германіі пачаліся 3 лістап. 1918 г. у г. Кіль, вельмі хутка яны распаўсюдзіліся па ўсёй краіне. Ужо 9 лістап. кайзер Вільгельм вымушаны быў адмовіцца ад улады.

*Стракапытаў Міхаіл Аляксандравіч* — былы царскі афіцэр, кіраўнік антыбальшавіцкага паўстання на Беларускім Палессі ў сак. 1919 г.

*Нэп* (скар.: новая эканамічная палітыка) — гаспадарчая палітыка Савецкай дзяржавы ў 1920-я гг. Прынята ўвесну 1921 г. X з’ездам РКП(б), названа новай у адрозненне ад палітыкі ваеннага камунізму, якая праводзілася падчас грамадзянскай вайны ў 1918—1920 гг. Была разлічана на аднаўленне народнай гаспадаркі, прадугледжвала выкарыстанне рынку, розных форм уласнасці, легалізацыю гандлю, пашырэнне прыватнай ініцыятывы, развіццё спажывецкай кааперацыі.

*...не любілі саўбураў...* — скар.: савецкіх буржуяў.

С. 13:

*Кіеў* — горад, сталіца Украіны; *Макееўка* — горад і чыгуначная станцыя ў Данецкай вобл. Украіны.

*Дрызіна* — транспартная машына для перавозкі па чыгунцы людзей і грузаў на невялікую адлегласць. Створана нямецкім вынаходнікам К. Ф. Дрэзам, адсюль і назва.

*Падчас грамадзянскай вайны...* — маецца на ўвазе грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя 1918—1922 гг.

С. 14:

*Перонныя білеты* — звычайна досыць недарагія білеты, якія давалі ўладальніку права выйсці на перон, каб правесці альбо сустрэць пасажыраў цягніка.

*Фашыст* — той, хто падтрымлівае фашызм; фашызм — палітычная плынь праваэкстрэмісцкага характару і адпаведны ёй таталітарны рэжым; ідэалогія, заснаваная на ваяўнічым антыдэмакратызме і нацыяналізме, кульце расавай перавагі. Найбольш характэрныя рысы фашысцкага палітычнага рэжыму: адмаўленне ад дэмакратычнай сістэмы як формы дзяржаўнага ладу на карысць дыктатуры, татальны масавы тэрор, сцвярджэнне асаблівай місіі ад-

паведнага («абранага») народа і апраўданне выкарыстання ім сілы для вырашэння сваіх геапалітычных інтарэсаў, насаджэнне культу пэўнага харызматычнага лідара.

С. 15:

*Лепятаў, што з раскулачаных...* — Раскулачаны — той, каго раскулачылі; раскулачыць — пазбавіць селяніна, які ўважаўся кулаком, сродкаў вытворчасці, вынікаў вытворчай дзейнасці, грашовых накапленняў, права карыстання зямлёй і палітычных правоў. Раскулачванне праводзілася ў СССР у 1920-я — пачатку 1950-х гг. Поўная экспрапрыяцыя гаспадарак часта спалучалася з бязлітаснымі пакараннямі (расстрэлы, зняволенне ў канцлагерах, ссылка ў аддаленыя раёны і інш.) іх уладальнікаў за сапраўдныя або ўяўныя контррэвалюцыйныя дзеянні. У Беларусі набыла асабліва масавы характар у 1929—1931 гг. (усходнія і цэнтральныя раёны) і 1949—1952 гг. (Заходняя Беларусь).

*Бальшавік* — член левага рэвалюцыйнага крыла Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП), якое ўзнікла пасля расколу партыі на фракцыі на II з'ездзе РСДРП (1903). Затым па аналогіі бальшавікамі называлі тых, хто захоўваў асноўныя пастулаты рэвалюцыянераў марксісцка-ленінскага кірунку.

С. 16:

*Наган-самаўзвод* — маецца на ўвазе рэвальвер з сямізарадным барабанам, распрацаваны бельгійскім збройнікам Л. Наганам.

С. 17:

*...круціць ручку тэлефона.*— Да з'яўлення аўтаматычных тэлефонных станцый схема злучэння з іншым абанентам выглядала наступным чынам: чалавек, які наважыўся патэлефанаваць, падаваў сігнал тэлефаністкам (дзеля таго, каб на станцыі прагучаў зумер, і круцілі ручку ў тагачасным тэлефоне), а потым ужо сігналам са станцыі тэлефаністка выклікала патрэбнага адрасата і забяспечвала сувязь паміж двума апаратамі.

С. 18:

*...патрулі-немцы і мадзьяры.*— Мадзьяры — маюцца на ўвазе салдаты венгерскіх войск. Венгрыя ў вайну з СССР уступіла 27 чэрв. 1941 г.

С. 19:

*Браць на цугундар* — прыцягваць да адказнасці, распраўляцца. Фразеалагізм узнік ад нямецкага zu hundert («да сотні»), якое беларусы чулі пры вынясенні акупантамі прысуду «да сотні палак», «да сотні шпіцрутэнаў».

С. 20:

*У саракавым годзе, калі начыста сцягвалі хутары...* — Працэс ссялення хутароў пачаўся ў СССР згодна з пастановай ЦК КП(б) і СНК «Аб ссяленні двароў калгаснікаў, якія пражываюць на былых участках хутарскога землекарыстання, у калгасныя сялібы» ад 27 мая 1939 г.

С. 22:

*Пціч* — рака, пачынаецца на паўднёва-ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша, левы прыток Прыпяці.

С. 26:

*...адкрылася лясная школа.*— У Васілевічах у 1925—1927 гг. працаваў лясны тэхнікум, які затым пераехаў у Буда-Кашалёва.

*...паканчалі школы першай ступені...* — Школа першай ступені — школа, якая існавала ў СССР у 1920—1930-я гг. з пяцігадовым курсам навучання для дзяцей 8—13 гадоў.

С. 27:

*...на пасадзе культурніка...* — маецца на ўвазе пасада культарганізатара.

*...грыз тарана...* — Таран — падвід платвы (азоўска-чарнаморскі таран ці таранка). У крамах сустракаўся найчасцей у сушаным выглядзе. З цягам часу адбылося пашырэнне значэння слова: таранам у 1930—1940-х гг. называлі любую засушаную рыбную драбязу.

С. 28:

*Калі ў Бацькавічах арганізаваўся раён...* — Васілевіцкі (у рамане — Бацькавіцкі) раён існаваў у 1926—1927 і 1938—1959 гг.

*МТС* (скар.: машынна-трактарная станцыя) — дзяржаўнае прадпрыемства ў СССР, якое ажыццяўляла абслугоўванне і рамонт трактароў, камбайнаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі і давала яе ў арэнду калгасам. МТС пачалі працаваць у канцы 1920-х гг., скасаваны ў 1958 г.

*Камсамол* (скар.: Камуністычны саюз моладзі) — масавая маладзёжная арганізацыя ў СССР.

С. 29:

*Знішчальны батальён* — арганізацыйная форма савецкіх паўвайсковых адзінак у 1941 г. Такія батальёны ствараліся ў прыфрантавой паласе для барацьбы з дыверсантамі, парашутыстамі, шпіёнамі, стаўленікамі і памагатымі ворага, а таксама дэзерцірамі, бандытамі і марадзёрамі.

*Вакол Кіева немцы самкнулі клешчы.*— маецца на ўвазе Кіеўскае акружэнне, адно з найбольш маштабных і крывавых

акружэнняў Чырвонай Арміі нямецка-фашысцкімі войскамі ў жн.— верас. 1941 г. У выніку бітвы пад Кіевам у акружэнне трапілі некалькі савецкіх армій і толькі частка воінаў выйшла з акружэння, многія загінулі або трапілі ў палон. Кіеў быў здадзены Чырвонай Арміяй 19 верас. 1941 г.

*...паблізу пралягла мяжа з панскай Польшчай...* — маецца на ўвазе мяжа, якая была праведзена паміж Савецкім Саюзам і Польшчай у 1921 г. паводле Рыжскага мірнага дагавора.

*Фальварковец* — уладальнік фальварка; фальварак (*пол.* Folwark ад *ням.* Vorverk (хутар),— маёнтак, хутар з гаспадарчымі пабудовамі.

С. 30:

*Урал* — тэрыторыя паміж Усходне-Еўрапейскай і Заходне-Сібірскай раўнінамі ў Расіі і Казахстане. Асноўнай часткай гэтага рэгіёна з'яўляецца Уральская горная сістэма, якая цягнецца ад Карскага мора на поўначы да ракі Урал на поўдні больш як на 2 тыс. км. Уздоўж усходняга падножжа Урала звычайна праводзяць мяжу паміж Еўропай і Азіяй.

С. 31:

*Гарбылі* — такую назву ў рамане носіць горад Калінкавічы.

*Кіяшнік* — дыялектная назва кукурузы.

С. 33:

*Райспажыўсаюз* — раённае спажывецкае таварыства.

С. 39:

*СС, СД там, у Германіі...* — СС (*ням.* SS — скар. ад Schutzstaffel — ахоўныя атрады) — арганізацыя германскіх фашыстаў, якая ўзнікла на аснове ваенізаваных фарміраванняў Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Адна з галоўных апор фашысцкага рэжыму. На Нюрнбергскім працэсе (1946) была прызнана злачыннай; СД (SD — скар. ад *ням.* Sicherheitsdienst des Reichsführers SS — служба бяспекі рэйхсфюрара СС) — служба бяспекі і палітычнай разведкі (шпіянажу) унутры СС, якая дзейнічала ў межах Нацыянал-сацыялісцкай партыі (НСДАП) у час дыктатуры гэтай партыі ў Германіі. Заснавана ў 1931 г. Г. Гімлерам (1900—1945) як служба разведкі, з верас. 1932 г. называлася СД.

*Эсэсаўцы* — супрацоўнікі СС і вайскоўцы прыналежных да СС узброеных фарміраванняў.

С. 40:

*...кайзера Вільгельма...* — Вільгельм ІІ (1859—1941) — германскі імператар і прускі кароль (1888—1918). Праводзіў агрэсіўную знешнюю палітыку германскай ваенна-эканамічнай і тэры-

тарыяльнай экспансіі, што садзейнічала набліжэнню Першай сусветнай вайны. Звергнуты рэвалюцыяй 9 лістап. 1918 г.
С. 41:

*Палессе* — гісторыка-культурная і фізіка-геаграфічная вобласць на тэрыторыі Палескай нізіны. Размяшчаецца на поўдні Беларусі і поўначы Украіны, часткова ахоплівае тэрыторыі Люблінскага ваяводства Польшчы і Бранскай вобл. Расіі.

*Камісар* (*лац.* commissarius — упаўнаважаны) — асоба, надзеленая уладай, прадстаўнік цэнтра. У 1918—1942 гг. прадстаўнік камуністычнай партыі ў ваенных частках (у партызанскіх атрадах — па 1945 г.) і іншых дзяржаўных структурах, надзелены каманднымі паўнамоцтвамі.
С. 42:

*Загад зімаваць за Пціччу аддаў Мінскі абкам.*— У раманах І. Я. Навуменкі ідзе размова пра падзеі, што разгортваюцца на тэрыторыі Палескай вобл. БССР. Аднак Палескі падпольны абкам пачаў дзейнічаць толькі ў лют. 1943 г., узімку 1942—1943 гг. партызанскія сілы Палескай вобл. атрымлівалі загады з Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б, які пачаў дзейнічаць у студз. 1942 г.
С. 43:

*Каўпак Сідар Арцёмавіч* (1887—1967) — адзін з заснавальнікаў партызанскага руху ва Украіне ў час Вялікай Айчыннай вайны. Двойчы Герой Савецкага Саюза (1942, 1944). Узначальваў пяць рэйдаў партызан па нямецка-фашысцкіх тылах, у тым ліку рэйд у 1942—1943 гг. з бранскіх лясоў па тэрыторыі Гомельскай і Палескай абласцей.

*Князь-возера* — возера ў Жыткавіцкім р-не Гомельскай вобл.

*...прымер з нас, з Акцябрскага раёна.*— Акцябрскі раён — раён у Гомельскай вобл., утвораны ў 1939 г. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі гэтага раёна быў створаны адзін з першых партызанскіх атрадаў пад кіраўніцтвам Ц. П. Бумажкова і Ф. І. Паўлоўскага. Затым на іх базе ўвосень 1941 г. была ўтворана Акцябрска-Любанская партызанская зона ў выніку вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў частак Акцябрскага, Глускага, Любанскага і Старобінскага раёнаў. Зону ўтрымлівалі злучэнні атрадаў Акцябрскага р-на (13 атрадаў, каля 1300 чалавек).

*...яшчэ трохі ельскія.*— Ельскія — партызаны, якія дзейнічалі на тэрыторыі Ельскага р-на.
С. 46:

*Пастраляюць нас усіх. Як у той Рудобелцы.*— З 20 сак. па 4 крас. 1942 г. фашысцкія захопнікі праводзілі карную экспеды-

цыю «Бамберг» (Bamderg) у Акцябрскім, Глускім, Капаткевіцкім і Бабруйскім р-нах. Былі спалены многія вёскі, у тым ліку і Рудобелка, у агні загінула 2629 мірных жыхароў.

*Млечны Шлях* — галактыка, у якой мы знаходзімся; асноўная частка галактыкі бачыцца на небе як белая паласа, што перасякае неба і ўтворана з вялікай колькасці слабых зорак.

С. 47:

*...спытала пароль. «Маздок»,— сказаў Бондар. «Магілёў»,— пачуў ён у адказ...* — Пароль, з дапамогаю якога вартавы мог зразумець, што перад ім чалавек, далучаны да партызанскага руху, звычайна прызначаўся на суткі. Пароль складаўся з пары слоў, найчасцей — з пары геаграфічных найменняў, і пры гэтым як першая назва (уласна пароль), так і другая (адказ) павінны былі пачынацца з адной літары. Маздок — горад на поўдні Расіі, цэнтр Маздоцкага р-на Паўночнай Асеціі.

С. 48:

*Будзёнаўка* — пашыты з сукна шлем, які ў Чырвонай Арміі ў 1918—1940 гг. быў форменным галаўным уборам; аднымі з першых новыя галаўныя ўборы атрымалі ў свой час байцы Першай коннай арміі, якой у гады грамадзянскай вайны камандаваў С. М. Будзённы, адсюль і назва. Будзённы Сямён Міхайлавіч (1883—1973) — савецкі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935), тройчы Герой Савецкага Саюза (1958, 1963, 1968).

С. 50:

*Хімічны аловак* — аловак, у стрыжань якога дадаваліся растваральныя ў вадзе хімічныя фарбавальнікі, таму падобны аловак, калі ён быў наслінены ці змочаны ў вадзе, пакідаў на паперы больш яскравыя, невыдаляльныя, «чарнільныя» сляды.

С. 53:

*Кучомка* — шапка футрам наверх.

*Пасталы* — абутак з цэлага кавалка скуры, які насіўся з анучамі і прывязваўся да ног аборамі.

*Прыпяць* — рака ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях Беларусі, Валынскай, Ровенскай і Кіеўскай абласцях Украіны, правы прыток Дняпра.

*Калектывізацыя* — працэс аб'яднання аднаасобных сялянскіх гаспадарак у сельскагаспадарчыя кааператывы. Праводзілася ў канцы 1920 — пачатку 1930-х гг. у СССР з мэтай сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы, ліквідацыі сельскай буржуазіі (кулацтва), павышэння таварнасці сельскагаспадарчай вытворчасці.

*Хата-чытальня* — цэнтр асветы ў вёсках СССР, атрымалі вялікае пашырэнне ў 1920-я гг.; да пачатку 1960-х гг. трансфармаваліся ў клубы, дамы культуры, бібліятэкі.

*Ячэйка* — так да 1934 г. у СССР называліся пярвічныя арганізацыі Камуністычнай партыі і камсамола.

С. 55:

*Генерал ад інфанцерыі…* — Інфантэрыя (*італ.* infanteria) — старая назва пяхоты, пяхотнага войска.

С. 56:

*Уцёк з Бабруйска, з лагера.*— На тэрыторыі Бабруйска фашыстамі былі створаны чатыры канцэнтрацыйныя лагеры, два з іх — на тэрыторыі Бабруйскай крэпасці. Да жн. 1942 г. тут загінула каля 40 тыс. савецкіх палонных.

*Бранск* — цэнтр Бранскай вобл. Расіі.

С. 58:

*...хоць хунт солі...* — Фунт — старадаўняя адзінка масы (вагі) у Беларусі і Расіі. У пачатку XX ст. роўная 409,5 грама.

С. 59:

*...мабыць, яшчэ пры паншчыне...* — маецца на ўвазе перыяд, калі дзейнічала прыгоннае права — сістэма юрыдычных норм, якія замацоўвалі пазямельную, судовую, маёмасную, асабістую залежнасць сялян ад феадалаў і феадальнай дзяржавы. Прыгоннае права (паншчына) скасавана паводле сялянскай рэформы 1861 г.

С. 63:

*«Лявоніха»* — папулярны беларускі народны парна-масавы танец на мелодыю аднайменнай песні, якая пачынаецца са слоў «А Лявоніху Лявон палюбіў…».

С. 64:

*Цімакі* — вольныя людзі, прыгонныя, якія збеглі ад свайго ўладальніка.

С. 65:

*Самасад* — тытунь свайго пасеву і хатняй апрацоўкі.

С. 67:

*Стрэчанне* — хрысціянскае свята ў гонар сустрэчы («стрэчання») Ісуса, якога на саракавы дзень ад нараджэння бацькі прынеслі ў храм, і прарока Сімяона, які пазнаў у ім Збаўцу чалавецтва; адзначаецца 15 лют.

С. 69:

*Чарнільны аловак* — тое, што і хімічны аловак; хімічны аловак — гл. камент. на с. 629.

С. 79:

*Вярста* — старадаўняя мера (адзінка) даўжыні. Вядомая з XI ст. З канца XVIII ст. раўнялася 1066, 781 м.

С. 80:

*Міжрайкам* (скар.: міжраённы камітэт) — маецца на ўвазе падпольны партыйны цэнтр на часова акупаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі землях, які ажыццяўляў кіраўніцтва партызанскім рухам і падпольнай барацьбой на тэрыторыі двух і болей сумежных раёнаў.

*У Мінскім штабе…* — маецца на ўвазе штаб Мінскага партызанскага злучэння; менавіта на базе штаба Мінскага злучэння ўжо ў крас. 1942 г. пачало функцыянаваць злучэнне партызанскіх атрадаў Мінскай і Палескай абласцей. Загад пра стварэнне Палескага партызанскага злучэння з'явіўся 15 сак. 1943 г.

*Цэнтральны камітэт* (ЦК) — вышэйшы калектыўны кіруючы орган Камуністычнай партыі паміж з'ездамі ў 1924—1991 гг.

*…ва ўсіх раёнах вобласці.*— Палеская вобл. (у перыяд Вялікай Айчыннай вайны) складалася з Акцябрскага, Брагінскага, Васілевіцкага, Глускага, Даманавіцкага, Ельскага, Жыткавіцкага, Калінкавіцкага, Камарынскага, Капаткевіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага, Нараўлянскага, Парыцкага, Петрыкаўскага, Тураўскага і Хойніцкага р-наў.

*…выпускаць абласную і пяць раённых газет.*— У лют. 1943 г. партызаны Палескай вобл. пачынаюць выданне абласной газеты «Бальшавік Палесся»; 11 мая 1943 г. пачынаецца выданне газеты: «Народны мсцівец» (Акцябрскі р-н), 13 мая — «Бальшавік» (Капаткевіцкі р-н), 1 ліп.— «Голас партызана» (Даманавіцкі р-н), 20 чэрв.— «Сталінская праўда» (Петрыкаўскі р-н), 22 чэрв.— «Сацыялістычная вёска» (Глускі р-н). Пазней у пералік дадаюцца газеты: 23 жн. 1943 г.— «Сацыялістычная праца» (Васілевіцкі р-н), 5 верас.— «За Радзіму» (Мазырскі р-н), 19 верас.— «Кліч Радзімы» (Ельскі р-н), 31 кастр.— «Ленинские заветы» (Тураўскі р-н), 18 ліп.— «Партызан» (Калінкавіцкі р-н), 29 верас.— «По сталинскому пути» (Лельчыцкі р-н).

*Сталін Іосіф Вісарыёнавіч* (сапр. Джугашвілі; 1878—1953) — савецкі палітычны, дзяржаўны, ваенны і партыйны дзеяч. Генеральны сакратар Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) з 1922 г. З канца 1920 — пачатку 1930-х гг. і да самай смерці аднаасобна кіраваў Савецкай дзяржавай.

С. 83:

*Управа* — назва органаў мясцовага кіравання і самакіравання ў Расійскай імперыі, а таксама падчас нямецка-фашысцкай акупацыі (1941—1944).

*Палітрук* (скар.: з *рус.* политический руководитель) — у Чырвонай Арміі з 1935 г. вайскоўцам, якія вялі партыйна-выхаваўчую работу і займалі адпаведныя пасады палітычных кіраўнікоў, прысвойваліся і вайсковыя званні малодшы палітрук, палітрук, старшы палітрук.

*Дванаццацілінейная лямпа* — лямпа, якая працуе на аснове гарэння газы, вадкасці з нафты. Нумар лямпы вызначаўся згодна з шырынёй кнота, лічба выбівалася на самой лямпе. Чым большым быў нумар, тым большым і святлейшым можна было зрабіць агеньчык.

С. 84:

*НКВД* (НКУС; скар.: Народны камісарыят унутраных спраў) — адзін з органаў дзяржаўнага кіравання ў СССР (1934—1946) па барацьбе са злачыннасцю і падтрыманні грамадскага парадку, забеспячэнні дзяржаўнай бяспекі.

*Ваяваў у Іспаніі…* — Грамадзянская вайна ў Іспаніі (1936—1939) пачыналася як спроба часткі вайскоўцаў адхіліць ад улады іспанскі рэспубліканскі ўрад; узброенае процістаянне зацягнулася, неўзабаве абодва канфліктуючыя бакі пачалі атрымліваць дапамогу з-за мяжы. У рэспубліканскай арміі Іспаніі было нямала савецкіх ваенных спецыялістаў.

*Каторыя суткі, як зайцы, спім.*— Ёсць меркаванне, што зайцы спяць, не заплюшчваючы адно вока.

С. 86:

*…зацвярджаюцца на пасяджэнні абкама як брыгады.*— У Палескай вобл. фарміраванне партызанскіх брыгад на базе асобных партызанскіх атрадаў актыўна вялося ў маі — чэрв. 1943 г.

С. 87:

*…дыяганалевая камандзірская гімнасцёрка…* — маецца на ўвазе гімнасцёрка, пашытая з дыяганалю, тоўстай баваўнянай ці шарсцяной тканіны з рубчыкамі, якія ідуць па касой лініі.

С. 88:

*Таратайка* — лёгкая павозка на двух колах.

С. 89:

*…як і ў гражданскую вайну, наша Рудобелка…* — маецца на ўвазе гэтак званая Рудабельская рэспубліка (тэрыторыі Рудабельскай і некалькіх суседніх валасцей Бабруйскага павета), дзе на працягу ўсяго перыяду акупацыі Беларусі войскамі Германіі (1918) і

Польшчы (1919—1920) захоўвалася савецкая ўлада. У студз. 1920 г. карная польская экспедыцыя спаліла на тэрыторыі Рудабельскай рэспублікі некалькі вёсак, у тым ліку і Рудобелку.

— *Чыгунку на Жлобін...* — маецца на ўвазе чыгунка з Оўруча на Жлобін, якая будавалася ў гады Першай сусветнай вайны і была ўведзена ў эксплуатацыю 9 кастр. 1915 г.

— *Як разумець пра пагоны, таварыш сакратар?..*— У СССР пра пагоны доўга гаварылі як пра адзнаку армій буржуазных, эксплуататарскіх, створаных, каб абараняць інтарэсы пануючых класаў, таму знакі адрознення чырвонаармейцаў былі размешчаны на пятліцах і шэўронах. Аднак 6 студз. 1943 г. у Чырвонай Арміі ўводзяцца пагоны.

С. 91:

*Фольксдойч* (*ням*. Volksdeutsche) — абазначэнне «этнічных германцаў», якія жылі за межамі Германіі. У адрозненне ад «рэйхсдойчэ» (*ням.* «Reichsdeutsche», «германцаў рэйха»), прыналежнасць да «фольксдойчэ» («германскасць») вызначалася паводле асобных прыкмет: «сямейнай гісторыі» (ці былі бацькі дойчэ), нямецкай мовы як роднай, імя, царкоўных запісаў і г. д.

*Данбас* — Данецкі вугальны басейн, адна з найважнейшых паліўна-энергетычных баз Еўропы, здабыча вугалю вядзецца на глыбіні 400—800 м; размешчаны ў рэгіёне, які ўключае паўночную частку Данецкай, за выключэннем Прыазоўя, і паўднёвую частку Луганскай абласцей — малы Данбас Украіны. Вялікі Данбас уключае ў сябе Данецкую, Луганскую, часткі Днепрапятроўскай і Растоўскай абласцей Украіны і Расіі.

С. 92:

*...у казармы Гарбылёўскага пяхотнага вучылішча...* — У маі 1941 г. у горад Калінкавічы (які ў рамане носіць назву Гарбылі) было пераведзена Мінскае ваенна-пяхотнае вучылішча.

*Тодтаўскі інжынер...* — Тодтаўскі — які мае дачыненне да Тодта — ваенна-будаўнічай арганізацыі, што дзейнічала ў нацысцкай Германіі. Яна названа па імені Ф. Тодта, які ўзначаліў яе ў 1933 г. З пачаткам вайны атрады тодтаўцаў працавалі за межамі Германіі на аднаўленні шашэйных і чыгуначных мастоў, палатна аўтамабільных дарог і чыгунак.

С. 94:

*...вальса — «Над хвалямі»...* — Мелодыю вальса «Над хвалямі» напісаў мексіканскі кампазітар Х. Росас (1868—1894); твор быў надзвычай папулярны ў першай палове XX ст.

*«Любімы горад»* — песня ў выкананні М. Н. Бернеса (1911—1969) з кінафільма «Знішчальнікі» (1939) Эдуарда Пенцліна (1903—1990). Словы Я. А. Далматоўскага, музыка М. У. Багаслоўскага.

*Растоў і Харкаў вызвалены ў адзін дзень.*— Растоў — цэнтр Растоўскай вобл. Расіі. Баі за Растоў з канца 1941 г. насілі выключна жорсткі характар. Горад напачатку быў захоплены немцамі 21 лістап. 1941 г., аднак Чырвоная Армія змагла адбіць яго 29 лістап. гэтага ж года. 27 ліп. 1942 г. Растоў быў паўторна заняты немцамі, зноў вызвалены 14 лют. 1943 г. Харкаў — цэнтр Харкаўскай вобл. Украіны. Харкаў вызвалены савецкімі войскамі 16 лют. 1943 г. Паколькі гэтая дата прыпадала на аўторак, у нумарах газет, якія па панядзелках не выходзілі, менавіта 16 лют. былі надрукаваны як разгорнутыя паведамленні пра вызваленне Растова, так і (у вячэрняй зводцы Саўінфармбюро) абвестка пра вызваленне Харкава.

*Летась, у маі, нашы падыходзілі да Харкава, але спроба адчыніць вароты Украіны скончылася трагічна.*— Наступленне Чырвонай Арміі на Харкаў, пра якое ідзе размова, пачалося 12 мая 1942 г. Але пасля нямецкага контрнаступлення 22 мая савецкія войскі вымушаны былі адступіць, шматлікія часткі Чырвонай Арміі трапілі ў акружэнне, панёсшы вялікія страты.

*Ёй, мабыць, столькі, колькі чыгунцы — гадоў семдзесят.*— Адкрыццё чыгункі па лініі Лунінец — Гомель, а таксама станцыі Васілевічы, адбылося ў 1886 г.

С. 95:

*...вецер. Ён, як у даваеннай песні пра любімы горад, зноў вяртаецца на ранейшыя кругі.*— Адсылка да выразу з Бібліі. Сэнс выразу «вецер вяртаецца на ранейшыя кругі» — усё некалі пачынаецца ад самага пачатку.

*Палявая жандармерыя* — падраздзяленне ваеннай паліцыі. Яе асноўнымі функцыямі лічыліся затрыманне дэзерціраў і арганізацыя руху транспартных сродкаў на акупаваных тэрыторыях, але з цягам часу каманды палявой жандармерыі пачынаюць прыцягваць і да барацьбы з партызанскім рухам.

*Дзот* (скар.: з *рус.*: деревоземляная огневая точка) — умацаванне з зямлі і бярвенняў, якое мае амбразуры для малакаліберных гармат альбо кулямётаў.

С. 97:

*Карбованцаў, акупацыйных марак не хоча, просіць рэйхсмаркі.*— Паўднёвыя раёны Палескай, Гомельскай і Брэсцкай абласцей БССР нямецка-фашысцкімі акупантамі былі адарваны ад Беларусі і далучаны да рэйхскамісарыята Украіны, дзе ў якасці гра-

шовай адзінкі функцыянаваў карбованец. Але ні да карбованцаў, ні да марак акупацыйных, надрукаваных у Германіі для грашовых разлікаў на акупаваных нямецка-фашысцкімі войскамі тэрыторыях, насельніцтва даверу не мела, больш надзейнай лічылася рэйхсмарка, якая выкарыстоўвалася на тэрыторыі ўласна Германіі.

*Газагенератар* — транспартны сродак, аснашчаны руха віком, палівам для якога служаць дровы.

С. 98:

*Унтэр-афіцэр* (*ням.* Unteroffizier) — афіцэрскі чын малодшага каманднага саставу: фельдфебель, вахмістр, ураднік, феерверкер, кандуктар.

С. 99:

*Біттэ* (*ням.* bitte) — калі ласка.

*...на першай германскай вайне...* — маецца на ўвазе Першая сусветная вайна 1914—1918 гг.

*Дзянікін Антон Іванавіч* (1872—1947) — расійскі военачальнік, адзін з кіраўнікоў белай гвардыі, узначальваў узброеныя сілы поўдня Расіі (1919—1920).

С. 101:

*Bei der Kaserne, vor dem grossen Tor... (Перад казармай, перад вялікімі дзвярамі...)* — песня «Лілі Марлен», якая сталася папулярнай у Другую сусветную вайну як у нямецкіх салдат, так і ў салдат саюзных армій. Словы песні з’явіліся ў гады Першай сусветнай вайны, іх аўтар нямецкі паэт і мастак Х. Ляйп (1893—1983), упершыню былі апублікаваны ў 1937 г. У 1938 г. кампазітар Н. Шульцэ (1911—2002) стварыў музыку.

С. 102:

*...здарылася з нямецкімі крымхільдамі, якія перасталі чакаць пераможцаў зігфрыдаў.*— Зігфрыд — адзін з важнейшых герояў германа-скандынаўскай міфалогіі і эпасу, герой «Песні пра Нібелунгаў». Крымхільда — у германскай міфалогіі бургундская прынцэса, якая стала жонкай Зігфрыда і надзвычай ганарылася сваім мужам. У першых выданнях рамана «Сорак трэці» фраза гучала інакш: *«...здарылася з нямецкімі кунігундамі, якія перасталі чакаць пераможцаў зігфрыдаў».* Кунігундай звалі першую каралеву Германіі. Яе муж Генрых II быў каралём Германіі, а з 1014 г. стаў імператарам Святой Рымскай імперыі. Пры іх кіраванні былі завершаны асноўныя працэсы стварэння нямецкай дзяржаўнасці, паскорана ішоў працэс хрысціянізацыі германскага насельніцтва; у рамане «Вецер у соснах» узгадка пра пару Кунігунда — Зігфрыд засталася ў фразе «нашы кунігунды ваююць нараўне з зігфрыдамі».

*Партызаны хочуць пабудаваць за свой кошт танкавую калону.*— У канцы 1942 г. у акупаваных раёнах Смаленскай вобл. пачынаецца збор сродкаў на пабудову тэхнікі і ўзбраенняў для Чырвонай Арміі; ініцыятыва была падхоплена, і беларускія партызаны таксама пачынаюць збіраць сродкі на будаўніцтва танкавай калоны «Савецкая Беларусь», на іншае ўзбраенне.

С. 104:

*Пад Ржэвам трапіў у палон.*— Ржэў — раённы цэнтр Цвярской вобл. Расіі. Захоплены нямецка-фашысцкімі войскамі 14 кастр. 1941 г. Вакол гэтага гарадка ў 1942—1943 гг. разгарэліся кровапралітныя баі паміж Чырвонай Арміяй і вермахтам. З 30 ліп. па 23 жн. адбылася Ржэўска-Сычаўская наступальная аперацыя Чырвонай Арміі, а з 8 студз. па 20 крас. 1943 г. Ржэўска-Вяземская наступальная аперацыя савецкіх войск.

*Талстой Аляксей Мікалаевіч* (1883—1945) — рускі савецкі пісьменнік.

С. 106:

*А як буду жыці без цябе, дзядочак, / А як пажываці, сізы галубочак?* — Варыянт вядомай беларускай народнай песні «А я ў печы не паліла, мілы мой дзядочак…».

С. 107:

*«Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые...»* — радок з верша «Цыцэрон», напісанага рускім паэтам Фёдарам Іванавічам Цютчавым (1803—1873) у 1836 г.

С. 110:

*На прощанье шаль с каймою / На груди моей стяни...*— радкі з верша «Песня цыганкі» (1853) рускага паэта Якава Пятровіча Палонскага (1819—1898). Верш, пакладзены на музыку, атрымаў назву «Мой костер в тумане светит» і стаў папулярным рамансам. У арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «На прощанье шаль с каймою / Ты на мне узлом стяни…»

*Выдзяленне асобнага Бацькавіцкага атрада…* — 22 крас. 1943 г. ініцыятыўнай групай з Даманавіцкага партызанскага атрада арганізаваны Васілевіцкі атрад. Камандзір атрада С. А. Смерцін, камісар І. Р. Якавенка.

С. 111:

*…кулямёцік, для пачатку нават ручны, сістэмы Дзегцярова…* — маецца на ўвазе кулямёт, распрацаваны савецкім канструктарам В. А. Дзегцяровым (1879—1949).

*Дрыгавічы* — адно з племянных аб’яднанняў усходніх славян, вядомых па пісьмовых крыніцах і археалагічных помніках.

Займалі тэрыторыю на ўсходзе да Дняпра, на поўначы да лініі Барысаў — Лагойск — Заслаўе — вярхоўе Нёмана, на поўдні мяжа пераходзіла за Прыпяць, на захадзе — за Заходні Буг (паводле іншых дадзеных — да Выганашчанскага балота, на поўнач ад Пінска).
С. 112:

*Оўруч* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

*Выйшла першая партызанская газетка. Назва ранейшай, абласной.*— Першы нумар абласной падпольнай газеты «Бальшавік Палесся» выйшаў 14 лют. 1943 г.
С. 113:

*Танкетка* — лёгкая баявая браніраваная машына на гусенічным ходзе, якая актыўна выкарыстоўвалася ваеннымі ў 1920—1930-х гг.

*...мадзьярская дывізія, якая ў пачатку зімы змяніла славацкую.*— Мадзьярская — гл. камент. на с. 625; славацкую.— Падпісаўшы ўвесну 1941 г. пакт з краінамі «восі» (Рым — Берлін — Токіа), Славакія ўдзельнічала ў Другой сусветнай вайне на баку Германіі.
С. 115:

*Дот* (скар.: з *рус.*— долговременная огневая точка) — трывалае фартыфікацыйнае збудаванне з жалезабетону і металічных канструкцый.

*...чыніць уладу над акругай.*— Акруга — на той частцы тэрыторыі Палескай вобл. БССР, якая ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі перадавалася рэйхскамісарыяту Украіны (гл. камент. на с. 634), былі арганізаваны чатыры акругі: Мазырская, Васілевіцкая, Ельская і Петрыкаўская; усе яны падпарадкоўваліся Жытомірскаму гебітскамісарыяту.

*Вышэйшая нацыя* — у заходнееўрапейскай антрапалогіі і расазнаўстве абгрунтоўвалася перавага белай расы, у тым ліку існаванне «вышэйшага» расавага тыпу — бялявых арыйцаў, заснавальнікаў вялікай цывілізацыі. Нашчадкамі гэтай «вышэйшай» расы нацысты абвяшчалі немцаў, «вышэйшую» нацыю.
С. 116:

*Слуга двух гаспод.*— адсылка да вядомай п’есы Карла Гальдоні, у якой камедыйны эфект шмат у чым спараджаецца сітуацыяй адначасовага прыслугоўвання ўвішнага Труфальдына адразу двум наймальнікам.

*...ватманскай паперы.*— Ватманская — якасная белая папера для малявання. Упершыню падобную паперу здолеў вырабіць у XVIII ст. англійскі фабрыкант Джэймс Ватман.

С. 117:

*Харкаў страцілі…* — 18 сак. 1943 г. Харкаў, нядаўна вызвалены Чырвонай Арміяй, быў зноў захоплены немцамі.

*Гжацк, Вязьма — нашы.*— Гжацк — да 1968 г. назва горада Гагарын, цэнтра Гагарынскага р-на Смаленскай вобл. Расіі. Вызвалены Чырвонай Арміяй 6 сак. 1943 г.; Вязьма — горад у Смаленскай вобл. Расіі, цэнтр Вяземскага р-на. Вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 12 сак. 1943 г.

*Палтава* — цэнтр Палтаўскай вобл. Украіны.

*Я — дывізійным, ён — палкавым камісарам.*— Дывізійны, палкавы камісар — у 1935—1942 гг. спецыяльныя вайсковыя званні для старшага (палкавы камісар) і вышэйшага (дывізійны камісар) палітсаставу ў Чырвонай Арміі і на флоце.

*Немцы Смаленск захапілі…* — Смаленск — цэнтр Смаленскай вобл. Расіі. Бітва за Смаленск працягвалася з 10 ліп. па 10 верас. 1941 г., у Смаленск нямецка-фашысцкія войскі ўварваліся 16 ліп. 1941 г. і занялі яго правабярэжную частку, аднак баі за Смаленск працягваліся яшчэ два тыдні. Смаленская бітва доўжылася з 10 ліп. па 10 верас. 1941 г.

С. 118:

*Сабураў Аляксандр Мікалаевіч* (1908—1974) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на акупаванай тэрыторыі Украіны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1942).

С. 120:

*Шчань* — бочка.

*…настрой на душы. Яго не парушае нават паласата-плямісты (якраз мяняе поўсць) заяц…* — Пабачыць зайца пры дарозе ўважалася за дрэнную прыкмету, гэта нібыта прадказвае бяду, гора.

С. 121:

*Біцюг* — конь-цяжкавоз; парода біцюгоў была выведзена ў Расіі, яе назва паходзіць ад рэчкі Біцюг, што працякае ў Тамбоўскай і Варонежскай абласцях.

*Пуд* — старажытная адзінка масы ў Беларусі і Расіі. Вядома з XII ст. У пачатку XX ст. роўная 16,38 кг. Афіцыйна выкарыстоўвалася да 1924 г.

С. 123:

«*Хлеб наш насушчны даждзь нам днесь…*» — радкі з «Малітвы Гасподняй», якую Ісус Хрыстос даў сваім вучням, якія

прасілі Яго навучыць іх маліцца. З’яўляецца асноўнай, галоўнай хрысціянскай малітвай.

*Вялікдзень* — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх» палявых работ. Адсюль і назва. Хрысціяне пераасэнсавалі Вялікдзень у свята ўваскрэсення распятага Ісуса Хрыста, якое стала галоўным хрысціянскім святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванню перамогі над грахом і смерцю. У 1943 г. праваслаўныя святкавалі Вялікдзень 25 крас.

С. 126:

*...такія прыкладна справы, як ваш Пціцкі мост.*— маецца на ўвазе знакамітая партызанская Пціцкая аперацыя. 3 лістап. 1942 г. партызаны Мінскага і Палескага злучэнняў знішчылі чыгуначны мост праз раку Пціч на лініі Брэст — Гомель у Капаткевіцкім (цяпер Петрыкаўскім) р-не. Рух цягнікоў па гэтай лініі спыніўся на 18 дзён.

С. 127:

*Чыгунка Брэст — Гомель* — важная транспартная артэрыя. Будаўніцтва гэтай чыгункі вялося ў 1882—1887 гг.

С. 130:

*Мне мой бацька шынель прыслаў.*— «Бацькам народаў», які клапоціцца пра дабрабыт кожнага чалавека, у СССР часта называлі І. В. Сталіна.

С. 132:

*...рэбры палічым бобікам.*— Бобікі — так зневажальна ў народзе называлі набраных немцамі ў гэтак званыя атрады самааховы паліцэйскіх з мясцовага насельніцтва.

С. 136:

*...міну — націскную ці нацяжную?* — Націскная і нацяжная міны адрозніваліся тым, што першая аўтаматычна ўзрывалася ў момант, калі ўзрывальнік спрацоўваў пад цяжарам цягніка, які наехаў на міну; толькі калі ставілася нацяжная міна, падрыўнік, які трымаў у руках доўгі дрот, прымацаваны да ўзрывальніка, мог сам абіраць момант для выбуху.

С. 137:

*...постаць Лаўрыновіча, якая павольна, нібы падсечанае дрэва, падае на снег...* — 7 крас. 1943 г. у Петрыкаўскім р-не загінуў у баі на перагоне паміж Старушкамі і Брынёвам (ажыццяўлялася спроба захапіць нямецкі вайсковы эшалон) Фёдар Міхайлавіч Языковіч (1903—1943), камандзір Палескага партызанскага злучэння.

С. 138:

*Скразная — у грудзі, дзве сляпыя — у жывот.*— Сляпыя раны — г. зн. такія, пры якіх кулі засталіся ў целе параненага.

С. 139:

*Парэчча* — вёска ў Акцябрскім р-не Гомельскай вобл., паблізу якой у гады Вялікай Айчыннай вайны падчас акупацыі партызаны Акцябрскай зоны стварылі палявы аэрадром, што прымаў самалёты з Вялікай зямлі.

*«Дуглас»* — амерыканскі транспартны самалёт, распрацаваны заводам Douglas Aircraft Company ў 1935 г. Выпускаўся ў шматлікіх мадыфікацыях у ЗША, Японіі і СССР да 1952 г. Адзін з самых масавых самалётаў у гісторыі сусветнай авіяцыі.

*Каб Гітлер не кінуў пад Харкаў новыя танкавыя злучэнні...* — Каб спыніць савецкае наступленне пад Харкавам, немцы паспешліва перакідаюць сюды танкавы корпус СС (танкавыя дывізіі СС «Рэйх», «Адольф Гітлер» і «Мёртвая галава»), які толькі нядаўна быў сфарміраваны на тэрыторыі Францыі.

*Савецкі Саюз* — СССР (Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік) — шматнацыянальная федэратыўная дзяржава, якая існавала са снеж. 1922 да снеж. 1991 г. на тэрыторыі Усходняй Еўропы, Паўночнай, часткі Цэнтральнай і Усходняй Азіі. СССР займаў $^{1}/_{6}$ частку заселенай сушы і быў найбуйнейшай паводле плошчы краінай свету на тэрыторыі, якую да 1917 г. займала Расійская імперыя без Фінляндыі, часткі Польскага царства і некаторых іншых зямель.

С. 140:

*Кузбас* (скар: Кузнецкі вугальны басейн) — размешчаны на поўдні Заходняй Сібіры, у асноўным на тэрыторыі Кемераўскай вобл. Расіі. Адно з найвялікшых радовішчаў вугалю ў свеце.

*...другі цэнтр — Урала-Кузнецкі.*— У 1920—1930-х гг. у СССР многа гаварылі пра стварэнне паблізу Урала Урала-Кузбаскай вугле-металургічнай базы, якая павінна была стаць рэзервовым, на выпадак вайны, цэнтрам прамысловасці краіны. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны праект шмат у чым быў рэалізаваны.

*Нафту дае Баку.*— Баку — сталіца Азербайджана, побач з горадам знаходзіцца мноства цэнтраў нафтаздабычы. У гады Вялікай Айчыннай вайны радовішчы ў Азербайджане забяспечвалі да 80 % усёй нафтаздабычы ў СССР.

*...Грозны і Майкоп вярнулі.*— Грозны — горад на поўдні Расіі, сталіца Чачэнскай Рэспублікі. Перад нямецка-фашысцкімі

войскамі, якія рваліся на Паўночны Каўказ, была пастаўлена задача захапіць горад, але да Грознага вораг так і не дайшоў; Майкоп быў захоплены нямецка-фашысцкімі войскамі 11 жн. 1942 г., вызвалены Чырвонай Арміяй 31 студз. 1943 г.

*Кубань* — стэпавыя раёны прыкубанскай нізіны, што раскінуліся на поўнач ад ніжняга цячэння ракі Кубань. Найважнейшы збожжавы рэгіён Расіі.

С. 141:

*«Заготжывёла»* — установа, якая займалася ў СССР дзяржаўнай мясанарыхтоўкай.

С. 143:

*На буранцы едзе Янка, / Паўтараста рублёў санкі, /Пяцьдзясят рублёў дуга, / А кабыла — качарга...*— жартоўны беларускі верш, у першай палове XX стагоддзя ён быў даволі папулярны, існавала шмат ягоных варыянтаў.

С. 145:

*...яшчэ пры цару паехаў...* — маюцца на ўвазе падзеі, якія адбываліся яшчэ да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.— буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі, у выніку якой скінута царскае самадзяржаўе.

*Сібір* — большая частка азіяцкай тэрыторыі ў Расійскай Федэрацыі, якая распасціраецца ад Урала на захадзе да хрыбтоў Ціхаакіянскага водападзела на ўсходзе і ад Паўночнага Ледавітага акіяна на поўначы да стэпаў Казахстана і мяжы з Цэнтральнай Азіяй на поўдні.

*Павязлі перасяленцаў...* — З мэтай асваення Сібіры ўрад Расіі у 1906 г. выдзяляе сродкі на перасяленне туды ўсіх ахвотных, за 1907—1914 гг. у Сібір пераехала 2,44 мільёна чалавек (395 тыс. сялянскіх сем’яў). Аднак прыжыцца на новых месцах здолелі не ўсе — каля 10 % перасяленцаў вымушаны былі вярнуцца ў родныя мясціны.

*Чынгісхан* (Тэмуджын; 1155 ці 1162—1227) — цюркамангольскі хан, вялікі военачальнік. Стваральнік сусветнай дзяржавы, якая распалася пасля яго смерці, заснавальнік Цюрка-Мангольскай дзяржавы (з 1206), аб’яднальнік Манголіі.

С. 146:

*Райзаг* — раённы аддзел нарыхтовак (скар.: з *рус.* районные заготовки).

*Сельпо* — сельскае спажывецкае таварыства, а таксама крама-кааператыў гэтага таварыства.

С. 148:

*Аземля* — вёска ў Акцябрскім р-не Гомельскай вобл. Менавіта ў гэтай вёсцы 18 ліп. 1941 г. партызанамі пад кіраўніцтвам Ц. Бумажкова і Ф. Паўлоўскага быў разгромлены штаб нямецкай дывізіі. У сак. 1942 г. Аземля была спалена фашыстамі.

С. 149:

*З уласаўскага атрада.*— маюцца на ўвазе ўласаўцы — салдаты і афіцэры, што ваявалі на баку гітлераўскіх войск у складзе «Рускай вызваленчай арміі» пад камандаваннем А. А. Уласава (1901—1946), былога генерал-лейтэнанта Чырвонай Арміі, які ў ліп. 1942 г. трапіў у палон.

С. 150:

*На Волхаве кінуў армію, якая ў акружэнні змагалася каля вёскі Спаская Полісць, і ноччу збег да немцаў у суседнюю вёску Пятніца.*— Волхаў — цэнтр Волхаўскага р-на Ленінградскай вобл. Расіі; Волхаў — рака на паўночным захадзе еўрапейскай часткі Расіі, адзіная рака, якая выцякае з возера Ільмень; 7 студз. 1942 г. пачалася Любанская наступальная аперацыя Чырвонай Арміі па зняцці блакады Ленінграда, якая працягвалася 16 тыдняў і скончылася беспаспяхова. Была страчана 2-я Ударная армія, а яе камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Уласаў быў узяты ў палон і перайшоў на бок фашыстаў; Спаская Полісць — вёска ў Чудаўскім муніцыпальным р-не Наўгародскай вобл. Расіі, знаходзіцца за 125 км на поўдзень ад Санкт-Пецярбурга; Пятніца — вёска ў Наўгародскай вобл. Расіі.

*Неўскі Аляксандр* (каля 1220—1263) — князь наўгародскі (1236—1240, 1241—1251), цвярскі (1247—1253), вялікі князь кіеўскі (1249—1263), уладзімірскі (1253—1263). Выйграў бітву з крыжакамі ў Лядовым пабоішчы на Чудскім возеры ў 1242 г.

*Іван Сусанін* (?—1613) — рускі нацыянальны герой. Кантэкст размовы, у якой узгадваецца гэтая постаць, прымушае задумацца пра наступны аспект: калі Сусанін пагаджаўся весці атрад палякаў праз лес, у вачах аднавяскоўцаў і ворагаў ён мог выглядаць здраднікам — між тым чалавек свядома ішоў на смерць, каб ратаваць Радзіму.

*Напалеон* (Напалеон І Банапарт; 1769—1821) — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, першы консул Французскай Рэспублікі (1799—1804), імператар Францыі (1804—1814, 1815).

*Тэўтон* — воін Тэўтонскага ордэна. Тэўтонскі ордэн — германскі духоўна-рыцарскі ордэн, заснаваны ў XII ст. На працягу некалькіх стагоддзяў праводзіў сваю ваенна-эканамічную і рэлігійную экспансію на балцкія і славянскія землі.

*...ездзіў на паклон да татарскага хана.*— Паездкі Аляксандра Неўскага ў Залатую Арду і Манголію дазволілі ў сярэдзіне XIII ст. пазбегнуць небяспекі ўзброенага супрацьстаяння рускіх княстваў адразу з двума сур'ёзнымі ворагамі: дасягнуўшы, за кошт пэўных саступак манголам, спакою на паўднёва-ўсходніх межах сваёй дзяржавы, князь атрымаў магчымасць сканцэнтравацца на барацьбе з пагрозай з боку нямецкага Тэўтонскага ордэна.

С. 151:

*...за нацыянал-сацыялістычную ідэю.*— Нацыянал-сацыялістычная — тая, якая спрабуе паяднаць ідэю пабудовы сацыялістычнага грамадства, заснаванага на прынцыпах сацыяльнай справядлівасці і роўнасці, з ярка выяўленым нацыяналізмам (расізмам).

*За пакрыўджаную і абыдзеную гістарычным лёсам Германію.*— Па выніках Першай сусветнай вайны Германія вымушана была падпісаць Версальскі мірны дагавор, многія пункты ў якім здаваліся немцам празмерна жорсткімі. Страту тэрыторый, якія звыкла ўспрымаліся спрадвечна нямецкімі, забарону мець паўнавартасныя армію і флот, перспектыву губляць велізарныя сумы грошай, праз выплату якіх пераможаныя павінны былі кампенсаваць ваенныя выдаткі пераможцаў,— усе гэтыя «крыўды» балюча перажывалі многія немцы, і дадзены настрой ствараў спрыяльную атмасферу для прапаганды рэваншысцкіх ідэй.

*Круп* — дынастыя германскіх прамыслоўцаў. Заснавалі і валодаюць шэрагам кампаній, якія доўгі час займаюць вядучыя пазіцыі ў металаапрацоўцы і машынабудаванні. У 1930—1940-я гг. супрацоўнічалі з фашысцкім рэжымам.

*Тысен* — дынастыя германскіх прамыслоўцаў, валодалі буйнымі металургічнымі падпрыемствамі. Некаторыя, у прыватнасці Фрыц Тысен (1873—1951), аўтар кнігі «Я фінансаваў Гітлера» (1940), супрацоўнічалі з нацыстамі з 1920-х гг.

*Рыбентроп Ульрых Фрыдрых Вільгельм Іаахім фон* (1893—1946) — міністр замежных спраў Германіі ў 1938—1945 гг., саветнік А. Гітлера па знешняй палітыцы. Ад імя Германіі падпісаў савецка-германскі дагавор аб ненападзе ад 23 жн. 1939 г.

*«Фёлькішэр беабахтэр»* (*ням*. «Völkischer Beobachter», «Народны аглядальнік») — нямецкая газета. З 1920 г. друкаваны орган Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Выдавалася штотыднёва, з 8 лют. 1923 г. штодзённа. Апошні нумар выйшаў 30 крас. 1945 г.

С. 152:

*...кнігу Гітлера «Майн Кампф»...* — У выдадзенай у 1925 г. (т. 1) і 1926 г. (т. 2) кнізе «Майн Кампф» («Мая барацьба») Гітлер

падрабязна выклаў сваю палітычную праграму. У гітлераўскай Германіі кніга Гітлера «Майн Кампф» уважалася за біблію нацыянал-сацыялізму.

*Рурыкавічы* — род нашчадкаў Рурыка, летапіснага заснавальніка Наўгародскага княства, князя Ноўгарада з 862 г.

С. 156:

*Бабруйск немцы захапілі...* — Бабруйск — горад абласнога падпарадкавання ў Магілёўскай вобл. Беларусі, цэнтр раёна. Гітлераўскія войскі ўвайшлі ў Бабруйск 28 чэрв. 1941 г.

С. 157:

*Азярод* — драўляная канструкцыя для сушкі сена.

С. 160:

*Арол* — цэнтр Арлоўскай вобл. Расіі. Быў акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі 3 кастр. 1941 г.

С. 163:

*...ракаднай да лініі фронту...* — Ракаднай лічыцца дарога, якая ідзе паралельна лініі фронту.

*Стаход* — рака ў Валынскай вобл. Украіны, правы прыток Прыпяці; *Стыр* — рака ў паўночна-заходняй Украіне і ў Беларусі, правы прыток Прыпяці. У гады Першай сусветнай вайны па гэтых рэках праходзіла лінія фронту паміж расійскімі і аўстра-нямецкімі войскамі. «Стаходскай мясарубкай» часам называлі Брусілаўскі прарыў (1916), які адбыўся ў гэтых мясцінах.

*Прайшоўшы праз Гарбылі, новая чыгунка зрабіла звычайную палявую станцыю вузлавой...* — Апісаны І. Навуменкам у раманах «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці» горад Бацькавічы мае шмат агульнага з яго роднымі Васілевічамі. Станцыя ў Васілевічах вузлавой стала пасля таго, як у 1911 г. была пабудавана чыгунка Васілевічы — Хойнікі.

С. 164:

*Лапа* — прыстасаванне, з дапамогай якога чыгуначнікі выцягваюць вялізныя металічныя цвікі (кастылі), што прымацоўваюць рэйкі да драўляных шпал.

С. 165:

*Вялікія натоўпы запаўнялі... на Кастрычнік...* — маецца на ўвазе, што людзі збіраліся 7 лістап., у дзень святкавання гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя адбылася 25 кастр. (паводле старога стылю) 1917 г., і штогод у гэты дзень ва ўсіх населеных пунктах СССР праходзілі масавыя мерапрыемствы з нагоды свята.

С. 169:

*У літвінаўскага пана Горвата...* — Шляхцічы Горваты на працягу XIX ст. былі на Мазыршчыне адным з найбагацейшых родаў. Іх палацы і паркі раскінуліся ў Нароўлі і Галоўчыцах. У Барбарове Горватам належала таксама шмат зямлі, быў пабудаваны шыкоўны палац з англійскім паркам. Палац славіўся сваёй калекцыяй жывапісу. Тут захоўваліся карціны Рэмбранта, Рубенса, Дамеля і Ваньковіча.

*Кары* — сані або вялікія калёсы для перавозкі бярвенняў ці асабліва цяжкіх грузаў.

*Пасля рэвалюцыі факцічаскі ніякай уласці не было.*— маецца на ўвазе час пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.— буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі, у выніку якой было скінута царскае самаўладдзе; тады пачалася працяглая паласа перамен, і працэс усталявання новай улады нярэдка суправаджаўся праявамі анархіі і ўседазволенасці.

С. 170:

*...Германскай імперыі...* — маецца на ўвазе нацысцкая Германія (1933—1945).

С. 171:

*Штаб злучэння разам са штабам Гарбылёўскай брыгады перавандраваў з Літвінава ў вялікае лясное сяло Лужынец.*— У 1943 г. штаб Палескага партызанскага злучэння размяшчаўся пэўны час у вёсцы Праходы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. Вёска на поўдні і на ўсходзе мяжуе з лесам.

*...атрады Гомельскага злучэння...*— Гомельскае партызанскае злучэнне створана ў лістап. 1942 г., камандзір І. П. Кожар. У яго ўваходзіла 14 партызанскіх брыгад.

С. 173:

*Новарасійск* — горад на поўдні Расіі, на ўзбярэжжы Цэмескай бухты Чорнага мора. 4 лют. 1943 г. паблізу Новарасійска быў высаджаны савецкі дэсант, з таго часу баі пад горадам не перапыняліся да 16 верас. 1943 г., калі ён быў вызвалены.

*Таманскі паўвостраў* — паўвостраў, які з поўначы амываецца Таманскім залівам Азоўскага мора, з захаду — Керчанскім пралівам, з поўдня — Чорным морам. У 1943 г. з мэтай утрымання Таманскага паўвострава немцы стварылі сістэму абарончых збудаванняў, гэтак званую «Блакітную лінію». Баі тут працягваліся з лютага па верас. 1943 г.

*...картовы касцюм...* — Касцюм з корту — баваўнянай тканіны, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення.

С. 175:

*Пульманаўскі вагон* — вялікі пасажырскі або таварны вагон, назва паходзіць ад імя амерыканскага вынаходніка і прамыслоўца Д. М. Пульмана (1831—1891).

С. 176:

*...срэбнага, нэпманаўскіх часоў паўрубля.*— Срэбныя манеты вартасцю 50 капеек выпускаліся ў 1921—1922 гг. Па сваім афармленні яны адрозніваліся ад срэбных манет таго ж наміналу, якія выпускаліся ў СССР пазней, у 1924—1927 гг.

С. 178:

*ФЗУ* (скар.: з *рус*. фабрично-заводское училище) — маецца на ўвазе школа ФЗН (скар.: фабрычна-заводскае навучанне). Школы фабрычна-заводскага навучання — ніжэйшыя прафесійныя навучальныя ўстановы ў СССР. Створаны ў 1940 г. з мэтай падрыхтоўкі рабочых масавых прафесій вытворчых спецыяльнасцей. У 1959—1963 гг. пераўтвораны ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы.

С. 179:

*Гомельская брыгада «Бальшавік»* — створана на базе арганізаванага ў жн. 1941 г. партызанскага атрада «Бальшавік». Дзейнічала ў Гомельскай і Палескай абласцях. Камандзір брыгады І. Ф. Гамарка, камісар В. М. Палянічка.

С. 180:

*Цячэ Сведзь у Бярозу, Бяроза — у Днепр.*— Сведзь — рака ў Калінкавіцкім, Светлагорскім і Рэчыцкім р-нах Гомельскай вобл., правы прыток ракі Бярэзіны. Бяроза — маецца на ўвазе рака Бярэзіна (Беразіна), што працякае па тэрыторыі Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей. Бярэзіна — правы прыток Дняпра.

*Жыхар — камандзір злучэння...* — маецца на ўвазе камандзір Гомельскага партызанскага злучэння — Ілья Паўлавіч Кожар (1902—1967), Герой Савецкага Саюза (1944).

*Іерыхонская труба* — выраз з біблейскага міфа. Яўрэі пасля егіпецкага палону на сваім шляху ў Палесціну павінны былі ўзяць горад Іерыхон, але не маглі разбурыць яго моцных сцен. Аднак ад гуку свяшчэнных труб іерыхонскія сцены палі самі сабой, і дзякуючы гэтаму цуду яўрэі захапілі горад (Кніга Ісуса Навіна, 6). Выраз «труба іерыхонская» ўжываецца ў значэнні «моцны, трубны голас».

С. 182:

*...брашура Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне»...* — маецца на ўвазе брашура «Аб Вялікай Айчыннай вайне Савецкага

Саюза», складзеная з прамоў І. В. Сталіна, яго адказаў на пытанні карэспандэнтаў замежных газет, загадаў і г. д. З кожным новым перавыданнем аб'ём брашуры заканамерна ўзрастаў (у 1942 г. кніга мела 80 старонак, у 1943 г.— 98 старонак, у 1944 г.— 120 старонак). Сумарны наклад усіх сталінскіх выданняў з аналагічнай назвай (за гады Вялікай Айчыннай вайны) дасягнуў 19 млн экзэмпляраў.

С. 183:

*«Известия»* — савецкая і расійская грамадска-палітычная і дзелавая штодзённая газета, заснаваная ў сак. 1917 г. Падчас існавання СССР — афіцыйны орган кіруючых органаў савецкай улады, у прыватнасці, Вярхоўнага Савета СССР.

*...пастанова аб роспуску Інтэрнацыянала.*— маецца на ўвазе роспуск Камуністычнага Інтэрнацыянала (Камінтэрна), міжнароднага аб'яднання камуністычных партый і блізкіх да іх арганізацый. Камінтэрн заснаваны ў 1919 г. Па ініцыятыве І. Сталіна Прэзідыум выканкама Камінтэрна 15 мая 1943 г. прыняў рашэнне аб роспуску. У газеце «Известия» пастанова змешчана ў нумары за 23 мая.

*«Privat»* — марка нямецкіх цыгарэт.

С. 186:

*Лімонка* — маецца на ўвазе ручная асколачная граната Ф-1. Выпускалася ў СССР, была распрацавана на аснове французскай асколачнай гранаты F-1 мадэлі 1915 г.

*...кавалерыйская СВТ...* — СВТ — самазарадная вінтоўка Токарава калібрам 7,62 мм. Распрацавана Фёдарам Васільевічам Токаравым (1871—1968) у 1938 г. (СВТ-38), мадэрнізавана, з улікам выяўленых у ходзе фінскай вайны недахопаў, у 1940 г. (СВТ-40). Кавалерыйскі варыянт СВТ быў больш кампактны, меншага памеру.

*...надзета штосьці накшталт веласіпеднага насоса.*— Партызанамі з 1942 г. эфектыўна выкарыстоўваўся распрацаваны братамі Міцінымі глушыльнік «БраМіт» (скар.: ад *рус.* «братья Митины»), які вонкава сапраўды нагадваў прымацаваны да вінтоўкі невялікі насос.

С. 188:

*Сёмуха* — свята Сашэсця Святога Духа на апосталаў, адно з галоўных хрысціянскіх святаў. Адзначаецца на пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня.

С. 189:

*...шарфюрары, унтэрфюрары, штурмфюрары...* — вайсковыя званні ў войсках СС.

*Вермахт* (*ням.* Wehrmacht) — афіцыйная назва ўзброеных сіл фашысцкай Германіі ў 1935—1945 гг.

С. 190:

*...з ліку паволжскіх немцаў...* — Паволжа — тэрыторыя, якая прылягае да сярэдняга і ніжняга цячэння Волгі і якая эканамічна імкнецца да яе. У XVIII ст., згодна з маніфестам Кацярыны II, у Паволжы пачынаюць рассяляць германскіх перасяленцаў, пра іх нашчадкаў і гавораць як пра паволжскіх немцаў.

С. 191:

*«Калгаснік»* — радыёпрыёмнік, які адносіўся да серыі батарэйкавых прыёмнікаў. Мадэль выпускалася з 1934 г. на маскоўскім заводзе імя Арджанікідзэ, у 1936 г. вытворчасць перададзена на варонежскі завод «Электрасігнал». «Калгаснік» заўважна саступаў іншым савецкім прыёмнікам таго часу як у выбіральнасці сігналаў, так і ў адчувальнасці. Размяшчаўся ў драўлянай скрынцы, якая прыкрывалася дэрмацінам. Вага — 3,3 кг.

*«Тэлефункен»* (*ням.* Telefunken) — нямецкая прамысловая кампанія, заснаваная ў 1903 г., спецыялізавалася на выпуску радыёабсталявання.

*...як два старыя ўкраінцы перавозяць байцоў цераз раку, даючы наказ хутчэй вяртацца...* — маецца на ўвазе апавяданне «Ноч перад боем», аўтар — украінскі і расійскі кінарэжысёр, пісьменнік Аляксандр Пятровіч Даўжэнка (1894—1956).

*Ой, Днепро, Днепро, ты широк, могуч, / Над тобой, Днепро, журавли...*— радкі з «Песні пра Дняпро», музыка М. Г. Фрадкіна (1914—1990), словы Я. А. Далматоўскага (1915—1994). Твор напісаны ў 1941 г., на грампласцінцы выйшаў у канцы 1942 г.

С. 195:

*Патэфон* — механізм для прайгравання грамафонных кружэлак, асобая версія грамафона, якую можна пераносіць.

*...бёрдамі, набіліцамі...* — Бёрды, набіліцы — дэталі, што выкарыстоўваліся ў кроснах — ручных ткацкіх станках: набіліцы — драўляныя планкі, у якія ўстаўляюцца бёрды.

С. 196:

*Атлантычны вал* — такую назву атрымала сістэма нямецкіх абаронча-фартыфікацыйных збудаванняў уздоўж марскога ўзбярэжжа Францыі.

*...напусціў пад Эль-Алямейнам у порткі.*— Эль-Аламейн — населены пункт у Егіпце. Пад Эль-Аламейнам з 23 кастр. па 4 лістап. 1942 г. брытанскія войскі пад камандаваннем Б. Л. Мантгомеры прарвалі абарону нямецка-італьянскай групоўкі Э. Ромеля;

італьянская і нямецкая арміі страцілі каля 55 тыс. чалавек, наступаючыя — 13 тыс. чалавек.

*...зімой было пад Псковам, Смаленскам, вясной — пад Карачавам.*— Пскоў — горад у Расіі, цэнтр Пскоўскай вобл.; Смаленск — гл. камент. на с. 638; Карачаў — горад у Расіі, цэнтр Карачаўскага р-на Бранскай вобл. Пералічваюцца мясціны, у якіх у 1942—1943 гг. актыўна дзейнічалі партызаны, нямецка-фашысцкія акупанты ў адказ праводзілі там карныя экспедыцыі.

С. 197:

*Адэса* — горад ва Украіне, адміністрацыйны цэнтр Адэскай вобл. З 5 жн. па 16 кастр. 1941 г. пад Адэсай працягваліся ўпартыя баі, і толькі пасля таго, як савецкі гарнізон Адэсы быў перавезены караблямі ў Крым, у горад змаглі ўвайсці нямецка-фашысцкія захопнікі.

*Рот фронт* — нямецкая камуністычная палітычная і баявая арганізацыя ў 1924—1933 гг.

С. 198:

*Айнзацткаманды* — ваенізаваныя фарміраванні, якія ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі здзяйснялі масавыя забойствы насельніцтва.

С. 199:

*Фатэрлянд* (*ням.* Vaterland) — радзіма.

*Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі пісьменнік і публіцыст.

*Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч* (1821—1881) — рускі пісьменнік.

*Хіба англічане, іспанцы, партугальцы, рынуўшыся пасля Калумба ў Амерыку...* — Калумб Хрыстафор (1451—1506) — іспанскі мараплавец італьянскага паходжання, які ў 1492 г. адкрыў для еўрапейцаў Амерыку. Адкрыццё Калумбам Амерыкі дало пачатак працэсу каланізацыі Новага Свету, карэннае насельніцтва Амерыкі пры гэтым бязлітасна вынішчалася.

*Гётэ Іаган Вольфганг фон* (1749—1832) — нямецкі пісьменнік, мысліцель і прыродазнаўца; адзін з заснавальнікаў нямецкай літаратуры новага часу.

*Шылер Фрыдрых* (1759—1805) — нямецкі паэт і драматург.

*Гітлерюгенд* (*ням.* Hitler Jugend) — маладзёжная арганізацыя ваенізаванага тыпу Нацыянал-сацыялісцкай партыі Германіі. Была створана ў 1936 г.

*...ландскнехты забіраюць маёмасць.*— Ландскнехт (*ням.* Landsknecht (land — зямля, краіна і knecht — парабак, салдат),

літаральна — нямецкая наёмная пяхота) — у дадзеным выпадку выкарыстана ў значэнні «наёмнікі, парабкі».

С. 200:

*Фельдпошта* — сувязь, пры якой паведамленні (найперш асабліва важныя і сакрэтныя) перавозіліся спецыяльнымі ваеннымі кур'ерамі.

*Штурмбанфюрар* — вайсковае званне ў войсках СС, прыкладна адпавядала вайсковаму званню маёр у вермахце.

*Урляўб* (*ням.* Urlaub) — адпачынак.

С. 202:

*Каптэнармус* — асоба, якая адказвае ў войску за захаванне і выдачу матэрыяльных каштоўнасцей.

*...ваколіцы сталіцы райха.*— маецца на ўвазе Берлін.

*Судэты* — горы ў Цэнтральнай Еўропе, на тэрыторыі Германіі, Польшчы і Чэхіі.

*...адзначаліся нацысцкія святы...* — Для замены традыцыйных святаў германскія нацысты ўвялі ўласныя святочныя дні — дзень узяцця ўлады (30 студз.), дзень заснавання нацысцкай партыі (14 лют.) і г. д. У гэтыя дні паўсюдна вывешваліся партрэты Гітлера і ладзіліся факельныя шэсці.

*...гусіцкай крэпасці.*— маецца на ўвазе крэпасць, пабудаваная ўзброенымі гусітамі — паслядоўнікамі чэшскага рэлігійнага рэфарматара Яна Гуса (каля 1369—1415).

С. 203:

*Ротэнфюрар* — званне ў войсках СС, прыкладна адпавядала званню обер-яфрэйтар у вермахце.

С. 205:

*Ісус Хрыстос* (Ісус з Назарэта) — цэнтральная асоба ў хрысціянстве, якое разглядае Яго як Месію, уважае за збавіцельную ахвяру за грахі людзей.

*Эльзасец* — жыхар Эльзаса, гістарычнай вобласці на ўсходзе Францыі. З 1871 па 1918 г. заваяваны немцамі Эльзас уваходзіў у Германскую імперыю, пасля Першай сусветнай вайны — у складзе Францыі. У 1940 г. быў паўторна акупаваны Германіяй.

С. 206:

*Шнапс* — моцны алкагольны напой, вырабляецца ў Германіі.

С. 214:

*Баўэр* — у Германіі: уладальнік гаспадаркі ў сельскай мясцовасці.

*...па самы дыфер...*— маецца на ўвазе дыферэнцыял — механізм машыны.
С. 215:

*...хустках-канаплянках.*— маюцца на ўвазе хусткі з канапляных (вырабленых з канапель) нітак.
С. 218:

*Курань* — лёгкая жылая пабудова; будан, зямлянка.
С. 219:

*Літоўку адкляпаў...* — Літоўка — від касы з доўгім палатном і высокім касільнам.
С. 220:

*Чырвоны абоз* — у СССР: па-святочнаму аформленая калона з вазоў ці аўтамашын, на якіх сяляне везлі зерне, каб здаць ураджай дзяржаве.

*Адыходнікі* — сяляне, якія ідуць з вёскі на часовыя заробкі.
С. 221:

*Пярэдайка* — няцельная карова, якая без перапынкаў на выношванне плода дае малако.
С. 224:

*Ostfront* (*ням.* Усходні фронт) — У Германіі ў 1941—1945 гг. Усходнім фронтам называлася лінія ўзброенага процістаяння з СССР.
С. 225:

*Цемрук* — горад у Расіі, цэнтр Цемрукскага р-на Краснадарскага краю. Размешчаны на правым беразе ракі Кубань, блізка да месца, дзе Кубань упадае ў Азоўскае мора.

*Рослаў* — маецца на ўвазе Рослаўль, горад у Расіі, раённы цэнтр Смаленскай вобл.

*Вялікія Лукі* — горад у Расіі, раённы цэнтр у Пскоўскай вобл. З 9 жн. 1941 па 18 лют. 1944 г. горад быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.
С. 226:

*На Паўднёвым фронце...*— Паўднёвы фронт створаны 24 чэрв. 1941 г.; у ліп. 1942 г., пасля цяжкіх страт, яго давялося расфарміраваць; пазней, 1 студз. 1943 г., Паўднёвы фронт узнікае на базе войск расфарміраванага Сталінградскага фронту.

*Ляжнёўка* — дарога з насланага бярвення.
С. 228:

*Варвары* — назва, якую давалі старажытныя грэкі і рымляне суседнім з імі плямёнам і народам, што пазней атрымала зневажальнае адценне, зніжаны сэнсавы характар.

С. 231:

*...адзін служыў у Францыі, другі — у Нарвегіі.*— Служыў у Францыі — гл. камент. на с. 622; Нарвегія ў Другую сусветную вайну, нягледзячы на нейтралітэт, была акупавана нямецка-фашысцкімі войскамі ў ходзе двухмесячнай гэтак званай Нарвежскай аперацыі ў 1940 г.

С. 233:

*Пра наступленне нямецкія зводкі паведамляюць узнёсла.*— Наступленне войск вермахта ў раёне Курскага выступу, занятага савецкімі войскамі ў ходзе зімовых баёў 1942—1943 гг., пачалося 5 ліп. 1943 г. Наступальная аперацыя павінна была, на думку нямецкага камандавання, рашуча змяніць сітуацыю на фронце на карысць нямецкіх войск.

*Белгарад* — горад на поўдні еўрапейскай часткі Расіі, цэнтр Белгарадскай вобл.

«*Тыгр*» — нямецкі цяжкі танк часоў Другой сусветнай вайны, распрацаваны ў 1941 г. фірмай «Хеншэль».

*«Фердынанд»* — нямецкая цяжкая самаходна-артылерыйская ўстаноўка перыяду Другой сусветнай вайны класа знішчальнікаў танкаў. Распрацавана ў 1942—1943 гг. нямецкім канструктарам Фердынандам Поршэ, у гонар якога і была названа.

*Самаходкі* — самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі.

*...творыцца там, пад Курскам і Белгарадам.*— План нямецкай наступальнай аперацыі «Цытадэль» прадугледжваў акружэнне ў раёне Курска і Белгарада войск Чырвонай Арміі, што займалі гэтак званы Курскі выступ; некалькі дзён нямецкія войскі марудна, з цяжкімі баямі, рухаліся наперад.

С. 234:

*...лопнула нямецкае наступленне.*— З 12 ліп. 1943 г. наступленне нямецка-фашысцкіх войск пад Курскам і Белгарадам фактычна спынілася.

*...Чырвоная Армія наступае.*— 12 ліп. 1943 г. пачалі контрнаступленне пад Курскам войскі Заходняга і Бранскага франтоў (паўночны край Курскай дугі), 16—18 ліп.— войскі Варонежскага і Сцяпнога франтоў (паўднёвы фланг Курскай дугі).

*Заварушыліся саюзнікі — захапілі Сіцылію.*— Аперацыя войск антыгітлераўскай кааліцыі на Сіцыліі пачалася 10 ліп. 1943 г. і завяршылся 17 жн. 1943 г.

С. 235:

*Мусаліні спёкся.*— Мусаліні Беніта (1883—1945), італьянскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, прэм’ер-міністр Італіі ў 1922—

1943 гг. У ліп. 1943 г. пазбаўлены ўлады і арыштаваны (менавіта пра гэта і ідзе размова ў рамане), але пазней, у выніку спецыяльнай аперацыі нямецкіх вайскоўцаў, Мусаліні быў вызвалены. Да 1945 г. ён узначальваў прагітлераўскую Італьянскую сацыяльную рэспубліку на поўначы Італіі.

*...нейкі маршал Бадольё.*— Бадольё П’етра (1871—1956) — дзяржаўны і ваенны дзеяч Італіі, маршал (1926). Галоўнакамандуючы італьянскімі войскамі ў італа-эфіопскай вайне, пасля завяршэння вайны быў віцэ-каралём Эфіопіі (1936—1937). 25 чэрв. 1943 г. маршал Бадольё ўдзельнічаў у дзяржаўным перавароце, які прывёў да падзення фашысцкай дыктатуры Б. Мусаліні, пасля чаго стаў прэм’ер-міністрам новага ўрада. 3 верас. 1943 г. падпісаў дагавор аб перамір’і з антыфашысцкай кааліцыяй, 19 кастр. 1943 г. абвясціў вайну Германіі.

*— Вось Берлін — Рым...* — Гэтак называўся агрэсіўны ваенны саюз Германіі, Італіі і шэрагу іншых краін. Выразна аформіўся пасля падпісання 22 мая 1939 г. у Берліне дагавора аб ваеннай узаемадапамозе паміж Германіяй і Італіяй.

*Дучэ* (ад *італ.* duce — правадыр, кіраўнік) — тытул, які ўжываўся ў дачыненні да Беніта Мусаліні як да кіраўніка Італіі.

С. 238:

*Чырвоны Крыж* — Міжнародны гуманітарны рух, заснаваны ў 1863 г. Уключае добраахвотныя таварыствы дапамогі ваеннапалонным, хворым і параненым воінам, іншым ахвярам вайны. У мірны час аказвае дапамогу пацярпелым ад стыхійных бедстваў, у шэрагу краін праводзяць мерапрыемствы па прадухіленні захворванняў.

С. 242:

*...пад Варонежам трапіў у палон.*— Варонеж — цэнтр Варонежскай вобл. Расіі. Баі ў раёне Варонежа пачаліся ў ліп. 1942 г., яны працягваліся да студз. 1943 г. Правабярэжная частка горада была пад акупацыяй.

*Чарнігаў* — цэнтр Чарнігаўскай вобл. Украіны. Акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 9 верас. 1941 г.

С. 244:

*Нейкія людзі катаюцца на лыжах з гор, начуюць у закінутай хібары, палююць за аленем. Сярод мужчын — адна жанчына, яна зламала нагу...* — У перыяд поспехаў германскай арміі нямецкія кінематаграфісты найчасцей здымалі прапагандысцкія стужкі пра вайну, у якіх услаўлялася мужнасць пераможцаў, і камедыі; з 1942 г.

у кінапракаце ўсё часцей пачынаюць сустракацца меладрамы, што сведчыла пра змену настрояў у нямецкім грамадстве.

*Тэрмітны шарык* — зброя, якая выкарыстоўвалася партызанамі для дыверсій, гэта спрэсаваная тэрмітная сумесь, звонку прыкрытая засцерагальнай абалонкай.

С. 246:

*...соцкі з Кавенек...* — Да 1917 г. у Расіі соцкі — пасада, якую займаў чалавек, абраны прыблізна ад ста двароў для выканання пэўных адміністрацыйных і паліцэйскіх абавязкаў; на занятых фашыстамі тэрыторыях соцкага прызначалі, каб ён даносіў да насельніцтва патрабаванні акупацыйнай адміністрацыі.

С. 247:

*Вызвалены Арол, Белгарад...* — Гэтыя гарады былі вызвалены савецкімі войскамі 5 жн. 1943 г.

*...салютуе войскам сотнямі гармат. Першы за вайну салют!* — У гонар вызвалення гарадоў Арол і Белгарад падчас Вялікай Айчыннай вайны ў 1943 г. упершыню быў дадзены святочны салют у сталіцы СССР Маскве.

С. 249:

*Саюзнікі высадзіліся ў Паўднёвай Італіі.*— Высадка войск антыфашысцкай кааліцыі ў Паўднёвай Італіі пачалася 3 верас. 1943 г.

С. 255:

*...нікога не шманае: гебітскамісара ўзарваў. У собсцвенным кабінеце.*— маецца на ўвазе, што камандзір беларускай партызанскай брыгады меў дачыненне да дыверсіі ў Жытоміры, дзе ў чэрв. 1943 г. было ўзарвана памяшканне гебітскамісарыята. Гебітскамісар пры гэтым быў цяжка паранены, а яго намеснік забіты.

С. 259:

*РЫК* — скар.: з *рус.* районный исполнительный комитет (РИК).

С. 261:

*Батальённы камісар* — У 1935—1942 гг. спецыяльнае вайсковае званне для старшага палітсаставу ў Чырвонай Арміі і на флоце.

С. 263:

*Идет война народная, / Священная война...* — радкі з вядомай песні «Священная война», словы да якой напісаў В. І. Лебедзеў-Кумач (верш апублікаваны 24 чэрв. 1941 г. адразу ў дзвюх газетах, «Известиях» і «Красной звезде»), а музыку А. В. Аляксандраў.

С. 264:

*...палонных сербаў — больш чым паўтараста чалавек.*— Сербія (як частка Югаславіі) была акупавана нямецка-фашысцкімі войскамі ў 1941 г.; партызанская барацьба супраць фашысцкай акупацыі на тэрыторыі Сербіі насіла масавы характар.

С. 265:

*Аўстра-Венгрыя* — шматнацыянальная дзяржава, якая існавала ў Цэнтральнай Еўропе ў 1867—1918 гг.

*Шаша-брусчатка* — шаша з брускоў; брусок — камень для брукавання дарог, вуліц.

С. 267:

*...дзеда Талаша...* — Талаш Васіль Ісакавіч (1844—1946) — удзельнік партызанскага руху ў Беларусі ў грамадзянскую 1918—1920 гг. і Вялікую Айчынную войны. Прататып галоўнага героя аповесці Якуба Коласа «Дрыгва» (1933).

С. 268:

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, вучоны, педагог, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1926).

*«Кацюша»* — папулярная песня, напісаная ў 1938 г. на словы М. В. Ісакоўскага, музыка М. І. Блантэра. Існавалі дзясяткі варыянтаў тэксту гэтай знакамітай песні.

С. 269:

*Гамбург* — горад на поўначы Германіі, на рацэ Эльба, галоўны марскі порт краіны.

*Фельдфебель* — у некаторых краінах званне старшага унтэрафіцэра; часам фельдфебель займаў пасаду памочніка камандзіра роты па гаспадарцы.

С. 270:

*Дунай* — рака на тэрыторыі Германіі, Аўстрыі, Славакіі, Венгрыі, Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Македоніі і Славеніі, Балгарыі, Румыніі, Украіны; другая ў Еўропе паводле даўжыні пасля Волгі.

С. 271:

*Узят Харкаў...* — Харкаў быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23 жн. 1943 г.

*...у зводцы — Сумскі, Палтаўскі напрамкі.*— Сумскі напрамак — напрамак, які дазваляе выйсці на Сумы — цэнтр Сумскай вобл. Украіны; Палтаўскі напрамак выводзіць на Палтаву.

С. 272:

*На бой, славяне, / Судьба сурова! / Неволи, рабства / Порвем оковы! / В крови, в пожарах / Белград и Прага, / В сердцах сыновьих / Растет отвага!..*— Бялград — сталіца Сербіі; у 1941 г. нямецка-фашысцкія войскі акупавалі Бялград, сталіцу тагачаснай Югаславіі. Прага — сталіца Чэхіі (у 1918—1993 гг.— сталіца Чэхаславакіі). У 1939 г. нямецка-фашысцкія войскі акупавалі гэты горад.

*...югаслаўскі лётчык...* — Югаславія — дзяржава, якая існавала ў Паўднёва-Усходняй Еўропе ў 1918—2003 гг. 17 крас. 1941 г. без абвяшчэння вайны нямецкія, італьянскія, балгарскія і венгерскія войскі напалі на Югаславію і акупавалі яе.

С. 273:

*Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч* (1902—1984) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну. У 1942—1944 гг. начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання.

*Днепрагэсы...* — Днепрагэс (скар.: Дняпроўская гідраэлектрастанцыя) — першая буйная гідраэлектрастанцыя на Дняпры (гл. камент. на с. 622), пабудаваная паводле плана ГОЭЛРО ў 1928 г. Наступныя гідраэлектрастанцыі, якія будаваліся ў СССР, у газетах таксама часам называлі днепрагэсамі, падкрэсліваючы гэтым няспыннасць працэсу электрыфікацыі краіны.

С. 274:

*...паркалёвыя* сукенкі.— Паркаль — лёгкая бавоўняная аднаколерная альбо з набіўным малюнкам тканіна.

С. 281:

*...супрацьтанкавыя ружжы.*— У кастр. 1941 г. Чырвоная Армія, якая адчувала недахоп супрацьтанкавай артылерыі на фронце, пачала атрымліваць і выкарыстоўваць супрацьтанкавыя ружжы (ПТР) дзвюх сістэм, ПТРД (распрацавана В. А. Дзегцяровым) і ПТРС (сістэмы С. Г. Сіманава). У 1943 г. на франтах пільнай патрэбы ў ПТР ужо не адчувалася, і зброю пачалі масава перапраўляць у партызанскія атрады.

С. 282:

*Апель* (*ням*. Appell) — збор, пераклічка.

С. 283:

*Веркшуц* (*ням.* Werkschutz) — фабрычная ахова.

С. 285:

*Штэйгер* — майстар, які займаецца працамі ў рудніку.

31 снеж. 1943 г. савецкія войскі паўторна занялі горад, які на наступны дзень зноў быў адбіты немцамі. Канчаткова Жытомір быў вызвалены 2 студз. 1944 г.

*...вясной такое здарылася з Харкавам...*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 634, 635).

С. 403:

*Ржэў* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 636).

*Скрыжалі* — дошчачкі з напісаным на іх святым тэкстам.

С. 405:

*Бярозавая губа* — так часам называюць чагу (бярозавы грыб, кап) — губавы базідыяльны грыб сямейства гіменахетавых.

С. 406:

*...пульманаўскіх вагонаў.*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 646).

С. 407:

*Волга* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 620).

С. 408:

*«Фёлькішэр беабахтэр»* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 643).

*«Дас Райх»* (*ням.* «Das Reich») — нямецкі штотыднёвік, выходзіў з траўня 1940 г. Заснаваны асабіста міністрам прапаганды Германіі П. Гебельсам, які рэгулярна пісаў перадавіцы для гэтага выдання.

*«Берлінер цайтунг»* (*ням.* «Berliner Zeitung») — папулярная газета, якая выдаецца ў Берліне з 1945 г.

С. 410:

*— Каманда караля Гароха...*— Кароль (цар) Гарох — персанаж фразеалагізмаў жартоўнага характару.

*Штрафбат* (скар.: штрафны батальён) — у гады Вялікай Айчыннай вайны штрафныя батальёны — вайсковыя фарміраванні, у якія накіроўвалі прызнаных вінаватымі афіцэраў Чырвонай Арміі.

С. 411:

*Фрыцы* — на фронце ў гады Вялікай Айчыннай вайны «фрыцамі» называлі немцаў, нямецкіх салдат.

С. 413:

*Прыбалтыка* — вобласць у Паўночнай Еўропе, прыкладна адпавядае сучасным Літве, Латвіі і Эстоніі, а таксама былой Усходняй Прусіі.

С. 414:

*«Віліс»* — аўтамабіль, які лічыцца прататыпам сучасных пазадарожнікаў. Вытворца — амерыканская фірма «Willys-overland

motors», гады выпуску 1941—1945. З лета 1942 г. па ленд-лізе масава пачалі пастаўляцца ў СССР і адразу набылі папулярнасць як камандзірскае аўто. Часам выкарыстоўваліся як цягачы для 45 мм пушак.

С. 415:

*— Прапойскія!..*— маецца на ўвазе «прызваныя ў Прапойскім раёне»; Прапойск — назва горада Слаўгарад Магілёўскай вобл. да 1946 г.

*«Пісьмо воінаў-беларусаў беларускаму народу».*— маецца на ўвазе «Зварот воінаў-беларусаў» да беларускіх партызан і беларускага народа, змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь» за 9 жн. 1943 г. У хуткім часе «Зварот» быў надрукаваны ў выглядзе брашур і лістовак, і 20 тыс. экзэмпляраў газеты ды 200 тыс. экзэмпляраў брашур і лістовак самалётамі дастаўлены ва ўсе партызанскія брыгады і атрады.

С. 416:

*...атрымлівае ППШ, два запасныя дзіскі — круглы і ражок...— ППШ* (скар.: пісталет-кулямёт сістэмы Шпагіна; з *рус.* пистолет-пулемет системы Шпагина) — савецкі пісталет-кулямёт, распрацаваны канструктарам Г. С. Шпагіным (1897—1952). Круглы дыск да ППШ быў разлічаны на 71 патрон, ражок — на 35 патронаў.

С. 418:

*Медсанбат.*— скар.: медыка-санітарны батальён.

С. 420:

*Бліжэйшыя франты — прыбалтыйскія...*— Перад I (створаны 20 кастр. 1943 г.), II (створаны 20 крас. 1943 г.) і III (створаны 21 крас. 1944 г.) Прыбалтыйскімі франтамі Чырвонай Арміі ставілася задача вызвалення Прыбалтыкі ад нямецка-фашысцкіх войск.

С. 422:

*ОВС* — скар.: абозна-рэчавае забеспячэнне (з *рус.* обозно-вещевое снабжение).

*...англійскія чаравікі.*— маюцца на ўвазе чаравікі, дасланыя ў СССР з Брытаніі па ленд-лізе. І жоўты колер скуры, і тое, што яна зусім не ратуе ад вільгаці,— сведчанні, што выраблялся абутак для патрэб брытанскай арміі на афрыканскім тэатры баявых дзеянняў, дзе вайна фактычна ўжо завяршылася.

С. 424:

*...Першай і Другой ударных армій...*— Ударныя арміі ў складзе Узброеных Сіл СССР у перыяд Вялікай Айчыннай вайны прызначаліся для разгрому груповак ворага на галоўных напрамках

наступлення. 1-я ўдарная армія была тэрмінова сфарміравана ў лістап. 1941 г., удзельнічала ў бітве пад Масквой. З 1942 г. армія ваявала на поўначы ад Масквы, удзельнічала ў Дзямянскіх наступальных аперацыях і ў Старарускай наступальнай аперацыі (4—19 сак. 1943). 2-я ўдарная армія са студз. 1942 г. ваявала ў раёне Волхава, яна настойліва прабівалася наперад, але ў сак. 1942 г. патрапіла ў акружэнне.

*Ільмень* — возера ў заходняй частцы Наўгародскай вобл.

*Старая Руса* — цэнтр Старарускага р-на Наўгародскай вобл. Расіі.

*Волхаў* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 642).

С. 425:

*Адэсу ўзялі...*— Адэса — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 649); Адэса была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх войск 10 крас. 1944 г.

С. 427:

*Вялікія Лукі* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 651).

С. 428:

*Напалеон* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 642).

С. 429:

*Вінніца* — горад ва Украіне, цэнтр Вінніцкай вобл.; горад быў захоплены нямецка-фашысцкімі войскамі 19 ліп. 1941 г.

*Заб’е «языка».*— «Языком» у войску лічыцца палонны, ад якога можна атрымаць каштоўныя звесткі.

С. 430:

*Кант Імануіл* (1724—1804) — нямецкі філосаф, родапачынальнік нямецкага класічнага ідэалізму.

*...катэгорыя трансцэндэнтальнасці.*— У філасофіі Канта адна з фундаментальных гнасеалагічных катэгорый. Трансцэндэнтальнасць — мноства апрыёрных умоў магчымага вопыту, тыя фармальныя перадумовы спазнання, якія арганізуюць навуковы вопыт.

*...прамой, як страла, чыгункі, якая вядзе з Масквы на Ленінград.*— Чыгунка ад Масквы да Ленінграда (Санкт-Пецярбурга) практычна не мае адхіленняў ад прамой лініі. Часам гэта спрабуюць патлумачыць жаданнем будаўнікоў чыгункі ні на метр не адхіліцца ад лініі, пад лінейку праведзенай на мапе між гарадамі Масквой і Санкт-Пецярбургам імператарам Расіі Мікалаем I (1796—1855).

*...перамог на Халхін-Голе, возеры Буір-Нур...*— Халхін-Гол — рака ў Манголіі і Кітаі, пачынаецца на заходніх схілах Вялікага Хінгана; Буір-Нур — возера на тэрыторыі Манголіі і Кітая,

у якое ўпадае двума рукавамі рака Халхін-Гол. У 1939 г. тут адбыўся ваенны канфлікт паміж савецка-мангольскімі і японскімі войскамі, які завяршыўся поўным разгромам японскіх сіл.

*...вызваленчых паходаў у Заходнюю Беларусь і Украіну...*— СССР 17 верас. 1939 г. увёў свае войскі на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія былі ў складзе Польшчы. Заходняя Беларусь аб'ядналася з БССР, Заходняя Украіна — з УССР.

*«Лінія Манергейма»* — дакументальны ваенны фільм (1940) пра падзеі савецка-фінскай вайны. Рэжысёры: Леанід Варламаў, Васіль Бяляеў, Валеры Салаўцоў і Мікалай Камараўцаў.

С. 431:

*Дот* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 637).

*Гітлер* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 620).

*Савецкі Саюз* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 640).

*...узнік план «бліцкрыга»...*— Бліцкрыг (з *ням*. Blitzkrieg, ад Blitz — «маланка» і Krieg — «вайна») — у перакладзе з ням. мовы «бліцкрыг» азначае «хуткавая, маланкавая вайна»; менавіта такой хацеў бачыць вайну германскі генералітэт, які распрацоўваў план нападу на СССР у 1941 г. пад назвай «Барбароса».

*Балагое* — горад у Расіі, раённы цэнтр Цвярской вобл. Станцыя на чыгунцы Санкт-Пецярбург — Масква, пры гэтым адлегласць ад Балагога да Масквы складае 321 км, ад Балагога да Санкт-Пецярбурга — 313 км.

*...у Маскву прыязджаў прадстаўнік Фінляндыі, вёў перагаворы аб заключэнні перамір'я.*— 25 сак. 1944 г. фінскі дыпламат Юха Паасіківі і прадстаўнік маршала Манергейма Оскар Энкель выехалі ў Маскву на перагаворы. 1 крас. 1944 г. дэлегаты вярнуліся ў Хельсінкі і агучылі там умовы, на якіх Савецкі Саюз згодны заключыць перамір'е. 18 крас. 1944 г. фінскі ўрад адмовіўся прыняць прапановы СССР.

*Шуцкораўцы* — актыўныя ўдзельнікі шуцкора — «ахоўнага корпуса» Фінляндыі, утворанага ў 1917 г. як напаўваенная арганізацыя (з 1940 г. шуцкор уключаны ва ўзброеныя сілы краіны).

С. 432:

*Краснае Сяло* — горад у Ленінградскай вобл. Расіі.

*Біцюг* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 638).

С. 434:

*— Менш узвода не дадуць, далей Кушкі не пашлюць...*— Кушка — да 1992 г. так называўся горад Серхетаб у Туркменістане. У свой час Кушка — самая паўднёвая кропка на тэрыторыі

Савецкага Саюза, і гэта адбілася ў афіцэрскім фальклоры. Афіцэр, калі толькі ён не быў пазбаўлены вайсковага звання, на пасады ніжэй за камандзіра ўзвода не прызначаўся, ды і далей за Кушку яго, нават у якасці пакарання, камандаванне ў мірны час перавесці не магло.

С. 435:

*Матыль жоўты: значыць, лета будзе гарачае.*— Прыкмета, падстава для якой сапраўды існуе: у спякотнае надвор'е раней за іншых вылятаюць жоўтыя матылі-лімонніцы.

С. 436:

*...чацвёртага аддзела штадыва.*— Штадыў — скар.: штаб дывізіі. Чацвёрты аддзел штаба дывізіі ў гады Вялікай Айчыннай вайны адказваў за разведку сіл і пазіцый ворага.

С. 437:

*Памкамузвода* — скар.: памочнік камандзіра ўзвода.

*ПНШ* — скар: памочнік начальніка штаба.

С. 441:

*...ачышчаны ад немцаў Крым...*— Крым — паўвостраў у паўночнай частцы Чорнага мора. Абмываецца на ўсходзе Азоўскім морам і Керчанскім пралівам. Крым быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх і румынскіх войск у выніку Крымскай аперацыі, якая працягвалася з 8 крас. да 12 мая 1944 г.

*...узяты шматпакутны Севастопаль.*— Севастопаль — горад на паўднёвым захадзе Крымскага паўвострава на беразе Чорнага мора. У чэрв.— ліп. 1942 г. гарнізон Севастопаля, абарона якога працягвалася з 30 кастр. 1941 г., чатыры тыдні супрацьстаяў нашмат большым сілам праціўніка. Вызвалены Севастопаль 9 мая 1944 г.

*«Свяшчэнная вайна»* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 654).

*Дзот* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 634).

С. 442:

*Наган* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 625).

*Браўнінг* — пісталет канструкцыі Джона Браўнінга (1855—1926).

*«Шмайсер»* — нямецкі аўтамат МП-40.

С. 443:

*...спынімся перад Румыніяй ці Польшчай?..*— Румынія прымала ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне, з 1941 г. яе войскі ваявалі супраць Чырвонай Арміі; тэрыторыя Польшчы была захоплена фашысцкай Германіяй.

С. 444:

*...на карце-двухвёрстцы...*— Двухвёрстка — мапа, якая мае маштаб дзве вярсты ў цалі.

С. 445:

*Аляксандр Дзюма* (Дзюма-бацька; 1802—1870) — французскі пісьменнік, аўтар прыгодніцкіх раманаў.

С. 447:

*Да лічбавых назваў палкоў, дывізій прыбаўляюцца імянныя...*— права на імянныя назвы атрымлівалі вайсковыя фарміраванні, якія асабліва вызначыліся пры вызваленні пэўных горада, мясцовасці.

С. 448:

*Чорная рэчка* — маецца на ўвазе рака Чорная, што цячэ ў Пудажскім р-не Карэліі.

*...тая самая, ля якой Дантэс Пушкіна забіў на дуэлі?* — Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі пісьменнік, пачынальнік новай рускай літаратуры, заснавальнік сучаснай літаратурнай мовы. Забіты на дуэлі Жоржам Дантэсам (1812—1895). Дуэль адбылася на беразе Чорнай рэчкі бліз Санкт-Пецярбурга — але тая, «пушкінская» Чорная рэчка, мае даўжыню ўсяго 8,1 км. Рака Чорная ў Карэліі і Чорная рэчка ў Санкт-Пецярбургу — розныя рэкі.

*Суомі* — саманазва фінаў і назва Фінляндыі.

*Чатырохнакатнае перакрыцце* — столь над зямлянкай у чатыры *«накаты»*, кожны з іх складаюць шчыльна пакладзеныя бярвенні, паўзверх якіх накідваецца зямля. Бярвенні новага слою «накочваюцца» на папярэдні, адсюль і назва.

С. 449:

*Вялікі Ноўгарад* — адна з найбольш магутных дзяржаў у гісторыі Усходняй Еўропы, існавала да 1708 г. з цэнтрам у горадзе Ноўгарадзе.

*Фарпост* (з *ням*. Vorposten) — перадавое ўмацаванне.

*...разбілі пад Палтавай.*— Палтава — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 638). 8 ліп. 1709 г., у перыяд Паўночнай вайны (1700—1721), пад Палтавай рускія войскі разбілі шведскую армію.

*Фінская дзяржава ўзнікла дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі.*— 6 снеж. 1917 г. фінскі парламент абвясціў незалежнасць Фінляндыі, 18 снеж. 1917 г. савецкі рэвалюцыйны ўрад прызнаў незалежнасць гэтай краіны.

*...на Ленінград, калыску гэтай рэвалюцыі...*— Ленінград — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 621); Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. пачалася ў Петраградзе (Ленінградзе).

С. 451:

*Ордэн Чырвонай Зоркі* — дзяржаўная ўзнагарода ў СССР. Зацверджаны пастановай Прэзідыума ЦВК СССР ад 6 крас. 1930 г.

С. 453:

*Венеды* — група плямёнаў, што насяляла землі ад балтыйскага ўзбярэжжа да паўночных Карпат і Дуная. Венеды лічацца непасрэднымі продкамі старажытных славян.

С. 455:

*...наркамаўскія сто грам...*— 25 жн. 1941 г. намеснікам наркама абароны генерал-лейтэнантам А. В. Хрулёвым (1892—1962) падпісаны загад, згодна з якім вайскоўцам на фронце пачалі выдаваць па 100 г гарэлкі на дзень. З 1943 г. гарэлку байцам выдаткоўвалі ўжо толькі тады, калі распачыналася і мела працяг наступальная аперацыя.

С. 457:

*«Трыццацьчацвёрка»* — савецкі сярэдні танк перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Серыйна выпускаўся з 1940 г. і быў асноўным танкам Чырвонай Арміі да першай паловы 1944 г. Самы масавы сярэдні танк Другой сусветнай вайны.

С. 460:

*ІФЛІ* (МІФЛІ) — Маскоўскі інстытут філасофіі, літаратуры і гісторыі імя М. Г. Чарнышэўскага — гуманітарная ВНУ ўніверсітэцкага тыпу, якая існавала ў Маскве у 1931 — 1941 гг. Быў вылучаны з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта і пасля зноў з ім зліты.

*Маскоўскі хіміка-тэхналагічны інстытут* — да 1992 г. такую назву меў Расійскі хіміка-тэхналагічны ўніверсітэт.

*Нэпман* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 624).

С. 461:

*...ручны кулямёт Дзегцярова.*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 636).

С. 464:

*...б'е прамой наводкай.*— На адносна невялікіх дыстанцыях артылерыйскі выстрал можа атрымацца трапным нават у выпадку, калі пры наводцы гарматы не выкарыстоўвалася спецыяльная оптыка і не праводзіліся матэматычныя разлікі (гэта значыць наводка была «прамой», на вока, без зверкі з прыборамі).

С. 465:

*Лімонкі* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 647).

С. 468:

*...пісалі пра другі фронт, а адкрыўся ён толькі цяпер...*— Існавалі планы пачаць высадку войск антыгітлераўскай кааліцыі на тэрыторыю акупаванай Германіяй Францыі (пасля такой высадкі і мог узнікнуць у Еўропе другі, заходні фронт баявых дзеянняў супраць нацыстаў) яшчэ ў 1942 г., але адкрыўся толькі 6 чэрв. 1944 г.

*На паўночным узбярэжжы Францыі высадзіліся саюзнікі...* — маецца на ўвазе высадка войск антыгітлераўскай кааліцыі ў Нармандыі.

*...занялі горад Шэрбур.*— Наступленне войск антыгітлераўскай кааліцыі на Шэрбур пачалося 22 чэрв. 1944 г., а 27 чэрв. нямецкія абаронцы пакінулі горад.

*Атлантычны вал* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 648).

*Гебельс Паўль Ёзэф* (1897—1945) — палітычны і дзяржаўны дзеяч фашысцкай Германіі, з 1929 г. яе галоўны прапагандыст. Рэйхсміністр народнай асветы і прапаганды, кіраўнік імперскай палаты культуры (1933—1945). Адзін з галоўных нямецка-фашысцкіх злачынцаў, скончыў жыццё самагубствам.

С. 469:

*Балтыйскі флот* — аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне баявых караблёў, якія дзейнічаюць у Балтыйскім моры; на першым этапе Вялікай Айчыннай вайны Савецкі Саюз страціў амаль усе ваенна-марскія базы на Балтыцы, і каля Ленінграда сканцэнтравалася большасць караблёў Балтыйскага флоту.

С. 472:

*...у сіняй парусінавай гімнасцёрцы...*— маецца на ўвазе гімнасцёрка з моцнай, трывалай, з тоўстых баваўняных нітак тканіны.

С. 475:

*Саракапяткі* — маюцца на ўвазе савецкія паўаўтаматычныя супрацьтанкавыя гарматы калібру 45 мм.

*...сямідзесяцішасціміліметровыя.*— маюцца на ўвазе савецкія гарматы калібру 76 мм.

С. 476:

*У вілку тыя дурні бяруць кулямёт...*— Вілка — артылерыйскі тэрмін: пры наводцы гарматы выбухі ад двух снарадаў, адзін з якіх

патрапіў далей за мішэнь, а другі не даляцеў да яе, утвараюць вілку, па якой зручна вызначаць патрэбныя для трапнага стрэлу ўстаноўкі.
С. 478:

*...запісалася ў баптысты...*— У дадзеным выпадку размова не пра рэлігійныя перакананні. У перыяд Вялікай Айчыннай вайны надараліся выпадкі, калі людзі абвяшчалі сябе баптыстамі толькі дзеля таго, каб пазбегнуць мабілізацыі і не патрапіць на фронт.
С. 482:

*...цюкнула пад Нарвай...*— Нарва — горад у Эстоніі; 2 лют. 1944 г. Чырвоная Армія наблізілася да Нарвы, 11 лют. савецкія войскі паспрабавалі штурмам авалодаць горадам, але вымушаны былі адступіць.
С. 483:

*...чарпак Вялікай Мядзведзіцы.*— Вялікая Мядзведзіца — сузор'е Паўночнага паўшар'я неба, сем галоўных, найбольш яскравых зорак якога сваім размяшчэннем нагадваюць карэц.

*Палярная зорка* — зорка ў сузор'і Малой Мядзведзіцы, якая знаходзіцца каля Паўночнага полюса свету.

*Гамсун Кнут* (сапр. Кнуд Педэрсен; 1859—1952) — нарвежскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920).

*...ў зняволенай Нарвегіі...*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 652).
С. 489:

*...назвалі яго зноскам...*— Зносак — тут: слабы, нікуды неварты чалавек.
С. 490:

*...тэорыю Дарвіна...*— Дарвін Чарльз Роберт (1809—1882) — англійскі прыродазнаўца, заснавальнік дарвінізму. У адной з асноўных сваіх прац «Паходжанне чалавека і палавы адбор» (1871) абгрунтаваў гіпотэзу паходжання чалавека ад малпападобнага продка.
С. 491:

*Алхімік* — ад слова «алхімія» — «данавуковы напрамак у хіміі»: пошукі спосабаў ператварэння простых металаў у каштоўныя з дапамогай фантастычнага філасофскага каменя.
С. 492:

*Палутарка* — грузавая аўтамашына грузападымальнасцю ў паўтары тоны.

С. 495:

*Карэл* — прадстаўнік аднаго з фіна-ўгорскіх народаў; у асноўным карэлы жывуць у Расіі (Рэспубліка Карэлія, Ленінградская вобл.) і Фінляндыі.

С. 497:

*Вярста* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 631).

С. 498:

*Гэта было тады, калі збітую ў кучу вёску царскі міністр Сталыпін хацеў расшнураваць на хутары.*— маецца на ўвазе Сталыпінская аграрная рэформа — шырокі комплекс мерапрыемстваў у галіне сельскай гаспадаркі, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам П. А. Сталыпіна (1862—1911), які ў 1906—1911 гг. быў прэм’ер-міністрам царскага ўрада.

*Сёмуха* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 647).

*...у шавіётавых камандзірскіх гімнасцёрках...*— маецца на ўвазе гімнасцёрка, пашытая з шавіёту, лёгкай, мяккай, злёгку варсістай ваўнянай ці паўваўнянай тканіны.

*...трохкутнічкамі ў пятліцах...*— З 1935 г. знакамі адрознення для малодшага каманднага саставу Чырвонай Арміі сталі гэтак званыя трохкутнічкі. Два трохкутнічкі, замацаваныя на пятліцы, насілі сяржанты.

С. 499:

*...паслалі ў палкавую школу.*— Асновай сістэмы падрыхтоўкі малодшых камандзіраў у Чырвонай Арміі былі палкавыя школы. Навучэнцаў у гэтыя школы выбіралі сярод навабранцаў, якія прыбылі ў полк. Пасля завяршэння вучобы курсантам прысвойваліся сяржанцкія званні.

С. 500:

*Беласток* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 660).

*152-міліметровыя гаўбіцы* — савецкія пушкі-гаўбіцы калібру 152,4 мм узору 1937 г.

*...уступіла на тэрыторыю Эстоніі.*— 28 верас. 1940 г. быў заключаны пакт паміж СССР і Эстоніяй, які прадугледжваў увядзенне савецкіх войск на эстонскую тэрыторыю, а 6 жн. 1940 г. Эстонія была прынята ў склад СССР.

С. 501:

*...па лёдзе Ладажскага возера вывозілі...*— Ладажскае возера — возера ў Рэспубліцы Карэлія і Ленінградскай вобл. Расіі, найвялікшае ў Еўропе. З 22 лістап. 1941 г. стала дзейнічаць лядовая траса праз Ладажскае возера ў Ленінград, гэтак званая Дарога жыцця.

*...тры дывізіі трапілі ў акружэнне...*— У канцы жн. 1941 г. у раёне вёскі Парлампі трапілі ў акружэнне часткі 43, 115 і 123-й стралковых дывізій Чырвонай Арміі. Войскі выходзілі з акружэння невялікімі групамі, якія з баямі прарываліся да берага Фінскага заліва, адкуль караблямі байцоў вывозілі ў Кранштат.

*...ў Варонежы. Летам вораг падышоў і да гэтага горада.*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 653).

С. 502:

*...сягнулі аж на Каўказ...*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 620).

С. 504:

*Койвіста* — да 1948 г. назва горада Прыморск у Выбаргскім р-не Ленінградскай вобл. Расіі.

*Неўская Дуброўка* — пасёлак на беразе ракі Нява. Умоўна Неўскай Дуброўкай называлі і невялікі плацдарм на левым (усходнім) беразе ракі («Неўскі пятачок»), баі на якім вызначаліся асаблівай самаахвярнасцю. Чырвоная Армія, спрабуючы захапіць і ўтрымаць плацдарм, рыхтавала перадумовы для прарыву блакады Ленінграда і не давала ворагу магчымасці сканцэнтраваць сілы для штурму горада.

С. 505:

*— Галоўны ўдар пераносіцца з Выбаргскай на Прыморскую шашу...*— 12 ліп. 1944 г. тэмпы наступлення савецкіх войск на Карэльскім перашыйку зменшыліся, разведдадзеныя дазволілі камандаванню Ленінградскім фронтам выявіць, што фіны сканцэнтравалі свае сілы на пазіцыях паблізу Выбаргскай шашы. Таму было вырашана змяніць напрамак галоўнага ўдару; да 14 ліп. адбывалася перадыслакацыя савецкіх войск.

С. 506:

*Карэлія* — рэспубліка ў складзе Расійскай Федэрацыі. Мяжуе на захадзе з Фінляндыяй, на ўсходзе абмываецца Белым морам, на поўдні — Ладажскім і Анежскім азёрамі. У час савецка-фінскай вайны — Карэльская Аўтаномная ССР.

*Волагда* — цэнтр Валагодскай вобл. Расіі.

С. 507:

*Ківенапа* — назва (да 1948 г.) сучаснага пасёлка Першамайскае Выбаргскага р-на Ленінградскай вобл. Расіі. Ад шведскага Kifvanebbet («перадавое ўмацаванне»).

*...гвардзейскіх мінамётаў.*— Гвардзейскімі мінамётамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны называлі ўстаноўкі залпавага

рэактыўнага агню. «Кацюшы» — народная назва баявых машын рэактыўнай артылерыі ў Вялікую Айчынную вайну. Мяркуецца, што паходжанне назвы звязана з заводскай маркай (літара «К»), якая была на машыне, і з аднайменнай папулярнай песняй.

*«Студэбекеры»* — грузавыя аўтамашыны УС-6, што выпускаліся амерыканскай фірмай «Студэбекер» і пастаўляліся ў Савецкі Саюз з 1941 г.

*...у другім эшалоне...*— Эшалонам у вайсковай справе ўважаюць частку тактычнай альбо стратэгічнай пабудовы войск, перад кожным з эшалонаў ставяцца пры гэтым пэўныя задачы. Пры наступленні войскі другога эшалона павінны рухацца ўслед за фарміраваннямі першага эшалона і быць гатовымі падтрымаць атаку або развіць дасягнуты на нейкім з напрамкаў поспех.

*...«зязюль»?* — Ад часоў савецка-фінскай вайны 1939—1940 гг. «зязюлямі» называлі фінскіх снайпераў.

*«Красная звезда»* — газета, створаная паводле рашэння Палітбюро ЦК РКП (б) ад 29 ліст. 1923 г. як друкаваны орган наркамата абароны СССР па ваенных справах (у наступным — Міністэрства абароны СССР). Першы нумар выйшаў 1 студз. 1924 г. З 1991 г.— газета Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны была адным з вядучых савецкіх выданняў.

*....у Хельсінкі прыехаў Рыбентроп...*— Рыбентроп — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 643); Рыбентроп прыбыў у Хельсінкі 22 чэрв. 1944 г.

С. 508:

*Ваенторг* — скар.: з *рус.* военная торговля.

С. 509:

*...прагрызена другая паласа ўмацаванняў.*— Другая ўмацаваная паласа абароны фінаў на Карэльскім перашыйку была аддалена ад першай на 20—30 км; штурм другой паласы абароны фінаў працягваўся з 12 па 15 ліп. 1944 г.

*«Месершміты»* — нямецкія самалёты, распрацаваныя канструктарам В. Месершмітам (1898—1978).

*«Фоке-вульфы»* — нямецкія самалёты, якія выпускаліся на заводах фірмы «Фоке-Вульф»; найбольш удалыя мадэлі былі распрацаваны канструктарам К. Танкам (1898—1983).

С. 516:

*Пэтээраўцы* — байцы, узброеныя ПТР (скар.: з *рус.* противотанковое ружье).

С. 518:

*Кранштат* — горад у Ленінградскай вобл. Расіі, на востраве Котлін. Заснаваны як марская крэпасць, з 1820-х гг.— галоўная база Балтыйскага флоту ВМФ Расіі.

С. 519:

*Фінскі заліў* — заліў ва ўсходняй частцы Балтыйскага мора, амывае берагі Фінляндыі, Расіі і Эстоніі.

С. 521:

*...па прозвішчу Растоўскі.*— Пасля рэвалюцыі і грамадзянскай вайны многія дзеці засталіся ў Савецкай краіне без бацькоў, некаторыя з іх не ведалі ці не хацелі ўзгадваць свае сапраўдныя прозвішчы. У дзіцячых дамах у падобных выпадках у дакументы ўносілася прозвішча, утворанае ад назвы населенага пункта, у якім хлопец ці дзяўчына былі затрыманы; Растоў — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 634).

С. 522:

*Штрафной роты...*— У Чырвонай Арміі ў перыяд з 28 ліп. 1942 па 6 чэрв. 1945 г. штрафныя роты — гэта фарміраванні, якія выконвалі самыя небяспечныя баявыя задачы. У такія роты накіроўвалі вайскоўцаў, прызнаных вінаватымі згодна з прысудам ваеннага трыбунала.

С. 527:

*Рокала* — пасёлак бліз Выбарга.

С. 531:

*...не падобныя яны на фінскіх пехацінцаў...*— У баях за Выбарг удзельнічала кавалерыйскае злучэнне фінаў; таксама ў якасці апошняга свайго рэзерву фінскае камандаванне выкарыстала і асабовы склад перакінутага пад горад юнкерскага вучылішча з горада Койвіста.

С. 533:

*«Тыгр»* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 652).

С. 534:

*Цішыня, якая нечакана наступае на гэтым і тым беразе, палохае Васіля. Ён доўга не можа зразумець, што здарылася.*— Камандзір 20-й фінскай пяхотнай брыгады А. Кемпі, які ўзначальваў гарнізон Выбарга, увечары 20 ліп. 1944 г. загадаў спыніць супраціўленне. Фінскія войскі пачалі адступаць з горада. 22 ліп. 1944 г. за гэты загад палкоўнік А. Кемпі быў арыштаваны фінскім камандаваннем і аддадзены пад трыбунал.

С. 535:

*Зірнуўшы на крыжы, каскі, палонныя прыкметна весялеюць.*— Фінская прапаганда пераконвала салдат, што савецкія войскі

расстрэльваюць палонных і пераворваюць усе вайсковыя пахаванні праціўніка.

С. 536:

*У Шчорса.*— маецца на ўвазе: у атрадзе пад камандаваннем легендарнага камандзіра Чырвонай Арміі М. А. Шчорса (1895—1919), які ў 1918—1919 гг. як камандзір брыгады (Багунскага і Тарушчанскага палкоў) змагаўся з пятлюраўцамі ў баях за Чарнігаў, Кіеў, Фастаў і інш.

*Чарнігаў* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 653).

*Корасцень* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

С. 537:

*Ленін Уладзімір Ільіч* (сапр. Ульянаў; 1870—1924) — расійскі і савецкі палітычны, дзяржаўны дзеяч, дзеяч міжнароднага рабочага руху, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., адзін з ініцыятараў стварэння і першы кіраўнік СССР.

*...в Красной гвардзіі.*— Чырвоная (Красная) гвардыя — узброеныя атрады добраахвотнікаў, якія ствараліся пры партыйных камітэтах РСДРП(б) у 1917 г.; сталі асноўнай узброенай сілай бальшавікоў у перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў першыя паслярэвалюцыйныя месяцы.

С. 540:

*«Ванюша»* — так у савецкіх войсках называлі нямецкі шасціствольны рэактыўны мінамёт «Nebelwerfer-41», які страляў 35-кілаграмовымі снарадамі на адлегласць 6,9 км.

С. 541:

*...танкавую дывізію «Лагус»...*— маецца на ўвазе фінская танкавая дывізія, якая была ўтворана ў жн. 1943 г. і дзейнічала на Карэльскім перашыйку. Камандаваў ёю генерал Э. Р. Лагус (1896—1959).

*«ЗІС»* — савецкі грузавы аўтамабіль, які выпускаўся на аўтамабільным заводзе імя Сталіна (адсюль скарочанае ЗіС).

С. 544:

*У Выбарг прыйшлі, калі гадзіннік паказваў поўнач. Сярод белых начэй гэтая найсвятлейшая...*— Баі за Выбарг завяршыліся ўвечары 20 чэрв. 1944 г.; у Паўночным паўшар'і гэта перыяд, калі ночы самыя кароткія, а дні самыя доўгія.

С. 545:

*...ён трэці раз пераходзіць з рук у рукі.*— Па выніках савецка-фінскай вайны 1939—1940 гг. Выбарг, які знаходзіўся на тэрыторыі Фінляндыі, стаў савецкім горадам. 29 жн. 1941 г. ён

быў захоплены фінскімі войскамі, 20 чэрв. 1944 г. Чырвоная Армія вызваліла горад.

С. 547:

*Нібы адзначаючы крывавы юбілей вайны, загаварылі тры беларускія франты.*— Маецца на ўвазе адна з найбуйнейшых наступальных аперацый Чырвонай Арміі ў Вялікую Айчынную вайну, кодавая назва «Баграціён». Вялікая Айчынная вайна пачалася 22 чэрв. 1941 г., аперацыя «Баграціён» праведзена 23 чэрв.— 29 жн. 1944 г.

С. 548:

*...Першага і Трэцяга франтоў...*— маюцца на ўвазе I і III Беларускія франты.

С. 549:

*...заснавалі Выбарг ноўгарадцы, пазней яго шведы захапілі.*— Выбарг узнік у XI—XII стст. як руска-карэльскае паселішча, у 1293 г. ён быў захоплены шведамі.

*Пётр Першы ў час Паўночнай вайны вярнуў горад Расіі.*— Пётр I Аляксеевіч (1672—1725), расійскі цар з 1682 г., імператар з 1721 г. У гады Паўночнай вайны паміж Расіяй і Швецыяй (1700—1721) Выбарг быў узяты войскамі Пятра I у 1710 г., а ў 1721 г. горад, згодна з мірным пагадненнем, увайшоў у склад Расіі.

*Іван Бунін* (1870—1953) — рускі пісьменнік. З 1920 г. жыў у Францыі.

*Сяргей Ясенін* (1895—1925) — рускі паэт.

*Ты жива еще, моя старушка? / Жив и я. Привет тебе, привет!..*— радкі з верша С. Ясеніна «Ліст да маці» (1924).

С. 553:

*Б’ёркскі архіпелаг* (з *фін.* Koivistonsaaret — бярозавыя астравы) — група астравоў у паўночнай частцы Фінскага заліва; ад матэрыка аддзелены пралівам шырынёй 2—5 км.

*Палку прысвоілі званне Выбаргскага, дывізіі — Ленінградскай.*— Загад аб прысваенні ганаровых званняў палкам і дывізіям, якія вызначыліся ў баях за Выбарг, выдадзены 20 ліп. 1944 г.

С. 554:

*Так, значыт, крышка, так, значыт, амба — / Лу-у-у-бві настал паслэдні час.*— словы з сентыментальнай даваеннай песні, якая спявалася моладдзю ў дварах; лірычны герой, сямнаццацігадовы лётчык, калі даведваецца з ліста сяброў, што каханая яму здрадзіла, уздымаецца ў неба і скіроўвае самалёт у апошні палёт да зямлі…

С. 555:

*Ты сидишь у камина и смотришь с тоской, / Как печально огонь догорает. / И надежда на то, что кто замуж возьмет, / Постепенно в груди угасает.*— радкі з напісанага ў 1901 г. раманса «Ля каміна», словы С. А. Гарына (1873—1927), музыка Я. Ф. Прыгожага (1840—1920).

С. 556:

*...авалодалі горадам Глыбокае...*— Глыбокае савецкія войскі вызвалілі 3 ліп. 1944 г.

*...вызвалены беларускі горад Докшыцы.*— Докшыцы былі вызвалены 2 ліп. 1944 г.

*...вызвалена сталіца Савецкай Беларусі — горад Мінск. Завершана акружэнне вялікай, мнагатысячнай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск...*— Мінск вызвалены 3 ліп. 1944 г. Пад Мінскам савецкія войскі замкнулі 4 ліп. 1944 г. акружэнне 105-тысячнай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск.

С. 557:

*Ілья Рыгоравіч Эрэнбург* (1891—1967) — рускі пісьменнік. У гады Вялікай Айчыннай вайны ваенны карэспандэнт газет «Праўда» і «Красная звезда».

*...звання Героя Савецкага Саюза.*— гл. камент. вышэй (с. 766).

*Камсорг* — скар.: камсамольскі арганізатар, выбарная пасада ў Камуністычным саюзе моладзі (камсамоле).

С. 558:

*...брашуру Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне»...*— Сталін — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 631); брашура «Аб Вялікай Айчыннай вайне» — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 646).

*...хімічным алоўкам...*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 629).

*Лішэнец* — у 1918—1936 гг. нефармальная назва грамадзяніна СССР, які быў пазбаўлены выбарчых і іншых правоў згодна з Канстытуцыяй РСФСР 1918 г.

*Дэпутат Думы* — асоба, абраная ў Дзяржаўную думу, прадстаўнічую заканадаўчую ўстанову Расійскай імперыіі, якая дзейнічала ў 1906—1917 гг.

*Валасны старшыня* — выбарная старшая службовая асоба воласці, ніжняй адзінкі адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў 1919 г.— 1920-я гг. у Расійскай імперыі і СССР у сельскай

мясцовасці. Адказваў за захаванне агульнага парадку ў воласці, даводзіў да насельніцтва законы і распараджэнні ўрада, назіраў за выкананнем пашпартных правілаў, судовых прыгавораў і інш.
С. 559:

*Петраград* — так называўся горад Санкт-Пецярбург (гл. камент. да рамана «Сорак трэці» на с. 621) у 1914—1924 гг.

*Пры белапольскай акупацыі...*— маецца на ўвазе акупацыя зямель Беларусі польскімі войскамі (1919—1920) падчас польска-савецкіх ваенных канфліктаў.

*Жаўнеры* — тут маюцца на ўвазе салдаты польскай арміі.

*МТС* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 626).

*Трудавікі* («працоўная група») — фракцыя дэпутатаў-сялян і народніцкай інтэлігенцыі ў 1—4-й Дзяржаўных думах Расіі (1906—1917).

*Бальшавіцкія дэпутаты* — маюцца на ўвазе бальшавікі — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 625).

*..на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.*— Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка дзейнічала ў Маскве ў 1939—1941 гг. Яна з'яўлялася аглядам дасягненняў сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці народаў СССР і была арганізавана ў Маскве (Астанкіна) на плошчы ў 140 га, дзе было ўзведзена больш за 250 будынкаў (павільёнаў, аранжарэй і інш.).
С. 561:

*Месячныя франтавыя курсы «Выстрал».*— маюцца на ўвазе Вышэйшыя афіцэрскія ордэнаў Леніна і Кастрычніцкай рэвалюцыі Чырванасцяжныя курсы імя Маршала Савецкага Саюза Б. М. Шапашнікава, ваенна-навучальная ўстанова ва Узброеных Сілах СССР і Расіі. Створаны ў 1918 г., у 2009 г.— расфарміраваны. Праводзілі перападрыхтоўку каманднага і палітычнага складу сухапутных войск у галіне тактыкі, стралковай справы, методыкі тактычнай і баявой падрыхтоўкі. У кастр. 1941 г. пачалі стварацца філіялы курсаў, дзе навучанне праводзілася па паскоранай праграме.
С. 562:

*Наступае Карэльскі фронт.*— Карэльскі фронт быў створаны ў жн. 1941 г. (гл. камент. да рамана «Сорак трэці» на с. 621) для выканання задач, звязаных з абаронай савецкага Запаляр'я. 21 чэрв. 1944 г. войскі фронту перайшлі ў наступленне, вызваляючы захопленыя фінскай арміяй раёны паўднёвай Карэліі.

*Вызвалены Петразаводск.*— Петразаводск — горад на поўначы Расіі, сталіца Рэспублікі Карэлія. Вызвалены савецкімі войскамі 28 чэрв. 1944 г.

*Вуокса* — найбуйнейшая рака Карэльскага перашыйка. У чэрв.—ліп. 1944 г. савецкія войскі ліквідавалі фінскі плацдарм на паўднёвым беразе Вуоксы, фарсіравалі раку і захапілі плацдарм на яе паўночным беразе, аднак цалкам зламаць абарону праціўніка і развіць наступленне на Карэльскім перашыйку не ўдалося.

*ЧП* — скар.: надзвычайнае здарэнне (з *рус*. чрезвычайное происшествие).

С. 563:

«*Кукурузнік*» — такая назва трывала замацавалася за самалётам «У-2»; пазней «кукурузнікамі» называліся і самалёты «АН-2».

*«У-2»* — самалёт, аднаматорны біплан, які быў створаны ў 1928 г. канструктарскім калектывам М. М. Палікарпава (1892—1944). Распрацоўваўся як вучэбная машына (адсюль і маркіроўка — «Учебный второй»), у гады Вялікай Айчыннай вайны шырока выкарыстоўваўся на фронце. У 1945 г., пасля смерці Мікалая Мікалаевіча Палікарпава, самалёт пачалі называць «По-2»; машыну працягвалі выпускаць да 1953 г.

С. 565:

*Медаль* «*За адвагу*» — дзяржаўная ўзнагарода СССР. Заснавана 17 кастр. 1938 г. для ўзнагароджвання воінаў Чырвонай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту і пагранічнай аховы за асабістую мужнасць і адвагу ў баях з ворагамі Савецкага Саюза. Пасля распаду СССР быў нанова заснаваны ў сістэмах узнагарод Расіі і Беларусі.

С. 566:

*Калінін* — назва горада Цвер у 1931—1990; цэнтр Цвярской вобл. Расіі. З 17 кастр. па 16 снеж. 1941 г. акупаваны нямецкімі войскамі.

С. 568:

*На Волхаўскім фронце.*— Волхаўскі фронт існаваў з 17 снеж. 1941 па 23 сак. 1942 г. (надалей ён быў пераўтвораны ў «Волхаўскую групу войск» Ленінградскага фронту з мэтай павысіць скаардынаванасць дзеянняў савецкіх войск, задзейнічаных пры прарыве блакады Ленінграда; па нейкім часе стала відавочнай памылковасць паяднання дзвюх аддаленых адна ад адной вайсковых груповак, вырашана было ўзнавіць адасобленасць Ленінградскага і Волхаўскага франтоў) і з 8 чэрв. 1942 па 15 лют. 1944 г. Войскі фронту адыгралі значную ролю ў прарыве і поўным зняцці блакады Ленінграда.

С. 569:

*«Любімы горад»* — гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 634).

*«Знішчальнікі»* — савецкі мастацкі фільм рэжысёра Э. Пенцліна (1903—1990).

С. 570:

*Купала Янка* (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры; адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925).

*Вучылі яго ў трэцім ці чацвёртым класе.*— Верш «Над Іматрай» Янкі Купалы змяшчаўся ў «Хрэстаматыі па літаратуры. Частка другая для чацвёртага класа», складзенай у 1934 г. А. Некрашэвічам. У падручніках, што выходзілі пасля 1937 г., гэтага верша няма.

С. 575:

*Ленінградскі фронт на Карэльскім перашыйку наступальныя дзеянні спыніў...*— 11 ліп. 1944 г. войскі Ленінградскага фронту, якія наступалі на Карэльскім перашыйку, па загадзе Стаўкі спынілі актыўныя баявыя дзеянні і перайшлі да абароны.

С. 576:

*...«Запіскі Піквікскага клуба» Чарльза Дзікенса...*— Дзікенс Чарльз (1812—1870), англійскі пісьменнік. Раман «Пасмяротныя запіскі Піквікскага клуба» напісаны ў 1837 г.

С. 577:

*Перайшлі румынскую, польскую граніцы.*— 26 сак. 1944 г. савецкія войскі выйшлі да ракі Прут, па якой праходзіла мяжа паміж СССР і Румыніяй (у гонар гэтай падзеі ў Маскве быў дадзены салют); на наступны дзень быў заняты і плацдарм на румынскім беразе Прута. Польскія тэрыторыі Чырвоная Армія пачала вызваляць улетку 1944 г.; 27 ліп., заняўшы Беласток (гл. с. 660), савецкія войскі выйшлі ў дадзеным раёне на даваенную мяжу СССР.

С. 578:

*На Гітлера яшчэ ў ліпені быў зроблены замах...*— Няўдалы замах на Гітлера і спроба дзяржаўнага перавароту былі здзейснены групай нямецкіх афіцэраў і генералаў 20 ліп. 1944 г.

*...саюзнікі ўступілі ў Парыж.*— 19 жн. 1944 г. пачалося паўстанне парыжан; да прыходу саюзнікаў (24 жн.) французская сталіца фактычна была ўжо ў руках патрыётаў. 25 жн. нямецкі гарнізон Парыжа склаў зброю.

*...былі вызвалены Арол і Белгарад.*— гл. камент. да рамана «Сорак трэці» (с. 654).

Варыянты і разначытанні:
«Выбраныя творы» // *часоп. «Полымя»*

С. 378:

[3] у якім размешчана вузкая канапка // у якім вузкая канапка

[8] у блакадзе… Паверце маім словам. Яна здзіўлена // у блакадзе… Яна здзіўлена

С. 380:

[1] рваліся на Украіну з-за жыццёвых даброт // рваліся на Украіну і з-за жыццёвых даброт

С. 385:

[37] салдаты, на хаду нацягваюць шынелкі // салдаты, на хаду нацягваючы шынелкі

С. 388:

[25] У гэтым самым складзе хлопцы, Сяргей, Васіль, Мікалай Пракопчык, летам // У гэтым самым складзе, Сяргей, Васіль, Мікалай Пракопчык, хлопцы летам

С. 389:

[2] ён: смелым, адважным не назавеш, і няма справы, у якую б ён ні ўваткнуў // ён: смелым, адважным не назавеш, і разам з тым няма справы, у якую б ён не ўваткнуў

С. 390:

[12] Цёпленькія сібірачкі. Харошанькія. Толькі // Цёпленькія сібірачкі. Толькі

[13] Нельга прытуліцца. // Нельга шчыльней прытуліцца.

[32] Яшчэ Масквы не паспелі праехаць. // Яшчэ Масквы не праехалі.

С. 393:

[8] прыйдзецца развітацца, ды так ганебна. У цяплушку // прыйдзецца развітацца. У цяплушку

С. 395:

[28] З харчоў у іх // З харчу ў іх

[35] хадзіў па надворках таварышаў // хадзіў па панадворках таварышаў

С. 399:

[1] — Там забалбочаш. Гаворкі пра яду // — Там забалбочаш...— Прыцісне, дык прыкусіш язык… Гаворкі пра яду

С. 403:

[34] Яшчэ многа зямлі пад немцам. // Яшчэ многа зямель пад немцам.

С. 404:

[15] нават штыкетнік не парушаны. // нават штакетнік не парушаны.

С. 405:

[24] заўважыў падобнае і на другіх хлопцах // заўважыў падобнае і ў другіх хлопцах

С. 406:

[38] Пасля паўдня // Пасля поўдня

С. 407:

[37] Можна так боўтнуць, што // Можна так баўтнуць, што

С. 408:

[4] ваду, у якой разбоўтаная жменя мукі // ваду, у якой разбоўтана жменя мукі

С. 409:

[2] Да іх належаў і Сяргей. // Да іх належаў Сяргей.

С. 421:

[11] але яго Сяргею не прапаноўваюць. // але абсталяваць яго Сяргею не прапаноўваюць.

[16] на грашах лічбы выводзіць. // на грашах лічбіны выводзіць.

[27] ведамасці БКС // ведамасці БЧС

С. 422:

[12] Прыгожая скура размакае // Прыгожая скура размякае

С. 425:

[31] насталі часы. Прывыклі да добрых навін. Косця Ціток // насталі часы. Косця Ціток

[35] палучыў такую прывілею? // палучыў прывілею?

С. 444:

[9] ходзіць на начны пошук. // ходзіць у начны пошук.

С. 452:

[2] У час асабліва блізкага да зямлянкі выбуху афіцэр разведкі ўскоквае на чурбачок // У час асабліва блізкага да зямлянкі выбуху нехта з навічкоў ускоквае на чурбачок

С. 455:

[2] Кісьлякоў.— Вядзе першы // Кісьлякоў.— Выйдзе першы

С. 457:

[30] Яны дабеглі да сярэдзіны // Яны дабеглі толькі да сярэдзіны

С. 459:

[6] пра ахвяры. Горача, млосна, страшна. Марудна, пакутліва // пра ахвяры. Марудна, пакутліва

С. 463:

[9] лячыла яго. Званне яфрэйтара // лячыла прапаленую ледзь не да касці нагу. Званне яфрэйтара

С. 471:

[29] калі, нырнуўшы ў дзірку ці праскочыўшы // калі, пралезшы праз дзірку ці пераскочыўшы

[34] рыпяць, тручыся адзін аб адзін. // рыпяць, чапляючыся адзін за аднаго.

С. 482:

[24] таксама пачынае наступленне. // таксама распачынае наступленне.

С. 486:

[10] Хоць дзіўнага няма. Галя // Хоць дзіўнага нічога няма: Галя

[35] супрацьтанкавую міну-талерку трымае // супрацьтанкавую талерку — міну трымае

С. 489:

[7] лічбіны палявой пошты. // лічбіны новай палявой пошты.

С. 490:

[37] з халодным сумам.— Тона жалеза // з халодным сумам. Тона жалеза

С. 494:

[1] Чубукоў загадаў ісці ў тыл… // Чубукоў загадваў ісці ў тыл…

С. 498:

[38] Хацелі з братамі пабачыцца ці хоць вокам непрыкметна кінуць. // Хацелі з братамі пазнаёміцца ці хоць вокам кінуць.

С. 499:

[25] мог, як браты, навучыцца на малодшага камандзіра // мог, як браты, зрабіцца малодшым камандзірам

С. 500:

[28] ці бамбёжку цэлае аддзяленне. // ці бамбёжку амаль цэлае аддзяленне.

С. 501:

[36] Ужо зіму ён праляжаў // Усю зіму ён праляжаў [мэтазгодна ўзнавіць часопісны варыянт «Усю зіму»].

С. 503:

[2] Ад братоў ніякіх вестак. З пункту гледжання // Ад братоў ніякіх вестак не было. З пункту гледжання

[8] стаць паліцэйскім. Так параіў адзін хлопец, які знаўся з партызанамі. У паліцыі // стаць паліцэйскім. У паліцыі

С. 504:

[16] наперад, адкуль чуюцца глухія выбухі. // наперад, чуюцца глухія выбухі.

[33] у Неўскай Дуброўцы на пачатку зімы паранiла. // у Неўскай Дуброўцы на пачатку параніла.

С. 506:

[25] доўгага, як пуга, вужа,— пачынаюць // доўгага, як пута, вужа — пачынаюць

С. 509:

[32] юркіх «фоке-вульфаў», але адолець іх не могуць. На вачах Сяргея ўжо чатыры ці пяць савецкіх самалётаў, цягнучы за сабой шлейфы дыму, рухнулі на зямлю. З немцаў — ніводны. Нібы малюнак сорак першага года. Відаць, сапраўдных асаў // юркіх «фокевульфаў». Відаць, шмат асаў

С. 510:

[4] то накідваюцца збоку. Немцы спакойныя, ідуць сваім курсам. Ду-ду-ду! — бубняць іхнія кулямёты. Адзін наш самалёт загарэўся, другі. З самалётаў выкідваюцца дзве цёмныя кропкі, якія праз хвіліну робяцца светлымі: раскрываюцца парашуты. Сцярвятнікі нават лётчыкаў на парашутах не хочуць жывымі выпусціць. Знізіліся, абстрэльваюць. // то накідваюцца збоку. Артылерысты кідаюцца да гармат. Зенітчыкі страляюць. Вакол нямецкіх самалётаў белыя дымкі разрываў. Нават пехацінцы-абознікі, седзячы на фурманках, пуляюць па самалётах з вінтовак.

С. 512:

[4] Каліноўскі прыкрываюць...— Ады-ы-ходзім!.. На спіны // Каліноўскі прыкрываюць... На спіны

[11] на палатку! Хутка. Забітых, параненых // на палатку! Забітых, параненых

[17] побач з якім цяпер ляжыць // побач з якім ляжыць

С. 513:

[1] Праз хвіліну з-за каменя // Праз хвіліну з-за камення

С. 514:

[32] пярэдні край з вышыні. // пярэдні край з вялікай вышыні.

[39] перавальваючыся цераз варонкі, ідуць // перавальваючыся цераз варонкі, ямы, ідуць

С. 516

[31] ні страху, ні адчаю не адчувае. // ні страху, ні жалю да сябе не адчувае.

С. 518:

[32] са спалоханымі шэрымі тварамі. // са спалоханымі тварамі.

С. 519:

[17] да яго сценак невялікую скрынку // да яго сценак скрынку

С. 521:

[32] нават ужо і размаўляць з Сяргеем // нават размаўляць з Сяргеем

С. 525:

[2] адрозніваецца шэранню // адрозніваецца хісткай шэранню

С. 529:
[15] Раптам паблізу, крокаў за // Раптам поблізу, крокаў за
С. 530:
[29] у якой усе, хто пайшоў // у якую ўсе, хто пайшоў
С. 531:
[30] нібы святочны, гэты парад. // нібы святочны, парад.
С. 532:
[10] падаюць міны, снарад. // падаюць міна, снарад.
[17] Кліма забіла, цяпер заб'е і яго. // Кліма забіла, цяпер яго.
С. 534:
[16] Яго захапілі ў лесе. // Яго захапілі на аэрадроме.
С. 537:
[18] з такімі наведвальнікамі прыходзіцца // з такімі наведнікамі прыходзіцца
С. 538:
[6] засцерагаюць картонныя лісты // засцерагаюць кардонныя лісты
[7] У тры слаі картон. // У тры слаі кардон.
С. 540:
[9] артылерыя, грузавікі. Можа, яны // артылерыя, грузавікі, абозы. Можа яны
С. 547:
[6] уласнага лёсу многа значыць. // уласнага лёсу многае значыць.
С. 549:
[24] топчуць жорсткую камяністую зямлю // топчуць хмурную, камяністую зямлю
С. 551:
[8] пад хмурым паўночным небам. // пад хмурным паўночным небам.
С. 556:
[11] вызвалены беларускі горад Докшыцы. // вызвалены горад Докшыцы.
[33] але астатнія радуюцца. // але і астатнія радуюцца.
С. 562:
[16] перакінуць на Вуоксу. У палку ЧП: «самастрэл». Малады салдацік, які толькі што прыбыў з папаўненнем, прастрэліў сабе левую руку. «Самастрэлаў» лёгка выяўляюць: яны прыстаўляюць руку да ствала вінтоўкі ці аўтамата, і вакол раны ў скуру ўядаюцца крошкі парахавога гару. «Самастрэлаў», як і дэзерціраў, жорстка караюць. Часта: трыбунал, расстрэл. На гэты раз расстрэл паказальны —

на гарадской плошчы. Ярка свеціць сонца. Паўкругам выстраены роты, батальёны. Злачынца — чарнявы, разгублены малады баец без пагонаў, рэменя — прыстаўлен да закуранай сцяны напаўразбуранага будынка. Грыміць залп — расстрэльвае цэлае аддзяленне. Баец падае. Да яго падыходзіць доктар з санчасці, перахлябісты, з доўгай шыяй старшы лейтэнант. Полк з Выбарга // перакінуць на Вуоксу. Полк з Выбарга

С. 563:

[8] Замест нараў — земляны выступ. Яны засцілаюць // Замест нараў — земляны выступ. Яго засцілаюць [мэтазгодна ўзнавіць часопісны варыянт «Яго засцілаюць»].

С. 567:

[37] вельмі падобны на цябе. // вельмі падобны да цябе.

С. 569:

[18] Абнавіўся полк // Аднавіўся полк

С. 570:

[3] палону, з якога выбіваліся, дабрылі да сем’яў // палону, з якога выбавіліся, дабрылі да сем’яў [мэтазгодна ўзнавіць часопісны варыянт «выбавіліся, дабрылі да сем’яў»].

[11] з голымі, як штыкі, вершалінкамі. // з голымі, як штыхі, вершалінкамі.

С. 576:

[9] нельга хвалявацца. Зусім нельга. Чалавек, які // нельга хваляваціца. Чалавек, які

С. 577:

[3] прыдушваючы ўсхліпы, плача і плача. У Сяргея // прыдушваючы ўсхліпы, плача. У Сяргея

[35] газеты. Навіны добрыя. Далёка рушылі // газеты. Далёка рушылі

С. 578:

[6] нічога не просіць для сябе. Сяргею // нічога не просіць. Сяргею

[10] Нібы не было фронту, жахаў, крыві // Нібы не было фронту, крыві

[21] паціхеньку частуюцца. Смяюцца. У газетах // паціхеньку частуюцца. У газетах

[33] далёка ад шпіталя не адыдзешся. // далёка ад шпіталя не адыдзеш.

**«Выбраныя творы»** // *зб. «Смутак белых начэй» (1980)*

С. 380:

[1] рваліся на Украіну з-за жыццёвых даброт // рваліся на Украіну і з-за жыццёвых даброт

С. 386:

[7] у бурках з галёшамі // у бурках з галошамі

С. 389:

[2] ён: смелым, адважным не назавеш, і няма справы, у якую б ён ні ўваткнуў// ён: смелым, адважным не назавеш, і разам з тым няма справы, у якую б ён не ўваткнуў

С. 390:

[13] Нельга прытуліцца. // Нельга шчыльней прытуліцца.

С. 395:

[38] З харчоў у іх // З харчу ў іх

С. 399:

[25] Можна без яды жыць // Можна без язды жыць

С. 403:

[34] Яшчэ многа зямлі пад немцам. // Яшчэ многа зямель пад немцам.

С. 404:

[15] нават штыкетнік не парушаны. // нават штакетнік не парушаны.

С. 405:

[24] заўважыў падобнае і на другіх хлопцах // заўважыў падобнае і ў другіх хлопцах

С. 406:

[38] Пасля паўдня // Пасля поўдня

С. 408:

[4] ваду, у якой разбоўтаная жменя мукі // ваду, у якой разбоўтана жменя мукі

С. 421:

[27] ведамасці БКС // ведамасці БЧС

С. 422:

[12] Прыгожая скура размакае // Прыгожая скура размякае

С. 425:

[35] палучыў такую прывілею? // палучыў прывілею?

С. 433:

[16] нааддзіраў ад штыкетніка дошак // нааддзіраў ад штакетніку дошак

С. 452:

[2] У час асабліва блізкага да зямлянкі выбуху афіцэр разведкі ўскоквае на чурбачок // У час асабліва блізкага да зямлянкі выбуху нехта з навічкоў ускоквае на чурбачок

С. 486:

[10] Хоць дзіўнага няма. // Хоць дзіўнага нічога няма.

С. 494:

[1] Чубукоў загадаў ісці ў тыл… // Чубукоў загадваў ісці ў тыл…

С. 498:

[38] Хацелі з братамі пабачыцца ці хоць // Хацелі з братамі пазнаёміцца ці хоць

С. 501:

[36] Ужо зіму ён праляжаў // Усю зіму ён праляжаў [мэтазгодна ўзнавіць варыянт «Усю зіму ён»].

С. 503:

[8] Так параіў адзін хлопец // Так. Пара: адзін хлопец

[17] Рыгор Пільнуй // Грыгор Пільнуй [але на с. 499, р. 12: «Грыгор Пільнуй, старшыня сельсавета»].

С. 504:

[16] наперад, адкуль чуюцца глухія выбухі. // наперад, чуюцца глухія выбухі.

[33] у Неўскай Дуброўцы на пачатку зімы параніла. // у Неўскай Дуброўцы на пачатку параніла.

С. 506:

[25] доўгага, як пуга, вужа // доўгага, як пута, вужа

С. 512:

[11] на палатку! Хутка. // на палатку. Хуценька.

С. 514:

[32] пярэдні край з вышыні. // пярэдні край з вялікай вышыні.

[39] пераваньваючыся цераз варонкі, ідуць // пераваньваючыся цераз варонкі, ямы, ідуць

С. 516:

[31] ні страху, ні адчаю не адчувае. // ні страху, ні жалю да сябе не адчувае.

С. 518:

[32] са спалоханымі шэрымі тварамі. // са спалоханымі тварамі.

С. 519:

[17] да яго сценак невялікую скрынку // да яго сценак скрынку

С. 525:

[2] адрозніваецца шэранню // адрозніваецца хісткай шэранню

С. 530:

[29] у якой усе, хто пайшоў // у якую ўсе, хто пайшоў

С. 532:

[17] Кліма забіла, цяпер заб’е і яго. // Кліма забіла, цяпер яго.

С. 534:

[16] Яго захапілі ў лесе. // Яго захапілі на аэрадроме.

С. 538:

[6] засцерагаюць картонныя лісты // засцерагаюць кардонныя лісты

[7] У тры слаі картон. // У тры слаі кардон.

С. 556:

[33] але астатнія радуюцца. // але і астатнія радуюцца.

С. 563:

[8] Замест нараў — земляны выступ. Яны засцілаюць // Замест нараў — земляны выступ. Яго засцілаюць [мэтазгодна ўзнавіць варыянт «Яго засцілаюць»].

С. 567:

[37] вельмі падобны на цябе. // вельмі падобны да цябе.

С. 569:

[18] Абнавіўся полк // Аднавіўся полк

С. 570:

[3] палону, з якога выбіваліся, дабрылі да сем’яў // палону, з якога выбіваліся, дабрылі да сем’яў [мэтазгодна ўзнавіць часопісны варыянт «выбавіліся, дабрылі да сем’яў»].

[11] з голымі, як штыкі, вершалінкамі. // з голымі, як штыхі, вершалінкамі.

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК[1]



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

ЗМЕСТ [1]



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

**Навуменка, І. Я.**

Н15 Збор твораў. У 10 т. Т. 6. Сорак трэці; Смутак белых начэй : раманы / Іван Навуменка; падрыхт. тэкстаў, камент. і паслясл. А. Лапаты-Загорскага ; Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларус. культуры, мовы і літ.— Мінск : Мастацкая літаратура, 2015.— 797 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1414-0.

У шосты том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі (1925—2006) увайшлі раманы «Сорак трэці» і «Смутак белых начэй», напісаныя ім у 1970-я гг.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

